АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
•
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГРАМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Том II

## СІНТАКСІС




Мінск 1966

*У другім томе «Граматыкі беларускай мовы» разглядаецца сінтаксічная сістэма сучаснай беларускай літаратурнай мовы, упершыню даецца падрабязны аналіз усіх сінтаксічных катэгорый — словазлучэнняў, членаў сказа і сказаў (простых і складаных). Пры гэтым асноўная ўвага звяртаецца на класіфікацыю словазлучэнняў і іншых сінтаксічных канструкцый, на вызначэнне іх тыпаў і відаў, характарыстыку заканамернасцей сувязі слоў і сказаў, на сінтаксічную сінаніміку і варыянтнасць і г. д. На багатым фактычным матэрыяле тэкстаў мастацкай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры вызначаецца прадуктыўнасць паасобных тыпаў і відаў словазлучэнняў, членаў сказа і сказаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове.*

РЭДАКТАРЫ

акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук
К. К. АТРАХОВІЧ (КРАПІВА),
доктар філалагічных навук М. Г. БУЛАХАЎ,
кандыдат філалагічных навук П. П. ШУБА

7-1-3
-М-66

# ПРАДМОВА

У 1962 г. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР выпусціў у свет першы том «Граматыкі беларускай мовы», у якім аналізуюцца марфалагічная сістэма, акцэнталагічныя нормы і словаўтварэнне сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Другі том «Граматыкі» прысвячаецца сінтаксічнаму ладу беларускай мовы. Вядома, што ўпершыню глыбока сінтаксісам беларускай мовы зацікавіўся акадэмік Я. Ф. Карскі, які ў сваёй капітальнай працы «Беларусы» даў гістарычны нарыс развіцця сінтаксічнага ладу. У савецкі час з'явіліся асобныя манаграфіі па некаторых сінтаксічных праблемах беларускай мовы XIX—XX стст. Кароткае апісанне сінтаксічных з'яў можна знайсці ў падручніках і вучэбных дапаможніках па курсу сучаснай літаратурнай мовы. Нарэшце, сінтаксічныя асаблівасці, уласцівыя тым ці іншым гаворкам народнай мовы, часткова прааналізаваны ў сувязі з падрыхтоўкай «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (Мінск, 1963), а таксама «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі» (Мінск, 1964). Аднак трэба падкрэсліць, што ў беларускім мовазнаўстве да гэтага часу яшчэ не напісана ні адной абагульняючай працы аб сінтаксічным ладзе як пісьмова-літаратурнай, так і дыялектнай мовы. Усё гэта абумоўлівае неабходнасць далейшай навуковай распрацоўкі праблем сінтаксісу беларускай мовы, асабліва ў плане ўдакладнення сучасных літаратурных норм і вывучэння ўзаемадзеяння літаратурнай мовы з жывымі гаворкамі.

Аўтарскі калектыў другога тома «Граматыкі» паставіў задачу даць сціслае, але разам з тым дастаткова поўнае апісанне сінтаксічных сродкаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У кнізе асвятляюцца ўсе асноўныя пытанні структуры і ўжывання ў звязнай мове сінтаксічных адзінак, а таксама важнейшых прынцыпаў арганізацыі цэлых выказванняў. Упершыню распрацавана падрабязная класіфікацыя назоўнікавых (субстантыўных), прыметнікавых (ад'ектыўных), займеннікавых, лічэбнікавых, дзеяслоўных і прыслоўных словазлучэнняў, прааналізаваны ўласцівыя сучасным функцыянальным стылям літаратурнай мовы віды простых і складаных канструкцый, граматычная сувязь і ўзаемазалежнасць структурных элементаў словазлучэнняў і сказаў, парадак размяшчэння кампанентаў сінтаксічных канструкцый і г. д. Аўтарскі калектыў палічыў неабходным адступіць ад некаторых традыцыйных прынцыпаў класіфікацыі сінтаксічных з'яў і прапанаваць больш мэтазгодную і абгрунтаваную класіфікацыю, якая адпавядае рэальнаму стану сучаснай сінтаксічнай сістэмы. Гэта адносіцца, у прыватнасці, да праблемы вылучэння структурна-граматычных тыпаў выказніка, складаных канструкцый з далучальнай сувяззю і складаназалежных сказаў. Класіфікацыя складаназалежных сказаў распрацавана ў адпаведнасці з тымі грама-

тычнымі і сэнсавымі адносінамі, якія ўласцівы галоўнай і дададнай частскам, а таксама ў залежнасці ад канкрэтных функцый, якія выконваюць злучнікі і злучальныя словы ў сказе.

Зразумела, што ў працэсе падрыхтоўкі кнігі аўтарскі калектыў сутыкнуўся з вялікімі цяжкасцямі. За кароткі перыяд неабходна было амаль франтальна абследаваць шматлікія тэксты розных стыляў літаратурнай мовы, пазнаёміцца з вынікамі дыялекталагічнага вывучэння сінтаксісу, высветліць станаўленне сінтаксічных норм на працягу апошніх 60—70-х гадоў. У сувязі з тым што беларуская літаратурная мова ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. знаходзілася ў працэсе асабліва бурнага развіцця, неабходна было высветліць, у якой ступені інтэнсіўнае папаўненне слоўнікавага саставу і расшырэнне словаўтваральных магчымасцей уплывалі на фарміраванне новых сінтаксічных канструкцый і замацаванне іх у розных відах пісьмовай і вуснай літаратурнай мовы. Супастаўленне сінтаксічнага ладу, які характарызуе пісьмовую мову нашых дзён, з сінтаксічным ладам мовы XIX ст. паказала, што паасобныя канструкцыі істотна змяніліся або зусім выйшлі з ужывання, а некаторыя канструкцыі набылі іншую стылістычную афарбоўку. У кнізе такія факты асвятляюцца амаль сістэматычна ў выглядзе даведак і заўваг. Выявілася таксама, што ў сучаснай беларускай літаратурнай мове адбываецца жывы працэс фарміравання новых і новых сінтаксічных канструкцый дзякуючы актывізацыі і расшырэнню словаўтваральных сувязей паміж рознымі часцінамі мовы і дзякуючы ўтварэнню новых складаных прыназоўнікаў (частка гэтых прыназоўнікаў скалькавана з адпаведных складаных прыназоўнікаў, характэрных для іншых славянскіх моў, у першую чаргу для рускай, украінскай і польскай).

Кніга падрыхтавана калектывам аўтараў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР у 1961—1965 гг. пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук М. Г. Булахава.

Склад аўтарскага калектыву: М. Г. Булахаў (Словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова), Л. І. Бурак (Адасобленыя даданыя члены сказа; Складаны сказ, § 1016; Складаназлучаныя сказы; Бяззлучнікавыя складаныя сказы; Устаўныя словы, словазлучэнні і сказы; Сказы з параўнальнымі зваротамі), І. К. Германовіч (Галоўныя члены сказа), З. Ф. Краўчанка (Аднародныя члены сказа), Б. С. Лапаў (Словазлучэнні з лічэбнікам у ролі галоўнага слова; Словазлучэнні з займеннікам у ролі галоўнага слова; Віды простых сказаў; Парадак слоў у простых двухсастаўных сказах; Прамая, ускосная, няўласна-прамая мова), А. І. Наркевіч (Словазлучэнне, § 1—5; Словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова; Словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага слова; Даданыя члены сказа; Зваротак; Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы), П. П. Шуба (Словазлучэнні з прыслоўем у ролі галоўнага слова; Складаназалежныя сказы).

§ 1. **Словазлучэннем** называецца сэнсава-граматычнае аб'яднанне двух або некалькіх знаменальных (зрэдку знаменальнага і незнаменальнага) слоў, якое служыць для выражэння адносін паміж пэўнымі паняццямі, абазначанымі гэтымі словамі, напрыклад адносін аб'ектных, акалічнасных, азначальных, абмежавальных і інш.

Словазлучэнні з'яўляюцца прасцейшымі сінтаксічна падзельнымі адзінствамі, якія сваю канкрэтную функцыю і значэнне набываюць у сказе. Па структуры і інтанацыйнаму афармленню, а таксама па функцыях і значэнню яны істотна адрозніваюцца ад такіх сінтаксічных адзінак, як сказ і сінтагма. Сказ — гэта камунікатыўная адзінка мовы, якая складаецца з аднаго асобнага слова ці групы граматычна арганізаваных і інтанацыйна аформленых слоў, што служаць для выражэння закончанай (простай ці складанай) думкі. Словазлучэнні ж у адрозненне ад сказа не маюць моўнай самастойнасці, не выражаюць закончанай думкі або лагічнага суджэння. Не маюць яны і інтанацыі паведамлення, катэгорыі мадальнасці, характэрных для сказа. Ім, нарэшце, не ўласцівы суадносныя катэгорыі дзейніка, выказніка і іншых членаў сказа. Такім чынам, да ліку словазлучэнняў не адносяцца пары, якія ўтвараюцца дзейнікам і выказнікам (так званыя прэдыкатыўныя спалучэнні), паколькі яны выражаюць сэнсава закончанае выказванне аб з'явах рэчаіснасці і з'яўляюцца структурнай асновай двухсастаўнага сказа.

Словазлучэнне не суадносіцца па функцыі і з сінтагмай. Сінтагма — гэта такая сінтаксічная адзінка мовы (асобнае слова, словазлучэнне, зварот, параўнанне ці нават сказ), інтанацыйнае выдзяленне якой у працэсе моўных зносін абумоўліваецца патрэбамі разумення сэнсу выказвання. Ад сінтагматычнага падзелу можа змяняцца сэнс сказа. Выдзяленне ж словазлучэнняў не звязана з інтанацыйным чляненнем сказа на пэўныя сэнсавыя адрэзкі.

Паасобныя выпадкі структурнага супадзення сінтагмы і словазлучэння ў адным і тым жа сказе не з'яўляюцца заканамернымі.

Словазлучэнні не суадносны таксама з рознымі адасобленымі і ўдакладняльнымі канструкцыямі, якія звязаны з паясняемым імі словам так званымі паўпрэдыкатыўнымі адносінамі: *хлапчук, бадзёры і радасны, ...*; *ён, задаволены плёнам сваёй працы, ...*; *мы, будаўнікі камунізма, ...*; *апрануўшыся, выйшаў...*; *гаварыў, ледзь стрымліваючы хваляванне, ...* і інш.

§ 2. Па структуры словазлучэнні з'яўляюцца двухкампанентнымі. Яны заўсёды складаюцца з дзвюх частак—галоўнай і залежнай. У склад галоўнай або залежнай часткі можа ўваходзіць адно асобнае самастойнае слова або спалучэнне некалькіх слоў. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца словазлучэнні двухчленныя і мнагачленныя: *летняя раніца, абшары палёў, услаўляць працу, дзень напярэдадні свята, праца-*

*ваць у адпаведнасці з графікам, уважлівы да людзей, нехта са старэйшых, другі ад краю, нізка над зямлёй; мужчына пажылога ўзросту, дзяўчынка трох гадоў, самы шчаслівы дзень, прыняць удзел у выбарах, неабходнасць дабіцца свайго, патрэба адвесці душу* і інш.

Заўвага. Прыназоўнікі (невытворныя і ўтвораныя ад розных часцін мовы), якія выконваюць толькі дапаможна-граматычную ролю, самастойным членам словазлучэння не з'яўляюцца.

§ 3. Словы ў складзе словазлучэння знаходзяцца паміж сабою ў залежнай, падпарадкавальнай сувязі. Адно з іх з'яўляецца галоўным, канструктыўна вядучым, а другое — залежным, граматычна падпарадкаваным галоўнаму слову: *ціхая ноч, шум лісця, барацьба за якасць, дапамагаць у працы, рухацца ўперад, здольны да вучобы* і інш. Асноўнымі відамі залежнай сувязі з'яўляюцца дапасаванне, кіраванне і прымыканне.

Дапасаваннем прынята называць падпарадкавальную сувязь, пры якой формы залежнага слова прыпадабняюцца да форм галоўнага слова: *шырокае поле, шырокая вуліца, шырокія гарызонты* і інш. Дапасоўвацца да галоўнага слова (звычайна назоўніка) могуць наступныя лексіка-граматычныя разрады слоў: поўныя прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, займеннікі з абагульнена-якасным значэннем, дзеепрыметнікі, а ў складзе сказа і дзеясловы-выказнікі. Калі да галоўнага слова залежнае прыпадабняецца ва ўсіх уласцівых ім граматычных формах, дапасаванне з'яўляецца поўным: *цёплы дзень* (дапасаванне ў родзе, склоне і ліку), *летнія ночы* (дапасаванне ў склоне і ліку), *ураджай сабраны* (дапасаванне ў родзе і ліку), *азімыя зжаты* (дапасаванне ў ліку). Калі ж пры падпарадкаванні залежнага слова галоўнаму выкарыстаны не ўсе з магчымых марфалагічных сродкаў сувязі, то дапасаванне лічыцца няпоўным: *Ён застаўся задаволеным* (дапасаванне толькі ў родзе і ліку, склонавыя ж формы розныя).

Заўвага. Сувязь, у якой знаходзіцца дзеяслоў з дапасаваным да яго ў родзе і ліку прыметнікам (тыпу *прыйшоў вясёлы, засталіся задаволенымі*), некаторымі лінгвістамі (напрыклад, Л. А. Булахоўскім) вызначаецца як цягаценне.

Кіраваннем прынята называць падпарадкавальную сувязь, пры якой галоўнае слова патрабуе, каб залежнае стаяла ў форме пэўнага ўскоснага склону: *развіццё навукі, поспехі ў навуцы, захапляцца навукай, далёкі ад навукі, бліжэй да навукі* і інш. Кіраванне можа быць непасрэдным, або беспрыназоўнікавым *(служыць народу)* і пасрэдным, або прыназоўнікавым *(служыць для народа)*. Як у прыназоўнікавых, так і ў беспрыназоўнікавых словазлучэннях кіраванне можа быць моцным і слабым. Моцным называецца кіраванне, пры якім галоўнае (кіруючае) слова (найчасцей пераходны дзеяслоў) патрабуе ў якасці абавязковага кампанента пэўнай склонавай формы назоўніка ці іншага слова ў значэнні назоўніка: *даць адказ, напісаць пісьмо, апяваць гераізм, поўны бадзёрасці.* Слабым называецца кіраванне, пры якім граматычная сувязь паміж словамі аслаблена. У большасці выпадкаў такімі слабакіруемымі з'яўляюцца акалічнасныя формы: *выехаць пасля абеду, сустрэцца за вёскай, падрыхтавана першага ліпеня* і інш.

Прымыканнем прынята называць падпарадкавальную сувязь, пры якой залежнае слова звязана з галоўным не па форме, а па сэнсу ці пры дапамозе парадку слоў і інтанацыі. Прымыканне мае месца ў спалучэннях марфалагічна незмяняльных слоў са змяняльнымі: інфінітыва і прыслоўяў з дзеясловамі, назоўнікамі і прыметнікамі *(едзем адпачываць, жаданне працаваць, здольны вучыцца, хутка бегчы, рух наперад, надзвычай сур'ёзны, добра падрыхтаваны)*, дзеепрыслоўяў з дзеясловамі *(ехаць стоячы)*, а таксама прыслоўяў з прыслоўямі *(вельмі цікава)*.

Акрамя названых разнавіднасцей сінтаксічнай сувязі слоў, ёсць яшчэ

так званая с у а д н о с н а я сувязь, якая грунтуецца на сэнсавых узаемаадносінах паміж сказам (ці паасобнымі яго часткамі і членамі) і словамі або цэлымі канструкцыямі, што ўключаюцца ў гэты сказ дадаткова. Такія словы і канструкцыі нягледзячы на тое, што граматычна яны не заўсёды звязаны з іншымі словамі або часткамі сказа, усё ж выконваюць у ім пэўную сінтаксічную функцыю і ўносяць у выказванне тыя ці іншыя сэнсавыя адценні. Суадносная сувязь са сказам ці яго членамі характэрна для пабочных слоў і канструкцый, для зваротка, параўнальных зваротаў і г. д.

§ 4. Важнейшымі сродкамі выражэння сінтаксічнай сувязі паміж словамі ў словазлучэнні з'яўляюцца канчаткі змяняльных часцін мовы, службовыя словы, а таксама парадак слоў і інтанацыя.

Канчаткі як адзін са сродкаў падпарадкавальнай сувязі служаць для выражэння сінтаксічных адносін паміж назоўнікамі і дапасаванымі да іх прыметнікамі ці іншымі атрыбутыўнымі часцінамі мовы *(летні дзень, першы ўраджай, наша школа, атрыманыя звесткі)*, паміж прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі і залежнымі ад іх словамі — назоўнікамі ці займеннікамі з абагульнена-прадметным значэннем *(поўны энергіі, дарагі сэрцу, моцны духам, паважаны ўсімі, зжаты жняяркай, засеяны намі)*, паміж кіруючым і кіруемым назоўнікамі *(хата рыбака, дапамога бацькам, уборка камбайнам)*.

Службовыя словы — прыназоўнікі побач з канчаткамі служаць для выражэння сувязі паміж словамі, што знаходзяцца ў адносінах кіравання: *перамагчы ў спаборніцтве, прастор для вынаходстваў, уважлівы да людзей, трэці па спісу, хтосьці ў белым, некаторыя з іх, прывезены пасля абеду, афарбаваны пад дуб, верыць на слова* і інш.

Парадак слоў можа ўплываць на характар сінтаксічных адносін паміж словамі (параўн.: *зялёнае лісце* — азначальныя адносіны, *лісце зялёнае* — прэдыкатыўныя адносіны), на значэнне канструкцыі (параўн.: *пяць дзён* — дакладны лік, *дзён пяць* — недакладны лік), а таксама на іх стылістычную функцыю. Для кожнага кампанента словазлучэння характэрна больш-менш сталае месца яго ўжывання. Так, атрыбутыўныя часціны мовы — прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, дзеепрыметнікі незалежна ад іх ролі ў словазлучэнні стаяць звычайна перад назоўнікам *(бярозавае веццe, дзве кнігі, першы экзамен, наша багацце, скошаная трава; поўны сіл, шырокі ў плячах, трэці ад краю, нехта з рабочых, здадзены для захоўвання)*; у словазлучэннях, якія складаюцца з назоўнікаў або з дзеяслова і залежнага ад яго назоўніка ці займенніка, на першым месцы стаіць галоўнае слова *(будаўніцтва электрастанцыі, будаваць электрастанцыю)*.

Інтанацыя ў словазлучэнні таксама адыгрывае важную ролю. Для словазлучэння характэрна больш моцнае інтанацыйнае выдзяленне другога кампанента: *сіняе* н е б а, *цемень* н о ч ы, *прыліў* б а д з ё р а с ц і, *знаёмы з* м а л е н с т в а, *успамінаць* м і н у л а е, *хадзіць у* л е с і інш.

§ 5. У залежнасці ад марфалагічнага выражэння галоўнага слова ўсе словазлучэнні падзяляюцца на тры асноўныя групы: і м е н н ы я, д з е я с л о ў н ы я і п р ы с л о ў н ы я. Сярод іменных словазлучэнняў вылучаюцца ў сваю чаргу словазлучэнні с у б с т а н т ы ў н ы я, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, займеннікі з абагульнена-прадметным значэннем, а таксама розныя субстантываваныя часціны мовы *(кроны дрэў, сінь неба, хтосьці з прысутных, рабочы ў спяцоўцы)*, і словазлучэнні а д ' е к т ы ў н ы я, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, абагульнена-якасныя займеннікі *(верны народу, моцны духам, прыгожы па форме, першы ў раёне, кожны з нас)*.

Названыя групы словазлучэнняў выражаюць розныя сінтаксічныя адносіны, што абумоўліваецца семантычнай разнастайнасцю слоў, з якіх яны ўтвараюцца, і багаццем сродкаў іх сінтаксічнага афармлення.

# ІМЕННЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З НАЗОЎНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА СЛОВА

§ 6. Іменныя словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова падзяляюцца на тры асноўныя групы: 1) словазлучэнні назоўнікаў з назоўнікамі або іншымі часцінамі мовы ў значэнні назоўніка; 2) словазлучэнні назоўнікаў з атрыбутыўнымі часцінамі мовы (прыметнікамі, парадкавымі лічэбнікамі, абагульнена-якаснымі займеннікамі, дзеепрыметнікамі); 3) словазлучэнні назоўнікаў з марфалагічна незмяняльнымі словамі (інфінітывам, прыслоўем, дзеепрыслоўем). Названыя разнавіднасці іменных словазлучэнняў адрозніваюцца адны ад другіх як характарам сэнсава-сінтаксічных адносін паміж словамі, так і спосабам іх выражэння. Сярод іменных словазлучэнняў асабліва багатымі па значэнню і разнастайнымі па спосабах афармлення з'яўляюцца словазлучэнні, якія складаюцца з назоўніка і залежнай формы другога назоўніка.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ НАЗОЎНІКАЎ З НАЗОЎНІКАМІ

§ 7. Падпарадкавальная сувязь у іменных словазлучэннях, якія складаюцца з двух назоўнікаў, можа выражацца формамі ўскосных склонаў залежнага назоўніка без прыназоўнікаў або з прыназоўнікамі. Ад спосабу выражэння падпарадкавальнай сувязі залежыць характар сінтаксічных адносін паміж словамі ў іменных словазлучэннях, а таксама ступень залежнасці склонавай формы ад галоўнага слова — назоўніка.

У беспрыназоўнікавых словазлучэннях залежная форма знаходзіцца ў больш цеснай граматычнай сувязі з галоўнай. Таму ў іх звычайна не допускаецца перастаноўка кампанентаў, тут немагчыма інтанацыйна адасобленае ўжыванне залежнага слова і г. д. Цесная сувязь слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца важнай прадпасылкай для ўтварэння ўстойлівых спалучэнняў тыпу *пункт погляду, рука дапамогі, аснова асноў*. У прыназоўнікавых іменных словазлучэннях залежнае слова мае большую сінтаксічную самастойнасць, прычым яно адначасова можа залежаць ад паясняемага назоўніка і дзеяслова. Параўн. у сказе: *Зазелянела трава на лугах (трава на лугах, зазелянела на лугах).*

Беспрыназоўнікавыя іменныя словазлучэнні ў асноўным выражаюць уласна азначальныя або азначальна-аб'ектныя адносіны, тады як прыназоўнікава-іменныя словазлучэнні — пераважна азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на месца, час, прычыну і г. д. Іменныя словазлучэнні ў залежнасці ад словаўтваральных асаблівасцей галоўнага слова могуць паўтараць узоры дзеяслоўных або прыметнікавых словазлучэнняў, супадаючы з імі як па значэнню, так і па форме або толькі па

значэнню, параўн.: *разгром ворага — разграміць ворага, спачуванне сябру — спачуваць сябру, адданасць Радзіме — адданы Радзіме, захапленне навукай — захапляцца навукай, вера ў чалавека — верыць у чалавека, здольнасць да навукі — здольны да навукі; рашэнне задачы — рашаць задачу, хуткасць язды — хуткая язда, любоў да працы — любіць працу.*

## БЕСПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 8. Словазлучэнні, у якіх сэнсава-сінтаксічныя адносіны паміж словамі выражаюцца формамі ўскосных склонаў без прыназоўнікаў, складаюць у цэлым прадуктыўныя тыпы іменных словазлучэнняў. Вядучая роля ў гэтых словазлучэннях належыць галоўнаму (кіруючаму) слову, якое вызначае форму залежнага слова, патрабуючы ад яго пастаноўкі ў пэўным ускосным склоне. Прычым залежнае слова ў іменных словазлучэннях звычайна выступае ў форме ўскоснага склону, якая не супадае з формай склону галоўнага слова.

У беспрыназоўнікавых іменных словазлучэннях найбольш ужывальнай з'яўляецца форма роднага склону залежнага назоўніка. Родны прыйменны можа ўступаць у сінтаксічныя адносіны і ўтвараць словазлучэнні амаль з любым назоўнікам незалежна ад яго граматычнай прыроды і лексічнага значэння. Назоўнікі ў формах давальнага і творнага склонаў уступаюць у залежную сувязь з галоўным словам — назоўнікам значна радзей. Гэтыя словазлучэнні абмежаваны лексічна. Што ж датычыць назоўнікаў вінавальнага склону, то апошнія ў непрэдыкатыўных беспрыназоўнікава-іменных словазлучэннях наогул не ўжываюцца. Немагчыма таксама ўжыванне ў беспрыназоўнікава-іменных словазлучэннях і назоўнікаў у форме меснага склону.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 9. Словазлучэнні з залежным назоўнікам у форме роднага склону без прыназоўніка паказваюць адносіны паміж канкрэтнымі прадметамі рэчаіснасці, асобамі або абстрактнымі паняццямі. Гэта агульнае значэнне беспрыназоўнікавых словазлучэнняў з родным склонам назоўніка ў залежнасці ад словаўтваральных і лексічных асаблівасцей спалучальных слоў па-рознаму канкрэтызуецца ў кожным паасобным выпадку, выяўляючы тым самым шматлікія адценні. На характар і разнастайнасць іменных словазлучэнняў з родным склонам назоўніка аказвае ўплыў, у прыватнасці, тое, суадносіцца ці не суадносіцца лексічна галоўнае слова з дзеясловам або прыметнікам, што абазначае галоўнае слова — канкрэтны прадмет рэчаіснасці, істоту, асобу ці абстрактнае паняцце, які прадмет рэчаіснасці або з'яву, паняцце называе залежнае слова ў супастаўленні яго са значэннем галоўнага і г. д. Абазначаючы разнастайныя прадметы і паняцці ў іх сувязі і ўзаемадзеянні, беспрыназоўнікавыя іменныя словазлучэнні з родным склонам назоўніка выяўляюць складаны характар сінтаксічных адносін, у якіх, як правіла, значэнні прызнака і аб'екта сумяшчаюцца.

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, не суадносныя па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з іншымі часцінамі мовы, выражаюць азначальныя адносіны з аб'ектнымі ці акалічнаснымі (месца, часу, меры, колькасці, ступені і інш.) адценнямі. Сярод названых словазлучэнняў асабліва прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні, якія паказваюць адносіны канкрэтнага прадмета або асобы да другога прадмета, асобы або паняцця. У гэтай вялікай і разнастайнай па значэнню групе азначальных беспрыназоўнікава-іменных словазлучэнняў вылучаецца некалькі разнавіднасцей.

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны прыналежнасці

§ 10. У словазлучэннях з адносінамі прыналежнасці галоўнае слова— назоўнік можа абазначаць:

а) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, істоты, якія належаць да адной канкрэтнай асобы або групы асоб, калектыву: *сшытак вучня, кніга сястры, конь камандзіра, каровы калгаснікаў* і інш. *На сінім казацкім мундзіры Дзенісенкі выразна вылучаецца забінтаваная да пляча рука* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Ззаду не адставалі два худзенькія коні́кі Паўла і Сёмкі* (К. Чорны. Па дарозе). *Малатарня Натальчынай брыгады стаяла ў цэнтры жытняга палетка* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

б) Часткі арганізма, цела чалавека: *твар маці, галава хлапчука, шыя дзяўчынкі, плечы юнака, нага дзіцяці, пальцы музыканта, мозг чалавека* і інш. *Нейкая няясная надзея калыхала сэрца Рамана* (Я. Колас. Дачакаўся). *Вочы жанчыны не сыходзяць з дзяўчынкі* (К. Чорны. Мінск). *Нават і адсюль відно было, як хадзілі рукі муляроў* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Дрыготка прабегла па целе Івана* (Я. Колас. Выстагнаўся).

в) Рост, узрост, характар, стан і іншыя адзнакі, якія могуць быць дастасаваны ў адносінах да асобы (рысы твару, паходка, звычка, схільнасць, фізічны, псіхічны або сацыяльны стан і г. д.): *рост (узрост) юнака, характар дзяўчыны, звычай дзеда, сон дзіцяці, нораў сына, лёс чалавека, шчасце людзей* і інш. *Над сталом схілілася постаць дзяжурнага* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Перад яго вачамі паўстаў вобраз Лідачкі* (Я. Колас. На ростанях). *Гонар брыгады апраўданы* (Я. Скрыган. Дбайнасць). *На след сям'і ён так і не натрапіў* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Заўвага 1. У словазлучэннях, залежным словам якіх абазначаецца не асоба, а якія-небудзь іншыя адушаўлёныя істоты — жывёлы, птушкі, насякомыя, паўзуны, выражаецца значэнне не індывідуальнай, а родавай прыналежнасці. Гэтыя словазлучэнні могуць паказваць адносіны да частак цела жывёл, птушак і іншых істот, да рэчываў, якія выкарыстоўваюцца чалавекам у якасці прадуктаў спажывання, да знешніх адзнак жывёл і іх звычак: *хобат слана, крылцы чмяля, джала пчалы, шкура аленя, пер'е птушкі, тлушч цюленя, афарбоўка насякомага, звычка зайцоў* і інш. *Ён сядзеў на пыльнай каляіне і глядзеў на сухую пакутную галаву каня* (К. Чорны. Буры). *Мігатліва бліскацелі трапяткія крылачкі гуллівых стракоз* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Рассыпаліся песні жаўранкаў* (П. Галавач. Не так).

Заўвага 2. Словазлучэнні, у якіх залежным словам абазначаецца неадушаўлёны прадмет, выражаюць адносіны прыналежнасці толькі ў выпадках персаніфікацыі гэтага неадушаўлёнага прадмета. Такія словазлучэнні пераважна ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры, для якой характэрна вобразнае адлюстраванне рэчаіснасці: *Але зрок нябёс яснее, больш і больш святла, жыватворчая надзея землю абняла* (Я. Колас. Чуваць вясна). *Я, часамі здаецца мне, адчуваю голас прыгожых кветак, голас вясны, голас глыбокай зорнай ночы* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *І раблюся я братам бяроз, ручаёў, матылькоў, кволых кветак* (З. Бядуля. Вясной).

г) Асоб, якія праз адносіны да іншых асоб характарызуюцца паводле іх службовага становішча, радні, сяброўства і г. д.: *ад'ютант генерала, намеснік старшыні, вучні акадэміка Паўлава, сын камандзіра, брат настаўніка, жонка брыгадзіра* і інш. *Чарга падыходзіць да вучняў Філюка* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Байцы Бумажкова дзейнічалі цяпер галоўным чынам гранатамі* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Неяк раніцай з пошты прыбегла пасыльная і прынесла бацьку Рыгоркі тэлеграму* (У. Краўчанка. Палессе). *Па дарозе яму сустрэлася Надзька, сяброўка яго сястры Веры* (Я. Скрыган. Бацькі і дзеці).

Да гэтай групы адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае пэўнае калектыўнае аб'яднанне, а залежнае

слова — асобу, якой належыць гэты калектыў па ўзначаленню: [Аксіння] *пайшла ў звяно Натальκі* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Прысягу прымалі чатырнаццаць чалавек з груп Сцяпана і Говара і дзесяць з групы Сахарава* (П. Пестрак. Пачатак). *А Фіма перадаў Дзядзьку аб арышце сям'і Бранявіцкага пад вечар* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Словазлучэнні з родным прыналежнасці выражаюць азначальныя сінтаксічныя адносіны і з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з прыналежнымі прыметнікамі: *хата рыбака — рыбакова хата, човен дзеда — дзедаў човен* і інш. У сучаснай беларускай літаратурнай мове шырока ўжываецца кожная з гэтых форм выражэння прыналежнасці, аднак калі трэба ўказаць на прыналежнасць групе асоб, выкарыстоўваюцца канструкцыі толькі з родным склонам назоўніка, паколькі формай прыметніка індывідуальная і калектыўная прыналежнасць не дыферэнцыруецца, параўн.: *човен (чаўны) дзеда, човен (чаўны) дзядоў — дзедаў човен (дзедавы чаўны); сын (сыны) рыбака, сын (сыны) рыбакоў — рыбакоў сын (рыбаковы сыны).* Словазлучэнні з родным прыналежнасці вызначаюцца, акрамя таго, большымі структурнымі магчымасцямі, чым адпаведныя словазлучэнні з прыналежнымі прыметнікамі; пры залежным назоўніку ў іх могуць ужывацца свае паясняльныя члены.

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны параўнання

§ 11. У словазлучэннях з адносінамі параўнання галоўнае слова — назоўнік абазначае прадметы, якія характарызуюцца паводле іх знешніх або ўнутраных прызнакаў праз адносіны да якасцей прадметаў, уласцівых пэўным іншым асобам ці істотам. Такія словазлучэнні заключаюць у сабе значэнне якаснай характарыстыкі з адценнем прыналежнасці: *Андрэй вітаў душою дзіцяці знаёмыя птушыныя гнёзды* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Пасля гэтага яна глядзіць на ўсіх вачыма Аляксандра Македонскага* (З. Бядуля. Юлька). *Праз Ціменку яны дабраліся да сухога барка, што стаяў на невялічкім узгорку цвёрдай, калючай барадой велікана* (З. Бядуля. На балоце). *Ён сачыў за бытам сваіх актораў з фанатызмам манаха* (З. Бядуля. Салавей). *Сынам быў ён жабрака ды меў долю батрака* (Я. Колас. Батрак).

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да асобы, калектыву, установы

§ 12. Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да асобы, калектыву, арганізацыі, установы, адносіны асобы да грамадскіх з'яў і падзей, семантычна разнастайныя. Сярод гэтага тыпу вылучаюцца словазлучэнні, у якіх:

а) галоўнае слова абазначае кіруючую асобу, а залежнае слова — установу, прадпрыемства, аддзел або любы іншы аб'ект кіравання: *дырэктар завода, начальнік станцыі, загадчык клуба, рэктар універсітэта, старшыня калгаса* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў набываюць устойлівае значэнне і з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі. *Пасля яна дазналася, што гэта быў начальнік цэха* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *Гаспадар хаты быў чалавек год пад сорак* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Ганна Максімаўна падрад некалькі год выбіралася старшынёю мясцкома* (І. Гуркі. У агні). *Ён інфармаваў сакратара райкома аб працы праўлення калгаса*

(П. Пестрак. Яе перамога). *Чалавек — ён цар прыроды* (А. Зарыцкі. Аб чалавечай годнасці).

Да гэтай групы канструкцый набліжаюцца словазлучэнні, у якіх асоба характарызуецца паводле прафесіі, роду заняткаў і г. д.: *аграном саўгаса, інжынер прадпрыемства, інспектар аддзела, інструктар райкома, супрацоўнік інстытута, студэнт тэхнікума, артыст тэатра* і інш. *Малады ўрач земскай бальніцы дружыў з маладым інжынерам вялікага металургічнага завода* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Раніцамі ідуць адгэтуль на заняткі і на работу студэнты і работнікі чыгункі* (К. Чорны. Захар Зынга). *Так крычаў на курэй стары Кляшчэвіч, кладаўшчык калгаса* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...). *Становішча пагранічнікаў заставы было цяжкое* (І. Гурскі. У агні).

б) Галоўнае слова абазначае асобу ці групу асоб, а залежнае слова — пэўнае калектыўнае аб'яднанне, якім кіруе або да якога прымыкае гэта асоба (асобы): *важаты звяна, кіраўнік кружка, куратар групы, камандзір атрада, начальнік пажарнай дружыны, тэлефаніст палка, байцы артылерыйскага падраздзялення* і інш. *Перад ім стаялі брыгадзір трэцяй брыгады Абуховіч Насця і яшчэ адна жанчына, незнаёмая* (І. Мележ Гарачы жнівень). *Камандзір палка Лук'янскі вёў свой полк* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Прамову сказаў сакратар ячэйкі Мяцельскі* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *Насустрач нам ідуць ужо не толькі касцы другой і трэцяй групы* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Яна заявіла, што дзяўчаты яе звяна ~~вырашылі~~ ў гэтым годзе адмовіцца ад надбаўкі* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

в) Галоўнае слова абазначае пэўнае калектыўнае аб'яднанне, арганізацыю, а залежнае слова — род або від гэтага аб'яднання, арганізацыі, у якія ўваходзяць асобы: *звяно кукурузаводаў, сям'я металургаў, рота кулямётчыкаў, узвод пехацінцаў* і інш. *Лепшай брыгадай цагельнікаў там кіруе Наўмыснік* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Апынуліся ў кампаніі дарослых людзей* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У сонечныя дні праходзяць за горад атрады спартсменаў і піянераў* (К. Чорны. Захар Зынга). *Абочынамі дарогі пачалі ісці групы чырвонаармейцаў* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Цэлы абоз уцекачоў цягнуўся ў вёску з лесу* (М. Чарот. Пасля буры).

Некаторыя з такіх словазлучэнняў набылі ўстойлівае тэрміналагічнае значэнне: *Савет Міністраў, Саветы дэпутатаў* і інш.

г) Галоўнае слова абазначае орган кіравання, а залежнае слова — аб'ект гэтага кіравання: *упраўленне магістральных газаправодаў, главк трэста, штаб дывізіі, камітэт славістаў, сакратарыят пасяджэння* і інш. *Урад рэспублікі прымае Чырвонай Арміі парад* (П. Глебка. Чырвонай Арміі парад). *У канцы пісьма штаб палка прапанаваў назначыць сям'і памёршага пенсію* (К. Чорны. Будзем жыць). *Каваль Антон Рубановіч стаяў паміж натоўпам і сталом, за якім быў прэзідыум сходу* (К. Чорны. Звяга). *Першы раз я сустрэў яго ў праўленні калгаса* (Я. Скрыган. Дбайнасць).

д) Галоўнае слова абазначае асобу, а залежнае слова — якую-небудзь грамадскую з'яву, працэс і г. д.: *ударнік будаўніцтва, энтузіяст вытворчасці, барацьбіты вызвалення, майстар фотамантажу* і інш. *Героі гэтых падзей — жывыя людзі* (У. Краўчанка. Апавяданне пра смелае сэрца). *І ў куплет на песень грані, залацей за сонца — стане слаўнай смерці вашай дата, рэвалюцыі салдаты* (У. Хадыка. Рэвалюцыі салдат). *У нас сфармаваліся і спрактыкаваліся выдатныя дзеячы земляробства, жывёлаводства, машынабудаўніцтва і транспарту, навукі і літаратуры* (К. Чорны. Ясны дзень краіны).

е) Галоўнае слова называе які-небудзь вытворчы аддзел, цэх, сектар, а залежнае слова — пэўнае прадпрыемства, установу: *сектар інстытута, аддзел забеспячэння, лабараторыя клінікі, кантора Галоўкінапракату, канцылярыя школы* і інш. *Турбінны* ц э х *Кіраўскага* з а в о д а ў *Ленінградзе вялікімі палотнамі вітае нас, літаратараў Савецкай Беларусі* (Я. К о л а с. Трыццаць савецкіх год). *З кожным годам усё больш каштоўных тэхнічных навінак укараняецца* н а ў ч а с т к а х *нашай* ф а б р ы к і (з газет). *У* ц э х а х п р а д п р ы е м с т в а ў *нашых гарадоў ужываецца першакласная тэхніка* (Я. К о л а с. Слава вялікаму Кастрычніку).

Названыя групы словазлучэнняў характарызуюцца азначальнымі адносінамі з аб'ектным адценнем і звычайна адпавядаюць па значэнню іменным словазлучэнням з залежнай формай адноснага прыметніка: *аграном саўгаса — саўгасны аграном, камандзір роты — ротны камандзір, дзеяч навукі — навуковы дзеяч, цэх завода — завадскі цэх* і інш.

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да наймення прадмета

§ 13. У словазлучэннях, якія выражаюць адносіны прадмета да яго наймення, галоўнае слова — назоўнік можа абазначаць прадпрыемства, установу, калгас, саўгас, мясцовасць, плошчу, нябесныя свяцілы і г. д., а залежнае слова — уласныя назвы, якія ім дадзены або прысвоены: *завод імя Кірава, калгас імя XXI з'езду партыі, школа імя Янкі Купалы, парк імя Горкага, пасёлак імя У. І. Леніна* і інш. *Паплыла шырокая асфальтаваная* п л о ш ч а Л е н і н а (Я. С к р ы г а н. Гордасць). *Высока, высока над вёскай мігціць* с у з о р'е В я л і к а й М я д з в е д з і ц ы (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

Да гэтай групы набліжаюцца па значэнню словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на відавую назву тых або іншых прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і г. д.: *завод запасных частак, фабрыка кандытарскіх вырабаў, інстытут машыназнаўства, бюро даведак, аддзел права* і інш. Сюды ж адносяцца ўстойлівыя словазлучэнні тыпу *Дом друку, Палац культуры* і інш. *Ён цяпер у Маскве, у* І н с т ы т у ц е г о р н ы х б а г а ц ц я ў (Я. С к р ы г а н. Яшчэ пра гордасць). *Хлопцы ведалі, што Андрэй быў у* б ю р о р а ц ы я н а л і з а ц ы і і в ы н а х о д с т в а ў (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *У* д о м е с е л я н і н а *таксама біла крыніцай жыццё* (К. Ч о р н ы. Максімка).

Гэтыя групы словазлучэнняў характарызуюцца азначальнымі сінтаксічнымі адносінамі (звычайна з аб'ектным адценнем) і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца сінанімічнымі ім па значэнню іменнымі словазлучэннямі з адноснымі прыметнікамі: *завод імя Кірава — Кіраўскі завод, плошча Леніна — Ленінская плошча, фабрыка кандытарскіх вырабаў — кандытарская фабрыка* і інш.

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны прызначэння

§ 14. У словазлучэннях з азначальнымі адносінамі прызначэння залежнае слова характарызуе прадмет, названы галоўным словам, з боку яго прызначэння: *рэчы туалету, прыладдзе машыны, начынне сталярства, журнал уліку, лава падсудных* і інш. Названыя словазлучэнні з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *для* (гл. § 57): *рэчы туалету — рэчы для туалету, прыладдзе машыны — прыладдзе для машыны* і інш. [Рыгорка] *падаў бацьку* к н і г у *вадамерных* з а п і с а ў (У. К р а ў ч а н к а. Палессе). *Лабановіч зрываецца з места, бярэ паперу і* п р ы л а д ы п і с ь м а *ды падсядае да Аксёна* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Саўку на-*

*дзелі наручнікі, абкружылі яго моцным канвоем і прывялі ў пакой допытаў* (Я. Колас. Дрыгва). *Сядзеў я на двары вучылішча сляпых* (Я. Колас. Цені мінулага).

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да месца, прасторы

§ 15. У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі залежнае слова — назоўнік можа абазначаць:

а) месцазнаходжанне асобы (асоб) або іншых істот: *калгаснікі вобласці, вучоныя Масквы, моладзь Савецкага Саюза, жывёлаводы Украіны, жыхары лесу, птушкі поўдня, насякомыя балот* і інш. *Янка Купала! Гэта блізкія, дарагія словы для ўсіх народаў вялікага Савецкага Саюза* (Я. Колас. Янка Купала). *Працуе ўдарна з вясёлым прыветам, бо ён сын аддаены краіны Саветаў* (Я. Купала. Барысаў). *Рабочы Данбаса капаў руду, рабочы Масквы вырабляў прадукт, ферганскі калгаснік збіраў пахту, чароды авец гадаваў пастух, рабочы палетак вырошчваў хлеб* (П. Глебка. Наша пастанова). *Яна любіць катоў не толькі свайго пансіёна* (З. Бядуля. Салавей).

б) Размяшчэнне неадушаўлёных прадметаў: *раслiннасць Поўначы, балоты Палесся, фауна Забайкалля, кветкі лугоў, заводы горада* і інш. *Усе дваццаць дзве хаты Скіп'ёўскага Пераброддзя паабрасталі вішняком і арабіннікам* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Вуліца вёскі ад школы ішла ў трох кірунках* (І. Шамякін. Крыніцы). *Яна ляжыць на ложку раённай бальніцы, а я сяджу ў яе нагах* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Кусты ўзгоркаватага ўзлеску ўсё варушацца* (К. Чорны. Вясна).

Да названай групы словазлучэнняў набліжаюцца і такія, залежным словам якіх абазначаюцца канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, а галоўным словам — месцараспалажэнне, размяшчэнне іх у прасторы: *раён нафтавых шчылін, участак зялёных насаджэнняў, мясцовасць лясных масіваў* і інш. *На ўчастку Цірааспальскай брамы ўжо каторы дзень вяліся жорсткія баі* (І. Гурскі. У агні). *Спатканне адбылося на тэрыторыі завода* (К. Чорны. Вінгель). *Да месца пабудоў адгэтуль было кіламетраў шэсць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Гэта справа ў раёне граніцы была* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Некаторыя з гэтых словазлучэнняў характарызуюцца ярка выражанай азначальнай функцыяй: *Край балот, нізін, азёраў наскіх, край лясоў, маўклівых сосен-струн* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Чысцее поле тарфянішч, у сонцы ўжо абшар* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Мы бачылі горад заводаў, кварталы рабочых пасёлкаў* (Я. Скрыган. Гордасць). *І вуліца банкаў, якія яшчэ засталіся жывыя, вуліца дзяржаўных і прыватных устаноў, вуліца раскошных магазінаў, кабарэ, дамоў сустрэч, вуліца аднаго з ажыўленых цэнтральных кварталаў гэтага старога горада застыгла ў страсе* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Календбрун»).

Словазлучэнні з родным склонам назоўніка, якія выражаюць адносіны да месца, прасторы, з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з адноснымі прыметнікамі і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца апошнімі, хоць поўнай тоеснасці ў адценнях значэнняў тут не наглядаецца: у азначальных словазлучэннях з родным прыйменным прасторавыя значэнні перадаюцца больш выразна і акрэслена, чым у адпаведных словазлучэннях з адноснымі прыметнікамі, у якіх пераважае ўказанне на якасна-адносную характарыстыку, параўн.: *студэнты Масквы — маскоўскія студэнты, балоты Мазыршчыны — мазырскія балоты, вуліца вёскі — вясковая вуліца.*

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да крыніцы або вытокаў паяўлення прадмета

§ 16. У названай групе словазлучэнняў галоўнае слова — назоўнік абазначае якія-небудзь з'явы рэчаіснасці, а залежнае слова — прадметы, якімі абумоўліваецца або з якімі так ці інакш звязана паяўленне гэтых з'яў: *промень сонца, іскры зорак, полымя кастра, зыкі паднябесся, сляды руін* і інш. *Малюнкі бацькаўскай зямлі! Нічым вас з памяці не сцерці!* (П. Глебка. Аб чым спяваюць салаўі). *Водыр лесу і вады цёк скрозь* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Бледнае святло месяца здалёк асвятляла нашы сады і хаты* (У. Краўчанка. Чэрвень). *Хмар апошніх адплываюць цені* (А. Куляшоў. Бюро давядак). *Іскры цягніка засыпаюць вагоны і кусты, якія цягнуцца паўздоўж чыгункі* (М. Чарот. Саматканая світка). *Гукі аркестраў нясуцца на вуліцу* (там жа).

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны часткі і цэлага

§ 17. У гэтай разнавіднасці іменных словазлучэнняў галоўнае слова — назоўнік абазначае частку прадмета, а залежнае слова — цэлы прадмет. У ролі залежнага слова могуць выступаць:

а) назвы розных пабудоў: *трубы заводаў, вокны клуба, фортка брамы, парэнчы моста* і інш. *Са страхам узышоў Міхась на ганак школы і нясмела ўзяўся за клямку* (Я. Колас. Школа). *Цяжка заскрыпела старая падлога млына* (К. Чорны. Мельнікі). *А на парозе майстэрні ўжо стаяла Рыта* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *І два дубы відны былі, і дахі дамоў, і комін завода* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Альшэўскі прачнуўся ад стуку ў шыбіну акна* (П. Пестрак. Пачатак).

б) Назвы рэчаў, прылад, машын, прыстасаванняў, механізмаў, сродкаў транспарту, прадметаў хатняга ўжытку: *лязо сякеры, затвор аўтамата, трубка тэлефона, абмотка трансфарматара, кузаў машыны, ножка крэсла* і інш. *Фіма трымаў жалезка рубанка над бруском* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Паплавок яго вуды калыхнуўся, вада вакол уздрыганулася* (У. Краўчанка. Палессе). *Вось яна параўнялася з Панасам, абмінула яго і паехала далей гасцінцам, пакідаючы за палазамі саней піскдявы скрып умёрзлага снегу* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Я выпадкова зазірнуў у ніжнюю шуфлядку свайго рабочага стала* (У. Краўчанка. Ілонка). *Спалі мы на цвёрдых прыладах палявога тэлефона* (К. Чорны. Вясна).

в) Назвы адзення, абутку, прадметаў мужчынскага і жаночага туалету: *полы кажуха, манжэт рукава, абцасы басаножак, вочка караляў, камень персценя* і інш. *Пад расшпіленым каўняром кашулі відзён быў шырокі пакручасты рубец* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *Рукавы курткі, накінутай на плечы, матляліся ў такт кроку* (П. Пестрак. Пачатак). *Халявы высокіх ботаў яго прыгнуліся пад каленямі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Цяпер толькі шырокі казырок памятай шапкі чарнеў у яго над тварам* (К. Чорны. Зямля).

г) Назвы раслін, пладоў: *корань дуба, ствол асіны, іголкі хвоі, бутоны вяргіні, семя ліпы, шышкі сасны* і інш. *Патрэскваюць галіны бярозы ў шумным ветры* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сцелецца і слаба пабліскае павуцінне, чапляючыся за тонкія аголеныя сцяблы высокіх траў* (Я. Скрыган. Таіса). *На вуліцы зморшчаныя лісці клёнаў суха шараваліся пад ветрам аб зямлю* (К. Чорны. Зямля). *Пахла зямля карою дрэў* (там жа). *Ніва шуміць ка-*

*ласамі жыта спелага, аўса* (Цётка. Лета). *Выбілася наверх і зацвіла цыбатая кветка сцеблавата-жоўтага малачайніку* (К. Чорны. Аксеніны сляды).

д) Назвы органаў і частак цела чалавека або іншых жывых істот: *кісць рукі, ступня нагі, зрэнка вока* і інш. *Далоні рук пачалі гарэць* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Пальцы рук яго сціснуліся* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

е) Назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, населеных пунктаў і г. д.: *Віцебская вобласць Беларускай ССР, Краснадарскі край РСФСР, Фрунзенскі раён горада Мінска, кварталы горада Масквы* і інш. *У гэтых кварталах горада зноў пацішэла, і народ стаяў на вуліцы* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Пасля заканчэння сельскагаспадарчага інстытута яго накіравалі на працу ў перадавы раён Мінскай вобласці* (з газет).

Да словазлучэнняў з адносінамі часткі і цэлага могуць быць аднесены і такія іменныя словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляюцца назоўнікі *верх (вяршок, вяршаліна, верхавіна), ніз, канец, бок, рог, сярэдзіна, абочына, даль, цэнтр, дно, край, ускрай, мяжа, бераг* і інш. *У вадзе люстравалася неба і зубчасты верх лесу* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ніз сонца закрыўся ўжо далёкім узгорачкам* (Р. Мурашка. Сын). *З другога канца стала села Алена* (П. Пестрак. Муж і жонка). *На рог стала, засланы абрусам, лягла першая аладка* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *У сярэдзіне агароджы трава была вытаптана* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *На гарызонце астаўся толькі чырвоны край неба* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *На самым беражку ліпавага кругляка прысеў Селівон* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Дно возера месцамі вязкае, мулаватае* (Я. Колас. Паездка на Асінбуд).

Словазлучэнні з родным склонам назоўніка, якія выражаюць адносіны часткі і цэлага, з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з адносным прыметнікам у ролі залежнага слова. Іншы раз гэтыя разнавіднасці іменных словазлучэнняў могуць узаемазамяняцца: *рама акна — аконная рама, прыступка лесвіцы — лесвічная прыступка, веццe бярозы — бярозавае веццe, квартал горада — гарадскі квартал* і інш. Але такая замена магчыма не заўсёды: у адных выпадках назоўнікі не ўтвараюць форм прыметнікаў, у другіх прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў, набываюць у складзе словазлучэння іншыя значэнні.

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны меры і колькасці

§ 18. У словазлучэннях з адносінамі меры, колькасці галоўнае слова — назоўнік можа абазначаць:

а) меру вагі: *тона брыкету, цэнтнер збожжа, кілаграм сахару, грам металу* і інш. *Свайму сябру ён без абмылкі мог сказаць, колькі можна ўзяць за карову або за пуд шэрсці ці фунт масла ў якім-небудзь мястэчку вёрст за сорак* (К. Чорны. Максімка).

б) Меру вадкіх і сыпкіх рэчываў або якіх-небудзь іншых аднародных прадметаў, названых залежным словам: *бочка вады, вядро бензіну, кош бульбы, воз торфу, мяшок мукі, скрынка солі* і інш. *Ён выпіў кварту вады* (К. Чорны. Зямля). *Бухча, бывала, з пайкаша лішняй бульбы сваякам усыпле* (К. Чорны. Нянавісць). *Ганна якраз прынесла бежанцы жменю круп* (П. Пестрак. Пачатак). *Пачак папярос і запалкі ляжалі пры попельніцы* (Р. Мурашка. Сын).

в) Аб'ёмную адзінку вымярэння рэчываў або зборных прадметаў: *ахапак сена, пярэбірак саломы, стог асакі* і інш. *На прыгуменнях мы аглядалі сціртыы саломы* (Я. Скрыган. Дбайнасць). *Шульга кінуў* [каню] *ахапак свежай канюшыны* (У. Краўчанка. Палессе). *Ляжала там яшчэ на падлозе бярэма дроў* (К. Чорны.

Насцечка). *Жанчына з той хаты на выгане несла з лесу вязанку сухога галля* (там жа). *Ляжаць роўнымі радамі копы саломы* (І. Шамякін. Крыніцы).

г) Меру даўжыні, плошчы: *паласа жыта, клін ячменю, дзялянка саснінку* і інш. *Астаюцца добрыя гоні непасаджанай бульбы* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Шырокі загон насеннай канюшыны ішоў ад ельніку* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Гэту вуліцу недалёка ад школы ў лагчыне пераразала града альховых кустоў* (І. Шамякін. Крыніцы). *Там, недзе далёка, за вялікімі абшарамі палёў грэюцца на сонцы нізкія хаты* (К. Чорны. Бяздонне). *Сям-там бялелі яшчэ лапіны снегу* (П. Пестрак. Пачатак).

д) Меру часу: *час язды, дзень хадзьбы* і інш. *Не пашкадуй, як той казаў, кавалачка паперы і хвіліну часу ды вазьмі напішы ад мяне пару слоў брату майму* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

е) Частку пэўнай або няпэўнай колькасці: *акраец хлеба, кусок кайбасы, крошкі сыру, капля вады, астатак фуражу, рэшткі насення, корч цыбулі, аркуш ватману, вешала грыбоў, большасць прысутных* і інш. *Кроплі снегавой вады і кавалкі абледзянелага снегу блішчэлі на яго калючым веццi* (К. Чорны. Зямля). *Дзе-нідзе відно было яшчэ каліва бульбоўніку* (Я. Скрыган. Зноў па дарозе). *Дзядзька расхінуў лісток лінаванай паперы* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *У адной руцэ ён трымаў лусту хлеба, у другой брус сала* (К. Чорны. Трыццаць год). *Частка людзей адразу ж вярнулася ў пакой* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Палавіна вёскі была спалена* (І. Шамякін. Крыніцы).

Сюды адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае няпэўную, але асабліва вялікую колькасць: *Горы свежай фанеры ляжалі скрозь паўз сцяну аж да брамы* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Пнівадка гнала цэлае мора вады* (там жа). *А больш за ўсё можна ўбачыць ля калодзежа салдатак, у якіх бездань гора і дум, надзей і чаканняў, турбот і неспакойства* (Я. Скрыган. Затока ў бурах).

ж) Канкрэтную колькасць прадметаў: *пара лыж, тузін шкарпэтак, капа гуркоў, бабка снапоў* і інш. *Нават казалі, што гадзін за дзве да смерці з'еў яшчэ пару цвёрдых антонавак* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

У названых групах словазлучэнняў указанне на меру або колькасць прадметаў можа выражацца не толькі асобнымі словамі са значэннем меры, колькасці, але і колькасна-іменнымі спалучэннямі: *дзве бочкі вады, тры кашы бульбы, чатыры пары лыж* і інш. *Тады ён перамахнуў яшчэ цераз дзве пары рэек і наблізіўся крыху да станцыйных будынкаў* (Р. Мурашка. Сын). *Узяўшы ў адну кішэню лусту хлеба, у другую жмень тры гароху, Міхась памкнуўся ўжо ісці* (Я. Колас. Школа). *Ён дастаў з палявой сумкі некалькі аркушаў паперы* (І. Шамякін. Крыніцы).

Словазлучэнні, якія выражаюць меру або колькасць, не суадносны па значэнню са словазлучэннямі з залежнай формай адноснага прыметніка, параўн.: *крошка хлеба — хлебная крошка, бочка віна — вінная бочка, каробка запалак — запалкавая каробка.*

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны сукупнасці

§ 19. У гэтай групе словазлучэнняў галоўнае слова — назоўнік абазначае сукупнасць прадметаў, а залежнае слова — тыя прадметы, з якіх складаецца гэта сукупнасць. Сярод такіх словазлучэнняў вылучаюцца:

а) словазлучэнні, якія складаюцца з назоўнікаў, што абазначаюць сукупнасць асоб або іншых істот: *грамада людзей, атара авец, статак*

*гусей, рой пчол* і інш. *Маё задуменне нечакана парушыў шумлівы г у р т юнакоў* (Я. С к р ы г а н. Дом № 9). *Н а т о ў п ж а н ч ы н і д з я ц е й пачаў разбягацца па полі* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Поезд абдало пылам, які падняўся а д т а б у н а к о н е й, г у р т а к а р о ў і ч а р а д ы а в е ч а к* (І. Г у р с к і. У агні). *Р а і а в а д н ё ў і к а м а р о ў, як галодныя бандыты, атакоўваюць нас з усіх бакоў* (Я. К о л а с. Паездка на Асінбуд).

б) Словазлучэнні, якія складаюцца з назоўнікаў, што абазначаюць сукупнасць неадушаўлёных прадметаў: *ярус мяшкоў, касцёр дроў, глыба лёду, скрутак папер, бярэмя сена* і інш. *Было ў мадэльнай цяпер пара верстакоў сталярскіх ды каля сцяны к у ч а д о ш ч а к* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах). *Г л ы б ы л ё д у на вачах збіраліся ў высокія дзівосныя нагрувашчванні* (У. К р а ў ч а н к а. Палессе). *Яго нават ледзь можна было пазнаць сярод г р у д ы к а м е н н я ў і цэглы* (Я. С к р ы г а н. Дом № 9). *П у к сухой м я т ы ўткнуты быў у аконца* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ж м у т в а л а с о ў раскруціўся і ўпаў на плечы* (Р. М у р а ш к а. Сын).

Словазлучэнні, у якіх абазначаецца сукупнасць адушаўлёных або неадушаўлёных прадметаў, суадносны па значэнню са словазлучэннямі з залежнай формай адноснага прыметніка: *натоўп людзей — людскі натоўп, рой пчол — пчаліны рой* і інш.

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да прызнака прадмета

§ 20. Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны прадмета да прызнакаў і характару іх праяўлення, семантычна разнастайныя. Галоўнае слова ў іх можа ўказваць:

а) на знешнія прызнакі прадмета (на яго абрысы, контуры, сілуэт, выгляд і г. д.) паводле падабенства яго з іншымі прадметамі: *айчына хмар, грэбень гор, рукаў рэчкі, дзяркач барады, палец шатуна* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў (*слуп іскраў, сноп агню, пасмы дыму, ніці дарог, шапка галля, рой лісця, ланцуг ваганетак, букеты зор* і інш.) набліжаюцца па значэнню да словазлучэнняў з адносінамі меры, колькасці або сукупнасці (гл. § 18—19), аднак у адрозненне ад апошніх галоўным словам у іх з'яўляюцца назоўнікі з ярка выражаным пераносным значэннем: *Захад пацямнеў, і с т у ж к і л я с о ў відаць сталі выразней* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ад яе* [хмары] *цягнуліся да зямлі блакітныя н і т к і касога д а ж д ж у* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Адразу за вёскай стаяла с ц я н а ліставога л е с у* (там жа). *Жоўтыя ч у б ы маладога б я р э з н і к у саступалі месца зялёным хвойнікам* (К. Ч о р н ы. Родныя мясціны). *С л у п ы і с к р а ў уздымаліся па-над туманам* (Р. М у р а ш к а. Сын). *З дзвярэй фанернага цэха выпаўзаў на двор па рэйках л а н ц у г пустых в а г а н е т а к* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

б) На матэрыял, рэчыва, сорт або гатунак, на форму, памер, а таксама на некаторыя іншыя знешнія або ўнутраныя адзнакі і ўласцівасці прадмета, названага залежным словам: *медзь труб, мармур скульптуры, сорт пшаніцы, форма зямлі, грамады карпусоў, характар прыроды, адзнакі зімы* і інш. *Глянцаваўся і пабліскваў чорны г р а н і т п а с т а м е н т а* (Я. С к р ы г а н. Гордасць). *Ён гаварыў п р а новыя г а т у н к і скарбовага ж ы т а* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Балоты ішлі шырэй, мяняўся х а р а к т а р л я с о ў* (там жа). *Я глядзеў на дырэктара, адзначаючы с е р а б р о с і в і з н ы ў яго валасах* (Я. С к р ы г а н. Дом № 9). *Тут падабенства сапраўды ёсць — у к о л е р ы в а л о с і ф о р м е г а л а в ы* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *К а м я н і ц мураваныя г м а х і, як дзяўчаты істужкі ў касу, паўпляталі чырвоныя сцягі, люба глянуць на гэту красу* (П. Г л е б к а. Маёва-піянерскае). *Па ўсёй зямлі, паміж ле-*

*сам і полем, ляглі шырокія* *б а г н ы  б а л о т* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах).

Родны прыйменны ў названых групах словазлучэнняў выконвае ў адносінах да свайго галоўнага слова азначальную сінтаксічную функцыю і ў паасобных выпадках можа замяняцца формай адноснага прыметніка: *лінія лесу — лясная лінія, слуп агню — вогненны слуп, ніці дарог — дарожныя ніці, багны балот — балотныя багны* і інш. Аднак у большасці выпадкаў замена роднага прыйменнага формай прыметніка без парушэння сэнсу канструкцыі немагчыма.

У словазлучэннях, якія выражаюць адносіны да матэрыялу, рэчыва або яго гатунку, формай прыметніка часам можа замяняцца не залежнае, а галоўнае слова, але ў такім выпадку відазмяняецца характар семантычнай суадноснасці паміж названымі паняццямі і словазлучэнне звычайна набывае іншыя адценні значэнняў, параўн.: *граніт пастамента — гранітны пастамент, гатунак жыта — гатунковае жыта.*

### Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны ўдакладнення

§ 21. Словазлучэнні, залежная склонавая форма якіх выконвае функцыю ўдакладнення, раскрыцця зместу папярэдняга паняцця, названага галоўным словам, складаюць прадуктыўны тып іменных канструкцый. У ролі галоўнага і залежнага слоў гэтых словазлучэнняў пераважна выступаюць назоўнікі з неканкрэтна-прадметным, адцягненым значэннем: *ідэя міру, сімвал веры, працэс падрыхтоўкі, шлях развіцця, прыклад мужнасці, інстынкт асцярожнасці, сігнал трывогі, рыса задуменнасці* і інш. *М е т а д  с а ц ы я л і с т ы ч н а г а  р э а л і з м у  даў пісьменнікам новы магутны сродак у адлюстраванні савецкай рэчаіснасці* (К. К р а п і в а. Жыццё і творчасць Якуба Коласа). *Мужна і моцна гучыць у паэзіі  т э м а  м і р у  і мірнай  п р а ц ы* (Я. К о л а с. Аб літаратурнай працы). *У дарозе ён склаў сабе пэўны  п л а н  д з е й н а с ц і* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Маці была ў задуме, а бацька рухава клапаціўся  п а  с п р а в а х  а д’е з д у* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Цяжкую  ш к о л у  ж ы ц ц я  прайшоў дзед Павал* (Я. К о л а с. З боку ад жыцця). *Рыгор пачаў падаваць  п р ы к л а д ы  Бухчавай  б е с с а р д э ч н а с ц і* (К. Ч о р н ы. Нянавісць). *У гэтым быў увесь  с а к р э т  п о с п е х у  Сцяпана Апанасавіча* (У. К р а ў ч а н к а. Палессе). *У Панасюка ўсплывае жыва ў памяці  м а л ю н а к  р а з в і т а н н я  з маткай* (З. Б я д у л я. Маці).

Галоўнае і залежнае словы некаторых з гэтых словазлучэнняў могуць абазначаць паняцці з інтэнсіўным, энергічным іх праяўленнем: *Хацелася знайсці такія словы, каб патушыць  б у р у  сваіх  с у м н е н н я ў* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца). *А г н ё м  і  п о л ы м е м  з а м і л а в а н н я  і  н я н а в і с ц і  дыхаюць творы Віктора Гюго* (К. Ч о р н ы. Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства). *Здавалася, усе грымучыя  н а в а л ь н і ц ы  с м е р ц і  і  п а к у т  адышлі ў нябыт* (К. Ч о р н ы. Маленькая жанчына). *Я ведаю  с і л у  яго  п а ч у ц ц я* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Цэлы  р о й  д у м а к  разам пранёсся ў яго галаве* (Я. К о л а с. Школа). *Мяккім сваім голасам жанчына накіроўвала кіпучую  с т р о м у  с л о ў* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

Калі ў ролі галоўнага або залежнага слова іменных словазлучэнняў з азначальнымі адносінамі выступаюць назоўнікі з канкрэтным значэннем, то залежнае слова ў іх раскрывае змест паняцця, названага галоўным словам: *гісторыя горада, змест кнігі, пасада малодшага навуковага супрацоўніка, матыў песні* і інш. *Гэта быў  п р а т а к о л  сельскага  с х о д у* (М. Ч а р о т. Чалавек, які не радзіўся). *Вырысоўваўся велічэзны  г е р б  р э с п у б л і к і* (Я. С к р ы г а н. Гордасць). *С п е ц ы я л ь н а с ц ь  т о к а р а  прыйшлася тут вельмі дарэчы* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вясел-

ля). *Гісторыя заводаў гэта ёсць гісторыя пралетарыяту* (К. Чорны. Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства). *Гулам зычным і тонкім, як музыка струн, праводзіць цёмны бор* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Раіса іграла знаёмыя мелодыі сучасных песень* (І. Шамякін. Крыніцы).

Такія словазлучэнні найчасцей з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з залежным прыметнікам і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца апошнімі: *школа жыцця — жыццёвая школа, працэс падрыхтоўкі — падрыхтоўчы працэс, сігнал трывогі — трывожны сігнал* і інш.

## Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-часавыя адносіны

§ 22. У словазлучэннях з азначальна-часавымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае пэўны прамежак часу, а залежнае слова раскрывае змест, якім гэты прамежак часу напоўнены або чым ён характарызуецца: *эпоха нацыянальна-вызваленчага руху, перыяд рэканструкцыі, дні будаўніцтва, сезон купання, вечар пытанняў і адказаў, фаза развіцця* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў набываюць устойлівы характар і выступаюць у мове як адзінае лексіка-граматычнае цэлае: *Дзень друку, Дзень авіяцыі, месячнік дружбы* і інш. *Вялікі Кастрычнік адкрыў чалавеку новую эру — эру камунізма* (Я. Колас. Слава вялікаму Кастрычніку). *Я бачыў гады геройства і мужнасці* (Я. Скрыган. Яшчэ пра гордасць). *Гэта быў вечар успамінаў і стоеных у памяці хвалярванняў* (там жа). *І ты хвіліны развітання адчула сэрцам маладым* (П. Трус. Развітанне). *Стаяла гарачая пара жніва* (У. Краўчанка. Палессе). *Паэма заканчваецца паказам хвалюючага моманту вызвалення* (К. Крапіва. Жыццё і творчасць Якуба Коласа). *Час сяўбы надышоў* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Дні трывогі і няпэўнасці мінулі* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Пры ўжыванні назоўніка з часавым значэннем у ролі залежнага слова галоўнае слова азначаецца з боку яго часавай характарыстыкі: *падзеі сучаснасці, госці лета, фарбы залатой восені, патрэбы заўтрашняга дня, песні бурнай ночы* і інш. *Сонца новай вясны цалавала сваімі праменнямі зямлю* (М. Чарот. Галя). *Змрок летняга вечара ледзь перамагаў рэшткі яснага дня* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Там былі сяброўкі і сябры маладосці, сваякі і суседзі* (Я. Брыль. Адзін дзень). *У яго памяці назапашваліся і карціны мінуўшчыны, і падзеі сучаснасці* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Яму раптам рабілася прыемна, так прыемна, нібы ён у другі раз сніў сон ранняга маленства* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Азначэнні, якія ўжываюцца пры залежным слове гэтых словазлучэнняў, могуць выступаць у якасці неабходнай структурнай часткі цэлага словазлучэння: *Уражанні юнацкіх год надоўга засталіся ў яго чулай душы* (К. Крапіва. Выдатны пісьменнік і чалавек). *Ён увесь час гаварыў аб падзеях апошняга лета* (З. Бядуля. Год за годам). *Трывогі апошніх часоў пачалі выліваўца на Пніцкага галаву* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Над табою новай эры свецяцца агні* (П. Глебка. У шчаслівай сям'і). *Я помню Маскву сорак першага года, паўзмрочнасць падвалаў, фашыстаў налёты* (К. Буйла. 9 мая 1945 года).

У тых выпадках, калі часавыя значэнні маюць назоўнікі, што выступаюць у ролі і галоўнага і залежнага слоў, у словазлучэнні выражаюцца адносіны ўдакладнення або выдзялення пэўнага прамежку часу, названага галоўным словам: *Я помню дні сваіх вакацый: была вясна...* (П. Трус. Дзяўчыне). *Мінуцца студэнцкіх канікулаў дні*

(А. Куляшоў. Грозная пушча). *За вокнамі збіраўся вечар, вечар першых дзён восені* (К. Чорны. Зямля). *На досвітку наступнага дня ўсе коні паехалі ў лес* (Я. Брыль. Рэўнасць). *Вечарам таго ж дня прыходзіць Сушко на хутар* (Я. Колас. Адзін). *Быў якраз сцюдзёны дзень пачатку лістапада* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Сюды адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі *пачатак, канец, сярэдзіна* і інш.: *Быў яшчэ толькі канец красавіка, але ўсё вакол ужо буйна шумела зялёнінай* (У. Краўчанка. Апавяданне пра смелае сэрца). *Яна цэлую вясну і пачатак лета была прыстаўлена гаспадаром да млына* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Асабліва прадуктыўнымі ў разглядаемым тыпе з'яўляюцца словазлучэнні з колькаснымі абазначэннямі прамежкаў часу, названых галоўным і залежным словамі: *Дзень дваццаць восьмага жніўня настаў* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Незабыўны верасень трыццаць дзевятага года зрабіў яго, нарэшце, сапраўдным паляўнічым* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Да смерці, відаць, не забудзецца той майскі дзень і тая ноч 1944 года* (І. Мележ. Гарачы жнівень).

Словазлучэнні з азначальна-часавымі адносінамі з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з залежнай формай прыметніка і ў пасобных выпадках могуць замяняцца апошнімі, хоць поўнай тоеснасці ў адценнях значэнняў тут не наглядаецца, параўн.: *дзень восені — асенні дзень, перыяд міру — мірны перыяд, момант урачыстасці — урачысты момант, кветкі вясны — веснавыя кветкі, падзеі сучаснасці — сучасныя падзеі.* Некаторыя з гэтых словазлучэнняў могуць замяняцца прыназоўнікава-іменнымі словазлучэннямі: *тэма сучаснасці — тэма аб сучаснасці, баі 1941 года — баі ў 1941 годзе* і інш.

### Словазлучэнні, якія выражаюць якасна-азначальныя адносіны

§ 23. У ролі галоўнага слова канструкцый з якасна-азначальнымі адносінамі могуць выступаць назоўнікі, што абазначаюць:

а) асоб: *Абыякавыя адносіны да людзей, да чалавека працы ёсць страшэнны эгаізм* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Яны глянулі на Андрэя позіркам ні то дакору, ні то дзікага абурэння,— так глядзіць чалавек пушчы, закінуты лёсам у адзіноту* (там жа). *Край наш савецкі на свеце адзіны, дзе чалавеку змагання і працы дадзена права на скарбы краіны* (К. Буйла. Сонца заззяла...). *Ці ты думаў, ці сніў.., як стаяў над табой сын нядолі худы і над цёмнай вадой спяваў песні нуды?* (Ц. Гартны. Да Нёмна). *Светлы воблік Пушкіна, песняра свабоды, бунтара, жыве неадлучна з намі* (Я. Колас. Сонца нашай паэзіі).

б) Канкрэтныя прадметы або паняцці рэчаіснасці: *Мы збудуем рэспубліку працы на франтах грамадзянскай вайны* (П. Глебка. Песні мінулай вайны). *Схіляў галаву перад Круглай плошчай, збудаванай як помнік вечнай славы барацьбітам* (Я. Скрыган. Дом № 9). *Калі ён гаварыў, маршчыны старасці збіраліся на яго твары* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Слёзы шчасця змяшаліся з жалем, пакаціліся хваляй крынічнай* (П. Глебка. Успаміны падпаска). *Ён прасіў цяпер толькі тых, ад каго чуў гэтыя словы любві і брацкага жыцця* (Я. Колас. У горадзе). *Алена глянула ў акно і голасам трывогі сказала...* (П. Пестрак. Муж і жонка).

в) Абстрактныя паняцці: *Успаміны буры, здавалася, маладзілі яго на шмат гадоў і ўздымалі ў ім дух нейкага несвядомага пратэсту*

(М. Чарот. Пасля буры). *З выразам спалоху на твары Ганна схапілася з месца і пабегла да хаты* (П. Пестрак. Пачатак). *Ён стаяў побач у позе «свяшчэннай» прыстойнасці* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *На яго твары адбіліся адзнакі трывогі* (з газет). *Яно* [пасведчанне] *набывае характар нейкага дакору* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Да гэтай падгрупы належаць таксама словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляюцца назоўнікі з пераносным, метафарычным значэннем. Большасць з іх мае ўстойлівы характар: *яблык разладу, рог дастатку, сцяна непрыступнасці, шлях перамог, промень волі* і інш. *Дрэва мудрасці вечнае ў слове не гіне пад пяском і вадою* (У. Хадыка. Пры дарозе, дзе жоўтыя травы...). *Я прынесла дары — кветкі светлых надзей* (П. Трус. Як пажоўкнуць лісты). *Арэшкін адразу скінуў з сябе маску абыякавасці* (І. Шамякін. Крыніцы). *Пячаць асцярогі лягла на дзяўчынін твар* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *У Марысі не тухла іскра надзеі, што Сцяпан яе кахае* (М. Чарот. Саматканая світка). *Цень глыбокай задуменнасці ўсё яшчэ бегаў па твары* (Р. Мурашка. Сын).

Асобнае месца ў іменных словазлучэннях з якасна-азначальнымі адносінамі займаюць словазлучэнні, у якіх залежны назоўнік у форме роднага склону не можа самастойна, без паясняльных слоў уступаць у сінтаксічныя адносіны з іншым назоўнікам і служыць выразнікам прымет тых прадметаў або паняццяў, якія ён абазначае. Так, нельга сказаць *«чалавек складу», «моладзь закалу», «мужчына росту», «вочы колеру».* Залежны назоўнік тут патрабуе свайго паясняльнага слова, якое ў такім выпадку выступае ў якасці неабходнага структурнага элемента цэлага словазлучэння. У гэтых словазлучэннях могуць характарызавацца з боку якасці як адушаўлёныя істоты, так і прадметы неадушаўлёныя, паняцці абстрактныя.

У словазлучэннях, дзе галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу (асоб), залежная прыйменная частка можа ўказваць на:

а) характар асобы, яе ўнутраныя якасці, сацыяльны стан, жыццёвы напрамак, адукацыйны ўзровень, кваліфікацыю і іншыя якасці, якімі можа вызначацца асоба: *Лемяшэвіч ведаў свайго кіраўніка, чалавека добрай душы, мяккага характару* (І. Шамякін. Крыніцы). *Шчаслівa люд глядзіць услед байцам дзівоснай складкі* (Я. Колас. Гудзе зямля). *Уся яго гаспода нагадвала сабой сядзібу землеўласніка сярэдняй рукі* (Я. Колас. На ростанях). *Па вуліцы, як веснавыя ручаі, ішлі людзі рознага звання* (Я. Колас. Наталька, Джон і муха). *Дукора пачаў з таго факта, што каменшчыкаў высокай кваліфікацыі вельмі мала* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

б) Знешні выгляд асобы, рост, узрост і г. д.: *І здавалася дзіўным, каб чалавек яго камплекцыі быў здолен на гэтую рухавасць і стыхійную бурлівасць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Раз у Смаленску запыняе мяне чалавек інтэлігенцкага аблічча* (там жа). *Гэта быў чалавек сярэдняга росту* (І. Шамякін. Крыніцы). *Тут былі людзі і сярэдняга ўзросту і старыя, але найбольш Сашкавых год* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Жвавая жанчына трыццаці год гуляе ў лесе з вясёлай грамадой школьнікаў* (З. Бядуля. Навагодняя ёлка).

Пры выражэнні недакладнасці ўзросту слова *гадоў* можа выносіцца ў пачатак залежнай часткі іменнага словазлучэння: *Гэта была тоненькая, стройная, нібы вытачаная, смуглявая дзяўчынка гадоў шаснаццаці* (У. Краўчанка. Ілонка).

Іншы раз залежная частка такіх словазлучэнняў у адносінах да галоўнага слова займае прэпазіцыйнае становішча: *Каля іх стаяў невы-*

*сокага росту чалавек у сініх акулярах* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Разнастайнага выгляду і стану людзі прыходзілі і выходзілі* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Начальнік заставы, загартаваны ў вайне і ўжо не першай маладосці чалавек з абветраным тварам, поглядам ваеннага чалавека акінуў дзеда Талаша з галавы да ног, дайжэй запыніўшыся на воўчай скуры* (Я. Колас. Дрыгва).

У словазлучэннях, дзе галоўнае слова — назоўнік абазначае жывёл, птушак, насякомых і г. д., залежная прыйменная частка можа характарызаваць гэтых істот паводле іх звычак, пароды, масці, афарбоўкі і г. д.: *А гэтыя куры розных масцей і нават парод — з грабянямі, з шышачкамі на галовах, дзюбастыя пеўні з імі — усе чарадою беглі за ім* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...). *Воўчай пароды сабака бяжыць папераздзе, нюхаючы сляды* (Я. Колас. На «святой зямлі»).

У словазлучэннях, дзе галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны неадушаўлёны прадмет рэчаіснасці, залежная прыйменная частка можа ўказваць на форму, памер, колер (або адценне колеру), на матэрыял, сорт і г. д.: *Па дарозе туды і сюды імчацца параходы і чаўны розных форм і розных колераў* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Замест латанага кажушка носіць ён мундзір ваеннага пакрою* (Я. Колас. Дрыгва). *Кароткі кажушок, які некалі меў белы колер, цяпер быў зямліста-шэры, аблеплены латкамі рознай велічыні, гатунку і формы* (Я. Колас. Дачакаўся). *Пах парфумы з пахам табакі лепшага гатунку абдаў Андрэя і Санкоўскага* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У калгасе былі трактары, плугі навейшай сістэмы* (Я. Колас. Адшчапенец).

У адносінах да галоўнага слова залежная частка гэтых словазлучэнняў можа займаць прэпазіцыйнае становішча: *Надзейка была ў вышытай белай блузцы, у руках трымала сіняга колеру жакет* (І. Гуркі. У агні). *Невыразнага колеру вочы хаваліся ў навакольных маршчынах* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Фельчар стаў апранацца ў доўгі карычневага сукна свойскай работы бурнос з башлыком* (там жа). *Доўгія і кароткія заношаныя кажушкі, чорныя простага сукна пільчакі, світкі, і ўсе абуты ў дрэнныя лазовыя лапці* (Я. Колас. Дрыгва).

У названай групе словазлучэнняў асабліва часта знешнія прызнакі і якасці прадметаў абазначаюцца не прама, а праз суадноснасць іх з прызнакамі і якасцямі іншых прадметаў. Пры гэтым указанне на канкрэтны колер або памер прадмета можа абазначацца формай прыметніка (*сукенка малінавага колеру, дрэўцы чалавечага росту*) або формай роднага склону назоўніка (*вопратка колеру марской хвалі*): *Няслаўскі нават не патурбаваўся прачытаць імя, прыгожа выдрукаванае на паперы шакаладнага колеру* (Р. Мурашка. Сын). *Дзе-нідзе ў расселінах раслі старыя сосны са ствaламі колеру пацямнелай бронзы* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Ён выглядае сярпом колеру крыві* (З. Бядуля. Жалейка).

Пры ўказанні на памер, даўжыню прадмета ў склад залежнай часткі такіх канструкцый звычайна ўключаюцца прыслоўі *вышэй, ніжэй*: *Срэбныя і бронзавыя кандэлябры вышэй чалавечага росту стаялі на паркеце* (З. Бядуля. Салавей). *Куры і сапраўды, мусіць, пазнавалі шэрую куртку Івана даўжынёю крыху ніжэй кален* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...).

У словазлучэннях, дзе галоўнае слова — назоўнік абазначае неканкрэтна-прадметныя паняцці, залежная прыйменная частка характарызуе паняцці ў пэўных якасных адносінах: *Снягі і марозы, нечакана ска-*

*вайшы Палессе, прыпынілі ваенныя аперацыі шырокага маштабу* (Я. Колас. Дрыгва). *Матывы асабістага характару хілілі яе ў процілеглы Васілю бок* (там жа). *Першае лякарства ўжывалася пры хваробе ўсіх катэгорый* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *І шабля творыць круг маланкавага лёту* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Яна робіць яму вабную ўсмешку зусім адваротнага зместу* (З. Бядуля. Тры пальцы).

Словазлучэнні з якасна-азначальнымі адносінамі блізкія па значэнню да іменных словазлучэнняў з якаснымі прыметнікамі і ў паасобных выпадках могуць замяняцца апошнімі: *чалавек працы — працавіты чалавек, словы праўды — праўдзівыя словы, колер неба — нябесны колер, цытадэль непрыступнасці — непрыступная цытадэль* і інш. Аналагічнымі словазлучэннямі могуць быць заменены і такія словазлучэнні, пры залежным слове якіх ёсць паясняльныя члены. Аднак у гэтых выпадках прыметы прадмета перадаюцца больш агульна, недыферэнцыравана, не заўсёды выражаецца і ступень якасці, уласцівай асобе або прадмету: *чалавек вялікага вопыту — вопытны чалавек, спецыяліст сярэдняй кваліфікацыі — кваліфікаваны спецыяліст, мужчына невысокага росту — невысокі мужчына, плугі новай сістэмы — новыя плугі, хлапец дваццаці гадоў — дваццацігадовы хлапец* і інш.

## *Словазлучэнні з вытворнымі назоўнікамі*

§ 24. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, суадносныя па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з іншымі часцінамі мовы, падзяляюцца на дзве асноўныя групы: а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік суадносіцца з прыметнікам; б) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік суадносіцца з дзеясловам.

### Словазлучэнні з адпрыметнікавымі назоўнікамі

§ 25. Словазлучэнні, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць назоўнікі, утвораныя ад асновы якасных прыметнікаў або суадносныя з імі па значэнню, выражаюць адзін з відаў азначальных адносін — адносіны прыметы і яе носьбіта. Калі ж прадмет, названы галоўным словам, з'яўляецца носьбітам пастаяннай прыметы, то ён уяўляецца таксама і крыніцай гэтай прыметы. У залежнасці ад канкрэтнага значэння і семантычнай суадноснасці спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні могуць абазначаць:

а) асобу або групу асоб і іх унутраныя якасці, стан, характар адносін: *патрабавальнасць педагога, клапатлівасць маці, жорсткасць забойцы, ганарыстасць пана, прыгажосць дзяўчыны, ласкавасць сястры* і інш. *Лемяшэвіча здзівіла прадбачлівасць гэтай жанчыны* (І. Шамякін. Крыніцы). *Нас дзівіла вельмі халоднасць старога* (К. Чорны. Сям'я Юрыя Гарэйкі). *Так ён упэўнены быў у вінаватасці Грамабоя* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Варожая маўклівасць натоўпу была на яе* [усмешку] *адказам* (там жа). *Цябе на гэтыя паходы благаслаўляю, сыне мой, вялікай мужнасцю народа і шчырай любасцю сваёй* (П. Глебка. Благаслаўленне). *Галена бачыла гэтую жыццярадаснасць сваіх таварышаў і сама набіралася яе* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Заўвага. Унутраныя якасці асобы могуць абазначацца таксама праз суадносіны з якасцямі, уласцівымі пэўным іншым асобам або істотам: *Рыгорка з умельствам сапраўднага рачніка рашучымі ўдарамі вясла выроўніваў човен* (У. Краўчанка. Палессе). *Ён усміхаецца з ветлівасцю гасціннага гаспадара* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *З стараннасцю добрай гаспадыні* [жанчына] *замкнула хату і падалася ў лог, дзе сівец пераходзіў у балота* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Араў наўздзіў ахвотна, з нейкім асаблівым захапленнем, з заядласцю ўпартага, неўгамоннага крата* (Ц. Гартны. На перагібе).

Калі ў ролі залежнага слова такіх словазлучэнняў выступаюць назоўнікі *чалавек, асоба, істота* і інш., якія страцілі паўнату свайго лексічнага значэння, то пры гэтых назоўніках абавязкова ўжываюцца паясняльныя члены, звароты або нават дадзеныя азначальныя сказы: *І свавольная жыццярадаснасць дванаццацігадовай дзяўчыны ператварылася ў сталасць спрактыкаванага чалавека* (К. Чорны. Маленькая жанчына). *У постаці яе была маўклівасць чалавека, прывыкшага да такіх малюнкаў* (К. Чорны. Захар Зынга). *І была ў яго постаці нейкая засмучанасць чалавека, якому няма чым пахваліцца* (там жа).

б) Канкрэтны неадушаўлёны прадмет або з'яву прыроды і іх знешнія прызнакі. Галоўнае слова гэтых словазлучэнняў можа ўказваць:

на колер прадмета: *жаўцізна медзі, чарната хвойніку, барвовасць нябёс, празрыстасць вады* і інш. *Сінь ночы атуляла яго з усіх бакоў* (З. Бядуля. Салавей). *Ледзь бачна светлая шэрань уснежанай зямлі* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Будзе радасць цвісці каляровасцю руж* (П. Трус. Як пажоўкнуць лісты). *З-за лесу палыхала ўжо чырвань узыходзячага сонца* (П. Пестрак. Пачатак). *Яны ўбачылі ружовасць неба на ўсходзе* (К. Чорны. Вялікі дзень).

На меру прасторы або памер прадмета, на адлегласць, форму, напоўненасць і г. д.: *прасторнасць памяшкання, веліч будынкаў, вышыня дрэў, роўнасць поля, паўната цела* і інш. *Над шырынёй палёў бязмежных шумяць гаі пшаніцы; над даўжынёй савецкіх межаў не дрэмле пагранічнік* (П. Глебка. Адзіная айчына). *Неабсяжнасць даляглядаў узнімае празрыстасць сініх засцілаў* (К. Чорны. Ясны дзень краіны). *Узірайся ў цёмную далячынь поля* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Галена глядзела ў чорнае бяздонне акна* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Роўнядзь вады пакрылася дробнымі хвалямі* (У. Краўчанка. Палессе). *Гасцінцам проста і пайшлі людзі ў глыб мясцовасці* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Блізасць гэтага кутка прыгнечвала яго* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Яго абкружала гушчыня некранутага лесу* (П. Пестрак. Пачатак).

в) Канкрэтны неадушаўлёны прадмет і яго ўласцівасці, якасці: *цвёрдасць алмазу, трываласць матэрыялу, чыстата вуліц, прыгажосць твару, ажыўленасць мясцовасці, цемень ночы* і інш. *Алеся намацвае рукамі халодную шурпатасць сцяны* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Упартасць дзвярэй наганяла злосці* (Р. Мурашка. Сын). *Удоўж мяжы ішоў дазорны, успамінаў утульнасць хат* (П. Глебка. Дазорны). *Вільготнасць хмары чуе конскі нюх* (А. Куляшоў. Табуны). *Дзе-нідзе звісала пад цяжарам снегу карычневае лісце* (І. Шамякін. Крыніцы). *Недаверлівасць і суровасць яе твару прападалі* (Я. Колас. Кінахроніка). *Зараневіч не мог не захапіцца магутным харáством лесу* (П. Пестрак. Пачатак). *Наймыснік не паверыў у шчырасць гэтых слоў* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

г) Канкрэтны неадушаўлёны прадмет або з'яву рэчаіснасці і стан, у якім яны знаходзяцца ў дадзены момант або які для іх характэрны: *здрантвеласць рук, неспакойнасць сэрца, санлівасць лесу, маўклівасць прыроды* і інш. *Зморанасць усяго цела магла скончыцца толькі пасля сну, але спаць не даваў холад* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ён не зважаў на стомленасць сваіх ног* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Праз зляжаласць хвойнага насыпу не прабівалася аніводная травінка* (там жа). *Андрэева хата ветліва глянула на яе спарахнеласцю сваіх сцен* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Апошняя панурасць ночы хавалася ў лес* (К. Чорны. Нянавісць). *Урачыстая цішыня зімовага дня адразу адчулася ва ўсім сваім харастве* (І. Шамякін. Крыніцы).

д) Абстрактныя (неканкрэтна-прадметныя) паняцці, працэсы, дзеянні і характар іх праяўлення: *шпаркасць язды, скорасць рэзання, узнятасць настрою, бясхмарнасць надзей, напорыстасць характару, тупасць абставін, цяжар становішча, цвёрдасць намераў* і інш. *Б а д з ё р а с ц ь звонкае х а д ы у кроках дробленых гамоніць* (У. Хадыка. Гарманіст). *У выніку складаных падлікаў вызначалася х у т к а с ц ь р у х у вады* (У. Краўчанка. Палессе). *Гаспадар заўважыў усю ш т у ч н а с ц ь і ф а л ь ш яго в е с я л о с ц і* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Вострая ў з б у д ж а н а с ц ь д у м а к не давала ёй забыцца на ўсё ў моцным сне* (К. Чорны. Зямля). *Тым часам набліжэнне фронту і с у р'ё з н а с ц ь с т а н о в і ш ч а адчувалася моцна* (Я. Колас. Дачакаўся).

Да гэтых канструкцый набліжаюцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае меру, памер, ступень праяўлення пэўных працэсаў, падзей: *Ніводзін год не можа параўнацца з гэтым п а в е л і ч ы н і ў з д ы м у і ш ы р ы н і р а з г о н у рэвалюцыйнай хвалі* (Р. Мурашка. Сын). *Над в ы ш ы н ё й у з л ё т а ў нашых заводы ўзносяць плечы* (П. Глебка. Адзіная айчына). *Юлік Барановіч пайшоў з хаты, несучы ў сабе в е л і ч нейкіх туманных і радасных н а д з е й* (К. Чорны. Зямля). *Сінія Юзікавы вочы гарэлі г л ы б і н ё ю д у м а к* (там жа).

У паасобных выпадках галоўнае слова разглядаемых словазлучэнняў можа ўказваць на вынік або неабходнае суправаджэнне таго стану ці з'явы, што названы залежным словам: *Аднак гэта былі толькі словы, якія мусілі акрэсліць г о р ы ч ашуканага ч а к а н н я* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Ён піў с л о д ы ч ц і ш ы н і бацькаўскага гнязда* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Вы моладзь, якая не ведала ж у д а с ц і п р ы н і ж э н н я, р о с п а ч ы ж а б р а ц т в а, т у г і а д з і н о ц т в а* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Будзе мак цвісці на градах, будзе ў сэрцы з веку ў век несці творчай п р а ц ы р а д а с ц ь непакорны чалавек* (П. Глебка. Летні дзень). *Смутак знікае, і ў сэрцы паціху цепліцца новае в е р ы ц я п л о* (П. Глебка. Чырвонай Арміі). *С в я т л о радасных н а д з е й туманілася тым, пра што ён дагэтуль ніколі не думаў* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, утвораныя ад асновы якасных прыметнікаў або семантычна суадносныя з імі, сінанімічны іменным словазлучэнням з залежнай формай прыметніка. Прычым у залежнасці ад характару выдзяляемай прыметы гэтай формай можа замяняцца галоўнае або залежнае слова іменнага словазлучэння. Пры выражэнні якаснай характарыстыкі прадмета прыметнікам замяняецца галоўнае слова іменнага словазлучэння: *шчырасць слоў — шчырыя словы, шпаркасць руху — шпаркі рух, напорыстасць характару — напорысты характар, радасць сустрэчы — радасная сустрэча* і інш. Калі ж неабходна ўказаць на прыналежнасць уласцівых асобе прымет, формай прыметніка можа замяняцца залежнае слова іменнага словазлучэння: *сур'ёзнасць бацькі — бацькава сур'ёзнасць, маўклівасць брата — братава маўклівасць, клапатлівасць маці — матчына клапатлівасць, дабрата гаспадыні — гаспадыніна дабрата* і інш. Аналагічна могуць быць заменены і некаторыя іменныя словазлучэнні з залежным неадушаўлёным назоўнікам: *сінь лесу — лясная сінь, цемень ночы — начная цемень, глыб лесу — лясная глыб, панурасць ночы — начная панурасць* і інш.

### Словазлучэнні з аддзеяслоўнымі назоўнікамі

§ 26. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, с у а д н о с н ы я па сваіх словаўтваральных або семантычных сувязях з д з е я с л о в а м і, звычайна выражаюць суб'ектна-азначальныя або аб'ектныя адносіны.

Словазлучэнні з *суб'ектна-азначальнымі* адносінамі паказваюць адносіны паміж апрадмечаным дзеяннем, названым галоўным словам, і ўтваральнікам гэтага дзеяння, названага залежным словам. Найбольш поўнае выражэнне суб'ектна-азначальныя адносіны знаходзяць у словазлучэннях, дзе ўтваральнікам дзеяння з'яўляюцца:

а) канкрэтная асоба або група асоб: *разважанні сястры, шум дзетвары, прыезд брыгады, кліч сяброў, загад камандзіра* і інш. *Выслухаўшы расказ суседа, Паўлюк павесялеў* (Я. Колас. Тоўстае палена). *На вуліцы бясконцы клапатлівы рух мінчан* (Я. Скрыган. Дом № 9). *Тут ён хацеў расказаць аб прапанове хлопцаў, але стрымаўся* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *На хвалях заміраюць вёслы ад успамінаў рыбакоў* (П. Глебка. Ліст брату). *І зараз жа вырваўся дружны рогат начлежнікаў* (Я. Колас. На начлезе). *У хаце чулася гарачае дыханне хворых дзяцей* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

б) Іншыя адушаўлёныя істоты: *рык кароў, рохканне свіней, віск парасят, спеў салаўя, курлыканне жураўлёў* і інш. *Бешаны тупат коней здаецца павіслым над намі* (К. Чорны. Таварыш Сімянюк). *Цішыня сапраўды дзікая: не чуваць ні спявання пеўняў, ні бляяння авечак, ні мычання кароў, ні іржання коней* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Аддалены брэх сабак становіцца штораз чутней* (Я. Колас. Адзін). *З-за акна чуваць чырыканне вераб'ёў* (Я. Брыль. У сям'і). *Стук дзятла і зязюлі крык сустрэў вясёла ранне* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове).

в) Калектыўны орган, грамадская арганізацыя, установа: *рашэнне камісіі, заява ўрада, адозва рэспубліканскага савета прафсаюзаў, зварот ЦК камсамола* і інш. *На пасяджэнні педсавета першы выступіў Арэшкін* (І. Шамякін. Крыніцы). *Збор камітэта Арон прызначыў на нядзелю* (Р. Мурашка. Сын). *Сёгень дакладваў пра пастанову ўрада аб пабудове на Пнівадзіцкім балоце электрастанцыі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Выклік першай брыгады быў прыняты* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Заўвага. Асобную групу складаюць словазлучэнні, у якіх праз адносіны да суб'екта выражаецца якасць апрадмечанага дзеяння, названага галоўным словам. У такіх словазлучэннях суб'ектныя адносіны сумяшчаюць у сабе значэнне параўнання (гл. § 11): *з усмешкай актрысы, з поглядам пераможцы, з хадою вайскоўца, з уменнем мастака* і інш. *Я горача люблю іх любоўю бацькі, дзеда* (А. Куляшоў. Каменка). *Гаспадыня глядзела на яго з заміласаннем маткі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *За ім спяшалася жанчына, ахопленая трывогай маці* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Рухам важнай персоны павярнуў галаву ўлева да Глюгі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Выслухаўшы такую цытату, Захар Зынга акругляе твар ухмылкаю філосафа* (К. Чорны. Захар Зынга). *Галава яго апусцілася ўніз, сівенькая бародка ўпёрлася ў грудзі, ад чаго ён прыняў выгляд старэнькага казла* (К. Чорны. Максімка).

Словазлучэнні, у якіх ролю ўтваральніка дзеяння выконваюць неадушаўлёныя канкрэтныя прадметы або адцягненыя паняцці, таксама выражаюць суб'ектныя адносіны звычайна з аб'ектным адценнем і па значэнню з'яўляюцца надзвычай разнастайнымі. Яны могуць называць:

а) знешнія фізічныя працэсы з'яў і прадметаў прыроды, іх змяненні, размяшчэнне ў прасторы і г. д.: *плынь паветра, парыў ветру, спёка сонца, усход месяца, схіл нябёс, змена мясцовасці, скрыжаванне вуліц, паварот дарогі, размяшчэнне лагера* і інш. *Ніхто не заўважаў здаровага подыху блізкай зімы* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Паслалася мяккая, цёмна-сіняя навесь неба* (П. Галавач. Спалох на загонах). *А хатка ўсё глядзіць адным акенцам на халодны ў крывавых водблісках захад сонца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Зімы вясёлкавая россып убрала срэбрам тапалі* (П. Глебка. Дрыжаць у шэрані бярозы). *Гэта тут чарграванне*

*яравых і азімых* *к у л ь т у р* *адзначалі на плане* (А. К у л я ш о ў. Поспех). *Новы штурмавағ араты векавы* *п р а с ц я г* *з я м л і* (У. Х а д ы к а. Завінуўся на выгодзе).

З а ў в а г а. Словазлучэнні, у якіх названы залежным словам неадушаўлёны прадмет пераносна ўжываецца ў значэнні адушаўлёнага, дадаткова ўскладняюцца азначальным адценнем прыналежнасці: *Т а м* *с о н ц а* *ў с м е х, а на гары — пасёлкі, майдан калышыцца ў пялёстках лебяды* (П. Т р у с. Ізноў я там). *Вітаю буры і прыволле,* *п л а ч* *н а в а л ь н і ц,* *п а р ы ў* *в я с н ы* (П. Т р у с. Чырвоныя ружы). *У ціхіх* *с к а р г а х* *непрыбранага* *ж ы т а* *чуў я вялікія буры* (К. Ч о р н ы. Буры). *Яны адчувалі лёгкія* *ў з д ы х і* *адліжнага* *в е т р у* (К. Ч о р н ы. Зямля). *У дружны хор шчаслівы зліваецца* *шчыльней і* *г о м а н* *х в а л ь* *шумлівых, і звонкі смех дзяцей* (П. Г л е б к а. На рэчцы).

б) Біялагічныя, фізіялагічныя працэсы, стан, у якім знаходзіцца прадмет: *завяданне кветак, пульсаванне крыві, дыханне цела* і інш. *Так ішло тут* *ж ы ц ц ё* *з я м л і* *і людзей на ёй* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Плыў водыр павольнага* *к а н а н н я* *т р а в ы* *і* *к в е т а к* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Ён пытаў два разы ў доктара, ці няма* *з а р а ж э н н я* *к р ы в і* *ад кулі* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *У з б у д ж э н н е* *н е р в а ў* *у яе павялічвалася* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Вечнае* *р а с ц в і т а н н е* *з я м л і* *поўніць нас салодкай трывогаю сэрца* (К. Ч о р н ы. Таварыш Сімянюк).

в) Канкрэтныя механічныя дзеянні, якія адбываюцца з прадметам: *мах рукі, выгіб ракі, ход машыны, разрывы бомбаў* і інш. *Р у х* *с я к е р* *відзён быў па рухавым бляску сонца на іх* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Размах у Ігната шырокі,* *п а в а р о т* *п л я ч а* *дужы,* *п о с в і с т* *к а с ы* *пявучы* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). *Кожны жыве* *с т у к а м* *м о л а т а,* *в ё р т а м* *м а ш ы н ы,* *с к р ы г а ц е н н е м* *н а п і л ь н і к а* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Чулася* *с т р а л ь б а* *к у л я м ё т а ў* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

г) Працэсы, адчуванні, звязаныя з разумовай дзейнасцю чалавека, псіхічны стан і характар яго праяўлення: *навала думак, дакоры сумлення, выбух трывогі, успышка гневу* і інш. *П р ы с т у п* *з л о с ц і* *ахапіў яго з новай сілай* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Гэта было* *а с л а б л е н н е* *д у м к і* *і* *с в я д о м а с ц і* *ў чалавека* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *І* *з а р о д а к* *нейкай* *н а д з е і* *закраўся ў душы людзей* (там жа). *Гераізм — гэта найвышэйшае* *п р а я ў л е н н е* *с м е л а с ц і,* *а д в а г і* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Алесь раптам адчуў* *п р ы л і ў* *хмельнай* *у з б у д ж а н а с ц і* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Мусіць, і сабака адчувае* *п р ы г н ё т* *г л у ш ы н і* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

д) Грамадскія падзеі, сацыяльныя працэсы: *рух гісторыі, плынь часу, змена фармацый, поступ навукі, ход падзей* і інш. *Матросам быў, камуністам стаў, абараняў ад ворагаў* *з а в а ё в ы* *р э в а л ю ц ы і* (Я. С к р ы г а н. Замалёўкі). *П а в е в ы* *г і с т о р ы і* *павінны быць у літаратуры* (К. Ч о р н ы. Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства). *П о с т у п* *нашай сацыялістычнай* *к у л ь т у р ы* *шпаркі і няспынны* (Я. К о л а с. Прамова на XXI з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі). *Назаўтра зусім парушыўся звычайны* *х о д* *ж ы ц ц я* *ў Бушмаравай сялібе* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар).

Некаторыя са словазлучэнняў, у якіх утваральнікам дзеяння з'яўляюцца неадушаўлёныя канкрэтныя прадметы або адцягненыя паняцці, побач з суб'ектнымі адносінамі могуць дадаткова выражаць адносіны дзеяння, названага галоўным словам, да крыніцы яго ўзнікнення. Сюды адносяцца словазлучэнні, у якіх абазначаюцца: а) светавыя (зрокавыя) успрыманні, нюхавыя адчуванні: *Б л я с к* *л я м п ы* *асвятліў твар* (П. П е с т р а к. Яе перамога). *Абліта* *з з я н н е м* *з о р а к* *росная паляна* (З. Б я д у л я. Абліта ззяннем зорак...). *Гэта быў* *в о д с в е т* *чорных тарфяных* *б е р а г о ў* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *З двара патыхае густым* *п а х а м* *разапрэлага* *е л ь н і к у* (Я. Б р ы л ь. Напярэдадні).

б) Гукавыя (слыхавыя) успрыманні дзеяння: *Да слыху Марылькі данёсся дружны* *с т у к   с я к е р,   ш о р г а т   ф у г а н к а ў,   в і з г а т   п і л ы* (У. К р а ў ч а н к а. Палессе). *З в о н   ж а л е з а,   с т у к   м а л а т к о ў, шоргат і скогат, гул   і   т р э с к   г о р н а ў — усё зліваласяў адзіны гук заводскай працы* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Чутны былі — пераліўная т р а с к а т н я   к а л ё с, бязладныя ў д а р ы   с я к е р у розных кутках, ш а р к а н н е   п і л* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Яна ўздрыгвае а д кожнага с к р ы п у   д з в я р э й* (З. Б я д у л я. Салавей). *На полі з раніцы да вечара чуцен ш у м   к а м б а й н а, с т р а к а т а н н е   л а б а г р э е к* (У. К р а ў ч а н к а. Палессе).

Са словамі, якія называюць гукавыя (слыхавыя) або светавыя (зрокавыя) успрыманні, пры пераносным ужыванні могуць спалучацца словы з неканкрэтна-прадметным, адцягненым значэннем: *Адтуль даносіўся г у л   кіпучага   ж ы ц ц я* (К. Ч о р н ы. Максімка). *Навокал хадзіў ш у м   п р а ц ы* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Агнём жыцця я слаўлю шумны горад — п а д   з в о н   з а р ы,   п а д   с п е ў   гуллівы   б у р* (У. Х а д ы к а. Гудуць слупы). *Ён славіў у яе вачах   б л я с к   жаночай хітрай   з а д у м е н н а с ц і* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

Дзеянне, названае галоўным словам гэтых словазлучэнняў, можа ў той жа час быць вынікам або неабходным суправаджэннем з'яў, падзей, абазначаных залежным словам: *З вельмі далёку даходзіў сюды г р у к а т   нейкіх   у з р ы в а ў* (К. Ч о р н ы. Маленькая жанчына). *Г у л   б о ю чуўся выразна з таго боку,   дзе   зайшло   сонца* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

Выражаючы адносіны дзеяння да яго ўтваральніка, якім можа з'яўляцца асоба, канкрэтны прадмет або адцягненае паняцце, словазлучэнні з суб'ектна-азначальнымі адносінамі з'яўляюцца суадноснымі з прэдыкатыўнымі спалучэннямі назоўніка як суб'екта дзеяння і дзеяслова, утворанага ад дзеяслоўнага назоўніка ў адпаведным віда-часавым афармленні: *загад камандзіра — камандзір загадвае, рух пяхоты — пяхота рухаецца, спяванне пеўняў — пеўні спяваюць, гул малатарні — малатарня гудзе, прыгнёт глушыні — глушыня прыгнятае* і інш.

Словазлучэнні, у якіх утваральнікам дзеяння з'яўляецца асоба ці іншая істота або неадушаўлёны прадмет (пры ўжыванні яго ў значэнні адушаўлёнага), могуць замяняцца іменнымі словазлучэннямі з залежнай формай прыналежнага прыметніка; пры гэтым суб'ектныя адносіны пераходзяць у адносіны прыналежнасці: *прыезд бацькі — бацькаў прыезд, расказ дзеда — дзедаў расказ, спеў птушак — птушыны спеў* і інш.

Іменнымі словазлучэннямі з залежнай формай адноснага прыметніка могуць замяняцца і такія словазлучэнні з суб'ектнымі адносінамі, утваральнікам дзеяння ў якіх з'яўляецца неадушаўлёны прадмет або абстрактнае паняцце: *бляск неба — нябесны бляск, пах балота — балотны пах, паварот дарогі — дарожны паварот, стральба кулямёта — кулямётная стральба, смутак душы — душэўны смутак, заваёвы рэвалюцыі — рэвалюцыйныя заваёвы* і інш.

§ 27. Словазлучэнні, якія выражаюць а б'е к т н ы я адносіны, характарызуюцца адносінамі паміж апрадмечаным дзеяннем, названым галоўным словам, і асобай, істотай, прадметам ці з'явай, на якія накіравана гэта дзеянне. У ролі галоўнага слова іменных словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі выступаюць пераважна назоўнікі з неканкрэтна-прадметным значэннем, што суадносяцца па сваіх словаўтваральных або семантычных сувязях з пераходнымі дзеясловамі: *адлюстраванне рэчаіснасці, пазнанне жыцця, павышэнне ўзроўню, прапаганда ідэй, разуменне падзей, пошукі будучыні, вызваленне народа, выпрабаванне вернасці, будаўніцтва корпуса, апрацоўка зямлі, сяўба яравых, прыём нарыхтоўкі* і інш. *Значнае месца ў паэзіі Якуба Коласа займае   а п і с а н н е   п р ы р о д ы* (К. К р а п і в а. Жыццё і творчасць-

Якуба Коласа). *Алёша кіравай выра бам супрацьтанкавых снарадаў* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам). *Так пачыналася аднаўленне калгаса* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Засваенне тэхнікі ішло на дзіва пасняхова* (І. Шамякін. Крыніцы). *Пачынаецца асенняя сяўба і копка бульбы* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Разгрузку машыны скончылі ўжо пры святле ліхтароў* (У. Краўчанка. Палессе). *Кашэнне атавы не мае той прывабнасці і паэзіі, што бывае на сенажаці, калі косяць першы раз* (там жа).

Па значэнню і характару адносін такія словазлучэнні суадносяцца з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі, але адрозніваюцца ад апошніх склонавай формай залежнага слова. У дзеяслоўных словазлучэннях у адрозненне ад іменных пераходныя дзеясловы патрабуюць не роднага, а вінавальнага склону без прыназоўніка, параўн.: *адлюстраванне рэчаіснасці — адлюстраваць рэчаіснасць, пазнанне жыцця — пазнаць жыццё, апісанне прыроды — апісаць прыроду.*

Пераход роднага аб'екта ў вінавальны аб'екта пры замене іменнага словазлучэння дзеяслоўным адбываецца і тады, калі ў ролі залежнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць адушаўлёныя назоўнікі, якія па канчатках вінавальнага склону супадаюць з канчаткамі роднага склону: *выхаванне школьнікаў — выхаваць школьнікаў, догляд коней — дагледзець коней, даенне кароў — даіць кароў, кармленне свіней — карміць свіней* і інш. *За пражаю вяліся доўгія і нудныя гаворкі з просценькімі жартамі, з абгаворамі суседзяў* (К. Чорны. Свята працы і свету). *Даенне кароў было даручана спецыяльна вылучаным для гэтага васьмі жанчынам* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Асобнае месца ў гэтай групе займаюць словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляюцца асабовыя назоўнікі на *-нік, -чык, -шчык,* утвораныя ад пераходных дзеясловаў. Побач з аб'ектным значэннем яны выражаюць таксама адносіны да суб'екта (утваральніка) дзеяння: *будаўнікі новага жыцця, перакладчыкі кніг, скупшчыкі пушніны, прыёмшчыкі нарыхтовак* і інш. *Дык вось, паказваючы новых людзей, будаўнікоў новага жыцця, новай культуры, трэба паказаць і тыя працэсы, што адбываюцца ў іх і навокал іх* (К. Чорны. Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства). *Падпальшчыкі новай вайны, злавесныя цені-пачвары, употай рыхтуюць пажары, народам куюць кайданы* (Я. Колас. Савецкай Арміі).

Пры замене названых словазлучэнняў суадноснымі ім дзеяслоўнымі словазлучэннямі адносіны суб'ектнасці страчваюцца і ўзнаўляецца чыста аб'ектнае значэнне, а замест формы роднага склону залежнага назоўніка ўжываецца форма вінавальнага склону: *будаўнікі жыцця — будаваць жыццё, перакладчыкі кніг — перакладаць кнігі* і інш.

Калі ў ролі галоўнага слова іменных словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі выступаюць назоўнікі, суадносныя па сваіх словаўтваральных або семантычных сувязях з ускосна-пераходнымі дзеясловамі, то пры замене іменных словазлучэнняў дзеяслоўнымі ў апошніх захоўваецца не толькі характар сінтаксічных адносін, але і склонавая форма залежнага слова: *просьба дапамогі — прасіць дапамогі, боязь цяжкасцей — баяцца цяжкасцей, пазбаўленне правоў — пазбавіць правоў* і інш. *І сэрца зноў забілася гарачай прагай працы* (П. Глебка. Будаўнікі). *Гэта не ёсць мая пустая цікаўнасць, гэта жаданне блізасці з гэтым чалавекам* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Вялікая просьба ратунку была ў Косцікавым голасе* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Яна, прызнацца, адчувала тут страх глушы і адзіноцтва* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Некаторыя з гэтых словазлучэнняў суадносяцца з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі па значэнню, але адрозніваюцца

па форме залежнага слова: *спадарожнік удачы — спадарожнічаць удачы, кіраўнік атрада — кіраваць атрадам, удзельнік алімпійскіх гульняў — удзельнічаць у алімпійскіх гульнях* і інш.

§ 28. Словазлучэнні, у якіх сувязь галоўнага слова з дзеясловам з'яўляецца семантычна аслабленай або названае галоўным словам дзеянне характарызуецца з боку яго якаснай ацэнкі, выражаюць якасна-азначальныя адносіны з аб'ектным адценнем: *выраз спалоху, выгляд абыякавасці, стан непрытомнасці, адбітак радасці, адчуванне незадаволенасці, позірк дакору* і інш. *Пачуццё нейкай незвычайнай прыўзнятасці, радасці ахапіла Марыльку* (У. Краўчанка. Палессе). *Ціхая ўсмешка радасці прайшла па яе твары* (К. Чорны. Ірынка). *Гэта не быў крык ратунку, а крык пагрозы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Буйны, моцны і разам з тым маладжавы твар насіў адбітак працы інтэлекту* (там жа). *З працы рук сяк-так перабівайся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 29. Словазлучэнні з залежным назоўнікам у форме давальнага склону без прыназоўніка выражаюць азначальныя або аб'ектныя адносіны з рознымі адценнямі значэнняў.

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, не суадносныя па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з дзеясловам, або сувязь якога з дзеясловам рэальна існуе, аднак лексічна з'яўляецца аслабленай, выражаюць азначальныя адносіны з адценнямі аб'ектна-суб'ектных значэнняў або з адценнем прызначэння: *аснова пазнанню, песні жыццю, дань памяці* і інш. *Сярод гэтай супольнай песні вясне і жыццю адзін голас найбольш крануў сэрца маладой хвойкі* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Гэта — скромная дань футбольнай камандзе, што варочаецца з баявога поля* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Гэта была яго ахвяра сумленню* (Я. Колас. Малады дубок). *А шчасцю нашаму імя — савецкая краіна* (П. Глебка. Размова аб шчасці).

Азначальныя адносіны прызначэння асабліва яскрава праяўляюцца ў іменных словазлучэннях з залежным адушаўлёным назоўнікам: *гасцінец дзецям, памятка вадзіцелю, спяцоўкі мулярам, касцюмы спартсменам, авёс коням* і інш. Па значэнню такія словазлучэнні сінанімічны прыназоўнікава-іменным словазлучэнням з прыназоўнікам *для* (гл. § 57): *інструкцыя эксплуатацыйнікам — інструкцыя для эксплуатацыйнікаў, льготы інвалідам — льготы для інвалідаў* і інш. *Што гэта? Стрэл паляўнічы? Ці знак таямнічы? Можа, сігнал пагранічнікам?* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Гэта дар яго сыну і жонцы-ўдаве* (там жа). *Пенсія настаўнікам была надта малая* (Я. Колас. У палескай глушы). *Работа жанкам на жніве была цяжкая* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка). *Пажнуць траву на корм цяляці* (Я. Колас. Новая зямля). *Мёд разліваюць тыя гмахі. Віно найлепшае і ром, як плата шчырая касцом* (там жа).

Словазлучэнні з давальным склонам назоўніка могуць абазначаць, акрамя таго, стан, у якім знаходзіцца асоба, выражаць якасную характарыстыку або зварот, адрасаваны асобе, прадмету, указваць на ацэнку прадмета, яго меру: *Бяда падарожнаму гэткай парою дарогу вялікую перабываць* (Я. Купала. Зімою). *Гонар і слава людзям, якія бадзёра, няспынна і няўхільна крочаць да вялікай мэты — да камунізма* (К. Крапіва. Аб характары беларуса). *Чэсць і хвала чэлюскінцам!* (Я. Колас. Слава ім, слава!). *Паклон буйным хвалям тваім, надрэчным садам, караблям. Паклон карпусам завадскім, гранітным тваім берагам* (А. Русак.

Паклон табе нізкі, Нява). *Мір жа новаму, цёпламу дому! Слава добрая будаўнікам, клапатліваму сэрцу людскому і людскім працавітым рукам!* (П. Глебка. Новы дом). *Ён ведаў цану рэчам* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Калі ў ролі галоўнага і залежнага слоў выступаюць адушаўлёныя назоўнікі, што абазначаюць асоб, то іменныя словазлучэнні з давальным склонам выражаюць адносіны паміж асобамі, указваючы на тое, кім з'яўляецца або прыходзіцца асоба, названая галоўным словам, у адносінах да другой асобы, названай залежным словам: *Салдат рабочаму, безумоўна, таварыш!* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Я народу сын, брат!* (Цётка. Пад штандарам). *Ён не муж дзяўчыне, не каханак. А яна яму, як светлы ранак, як юнацкі непаўторны свет* (А. Куляшоў. Бюро даведак). *«А мы павінны новую атаку адбіць, хлапцы, любой цаной адбіць, абы, сябры, пад Гітлерам не быць: кат ён паляку, кат і крэсавяку* (А. Зарыцкі. Пяцёра).

У аналагічных спалучэннях адушаўлёнага назоўніка з неадушаўлёным выражаюцца адносіны паміж асобай і прадметам з указаннем на тое, кім з'яўляецца асоба ў адносінах да прадмета: *Скнарэцкі — гаспадар свайму дому* (К. Крапіва. Вайна). Пры пераносным ужыванні такія словазлучэнні набываюць устойлівае значэнне: *гаспадар свайму слову.*

Сувязь залежнага слова з галоўным у названай групе іменных словазлучэнняў не заўсёды прамая, непасрэдная і не заўсёды вынікае з лексічнага значэння галоўнага слова. У радзе выпадкаў яна абумоўліваецца адносінамі да дзеяслоўнага або іменнага выказніка: *Перапечка хутка зазірнуў у твар Лаўрэну* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Ссунуў дзядзька Марцін шапку на лоб, патыліцу пачухаў, а потым у вочы старасце зірнуў* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Папасці ў такт шарманцы* (К. Чорны. Максімка). *Адгэтуль разлегласць воку была вялікая* (К. Чорны. Трыццаць год).

Праз адносіны да іменнага выказніка і толькі ў структуры сказа магчыма спалучэнне асабовых назоўнікаў з асабовымі займеннікамі тыпу *сваяк мне, не дачка яму.* Самі ж па сабе гэтыя словы ў формах назоўнага і давальнага склонаў не ўтвараюць словазлучэння. *«Пан Вольскі мне друг?» — запытаўся пан Вашамірскі* (З. Бядуля. Салавей). *Ты вораг мне* (З. Бядуля. З сказаў буры і віхораў). *Там кожны хвойнік мне сваяк* (Я. Колас. Загібелька). *А цяпер ён аднёсся да гэтага так, як бы гэта Дося яму не дачка* (К. Чорны. Хвоі гавораць).

§ 30. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, суадносныя па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з дзеясловам, выражаюць аб'ектныя адносіны з азначальнымі адценнямі. Гэтыя словазлучэнні могуць абазначаць асобу або групу асоб, прадметы, паняцці, на якія накіравана дзеянне або для якіх яно адбываецца: *дапамога фронту, загад насельніцтву, адказ таварышу, садзейнічанне пацярпеўшым* і інш. *Што ж, у дарогу, Марына! Дадому, Максім! На дапамогу бацькам і калгасам сваім!..* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Адным словам, чалавек гэты быў сын свайго народа і свае зямлі, дзе жывуць і пашана да чалавека, і спачуванне чужому гору* (К. Чорны. Расплата). *Адказваць будзеш за супраціўленне начальству* (Я. Колас. Стараста). *Гэтая стараннасць, гэтае шчырае адданне навуцы вывелі яе і тут на першае месца ў класе* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Галоўным словам гэтых словазлучэнняў часам з'яўляюцца асабовыя назоўнікі, утвораныя ад дзеяслова: *Скуратовіч раптам пакінуў граць ролю ласкавага спачувальніка Міхалкавым інтарэсам* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі звычайна суадносяцца па значэнню і форме з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі: *дапамога фронту — дапамагаць фронту, спачуванне гору — спачуваць гору* і інш. У радзе выпадкаў іменныя словазлучэнні могуць супадаць з адпаведнымі дзеяслоўнымі па значэнню, але адрозніваюцца па форме залежнага слова: *апраўданне пачуццям — апраўдаць пачуцці, адказы пытанням — адказаць на пытанні* і інш. *Яна знайшла апраўданне сваім пачуццям* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Ён стараўся вызваць яго на гутарку, на адказы пытанням* (Ц. Гартны. На перагібе).

Сувязь залежнага слова з галоўным іншы раз выяўляецца праз адносіны да дзеяслоўнага або іменнага выказніка: *Яна нават своеасаблівым парадкам давала ацэнкі некаторым справам і людзям* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Юрка нават колькі разоў збіраўся ісці на ўзгорак, на спатканне маме* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Цяпер, на падмен бацьку і дзядзьку, я чытаю ўголас дома і на вячорках моладзі і мужчынам* (Я. Брыль. У сям'і). *На падмогу лесарубам прыехалі вазюры* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 31. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць адпрыметнікавыя назоўнікі, таксама характарызуюцца аб'ектнымі адносінамі з азначальнымі адценнямі. Галоўнае слова ў іх можа абазначаць якасную прымету, стан, уласцівасць тых прадметаў або паняццяў, якія названы залежным словам: *непадатлівасць апрацоўцы, няўступчывасць патрабаванням, добразычлівасць людзям* і інш. Гэтыя словазлучэнні суадносяцца па значэнню і форме з адпаведнымі аб'ектнымі словазлучэннямі, параўн.: *прыналежнасць калектыву — прыналежны калектыву, варожасць сілам вайны — варожы сілам вайны, удзячнасць таварышу — удзячны таварышу* і інш. *Самай каштоўнай з гэтых якасцей з'яўляецца беззаветная адданасць сваёй Сацыялістычнай Радзіме* (К. Крапіва. Аб характары беларуса). *Я вярнуўся затым, каб засведчыць усім вернасць марам сваім, як жыццё, маладым* (А. Куляшоў. Кожны мае свой бор...). *Гэта была самая крайняя процілегласць мельніку і постаццю і голасам* (К. Чорны. Мельнікі). *Ад бяздзеяння, нуды і зайздрасці здаровым таварышам камандзір стаў неспакойны, прыдзірлівы* (Я. Брыль. Напярэдадні).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 32. Словазлучэнні з творным прыйменным, які адносіцца да галоўнага слова — назоўніка, несуадноснага па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з іншымі часцінамі мовы і ў першую чаргу з дзеясловам, звычайна выражаюць азначальныя адносіны з адценнямі аб'ектна-акалічнасных значэнняў. Гэтыя словазлучэнні не вызначаюцца разнастайнасцю сваіх значэнняў; яны нешырока прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Імі, у прыватнасці, могуць абазначацца:

а) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія параўноўваюцца паводле знешняга падабенства або характару выяўлення прымет з іншымі канкрэтнымі прадметамі, названымі залежным словам, або якія характарызуюцца па тэхніцы іх выканання, апрацоўцы, мастацкаму афармленню і г. д.: *барада клінам, шчацінне вянком, партрэт акварэллю, карціна маслам, малюнак алоўкам, раман вершам* і інш. *Вострая бародка сівым трыкутнікам наперад нібы працярэблівае сабе дарогу ў паветры* (З. Бядуля. Салавей). *На партрэце адна галава з валасамі вожыкам і з доўгімі маржовымі вусамі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Нос гарбінкай і касмылістыя бровы надавалі суровы выгляд яго твару* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Белавусы, сінявокі, сарочка распраз-*

*кай, выйшаў канавал Сёмка Ямкавы на вуліцу* (К. Чорны. Вяско-
вая ветэрынарыя). *Гляджу на поле я, на дол, на нівы доўгія шнура-
мі, што скрозь ляжаць перад вачамі* (Ц. Гартны. Песні працы).
Названыя словазлучэнні асабліва часта ўжываюцца ў аднасастаў-
ных безвыказнікавых сказах: *Сівая, выстрыжаная пад дробны кліночак
бародка, выстрыжанае пад машынку сівое шчацінне вянком ка-
ля вушэй і лысіны* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Азызлы твар, чырвоны,
з пляценнем сіне-багровых жылак на шчоках, нос круглай цыбуль-
кай, хітрыя вочкі ў нездаровай пухліне і чорныя пакрышаныя зубы
ва ўсмешцы* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Скараспелкай-
бульбінкай нос, шызы з чырванню* (М. Лынькоў. «Салавей-
разбойнік»). *Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў*
(К. Крапіва).

Заўвага 1. У сказах з апушчаным выказнікам азначальныя адносіны паміж га-
лоўным і залежным словамі іменных словазлучэнняў з творным склонам назоўніка
могуць дадаткова ўскладняцца прэдыкатыўнымі адносінамі, а ў радзе выпадкаў і замя-
няцца апошнімі, калі творны прыйменны пачынае выконваць у сказе функцыю выказні-
ка: *І дзеткі ёсць у Сяргея Пятровіча — двойка. Дочка — тварык дробненькі, невыразны,
носік цыбулькаю* (К. Крапіва. Смерць). *Цераз руку сярпок серабрысты, на
грудзях пералівамі косы* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Русы чуб звесіўся
з-пад казырка на лоб. Нос курносінкай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыка-
дах). *Вочы ў яго вострыя, пранікаючыя, бародка — клінам* (З. Бядуля. Тры
крыжыкі). *Вось па вуліцы дзяўчына, кудры — шапкаю* (К. Крапіва. Здарэнне
на вуліцы). *Дарога бегла між палеткаў; туман над ёю — сіняй сеткай* (П. Трус.
У семнаццаты год). *Поле ва ўзгорках ад бору да бору, жыта трубою, пшаніца,
як гай* (А. Астрэйка. Край беларускі).

Заўвага 2. Словазлучэнні з творным прыйменным могуць быць сінтаксічна або
сэнсава непадзельнымі і выконваюць у сказе ролю аднаго пэўнага члена сказа, звычайна
выказніка або акалічнасці спосабу дзеяння: *Мая Каштанка, як на злосць, хвост тру-
бой і пайшла* (Я. Брыль. Дзяўчынанька чарнаброва). *Ён сярэдняга росту, сухі, з сі-
вымі рэдкімі валасамі на галаве і бародкай клінком* (І. Гурскі. У агні). *Ідзе
важна, з нагі на нагу — твар арлом, грудзі — барабанам* (К. Чорны.
Вясковая ветэрынарыя).

У некаторых выпадках яны могуць выступаць як фразеалагізмы: *Калом зямля
вам, ягамосці!* (Я. Колас. Новая зямля).

б) Грашовыя адзінкі і віды іх рэчыўна-матэрыяльнага выражэння
ці знакавага абазначэння (*рубель золатам, дзесятка серабром*), розныя
віды і прадметы абмену, даніны, падатку (*плата натурай, абмен тава-
рамі, падатак збожжам, пошліна грашамі*) і г. д.: *Адараюць хлопца
шчыра і грашыма і дабром, а Грамыка даў паўсыра і дзесятку
серабром* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Тавару было на тры
тысячы золатам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Цэлых тысячу
рублёў даў чырвонцамі за шэсцьсот золатам* (К. Крапіва.
Вайна). *Адна жабіна лапка каштавала два рублі золатам*
(Я. Маўр. Сын вады). *Дзесяць тысяч грашыма, вось — вяль-
можны пасаг* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Пакупец пачаў адліч-
ваць яму грошы папяровымі маркамі* (Я. Колас. Дрыгва). *Пры-
носяць шмат ахвяр палатном, салам, збожжам і граш-
мі* (З. Бядуля. У глушы). *Цярэшка так прывык да такой даніны
натурай, што без яе было трохі сумна* (З. Бядуля. Язэп
Крушынскі).

Сувязь формы творнага склону назоўніка з галоўным словам гэтых
словазлучэнняў можа выяўляцца не прама, а праз адносіны да дзея-
слоўнага выказніка: *Трапятала жывёла, дрыжэлі звяры, і даніну
пушнінай плацілі яму* (З. Бядуля. Мурашка Палашка). *Хабары
бярэш у каго толькі пападзецца, трошніцамі, пяцёркамі, дзе-
сятухамі і больш* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Побач з азначальнай функцыяй творны прыйменны ў адносінах
да галоўнага слова можа выконваць абмежавальную функцыю,
называючы асобу па ўласцівай ёй прымеце характару, паходжан-
ню і г. д.: *казак душой, волат духам, мешчанін светапоглядам,*

*мінчанін родам, пралетарый паходжаннем* і інш. Узнікненне такіх спалучэнняў звязана са структурнымі своеасаблівасцямі сказа, сінтаксічна яны не заўсёды з'яўляюцца свабоднымі. *Хто не любіць свае краіны, не клапоціцца аб бяспецы свае дзяржавы, той жабрак духам* (І. Гуркі. У агні). *Фельчар родам быў селянін* (З. Бядуля. Панскі дух).

§ 33. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, суадносныя па сваіх словаўтваральных і семантычных сувязях з дзеясловам, выражаюць аб'ектныя адносіны з азначальнымі адценнямі. Залежнае слова ў іх можа абазначаць:

а) аб'ект кіравання, авалодання, уладання: *рэгуляванне прыборамі, авалоданне майстэрствам, уладанне маёмасцю* і інш. *Яму і даверылі кіраванне калгаснымі справамі і свае працавітыя рукі* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Аўладанне тэхнікай ні ў якім разе не павінна адрывацца ад працы над глыбокім зместам* (К. Чорны. Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў). *Барацьба за якасць літаратурных твораў уздымае, як адну з першачарговых задач, — авалоданне майстэрствам, дасягненне дасканалай літаратурнай формы* (Я. Колас. Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову).

Заўвага. Для словазлучэнняў, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць аддзеяслоўныя асабовыя назоўнікі на *-нік, -чык,* характэрна ўжыванне залежнага назоўніка ў форме роднага склону (*кіраўнік гуртка, загадчык сектара* і інш., гл. § 27). Паасобныя выпадкі ўжывання пры гэтых назоўніках залежнага назоўніка ў форме творнага склону з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы: *Ён паклікаў загадчыка парткабінетам Вараб'ёва і інструктара Шапавалава* (І. Шамякін. Крыніцы). *Як чысцілі загадчыка культасветнай працай на заводзе, Явіч папрасіў слова і пачаў гаварыць* (К. Чорны. Спатканні з аспаватым чалавекам).

Аднак ужыванне пры аддзеяслоўным асабовым назоўніку *камандуючы* залежнага назоўніка ў форме творнага склону з'яўляецца літаратурнай нормай: *Камандуючы корпусам сеў у машыну і паехаў у Брэст* (І. Гуркі. У агні).

б) Прадмет надзялення, узнагароды: *надзяленне зямлёй, узнагарода граматай, дапамога медыкаментамі* і інш. Ролю галоўнага слова ў гэтых словазлучэннях могуць выконваць назоўнікі, сувязь якіх з дзеясловам лексічна аслаблена. *Ёй належала процантная надбаўка пры аплаце працадзён натураю* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Сход парашыў выдаць маладзёжнаму звяну процантную надбаўку натураю* (там жа). *Арандатарава сям'я вязе ў далёкі панскі маёнтак збожжа — плата натурай у лік зямельнай арэнды* (К. Чорны. Янка Купала). *На грудзях яго зоркай адзнака* (П. Броўка. Ужо верасень).

в) Прадмет напаўнення, забеспячэння, умацавання: *напаўненне вадой, забеспячэнне прадуктамі, умацаванне тэхнікай* і інш. *Папаўненне вопытнымі кадрамі калгасаў і саўгасаў нашай рэспублікі ўжо дало свае станоўчыя вынікі* (з газет). *Умацаванне кадрамі і забеспячэнне калгасаў тэхнічнай базай — аснова тых выдатных поспехаў, якіх дасягнула наша краіна за параўнальна нязначны прамежак часу* (там жа).

г) Род дзейнасці, службы, занятку, аб'ект увагі, захаплення: *работа слесарам, служба леснікам, захапленне працай* і інш. *За пятнаццаць гадоў работы старшынёю ён, мусіць, упершыню не спяшаўся ўставаць* (А. Кулакоўскі. Не выбралі). *Былі ў яго думкі, пасля прайшоўшага ўзбуджэння, няроўныя яшчэ: то выхваціць яны аднекуль з мінулага абрывак таго пержытага ў маладыя гады — службу ў дварэ парабчуком, то далейшую працу па гарадах і мястэчках* (К. Чорны. Новыя людзі). *Гэта быў местачковы кулак, які нажыў гандлі свіннямі тоўстую кішэню* (Я. Брыль. Марыля). *Цяпер пан Зыгмусь нейк астыў у сваім захапленні зямлёй* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Жыццё не любіць думаць аб смерці,*

*аб няволі, — яму давай размах, лагоду, ап'яненне прасторамі* (Ц. Гартны. На перагібе).

Да гэтай групы належаць таксама словазлучэнні з аддзеяслоўнымі асабовымі назоўнікамі: *Стаяў Хвошч, гандляр хлебам і жывёлай* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Гэтага гандляра мукою можна было часта бачыць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *З кашалямі на руках ішлі сельскія таргоўкі булкамі і піражкамі* (Ц. Гартны. На перагібе).

д) Асобу або групу асоб, якія з'яўляюцца ўтваральнікамі дзеяння: *наведванне* [выстаўкі] *калгаснікамі, прыём* [наведвальнікаў] *дэпутатам, вызваленне Савецкай Арміяй* і інш. Гэтыя словазлучэнні выражаюць суб'ектныя адносіны. Сустракаюцца яны пераважна ў афіцыйных стылях літаратурнай мовы. *У расшчапленні нашымі вучонымі атамнага ядра была нейкая часцінка і тваёй энергіі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Прыём савецкім пасло м дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў Народнай Рэспублікі В'етнам* (з газет).

е) Прадмет, якім утвараецца дзеянне: *пляск вёсламі, стук дзвярамі, грукат ботамі, тупат нагамі* і інш. *Ён здагадаўся, што стук прыкладам — рэч не выпадковая* (Э. Самуйлёнак. Сон). *І зыкі чуюцца пагані, чараўніка і чараўніцы, і лопат крыллямі начніцы* (Я. Колас. Новая зямля). *Рогат у Алеся страшны, як удар абухам па галаве* (К. Чорны. Па дарозе). *«Ну, дык што ж. Міласці просім!» — праказала Юстына, пачуўшы бразг дзвярамі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Не чуваць такту, выстукванне абцасамі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Кожны яе рух, кожны смяшок, кожны бліск вачыма быў разлічаны на эфект* (там жа). *Усе тыя павароты рукамі, нагамі, галавой, якія робіць паненка, перарабляюць і балерыны* (З. Бядуля. Салавей).

ж) Дзеянне і спосаб яго ўтварэння: *касьба рукамі, жніво камбайнам, апрацоўка* [металу] *рэзаннем, вязанне пруткамі* і інш. *Хораша гэта! І старое яно, сяўба рукамі, і новае, наша — агульным насеннем у агульную, у вольную, калгасную зямлю!..* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *На сваёй скуры выведаў усю невыгоднасць малацьбы цэпам* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Цяпер Янук збіраўся перайсці на кладку звяном* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Сюды сабраліся паглядзець, як праводзіцца вопытная пасадка бульбы квадратна-гнездавым спосабам* (А. Стаховіч. Шырокія гарызонты). *На двары ляжалі зграмождженыя разам абы-як школьныя парты і сталы, шафы і чорныя дошкі для пісання мелам* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Трэба ведаць, што Шмулькі манія — гэта прапаганда музыкай, літаратурай, тэатрам* (Цётка. Зялёнка). *Патрэбна змаганне супольнымі сіламі за супольныя мэты* (Ц. Гартны. На перагібе). *Безумоўна, гэта* [мера] *кажацца ў адносінах тых, хто не заслугоўвае на кару смерцю* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

Значна радзей сустракаюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя або азначальна-часавыя адносіны: *прагулка лесам, прагулка раніцою, праца вечарам.* Абазначаючы месца, дзе адбываецца дзеянне, або час, калі яно адбываецца, гэтыя словазлучэнні звычайна замяняюцца сінанімічнымі ім прыназоўнікава-іменнымі словазлучэннямі, словазлучэннямі з дзеясловам у ролі галоўнага слова, а таксама іменнымі словазлучэннямі з залежнай формай адноснага прыметніка: *прагулка лесам — прагулка па (у) лесе, прагуляцца лесам, лясная прагулка; прагулка вечарамі — прагулка па вечарах, прагуляцца вечарам, вячэрняя прагулка* і інш.

Семантычная суадносасць з іншымі тыпамі словазлучэнняў уласціва таксама і астатнім названым вышэй групам канструкцый з творным прыйменным. Так, іменныя словазлучэнні з аддзеяслоўным назоўнікам

ў ролі галоўнага слова (акрамя словазлучэнняў з суб'ектнымі адносінамі) суадносяцца па значэнню і форме з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі, параўн.: *кіраванне гаспадаркай — кіраваць гаспадаркай, забеспячэнне прадуктамі — забяспечыць прадуктамі, захапленне працай — захапляцца працай, сяўба рукамі — сеяць рукамі.*

Словазлучэнні, якія выражаюць суб'ектныя адносіны, з'яўляюцца сінанімічнымі прэдыкатыўным спалучэнням з намінатыўнай формай асабовага назоўніка, параўн.: *наведванне выстаўкі калгаснікамі — калгаснікі наведалі выстаўку, прыём дэлегацыі паслом — пасол прыняў дэлегацыю.*

§ 34. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі, утвораныя ад асновы якасных прыметнікаў, у сучаснай беларускай літаратурнай мове сустракаюцца рэдка. Яны, як і адпаведныя ад'ектыўныя словазлучэнні, выражаюць аб'ектныя адносіны з адценнем абмежавання: *Гэта была самая крайняя процілегласць мельніку і постаццю і голасам, толькі ў твары Кірылкі было нешта агульнае* (К. Чорны. Мельнікі). *Працаваць перашкаджае загружанасць цэхаў сыравінаю* (К. Чорны. Браты).

## ПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 35. Прыназоўнікава-іменныя словазлучэнні з залежным назоўнікам складаюць шматлікі і семантычна разнастайны тып іменных канструкцый, што абумоўліваецца шырокім кругам прыназоўнікаў, якія выступаюць пры склонавых формах назоўнікаў, і разнастайнасцю іх значэнняў. Выконваючы ў структуры сказа функцыю ўказання на сінтаксічныя адносіны паміж спалучальнымі словамі, прыназоўнікі ў той жа час не абмяжоўваюцца роляй фармальных паказчыкаў гэтых адносін: яны прыўносяць у іменныя канструкцыі сваё значэнне і разам з галоўным (кіруючым) словам вызначаюць склон залежнага назоўніка. Па гэтай прычыне прыназоўнікавыя і адпаведныя ім беспрыназоўнікавыя іменныя словазлучэнні, з'яўляючыся ў радзе выпадкаў сінанімічнымі паміж сабою па характару сінтаксічных адносін, не ідэнтычны апошнім па адценнях выражаемых імі значэнняў, параўн.: *калгаснікі з Украіны — калгаснікі Украіны, след ад калёс — след калёс, вынікі за квартал — вынікі квартала, слёзы ад радасці — слёзы радасці, майстар на выдумкі — майстар выдумак, вопыт у рабоце — вопыт работы, урывак з аповесці — урывак аповесці, тэкст для дыктанта — тэкст дыктанта, будан для начлежнікаў — будан начлежнікаў, дружба паміж народамі — дружба народаў.*

Не наглядаецца поўнай тоеснасці ў адценнях значэнняў таксама паміж прыназоўнікавымі іменнымі словазлучэннямі і словазлучэннямі з залежным адносным прыметнікам. Апошнія вызначаюцца перавагай якасна-азначальных адносін, параўн.: *будынак з цэглы — цагляны будынак, чалавек з вёскі — вясковы чалавек, спадчына ад бацькоў — бацькоўская спадчына, пісьмо ад брата — братава пісьмо, цацкі для дзяцей — дзіцячыя цацкі, паездка па Крыме — крымская паездка, гульня ў шахматы — шахматная гульня, дарога на Маскву — маскоўская дарога, вынікі за год — гадавыя вынікі, паліто на ваце — ватняе паліто, тэма аб вытворчасці — вытворчая тэма.*

Залежны назоўнік у прыназоўнікава-іменных канструкцыях можа выступаць у розных ускосных склонах, аднак не ўсе з іх у аднолькавай меры з'яўляюцца ўжывальнымі пры галоўным слове — назоўніку. Найбольшай прадуктыўнасцю вызначаюцца словазлучэнні з родным склонам залежнага назоўніка, якія ўжываюцца з вялікай колькасцю прыназоўнікаў і выражаюць разнастайныя значэнні. Шырока прадстаўлены ў мове і багатыя па значэнню прыназоўнікава-іменныя словазлу-

чэнні з вінавальным, творным, месным склонамі назоўнікаў. Да ліку малаўжывальных належаць іменныя словазлучэнні з давальным склонам залежнага назоўніка. Абмежаваны гэтыя словазлучэнні і па сэнсавых адценнях.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 36. З родным склонам назоўніка ў прыйменным яго ўжыванні могуць выступаць прыназоўнікі *з(са), з-за, з-пад, ад, да, для, дзеля, без, у(ва), паміж (між)*, вытворныя адпрыслоўныя прыназоўнікі *каля(ля), абапал (паабапал, наабапал), вакол (навокал, навакол, наўкола), воддаль, паблізу, побач, збоку, сярод (пасярод), пасярэдзіне, узбоч, убок, углыб, паверх, усцяж, уздоўж (удоўж), услед, супраць, насупраць, насустрач (насустрэчу), паводле, замест (узамен), напярэдадні, пасля, адносна*, вытворныя адыменныя прыназоўнікі *наконт, па часці, па лініі, па меры, у меру, у сэнсе, у адносінах, у справе, у галіне, у парадку, у форме, у святле, у ролі, у асобе, з боку, на чале, з выпадку, з прычыны, з повада, у сілу, у знак, у чэсць, у карысць, у імя, у мэце, з мэтай, у інтарэсах, пры дапамозе, з дапамогай, у напрамку, у кірунку, у час (у часе), на працягу, у выніку*, у тым ліку складаныя: *у адносінах да, у дачыненні да, у дастасаванні да, у залежнасці ад, у адрозненне ад, у напрамку да, па шляху да* і інш.

У залежнасці ад значэння кожнага з названых прыназоўнікаў і лексічнага значэння назоўнікаў, што выступаюць у ролі галоўнага і залежнага слоў, у гэтых прыназоўнікава-іменных канструкцыях выражаюцца разнастайныя сінтаксічныя адносіны.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з(са)*

§ 37. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з(са)* выражаюць розныя віды азначальных адносін — адносіны да матэрыялу, рэчыва, саставу, паходжання, адносіны азначальна-вылучальныя, абмежавальныя, прасторавыя і часавыя.

Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да матэрыялу або рэчыва, з якога зроблены ці прыгатаваны прадмет, названы галоўным словам, пераважна складаюцца з назоўнікаў канкрэтна-прадметнай семантыкі: *дом з сасны, крэпасць з жалезабетону, скрынка з кардону, трос са сталі, занавеска з палатна, бліны з мукі* і інш. *З жалеза прасніца надзеліць сукном і шоўкавым кужэлем сваіх сялян, сваіх рабочых* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...). *Малойцы Сцяпана адпачываюць на пасцелях з імху і сена* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *За тонкай перагародкай з фанеры стукалі пішучыя машынкі* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Нічога цяжкага не даваць есці. Паранае малако, лёгкі малочны крупнік, кампот з груш і яблык* (П. Пестрак. Муж і жонка).

У паасобных выпадках у ролі галоўнага або залежнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць назоўнікі з адцягненым, неканкрэтна-прадметным значэннем: *Бровы надавалі верхняй палове твару выгляд цвёрдай вытачанасці з каменя* (К. Чорны. Звяга). *Думаю пасля, адчуўшы стому, што і тут, пад дахам з сінявы, я жыхар і вуліцы і дому, ад якога... блізка да Масквы* (А. Куляшоў. Вуліца Маскоўская).

Калі галоўнае і залежнае словы названых словазлучэнняў маюць адцягненае значэнне, то словазлучэнне набывае метафарычны, іншасказальны характар: *спляценне са здагадак, бар'ер з хітрасцей* і інш.

Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны да матэрыялу, з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з прыметнікамі, хоць поўнай

тоеснасці ў адценнях значэнняў тут не наглядаецца. Словазлучэнні з родным прыйменным выражаюць адносіны да матэрыялу больш дакладна і поўна, чым адпаведныя словазлучэнні з прыметнікамі, якія ў гэтым выпадку заўсёды ўскладняюцца адценнем якаснай ацэнкі, параўн.: *бюст з бронзы — бронзавы бюст, касцюм з шэрсці — шарсцяны касцюм, квас з хлеба — хлебны квас, настойка з вішань — вішнёвая настойка.* Да таго ж пры залежным назоўніку прыназоўнікава-іменных канструкцый могуць ужывацца паясняльныя члены, якія ў радзе выпадкаў выступаюць у якасці структурна неабходных кампанентаў цэлай канструкцыі: *Блішчаць іх шыбы з чырвонага, сіняга, жоўтага шкла* (М. Багдановіч. Гарадок). *У вушанцы з зайцовай скуры, у кажушку, падпяразаным поясам, ён падобны ні то да лесніка, ні то да фурмана* (П. Пестрак. Пачатак). *На магіле ляжыць просты вянок з жывых кветак Палесся* (Я. Колас. Дрыгва). *Дзьмухнуў халаднаваты вецер і расхінуў не зашпілены на гузікі новы даматканы халат з чорнага, як жучок, сукна* (Р. Мурашка. Сын).

Заўвага. Словазлучэнні, у якіх адносіны да матэрыялу выражаюцца формай роднага склону назоўніка без прыназоўніка (*паліто карычневага драпу, касцюм сіняй шэрсці*), для сучаснай беларускай літаратурнай мовы мала характэрны, хоць часам і сустракаюцца ў мастацкіх творах паасобных пісьменнікаў: *Другі таксама быў у чорнай вушанцы, амаль у новай чорнага драпу курткы* (П. Пестрак. Пачатак).

§ 38. Словазлучэнні з азначальнымі адносінамі саставу ўтвараюцца з назоўнікаў, якія абазначаюць канкрэтныя складаныя прадметы або сукупнасць аднародных прадметаў ці жывых істот, і слоў са значэннем колькасці — звычайна колькасна-іменных спалучэнняў: *дзверы з дзвюх палавін, шкаф з трох створак, сям'я з пяці чалавек, каманда з адзінаццаці ігракоў, калона з дваццаці аўтамашын* і інш. *Ён далучыўся да групы з трох чалавек* (Я. Колас. Макарка Навак). *Конны атрад з трыццаці чалавек рыссю імчаўся па лясному шляху* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Аркестр з васьмі чалавек прыгонных ён адкупіў у суседняга пана Ваяводскага* (З. Бядуля. Салавей). *Яго абоз з трох вазоў сена і трох вазоў дроў рассеяны ў адзіночкі між іншымі вазамі сена і дроў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Праворны цыркач... пагразіў адразу ж пакінуць межы горада, калі яму не дадуць у бліжэйшыя дні кватэры з чатырох пакояў* (І. Мележ. Дом на праспекце).

Заўвага. Пры выражэнні недакладнасці ліку залежны назоўнік колькасна-іменнага спалучэння займае прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да лічэбніка залежнай часткі: *сям'я чалавек з пяці, абоз з вазоў чатырох* і інш. Аднак у радзе выпадкаў гэты лічэбнік не ставіцца ў форме таго склону, якога патрабуе ад яго кіруючае слова: *Каля касы вырасла непрыкметна чарга чалавек з дваццаць* (І. Мележ. На Прыпяці). *Сярод гор пясчаных ды панскіх лясоў расселася вёска з якіх хат са сто* (Я. Купала. Нікому).

§ 39. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны паходжання, складаюць прадуктыўны і семантычна разнастайны тып прыназоўнікава-іменных канструкцый. Сярод іх вылучаюцца:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу (асоб), а залежнае слова — населены пункт або мясцовасць, адкуль паходзіць гэта асоба ці дзе пражывае: *кліент з горада, рабочы з пасёлка, прадстаўнік з раёна, камісія з вобласці* і інш. *Тамаш лячыўся ў фельчара з блізкага мястэчка* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Вечарам прыйшоў ад сястры з вёскі ліст* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Так тлумачыў Андрэю дарогу пасланец з цэнтра* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Агульная родавая назва гэтых словазлучэнняў (*горад, сяло, вёска* і інш.) можа быць канкрэтызавана ў залежнай прыйменнай частцы ўласнай індывідуальнай назвай: *рабочы з горада Мінска, інжынер з пасёлка Урэчча, трактарыст з сяла Коласава* і інш. *Панасюк*

*па голасу пазнае старога* *С ы м о н а з в ё с к і Г л а д ы ш о ў* (З. Б я д у л я. Маці).

У паасобных жа выпадках родавая назва ў залежнай прыйменнай частцы наогул адсутнічае і ўжываецца толькі індывідуальная назва населенага пункта: *аграном з Заполля, лектар з Мінска, дзяўчына з Нізоўкі* і інш. *Тут напісана імя і прозвішча х л о п ц а з П р у ц і к а ў* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне). *Ад аднаго п е р а б е ж ч ы к а з Ж о ў т ы х П я с к о ў Міхалка даведаўся, што польскія жандары білі яго старога бацьку* (З. Б я д у л я. Год за годам). *А хто гад найгоршы— дык с т р а ж н і к з З а п о л л я!* (Цётка. Лясы).

Да гэтай групы адносяцца таксама словазлучэнні, ролю залежнага слова якіх выконваюць архаізмы *маёнтак, фальварак, двор* і інш.: *Мне насустрач выйшаў з лесу п а с т у ш о к з ф а л ь в а р к а* (З. Б я д у л я. Навагодняя ёлка). *Па-рознаму тлумачылі ёй с у с е д к і з б л і з к і х м а ё н т к а ў гэты дзіўны сон* (З. Б я д у л я. Салавей). *У п а н і з д в а р а незвычайнае вока* (З. Б я д у л я. Бондар).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу або групу асоб, а залежнае слова — установу, прадпрыемства, арганізацыю, да якой яны належаць. Назвы гэтых устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый асабліва часта канкрэтызуюцца ў залежнай прыйменнай частцы living рознымі відамі азначэнняў: *інспектар з аблана, настаўнік з Дзяржынскай сярэдняй школы, артысты з тэатра імя Янкі Купалы, рабочыя з мэблевай фабрыкі, калгаснікі з калгаса «Камунар», інструктар з парткома* і інш. *Яго выпрацоўка стала куды большая, чым у іншых х л о п ц а ў з б р ы г а д ы* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Прабеглі каля Аксінні к а б е т ы з я е з в я н а* (А. К у л а к о ў с к і. У Чырвоным возеры). *Т а в а р ы ш ы з а т р а д а, прыміце дзеда ў часць, я ведаю, спагады ён ворагу не дасць* (П. Г л е б к а. Калгасны вартаўнік). *Казлоў і Бондар былі с а л д а т а м і з яго ў з в о д а* (І. М е л е ж. У завіруху). *Пачаліся даклады д э л е г а т а ў з з а в о д а* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *У касавіцу к а с ц ы з «Ч ы р в о н а й в а р т ы» падыходзяць да самай граніцы* (З. Б я д у л я. Нупрэйка).

Да названай групы набліжаюцца таксама словазлучэнні, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць назоўнікі, што абазначаюць персанажаў, дзеючых асоб з тых ці іншых мастацкіх твораў, герояў з кінакарцін, опер і г. д.: *персанажы з коласаўскіх аповесцей, героі з кінакарціны «Чырвонае лісце», дзеючыя асобы з оперы «Дзяўчына з Палесся»* і інш. *Сямён Ракопавіч успамінаў г е р о я ў з л і т а р а т у р ы, з т э а т р а, з к і н о* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае істот (не асоб), а залежнае слова—месца, адкуль яны паходзяць: *слон з Індыі, кенгуру з Аўстраліі, птушкі з лясоў, рыба з рэк* і інш. *У звярынцы надзвычай многа з в я р о ў з А ф р ы к і і П а ў д н ё в а й А м е р ы к і* (з газет).

г) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае якія-небудзь неадушаўлёныя прадметы або паняцці (некаторыя з іх звязаны з гукавымі (слыхавымі) або зрокавымі ўспрыманнямі), а залежнае слова — іх паходжанне: *фрукты з поўдня, бульба з агарода, рэха з гор, гудок з завода, крык з грудзей, водбліскі з паднябесся* і інш. *Наскуб сена, а с а к і з л у г у, дадаў бярэма мурагу, каб хоць на першы раз не крыўдавала скаціна на новага гаспадара* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Калі-нікалі ім пападаліся і я б л ы ч к і з графскага с а д у* (З. Б я д у л я. Фрося). *Кавалкі шэрсці і іншая д р о б я з ь з з а г р а н і ц ы схавана ў айца Дзімітрыя* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ш у м з в у л і ц ы напоўніў кватэру* (там жа). *Г о л а с з левага ф л а н г а выдаўся яму страшнейшым за раптоўны стрэл* (Э. С а м у й л ё н а к. Сон). *Пасля праразлівай сірэны гул... і с т у к з ц э х а ў зда-*

*ваўся, як цішыня* (К. Чорны. Браты). *Ён прыслухоўваецца да музыкі з пакояў* (З. Бядуля. Салавей).

Прыназоўнікава-іменныя словазлучэнні з адносінамі паходжання сінанімічны іменным словазлучэнням з адносным прыметнікам ці формай роднага склону назоўніка без прыназоўніка і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца апошнімі: *жанчыны з Вялешына — вялешынскія жанчыны, прадстаўнік з раёна — раённы прадстаўнік, касцы з саўгаса — касцы саўгаса, артысты з тэатра — артысты тэатра* і інш. Аднак у прыназоўнікава-іменных словазлучэннях адносіны паходжання знаходзяць больш поўнае і дакладнае выражэнне, чым у адпаведных словазлучэннях з прыметнікам ці формай роднага склону назоўніка без прыназоўніка.

Сінанімічны гэтыя прыназоўнікава-іменныя словазлучэнні і канструкцыям з даданым азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які*, параўн.: *Калісьці Юрка, хлапец з суседняй вёскі, працаваў на фабрыцы ў Маскве* (З. Бядуля. Рунь). *Піша мне хлопец, што родам з Алтая, — Ванюша Савельеў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

§ 40. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-вылучальныя адносіны, набліжаюцца да словазлучэнняў з адносінамі паходжання. Як і ў апошніх, тут таксама змяшчаецца ўказанне на паходжанне прадмета. Аднак у гэтых словазлучэннях на першы план выступае значэнне вылучэння. У словазлучэннях з азначальна-вылучальнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік можа абазначаць:

а) асобу ці іншую адушаўлёную істоту, адзінкавы самастойны прадмет ці раздзельную множнасць прадметаў, якія вылучаюцца з ліку падобных да іх асоб, істот ці прадметаў: *чалавек з прыезджых, кліент з навічкоў, конь з табуна, авечка з атары, зерне з сямейства бабовых* і інш. *«Табе, сынок, заўсёды знойдзецца дзяўчына з роўных нам»* (Ц. Гартны. На перагібе). *Убачыўшы, што гэта сябра з цяперашніх знаёмых, спакойна казаў...* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Прыбеглі чатыры чалавекі з былых панскіх актораў* (З. Бядуля. Салавей). *Двух чалавек з актыву Station Станіслаў паставіў назіраць за хатай Руцяцкага* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Адзін тутэйшы абыватаЛЬ з шляхты быў на паляванні* (Я. Колас. На ростанях).

б) Састаўную частку аднаго паасобнага прадмета ці многіх аднародных прадметаў, названых залежным словам: *раздзел з кнігі, глава з дысертацыі, куплет з песні, дэталь з часоў, рама з веласіпеда, кузаў з аўтамашыны* і інш. *Мала́ды зычны альт выводзіў пявучыя мелодыі арыі Антэка з оперы «Галька»* (Ц. Гартны. На перагібе). *Частку з кніг, якія назвалі дзядзьку, Андрэй чытаў* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Словазлучэнні з вылучальнымі адносінамі часткі і цэлага не супадаюць поўнасцю па значэнню з адпаведнымі беспрыназоўнікавымі канструкцыямі, паколькі ў апошніх значэнне вылучэння паслабляецца, параўн.: *раздзел з кнігі — раздзел кнігі, арыя з оперы — арыя оперы.*

§ 41. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-абмежавальныя адносіны, пераважна складаюцца з назоўнікаў неканкрэтна-прадметнай семантыкі. Гэтыя словазлучэнні сумяшчаюць звычайна ў сабе адценні паходжання або часу: *выпадкі з ваеннага жыцця, пытанні з гісторыі СССР, абразок з дзіцячых гадоў* і інш. Пры залежным назоўніку такіх словазлучэнняў асабліва часта ўжываюцца дапасаваныя азначэнні, якія ў некаторых выпадках складаюць неабходную структурную частку цэлай канструкцыі. *Пераважная большасць маіх твораў напісана на тэмы з вясковага жыцця* (К. Крапіва. Слова да маладых). [Яны] *інфармавалі адзін другога аб маленькіх эпізодах з забастоўкі* (Ц. Гартны. На перагібе). *Птушкай лезе*

*успамін з абяздоленай вёскі* (З. Бядуля. Палумесяц арэ зала-тыя баразны...). *І вось перад вамі пайстае знаёмая карціна з вашага мінулага* (К. Крапіва. З новым шчасцем!). *Было зразумела для ўсіх, што... не п'есу з часоў грамадзянскай вайны бачаць гэтай хвілінай яны* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Лабановіч расказаў некалькі смешных здарэнняў з цельшынскага жыцця* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 42. У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адно-сінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны прадмет рэчаіснасці, а залежнае слова ўказвае на яго размяшчэнне ў прасторы, на напрамак або зыходны пункт руху: *акно з двара, дзверы з кухні, вецер з поўдня, сцяжынка з вёскі, дарога са Слуцка, магістраль з Сібіры, газаправод з Бухары* і інш. *Яна прысела ў куточку з правага боку хаты, прытулілася і моцна заснула* (Ц. Гартны. На перагібе). *У гэтых кватэрах не адчувайся той парадак, як у цэнтральным корпусе з вуліцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Вывеску газеты знайшоў хутка на сцяне з вуліцы і пачаў узбірацца наверх па ўсходах. Па дарозе з Мінска ён частаваў Стэфку цукеркамі* (там жа). *Лянок, паслушны лёгкаму ветру з усходу, кланяецца сваёй гаспадыні* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

З мэтай канкрэтызацыі напрамку ці размяшчэння прадмета ў прасторы ў склад залежнай часткі такіх словазлучэнняў можа ўключацца назоўнік у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *у* або *на*: *Трэцяй справай, пра якую пайшло далёкае рэха, быў разгром гарнізона ў вёсцы Дудкі, на тракце са Стаўбцоў у Івянец* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Добра памятаю восеньскую размытую дарогу з Гродзеншчыны на Мінск* (З. Бядуля. Жалейка). *Дзверы з сяней у кухню былі забітыя дошкамі* (К. Чорны. Захар Зынга). *Дзверы з двара ў кухню то адчыняліся, то зачыняліся* (Я. Колас. У палескай глушы).

Словазлучэнні, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў або семантычна суадносныя з імі, паўтараюць узор адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў, параўн.: *уцёкі з палону — уцячы з палону, выхад са сховішча — выйсці са сховішча* і інш. *На выездзе з гарадка ён заўважыў высокага чалавека* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Гутарка ішла аб падарожжы з Расіі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 43. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-часавыя адносіны, звычайна ўключаюць у склад залежнай прыйменнай часткі назоўнікі з часавым значэннем: *з гадоў, з вякоў, з перыяду, з дзён, з часоў* і інш. Аднак гэтыя назоўнікі, абазначаючы агульныя прамежкі часу і губляючы ў словазлучэнні сваю паўназначнасць, заўсёды маюць пры сабе ўдакладняючыя азначэнні і разам з апошнімі паказваюць на час, з якога што-небудзь пачынаецца. У ролі галоўнага слова такіх словазлучэнняў побач з аддзеяслоўнымі назоўнікамі могуць выступаць асабовыя назоўнікі і назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем: *сябры з дзён вайны, ворагі з часоў рэвалюцыі, стажор з мінулага лета, студэнт з учарашняга дня, даярка з вясны, конюх з восені, дружба з дзіцячых гадоў* і інш. *З дзён сямігодкі Максім і Марына — сябры* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Не забыла яно* [сэрца], *памятае дружбу Марыны з Цімохам са школьных часоў* (там жа). *Месяц ныpae ў бяздонні белых, як пух, аблакоў. Ён, як вядома, бяздомнік з самых далёкіх вякоў* (П. Глебка. Месяц ныpae).

Іншы раз спалучэнні слоў у залежнай прыйменнай частцы набываюць устойлівы характар: *Пачуццё братняй блізасці да яе было амаль заўсёды загублена ў навале штодзённых клопатаў і работы з цямна да цямна* (К. Чорны. Спатканне). *Жартачкі, я не апраўдала тваю*

*дзесяцідаларавую* *даніну з году ў год* (З. Бядуля. Свінарка Фрэйда). *Гэта пан багаты злодзей з роду ў род* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *з-за, з-пад*

§ 44. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *з-за, з-пад* выражаюць розныя віды азначальных адносін.

Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны прадмет, а залежнае слова — месца, адкуль паходзіць прадмет, выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны: *турыст з-за мяжы, калгаснік з-пад Слуцка, чалавек з-пад Старобіна, машына з-пад Чарнігава* і інш. *Была іх вялікая сіла, і моцна сціскалі гужы бандыты свае, з-за мяжы і нам рыхтавалі магілы* (Я. Колас. Народам СССР). *Другім маім суседам у разліку Яцына Ян, мазур з-пад Ломжы, быў* (А. Зарыцкі. Пяцёра). *А быў сярод нас удалец такі, Марка Балук з-пад Цернішч* (Я. Колас. Дрыгва). *І Карусь з-пад карчмы кожны вечар стукаў у акно свайго суседа* (Я. Колас. Дзяліцьба). *Хлопчык з-пад Гродна* (З. Бядуля).

Заўвага. У мастацкіх творах паасобных пісьменнікаў побач з прыназоўнікамі *з-за, з-пад* у словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі можа ўжывацца прыназоўнік *з-над*: *Не хочацца, праўда, псаваць настрой такімі ўспамінамі, хацелася б пачаць адразу пра пісьмо з-над Эльбы, ды дзядзьку Юрку не адмовіш* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Калі ў ролі галоўнага слова названых словазлучэнняў выступае аддзеяслоўны назоўнік, то словазлучэнне можа дадаткова выражаць азначальна-аб'ектныя або азначальна-акалічнасныя адносіны з адценнем прычыннасці: *вызваленне з-пад прыгнёту, бітва з-за зямлі, сварка з-за маёмасці* і інш. Гэтыя словазлучэнні будуюцца па ўзору адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў, параўн.: *вызваленне з-пад прыгнёту — вызваліцца з-пад прыгнёту, сварка з-за маёмасці — сварыцца з-за маёмасці.*

Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, прызначаны для змяшчэння пэўных рэчываў, а залежнае слова — назву рэчыва, што раней змяшчалася ў ім, выражаюць азначальна-аддзяляльныя адносіны з адценнем прызначэння: *бочка з-пад піва, пляшка з-пад віна, флакон з-пад духоў, слоік з-пад варэння, каробка з-пад пудры, бітон з-пад малака, скрынка з-пад макаронаў, бляшанка з-пад газы* і інш. *Міцька ўзрадавана хапае банку з-пад кансерваў* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Адну бутэльку з-пад шампанскага забракавалі: налітая бензінам, яна была занадта цяжкая* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам).

Словазлучэнні гэтай разнавіднасці з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з адноснымі прыметнікамі і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца апошнімі: *бутэлька з-пад віна — вінная бутэлька, бітон з-пад малака — малочны бітон* і інш.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад*

§ 45. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *ад* выражаюць розныя віды азначальных адносін — азначальна-аддзяляльныя, азначальныя прызначэння, паходжання, азначальна-прасторавыя, часавыя, прычынна-выніковыя, а таксама аб'ектныя.

У словазлучэннях з азначальна-аддзяляльнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, аддзелены ад другога прадмета, з якім ён быў звязаны або часткай якога ён з'яўляўся: *лушпайкі ад бульбы, шкарлупкі ад яек, казырок ад шапкі, матор ад машыны* і інш. *Стары корч ёй здаваўся высокай гарой, а іголка*

*ад хвойкі — цяжкім бервяном* (З. Бядуля. Мурашка Палашка). *Яна душылася слязамі, нібы вострай косткай ад рыбы* (З. Бядуля. Фрося). *Палазок кінуўся на афіцэра, схапіў яго за рукі і скруціў іх шнурам ад кабуры нямецкага рэвальвера* (Я. Колас. У разведцы).

Гэтыя словазлучэнні не супадаюць па значэнню з адпаведнымі беспрыназоўнікавымі іменнымі словазлучэннямі, паколькі ў апошніх значэнне аддзялення паслабляецца або наогул сціраецца, параўн.: *казырок ад шапкі — казырок шапкі, матор ад машыны — матор машыны.* Не наглядаецца таксама адпаведнасці паміж словазлучэннямі з прыназоўнікам *ад* і іменнымі словазлучэннямі з адносным прыметнікам у ролі залежнага слова: у апошніх выражаецца не аддзяляльнае, а якасна-адноснае значэнне, параўн.: *шкарлупкі ад яек — яечныя шкарлупкі, лісце ад клёна — кляновае лісце, матор ад веласіпеда — веласіпедны матор.*

У азначальных словазлучэннях з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *ад* аддзяляльныя адносіны нярэдка сумяшчаюцца з адносінамі прызначэння: *чахол ад чамадана, пакрышка ад мяча, шына ад кола, накрыўка ад слоіка, вокладка ад кнігі* і інш. Такія словазлучэнні набліжаюцца па значэнню да іменных словазлучэнняў з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *для* (гл. § 57). *Футарал ад скрыпкі пайшоў на ўжытак* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Вялізны ключ ад свірна заўсёды ляжаў у гаспадара пад падушкай* (там жа). *Часам у хаце, калі нехта з двара цокне жалезнай клямкай ад дзвярэй, старая ўздрыгвала* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Асабліва яскрава наглядаецца сумяшчэнне аддзяляльных адносін і адносін прызначэння ў словазлучэннях, у якіх залежнае слова — назоўнік абазначае рэчыва, а галоўнае слова — прадмет умяшчэння: *цэбар ад капусты, бляшанкі ад кансерваў, бочка ад бензіну* і інш. Гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з-пад* (гл. § 44). *Калі ж Волечка з пустой міскай ад малака адышлася к печы, фельчар пачаў абслухваць і абмацваць хворага немца* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Абапал дарогі на мяжы былі раскіданы бліскучыя бляшанкі ад кансерваў, разбітыя бутэлькі, паперкі* (З. Бядуля. Маці). *Цягнуць з маткі хустку, кажушок стары, цэбар ад капусты і пілу з гары* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). *На ганку ляжыць на баку вядро ад вады* (З. Бядуля. Тры пальцы).

§ 46. Словазлучэнні, у якіх назоўнік у ролі галоўнага слова абазначае прадмет, прызначаны для ўздзеяння на іншыя прадметы або з'явы з мэтай засцярогі ці барацьбы з імі, выражаюць азначальныя адносіны прызначэння з аб'ектным адценнем: *сетка ад камароў, маска ад загару, мазь ад рабаціння, таблеткі ад галаўнога болю, мікстура ад прастуды, каплі ад малакроўя* і інш. *Шкадуе Цыпрук, што не запытаўся, на ўсякі выпадак, лякарства ад зубоў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Маладая дзяўчына сарамліва папрасіла парашкоў ад кашлю* (І. Шамякін. За жыццё).

Гэтыя словазлучэнні звычайна адпавядаюць значэнню іменных словазлучэнняў з прыназоўнікам *супраць* (гл. § 61).

§ 47. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны паходжання, падзяляюцца на дзве асноўныя групы:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу (асоб), а залежнае слова — арганізацыю, прадпрыемства, установу, да якой належыць асоба, або сацыяльнае асяроддзе, выхадцам з якога яна з'яўляецца: *кандыдатура ад групкома, агент ад сацстраху, каманда ад інстытута, зборная ад аўтазавода, кандыдат ад рабочых, хадакі ад сялян* і інш. *Наша сходка прадстаўнікоў ад заво-*

*даў і прадстаўнікоў ад мясцовых арганізацый павінна вырашыць важную справу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *А я з рабачкома, упаўнаважаная ад сельсавета* (Я. Колас. Арыніна перамога). *Па сцежках таемных, з ляска да ляска, ідзе ў Беларусь пасланец ад ЦК* (П. Глебка. Пасланец). *Часта Міхалка з Борухам ездзяць у горад дэлегатамі ад сялян* (З. Бядуля. Год за годам).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтныя прадметы або пэўныя паняцці, а залежнае слова — асобу ці прадмет, з якім звязана ўзнікненне гэтых прадметаў або паняццяў: *пісьмо ад брата, тэлеграма ад бацькоў, след ад нагі, прамень ад сонца, знак ад ранення, дым ад папяросы* і інш. *Ён выйшаў на дарогу, куды вёў след ад калёс* (Я. Колас. Малады дубок). *Журботна сцелецца цень ад лесу, і сыходзіць усмешка дня з твару зямлі* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Я ўсоўваю ногі ў цёплы прысак ад вогнішча* (З. Бядуля. Жалейка). *Апарат нешта выстуквае на халастым ходу. Дзейнічаюць токі ад другіх перадач* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Гэты ліст ад Рыгора так узрадаваў яе, што, апроч яго* [ліста], *ёй, здавалася, больш нічога не трэба было на свеце* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Аналагічныя адносіны выражаюцца і ў словазлучэннях, у ролі галоўнага слова якіх выступае аддзеяслоўны назоўнік: *Люблю я слухаць шум ад таркі — дзяруць картофлю на бліны; у печы піск люблю ад скваркі — прынадна пахнуць мне яны* (Я. Колас. Новая зямля). *Лёскат і скрып ад калёс у сасонніку спевамі соннымі коцяцца ўдаль* (П. Трус. Выйдзі, паслухай...). *Гэта — выбухі ад снарадаў* (Я. Колас. Дачакаўся). *Пах ад сала непакоіць не толькі стрэлачніка* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Патрошку пачалі пераходзіць да жартаў і непрыкметна некалькі згладзілі ўражанне ад арышту* (Ц. Гартны. На перагібе). *Паклон мой народу ад сэрца, што сілу даваў да змагання* (Я. Купала. Паклон мой народу за песні).

Словазлучэнні з азначальнымі адносінамі паходжання з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным беспрыназоўнікавым іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка або іменным словазлучэнням з адносным прыметнікам, хоць, праўда, адценне паходжання ў апошніх некалькі паслабляецца, параўн.: *дэлегацыя ад інстытута — дэлегацыя інстытута, інстытуцкая дэлегацыя; след ад калёс — след калёс, калёсны след; выбухі ад мін — выбухі мін, мінныя выбухі.*

§ 48. У словазлучэннях, якія выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны, залежнае слова ўказвае на размяшчэнне прадмета або яго часткі ў прасторы, на пункт, ад якога што-небудзь пачынаецца: *будынак ад школы, сцяна ад вуліцы, сляды ад парога, пасевы ад лесу, дарога ад Брэста* і інш. *Плошчай ад сада, ад снежнай алеі людзі цякуць да дзвярэй Маўзалея* (К. Буйла. Маўзалей). *Васіль ніколі не сядзе на жарабка да тае пары, пакуль Алена не ўзнімецца на ўзгорак ад рэчкі* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *На дарозе ад Мядзведзіч паказаліся дзве фурманкі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *На двары былі прывязаны да плоту ад гумна двое асядланых коней* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Вокны ад вуліцы забіты аполкамі: не адолеў Мікола ўсяго да зімы* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Пры неабходнасці ўказаць на адлегласць паміж пунктамі ў прасторы ў склад гэтых словазлучэнняў дадаткова ўключаецца назоўнік у форме роднага склону з прыназоўнікам *да: дарога ад Брэста да Мінска, пасевы ад лесу да рэчкі, прастора ад поля да сенажаці* і інш.

§ 49. У словазлучэннях, якія выражаюць азначальна-часавыя адносіны, галоўнае слова — назоўнік абазначае розныя з'явы

і працэсы грамадскага жыцця, розныя віды дзелавых папер, пісем, дакументаў (пастановы, рэзалюцыі, пратаколы, акты, пісьмы і інш.), а залежнае слова — канкрэтную дату, час зацвярджэння або паяўлення таго ці іншага дакумента, з'явы і г. д. Ролю залежнай часткі гэтых словазлучэнняў асабліва часта выконваюць колькасна-іменныя спалучэнні: *рэзалюцыя ад 20 верасня 1965 года, пастанова ад 5 лістапада, сірата ад дзён нараджэння* і інш. *Сірацінаю ад дванаццаці год узняло яно* [жыццё] *дзяўчыну на свае шумлівыя, вірыстыя хвалі* (Ц. Гартны. На перагібе). *Закон ад сёмага жніўня прыпомніў?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Той быў павінен толькі нам, майстрам, будаўнікам ад роду* (Ц. Гартны. Раней і цяпер). *Людзі на працы ад самага рання* (К. Буйла. Сонца заззяла...).

У склад залежнай часткі гэтых канструкцый можа ўключацца назоўнік у форме роднага склону з прыназоўнікам *да*, які ўказвае на часавую мяжу: *перыяд ад канікул да канца года, прамежак ад двух да трох гадзін дня* і інш. *На кожнай з іх быў выгравіраваны год па парадку ад 1898 да 1917 знізу ўверх* (З. Бядуля. Салавей).

Такія спалучэнні слоў у залежнай прыйменнай частцы могуць быць сэнсава непадзельнымі: *Ад цямна да цямна ў кузні звон на ўсё сяло* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 50. У словазлучэннях, якія выражаюць прычынна-выніковыя адносіны, галоўнае слова — назоўнік абазначае стан асобы, яе фізічныя або псіхічныя адчуванні, а залежнае слова — тыя прадметы, з'явы або працэсы, якімі абумоўліваецца стан, адчуванне гэтай асобы: *слёзы ад радасці, роспач ад няўдачы, бездапаможнасць ад хвалявання, разгубленасць ад нечаканасці* і інш. *Ён жыў асалодаю ад блізасці к сабе Ганны* (Ц. Гартны. На перагібе). *І тое, што шкада было каня, і стома ад хады нашча праз цэлы дзень — усё гэта танула ў яго непамернай злосці* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Фрося не звярнула ўвагі на боль ад сабачых укусаў* (З. Бядуля. Фрося). *Твар яго, у лішаях ад сонца і ветру, меў на сабе ўсе адзнакі халоднай сталасці* (К. Чорны. На пыльнай дарозе).

§ 51. Словазлучэнні, у ролі галоўнага слова якіх выступае аддзеяслоўны па ўтварэнню назоўнік са значэннем унікнення, вызвалення і г. д., выражаюць аб'ектныя адносіны: *унікненне ад абавязкаў, вызваленне ад гнёту, пазбаўленне ад небяспекі* і інш. Гэтыя словазлучэнні будуюцца па ўзору адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў і з'яўляюцца сінанімічнымі ім: *вызваленне ад прыгнёту — вызваліць ад прыгнёту, пазбаўленне ад небяспекі — пазбавіць ад небяспекі* і інш. *Для адпачынку ад утомы прыходзіць ціхая пара* (П. Глебка. Урачыстыя дні).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *да*

§ 52. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да* выражаюць аб'ектныя і розныя азначальныя адносіны — прызначэння, меры, памеру, ступені, а таксама азначальна-прасторавыя і азначальна-часавыя.

Словазлучэнні, якія выражаюць аб'ектныя адносіны, падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць назоўнікі са значэннем пачуцця, жалю, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць асоб (зрэдку прадметы) у якасці аб'ектаў гэтага пачуцця, жалю: *Не то жаль да Алеся, не то страх, што яна ў гэтым вінавата, апанаваў яе* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Гэтак вось скупа і рэдка выказваў ён свае пачуцці да прыроды* (Я. Брыль. Мой зямляк).

б) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць адпрыметнікавыя назоўнікі са значэннем якасных адносін да асоб або прадметаў, названых залежным словам: *прыязнь да людзей, нянавісць да ворагаў, уважлівасць да дзяцей, патрабавальнасць да сябе* і інш. Такія словазлучэнні будуюцца па ўзору адпаведных ад'ектыўных словазлучэнняў і могуць замяняцца апошнімі, параўн.: *прыязнь да людзей — прыязны да людзей, нянавісць да ворагаў — ненавісны да ворагаў* і інш. *З'явілася ў іх б л і з к а с ц ь д а М і х а с я* (К. Ч о р н ы. Мельнікі). *З пачуццём добрай з а й з д р а с ц і д а п о с п е х а ў панямонцаў успамінаў* [Васіль] *будынкі, у якія ўжо і вада падыходзіць па трубах* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Юзік думаў, што Зося не заўважае яго п р ы х і л ь н а с ц і д а Ш у р ы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Братняя ч у л а с ц ь д а З о с ь к і з'явілася адразу* (К. Ч о р н ы. Нянавісць). *Была нават недаверлівасць і в а р о ж а с ц ь д а чужога ч а л а в е к а* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Пазней высветлілася, што ішло ўсё гэта ў Андрэя не а д н я л ю б а с ц і д а т э х н і к і* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Мне падабаецца твой смелы спрыт, твая з а ў з я т а с ц ь д а р а б о т ы* (П. Г л е б к а. Вернасць).

Да гэтай групы адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік мае адценне якаснага значэння і толькі семантычна суадносіцца з прыметнікам: *талент да музыкі (таленавіты да музыкі), энергія да працы (энергічны да працы), ахвота да забаў (ахвотны да забаў)* і інш. *Імкнуцца да лепшай долі вызваленыя мільёны, э н е р г і і ў іх даволі д а п р а ц ы, д а а б а р о н ы* (А. К у л я ш о ў. Слова да Аб'яднаных Нацый). *У ім бушаваў уздым і а х в о т а д а с л о в а* (К. Ч о р н ы. Сям'я Юрыя Гарэйкі). *Яе т а л е н т д а сялянскай п р а ц ы пераліўся цяпер у яе новую грамадзянскую працу* (З. Б я д у л я. Дэлегатка).

в) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем імкнення, дачынення, пачуцця або адчування, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць асоб ці прадметы ў якасці аб'ектаў дасягнення, дачынення або пачуцця: *прага да ведаў, парыў да працы, дачыненне да спраў, павага да калектыву* і інш. *Візіт да пісара Васількевіча яшчэ болей астудзіў у настаўніку ж а д а н н е д а далейшых в і з і т а ў* (Я. К о л а с. На ростанях). *Але ж і м к н е н н і не пагаснуць д а н о в ы х, с в е т л ы х б е р а г о ў* (П. Т р у с. Чырвоныя ружы). *Ц я г а д а г у к а ў запанавала ў ім* (З. Б я д у л я. Салавей). *Новыя пачуцці працоўнага беларуса — радасць творчай працы і л ю б о ў д а С а в е ц к а й Р а д з і м ы — яскрава адлюстравалі ў сваіх творах нашы народныя паэты* (К. К р а п і в а. Аб характары беларуса). *Яна заплаціла жыццём з а к а х а н н е д а к а л е к і* (Э. С а м у й л ё н а к. Герой нацыі). *Але ж жыла ў людзей пяшчота, з а м і л а в а н н е д а з я м л і* (П. Г л е б к а. Апавяданне аб зямлі). *Тады Агата крыўду ці з н я в а г у д а б р а т а пачула ў яго ж словах* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Мець д а ч ы н е н н е д а н а ч а л ь с т в а было для яго горш усякай пакуты* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар).

Сюды ж адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік мае канкрэтнае значэнне, але семантычна звязана з паняццем дзеяння, параўн.: *пісьмо да бацькоў — пісаць да бацькоў, сімпатыя да хлапца — сімпатызаваць хлапцу, цікаўнасць да прыроды — цікавіцца прыродай* і інш. *І калі падыходзіў к дому, дзе жыў, амаль не на тым жа месцы, на якім ужо раз успомніў а б п і с ь м е д а м а ц е р ы, успомніў цяпер аб грашах, якія абавязкова трэба было б паслаць старой* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе).

Словазлучэнні, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, суадносныя з непераходнымі дзеясловамі, паўтараюць узор адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў, супадаючы

з апошнімі як па значэнню, так і па форме, параўн.: *імкненне да ведаў — імкнуцца да ведаў, зварот да народа — звярнуцца да народа, падрыхтоўка да бою — падрыхтавацца да бою.*

Калі ж у ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, утвораныя ад непераходных дзеясловаў, то яны супадаюць з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі па значэнню, але адрозніваюцца па форме залежнага слова, параўн.: *любоў да Радзімы — любіць Радзіму, павага да таварыша — паважаць таварыша.*

§ 53. У словазлучэннях з адносінамі прызначэння галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, а залежнае слова ўказвае на яго прызначэнне: *плёнкі да тэлевізараў, каментарыі да табліц, узоры да практыкаванняў, матэрыялы да заняткаў* і інш. Такія словазлучэнні сінанімічны іменным словазлучэнням з прыназоўнікам *для* і могуць замяняцца імі: *каўпачкі да флаконаў — каўпачкі для флаконаў, каментарыі да табліц — каментарыі для табліц* і інш. *У маім зрокавым уяўленні паўстаюць жывапісныя ілюстрацыі да мелодыі. Фантастычны лес, нібы тэатральная дэкарацыя да казкі* (З. Бядуля. Жалейка).

У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў могуць выступаць аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем мэтанакіраванасці дзеяння: *А палове дванаццатай ночы яго абудзіў звон да ўсяночнай* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 54. У словазлучэннях з азначальнымі адносінамі памеру галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, а залежнае слова — граніцу яго распаўсюджання: *паліто да каленяў, каса да пояса, валасы да плячэй, рот да вушэй, фікус да столі, голле да зямлі* і інш. *Побач з ім—чалавек у чорным адзенні да пят і зімовай шапцы з шырокім дном* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Мне здаецца, стаіць лесвіца з азярода аж да хмар* (З. Бядуля. Лезе ў вочы ззянне месяца...). *Паказваюцца два твары — адзін круглы, поўны, другі — абросшы цёмна-сівай густой барадой да самых вачэй* (З. Бядуля. Салавей).

У словазлучэннях, ролю галоўнага слова якіх выконваюць асабовыя назоўнікі, залежнае слова можа ўказваць на крайнюю мяжу выяўлення пэўных якасцей, уласцівых асобе: *педант да касцей, бюракрат да глыбіні душы* і інш. Словазлучэнні гэтага тыпу з'яўляюцца фразеалагічна ўстойлівымі. *Гэта бляянне гэтага залатушнага маладога чалавека, «рэвалюцыянера да скону»* (К. Крапіва. Доўг).

Калі ў ролі галоўнага слова такіх словазлучэнняў выступаюць аддзеяслоўныя або адпрыметнікавыя назоўнікі, то залежнае слова ў іх указвае на гранічную меру або ступень праяўлення гэтага дзеяння: *поціск* [рукі] *да болю, расціранне да крыві, змаганне да канца, крыўда да слёз, аднастайнасць да немагчымасці* і інш.

Заўвага. Азначальныя адносіны паміж словамі названых вышэй разнавіднасцей словазлучэнняў пры змене іх інтанацыйнага афармлення могуць пераходзіць у прэдыкатыўныя адносіны: *Трымцідца сонца на сувеях, а гурбы снегу — да акон* (П. Глебка. Дрыжаць у шэрані бярозы). *Доўгая да грудзей сівая барада. Халадайка да пят* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Настаўнік быў адзеты ў вопратку «зашчытнага» колеру. Жаўтавата-брудныя бацінкі, скруткі да кален* (З. Бядуля. Тры крыжыкі). *Зычна званіла крынічка за горкай,— не змаразіў злы мароз! Хоць невялічкая, нібы то вока,— рогат да слёз* (З. Бядуля. Зімовая раніца).

§ 55. У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі галоўнае слова ўказвае на плошчу або на кірунак да таго пункта ці месца, якое названа залежным словам: *участак да лесу, сцежка да гумна, ветка да станцыі, газаправод да Рыгі* і інш. Гэтымі словазлучэннямі можа таксама выражацца мера прасторы, названай галоўным словам. *Аграфена Макараўна ўсю дарогу да станцыі жартавала, смяялася* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Увесь кавалак*

*аж да Сярэдніх Дарог засявалі нашы мужыкі* (Я. Колас. Бунт). *Шлях да дома яго значыць зорная гаць* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Андрэй з Санкоўскім прыселі на бервяно ля паваротні да пасёлка* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І Сафрон хуткім крокам пайшоў ад Стэпы, кірункам да царквы* (Ц. Гартны. На перагібе).

Пры пераносным ужыванні слоў з прасторавым значэннем словазлучэнне набывае ўстойлівы характар: *І становіцца зразумелым тое, што іншай дарогі да вызвалення няма, як толькі барацьба да канца з тымі, хто з'яўляецца прычынай гэтага крыўднага жыцця* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ён ведае, што адзіна правільным шляхам да шчасця з'яўляецца калгасны шлях* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Ляці! Няма шляхоў назад да салаўёў і бэзу* (А. Куляшоў. Крылы). *Гэта новая ступень да вышынь чалавечага шчасця* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм).

§ 56. Словазлучэнні з азначальна-часавымі адносінамі звычайна складаюцца з назоўнікаў, адзін з якіх мае часавае значэнне. У гэтых словазлучэннях залежнае слова ўказвае на час, калі штонебудзь адбывалася ці адбываецца *(жыццё да вайны, наступленне да замаразкаў)*, або характарызуе прамежак часу, названы галоўным словам *(перыяд да калектывізацыі, момант да першага выстралу)*: *Яна не знала адной яго сакрэтнай дзейнасці да рэвалюцыі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *для, дзеля*

§ 57. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *для, дзеля* выражаюць азначальныя адносіны прызначэння з аб'ектнымі або акалічнаснымі адценнямі. У гэтых словазлучэннях галоўнае слова — назоўнік можа абазначаць:

а) жылыя будынкі, розныя культурна-асветныя ўстановы, прызначаныя для асоб: *дом для маласямейных, памяшканне для студэнтаў, сталовая для супрацоўнікаў, школа для дарослых, клуб для рабочых* і інш. *На вялізным падворку дома, апрача хлявоў, стаяла яшчэ некалькі корпусаў для жыльцоў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *«Салон» для гасцей быў у тым выглядзе, як пакінуў яго колькі год таму назад пан Семашкевіч* (там жа). *Вас адвядуць у камеры для адзіночак* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

б) Гаспадарчыя будынкі, збудаванні, прызначаныя для хатніх або дзікіх жывёл, птушак, розныя прадметы, якія служаць для змяшчэння чаго-небудзь: *будынак для жывёлы, катух для свіней, будка для сабакі, вулей для пчол, клетка для птушак, сервант для пасуды, бак для вады, мяшок для бульбы, бочка для агуркоў* і інш. *Каля сваёй спальні яна мае два пакоі для катоў* (З. Бядуля. Салавей). *Перабраўся Цімох у зімоўку для пчол з пуні жыць* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Дзядзька Андрэй зрабіў яму прыгожую шафку для кніг* (Я. Колас. Калядны вечар).

в) Прадметы, рэчы, прылады, прыстасаванні, прызначаныя для пэўных асоб або іншых прадметаў: *кніжкі для дзяцей, сумкі для жанчын, памада для губ, пакрышкі для аўтамашын, зашчапкі для акон* і інш. *Важнецкія выйшлі б спіцы для колаў* (Я. Колас. Малады дубок). *Рабіліся розныя жалезныя прылады для млына* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У такіх справах я заўсёды прымаю ўдзел. Можа трапіцца матэрыял для маёй кнігі* (там жа).

г) Асоб, прадметы, прылады, пісьмовыя загады, прадпісанні, прызначаныя для выканання пэўных задач і функцый: *рабочы для расточкі*

[цыліндраў], *папера для чарчэння, прылады для выпільвання, дакументы для паступлення, інструкцыя для варты, даклады для выступленняў* і інш. *Значыць, чалавек для паслуг яму ўсё роўна быў патрэбны* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Яны бачылі* [гімназістаў] *больш у спартсменскіх гарнітурах, з сетачкамі для гуляння ў лапту, з шкуранымі апукамі для футболу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Пра кніжку, куды запісваў тэмы для гутаркі з ёю, забыў* (там жа). *Дзядзька расхінуў лісток лінаванай паперы, вырваны некім з сшытка для чыстапісання* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Мастацтва павінна служыць зброяй для замацавання і ўглыблення новага ладу жыцця* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *І зноў мая паэзія падзялілася на паэзію «сапраўдную» і паэзію для штодзённага ўжытку* (К. Крапіва. Слова да малодшых).

У словазлучэннях, ролю галоўнага слова якіх выконвае назоўнік неканкрэтна-прадметнай семантыкі, азначальныя адносіны прызначэння асабліва часта ўскладняюцца адценнямі аб'ектных або акалічнасных значэнняў: *радасць для бацькоў, пацеха для дзяцей, помач для сям'і, небяспека для міру, час для адпачынку, падстава для сустрэчы* і інш. *Каханне—лёгкая прынада для сэрцаў чуткіх, маладых* (Я. Купала. Магіла льва). *Тут, спадзявайся Андрэй, будзе большы, чым дзе, прастор для вынаходстваў і рацыяналізатарскіх прапаноў* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Самы час для пабегу — спяць цяпер патрулі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Ёсць старыя прычыны для новай размовы* (там жа).

Словазлучэнні ж з прыназоўнікам *дзеля* дадаткова ўскладняюцца акалічнасным адценнем мэты, прычыны: *прыезд дзеля кансультацыі, пытанне дзеля цікаўнасці, размова дзеля забавы, паведамленне дзеля жарту, паклон дзеля прыліку, чытанне дзеля азнаямлення* і інш. *Ён быў ахвярай дзеля гэтай справы* (З. Бядуля. Год за годам).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *для, дзеля* сінанімічны іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка без прыназоўніка або з формай адноснага прыметніка, хоць поўнай тоеснасці ў адценнях значэнняў тут не наглядаецца: у беспрыназоўнікавых словазлучэннях з родным прыйменным або з формай адноснага прыметніка выражаецца больш шырокі круг значэнняў (у прыватнасці, прыналежнасць, якасць, адносіны часткі і цэлага і г. д.), чым у адпаведных словазлучэннях з прыназоўнікам *для*, у якіх пераважаюць адносіны прызначэння, параўн.: *кніжкі для дзяцей — кніжкі дзяцей, дзіцячыя кніжкі; пакрышкі для аўтамабіля — пакрышкі аўтамабіля, аўтамабільныя пакрышкі; радасць для бацькоў — радасць бацькоў, бацькоўская радасць.*

Заўвага. Пад уплывам размоўнага стылю ў мастацкіх творах паасобных пісьменнікаў сустракаюцца словазлучэнні, у якіх адносіны паміж рэчывамі і прадметамі, прызначанымі для іх змяшчэння, выражаюцца формай роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *з*: *Дзед і баба — душагубы — труп схавалі ў яме з бульбы* (З. Бядуля. Віленскія помнікі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *без*

§ 58. Словазлучэнні з родным склонам і прыназоўнікам *без* выражаюць азначальныя адносіны з аб'ектнымі або акалічнаснымі адценнямі. Залежнае слова ў іх указвае на прымету прадмета па адсутнасці ў ім якой-небудзь састаўной часткі (нярэдка арганічна звязанай) ці прадмета, паняцця або прызнака, якія звычайна суправаджаюць ці ўласцівы яму, але ў дадзены момант у ім адсутнічаюць або не выяўляюцца: *інвалід без нагі, вайсковец без зброі, паліто без каўняра, плацце без рукавоў, дом без нумара, чалавек без здароўя, людзі без сумлення, дзяўчына без гонару* і інш. *У бляску ліхтара вобмацкам*

*пасоўваецца шэрая чалавечая* п о с т а ц ь б е з ш а п к і (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Ён успамінае, што калі быў яшчэ хлапчуком, бачыў* ч а л а в е к а *зусім* б е з р у к (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ф р э н ч б е з к і ш э н я ў яго трохі непакоіць. Хаты Драздоў і Дзятлоў былі аддзелены між сабою бурлівай* р э ч к а ю б е з н а з в ы (там жа). *І п р о в а д б е з т о к у, ад снегу махнаты, вісеў на замшэлых слупах нерухома* (К. Б у й л а. 9 мая 1945 года). *Гэта — наш лепшы калгаснік,* ч а л а в е к б е з у с я л я к і х х і т р ы к а ў, *сумленна працуе ў калгасе* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Л ю д з і злыя і б е з с э р ц а загубілі век блазнерцы* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

З а ў в а г а. Словазлучэнні з прыназоўнікам *без* з'яўляюцца антанімічнымі іменным словазлучэнням з творным склонам залежнага назоўніка і прыназоўнікам *з* (*са*). Параўн.: *Каля яго стаяць д в о е п а р т ы з а н с а с т р э л ь б а м і і ч а л а в е к б е з с т р э л ь б ы з с я к е р а ю за поясам* (Я. К о л а с. Дрыгва). *І каля століка пустога — там не было цяпер нікога, апроч б у т э л ь к і чарніла з ш ы р о к і м д о н е ч к а м, б е з р ы л а,— сябры спыніліся маўкліва* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Праз хвіліну мядзведзі перакідваюцца ў нейкую і с т о т у б е з г а л а в ы з доўгімі н а г а м і, з залатым х в а с т о м* (З. Б я д у л я. Салавей).

Ролю галоўнага слова ў такіх словазлучэннях могуць выконваць назоўнікі з неканкрэтна-прадметным значэннем: *Звярнуўся ён да Ігналі звычайным г о л а с а м б е з з л о с ц і* (З. Б я д у л я. Сорам). *Пушча сівая дзівілася. Сон свой тлумачыла рані, с о н б е з с т р а х о ц ц я, б е з х м а р* (З. Б я д у л я. Зімовая раніца).

У словазлучэннях, галоўным словам якіх з'яўляецца аддзеяслоўны назоўнік або семантычна суадносны з ім, азначальныя адносіны ўскладняюцца аб'ектным або акалічнасным адценнем спосабу дзеяння і змяшчаюць у сабе якасную ацэнку гэтага дзеяння: *каханне без узаемнасці, праезд без білета, уваход без пропуска, вучоба без настаўніка* і інш. *А што датычыць н а д з е л у сялян зямлёю б е з в ы к у п у, яны аб гэтым маўчаць* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Дзеці ў вялікім захапленні білі ў ладошкі, выгуквалі к р ы к і б е з с л о ў* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *А д с я д з е н н я б е з р у х у яму то горача, то холадна робіцца* (З. Б я д у л я. Салавей). *Ж ы ц ц ё б е з ц е м р ы і ц я р п е н н я для ўсіх вякоў і пакаленняў збудуеш, дыктатура працы* (Я. К у п а л а. Дыктатура працы).

Аб'ектнае або акалічнаснае адценне ў названых словазлучэннях яскрава выяўляецца пры замене іх адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі, параўн.: *каханне без узаемнасці — кахаць без узаемнасці, надзел без выкупу — надзяліць без выкупу, вучоба без настаўніка — вучыцца без настаўніка.*

Залежная прыйменная частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *без* пры галоўным слове — аддзеяслоўным назоўніку або слове з неканкрэтна-прадметным значэннем можа таксама ўказваць на меру ці ступень праяўлення дзеяння або паняцця: *А гэтыя б л і с к і б е з м е р ы, як пісаны верш на паперы, чытае пярун і рагоча* (З. Б я д у л я. Апранута ў лісцях мядзяных). *Не думай ніколі, што позірк вачэй — п р а д о н н е б е з д н а і б е з к р а ю* (П. Г л е б к а. Не думаў ніколі).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *без* сінанімічны іменным словазлучэнням з якасным прыметнікам і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца імі, параўн.: *чалавек без хітрасці — бясхітрасны чалавек, людзі без сэрца — бессардэчныя людзі, бадзянне без мэты — бязмэтнае бадзянне.*

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *у*

§ 59. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у* прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове нешырока. Яны могуць выражаць:

а) а б' е к т н ы я адносіны з прасторава-азначальным адценнем: *служба ў пана, сталярства ў суседа, касьба* [на ўчастку] *у брата, праца*

[на агародзе] *у сястры* і інш. *Ні беднасць, ні с л у ж б а ў чужых л ю д з е й, ні цяжкая праца не зніжалі яго добрага гумару* (Я. К о л а с. Адшчапенец). Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку галоўнага слова. Замест іх пераважна ўжываюцца адпаведныя дзеяслоўныя словазлучэнні: *сталярнічаць у суседа, касіць у брата* і інш.

б) А з н а ч а л ь н ы я адносіны п р ы н а л е ж н а с ц і: *твар у мужчыны, нага ў дзіцяці, паходка ў чалавека, характар у жанчыны, шапка ў хлапчука* і інш. *Р у к і ў А г а т ы былі ў зямлі* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Невялікая к р ы ў д а ў д з і ц я ц і, але рэкамі слёзы цякуць* (П. Г л е б к а. Зімовы малюнак). *У к а р а н д а ш а х а р а к т а р сталы, як і мне, яму хапае спраў* (А. К у л я ш о ў. Карандаш). *З м е н а ў А н д р э я пачыналася значна пазней, чым р а б о т а ў М а р ы н ы* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Н а д в а р э ў П і л і п а разраслася ліпа* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *А д о к а з ы ў С о м і к а былі слабыя* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Вядро малака — кожны ў д о й у к а р о в ы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Адметнай асаблівасцю словазлучэнняў з адносінамі прыналежнасці з'яўляецца нетрывалая сінтаксічная сувязь паміж іх часткамі, што выяўляецца ў імкненні залежнага слова аддзяліцца ад галоўнага і ўступіць у спалучэнне з дзеясловам-выказнікам. Ступень залежнасці прыйменнай часткі ад галоўнай пераважна вызначаецца яе месцам у сказе. Пры змененым парадку слоў залежная частка з прыназоўнікам *у* парывае сувязь з іменем і далучаецца да прэдыкатыўнага ядра сказа — да выказніка, параўн.: *Т в а р у х л а п ч у к а пачырванеў — Твар п а ч ы р в а н е ў у х л а п ч у к а.*

Словазлучэнні з адносінамі прыналежнасці, указваючы на прыналежнасць прадмета пэўнай асобе, істоце ці іншаму прадмету (у апошнім выпадку, як правіла, пры персаніфікацыі), пераважна замяняюцца сінанімічнымі ім беспрыназоўнікава-іменнымі словазлучэннямі з родным склонам назоўніка ці іменнымі словазлучэннямі з адносным прыметнікам: *кабінет у дырэктара — кабінет дырэктара, дырэктарскі кабінет, рука ў дзіцяці — рука дзіцяці, дзіцячая рука, шапка ў хлапчука — шапка хлапчука, хлапчукова шапка* і інш.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж* (*між*)

§ 60. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паміж (між)* пераважна выражаюць а з н а ч а л ь н а-п р а с т о р а в ы я адносіны. У гэтых словазлучэннях галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, які характарызуецца з боку залежнага слова паводле яго месцазнаходжання, размяшчэння ў прасторы сярод іншых прадметаў. Залежны назоўнік у такіх канструкцыях (акрамя назоўнікаў, што абазначаюць зборныя або рэчыўныя паняцці) звычайна ўжываецца ў множным ліку: *прагаліна між балот, сцежка між палеткаў, дарога між хвойніку, насып між вады, разора між град, трава між купін* і інш. *І толькі зірнуў я ў к у т м і ж г э т ы х д а р о г, як адразу спыніўся і аслупянеў* (Я. К о л а с. Страшнае спатканне). *У п р а с в е ц е м і ж д р э ў яны ўбачылі нейкую дзіўную рэч, прыкрытую мохам і зялёным галлём* (Я. К о л а с. Сустрэча з ворагам). *Цёплы ветрык падзімаў у ш ч ы л і н у м і ж б я р в е н н я* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Паўлюк таксама ўзяў кабылу і с ц е ж к а ю м і ж ж ы т а павёў яе ў Карчоўе* (К. К р а п і в а. Людзі-суседзі). *Туравец, схапіўшы дзве гранаты, што ляжалі ў я м ц ы м і ж к а р н я в і ш ч а, крыкнуў на хаду Шабуню* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Калі залежная частка гэтых словазлучэнняў складаецца з двух назоўнікаў, то апошнія могуць выступаць таксама і ў адзіночным ліку (побач з множным лікам): *Ён узорыўся ў адну п р а г а л і н у м і ж*

*нізкага густога* *к у с т а* *арэшніку і стромага* *п о к а т у* *ўзгорка* (Ц. Г а р т н ы. Трэскі на хвалях).

Такім жа чынам дыферэнцыруюцца па ліках назоўнікі залежнай часткі і пры аддзеяслоўных назоўніках: *Першыя громы! Сэрцу вы мілы, люб мне ваш* *с м е х* *п а м і ж* *г о р* (Я. К о л а с. Першы гром). *Ён быў асуджан на выгнанне* *і* *н а* *бясконцае* *б л у к а н н е* *п а м і ж* *н я б ё с а ў* *і* *з я м л і* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

З а ў в а г а. У сучаснай беларускай літаратурнай мове пры выражэнні азначальна-прасторавых адносін побач з формай роднага склону залежнага назоўніка паралельна ўжываецца форма творнага склону гэтага назоўніка, якая ў радзе выпадкаў з'яўляецца пераважаючай (гл. § 105), параўн.: *прагаліна між лесу — прагаліна між лесам, прасвет паміж дрэў — прасвет паміж дрэвамі* і інш. *Вялікая хата была прыткнута ў самы рог* *п р а г а л і н ы* *п а м і ж* *х в о й н і к у* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Шафёр рвануў быў машыну ўправа, каб сігануць у цёмны* *п р а г а л* *п а м і ж* *таўшчэразнымі* *х в о я м і* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем узаемнага дзеяння, выражаюць адносіны с у м е с н а с ц і: *размова між жанчын, сварка між дзяцей* і інш. Гэтыя словазлучэнні сінанімічны адпаведным канструкцыям з творным склонам назоўніка (*размова між жанчынамі, спрэчка між дзецьмі*, гл. § 108). *Як трохі* *г у т а р к а* *м і ж* *с я л я н* *заспакоілася, Васіль на змярканні выйшаў ціхенька з хаты* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *А* *г у т а р к а* *м і ж* *ж а н о к* *— вір слоў, бясконцы паток іх* (Я. К о л а с. Дрыгва). *У Сцяпана* *л а д* *м і ж* *д з е т а к,* *лад на полі, лад у хаце* (Я. К у п а л а. Сцёпка Жук).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж (між)* з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям з даданым азначальным сказам і могуць замяняцца апошнімі: *Вось у такі час поўдня прыйшла бяда ў маленькую і ціхую* *в ё с к у,* *ш т о* *л я ж а л а* *м і ж* *п а л ё ў,* *на ўзбярэжжы вялікай сажалкі* (Э. С а м у й л ё н а к. Дачка эскадрона). *Помню* *х а т к у* *я старэнькую,* *ш т о* *м і ж* *л е с у* *з а г у б і л а с я* (Я. К о л а с. Пад спеў ветру). *Ён* *с ц е ж а к,* *ш т о* *б я г у ц ь* *м і ж* *д р э ў,* *не зблытае ніколі* (А. К у л я ш о ў. Балада аб знойдзенай падкове).

## Словазлучэнні з вытворнымі адпрыслоўнымі прыназоўнікамі

§ 61. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і вытворнымі адпрыслоўнымі прыназоўнікамі *каля (ля), міма, абапал, вакол (навакол), побач, воддаль, паблізу, збоку, сярод, супраць (насупраць), пасярэдзіне, узбоч, паверх, усцяж, уздоўж* і інш. пераважна выражаюць а з н а ч а л ь н а-п р а с т о р а в ы я адносіны з рознымі адценнямі. У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў звычайна выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, назвы мясцовасцей, рэльеф і г. д.: *лужок каля рэчкі, вішняк абапал хаты, агарожа вакол сялібы, дарога побач лесу, дрэўцы воддаль саду, мясцовасць паблізу горада, вёска збоку балотца, узгорак пасярэдзіне вуліцы, клумба сярод двара, акно насупраць клёнаў, сцяжынка паверх схілу* [гары], *насып усцяж чыгункі, мяжа ўздоўж поля* і інш. *Маўчалі клёны* *і* *г р у ш ы* *к а л я* *х а т* (К. Ч о р н ы. Спатканне). *Яны ўдваіх, сынок і маці, з двара ідуць у бок ракі* *н а* *зыбкі* *м о с ц і к* *м і м а* *г а ц і,* *дзе разрасліся хмызнякі* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Беларускія* *б я р о з ы* *а б а п а л* *г а с ц і н ц а* *калыхалі думкі шумам хлапчуку ўкраінцу* (Я. К у п а л а. Тарасова доля). *Заманілі Даніка і гэтыя высокія бярозы, і прыгожыя* *д а р о ж к і* *в а к о л* *ш к о л ы* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб). *Трыбунай быў стары шырокі сасновы* *п е н ь* *с я р о д* *парослай навокал* *п а п а р а ц і* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Камендант паказаў* *н а* *к р э с л а* *с у п р о ц ь* *с т а л а*

(Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Ціха гулі і судрыгаліся балоты побач чыгункі* (Я. Колас. У палескай глушы).

Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца аддзеяслоўны назоўнік, выражаюць прасторавыя адносіны з азначальным адценнем. Структурна яны набліжаюцца да адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў, параўн.: *бегатня каля хаты — бегаць каля хаты, рух вакол Месяца — рухацца вакол Месяца, блуканне паблізу вёскі — блукаць паблізу вёскі* і інш. *Бегатню каля хаты ён прыняў за самую страшную адзнаку* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *супраць (процій)*, дзе залежнае слова абазначае прадметы або з'явы ў якасці аб'ектаў, на якія накіравана апрадмечанае дзеянне, названае галоўным словам, выражаюць аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем: *рух супраць вайны, выступленне супраць несправядлівасці* і інш. *Каржакевіч слухаў гарачую нервовую гаворку Соміка і яго блытаныя няпэўныя довады супраць Наздрэйкаў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Зноў забірае дзеда абурэнне процій нявесткі* (Я. Колас. Называецца — зарабіў).

Калі галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны прадмет, прызначаны для барацьбы з чым-небудзь, словазлучэнні з прыназоўнікам *супраць (процій)* выражаюць азначальныя адносіны прызначэння. Такія словазлучэнні сінанімічны іменным словазлучэнням з прыназоўнікам *ад* (гл. § 46), параўн.: *парашкі супроць кашлю — парашкі ад кашлю, лякарства супроць грыпу — лякарства ад грыпу.*

У словазлучэннях з прыназоўнікам *сярод,* у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае адцягненае паняцце, а залежнае слова — асоб, калектыў, выражаюцца азначальна-аб'ектныя адносіны з указаннем на стан асоб, уласцівы ім у дадзены момант: *паніка сярод акупантаў, хваляванні сярод беспрацоўных* і інш. *Цікавасць да настрою сярод рабочых іх завода і суседніх фабрык цягнула яго пабыць між імі* (Ц. Гартны. На перагібе).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *паводле* выражаюць адносіны адпаведнасці. Даволі часта яны ўскладняюцца паяснялымі членамі, якія ўдакладняюць значэнне назоўніка ў залежнай частцы: *развіццё паводле тэорыі Дарвіна, падзел* [назоўнікаў] *паводле склонавых канчаткаў* і інш. *Ён перарабляе чалавека паводле ўласнага хацення; надае двуногаму формы паводле свайго капрызу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *замест, узамен (наўзамен)* выражаюць адносіны замяшчэння: *пластмаса замест металу, вотруб'е ўзамен мукі* і інш. *«Вось табе,— кажа,— пасцель замест пярынаў»* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *І без грошай, і без сала, і кульцяпкі замест ног* (К. Крапіва. З «барышом»).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *пасля, напярэдадні* і інш., залежнае слова якіх указвае на час, калі адбываецца дзеянне, або ўдакладняе пэўны прамежак часу, названы галоўным словам, выражаюць азначальна-часавыя адносіны: *наступленне пасля разведкі, ад'езд пасля адпачынку, перыяд пасля рэвалюцыі, дзень напярэдадні свята* і інш. *Юрка Іванавіч расказаў мне аднойчы пра першую калгасную сяўбу пасля вайны* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

### Словазлучэнні з вытворнымі адыменнымі прыназоўнікамі

§ 62. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і адыменнымі прыназоўнікамі сустракаюцца пераважна ў публіцыстычных творах, у газетных матэрыялах, у навуковых працах і ў дзелавым пісьме. У творах мастацкай літаратуры яны ўжываюцца рэдка. Па структуры слова-

злучэнні з адыменнымі прыназоўнікамі звычайна з'яўляюцца мнагачленнымі. Ролю галоўнага слова ў іх часцей за ўсё выконваюць аддзеяслоўныя назоўнікі, а ў паасобных выпадках — назоўнікі, якія абазначаюць асоб або адцягненыя, неканкрэтна-прадметныя паняцці.

Словазлучэнні з адыменнымі прыназоўнікамі могуць выражаць:

а) азначальна-абмежавальныя або азначальныя адносіны з адценнем удакладнення ці раскрыцця зместу паняцця, названага галоўным словам: *пазнанні ў галіне палеанталогіі, мерапрыемствы па лініі прафсаюза, поспехі ў справе адукацыі, развіццё ў сэнсе аднаўлення, выступленне ў парадку самакрытыкі, нататкі ў форме тэзісаў, назоўнік у функцыі дзейніка, рэнегат у ролі пасрэдніка, адшчапенец у вобразе аднаасобніка, здраднік у асобе Саўкі Мільгуна, гуманнасць у адносінах да людзей, прынцыповасць у дачыненні да сваіх выхаванцаў, несправядлівасць з боку брыгадзіра, размова наконт зямлі, гутарка ў адносінах паездкі, лекцыя на тэму сацыялістычнага будаўніцтва, адзенне ў дастасаванні да ўмоў працы, даходы ў выглядзе чыстай прыбылі, рашэнні ў святле XXIII з'езду партыі, сцяганосцы на чале калоны* і інш.

*Андрэй быў майстар па часці сох* (Я. Колас. Малады дубок). *Палескія людзі былі вялікімі энтузіястамі ў справе ўпарадкавання сваіх прыродных багаццяў* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Ён як праваднік, на якім ляжала адказнасць ў сэнсе захавання войска ад розных ліхіх неспадзевак, праяўляў усе адзнакі руплівасці* (Я. Колас. Дрыгва). *Сядзеў там у форме вучня настаўніцкай семінарыі хлопец* (К. Чорны. Трыццаць год). *У Андрэя з Санкоўскім праца ішла гладка, хоць таксама спачатку была нязграбнасць з боку Андрэя* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Гэта нацыя ў асобе высокага начальства падала ўдзячную руку сваймy ваяўнічаму сыну!* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Гэта было не дзівацтвам, не дзіцячай забаўкай з боку Тамаша, а сур'ёзным заняткам, важнай працай* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Слухалі з вялікай зацікаўленасцю і апетытам, як бы ім расказвалі рамантычныя гісторыі на тэмы кахання* (там жа). *Дзеда Піліпа абыходзіла балюча пытанне ў адносінах лёсу старых у калгасе* (Я. Колас. Адшчапенец). *Яна рашыла перайсці з Рыгорам да адкрытае гутаркі наконт наступнае з ім стрэчы* (Ц. Гартны. На перагібе). *Рэдактару прыходзілася выбіраць жанр і форму ў дастасаванні да панямонскага жыцця* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Там-сям на вуліцы грымяць аркестры на чале часцей* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

б) Азначальна-акалічнасныя адносіны са значэннем месца, кірунку *(дарога ў напрамку вёскі, рух у кірунку горада)*, часу *(адпачынак у час канікул, гутарка ў часе працы, догляд на працягу зімы)*, прычыны, выніку або ўмовы *(віншаванні з выпадку юбілею, адставанне з прычыны хваробы, мітынг з повагу пуску* [электрастанцыі], *смерць у выніку катастрофы, прыезд у сілу неабходнасці, дапамога на выпадак няўдачы)*, мэты або прызначэння *(дзейнасць у інтарэсах народа, прыезд з мэтай дапамогі, мерапрыемствы ў мэтах павышэння* [жыццёвага ўзроўню народа], *змаганне ў імя шчасця* [працоўных], *поціск* [рукі] *у знак удзячнасці, урачысты сход у гонар перадавікоў* [вытворчасці], *выйгрыш у карысць спартакаўцаў)*, спосабу дзеяння, меры, ступені *(апрацоўка* [металу] *шляхам рэзання, праверка* [трываласці] *пры дапамозе ультрагуку, выпільванне з дапамогай лобзіка, дапамога па меры магчымасці, праца ў меру сіл і здольнасцей)*.

*Андрэй з клункам за плячыма ідзе разам з бацькам па шляху ў напрамку мястэчка Глушэц* (П. Пестрак. Сустрэнемся на

барыкадах). *Яна пачала апавядаць аб сваім жыцці на працягу двух гадоў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Буйства пажару знаходзіла жывое водгулле ў Цімохавай душы, пазнаваўшай цяпер вышэйшы экстаз радасці з поваду разбурэння гэтага змяінага гнязда яго адвечных класавых ворагаў* (Я. Колас. Дрыгва). *Тут праца і творчасць, і веліч разгону, і яснасць пастаўленых мэт: змаганне ў імя вызвалення мільёнаў, каб сэрцы прыгнечання след* (Я. Колас. Будзьма гатовы). *Пачаліся тосты ў чэсць гаспадара і самых ганаровых гасцей* (З. Бядуля. Салавей).

Словазлучэнні з адыменнымі прыназоўнікамі, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, паўтараюць узор адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў і могуць замяняцца апошнімі, параўн.: *размова наконт зямлі — размаўляць наконт зямлі, рух у кірунку горада — рухацца ў кірунку горада, адпачынак у час канікул — адпачыць у час канікул.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 63. Прыназоўнікава-іменныя словазлучэнні з давальным склонам назоўніка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове прадстаўлены нешырока. Гэта тлумачыцца абмежаванасцю прыназоўнікаў, якія ўжываюцца з давальным склонам, і заменай некаторых з гэтых словазлучэнняў сінанімічнымі ім словазлучэннямі з формай роднага або меснага склону назоўніка як найбольш уласцівымі граматычнаму ладу сучаснай беларускай мовы.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *к*

§ 64. Словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *к* выражаюць азначальна-прасторавыя, аб'ектныя і часавыя адносіны.

У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі залежнае слова ўказвае на мясцовасць або пункт, у напрамку да якога вядзе тое, што названа галоўным словам: *роў к лесу, канава к балоту, канал к плантацыям, траншэя к падстанцыі, калідор к дыспетчарскай* і інш. *Дарогаю к лесу Рыгор цешыўся зеленню* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Не забудзь, дзяўчына-красна, гэту сцежку к кавалю* (А. Зарыцкі. Пра дзяўчыну і каваля). *Направа быў абрыў к рэчцы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ён стаў у чаргу к выхаду* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ён скіраваў на сцежку пры выхадзе к лесу* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Пры пераносным ужыванні назоўніка, які выконвае ролю галоўнага слова, словазлучэнне набывае ўстойлівы характар: *дарога к міру, шлях к вызваленню* і інш. *Ён паказаў ёй шлях к дабру* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Не зломлены к шчасцю вароты* (Я. Купала. Адвечная песня). *Сцежка к праўдзе ў нас адна* (К. Крапіва. Біблія).

§ 65. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае пэўнае субстантывіраванае дзеянне або якасную прымету, а залежнае слова — прадмет, у адносінах да якога гэта дзеянне ці прымета праяўляецца. Названыя канструкцыі звычайна будуюцца па ўзору адпаведных дзеяслоўных або ад'ектыўных словазлучэнняў (*імкненне к подзвігу—імкнуцца к подзвігу, падрыхтоўка к зіме—падрыхтавацца к зіме, дабрата к людзям — добры к людзям*), хоць у паасобных выпадках словазлучэнні з аддзеяслоўнымі назоўнікамі не супадаюць па форме з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі, параўн.: *прагнасць к волі — прагнуць волі, недавер'е к таварышу — не давяраць таварышу, любоў к людзям — любіць людзей* і інш. *Твае*

*сыны з пагардай к смерці сустрэлі ворага свінцом* (П. Глебка. Героі). *Імкненне к подзвігу жыло ў душы Савы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І гэту прыязнь к простым людзям народ заўсёды помніць будзе* (Я. Колас. Рыбакова хата). *І ад гэтай думкі захацелася яму моцна крыкнуць нешта такое, што б заставіла ўсіх іх адчуць радасную блізкасць — блізкасць людзей к чалавеку і чалавека к людзям* (К. Чорны. Новыя людзі).

Словазлучэнні, у якіх названы галоўным словам прадмет або апрадмечанае дзеянне характарызуецца з боку залежнага слова па яго прызначэнню ці мэтанакіраванасці, дадаткова ўскладняюцца азначальным адценнем прызначэння: *Успамінаўся вечар апошняй нядзелі, ліст к Зосі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Толькі вось, на бяду, зерня к севу няма* (Я. Купала. Адвечная песня). *Ён здалёку ўчуў гудок к выхаду на працу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Штодзённа тут можна было пачуць звон к абеду* (з газет).

§ 66. Словазлучэнні з часавымі адносінамі лексічна абмежаваны. У іх залежнае слова ўказвае на час, к наступленню якога штонебудзь адбываецца: *прыезд к ночы, выезд к абеду* і інш. *Ноч была на пераломе к дню* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 67. Словазлучэнні з назоўнікам у форме давальнага склону і прыназоўнікам *к* сінанімічны іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да* і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца апошнімі: *дарога к лесу — дарога да лесу, шлях к шчасцю — шлях да шчасця, гатаванне к святу — гатаванне да свята, чуласць к людзям — чуласць да людзей* і інш. *Нават думаў прайсці ў кірунку да яе дому, а далей перарашыў і вярнуўся на дарогу к дому* (Ц. Гартны. На перагібе).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 68. Адметнай рысай словазлучэнняў з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* з'яўляецца тое, што ролю залежнага слова ў іх можа выконваць назоўнік толькі ў адзіночным ліку. Пры ўжыванні залежнага назоўніка гэтых словазлучэнняў у множным ліку ён змяняе сваё склонавае значэнне і выступае з канчаткам не давальнага (як у рускай мове), а меснага склону, параўн.: *змяненне па роду — змяненні па родах.*

Словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* пераважна выражаюць азначальна-абмежавальныя адносіны. Залежнае слова ў іх абмяжоўвае і ўдакладняе змест паняцця, названага галоўным словам. Ролю галоўнага слова тут могуць выконваць назоўнікі розных лексіка-граматычных разрадаў. У залежнасці ад лексічнага значэння і граматычных прызнакаў галоўнага і залежнага слоў словазлучэнні з давальным склонам і прыназоўнікам *па* падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу, што характарызуецца з боку залежнага слова паводле яе прафесіі, роду заняткаў, месца дзейнасці або пражывання, сацыяльнай прыналежнасці, адносін да іншых асоб і г. д.: *спецыяліст па рамяству, аднакурснікі па універсітэту, калега па пяру, сусед па жыллю, селянін па паходжанню* і інш. *Таварыш Строіш, цагляр па прафесіі, асабліва разварушыўся каля цагельнага завода* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Гайрусь Каляда, якога мы выбралі брыгадзірам па будаўніцтву, працуе цяпер, як хлопцы кажуць, «па чарцяжах»* (там жа). *Працуе* [Чарапіцкі] *наглядчыкам па ўкладцы дошак* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *З дзяцінства майго выплывае задзёрысты танклявы хлапчына, сарвігалава, мой аднакласнік па школе* (Я. Скрыган. Бацькі і дзеці). *Ён не раз*

*гаварыў пра гэта з лясным сваім другам і т а в а р ы ш а м п а цяперашняй р а б о ц е Собалем* (І. М е л е ж. Блізкае і далёкае). *Ён і яго с я б р ы п а п р а ў л е н н ю пачалі арганізоўваць людзей* (К. К р а п і в а. Над ракой Арэсай). *Прымярала Насця капялюш свае с у с е д к і п а к в а т э р ы Тані Загорскай* (Я. К о л а с. Адукацыя). *На каменнях роднага горада была кроў і пот яго і яго б р а т о ў п а к л а с у* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата).

Сюды ж адносяцца словазлучэнні, якія ўказваюць на імя, прозвішча або мянушку асобы: *Максіма, п а п р о з в і ш ч у Т а н к а, забыць я ніяк не магу* (Я. К о л а с. Максіму Танку). *Адказвае сусед, п а м я н у ш ц ы Ш в а й к а* (Я. К о л а с. У палескай глушы).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае калектыўнае аб'яднанне, а залежнае слова — пэўны від або род дзейнасці, заняткаў. Азначальна-абмежавальныя адносіны ў гэтых словазлучэннях дадаткова ўскладняюцца адценнем прызначэння. Па сваёй структуры яны звычайна з'яўляюцца мнагачленнымі: *таварыства па распаўсюджанню палітычных і навуковых ведаў, камісія па збору подпісаў, кружок па вывучэнню марксізма-ленінізма, звяно па вырошчванню гародніны* і інш. *Яна кіравала сваім г у р т к о м п а в ы в у ч э н н ю п р ы р о д ы* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Часта сялянам чыталі лекцыі, наладзілі г у р т о к п а л і к в і д а ц ы і н е п і с ь м е н н а с ц і і наогул пакінулі добрыя сляды на гэтым месцы* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *У валасным аддзеле народнай асветы ішло пасяджэнне к а м і с і і п а н а з н а ч э н н ю і п е р а м я ш ч э н н ю н а с т а ў н і к а ў* (М. Ч а р о т. Веснаход).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны прадмет або паняцце, а залежнае слова ўдакладняе іх значэнне, раскрывае змест або ўказвае на іх прызначэнне: *падручнік па геаграфіі, лекцыі па мове, сход па падвядзенню вынікаў сацспаборніцтва, пасяджэнне па разгляду рацыяналізатарскіх прапаноў, мерапрыемствы па рамонту інвентару, месячнік па збору металалому, адрас па месцу работы* і інш. *Наогул ён любіў чытаць к н і г і п а т э х н і ц ы* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Сам пачаў чытаць слухачам л е к ц ы і п а с т а т у т у сельскагаспадарчай арцелі* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Займайся сваімі звычайнымі с п р а в а м і п а г а с п а д а р ц ы* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *На жаль, дзейсныя м е р ы п а в ы х а в а н н ю пісьменніка займаюць у іх долю нязначную* (Я. К о л а с. Аб літаратурнай працы). *Ударны м е с я ч н і к п а н а р ы х т о ў ц ы і в ы в а з ц ы лесу дзяржаве прайшоў у нас вельмі ўдала* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *За апошнія гады праведзена значная р а б о т а п а с к л а д а н н ю новых праграм, с т в а р э н н ю падручнікаў і дапаможнікаў* (з газет).

Акрамя азначальна-абмежавальных адносін, у іменных словазлучэннях з прыназоўнікам *па* могуць выражацца і некаторыя іншыя, больш прыватныя сэнсава-сінтаксічныя адносіны, напрыклад: а з н а ч а л ь н а-п р а с т о р а в ы я, пры якіх прадмет, названы галоўным словам, характарызуецца паводле яго месцазнаходжання (*трава па ўзлеску, будынак па суседству*), а з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы я з указаннем на памер або аб'ём прадмета, названага галоўным словам (*гарбузы па вядру, вочы па кулаку*), а з н а ч а л ь н ы я адносіны а д п а в е д н а с ц і або н е а д п а в е д н а с ц і (*паліто па таліі, туфлі па назе, хамут па каню, адзенне не па густу*) і г. д. *Па дарозе спыніліся к а л я спецыяльнага б у д ы н а ч к у п а с у с е д с т в у з хлявамі* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *«Процькаў садок?» — перапытаў малы і жвава ссунуў з ілба крыху н е п а яго р о с т у ш а п к у* (А. К у л а к о ў с к і. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 69. Словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, утвораны ад д з е я с л о в а або суадносны з ім семантычна, выражаюць

азначальна-аб'ектныя адносіны, нярэдка з абмежавальным адценнем прызначэння, або азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на месца ці спосаб дзеяння. Такія словазлучэнні асабліва часта бываюць мнагачленнымі: *нарада па ўздыму сельскай гаспадаркі, прапанова па пастаўленаму пытанню, пастанова па пад'ёму жывёлагадоўлі, праца па збіранню матэрыялаў, турботы па выхаванню дзяцей, прыпадабненне па значэнню* і інш. *З адказам Ермалая нічога больш не аставалася, як кінуць далейшыя клопаты па адшуканню сродкаў* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Перад касавіцай была ў нас нарада па жывёлагадоўлі* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Пятро Захаравіч таксама сказаў, што работы па перауўтварэнню Палесся маюць дзяржаўнае значэнне* (У. Краўчанка. Крыгаход). *Наконт тытулавання па бацьку ён зараз жа расказаў гаспадыні пікантны анекдот* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

У паасобных выпадках залежнае слова гэтых словазлучэнняў можа ўказваць на прычыну той з'явы, якая названа галоўным словам. У такіх словазлучэннях выражаюцца азначальна-прычынныя адносіны: *адсутнасць па нездароўю.*

§ 70. Словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* ў сучаснай беларускай мове набліжаюцца па значэнню да адпаведных іменных словазлучэнняў з месным склонам назоўніка (гл. § 126—128). Гэтыя словазлучэнні могуць супадаць і па форме, калі ролю залежнага слова ў іх выконваюць назоўнікі жаночага або мужчынскага роду (акрамя неадушаўлёных на *р, ж, дж, ш, ч, шч, ц* і паасобных на *г, х*). Блізкасць значэнняў і магчымая сінанімія склонавых канчаткаў ускладняюць магчымасці адрознення канструкцый з давальным прыйменным і прыназоўнікам *па* ад аналагічных канструкцый з месным склонам залежнага назоўніка. У сучаснай беларускай літаратурнай мове намячаецца агульная тэндэнцыя да паступовай замены словазлучэнняў з давальным склонам і прыназоўнікам *па* іменнымі словазлучэннямі з месным склонам — па ўзору адпаведных словазлучэнняў з залежным назоўнікам у множным ліку, у якім ён выступае толькі ў месным склоне як адзіна магчымым: *агент па збыту і нарыхтоўках, дзяжурны па аэрадрому і базах, сябры па ўзросту і грамадскіх справах* і інш.

Форма давальнага прыйменнага з прыназоўнікам *па* больш трывала захоўваецца ва ўстойлівых словазлучэннях тыпу *браты па класу, сябры па няшчасцю, таварышы па пяру, мерапрыемствы па развіццю гаспадаркі, меры па ўздыму жыццёвага ўзроўню, адказ не па густу, гарбузы па вядру.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ВІНАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 71. У словазлучэннях з вінавальным склонам залежнае слова падпарадкоўваецца галоўнаму пры дапамозе прыназоўнікаў *у(ва), на, за, па, з(са), праз, цераз, паўз, пад, пра, аб.* Найбольш прадуктыўнымі і разнастайнымі па значэнню з'яўляюцца канструкцыі з прыназоўнікамі *у, на.*

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *у (ва)*

§ 72. Словазлучэнні з вінавальным склонам і прыназоўнікам *у(ва)*, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, не суадносны па словаўтваральных і семантычных сувязях з дзеясловам, выражаюць наступныя віды азначальных адносін: колькасна-азначальныя, уласна азначальныя, азначальныя адносіны ўключэння, прызначэння, азначальна-прасторавыя.

Словазлучэнні з колькасна-азначальнымі адносінамі ў залежнасці ад значэння галоўнага слова — назоўніка і залежнай прыйменнай часткі, ролю якой звычайна выконваюць колькасна-іменныя спалучэнні або спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з азначальнымі займеннікамі *ўвесь, цэлы* і інш., падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх залежная прыйменная частка ўказвае на колькасны склад аб'яднаных у пэўную групу асоб ці прадметаў або на колькасць пэўных частак, з якіх складаецца асобны цэлы прадмет, названы галоўным словам: *атрад у дваццаць чалавек, звяно ў сем чалавек, статак у сотню галоў, акно ў шэсць шыбін, лесапілка ў два паставы* і інш. *Паліцыя групамі ў чатыры-пяць чалавек шнырала па вёсках* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Так ішлі яны па драўлянаму тратуарчыку ў тры дошчачкі і пазіралі на крамы і дамы з замёрзлымі вокнамі* (там жа). *У Камуне ў сотні кароў бродзяць стады* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *На таку ляжаў пасад жыта ў восем снапоў* (Я. Колас. Тоўстае палена). *Цагляная аграмадзіна ў чатыры паверхі высілася насупраць гарадскога парку* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Да адведзенай лініі заставаўся пласт у дзве цагліны* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата).

б) Словазлучэнні, у якіх залежная прыйменная частка ўказвае на меру плошчы, прасторы, меру ўладання, страты або доўгу: *плошча ў дваццаць квадратных кіламетраў, луг у трыццаць гектараў, гаспадарка ў тысячу гектараў, участак у дзесяць сажняў, агарод у пятнаццаць сотак, даход у дзве тысячы рублёў, страта ў трыста рублёў* і інш. *Драмала пушча ў сотні гоняў* (Я. Купала. Магіла льва). *Нашы старыя людзі з вёскі казалі, што гэтая сенажаць у трыццаць дзесяцін была прыдзелена нам, калі надзялялі зямлёю пасля паншчыны* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Мне трэба аддаць тут аднаму чалавеку доўг якраз у трыста рублёў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

в) Словазлучэнні, у якіх залежная прыйменная частка ўказвае на аб'ёмную, лінейную, вагавую або якую-небудзь іншую ўмоўна-тэхнічную адзінку вымярэння: *штабель у тры кубаметры, дошка ў два метры, дарога ў сто вёрст, блок у дзве з палавінай тоны, напружанне ў дзвесце вольт* і інш. *А над галавой гонкія ў два абхваты сосны сплятаціся кронамі пад небам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Бягуць каляіны ў сем кіламетраў* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Стаенны жарабец — крыж у тры аршыны, холкі рукой не дастаць — на дзесяць крокаў не падпусціць да сябе нікога* (А. Кулакоўскі. Нямко). *Нягледзячы на шосты дзесятак гадоў, быў у яго румянец ва ўсю шчаку* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Міхалку адарваў ад зямлі матор у некалькі дзесяткаў конскіх сіл* (З. Бядуля. Год за годам). *Пад столлю казармы замігалі закураныя рэдкія лямпкі ў дзесяць свечак* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

У склад залежнай часткі некаторых з гэтых словазлучэнняў побач з колькасна-іменным спалучэннем могуць уключацца агульныя назвы саміх адзінак вымярэння: *дошка даўжынёю ў два метры, блок аб'ёмам у два кубічныя метры, панель плошчаю ў тры квадратныя метры* і інш. *Кідае бомбы вагою ў пяцьсот кілаграм* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Неўзабаве на парозе паказалася тоўстая жанчына сярэдніх год у сажань ростам* (П. Пестрак. Пачатак).

Указанне на памер прадмета, названага галоўным словам — назоўнікам, можа выражацца шляхам параўнання яго з іншымі прадметамі: *Круглячок велічынёю ў пятак зрабіўся чыстым* (З. Бя-

дуля. Язэп Крушынскі). *У канцы гутаркі ён заўсёды акцэнтаваў кропку велічынёю ў стог* (там жа). *Былыя палеткі пазарасталі хмызняком і пустазеллем у рост чалавека* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай).

§ 73. У словазлучэннях з уласна азначальнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет або істоту, а залежнае слова — іх знешнія прызнакі: *папера ў клетачку, плацце ў гарох, хустка ў палоску, кофта ў крапінку, конь у яблыкі* і інш. Такія словазлучэнні лексічна абмежаваны. *Бывала астануцца яны з маткаю, адчыняць куфар і пачнуць пераглядаць цікавыя рэчы: пярсцёнкі, дарагія хусткі ў яркія бліскучыя, як агонь, кветкі* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 74. У словазлучэннях з азначальнымі адносінамі ўключэння галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу, а залежнае слова — якую-небудзь катэгорыю асоб, той або іншы кіруючы орган, грамадскую арганізацыю ці ўстанову, у якія гэта асоба ўключаецца: *кандыдат у дэпутаты, кандыдат у Вярхоўны Савет* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны. *Мая песня сёння будзе радасцямі ройнай аб любімых кандыдатах у Савет Вярхоўны* (Я. Купала. Кандыдатам народа). *Пачалі выбіраць дэлегацыю ў сайгас* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 75. Словазлучэнні з азначальнымі адносінамі прызначэння з'яўляюцца лексічна абмежаванымі. Да іх адносяцца канструкцыі тыпу *прыправа ў каўбасы, дровы ў печ, стружка ў металалом: Яму проста было цікава пацерціся тут, зрабіць пэўныя назіранні, каб мецы матэрыял у газету і праверыць некаторыя свае мыслі* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 76. У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет, а залежнае ўказвае на яго напрамак, накіраванасць у прасторы: *сцежка ў лес, калідор у кухню, ступенькі ў сад* і інш. [Міхась] *паказвае на стол у цэнтры пляцоўкі* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Па дарозе ў Оўруч трэба было прайсці шмат варожых заслонаў* (У. Краўчанка. Апавяданне пра смелае сэрца). *Але яна добра ведала дарогу ў сталоўку* (Я. Колас. Наталька, Джон і муха). *Дзверы ў сенцы былі адчынены* (У. Краўчанка. Палессе). *Яна пераступіла парог у сенцы, дзе было цёмна і халаднавата* (Ц. Гартны. На перагібе). *Ёсць на Беларусі, за ракой Бярозай, ціхая хаціна з вокнамі у сад* (П. Глебка. Хмара).

Пры пераносным ужыванні назоўніка, які выконвае ролю галоўнага слова, гэтыя словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *Ён, Ленін, азначыў, акрэсліў дарогі у новую праўду зямлі* (Я. Колас. Жыве між нас геній). *Дарога ваша — шлях герояў, у новы дзень бліскучы след* (Я. Колас. Камсамольцам).

§ 77. Словазлучэнні з прыназоўнікам *у (ва)*, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, утвораны ад дзеяслова ці прыметніка або суадносны з імі семантычна, могуць выражаць наступныя адносіны: аб'ектныя (*вера ў перамогу, пераход у новую якасць*), прасторавыя (*пранікненне ў космас, уваход у цэх, стук у дзверы*), часавыя (*адпраўленне ў поўнач, сустрэча ў Дзень перамогі*), акалічнасныя спосабу дзеяння (*ворыва ў дзесяць плугоў, вязанне ў крыжыкі*), меры (*прынцыповасць у меру*). *Гэта будзе каштоўным укладам не толькі ў беларускую літаратуру, але і сусветную* (К. Крапіва. Думкі пра сатыру). *Ён часта станавіўся праваднікам у дзіцячых гульнях у вайну* (Ц. Гартны. На перагібе). *Першы выезд у лес на санях* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Старшыня сельсавета, друг Станіслава, быў забіты стрэлам у акно* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Колькі часу Явіч упарта думаў пра дзіўнае спатканне, пра дзіўныя нечаканасці*

*ў гэтыя дні* (К. Чорны. Спатканні з аспаватым чалавекам). *Скрозь цэмент, кладка ў пяць цаглін, і толькі дзве ўнутраных сцяны — гідраўлічная вапна* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Гарачнасць, але ў меру, таксама карысць прыносіць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 78. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *на* складаюць прадуктыўны і семантычна разнастайны тып іменных канструкцый. Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, не суадносны па ўтварэнню з дзеясловам, могуць выражаць азначальныя адносіны прызначэння, аб'ектна-абмежавальныя, уласна азначальныя, азначальна-акалічнасныя адносіны з адценнямі меры, памеру, колькасці, азначальна-прасторавыя з рознымі адценнямі, якасна-азначальныя з прасторавым адценнем і азначальна-часавыя.

Словазлучэнні з азначальнымі адносінамі прызначэння складаюцца з назоўнікаў розных лексічных груп, аднак ролю галоўнага слова тут пераважна выконваюць назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем: *дошкі на столь, гонты на хату, тара на яблыкі, мех на муку, дуб на спіцы, жыта на насенне* і інш. *Яшчэ праз тыдні два Капейка згадзіў нарэшце скрынку на авёс* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Для іх была спецыяльна здабыта гліняная місачка на дзёгаць* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Ён бы жадаў выказаць вяскоўцам, як трэба разумным вокам выбіраць дрэва на клёпкі, на дны, на начоўкі, як зграбна можна гэтыя пасудзіны рабіць* (З. Бядуля. Бондар). *Ваганеткі нагружаны да палавіны кругляками на шпалы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Цёлку аддаю, аддаю воз, плуг, барану і авёс на насенне* (П. Пестрак. Яе перамога).

Значна радзей у ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць назоўнікі з неканкрэтна-прадметным значэннем: *Гэта стала для многіх сігналам на выхад* (Я. Брыль. Пачатак). *Пасля праразлівай сірэны на вячэрнюю змену роўны шоргат, гул і стук з цэхаў здаваўся, як цішыня* (К. Чорны. Браты). *Для сябе і для сваіх блізкіх сяброў я пісаў, часамі, вершы жартаўлівыя, на злобу дня* (К. Крапіва. Слова да малодшых).

У паасобных выпадках ролю галоўнага слова ў такіх словазлучэннях выконваюць назоўнікі са значэннем грашовай адзінкі або колькасна-іменныя спалучэнні, якія таксама звязаны з грашовым лікам: *У другім вузельчыку ляжалі два злоты на крупы, саракоўка на тараны і селядцы; залатоўка на соль і газу; дзве дзесяткі і чатыры грошы на вобмешку япручку і яшчэ некалькі медзякоў на тытун і запалкі* (Я. Колас. Тоўстае палена).

§ 79. У словазлучэннях з аб'ектна-абмежавальнымі адносінамі ў ролі галоўнага слова звычайна выступаюць асабовыя назоўнікі з ацэначным значэннем, якія ў структуры сказа выконваюць прэдыкатыўную функцыю, а ў ролі залежнага слова — назоўнікі са значэннем субстантываванага дзеяння, працэсу: *мастак на выдумкі, майстар на жарты* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны. *Вясёлая, жывая, дурасліваая, свавольніца і першая штукарка на розныя забаўкі і выдумкі — вось якая была Кублікавых Аўгіння* (Я. Колас. Дрыгва). *Ён сам займаўся паляваннем і быў аматар на такія выдумкі* (З. Бядуля. Фрося). *А ты ў нас галоўны спец на лён* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Заўвага. У мастацкіх творах паасобных пісьменнікаў сустракаюцца словазлучэнні з аб'ектна-абмежавальнымі адносінамі, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць аса-

бовыя назоўнікі, што належаць да групы стылістычна нейтральнай лексікі: *Андрэй вярнуўся ў камітэт, сказаў Сучку, што знойдзе чалавека на сакратара* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сягоння днём на людной вуліцы ўбачыў я Досю з мужам — былым практыкантам на каморніка* (К. Чорны. Хвоі гавораць).

§ 80. У словазлучэннях з уласна азначальнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу, істоту або прадмет, а залежнае слова ўказвае на ўласцівыя ім якасці, прызнакі. Пры залежным слове нярэдка ўжываюцца паясняльныя члены, якія складаюць неабходную структурную частку цэлай канструкцыі: *І выйшаў бы з яго машыніст на славу* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Тады ён быў штукар на ўсе рукі* (Я. Колас. Чорт). *І ў сетцы б'ецца язь якраз на дзядзькаў густ* (А. Куляшоў. Добры чалавек). *На ложку ляжаў тутэйшы настаўнік з громкім прозвішчам на дваранскі лад — Срэтун-Сурчык* (Я. Колас. На ростанях). *І выдумаў нехта штуку на дзіва ўсяму Глушцу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 81. Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі адносінамі меры, памеру, колькасці складаюць прадуктыўны тып прыназоўнікава-іменных канструкцый. У ролі залежнай часткі гэтых словазлучэнняў пераважна выступаюць колькасна-іменныя спалучэнні або спалучэнні назоўніка ў форме вінавальнага склону з азначальнымі займеннікамі *ўвесь, цэлы,* якія ўказваюць на лічбавую велічыню якой-небудзь аперацыі, на памер прадметаў, іх колькасць, кошт, састаў і г. д.: *рахункі на тысячы рублёў, стол на шэсць чалавек, бутэлька на паўтара літра, будынак на чатыры паверхі, абаранкі на тры рублі, акардэон на восемдзесят басоў* і інш. *Ён пры гэтым таропіць у неба фіялкавыя вочы з чырвонымі жылкамі і мармыча лікі на мільёны і мільярды* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *На гэту работу яму куплялі ў мястэчку фарбы на цэлы пятак* (З. Бядуля. Велікодныя яйкі). *Пабудаваў дом на чатыры пакоі, купіў дзве пародзістых каровы* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *Добра ведаю старадаўнюю драўляную свісцёлку на шэсць-сем галасоў* (З. Бядуля. Жалейка).

Словазлучэнні, у якіх колькасна-іменныя спалучэнні ўказваюць на памер якога-небудзь памяшкання па яго ўмяшчальнасці, дадаткова ўскладняюцца азначальным адценнем прызначэння: *А над усімі будынкамі ўзвышаецца краса і гордасць калгаса — клуб на 250 месц* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Клуб, з глядзельнай залай на трыста асоб, у сярэдзіне быў яшчэ не закончаны* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

§ 82. Словазлучэнні з азначальна-прасторавымі адносінамі ў залежнасці ад лексічнага значэння назоўнікаў, што выступаюць у ролі галоўнага і залежнага слоў, падзяляюцца на дзве групы:

а) словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны з адценнем напрамку: *дарога на ўсход, дзверы на балкон, вокны на поўдзень* і інш. *Хата ў Шаблюка старая і амаль што самая вялікая ў вёсцы — з трыма шырокімі вокнамі на вуліцу, без аканіц* (І. Шамякін. Крыніцы). *Рахмілька абганяе фурманкі, адчыняе вароты на двор* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Вось ужо трэці дзень, як я блукаю па лесе і не магу знайсці дарогі на лесапільню* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Варта толькі сесці ў трамвай, які ідзе маршрутам на аўтазавод, як ты ўжо адной нагой нібы і на месцы* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Я ведаю вашу пасадку: упэўнены курс на маяк, тры кропкі на вузкіх плашчадках і тонкае лініі знак* (П. Глебка. Пілотам).

Пры пераносным ужыванні назоўніка, які выконвае ролю галоўнага слова, словазлучэнне набывае ўстойлівы характар: *курс на мірнае суіс-*

*наванне, напрамак на развіццё цяжкай прамысловасці* і інш. *Дык вось вам канкрэтная задача — трэба ўзяць к у р с  н а  с т в а р э н н е  партызанскага  а т р а д а* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Названая група словазлучэнняў суадносіцца па значэнню з даданым азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які* і можа замяняцца ім. *Ён падышоў  д а  д з в я р э й,  ш т о  в я л і  н а  б а л к о н* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры).

б) Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны з адценнем памеру. У якасці залежнай прыйменнай часткі іх пераважна выступаюць колькасна-іменныя спалучэнні або спалучэнні назоўнікаў з няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі, азначальнымі займеннікамі *ўвесь, цэлы* ці з формай роднага склону другога назоўніка, якія ўказваюць на меру прасторы або на памер канкрэтнага прадмета, названага галоўным словам: *круг на пяць вёрст, хустка на ўсю спіну, хамут на цэлы метр, сенакос на некалькі гектараў* і інш. *К в а д р а ц і к  з я м л і  н а  ш э с ц ь  а р ш ы н  у хаце быў усёй Фросінай гаспадаркай* (З. Б я д у л я. Фрося). *На правай сцяне вісіць шэрая  з а с л о н а  н а  ш ы р ы н ю  д з в я р э й* (П. П е с т р а к. Першыя ўсходы). *Хутка  ш л я х  г а н о ў  н а  т р о е  быў убраны пракламацыямі* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Змалоць за сёння б льга, ды, мусіць, на млыне  н а  т р ы  в я р с т ы  ч а р г а* (А. К у л я ш о ў. Глушцы).

§ 83. Словазлучэнні, якія выражаюць я к а с н а-а з н а ч а л ь н ы я адносіны з прасторавым адценнем, лексічна абмежаваны. У гэтых словазлучэннях галоўнае слова называе асобу па яе прафесіі, роду занятkaў, па яе ўнутраных або знешніх прызнаках, а залежнае слова ўказвае на мяжу распаўсюджання, пранікнення, уплыву яе знакамітасці. Пры залежным назоўніку такіх канструкцый заўсёды ўжываюцца азначальныя займеннікі *ўвесь, цэлы: Мама адвяла яе да Рыгора Лялычука, далёкага іх родзіча і першага  б а г а ц е я  н а  ў с ю  в ё с к у* (І. М е л е ж. Адна). *У гэтай пушчы з перадвекаў,— што так драмала  ўдоўж і ўшыр, — сядзібу меў сабе Машэка,  р а з б о й н і к  страшны  н а  ў в е с ь  м і р* (Я. К у п а л а. Магіла льва).

§ 84. У словазлучэннях з  а з н а ч а л ь н а-ч а с а в ы м і адносінамі назоўнік у ролі залежнага слова ўказвае на час, на які што-небудзь намячаецца, або ўдакладняе прамежак часу, названы галоўным словам: *ноч на суботу, палавіна на пятую, планы на будучае* і інш. Калі часавае значэнне залежнага слова— назоўніка з'яўляецца агульным, не канкрэтным, то пры ім заўсёды ўжываецца дапасаванае або недапасаванае азначэнне: *планы на бліжэйшыя дні, праекты на наступныя гады, інструкцыі на перыяд дзяжурства* і інш. *Ехаць яму прыйшлося  а с т а т а к  н о ч ы  н а  с у б о т у,  цэлы дзень і  к у с о к  н о ч ы  н а  н я д з е л ю* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Заканчвай работу, Сцяпанавіч. Роўна  п а л о в а  н а  п я т у ю* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *Амяльян і Гамыра стаіліся каля хлява пад застрэшшам і ціхенька абмяркоўваюць  п л а н  работы  н а  гэтую  н о ч* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»).

Пры ўказанні на лічбавую велічыню працягласці той ці іншай з'явы ў склад залежнай прыйменнай часткі можа ўключацца колькасна-іменнае спалучэнне: *мерапрыемствы на дзесяткі гадоў, планы на два кварталы* і інш. *Эх, каб  д о ж д ж  н а  т р ы  д н і... Гэта ж ліпень у нас, а жаўцеюць лісты — проста восень* (З. Б я д у л я. Спякота).

§ 85. Словазлучэнні з прыназоўнікам *на,* у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік, у т в о р а н ы  ад  д з е я с л о в а  або  с у а д н о с н ы  з ім семантычна, выражаюць:

а) а б'е к т н ы я  адносіны: *напад на абарону* [праціўніка], *скарга на абслугоўваючы персанал, заява на валакітчыка* і інш. *Са стукам мяшаюцца галасы людской гаворкі ды  к р ы к і  н а  к о н е й* (К. Ч о р н ы. Па дарозе). *І яшчэ адна  к р ы ў д а  н а  с ы н о ў  жы-*

*ве ў дзедавым сэрцы* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *У мяне злосць на Астапа Варывончыка* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Хвіліну ён ішоў моўчкі, пераніываючы нанава абурэнне на Рыгора* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Можа, і сапраўды ён знайшоў якія-небудзь доказы на Наздрэйку* (там жа). *Рабілася гэта паволька, часта з аглядкаю на суседзяў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Ты падумаеш, дзяўчына, што прыйшоў на ліст адказ* (А. Куляшоў. Адказ). *А калі занядужала там, на збавенне надзея слабая* (А. Куляшоў. Алёнка).

б) Аб'ектна-абмежавальныя адносіны з азначальным адценнем: *разведка на нафту, попыт на тавары* [масавага ўжытку], *гутаркі на тэму дня* і інш. Значэнне залежнага слова гэтых словазлучэнняў нярэдка ўдакладняецца дапасаванымі або недапасаванымі азначэннямі. *Частку збожжа, што падлягала размеркаванню на працадні, агульны сход рашыў аддаць на будаўніцтва* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *На кваліфікаваных рабочых тут быў вялікі попыт* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Ідзе гандаль на жывёлу, на збожжа, на рэчы хатняга вырабу* (Ц. Гартны. На перагібе). *Але я да таго адчуваў голад на друкаванае слова, што краў у бацькі нават газеціну, якую ён хаваў на закруткі цыгарак разам з тытуном* (З. Бядуля. Анчар). *І ў тыя дні вячыстай славы абрабаваны бедны люд крывёй плаціў за наша права на хлеб, на працу, на зямлю; за права на лясы і горы, на залатыя скарбы руд* (П. Глебка. Ліст брату).

в) Прасторава-азначальныя адносіны з адценнем напрамку або меры праяўлення дзеяння, працэсу. У словазлучэннях з прасторава-азначальным адценнем меры ў якасці залежнай прыйменнай часткі заўсёды выступаюць або колькасна-іменныя спалучэнні, або спалучэнні назоўнікаў з няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі ці азначальнымі займеннікамі *ўвесь, цэлы: напрамак на вышку, кірунак на Маскву, пад'ём на гару, адхіленне* [ад курсу] *на пяць міль, недалёт на некалькі метраў, аб'езд на цэлы кіламетр, трэск на ўвесь лес* і інш. *Маўклівы цяпер Гарус сунуў яму руку і правёў цераз карыдор да выхаду на вуліцу* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Падняў мяцеж на сотні міль* (З. Бядуля. Вандроўка). *Бой ідзе нарыхтаваны — бой на цэлы свет* (З. Бядуля. Шляхі). *Ад цямна да цямна ў кузні вясёлы звон на ўсё сяло* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Вольна, як вецер, ні ўсю старонку з коласам колас пачне гамонку* (Я. Купала. Сей, вольны сейбіт!).

г) Часавыя адносіны з азначальна-абмежавальным адценнем: *прыезд на нядзелю, распараджэнне на пяцідзёнку, паездка на цэлы месяц* і інш. У ролі залежнай часткі такіх словазлучэнняў выступаюць як паасобныя назоўнікі з прыназоўнікам *на*, так і спалучэнні слоў, некаторыя з якіх з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі. *Заціхлі скрозь жняяркі—прыпынак на абед* (П. Глебка. Хмаркі). *А тут і спаткала абодвух ваяк вялікая ростань на некалькі год* (П. Глебка. Апошняя стрэча). *Атрымаўшы ўказанні на цэлы дзень, яны ішлі кожны на свой участак* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Запасы Сымона Чарнюка на «чорны дзень», на «канец свету» запоўнілі хатку дзе-нідзе да самай столі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

д) Азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння, меры: *размова на спеўны манер, пералівы на розныя тоны, перавыкананне на паўтара працэнта* і інш. Паясняльныя члены пры назоўніку залежнай часткі тут амаль заўсёды выступаюць у якасці структурна неабходных элементаў прыназоўнікава-іменнай канструкцыі ў цэлым. *Былі засеўкі і на новы лад* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *А перад ім у такім жа ўбранні на свой лад стаіць цёмнавалосая*

*ў слязах Мар'яна* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *А смех галасы звініць у вушах пана Ваклівы, бязлітасны, на розныя галасы звініць у вушах пана Вакліва. Рапарт аб выкананні пасеўшамірскага* (З. Бядуля. Салавей). *Рапарт аб выкананні пасеўнага плана на сто і восем дзесятых* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

е) Азначальна-акалічнасныя адносіны мэты, умовы, выніку: *прыезд на заработкі, стаўка на выйгрыш, падзеі на карысць* [працоўным] і інш. *Усім партызанскім злучэнням — загад той галосіць — павесці вайну на знішчэнне шляхоў яго зносін* (Я. Колас. Адплата). *Мікіта змоўк і падпісаў умову на трэці сноп* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Яны пачалі перацягваць людзей на свой бок рознымі хітрымі слаўцамі, гарэлкай, пазыкамі збожжа і грошай на адработак* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Буржуа прыдумала вайну на пагібель нашаму брату* (З. Бядуля. Год за годам).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *за*

§ 86. Словазлучэнні з прыназоўнікам *за*, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, не суадносны з дзеясловам, колькасна абмежаваны. Яны могуць выражаць:

а) аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем паходжання: *грамата за выдатную вучобу, ордэн за працоўную доблесць, прэміяльныя за перавыкананне плана* і інш. *А грошы за хату ён прапусціў* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Такім чынам, грошы за каня засталіся ў «альбоме» «на памяць патомству»* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Калі заробкаў у Боруха не было, тады ён ездзіў па вёсках спаганяць старыя даўгі за шыццё ботаў, аб якіх у добрыя гады заўсёды забываўся* (З. Бядуля. Год за годам).

б) Азначальна-якасныя адносіны з акалічнасным адценнем меры, ступені: *работнік за дзесяцярых, ударніца за дваіх* і інш. *Яна заўсёды крычала на яго, што ён гультай, здароўе мае за пяцёх быкоў, а не можа ні капейкі зарабіць* (З. Бядуля. Злодзей).

в) Азначальна-прасторавыя адносіны: *рэчка за вярсту* [ад пасёлка], *вёска за тры вярсты* [ад чыгункі] і інш. У склад залежнай часткі гэтых словазлучэнняў можа ўваходзіць колькасна-іменнае спалучэнне з назвай таго пункта, адносна якога робіцца адлічэнне: *Нехта пачаў стукацца ў дзверы. Мой сябар В., загадчык савецкай гаспадаркі за дзесяць вёрст ад Мінска* (З. Бядуля. Салавей).

г) Азначальна-часавыя адносіны: *дакументацыя за справаздачны перыяд, адпускныя за месяц* і інш. *Дома пражыць танней, можна не чапаць пенсіі за летнія месяцы* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён ведаў розныя байкі аб канакрадах ваколіцы за апошнія сто гадоў* (З. Бядуля. Салавей). *Гэта нататкі за месяц новай працы* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін).

§ 87. Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца аддзеяслоўны назоўнік або назоўнік, суадносны з дзеясловам семантычна, выражаюць аб'ектныя, прасторавыя або часавыя адносіны.

У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі залежнае слова можа ўказваць на:

а) аб'ект дасягнення, дамагання чаго-небудзь: *барацьба за незалежнасць, бітва за Маскву, агітацыя за мір* і інш. *Гэта йшло за свабоду змаганне* (П. Трус. Юны змаганец). *На святую барацьбу за свабоду, за чэсць зямлі ўзняўся вялікі савецкі народ* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам). [Падпольшчыкі] *вялі прапаганду за Саветы* (Я. Колас. Дрыгва). [Васіль] *падрабязна расказаў пра спрэчку за жняярку* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *Да-*

*лоў вайну за інтарэсы купцоў і дваранства!* (Я. Колас. Сяргей Карага).

Да гэтай групы належаць таксама словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляюцца аддзеяслоўныя асабовыя назоўнікі тыпу *змагар, барацьбіт, ваяка: У вечную спадчыну пільнасць і спрыт яму адказалі героі — вялікай радзімы маёй змагары за наша жыццё маладое* (П. Глебка. На варце). *І ўсе гэтыя мучанікі за праўду выклікалі здзіўленне і глыбокае спачуванне* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Не забылі добры людзі ваяка за долю, што злажыў сваю галоўку, як травінку ў полі* (Я. Купала. З угодкавых настрояў).

б) Аб'ект надзялення, узнагароды або ўздзеяння, спагнання: *узнагарода за працу, падзяка за службу, спагнанне за пратэрміноўку, вымова за правіннасць, пакаранне за непаслушэнства, кара за здраду* і інш. *Мышатка горда цягнула дахаты мяхі збожжа — плату за вартаванне* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Бацька Рывы аддаў тады свой заробак за цэлую пару чобатаў новых* (М. Лынькоў. Гой). *Паклон мой народу за песні, што даў, навучыў, як складаюць* (Я. Купала. Паклон мой народу за песні). *Хай запомніць вораг люты — дні адплаты надышлі за пажары, за пакуты і за гора на зямлі* (К. Буйла. Каваль). *Толькі малодшы сын Цыпрука не забывай аб штрафе за кантрабанду* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

в) Аб'ект, якім абумоўліваецца ўнутраны стан асобы, яе адчуванне: *гонар за Радзіму, гордасць за савецкіх людзей, боль за няўдачу, крыўда за несправядлівасць* і інш. *І адразу ахапіў яго страх, самы большы страх чалавечы—страх за сваё жыццё* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Ні баязлівасці за цэласць яе, ні спачування ёй не знаходзілася месца ў яго нутры* (Ц. Гартны. На перагібе). *І крыўда за чалавека з новай сілай уздымалася ў грудзях* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Высокае становішча грамадзяніна сацыялістычнай краіны напоўніла беларуса гонарам за сябе і за сваю вялікую краіну* (К. Крапіва. Аб характары беларуса).

Словазлучэнні з прасторавымі і часавымі адносінамі колькасна абмежаваны.

У словазлучэннях з прасторавымі адносінамі залежнае слова ўказвае на месца перамяшчэння прадмета ў прасторы: *падзенне за борт, высяленне за межы* [раёна] і інш. *Рыгор выйшаў у пустую глядзельную залу і прыблізіўся да ўваходу за сцэну* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Для паездак за горад быў вызначаны спецыяльны транспарт* (з газет).

У словазлучэннях з часавымі адносінамі залежная частка ўказвае на меру часу, за які або на працягу якога адбывалася ці паўтаралася дзеянне, названае галоўным словам: *справаздача за квартал, падлікі за сезон, дапамога за апошнія гады* і інш. *Кватэрная плата за дваццаць, прыблізна, гадоў вярнула яму гэты капітал з капітарам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Аднойчы паскардзіўся, што бацька са злосці парваў усе яго творы — працу за два гады* (там жа).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 88. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове нешырока. Амаль усе яны ўключаюць у свой склад колькасна-іменныя спалучэнні, нярэдка са словамі, якія ўдакладняюць, абмяжоўваюць названую імі лічбавую велічыню, і могуць выражаць:

а) азначальныя адносіны з акалічнасным адценнем меры, памеру, колькасці: *прэмія па сто рублёў, падатак па два цэнтнеры* [з гек-

тара], *штраф па сорак капеек, бярвенні па пяць метраў, хлапчукі па шэсць-сем гадоў* і інш. *Аміля Барткевіч са сваім звяном дабілася ўраджаю па 28 цэнтнераў з гектара* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Калі сказаць, дзве хвойкі па пяць вяршкоў у пні, па пайтары сажні ўздоўжкі, без сукоў, дробнаслойныя, гэта выходзіць такой манерай...* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Ля яе тулілася двое дзетак — хлопчык і дзяўчынка па год — адно пяць, другое шэсць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

б) Азначальныя адносіны саставу: *звенні па пяць чалавек, пачкі па дваццаць кніг, каробкі па шэсцьдзесят запалак, канвалюткі па шэсць таблетак* і інш. *Разбівайся на групы па шэсць чалавек* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *У працягу двух год ён выпусціў два зборнікі паэзіі па шаснаццаць старонак кожны, па восем радкоў на старонцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Дастаў прыхованыя тры «керанкі» па сорак рублёў* (Я. Колас. Называецца — зарабіў).

в) Азначальна-прасторавыя адносіны з адценнем месца або мяжы распаўсюджання прадмета, названага галоўным словам: *участак па той бок* [лесу], *мясцовасць па левы бок* [ракі], *трава па пояс, рачулка па калена* і інш. *Бабка ведала ўсіх будачнікаў па адзін і другі бок раз'езду і вельмі раіла пагасцяваць у Бабініча* (Я. Колас. У палескай глушы). *Зусім іншы настрой і іншыя думкі выклікае зямля па той бок граніцы* (Я. Колас. Макарка Навак). *А ў лагчыне перад вокнамі драсён па пахі* (А. Кулакоўскі. Радзіны ў Забродскіх).

г) Азначальна-часавыя адносіны з адценнем памеру: *заняткі па шэсць гадзін, перапынкі па дзесяць мінут* і інш. *Яму крыху і дакучыла за зіму гэта работа па восем і па дзесяць гадзін у дзень* (Я. Колас. У палескай глушы).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з(са)*

§ 89. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з (са)* выражаюць азначальныя адносіны з адценнем прыпадабнення аднаго прадмета да другога па памеру. У склад такіх канструкцый нярэдка ўключаюцца назоўнікі ў форме творнага склону *велічынёй, памерам* і г. д.: *галоўкі з вядро велічынёй, птушачка з арэх велічынёй, асколак з зерне памерам* і інш. Такія словазлучэнні колькасна абмежаваны. *«У мяне вунь сорак сціртаў з гумно велічынёй»,— з запалам зашаптала яна* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Андрэйка абліў паперу чарнілам, зрабіўшы чорную пляміну велічынёю з медны пятак* (З. Бядуля. Летапісцы). *Курная хатка з сабачую будку ў яго была* (А. Кулакоўскі. Радзіны ў Забродскіх).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *праз, цераз*

§ 90. Словазлучэнні з прыназоўнікамі *праз, цераз,* у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік, не суадносны з дзеясловам, выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны з указаннем на аб'ект пераадолення або на размяшчэнне прадмета ў прасторы: *грэбля цераз канаву, шлях цераз балота, магістраль праз лясы* і інш. *Месца сустрэчы — пешаходны масток цераз канал* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Дарогу праз лес праехалі непрыкметна* (Я. Колас. На ростанях). *Заяц пераскочыў сцежку праз авёс* (З. Бядуля. Хоць ты разарвіся...). *Побач з ім таксама з патроннаю стужкаю цераз плячо стаяў яго меншы сын Панас* (Я. Колас. Дрыгва).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае аддзеяслоўны назоўнік, могуць выражаць прасторавыя адносіны, нярэдка з адценнем меры, колькасці (*пераезд цераз горы, перадача праз сотні кіламетраў*), часавыя адносіны (*вяртанне праз дзень*), аб'ектныя адносіны з акалічнасным адценнем спосабу дзеяння (*выклік праз пасыльнага, дазнанне праз сведкаў*): *Пад вечар дзед Талаш ужо быў у раёне Высокай Рудні, дзе меркавалася пераправа палякаў праз Прыпяць* (Я. Колас. Дрыгва). *Вось яму і раблю я паветраны мост, думкі маці і сына злучаючы ўмоўна пераклічкай праз сотні, праз тысячы вёрст* (А. Куляшоў. Першамайская араторыя). *Сама цырымонія позвы праз сотніка мела куды меншы ўплыў* (Ц. Гартны. На перагібе). *Такога прызнання ён дасягае двума спосабамі: выведванне праз маральны ўплыў на «пацыента» і праз «хірургічнае» ўздзеянне* (З. Бядуля. Тры пальцы). *За парушэнне загаду — смяротная кара праз павешанне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *паўз*

§ 91. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паўз* выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны. Залежнае слова ў іх указвае на прадмет, у непасрэднай блізасці да якога што-небудзь знаходзіцца ці адбываецца: *сцяжынка паўз жыта, беганя паўз вокны* і інш. *Лес загуў мацней і трывожней, дарога паўз яго не хацела высыхаць* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 92. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пад* могуць выражаць:

а) азначальныя адносіны прызначэння: *папар пад жыта, дзялянка пад авёс, будынак пад склад, кадушка пад муку, салома пад подсціл* і інш. *А зараз рыдлёўка грунт верне, капаюць пячору пад склад, зямлянкі пад кухню, майстэрні, бо люду ж бяздомнага шмат* (Я. Колас. Адплата). *Удваіх выбралі яны мясцінку пад агарод* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *На ўзгорку, бліжэй да вёскі, дзе мы пачнём увосені насаджваць сад,— адведзена месца пад новы клуб* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Копчыкамі абмежаваны вялікі кавалак поля — плошча пад калгасны двор* (там жа).

б) Азначальныя адносіны прыпадабнення: *паліто пад бобрык, мех пад коцік, шкло пад хрусталь, мэбля пад чырвонае дрэва* і інш. *З коміна, дзе ўткнута шэрая пад колер сталі гліняная труба, тарапліва плыве-бяжыць сінявата дымок* (Я. Колас. Адшчапенец).

в) Азначальна-прасторавыя адносіны, нярэдка з адценнем памеру: *сцежка пад млын, гара пад воблакі, гмахі пад нябёсы* і інш. *З дарогі пад дзіцячы сад чутны галасы дзяцей* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Фабрыкі, заводы — коміны пад неба... Шмат чаго мы робім, а йшчэ болей трэба* (Я. Купала. Якубу Коласу).

г) Азначальна-часавыя адносіны: *Аддай музыку, бо якраз няма каму іграць у ноч пад Новы год* (М. Танк. Янук Сяліба).

д) Адносіны адпаведнасці ці неадпаведнасці: *З вайны ідуць весці панам не пад густ* (Я. Колас. Радасная сустрэча).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае аддзеяслоўны назоўнік, могуць выражаць прасторавыя адносіны з ад-

ценнем месца або напрамку (*пад'езд пад вакзал, выезд пад гумно*), часавыя адносіны (*прыезд пад Новы год, завітанне пад вечар, стральба пад дзень*), акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння з адценнем прыпадабнення (*афарбоўка пад дуб, фанероўка пад арэх, стрыжка пад польку*). *Пачаў прывыкаць да новай справы гэтак, як раней да кожнадзённага пад'езду пад вакзал* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *На загуменне ён выбраў выезд пад новае, былое Нахлябічава, гумно* (там жа). *Адносна свайго прыезду пад Новы год ён дыпламатычна змаўчаў* (з газет). *Роздум пад Новы год* (П. Глебка). *Вашы ручкі, вашы ножкі, рух брывей капрызны трошкі, ваша стрыжка пад хлапца, лепет, лепет без канца, завіруха слоў вясёлых...* (К. Крапіва. Шкірута).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пра*

§ 93. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пра*, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем або назоўнік, не суадносны па значэнню з дзеясловам, выражаюць азначальныя адносіны з аб'ектным адценнем: *Лекцыю пра калгасы прачытаў студэнт Федасенка* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *Ён ведаў шмат цікавых гісторый пра бацьку* (З. Бядуля. Салавей). *Інжынер пахваліў хлапчука і паабяцаў яму прыслаць нейкую цікавую кніжку пра беларускія рэкі і азёры* (У. Краўчанка. Палессе). *Родны бацька — былы катаржанін — прынёс вестку пра светлы Кастрычнік* (П. Глебка. Успаміны падпаска). *А не чуў я песні пра герояў працы, змусілі што багну сабе пакарацца* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Тут бы мне і ўзяцца за навуку пра балота, а я паспадзявалася на практыку сваю ранейшую* (І. Мележ. На Прыпяці).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае аддзеяслоўны назоўнік, выражаюць аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем: *Пасля пайшла гаворка пра касьбу і жніво* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *На гэтым гутарка пра вяселле звычайна канчалася* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Яму першаму прыйшла ў галаву думка пра пчолы* (Я. Колас. Калодка пчол). *Мы смяёмся, і я ўспамінаю мае дзіцячыя разважанні пра паноў і таварышаў* (Я. Брыль. Дзічка). *На запытанне пра Сяргея і тут быў падрыхтаваны загадзя адказ* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Напамінанне пра сына растрывожвае думкі старога* (там жа). *І гэта стройная лавіна мне навявае ўспамін пра барацьбу маёй краіны, пра слаўныя былыя дні* (П. Глебка. Чырвонай Арміі парад).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пра* з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* (гл. § 133): *кніжка пра ветэранаў вайны — кніжка аб ветэранах вайны, гутарка пра касьбу — гутарка аб касьбе*. Параўн. таксама назвы мастацкіх твораў А. Куляшова: *Балада пра вянок* і *Балада аб жывой газеце, Балада пра вока* і *Балада аб знойдзенай падкове, Балада пра вестку* і *Балада аб чатырох заложніках, Быліна пра волата* і *Быль аб цымбалах і цымбалісце*. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў суадносяцца па значэнню з даданым азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які* і могуць замяняцца імі: *Дык адвядзі ім пачэснае месца ў кнігах, што пішуцца пра вайну, у кнігах пра нашую перамогу песні складзі* (А. Куляшоў. Па песню, па сонца).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб*

§ 94. У словазлучэннях з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* ролю галоўнага слова выконваюць толькі аддзеяслоўныя

назоўнікі. Гэтыя словазлучэнні выражаюць а б' е к т н ы я адносіны з азначальным адценнем. Яны лексічна абмежаваны. *Здалёку пачуўся глухі* *с т у к* *колаў* *а б к а р э н н е* (Я. К о л а с. Малады дубок). *Як дырыжор-мастак, ён кіраваў коньмі: адны лейцы нацягне, як струны, аж пакуль не пачуе* *х р у с т у* *конскіх зубоў* *а б ж а л е з а* *цугляў, а другія лейцы адпусціць слаба* (З. Б я д у л я. Салавей).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 95. У іменных словазлучэннях з творным склонам назоўніка могуць ужывацца простыя невытворныя прыназоўнікі *з (са), за, па-за, над, па-над, пад, перад (прад), паміж (між)*, а таксама складаныя адыменныя або адпрыслоўныя прыназоўнікі тыпу *ў сувязі з, на чале з, у параўнанні з, у адпаведнасці з, уперамешку з, разам з, побач з* і інш. Асабліва прадуктыўнымі ва ўжыванні і разнастайнымі па значэнню з'яўляюцца словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* (*са*)

§ 96. Словазлучэнні з творным склонам і прыназоўнікам *з (са)*, у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік, н е с у а д н о с н ы па ўтварэнню з д з е я с л о в а м, могуць выражаць азначальныя адносіны з тымі або іншымі дадатковымі адценнямі значэнняў, адносіны сумеснасці, аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем.

Словазлучэнні з а з н а ч а л ь н ы м і адносінамі ў залежнасці ад лексічнага значэння назоўнікаў, якія выступаюць у ролі галоўнага і залежнага слоў, падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу або іншую жывую істоту, а залежнае слова — прадмет, арганічна звязаны з гэтай асобай ці істотай, або паняцце, звязанае з іх унутранымі якасцямі, уласцівасцямі. Пры залежным слове гэтых канструкцый амаль заўсёды выступаюць якасныя азначэнні, якія, з'яўляючыся асноўнымі выразнікамі ўласцівых прадмету прымет, нярэдка складаюць структурна неабходную частку прыназоўнікава-іменнай канструкцыі ў цэлым: *дзяўчынка з сінімі вочкамі, людзі з чыстым сумленнем, чалавек з добрым сэрцам* і інш. *Гэта быў невялікі танклявы* *х л а п ч ы н а* *з* *к і р п а т ы м* *н о с а м* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Ён добра знаў гэтую высокую сухарлявую* *б а б у л ю* *з* *м а р ш ч ы н і с т ы м* *т в а р а м,* *з вечна* *г н е ў н ы м і* *п а д а з р о н ы м і* *в а ч ы м а* (З. Б я д у л я. На варце). *Прыляцелі* *л а с т а ў к і* *з* *з а л а т ы м і* *к р ы л я м і* (П. Г л е б к а. Хада падзей). *Шырокія* *п л о т к і* *з* *ч ы р в о н ы м* *п я р о м* *снуюць над празрыстым, прасвечаным дном* (П. Г л е б к а. Рыбак). *Алёнка шчыра прыгарнула чорную* *к о ш а ч к у* *з* *б е л а ю* *г р у д з і н к а ю* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Смех гэткі маюць толькі дзеці ды* *л ю д з і* *з* *я с н а ю* *д у ш о й* (М. Б а г д а н о в і ч. Вераніка).

Такія словазлучэнні з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з якаснымі прыметнікамі ў ролі залежнага слова і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца імі: *дзяўчынка з сінімі вочкамі — сінявокая дзяўчынка, чалавек з добрым сэрцам — добрасардэчны чалавек, дзяўчына з гонарам — ганарлівая дзяўчына* і інш.

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу ці іншую жывую істоту, а залежнае слова — прадмет, выпадкова звязаны з гэтай асобай ці істотай, знешні ў адносінах да іх. Наяўнасць азначэнняў пры залежным слове тут не з'яўляецца абавязковай: *мужчына з цыгаркай, жанчына з партфелем, хлапец з гітарай, голуб з кольцам* і інш. *Ч а л а в е к* *з* *в і н т о ў к а ю* *больш нічога не гаварыў* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца). *Каля лесу яны ўбачылі* *с е л я н і н а* *з* *с я к е р а ю* (там жа). *Ч а л а в е к* *з* *б о т а м і* *на дзеда*

*паглядзеў з нейкім дакорам, галавою патрос* (Я. Колас. Называецца — зарабіў). *Тут дзядзька кроку падбаўляе і пана з цэшкай наганяе* (Я. Колас. Новая зямля). *Тамаш прыглядаўся, шукаючы каня з перавяслам на шыі* (Я. Колас. На начлезе).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны прадмет, а залежнае слова — прадмет, які суправаджае першы прадмет і з'яўляецца яго характэрнай адзнакай. Пры назоўніку залежнай часткі тут звычайна ўжываюцца дапасаваныя азначэнні: *дом з белымі аканіцамі, памяшканне з вялікімі вокнамі, мундзір з бліскучымі гузікамі, плацце з кароткімі рукавамі, кніга з малюнкамі, слупы з ліхтарамі* і інш. Азначальныя адносіны ў такіх словазлучэннях ускладняюцца адценнем суправаджэння. *Гэта ляцеў назад самалёт з пяцікутнымі зоркамі на крыллях і фюзеляжы* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Пасярод, на прыгорку, стаяў аднапавярховы драўляны будынак з бляшаным дахам* (І. Шамякін. Крыніцы). *У Говара на кухні з адным акном было яшчэ цямней* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Ён быў босы і ў салдацкай шапцы з пераломаным казырком* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Макар Пятровіч Цярпігораў сеў за стол, уключыў настольную лямпу з зялёным абажурам і пачаў раскладаць паперы* (К. Крапіва. Каб весела было...). *Ён аглядаецца на шафы з разьбою, з бронзавымі амурамі, успамінае музыку, якая яго так вабіла ўночы* (З. Бядуля. Салавей).

г) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае той або іншы від умяшчальні, а залежнае слова — рэчыва або прадмет, якім яна запоўнена: *вагон з дошкамі, цыстэрна з бензінам, чан з вадой, скрынка з мылам, торба з соллю* і інш. *На возе ляжалі мяхі з мукою, а на мяхах сядзеў селянін* (Я. Колас. Чорт). *Вазы з сенам рабілі круг на многа вёрст вакол* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У будынінах са збожжам стаяў садом* (там жа). *Бабуля развязвае слоічак з мёдам, а Ніна ласа глядзіць* (Я. Брыль. У сям'і).

§ 97. Словазлучэнні з адносінамі сумеснасці звычайна складаюцца з назоўнікаў аднаго і таго ж семантычнага разраду. У ролі галоўнага і залежнага слоў гэтых канструкцый выступаюць назоўнікі, што абазначаюць некалькі асоб ці прадметаў, з якіх адны могуць разглядацца як асноўныя, а другія як другарадныя, што спадарожнічаюць ім: *бацька з сынам, маці з дзіцем, машына з прыцэпам, цыбуля з часнаком* і інш. *Маці з Зінай працавалі ў калгасе* (П. Кавалёў. Зіна Дарошка). *Ладынін з Максімам наблізіліся да месца запраўкі агрэгата* (І. Шамякін. У добры час). *Макар Крайчук з Данелюком вырашылі, каб Ваня іграў на балалайцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Абапал вуліц клёны з ліпамі красаваліся сваім дарагім убраннем* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

У словазлучэннях, залежнае слова якіх указвае на састаўную частку прадмета, названага галоўным словам, адносіны сумеснасці набліжаюцца да азначальных адносін: *У разоры, каля грады з цыбуляю, стаяў пусты кошык* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Вунь маёнтак пана Тукайлы з белым палацам, з садам, з комінам ад бровара* (З. Бядуля. Шрам). *Велізарныя натоўпы скучыліся каля слупоў з рэпрадуктарамі* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Калі скончылі капусту, Марта дала яшчэ картоплі з мясам і грэцкі крупнік з малаком* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Я вас чаем з малінавым варэннем напаю* (І. Шамякін. Крыніцы). *Гаспадыня нясе ўжо аладкі з мёдам, дастане ў свірне з жоўтай скрыні налійкі з ягад — асалоду. Калі ж яшчэ пірог з грыбамі, калі яшчэ з смятанай каша і верашчака—ды з блінамі,— дык у вачах святло запляша* (К. Буйла. Салдату).

§ 98. Словазлучэнні, якія выражаюць а б' е к т н ы я адносіны з азначальным адценнем, колькасна абмежаваны. У ролі галоўнага слова ў іх звычайна выступаюць назоўнікі, што абазначаюць адцягненыя паняцці (стан, становішча, з'яву, які-небудзь факт), а ў ролі залежнага слова — назоўнікі з абазначэннем асоб, прадметаў або паняццяў, якіх датычыць тое, што названа галоўным словам: *прыгода з чамаданам, становішча з фінансамі, выпадак з паляўнічым* і інш. *Цяпер леснік надта хацеў бы, каб і Васіль быў замешаны ў гэтую с п р а в у з к а п ц а м і* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *Выйшла, што д э ф е к т з б а р а н а в а н н е м зрабіла-такі яго брыгада* (Я. С к р ы г а н. Дбайнасць). *Ён нічога не сказаў, але відаць было, што крыху сумняваецца ва ўсёй гэтай цікаўнай г і с т о р ы і з м я д з в е д з е м* (З. Б я д у л я. Фрося). *Волька сама яшчэ не адышла ад спалоху, які навеяў в ы п а д а к з С ё м к а м* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе).

§ 99. Словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*, у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік, с у а д н о с н ы з д з е я с л о в а м, найчасцей выражаюць а б' е к т н ы я адносіны з адценнем сумеснасці. У ролі залежнага слова гэтых канструкцый звычайна выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць асоб або іншых жывых істот: *гутарка са студэнтамі, спатканне з выпускнікамі, пераклічка з землякамі* і інш. *Гэта была р а з м о в а беднай маці-сялянкі з х л о п ц а м сваім, які пасвіў чужыя каровы* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб). *Машына як быццам у нейкай з м о в е з І в а н а м С ы м о н а в і ч а м* (Я. Б р ы л ь. Лазунок). *Дзядзька Марцін і думаць перастаў п р а с у т ы ч к у з Б а р б у т о в і ч а м* (Я. К о л а с. Дзядзькаў сведка). *С п р э ч к а с а С ц я п а н а м П р а к о п а в і ч а м адбылася ў цэху* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Цяпер раптоўная с у с т р э ч а з б р а т а м абудзіла ў ім вострае адчуванне крыўды і злосці* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Ён і сам не заўважаў, як вельмі шпарка адвыкаць пачаў ад сваёй ранейшай клапатлівасці, а д в а ж д а н н я з к а н ё м* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Я наладзіць хацеў бы паветраным шляхам п е р а к л і ч к у з родным с я л о м* (А. К у л я ш о ў. Першамайская араторыя).

Калі ж субстантываванае дзеянне, названае галоўным словам гэтых словазлучэнняў, накіравана на аб'ект — канкрэтны прадмет, паняцце або з'яву з мэтай уздзеяння на яго (змянення або знішчэння), то ў такіх словазлучэннях выражаюцца ў л а с н а а б' е к т н ы я адносіны: *барацьба з пустазеллем, бітва са стыхіяй* і інш. *У дні вялікага з м а г а н н я з н я в о л я й, з ц е м р а й ракавой цябе, прадвесніцу світання, назвалі зоркаю — Звяздой* (П. Г л е б к а. Ты пуцяводнай свецішь зоркай). *Гэта было сапраўднае з м а г а н н е двух чалавек з сонечнай с п ё к а й* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

У паасобных выпадках словазлучэнні з галоўным словам — аддзеяслоўным назоўнікам могуць выражаць а б' е к т н а-а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны (*турботы з пераездам, азнаямленне з указам*), а з н а ч а л ь н ы я або а з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы я адносіны з адценнем спосабу дзеяння (*правады з музыкай, адказ са злосцю, тармажэнне з піскам, падзенне са свістам*), а б' е к т н а-с у б' е к т н ы я адносіны з указаннем на асобу або іншую жывую істоту, з якой што-небудзь здарылася (*прыключэнне з пасажырам*): *Перабудзем к л о п а т з в я с е л л е м, нічога* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *З салдатаў Бухча прынёс з н а ё м с т в а з к у л ь т у р а ю* (К. Ч о р н ы. Нянавісць). *Працяглы меланхалічны з в о н з н о т к а й захаванай у р а ч ы с т а с ц і расплываўся па ўсім вялікім дзядзінцы Курганішча* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Гэты р у х галавы назад з лёгкім в ы г і б а м спіны не ўхаваўся ад Макара* (П. П е с т р а к. Муж і жонка). *Гэта ж быў к р а д з ё ж с а ў з л о м а м* (З. Б я д у л я. Сорам). *Гэтае з д а р э н н е з Г а л а с а м крыху парушала той добры настрой, у якім быў я, выходзячы з дому* (Я. К о л а с. Страшнае спатканне).

§ 100. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае адпрыметнікавы назоўнік, звычайна выражаюць адносіны прыпадабнення: *агульнасць* [у поглядах] *са старэйшымі, блізкасць* [па пераконанасці] *з сябрамі* і інш. *Сваё падабенства з Грамабоем ён яшчэ павялічыў знарок, ссунуўшы шапку на патыліцу, як рабіў гэта Грамабой, калі пачынаў гаварыць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

## Словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, па-за*

§ 101. Словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, па-за,* у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік, не суадносны па ўтварэнню з дзеясловам, звычайна выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны: *таполі за возерам, бярозы за акном, узлесак па-за Мінскам* і інш. *Рыгор праз увесь час абеду падтрымліваў гутарку з рабочымі за сваім і суседнімі сталамі* (Ц. Гартны. На перагібе). *«Гэта дырэктар фабрыкі»,— гаварылі пра дэлегатку за сталом* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *Уранні, калі яшчэ сонца стаіць невысока над пушчай за Нёманам, прыносіць сюды смех і песні наша моладзь* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Гэта тут участковыя землямеры рабілі абыход і зямлю за дубровай разбівалі пад севазварот* (А. Куляшоў. Поспех). *У лузе вербы гамanілі, маўчала поле за сялом* (П. Трус. Развітанне). *Ён глядзеў на дарогу за хмызняком і на ўсе выхады з хмызняку* (Я. Колас. Макарка Навак).

Гэтыя словазлучэнні суадносяцца па значэнню з дадзенымі азначальнымі сказамі са злучальнымі словамі *што, які* і могуць замяняцца апошнімі: [Пракоп] *глядзіць на пагорак, што за балотцам* (Я. Колас. Адшчапенец). *Са мною разам: неба, хмаркі, зямля і лес, што за ракой* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Калі ж залежнае слова іменных словазлучэнняў з прыназоўнікамі *за, па-за* ўказвае на які-небудзь знешні прызнак прадмета, названага галоўным словам, то ў іх выражаюцца азначальныя адносіны з тымі ці іншымі дадатковымі адценнямі: *Дастаў яшчэ адну напісаную паперу за многімі подпісамі аб сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці, аб сваім пралетарскім паходжанні* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

У словазлучэннях з аддзеяслоўным назоўнікам у ролі галоўнага слова могуць выражацца аб'ектныя *(догляд за дзіцем, нагляд за хворым),* прасторавыя *(стрэл за акном, знікненне за гарызонтам)* і часавыя адносіны *(размова за шклянкаю чаю, думкі за сяўбой): Аднаго пасіўнага назірання за пісарам Лабановічу было мала* (Я. Колас. На ростанях). *Андрэй зноў пачуў стогн за печкай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Стук за дзвярыма, а следам званок перабілі гутарку* (Ц. Гартны. На перагібе). *Але жыццё за межамі завода прамільгнула, як маланка* (там жа). *Выпадкова ўзнікшая спрэчка за абедам навяла яго на глыбокі роздум* (з газет).

## Словазлучэнні з прыназоўнікамі *над, па-над*

§ 102. Словазлучэнні з прыназоўнікамі *над, па-над,* у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем, выражаюць азначальна-прасторавыя і аб'ектна-азначальныя адносіны.

У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі залежнае слова — назоўнік абазначае прадмет, вышэй узроўню якога знаходзіцца другі прадмет, названы галоўным словам: *Дом над ракою знаёмы, да дома сцяжынка* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Не было шчасця і гаспадыні хаткі над балотцам* (Я. Колас.

Хатка над балотцам). *Вось мінулі ўжо сад, узыходзяць на мост над Нявою* (П. Глебка. Крывавая нядзеля). *Яго рота разам з іншымі ачысціла ад немцаў лясы над Волмай* (І. Мележ. Блізкае і далёкае). *Раман адпрог з плуга каня і пусціў яго папасвіцца ў маладым дубняку над ярам* (Я. Колас. Дачакаўся). *Хаця ад гэтай шыльды над брамай вее прытулкам, але вакол двара з вуліцы і ўнутры заўсёды рыначная, непрытульная сумяціца* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

У словазлучэннях з абʼектна-азначальнымі адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу, якая ўладарнічае над тымі асобамі ці прадметамі, што названы залежнымі словамі: *верхавод над шайкай, атаман над бандай, дэспат над людам, манарх над рабамі, уладар над палеткамі* і інш. *Можна таксама мець нейкую карысць і з калодзежа, бо і над калодзежам ён гаспадар* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Некаторыя з гэтых словазлучэнняў могуць выражаць азначальныя адносіны з адценнем меры, ступені: *цар над царамі, пан над панамі, дуб над дубамі* і інш. Такія канструкцыі з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі. *Ён доктар над усімі дактарамі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Я кароль над каралямі, пан я над панамі!* (Я. Купала. Кароль). *Баравік — грыб над грыбамі — аб пень спёрся, злы стаіць* (Цётка. Лета). *І вось надарыцца часамі мароз над ўсімі маразамі* (Я. Колас. Новая зямля).

Словазлучэнні з аддзеяслоўным назоўнікам у ролі галоўнага слова могуць выражаць:

а) абʼектныя адносіны з азначальным адценнем: *здзек над чалавекам, суд над злачынцам, гвалт над народам, насілле над пралетарыятам, смех над сабою, шэфства над калгасам* і інш. *Як прыйшла перамога над панам,— ішлі з песняй з лясоў партызаны, расступаліся долы і горы, шляхі значылі сонца і зоры* (Я. Купала. Партызаны). *Ён увесь напоўнены радасцю працы над кнігай* (Я. Брыль. Лазунок).

б) Прасторавыя адносіны з азначальным адценнем: *палёт над марамі, пасадка над лесам, спуск над кручай, сушка над печчу* і інш. *Аб слаўных падзеях над ракой Арэсай расказаў у сваёй выдатнай паэме Янка Купала* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Чамусьці, зусім бязмэтна, зайшла на пошту, прачытала надпісы над маленькімі аконцамі ў драцяной сетцы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 103. Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем, могуць выражаць:

а) азначальна-прасторавыя адносіны: *дом пад гарою, гняздо пад страхою, яма пад зрубам, кветнік пад вокнамі, прызба пад хатаю, бярвенне пад хлявом, кватэра пад намі* і інш. *Ён узлез на столік пад акном, але ўсё яшчэ не мог дабрацца да падаконніка* (Э. Самуйлёнак. Сон). *На сенакос пад лесам спусціўся самалёт* (З. Бядуля. Год за годам). *Я любіў той фальварак пад Клецкам, але ён жа быў і маёй атрутай* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *І дзед не раз гаварыў пра зямлю пад Дубамі, пра паплавы на рэчцы, якія калісьці належалі мужыкам* (Я. Колас. Бунт). *Мне здаецца: на палях пад Оршаю зацвітаюць летам васількі* (П. Глебка. Дзяўчыне з Клімавіч).

б) Азначальныя адносіны з абʼектным адценнем: *будынкі пад гонтам, дахі пад бляскам цынку, калоны пад сцягамі, піянеры пад*

*чырвонымі гальштукамі, юнакі пад шырокімі рэмянямі* і інш. Пры залежным слове такіх канструкцый асабліва часта ўжываюцца азначэнні. *На вялізным стале адзінока свяціла лямпа пад зялёным абажурам* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Праз гады адбудую сабе хату пад чарапічным дахам* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Каб дамы пад чарапіцай, цагляныя, скрозь пасталі* (П. Броўка. Выбраныя творы). *А на грудзях — ордэн пад сіняй істужкай* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага. Асобна ў гэтай групе стаяць словазлучэнні, у якіх залежная прыйменная частка складаецца з непаўназначных назоўнікаў з прыназоўнікам *пад* тыпу *пад назвай, пад дэвізам, пад нумарам* і слоў або спалучэнняў, якія раскрываюць іх змест, канкрэтызуюць або ўдакладняюць іх значэнне: *аповесць пад назваю «Трэцяя ракета», праект пад дэвізам «Уперад», пісьмо пад шыфрам «Нінэль», правіла пад пунктам два, папяросы пад маркай «Беламор», мерапрыемствы пад дэвізам «Усё для чалавека», кватэра пад нумарам дваццаць сем* і інш. *Пасля гэтага ў мяне закружылася галава ад розных папер пад назваю «анкеты»* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *План праваканцыі пад дэвізам «Тэорыя Каленбрун» ліквідаваны* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Азначальныя адносіны з аб'ектным адценнем выражаюцца таксама ў словазлучэннях, ролю галоўнага слова якіх выконваюць назоўнікі, што абазначаюць назвы страў: *рыба пад маянэзам, мяса пад белым соусам, парасё пад хрэнам* і інш.

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае аддзеяслоўны назоўнік, выражаюць прасторавыя адносіны з азначальным адценнем (*праца пад зямлёй, знаходжанне пад вадой, адпачынак пад дрэвам, прастойванне пад дзвярамі, плаванне пад тропікамі, перамога пад Курскам*) і азначальна-акалічнасныя адносіны з адценнем спосабу дзеяння (*спуск пад наглядам, знаходжанне пад аховай, хадзьба пад дажджом, выкананне пад кіраўніцтвам, друкаванне пад псеўданімам*): *Вільготная зямля глуха аддае стукам пад калёсамі і капытамі коней* (К. Чорны. Па дарозе). *Не думаў Андрэй, што гэты пункт апоры за дваццаць год жыцця пад панскай Польшчай вырасце ў ім у аграмадную сілу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Праз тыдзень многія з тых, хто бачыў справоды Сёмкі пад канвоем трох стражнікаў, цяпер былі сведкамі позвы яго да прystава праз сотніка Бульбушку Адама* (Ц. Гартны. На перагібе).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад (прад)*

§ 104. Словазлучэнні з творным склонам і прыназоўнікам *перад (прад)*, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік, не суадносны па ўтварэнню з дзеясловам, выражаюць:

а) азначальна-прасторавыя адносіны: *агароджа перад вокнамі, тратуар перад домам, скульптура перад кінатэатрам* і інш. *Пані Мар'я ўзышла на прыгорачак перад школай, азірнулася, памахала рукой і пайшла* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *На шырокай плошчы перад казармай вядуць гульню маленькія фігуркі* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Чалавек акінуў вачыма дашчаны насціл перад млыном* (К. Чорны. Нянавісць).

б) Азначальна-часавыя адносіны: *дзень перад святам, ноч перад ад'ездам, нядзеля перад адпачынкам* і інш. У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў заўсёды выступаюць назоўнікі са значэннем часу. *Ён успомніў, што сёння субота перад вербніцай, што ў гэты дзень ён скончыць сваю работу ў школе* (Я. Колас. У палескай глушы). *Перакінулася нейкая нітачка сувязі ад ранейшых дзён перад пабыўкаю да сённяшняга* (Ц. Гартны. На перагібе). *Магістралі прад табою — не змераць і вокам — тарфянішча прад сяўбой блізкай, недалёкай* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

— Словазлучэнні, галоўным словам у якіх з'яўляецца а д д з е я с л о ў н ы назоўнік, выражаюць а б'е к т н ы я адносіны (*пакланенне перад талентам, апраўданне перад сумленнем, адступленне перад цяжкасцямі, выступленне перад студэнтамі*), п р а с т о р а в ы я адносіны з азначальным адценнем (*сустрэча перад школай, збор перад канторай, прагулка перад клубам*), ч а с а в ы я адносіны з азначальным адценнем (*прагулка перад сном, фіззарадка перад работай, знаёмства перад вылетам, развітанне перад ад'ездам*). *Яго, мусіць, раздражняла Алесева р а з м а х в а н н е п е р а д с а м ы м н о с а м, ці, можа, да свядомасці дайшла капля сэнсу з нападу Алеся на старыя парадкі* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Пасля з д а р э н н я п е р а д замкнёнымі д з в я р а м і пісар крыху апамятаваўся* (Я. К о л а с. На ростанях). *Яны ў каморы крэпка спалі, бо крэпак с о н п е р а д з а р о й* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

Калі ў ролі галоўнага слова словазлучэнняў з прыназоўнікам *перад* выступаюць назоўнікі са значэннем унутранага адчування, псіхічнага стану, то гэтыя словазлучэнні выражаюць а б' е к т н а-а з н а ч а л ь н ы я адносіны: *С о р а м п е р а д ж о н к а ю, п е р а д л ю д з ь м і, злосць на самога сябе, прапажа каня — усё гэта звязалася ў адзін цёмны клубок* (Я. К о л а с. Кірмаш). *Хутчэй за ўсё я застаўся ў казарме а д с т р а х у п е р а д б е с п р а ц о ў е м* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *Узамен яго нараджалася пачуццё в і н а в а т а с ц і п е р а д В а с і л ё м, п е р а д б р ы г а д з і р а м, п е р а д усім к а л г а с а м* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж* (*між*)

§ 105. Словазлучэнні з творным склонам і прыназоўнікам *паміж* (*між*) складаюць прадуктыўны тып іменных канструкцый. Яны пераважаюць ва ўжыванні над сінанімічнымі ім словазлучэннямі з родным склонам назоўніка і гэтым жа прыназоўнікам (гл. § 60). У ролі галоўнага слова словазлучэнняў з творным прыйменным і прыназоўнікам *паміж (між)* могуць выступаць назоўнікі розных лексіка-граматычных і словаўтваральных груп. Гэтыя словазлучэнні выражаюць адносіны азначальна-прасторавыя (або прасторава-азначальныя), часава-азначальныя, вылучальныя і адносіны сумеснасці або ўзаемнасці.

У словазлучэннях з а з н а ч а л ь н а-п р а с т о р а в ы м і адносінамі галоўнае слова — назоўнік абазначае прасторавае паняцце або канкрэтны прадмет, а залежнае слова — прадметы, паміж якімі знаходзіцца гэта прастора або паміж якімі размешчаны прадмет. Па структуры гэтыя словазлучэнні могуць быць рознымі. Калі прадметы, названыя залежным словам, з'яўляюцца аднолькавымі або падобнымі паміж сабою, яны абазначаюцца адным назоўнікам у множным ліку (акрамя назоўнікаў са зборным значэннем, якія побач з множным лікам дапускаюць ужыванне іх і ў адзіночным ліку): *зазоры паміж планкамі, прасвет паміж лесам, норы між ельнікам, сцяжынка між куп'ём* і інш. *І калі зачыніў за імі дзверы, самаздаволена прайшоўся з кутка ў куток, зірнуў у люстэрка ў п р а с ц е н к у п а м і ж в о к н а м і* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *А тая штучка якраз і ляжала на падлозе, у ш ч ы л і н е м і ж д о ш к а м і* (Э. С а м у й л ё н а к. Сустрэча). *Доўгая в у л а ч к а п а м і ж п л а т а м і была працягам гэтай сцежкі* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *«Ідзі сюды ў зацішак»,— паклікаў Грамабой Соміка і пайшоў у п р а г а л а к п а м і ж ш л і х т а м і* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *І смуткам сэрца калыхала старых бярэзін гэтых лава, што н а б а л о ц е м і ж л я с а м і шумела голымі вярхамі* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Схапіўся дзядзька ды найцёкі, бяжыць д в а р о м м і ж х л е в у ш к а м і, ад пчол бароніцца рукамі* (там жа).

Калі ж прадметы, названыя ў залежнай частцы, з'яўляюцца рознымі, то кожны з іх абазначаецца адпаведным назоўнікам у форме творнага склону адзіночнага ці множнага ліку: *участак паміж лесам і рэчкай, тэрыторыя паміж балотамі і гарамі, мясцовасць паміж полем і лясамі* і інш. *Яны адступалі ў кут о к між парканам і кучаю каменняў* (Ц. Гартны. На перагібе). *Сымон Чарнюк жыў у маленькай хатцы ў ельніку — у нейтральным месцы між Драздамі і Дзятламі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Сярод поля бялелася роўная істужка дарогі — гэта быў вялікі стары шлях паміж усходам і захадам* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Алёша адрэгуляваў зазоры паміж планкамі секцый падбарабання і бічамі барабана* (І. Шамякін. Крыніцы).

Пры пераносным ужыванні галоўнага слова — назоўніка гэтыя словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *У вачах яе засвяцілася нештa вострае — мяжа між імкненнем і журбою* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Саламон не ведаў, дзе тут мяжа паміж вучобай і практыкай* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Векавечная грань паміж працай разумовай і працай фізічнай сціраецца ў нашай Радзіме, бо яна з'яўляецца дзяржавай сацыялізма* (Я. Колас. Уз'яднанне).

Словазлучэнні, у якіх галоўным словам — назоўнікам абазначаецца субстантываванае дзеянне, працэс, а залежным словам называецца месца, дзе адбываецца гэта дзеянне ці працэс, выражаюць прасторава-азначальныя адносіны: *рух паміж шасейнай дарогай і чыгункай, гул паміж дрэвамі* і інш. *Што за плюскат на азёрах, між лазовымі кустамі?* (П. Броўка. На Палессі гоман, гоман...).

§ 106. У словазлучэннях з часава-азначальнымі адносінамі формай творнага склону назоўніка або колькасна-іменным спалучэннем абазначаецца час, у прамежку паміж якім што-небудзь адбываецца: *пошукі між перапынкамі, прыезд паміж пяццю і шасцю гадзінамі* і інш. *Кароткія перарывы паміж работаю выкарыстоўваў дзядзька Марцін для спраў рыбацкіх* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 107. У словазлучэннях з вылучальнымі адносінамі галоўным словам — назоўнікам абазначаецца прадмет, які вылучаецца з ліку падобных яму прадметаў: *сын між сынамі, звон між званамі* і інш. Аднак гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца сэнсава звязанымі. *Братам не быў між братамі* (Я. Купала. У пiліпаўку). *Між званамі на званіцы быў адзін звон незвычайны* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Па характару адносін да гэтых канструкцый набліжаюцца словазлучэнні, у якіх асоба, названая галоўным словам, выступае ў ролі пасрэдніка паміж іншымі асобамі: *пасрэднік паміж дзецьмі, сувязны паміж камбатам і палкавым камісарам* і інш. *Пан вечна знаходзіўся ў студыі, бо прыходзілася яму быць тлумачом паміж французамі і студыйцамі* (З. Бядуля. Салавей).

§ 108. У словазлучэннях з адносінамі сумеснасці або ўзаемнасці ў ролі галоўнага слова выступае назоўнік, які ўказвае на ўзаемасувязь паміж асобамі, прадметамі або паняццямі, названымі ў залежнай частцы. Залежная частка гэтых словазлучэнняў можа складацца з двух назоўнікаў, калі імі абазначаюцца розныя прадметы, або з аднаго назоўніка ў множным ліку, калі ім абазначаюцца аднолькавыя ці падобныя прадметы: *сувязь паміж горадам і вёскай, узаемаадносіны паміж рэжысёрам і драматургам, спрэчка паміж дзецьмі* і інш. *Сувязь паміж разведчыкамі і галоўнай калонаю падтрымлівалі партызаны* (Я. Колас. Дрыгва). *І перш за ўсё ўвагу яго спыняў іх вучнёўскі быт і асабліва адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Ваша змаганне будзе падобна да змагання паміж вершам і прозай у Саў-*

*кі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Адчулася блізасць між вяскоўцамі і рабочымі* (К. Чорны. Свята працы і свету). *Паміж навелаю Каваля і навелаю Скрыгана — значная розніца* (П. Галавач. Ці патрэбна нам навела?). *І доўга яшчэ ў Слімаковай хаце ішла нудная дыскусія паміж гаспадаром і вартай яго жонкай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 109. Словазлучэнні з творным прыйменным і прыназоўнікам *паміж (між)* з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям з дададзеным азначальным сказам і злучальнымі словамі *што, які* і могуць замяняцца імі: *Усё гэта толькі спрыяла той варожасці, што лягла між асістэнтам і свінабоем* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Праўда, яго трывожылі сутычкі, якія адбыліся паміж ім і праекціроўшчыкам Беразінцом* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Пустая прастора, што была паміж горадам і вакзалам, амаль заселена* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне).

## Словазлучэнні са складанымі адыменнымі або адпрыслоўнымі прыназоўнікамі

§ 110. Словазлучэнні з творным склонам залежнага назоўніка і складанымі адыменнымі або адпрыслоўнымі прыназоўнікамі ўжываюцца пераважна ў публіцыстычным, навуковым і дзелавым стылях сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У творах мастацкай літаратуры яны прадстаўлены нешырока.

Словазлучэнні са складанымі адыменнымі прыназоўнікамі могуць выражаць: адносіны абумоўленасці *(забеспячэнне ў адпаведнасці з умовамі* [жыцця], *задаволенасць у сувязі з поспехамі* [будаўніцтва]), супастаўляльныя адносіны *(дасягненні ў параўнанні з мінулым годам)*, адносіны ўзначалення *(атрад на чале з лейтэнантам)*: *Пэўныя колы імперыялістычных дзяржаў выказваюць яўную трывогу ў сувязі з эканамічнымі поспехамі Савецкага Саюза* (з газет). *А спевы панскага Салаўя глупства ў параўнанні з музыкай падковаў* (З. Бядуля. Салавей). *Кудысьці спяшыла грамада вучняў на чале з настаўнікам* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

У словазлучэннях з адпрыслоўнымі складанымі прыназоўнікамі звычайна выражаюцца азначальна-прасторавыя або прасторава-азначальныя адносіны *(стол побач з акном, прагулка поруч з таварышам)*, часавыя адносіны з азначальным адценнем *(зябліва аднačасова з баранаваннем, прыезд услед за бацькам)*, сумяшчальныя адносіны *(гул упераменжку са стральбой)*, адносіны абумоўленасці *(прырост* [прадукцыі] *адпаведна з павышэннем* [ураджайнасці], *плата згодна з дагаворанасцю)* і інш. *Крэсла побач з ім пуставала* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Сядзенне побач з Сёмкам суцяшала Рыгора і адганяла ад яго сум нядаўніх перажыванняў* (Ц. Гартны. На перагібе). *Жніво аднačасова з малацьбой значна паскорыла здачу калгасам хлебанарыхтовак дзяржаве* (з газет). *А каваліха зноў зацягнула ад усяго сэрца плачвыццё ўперамежку з хаўтурнай песняй* (З. Бядуля. На варце). *Пастаўкі хлеба дзяржаве адпаведна з узятымі абавязацельствамі значна перавыкананы* (з газет).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З МЕСНЫМ СКЛОНАМ

§ 111. Словазлучэнні з месным склонам назоўніка складаюць прадуктыўны тып іменных канструкцый. Залежнае слова ў іх можа падпарадкоўвацца галоўнаму пры дапамозе прыназоўнікаў *у (ва), на, па,*

*пры, аб, а.* Асабліва шырока прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з прыназоўнікамі *у (ва), на.* Разнастайнымі з'яўляюцца яны і па сінтаксічных адносінах.

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *у(ва)*

§ 112. У словазлучэннях з месным склонам і прыназоўнікам *у (ва)* у ролі галоўнага слова могуць выступаць назоўнікі розных лексіка-граматычных і словаўтваральных груп.

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік, не суадносны па ўтварэнню з дзеясловам, выражаюць адносіны ўласна азначальныя, увасаблення ці вылучэння, суправаджальна-азначальныя, абмежавальныя, прыпадабнення ці супастаўлення, азначальныя з указаннем на састаў прадмета, азначальна-прасторавыя і азначальна-часавыя.

Словазлучэнні з уласна азначальнымі адносінамі ў залежнасці ад лексічнага значэння галоўнага і залежнага слоў падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу або, радзей, іншую істоту, а залежнае слова — прадмет, наяўнасць якога складае іх адметную знешнюю рысу, прымету. Пры залежным слове гэтых словазлучэнняў звычайна ўжываюцца дапасаваныя азначэнні: *хлапец у скураной тужурцы, жанчына ў блакітнай касынцы, касцы ў белых кашулях, грамадзянін у цывільным адзенні, пастушок у ботах, коні ў шорах* і інш. Некаторыя словазлучэнні гэтага тыпу з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным іменным словазлучэнням з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з* (гл. § 96): *хлапец у скураной тужурцы — хлапец са скураной тужуркай, коні ў шорах — коні з шорамі* і інш. *Да іх падышоў чалавек у шэрай памятай кепцы* (П. Пестрак. Пачатак). *Дзяўчынка ў доўгай кофце глядзела на Саламона і Юзіка чорнымі спалоханымі вачыма* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Калі ён другі раз адкрыў вочы, то ўбачыў жаночую постаць у белым, з нашытым на грудзях чырвоным крыжам* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Чалавек у паліто трымаў у руцэ білеты* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *К канцу дня нейкі чалавек у лапцях і з мяшком за плячыма ўзышоў з поля на дарогу* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Насця і Ліда прывялі піянераў у гальштуках, з музычнымі інструментамі* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Да гэтага тыпу прымыкаюць таксама словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на якое-небудзь неканкрэтна-прадметнае паняцце, звязанае з асобай ці іншай істотай: *Гэта быў чалавек у гадах, многа зведаўшы на сваім вяку* (з газет). *Дзед Талаш прыпыняе тэмп свае хады, прымае від чалавека ў глыбокай задуменнасці* (Я. Колас. Дрыгва). *І вось аднаго разу ён прайграў аднаму з суседніх паноў сівога стаенніка ў яблыках* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Яна вадзіла гасцей ад сцяны да сцяны, на якіх былі развешаны малюнкі катоў у натуральнай велічыні* (З. Бядуля. Салавей).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае неадушаўлёны прадмет, а залежнае слова — яго знешні прызнак (колер, форму, матэрыял, аправу, памер і г. д.). Залежнае слова ў гэтых словазлучэннях таксама пераважна ўжываецца з дапасаванымі або недапасаванымі азначэннямі: *плацце ў зялёных гарошках, кніга ў скураных вокладках, кансервы ў бляшаных банках, акуляры ў прыгожай аправе, фотакартка ў рамцы фабрычнага вырабу, акенцы ў кругі і ромбы* і інш. *Перад самым пераездам стаяў крутаверхі клён у шапцы гу-*

*стога маладога* *л і с ц я* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Макарка часта любаваўся* *п о л е м* *у* *я г о* *н о в ы м* *в ы г л я д з е: такое ж яно прыгожае* (Я. Колас. Макарка Навак). *Глядзеў на луг, на грывы хмар, на* *л е с* *у* *д з і ў н ы м* *ж а ў т а л і с ц і* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Незнаёмы быў апрануты ў сівы* *г а р н і т у р* *у* *ж о ў т ы х* *і* *с і н і х* *м а к а в і н к а х* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Стары Кляшчэвіч надзяваў на нос* *а к у л я р ы* *ў* *д р а ц я н о й* *а п р а в е* *і алоўкам запісваў у «расход»* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...). *Над ім некалькі* *ф а т а г р а ф і й* *у* *с а м а р о б н ы х* *р а м к а х* (К. Крапіва. Валодзеў гальштук). *«Прапускай паязды сама, а я пайду», — і палажыў* *с ц я ж к і* *ў* *ч а х л а х* *на стол* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 113. Словазлучэнні з адносінамі ўвасаблення ці вылучэння складаюць прадуктыўны тып прыназоўнікава-іменных канструкцый. Залежнае слова ў гэтых словазлучэннях указвае на від або форму выражэння ці ўвасаблення таго, што названа залежным словам: *грошы ў бумажках, валюта ў золаце, горад у праектах і чарцяжах, праект у натуры, выражэнне ў працэнтах* і інш. *Апроч насеннага фонду, калгас меў у дастатковай меры* *х л е б а* *ў* *з е р н і* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ён успомніў ноты, пана і* *м е л о д ы і* *ў* *з н а к а х, ці не тут пясняр нязнаны ноты склаў у тых лістках?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Шафа напамінала сабою* *в е ж у* *ў* *м і н і я ц ю р ы, мела багатую разьбу змешаных стыляў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 114. Шырока прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з суправаджальна-азначальнымі адносінамі. У ролі залежнай часткі іх выступаюць назоўнікі (нярэдка з паясняльнымі словамі пры іх), якія абазначаюць прадметы, што суправаджаюць і ўказваюць на адметныя рысы іншых прадметаў, названых галоўным словам: *іржышча ў сецях* [павуціны], *лісце ў праменнях* [сонца], *балоты ў імгле* [туманаў], *неба ў кудзерках* [воблакаў], *будынкі ў засені* [плюшчу], *хаціны ў вішнях, вочы ў акулярах* і інш. *Напэўна, у кожнага з іх пры гэтай песні ўзнікалі прад вачыма свае родныя прасторы, свае* *д а р о г і* *ў* *в е р б а х* *і* *т а п о л я х, свае пясчаныя палі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Коні імчаліся, як віхор, па праезджанай саннай дарозе праз шырокія, замёрзлыя* *б а л о т ы* *ў* *ч а р о т а х* *і* *а с о к а х, праз хмызнякі і гушчары карлікаватых бярозак* (там жа). *Люблю народ наш беларускі,* *х а ц і н ы* *ў* *з е л е н і* *с а д о ў* (К. Буйла. Люблю). *Адгэтуль адкрываецца прыгожы пейзаж: поле,* *р э ч к а* *ў* *к у с т а х, недалёкі лес* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

§ 115. Словазлучэнні з абмежавальнымі адносінамі прадстаўлены ў мове нешырока. Ролю галоўнага слова ў іх звычайна выконваюць асабовыя назоўнікі з ацэначным значэннем, змест якіх раскрываецца, удакладняецца значэннем залежнага слова: *сябар у вучобе, калега ў навуцы, напарнік у спорце* і інш. Гэтыя словазлучэнні ў сучаснай беларускай літаратурнай мове сінанімічны словазлучэнням з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* (гл. § 68): *таварыш у рабоце — таварыш па рабоце, калега ў навуцы — калега па навуцы* і інш. *Тут ён заўважыў непадалёку ад сябе свайго ранейшага* *т а в а р ы ш а* *ў* *р а б о ц е, капальніка гліны, белазубага цыгана* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

§ 116. Колькасна абмежаваны таксама словазлучэнні з адносінамі прыпадаблення, супастаўлення. Галоўнае слова ў іх абазначае асобу, істоту або неадушаўлёны прадмет, якія прыпадабняюцца па якой-небудзь знешняй або ўнутранай рысе да іншых асоб, істот або прадметаў, абазначаных залежным словам. Спалучэнні слоў у залежнай частцы гэтых канструкцый з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі: *Вее* *р а м а н т ы з м а м* *у* *г у с ц е* *Г е н р ы х а* *Г е й н э* (З. Бядуля. Салавей). *«Ужо куды лягчэй быць* *к а н ё м* *у* *в ы г л я д з е* *к а н я,*

*чымся канём у выглядзе чалавека»,— не раз думаў Отта* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Аднак ці прыдзе калі-небудзь вызваленне яму, Отта, каню ў чалавечым выглядзе, з чалавечым розумам?* (там жа).

§ 117. Словазлучэнні з азначальнымі адносінамі саставу лексічна абмежаваны. Залежная частка іх складаецца з назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам *у* і колькасна-іменнага спалучэння ці спалучэння формы роднага склону назоўніка з азначальным займеннікам *увесь* і ўказвае на колькасць членаў якой-небудзь арганізацыі, удзельнікаў якой-небудзь нарады, сходу і г. д.: *кансіліум у складзе сямі ўрачоў, камісія ў складзе трох чалавек* і інш. *Пасля гэтага Паддубны прапанаваў зрабіць кароткую закрытую нараду ў складзе трох членаў акружкома на чале з таварышам Васілём* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. У мастацкіх творах некаторых пісьменнікаў сустракаюцца выпадкі, калі колькасна-іменнае спалучэнне пры назоўніку залежнай часткі выступае ў форме назоўнага склону (замест формы роднага склону). Такія канструкцыі не з'яўляюцца літаратурнай нормай: *Назаўтра ўсе грузчыкі ў ліку трыста чалавек не выйшлі на працу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 118. Словазлучэнні, у якіх выражаюцца азначальна-прасторавыя адносіны, складаюць прадуктыўны тып іменных канструкцый. Па прасторавых адносінах тут могуць характарызавацца як неадушаўлёныя прадметы, так і адушаўлёныя: *дзяжурны ў класе, пасажыр у поездзе, жывёла ў калгасе, слон у заапарку, шчыгол у клетцы, сквер у горадзе, вёска ў Беларусі, артыкул у газеце* і інш. *Дарога ў лесе была дзе-нідзе завалена галлём* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ён гаварыў пра гліну ў нашых глінішчах і пра саманнае будаўніцтва* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Іскры прабіваюцца праз шчэлкі ў дзверцах, вылятаюць на хату* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Гарбулёў успомніў пра карыкатуру ў газеце* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *І людзі ў вёсках, як у свята, сустрэць рыхтуюцца братоў* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Да гэтага часу павінна быць пакончана з вартавымі ў варотах і ізаляваны тэлефоны турмы* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

Азначальна-прасторавымі адносінамі ўскладняюцца таксама словазлучэнні, у якіх прадмет, названы галоўным словам, з'яўляецца састаўной часткай прадмета ці сукупнасці прадметаў, названых залежным словам: *стрэлка ў гадзінніку, трубка ў тэлевізары, клавіша ў раялі, пакой у інтэрнаце, фізорг у групе, баец у* [мінамётным] *разліку* і інш. Гэтыя словазлучэнні сінанімічны беспрыназоўнікавым іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка: *дзверцы ў машыне — дзверцы машыны, ігрок у камандзе — ігрок каманды* і інш. Аднак у беспрыназоўнікавых іменных словазлучэннях з родным склонам залежнага назоўніка прасторавае адценне знікае. *Ён адчыніў шуфлядку ў стале* (Я. Колас. У палескай глушы). *Брамку ў стрэльбе дзед узвёў, прылажыўся ён і бахнуў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Вокны ў пакоі выходзілі на ўсход* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Але вароты ў хляве былі дзябёлыя і крэпкія* (Я. Колас. Дрыгва). *Вось-вось, здаецца, упадзе, але, ухапіўшыся за бервяно ў ярусе, прыстане, а пасля ізноў цягнецца наперад* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Яна глядзела на флейтыста ў аркестры* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

§ 119. У словазлучэннях з азначальна-часавымі адносінамі залежнае слова ўдакладняе той прамежак часу, які названы ў галоўным слове: *канікулы ў тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят шостым годзе, ноч у кастрычніцкія святы* і інш. Азначальна-часавыя адносіны ў гэтых словазлучэннях сумяшчаюцца з вылучальнымі адносінамі. *Помню*

*дзень у семнаццатым годзе, была восень тады, як і сёння* (П. Глебка. Успаміны падпаска).

§ 120. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік, суадносны па ўтварэнню або значэнню з дзеясловам, могуць выражаць:

а) прасторава-азначальныя адносіны з указаннем на месца, дзе адбываецца або павінна адбыцца дзеянне, названае галоўным словам: *сяўба ў калгасе, вучоба ў інстытуце, паляванне ў гарах, купанне ў басейне, знаёмства ў поездзе, гулянне ў парку* і інш. *Сумесная работа ў брыгадзе яшчэ больш зблізіла хлопцаў* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Міжвольна ўспомнілася іх сумеснае жыццё ў інтэрнаце* (там жа), *Кукаванне ў бары ад зары да зары* (А. Куляшоў. Кожны мае свой бор...). *Падзеі ў лесе зрабілі на Андрэя цяжкае ўражанне* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Максім старанна аглядаў сляды нядаўняй пакражы ў яго абходзе* (Я. Колас. Малады дубок). *Прарыў у кавальным цэху знішчылі* (К. Чорны. Броня Казакевіч). *Да спаткання ў калгасе* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *У першы дзень, пасля песень у хаце, я гаварыў аб тым, што ў Забалоцці ёсць яшчэ зямлянкі і трэба іх пазбыцца як мага хутчэй* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

б) Аб'ектныя адносіны з азначальна-абмежавальным або акалічнасным адценнем: *клятва ў вернасці, пагроза ў словах, абвінавачанне ў здрадзе, задавальненне ў працы, падлікі ў працэнтах, выйгрыш у хуткасці, памылка ў падліках, пазнанні ў жывапісе, купанне ў плаўках* і інш. *Хлопцы моўчкі ішлі ззаду з помстаю ў сэрцы* (Я. Колас. Чоран). *Лабада глядзеў увесь час на профіль Саламона з запытаннем у вачах* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Пры першай генеральнай рэпетыцыі ў вопратках і грыме ўсе дэкарацыі былі забракаваны* (З. Бядуля. Салавей). *А хатка ўсё глядзіць адным акенцам, напалову запханым анучамі, на халодны ў крывавых водбліску захад сонца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

в) Часава-азначальныя адносіны: *наступленне ў снежні 1942 года, прыезд у дзве гадзіны ночы* і інш. У склад залежнай часткі такіх словазлучэнняў звычайна ўваходзяць колькасна-іменныя спалучэнні. *Легіянеры як забілі майго мужа пры адступленні ў 1920 годзе, як асталася ўдавою з маленькім хлопчыкам, дык я апынулася нібы ў чайнаку на бурлівым моры без вёслаў* (З. Бядуля. Свінарка Фрэйда).

§ 121. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае назоўнік адпрыметнікавага ўтварэння, звычайна выражаюць аб'ектна-абмежавальныя адносіны: *справядлівасць у рашэннях, праўдзівасць у словах, далікатнасць у абыходжанні, карпатлівасць у працы, настойлівасць у вучобе, рэзкасць у выказваннях, пасіўнасць у дзеяннях, прадукцыйнасць у рабоце* і інш. Гэтыя словазлучэнні сінанімічны адпаведным ад'ектыўным словазлучэнням і могуць замяняцца імі: *упартасць у барацьбе — упарты ў барацьбе, нязграбнасць у рухах — нязграбны ў рухах* і інш. *З гэтым адчуваннем перамогі і ўпэўненасці ў сваіх сілах калгаснікі ўступілі ў 1948 год* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Як старога знаёмага, што ведае якуюсьці таемнасць у яе жыцці, спаткала яна яго* (К. Чорны. Спатканне з аспаватым чалавекам). *Галена ўбачыла сумны спакой незнаёмага твару, незвычайную шпаркасць у рухах, збянтэжанасць* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *А на полі жніво... І паспешнасць і рупнасць у працы* (П. Глебка. Матчыны казкі). *У іх руках васількі, на прыполе вянкі і смуглявая гордасць ва ўсмешках* (П. Трус. Не на ўзмор'і чаўны...).

Галоўнае слова — назоўнік у гэтых словазлучэннях можа абазначаць панаццe, якое з'яўляецца вынікам таго апрадмечанага дзеяння, што названа залежным словам: *задавальненне ў пазнанні, асалода ў працы, радасць у служэнні* [народу] і інш. *Я сам гарэў агнём трывогі, парывам шчасця ў барацьбе* (П. Трус. Дзяўчыне).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 122. Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*, ролю галоўнага слова ў якіх выконвае назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем, выражаюць уласна азначальныя, азначальна-прасторавыя і азначальна-часавыя адносіны.

Сярод словазлучэнняў з уласна азначальнымі адносінамі вылучаюцца:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу ці іншую істоту, а залежнае слова — прадмет, на якім знаходзіцца ў дадзены момант асоба або істота: *афіцэр на кані, пасажыр на машыне, мядзведзь на матацыкле* і інш. *Яшчэ праз момант выплыла і постаць чалавека на кані* (Я. Колас. Макарка Навак). *Афіцэр на рыжым жарабку махаў шабляй, склікаючы сваё войска* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *Пасля высоўваўся конь, каламажка, чалавек на высокім сядзенні ў каламажцы, другі — пры кані* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Залежнае слова такіх словазлучэнняў можа ўказваць таксама і на пастаянны знешні прызнак асобы: *інвалід на пратэзах, чалавек на мыліцах* і інш. *Ты ж для мяне была заўсёды дарагім і мілым другам, і каб на тваім шляху не папаўся герой на адной назе, то, магчыма, і цяпер твае ясныя вочы радаваліся б на гэтай праклятай зямлі* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае канкрэтны неадушаўлёны прадмет, а залежнае слова — прадмет, прызначаны ў якасці апоры: *мост на арках, хата на* [цэментавым] *падмурку, падлога на падвалінах, вазоны на талерках, скаварада на падстаўцы* і інш. Для ўдакладнення значэння залежнага слова пры ім могуць ужывацца дапасаваныя або недапасаваныя азначэнні. *Калі глянуў на барэльефы на пастаменце, усміхнуўся і зараз жа сеў на лавачку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Бачыў Івась, як на доўгіх платформах везлі страшныя гарматы на велізарных колах* (Я. Колас. На чыгунцы). *Бакалы на тонкіх сцяблах нагадваюць вадзяныя лілеі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *А бяроза на белай назе нібы ўскочыла раптам з пасцелі* (З. Бядуля. Зіхаціць, зіхаціць срэбны тур...).

в) Словазлучэнні, залежнае слова якіх указвае на адметную рысу прадмета, названага галоўным словам: *трактары на гусеніцах, каляска на рысорах, ложак на панцырнай сетцы, матрац на спружынах, дзверцы на шарнірах* і інш. Дапасаванае азначэнне пры залежным слове тут часта бывае структурна неабходным. *Добры дзесятак драбін на жалезным хаду сёлета акаваў* [каваль] (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Надзеў* [дзед Талаш] *праз плячо паляўнічую раменную торбу на шырокім пасе* (Я. Колас. Дрыгва). *За поясам тая ж нязменная нагайка на казінай ножцы, але пры баку цяпер вісіць «кольт» у вялікай кабуры, з жоўтай скуры* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

г) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет (адзенне, абутак і г. д.), а залежнае слова ўказвае на матэрыял, што складае яго ўнутраную ці ніжнюю частку: *шынель на ваціне, паліто на ваце, шуба на мяху, туфлі на каўчуку, боты на скураміце* і інш.

*Міхал быў у шарачковай кароткай вопратцы на кудзелях* (К. Чорны. Вясна).

д) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае прадмет (прадукты спажывання, медыкаменты, матэрыялы і г. д.), а залежнае слова — рэчыва, з дапамогай якога ён прыгатаваны: *варэнне на цукры, настойка на спірце, мазь на вазеліне, фарба на пакосце* і інш. *Усе яны па добраму старому звычаю абкладвалі маці рознымі падарункамі: пірагамі з яблыкамі, пернікамі на мёдзе, абаранкамі і цукеркамі* (А. Кулакоўскі. Радзіны ў Забродскіх). *Гарэлка, наліўка на вішні, была дужа добрая* (Я. Колас. Адшчапенец). *За квасам елі верашчаку, а потым блінчыкі на маку, а там ламанцы, праснакі з пшанічнай добрае мукі* (Я. Колас. Новая зямля).

е) Словазлучэнні, у якіх назоўнік залежнай часткі ўказвае на форму перадачы таго, што названа галоўным словам: *жывапіс на мясцовым фоне, кнігі на мовах народаў СССР, рукапіс на польскай мове* і інш. Азначэнні пры назоўніку залежнай часткі тут з'яўляюцца структурна неабходнымі. *Сяляне дамагаліся ад паноў школы на роднай беларускай мове* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *З яе нязвязных слоў на яўрэйскай мове Марцін нічога не мог зразумець* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 123. У словазлучэннях з азначальна-прасторавымі адносінамі галоўнае слова —назоўнік можа абазначаць:

а) канкрэтны неадушаўлёны прадмет: *кветкі на лузе, крыжы на магілах, канавы на балоце, дошчачкі на дзвярах, гардзіны на вокнах, вёска на Палессі* і інш. *Адна толькі Іванава халупа засталася, як уцёс на Волзе* (Я. Брыль. Гаспадар). *Калісь у юнацтве запоем чытаў я вершы Генрыха Гейнэ, і перад вачамі ўставаў абрыс скалы Ларэлеі на Рэйне* (А. Зарыцкі. Лепшая мова). *Яно шугала ў цёмнае начное неба, асвятляючы ўвесь пляц і дрэвы на ўзлессі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Вечныя сваркі ў іх за кавалак мяжы на расцяробе* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Яна папраўляла яму перавязь на руцэ* (К. Чорны. Броня Казакевіч).

б) Асобу ці іншую істоту: *моладзь на цалінных землях, камсамольцы на Амуры, людзі на Пойначы, табуны на лугах* і інш. *Імкненне беларускага народа да ўз'яднання з сваімі братамі на ўсходзе памнажала рады партызан* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Месяц асвяціў людзей на заднім возе* (К. Чорны. Па дарозе). *Язэпку тады здавалася, што гэта ён бачыць істоту з тых казак, якія чуў ад старых дзядоў на вёсцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Пераклікаюцца між сабою певуны з вёскі з певунамі на хутары* (там жа). *На сваім сметніку, кажуць, і певень гаспадар* (Я. Колас. «Слабода»).

У словазлучэннях, дзе ролю галоўнага слова выконвае неадушаўлёны назоўнік, па прасторавых адносінах можа характарызавацца прадмет, які з'яўляецца састаўной часткай прадмета, названага залежным словам: *тынкоўка на сценах, кручкі на карнізах, мацаванні на лыжах, плафоны на люстрах* і інш. Такія канструкцыі сінанімічны беспрыназоўнікавым іменным словазлучэнням з родным склонам назоўніка, параўн.: *муфты на трубах — муфты труб, філёнгі на дзвярах — філёнгі дзвярэй* і інш. *Зайздросны мароз узяў ды пазакрываў лёдам і хрыбусткім снегам шыбы на вокнах* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Некаторыя словазлучэнні з азначальна-прасторавымі адносінамі з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з адноснымі прыметнікамі, параўн.: *уцёс на Волзе — волжскі ўцёс, кветкі на лузе — лугавыя кветкі, дзяды на вёсцы — вясковыя дзяды.*

Гэтыя словазлучэнні сінанімічны таксама канструкцыям з дадзеным азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які* і могуць замяняцца імі: *Скідае кіцель сын-пілот, на ім — героя зорка, павесіў кіцель сын-пілот на дубе, што на ўзгорку* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове).

§ 124. Словазлучэнні з азначальна-часавымі адносінамі колькасна абмежаваны. Залежная частка іх звычайна ўдакладняе прамежак часу, які названы галоўным словам: *Неспадзяваны мароз, раптоўна наваліўшыся на Палессе пасля некалькіх ціхіх і мяккіх дзён на сходзе зімы, пратрымаўся нядоўга* (Я. Колас. Дрыгва). *Былі гады змагання на грані двух эпох* (Я. Колас. Да 15-й гадавіны Кастрычніка).

§ 125. Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік, суадносны па ўтварэнню або значэнню з дзеясловам, выражаюць:

а) аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем: *засноўванне на фактах, ілюстрацыя на прыкладах, адчуванне на сабе, подпіс на кнізе, катанне на лыжах* і інш. *Міхалка з маленства да апошніх часоў перажыў усю гісторыю культуры: ад лучыны — да электрычнасці, ад язды на кані — да самалёта, ад старадаўняй сахі — да трактара* (З. Бядуля. Год за годам). *Праязду на таварным поездзе Сцёпка дыпламатычна змаўчаў* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Андрэй ляжаў на нарах і слухаў ігру на балалайцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

б) Прасторава-азначальныя адносіны: *выступленне на канферэнцыі, служба на флоце, здарэнне на ўчастку, сустрэча на дарозе, праверка на рабоце, знаходжанне на фронце, адпачынак на курорце* і інш. Гэтыя словазлучэнні, як і некаторыя іншыя, дзе ў ролі галоўнага слова выступае аддзеяслоўны назоўнік, будуюцца па ўзору адпаведных дзеяслоўных словазлучэнняў: *сустрэча на дарозе — сустрэць на дарозе, адпачынак на курорце — адпачываць на курорце* і інш. *На трэці дзень нашай працы на сёмым участку вяртаемся мы назад ад Нёмана ўлегцы* (Я. Брыль. Дзяўчынанька чарнаброва). *Кірылкавы думкі разагнаў звонкі рогат на другім паверсе млына* (К. Чорны. Мельнікі). *Блуканне было непрыемна, а горш усяго гэтая глуш, бязлюддзе і чаканне на кожным кроку небяспекі* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Ён успомніў гульні на рэчцы, коўзанне па гладкім, люстраным лёдзе* (З. Бядуля. Па абодвух берагах рэчкі).

в) Часавыя адносіны з азначальным адценнем: *атэстацыя на першым годзе навучання, інвентарызацыя на дзесятым месяцы, перарэгістрацыя на гэтым тыдні, змена* [дзяжурства] *на наступным тыдні, пераўчот на днях, сустрэча на грані эпох* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку залежнага слова. *І, здаецца, нічога ніколі не ўзварушыць яго, а тое хваляванне на развітанні было выпадковым* (К. Чорны. Вінгель).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 126. У словазлучэннях з прыназоўнікам *па* ролю залежнага слова, асабліва пры імёнах з канкрэтна-прадметным значэннем, найчасцей выконваюць назоўнікі ў множным ліку. Калі залежны назоўнік такіх канструкцый ужываецца ў адзіночным ліку, то ён можа змяняць сваё склонавае значэнне і выступаць з канчаткам давальнага склону (гл. § 68), параўн.: *інструкцыя па правілах тэхнікі бяспекі — інструкцыя па збіранню гаворак.*

Словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* могуць выражаць:

а) а з н а ч а л ь н ы я адносіны з указаннем на змест паняцця, названага галоўным словам: *пленум па арганізацыйных пытаннях, бюро па навукова-тэхнічных ведах, тэхсавет па рацыяналізатарскіх прапановах* і інш. Гэтыя словазлучэнні пераважна ўжываюцца ў афіцыйным і навукова-тэхнічным стылях мовы і па структуры з'яўляюцца мнагачленнымі. *Кожная п а с т а н о в а партыі п а і д э а л а г і ч н ы х п ы т а н н я х уздымае нашу літаратуру яшчэ на адну ступень у яе няспынным росце* (К. К р а п і в а. Нескарыстаныя магчымасці). *У Мельбурне сёння адкрылася к а н ф е р э н ц ы я п а п ы т а н н я х с т а н у а т м а с ф е р ы ў Антарктыцы і ўплыву змен у яе стане на іншыя зоны свету* (з газет).

б) А з н а ч а л ь н ы я адносіны з адценнем прызначэння: *літаратура па грамадскіх дысцыплінах, дапаможнікі па фізіка-матэматычных навуках* і інш. *К н і г і п а т а к а р н ы х с т а н к а х былі цяпер для Андрэя самымі цікавымі* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Адным словам, зрабіў усё, чаму вучыў брат і яго п а д р у ч н і к і п а с е л ь г а с м а ш ы н а х* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

в) А з н а ч а л ь н а-а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны з аб'ектным ці прасторавым адценнем: *калега па сельскагаспадарчых курсах, інспектар па раённых школах* і інш. *Гэтак жа жорстка і бязлітасна Бародка раскрытыкаваў у п а ў н а в а ж а н а г а п а н а р ы х т о ў к а х* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *З-за сцяны завода ішоў Міхась Камар — яго добры знаёмы, т а в а р ы ш п а ц э х у і н а с т а ў н і к п а п р а к т ы ч н ы х в е д а х палітычнага руху* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *П а н а с т р о я х мне б р а т а м і ц ё з к а м быў пажоўклы дубок адзінокі* (П. Г л е б к а. Успаміны падпаска). *Усе абавязкі ч л е н а с е л ь с а в е т а п а М я д з в е д з і ч а х прыйшлося выконваць адной Аўдолі* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

г) А з н а ч а л ь н а-п р а с т о р а в ы я адносіны: *кусты па абочынах, трава па ўзмежках, стагі па лугах* і інш. *Д а р о г багата за плячыма і п а к у п'і і п а т р ы с ц і, з трывогай думаю: магчыма, мне столькі ўжо і не прайсці* (П. Г л е б к а. Пад небам бацькаўшчыны). *М і ж п р ы с а д а ў п а г а с ц і н ц ы нікагусенька няма* (Я. К о л а с. Доктар памог).

д) А з н а ч а л ь н а-ч а с а в ы я адносіны: *гадзіна па поўначы, нядзеля па святах* і інш. *Сваты яшчэ пасля гэтага цягнуліся доўга так, што іх застала другая г а д з і н а п а п о ў н а ч ы* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Экзамены назначаліся на п а н я д з е л а к п а в я л і к а д н і* (Я. К о л а с. У палескай глушы).

Па характару семантыка-сінтаксічных адносін словазлучэнні з месным склонам і прыназоўнікам *па* прыпадабняюцца да іменных словазлучэнняў з давальным склонам назоўніка і гэтым жа прыназоўнікам (гл. § 68). Фактычны матэрыял сучаснай беларускай літаратурнай мовы адлюстроўвае тэндэнцыю да паступовага пашырэння канструкцый з формай меснага склону залежнага назоўніка пры выражэнні ідэнтычных адносін і выцяснення паасобных канструкцый з давальным прыйменным. Гэты працэс адбываецца ў напрамку ўніфікацыі склонавых форм назоўнікаў у такіх словазлучэннях па ўзору іх ужывання ў множным ліку.

§ 127. Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца назоўнік са значэннем унутранага адчування, стану або са значэннем субстантываванага дзеяння, працэсу, выражаюць а б'е к т н ы я адносіны з азначальным або акалічнасным адценнем: *перажыванні па дзецях, пакуты па блізкіх, мукі па страчаным, стральба па мішэнях, ігра па нотах, класіфікацыя па значэннях, дыферэнцыяцыя па родах, адрозненні па функцыях, падзел* [гукаў] *па органах артыкуляцыі, выклік па прозвішчах, назвы па імёнах* і інш. *Усе мы адчулі і перажылі вострае пачуццё с у м у і б о л ю п а р о д н а й з я м л і* (Я. К о л а с. Прамова на

VI сесіі Вярхоўнага Савета БССР). *У сэрцы не знікаў смутак па бацьку і маці, па родных* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *У яе з'яўляцца пачала нуда па людзях* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Кожны крок па зямлі быў стукам па пустой бочцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Чулася моцнае шарханне венікам па бруку. Дзядзька называў «навукай» і чытанне па складах* (там жа). *І калі надыходзіла дзесятая гадзіна, ён спыняў усякія прыёмы, усякія гутаркі па тэлефоне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Пад уплывам гэтых словазлучэнняў у форме меснага склону (замест давальнага) пачынаюць ужывацца залежныя назоўнікі і пры аддзеяслоўных назоўніках іншай семантыкі: *збліжэнне па вымаўленні, адрозненне па напісанні* і інш. Прыклады такога ўжывання назоўнікаў маюць месца і ў мастацкіх творах: *Пакуль у залу нам зайсці, дзе пойдуць спрэчкі па дакладзе, дазвольце вам апавясціць вітанні партыі і ўладзе* (П. Глебка. Дваццаты з'езд КПБ).

Прадуктыўнымі з'яўляюцца таксама словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі адносінамі — прасторавымі *(вандраванне па лясах, блуканне па вуліцах, абход па хатах, плаванне па марах)* і часавымі *(трэніроўкі па суботах, вучоба па вечарах)*: *Тады і пачалося жудаснае бадзянне па свеце* (К. Чорны. Браты). *Скончыцца яго бадзячае жыццё па бараках, пачнецца нешта новае* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Прыемна язда па «сабачых дарожках» (як кажуць сяляне), дзе ніколі жывой душы няма* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ён толькі што прыйшоў у хату пасля доўгага тупання па двары* (К. Чорны. Малюнак). *Праца па людзях, праца па ночах пры агні камінка* (П. Пестрак. Пачатак). *Яна рашыла перайсці з Рыгорам да адкрытае гутаркі наконт наступнае з ім стрэчы па прыездзе ў Рыгу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 128. Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца адпрыметнікавы назоўнік са значэннем якаснай ацэнкі, выражаюць адносіны адпаведнасці або неадпаведнасці. *Да ўсіх іншых якасцей меў ён розум ды здольнасць не па гадах* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры*

§ 129. Словазлучэнні з месным склонам і прыназоўнікам *пры*, галоўным словам у якіх з'яўляецца назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем, а залежным словам — назоўнік, што ўказвае на месца або пункт размяшчэння чаго-небудзь, выражаюць азначальна-прасторавыя адносіны: *дарога пры вёсцы, будан пры сасне, буфет пры школе* і інш. *Дом пры лесе — ўсяго паўвярсты да парога, — вось той самы прыпынак яго, да якога ішоў* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *У снежных карунках застылі драты, слупы пры дарозе застылі* (П. Глебка. Песні жалобы). *Гаі... І вёска пры гасцінцы. Чаму пад гоман вербалоз яшчэ з гадоў свайго дзяцінства я пакахаў цябе да слёз?* (П. Трус. Я пакахаў цябе да слёз). *Гаворка ідзе пра Ніну Савось, якая адна жыве цяпер у пакойчыку пры нашай школе* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Яны занялі ў першым ад выхаду аддзяленні два месцы пры акне* (Ц. Гартны. На перагібе). *Гэта быў сторож пры базах* (К. Чорны. Максімка).

Такія словазлучэнні сінанімічны канструкцыям з даданым азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які* і могуць замяняцца імі: *Тая хвоя, што пры полі, бач, стаіць, як важны пан, разгарнуўшы на прыволлі свае лапы, бы каптан* (Я. Колас. Сымон-музыка).

§ 130. Асобна ў гэтым тыпе вылучаюцца словазлучэнні, у якіх:

а) галоўнае слова — назоўнік абазначае той ці іншы кіруючы орган, арганізацыю, а залежнае слова — галаўную ўстанову, якой гэты орган ці арганізацыя падпарадкаваны або ў якую ўключаны: *Інстытут марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС, Галоўнае ўпраўленне аўтамабільнага транспарту пры Савеце Міністраў Беларускай ССР* і інш. *Камітэт па Ленінскіх прэміях у галіне навукі і тэхнікі пры Савеце Міністраў СССР паведамляе ўсім установам і арганізацыям СССР, што прыём работ на атрыманне Ленінскіх прэмій 1963 года заканчваецца 15 лістапада г. г.* (з газет).

б) Галоўнае слова — назоўнік абазначае асобу (асоб), а залежнае слова — дзяржаўны ці міжнародны орган, установу, арганізацыю або адказнага работніка, пры якім знаходзіцца гэта асоба: *пастаянны прадстаўнік пры штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, саветнік пры пасольстве, саветнікі пры главе дэлегацыі* і інш. Названыя групы словазлучэнняў характэрны для афіцыйнага стылю мовы.

Заўвага. У мастацкіх творах, прысвечаных адлюстраванню дарэвалюцыйнага ўкладу жыцця, магчыма ўжыванне словазлучэнняў, якія нагадваюць прыведзеныя вышэй канструкцыі: *У той жа дзень, праз час каторы, прыйшоў сюды Марцін з каморы, ляснік таксама пры кватэры* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 131. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на час існавання асобы ці бытавання прадмета, паняцця, названага галоўным словам, або на час прызначэння, выкарыстання прадмета, выражаюць азначальна-часавыя адносіны: *баяры пры цару Івану Грозным, зброя пры Пятру Першым, мастацтва пры Рэпіне* і інш. Такія словазлучэнні колькасна абмежаваны. *Такія бароды насілі міністры пры цару Аляксандру Другім* (Я. Колас. На ростанях). *Гарасім — то мост пры мажлівым адыходзе* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 132. Словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, семантычна або па ўтварэнню суадносны з дзеясловам, могуць выражаць:

а) азначальныя адносіны з указаннем на абмежаванне, на якасць названага галоўным словам дзеяння, на час або ўмову яго праяўлення: *свіст пры падзенні* [бомбы], *скрыгат пры рэзанні* [металу], *тактыка пры наступленні, хваляванне пры здачы* [экзамена] і інш. *І голас яго напамінаў грукат пры малацьбе* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). [Кулакі] *мелі сваю тактыку пры выбарах у сельсавет* (З. Бядуля. Год за годам). *Рэжысёр меў шмат клапот пры апрацоўцы тэхнікі ігры* (З. Бядуля. Салавей). *Задышка пры цяжкай рабоце ўсё больш адчувалася* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

б) Прасторава-азначальныя або аб'ектныя адносіны з прасторавым адценнем: *работа пры станку, служба пры штабе, сядзенне пры дзіцяці* і інш. *Ён пайшоў па бацьку, толькі ад натуры прыдалося яму больш ахвоты да працы пры зямлі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб*

§ 133. Словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* складаюць прадуктыўны тып прыназоўнікава-іменных канструкцый. Ролю галоўнага слова ў іх выконваюць пераважна назоўнікі са значэннем паведамлення ў шырокім сэнсе або са значэннем думкі, развагі аб прадметах, паняццях ці з'явах, названых залежным словам. Такія словазлучэнні выражаюць звычайна аб'ектныя адносіны з азначальным адценнем: *песня аб сокале, сігнал аб небяспецы, слова аб подзвігу, разважанні аб будучым* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў суадносяцца па значэнню і форме з адпаведнымі дзеяслоўнымі

словазлучэннямі, параўн.: *гутарка аб вучобе — гутарыць аб вучобе, мара аб подзвігу — марыць аб подзвігу* і інш. *Ці ведаеш ты сказ аб волатах пакутных? Ці ведаеш ты спеў аб вечным ззянні дня? Ці чуў ты часам быль аб сэрцах аб мяцежных? Ці чуў ты гімнаў кліч аб шчасці на зямлі?* (З. Бядуля. Ці ведаеш зямлю арлоў — людзей магутных..?). *Весць аб смерці Бандароўны скрозь пайшла, як мора* (Я. Купала. Бандароўна). *Гэта была п'еса аб перадваенным калгасе* (К. Крапіва. П'есы і вобразы). *Камандзір карабля прыняў генеральскі загад аб пасадцы* (Э. Самуйлёнак. Урачыстая меса). *У размове аб драматургіі асабліва месца займае пытанне аб сатырычнай камедыі* (К. Крапіва. Канфлікт—аснова п'есы). *Аб мінулым успамінаны не аслабяць нам пляча!* (П. Трус. Асенняя праца). *І вось раптам думка аб заяве зноў напомніла яму аб яго хваробе* (К. Чорны. Новыя людзі).

Словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з залежным назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *пра* (гл. § 93), а таксама словазлучэнням з родным склонам назоўніка і вытворнымі прыназоўнікамі *наконт, адносна* (гл. § 62), параўн.: *песня аб сокале — песня пра сокала, пытанне аб працаздольнасці — пытанне наконт працаздольнасці, думка аб заяве — думка адносна заявы.*

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *а*

§ 134. Словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *а* ўжываюцца для выражэння азначальна-часавых адносін. Гэты тып прыназоўнікава-іменных словазлучэнняў лексічна абмежаваны. *Пачатак сходу а другой гадзіне дня* (з газет).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ НАЗОЎНІКАЎ З АТРЫБУТЫЎНЫМІ ЧАСЦІНАМІ МОВЫ

§ 135. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць атрыбутыўныя часціны мовы, падзяляюцца на некалькі груп: 1) словазлучэнні з прыметнікамі *(зялёная трава, шоўкавае плацце, дзедаў човен)*; 2) словазлучэнні з займеннікамі *(нашы поспехі, кожны супрацоўнік, увесь калектыў, чыясьці дапамога)*; 3) словазлучэнні з парадкавымі лічэбнікамі *(першы паверх, трэцяе акно, тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят другі год)*; 4) словазлучэнні з дзеепрыметнікамі *(скошаны луг, пралітая кроў, расквітнеўшы сад)*. У названых групах словазлучэнняў залежнае слова знаходзіцца з галоўным у сінтаксічнай сувязі дапасавання. Гэтыя словазлучэнні вызначаюцца семантычнай разнастайнасцю.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫМЕТНІКАМІ

§ 136. У сінтаксічную сувязь з назоўнікам могуць уступаць якасныя, адносныя і прыналежныя прыметнікі. Словазлучэнні з прыметнікамі выражаюць азначальныя адносіны, але адрозніваюцца паміж сабою адценнямі значэнняў. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні з якаснымі і адноснымі прыметнікамі.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЯКАСНЫМІ ПРЫМЕТНІКАМІ

§ 137. Словазлучэнні з якаснымі прыметнікамі выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на якасць або ўласцівасць прадмета ці паняцця, названага галоўным словам. Азначальную функцыю якасныя прыметнікі, як і адносныя, звычайна выконваюць у поўнай

форме: *шырокі луг, высокая гара, далёкі гарызонт, сіняе неба, ціхі вечар, цёплы вецярок, бурная паводка, неспакойная рэчка, круглы месяц, цікавае назіранне, прыемная сустрэча, выдатны педагог* і інш. *Пасля антракту ў зале панавала ўрачыстая цішыня* (Б. Мікуліч. Дужасць). *То чыстым полем, то празцёмны лес адтуль цягнуцца да блізкіх вёсак мядзяныя тугія правады* (А. Зарыцкі. Агні). *Учора скончыўшы паход, ужо шурпатаю рукой араты ўцёр шчаслівы пот* (М. Лужанін. Скончыўшы паход).

Заўвага 1. У паэтычным жанры мастацкай літаратуры сустракаюцца словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць кароткія або сцягнутыя формы якасных, а часам і адносных прыметнікаў. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў фразеалагізаваліся і выступаюць як устойлівыя. *Паплылі Дняпровы хвалі ажно ў сіне мора* (Я. Купала. Тарасова доля). *Буйны ветры там зложаць песню-быль* (П. Трус. Чырвоныя ружы). *Мае русы косы расхвалюй ты, вецер* (П. Трус. Развітанне). *Загубіла буйну голаву, буйну голаву Максімаву* (М. Багдановіч. Максім і Магдалена). *А чырвон паясок стан абвіў дзявочы* (Я. Купала. Безназоўнае). *Доўгі косы вянком ўюцца* (Цётка. Лета). *Зноў навіслі цёмны хмары* (Цётка. Бура ідзе). *І ў белы дзень і ў чорну ноч я ўсцяж раблю агледзіны* (Я. Купала. Спадчына). *Чаму, мая дзяўчыначка, ліеш гарачы слёзкі?* (З. Бядуля. Песня). *Ён цэлы дзень, як дзень вялік, у камізэльку плача мне* (К. Крапіва. Плач абываццеля). *Раз жняяркай жыта жала дзяўчыначка малада* (А. Зарыцкі. Дзяўчына і каваль). *Маладую дзявочу красу не змалюеш, не спішаш пяром, бо хто ж летню змалюе красу, спіша хто птушын шчэбет і гром?* (Я. Купала. Аб дзяўчыне).

Заўвага 2. Пад уплывам фальклору ў вершаваных творах мастацкай літаратуры сустракаюцца словазлучэнні, у якіх пры залежным слове — прыметніку паўтараецца прыназоўнік, ужыты з галоўным словам — назоўнікам: *Стары лес задрыжыць ад магутных ад рук* (З. Бядуля. Дрывасек). *Як за рэчкаю за быстраю ходзяць хлопцы белабрысыя* (М. Лужанін. Як за рэчкаю). *І ліліся слёзы горкія пад астрогам пад глухім* (М. Танк. Пад астрожнай сцяной). *У прасторах у бяскрайных зоры слухалі сукрыта* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Паўтарэнне прыназоўнікаў магчыма і перад іншымі разрадамі прыметнікаў, якія выступаюць у ролі залежнага слова іменнага словазлучэння: *А над гаем над хваёвым, над абшарам над сталёвым ціш вісела ільдзяная, ціш смяротная, нямая* (З. Бядуля. Адплата пану). *А па лесвіцы па срэбранай нехта лазіць угару* (З. Бядуля. Лезе ў вочы ззянне месяца...). *Павячэраўшы, мужчыны люлькі закурылі і аб справах аб сялянскіх ўсе загаварылі* (Я. Колас. Сялянская рада).

Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць якасныя прыметнікі ў форме вышэйшай або найвышэйшай ступені параўнання, выражаюць азначальныя адносіны са значэннем меры, ступені якасці, уласцівай прадмету або асобе: *Сцежкай ад вёскі, хаты якой відаць з вышэйшага берага, апоўдні прыйшоў сюды хлопец* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Больш разбітных і здольных сваіх вучняў любіў ён той любасцю, якая можа быць толькі ў настаўніка да сваіх выхаванцаў* (Я. Колас. У палескай глушы). *На яго твары ўвесь час красуе найдабрэйшая ўсмешка* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *На пляцы, на ярусе, на самым найвышэйшым бервяне сядзеў ужо Макар Краўчук і іграў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Па значэнню іменныя словазлучэнні з якаснымі прыметнікамі сінанімічны словазлучэнням з родным прыйменным і ў радзе выпадкаў могуць замяняцца імі (гл. § 23): *высокакваліфікаваны спецыяліст — спецыяліст высокай кваліфікацыі, першакласная гасцініца — гасцініца першага класа* і інш.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З АДНОСНЫМІ ПРЫМЕТНІКАМІ

§ 138. Словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі ў ролі залежнага слова складаюць прадуктыўны тып іменных канструкцый. Яны выражаюць азначальныя адносіны з разнастайнымі адценнямі, якія абумоўліваюцца лексічным значэннем утвараючай асновы адносных пры-

метнікаў, што ўступаюць у сэнсава-граматычную сувязь з імёнамі: *дубовы стол, медны таз, скураны абутак, шоўкавая блузка, пясчаны бераг, жытняе ржышча, тытунёвы дым, ранішні змрок, веснавы дзень, векавая пушча, лясная ціш, усходні вецер, зарэчны бор, беларускі край, цалінныя землі, марское дно, машынная зала, літаратурнае аддзяленне, калгасная брыгада, конскі табун* і інш. *Машастовая заслона набывае таемныя адценні* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Каменныя львы на тэрасе сфінксамі глядзелі ў неба* (З. Бядуля. Салавей). *Хвалі з шумам і звонам набягалі на пясчаны бераг* (В. Каваль. Ноч на моры). *Мільгаюць бліскавіцы ранняй красавіцкай навальніцы* (А. Зарыцкі. Ноччу ў полі). *Я іду з раённым аграномам міма ўзлесся* (там жа). *Заўтра кірмашовы дзень* (А. Куляшоў. Карусель). *Адзін яго нарыс надрукавала абласная газета* (Я. Брыль. На Быстранцы). *І ракетнымі агнямі мітусяцца ў небе зоры* (М. Лужанін. Наступленне).

Заўвага. Словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі могуць набываць у мове тэрміналагічна ўстойлівае значэнне: *калійная соль, медны купарвас, вуглякіслы газ; пісьмовы стол, рэчавы мяшок, актавая зала; сацыялістычнае спаборніцтва, камуністычны суботнік, Савецкі Саюз* і інш. Як адзінае сінтаксічнае цэлае выступаюць таксама назвы (у тым ліку і ўстарэлыя), якія абазначаюць асоб па роду іх дзейнасці, занятку, службы і г. д.: *вучоны сакратар, медыцынская сястра, дамашняя работніца, хатняя гаспадыня; валасны пісар, земскі начальнік, стацкі саветнік* і інш.

Сэнсава непадзельныя спалучэнні з назоўнікам могуць утвараць і іншыя разрады прыметнікаў: *скоры поезд, вечнае пяро, сівая старажытнасць, Новы год, бабіна лета, фількава грамата* і інш.

Пры пераносным ужыванні адноснага прыметніка словазлучэнне ўскладняецца якасным значэннем і нярэдка набывае ўстойлівы характар: *медныя гукі, драўляны голас, шкляны небасхіл, каменны выраз, жамчужная раса, кудзельнае мора, ваўняная ноч, ільняныя валасы, васільковыя вочы, мядовы галасок, мядовы месяц, сярэбранае вяселле, залатая сярэдзіна, воўчыя сцежкі* і інш. *Буду гаварыць я ў тыя вечары казкі залатыя позна да зары* (П. Глебка. Матчыны казкі). *Яго зяркатыя алавяныя вочы з жахам глядзелі на Палазка* (Я. Колас. Санітарка Таня). *Рыгора на момант абдало сталёвым холадам* (Ц. Гартны. На перагібе). *Толькі сцелюцца тужліва шоўкавыя руні* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Ён нават усміхнуўся з-пад кепкі, з мядзведжай далікатнасцю паціснуўшы маю руку* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі сінанімічны адпаведным словазлучэнням з залежным назоўнікам у форме розных ускосных склонаў з прыназоўнікамі або без прыназоўнікаў: *скураныя рукавіцы — рукавіцы са скуры, дзіцячыя кнігі — кнігі для дзяцей, лясныя абшары — абшары лясоў* і інш.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫНАЛЕЖНЫМІ ПРЫМЕТНІКАМІ

§ 139. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць прыналежныя прыметнікі на *-аў, -оў(-ёў), -еў, -ов-(-ёв-), -ав-, -ев-, -ін(-ын)*, выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на індывідуальную прыналежнасць прадмета асобе, названай утваральнай асновай прыналежнага прыметніка. Найбольш поўна прыналежна-азначальныя адносіны выступаюць у словазлучэннях, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем: *леснікова сядзіба, Міхасёва кніга, брыгадзіраў блакнот, цётчына хустка, дзяўчынін пояс, Тасіна кватэра, гаспадыніны рукі, матчына хата, даччыны косы* і інш. *І дзядзькаў сведка таксама ў пашане быў* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Глянуў здалёку на шыбы новай кавалёвай хаты* (З. Бядуля. На варце). *Кастусь паваліўся на пастухову світку* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *Застаўся ён, і выйшлі біцца з ім*

*тры самых лепшых ворагавых танкі* (М. Лужанін. Танкіст). *Сакратарой спакойны голас адразу ўтаймаваў завіруху ўзбуджаных выкрыкаў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Чорнавалосая галоўка сама схілілася на маміна плячо* (Я. Брыль. Галя). *Водыр духоў ад адзежы доктаршынай неяк не пасаваўся з гэтаю мэбляю* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Калі ж у ролі галоўнага слова такіх словазлучэнняў выступаюць назоўнікі са значэннем субстантывіраванага дзеяння, працэсу, унутранага адчування або стану, знешніх прызнакаў або ўнутраных якасцей, то адносіны прыналежнасці ў іх дадаткова ўскладняюцца суб'ектнымі, суб'ектна-выніковымі або якасна-азначальнымі адценнямі: *дзедава апавяданне, дзядзькавы спадзяванні, брыгадзірава памылка, леснікова жыццё, цётчыны турботы, Сцёпкава цвёрдасць, Аленчына стараннасць* і інш. *Паўлік бягом кінуўся выконваць бацькаў загад* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Цімкава абурэнне крыху ўлеглося* (Я. Колас. Чоран). *Старастаў крык далёка разлягаўся па сяле* (Я. Колас. Стараста). *Юзік маўчаў, не знаходзячы, чым перакрыць простыя загадчыкавы довады* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Кармянчане панура і маўкліва паглядзелі на каморнікаву работу* (там жа). [Марта] *яскравей і чутней адчувала даччыны радасць і мукі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *А наконт старшынёвай цікаўнасці мы не памыліліся* (А. Якімовіч. Я — юны піянер). *Уся Хамёнкава хітрасць аказалася тут проста смешнай* (Я. Брыль. Галя).

У словазлучэннях, залежнае слова якіх называе асобу (асоб), прыналежнасць выражаецца шляхам указання на ўзаемаадносіны паміж асобамі або асобай і калектывам: *кавалёва дачка, удовін сын, Натальчын бацька, Андрэевы таварышы, Вольчына брыгада* і інш. *Малы хлапчук, унучак дзедаў, сядзеў на возе* (П. Трус. У семнаццаты год). *З канюшні выйшаў конюхаў сын* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *Галасковых Агата, Алесева братавая, узяла ў сенцах вядро і пайшла па ваду* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Сабраліся да Чарнавусавага двара дзяўчаты, Натальчыны сяброўкі* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Прывяла гусляра з яго ніўных сяліб дворня князева ў хорам багаты* (Я. Купала. Гусляр).

Заўвага. Асобна вылучаюцца словазлучэнні, у якіх прыметнікі на *-аў, -оў (-ёў), -еў, -ов- (-ёв-), -ав-, -ев-, -ін (-ын)* утвораны ад назоўнікаў, што абазначаюць жывых істот (не асоб). У гэтых словазлучэннях значэнне прыналежнасці цесна пераплятаецца са значэннем якасна-адноснай характарыстыкі і можа выражацца не толькі індывідуальная, але і групавая прыналежнасць так або інакш звязаных з гэтымі істотамі прадметаў або паняццяў: *барановы рог, лісіны хвост, вожыкавы іголкі, арліны зрок, лебядзіная шыя, жаўранкавы звон, салаўіны свіст, пчаліны мёд* і інш. *Аберуч ашчарэпіла Марыська канёву шыю* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Сомавы вочы ніжуць цемру вод* (А. Куляшоў. Таварыш Алесь). *У Кліма было на хаце буслава гняздо* (П. Пестрак. На світанні). *Крыху ў бок ад зайцавага следу лёг чоткі, роўны след* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Глушцовым пер'ем тут і мох і ліст прапах* (А. Куляшоў. Глушцы). *Закрычалі пеўнікі, данёсся каровін рык* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *З Капуснікаў даносіўся жабін крэкт і перагуд перапёлкі* (там жа). *Вераб'іны крык глушыў сонечнае зімовае паветра* (З. Бядуля. Салавей). *Куры закудахталі з вялікай курынай радасці* (Цётка. Міхаська).

Адценні прыналежнасці могуць выражацца і ў словазлучэннях, дзе прыметнікі на *-аў, -ов-, -ав-, -ев-* утвораны ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў. Некаторыя з гэтых прыметнікаў маюць пераноснае значэнне. *Яны ідуць, агні дзе свецяць, дзе сонцаў смех купае шыр* (П. Трус. На чырвонай дарозе). *Месяц — хмаркавае сэрца* (З. Бядуля. Віленскія помнікі). *Мая песня — шум вятрыскі, ручайкова пляскатанне* (Ц. Гартны. Урачыстасць). *Макаў цвет гойдаўся па сцяне* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Таму і мяне ўсхвалявалі трактаравы сляды* (А. Куляшоў. Першая стрэча з трактарыстам Анісам).

Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць прыметнікі на *-скі (-цкі)* і інш., выражаюць якасна-азначальныя адносіны з адценнем індывідуальнай або калектыўнай прыналежнасці: *калгасніц-*

*кія гусі, бацькаўскія рэчы, дзявочыя рукі, кабечыя клопаты, пастушы гоман* і інш. *Лабановіч сеў пераглядаць* *вучнёўскія сшыткі* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ен мясцовы, мае там* *дзедаўскія маёнткі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *За годы доўгае разлукі старыя* *бацькаўскія рукі на шыю сынаву ляглі* (П. Трус. У семнаццаты год). *І* *ўраднiцкая галава* *строіць складаныя планы, тчэ хітрыя сеці* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Знявечаны* *маёрскі твар* *быў спакойны* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Крушынскі ў гэты момант чуў толькі хрыплы гуд* *папоўскага голасу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Усім не тое было ў* *кабечых вачах* (там жа).

Пры пераносным ужыванні прыметнікаў на *-аў, -ов-, -ін* (*-ын*), *-скі* (*-цкі*) словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *арліны ўзлёт, казліная бародка, лісіная хада, мацярынская любоў, брацкія адносіны, сяброўскае слова* і інш. *Расці ж, хлапчанё, і хутчэй разгортвай* *арліныя крылы* (А. Зарыцкі. Равеснік мора). *Каб рунела зерне тое весела, яскрава побач з вашай маладою* *сакалінай славай* (Я. Купала. Арлянятам). *Змяіная* *ўсмешка* *не сыходзіла з яе нафарбаваных губ* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Мышыныя* *вочкі* *яго жвава бегалі ва ўсе бакі* (З. Бядуля. Салавей). *Цёплай* *любоўю* *бацькоўскай* *партыя вас атуляе* (К. Буйла. Моладзі).

Словазлучэнні з прыналежнымі прыметнікамі з'яўляюцца сінанімічнымі іменным словазлучэнням з родным склонам залежнага назоўніка і могуць замяняцца апошнімі (гл. § 10): *леснікова сядзіба — сядзіба лесніка, сакратарова парада — парада сакратара.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 140. У іменных словазлучэннях з займеннікамі ролю залежнага слова могуць выконваць прыналежныя, указальныя, азначальныя, пытальна-адносныя, няпэўныя і адмоўныя займеннікі. Утвораныя па прынцыпу дапасавання займеннікаў да назоўніка, гэтыя словазлучэнні выражаюць азначальна-ўказальныя або азначальна-вылучальныя сінтаксічныя адносіны. Функцыя абагульненага ўказання на прадмет, вылучэння яго з ліку іншых падобных прадметаў, названых галоўным словам, істотна адрознівае гэтыя словазлучэнні ад іменных словазлучэнняў з залежным прыметнікам, у якіх заўсёды абазначаецца пэўная канкрэтная прымета прадмета — яго знешні або ўнутраны прызнак (колер, памер, рост, узрост, характар, стан і г. д.), матэрыял або рэчыва, прыналежнасць канкрэтнай асобе і г. д.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫНАЛЕЖНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 141. Словазлучэнні з прыналежнымі займеннікамі *мой, твой, свой, наш, ваш* выражаюць прыналежнасць прадмета асобе або звязана-га з ёю паняцця. На характар і разнастайнасць адценняў такіх канструкцый значны ўплыў аказвае лексічнае значэнне назоўніка, да якога адносяцца прыналежныя займеннікі: *мой стол, мая кніга, маё падарожжа, твой падарунак, твая радасць, тваё будучае, сваё мінулае, наш аграном, наша поле, нашы дзеці, ваша жыццё, вашы намаганні* і інш. *Я зноў вярнуся да цябе,* *мая* *пакінутая* *ніва* (М. Танк. Я зноў вярнуся...). *І ты не падумаеш, можа, ніколі, што гэта* *каханне* *маё* *берагло і* *сон* *твой* *спакойны, і* *рук* *тваіх* *холад і* *вуснаў* *тваіх* *палахлівых цяпло* (П. Глебка. Ад шчырага сэрца). *Араты на полі барозны ўздымае і шчодра* *свайго* *каваля* *ўспамінае* (П. Броўка. Каваль). *Гэта толькі кавалак* *нашай* *доўгай* *дарогі* (П. Броўка. Зямля). *Будуць спрадвеку казаць каласы, песні спяваць спрадвеку* *пра нашы годы, пра нашы часы, пра кожнага чалавека* (А. Куля-

шоў. На зямлі). *Я высока цаню вашу велікадушнасць* (К. Крапіва. Проба агнём).

Заўвага 1. Для выражэння прыналежнасці 3-й асобе ў сучаснай беларускай мове выкарыстоўваецца форма роднага склону асабовых займеннікаў *ён, яна, яны (яго, яе, іх)*. Гэтыя займеннікі ў адрозненне ад іншых разрадаў абагульнена-якасных займеннікаў са сваім галоўным словам — назоўнікам знаходзяцца ў сувязі кіравання: *яго аблічча, яе гонар, іх узлёт* і інш. *Эх, яшчэ не звоняць яго пералівы сярод нашых гоней, на шырокіх нівах!* (М. Танк. Баян). *З вачэй яе струменіліся хвалі глыбокай і празрыстай сінявы* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе). *Лісты іх пра паходы штурмавыя спакойна не давалі нам заснуць* (там жа).

Заўвага 2. Словазлучэнні з прыналежнымі займеннікамі ў пэўным кантэксце могуць набываць якаснае значэнне: *Я была простай, з раскрытай душой, думала, і тут такія людзі, як у нас, думала, у кожным можна знайсці чалавека свайго, блізкага* (П. Галавач. Дасужая).

Заўвага 3. Словазлучэнні з прыналежнымі займеннікамі *свой, мой, наш* і некаторымі іншымі, якія ўваходзяць у склад фразеалагічных спалучэнняў, з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі: *жыць з сваіх рук, пракідацца на сваім хлебе, быць не ў сваім розуме, дабірацца сваім ходам, дайсці сваёй галавою, ісці не сваімі нагамі, называць рэчы сваімі імёнамі, бачыць на свае вочы, перакласці на мае плечы* і інш. *Рыгор і дагэтуль гне ча свой капыл усё ў хаце, але, апроч нелада, нічога з гэтага няма* (К. Чорны. Вясна). *Глянуў Віктар — і вачам сваім не верыць* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Ваўчок не верыў сваім вушам і сядзеў як на іголках* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Гэта таксама не спосаб берагчы сваю скуру* (там жа). *Тадэўчык крыкнуў не сваім голасам* (З. Бядуля. Мядзведзь). *Ад мудрасці сваёй дзед павесялеў і ўвайшоў у свой стос* (З. Бядуля. Летапісцы). *Вось дык ліха ўрадзілася на маю галаву* (П. Галавач. Дасужая). *Вырвем у гада паганае жала! Хай здохне пад нашай пятой* (К. Крапіва. Чорныя гады).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З УКАЗАЛЬНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 142. Словазлучэнні з указальнымі займеннікамі *той (тая, тое, тыя), такі (гэтакі), гэты (гэта, гэтыя)* выражаюць адносіны ўказання на прадмет, паняцце або з'яву з мэтай іх удакладнення, канкрэтызацыі ці вылучэння з рада іншых падобных прадметаў, паняццяў або з'яў: *гэты чалавек, гэта ніва, гэта адчуванне, гэтыя думкі, той дзень, тая мясціна, тое ўражанне, тыя ўспаміны, такі ўзрост, такія дажджы* і інш. *А гэтай сонечнай вясною такі выдатны выпаў дзень* (П. Панчанка. Яблыня). *І цяпер яшчэ ў тым лесе відаць на хвоях лысіны* (Я. Колас. Чорт). *Не ўцякайце вы ў тую даль вякоў, дзе пахавана многа вас, дзяњкоў* (Я. Колас. Маёй вясне). *Я паеду тым жа шляхам, па якім ішлі лісты* (А. Куляшоў. Адказ). *Не падабалася такая Андрэева работа і Пятру* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Заўвага 1. Адносіны ўказання, вылучэння ў словазлучэннях з займеннікамі *той, такі, гэты* могуць паслабляцца, калі названыя займеннікі губляюць у пэўным кантэксце сваю лексічную паўназначнасць: *Шум і гоман навакол, як на тым ігрышчы, ■ лапаты рэжуць дол, а сякера свішча* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Здаецца, што пройдзе не болей мінуткі, а стане жалеза, што блін той бялюткі* (П. Броўка. Каваль). *Праз дажджы ляцяць, праз буры, быццам тыя галубкі, не залежаца на пошце нецярплівыя радкі* (А. Куляшоў. Галубкі). *У тым-та і бяда, што гэтых грошай няма, і ў бацькі іх не возьмеш — галота!* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Заўвага 2. Словазлучэнні з указальнымі займеннікамі *той, такі, гэтакі* нярэдка набываюць у мове якаснае значэнне з адценнем ацэначнага характару або з указаннем на меру ці ступень уласцівай прадмету якасці: *Няма таго дагляду, тае ласкі, увагі, што ідзе ад матчынага сэрца* (Я. Колас. Агатка). *«Ты разумееш, мілы мой,— яна сказала йдучы поплеч,— у сэрцы гэтакі развой, а у жыцці такая роспач»* (М. Чарот. Дзяўчына, якая не сумуе). *Эх... к чорту гэткая работа!* (М. Танк. Да дня). *І такі жаль агорне Цімоха, што не адзін раз на вочкі набягуць слёзы* (Я. Колас. Чоран). *Дзе пад шчытам павуцінку ветрык хіліць-песціць, ды такія байкі бае — галава не змесціць* (Я. Колас. Наша гуменца). *Ну, у той час быў яшчэ сякі-такі хлеб і кубак малака* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З АЗНАЧАЛЬНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 143. Словазлучэнні з азначальным займеннікам *сам (сама, само)* выражаюць адносіны ўдакладнення або падкрэслівання той ці іншай асобы ці паняцця: *Сам Вяземскі, Арэст Валяр'янавіч, зусім малады*

*яшчэ* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Сама Алена з зямлёю не справіцца* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Тут само жыццё нас кліча пару слоў сказаць пра Крычаў* (К. Крапіва. «Мікроба»).

Заўвага. Пры ўказанні на знакамітасць асобы, на яе важнасць займеннік *сам* у гэтых словазлучэннях набліжаецца па значэнню да ўзмацняльнай часціцы: *Нават сам земскі наводзіў часта спраўкі ў старшыні пра Сцёпку Лейшуна* (Я. Колас. Бунт). *На чацвёрты дзень рабочага хвалявання сам Хурс быў на заводзе* (К. Чорны. Трыццаць год).

Словазлучэнні з азначальным займеннікам *самы* могуць выражаць:

а) прасторавыя або часавыя адносіны з указаннем на крайнюю мяжу: *З Ладагі да самае Анегі чутны перамовы малаткоў* (П. Броўка. Карэльскі шлях). *Цягнік прыпыніўся ля самага семафора* (П. Кавалёў. Азарка). *Расправіў плечы, быццам волат, пад неба самае завод* (П. Броўка. Петразаводск). *Ад самага ранку касіў Паўлюк на лузе* (Я. Колас. Паўлюковы думкі). *Сын штосьці ўпарта абдумваў і маўчаў да самае вячэры* (П. Галавач. Кара).

б) Меру, ступень праяўлення якасці: *Настала часіна другая, усё родніцца сёння хутчэй, а са́мая радасць людская, што сэрцы да сэрцаў бліжэй!* (П. Броўка. Падарожжа). *Вам ужо вядома тое, што у праведніка Ноя было роўных тры сыны, ўсе жанатыя яны, і мужчыны ў самай сіле* (К. Крапіва. Біблія).

в) Азначальныя адносіны з указаннем на сутнасць паняцця ці з'явы: *сама́ сутнасць пытання, са́мы метад пазнання* і інш. Пры галоўным слове гэтых словазлучэнняў звычайна ўжываюцца паясняльныя члены. *У адказ Андрэй выкладаў вучэнне Маркса аб дадатковай вартасці, высвятляў сакрэт накаплення багаццяў у буржуазіі, а гэтым самым і са́мую прыроду капіталізму* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ля завадзі, сярод чароту, сяджу я схілены ў тры пагібелі і не ўстану, не пайду, пакуль не зразумею са́мы лад жыцця людскога, як мае быць* (З. Бядуля. На гай высокі...).

Словазлучэнні з азначальнымі займеннікамі *ўвесь, цэлы* (у значэнні «ўвесь»), *уся, усё, усе, усякі, кожны* выражаюць колькасна-абагульненыя або адцягнена-тыпізаваныя адносіны: *Жыві, Масква — на ўвесь сусвет струмень святла крыніцы!* (Я. Колас. Прывітанне Маскве). *Механікі там з кавалямі іх ладзяць на цэлы год — жалезнаму нават сэрцу не шкодзіць у часе рамонт* (П. Броўка. Аб тым, што ў думах...). *Свеціць сонейка ўсім людзям* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Нясуць вянкоў да іх багата — са ўсёй Славакіі дзяўчаты* (П. Броўка. Гара Славы). *І многа ўсякіх змен часу бачылі гэтыя нямыя сведкі прошласці!* (Я. Колас. У старых дубах). *Надзя ведала тут кожную мясціну, кожную непрыкметную лясную сцежку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 1. Словазлучэнні з азначальнымі займеннікамі *ўсякі, кожны* асабліва часта набываюць якасныя значэнні з адценнем пагарды: *Вось якраз такім жа родам браў Юдзеніч Петраград,— к нам палез са ўсякім збродам, потым сам аж быў не рад* (К. Крапіва. Чырвоная мятла добра мяла). *І жывеш ты, як скаціна, ўсякіх злыдняў корміш многа* (Я. Колас. У бярлозе ты радзіўся...). *Цярпі, маўчы, знасі пакорна, а кожная свіння надворна... цябе скубе, цябе ўшчувае* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага 2. Словазлучэнні з азначальнымі займеннікамі *ўсе, усё* і некаторымі іншымі могуць быць сэнсава непадзельнымі: *Пад яблынькаю Хвёдар Руцкі храпе на ўсе застаўкі* (К. Чорны. Трухлявае кола). *Лот між тым ва ўсе лапаткі прэ, адно мільгаюць пяткі* (К. Крапіва. Біблія).

Словазлучэнні з азначальнымі займеннікамі *іншы (інакшы), другі* (у значэнні «іншы») выражаюць адносіны неадпаведнасці або абагульненага ўказання (з займеннікам *другі, другая, другое*): *іншы маршрут, іншае пачуццё, другія часы, у другія часы* і інш. Гэтыя словазлучэнні звычайна прыпадабняюцца па значэнню да словазлучэнняў з указальнымі займеннікамі *той, такі* і адмоўем *не* пры іх (гл. § 142): *Зусім іншы на-*

*строй і іншыя думкі выклікае зямля па той бок граніцы* (Я. Колас. Макарка Навак). *Другая кляча на трох нагах бывае скача* (К. Крапіва. Пра цыгана і кабылу). *Я палюбіў шырокае бязмежжа, яно адкрыла мне і свет другі* (П. Глебка. Ліст у вёску).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПЫТАЛЬНА-АДНОСНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 144. Словазлучэнні з пытальна-адноснымі займеннікамі *які, каторы, чый* ужываюцца пераважна ў простых сказах з пытальнай інтанацыяй. Яны выражаюць вылучальныя адносіны з мадальным адценнем: *А Сцёпка глядзеў недаўменна: якая прычына змусіла Алеся даганяць яго?* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Скажы, ў якіх майстроў выдатных ты навучыўся так іграць?* (П. Броўка. Зварот музыканта). *Чыімі рукамі вы дабро збіралі? На чые вы слёзы дабрабыт куплялі? Ласкаю ж чыёю і з чые вы працы замкі збудавалі, пышныя палацы?* (Я. Колас. Ворагам).

Заўвага 1. У простых сказах з апавядальнай інтанацыяй займеннікі *які, каторы, чый* звычайна ўступаюць з назоўнікам у азначальна-прэдыкатыўныя адносіны. Такія словазлучэнні ўжываюцца пераважна ў прыказках і прымаўках: *Які госць, такое і частаванне. Якая заслуга, такая і пашана. Якая работа, такая і плата. Каторы конь цягне, таго і паганяюць. Чый бераг, таго і рыба. Чыя сіла, таго і праўда.*

Заўвага 2. У сказах, якія маюць форму рытарычнага пытання, пытальна-адносныя займеннікі набываюць узмацняльна-якаснае значэнне: *Ганяў плыты, быў у Сібіры... Чыіх шляхоў я не таптаў? Чыіх пяскоў, калючых жвіраў сваёй слязой не палівaў?* (П. Глебка. Памяці У. І. Леніна).

Заўвага 3. У сказах з клічнай інтанацыяй займеннік *які (якая, якое, якія)*, набываючы ўзмацняльна-якаснае значэнне са станоўчай або адмоўнай ацэнкай прадметаў, паняццяў або з'яў рэчаіснасці, набліжаецца па функцыі да звычайнай узмацняльнай часціцы: *А які тут можна ўзяць ураджай! Гэта ж такая зямля, такая расада!..* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Прыехаў. Для хворага радасць якая!* (А. Куляшоў. У дарозе). *Якое хараство! Якая шпаркасць! Сіла!* (К. Крапіва. Пра цыгана і кабылу). *Заснуць хацеў я, ды не мог. Які тут сон! Не сон, а слёзы* (К. Крапіва. Шкірута). *І якая гэта доля — ласкі мацеры не знаць* (Я. Колас. Сымон-музыка).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З НЯПЭЎНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 145. Словазлучэнні з няпэўнымі займеннікамі *нейкі, нечый, некаторы, чыйсьці, якісьці, які-небудзь (які-колечы), абы-які* выражаюць азначальныя адносіны са значэннем няпэўнага ўказання на той або іншы прадмет ці паняцце: *І сэрца захлынулася ад шчасця і нейкай невыразнае тугі* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе). *Меў нейкі Селянін мізэрнага каня* (К. Крапіва. Саманадзейны конь). *Дзесьці паблізу тупалі нейчыя ногі* (П. Галавач. З тых дзён). *У цішыні ранку меладычна звінеў молат у чыёйсьці кузні* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Некаторы час на дварэ не відаць было вераб'іхі* (Я. Колас. У чым іх сіла). *А ў садку гудуць чмялі і пчолы, і струны дзіўныя якіясьці звіняць* (П. Глебка. Матчыны казкі). *Табе якіх-небудзь чатырнаццаць год* (К. Чорны. Не хачу гэтак). *Толькі дым ад люлек звісаў над столлю, хрыпеў часам чый-небудзь цыбук* (Я. Колас. Бунт).

Да гэтага тыпу функцыянальна набліжаюцца словазлучэнні з займеннікамі *які, каторы, чый,* а таксама *адзін,* калі яны маюць значэнне няпэўнага ўказання на прадметы: *Ластавачкі павінны быць на варце і падаваць умоўны знак, калі будзе якая небяспека* (Я. Колас. У чым іх сіла). *Калі і прытопчацца каторае каліўца нагою, дык яго ветрык падыме, і яно зноў цягнецца да сонейка* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Крокі чые, ці мо' сэрца ўдары лічыць яна* (М. Танк. Начная цішыня). *Дачуўся ён, што ў адной вёсцы ў мужыка ёсць стрэльба* (Я. Колас. «Слабода»).

Словазлучэнні з няпэўнымі займеннікамі, асабліва з займеннікамі *якісьці (якісь), які-небудзь, абы-які,* даволі часта ўскладняюцца якасным значэннем: *Прыстаў тут глянуў на Гушку, як не на якую-небудзь зусім драбязу* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Было іх не дужа багата: якісь лейтэнант, капітан ды обер адзін вуграваты, тыповы фашысцкі чурбан* (Я. Колас. Суд у лесе). *І ён кінуў бацьку, хату, па людзях пайшоў блукаць, долі-спосабу шукаць за абы-якую плату* (Я. Колас. Батрак).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З АДМОЎНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 146. Словазлучэнні з адмоўнымі займеннікамі *ніякі, нічый, ніводзін* выражаюць адносіны адмаўлення або недачынёнасці прадмета да тых ці іншых з'яў, падзей, аб якіх паведамляецца ў сказе: *ніякія цяжкасці, нічые ўгаворы, ніводзін чалавек* і інш. Гэтыя словазлучэнні антанімічныя па значэнню словазлучэнням з азначальнымі займеннікамі *ўсякі, кожны, усе, усё* і інш. (гл. § 143). *Ніякія цяжары старога не сагнуць, і справядлівай кары фашыстам не мінуць* (П. Глебка. Калгасны вартаўнік). *Бачачы, што Цюцік не выказвае аніякага страху, Піліпчык падышоў бліжэй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Паўлюк слухаў, не прапусціўшы ніводнага слова* (Я. Колас. Тоўстае палена). *Нічыёй дапамогі ён не патрабаваў* (з газет).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПАРАДКАВЫМІ ЛІЧЭБНІКАМІ

§ 147. Словазлучэнні з парадкавымі лічэбнікамі ўказваюць на парадак прадметаў, названых галоўным словам, пры іх лічэнні: *першы дом, другі завулак, пяты курс, сёмы паверх, тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят шосты год* і інш. *Настала чацвёртая ноч* (Я. Колас. Адзін). *Дзіка мчыцца ў бой трэці эскадрон* (П. Трус. Чырвоныя ружы). *Расла яна хутка і ў першы палёт збіралася ўвечары дбала* (А. Куляшоў. Магілёўская хмарка). *Праходзяць эпохі, — змагаемся мы, дзесяты падмурак заклалі* (П. Трус. Дзесяты падмурак).

Пры пераносным ужыванні парадкавых лічэбнікаў іменныя словазлучэнні набываюць якаснае значэнне: *Дзве іншыя п'есы, якія атрымалі на конкурсе трэцюю рэспубліканскую прэмію, прысвечаны калгаснаму жыццю* (К. Крапіва. Беларуская савецкая драматургія за 1947 год). *Аўгіня чула гэтыя словы не на сходзе, дзе іх ясна тлумачылі, а з трэціх або чацвёртых вуснаў, дзе кожны па-свойму перарабляў гэтыя словы* (З. Бядуля. Дэлегатка).

Заўвага 1. Асобны тып складаюць словазлучэнні, утвораныя з субстантываваных парадкавых лічэбнікаў у форме ніякага роду і назоўнікаў у форме роднага склону: *пятае сакавіка, сёмае ліпеня, дваццаць восьмае жніўня.* Некаторыя з такіх канструкцый (*Першае мая, Дзевятае студзеня*) набылі ўстойлівы характар.

Заўвага 2. Словазлучэнні з парадкавымі лічэбнікамі, якія выступаюць у ролі залежнай часткі другога іменнага словазлучэння з галоўным словам — назоўнікам, з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі, але члянімымі сінтаксічна: *Аснойнае ядро атрада, які вясной сорак трэцяга года налічваў каля двухсот малайцоў, складалі мясцовыя хлопцы* (Я. Брыль. Пачатак). *Гэта — вагон трэцяга класа, напоўнены дробным людам, салдатамі, сялянамі* (Б. Мікуліч. Развітанне).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМІ

§ 148. Словазлучэнні з дзеепрыметнікамі адрозніваюцца ад словазлучэнняў з іншымі атрыбутыўнымі часцінамі мовы тым, што дзеепрыметнікі характарызуюць прадмет па прызнаку дзеяння, у выніку чаго азначальныя адносіны паміж кампанентамі гэтых канструкцый усклад-

няюцца ўказаннем на час і стан (актыўны або пасіўны характар праяўлення дзеяння).

Прадуктыўнасць ужывання словазлучэнняў з рознымі формамі дзеепрыметнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове неаднолькавая, паколькі не ўсе формы дзеепрыметнікаў у аднолькавай ступені ўласцівы граматычнаму ладу сучаснай беларускай мовы.

Найбольш пашыраны словазлучэнні з дзеепрыметнікамі залежнага і незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-н-, -т-, -л-: скошаная трава, выбеленыя сцены, пралітая кроў, абгарэлыя пні* і інш. *Паднятыя і ачышчаныя баравікі шчаслівы грыбнік клаў на чыстае месца ў кучу* (Я. Колас. На ростанях). *У полі, пад зборышчам старых дрэў, гарэлі раскладзеныя агні* (К. Чорны. Трыццаць год). *Нявесела ў полі блукаць адзінокім па сцежках завеяных, гурбах высокіх* (М. Танк. Нарач). *Тут—пры цьмяным святле, на памятай тканіне спее ў сонцы калоссе* (М. Лужанін. Зварот маладосці). *Ад моста асталіся толькі абгарэлыя палі, дыміўся яшчэ ўцалелы насціл ля самага берага* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу зрэдку могуць выконваць азначальную функцыю ў адносінах да свайго галоўнага слова — назоўніка і ў форме незакончанага трывання: *Гэта мова яшчэ не мела літаратурных норм, не мела пісанай граматыкі* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы). *Хлопчык, пачырванеўшы, як печаны рак, маўчаў* (Я. Колас. Рыгорава памылка). *Ветрам гнаны агонь разрастаўся — на захад, на ўсход* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Значна вузей прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з дзеепрыметнікамі незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-ш-, -ўш-: парыжэўшая трава, уцалеўшыя будынкі, апаўшае лісце, апусцеўшае поле, зарослы яр, навіслыя бровы* і інш. *Павесялеўшая бабка Параска паказалася на парозе* (Я. Колас. На ростанях). [Наталля] *выцірае набегшыя слёзы* (К. Крапіва. Проба агнём). *Пацямнеўшая вуліца пыліла ад прайшоўшага з поля быдла* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»). *Ён прытаіўся каля высокага карча згніўшай бярозы* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Калышуцца і гнуцца трыснікі, як бура наляцеўшая ўдарыць* (М. Танк. Нарач). *Закувала ў бары над ракой пасвятлеўшай зязюля начная* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Заўвага 1. Словазлучэнні з дзеепрыметнікамі ў форме цяперашняга часу залежнага і незалежнага стану (з суфіксамі *-м-, -уч- (-юч-)* і інш.) па прычыне нехарактэрнасці гэтых форм дзеепрыметнікаў для граматычнага ладу сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца крайне абмежаванымі. Паасобныя выпадкі ўжывання ў складзе іменных словазлучэнняў такіх дзеепрыметнікаў трэба разглядаць як парушэнне літаратурнай нормы: *Салдаты генерала Лопеца штодзённа ішлі ў атаку пад незмаўкаемыя громы артылерыйскай кананады* (Э. Самуйлёнак. Урачыстая меса). *Гаварылі яшчэ пра чакаемы прыезд гасцей з Заполля* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Стлумлены грукат перакатваемых бярвенняў даходзіць здалёку і зблізку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *З захаду пачуліся зноў знаёмыя нарастаючыя гукі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А ў цэху — незмаўкаючы гул машын* (Я. Брыль. Лазунок). *Нейкая гарачая, ажыўляючая радасць разлілася па целе* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

Заўвага 2. Наогул не ўласцівы сучаснай беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з дзеепрыметнікамі ў форме сярэдне-зваротнага стану (з часціцай *-ся*). Паасобныя выпадкі ўжывання ў мастацкім, публіцыстычным, навуковым або дзелавым стылях мовы такіх канструкцый з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы: *Каня прывязаў лейцамі к сіратлівай, пахінуўшайся шуліне* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Цэлы паток галошанняў ліўся-плыў з яе запёкшыхся вуснаў* (З. Бядуля. На варце). *Хвошч завярнуўся і нявернымі, хістаючымся крокам пайшоў па дарозе* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Нам трэба ўсур'ёз задумацца над крытыкай і на набліжаючымся з'ездзе пісьменнікаў усёй краіны* (Я. Колас. Аб літаратурнай працы).

Словазлучэнні, у якіх дзеепрыметнікі губляюць дзеяслоўныя рысы (час, від, стан) і пачынаюць выконваць функцыю якаснага абазначэн-

ня прымет прадмета, выражаюць азначальна-якасныя адносіны: *брукаваная вуліца, паліраваная пасуда, спаяны калектыў, узняты настрой, набалелае пытанне, вялая трава, пажоўклае лісце, закаранелы вораг, сутулая постаць, рослы хлопец, пажылы мужчына, дзеючая асоба, рашучыя меры, кіпучая дзейнасць, гаручая сляза, балючае пытанне, цягучы гоман, дрымучы лес, траскучы мароз, бягучы рамонт, брыючы палёт, бліскучыя далі, калючыя позіркі, калючы дрот, пахучы мурог, трасіруючая куля, апаўшы голас, збуцвеўшы лад.* Некаторыя з гэтых канструкцый набылі ўстойлівы характар.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ НАЗОЎНІКАЎ З МАРФАЛАГІЧНА НЯЗМЕННЫМІ СЛОВАМІ

§ 149. Спалучацца з назоўнікам могуць, акрамя субстантыўных і атрыбутыўных часцін мовы, марфалагічна нязменныя словы — інфінітывы і прыслоўі розных словаўтваральных тыпаў. Адметнай рысай такіх канструкцый з'яўляецца тое, што залежнае слова ў іх (інфінітыў або прыслоўе) звязваецца з галоўным словам — назоўнікам не па граматычнай форме, а толькі па сэнсу (знешне — парадкам слоў і інтанацыяй). Лексіка-граматычная спецыфіка слоў, якія ўступаюць паміж сабою ў сэнсавую сувязь, вызначае семантычную разнастайнасць гэтых словазлучэнняў і ўплывае на іх структуру.

Сярод іменных словазлучэнняў з марфалагічна нязменнымі словамі найбольш прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца словазлучэнні з інфінітывам, менш пашыраны словазлучэнні з прыслоўямі. Іменныя ж словазлучэнні з прыслоўямі аддзеяслоўнага паходжання тыпу *чытанне лежачы, язда стоячы* ўжываюцца ў мове надзвычай рэдка, паколькі яны лексічна абмежаваны.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ІНФІНІТЫВАМ

§ 150. У ролі галоўнага слова іменных словазлучэнняў з інфінітывам звычайна выступаюць абстрактныя назоўнікі з агульным мадальным значэннем, якія заключаюць у сабе ўказанне на дзеянне, стан або прымету: *жаданне працаваць, імкненне вучыцца, схільнасць майстраваць, смеласць выступаць, здольнасць аналізаваць, прыемнасць адчуваць, неабходнасць дапамагчы* і інш. З назоўнікамі канкрэтна-прадметнай семантыкі інфінітыў утварае словазлучэнні даволі рэдка (гл. § 157).

Словазлучэнні з залежным інфінітывам могуць мець ускладненую або неўскладненую будову. Словазлучэнні, у якіх інфінітыў абазначае прама- або ўскосна-пераходнае дзеянне і патрабуе паясняльных слоў у форме вінавальнага склону назоўніка без прыназоўніка (пры прамой пераходнасці) або ў форме розных ускосных склонаў з прыназоўнікамі ці без іх, акрамя вінавальнага склону (пры ўскоснай пераходнасці), з'яўляюцца структурна ўскладненымі: *Гэта непасрэднасць, наіўнасць і жаданне мець ваенную стрэльбу развесяліла вайскоўцаў* (Я. Колас. Дрыгва). *Мы таксама набраліся смеласці адказаць яму пытаннем* (А. Якімовіч. Балотца). *Сайкавы словы і яго намер пайсці ў партызаны ніяк не месціліся ў Максімавай галаве* (там жа). *На зборы Міша ўнёс прапанову пагаварыць аб дысцыпліне* (А. Якімовіч. Навічок).

Заўвага. У некаторых словазлучэннях інфінітыў разам з паясняльнымі словамі ўтварае ўстойлівыя спалучэнні: *жаданне вывесці ў людзі, неабходнасць дабіцца свайго, патрэба падзяліцца думкамі, магчымасць адвесці душу, загад не спускаць з вока* і інш. *У тоне гэтага адказу чулася жаданне папрабаваць шчасця* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *У яго з'явілася ахвота давесці справу да канца* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Ён пераймаў павольныя рухі бацькі Мірона, яго манеру гаварыць, трымацца з людзьмі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усе спробы Слімака натрапіць на верны след не мелі ніякіх*

*вынікаў* (там жа). *Пан палкоўнік аддаў строгі* з а г а д п р ы н я ц ь р а ш у ч ы я м е р ы *аж да расстрэлу і канфіскацыі маёмасці* (Я. К о л а с. Дрыгва).

Словазлучэнні, у якіх інфінітыў абазначае агульнае непераходнае дзеянне, маюць звычайна неўскладненую будову: *абяцанне вучыцца, дазвол адлучыцца, манера спяваць, прапанова прагуляцца* і інш. *І паліліся словы аб мінулым, хатнім, як нарадзілася* ж а д а н н е в у ч ы ц ц а, *як паехала* (П. Г а л а в а ч. Дасужая). *Дыхаць цяжка, грудзі ўспухлі, точыць смага,* п р а г а п і ц ь (А. А л е к с а н д р о в і ч. Нараджэнне чалавека). *Паступова да мяне вярнулася* з д о л ь н а с ц ь б а ч ы ц ь (І. Ш а м я к і н. У снежнай пустыні). *Вера мела ўсе* м а г ч ы м а с ц і в у ч ы ц ц а (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Рыгор з Наталяю таксама пачулі* а х в о т у п е р а к у с і ц ь (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Букрэй перадаў па ланцужку* к а м а н д у с п ы н і ц ц а (Я. К о л а с. Дрыгва). *Толькі тая, што гаварыла, падала ёй* з н а к б е г ч ы (А. К у л а к о ў с к і. У Чырвоным возеры).

З а ў в а г а. Паколькі граніца паміж значэннямі пераходнасці і непераходнасці інфінітываў няўстойлівая, то нярэдка інфінітыў у адным і тым жа словазлучэнні ў залежнасці ад агульнай мэтанакіраванасці думкі можа ўжывацца як з паясняльнымі словамі, так і без іх, параўн.: *імкненне вучыцца* [грамаце], *прапанова прагуляцца* [з сябрамі], *намер уцячы* [з палону], *выпадак пагутарыць* [з таварышам], *абяцанне сустрэцца* [у нядзелю], *каманда пастроіцца* [у шарэнгі].

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ, У ЯКІХ ГАЛОЎНАЕ СЛОВА — НАЗОЎНІК МАЕ МАДАЛЬНАЕ ЗНАЧЭННЕ

§ 151. Словазлучэнні, у якіх інфінітыў прымыкае да назоўніка з агульным мадальным значэннем, характарызуюцца а з н а ч а л ь н ы м і адносінамі. Інфінітыў у гэтых словазлучэннях называе дзеянне, якое пажадана, магчыма або неабходна. Канкрэтнае ж значэнне словазлучэнняў з залежным інфінітывам абумоўліваецца, як правіла, значэннем галоўнага слова — назоўніка. Галоўнае слова можа выражаць жаданне, намер, імкненне, волевыяўленне, схільнасць (нясхільнасць), магчымасць (немагчымасць) ці неабходнасць, пабуджэнне і г. д.

Па характару семантычных адносін словазлучэнні з залежным інфінітывам з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным дзеяслоўным, прыслоўным або ад'ектыўным словазлучэнням (параўн.: *абяцанне вучыцца — абяцаць вучыцца, неабходнасць працаваць — неабходна працаваць, здольнасць майстраваць — здольны майстраваць*), а таксама словазлучэнням з залежным назоўнікам у форме роднага склону без прыназоўнікаў ці ў форме роднага, давальнага, вінавальнага і меснага склонаў з прыназоўнікамі (параўн.: *жаданне дзейнічаць — жаданне дзейнасці, заклік змагацца — заклік да змагання, клопат адшукаць сродкі — клопат па адшуканню сродкаў, надзея сустрэцца — надзея на сустрэчу, просьба аказаць дапамогу — просьба ў аказанні дапамогі*).

§ 152. Словазлучэнні, у якіх у ролі галоўнага слова выступаюць назоўнікі з мадальным значэннем жадання, намеру, імкнення, выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на пажаданасць дасягнення якой-небудзь мэты ці выканання пэўнага дзеяння, названага інфінітывам: *імкненне працаваць, жаданне адпачыць, намер сустрэцца, спроба дагаварыцца, задума напісаць, мара паступіць, надзея перамагчы, старанне не адстаць, цяга аваладаць, парыванне дасягнуць, клопат адшукаць, ахвота прачытаць* і інш. *І ўсё ж моцнае* ж а д а н н е р а с к р ы ц ь *таямніцу вымпелаў брала верх* (А. Я к і м о в і ч. Вымпел на возеры). *Але вечны загадкі жыцця і вечны нашы* і м к н е н н і і х р а з г а д а ц ь (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Меў ён цвёрды* н а м е р *ад пагоні* ў ц я ч ы (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Дзедава хата як бы пасміхалася з войта і з яго марных* с т а р а н н я ў з л а в і ц ь *небяспечнага паўстанца* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Рыгор гарэў* п р а г а ю ў б а ч ы ц ь *Зосю* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Марыля ў бальніцу ідзе з* н а д з е я й

*Пайла ўгледзець* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *Пан Зыгмусь гарэў ахвотай узяцца за сяўбу* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Значэнне пажаданасці, намеру можа выражацца ў словазлучэннях з інфінітывам, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік *думка: думка выступіць, думка выехаць* і інш. *І ад таго нарадзілася ў галаве думка пайсці ў горад у заработкі* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Да названай групы адносяцца таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае эмацыянальна афарбаванае жаданне або нежаданне: *спакуса пахваліцца, сверб расказаць, патугі дабіцца, запал пазнаць* і інш. *Вялікая была спакуса выйсці з свайго схові-шча* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яна хавае яго* [верш] *і нікому не паказвае, нягледзячы на ўвесь аўтарскі сверб падзяліцца з чытачом сваёю творчасцю* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Зразумець не можа дзед прагавітага запалу пасягнуць навукі свет* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Калі ў ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць назоўнікі *страх, небяспека, боязь* і інш., то інфінітыў пры іх абазначае дзеянне непажаданай рэзультатыўнасці: *страх сустрэцца, небяспека спазніцца, боязь прастудзіцца* і інш. *Страх папасціся ў панскія рукі змусіў яго падацца ў лес* (Я. Колас. Дрыгва). *І гэтыя крыкі, боязь застацца ў гразі зноў штурхалі шмат каго на згоду* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Холадам падыхаў страх перад небяспекай быць забітым* (П. Галавач. Уцякач).

§ 153. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — назоўнік абазначае волевыяўленне (згоду, гатоўнасць, абяцанне, рашэнне, адмову і г. д.), а інфінітыў — дзеянне, на якое накіравана волевыяўленне, выражаюць азначальна-суб'ектныя адносіны, паколькі і волевыяўленне, і само канкрэтнае дзеянне, названае інфінітывам, адносяцца да адной і той жа асобы: *абяцанне падтрымаць, згода выехаць, гатоўнасць выслухаць, рашэнне выступіць, клятва змагацца, адмова сустрэцца* і інш. *Сроль хваліў за яго рашэнне пабываць у горадзе* (Ц. Гартны. На перагібе). *Мікіта прыйшоў да цвёрдага заключэння знайсці Брыля* (Я. Колас. Адшчапенец). *Мітынг скончыўся клятваю біцца да канца* (Я. Колас. Дрыгва). *Андрэй не стрымаўся, хоць даваў сабе абяцанне не дакучаць больш просьбамі* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Да гэтага тыпу належаць таксама словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляецца невытворны назоўнік *слова* ў значэнні абяцання, дамоўленасці, згоды: *Ужо некалькі разоў важыўся ён у гэтую дарогу, не раз успамінаў Вольгу Віктараўну і сваё слова — пабыць у яе* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 154. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць адпрыметнікавыя назоўнікі са значэннем здольнасці, схільнасці, а таксама некаторыя аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем стану *(уменне, прывычка* і інш.), выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на схільнасць асобы да выканання пэўнага дзеяння, названага інфінітывам: *схільнасць падтрымаць, гатоўнасць дапамагчы, здольнасць уяўляць, звычай размаўляць, прывычка паўтараць, нецярплівасць даведацца, цікаўнасць паглядзець, прыемнасць пахадзіць, смеласць адказаць, адвага выказаць, дзёрзкасць спытаць* і інш. *Як толькі хапіла ў яго адвагі ісці туды, у такую цемрадзь!* (Я. Колас. Малады дубок). *Адразу стала ціха і важна, бо ні ў кога не хапала смеласці парушыць работу мыслі начальства* (Я. Колас. У палескай глушы). *Цікаўныя аж гарэлі ад нецярплівасці даведацца, што ж там сапраўды ў гэтым Міша-Грышавым сундуку?* (А. Якімовіч. Таямнічы сундучок). *Свет стаў інакшым, і кравец страціў здольнасць усяму здзіўляцца* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Дзівіўся ён красамоў-*

*насці ды ўменню падысці да слухачоў* (Ц. Гартны. На перагібе).

Сюды адносяцца таксама словазлучэнні з невытворнымі назоўнікамі *мода, тэндэнцыя, манера* ў значэнні схільнасці да чаго-небудзь: *мода перабольшваць, манера насміхацца, тэндэнцыя аргументаваць* і інш. *Такім парадкам у кожнага спевака выпрацоўваецца свая манера спяваць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Антось не знае такой моды рабіць у рыбе перашкоды* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 155. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць адпрыслоўныя, адпрыметнікавыя ці аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем магчымасці (немагчымасці), неабходнасці, выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на магчымасць (немагчымасць) ці неабходнасць дзеяння, названага інфінітывам: *магчымасць вучыцца, неабходнасць працаваць, патрэба выказаць, абавязак дапамагчы, здарэнне напомніць* (у сэнсе магчымасці) і інш. *Шэпт лісцевы і гул ціхі давалі магчымасць думаць, успамінаць* (П. Галавач. Дасужая). *Паўстае неабходнасць азірнуцца на свой жыццёвы шлях* (П. Галавач. Кніга вялікай мастацкай сілы і праўды). *Прыспела патрэба пагаварыць аб ёй з жывым чалавекам* (Я. Колас. Дрыгва). *Смела ўзяў на сябе абавязацельства выканаць сваю асабістую пяцігодку за год і сем месяцаў* (А. Якімовіч. На выбарчым участку). *Івась ніколі не прапускаў здарэння сустракаць пасажырскі поезд* (Я. Колас. На чыгунцы).

Сюды ж прымыкаюць словазлучэнні з назоўнікамі *права, доўг, выпадак, рызыка, шанс, спосаб, сіла, шлях, доля, лёс, чарга, момант* і інш., якія прама або ўскосна выражаюць магчымасць (немагчымасць) або неабходнасць дзеяння, названага інфінітывам. Амаль усе гэтыя назоўнікі невытворныя. *Так, як птушцы не ўсякай прырода дала права звацъ сябе велічным імем арла; так, як дубу не кожнаму права даём называцца лясное зямлі ўладаром,— так не кожнаму лесу асмелюся я даць імя незвычайнае, пушчы імя* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Але ў яе знайшлося сілы заглушыць усякія адзнакі сумавання* (Ц. Гартны. На перагібе). *Сёмку не было выпадку яе выказаць* (там жа). *Шансы даплыць першай на яе старане* (Я. Колас. Дрыгва). *У гэтай «дружбе» пан Зыгмусь бачыў адзіны спосаб асесці тут на зямлі* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Цяпер прыйшла чарга замаўчаць Марыне ды ў дадатак яшчэ пачырванець* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Асобную разнавіднасць складаюць словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляюцца назоўнікі са значэннем прычыны, повада, падставы або мэты: *прычына радавацца, повад сустрэцца, падстава паспрачацца* і інш. *У Сцёпкі было многа прычын пабачыцца з Аленкаю* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Вось табе і будзе падстава выехаць адгэтуль* (Я. Колас. На ростанях). *І тут суседзі мелі вечную прычэпку за што сварыцца* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 156. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем пабуджэння да дзеяння, названага інфінітывам, выражаюць азначальна-аб'ектныя адносіны: *каманда спыніцца, загад падрыхтавацца, распараджэнне выступаць, заклік працаваць, даручэнне падтрымаць, паведамленне выехаць, дазвол прагуляцца, просьба дапамагчы, парада напісаць, заданне праверыць, прапанова адпачыць, пастанова ўлічыць просьбу* і інш. *І роўна ў дзевяць важаты Сеня падаў каманду строіцца* (А. Якімовіч. Таямнічы сундучок). *Ён аддаў загад начальніка аддзяленняў прыняць меры аховы паходнай калоны* (Я. Колас. Дрыгва). *І яму здавалася, што гэта ідзе Марцін з каморы ад ляснічага з наказам з'явіцца ў кватэру* (Я. Колас. Малады дубок). *Лабановіч унёс прапанову адправіцца на Нёман* (Я. Колас. На ростанях).

*Кабета падняла галаву і папрасіла* *дазваленння памыцца* (К. Чорны. На граніцы). *Надзя ўзяла з сабой у семінарыю ліст ад настаўнікаў Глускай школы з просьбай прыняць яе* (П. Галавач. Дасужая).

Да гэтага тыпу адносяцца таксама словазлучэнні, галоўным кампанентам якіх з'яўляецца сінтаксічнае адзінства *даць знак* у значэнні пабуджэння да ўвагі: *Узмахам рукі Паддубны сцішыў натоўп і даў знак разыходзіцца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ, У ЯКІХ ГАЛОЎНАЕ СЛОВА — НАЗОЎНІК НЕ МАЕ МАДАЛЬНАГА ЗНАЧЭННЯ

§ 157. Словазлучэнні з галоўным словам — назоўнікам, які не мае мадальнага значэння, выражаюць азначальныя або аб'ектныя сінтаксічныя адносіны.

У словазлучэннях з азначальнымі адносінамі галоўнае слова можа абазначаць:

а) вынік або працэс думкі, змест якіх раскрываецца значэннем інфінітыва: *план палепшыць абслугоўванне, праект асушыць балота, ідэя арганізаваць культпаход, задача выканаць абавязацельствы, праграма павялічыць даходы* і інш. Інфінітыў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца суб'ектным. *Яму ніяк не ўдаюцца планы прыбраць да рук зямлю, што каля хаткі над балотцам* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *У галаве Лабановіча спелі розныя праекты палепшыць людское жыццё* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Цяпер перад ім стаяла задача знайсці Каралінскі рынак* (там жа). *Ідэя перавыхаваць людзей у лагерах працай надзвычай здаровая і прыгожая* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

б) Прадмет, які характарызуецца інфінітывам паводле прызначэння: *лобзік выпільваць, ножкі ставіць, ланцуг прывязваць, вяроўка падцягваць* і інш. *У школе ёсць машынка стрыгчыся* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Гедвіла «ў прыязным» парыве нагайкі вылажыў, бічы і ўсе прылады ў дэфензіве — кручкі падвешваць, абручы* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Праўда, калодзеж выкапан не яго рукамі, але калаўротак даставаць ваду папраўляў пан Зыгмусь* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі ў ролі галоўнага слова выступаюць асабовыя назоўнікі з якасна-ацэначным значэннем: *майстар расказваць, ахвотнік памагчы, мастак выпільваць, аматар крытыкаваць, аматар фатаграфаваць* і інш. Такія словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку галоўнага слова. *Людвіг быў вялікі ахвотнік чытаць такія паперкі-аб'явы* (А. Якімовіч. Залаты зуб). *Аматараў праштрафіцца было нямала* (Я. Колас. На ростанях). *Ён старанна падрыхтоўвае грунт для славы новага пісара, як незвычайнага мастака чытаць «апостала»* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫСЛОЎЯМІ

§ 158. Словазлучэнні з прыслоўямі складаюць непрадуктыўны тып іменных канструкцый, паколькі яны лексічна абмежаваны з боку галоўнага і залежнага слоў. У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў пераважна выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі, а таксама некаторыя невытворныя назоўнікі, якія ў сваім лексічным змесце заключаюць указанне на дзеянне, стан або вынік дзеяння, а ў ролі залежнага слова — якасна-акалічнасныя і акалічнасныя прыслоўі. З назоўнікамі канкрэтна-прадметнай семантыкі прыслоўі ўтвараюць словазлучэнні надзвычай рэдка. Словазлучэнні з прыслоўямі выражаюць азначальныя адносіны з рознымі акалічнаснымі адценнямі — месца, часу, спосабу дзеяння,

меры, прычыны, умовы і г. д. Па характару сінтаксічных адносін словазлучэнні з галоўным словам — аддзеяслоўным назоўнікам сінанімічны адпаведным дзеяслоўным словазлучэнням (параўн.: *рух наперад — рухацца наперад, сяўба па-новаму — сеяць па-новаму, праца паасобку— працаваць паасобку*), а словазлучэнні з галоўным словам — невытворным назоўнікам — канструкцыям з дададзеным азначальным сказам са злучальнымі словамі *што, які, каторы* (параўн.: *дом злева — дом, што стаіць злева, акно насупроць — акно, якое знаходзіцца насупроць*).

Якасна-акалічнасныя і акалічнасныя прыслоўі заўсёды ўступаюць у спалучэнне з назоўнікамі самастойна, без паясняльных слоў. Па гэтай прычыне словазлучэнні з прыслоўямі з'яўляюцца толькі двухчленнымі.

Заўвага. Пры пераходзе некаторых прыслоўяў у аманімічныя ім прыназоўнікі да апошніх могуць далучацца назоўнікі ці займеннікі з прадметным значэннем: *Сёмка пільна сачыў за нівамі паабапал дарогі* (Ц. Гартны. На перагібе). *Я зноў іду ў свой канец вагона, спыняюся каля акна насупроць свайго купэ і пацiху насвістваю песню* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне).

§ 159. Словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік, суадносны з дзеясловам або звязаны з апошнім па свайму словаўтваральнаму складу, могуць выражаць:

а) азначальна-прасторавыя адносіны з указаннем на месца, адкуль зыходзіць ці дзе адбываецца дзеянне, на напрамак ці накіраванасць дзеяння: *ініцыятыва знізу, гутарка побач, рух наперад, зварот назад* і інш. *Гэтак ідзе тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, год за годам, акуратна, як па загаду звышку* (З. Бядуля. Лявоніха і Сымоніха). *Калі ён уставаў разам з другімі, каб узяцца за якую-небудзь работу дома, то дзядзька або маці заўважалі яму, што ён мог бы паспаць і даўжэй* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *У сваім магутным поступе наперад ён* [савецкі народ] *змёў з дарогі ўсіх ворагаў сацыялізма і пабудаваў сацыялізм* (Я. Колас. Слава вялікаму Кастрычніку).

б) Азначальна-часавыя адносіны з указаннем на час, калі адбываецца, адбылося ці павінна адбыцца пэўнае дзеянне ці на якую пару намечана яго выкананне: *стральба ноччу, крык удзень, вучоба раней, дружба навекі* і інш. *Абы лёгкі шорах ноччу, шам—прачынаўся, паднімаў голаў, глядзеў у бок дзвярэй* (Ц. Гартны. На перагібе). *Жыццё цяпер—бурлівы вір* (М. Чарот. Марына). *Цыпрук ідзе ў вёску шукаць прытулку нанач* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У гэтага чалавека, здаецца, ужо былі гатовы рашэнні наперад* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

в) Азначальна-акалічнасныя адносіны са значэннем спосабу дзеяння, умовы, прычыны, мэты: *гутарка па-беларуску, пераказ учуткі, сон наяву, погляд нейзаметкі, праца калектыўна, сяўба па-новаму, удар знянацку, усмешка сумыслу, цкаванне наўмысля, ад'езд назнарок* і інш. *На вуліцы тарахцелі калёсы, даносіліся паасобныя крыкі па-польску* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ішоў і адчуваў, як праціналі яго спіну калючыя позіркі, позіркі з-за плячэй, спадылба* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І смерць прыйшла непатрэбная, смерць знянацку, сабачая смерць нявольніка* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

§ 160. Словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляецца назоўнік з канкрэтна-прадметным значэннем, могуць выражаць:

а) уласна азначальныя адносіны з указаннем на якасць прадмета, названага галоўным словам: *цясляр нарасхват, гарнітур на дзіва* і інш. *Гарнітур з-пад іголкі, і кашуля з узорам на дзіва, ён вітае ўсіх нас з урачыстасцю нейкай* (П. Броўка. Дзед Тарас).

Калі ў ролі галоўнага слова гэтых канструкцый выступае назоўнік з якасна-ацэначным значэннем, то прыслоўе пры ім можа ўказваць на меру або ступень уласцівай асобе якасці: *Пракоп, як і кожны селянін,*

*крыху дыпламат* (Я. Колас. Адшчапенец). *Цягне мяне ў горад нейкая сіла, хаценне, як найглыбей пазнацца з яго жыццём, дастаць тыя веды, без якіх мы толькі напалавіну людзі, а напалавіну пакорлівыя нявольнікі* (Ц. Гартны. На перагібе).

б) Азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на спосаб выяўлення прыметы прадмета, названага галоўным словам, на яго знешні выгляд, форму або якасны стан: *рэмні накрыж, палоскі ўпоперак, вокны насцеж, вочы навыкат, башлыкі наадкід* і інш. *Пад пінжаком унакідку — блакітная майка і мускулістыя рукі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Дзецюкі ў вышываных кашулях навыпуск* (З. Бядуля. Туга старога Міхайлы). *У кутку пакоя два маладыя хлопцы, у ватоўках нарасцяжку, гуляюць у шахматы* (А. Кулакоўскі. Незабыўнае рэха). *Два казакі з шабляй наголо і стараста вядуць Якуба дахаты на вобыск* (А. Якімовіч. Санька). *Строй разлічыўся і парамі рушыў у лес, як у атаку, з вінтоўкамі наперавес* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Некалькі праменняў накрыж асвятлілі яго* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Як угледзіць здалёк чалавека пехатою або фурманку, ідзе насустрач* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Дзве постаці відны ў змроку ... і два галасы пераплятаюцца таксама, як і постаці ў абдымку* (К. Чорны. Хвоі гавораць).

в) Азначальна-прасторавыя адносіны з указаннем на месца, напрамак або накіраванасць прадмета ў прасторы: *дом насупраць, вёска побач, лес навокал, голас знутры* і інш. *Міхасёвым суседам справа, каля машыны № 7, стаіць Толя Касёнак* (Я. Брыль. Лазунок). *Калі прыходзіў да яго чалавек, ён даведваўся аб ваколіцы, аб кірмашовых мястэчках, аб усіх лясах і дарогах вакол* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Асвяціўся прасторны пакой са сталом пасярэдзіне* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Справа віднелася невысокая града з дрэвамі і вёскай наводдаль* (І. Мележ. На Прыпяці). *Паглядзіце на здымак уверсе справа* («Маладосць»). *Галена колькі хвілін глядзела ў чорнае бяздонне акна насупраць* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Па дарозе дадому адна толькі думка без перапынку звівалася ў клубок, усё цяжэйшы і цяжэйшы* (П. Галавач. Дасужая). *Пры ўспышцы папяросы ён убачыў перад сабою белыя вусы ўніз і лысую галаву* (К. Чорны. Вялікі дзень).

г) Азначальна-часавыя адносіны з рознымі адценнямі: *сябар назаўсёды, вораг навек, Мінск сёння* і інш. *Ля ног рыбака сядзіць калматая, чорная сучка Мурза — яго друг і таварыш заўсёды і ўсюды* (З. Бядуля. Мядзведзь). *І ўся плошча сягоння — гэта яму, Петрусю, падуладнае мора* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

д) Азначальна-супрацiўныя адносіны з указаннем на прычыну паняцця, названага галоўным словам: *жаніх паняволі*. Такія словазлучэнні лексічна абмежаваны.

§ 161. Асобную групу складаюць іменныя словазлучэнні з прыслоўямі, якія ўтварыліся ад дзеепрыслоўяў незалежнага або сярэдне-зваротнага стану цяперашняга ці прошлага часу ў выніку страты імі дзеяслоўнага кіравання і іншых дзеяслоўных рыс (часу, трывання, стану). Гэта выключна абмежаваны тып іменных канструкцый у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Яны выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на стан або характар таго дзеяння, якое названа галоўным словам: *язда стоячы, размова ідучы* і інш. *Пры стральбе лежачы яна выбіла 190 ачкоў з 200 магчымых* («Беларусь»). *Які ж гэта сон седзячы?* (там жа).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫМЕТНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА СЛОВА

§ 162. Прыметнікавыя (ад'ектыўныя) словазлучэнні складаюць у сучаснай беларускай літаратурнай мове шматлікія сінтаксічна-сэнсавыя тыпы. У граматычнай залежнасці ад прыметнікаў могуць знаходзіцца назоўнікі і назоўнікавыя займеннікі ва ўскосных склонах без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі, прыслоўі і неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў).

Розныя часціны мовы не ў аднолькавай ступені могуць спалучацца з прыметнікамі. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца канструкцыі з назоўнікамі ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, а таксама канструкцыі з якаснымі прыслоўямі. Менш прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні з астатнімі формамі.

Сэнсава-сінтаксічныя адносіны ў ад'ектыўных канструкцыях, як і ў іменных і дзеяслоўных, складваюцца на базе прыватных лексічных значэнняў галоўнага і залежнага слоў. Найбольш часта гэтыя канструкцыі выражаюць наступныя віды адносін: аб'ектныя, абмежавальныя, азначальныя, часавыя, прычынныя, мэтавыя, пpacторавыя, ступені або меры і абумоўленасці. Дзякуючы рухомасці семантычных граніц паміж словамі названыя віды адносін нярэдка пераплятаюцца адзін з другім, у выніку чаго побач з асноўным значэннем звычайна выяўляюцца і дадатковыя сэнсавыя адценні.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫМЕТНІКАЎ З НАЗОЎНІКАМІ

§ 163. У якасці залежных ад прыметнікаў беспрыназоўнікавых форм назоўнікаў і займеннікаў могуць выступаць формы роднага, давальнага, вінавальнага і творнага склонаў. Найбольш ужывальнымі з'яўляюцца канструкцыі з давальным і родным склонамі, прычым адны якасныя прыметнікі актыўна ўтвараюць словазлучэнні, а другія характарызуюцца меншай ці нязначнай сінтаксічнай прадуктыўнасцю. Розная ступень сінтаксічнай прадуктыўнасці прыметнікаў у беспрыназоўнікавых (як і ў прыназоўнікавых) канструкцыях абумоўліваецца лексічнымі значэннямі і шырынёй сэнсавых сувязей прыметнікаў з іншымі часцінамі мовы, у прыватнасці з дзеясловамі і назоўнікамі.

### БЕСПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 164. Лексічная група якасных прыметнікаў, якія могуць паясняцца назоўнікамі або займеннікамі ў форме роднага беспрыназоўнікавага склону, параўнальна невялікая. Гэта галоўным чынам прыметнікі *поўны, варты, дастойны, годны, датычны* і *пэўны*. Найбольш прадуктыўны з іх прыметнік *поўны*. Гэты прыметнік можа спалучацца практычна з любым канкрэтным (асабовым ці неасабовым) і адцягненым назоўнікам, за выключэннем уласных геаграфічных імён і некаторых абстрактных назваў (тыпу *астраномія, батаніка, дыскусія*). Звычайна словазлучэнні з прыметнікам *поўны* выражаюць аб'ектныя адносіны, якія ўскладняюцца значэннем унутранага зместу, напаўнення чым-небудзь: *поўны людзей, поўны кветак, поўны радасці* і інш. *У руках нёс ён таксама старую салдацкую шапку, п о ў н у ю  я б л ы к а ў* (Я. К о л а с. На ростанях). *Мне ўсміхнецца постаць дуба, ч а р а ў  п о ў н а я  і  л а с к і* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Свет стаяў навокал, п о ў н ы  вялікай сваёй  п р ы г а ж о с ц і* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Хлопцы прытаілі дыханне і не зводзілі з дзядзькі Анупрэя сваіх вачэй,*

*поўных захаплення і дзіцячай адданасці* (П. Пестрак. На світанні).

Для сучаснай літаратурнай мовы ў такіх словазлучэннях характэрна ўжыванне прыметніка *поўны* пераважна ў займеннікавай (членнай) форме, праўда, побач з ёю ў мастацкай літаратуры першай палавіны XX ст. сустракаецца нярэдка і кароткая форма. Параўн.: *Цёмен, глух прастор, жудак, повен дум* (Я. Купала. Ночка). *Людскіх шэптаў тут повен кожны кут* (Я. Купала. Замкавая гара). *Байцы не дрэмлюць поўны гарту* (Я. Купала. Май). *Сталы паўнютэнькі яды дарагой* (Я. Купала. Нікому). *Неба поўна сівых хмараў* (Я. Купала. З асенніх напеваў). *Ружовы захад повен ласкі* (Я. Колас. Новая зямля). *Усё поўна руху і імкнення* (там жа). *Так гаворачы, яна села радам з ім, смяецца, ціхай радасці пайна* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Па значэнню канструкцыя з залежнай ад прыметніка *поўны* формай роднага беспрыназоўнікавага сінанімічна канструкцыі з формай творнага склону, але апошняя менш ужывальная ў сучаснай мове, да таго ж яна мае некаторыя спецыфічныя сэнсавыя адценні (гл. § 174).

§ 165. З сінанімічнымі прыметнікамі *варты, дастойны, годны* спалучаецца форма роднага беспрыназоўнікавага, якая выражае чыста аб'ектныя адносіны: *варты хвалы, дастойны ўзнагароды, годны адабрэння* і інш. *Радасць, вялікая, вартая ўсяго жыцця, ахапіла чалавека* (К. Чорны. Бацька). *Чыё можа сэрца адклікнуцца песняй, дастойнай тваёй маладосці пачэснай?* (П. Глебка. Прывітанне радзіме). *Пацяроб збочыў на вузенькую, у адну ступню, Галілееву сцежку, прыемна адчуваючы свой годны хвалы дэмакратызм* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Такія канструкцыі могуць складацца не толькі з дзвюх словаформ (г. зн. з прыметніка і залежнага ад яго слова), але таксама з трох і некалькіх словаформ (калі пры залежным члене ёсць свае, цесна звязаныя з ім па сэнсу паясняльныя словы ці нават дададзеныя сказы). Параўн.: *Ён жа сам і пятай часці таго не варт, што тытуню мне напсаваў* (К. Крапіва. Певень). *Паасобку мы мала чаго варты* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ісціна годнай імя ўдарнікаў работы* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Ядвіся ж варта таго, каб аб ёй часамі і ўздыхнуць* (Я. Колас. На ростанях).

§ 166. Спалучэнні прыметніка *датычны* з формай беспрыназоўнікавага роднага былі характэрны галоўным чынам для мовы першай палавіны XX ст. Гэтыя словазлучэнні выражаюць аб'ектныя адносіны: *справы, датычныя ўсіх; пытанні, датычныя старшыні*, і інш. *Усё гэта праходзіла паўз яе, мэрам бы якая далёкая і таемная здань, мала ёй цікаўная і зусім яе не датычная* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Найгорш было тое, што гэты чыста асабісты, аднаго яго датычны факт адразу запісалі ў свой актыў варожыя элементы мястэчка* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *У парадку дня стаялі зусім іншыя, не датычныя асноўнае справы пытанні. Ён* [Зелянок] *гаворыць, што ўсе матэрыялы, датычныя сівалапаўскага калгаса, мае пры сабе Якуб Лакота* (там жа).

Па сучасных нормах літаратурнай мовы з прыметнікам *датычны* звычайна спалучаецца форма роднага склону з прыназоўнікам *да* (гл. «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэд. К. К. Крапівы. М., 1962, стар. 239).

§ 167. Словазлучэнні з прыметнікам *пэўны* як перажытак старабеларускай пісьмовай мовы з'яўляюцца непрадуктыўнымі ў сучаснай мове. Па значэнню яны належаць да канструкцый з часавымі адносінамі: *пэўны таго часу. Проста скажу табе, што заўтрашняга дня пэўны не быў!* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 168. Вышэй было адзначана, што ад'ектыўныя словазлучэнні з залежным назоўнікам або займеннікам у форме давальнага беспрыназоўнікавага, які выражае аб'ектныя адносіны, з'яўляюцца самымі прадуктыўнымі ў параўнанні з іншымі беспрыназоўнікавымі канструкцыямі. У ролі галоўнага члена гэтых словазлучэнняў могуць выступаць прыметнікі разнастайных лексічных груп: *агульны ўсім нацыям, адэкватны зместу, аналагічны папярэдняму, блізкі сэрцу, далёкі людзям, арганічны ўсёй творчасці, агідны мне, дарагі душы, любы нам, мілы чалавеку, брыдкі ўсім, родны думкам паэта, варожы рэвалюцыі, чужы ўсяму свету, прыкры нармальнаму погляду, верны праўдзе, выгадны народу, патрэбны краіне, сугучны нашаму часу, карысны радзіме, падкамандныя ім войскі, падуладны яго волі, велікаваты дзіцяці, уласцівы пісьменніку, прапарцыянальны вышыні, падручны повару, нікому не страшны, сінанімічныя ім* [словы], *вінаваты нам* і інш. *У памяці ўсплывалі падобныя ж б л і з к і я і д а р а г і я с э р ц у малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць не адзін раз* (Я. К о л а с. На ростанях). *Лёгка і ахвотна пелася гэтая песня — б л і з к а я ж ы ц ц ю і д у м а м курсанцкім* (Х. Ш ы н к л е р. Дзённік сувязіста). *Форма з'яўляецца спосабам выклікаць у псіхіцы іншых людзей працэсы, а н а л а г і ч н ы я т ы м, якія адбываюцца ў маёй псіхіцы* (К. К р а п і в а. Думкі пра сатыру).

Асобныя з якасных прыметнікаў у такіх словазлучэннях, як і ў сказе, могуць выступаць у кароткай форме, што характэрна галоўным чынам для мовы паэзіі і мастацкай прозы: *Хорам выстраіў ты, твайму в о к у так м і л* (Я. К у п а л а. Курган). *Беларусь ты мнагавёрстая, як ты л ю б а д з е т в а р ы!* (А. А с т р э й к а. Дарога дальняя). *С і л і в о н у ўсё н я м і л а* (М. Л у ж а н і н. Сілівон на дачы).

Звычайна ў кароткай форме выступае прыметнік *рады*, што абумоўлена яго прэдыкатыўнай функцыяй у сказе і спецыфічным значэннем, характэрным для слоў катэгорыі стану: *Як я чакаў вясны прыходу, як я в я с н е і с о н ц у р а д!* (А. А с т р э й к а. Калгасны сад). *Прыемна ў дом зайсці з дарогі, дзе р а д ы в а м гаспадары* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

Аднак параўн. у аналагічных словазлучэннях поўную форму: *Я р а д ы д н ю, с о н ц у* (Я. К о л а с. Над Свіслаччу). *Сілівон сядзеў у хаце р а д ы в ы д у м ц ы чарговай* (М. Л у ж а н і н. Сілівон на дачы). *С к а р ы н ц ы чэрствай будзеш р а д ы* (І. М е л е ж. Людзі на балоце). *Так зычліва ззялі зоры, мабыць р а д ы я в я с н е* (Я. К о л а с. Паўлюкова бяда).

З а ў в а г а. Па ўзору некаторых ад'ектыўных словазлучэнняў, прыведзеных вышэй, у сучаснай мове ўтвараюцца субстантыўныя словазлучэнні з адпрыметнікавымі назоўнікамі ў ролі галоўнага слова, параўн.: *верны народу — вернасць народу, падуладны яго волі — падуладнасць яго волі, сугучны тым абставінам — сугучнасць тым абставінам.*

§ 169. Значную групу словазлучэнняў з давальным беспрыназоўнікавым складаюць словазлучэнні, у якіх прыметнік паходзіць ад дзеяслоўных асноў або ад дзеепрыметнікаў. Дзякуючы словаўтваральным сувязям прыметнікаў з дзеясловамі і яго формамі такія словазлучэнні, як правіла, паўтараюць адпаведныя дзеяслоўна-іменныя або дзеяслоўна-займеннікавыя канструкцыі, параўн.: *адпаведны яму — адпавядаць яму, зычлівы людзям — зычыць людзям, відны воку — відаць воку, жаданы сэрцу — жадаць сэрцу, аддany справе — аддаць справе, спадарожны яму — спадарожнічаць яму, зайздросны чужым поспехам — зайздросціць чужым поспехам, пакорны чалавеку — пакарыцца чалавеку, шкодны здароўю — шкодзіць здароўю, удзячны сябру — дзякаваць сябру* і інш. *Ён так і хацеў падысці проста да гаспадара, узяць а д п а в е д н ы м о м а н т у тон — строгі, вядома, нават суровы, але не зваг-*

*лівы, не злосны* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *І вынікла новае мора, пакорнае волі людской* (Я. Колас. Перадвыбарнае).

Некаторыя ад'ектыўныя словазлучэнні, у якіх галоўны член — прыметнік мае прамую словаўтваральную сувязь з дзеясловамі, хоць і ўтвараюцца па разгледжанаму ўзору, але не паўтараюць структурна-сінтаксічных асаблівасцей адпаведных дзеяслоўных канструкцый, параўн.: *неабходны ўстанове — не абходзіць установу, звычны дзецям — звыкнуцца з чым, прывычны яму — прывыкаць да чаго, паслушны (паслухмяны) мне — паслухаць (паслухацца) мяне, ненавісны мне — ненавідзець каго, панадны сэрцу — панадзіцца ў што (куды).*

§ 170. Словазлучэнні з беспрыназоўнікавым давальным утвараюць таксама некаторыя прыметнікі, якія паходзяць ад назоўнікаў з абстрактным значэннем; прычым форма склону залежнага ад прыметніка слова не заўсёды супадае з формай склону залежнага ад назоўніка слова (параўн.: *ненавісны яму — нянавісць да яго*). *І нельга будзе Мечыку крыкнуць у сваё апраўданне, што агню нарабіў не ён, а ненавісны яму і ўсім калгаснікам Дзёма Чыжык* (М. Паслядовіч. Магістральны канал).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ВІНАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 171. У сучаснай літаратурнай мове словазлучэнні прыметнікаў з формай вінавальнага склону без прыназоўніка складаюць непрадуктыўную групу канструкцый. Тлумачыцца гэта як лексічнай абмежаванасцю прыметнікаў, здольных выступаць у ролі галоўнага слова гэтых канструкцый, так і характарам сэнсава-сінтаксічных адносін, якія імі выражаюцца.

Словазлучэнні з вінавальным беспрыназоўнікавым звычайна выражаюць толькі акалічнасныя адносіны з двума асноўнымі адценнямі — колькасці (або меры) і часу: *тры метры глыбокі, варты дзесяць рублёў, кожны раз новы.*

а) *Месца выбралі здатнае, вырылі дол, дол тры сажні шырокі, глыбокі; закапалі, убілі асінавы кол, далі насып тры сажні высокі* (Я. Купала. Курган). *Тыя боты як уздзене, дык халявы па калені, а як пойдзе, дык рыпяць — варты мо' чырвонцаў пяць* (К. Крапіва. Кулак). *Жывеш ты ў хаце светлай, чыстай, а варт яна рублёў мо' трыста* (К. Крапіва. Дзядзька Хвядос і малакасос).

Параўн. словазлучэнне прыметніка *варты* з займеннікам *што* (у значэнні формы *чаго*): *І без песень жа народ што ён варт быць можа?* (Я. Купала. Песня аб песнях).

Трэба адзначыць, што прыведзеныя вышэй канструкцыі для беларускай літаратурнай мовы нашых дзён (маецца на ўвазе другая палавіна XX ст.) не з'яўляюцца ўжо агульнай нормай, яны па сутнасці могуць быць кваліфікаваны як сінтаксічныя гістарызмы ў тэкстах мастацкай літаратуры. Так, у прыватнасці, канструкцыі тыпу *тры сажні шырокі (высокі, глыбокі)* былі ўласцівы старажытнай беларускай мове, у наш час ім адпавядаюць назоўнікавыя словазлучэнні тыпу *шырынёй у тры сажні;* канструкцыя з прыметнікам *варты* характэрна была для літаратурнай мовы 20—30-х гадоў XX ст., цяпер жа на месцы яе звычайна ўжываюцца дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні тыпу *каштуе рублёў пяць.*

б) *Але, мне здаецца, ані не страцілі і ніколі не страцяць свае глыбокае цікавасці тыя таемныя, кожны раз новыя, своеасаблівыя шляхі, па якіх ідзе чалавек ад вузка асабістых сваіх разломаў да поўнага расчынення сябе ў калектыве* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Аналагічная канструкцыя мае месца і ў выпадках, калі прыметнік у сказе выступае ў ролі іменнай часткі выказніка: *Ён рэдка смяяўся.*

*Быў увесь час злосны, надзьмуты* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Часам Сава пасля прыезду быў увесь дзень задумёны, маўклівы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Асобна трэба адзначыць ужыванне канструкцыі з устойлівым прыслоўна-акалічнасным спалучэннем *дзень і ноч: А тут жа вечны непакой у шумнай дзень і ноч зямлянцы* (А. Астрэйка. Я напішу).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 172. Словазлучэнні з залежнай формай творнага склону без прыназоўніка могуць утварацца разнастайнымі якаснымі прыметнікамі, што сведчыць аб значнай іх прадуктыўнасці ў сучаснай мове. Такія словазлучэнні выражаюць пераважна абмежавальныя адносіны. Звычайна залежнае слова паказвае, што прымета, выражаная прыметнікам, праяўляецца ў адносінах да часткі або да адной якой-небудзь характэрнай рысы: *моцны дружбай, здаровы целам, слабы духам, ціхі характарам, невялікі ростам, буйны памерамі, хударлявы тварам, нязграбны стылем, кволы сэрцам, малады гадамі, слабы розумам, нядужы нутром, дзіўны гучаннем, стройны станам, цвёрды воляй, цікавы замалёўкамі, шчодры душой, дбайны працаю, каштоўны навізною, падобны смехам, баязлівы сэрцам, аднастайны прыродай, высокі ідэяй, прывабны свежасцю, знакаміты азёрамі, славуты песняй, бадзёры духам, адзіны думкай* і інш. *Гэта была моцная целам і духам дзяўчына* (М. Чарот. Галя). *Можа чорствы ты крыху душой, не ведаеш, што робіцца ў дзявочым сэрцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сасняк і густыя з пералескамі, хмызнякі парослыя лазой, толькі і выдатныя пралескамі, верасам, куп'ём і дзеразой* (П. Глебка. Мінскія ўрочышчы). *Высокі, бялявы тварам, ён* [Алесь] *выгодна адрозніваўся ад заняпалага Казюка* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Аб прадуктыўнасці гэтага тыпу словазлучэнняў сведчаць выпадкі ўтварэння іх адноснымі па паходжанню прыметнікамі, якія развіваюць у наш час новыя, якасныя значэнні. Параўн.: *Гэта інтэрнацыянальны сваёй душой і сэрцам чалавек* (К. Чорны. Ясны дзень краіны). *Партыйным трэба быць душой, учынкамі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Зрэдку словазлучэнні разгледжанага тыпу могуць утварацца прыметнікамі з чыста адноснымі значэннямі, у прыватнасці прыметнікамі на *-ск-і*, якія паходзяць ад геаграфічных назваў: *Яна не стычынская родам* (А. Чарнышэвіч. Праз зімы і вёсны).

Асобныя словазлучэнні, разгледжаныя вышэй, суадносяцца па значэнню са словазлучэннямі, у якіх залежнай формай з'яўляюцца прыназоўнікавы давальны, месны або вінавальны склоны, параўн.: *спакойны характарам — спакойны па характару, немалады гадамі — немалады па гадах, хворы ваўчанкай — хворы на ваўчанку.*

Трэба заўважыць, што канструкцыя з прыметнікам *хворы* і творным склонам залежнага слова не заўсёды можа замяняцца канструкцыяй з вінавальным склонам. Гэта, у прыватнасці, наглядаецца тады, калі залежнае слова абазначае не віды хвароб у медыцынскім значэнні гэтага тэрміна, а іншыя паняцці. Параўн.: *Я вам праўду сказаў — хворы. Не так целам, як духам* (К. Крапіва. З народам). *Даўно ўжо целам я хварэю, і хвор душой* (М. Багдановіч. Даўно ўжо целам я хварэю...).

§ 173. У некаторых выпадках, у прыватнасці калі прыметнік выяўляе словаўтваральную суадносaсць з дзеясловам, ад'ектыўныя словазлучэнні з творным беспрыназоўнікавым выражаюць абмежавальна-аб'ектныя адносіны, г. зн. залежнае слова паказвае разам

з тым прадмет (з'яву) як аб'ект, на які распаўсюджваецца пэўная прымета: *славуты зубрамі, слаўны высокамастацкімі творамі, вядомы адвагай.* Параўн.: *славіцца зубрамі, славіцца высокамастацкімі творамі. Бабруйск не бабрамі і Тураў не турамі сягоння вядомы. Славуты яны героямі працы, савецкай культураю, адважным змаганнем у часе вайны* (П. Панчанка. Пра назвы). *Раскінуўся ціха на поўначы Міншчыны нічым не славуты лясісты раён* (П. Панчанка. Каменні). *І Магілёў стаў славен заводамі і фабрыкамі* (К. Чорны. Ясны дзень краіны). *У сваім родным краі, імя якому Беларусь, жыве беларускі народ, слаўны сваёй шматвяковай гісторыяй, сваімі нацыянальнымі духоўнымі багаццямі* (К. Чорны. Янка Купала). *Беласток — горад пралетарыяту, слаўнага сваімі рэвалюцыйнымі традыцыямі, барыкаднымі баямі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Быў гэты дом усім вядом і слаўнай працай і дабром, сваёй гасціннасцю, цяплом* (П. Броўка. Бацькаў дом).

§ 174. Прымета, выражаная галоўным словам, можа ўдакладняцца ўказаннем на яе ўнутраны змест, напаўненне чым-небудзь: *горды прафесіяй, шчаслівы жыццём, крылаты моладасцю, густы шумам, харошы сабой, відны сабой, асаблівы заканчэннем, карысны навукай, ліхі няволяю, шумны ветрам, свабодны песняю, чароўны прыгажосцю, ненажэрны крывёю, поўны вадою, багаты азёрамі, бедны раслiннасцю, убогі адзеннем* і інш. *Ты, гордая юнай і свежай красою, завеш працаваць і тварыць* (А. Звонак. Рэспубліка маладая). *Мы ўлюбёныя сэрцамі ў мір і спакой, мы шчаслівыя сённяшнім днём* (К. Кірэенка. Мы па садзе ідзём). *Там працавітыя, хлебам не сытыя, снуюцца людскія цені* (Я. Купала. Думы маркотныя). *Мы моладасцю вечнаю крылаты* (А. Вялюгін. Камсамольцы). *Ноч маўчала, была зычная далёкай пустатой* (К. Чорны. Забойства).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры да 30—40-х гадоў XX ст. у ролі галоўнага слова такіх словазлучэнняў мог выступаць прыметнік *давольны* (*недавольны*), які к нашаму часу ўжо выйшаў з ужывання: *Ці сваёй доляй ты недавольны* (Я. Купала. Бор). *Задраўшы ўгору хвост трубою, сама давольная сабою, снуецца Такса між кустамі* (Я. Колас. Новая зямля).

На месцы прыметніка *давольны* ў літаратурнай мове нашых дзён ужываецца дзеепрыметнік *задаволены.*

У гэтым тыпе канструкцый нярэдка сустракаюцца словазлучэнні таўталагічнага характару, у якіх галоўнае і залежнае словы маюць адну і тую ж карэнную марфему: *добры дабратою, багаты багаццем, каласісты коласам* і інш. *Хіба мог я сказаць, што я быў горды самаю большаю гордасцю — правам паказваць усё гэта, як сваю радасць* (Я. Скрыган. Гордасць). *І так ён разам з намі ўсімі быў радасцю вялікай рад* (П. Пестрак. Падарожнае). *Усе былі ружовыя з марозу, свежыя, вясёлыя крэпкай, здаровай весялосцю* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Вы ж самі бачыце, як я шчаслiва вашым і маім шчасцем* (К. Чорны. Родныя мясціны). *Колас не быў дабранькі слязлівай дабратою* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Вочы былі трохі прыпухлыя, шчокі тлустыя тлушчам ледзь сагнанага сну* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Асобныя з разгледжаных вышэй словазлучэнняў суадносяцца па значэнню з ад'ектыўнымі канструкцыямі, у якіх залежнае слова выступае ў форме іншых ускосных склонаў без прыназоўнікаў ці з прыназоўнікамі, параўн.: *поўны вадой — поўны вады, шчаслівы поспехамі — шчаслівы ад поспехаў, багаты яблыкамі — багаты на яблыкі, бедны адзеннем—бедны па адзенню. Багаты ён* [жнівень] *на зорапад, багаты зорным роем. Ён будзе сёлета багат і зоркамі*

*Герояў* (А. Вялюгін. Багаты жнівень). *Падстаўляла кулям свае грудзі маладосць на радасці скупая* (А. Звонак. Чапаеў).

Заўвага. Па ўзору некаторых ад'ектыўных канструкцый разгледжанага тыпу ўтвараюцца дзеяслоўна-іменныя канструкцыі, у якіх галоўнае слова (дзеяслоў або дзеепрыметнік) паходзіць ад асноў прыметнікаў, параўн.: *горды радзімай — гардзіцца радзімай, поўны здабыткамі — поўніцца здабыткамі, сыты хлебам — насыціцца хлебам. Цяпер яна ўся поўнілася паслухмянасцю* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Яго маладыя сілы паступова поўніліся жыццём* (В. Вітка. Вікторыя). *Ды прастор яго знямелы поўніць лётнай славай* (Я. Колас. Шчаслівая хвіліна). *Душа да краю жыццём напоўнена была* (М. Машара. Чаму дрыжыць асіна).

§ 175. Пашыраны ў сучаснай мове словазлучэнні з творным беспрыназоўнікавым, якія выражаюць адносіны абумоўленасці і прычыны. Такія словазлучэнні сінанімічны канструкцыям са словамі *ад, у выніку чаго, з-за таго што, таму што, дзякуючы таму што* і інш.: *На гэтым балотным прасторы пападаюцца вузкія палосы вады, страшныя сваёю маўклівасцю і глыбінёй* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Конь, худы, страшны сваёй худзізнаю, ляжаў, выцягнуўшы мокрую шыю, на гарачай раллі* (К. Чорны. Буры). *Сінія далягляды былі маўклівымі і думнымі, як і той дзень, шумны толькі ветрам ды жоўклым лісцем на кустах і сухім, раскіданым па траве пад імі* (К. Чорны. Зямля). *Ён сэрца рве. Ён шчыпле печань. Ён п'яны выглядам крыві* (К. Крапіва. Праметэй).

§ 176. Мала ўласцівы беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з творным беспрыназоўнікавым, якія выражаюць аб'ектныя адносіны. Звычайна гэтыя словазлучэнні ўтвараюцца прыметнікам *цяжарная*, які можа ўжывацца як у прамым, так і ў пераносным значэнні: *Будучы цяжарнай трэцім дзіцем, яна* [маці] *пайшла з бацькам на рум варочаць калоды* (І. Гурскі. Дзве сястры). *Ды глянь: набухшы ў кожнай баразёнцы, цяжарная ўраджаямі ралля у павітухі запрашае сонца* (П. Макаль. Круглы стол).

Заўвага. У мастацкай літаратуры першай палавіны XX ст. сустракаюцца таксама словазлучэнні, якія ўтвораны прыметнікамі *бліскучы, пахучы*. Цяпер такія канструкцыі ўжо не з'яўляюцца літаратурнай нормай: *Зразу яго абдаў пахучы смалою ветрык* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *З пахучых зямной вільгаццю загонаў мне відно, як за шыпшынавымі межамі клапоціцца дзядзька Язэп* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Назаўтра такое ж самае было надвор'е — яснае, халоднае, пахучае вятрамі і вадою асенніх рэчак* (К. Чорны. Зямля). *Начальнік станцыі Камарова з недавер'ем кінуў позірк на маладога, бліскучага сваім новым форменным убраннем запаснога агента* (Х. Шынклер. Каб не формулы...).

§ 177. Лексічна абмежаванымі з боку залежнага слова з'яўляюцца ад'ектыўныя канструкцыі з творным беспрыназоўнікавым, якія выражаюць часавыя адносіны: *халодны зімовай парой, модны апошнім часам* і інш. *Над цёмным лесам з'явіўся невялічкі, але рэзкі гэткаю парою вецер, і макушкі злёгку зашумелі, заківаліся* (М. Гарэцкі. Трасца). *Летняй парой асцярожныя, можна сказаць, памяркоўныя ў іншыя гады, клыкастыя драпежнікі* [ваўкі] *у гэтае лета, здавалася, вачэй не зводзілі з сяла* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Думаючы пра радаслоўную гэтага моднага апошнім часам шаблону, можна ўспомніць не адну кінакарціну і не адну кнігу* (Я. Брыль. Што пішуць пра цябе, каханне...).

§ 178. Яшчэ менш прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні з творным беспрыназоўнікавым, якія выражаюць прасторава-лакальныя адносіны паміж галоўным і залежным словамі. Нязначная прадуктыўнасць гэтых словазлучэнняў абумоўлена тым, што ў ролі паясняючага члена могуць выступаць толькі адзінкавыя назоўнікі, якія ўваходзяць у лексічную групу імён са значэннем прасторы або месца: *Дно возера мясцамі вязкае, мулаватае, мясцамі тупкае з дробненькім, жоўценькім пясочкам* (Я. Колас. Публіцыстычныя

і крытычныя артыкулы). *Угары паслаўся цёмна-сіні прастор, р а б а в а т ы м е с ц а м і ад кавалкаў пушыстых хмар* (П. Г а л а в а ч. Суседзі).

## ПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 179. Як і ў іменных і дзеяслоўных канструкцыях, залежнае слова ў ад'ектыўных канструкцыях можа спалучацца з прыметнікамі ва ўскосных склонах з усімі ўласцівымі ім прыназоўнікамі. Дзякуючы гэтаму ў сучаснай мове ўжываецца значная колькасць структурных тыпаў ад'ектыўных прыназоўнікавых словазлучэнняў з разнастайнымі значэннямі. Зразумела, не ўсе гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца аднолькава прадуктыўнымі і аднолькава ўжывальнымі ў пісьмова-літаратурнай і вуснай мове.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 180. Залежнае слова (назоўнік, займеннік) можа далучацца да прыметніка з дапамогай прыназоўнікаў *ад, да, без, для, з, з-пад, з-за, між, у, каля, пасля, супраць, сярод, вышэй, адносна, паводле*. Канструкцыі з пералічанымі прыназоўнікамі могуць выражаць адно, два і некалькі значэнняў.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад*

§ 181. Пераважная большасць словазлучэнняў, у якіх залежнае слова мае форму роднага склону з прыназоўнікам *ад*, выражае п р ы ч ы н н ы я адносіны. Магчымасці ўтварэння гэтага тыпу канструкцый не абмежаваны лексічна ні з боку галоўнага, ні з боку залежнага слова, у сувязі з гэтым такія канструкцыі надзвычай прадуктыўныя: *белы ад снегу (мукі, пылу, страху), чорны ад бруду, жоўты ад нікаціну, чырвоны ад ветру (марозу, полымя), сіні ад холаду, ружовы ад сораму, зялёны ад моху, бліскучы ад сонца, светлы ад месяца, радасны ад перамогі, шчаслівы ад удачы, суровы ад нягод, злы ад крыўды, страшны ад болю, салёны ад слёз, мокры ад поту, млявы ад сну, мяккі ад змроку, хрыплы ад кашлю, цёмны ад змроку, хворы ад працы, сляпы ад дыму, ліпучы ад смалы, сівы ад гора, пануры ад прыніжэння, слізкі ад мыла, барвовы ад гневу, крывы ад старасці, слізкі ад змазкі, купчасты ад хмызняко́ў, непрытомны ад гарачкі* і інш. *Выскачыў з бярлогі сумны воўк, а д г о л а д у с у х і, бы корч* (З. Б я д у л я. З сказаў буры і віхраў). *Постаці, ц ё м н ы я а д з м р о к у, плывуць па дарозе* (К. Ч о р н ы. Новыя людзі). *І мы цябе не кінем, горад: у славе нашых перамог мы станем, ц і х і я а д г о р а, на абгарэлы твой парог* (П. Г л е б к а. Гораду на Дзвіне). *І хочацца блізка грудзьмі прытуліцца да ч о р н ы х а д г н е в у кіпучых прыбояў* (М. Т а н к. Нарач). *Нерухома вісела густое, душнае і с м у р о д н а е а д б а л о т н ы х в ы п а р э н н я ў паветра* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Па паходжанню ад'ектыўныя словазлучэнні з прычыннымі адносінамі цесна звязаны з шырокаўжывальнымі дзеяслоўнымі і субстантыўнымі словазлучэннямі, у якіх назоўнік або займеннік у форме роднага склону з прыназоўнікам *ад* указвае на прычыну ўзнікнення дзеяння.

§ 182. Вельмі блізка да словазлучэнняў з прычыннымі адносінамі стаяць словазлучэнні, у якіх выражаюцца адносіны а б у м о ў л е н а с ц і (нярэдка з часавым адценнем): *сарамлівы ад прыроды, сляпы ад нараджэння* і інш. *М а ў к л і в а м у а д п р ы р о д ы Пляцінскаму добра было маўчаць* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга). *Голасам, п і с к л і в ы м а д п р ы р о д ы, ён стала заяўляе* (там жа). *У Матыльды жоўтыя і з л о с н ы а д п р ы р о д ы твар яшчэ пажаўцеў* (К. Ч о р н ы. Ліст Якуба Малькевіча). *Сам ён, не надта с а р а м л і в ы а д п р ы р о д ы,*

*адчуваў сябе ў гэты дзень крыху ніякавата* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Змушаны беднасцю хітраваць, кемлівы ад прыроды, Зайчык адразу пачуў, што размова вось-вось падыдзе да той мясцінкі, дзе схавана тайна* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Жыў ён са сваёй адзінай дачкой-калекай, гарбатай ад нараджэння* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Без сонца дзень ўстае... стары ад нараджэння* (М. Машара. Люблю цябе).

§ 183. Калі залежнае ад прыметніка слова належыць да лексічнай групы назоўнікаў з часавым значэннем, словазлучэнне выражае чыста часавыя адносіны. Прадуктыўнасць гэтых словазлучэнняў нязначная: *вясёлы ад ранку, сумны ад таго дня* і інш. *Ён быў пахмурны ад ранку* (Я. Брыль. На Быстранцы). *І я — сын Нёмана, з капыльскіх вежаў, што памятны ад Ігаравых дзён, сівому Бугу, пушчы Белавежы, табе, наш горад Брэст, прынёс паклон* (А. Астрэйка. Брэсту). *Верасянцы аж гарэлі ад цікаўнасці, каб як найхутчэй пабачыць гістарычны ад гэтага дня Стрымкаў двор* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Залатая зямля мая, як зара маладая! Ты, што сёння стаптаная і ад веку святая, колькі ты нарадзіла нас* (М. Лужанін. Прысяга).

Заўвага. У гаворках беларускай мовы ўжываецца таксама форма *ад малку*, якая можа ўваходзіць у склад словазлучэнняў з прыметнікам у ролі галоўнага слова: *Ен у нас пушысты ат малку* (Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, І, 157).

§ 184. Колькасна абмежаванымі з боку галоўнага слова з'яўляюцца словазлучэнні, у якіх выражаюцца прасторавыя адносіны. Аднак па ўжывальнасці такія канструкцыі не ўступаюць іншым, больш прадуктыўным канструкцыям: *апошні ад краю, пярэдні ад сябе, недалёкі ад горада, процілеглы ад рэчкі* і інш. *Ля крайніх ад рэчкі хат мітусіліся людзі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Крайняя ад шашы палоса сенажаці належала тады гаспадарцы Канстанціна Лукашэвіча* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Гэта адбывалася можа нават на той самай апошняй ад фронту станцыі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *А сам Лайзан пайшоў у суседні ад сваёй вёскі фальварак* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Дома ён многа нерваваўся, а тут, у чарзе, супакоіўся і ўжо зусім задаволеным слухаў крыклівую гаворку пярэдніх ад сябе жанчын* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Вартавы хуценька падаўся назад і застыў у цяньку на бяспечнай ад зямлянкі дыстанцыі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На правым ад яго баку, выязджаючы з Сілцоў, ён пакінуў, наколькі помніць, старую разваленую карчму* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Залежнае слова ў такіх словазлучэннях звычайна абазначае канкрэтнае паняцце, аднак у радзе выпадкаў сустракаюцца словы з абстрактным значэннем, асабліва пры пераносным ужыванні іх, пры ўказанні на агульныя катэгорыі: *Людзі забывалі пра вайну, гутарылі на розныя тэмы, далёкія ад вайны* (Я. Колас. Дрыгва). *Там сталь, як раней, выплаўлялі, ды быў ёй інакшы маршрут. Жыццёвы маршрут, чалавечы, далёкі ад гора і слёз* (П. Броўка. Смела, таварышы, ў ногу!). *Трагедыя нейкага невядомага Паліводскага, які не мог знайсці дзвярэй у сваю будучыню, была вельмі далёкая ад розуму і сэрца гэтага чалавека* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ціха жывуць маці з дачкою — здаецца, часам, як далёкія ад усяго, забытыя* (П. Пестрак. Неспадзяванак).

Залежная форма ў канструкцыях з прасторавымі адносінамі можа быць выражана ўстойлівым словазлучэннем: *Гэтая дарога злучае два беларускія абшары, сваёй прыродай, характарам і выглядам далёкія адзін ад аднаго* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

§ 185. Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае аддзеяслоўны прыметнік, выражаюць звычайна аб'ектныя адносіны з роз-

ными дадатковымі адценнямі (крыніцы, сувязі, аддалення і г. д.): *неадлучны ад яе, неад'емны ад імкненняў, залежны ад яго, незалежны ад нікога, неаддзельны ад жыцця, вытворны ад назоўніка* (грам.), *пераходны ад лесастэпу, выбарны ад сялян* і інш. *Камбінат стаў для сотняў крушынцаў неаддзельным ад іхняга жыцця* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *На багатых сугліністых глебах... сосново-яловыя насаджэнні не з'яўляюцца ўстойлівымі ляснымі фармацыямі, прадстаўляюць сабой вытворныя ад яловых насаджэнняў асацыяцыі* («Весці АН БССР»). *Як бы недавер'е было да Ганны, ці адчуванне нейкай яе няшчырасці, незалежнай нават ад яе самой* (К. Чорны. Зямля). *Ад усёй грамады чалавек выбарны* (К. Чорны. «Святая» папружка).

Прыметнік *пераходны*, як і адпаведны дзеяслоў, паясняецца звычайна аднача́сова формамі роднага склону з прыназоўнікамі *ад* і *да*: *Нярэдка можна сустрэць верш, які з'яўляецца пераходным ад аднаго размера да другога* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

Заўвага. Сярод канструкцый з аб'ектнымі адносінамі асобна стаяць словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконвае субстантывіраваны прыметнік: *Да іх падбег сувязны ад Ермакова* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У хаце ў мяне жанчына сядзіць, пасыльная ад Гарасіма* (М. Лобан. На парозе будучыні).

§ 186. Параўнальна невялікую групу складаюць словазлучэнні, якія выражаюць адносіны адсутнасці, пазбаўлення, адрознівання чаго-небудзь: *вольны ад заняткаў, чысты ад прымесей, староннi ад спраў, адрозны ад іншых, асаблівы ад тых. Меншыя дзеці, вольныя ад хатніх работ, напаўнялі класы сваімі звонкімі галасамі* (Я. Колас. На ростанях). *У стаўках, чыстых ад павучыння раскі, крякталі жабы* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Вы — чалавек старонні ад нашых спраў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Гвардыян... у кожным дзеянні людзей пад знадворным яго выяўленнем знаходзіць просты матэрыяльны сэнс, які часамі быў зусім розны ад тых мэт, што паказвалі людзі* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Леапольд Гушка быў адметны ад тутэйшых людзей* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Мова пісьменніка — гэта не якая-небудзь асобная мова, адрозная ад народнай* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы).

§ 178. Нарэшце, неабходна адзначыць некаторыя словазлучэнні, якія выражаюць паясняльныя і ўдакладняльныя адносіны (часам з адценнем меры праяўлення прызнака): *удзячны ад душы, рады ад сэрца. Жыве наш дом! І я ад сэрца рад яго гамонцы, песням, смеху, звону* (П. Панчанка. Цагліна з дома Паўлава). *Шчырымі, ад сэрца простымі і праніклівымі словамі такімі гаварылі* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *да*

§ 188. Лексічны разрад прыметнікаў, якія ўтвараюць словазлучэнні гэтага тыпу, даволі шырокі. Таму канструкцыі з прыназоўнікам *да* маюць у сучаснай мове прыблізна такую ж прадуктыўнасць, як і канструкцыі з антанімічным па значэнню прыназоўнікам *ад*.

§ 189. Перш за ўсё неабходна вылучыць прадуктыўную групу словазлучэнняў, якія выражаюць аб'ектныя адносіны (часта з абмежавальным адценнем); залежнае слова ўказвае на асобу або прадмет, у адносінах да якога праяўляецца прымета, названая галоўным словам: *суровы да людзей, чулы да дзяцей, роўны да ўсіх, жорсткі да ворагаў, патрабавальны да сябе, непрымірымы да недахопаў, даверлівы да сяброў, спачувальны да кожнага, даходлівы да гледача, ветлівы да гасцей, успрымальны да музыкі, прывычны да хады, гатовы да*

*адпору, няўдалы да гаспадаркі, падобны да сястры, міласэрны да хворых, бязлітасны да ахвяр, уважлівы да ўсяго, глухі да вострых праблем, безуважны да непрыемнасцей, абыякавы да дзяўчат, шчыры да людзей* і інш. *Усю дарогу* [Паддубны] *быў ласкавы да Ганны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Даверлівыя да людзей, яны* [буслы] *кружылі зусім нізка над хатай* (В. Вітка. Трывога ў Ельнічах). *Не кемкая я да навукі* (Я. Купала. Паўлінка). *Дык не будзь жа ты суровы да мяне, сваёй дзяўчыны* (А. Астрэйка. Як мне добра, як я шчасна). *Старшы сержант Львоў патрабавальны да таварышаў* (Х. Шынклер. Дзённік сувязіста). *Голас быў ціхі, спакойны, да ўсяго абыякавы* (М. Лынькоў. Кавалак хлеба).

§ 190. Меншай прадуктыўнасцю характарызуюцца словазлучэнні, якія выражаюць абмежавальныя адносіны. У якасці галоўнага слова такіх словазлучэнняў могуць выступаць параўнальна нямногія прыметнікі: *схільны да роздуму, скоры да бойкі, драпежны да працы, заўзяты да навукі, зайздросны да чужых поспехаў, хцівы да дабра, ахвочы да выхвалення, прагны да славы, ласы да пажывы, падкі да яды, сквапны да грошай, ненасытны да гульняў, жвавы да бойкі* і інш. *Яна была замкнутай, схільнай да самоты* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мой Андрэй быў характару мяккага, схільны да плачу* (В. Таўлай. Марыя Гурына). *А ўжо які ён спрытны быў да песеньды да дзявочага насення* (К. Крапіва. Певень). *Аж пыл узняўся над усім сялом, калі гэтыя завішныя і ёмкія да працы людзі пачалі ламаць коміны* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Нястомны Шпунт, не трэба з яго кпіць: да працы ён руплівы і ахвочы* (А. Зарыцкі. Аповесць пра залатое дно). *Ён да яды не так быў падак* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 191. Малапрадуктыўную групу складаюць словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя адносіны: *голы да пояса, мокры да локцяў, блізкі да дома, кароткі да кален, шырокі да плеч* і інш. *Рукі ў яе былі прыгожыя і прывабныя, голыя да плеч* (К. Чорны. Верасnёвыя ночы). *Памыўшы ў кутку над цэбрам рукі, ён, белы, у лапцях, у зрэбных штанах, у доўгай да кален сарочцы, падпяразанай святочным паяском, пачакаў, калі падыдзе маці* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Ногі былі мокрыя амаль да кален* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І на далёкіх тылавых базах, і на блізкіх да фронту пляцоўках — ля самалётаў дзяжураць гатовыя да выканання задання лётчыкі* (Х. Шынклер. Пульс жыцця). *Па бліжніх да парку вуліцах паляцела трывожная вестка: «Немцы ў парку!»* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Заўвага 1. Калі залежнае ад прыметніка *блізкі* слова абазначае паняцце не прасторавае, то ў цэлым словазлучэнне выражае аб'ектнае або аб'ектна-абмежавальнае значэнне. Параўн.: *Нешта блізкае да гневу адчуў Васіль* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *І толькі адзін ён пабачыў праз гэты погляд цяжкую, блізкую да роспачы крыўду* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Заўвага 2. Канструкцыі з прыметнікам *блізкі* могуць ускладняцца, калі пры залежнай форме ёсць паясняльныя словы або калі ў ролі залежнага кампанента выступае ўстойлівы выраз: *Прыйдзе Ігнась, пасядуць яны, як некалі дайно-дайно, блізкія адно да аднаго* (Р. Мурашка. Сын). *Трэба сказаць, што... яны пачалі адчуваць самі сябе вельмі блізкімі адзін да аднаго людзьмі* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Калі ў ролі залежнага ад прыметніка *блізкі* слова выступае займеннік *той*, апошні звычайна паясняецца даданым сказам, які далучаецца пры дапамозе злучніка *каб*: *Ён быў блізкі да таго, каб цалаваць зямлю* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

§ 192. Прадуктыўную групу складаюць словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны з адценнем ступені або меры праяўлення прыметы, названай галоўным словам. Такія словазлучэнні

звычайна ўтвараюцца па ўзору дзеясло ўна-іменных словазлучэнняў з аналагічнымі адносінамі: *знаёмы да болю, вядомы да драбніц, верны да дробязей, гладкі да бліскучасці, саладжавы да прыкрасці, маладушны да нізасці, відавочны да нахабнасці, наіўны да жудасці, лагічны да простасці, марудны да непрыемнасці, утомны да зморы, палкі да лютасці, складаны да ліха, смелы да дзёрзкасці, сур'ёзны да паважнасці, артыстычны да ненатуральнасці, дысцыплінаваны да педантызму* і інш. *Яна* [Вера] *усміхалася мне сваімі да слепкасці белымі зубамі* (Я. Скрыган. Слепата). *Песня была жаласлівая, сумная да слёз* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Па гэтай карце, да драбніц вядомай... прыйшоў нялёгкай сцежкай я дадому* (В. Вітка. Школа). *Усё кругом было да недарэчнасці звычайным* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Шмат часін, да адказу поўных, назапашу, вазьму ў жыцця* (М. Лужанін. Галасы гарадоў).

У радзе выпадкаў значэнне ступені або меры набываюць словазлучэнні з першапачатковым прасторавым значэннем: *вочы, да краю поўныя журбы, да апошняй купіны знаёмая зямля, да канца прынцыповы* і інш. *Ах, вочы!.. Вочы!.. Што за вочы?.. Пад смехам палкія ў іх сны. Цыганскай гордасці дзявочай да краю поўныя яны!..* (П. Трус. Зіма... і золкія завеі). *Гэтая жаданая справядлівасць не была ў яго выразнай, яснай да канца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І такім чынам* [Булавін] *у адзін вясновы дзень з'явіўся ў новай да апошняй хаты вёсцы Баравікі* (П. Пестрак. Серадзібор). *І на здабытым рубяжы, да берагоў пачуццем повен, я новаю работай жыў* (М. Лужанін. На новых прасторах).

Асобную разнавіднасць словазлучэнняў з адносінамі ступені або меры складаюць словазлучэнні, у якіх залежным кампанентам з'яўляюцца прэпазіцыйныя формы займеннікаў *да таго, да чаго.* З дапамогай гэтых займеннікаў робіцца агульнае ўказанне на высокую ступень праяўлення прыметы, выражанай галоўным словам — прыметнікам: [Лабановіч] *спачатку не мог сачыць за мыслямі аўтара, хоць яны былі надта простыя і ясныя: да таго незвычайны быў змест гэтай кніжачкі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Нібы вечнасць цэлая прайшла, да таго доўгімі, доўгімі паказаліся Ваську гэтыя размовы* (М. Лынькоў. Маладосць). *Ужо вылічаем час не суткамі, а гадзінамі. Да таго адчувальны стаў тонус тэмпаў!* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Да чаго ж багатая, аказваецца, натура ў гэтага Цімоха* (там жа). *Да чаго прыгожая гэта вясновая раніца!* (Я. Скрыган. На выселках).

§ 193. Малапрадуктыўную групу складаюць словазлучэнні, у якіх прымета, выражаная галоўным словам, удакладняецца ў часавых адносінах: *невядомы да таго, модны да нядаўніх пор, папулярны да апошняга часу, незабыўны да скону* і інш. *Строіў Адзярыха для працоўных масаў — чырвонаармеец, адстаўны да часу* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Знайшоўся нават невядомы да гэтых пор адзін пясняр* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Раптам зрабіліся чорнымі сінія да гэтага часу шыбы* (М. Паслядовіч. Паўстанне).

§ 194. Неабходна адзначыць, нарэшце, канструкцыі, у якіх выражаюцца адносіны прызначэння або мэты: *непрыгодны да працы, здольны да музыкі, здатны да гаспадаркі* і інш. *Палавіна з іх* [зямлянак] *выглядала непрыдатнымі да жылля* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Яны аказаліся здольнымі да навучання* (Я. Колас. На ростанях). *Ён такі да навукі здатны* (К. Чорны. Трыццаць год). *Пацяроб... не грэбуе нават такімі нікчэмнымі, ні да чаго не прыдатнымі людзьмі, як Галілей* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *для*

§ 195. Словазлучэнні з прыназоўнікам *для* складаюць вельмі прадуктыўны тып ад'ектыўных канструкцый у беларускай літаратурнай мове. Яны могуць утварацца шматлікімі якаснымі прыметнікамі, якія паясняюцца назоўнікамі розных лексічных разрадаў або займеннікамі (пераважна асабовымі). Нягледзячы на шырокія магчымасці ўтварэння, гэтыя канструкцыі выражаюць невялікі круг значэнняў.

§ 196. Найбольш часта з прыназоўнікам *для* ўтвараюцца словазлучэнні, якія выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны (звычайна з абмежавальным адценнем): *абавязковы для мастацтва, незвычайны для гэтых мясцін, непрыкметны для вока, незаўважны для яго, бяспечны для грамадства, праваправамерны для паэзіі, арганічны для пісьменніка, даступны для чытача, дастатковы для завяршэння працы, каштоўны для навукі, патрэбны для гаспадаркі, характэрны для творчасці, спрыяльны для росту, непрыемны для гасцей, павучальны для ўсіх, тыповы для пісьменніка, агульны для ўсяго народа, традыцыйны для літаратуры, смешны для дзяцей, спажыўны для расліны, чужы для ўсіх, недаступны для разумення, нябачны для вока, аўтарытэтны для моладзі* і інш. *То былі водсветы людскіх паселішч, новых, буйных, н я з в ы ч н ы х д л я былой соннай ц і ш ы н і гэтага краю* (М. Л ы н ь к о ў. На вялікай хвалі). *Успаміналася ўсё гэта Юзіку і не хацелася ісці з чыстага паветра ў духату ды садзіцца за стол з н е п р ы е м н ы м д л я я г о чалавекам* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *У той п а м я т н ы д л я м я н е год я знайшоў яшчэ аднаго таварыша* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Стычыны). *Мокуць — чортава месца, г і б л а е д л я к а с ц а* (І. М е л е ж. Людзі на балоце).

З а ў в а г а. У некаторых творах першай палавіны XX ст. сустракаюцца паасобныя выпадкі ўжывання роднага з прыназоўнікам *для* ў канструкцыях з прыметнікам *уласцівы*, які спрадвечна кіруе д а в а л ь н ы м беспрыназоўнікавым. Такое ўжыванне не з'яўляецца нормай, яно абумоўлена, відаць, уплывам канструкцый з прыметнікамі *характэрны, тыповы: З н е ў л а с ц і в а й д л я я г о жвавасцю і порсткасцю ўваходзіў Ядловец у кабінет Прыстромаў* (Х. Ш ы н к л е р. Сонца пад шпалы). *Глухія азёры былі паказаны на карце з у л а с ц і в а й д л я р а б о т А н д р э я М і х а й л а в і ч а дакладнасцю* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

Некаторыя словазлучэнні з родным склонам залежнага слова суадносяцца па значэнню са словазлучэннямі, у якіх залежнае слова мае форму давальнага беспрыназоўнікавага, параўн.: *дарагі для брата — дарагі брату, любы для сэрца — любы сэрцу, чужы для мяне — чужы мне, прыемны для людзей — прыемны людзям, зразумелы для яго — зразумелы яму, непрыгодны для грамадства — непрыгодны грамадству.*

§ 197. Акрамя аб'ектных адносін, словазлучэнні з прыназоўнікам *для* могуць выражаць ч а с а в а-а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны, а таксама адносіны а д п а в е д н а с ц і-н е а д п а в е д н а с ц і: *актуальны для свайго часу, папулярны для свайго часу, характэрны для свайго часу, выдатны для свайго часу, наватарскі для свайго часу, перадавы для свайго часу, востры для таго часу, кардынальны для таго часу, важны для таго часу, востры для таго часу, натуральны для такога часу, спецыфічны для кожнага перыяду, знамянальны для нашай эпохі, тыповы для мінулага стагоддзя, нармальны для сваіх гадоў, нечаканы для яго ўзросту, незвычайны для яго маладосці* і інш. *Гэтак скончылася сяброўства двух людзей, сяброўства незвычайнае і разам з тым б а н а л ь н а е д л я н а ш а г а ч а с у* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Аўтар паставіў Алеся ў т ы п о в ы я д л я т а г о ч а с у абставіны* (Я. Г е р ц о в і ч. На перадавых пазіцыях). *Ён рухаўся хутка і спрытна, в е л ь м і в я л і к і д л я г э т а й м а л е н ь к а й к у з н і, але ўсё ў яго выходзіла хутка і прызвычаена* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Ён* [Шчарбацюк] *быў невысокі, г р у з н ы д л я с в а і х г о д* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 198. Менш прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні з прыназоўнікам *для*, якія выражаюць адносіны прызначэння і мэты: *патрэбны для адбудовы, непрыдатны для карыстання, неабходны для доследаў, зручны для абароны, здольны для барацьбы, неабходны для фронту, лёгкі для засваення, бескарысны для навукі, добры для раз'ездаў, важны для разумення. Яно* [жыта] *ужо непрыдатна для ежы чалавеку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Гэта былі кудлатыя мясцовыя аўчары, лютыя, але няздатныя для гону* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ён ніяк не адважыцца ахвяраваць пэўную колькасць слоўнага матэрыялу на тое, каб зрабіць п'есу больш сціслай і, галоўнае, прыдатнай для пастаноўкі* (К. Крапіва. П'есы і вобразы). *Мост быў разбураны. Іншыя зручныя для пераправы месцы знаходзіліся далёка* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *без*

§ 199. Словазлучэнні з прыназоўнікам *без* не вельмі прадуктыўныя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, але выражаюць яны разнастайныя адносіны, у прыватнасці:

1. Адносіны абумоўленасці: *Косцік ішоў уперадзе... а за ім дрэпаў Шурка, засадзіўшы адубелыя без рукавіц ручкі* (Я. Брыль. Зладзеі). *І хата — маўклівая, няўтульная без звычайнай дзіцячай валтузні і гоману — здалася, як склеп* (І. Мележ. Людзі на балоце).

2. Аб'ектныя адносіны; словазлучэнне паказвае, што прымета, названая галоўным словам, праяўляецца пры адсутнасці прадмета, названага залежным словам: *Сама зямля без гною тлуста* (Я. Колас. Новая зямля). *Вінаваты без віны* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ты разумен без навукі* (там жа). *Падарунак гэта дайні, з ім без грошы я багаты* (У. Дубоўка. Музыкачарадзейнік). *На ўскраіну з песняй прыйшоў лістапад — без слоў галасістай, вясёлай без кветак* (У. Хадыка. На ўскраіну з песняй). *Толькі тыя заўсёды працуюць, гудуць сваю песню сур'ёзна, а вераб'і цяпер шчаслівыя без клопату* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Дый усмешкі на капрызныя і без падмалёўкі яркія губкі было не пазычаць дзяўчыне* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

Асобна трэба адзначыць спецыфічныя па ўтварэнню канструкцыі, у якіх ролю залежных ад прыметніка слоў выконваюць займеннікі *той, гэты* ў абагульненым субстантыўным значэнні: *Песня захапляла саміх спевакоў, узнімала яшчэ вышэй і без таго прыўзняты іхні настрой* (Я. Колас. На ростанях). *Хударлявы без таго, цяпер ён меў выгляд чалавека, знятага з крыжа* (Я. Колас. Дрыгва). *Гаспадыня выцерла пярэднікам і без таго чысты ўслончык* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

3. Азначальныя адносіны: *Нязмернае гора спакутаванага прыгнечанага сялянства... шырокай ракой помсты і барацьбы вылівалася ў простых без хітрасці словах* (Р. Мурашка. Сын). *У гэтым настроі, з думкамі без хітрасці простымі зайшоў Ігнась да Любы* (там жа).

Заўвага. Залежнае слова можа страчваць сувязь з галоўным і знаходзіцца ў адасобленым становішчы: *З яснага, без адзінай хмурынкі, глыбокага неба... свяціў поўны месячык* (І. Шамякін. Крыніцы). *Яна стаяла воддаль ад яго, ля дзвярэй, і шырока глядзела ціхімі — без бляску — вачмі, быццам палахліва чакала нечага* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

4. Адносіны ступені праяўлення прыметы; звычайна ў такіх словазлучэннях другім, залежным кампанентам выступае форма *без меры*, сінанімічная прыслоўю *бязмерна: без меры шчаслівы, без меры*

*жвавы, без меры доўгі, без меры сярдзіты, без меры ліхі, без меры клапатлівы, без меры салёны* і інш. *Недаверны быў без меры* (К. Крапіва. Біблія). *Смачныя без меры тут раслі калісьці бэры* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Яна — хударлявая, без меры клапатлівая жанчына* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Хоць цікаўны быў без меры, а ўсяму не мог даць веры* (В. Вітка. Буслінае лета).

Залежная форма можа выступаць у якасці простага ўдакладнення да прыметніка, і тады яна з'яўляецца адасобленым членам канструкцыі: *Перад вачыма плавае, гойдаецца чорная, шырозазная, без меры заслона* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Заўвага. У 20—30-х гадах XX ст. форма *без меры* дзякуючы сінанімічнасці яе значэння значэнню прыслоўя *бязмерна* нярэдка ўжывалася ў такіх словазлучэннях у злітным напісанні, параўн. у творы М. Зарэцкага «Вязьмо»: *бязмеры мілы, бязмеры шырокі, бязмеры старанны, бязмеры падобны, бязмеры гарачы, бязмеры п'яны, бязмеры доўгі, бязмеры прыгожы.*

Акрамя формы *без меры*, у гэтым тыпе словазлучэнняў залежным кампанентам часам з'яўляюцца формы *без канца, без краю*, якія ўжываюцца галоўным чынам з прыметнікамі, што ўказваюць на прасторавыя прыметы: *Свет шырокі без меры і краю, хопіць поля і нетраў лясных* (П. Глебка. Песні мінулай вайны). *Без канца доўгая фаланга чаўноў і лодак упіраецца ў бераг вострымі насамі* (Я. Колас. Дрыгва). *Вялікі сход. Рабочых шмат. Пытанне важнае без краю* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

Параўн. таксама словазлучэнне з залежнай формай *без надзеі*, якая звычайна ўжываецца з прыметнікам *хворы: І ўся яна... была нейкая зморшчаная, як бы хворая без надзеі* (І. Мележ. Людзі на балоце).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з*

§ 200. Ад'ектыўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *з* адносяцца да малапрадуктыўнага тыпу канструкцый. Аднак выражаюць яны даволі шырокі круг значэнняў.

Залежная форма, паясняючы галоўнае слова, можа выражаць аб'ектныя адносіны (часам з дадатковымі значэннямі крыніцы, унутранага зместу, абмежавання і г. д.): *багаты з працы, шчаслівы з малога, зразумелы з першага погляду* і інш. *Усе давольны з пастановы — нежанаты і жанаты* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Я быў давольны з непрадбачанай канцоўкі* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Багаты будзь з нівы* (Я. Купала. Сажань шырынёю). *Ой ты, мой араты, хмары ты хмурней: з цябе свет багаты, ты ж усіх бядней* (Я. Купала. Араты). *Гэты быў шчаслівы з малога* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Так паказаць героя, каб яго душэўны стан быў зразумелы з дзеянняў* (П. Галавач. Ці патрэбна нам навела?).

Заўвага. Канструкцыя з прыметнікам *давольны* ў нашы дні не з'яўляецца агульнай літаратурнай нормай, замест яе цяпер ужываецца звычайна канструкцыя дзеепрыметніка *задаволены* з творным беспрыназоўнікавым: *задаволены пастановай, задаволены рашэннем.*

§ 201. Залежная форма можа выражаць абмежавальныя адносіны (часам з некаторымі іншымі адценнямі): *дробны з твару, худы з твару, прыгожы з твару, брыдкі з твару, мужны з твару, гладкі з твару, спакойны з выгляду, хударлявы з постаці, ясны з аблічча, падобны з абрысаў, моцны з мастацкага боку* і інш. *Пятрусь Маргун падобен з твару да архангела Міхаіла* (Я. Колас. На ростанях). *А на ганку стаіць чалавек, малажавы з твару, але прыкметна ссутулены* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Гэта быў чалавек дробны з твару і постаці* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Аксіння*

*Хвядосаўна стаяла на парозе велічная* *с у р о в а я з т в а р у* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *А за ім хтосьці вельмі* *п а д о б н ы з а б р ы с а ў п о с т а ц і на Толіка* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Быў зломан вораг. Яго здалёку гнаў салдат,* *з а б л і ч ч а я с н ы, с т р о г і* (М. Л у ж а н і н. Кладкі Градоўскага). *І вось ён глядзіць на мяне, гэты ціхі,* *п а н у р ы навaт з в ы г л я д у мужчына,— глядзіць з добрай усмешкай старэйшага брата* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

З а ў в а г а. У творах Я. Коласа неаднаразова сустракаюцца словазлучэнні з залежнай формай *з віду*, якая ў нашы дні не з'яўляецца літаратурнай нормай: *з віду ящчэ малады* («Адплата»), *культурны з віду* («Рыбакова хата»).

У якасці другога, залежнага кампанента гэтага тыпу канструкцый могуць выступаць устойлівыя звароты *з першага погляду, з пункту погляду (гледжання): цікавы з першага погляду, тыповы з пункту гледжання тэмы* і інш. *Адна* *д р о б н а я з п е р ш а г а п о г л я д у* *рэч запыніла на сабе іх увагу* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Ідзе Нявідны, разам з ім, побач яго і над ім шуміць многагалосы паток жыцця, гарманічны,* *с у г у ч н ы з п е р ш а г а п о г л я д у,* *супярэчлівы і прасякнуты духам змагання* (там жа). *Аднатыпныя з т э х н і ч н а г а п у н к т у п о г л я д у* *зубчастыя колы будуць рабіцца на спецыяльных аўтаматычных лініях* («Весці АН БССР»).

§ 202. Залежная форма можа выражаць ч а с а в ы я адносіны, паказваючы зыходную часавую мяжу ўзнікнення прыметы: *знаёмы з дзяцінства, прывычны з маленства, вядомы з ранейшых эпох* і інш. *Я прагавіта ўглядаюся ў прасторы* *з д з я ц і н с т в а з н а ё м а й зямлі* (Я. К о л а с. Падарожжа ў Парыж). *Хіба я не прайшоў край* *з м а л е н с т в а мне л ю б ы* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады). *Пані Вашамірская* *х в о р а я ящчэ з ч а с о ў б а л у* (З. Б я д у л я. Салавей). *Вобраз гэты з сэрца не пазбуду: мне тайгу не раз ён нагадае і дзяўчыну з Кашалёўскай Буды, што з* *м а л е н с т в а ў п а р т а я* *такая!* (У. Д у б о ў к а. Чакае ля берага човен мяне). *Сярод бліжэйшых хутаранцаў Каржакевіч быў досыць* *п а п у л я р н ы ящчэ з д а р э в а л ю ц ы й н а г а ч а с у* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Кірыла,* *ш у м н ы з р а н і ц ы,* *вясёлы і лагодны пасля заканчэння свайго артыкула, пачаў хмурнець і злавацца* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

Асобна трэба адзначыць словазлучэнні, у якіх ролю залежнага кампанента выконваюць фразеалагічныя звароты тыпу *з веку ў век, з году ў год: Пан заўсёды люты,* *л ю т ы з в е к у ў в е к* (З. Б я д у л я. Хлопчык з-пад Гродна). *Смуродная цвіль турэмных нар і вечная —* *з г о д у ў г о д* *— пракаветная думка: вот жа вырваўся* (М. Л ы н ь к о ў. Баян).

§ 203. Залежная форма можа выражаць п р ы ч ы н н ы я адносіны. Такія канструкцыі сінанімічны канструкцыям, у якіх залежнай формай з'яўляецца родны склон з прыназоўнікам *ад*, а таксама адпаведным дзеяслоўным канструкцыям, параўн.: *ружовы з марозу — ружовы ад марозу, ружавець ад марозу, вялы са сну — вялы ад сну, вянуць ад сну, хворы з голаду — хворы ад голаду, хварэць ад голаду. А Волечка яго — нічога сакатуха.* *Р у м я н а я з м а р о з у,* *нібы яблыка* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *В я л ы я з х о л а д у* *мурашкі поўзалі па каструбаватай кары старой арабіны і на зямлі пад ёю* (К. Ч о р н ы. Заўтрашні дзень). *А на прасторы,* *з б о л ю с і н і м,* *адказ на здзек, адказ на зман — дужэе выбух гнеўнай сілы* (М. Л у ж а н і н. Таварыш Вера). *Гаварыць адразу захацелі трое,* *п'я н ы я н е з ч а р к і, з д о б р а г а н а с т р о ю* (П. Б р о ў к а. Чырвон-гарадок). *Тады,* *х в о р а я з г о л а д у,* *яна магла хаваць гэта ад цікаўных наглядальнікаў* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Часам залежная форма роднага склону адасабляецца ў такіх канструкцыях: *Калі ў хату зайшоў бацька, ён здзіўлена спыніўся каля*

*парога, а сын устаў з лаўкі, падышоў, абняў* *х а л о д н а г а, з д в а р а,* *бацьку, пацалаваў яго ў абмёрзлыя лёдам вусы* (П. Г а л а в а ч. Кара).

Структура ад'ектыўных канструкцый з прыназоўнікам *з* адпавядае структуры дзеяслоўна-іменных канструкцый з гэтым жа прыназоўнікам.

§ 204. Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* могуць выражаць п р а с т о р а в ы я адносіны (часта з абмежавальным адценнем); залежная форма ўказвае на пункт, напрамак, месца, адкуль распаўсюджваецца прымета, названая галоўным словам: *апошні з краю, нявідны з зямлі, сукаваты з камля, бліскучы з краёў, прыкметны з двара, наезны з горада* і інш. *Воўк з ядлоўцу вылятае... в е л ь м і с т р а ш н ы з г а л а в ы* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Міхал з Антосем вайшлі ў хату, з д в а р а зусім п а д с л е п а в а т у* (Я. К о л а с. Новая зямля). *М а л е н ь к а я з н а д в о р к у, будка ўсярэдзіне была досыць памясцоўная* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *З п а ч а т к у ц ё м н а я, па канцах рыжая барада яго пачыналася чуць не ад самых вачэй* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Сплывуцца светленькія болачкі ў б л і с к у ч а-х м а р н ы я з к р а ё ў грудкі і вялікія сярэбраныя кучы* (М. Г а р э ц к і. Млявыя сненні). *Сухадолы, крутыя ўзгоркі, с у к а в а т ы я з с а м а г а к а м л я каржакаватыя сосны — такі тут лес* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

§ 205. Параўнальна невялікую групу складаюць словазлучэнні з в ы л у ч а л ь н ы м і адносінамі: *пярэдні з групы, крайні з калоны, апошні з байцоў, любы з нас* і інш. *П я р э д н і з п я ц ё р к і быў апрануты ў шчыгульную венгерку* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *К р а й н і я з н а т о ў п у пачалі аступацца і ціснуцца* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Мы не самыя а п о ш н і я з н а р о д у* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Яна ачуняла амаль што а п о ш н я я з т ы ф о з н ы х х в о р ы х* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Не адступіць нідзе франтавік, нам пад сілу л ю б а я з р а б о т* (П. П а н ч а н к а. Афіцэры запасу).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з-за*

§ 206. Словазлучэнні з прыназоўнікам *з-за* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Выражаюць гэтыя словазлучэнні галоўным чынам два віды адносін: 1) п р ы ч ы н н ы я (*неразборлівы з-за шуму, хмурны з-за дажджу, нячутны з-за грукату, слабы з-за хваробы*); 2) п р а с т о р а в ы я (*нявідны з-за лесу, нябачны з-за вугла*).

*Ва ўсім абліччы гэтага чалавека, некалькі нязграбным і м е ш к а в а т ы м з-з а п р а с т о р н а г а в а т н і к а, было столькі ўпэўненасці.., што хацелася сказаць разам з ім: — Так, будзе пецъ* (М. Л ы н ь к о ў. Недапетыя песні). *Яму натрапілася больш чым пажылая, т о н н а я з-з а с в а і х г о д, немка* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Шэвенінгенскі бераг — гэта велізарны добраўпарадкаваны і п у с т э л ь н ы з-з а д р э н н а г а н а д в о р' я пляж* (з газет).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *паміж* (*між*), *сярод*

§ 207. Словазлучэнні з гэтымі прыназоўнікамі належаць да малапрадуктыўных канструкцый. Залежная форма ў іх указвае на а с я р о д д з е (групу прадметаў, асоб, з'яў і г. д.), у якім праяўляецца названая галоўным словам прымета: *роўны між роўных, адзінокі між людзей, вядомы сярод спецыялістаў, нярэдкі сярод сялянства, папулярны сярод рабочых* і інш. *Братняй дапамогай р о ў н а я м і ж р о ў н ы х БССР красуе, нібы жыта летам* (Я. К у п а л а. Нашай Канстытуцыі). *Высокае становішча грамадзяніна сацыялістычнай краіны, р о ў н а г а с я р о д р о ў н ы х у шматмільённай савецкай сям'і, напоўніла сэрца беларуса гонарам за сябе і за сваю вялікую радзіму* (К. К р а п і в а.

Аб характары беларуса). *А беднасць — з'ява нярэдкая сярод сялянства* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Няёмкасць, як чужая тут паміж іх, зусім непатрэбная, адляцела і не звярнулася* (Р. Мурашка. Сын). *Але яму здавалася, што вельмі ж ужо ён нязграбны сярод гэтага букета* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ён вядомы сярод усіх юрыстаў Расіі* (Я. Колас. На ростанях).

§ 208. Словазлучэнні гэтага тыпу ў адпаведнасці са значэннем залежнага назоўніка могуць выражаць таксама іншыя адносіны, напрыклад прасторавыя: *«Но-о-о, каб цябе ваўкі задавілі»,— крычаў ён на ўсё горла і шлёпаў лапцямі па глыбокай сярод вуліцы асенняй гразі* (М. Лобан. На парозе будучыні); часавыя: *Ён лацвей мог прапусціць міма вуха гук раптоўнага стрэлу ці незвычайны сярод зімы ўдар перуна, чымся хоць найцішэйшы бразгат дзвярэй* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Скрып дзвярэй быў адзінокім сярод ночы* (К. Чорны. Новыя людзі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *каля, вышэй, ніжэй*

§ 209. Словазлучэнні з прыназоўнікамі *каля, вышэй, ніжэй* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Выражаюць яны прасторавыя адносіны з абмежавальным адценнем: *цёплы каля печы, вільготны каля балота, мокры вышэй пояса, загарэлы ніжэй лакцей. Вільготная каля студні зямля прыемна халадзіла гарачыя ногі* (К. Чорны. Верасьнёвыя ночы). *Дзень пабольшаў і вясна блізка,— адказаў Пархвен Катлубовіч, ужо сівы каля вушэй і аблыселы наверсе галавы стары чалавек* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *Усе сыходзіліся на грэблі: большасць мокрыя вышэй пояса, з абляпанымі тванню сарочкамі* (І. Мележ. Людзі на балоце).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *супраць (супроць)*

§ 210. Словазлучэнні з прыназоўнікам *супраць* адносяцца да малапрадуктыўных канструкцый. Выражаюць яны аб'ектныя адносіны з абмежавальным адценнем: *устойлівая супраць палягання* [грэчка], *бяссільны супраць стыхіі* і інш. *Устойлівыя супраць палягання сарты ячменю на тарфяна-балотных глебах адрозніваюцца ад малаўстойлівых радам марфалагічных адзнак* («Весці АН БССР»).

Часам такія словазлучэнні выражаюць параўнальныя адносіны: *Іш ты, які здаровы супроць яго* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Супраць Красуцкага ён быў невялікі* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пасля*

§ 211. Словазлучэнні з прыназоўнікам *пасля* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Звычайна яны выражаюць часава-абмежавальныя адносіны: *мокры пасля дажджу, вялы пасля сну, лагодны пасля размовы, нервовы пасля хваробы, цёплы пасля зімы* і інш. *Нават пліты, пасля дажджу коўзкія, ласкава нітуюцца з хадой* (У. Дубоўка. Кругі). *Светлыя валасы яе сталі залатымі, бледны пасля родаў твар паружавеў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Хлюпка шамацяць па тлустым пасля дажджу, утрамбаваным шлаку алейкі — веласіпедныя шыны* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). *Яна ўжо ўстала, яна ўжо ідзе па ваду ці ў грыбы, — залітая сонцам і гэтак родна цёплая пасля сну, з іхнім шчасцем і з іхняй вялікай радасцю ў вачах* (Я. Брыль. На Быстранцы).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *адносна*

§ 212. Словазлучэнні з прыназоўнікам *адносна* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Выражаюць яны аб'ектна-абмежавальныя адносіны: *сіметрычны адносна восі Зямлі, варыянтны адносна націску* і інш. *Круг узбуджальных цел... абмяжоўваецца ў асноўным двухмернымі формамі, што ствараюць сіметрычны адносна восі цела эфект* («Весці АН БССР»). [Радыяцыйны] *пояс сіметрычны адносна магнітнай восі Зямлі* (з газет). *У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца варыянтныя адносна націску формы дзеепрыметнікаў* (грам.).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *паводле*

§ 213. Словазлучэнні з прыназоўнікам *паводле* былі характэрны галоўным чынам для літаратурнай мовы 20—40-х гадоў XX ст. Выражаюць яны адносіны адпаведнасці-неадпаведнасці з адценнем абмежавальнасці або параўнання: *тонкі паводле росту, нізкі паводле даўжыні* і інш. *Настачка выцягнулася, вырасла, як кажуць, не паводле гадоў разумна* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Сакратар ячэйкі — чарнявы хлопец, не паводле гадоў сур'ёзны,—прачытае спачатку яго, Міколы, заяву, кароткую біяграфію* (там жа). *Нізкія, паводле даўжыні сваёй, будынкі стаялі паабапал двара* (К. Чорны. Вясна). *Не зважаючы на гарачае надвор'е, ён стаяў у суконнай жакетцы і курыў, высокі, танклявы паводле росту* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *У аддаленні, дапушчальным паводле этыкета, плылі высокапастаўленыя фрау і фрайлен* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Дасканалыя паводле паэтычнага майстэрства, глыбокія паводле ідэі, творы Янкі Купалы з'яўляюцца ўзорам таго, як трэба служыць народу ў яго няспынным імкненні наперад* (Р. Шкраба. Сіла слова).

Замест прыведзеных канструкцый у літаратурнай мове нашых дзён звычайна ўжываюцца канструкцыі з давальным-месным з прыназоўнікам *па (глыбокі па зместу, немалады па гадах)* або канструкцыі з творным з прыназоўнікам *параўнальна з (прасторны параўнальна з першай, стары параўнальна з жонкай)*.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 214. Сучаснай беларускай мове вядомы ад'ектыўныя канструкцыі з залежнай формай давальнага склону з прыназоўнікам *к* і з прыназоўнікам *па*. Адрозніваюцца гэтыя канструкцыі як сваімі значэннямі, так і шырынёй ужывання.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *к*

§ 215. Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* з'яўляюцца малапрадуктыўнымі і малаўжывальнымі. Невялікі і круг значэнняў, якія ўласцівы ім. Гэтыя словазлучэнні звычайна выражаюць:

1. Аб'ектныя і аб'ектна-абмежавальныя адносіны, асабліва калі галоўнае слова — прыметнік аддзеяслоўны па ўтварэнню: *гатовы к бою, прывычны к марозу* (параўн.: *прывыкаць к марозу*) і інш. *На трэці дзень чуцен быў гоман хоць і надломан, але ўжо больш вольны, дасціпны, к сэрцу прылiпны* (Я. Купала. Безназоўнае). *Прызнаюсь няздатным к труду* (Я. Купала. Зімою). *На бой, на бой, хто к бою здольны!* (М. Засім. На

бой!). *Арол той з крыкам ваяўнічым імкне на зайца, як страла. І чуе заяц за сабою смяротэльны холад страшных крыл. На спіну ўпаў, гатовы к бою, і — шах арла ён з усіх сіл!* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Старасць-слабасць падаспела, стаў нядуж к рабоце ўсякай* (Я. Купала. Сцёпка Жук).

Параўн. прыклад, у якім ролю залежнага слова выконвае фразеалагічны выраз: *Станок ні к чорту матары не варт, рамонту просіць* (К. Крапіва. Канец дружбы).

Неабходна адзначыць, што звычайна ў сучаснай літаратурнай мове замест канструкцый тыпу *здольны к рабоце, гатовы к бою* ўжываюцца сінанімічныя канструкцыі з родным склонам тыпу *здольны да работы, гатовы да бою* (гл. § 194).

2. Часава-абмежавальныя адносіны; залежнае слова ўказвае на час праяўлення прыметы, выражанай галоўным словам: *гарачы к поўдню, халаднаваты к вечару* і інш. *Тылавыя часці, відаць, выбраліся, застаўся недзе наперадзе жудкі, загадкавы к начы фронт* (Х. Шынклер. Блок).

3. Адносіны меры; у гэтым значэнні ад'ектыўныя канструкцыі часам сустракаюцца толькі ў індывідуальным ужыванні: *Глянеш на жыта, высокае к небу* (М. Засім. Перад жнівам).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 216. Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* з'яўляюцца вельмі прадуктыўнымі і вельмі ўжывальнымі ў сучаснай літаратурнай мове, але па значэнню яны не складаюць шматлікіх груп. Большая частка іх выражае абмежавальныя адносіны з рознымі прыватнымі адценнямі: *выключны па сваёй значнасці, небывалы па страснасці, загадкавы па натуры, зменлівы па настрою, значны па задуме, цікавы па зместу, адшліфаваны па форме, незвычайны па размаху, чужы па духу, арыгінальны па выкананню, глыбокі па сэнсу, неаднародны па складу, просты па будове, дваісты па характару, чэрствы па прыродзе, перадавы па светаразуменню, чулы па натуры, ясны па накіраванасці, нясталы па думцы, рыхлы па кампазіцыі, манументальны па сіле, разгорнуты па ахопу, вялікі па аб'ёму, шырокі па тэрыторыі, новы па гучанню, мяккі па характару, аналітычны па стылю, яркі па майстэрству, эпічны па адлюстраванню, знішчальны па сваёй трапнасці, багаты па прыродзе* і інш. *Шлём прывет мы ад сэрца, поўны светлае любві, дарагім суседзям, родным і па мове і крыві* (А. Астрэйка. Свята дружбы). *Паэма была незвычайнай па тону, па рытмічнаму ладу, па сваёй унутранай экспрэсіўнасці* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры). *Ужо нашто стычынцы чэрствыя па сваёй прыродзе людзі, а і тыя казалі, што Палагея — залатая работніца* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Розныя па колеру і фасону, яны* [хмаркі] *часта ахаплялі вялікую частку неба* (З. Бядуля. На каляды к сыну). *Яўхім быў грубы па натуры* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Параўн. аналагічную канструкцыю з устойлівым выразам *сам па сабе* ў ролі залежнага члена: *выдатны сам па сабе, верны сам па сабе, трапны сам па сабе, цікавы сам па сабе. На вечары засталася толькі моладзь. Сярод яе была нават адна сама па сабе прывабная дзяўчына Вера Іжыцкая* (Я. Колас. На ростанях).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX ст. сустракаюцца асобныя прыклады, у якіх форма давальнага склону слова *часць* з прыназоўнікам *па* выступае ў функцыі складанага прыназоўніка *па часці*, а ў якасці залежнай формы — родны склон назоўніка: *Вельмі ж здацен быў Цімох па часці пераймання або перадражнівання каго* (Я. Колас. Чоран). *Не было сумнення, што кулак быў здаравенны і напрактыкаваны па часці груку ў дзверы позім начным часам* (Я. Колас. На ростанях). *У рыбацкай справе вёў рэй дзядзька Марцін, як самы сталы і спрактыкаваны па часці лоўлі рыбы* (там жа).

Акрамя якасных прыметнікаў, у ролі галоўнага слова ад'ектыўных словазлучэнняў з давальным склонам і прыназоўнікам *па* могуць выступаць некаторыя адносныя прыметнікі: *рускі па паходжанню, усходнеславянскі па напісанню, польскі па графіцы, школьны па прызначэнню, тутэйшы па нараджэнню, мясцовы па вырабу, тарфяны па саставу* і інш.

Асобна трэба адзначыць словазлучэнні з давальным склонам, у якіх адносны прыметнік субстантывіраваўся і выступае ў якасці назоўніка: *днявальны па пакою, дзяжурны па часці, дзяжурны па станцыі, дзяжурны па дэпо, дзяжурны па аддзяленню.*

§ 217. Словазлучэнні, у якіх пры залежнай форме давальнага склону ёсць адмоўе *не,* выражаюць адносіны неадпаведнасці прыметы: *вялікі не па росту, тонкі не па камплекцыі* і інш. *Гарачы хлопец з чорнай чупрынай, апрануты ў вялікую не па росту гімнасцёрку.., быў лепшым прамоўцам ад камсамольцаў на вербаўскіх дыспутах* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *На свет глядзіць не па ўзросту суровымі вачыма* (В. Таўлай. Янка Брыль). *Скора прывёў Ілья сюды і сваю, не па сабе маленькую жонку Настасю з сынам Якавам на руках* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Ім прыйшлося добра папацець, пакуль ускінулі на воз не па сіле цяжкія мяшкі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Ён нават пацёпаў сябе па худых, зусім не па камплекцыі танклявых нагах, весела шмаргануў носам, соладка пазяхнуў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 218. У адпаведнасці з лексічным значэннем залежнага ад прыметніка слова канструкцыі з давальным склонам могуць выражаць прасторава-лакальныя адносіны. Ужывальнасць і прадуктыўнасць гэтых канструкцый нязначныя: *вядомы па ўсёй акрузе, славуты па ўсёй мясцовасці* і інш. *Міліцыянер Цішка Каборда, вядомы па ўсёй ваколіцы вялікім спрытам выкрываць самагоншчыкаў, меў свой погляд на гэту справу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Цераз курганы і завады, відочныя па ўсёй зямлі, ад гэтых сцен, ад Валгаграда праспекты міру пралеглі* (М. Лужанін. Па кветніках). *Смелыя мы ўсе, Іванко, па завуголлю!* (І. Мележ. Людзі на балоце).

§ 219. Некаторыя словазлучэнні з давальным склонам выражаюць часавыя адносіны, якія абумоўліваюцца, як і ў папярэдніх прыкладах, лексічным значэннем залежнага слова: *апошні па часу, выдатны па таму часу* і інш. *І ўсё гэта, як нешта далёкае і па часу блізкае, уявілася без асабістых выразных здарэнняў* (К. Чорны. Захар Зынга). *Устань, дакончы справу, брат, каб хоць па смерці быў я рад* (К. Кірэенка. Спарышы).

§ 220. Нарэшце, трэба адзначыць асобныя словазлучэнні з давальным прыназоўнікавым, якія выражаюць прычынныя адносіны: *слабы па старасці, танны па беднасці* і інш. *Стаіць ля варот румындзядок, па-руску вітаецца з намі. Бародка яго па старасці срэбная, кашуля — па беднасці зрэбная, лапці — са скуры-сырыцы* (А. Зарыцкі. Было гэта ля Трансільваніі).

Такія канструкцыі сінанімічны канструкцыям са словамі *па той прычыне што, з-за таго што.* Параўн: *Не, не выпадковы гэта эпізод сялянскага жыцця, а нешта куды большае, страшнае іменна па той прычыне, што з'яўляецца параджэннем саміх адносін, самога жыццёвага ладу* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры).

Заўвага. Канструкцыі з прыназоўнікам *па* ў беларускай мове ўжываюцца з давальным склонам звычайна толькі ў адзіночным ліку; у множным ліку залежнае слова ставіцца заўсёды ў месным склоне. Аднак у наш час заўважаецца тэндэнцыя ўжываць месны склон з прыназоўнікам *па* і ў адзіночным ліку. Гэта супярэчнасць паміж сінанімічнымі формамі часам выяўляецца ў адным і тым жа кантэксце. Параўн.: *І разам з тым*

*гэта пісьменнікі вельмі* *р о з н ы я  п а  м а с т а ц к а м у  с т ы л ю, п а  т в о р ч ы м  а б л і ч ч ы* (А. А д а м о в і ч. Беларускі раман).

Супярэчнасць паміж адзначанымі формамі неабходна тлумачыць пераважна тым, што ўжыванне канструкцый з формай давальнага склону і прыназоўнікам *па* абумоўлена ўплывам рускай літаратурнай мовы, спецыфіка ж беларускай мовы патрабуе ўжывання з прыназоўнікам *па* меснага склону (аб аналагічных з'явах у іменных і дзеяслоўных канструкцыях гл. § 68—70, 126—127, 246).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ВІНАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 221. Ад'ектыўныя словазлучэнні з прыназоўнікавым вінавальным выражаюць даволі шырокі круг сэнсава-сінтаксічных адносін. Залежная форма ў гэтых словазлучэннях далучаецца да галоўнага члена з дапамогай прыназоўнікаў *за, над, па, пад, праз, у*. Па ўжывальнасці гэтыя канструкцыі не ўступаюць канструкцыям з давальным прыназоўнікавым.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *за*

§ 222. Словазлучэнні з формай вінавальнага склону назоўніка (займенніка), якая спалучаецца з прыметнікам пры дапамозе прыназоўніка *за*, могуць выражаць наступныя адносіны:

1) а б у м о ў л е н а с ц і, нярэдка з адценнем аб'ектнасці і абмежавання: *Шафёры толькі з л о с н ы я  з а  с ц ю ж ы* (А. А с т р э й к а. Зіма);

2) ч а с у: *Ён адамкнуў млын і ўвайшоў у цемень гэтых сцен, так добра яму з н а ё м ы х  з а  м н о г а  г о д* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Старшыня калгаса адчуў з в ы к л а е  з а  а п о ш н і я  ч а с ы прыемнае сцясненне ў грудзях* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце);

3) м е р ы, к о л ь к а с ц і, у д а к л а д н е н н я, а з н а ч э н н я: *Сам я д у ж  з а  д в а і х* (М. З а с і м. Здзейсненыя мары). *У ботах з д о ў г і м і,  з а  к а л е н і, халявамі* (М. Л у ж а н і н. Колас расказвае пра сябе);

4) з а м я ш ч э н н я (з аб'ектным адценнем): *Я, паверце мне, п э ў н ы  з а  я г о* (Х. Ш ы н к л е р. Сонца пад шпалы). *Цяпер ён быў амаль с п а к о й н ы  з а  Л ю д у  і  Н а т а л л ю  М і х а й л а ў н у* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *І я ў захапленні, радасны і  г о р д ы  з а  с в о й  к р а й,  н а р о д* (Я. К о л а с. Восеньскае). *Як  р а д ы  будзе ён  з а  с в а і х  з е м л я к о ў-у р а л ь ц а ў!* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця). *З а  с в а е  я б л ы к і  ё н  с м е л ы* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *Яны завылі і пайшлі: майляў, н е  в а р т а  з а  ф а т ы г у* (К. К р а п і в а. Дзве выстаўкі);

5) а б' е к т н ы я: *І, вядома, як член партыі, як  а д к а з н ы  працаўнік  з а  п р а в я д з е н н е  л і н і і  п а р т ы і  ў раёне, я не магу, не маю права маўчаць пра гэта* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *А д к а з н ы  з а  з б о ж ж а н а р ы х т о ў к і  ты, а не Кавальчук* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *З а  а д с т у п л е н н е  ж  я  а д к а з н ы* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Я вельмі і вельмі ў д з я ч н ы  з а  д а п а м о г у, якую вы абяцаеце мне* (Я. К о л а с. На ростанях).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 223. Словазлучэнні, якія ў якасці залежнай формы маюць вінавальны склон з прыназоўнікам *на*, выражаюць:

1. А б' е к т н ы я адносіны (часта з абмежавальным адценнем): *памятлівы на зло, гатовы на бой, няздольны на гераізм* і інш. *Васіль быў лагодны, н е  п а м я т л і в ы  н а  з л о  чалавек* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Стась аказаўся гаваркім і  г а т о в ы м  н а  р о з н ы я  паслугі чалавекам* (Я. К о л а с. На ростанях). *Мы людзі бес-*

*турботныя, на ўсё добрае ахвотныя* (Я. Колас. На ростанях). *І гэта ноч, як бы жывая, і быццам нешта яна знае, але аб тым казаць не хоча, бо на размовы не ахвоча* (Я. Колас. Новая зямля). *Народ усё шляхтаваты, на чужую пачостку сквапны* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *На пачастункі памаўклівы* (Я. Колас. Новая зямля). *Хапае ў нас прыварку, на гэта не жадны* (М. Лужанін. Хадок).

Беларускай мове ўласціва ўжыванне вінавальнага з прыназоўнікам *на* ў словазлучэннях з прыметнікам *хворы*, якія паўтараюць адпаведныя дзеяслоўныя канструкцыі, параўн.: *хворы на тыф — хварэць на тыф* (аб канструкцыі з творным склонам гл. § 172). *Усе дзеці хворыя на жываты* (П. Пестрак. Серадзібор). *Гаварылі, што ён хворы на тыф* (М. Лобан. На парозе будучыні). *На выгляд — нішто сабе людзі, а хворы на сверб языка* (М. Лужанін. Я верую ў вецер эпохі). *У асобе Касцевіча маем эрудыта, але хворага на радыкальныя погляды* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Чалавек быў хворы на сухоты* (Б. Мікуліч. Дужасць).

2. Адносіны прызначэння, мэты (нярэдка з рознымі дадатковымі сэнсавымі адценнямі): *прыгодны на апал, патрэбны на будаўніцтва* і інш. *Бо як ты пазнаеш без аналізу, годная гэтая плаўка на камбайнавы нож ці на танкавую браню!* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Прыгодны на ўсе выпадкі* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Збожжа там патрэбна і на яду і на насенне* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *І статная, і прыгожая, і на работу спраўная* (А. Чарнышэвіч. Адам Ждан).

3. Абмежавальныя адносіны (часта з іншымі сэнсавымі адценнямі): *цвёрды на нагу, кульгавы на левую нагу, спрытны на розум, жвавы на вочы, бойкі на слова, сляпы на адно вока, тугі на вуха, скоры на слязу, слабы на грудзі, асцярожны на словы, слабкі на жывот, чуйны на сон, спрытны на одум, цяжкі на руку, стары на гады, прыгожы на постаць, непераборлівы на яду, салодкі на смак, суровы на выгляд* і інш. *Вярнуўся з воласці іхні вясковец — каваль Міхалка Сайчук — самы спрытны на язык чалавек* (З. Бядуля. Год за годам). *Добры хлопец Быстроў, хоць і востры на язык* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Кастусь Верамейчык, чалавек прыцiслівы, скрытны і на словы асцярожны* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

4. Цэлы рад прыметнікаў утварае словазлучэнні з абмежавальнымі адносінамі, у якіх (словазлучэннях) залежная форма вінавальнага склону з прыназоўнікам *на* раскрывае разам з тым унутраны змест прыметы: *багаты на ўражанні, бедны на галіны, шчодры на падарункі, урадлівы на таленты, скупы на сонца* і інш. *Жыццё ў людзей было не надта багатае на падзеі, на ўцехі* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Гэта быў даўгі маўклівы мужык з апатычным выразам беднага на праслінаасць твару* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Падстаўляла кулям свае грудзі маладосць на радасці скупая* (А. Звонак. Чапаеў). *Тут прычынілася ўся зямля, змучаная на той час, але ўрадлівая на таленты* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Падступала ўжо да высокіх гарадскіх берагоў цяжарная на веснавую паводку рака* (Б. Мікуліч. Дужасць).

5. Азначальныя адносіны з адценнямі ступені або меры праяўлення прыметы, выражанай галоўным словам: *на дзіва мужны, на рэдкасць вясёлы, на здзіўленне ціхі* і інш. *З хаты чуваць высокі, малады і на дзіва чысты голас* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Калі яна клала гэтыя тамы, я бачыў тонкія, на дзіва прыгожыя пальцы яе рук* (Я. Скрыган. Дакументальная рэвізія). *О, цяпер ён храбёр, гаваркі на здзіўленне* (М. Лужанін. Мая ручаіна).

6. Пры некаторых прыметніках адзначаецца ўжыванне вінавальнага склону імён, якія паказваюць межы пашырэння прыметы ў прасторы; такія імёны, як правіла, маюць пры сабе займеннік *увесь* або прыметнік *цэлы*: *вядомы на ўсю краіну, перадавы на ўвесь раён, слынны на ўвесь свет, відны на ўсю рэспубліку, чутны на ўвесь край* і інш. *Неяк на Амуры... дырэктар аднаго з вядомых на ўсю краіну заводаў... частаваў нас, групу літаратараў, гасціннай чаркай і рыбацкімі расказамі* (Я. Брыль. Разумна, сардэчна, весела). *Можа чутны на цэлы свет, лёгкім птахам ляціць экспрэс* (К. Кірэенка. Экспрэс Брэст — Масква). *Гэй ты, князь! Гэй, праслаўны на цэлы бел-свет!* (Я. Купала. Курган).

Заўвага. Асобна стаяць прыклады, у якіх форма вінавальнага склону, удакладняючы прыметнік, выступае ў якасці адасобленага члена канструкцыі: *Лабановіч праступіў высокі, амаль на локаць, парог і спыніўся каля дзвярэй* (Я. Колас. На ростанях). *З самага дна падымалася доўгая, на ўсю глыбіню, трава, нібы тонкія ніці* (там жа). *Цераз невялічкі садок у глыбіні двара стаяў яшчэ адзін доўгі, на восем акон, дом* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Пацягнулася вялікая, на ўсё сяло, працэсія к могільніку* (там жа). *Нарэшце ён угледзеў клок Галілеевай барадзёнкі, які тырчаў з высокіх — на ўзровень печы — палацяў* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Яраш выключыў устаноўку і бесценявыя лямпы і адышоў да шырачэзнага — на ўсю сцяну — акна* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

7. Адносіны ступені, меры або колькасці: *Ён успамінаў цяпер, што калі на вуліцы ў Мінску сустракалася дзяўчына, на адно каліва падобная на Кацю, ён глядзеў ёй услед* (А. Чарнышэвіч. Дзіцятка горкае).

Непрадуктыўную групу складаюць словазлучэнні з займеннікавай формай вінавальнага склону *на што*, якая не канкрэтна, у агульных рысах паказвае высокую ступень праяўлення прыметы, выражанай галоўным словам — прыметнікам. Па значэнню такія канструкцыі аналагічны канструкцыям з формай *да чаго* (гл. § 192): *Нават цяпер — на што ўжо быў непрытомны — а не здрадзіў сабе* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

8. Часавыя адносіны з адценнямі абмежавання, меры і г. д.: *адзіны на той час, важны на гэты момант, спакойны на гэты раз. Рэнтабельная на свой час была машына* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Андрэй стаў на момант сур'ёзны* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *На ўсё жыццё вам удзячны* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Ідзе трэці, на гэты раз мірны штурм Сіваша* (з газет).

Сюды можна аднесці структурна аналагічныя канструкцыі з выразамі *на першы погляд (позірк), на сённяшні позірк*, прычым апошнія побач са значэннем часу таксама ўказваюць на абмежавальнае адценне: *прасцяцкі на першы погляд* (А. Адамовіч. Беларускі раман); *выразны на першы погляд* (там жа); *дзяўчына на першы позірк непрыгожая* (І. Шамякін. Сэрца на далоні); *зусім практычнае на першы погляд пытанне* (Ю. Пшыркоў. Беларуская савецкая проза); *дзіўна няўдалы на сённяшні позірк* (Я. Брыль. Крыніцы сілы).

Заўвага. Выраз *на першы погляд*, паясняючы прыметнік, можа выступаць у ролі адасобленага члена канструкцыі: *Ніхто не слухаў з такой увагай яго, на першы погляд, смяхотную і пустую гаворку, як Зелянюк* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

9. Адносіны адпаведнасці-неадпаведнасці: *жвавы не на свой узрост, яшчэ спрытны на свой узрост* і інш. *Гэта быў чалавек гадоў пад шэсцьдзесят пяць, з доўгай белай барадой, высокі, на дзіва стройны і спрытны на свой узрост* (З. Бядуля. Салавей).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *над*

§ 224. Словазлучэнні з прыназоўнікам *над* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый у беларускай мове. Выражаюць яны звычайна азначальныя адносіны з адценнем меры або ступені

праяўлення прыметы, названай галоўным словам. У якасці залежнага слова тут, як правіла, выступае назоўнік *мера: над меру смешны, над меру салідны, над меру гарачы, над меру абыякавы* і інш. *Віктар звыжна ківае галавой і над меру салідным тонам канстатуе* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *«Ключ» аказаўся над меру складаным* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 225. Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Выражаюць яны прасторавыя адносіны; залежнае слова ўказвае на межы распаўсюджвання прыметы, названай галоўным словам: *мокры па грудзі, загарэлы па калені* і інш. *А дзед стаіць на румкў мокры аж па самыя грудзі* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Хоць вушамі плаціў за прыгодніцкі спрыт, але, мокры па пояс, камандаваў флотам* (М. Лужанін. Замбезі). *Неўзнарок позірк яго спыніўся на яе нагах, стройных, прыгожых, па калені бронзавых ад загару* (І. Шамякін. У добры час). *З лесу, з бакавых дарог і дарожак пачалі выходзіць касцы: у лазовых лапцях, мокрыя па калені, загарэлыя, стомленыя* (П. Пестрак. Серадзібор).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 226. Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Яны выражаюць:

1. Азначальныя адносіны; залежнае слова раскрывае характар (якасць) прыметы, названай галоўным словам: *З коміна, дзе ўткнута шэрая пад колер сталі гліняная труба, тараплівa, як бы яго ліхаманка трасе, плыве-бяжыць сіняваты дымок* (Я. Колас. Адшчапенец).

Параўн. прыклад, дзе залежнае слова знаходзіцца ў адасобленым становішчы — як удакладняючая форма: *Шчыльнымі зрабіліся шэрагі— і роўнымі, пад адзін, людзі ў іх* (Б. Мікуліч. Дужасць).

2. Прасторавыя адносіны (часта з адценнем меры, ступені): *Узнёслыя пад неба кроны пальм* (М. Паслядовіч. Паўстанне).

Параўн. прыклад, дзе залежнае слова знаходзіцца ў адасобленым становішчы — як недапасаванае азначэнне: *Адзін раз Андрэй, назбіраўшы поўны, пад самую ручку, кош дасканалых баравікоў, зайшоў па дарозе ў гумно праверыць — там Янка ці пацягнуўся куды* (Я. Колас. На ростанях).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *праз*

§ 227. Словазлучэнні з прыназоўнікам *праз* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Выражаюць яны пераважна наступныя адносіны:

1. Уступальна-аб'ектныя: *Ён прысеў на тахту, асцярожна дакрануўся да яе пляча, гарачага і праз шоўк сарочкі* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

2. Азначальныя (з адценнем меры, ступені). У якасці залежнага слова тут, як і ў канструкцыях тыпу *над меру высокі*, выступае звычайна назоўнік *мера: праз меру далікатны, праз меру кплівы, праз меру ўдзячны, праз меру старанны, праз меру адданы, праз меру балючы* і інш. *Голас у яго быў праз меру танклявы* (Я. Колас. На ростанях). *Там праз меру ўсе лагодны* (З. Бядуля. У Ясных Крушнях).

3. Прычынныя: *У вочы яму кінулася некалькі чырвоных распараных тварай, на якіх тлуста блішчала на момант зацятая, але праз тое яшчэ больш агідная злараднасць* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

4. Часавыя: *Учора, калі дзень хіліўся да вечара і па кутках асядаў прыцемак, не было відаць парэпін гэтай так вядомай праз жыццё хаціны* (П. Пестрак. Серадзібор). *Ён незадоўга перад гэтым вярнуўся ў Сівец, адкуль адсутны быў праз цэлых сем год* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *у*

§ 228. Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Аднак па значэннях яны даволі разнастайныя. Яны могуць выражаць:

1. Часавыя адносіны (з абмежавальным адценнем). У такіх словазлучэннях залежнае слова (*час, часіна, пара, год, мінута, дзень, момант* і інш.) мае, як правіла, пры сабе азначэнне: *вядомы ў свой час, папулярны ў свой час, малады ў свой час, модны ў той час, звычайны ў той час, перадавы ў той час, адсталы ў тыя часы, патрэбны ў гэту хвіліну, шчаслівы ў гэты момант, незвычайны ў гэтыя дні, неабходны ў дадзены час, любы ў гэту часіну, гарачы ў першыя дні, гатовы ў пару* і інш. *Ён* [Чарнушка] *устаў яшчэ да ўсходу позняга ў гэту пару сонца* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Неўзабаве ўехалі ў лес, невялікі і голы, але цудоўна прыгожы нават у гэтую пару* (там жа). *Гэта быў вядомы ў той час сярод палітычных падсудных сапраўдны стацкі саветнік Бабека* (Я. Колас. На ростанях). *Пасля невялікага ў тую ноч перапынку гідрастанцыя давала першы ток на вытворчыя патрэбы* (І. Шамякін. У добры час).

2. Азначальныя адносіны: *шэры ў палоску, сіні ў белыя кветкі, чырвоны ў крапінкі, жоўты ў гарошынкі* і інш. *Паркаль сіні ў белыя гарошынкі* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *На ім доўгі **паркалёвы ў палоскі халат*** (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Вось табе, маці,—узмахнуў ён у паветры сіняю ў гарошынку хусткай,—а гэта Марфачцы,—і падаў сястры партфель* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Проста адзетая ў квяцістую блузку, цёмную спадніцу і павязаная белай у бобачкі хусткай, яна больш за ўсё была падобна на гаспадыню добрай рабочай сям'і* (Я. Скрыган. Дом № 9). *І матылькі зляцеліся, чырвоныя, у крапінку* (А. Астрэйка. Ёлка). *Не дапамог Паддубнаму і цёмна-карычневы касцюм з вішнёвым у белыя кроплі гальштукам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

3. Адносіны ступені або меры праяўлення прыметы; гэта значэнне ўскладняецца звычайна адценнямі адпаведнасці або неадпаведнасці. Залежным словам у такіх канструкцыях звычайна з'яўляецца назоўнік *мера: у меру строгі, гарачы не ў меру* і інш. *О, пушча, цёмная не ў меру, чыя душа з табой не дрогне?!* (Я. Купала. Лес). *Я тут партрэт яго зазначу. Ён невысок, не надта ёмак, ды карчавіты і няўломак, а волас мае цёмна-русы, і зухаўскія яго вусы у меру доўгі, густаваты, угору чуць канцы узняты* (Я. Колас. Новая зямля).

Параўн. аналагічную канструкцыю ў якасці ўстойлівага звароту: *Аказваецца, гэты Карнікевіч быў п'яны ў дым* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Старому ўспаміналася, як крывароты, п'яны ў дым, хваліўся Яўхіму* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Асобную разнавіднасць словазлучэнняў з адносінамі ступені або меры складаюць словазлучэнні, у якіх прымета, выражаная прыметнікам, дапаўняецца ўказаннем на больш ці менш дакладную колькасную меру (прасторавую або часавую). У такіх выпадках залежная форма,

як правіла, адасабляецца: *За гумнамі, за н е ш ы р о к а й — к р о к а ў у с т о а б о д з в е с ц е — палянкай... залёг стары Дняпро* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Яму прывялі м а л а д о г а — г а д о ў у д в а ц ц а ц ь — сялянскага хлопца, які страшна спалохаўся* (там жа). *Пацяроб збочыў на в у з е н ь к у ю, у а д н у с т у п н ю, Галілееву сцежку* (М. З а р э ц к і. Вязьмо). *Там збочыла яна на в у з е н ь к у ю, у а д з і н с л е д, сцежачку* (там жа). *Ён вечна дыміў люлькай — старасвецкай бурштынавай з д о ў г і м, у д в а а р ш ы н ы, плеценым цыбуком* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах). *Гадзюка, трымаючыся за зямлю нізам свайго досыць т о ў с т а г а, у т р ы м у ж ч ы н с к і х р у к і, цела, выгнула каранаваную галаву і ўтаропіла вочы ў твар старога* (Б. М і к у л і ч. Гадзюка ў кароне).

4. Адносіны п р ы з н а ч э н н я або м э т ы (часам з адценнем аб'ектнага і акалічнаснага значэнняў): *варты ў артысты, прыгодны ў ежу, годны ў салдаты, гатовы ў паход, гатовы ў дарогу* і інш. *А работнік хоць куды — в а р т ы ў д э п у т а т ы!* (А. Б я л е в і ч. Добрыя людзі). *Адзін момант і адна постаць асабліва востра ўрэзаліся ў памяць: адзеты, г а т о в ы ў д а р о г у, з кіем у руцэ, без шапкі стаіць бацька* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *І краны, як птушкі, г а т о в ы ў п а л ё т* (А. А с т р э й к а. Шчасце муляра). *І ўжо ў п а х о д ізноў г а т о в ы супроць пустынь, супроць вятруг* (М. Л у ж а н і н. На новых прасторах).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 229. У сучаснай літаратурнай мове ад'ектыўныя словазлучэнні з творным склонам складаюць прадуктыўны тып канструкцый. Утвараюцца гэтыя словазлучэнні пры дапамозе ўсіх уласцівых творнаму склону прыназоўнікаў: *з, за, над, пад, перад (прад), паміж (між), побач.* Дзякуючы гэтаму круг значэнняў, якія выражаюць словазлучэнні з творным склонам, даволі шырокі.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*

§ 230. Самую прадуктыўную групу складаюць словазлучэнні, якія выражаюць а б'е к т н ы я адносіны (часта з адценнямі абмежавання, прыпадабнення, пpaстораавым і г. д.): *пагранічны з Польшчай, суседні з вёскай, сумесны з астатнімі, узаемны з залай, агульны з таварышамі, адзіны з народам, сходны з астатнімі, сугучны з эпохай, суадносны з ім, суладны з традыцыяй, непараўнальны ні з чым, непадзельны з возам, неразлучны са скрыпкай, несумяшчальны з годнасцю чалавека, знаёмы з медыцынай, не згодны з пастановай, асцярожны з людзьмі, гаваркі з прыяцелямі, ласкавы з сынам, добры з падначаленымі, шчыры з жонкай, далікатны з сяброўкай* і інш. *Яна* [Марыля] *жала пшаніцу і выжала сваю дзель, р о ў н у ю з у с і м і, хутчэй за ўсіх* (П. П е с т р а к. Серадзібор). *Адзін снарад упаў на край с у с е д н я г а з Ю р ы е м акопа* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Іншы раз ён ціхенька адчыніць веснічкі і ўвойдзе ў двор школы, зазірне ў пакойчык, с у м е ж н ы з к у х н я ю* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Два акны выходзілі на двор, а сенцы былі а г у л ь н ы я з с у с е д н я й к в а т э р а й* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

§ 231. Прадуктыўную групу складаюць словазлучэнні, у якіх залежная форма творнага склону з прыназоўнікам з выражае а з н а ч а л ь н ы я адносіны: *шэры з абляможкай, белы з пояском, чырвоны з жаўцізною, тонкі з гарбінкай, сіні з белым гарошкам* і інш. *Пяць дзён свяціла сонца, дарогі ўсе пахлі вільгаццю пасля дажджоў — ч о р н ы я з ж о ў т ы м і а д ц е н н я м і гліны* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Цалуе Зося малюсенькі ч ы р в о н ы з ж а ў ц і з н о ю лобік і зноў бяжыць у хлеў* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *З-пад казырка карычневай суконнай*

*кепкі востра глядзелі* *шэрыя са стальным бляскам вочы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У яе шэрых з сінявінкай вачах ён прачытаў спачатку нешта падобнае на здзіўленне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І вось яна стаіць... высокая, стройная, у шэрай з сінім футболцы* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Заўвага. У такіх словазлучэннях залежная форма творнага склону можа адасабляцца ад галоўнага слова — прыметніка: *рухавая — з падскокам — фігура; хрыплы, з падсвістам, голас; чорныя, з сінім адлівам, валасы. На шырокіх, з разваламі, закіданых саломай санях сядзела жанчына* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Бачыць і асобныя новыя, жоўтыя кажухі і свежыя, з чырванню, твары* (там жа). *На фоне чорнага коцікавага каўняра яе русыя, з залатым адлівам, валасы, крышачку ўскудлачаныя, здаліся яму надзвычай прыгожымі* (І. Шамякін. Крыніцы).

У некаторых словазлучэннях з азначальнымі адносінамі залежная форма адначасова ўказвае на ступень праяўлення прыметы, выражанай галоўным словам: *І радаваўся ручаям, празрыстым, поўным з берагамі, у іх ён адбіваўся сам, ляжала неба пад нагамі* (М. Лужанін. На новых прасторах).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *за*

§ 232. Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Залежная форма ў іх можа выражаць:

1. Прасторавыя адносіны з адценнем абумоўленасці: *непрыкметны за дрэвамі, невідочны за дамамі* і інш. *Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма,— сціплая, непрыкметная за нязграбным плотам, блізка да вялікіх дрэў* (І. Мележ. Людзі на балоце).

2. Прычынныя адносіны: *разумны за чужым клопатам, смелы за спіной другіх* і інш. *Ты разумны вельмі за бацькавым клопатам* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

3. Часавыя адносіны з прычынным адценнем: *цьмяны за часам, патускнелы за часам* і інш. *Уваскрасалі ў памяці цьмяныя за часам, дробязныя — як здавалася тады — факты, здарэнні, якія знайшлі фіксацыю ў спадарожніку-блакноце* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *над*

§ 233. Словазлучэнні з прыназоўнікам *над* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый у сучаснай мове. Залежная форма ў гэтых словазлучэннях можа выражаць:

1. Аб'ектныя адносіны; такія словазлучэнні могуць паўтараць адпаведныя дзеяслоўныя словазлучэнні (параўн.: *кплівы над усімі — кпіць над усімі*), а могуць выступаць і як самастойныя па ўтварэнню канструкцыі (*не ўладны над ім, бяссільны над героем*). *І ўжо зусім затапляла ўсе пачуцці нявыказаная словамі вялікая радасць, што вельмі ж вось падабаецца Алесь; што яны ўдваіх едуць на яго возе купляць, што ім патрэбна, што можа яна паклікаць яго, здаровага, кплівага над усімі, і ён ціха прыйдзе да яе* (К. Чорны. Па дарозе). *Над ім* [Жыжкам] *не ўладна тло гадоў, яго зачын гарыць яскрава* (М. Лужанін. На кургане Віткаў). *Смерць бяссільна над героем — між намі вечна жыць ён будзе* (Я. Колас. Памяці В. П. Чкалава).

2. Прасторавыя адносіны: *светлы над лесам, непрыкметны над полем, незаўважны над морам* і інш. *Дым віўся з ледзь прыкметнага над страхою коміна* (П. Пестрак. Лясная песня). *Паветра было нерухомае, душнае, празрыстае над лугам, дымнае ад пылу над вёскай і полем* (І. Шамякін. У добры час). *А заўсёды цёмныя над снягамі саснякі на ўзгорках робяцца белашызымі* (І. Шамякін. Крыніцы).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 234. Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Яны могуць выражаць:

1. Прасторавыя адносіны (нярэдка з абмежавальным і часавым адценнем або з адценнем абумоўленасці): *дрогкі пад калёсамі, вузкі пад пахамі, бліскучы пад вясновым сонцам, цёплы пад хусткай* і інш. *Вуліца ў сялцы вузенькая, крывая, вытахчаная ламаччам, як грэбля ў балоце, гразкая, дрогкая пад калясьмі* (Р. Мурашка. Сын). *Варвон Крук... выцягнуўся ў сваім пажарніцкім шынялі, такім вузкім пад пахамі, што аж заняло дых* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі). *Ляжыць яна, галубанька, старая, агромністая пад вясновым сонцам і сіроча, і маркотна чакае на свайго гаспадара-чалавека* (Р. Мурашка. Сын). *Снег пад месяцам сінявата-іскрысты мяняецца, мільгаціць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Галава схілілася набок, лягла на плячо... І яно—такое мяккае пад пушыстым палітом* (П. Пестрак. Серадзібор). *Уся груша пад сонцам была радаснай і святошнай* (М. Лынькоў. Васількі).

2. Аб'ектныя адносіны з некаторымі іншымі адценнямі: *вядомы пад прозвішчам, пад назвай* і інш. *Пятым ад канца вуліцы стаяў стары дзеравяны дом у адну кватэру, нізенькі і падгніўшы, адкуплены даўно ад управы чыгункі Дзянісам Пляцінскім, вядомым тут пад прозвішчам бочкавоза* (К. Чорны. Захар Зынга) *Вы, нарэшце, пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў і адчуваеце, што ўжо не здольны скарыстаць параду дасведчаных людзей і наведаць у той жа дзень музей васковых фігур, вядомы тут пад назвай музея мадам Тысо* (К. Крапіва. Лондан).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж* (*між*)

§ 235. Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж (між)* складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Яны могуць выражаць:

1. Прасторавыя адносіны з адценнем абмежавальным і адпаведнасці-неадпаведнасці: *цёмны між дрэвамі, светлы між дамамі, звычайны паміж сябрамі* і інш. *Ды і распранацца яму было не з рукі: распранацца можна было толькі ў кампаніі роўных паміж сабою людзей* (Я. Колас. Дрыгва).

2. Адносіны сумеснасці або раздзельнасці; у якасці залежнага кампанента тут выступае звычайна форма *сабою: незнаёмыя паміж сабою, роўныя між сабою, падобныя паміж сабою. Незнаёмых між сабою людзей цяпер аб'ядноўвае на гэтай доўгай скамейцы адна і тая самая думка: — Ці хутка прыдзе аўтобус на Шапалевічы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Гаспадары і госці рады, жычлівы, ветлы між сабой* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Нават блізкія між сабою людзі, як мужык з жонкаю, не асмельваюцца пры другіх сказаць адно аднаму ласкавае слова* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пісьменніцкае асяроддзе складаецца з талентаў яркіх і менш яркіх, не падобных паміж сабой* (Я. Колас. Аб літаратурнай працы).

3. Адносіны вылучэння; залежнае слова ўказвае на асяроддзе, з якога пэўнай прыметай, названай галоўным словам, вылучаюцца асоба, прадмет ці з'ява: *слаўны між байцамі, выдатны між гарадамі, знакаміты між мастакамі, нястомны між намі* і інш. *Камандзір разведкі Горны слаўны быў між партызанаў* (П. Броўка. Калгасны мельнік). *Цябе прашу я аб адным, нястомная між намі* (П. Броўка. Пасіянарыя). *І як славай ратнай, так і працай знатнай між сталіц рэспублік ты цяпер выдатны* (П. Глебка. Мінск).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад* (*прад*)

§ 236. Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад (прад)* адносяцца да разраду малапрадуктыўных канструкцый. Яны выражаюць:

1. А б' е к т н ы я адносіны з некаторымі дадатковымі сэнсавымі адценнямі: *вінаваты перад народам, чысты перад людзьмі, непахісны перад ворагам, непаслухмяны перад бацькам, безабаронны перад прыродай, бяссільны перад цяжкасцямі, горды перад людзьмі, адказны перад народам* і інш. *Я, мама, в і н а в а т ы п е р а д т а б о ю* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Не глядзіць* [хлапец] *на Паліну, нібыта яна альбо ён п е р а д ё й в і н а в а т ы* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Хіба ж п е р а д к і м я в і н н а, што так радасці хачу?* (А. А с т р э й к а. Я не з тых, што жалю варты). *І шкада стала ёй, што адправіла яна так хутка дадому п а с л у х м я н а г а п е р а д ё ю Асташонка* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Цесны саюз народаў, як вечная скала, стаў н е п а х і с н ы п е р а д в о р а г а м* (К. Ч о р н ы. Добры дзень, беларуская зямля!).

2. У некаторых словазлучэннях яскрава выступаюць адносіны а б у м о ў л е н а с ц і, якія ўскладняюцца яшчэ параўнальным адценнем: *малы перад гігантам, слабы перад ракой* і інш. *Гляне на цябе з поля хітрая ноч, мацней абніме цябе, м і з э р н а г а т у т п е р а д ё ю з тваімі даўнейшымі планамі* (К. Ч о р н ы. Новыя людзі). *Ён сядзеў цяпер гэтакі м а л ы і с л а б ы п е р а д ё ю* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Млын знадворку быў, як палахлівы злодзей... усё баязліва скрыпеў ды стукаў, с л а б ы п е р а д р а к о й* (К. Ч о р н ы. Мельнікі).

3. Ч а с а в ы я адносіны з абмежавальным адценнем: *апошні перад вайной, прывычны перад боем* і інш. *Камсамолец Віктар скрозь чорную ноч, скрозь лютую, мабыць, а п о ш н ю ю п е р а д в я с н о й, завіруху ехаў у далёкую незнаёмую вёску шукаць свайго друга* (М. З а р э ц к і. Вязьмо). *І на гэтым скончылася іхняя а п о ш н я я п е р а д р а з л у к а й размова* (там жа). *А п о ш н і я п е р а д в я с е л л е м дні ішлі ў хлапатлівай гонцы* (І. М е л е ж. Людзі на балоце). *У грудзях было п р ы в ы ч н а е п е р а д б о е м адчуванне нейкай пустаты, калі іншыя пачуцці змяняе адно — чаканне і прага блізкай бітвы* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *У с т у п н а я п е р а д г э т ы м гутарка была прысвечана Ракопавай асобе: адкуль ён і хто?* (Я. К о л а с. Адшчапенец).

У такіх словазлучэннях форма творнага склону, паясняючы галоўнае слова (прыметнік), можа адасабляцца ад яго: *Панас сядзеў каля стала і слухаў у с т у п н у ю, п е р а д п а ч а т к а м с х о д у, прамову Камекі* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах).

4. П р а с т о р а в ы я адносіны з абмежавальным адценнем: *наступны перад горадам, апошні перад вёскай* і інш. *Цягнік прыпыніўся на хвіліну на невялікай станцыі, а п о ш н я й п е р а д г а р а д к о м* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *побач з*

§ 237. Словазлучэнні з прыназоўнікам *побач з* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Выражаюць яны п р а с т о р а в ы я адносіны з абмежавальным ці параўнальным адценнем: *Невялікія, чорныя цяпер, домікі, густа налепленыя на кавалак зямлі, агеньчыкамі лямп міргаюць у полі, а над імі высока ўзняліся белыя камяніцы цэркваў (манастырскіх і гарадскіх), і чорная, удзень чырвоная, стромкая каланча, а д з і н о к а я п о б а ч з ц э р к в а м і* (П. Г а л а в а ч. Яўленая).

§ 238. Залежнае слова (назоўнік, займеннік) у месным склоне далучаецца да прыметніка пры дапамозе прыназоўнікаў *аб, на, па, пры, у*. Структурная разнастайнасць такіх словазлучэнняў абумоўлівае шырыню іх ужывання і даволі значны круг уласцівых ім сэнсава-граматычных адносін. Праўда, не ўсе яны аднолькава прадуктыўныя ў сучаснай мове. Больш прадуктыўнымі з'яўляюцца словазлучэнні з прыназоўнікамі *у, на, па*.

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб*

§ 239. Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб* складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый. Узніклі яны пад уплывам адпаведных дзеяслоўных і назоўнікавых канструкцый. Выражаюць такія словазлучэнні аб'ектныя адносіны: *спакойны аб ім, дбайны аб сыне* і інш. *Яна яшчэ будзе сёння ў прыгодзе, хай ён будзе спакойны аб ёй, яна яшчэ пакажа сваё!* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Я даўно яе не бачыў, а яна такая дбайная аб усіх нас* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 240. Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* выражаюць звычайна прасторавыя і часавыя адносіны, а таксама адносіны абумоўленасці, абмежавання і адпаведнасці-неадпаведнасці.

§ 241. Чыста прасторавыя адносіны выражаюцца параўнальна нямногімі словазлучэннямі; гэта наглядаецца звычайна тады, калі прыметнік па ўтварэнню звязан з дзеясловам: *прысутны на сходзе, адсутны на канюшні* і інш. *Член рэвізійнай камісіі, юнак Міцька, узлаваны непадкупнасцю аўчаркі, крычыць, што старшага конюха Гіля, адсутнага на канюшні, за такія парадкі трэба аштрафаваць* (Я. Брыль. Праўда характараў).

§ 242. Вылучаецца група словазлучэнняў з адносінамі абумоўленасці прыметы, названай галоўным кампанентам; прасторавае значэнне тут з'яўляецца другарадным: *светлы на сценах, цёмны на падлозе, шэры на дне, прыгожы на пэўнай адлегласці* і інш. *Гідраплан застаўся адзін, лёгкі і белакрылы на сіняй гладзі бухты* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Шэры, невыразны на фоне шорсткай постаці ржэўніку, камяк каціўся перад Шайтанам якраз на Дзяміда Сыча* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Нейкі камяньчык трапіў пад нагу, а ты яго так шпурнеш наском чаравіка, што ён аж загудзе, уздымаючы клубочкі ружовага на сонцы пылу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А па яго* [Мушкі] *абросшым рэдкімі валасамі твары паўзла буйная, яскрава-чырвоная на сонцы казяўка* (П. Галавач. Уцякач). *Чорныя на белым фоне знізу і зверху, яны* [вароны] *навявалі вакол нейкую строгую ўрачыстасць* (З. Бядуля. Год за годам). *На ім* [іржэўніку] *роўнымі радамі ляжалі кучкі залатой на сонцы саломы* (І. Шамякін. У добры час). *Тыя ж цяжкія крокі, гулкія на паркеце, мяккія з шоргатам на дывановай дарожцы* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 243. У некаторых словазлучэннях выяўляюцца абмежавальна-прасторавыя адносіны: *лагодны на твары, няспрытны на зямлі, шырокі на канцы, сівы на скронях, неабходны на будаўніцтве* і інш. *Недзе з самага пачатку поезда прабралася ў купэ святло, і кожны ўбачыў адзін другога змякчэлым, лагодным на твары* (П. Пестрак. Серадзібор). *За перагародкаю пры стале сядзеў начальнік пошты, сярэдніх год чалавек з кароткім і шырокім на канцы носам* (Я. Колас. На ростанях). *Куртаты, шыракаваты на канцы і*

*трохі задзёрысты нос яго падняўся ўгору і апусціўся ўніз* (Я. Колас. Дрыгва). *Яшчэ ўчора ўвечары вільготны на вуліцы пыл і пясок за ноч у марозе ацвярдзелі, пазмярзаліся* (Р. Мурашка. Сын). *Наўкруга, як толькі можа акінуць вока, плыве і плыве збажына, чуць-чуць зеленаватая ў лагчынах і ўжо чыста жоўтая на пагорках* (Я. Скрыган. Як спявалі песню).

§ 244. Сярод словазлучэнняў з прыназоўнікам *на* ёсць словазлучэнні, якія выражаюць часавыя адносіны з прасторавым і абмежавальным адценнямі: *дакладны на службе, уважлівы на занятках, вясёлы на прагулянках* і інш. *Сняцца Эме прыгожыя сны залатога маленства, як песні, сакавітыя на прадвесні* (П. Глебка. Эма). *Трывалы на кожнай рабоце і ў бойцы быў смелым заўсёды* (М. Машара. З цыкла «Мсцівец»). *Ты на працы крэпак, дуж* (Я. Колас. Роднаму краю і народу). *Паміж імі стаіць раздвоены Станіслаў Бутрымовіч, дакладны на службе міліцыянер* (П. Пестрак. Раздвоены). *Рукі, такія хуткія і ўмелыя на зборцы машын, тут як бы выйшлі з-пад улады* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Ён вельмі лёгкі на бягу* (М. Лужанін. Хто робіць пагоду).

Для некаторых словазлучэнняў характэрны часавыя адносіны без выразных дадатковых адценняў: *А гора тваё, на пачатку малое, пачне прыбываць* (Я. Купала. Сватаная). *А пытанні гэтыя пастаўлены як эпізадычныя, а праз іх і сама справа фактычна зводзіцца да, як каштоўнага толькі на тым этапе, эпізоду* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію). *Слепаваты ён на старасці, мабуць, — не бачыць, што трэба рабіць!..* (І. Мележ. Людзі на балоце).

§ 245. Нарэшце, трэба адзначыць словазлучэнні, якія выражаюць адносіны адпаведнасці або неадпаведнасці; гэта значэнне таксама дадаткова мае прасторавае адценне (залежнае слова ўказвае на месца праяўлення прыметы): *звычайны на будаўніцтве, незвычайны на вуліцы, ветлівы на грубым твары* і інш. *Звычайная на будаўніцтве постаць вусатага вартаўніка тупала ля варот* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). *Размінаючыся з Рыгорам,* [Грамабой] *першы схіляе галаву з засмучанай ветлівасцю, такою штучнаю на яго грубым твары* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 246. Беларускай мове ўласціва ўжыванне ад'ектыўных канструкцый з формай меснага склону множнага ліку з прыназоўнікам *па*, якія сінанімічны адпаведным канструкцыям з формай давальнага склону адзіночнага ліку. Гэтыя словазлучэнні могуць выражаць:

1. Прасторава-абмежавальныя адносіны: *светлы па баках, чорны па канцах, зялёны па абочынах* і інш. *З пачатку цёмная, па канцах рыжая барада яго пачыналася чуць не ад самых вачэй* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Вось і ён — канал, які і ў цемры ночы не траціў свае самабытнасці. Кучаравы па берагах, ён сцішана туліўся пад лёгкаю, мяккаю імглою, паблісківаючы сваім люстрам* (П. Пестрак. Серадзібор). *Пясчаная жоўтая дарога, зялёная па абочынах, вілася ўверх да млына* (П. Пестрак. Апошні крыж).

2. Прычынныя адносіны: *адсутны па невядомых прычынах. Паказанні сведак, адсутных па законных прычынах, суд пастанавіў агаласіць у свой час* (Я. Колас. На ростанях).

3. Абмежавальныя адносіны: *адсталы па поглядах, розныя па маштабах, розныя па адценнях, аднолькавыя па паказчыках* і інш. *Даўно знаёмы і дарагі мне па партрэтах воблік яго* [Горкага] *усё ж паразіў мяне сваім чараваннем* (Я. Колас. Друг і настаўнік). *Працэсы будоўлі, хоць і розныя па маштабах, у прынцыпах*

*былі падобныя* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Яна бачыла ўсмешкі, розныя па сваіх адценнях, ад зларадных да спачувальных* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Параўн.: сінанімічныя канструкцыі з давальным і месным склонамі залежнага слова і прыназоўнікам *па: Спалучэнне няяркіх васількоў з бледна-залацістымі каласамі, акаймаваных рэдкім па колерах і ўзору арнаментам, зроблена так удала, што, здаецца, чуеш, як шэпчуцца гэтыя каласы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тут былі лістоўкі розныя—па памерах і па зместу ды к таму яшчэ на розных мовах* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У наяўнасці быў багаты вопыт рускай літаратуры, такой роднай і блізкай беларускай літаратуры і па жыццёвых вытоках, і па духу, і па нацыянальных асаблівасцях* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры).

4. Часава-абмежавальныя адносіны: *нармальны па ранейшых часах, малады па гадах* і інш. *Я па гадах і не стары* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Справа гэта па даўнейшых часах страшная* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Чарняхоўскі быў самым маладым з камандуючых франтамі, маладым і па гадах і па вайсковай біяграфіі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У галавах з аднаго боку сядзела маці, яшчэ не старая па гадах, але пажыўшая ў горы жанчына* (М. Лобан. На парозе будучыні).

5. Адносіны адпаведнасці-неадпаведнасці: *сур'ёзны не па гадах, сталы не па гадах* і інш. *Сур'ёзны, сталы не па летах, гадуе ён у сэрцы план — зажыць па-людску — а не гэтак, як у пячуры таракан* (Я. Колас. Рыбакова хата). *А маці што? Не па гадах старая, пакрыўджаная тым, пустым, навек, яму ўсё біяграфію стварае, каб толькі сын быў з верай чалавек* (П. Панчанка. Бацька). *Дома, у хатніх абставінах, Люба, трывалая, працавітая, здаецца сур'ёзнай не па гадах* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры*

§ 247. Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры* адносяцца да малапрадуктыўных канструкцый. Яны могуць выражаць:

1. Прасторавыя адносіны з абмежавальным адценнем: *цёмны пры зямлі, пеністы пры берагах, вузкі пры ўваходзе* і інш. *Ніжняя* [хмара], *цёмна-сіняя, ажно чорная пры зямлі, здавалася, падымалася з самага лесу, злівалася з ім* (І. Шамякін. У добры час). Параўн. канструкцыю з дзеепрыметнікам: *Вось яна і Шчара, замёрзлая толькі пры берагах* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

2. Часавае значэнне, якое можа ўскладняцца абмежавальным і аб'ектным адценнямі: *неабходны пры ад'ездзе, акуратны пры рабоце, дакладны пры выкананні задання* і інш. *Пасля згарання шунгіт дае 40 працэнтаў высакаякаснага попелу, які служыць сырцом для ванадзія, неабходнага пры вырабе высокагатунковай сталі і розных сплаваў* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Розніца паміж запасамі марганцу ў печаніданошаных і неданошаных пладоў яшчэ больш паказальная пры параўнанні абсалютнай колькасці гэтага мікраэлемента* [марганцу] *ва ўсёй масе печані* («Весці АН БССР»).

3. Адносіны абумоўленасці з часавым адценнем: *сляпы пры святле, араматны пры цвіценні* і інш. *Яе* [ухмылку] *Ігнась не бачыў, ды адчуваў, глянуўшы на круглыя і шырокія, пры адбліску снегу, вочы Макара* (К. Чорны. Новыя людзі). *З падпечка чуецца хрыплы, пакутны крык перапуджанага і сляпога пры святле лучыны пеўня* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Залатое, незвычайна*

*буйное* *пры* *жоўтым* *святле* *ліхтароў* *зерне сыпалася з прыёмніка ў мяшкі няспынна* (І. Шамякін. У добры час).

4. Адносіны неадпаведнасці прыметы пэўным абставінам: *недарэчны* *пры* *дэмакратычных* *парадках* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...); *верш* *сімвалічна-абстрактны* *пры* *ўсёй* *канкрэтнасці* *яго* *ідэі* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *у*

§ 248. Як было адзначана вышэй, словазлучэнні з прыназоўнікам *у* складаюць самую ўжывальную групу канструкцый з месным склонам. Даволі разнастайны гэтыя словазлучэнні і па ўласцівых ім значэннях. Яны могуць выражаць адносіны прасторавыя, абмежавальныя, азначальныя, абумоўленасці і інш. Усе гэтыя значэнні дапаўняюцца рознымі дадатковымі адценнямі.

§ 249. У словазлучэннях з прасторавымі адносінамі (звычайна яны дапаўняюцца абмежавальным адценнем) прымета, названая галоўным словам, удакладняецца па месцу яе праяўлення, па пэўнаму асяроддзю, калектыву і г. д.: *шырокі ў грудзях, вузкі ў плячах, тонкі ў стане, вядомы ў краіне, новы ў рэспубліцы, паважаны ў кампаніі, невядомы ў друку, наяўны ў горадзе, рэдкі ў Беларусі, ціхі ў людзях, перадавы ў вобласці, зялёны ў лагчынах, патрэбны ў кнізе, неабходны ў літаратуры, зацішны ў лесе, эпізадычны ў творы, модны ў асяроддзі моладзі, папулярны ў народзе, нябачны ў кустах, прыкметны ў калектыве, свойскі ў доме, заканамерны ў тэатрах, дэфіцытны ў раёне, абыякавы ў канторы, ходкі ў палітычных колах, цікавы ў фільме, прыгожы ў гэтых мясцінах, ужывальны ў мове, добра відны ў святле* і інш. *Росту вышэй сярэдняга,* *шырачэзны* *ў* *плячах,* *сінявокі і шыракатвары, ён быў на вёсцы першы свавольнік і задзірака* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Шумяць дубы, гудуць дубы —* *каржакаватыя* *ў* *плячах* (П. Броўка. Лясы наддзвінскія). *З боку бярэзніка, за якім раскінуўся бальшак, пачуліся* *невядомыя* *ў* *гэтай* *мясціне* *гукі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Чырванаватыя* *ў* *разрэзах* *павекі* *ягоныя часта міргаюць* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Дзед пазірае на палоску, на нізкую* *і* *рэдкую* *ў* *разорах* *ярыну* (П. Галавач. Спалох на загонах).

§ 250. У значнай групе словазлучэнняў прымета, названая галоўным словам, дапаўняецца ўказаннем на сферу, галіну або вобласць, якой абмяжоўваецца праяўленне гэтай прыметы. Такія словазлучэнні выражаюць абмежавальныя адносіны з рознымі іншымі сэнсавымі адценнямі (прасторавым, аб'ектным, часавым): *нястомны ў працы, упарты ў дамаганнях, асцярожны ў дзеяннях, далікатны ў абыходжанні, дубаваты ў паходцы, павольны ў рухах, скуласты ў скронях, імклівы ў драматызме, бездапаможны ў змаганні* [са стыхіяй], *нястрымны ў хадзе, бездакорны ў працы, заўзяты ў бойцы, вопытны ў гаспадарчых справах, ёмкі ў целе, цвёрды ў перакананнях, скромны ў славе, цяжкі ў ажыццяўленні, малады ў гадах, прыгожы ў прастаце, грандыёзны ў харастве, ашчадны ў грашах, статны ў постаці, мізэрны ў бяссіллі, стройны ў фігуры, неспакойны ў голасе, сціплы ў слове, наіўны ў дабраце* і інш. *Дзе ён і як знік, бачыў адзін чалавек, нізкі, вусаты,* *дубаваты* *ў* *паходцы* *і* *ў* *голасе* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *І* *руплівы* *ў* *сваіх* *малых* *справах* *і* *рухавы* *ў* *рабоце* *Максім Астаповіч... пачынаў сумаваць, калі доўга не бачыў сваё Марыны* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Для навуковага, публіцыстычнага і некаторых іншых стыляў літаратурнай мовы характэрна ўжыванне канструкцый з абмежавальным значэннем, у якіх у ролі другога кампанента выступаюць формы *ў адносінах, у сэнсе* з абавязковым азначэннем (прыметнікам ці займеннікам)

пры гэтых назоўніках: *У раёне Мазыра ў чорных глінах была знойдзена вельмі бедная як у відавых, так і ў колькасных адносінах фауна фарамініфер* («Весці АН БССР»). *Лепшым у гідраўлічных адносінах з'яўляецца вадазліў з прамалінейнай у плане гранню* (там жа). *Цікавым у гэтых адносінах з'яўляецца вобраз сакратара гаркома Сокалава* (К. Крапіва. Беларуская савецкая драматургія за 1947 год). *Сам ляснічы далёка не святы ў гэтым сэнсе чалавек* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён зблізіўся з пэўнымі асобамі і пайшоў за моднай тады ў пэўным сэнсе палітычнай плынню* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Горад Быдгошч — горад новага часу, горад буржуазны ў поўным сэнсе гэтага слова* (П. Пестрак. Падарожжа па народнай Польшчы).

§ 251. Пры дапамозе формы месная склону з прыназоўнікам *у* можа раскрывацца ўнутраны змест прыметы, выражанай галоўным словам. Звычайна ў такіх выпадках пры залежным назоўніку ёсць абавязковае азначэнне — займеннік *свой: прыгожы ў сваім імкненні, пануры ў сваім чаканні, эластычны ў сваім праяўленні, самотны ў сваёй закінутасці, манументальны ў сваім аблічы* і інш. *Мяне вабілі неакрэсленыя далечы, маўклівыя і мудрыя ў сваёй задумлёнасці* (Я. Колас. На ростанях). *Парыж — дасканалы, грандыёзны ў сваім харастве горад* (Я. Колас. Падарожжа ў Парыж). *Радаснай урачыстасцю павявала ад яго слоў і яго самога, нязграбнага, але магутнага ў сваёй цвёрдасці* (Р. Мурашка. Сын). *Як вялікая самаахвярная пакутніца, забраўшы сабе ўсё гора і слёзы людскія, халодная, гордая ў халоднасці сваёй, глядзела яна бяздумна перад сабою* (там жа).

§ 252. Словазлучэнні з некаторымі прыметнікамі выражаюць аб'ектныя адносіны з абмежавальным адценнем: *вінаваты ў сварцы, ні ў чым не вінаваты, ні ў чым не вінны, не ва ўсім згодны* і інш. *Сам ва ўсім ты вінават* (Я. Колас. Доктар памог). *Не ведалі, хто вінават у гэтай сварцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Відаць, сярод іх ішло бурнае абмеркаванне сягоняшніх падзей у атрадзе, звязаных з арыштамі ні ў чым не вінаватых людзей* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён быў ані ў чым не павінен* (У. Дубоўка. Разумная дзяўчына). *Ці Анежка ў гэтым вінна, ці, можа, яго ўласная нерашучасць?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Па выгляду Юркі відаць было, што ён не ва ўсім згодзен з бацькам* (З. Бядуля. Год за годам).

§ 253. Словазлучэнні з часавымі адносінамі менш пашыраны ў параўнанні з разгледжанымі вышэй тыпамі канструкцый. Пры дапамозе залежнай формы меснага склону прымета раскрываецца ў адносінах да часу яе праяўлення. У сувязі з гэтым такія словазлучэнні звычайна выражаюць таксама абмежавальнае сэнсавае адценне: *непрыемны ў такіх разах, небывалы ў вяках, непрымірымы ў часе бойкі, няпэўны ў пачатку вясны, багаты ў мінулым, стрыманы на дыскусіях, патрэбны ў часе вайны, вясёлы ў дарозе* і інш. *Настрой яго, узнёслы і вясёлы ў дарозе, паступова псаваўся* (І. Шамякін. Крыніцы). *Глядзіце, як псуюцца ў мінулым добрыя людзі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Пасля кароткай і непрыемнай у такіх разах замінкі і паўторнага запытання старшыні падняўся Сымон Таркевіч* (Я. Колас. Адшчапенец). *Анупрэй — мастак-расказчык. Багаты ў мінулым, ён прагуляў большую палавіну свайго хутара* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 254. Даволі прадуктыўны тып складаюць словазлучэнні, якія выражаюць адносіны абумоўленасці (часта з адценнямі часавым, прычынным і прасторавым). Залежная форма паказвае на абставіны, якія прадвызначылі паяўленне прыметы, названай галоўным словам: *цёмны ў змроку, белы ў святле, празрысты ў праменнях, срэбны ў ся-*

*гах, шэры ў цьмяным святле, фантастычны ў імгле* і інш. *Вочы яе, вялікія і цёмныя ў малочным змроку, глядзяць на яго знізу, чаруюць і прыцягваюць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Майчаць срэбныя ў снягах палі і лясы* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Фары выхоплівалі з цемры прысады; фантастычна белыя ў святле таполі сапраўды як бы кланяліся машыне, людзям* (І. Шамякін. Крыніцы). *Выгляд яго, суровы і велічны ў асвятляльна белым каўпаку і ў жаўтаватым халаце, спалохаў Валянціну Андрэеўну* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Васіль бачыць, што вочы яе, цёмныя, глыбозныя ў блеклым ранішнім святле, радасна блішчаць* (І. Мележ. Людзі на балоце).

§ 255. Асобна вылучаюцца словазлучэнні, у якіх выражаны адносіны меры або ступені праяўлення прыметы, названай галоўным словам. У такіх словазлучэннях часта ўжываюцца залежныя назоўнікі *мера, ступень*, якія абавязкова маюць пры сабе азначэнне (прыметнік ці займеннік): *у многім падобны, у корані няправільны, у асноўным добры, у аснове прагрэсіўны, у грунце прымальны, у пераважнасці бытавы, у большасці зразумелы, у значнай ступені (меры) флегматычны, у высокай меры гуманны, у вышэйшай ступені знамянальны, у пэўнай меры цікавы, у меншай ступені стыхійны, у прыкметнай ступені актыўны* і інш. *Пад уплывам тэндэнцыйнага і аднабочнага асвятлення іх* [войн], *выпукленне гераічнай стараны і наўмыснага закрывання вачэй на яе цёмныя бакі ў ім злажылася ўяўленне, у корані фальшывае, аб ваяцкіх здольнасцях царскай Расіі і аб яе неперадолімасці ў вайне* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Гэта — агульны, троху напышаны, але ў грунце правільны вобраз той пары, што апісваецца ў нашым апавяданні* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Створаныя ім вобразы ў вышэйшай ступені жыццёвыя і тыповыя* (Ю. Пшыркоў. Беларуская савецкая проза).

Некаторыя словазлучэнні маюць ярка выражанае адценне абмежавальна-прасторавых адносін: *нябачаны ў свеце, ва ўсім свеце вядомы* і інш. *Кузьма думаў, што ва ўсім свеце сягоння адзінокі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

## Словазлучэнні са складанымі прыназоўнікамі

§ 256. У папярэдніх раздзелах былі разгледжаны асноўныя тыпы ад'ектыўных словазлучэнняў, у якіх залежнае слова (назоўнік, займеннік) спалучаецца з галоўным словам — прыметнікам пры дапамозе простых прыназоўнікаў. Побач з такімі словазлучэннямі ў сучаснай літаратурнай мове сустракаюцца канструкцыі са складанымі прыназоўнікамі тыпу *ў адносінах да, у дачыненні да, у залежнасці ад, у справе, у сувязі з, у параўнанні з* і інш. Такія словазлучэнні часцей выражаюць аб'ектныя і абмежавальныя адносіны. Ужываюцца яны пераважна ў навуковай і публіцыстычнай літаратуры, а таксама ў дзелавых стылях: *Цяпер яны былі на супрацьлеглым, у адносінах да Нам-Дэві, баку ўзгор'я* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Садовіч не дужа быў акуратны ў дачыненні да справаводства* (Я. Колас. На ростанях). *Адзін толькі Янка заставаўся абыякавым у дачыненні да рыбы* (там жа). *Форма мастацкага твора будзе розная ў залежнасці ад таго, на якую групу чытача пісьменнік арыентуецца* (К. Крапіва. Думкі пра сатыру). *Выявілася,—тэлеграф вельмі карысны ў справе паднаўлення ведаў геаграфіі сваёй радзімы* (Х. Шынклер. Пульс жыцця). *Дурань бывае смешным толькі ў сувязі з яго сацыяльнай функцыяй* (К. Крапіва. Што мне руміць). *На дробненькай у параўнанні з барадою галоўцы сядзіць чорная шапачка-ярмолачка* (М. Гарэцкі. Школа жыцця).

*У той час, калі яны падышлі да гумна, адтуль якраз паявіўся Халімон Глушак, маленькі, сухенькі, такі дробны ў параўнанні са сваёй шырокай, самай вялікай у Куранях будынінай* (І. Мележ. Людзі на балоце).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ФОРМАМІ СТУПЕНЕЙ ПАРАЎНАННЯ

§ 257. Формы ступеней параўнання, з'яўляючыся галоўным кампанентам словазлучэння, у адных выпадках захоўваюць сінтаксічныя асаблівасці звычайнай ступені прыметнікаў (параўн.: *блізкі да горада — бліжэйшы да горада — найбліжэйшы да горада, высокі ростам — вышэйшы ростам — найвышэйшы ростам, дарагі для мяне — даражэйшы для мяне — найбольш дарагі для мяне, стары на выгляд — старэйшы на выгляд, шырокі ў плячах — шырэйшы ў плячах, малады па гадах — маладзейшы па гадах — наймаладзейшы па гадах, дужы воляй — дужэйшы воляй*), а ў другіх выпадках утвараюць толькі ім уласцівыя канструкцыі з ускоснымі склонамі назоўнікаў (займеннікаў), а таксама з прыслоўямі і некаторымі іншымі лексічнымі катэгорыямі. Па значэннях канструкцыі з формамі ступеней параўнання даволі разнастайныя: адны з іх выражаюць адносіны параўнання з аб'ектным адценнем, другія — адносіны колькасныя, трэція — абмежавальныя адносіны і г. д.

Залежная форма пры ступенях параўнання прыметнікаў звычайна ў беларускай літаратурнай мове ставіцца ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *за*, але ў мастацкай і навуковай літаратуры сустракаюцца таксама канструкцыі з родным, давальным, творным і месным склонамі.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 258. Пры формах вышэйшай ступені прыметнікаў адзначаецца ўжыванне залежнай формы роднага склону без прыназоўніка, якая ўказвае на аб'ект параўнання. Гэта канструкцыя сучаснай літаратурнай мове ўласціва ў нязначнай меры, прычым сустракаецца яна галоўным чынам у творах першай палавіны XX ст. *Ой ты, мой араты, хмары ты хмурней: з цябе свет багаты, ты ж усіх бядней* (Я. Купала. Араты). *Эх, што можа быць дарожай вольнай волечкі, палёў?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Песня-быль мацней жыцця і смерці* (З. Бядуля. Буду піць пахучы смутак змрокаў). *Ты марцовага снегу бялей, бровкі—долі сіроцкай чарней* (М. Багдановіч. Максім і Магдалена). *Глянь і ты непраглядн асцю дзіўнай, што цямней глыбіні азёрнай* (У. Дубоўка. Што складаць пра каханне вершы). *Рака наша слаўная, Нёман, чысцейшая чэрвеньскіх рос, хто мар не ўплятаў у твой гоман, табе хто пашаны не нёс?* (А. Астрэйка. Нёману). *Наперадзе бялей снегу прыпяты хвартух з квяцістай вышыўкай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Асобна стаяць канструкцыі з фразеалагічнымі выразамі *адзін другога, адна другой* у якасці залежнага ад прыметніка кампанента: *І неўзабаве пасля дзедавай хваробы пачалі да Міколкавай сям'і даносіцца чуткі, адна другой дзіўней, адна другой цікавей* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *І зноў пасталі хаты ў Астраўку, зірнеш на іх — адна другой дабротней* (А. Астрэйка. Астравок). *Дарогі, дарогі — адна другой лепей* (П. Панчанка. Сабе і другім).

§ 259. Мала пашырана ў нашы дні і канструкцыя, у якой залежнай ад прыметніка формай з'яўляецца родны склон з прыназоўнікам *ад*. Выпадкі ўжывання гэтай канструкцыі наглядаюцца пераважна ў першай

палавіне XX ст.: *Мілей мне яна і ад сонейка, мілей ад маіх сноў дзяцінных, ад красак квяцістага сонейка, ад песень вясной салаўіных* (Я. Купала. Ночка). *Як цяжка гэта ёй прыгода! Сама бялей ад палатна* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Я заўсёды паважаю старэйшых ад сябе* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *А неба ад чорнае сажы чарней* (А. Звонак. Балада пра камуніста). *Святлейшыя ад барады — густыя вусы* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Заўвага. Калі ў ролі залежнага кампанента выступае форма займенніка *ад усіх*, галоўнае слова — прыметнік выражае значэнне найвышэйшай ступені параўнання: *Ён зразу кінуўся ім у вочы, як адмятнейшы ад усіх* (К. Чорны. Максімка). *Я ад усіх няўдалейшая* (К. Чорны. Нянавісць).

§ 260. Словазлучэнні, у якіх залежнай ад прыметніка формай з'яўляецца родны склон з прыназоўнікам *з*, выражаюць вылучальныя адносіны. У сучаснай мове гэтыя словазлучэнні ўтвараюцца як формамі вышэйшай, так і формамі найвышэйшай ступені параўнання: *прыгажэйшы з хлапцоў, смялейшы з разведчыкаў, найлепшы з усіх* і інш. *Яны ўсе стройны, свежы, крохкі, сваё ж аблічча ў кожнай з іх, а прыгажэйшай з семярых назваць сапраўды не так лёгка* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Тодзік быў самы маладзейшы з усіх Рамашкавых дзяцей* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Вуліцы вёскі ад школы ішлі ў трох кірунках, але самая доўгая з іх выцягвалася з захаду на ўсход* (І. Шамякін. Крыніцы). *Алена ведала, што гэта самая буйная і самая складаная з усіх аперацый брыгады* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Усхвалёваны і горды, далікатнейшы з людзей, ты нясеш законны ордэр, два ключы і сто надзей* (П. Панчанка. Навасёлу).

У некаторых выпадках залежная форма роднага склону з прыназоўнікам *з* указвае на паходжанне або крыніцу ўзнікнення прыметы: *У другі раз Сухарукі — старэйшы з роду Дзятлаў — у цёмную ноч пайшоў некуды* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 261. Словазлучэнні з формай роднага склону з прыназоўнікам *сярод* выражаюць звычайна вылучальныя адносіны: *старэйшы сярод нас, маладшы сярод будаўнікоў, смялейшы сярод альпіністаў, весялейшы сярод прысутных* і інш. *Ён быў самы маладзейшы сярод тых, што слухалі яго ўсхваляваны расказ з вялікай увагай* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

Заўвага. Некаторыя канструкцыі з прыназоўнікам *сярод* могуць выражаць прасторавыя адносіны. Гэта наглядаецца як у выпадках, калі прыметнік выступае ў звычайнай форме, так і ў выпадках, калі прыметнік мае формы ступеней параўнання: *Трохі спакайнейшая сярод будынкаў мяцеліца выла і скавытала ў полі на ўсю сілу* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 262. Для словазлучэнняў з прыназоўнікам *проці (супраць, напроціў)* характэрны аб'ектна-параўнальныя, а таксама прасторавыя адносіны. Гэтыя канструкцыі складаюць малапрадуктыўны тып у сучаснай мове: *таўсцейшы проці меры, шырэйшы напроціў лесу* і інш. [Аб'ездчык] *знайшоў адно паленца, таўсцейшае проці меры, і з-за таго паленца абярнуў увесь воз дроў* (Я. Колас. Тоўстае палена).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ І МЕСНЫМ СКЛОНАМІ

§ 263. Словазлучэнні, у якіх залежным ад форм ступеней параўнання з'яўляецца давальны або месны склон з прыназоўнікам *па*, выражаюць абмежавальныя адносіны: *старэйшы (старшы) па чыну, па гадах, ніжэйшы па званню, пасадзе* і інш. *У мяне быў старшы па змене тэлеграфіст* (Х. Шынклер. Пульс жыцця). *Васіль у доме станавіўся як бы старэйшым па чыну гаспадаром* (І. Мележ. Людзі на балоце).

§ 264. Пры формах ступеней параўнання прыметнікаў вінавальны склон (назоўніка, займенніка) можа ўжывацца з прыназоўнікамі *за, на, у, над.* Прадуктыўнасць і ўжывальнасць гэтых відаў канструкцый далёка не аднолькавыя ў сучаснай літаратурнай мове. Адрозніваюцца яны і па ўласцівых ім значэннях.

§ 265. Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* выражаюць аб'ектныя адносіны. У гэтым значэнні ўжыванне вінавальнага склону пры формах ступеней параўнання з'яўляецца нормай сучаснай літаратурнай мовы: *старэйшы за мяне, малодшы за брата* і інш. *Часамі адзін чалавек даражэй за цэлыя дзесяткі людзей* (Я. Колас. Дрыгва). *Сыны нашы ўжо разумнейшыя за нас* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *А мы мацнейшыя за князёў, бо мы — народ* (П. Пестрак. Серадзібор). *У аднастайны посвіст ветру ўварваліся гукі, мацнейшыя за вецер* (там жа). *Бачыў шмат я гарачых вачэй, што за ясныя зоры ярчэй* (А. Астрэйка. Бачыў шмат я гарачых вачэй). *Ён цяпер смялейшы за цябе* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Да гэтага тыпу адносяцца словазлучэнні, у якіх залежным кампанентам з'яўляецца ўстойлівы выраз *адзін за другога: Цяцерын падносіць нам розныя самім ім складзеныя задачы. Адна мудрэйшая і цікавейшая за другую* (Х. Шынклер. Дзённік сувязіста). *Гэткай жа шырокай і мутнай хваляй булькацелі ў распаленай галаве Алесевай няладныя, адна за адну непакойнейшыя і няўцешнейшыя думкі* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). *Салдаты — маладыя, адзін за другога лепшыя, усё падыходзілі і падыходзілі* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Хусткі адна за другую прыгажэйшыя* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Заўвага. Калі ў ролі залежнага кампанента выступаюць займеннікі *ўвесь, уся, усё, усе,* формы прыметнікаў на *-ейш-ы, -ей, -ш-ы* выражаюць значэнне самай высокай, або найвышэйшай ступені якасці. Гэта ж наглядаецца і ў тых выпадках, калі формы параўнання стаяць пры дзеясловах з адмоўем *не* або пры слове *няма: За ўсё цяжэйшым быў мне смутак па вас, па беларускай старане* (А. Астрэйка. Адказ бацьку). *А за гэты новы горад я не знаю маладзей* (М. Лужанін. Святлана). *Ваша будучыня мне даражэй за ўсё* (К. Крапіва. З народам). *А потым тая, што бліжэй за ўсіх астатніх стала, танчэй за ўсіх, званчэй за ўсіх, прыпеўку пачынала* (М. Лужанін. Кладкі Градоўскага). *А ён лепшы за вас усіх!* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны).

У аналагічных канструкцыях у ролі галоўнага кампанента можа часам ужывацца і форма найвышэйшай ступені, значэнне якой узмацняецца пры дапамозе займеннікаў: *Ён тут найвышэйшы за ўсіх — за генералаў, за ксяндзоў, за мяшчан* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 266. Як і пры звычайных якасных прыметніках, пры формах ступеней параўнання можа ўжывацца вінавальны склон з прыназоўнікам *на* ў абмежавальным і прасторава-абмежавальным значэннях: *лепшы на смак, найлепшы на погляд, самы дужы на ўвесь раён* і інш. *І суседскай дзяўчынцы, найлепшы на смак, аддала у аддзяку вялікі праснак* (У. Дубоўка. Айога). *Генька самы дужэйшы на ўвесь Ліпск хлопец* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Акрамя абмежавальнага і прасторава-абмежавальнага значэнняў, вінавальны склон з прыназоўнікам *на* можа ўказваць таксама на колькасную меру выяўлення прыметы. Звычайна ў такіх выпадках форма вышэйшай ступені мае пры сабе і форму вінавальнага склону з прыназоўнікам *за: малодшы за брата на два гады, цяжэйшы за гэту дэталь на тры тоны* і інш. *Гэта чарнявая, малодшая за Вольку на два гады дзяўчынка значна вырасла ў яе вачах* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *А ты ж за мяне гадоў на дзесяць, мусіць, старэйшы* (там жа). *Ясь Ліскоўскі быў зусім не падобен да брата і на цэлую галаву вышэйшы за яго* (Я. Колас. На ростанях).

*Мама мая на дваццаць гадоў маладзей за тату* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Ён быў на два класы старэй за мяне* (Я. Скрыган. Сустрэчы). *Кастусь Верабей быў маладзейшы за Харытона нешта год на пяць* (П. Пестрак. Серадзібор).

Заўвага. Колькасныя адносіны выражаюць таксама словазлучэнні, у якіх пры формах ступеней параўнання ўжываюцца прыслоўі, звязаныя па ўтварэнню з вінавальным склонам імён і прыназоўнікам *на*: *Праязджаючы праз Жарабкі — вёску, напалавіну меншую, чым Жыліны,— Малашкін доўга прыглядаўся да Банадзюковай хаты, якой ён яшчэ не бачыў* (П. Пестрак. Серадзібор). *П'еса атрымалася нашмат слабейшай за аповесць* (І. Кудраўцаў. Кузьма Чорны). *Вышамірскі быў нашмат старэйшы за майго дзеда* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Я быў тады намнога маладзей* (А. Звонак. Геолаг). *Тут Ліда адразу ўбачыла, наколькі яна лепшая за ўсіх* (А. Чарнышэвіч. Чарвячок).

§ 267. Колькасныя адносіны выражаюць таксама словазлучэнні, у якіх залежнае слова мае форму вінавальнага склону з прыназоўнікам *у*: *у тры разы меншы, у дзесяць разоў большы* і інш. *Цікавыя там людзі. Адзін, напрыклад, шавец з густымі чорнымі брывямі—вышэй за Грышу можа ў тры разы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Я таксама маю сакрэт, у сто разоў цікавейшы за ваш, і ніколі вам не раскажу* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Ён тут жа выклікаў капітана, бадай разы ў два старэйшага за сябе* (там жа).

Сінанімічнымі гэтым канструкцыям з'яўляюцца канструкцыі з прыслоўямі *ўдвая, утрая, удвайне, утрайне*. Параўн.: *Гэтай грознай гадзінай сягоння даражэй ты мне стала ўдвая* (М. Машара. Светлавокая). *Яна старэйшая ўдвая* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Вось і вашы дасягненні паказаліся яму ўдвайне большымі* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

§ 268. У літаратурна-мастацкіх творах пад уплывам народных гаворак зрэдку ўжываецца канструкцыя з формамі на *-ейш-ы, -ей, -ш-ы*, у якой ролю залежнага кампанента выконвае форма вінавальнага склону з прыназоўнікам *над*. Па свайму значэнню яна сінанімічна канструкцыі з прыназоўнікам *за*: *дужэйшы над яго, горшы над усё* і інш. *Няма на свеце ім красою роўных, а прыгажэй над вашы — безумоўна* (У. Дубоўка. Чые рукі прыгажэйшыя). *Над баравіцкіх няма лепшых музык — казалі скрозь* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі). *Над нашага бацькі не было лепшага майстра* (В. Вітка. Паэзія і жыццё).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 269. Непрадуктыўны тып у літаратурнай мове складаюць словазлучэнні з творным беспрыназоўнікавым склонам залежнага назоўніка. Яны звычайна выражаюць колькасныя адносіны і збліжаюцца па значэнню з канструкцыямі, дзе залежнай формай з'яўляецца вінавальны склон з прыназоўнікам *на*: *старэйшы трыма гадамі. Будзь жа, сыне, маладзейшы годам* (А. Зарыцкі. Маленькая недакладнасць).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З МЕСНЫМ СКЛОНАМ

§ 270. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага кампанента выконвае месны склон з прыназоўнікамі *на, у*, складаюць даволі пашыраны і прадуктыўны тып канструкцый у сучаснай мове. Яны выражаюць або гранічную ступень якасці, або вылучальнае і абмежавальнае значэнні з рознымі іншымі сэнсавымі адценнямі: *цікавейшы на свеце, шчаслівейшы на зямлі, званчэйшы ў свеце, старэйшы ў калектыве, меншы ў сям'і, самы вялікі ў вёсцы, самы важны ў горадзе* і інш. *Спатканне было такое радаснае, як бы тут сустрэліся самыя моцныя, самыя шчырыя на свеце прыяцелі* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Горачы на свеце многа, але і ў самай большай на све-*

*це пасудзіне ёсць дно* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *На першым возе сядзіць маладая, босая прыгажуня і спявае, нібы найлепшая на свеце птушка* (Я. Брыль. Маладосць, што не скорыцца).

Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *у* выражаюць часавае і аб'ектна-абмежавальнае значэнні: *самы гуманістычны ў гісторыі перыяд, самае найлепшае ў жыцці.*

§ 271. Непрадуктыўны і малаўжывальны тып канструкцый складаюць ад'ектыўныя словазлучэнні, у якіх формы ступеней параўнання паясняюцца формай меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *па.* У такіх словазлучэннях залежнае слова (звычайна гэта назоўнікі *шлях, дарога*) паказвае на месца, дзе праяўляецца прымета. Такім чынам, тут выступаюць прасторава-абмежавальныя адносіны: *самы малы па дарозе ў вёску, самы вялікі па шляху з горада ў мястэчка.* Як відаць з прыкладаў, пры залежнай форме тут абавязкова ўжываецца яшчэ вінавальны склон з прыназоўнікам *у*, а часам і родны з прыназоўнікам з (*са*). *Лабановіч узыходзіў на ўзгорак, самы большы па дарозе са Смалярні ў Стаўбуны* (Я. Колас. На ростанях).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ФОРМ СТУПЕНЕЙ ПАРАЎНАННЯ З ПРЫСЛОЎЯМІ І ЧАСЦІЦАМІ

§ 272. Формы ступеней параўнання прыметнікаў могуць паясняцца не толькі рознымі ўскоснымі склонамі назоўнікаў або займеннікаў, але і нязменнымі часцінамі мовы, у прыватнасці прыслоўямі, часціцамі (у тым ліку часціцамі, якія паходзяць ад злучнікаў). Пры дапамозе гэтых слоў адцяняюцца розныя бакі меры якасці, выражанай формамі ступеней параўнання.

§ 273. Вылучаецца значная група словазлучэнняў, у якіх залежнае слова ўказвае на тую ці іншую меру павышэння або паніжэння самой ступені якасці: *многа цікавейшы, шмат дужэйшы, значна шырэйшы, мала шырэйшы, яшчэ халаднейшы, як найпрыгажэйшы, тым большы, усё смялейшы, куды весялейшы* і інш. *Вы многа лепшы за тых, хто пра народ гаворыць высокія словы* (Я. Колас. У палескай глушы). *Асілкаў шмат было на свеце, быў шмат дужэйшы наш народ* (Я. Купала. Магіла льва). *Нос, мала большы за напарстак, аблупіўся* (П. Пестрак. Серадзібор). *Яго выступленне маўклівая зала сустрэла яшчэ большым, яшчэ халаднейшым маўчаннем* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *То маці есці пакідала ды йшла ў камору па другое, яшчэ больш смачнае, ядкое* (Я. Колас. Новая зямля).

Некаторыя прыслоўі ў падобных словазлучэннях побач са значэннем інтэнсіўнасці праяўлення якасці выражаюць таксама часавае значэнне: *штораз цікавейшы, штодзень святлейшы* і інш. *З высокай вежы палаца, як з гіганцкага коміна, паплыў борзда ўгору белаваты дым, штораз гусцейшы і болей цёмны* (Я. Колас. Дрыгва). *Узнімаўся буяны і хмельны ўздым радасці і захаплення жыццём бурлівым, штодзень змястоўнейшым, цікавейшым* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫМЕТНІКАЎ З ПРЫСЛОЎЯМІ

§ 274. У сучаснай беларускай літаратурнай мове наглядаецца актыўны працэс утварэння прыметнікавых словазлучэнняў з прыслоўем у ролі залежнага кампанента. Прадуктыўнасць гэтых словазлучэнняў тлумачыцца няспынным ростам перш за ўсё катэгорыі якасных прыслоўяў у сістэме сучаснага словаўтварэння. Аднак з прыметнікамі сінтаксічна спалучаюцца не толькі якасныя, але і іншыя прыслоўі, што абумоўлівае наяўнасць канструкцый з даволі шырокім дыяпазонам сэнсава-гра-

матычных значэнняў (адносін), у прыватнасці словазлучэнняў, якія выражаюць азначальныя адносіны, або якасную ацэнку прыметы, або спосаб яе выяўлення, словазлучэнняў, якія выражаюць колькасць прыметы або розныя ступені праяўлення прыметы, словазлучэнняў, якія выражаюць акалічнасныя адносіны (часу, прасторы) і інш.

### Словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны

§ 275. Тып словазлучэнняў, якія выражаюць азначальныя адносіны, інакш кажучы, словазлучэнні, у якіх даецца якасная ацэнка прымеце, названай галоўным словам, надзвычай пашыраны ў сучаснай літаратурнай мове. Такія словазлучэнні адначасова выражаюць адценні ступені якасці, спосабу выяўлення прыметы і інш. У ролі залежнага слова, якое знаходзіцца звычайна ў прэпазіцыі, выступаюць перш за ўсё якасныя прыслоўі на *-а(-е)*, суадносныя па ўтварэнню з якаснымі прыметнікамі: *шчаслівы сонечна* (Я. Купала. Сонечнаму Шота Руставелі), *смутна строгі* (Я. Колас. Новая зямля), *невыразна маркотны* (Я. Колас. У палескай глушы), *афіцыйна строгі* (К. Крапіва. Мядзведзічы), *надакучна апрыкры* (М. Лынькоў. Талісман), *панура віхрасты* (К. Чорны. Новыя людзі), *звычна пявучы* (К. Чорны. Радасць жанчыны), *дзіка вясёлы* (К. Чорны. Мельнікі), *пакутліва цяжкі* (Б. Мікуліч. Жыццёпіс Вінцэся Шастака), *уедліва смуглявы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах), *недаверліва злосны* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі), *неадольна заваблівы* (І. Мележ. Людзі на балоце), *цудоўна прыгожы* (там жа), *пачварна тоўсты* (В. Таўлай. У крывым люстры «Ляснога возера»), *асляпляльна белы* (І. Шамякін. Сэрца на далоні), *сліпуча яркі* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе), *іскрыста белы* (Я. Скрыган. Гордасць).

Асобна трэба адзначыць словазлучэнні, у якіх ролю залежнага кампанента выконваюць прыслоўі на *-а*, утвораныя ад прыметнікаў, звязаных па паходжанню з дзеепрыметнікамі. У такіх словазлучэннях пераважаюць уласна азначальныя адносіны, але часам выступаюць адценні неадпаведнасці і ступені: *незамутнёна спакойны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *павялічана падоўжаны* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна), *неспадзявана добры* (М. Багдановіч. Шаман), *нечакана востранькі* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *нечакана задзёрысты* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам), *нечакана ціхі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь), *нечакана трапны* (У. Няфёд. Беларускі тэатр), *паглыблена філасофскі* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *адкрыта паэтычны* (там жа), *падкрэслена ветлівы* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Да разгледжаных вышэй канструкцый цесна прымыкаюць шматлікія словазлучэнні з прыслоўямі на *-а*, утворанымі ад адносных прыметнікаў, якія, аднак, могуць лёгка набываць якасныя значэнні. У такіх словазлучэннях азначальныя адносіны могуць дапаўняцца абмежавальным адценнем і адценнем ступені якасці: *ідэйна падрыхтаваны (глухі, спрэчны, глыбокі, сугучны, мэтанакіраваны), ідэалагічна чужы (варожы), палітычна актуальны (адсталы, абмежаваны, неадукаваны, бесхрыбетны, наіўны, востры, лаяльны, надзейны, свядомы, пісьменны, кампраметуючы, чулы), сацыяльна востры (значны, вялікі, несправядлівы, небяспечны, змястоўны, насычаны, накіраваны, абагульнены), гістарычна вялікі (важны, новы, рэальны, паступальны, канкрэтны, неабходны, праўдзівы, сапраўдны, цвярозы), класава абмежаваны (размежаваны, чужы, варожы), эканамічна слабы (моцны, выгадны, жыццёвы), прамыслова развіты* і інш.

Пераважная большасць такіх словазлучэнняў характэрна для навуковага і публіцыстычнага стыляў, аднак у наш час яны прыкметна па-

шыраюцца і ў іншых відах літаратуры, а таксама ў вуснай літаратурнай мове.

У некаторых словазлучэннях побач з асноўным, азначальна-абмежавальным значэннем ярка выступае адценне падкрэслівання, характэрнасці прыметы, названай галоўным словам: *спецыяльна літаратуразнаўчы, спецыфічна беларускі, уласна лірычны, абавязкова сучасны, наўмысна прыгодніцкі, знарочыста ўрачысты* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

Да апошняй групы словазлучэнняў набліжаюцца словазлучэнні, у якіх ролю залежнага кампанента выконваюць не адпрыметнікавыя, а адназоўнікавыя прыслоўі *знарок, назнарок, наўмысле: знарок абыякавы* (Э. Самуйлёнак. Будучыня), *назнарок сур'ёзны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах), *назнарок адкрыты* (там жа), *наўмысле плаксівы* (К. Крапіва. Хлеб і «вата»), *наўмысля стрымлены* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 276. Сярод словазлучэнняў з азначальнымі адносінамі асобную групу складаюць словазлучэнні, у якіх ролю залежнага кампанента выконваюць прыслоўі з так званым мадальным значэннем, г. зн. прыслоўі, якія пацвярджаюць сапраўднасць прыметы, выражанай галоўным словам. Па ўтварэнню такія прыслоўі неаднародныя. Адны з іх звязаны з адпаведнымі прыметнікамі, а другія — са склонавымі формамі назоўнікаў: *бясспрэчна цвярозы* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна), *бясспрэчна добры* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *безумоўна таленавіты* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *канечна патрэбны* (Я. Колас. На прасторах жыцця), *фактычна бяспраўны* (І. Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі...), *сапраўды народны* (В. Таўлай. Людзі вольнай Беларусі).

Заўвага. У некаторых творах сустракаюцца словазлучэнні з мадальнымі прыслоўямі, якія ў наш час не лічацца агульнай літаратурнай нормай: *сапраўдна творчы* (У. Няфёд. Беларускі тэатр), *дапраўды няшчасны* (Б. Мікуліч. Жыццёпіс Вінцэся Шастака), *папраўдзе цудоўны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *папраўдзе жудасны, папраўдзе страшэнны* (там жа).

§ 277. Асобны тып складаюць словазлучэнні, у якіх азначальныя адносіны ўскладняюцца абмежавальным значэннем і адначасова значэннем спосабу выяўлення, параўнання, а таксама неадпаведнасці. У якасці залежнага кампанента ў гэтых словазлучэннях выступаюць наступныя віды прыслоўяў:

1. Прыслоўі на *-скі (-цкі): мастацкі пераканаўчы* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...), *мастацкі дасканалы, мастацкі абагульнены* (там жа), *мастацкі пераканальны* (Р. Шкраба. Сіла слова), *мастацкі завершаны* (У. Няфёд. Беларускі тэатр), *мастацкі праўдзівы* (Ю. Пшыркоў. Беларуская савецкая проза), *мастацкі паўнацэнны* (там жа), *рабскі паслухмяны* (І. Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі...).

2. Прыслоўі на *-ска(-цка): мастацка закончаны* (Я. Брыль. Пісьменнік і сучаснасць), *грамадска значымы* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...), *грамадска карысны* (І. Шамякін. Сэрца на далоні), *грамадска важны* (Ю. Пшыркоў. Беларуская савецкая проза), *грамадска пераўтваральны* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры).

3. Прыслоўі з прыстаўкай *па-* і суфіксам *-ы*: *па-дзіцячы цёплы* (Я. Брыль. Пісьменнік і сучаснасць), *па-дзіцячы пяшчотны* (там жа), *па-дзіцячы бестурботны* (Я. Колас. На ростанях), *па-дзіцячы дураслівы* (там жа), *па-дзіцячы прыпухлы* (В. Вітка. Запавет), *па-дзіцячы ціхі і паслухмяны* (І. Мележ. Мінскі напрамак), *не пусты па-дзіцячы* (І. Мележ. Людзі на балоце), *па-дзіцячы здольны* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе), *па-дзіцячы шчыры* (А. Чарнышэвіч. Світанне), *тонкі не па-дзіцячы, а па-жаночы* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны).

4. Прыслоўі з прыстаўкай *па-* і суфіксам *-у: па-салдацку суровы* (Я. Брыль. Памяці Валянціна Таўлая), *па-бабску танклявы* (К. Чорны. Мельнікі), *па-гаспадарску рупатлівы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі), *па-таварыску шчыры* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі), *па-італьянску мнагаслоўны* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна), *па-добрасуседску памяркоўны* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары), *па-партызанску ўпарты* (В. Таўлай. Нюша з Ліпавак), *па-мужчынску кастлявы* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

5. Прыслоўі з прыстаўкай *па-* і суфіксам *-аму: па-ленінскаму мудры* (Я. Брыль. Хоць бы самым маленькім), *сталы не па-дзяцінаму* (К. Чорны. На пыльнай дарозе), *людны па-святочнаму* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы), *па-звярынаму прагавіты і цёмны* (К. Крапіва. Мядзведзічы), *па-звярынаму бязлітасны* (там жа), *па-дзяцінаму чысты* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *па-баявому адкрыты, па-юнацкаму непасрэдны* (там жа), *па-хлапечаму востры* (Б. Мікуліч. Зорка), *па-старэчаму асцярожны* (І. Мележ. Людзі на балоце), *па-вайсковаму прамы* (там жа), *па-месточковаму ціхі* (П. Пестрак. Серадзібор), *па-дзявочаму стройны* (І. Шамякін. Крыніцы), *па-дамашняму сур'ёзны* (там жа).

Асобна трэба выдзеліць канструкцыі з азначальнымі адносінамі, ускладненымі значэннем спосабу выяўлення. У гэтых словазлучэннях залежным кампанентам з'яўляюцца адзайменнікавыя прыслоўі: *па-свойму вольны і шчаслівы* (Я. Купала. Зыйду...), *па-свойму цэласны* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *па-свойму цікавы* (Я. Брыль. Запаветная песня), *па-свойму сур'ёзны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У залежнасці ад значэння прыслоўя словазлучэнні гэтага тыпу могуць выражаць азначальна-параўнальныя адносіны і адносіны неадпаведнасці, ускладненыя часавымі, прасторавымі і мадальнымі сэнсавымі адценнямі: *па-ранейшаму ўвішны* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі), *не па-зайсёднаму хмуры* (В. Таўлай. Людзі вольнай Беларусі), *не па-звычайнаму моцны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *па-асенняму свежы* (П. Пестрак. Падарожжа па народнай Польшчы), *не па-зімоваму цёмны* (І. Шамякін. Крыніцы), *па-вясноваму ажыўлены* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры), *не па-тутэйшаму бурны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *па-сапраўднаму мужны* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

## Словазлучэнні, якія выражаюць адносіны ступені (меры) праяўлення прыметы

§ 278. Прыметы, уласцівыя прадметам, могуць праяўляцца з рознай сілай або напружанасцю (інтэнсіўнасцю). Розныя ступені інтэнсіўнасці знаходзяць пэўнае выражэнне пры дапамозе лексічных і сінтаксічных адзінак мовы, у тым ліку пры дапамозе ад'ектыўных словазлучэнняў з прыслоўямі ў ролі залежнага кампанента. У такіх словазлучэннях спалучацца з прыметнікамі могуць якасныя прыслоўі, суадносныя і не суадносныя з прыметнікамі, колькасныя прыслоўі, прыслоўі, суадносныя з назоўнікамі, прыслоўі-фразеалагізмы і прыслоўі, якія ўжо страцілі жывыя сувязі з тымі ці іншымі часцінамі мовы.

§ 279. Перш за ўсё неабходна адзначыць вялікую групу словазлучэнняў, якія выражаюць гранічна высокую ступень інтэнсіўнасці прыметы, яе паўнату, цэласнасць, вычарпальнасць або нават празмернасць праяўлення яе. У ролі залежнага кампанента такіх словазлучэнняў выступаюць звычайна прыслоўі на *-а (-е)*, суадносныя з якаснымі прыметнікамі. У сувязі з гэтым такія словазлучэнні адначасова набываюць і азначальнае адценне: *абсалютна спакойны*

(Я. Скрыган. Неспадзеўнае падарожжа), *гранічна важны* (Я. Брыль. Пад выглядам новага), *бязмежна скептычны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *бязмерна шчаслівы* (І. Мележ. Мінскі напрамак), *празмерна аднатонны* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *непамерна моцны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах), *невымерна суровы* (М. Лужанін. Партыі), *нязмерна высокі* (І. Мележ. Людзі на балоце), *выключна важны* (І. Шамякін. Глыбокая плынь), *неймаверна добры* (М. Лобан. На парозе будучыні), *невымоўна цяжкі* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата), *невыказна харошы* (І. Мележ. Людзі на балоце), *невыносна цяжкі* (Ю. Пшыркоў. Беларуская савецкая літаратура), *неабдымна вялікі* (В. Вітка. Аграном), *неабсяжна вялікі* (Я. Колас. Песнярам савецкай зямлі), *неміласэрна вялікі* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *нясцерпна доўгі, бясконца шчаслівы* (там жа), *бясконца бясчулы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У якасці залежнага кампанента падобных словазлучэнняў ужываюцца некаторыя прыслоўі адыменнага ўтварэння: *наўздзіў добры* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы), *наўздзіў ціхі* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі), *на дзіва мітуслівы* (І. Мележ. Мінскі напрамак), *праз меру ўскладнены* (І. Кудраўцаў. Кузьма Чорны), *да зарэзу патрэбны* (Б. Мікуліч. Дужасць), *надзвычай складаны* (Я. Колас. У глыбі Палесся), *зазвычай ціхі* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь), *п'яны ўдрызг* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»), *цалкам непісьменны* (К. Крапіва. Мядзведзічы), *цалкам шчаслівы* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *ушчэнт разматлашаны* (там жа), *дашчэнту задрыпаны* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

У словазлучэннях гэтага тыпу ў якасці залежнага кампанента часта выступаюць прыслоўі і даўняга ўтварэння: *вельмі маўклівы* (У. Дубоўка. Чакае ля берага човен мяне...), *завельмі вузкі* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана), *зусім прымітыўны* (К. Чорны. Максімка), *зусім-зусім маленькі* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны), *надта харошы* (А. Зарэцкі. Калач), *занадта зухаваты* (Я. Колас. Новая зямля), *наскрозь адміністрацыйны* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

Заўвага. У мастацкай літаратуры (асабліва ў 20—40-я гады XX ст.) у такіх словазлучэннях нярэдка ўжывалася прыслоўе *спрэс* 'увесь, цалкам, поўнасцю', якое ў нашы дні не з'яўляецца літаратурнай нормай: *спрэс каржакаваты* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне), *спрэс мокры* (Б. Мікуліч. Дужасць), *спрэс белы* (Я. Скрыган. Неспадзеўнае падарожжа), *спрэс новы* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі; М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

Нарэшце, неабходна адзначыць ужыванне ў словазлучэннях гэтага тыпу ў ролі залежных ад прыметніка прыслоўяў некаторых устойлівых выразаў: *А калі* [Кляновіч] *пачаў аглядаць кнігі на стэлажах, мімаходзь паказаў пальцам на яго* [фота] *з вышыні свайго росту і спытаўся як мага абыякавым тонам, хоць усмешка прасілася на вусны* (П. Пестрак. Серадзібор).

§ 280. Побач з разгледжаным тыпам ад'ектыўных словазлучэнняў стаяць словазлучэнні, у якіх залежнае прыслоўе выражае параўнальна высокую або, як проціпастаўленне, параўнальна нізкую ступень праяўлення прыметы, названай галоўным словам — прыметнікам. Такія прыслоўі звычайна суадносяцца з адпаведнымі якаснымі прыметнікамі: *глыбока ўрачысты* (Я. Брыль. Крыніцы сілы), *далёка вядомы* (Я. Брыль. Пісьменнік і сучаснасць), *прыкметна радасны* (І. Шамякін. Сэрца на далоні), *шырока вядомы* (У. Няфёд. Беларускі тэатр), *блізка знаёмы* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі), *слаба знаёмы* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін), *добра пісьменны* (К. Крапіва. Мядзведзічы), *добра знаёмы* (Я. Колас. Новая зямля), *добра вядомы* (М. Лужанін. Рай дзядзі Сама), *вузка асабісты* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *дрэнна тоены* (В. Таўлай. Аб сабе), *ярка рэалістычны* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *выразна акрэслены* (Я. Брыль. Больш увагі апавяданню),

*мала знаёмы* (П. Галавач. Праз гады), *мала выгадны* (Я. Колас. На «святой зямлі»), *мала практычны* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Заўвага. У тых выпадках, калі паміж залежным і галоўным кампанентамі стаіць адмоўе *не*, словазлучэнне паказвае, што прымета выявілася ў вельмі няпоўнай або крыху няпоўнай меры: *далёка не такі фарсісты* (Я. Колас. Хатка над балотцам), *далёка не новы* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...), *мала не ідэальны* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *мала не начальніцкі, мала не трагічны* (там жа).

Высокая ступень праяўлення якасці, названай прыметнікам, можа быць выражана ў словазлучэннях з прыслоўямі спосабу дзеяння *так, гэтак* і колькасным прыслоўем *настолькі: І звон аб прыпек скавародны, так блізкі сэрцу, так ім родны, у нейкім радасным настрою спявай ім песняю святою* (Я. Колас. Новая зямля). *Пастаяўшы,* [Саша] *адвярнулася да акна. І калі вочы знайшлі ўжо так знаёмую бярозку, разам з міжвольнай усмешкай па шчоках пацякла адна слязінка і другая* (П. Пестрак. Серадзібор). *Ставілася пад сумненне магчымасць скарыстання на апал уносу, што эканоміць добры, гэтак каштоўны, патрэбны краіне апал* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Акупацыйная адміністрацыя не толькі не санкцыяніравала такой выразнай волі народа, але праследавала ініцыятараў, хоць іх было цяжка выявіць, настолькі ўсеагульным было падобнае жаданне* (В. Таўлай. Янка Купала і Заходняя Беларусь).

§ 281. Неабходна адзначыць групу словазлучэнняў, у якіх залежнае слова — прыслоўе паказвае, што прымета, названая галоўным словам, выяўляецца з некаторым перавышэннем нормы: *пераважна драйляны* (Я. Колас. На ростанях), *пераважна замкнуты* (Я. Колас. Дрыгва), *пераважна падпольны* (В. Таўлай. З недалёкага мінулага), *пераважна іможысты* (П. Пестрак. Серадзібор), *пераважна сатырычны* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...), *пераважна драматычны* (А. Адамовіч. Беларускі раман), *пераважна маральны* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *пераважна эпічны* (там жа), *мацнавата п'яны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 282. Вылучаецца група словазлучэнняў, у якіх залежнае ад прыметніка прыслоўе паказвае, што прымета праяўляецца ў межах, блізкіх да нормы: *дастаткова сур'ёзны* (Я. Брыль. Пісьменнік і сучаснасць), *даволі грузны* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі), *даволі-такі віртуозны* (П. Пестрак. Серадзібор), *досыць часты* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана), *досыць спрытны* (Я. Колас. Новая зямля), *досыць-такі няўклюдны* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна), *досыць-такі нялёгкі* (І. Шамякін. У добры час), *адносна прыстойны* (Я. Брыль. Думы ў дарозе), *прыблізна адначасовы* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *прыкладна аднолькавы* (І. Кудраўцаў. Кузьма Чорны), *увогуле спакойны* (І. Шамякін. Сэрца на далоні), *наогул нядрэнны* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі), *параўнальна вузкі* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...), *параўнальна буйны* (У. Няфёд. Беларускі тэатр), *параўнаўча невялічкі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Асобна ў гэтай групе вылучаюцца словазлучэнні з прыслоўямі, якія больш канкрэтна ўказваюць на тое, што прымета ў вельмі нязначнай меры не дасягае нормы; тут у якасці галоўнага слова могуць выступаць таксама і адносныя прыметнікі: *амаль генеральскі* (П. Пестрак. Серадзібор), *амаль легендарны* (І. Мележ. Людзі на балоце), *амаль стогадовы* (Я. Брыль. Што пішуць пра цябе, каханне...), *амаль што цвярозы* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *амаль што звычайны* (Э. Самуйлёнак. Будучыня), *амаль што непрытомны* (М. Лобан. На парозе будучыні), *амаль што яшчэ дзіцячы* (І. Шамякін. Глыбокая плынь), *бадай-што прыгожы* (І. Шамякін. Сэрца на далоні), *амаль ці не інтымны* (Н. Перкін. Шляхі развіцця беларускай савецкай літара-

туры). *Сёння няма ніякага пасяджэння, і ён* [Віктар] *б л і з к а ш т о з у с і м в о л ь н ы* (М. Г а р э ц к і. Вязьмо).

Такія ж адносіны выражаюць словазлучэнні з прыслоўем *ледзь*, калі пры ім ёсць адмоўе *не: ледзь не казачны* (Я. Б р ы л ь. Пісьменнік і сучаснасць), *ледзь не чырвоны* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Світанне), *ледзь не навуковы* (А. А д а м о в і ч. Беларускі раман), *ледзь не панічны* (Н. П е р к і н. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *ледзь не магічны, ледзь не месіянскі* (там жа).

§ 283. Асобны тып складаюць ад'ектыўныя канструкцыі, у якіх залежнае ад прыметніка прыслоўе выражае н я з н а ч н а с ц ь і ч а с т к о в а с ц ь п р а я ў л е н н я прыметы або н я з н а ч н а с ц ь п е р а в ы ш э н н я звычайнай нормы: *ледзь улоўны* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні), *ледзь кучаравы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы), *ледзьве чутны* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся), *ледзь-ледзь прыкметны* (М. Л у ж а н і н. Мастак), *чуць-чуць заметны* (Я. К о л а с. Новая зямля), *трохі пануры* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы), *троху пісклявы* (З. Б я д у л я. Лявоніха і Сымоніха), *трошкі сумны* (А. З а р ы ц к і. Аповесць пра залатое дно), *трошачкі пухлявы* (Я. С к р ы г а н. Неспадзеўнае падарожжа), *крыху суровы* (П. П е с т р а к. Серадзібор), *крышку кірпаты* (Я. С к р ы г а н. Па дарозе), *крышачку гугнявы* (М. Л у ж а н і н. Сілівон на дачы), *злёгку лірычны* (Я. Б р ы л ь. Пісьменнік і сучаснасць), *некалькі натуралістычны* (А. А д а м о в і ч. Беларускі раман), *колькі-небудзь сур'ёзны* (Я. Г е р ц о в і ч. На перадавых пазіцыях), *колькі-небудзь самабытны* (Н. П е р к і н. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *часткова наіўны, часткова прымітыўны* (там жа).

§ 284. Трэба адзначыць групу словазлучэнняў, у якіх адыменныя і адлічэбнікавыя прыслоўі называюць канкрэтную колькасную меру праяўлення прыметы: *напалавіну вольны* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах), *напалавіну сівы* (Я. К о л а с. У палескай глушы), *трыкраць чырвоны* (М. Л у ж а н і н. Дар астурыйца), *рады ўдвая* (М. Л у ж а н і н. Ліпеньскі цвет).

§ 285. Некаторыя прыслоўі ў складзе ад'ектыўных канструкцый, паказваючы ступень прыметы, пацвярджаюць разам з тым характэрнасць для прадмета (або розных прадметаў) іменна дадзенай, а не якой-небудзь іншай прыметы: *адзіна правільна* (М. З а р э ц к і. Вязьмо), *адзіна справядлівы* (Я. Г е р ц о в і ч. На перадавых пазіцыях), *чыста практычны* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся), *чыста знешні* (Я. Б р ы л ь. Пісьменнік і сучаснасць), *чыста прафесіянальны* (Я. С к р ы г а н. Дакументальная рэвізія), *паслядоўна рэвалюцыйны* (В. Б а р ы с е н к а. Францішак Багушэвіч...), *паслядоўна сацыялістычны* (Н. П е р к і н. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры), *аднолькава глыбокі* (В. Т а ў л а й. Святкуе свой дзень Занямонне), *аднолькава любы* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі).

### Словазлучэнні, якія выражаюць прычынныя адносіны

§ 286. Словазлучэнні з п р ы ч ы н н ы м і адносінамі складаюць малапрадуктыўныя тыпы канструкцый. Магчымасці ўтварэння іх абмяжоўваюцца тым, што ў ролі залежнага кампанента выступаюць толькі прыслоўі *таму, чагосьці, чамусьці: Ты нешта бачыш і не разумееш, і т а м у ты н е с п а к о й н ы* (М. З а р э ц к і. Вязьмо). *Гаварый нешта простае, але ч а м у с ь ц і н е з р а з у м е л а е* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Ён неспадзеўкі падняў на хлопца здзіўлены, ч а м у с ь ц і ў с х в а л я в а н ы позірк* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Шчокі ў яе ч а г о с ь ц і мокрыя, як быццам ад слёз* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

З а ў в а г а. Сустракаюцца выпадкі, калі прыслоўе *таму*, уваходзячы ў склад ад'ектыўнай канструкцыі, разам з тым з'яўляецца часткай злучніка ў складаназалежных

сказах: *У той жа час, тымі самымі сцежкамі... з вёскі ў вёску, з хаты ў хату вандраваў непрыкметны чалавек рызыкоўнай прафесіі — збіральнік беларускай народнай песні. Прафесіі рызыкоўнай таму, што песня разам з народам была асуджана на смерць* (В. Таўлай. Невыпадковая сустрэча).

## Словазлучэнні, якія выражаюць часавыя адносіны

§ 287. У якасці залежнага ад прыметніка слова могуць выступаць амаль усе прыслоўі з часавым значэннем, якія ўжываюцца і пры дзеясловах. Дзякуючы гэтаму словазлучэнні з часавымі адносінамі складаюць у сінтаксічнай сістэме беларускай літаратурнай мовы вельмі прадуктыўныя тыпы канструкцый. У залежнасці ад лексічнага значэння прыслоўяў, якія паясняюць прыметнік, словазлучэнні з часавымі адносінамі падзяляюцца на некалькі больш-менш самастойных тыпаў.

§ 288. Вылучаецца даволі вялікая група словазлучэнняў, у якіх пры дапамозе прыслоўя падкрэсліваецца часавае пастаянства прыметы, названай галоўным словам. Залежным словам тут часцей з'яўляюцца прыслоўі *заўсёды* (дыялектн. *заўсягды*), *заўжды* (устар.), *назаўсёды, звычайна, вечна, спрадвеку, спрадвечна, адвеку, адвечна, навекі, навечна, пастаянна, даўно, здаўна (здавён), аддаўна, змалку. Маўклівы заўсёды Кухар больш Грамабою не адказваў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Дзяўчыну згадаем у песні мы шчырай, у песні аб вернай любві, аб Дзвіне, што к мору нястрымна свой шлях пракладае, заўжды неспакойная і маладая* (А. Зарыцкі. На Дзвінскіх парогах). *З дзяцінства зведаны і назаўсёды памятны прыемны пах разліўся па хаце* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Голас жонкі, звычайна піскклівы і сварлівы, здалёку звінеў басавымі ноткамі* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Ты пачуеш, як б'ецца крыніцай сэрца вечна жывое зямлі* (А. Звонак. Дагарэла зара ў небакраі).

Прадуктыўнасць разгледжанага тыпу канструкцый абумоўліваецца і тым, што з боку якасных прыметнікаў не наглядаецца якіх-небудзь абмежаванняў у сэнсе магчымасцей спалучэння іх з прыслоўямі гэтай семантычнай групы.

§ 289. Другі значны па колькасці тып складаюць словазлучэнні, у якіх залежнае прыслоўе паказвае непастаянства прыметы, названай галоўным словам — прыметнікам. Такія словазлучэнні выражаюць адносіны абмежавання прыметы ў пэўных часавых межах. Некаторыя прыслоўі паказваюць, што выяўленне прыметы, названай прыметнікам, адносіцца да мінулага часу: *раней адсталы, некалі дужы, калісьці свежы, калісь магутны, тады невялікі, учора недаступны* і інш. *Памяркоўны, ленаватыі ліберальны раней, ён здзіўляўся цяпер сам сабе: адкуль бярэцца такая энергія* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Я, малы спадарожнік вялікай Зямлі, вам з нябёсаў кажу, недаступных учора* (А. Зарыцкі. Голас спадарожніка). *Вядомым ён зрабіў на цэлы свет калісьці непрыкметны гэты горад* (М. Аўрамчык. Дом I з'езду РСДРП). *Я сын нявольніцы жабрачкі, калісь магутнай вольнай пані* (М. Машара. Я сын нявольніцы). *Валасы яе, некалі пышныя і густыя, былі як абскубаныя* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі). *Бясконных двароў на ўсю невялікую тады вёску Еўлічы на Случчыне толькі і было, што наш* (В. Вітка. Жыццё і паэзія).

Некаторыя прыслоўі ў складзе ад'ектыўнай канструкцыі ўказваюць на тое, што прымета выяўлялася ў мінулым да пэўнай часавай мяжы: *непрыкметны дагэтуль, уплывовы дасюль, пусты датуль* і інш. *Трэба, мусіць, падумаць пра цябе наконт хамутоў і ячменю,— не вытрымаў і сказаў яму ўслед маўклівы дагэтуль Жывіцкі* (К. Чорны. Звяга). *Над шумнай дагэтуль вуліцай павісла незвычайная ціш*

(Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *А сейбіт твой, дасюль самотны, абцёршы сонцам воблік потны, пад крыж не пойдзе енчыць квола* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...). *Яны прабеглі, пратупалі паўз Турайца, запоўніўшы пустую датуль высеку цёмнымі рухомымі постацямі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Асобна трэба адзначыць словазлучэнні з прыслоўямі *пакуль, пакуль што, яшчэ,* якія паказваюць, што якасць, названая галоўным словам, працягвае існаваць да некаторага перыяду, але наступіць момант, калі яна набудзе іншыя рысы: *пакуль неразвіты, пакуль што патрэбны, яшчэ малады, яшчэ дзіцячы* і інш. *Пазвозіліся боепрыпасы. Безліч вялізных штабялёў скрынак са снарадамі і бомбамі, пакуль маўклівымі, хаваліся ў выкапаных ямах і лясах* (І. Мележ. Мінскі напрамак). [Ён] *пазірае адтуль, з высокасці, на бедную пакуль што, ды ўжо вясёлую, харошую вясноўскую ідаль палёў, лагоў і лесу* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь). *Прагна грызлі бліскучыя пілы таўсматую, відаць сырую яшчэ, елку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Вярнуўся ён разам з гаспадыняй, яшчэ маладой і дужа прывабнай кабетай* (Я. Колас. На ростанях). *Сям-там па нізкіх мясцінах чуліся днём ледзь улоўныя пераліва нябачных яшчэ ручаінак* (М. Лынькоў. Астап).

Ёсць група прыслоўяў, якія ўказваюць, што прымета, названая галоўным словам, выяўляецца ў дадзены момант або наогул у цяперашні час: *маўклівы цяпер, нікчэмны зараз, рашучы сёння (сягоння)* і інш. *У руках капітан трымаў непатрэбны цяпер рэвальвер* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). [Васіль] *бег, вясёлы і нецярплівы, да знаёмых, цяпер такіх мілых груш ускрай сяла* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Ахрэм паявіўся ў хаце не адзін, а пад вартай сваёй сёння вельмі рашучай жонкі* (там жа). *Маўчаў і Жарнавік, нібы ўслухоўваючыся ў маўчанне гэтай неспадзяванай сягонняя сяброўкі* (П. Пестрак. Серадзібор). *Стукала ў скроні думка, недчэпная і нікчэмная зараз, аб пісаным летась пратэсце на злачынную нядбайнасць* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

Некаторыя прыслоўі ўказваюць на аднесенасць прыметы да будучага часу: *пазней выдатны* і інш. *Прыблізна ў гэты ж час у Мінску служыў А. А. Бястужаў-Марлінскі, пазней відны член «Паўночнага таварыства»* (В. Барысенка. Францішак Багушэвіч...).

§ 290. Асобны тып складаюць словазлучэнні, у якіх залежнае прыслоўе паказвае перыядычнасць і кароткачасовасць выяўлення прыметы, названай галоўным словам; некаторыя з гэтых словазлучэнняў выражаюць разам з тым адносіны абумоўленасці: *часам смешны, часамі недарэчны, падчас гарачы, пад вечар халаднаваты, няясны ўночы, лагодны ўдзень, перш невыразны, спярша вясёлы, спачатку слабы, часта непрыкметны. Гукі гэтыя набліжаюцца, зліваюцца ў аднастайнае, часамі бесперапыннае гудзенне* (Х. Шынклер. Блок). *Яна рабіла яму безліч самых разнастайных, часамі дужа дзівосных і смешных запытанняў* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Ля Прыпяці часта грудкі-астраўкі трапляюцца ці на прасторы балотнай, падчас недаступнай, зусім непраходнай* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *Гэта не значыць, што да яго істоты не далятаці тыя, падчас гарачыя, подступы «тамлення духу»* (П. Пестрак. Серадзібор). *Малюся жывучай вадзіцы-разводдзю, ў дзень ясны бліскучай, а страшнай уночы* (Я. Купала. Мая малітва). *І над ракой, удзень яшчэ лагоднай, ірве ў шмаці звычайныя правы суровы норай Балтыкі халоднай, дзесяцібальны вецер штармавы* (А. Звонак. Шторм). *Кватэра іхняя была ў старым доме, нізкім і вільготным нават улетку* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *О, Брэст мой горды, мужны, родны, прыгожа-казачны ўначы!* (М. Засім. У Брэсце).

§ 291. Залежнае прыслоўе можа ўказваць на месца або прастору, дзе выяўляецца прымета, названая галоўным словам. Такія словазлучэнні выражаюць п р а с т о р а в а-л а к а л ь н ы я адносіны з абмежавальным адценнем; ужываюцца яны даволі часта ва ўсіх стылях літаратурнай мовы: *цёмны ўверсе* (Я. К о л а с. Дрыгва), *напаўкруглы ўверсе* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі), *азызлы ўнізе* (Х. Ш ы н к л е р. Сонца пад шпалы), *шырокі ўдалі* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні), *пусты ўнутры* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казэмата), *левы зверху* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах), *зверху чырвоны* (Я. К о л а с. Новая зямля), *знізу белы, спаднізу наздраваты* (там жа), *зверху чырвоны* (Я. К о л а с. На ростанях), *чорны знізу і зверху* (З. Б я д у л я. Год за годам), *шырокі кнізу* (В. В і т к а. Баравіцкія музыкі), *нявідны звонку* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі), *звонку быстры* (М. З а с і м. Старонкі з жыцця), *глянсаваны знадворку* (Х. Ш ы н к л е р. Запіскі інструктара Томана), *данізу ссохлы* (І. М е л е ж. Людзі на балоце), *спераду рудзенькі, ззаду як не чорны* (там жа), *доўгі і вузкі блізка* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні), *усюды вядомы* (Я. С к р ы г а н. Законы), *нідзе не лішні* (Я. Б р ы л ь. Разумна, сардэчна, весела), *прысутны тут* (Я. К о л а с. Рыбакова хата), *здалёк прыметны* (там жа), *нявідны адсюль* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак), *чутны адсюль* (І. М е л е ж. Людзі на балоце), *нябачны адсюль* (М. П а с л я д о в і ч. Цёплае дыханне), *далёкі адгэтуль* (П. П е с т р а к. Серадзібор), *бачны зводдаля* (К. К і р э е н к а. Зорка), *несамавіты зблізку* (Я. К о л а с. Дрыгва).

З а ў в а г а. Некаторыя прыслоўі з больш ці менш яркім прасторавым значэннем у складзе ад'ектыўных, як і дзеяслоўных, канструкцый могуць набываць іншыя сэнсавыя адценні (ступені, мэты, часу), параўн.: *скрозь п'яны* (Б. М і к у л і ч. Дужасць), *куды варты* (Я. К о л а с. Паслушная жонка), *нікуды не варты* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі), *нікуды нягодны* (Я. К о л а с. У палескай глушы), *нявідны ўпоцемку* (М. Г а р э ц к і. «Дурны настаўнік»).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫМЕТНІКАЎ З ІНФІНІТЫВАМ

§ 292. Інфінітыў можа паясняць толькі тыя прыметнікі, якія ўваходзяць у семантычную групу слоў са значэннем с т а н у. Такія словазлучэнні выражаюць а б' е к т н ы я адносіны з абмежавальным адценнем: *гатовы ехаць, рады слухаць, здольны марыць, няздольны вучыцца, не здатны карыстацца, павінен знайсці, схільны паэтызаваць, згодзен дапамагаць, ахвочы смяяцца, волен пакахаць, адважны сказаць, дужы хваліцца, слабы працаваць, бяссільны змагацца* і інш. Асобным з гэтых словазлучэнняў сінанімічны субстантыўныя словазлучэнні з адпрыметнікавымі назоўнікамі, параўн.: *гатоўнасць ісці, здольнасць адчуваць, схільнасць прасіць.*

*Аленка перамагае ўсмешку, г а т о в у ю з а к р а с а в а ц ь на яе свежанькіх губках* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Аж душа мая святлее, і с п я в а ц ь я зноў г а т о ў* (Я. К о л а с. Вясна на Палессі). *Часамі я яго ненавідзела, часамі шкадавала. Ён з д о л е н з д з е к в а ц ц а з другога, ён з д о л е н м у ч ы ц ь сваю сям'ю* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Адбылася кароткая гутарка з Сучком — патрэбен чалавек на пасаду сакратара, і яго п а в і н е н з н а й с ц і Андрэй* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Праўда, Іван Паддубны с х і л ь н ы быў д у м а ц ь інакш, але майкліва рабіў уступку агульнай думцы* (там жа). *Хлопцы-зухі і дзяўчаты п а г у л я ц ь тымчасам р а д ы* (Я. К у п а л а. Сцёпка Жук). *Хто ж а х в о ц е н з нас у с т а в а ц ь з зарой* (Я. К у п а л а. Янка Канцавы).

Заўвага. Некаторыя словазлучэнні прыметнікаў з інфінітывам утварыліся дзякуючы апушчэнню некаторых кампанентаў складаных сінтаксічных канструкцый з мэтавымі адносінамі: *ты яшчэ малы бацьку ўказваць* (К. Чорны. Зямля). *Твая валока занадта вузкая жаніцца* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Ен яшчэ зялёны касіць* (І. Мележ. Людзі на балоце). Параўн.: *яшчэ малы, каб бацьку ўказваць; валока занадта вузкая, каб табе можна было жаніцца; авёс яшчэ зялёны, каб можна было касіць.*

§ 293. У радзе выпадкаў залежным кампанентам словазлучэнняў гэтага тыпу з'яўляецца не асобны інфінітыў, а фразеалагічны ці ўстойлівы выраз з інфінітывам: *гатоў кругу даці* (Я. Купала. Сцёпка Жук), *гатоў у вочы сыпнуць прыску* (Я. Колас. Новая зямля), *пальцам ткнуць гатовы* (Я. Колас. Сымон-музыка), *хадзіць гатоў на галаве* (Я. Колас. Рыбакова хата), *скуру гатовы драць* (Я. Колас. У глыбі Палесся), *сляза з вачэй паплыць гатова* (там жа), *гатовы прыкрываць агнём* (К. Крапіва. Проба агнём), *гатовы адбіць атаку* (К. Крапіва. Мілы чалавек), *гатовы кінуцца назад* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце), *гатовы душу вытрасці* (Э. Самуйлёнак. Будучыня), *гатовы ўступіць у бой* (там жа), *гатовы сэрцы скарыць* (В. Таўлай. Лістоўка), *гатовы даць добрага чосу* (М. Зарэцкі. Вязьмо), *гатоў учапіцца ў валасы, гатовы парабіцца чыноўнікамі* (там жа).

Заўвага. У фразеалагічным выразе, які з'яўляецца залежным ад прыметніка членам словазлучэння, інфінітыў можа апускацца, але ён лёгка ўзнаўляецца з кантэксту: *Так і знай, што ў хаце ёсць дзеўка, гатовая замуж* (В. Вітка. Познія палыны). Параўн.: *гатовая выйсці замуж.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫМЕТНІКАЎ З АЗНАЧАЛЬНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 294. Акрамя назоўнікаў, асабовых займеннікаў, прыслоўяў і неазначальнай формы дзеяслова, у ролі залежнага кампанента ад'ектыўных словазлучэнняў могуць выступаць азначальныя займеннікі. Гэтыя словы служаць для выражэння вычарпальнасці, паўнаты прыметы, выражанай галоўным словам, а таксама для падкрэслівання ступені яе праяўлення: *увесь жалезны* (П. Пестрак. Серадзібор), *увесь шэры* (там жа), *увесь чорны* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Такія канструкцыі не з'яўляюцца прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай мове, таму што яны абмежаваны з боку залежнага слова (іншых займеннікаў, якія б выступалі ў паказанай функцыі, няма).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЛІЧЭБНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА СЛОВА

§ 295. Пэўна-колькасныя лічэбнікі ад *пяці* і вышэй, няпэўна-колькасныя і зборныя лічэбнікі ў назоўным склоне, а таксама ў вінавальным, які супадае з назоўным, кіруюць назоўнікам ці іншым словам, што выступае ў ролі назоўніка: *пяць сталоў, дваццаць крэслаў, многа сталоў, некалькі крэслаў, двое братоў* і інш. *Сяргей так і абамлеў: каля яру, крокаў пяцьдзесят ад яго, хадзіў вартавы і аклікаў яго* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Некалькі мінут у хаце панавала цішыня* (Я. Колас. Бунт). *Праз хвіліну яму ўжо было добра відаць, што ідуць двое людзей* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Ва ўскосных склонах лічэбнікі дапасуюцца да назоўніка (*пяці сталоў, некалькіх крэслаў* і інш.). Лічэбнікі *два, тры, чатыры* ў назоўным склоне выступаюць як члены непадзельнага іменна-колькаснага спалучэння. У некаторых дапаможніках і формы назоўнага склону гэтых лічэбнікаў разглядаюцца як дапасаваныя да назоўніка.

Змена парадку членаў словазлучэння з пэўна-колькасным лічэбнікам у ролі галоўнага слова прыводзіць да змены значэння. Вынясенне залежнага назоўніка ў пазіцыю перад лічэбнікам абумоўлівае тое, што лік абазначаецца недакладна, прыблізна *(пяць сталоў — сталоў пяць*, гл. т. 1, § 643).

Зборныя і няпэўна-колькасныя лічэбнікі могуць мець пры сабе залежныя ад іх словы з прыназоўнікамі. Словазлучэнне ў гэтым выпадку часцей за ўсё выражае вылучальныя адносіны, але словазлучэнне са зборным лічэбнікам у якасці галоўнага слова можа мець і азначальны характар. *Наўкола пяць чалавек. Чацвёра з іх з вінтоўкамі* (П. Галавач. З тых дзён). *Вось двое з грамадзян гэтай рэспублікі распачалі барацьбу не на жыццё, а на смерць з-за чубатай красуні* (К. Крапіва. Вясна). *У канцылярыі рэўкома было ўжо некалькі чалавек з рэўкомаўцаў, у тым ліку Тамаш Яўгенняў, Сіман Хаімаў ды іншыя* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»). *У перадку, падкурчыўшы ногі, пацмоквае на каня малады хлапчук, а ў задку дрэмлюць двое ў брудных брызентавых накідках* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Пасля прабегла яшчэ двое з вінтоўкамі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Словазлучэнне з лічэбнікам *адзін* і залежным назоўнікам з прыназоўнікам хоць і мае значэнне, блізкае да вылучальнага, але роля самога лічэбніка ў ім набліжаецца да ролі няпэўнага займенніка: *«Гэ, яго бацька астанецца, яму няма чаго непакоіцца»,— упікнуў адзін з грамадкі* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»). *І калі неўзабаве, сапраўды, адзін з касцоў знайшоў невядома кім закінутую сюды алюмініевую конаўку, смеху было яшчэ больш* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *Пасля адно з іх прапануе гуляць у хованкі* (Я. Брыль. У сям'і).

Характар вылучальнасці маюць і словазлучэнні з парадкавым лічэбнікам у ролі галоўнага слова і залежным назоўнікам ці субстантываваным словам з прыназоўнікам: *А за спіной за сотню-другую крокаў пачынаецца вёска, дзе трэцяя з правага боку стаіць яго хата* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Шырокі двор на вуглу пятай ад канца горада вуліцы ажывае* (К. Чорны. Бяздонне).

Своеасаблівы характар маюць колькасна-іменныя спалучэнні, у якіх да лічэбніка далучаецца іменнае слова з прыназоўнікам (*з гакам, з лішкам* і інш.), апошняе надае значэнне некаторай няпэўнасці ліку: *Дзвесце з лішкам хат у Новым Сяле, дзвесце з лішкам гаспадароў* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Цётка Сара гэтак сама мела бабчыны гады — шэсцьдзесят было ёй з гакам, а цвіла кабета макам* (К. Крапіва. Біблія). *«Колькі ты ў гэтага хлюста прыняў?» — спытаўся ён, падышоўшы да лаўкі.— «Дзвесце, здаецца, з нечым»,— адказаў Толя* (Я. Брыль. На Быстранцы).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЗАЙМЕННІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА СЛОВА

§ 296. Асабовыя, зваротныя і адмоўныя займеннікі могуць мець пры сабе дапасаваныя да іх словы толькі ў складзе сказа. Да зваротнага і асабовых займеннікаў пры гэтым могуць адносіцца толькі адасобленыя азначэнні, пры адсутнасці адасаблення займеннікі ў большай ці меншай ступені субстантывіруюцца: *Сонная, яна хістанулася на нагах і шпарка пайшла ў хату* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Смутная дарога! Не суліць яна старэнькай добрага нічога* (Я. Колас. Перад судом).

Да адмоўнага займенніка ў кантэксце можа далучацца і недапасаванае азначэнне: *Ніхто з прахожых не заўважыў яго* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Няпэўныя займеннікі і займеннікі, што выступаюць у функцыі няпэўных, свабодна далучаюць да сябе прыметнікі, дзеепрыметнікі, іншыя займеннікі (прыметнікавыя). Гэтыя словы дапасуюцца да займенніка і, як правіла, стаяць пасля яго: *Гляджу — стаіць нехта няшчасны адзін, сагнуты, як той свіны татка* (Я. Колас. Даняў). *Нешта нялюдскае сядзіць у табе* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *А можа і сапраўды надарыцца яму дзе што добрае* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ён адхіснуўся, нібы чымсьці вострым штурханулі яму ў грудзі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Не я, то нехта іншы ўзяў бы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Але калі ў падобных сказах члены словазлучэння ўтвараюць цеснае адзінства і розніца паміж галоўным і залежным словамі не такая ўжо вялікая, то ў словазлучэннях з вылучальнымі адносінамі роля галоўнага слова больш выразная. Залежныя словы тут далучаюцца пры дапамозе прыназоўнікаў. Выражэнне азначальных адносін пры такім характары далучэння сустракаецца рэдка: *Штосьь з былога — ім, вядома, пэўна ў памяці ўсплыло* (Я. Колас. Парад). *Хтосьці з мясцовых жыхароў, які быў у чайной, узяўся правесці Ніну да бальніцы* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *«Я захапіў нават з адзежы што-кольвек,— казаў далей Франусь,— і пару чаравік для бацькі»* (Ц. Гартны. Бягунец). *Сам жа Зязюльскі пасля гэтага заганарыўся і казаў таму-сяму з панямонцаў: «Ну, куды ж вы варты»* (Я. Колас. На ростанях). *Яна не бачыла, як праз хвіліну шафёр ізноў спыніўся на шашы і запрасіў ласкава ў кабіну кагосьь з партфелем, у капелюшы* (Н. Гілевіч. На шашы).

Такі ж характар вылучальнасці маюць і словазлучэнні з азначальнымі і няпэўнымі прыметнікавымі займеннікамі: *У некаторых з іх* [раненых] *пачыналася ўжо гарачка, і яны варушыліся, шаматалі саломаю і выкрыквалі розныя словы* (К. Чорны. Будзем жыць). *Рух нерашучасці і замяшання скаваў некаторым з нас языкі* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Кожная з іх ведае думкі другой лепей, чымся свае ўласныя* (З. Бядуля. Лявоніха і Сымоніха).

Спалучэнні няпэўнага займенніка і залежнага слова ў родным склоне з прыназоўнікам *накшталт* у сучаснай беларускай мове ўжываюцца рэдка. Яны выражаюць адносіны падабенства: *Ён нават меў за плячыма нешта накшталт салдацкага ранца* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Віктар Мікалаевіч павёў справу так, што я міжвольна адчуў сябе нечым накшталт, па меншай меры, тэхніка-будаўніка* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Хлопцы з сасновага голля змайстравалі нешта накшталт маленькага будана* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

# ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 297. У сэнсава-граматычныя адносіны з дзеясловам і яго формамі — інфінітывам, дзеепрыметнікам і дзеепрыслоўем — могуць уступаць: назоўнікі, у тым ліку розныя субстантываваныя часціны мовы, а таксама займеннікі з абагульнена-прадметным значэннем: *напісаў (напісаць, напісаны, напісаўшы) карандашом, прачытаў (прачытаць, прачытана, прачытаўшы) у прафесарскай, даказаў (даказаць, даказана, даказаўшы) яму, ёй, усім*; атрыбутыўныя часціны мовы—прыметнікі, дзеепрыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, займеннікі з абагульнена-якасным значэннем: *адчуваў (адчуваць, адчуваўшы, адчуваючы) хворым, прывёз (прывезці, прывезены, прывёзшы) параненым, даплыў (даплысці, даплыўшы) першым, дастаўлены трэцім, пачырванеў (пачырванеўшы, пачырванелы) увесь, пачырванець усяму*; марфалагічна нязменныя словы — інфінітыў, прыслоўе, дзеепрыслоўе: *запрасіў (запрасіць, запрошаны, запрасіўшы) дапамагчы, абмеркаваў (абмеркаваць, абмеркавана, абмеркаваўшы) сёння, сказаў (сказаць, сказана, сказаўшы) пішучы.*

Заўвага. Не ўсе з названых тыпаў дзеяслоўных словазлучэнняў у аднолькавай меры характэрны для сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Так, нехарактэрнымі з'яўляюцца словазлучэнні з дзеепрыслоўямі ў ролі галоўнага і залежнага слоў (тыпу *сказаўшы пішучы, ідучы задумаўшыся*), лексічна абмежаваны словазлучэнні дзеяслоўных форм з атрыбутыўнымі часцінамі мовы і з некаторымі марфалагічна нязменнымі словамі.

Лексічнае і граматычнае значэнне слоў, з якіх складаюцца розныя тыпы дзеяслоўных словазлучэнняў, уплывае на характар сінтаксічных адносін і на формы сувязі паміж спалучальнымі словамі. Асабліва ўжывальнымі і багатымі па значэнню з'яўляюцца дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікамі і абагульнена-прадметнымі займеннікамі.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ДЗЕЯСЛОВАЎ З НАЗОЎНІКАМІ

§ 298. Дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікамі, а таксама з абагульнена-прадметнымі займеннікамі будуюцца ў адпаведнасці з правіламі кіравання, пры якім галоўнае слова — дзеяслоў патрабуе ад залежнага (назоўніка або займенніка з абагульнена-прадметным значэннем) пастаноўкі яго ў форме пэўнага ўскоснага склону. Залежнасць кіруемага слова ад кіруючага ў дзеяслоўных словазлучэннях можа выражацца або склонавай формай назоўніка ці займенніка без прыназоўніка, або пры дапамозе склонавай формы імені і прыназоўніка.

### БЕСПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 299. У беспрыназоўнікавых дзеяслоўных словазлучэннях залежны назоўнік (або займеннік з абагульнена-прадметным значэннем) можа выступаць у формах роднага, давальнага, вінавальнага і творнага

склонаў. Сярод дзеяслоўных словазлучэнняў з названымі склонавымі формамі імён асабліва прадуктыўнымі і разнастайнымі па значэнню з'яўляюцца канструкцыі з родным і вінавальным склонамі.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 300. Дзеяслоўныя словазлучэнні з родным склонам назоўніка звычайна выражаюць аб'ектныя адносіны з тымі ці іншымі адценнямі, і толькі невялікая група іх служыць для выражэння акалічнасна-часавых адносін. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі наглядаецца цесная залежная сувязь паміж кіруючым дзеясловам і яго кіруемым іменем—родным склонам назоўніка, наяўнасць якога пры гэтых дзеясловах з'яўляецца абавязковай. У словазлучэннях жа з акалічнасна-часавымі адносінамі далучэнне залежнага назоўніка да галоўнага слова — дзеяслова мае факультатыўны характар і адбываецца толькі тады, калі ёсць неабходнасць у дакладнай перадачы часу дзеяння.

### Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі

§ 301. Словазлучэнні, якія выражаюць а б'е к т н ы я адносіны, у залежнасці ад лексічнага значэння назоўнікаў, што выступаюць у ролі галоўнага і залежнага слоў, падзяляюцца на некалькі груп:

1. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае жаданне, імкненне, дасягненне або дачыненне, а залежнае слова называе аб'ект гэтага жадання, дасягнення або дачынення. Пры такіх дзеясловах звычайна ўжываюцца назоўнікі з адцягненым значэннем: *пажадаць удачы, патрабаваць справядлівасці, дабіцца перамогі, прытрымлівацца правіл, датычыцца паводзін* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку галоўнага слова. *Вітанне шле вам Асінбуд, ж а д а е п о с п е х а ў у працы!* (П. Г л е б к а. Дваццаты з'езд КПБ). *Лена Сініцкая даўно п р а г л а с а м а с т о й н а с ц і* (Я. С к р ы г а н. Няпрошаная сляза). *Працавітыя людзі ў лясах с м а г л і гэтага з в о н у і г р у к у* (П. Г л е б к а. Новы дом). *Х о ч а ц ц а ш ы р ы, п а в е т р а і с о н ц а, хочацца з лісцяў расінкі страсаць* (А. К у л я ш о ў. На шляху). *Людзі сена сушаць, косяць ды п а г о д ы ў неба п р о с я ц ь* (К. К р а п і в а. Год Сцяпана лайдака). *Д а ч а к а ў с я ён м а я* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча).

З а ў в а г а 1. У словазлучэннях з дзеясловамі *шукаць, чакаць* залежны назоўнік можа ўжывацца ў формах роднага і вінавальнага склонаў. У форме роднага склону пры гэтых дзеясловах амаль заўсёды выступаюць абстрактныя назоўнікі: *шукаць славы (шчасця, долі, адказу, рашэння, занятку, прыгод), чакаць дапамогі (збавення, ратунку, ласкі, сустрэчы, ад'езду, перашкоды, чаргі, загаду, адпачынку). Ермаліцкі ш у к а ў в ы п а д к у, каб чым падкалоць і самога Собіча* (Я. С к р ы г а н. Няпрошаная сляза). *Юрка падняў на Варыводу вочы і ч а к а ў а д к а з у* (Я. К о л а с. Чоран). *Дарэмна ўздыхала, ч а к а л а і ш ч а с ц я і д о л і* (А. К у л я ш о ў. Маці).

Дапускаецца часам ужыванне ў форме роднага склону пры дзеясловах *шукаць, чакаць* і назоўнікаў з канкрэтным значэннем *(шукаў ключа, чакаў тралейбуса)*, хоць больш уласціва ім, асабліва пры дзеяслове *шукаць*, усё ж форма вінавальнага склону *(шукаў ключ, чакаў тралейбус): Чалавек пайшоў у кут ш у к а ц ь д у б ц а* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *Доўга ч а к а л і п а р а х о д а* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Адны пабеглі па берагу, ш у к а ю ч ы л о д к у* (М. Л ы н ь к о ў. Чорная пляма). *Пайшлі ш у к а ц ь сваю м а ш ы н у* (М. Л ы н ь к о ў. У незнаёмым горадзе). *Доўга ч а к а л і г л і с е р ля прычала рачнога вакзала* (Я. П я р м я к. Кім быць).

Уласныя назвы асоб мужчынскага і жаночага полу пры дзеясловах *шукаць, чакаць* ужываюцца толькі ў форме вінавальнага склону *(шукаў Веру, чакаў Данілу)*, аднак агульныя назвы асоб могуць ужывацца і ў форме роднага склону *(шукаў машыністкі, чакаў гаспадыні): Ён выходзіў на чыгунку і ч а к а ў Р ы т у* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга). *Яна з трывогай ч а к а л а г а с п а д ы н і* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

Выпадкі ўжывання пры дзеяслове *чакаць* назоўнікаў у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на (чакаць на адказ, чакаць на прысуд)* трэба разглядаць як адхіленне ад літаратурнай нормы. Канструкцыі гэтага тыпу бытуюць пераважна ў некаторых паўночна- і паўднёва-ўсходніх дыялектах беларускай мовы і трапілі ў мастацкія творы паасобных пісьменнікаў пад уплывам гутарковай мовы. *Сівыя туманы ч а к а ю ц ь н а*

*прыход ночы* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Людзі пахаваліся па кутках, чакаючы на бядоты* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Пад сваім далёкім дахам на адказ чакацьмеш ты* (А. Куляшоў. Адказ).

Заўвага 2. Пры дзеясловах *патрабаваць, вымагаць* назоўнікі з адцягненым значэннем заўсёды выступаюць у форме роднага склону (*патрабаваць дысцыпліны, вымагаць падтрымкі*), а назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем — пераважна ў форме вінавальнага склону (*патрабаваць кнігу, вымагаць даведку*) і зрэдку (звычайна ў мове мастацкай літаратуры) — у форме роднага склону (*патрабаваць памяшкання, вымагаць карандаша*): *Яна патрабавала ўвагі да сотні вялікіх і дробных спраў* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Многае патрабавала перагляду* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Дзедава думка была такая, што вымагала дапамогі адважных людзей* (Я. Колас. Дрыгва). *Дзед патрабаваў нейкую даведку аб старасці* (А. Якімовіч. Базылёў курган). [Сімон] *сказаў, што сорам вымагаць грошы ад чалавека, які так пацярпеў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Яны тузаюць вас з усіх бакоў, яны патрабуюць ёлкі* (К. Крапіва. З новым шчасцем!).

2. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў мае значэнне ўнікнення, пазбаўлення, а залежнае слова — назоўнік абазначае прадметы або паняцці ў якасці аб'ектаў унікнення, пазбаўлення: *сцерагчыся цягніка, палохацца цяжкасцей, апасацца прастуды, саромецца старэйшых, пазбыцца няволі* і інш. *Павел нясмела наблізіўся да хлопцаў, усё яшчэ баючыся кпінаў і насмешак* (І. Шамякін. У добры час). *Яму ісці ў навуку час, а ён людзей яшчэ дзічыцца* (М. Арочка. Хутаранін). *Падпольнае і партызанскае жыццё навучыла яго асцерагацца ворага* (А. Якімовіч. Брат і сястра). *Сустрэч з Марыяй вельмі далікатна пазбягала* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Ён з першых дзён адцураўся дзіцячых гульняў вясёлых* (А. Куляшоў. Быліна пра волата). *Пазбыцца трывог цяжка ў хаце маўклівай, пустой* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

3. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае пэўнае канкрэтнае дзеянне, а залежнае слова — аб'ект, які часткова падвяргаецца гэтаму дзеянню. У залежнасці ад значэння і форм спалучальных слоў тут вылучаюцца:

а) словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца пераходны дзеяслоў закончанага трывання (асабліва часта з прыстаўкамі *у-, вы-, на-, з-, за-, пры-, па-, ад-, пад-, пера-* і інш.), які называе такое дзеянне, што можа ахопліваць частку прадмета, а залежным словам — рэчыўныя, зборныя і некаторыя абстрактныя назоўнікі, якія паддаюцца частковаму ўздзеянню: *усыпаць мукі, выпіць вады, набыць ведаў, зварыць бульбы, скінуць саломы, заварыць чаю, прывезці торфу, патраціць сіл, адсыпаць круп, падсыпаць пяску, перанесці дроў* і інш. *Пасля ўвязаў Алёша хлеба ў мяшок і некалькі кніжак* (К. Чорны. Бяздонне). *Я наліў яму ў сподак малака* (Я. Брыль. Шчасце маленства). *Ён сабраў для дзетак мёду залатога, хлеба маладога* (А. Куляшоў. Чмель). *У апошні дзень бацька прынёс маці трохі грошай* (Я. Маўр. Слёзы Тубі). *Покі Нінка спіць, трэба трохі аддаць увагі і Верцы* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *Іван вынес з клуні ў кашалі сечкі* (Я. Колас. Дачакаўся).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца пераходны дзеяслоў закончанага трывання з прыстаўкай *на-* і выражае значэнне паўнаты дзеяння, а залежным словам — назоўнік у форме роднага склону, які абазначае рэчыўныя, зборныя або непадзельныя прадметы ці паняцці: *нанасіць дроў, награбці сена, намалоць мукі, наабсякаць сукоў, наабменьваць кніг, нагаварыць непрыемнасцей* і інш. *Хату ён уцяпліў, на столь нацягаў кастрыцы і пяску* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Зноў маладых каштанаў шмат мы працавіта насадзілі* (М. Танк. У гарадскім садзе). *Начапляў на сябе лісця і вязе ў нару* (А. Якімовіч. Казка пра смелага вожыка). *Глыбокія снягі запарушылі ўсе лясныя дарогі, нарабіўшы*

багата *клопату* *разведчыкам, сувязным* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Сюды прымыкаюць таксама словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць ускосна-пераходныя дзеясловы закончанага трывання з афіксам *-цца(-ся)* і прыстаўкамі *на-*, *аб-*, зрэдку *пера-* (без афікса *-ся*) і выражаюць максімальную ступень праяўлення дзеяння: *нанюхацца табаку, наглытацца дыму, начытацца кніг, нацярпецца гора, аб'есціся груш, пераесці мяса* і інш. *«Хоць сам для сябе начытаўся разумных брашурак, і гэта, брат, добра»,— гаварыў ён* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Нацярпелася яна страху* (Я. Маўр. Амок). *Мы наслухаліся дайніх казак, што калісь расказвалі дзяды* (М. Аўрамчык. Галубы). *Каб жа ты не лёг задарам, прывялі ветэрынара, і дазналі мы прычыну — пераеў ты канюшыны* (П. Броўка. Мышасты).

У ролі галоўнага слова дзеяслоўных словазлучэнняў, якія выражаюць аб'ектныя адносіны са значэннем частковага ўздзеяння на прадмет, зрэдку могуць выступаць прама- або ўскосна-пераходныя дзеясловы незакончанага трывання. Гэтыя словазлучэнні выражаюць значэнне непаўнаты дзеяння: *А на двары сонца набірала сілы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Вы бачыце, як янаналівае ў міску вады з вядра* (К. Крапіва. З новым шчасцем!). *Пані Даміцэля памаленьку раздабывала living розпага насення для свайго агароду* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Узяў сецъ рыбы палавіць і ўжо два тыдні як ні сеці, ні рыбы* (Э. Самуйлёнак. Палаўнічае шчасце).

Заўвага. Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні могуць набываць устойлівае значэнне: *Ён бы даў перцу гэтым нікчэмным нягоднікам, каб яго на тое ўлада* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Гаворыць Сцёпка і на Аленку не глядзіць, каб па вачах яго не пазнала, што ён трохі туману напускае* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Як мокрыя вароны, снуюдаюцца або як блёкату аб'еўшыся* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Словазлучэнні са значэннем частковага ўздзеяння на прадмет адрозніваюцца ад суадносных з імі дзеяслоўных словазлучэнняў з вінавальным склонам назоўніка, у якіх дзеянне, названае дзеясловам, пашыраецца не на частку, а на ўвесь прадмет, параўн.: *узяць хлеба* (якуюсьці частку) — *узяць хлеб* (усю колькасць), *даць грошай* (частку) — *даць грошы* (усю колькасць), *выпіць квасу* (пэўную меру) — *выпіць квас* (увесь квас).

Заўвага. Пад уплывам гутарковай мовы ў творах мастацкай літаратуры магчыма ўжыванне ў форме роднага склону (замест вінавальнага) назоўнікаў, якія абазначаюць непадзельныя прадметы ці паняцці. У такіх словазлучэннях звычайна выражаецца значэнне меры, колькасці або значэнне разавага, непрацяглага дзеяння: *Прыйдзецца нейкага рубля ці збожжа пуд выкінуць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Столькі клопату даводзіцца мець Ніку і яго музыкантам, каб здабыць лішняга цэнта на хлеб* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Дадуць мядзяка для прылiку, што ліў пот не толькі за кнут* (Я. Купала. Зімою). *Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш* (Я. Колас. У старых дубах). *Арэшка кінуў на агонь смаляка і ўгару вогненным слупам шуганулі іскры* (У. Краўчанка. Рыгор Шыбай).

§ 302. Асобную групу складаюць дзеяслоўныя словазлучэнні з адмоўем *не*, у якіх адмаўляецца значэнне ўздзеяння на аб'ект, параўн.: *жадаць спакою — не жадаць спакою, шукаць славы — не шукаць славы, палохацца цяжкасцей — не палохацца цяжкасцей* і інш. *Тубі зусім не баяўся гэтага выцця* (Я. Маўр. Слёзы Тубі). *Работа была цяжкая, але не вымагала ніякага ўмення* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Ніхто не чакаў такога здарэння* (Я. Колас. У балоце). *Тады ніякага апраўдання нічаму я не шукаў* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Хто вандровак не прагне, пабачыць зямлі не ахвоч?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў могуць выступаць прама-пераходныя дзеясловы з адмоўем *не*, якія суадносяцца са сло-

вазлучэннямі з вінавальным склонам назоўніка без адмоўя *не*, параўн.: *не зрабіць памылкі — зрабіць памылку, не парушыць графіка — парушыць графік, не заўважыць сігналу — заўважыць сігнал, не траціць часу — траціць час* і інш. Некаторыя словазлучэнні з адмоўем *не* з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі. *Не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум* (М. Багдановіч. Выйшаў з хаты). *Тваіх я песень не забуду* (П. Трус. Я пакахаў цябе да слёз). *Ні днём, ні ноччу ад турбот спакою ён не мае* (А. Куляшоў. Колас). *Была такая пара лета, калі не ўбачыш маўклівай птушкі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ён не спускаў вачэй з дзявочай постаці* (там жа). *Нервавайся Міхайлаў, месца сабе не знаходзіў* (Х. Шынклер. Прапаўшая грамата).

Заўвага. У размоўным стылі, і пад яго ўплывам і ў творах мастацкай літаратуры магчымы выпадкі ўжывання пры пераходных дзеясловах з адмоўем *не* назоўнікаў у форме вінавальнага склону: *не прачытаў кнігу, не падрыхтаваў урок, не напісаў пісьмо* і інш. *Твар не хаваю ад ветру, хай расцалуе буяны* (П. Трус. Пасля буры). *Свіст кулі чуў я на вайне, штык не здымаў з вінтоўкі* (А. Куляшоў. Крылы). *Каб нават я забіты лёг... свае не склаў бы крылы* (там жа). *Яшчэ на соснах сонечны прамень не запаліў жывіцу* (М. Танк. Янук Сяліба). *Лёгкае шалясценне арэхавых лістоў ледзь не заглушае яе словы* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Сілу іх не зломіць ніякая сіла* (Э. Самуйлёнак. Героі нацыі). *Патапавіч не падтрымаў размову* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

У форме вінавальнага склону асабліва часта выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць асоб: *З першага дня не ўзлюбілі Верамейчыкі Зосю* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Слухай, а цяпер ты Міколу не бачыў?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *А ніколі матку не зачэпіць* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Форму вінавальнага склону могуць мець таксама і тыя назоўнікі, якія падпарадкоўваюцца спалучэнню асабовай формы дзеяслова з інфінітывам: *Дзеці не пажадалі бачыць перад школай распрасцёртую, панурую здань, і ад крыжа застаўся невысокі чорны пень* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Забастоўка не здолела загасіць агні яе ліхтароў* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казёмата). *Ні цары, ні іхні слугі, ні паны, ні каты не маглі забраць, украсці гэты скарб багаты* (Я. Купала. Тарасова доля). *Не паспеў яшчэ Андрэй пачаць свой другі рабочы дзень, як да яго падышоў майстар* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

## Словазлучэнні з часавымі адносінамі

§ 303. Дзеяслоўныя словазлучэнні з часавымі адносінамі колькасна абмежаваны. Часавае значэнне іх найчасцей выражаецца спалучэннем парадкавага лічэбніка ў форме роднага склону і залежнага ад яго назоўніка ў гэтай жа склонавай форме. У большасці выпадкаў такія назоўнікі ў залежнай частцы абазначаюць назву месяца і зрэдку пару сутак або года: *прыехаць дваццаць восьмага красавіка, пазнаёміцца дваццатага жніўня* і інш. *Янка Купала нарадзіўся 25 чэрвеня 1882 года* (з газет).

Заўвага. Пад уплывам размоўнага стылю ў творах мастацкай літаратуры сустракаюцца словазлучэнні, у якіх часавае значэнне выражаецца спалучэннем назоўніка (*дзень, ноч, вечар, тыдзень, вясна, лета* і інш.) у форме роднага склону і залежнага ад яго ўказальнага або азначальнага займенніка ці парадкавага лічэбніка: *сустрэць таго ж дня, прыехаць той ночы (начы), заходзіць кожнай раніцы, адведаць трэцяга дня* і інш. *Той начы зноў дадому з'явіўся Змітрок* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Наталя прачытала ліст таго ж вечара* (Я. Скрыган. Наталя). *Тае вясны мы трое ў пана й засталіся* (П. Трус. Развітанне). *Пятрок звычайна кожнае нядзелі, або нават і два разы на тыдзень, вазіў у Слуцак малако* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну для дружыны пацеху, забаву* (Я. Купала. Курган).

Гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у* (гл. § 353) або з вінавальным склонам назоўніка без прыназоўніка (гл. § 309) і звычайна замяняюцца імі: *з'явіцца той ночы — з'явіцца ў тую ноч, заходзіць кожнай раніцы — заходзіць кожную раніцу* і інш.

У выключна рэдкіх выпадках часавыя адносіны выражаюцца спалучэннем колькаснага лічэбніка ў форме роднага склону з залежным ад яго назоўнікам у гэтай жа склонавай форме: *Сямі год я пай-*

*шоў у школу і, авалодаўшы сяк-так польскай мовай, пачаў чытаць* (Я. Брыль. У сям'і). Такія словазлучэнні звычайна замяняюцца сінанімічнымі ім дзеяслоўнымі словазлучэннямі з прыназоўнікам з або у: *Пайшоў з сямі (усем) год у школу.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 304. Дзеяслоўныя словазлучэнні з давальным склонам назоўніка выражаюць аб'ектныя адносіны з тымі ці іншымі адценнямі, якія абумоўліваюцца лексічным значэннем спалучальных слоў. У ролі галоўнага слова гэтых канструкцый выступаюць дзеясловы са значэннем канкрэтнага фізічнага дзеяння, унутранага ўспрымання, стану, думкі, маўлення, а ў ролі залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць асоб або іншых істот, канкрэтныя неадушаўлёныя прадметы або адцягненыя паняцці ў якасці аб'ектаў непасрэдна ці ўскосна накіраванага на іх дзеяння: *дапамагчы таварышу, пакланіцца зямлі, аддацца думкам, дзівіцца мудрасці, усміхацца зоркам, загадаць байцам* і інш. *Ён перадаў партызанам больш дваццаці вінтовак* (Я. Брыль. Герояў стварае народ). *Стасюк адкусваў па дробцы хлебнай скарынкі і кідаў курам* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Верамейчык ужо каяўся, што паспачуваў Андрэю Каржакевічу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ніхто сакратару не супярэчыў* (там жа). *Такога пытання цётка не чакала і не ведала, што сказаць хлопчыку* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Саша шчыра ўзрадаваўся яго прыезду* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Заўвага 1. Пры пераносным ужыванні дзеясловаў словазлучэнні з давальным склонам імені набываюць устойлівае значэнне: *Нямала насаліў дзед за сваю службу пану бургамістру і яго паслугачам* (А. Якімовіч. Сусед справа). *А калі не возьме* [паліцэйскі] *і штрафу, дык можа так агрэць дубінкай, што і дзесятаму закажаш сустракацца з ім* (М. Лынькоў. Чорная пляма).

Заўвага 2. Дзеяслоўныя словазлучэнні тыпу *гнуцца долу, схіляцца долу, апускацца долу* з'яўляюцца ўстарэлымі. Яны сінанімічны дзеяслоўным словазлучэнням з родным, давальным або вінавальным склонамі назоўніка *дол* і прыназоўнікамі *да, к* або *на: гнуцца да(к) долу, схіляцца да(к) долу, апускацца на дол* і інш. *Веюць ветры, веюць буйны,— долу гнуцца клёны* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Усталі хмары над зямлёю грозныя, жывыя, долу косы апусцілі, косы агнявыя* (там жа). *Не гнуліся долу бярозы* (П. Глебка. Песні жалобы). *Па голлі нашага лесу скачуць сінічкі, цярушачы долу снег* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага 3. Пад уплывам гутарковай мовы ў мастацкія творы зрэдку трапляюць не ўласцівыя сучаснай беларускай літаратурнай мове беспрыназоўнікавыя дзеяслоўныя канструкцыі з асабовымі займеннікамі ў форме давальнага склону адзіночнага ці множнага ліку: *Час ім хутка ідзе, быццам вада плыве* (Цётка. Міхаська). *Нам сэрцы б'юцца без трывогі* (Я. Купала. Прывет вам...). У літаратурнай мове для выражэння аналагічных значэнняў звычайна ўжываюцца дзеяслоўныя канструкцыі з прыназоўнікамі або іменныя канструкцыі з прыналежнымі займеннікамі: [час] *ідзе ў (для) іх хутка,* [сэрцы] *б'юцца ў нас без трывогі.*

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне непасрэдна накіравана на аб'ект, маюць уласна аб'ектнае значэнне: *перадаць сыну, даручыць байцу, растлумачыць вучню, паабяцаць настаўніку, дапамагчы калгасу, спагадаць людзям* і інш.

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне ўскосна накіравана на аб'ект, маюць ускосна-аб'ектнае значэнне: *навучыцца пісьму, здзіўляцца лоўкасці, радавацца сустрэчы, не скарыцца стыхіі, належаць брату, папярэднічаць удачы* і інш.

У залежнасці ад значэння і граматычных прызнакаў дзеяслоў, што выступае ў ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў, можа патрабаваць або не патрабаваць дадатковага далучэння да сябе назоўніка са значэннем прамога ці, радзей, ускоснага аб'екта ў пэўных склонавых формах без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі.

Не патрабуюць далучэння да сябе назоўніка са значэннем прамога ці ўскоснага аб'екта (акрамя формы давальнага склону без прыназоўніка) безасабовыя і асабовыя зваротныя дзеясловы на *-ся(-цца): не*

*здаровіцца дзіцяці, не церпіцца хлопчыку, аддацца навуцы, пакланяцца прыгажосці* і інш. *А Шарэйку ніяк не маўчыцца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Не спалася ў гэтую ноч Міколу* (Я. Колас. Трывога). *Маладзейшым не сядзелася* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І людзі ўсміхаюцца хмарцы сваёй* (А. Куляшоў. Магілёўская хмарка). *Андрэю перадалося Марыніна захапленне* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Дзівіцца дзед мудрасці людской* (Я. Колас. З боку ад жыцця).

Пераважна толькі з залежнай формай давальнага склону (без прамога або ўскоснага аб'екта) выступаюць асабовыя дзеясловы са значэннем садзеяння чаму-небудзь або перашкоды, веры або няверы, нязгоды і г. д.: *спагадаць дзецям, давяраць таварышам, садзейнічаць дружбе, абучаць цяслярству, супярэчыць калегу* і інш. *Шквальныя ветры і праліўныя дажджы палажылі авёс і пшаніцу, перашкодзілі нармальнаму апыленню і выспяванню* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Гэта спрыяла касавіцы і нельга было адкладаць* (Ц. Гартны. На перагібе). *Бярэцца на пойдзень, і заядзь дакучае коням асабліва злосна* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Яна гаварыла з ім, раілася, памагала яго рабоце* (Я. Скрыган. Наталя). *Веру я маладосці і шчасцю* (П. Глебка. Спаткаем вясну).

Заўвага. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным канструкцыям з вінавальным або месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у* (гл. § 352, 407), параўн.: *верыць шчасцю—верыць у шчасце, дапамагаць рабоце—дапамагаць у рабоце. Не чакае Бандароўна тут сабе пацехі і не верыць панскай ласцы і ў панскія ўсмехі* (Я. Купала. Бандароўна).

Калі ж у ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў выступаюць пераходныя дзеясловы, то наяўнасць прамога аб'екта ў формах вінавальнага або роднага склону амаль заўсёды з'яўляецца абавязковай: *уручыць* [ордэн] *байцу, даваць* [клятву] *радзіме, выслаць* [бандэроль] *заказчыку, не напісаць* [пісьма] *брату, падаць* [вады] *хвораму* і інш. *Ён падае ліст сыну* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Калісь сваімі маленькімі рукамі перавязала рану пагранічніку* (І. Гурскі. У агні). *Вясёлы шпак спявае сонцу сваю гуллівую песню* (Я. Брыль. У сям'і). [Рыгор] *раптам ухапіўся за думку — ці не напісаць зараз вось мацеры пісьма* (Ц. Гартны. На перагібе).

Заўвага. Такія словазлучэнні звычайна адпавядаюць дзеяслоўным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *для* (гл. § 337): *прынёс* [кнігу] *сястры—прынёс* [кнігу] *для сястры, купіў* [лыжы] *сыну—купіў* [лыжы] *для сына* і інш.

Пры непераходных дзеясловах гэтых словазлучэнняў магчыма ўжыванне ўскоснага аб'екта ў форме таго ці іншага склону (акрамя вінавальнага без прыназоўніка): *жадаць* [поспеху] *сябрам, памахаць* [рукой] *таварышам, указаць аўтару* [на памылкі] і інш. *Каля нашай ёлкі хопіць месца ўсім дзецям нашай краіны ўсіх нацыянальнасцей* (К. Крапіва. З новым шчасцем!). *Нівы вясне ураджаем шумяць* (П. Глебка. Слава Кастрычніку). *Ёсць справа, на якой ты можаш зарабіць і прытым аддзякаваць мне за маё да цябе дабро* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі).

У некаторых выпадках залежны назоўнік давальнага склону адносіцца не да асобнага дзеяслова, а да дзеяслоўнага спалучэння ў цэлым: *аддаць загад войску, вынесці падзяку піянерам* і інш. *Вось кормшчык сціскае хлапчыне руку, як сябра старога яго сустракае* (А. Зарыцкі. На Дзвінскіх парогах). *Сэрца крокам падлік вядзе — сэрца знае дарогу* (А. Куляшоў. Быль аб цымбалах і цымбалісце). *Паляцелі лісты, быццам думы, паляцелі зямлі на прыпол* (П. Глебка. Клён завяў). *Глядзіць смела, ані моргне, ворагу у вочы* (Я. Купала. Бандароўна).

§ 305. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка (або займенніка) выражаюць пераважна аб'ектныя адносіны. Залежнае слова ў іх можа абазначаць адушаўлёныя і неадушаўлёныя прадметы або адцягненыя паняцці ў якасці прамога аб'екта, на які непасрэдна накіравана дзеянне, названае пераходным дзеясловам: *пабудаваць мост, накрыць стол, пасеяць лён, наведаць сяброў, сустрэць піянераў, пасвіць кароў, убачыць воўка, распачаць касьбу, парушыць цішыню, апяваць гераізм, адчуваць радасць* і інш.

Параўнальна меншую групу дзеяслоўных словазлучэнняў з вінавальным склонам імён складаюць словазлучэнні, у якіх выражаюцца акалічнасна-колькасныя адносіны — колькасна-прасторавыя, колькасна-часавыя і ўласна колькасныя. У словазлучэннях гэтага тыпу ў ролі галоўнага слова могуць выступаць пераходныя і непераходныя дзеясловы з агульным значэннем актыўнага або пасіўнага дзеяння, працэсу, а ў ролі залежнага — назоўнікі са значэннем меры часу, прасторы, вагі, аб'ёму, кошту і г. д.: *прайсці вярсту, прабегчы гоні, чытаць гадзіну, адпачываць месяц, заважыць тону, наліць графін, нагрsucceed капу, заплаціць рубель* і інш. Меншая ўжывальнасць гэтай групы словазлучэнняў у параўнанні з папярэдняй тлумачыцца лексічнай абмежаванасцю слоў, якія служаць для выражэння колькасных адносін.

## Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі

§ 306. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі, дзе ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем канкрэтнага фізічнага дзеяння, форма вінавальнага склону назоўніка можа абазначаць:

а) аб'ект, які падвяргаецца частковаму ўздзеянню або поўнаму змяненню ці знішчэнню: *памыць падлогу, пафарбаваць блузку, прыбраць кватэру, навастрыць нож, адрамантаваць гадзіннік, церабіць галлё, раскусіць арэх, рассеяць змрок, парушыць цішыню, зруйнаваць мінулае* і інш. *Агата пасаліла гуркі і падмяла сені* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Яна прасавала кашулі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сідорык з Данькам папраўлялі машыну* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *Сонца ў чырвані купае сочныя загоны* (П. Трус. Май). *А хто, як не партызаны, узарвалі чыгуначны мост і вадакачку, спалілі на станцыі зернесклад і разбілі каля Сярбовіч дзве нямецкія машыны?* (І. Шамякін. Наташа). *Стрэл разарваў цішыню* (Б. Мікуліч. Дужасць).

Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні набываюць устойлівае значэнне: *Нямала прыйшлося яму паабіваць панскія парогі* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *У мяне свае справы, і мне некалі тут біць бібікі* (М. Лынькоў. Джыавані). *Калі вырашана, дык няма чаго таўчы ваду ў ступе* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

б) Аб'ект, які ствараецца ў выніку мэтанакіраванага дзеяння: *пабудаваць дом, пашыць касцюм, вырасціць сад* і інш. Некаторыя з такіх словазлучэнняў пры пераносным ужыванні набываюць устойлівае значэнне. *Мікалай дастаў з кішэні пачак махоркі і пачаў круціць папяросу* (К. Чорны. Зямля). *Пані Алёіза таксама вялікая мастачка пячы і смажыць розныя пернікі, канфітуры* (Х. Шынклер. Ічэ). *На адну і тую ж самую тэму можна напісаць газетны фельетон і сатырычны раман* (К. Крапіва. Думкі пра сатыру). *Мы самі пабудуем наша заўтра* (П. Глебка. Я не кажу). *Таварыш, нам шчасце вякоў каваць, прыгожае і маладое!* (А. Куляшоў. На зямлі).

З а ў в а г а. Пры дзеясловах *зайграць*, *утнуць* (у значэнні «зайграць») побач з формай вінавальнага склону назоўніка ў творах мастацкай літаратуры магчыма ўжыванне формы роднага склону, якая ўзнікла пад уплывам гутарковай мовы: *Зынга зайграў вальс* (К. Чорны. Захар Зынга). *Музыкі зайгралі казачка* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І як утнулі яны марша, дык да хаты пачаў збірацца народ* (К. Чорны. Малюнак).

в) Аб'ект, з якім звязан пачатак або заканчэнне пэўнага дзеяння: *Калгас распачаў касьбу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Адчуваў сябе лёгка, як чалавек, які скончыў цяжкую справу і цяпер перад ім толькі добрыя вынікі* (К. Чорны. Зямля). *Раптоўны гул перапыніў іх гаворку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

г) Аб'ект, які ахопліваецца пэўным дзеяннем або на які пашыраецца дзеянне, названае прыставачным дзеясловам: *ахапіць насельніцтва, агортаць лясы, абвяваць раллю* і інш. *Месяц зусім асвятліў раку* (Я. Маўр. Незвычайная прынада). *Свет дрымотай ахутала ціша нямая* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Ноч цёмнай пасцілкай зямлю абхінула* (Я. Купала. Адплата кахання). *А змрок — густы, халодны, непрывычны — нерухома аблягаў зямлю* (Я. Колас. Маладыя дубок). *Спёртае, душнае паветра абдало Рыгора* (Ц. Гартны. На перагібе). *Мяккае святло заліло пакой* (Б. Мікуліч. Дужасць).

д) Аб'ект, які характарызуецца паводле стану: *расставіць пальцы, выцягнуць рукі, распусціць крылле, выгнуць спіну, павярнуць галаву, апусціць галіны, узняць кроны* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў утвараюць устойлівыя спалучэнні. *Павал сядзеў на траве, падагнуўшы пад сябе ногі* (К. Чорны. Зямля). *Марознае паветра вясёлым хмелем кружыла галаву* (там жа). *Заплюшчыў вочы і намерыўся зразу заснуць* (Ц. Гартны. На перагібе). *Увогуле ёй хацелася працаваць як мага больш, каб ні хвіліны не сядзець склаўшы рукі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

е) Аб'ект, які падвяргаецца перамяшчэнню, змяненню яго палажэння ў прасторы або наогул з якім звязаны рух ці на які гэты рух накіраваны: *даставіць медыкаменты, паслаць пісьмо, узяць (браць) газету, зняць стрэльбу, павесіць сцяг, перасадзіць дрэўца, кружыць лісце, варушыць галлё, непакоіць ваду, наведаць выстаўку* і інш. *Максім гармонь нясе — яго прэміравалі* (А. Куляшоў. Музыка). *Майбарада палажыў пяцёрку ў верхнюю кішэньку камбінезона* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Адзін чырвонаармеец даў ёй ручнік* (К. Чорны. На граніцы). *Якуб Панасавіч падсек лёску і выхапіў з вады невялікага акунька* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Усе страляюць, пярэднія кідаюць гранаты* (А. Кулакоўскі. На ростанях). *Спецыяльныя эскалатары разгружалі багаж* (М. Лынькоў. Прыгоды з чамаданам).

У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў могуць выступаць дзеясловы з пераносным значэннем: *Трэба прыносіць карысць людзям* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Волька ў той дзень праводзіла жаночую канферэнцыю* (К. Чорны. Зямля). *Я, можна сказаць, на аднэй назе скачу, аднак жа гаспадарку вяду* (там жа). *Тым больш хацелася даць перадышку разгарачанаму мозгу* (Ц. Гартны. На перагібе).

Пры ўмове пераноснага ўжывання галоўнага і залежнага слоў словазлучэнне набывае ўстойлівае значэнне: *А не шкодзіла б табе на ячэйцы лазню даць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Інтарэсы справы тут бралі верх* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *На тым жыцці яна паставіла крыж і не захацела ўспамінаць пра яго* (Я. Скрыган. Наталя). *Я скіну, сарву ланцугі свайго старога жыцця* (М. Гарэцкі. Стогн душы). *Дзеці ходзяць, павесіўшы насы* (Х. Шынклер. Прапаўшая грамата).

ж) Аб'ект, які пераадольваецца адпаведным рухам або адносна якога гэты рух адбываецца: *пераплысці рэчку, перарэзаць балота, абысці лес, абагнаць фурманку* і інш. Такія словазлучэнні сумяшчаюць у сабе значэнні прасторавых адносін. Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў яны могуць набываць устойлівае значэнне: *пераступіць мяжу, пракласці шлях* і інш. *Пераступіўшы парог канцылярыі, Андрэй нізка пакланіўся* (Я. Колас. Малады дубок). *Ён праехаў высокі драўляны мост і затармазіў каля чайной* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Дарожку перабягаў невялікі ручэй* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Паўз іх шпарка прабегла дзяўчынка, пераскокваючы лужыны* (там жа). *Ён мінаў быльняговыя межы, пераходзіў змагання граніцы* (П. Трус. Юны змаганец). *Яна адамкнула сенцы і абышла паволі ўвесь хутар* (К. Чорны. Будзем жыць). *Зноў гэты нягоднік Мікеле пераступіў яму дарогу* (М. Лынькоў. Джыавані).

з) Аб'ект догляду: *ахоўваць лясы, сцерагчы сенажаці, лячыць хворых, даглядаць коней, карміць курэй* і інш. *Дзяўчаты палолі лён* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сягоння мы памагалі яму пасынкаваць памідоры* (там жа). *Яна аберагала гэтае жыццё як магла* (Я. Скрыган. Наталя). *Мы вершы з ім напішам, зямлю дагледзім з ім* (А. Куляшоў. Ельнік). *І месяц, строгі і высокі, вартуе сон і цішыню* (П. Глебка. Ліст брату). *Летам Васілька пасвіў гусей* (К. Крапіва. Здаў «акзамінт») .

Заўвага 1. У размоўным стылі, а пад яго ўплывам часам і ў творах мастацкай літаратуры пры прама-пераходных дзеясловах магчымы выпадкі ўжывання адушаўлёных назоўнікаў множнага ліку ў форме вінавальнага склону, якая ўласціва неадушаўлёным назоўнікам: *шукаць коні, даглядаць каровы* і інш. *Ён шустра паадпрагаў коні* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Гналі пастушкі каровы на раніцу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Разам пасвілі чужыя свінні ды авечкі* (Я. Купала. Тарасова доля). *Ён выпусціў з падпечку куры* (К. Чорны. Зямля).

Заўвага 2. Пры дзеясловах *вартаваць, сцерагчы, пільнаваць* замест формы вінавальнага склону зрэдку ўжываюцца назоўнікі ў форме роднага склону, што з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы: *Армія наша грознай станіцай збройна вартуе межаў-граніцаў* (Я. Купала. З'езду Саветаў). *І ночкай і днём безупынна пільнуюю абшараў сваіх* (Я. Купала. Мароз).

і) Аб'ект набыцця, дасягнення або пазбаўлення, страты: *набыць падручнік, атрымаць грошы, згубіць аловак* і інш. Сюды адносяцца таксама спалучэнні ўстойлівага характару: *мець зуб, мець рацыю, страціць сумленне* і інш. *Пасля перамогі Смалянка атрымаў пісьмо* (Я. Брыль. Герояў стварае народ). *Яна знайшла яду, усмак паела* (Ц. Гартны. На перагібе). *Купіла яна за тыя грошы сабе сукенку* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *І адразу ў яго вачах устаў малады дубок, што бачыў у лесе, збіраючы грыбы* (Я. Колас. Малады дубок). *Магчыма, месячык з нябёс згубіў сваю падкову?* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове).

к) Аб'ект часовага карыстання: *пазычыць вядро, здабыць лапату* (у сэнсе «пазычыць») і інш. *Пайшоў я да Анісіма, пазычыў у яго стрэльбу і ўвечары сеў тую саву пільнаваць* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Плуг не так ужо цяжка пазычыць у добрых людзей* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Заўвага. Калі залежны назоўнік у гэтых словазлучэннях абазначае частку якога-небудзь рэчыва, то ён ужываецца ў форме роднага склону: *пазычыць солі, папрасіць* (у сэнсе «пазычыць») *вінаграду* і інш. *Яна бразгала вёдрамі, плюхала вадою, хадзіла па суседзях пазычыць солі і ўсё думала* (К. Чорны. Радасць жанчыны).

У форме роднага склону пры дзеясловах *пазычыць, папрасіць* у мастацкай літаратуры могуць ужывацца назоўнікі, якія абазначаюць цэльныя, непадзельныя прадметы: *Сядзе Зося ля дзіцяці, паплача ціхенька ды ідзе да суседкі чыгуна пазычыць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 307. У словазлучэннях, дзе ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем адцягненага (не канкрэтна-фізічнага) дзеяння, форма вінавальнага склону назоўніка можа абазначаць:

а) аб'ект унутранага адчування, стану, псіхічнага або валявога ўздзеяння, пераадолення. Галоўным словам у такіх словазлучэннях выступаюць дзеясловы *адчуваць, паважаць, любіць, ненавідзець, непакоіць, цягнуць, цікавіць, хвалявацъ, весяліць, захапляць, турбаваць, агарнуць, ахапіць (ахваціць), напаўняць (поўніць), выклікаць, суняць, абарваць, перамагчы (змагчы)* і інш. *Трывогу гэтую адчуваў і Пятро* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Яна любіла свайго пляменніка* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *І Максімку нешта пацягнула к акну* (К. Чорны. Максімка). *Алеся гэта непакоіла* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Відаць, нямала розных клопатаў турбуюць Алеся* (там жа). *І нейкая жуда ахапіла Андрэя. Пачуванне маркоты і адзіноты агарнула яго* (Я. Колас. Малады дубок). *Старалася яна перамагчы ўсе вялікія трывогі свае і заспакоіць неспакойнае сэрца* (К. Чорны. Верасnёвыя ночы).

б) Аб'ект думкі, развагі, выказвання, пазнання: *успамінаць мінулае, закрануць пытанне, вынесці рашэнне, выказаць думку, услаўляць працу, разгадаць таямніцу, пазнаць шчасце* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў маюць устойлівы характар. *Ён добра памятаў свайго бацьку* (Я. Маўр. Слёзы Тубі). *І мы прыгадалі былыя гады* (П. Глебка. Ноч у вайсковых лагерах). *Супыніў яго і хацеў растлумачыць сваю праўту* (Ц. Гартны. На перагібе). *Нанова перадумваў кожнае ўпісанае слова, абмяркоўваў кожную думку і «за» і «супроць»* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Ён адхіліў прапанову Ярошкі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *На бомбу я накладаю сваё законнае вета* (А. Куляшоў. Слова да Аб'яднаных Нацый). *Гэта мы надоечы гутарылі, галовы ламалі ў мясцкоме — каго б то прыладзіць на электрастанцыю вучнем* (Х. Шынклер. Ічэ).

в) Аб'ект зрокавага і слыхавога ўспрымання: *убачыць машыну, пачуць музыку* і інш. Пры пераносным ужыванні дзеяслова словазлучэнне набывае ўстойлівае значэнне: *заўважаць недахопы, бачыць шчасце* і інш. *Доктар агледзеў палату* (Я. Скрыган. Наталя). *Чырвонаармеец бачыць кабету* (К. Чорны. На граніцы). *Ідучы, ён заўважыў і змены* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Яго чуткае вуха ўспрымала далёкі-далёкі гул, бы гром* (Я. Колас. На чыгунцы). *Ёй было ніякавата слухаць хатнюю сварку* (Ц. Гартны. На перагібе). *Дзяўчына чуе чароўную музыку старых палацоў* (Я. Брыль. Казачок).

Заўвага. У безасабовых сказах пры дзеясловах *відаць, чуваць, чуць* магчыма ўжыванне формы вінавальнага склону назоўніка ў якасці прамога аб'екта: *відаць вёску, чуваць музыку, стала чуць хаду* і інш. Аднак для нашага часу такія канструкцыі не з'яўляюцца нормай. *Праз адкрытыя вокны клуба відаць музыкантаў, іх бліскучыя трубы* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Відаць ужо было зброю — вінтоўкі ды абрэзы* (Х. Шынклер. Апошні рэйс). *Зверху, з клуба, чуваць было бурную музыку раяля* (К. Чорны. Захар Зынга). *Яго хаду стала чуць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

г) Аб'ект, да якога звяртаюцца з чым-небудзь: *клікаць таварыша, прасіць настаўніка, запрашаць сяброў* і інш. *Толік заплакаў і стаў клікаць бацьку* (К. Крапіва. Каб весела было...). *Сёмка папрасіў Стэпу сесці* (Ц. Гартны. На перагібе).

**Словазлучэнні з колькаснымі адносінамі**

§ 308. Сярод дзеяслоўных словазлучэнняў з вінавальным склонам назоўніка, якія выражаюць колькасныя адносіны, найбольш пашыраны канструкцыі з колькасна-часавымі адносінамі. Для выражэн-

ня гэтых адносін выкарыстоўваецца вялікая група семантычна разнастайных дзеясловаў і назоўнікаў са значэннем прамежку часу.

Словазлучэнні з колькасна-прасторавымі і ўласна колькаснымі адносінамі прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове нешырока. Гэта тлумачыцца лексічнай абмежаванасцю і сэнсавай аднастайнасцю слоў з агульным значэннем меры прасторы, меры вагі, кошту і г. д.

§ 309. У словазлучэннях з колькасна-часавымі адносінамі ролю залежнага слова пераважна выконваюць назоўнікі *век, год, месяц, тыдзень, дзень, ноч, суткі, час, мінута, секунда, квартал, сезон, семестр, лета, зіма, вясна* і інш., якія ўказваюць на працягласць дзеяння, названага галоўным словам: *працаваць год, адпачываць месяц, чакаць паўгадзіны* і інш. *Дзень і ноч працуюць дружна фабрыкі, заводы* (Я. Купала. Кандыдатам народа). *Вось, бывае, сядзіш ноч над чарцяжамі, нічога не выходзіць і рукі апускаюцца* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Потым цярпліва плыў пайдня, любуючыся разлівам Дняпра* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Краўчанка хвіліну стаяў нерухома* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Гром воплескаў і крыкаў доўжыўся гадзіну* (там жа).

Для ўдакладнення і канкрэтызацыі прамежку часу, у які адбываецца дзеянне, пры гэтых назоўніках могуць ужывацца азначальныя або ўказальныя займеннікі *ўвесь, усё, цэлы, каторы, кожны, той, гэты* ці іх спалучэнні *ўвесь гэты, усе тыя, усё сваё,* адносныя прыметнікі *апошні, папярэдні, мінулы, будучы,* парадкавыя лічэбнікі *першы, трэці, дзесяты* і інш., якія ў радзе выпадкаў складаюць структурна неабходную частку цэлага словазлучэння: *Увесь вечар прасядзеў Кузьма, каб скласці заданне* (Я. Колас. Адукацыя). *Яна сёння ўсю ноч заснуць не магла ад радасці, што вы прыйшлі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Нейкія кніжкі чытае, цэлыя дні над імі сядзіць* (Х. Шынклер. Ічэ). *Стары Верамейчык каторы дзень паглядае ўжо на свой плуг* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Траха не кожны тыдзень у Міцькі мяняліся паляўнічыя сабакі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Чацвёрты год грыміць вайна* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Маленькі Тубі ўвесь свой маленькі век пражыў на беразе мора* (Я. Маўр. Слёзы Тубі).

У ролі залежнай часткі словазлучэнняў з часавымі адносінамі могуць таксама выступаць спалучэнні двух назоўнікаў, з якіх адзін мае форму вінавальнага склону, другі — форму таго або іншага ўскоснага склону з прыназоўнікам, а таксама спалучэнні назоўнікаў са значэннем прамежку часу і слоў *таму назад: заходзіць дзень пры дні, прыехаць месяц таму назад* і інш. *Разам пралі і ткалі дзень пры дні, разам поле аралі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Калі б гэта было месяц таму назад, Сцяпан Пракопавіч гаварыў бы з Былінскім больш лагодна* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Асабліва часта для выражэння часавых адносін выкарыстоўваюцца спалучэнні колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі ў форме вінавальнага або роднага склону: *правучыцца два семестры, утрымліваць* [першынство] *два сезоны, прасядзець тры вечары, прабыць чатыры гадзіны* і інш. *Лаўрэнава брыгада ў апошнія суткі работы працавала тры змены* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Так пражыла Наталя дваццаць год* (Я. Скрыган. Наталя). *Два тыдні стукаў цяслярскаю сякераю дзед Баўтрук* (Я. Колас. Называецца — зарабіў). *Пяць дзён на захад мы ішлі румынскім бур'яном* (А. Астрэйка. Салдацкі сон). *Ён гаворыць дзесяць хвілін* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Заўвага 1. Пры выражэнні недакладнасці прамежку часу, на працягу якога адбываецца дзеянне, назоўнік у складзе колькасна-іменнага спалучэння займае месца пе-

рад лічэбнікам: *адпачыць хвілін пяць, пагасціць дзён два, пражыць гадоў восемдзесят* і інш. *Прабыла тут Алёна дзён два* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Мусіць хвілін пяць поўз ён, пасля ўскочыў і пабег* (К. Чорны. Таварыш Сімянюк). *Па гэтай вось мяжы гадоў сорак назад ішла яна жаць першы раз на сваю паласу* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага 2. У выпадку субстантывацыі колькасныя лічэбнікі пачынаюць абазначаць і назву прамежку часу: *Ей ужо васемнаццаць мінула* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»).

У склад залежнай часткі такіх словазлучэнняў могуць уключацца словы са значэннем няпэўнай колькасці: *І засталіся так стаяць некалькі хвілін* (К. Чорны. Зямля). *Колькі моманту Раман ляжаў нерухліва, заплюшчыўшы вочы* (Я. Колас. Дачакаўся). *Вецер дзьмуў шмат дзён* (К. Чорны. Зямля).

Колькасна-часавае значэнне, нарэшце, могуць набываць у пэўным кантэксце і такія канструкцыі, у якіх залежнае слова — назоўнік не абазначае прамежку часу, а набывае гэта значэнне функцыянальна: *спяваць усю дарогу, смяяцца ўсю пастаноўку* і інш. *Бура, якая бушавала ў душы ўсю дарогу, пакрыху сціхала* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 310. Словазлучэнні, якія выражаюць колькасна-прасторавыя адносіны, складаюцца з дзеясловаў руху або іншага канкрэтнага дзеяння (*ісці, ехаць, бегчы, жаць, касіць, сеяць, узараць* і інш.) і назоўнікаў са значэннем меры прасторы: *прайсці кіламетр, прабегчы гоні, узараць гектар* і інш. Прасторавае значэнне такіх назоўнікаў асабліва часта ўдакладняецца азначальнымі словамі *ўвесь, цэлы: аб'ехаць усё поле, абысці цэлы квартал, зжаць увесь палетак* і інш. *Ганна прайшла ўсю вуліцу* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *Цэлы гектар буракоў прапалолі дзяўчаты за сённяшні дзень* (з газет).

У ролі залежнай часткі гэтых словазлучэнняў можа выступаць колькасна-іменнае спалучэнне: *праехаць пяць кіламетраў, прайсці дзесяць крокаў, праплысці сто метраў* і інш. *Нарэшце пісьмо прыйшло: як выявілася, нейкія сто кіламетраў яно ішло пяць дзён* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Так прайшоў бы я з усмешкай можа тысячу дарог* (А. Куляшоў. Чараўніца). *Палавіну разоры ён прасунуўся* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Зжалі дванаццаць гектараў за тыдзень* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай).

Пры абазначэнні недакладнай меры прасторы назоўнік у складзе колькасна-іменнага спалучэння ставіцца перад лічэбнікам: *праехаць кіламетраў сорак, праплысці метраў дзвесце, скасіць гектараў пяць, засеяць гектараў трыццаць* і інш. *Я прайшоў яшчэ крокаў сто* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Ужо крокаў дваццаць адышоўся я такім парадкам* (там жа). *Вярсты дзве не дайшоў Ракоп да роднай вёскі* (з газет).

§ 311. У словазлучэннях з уласна колькаснымі адносінамі залежная частка можа абазначаць:

а) меру, працягласць дзеяння: *прачытаць раз, сустрэцца два разы, наведаць разы тры* і інш. *Свіснуў раз, свіснуў два шустры паравозік* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Не раз тут праходзілі спусташальныя войны, шугалі пажары* (Я. Скрыган. Неспадзеўнае падарожжа). *Тры разы пагаслі і запаліліся зноў велізарныя жырандолі — і тры разы ўзнікла на стале зыркая вясёлка* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Дванаццаць раз гадзіннік б'е, адзначым год спаткання* (П. Глебка. Навагодні тост).

Заўвага. У выпадку субстантывацыі колькасныя лічэбнікі набываюць значэнне адсутнага назоўніка: *Бывай... Гадзіннік адзінока прабіў дванаццаць на сцяне* (П. Трус. Дзяўчыне).

б) Меру вагі, аб'ёму, грашовых адзінак, меру фізічных і духоўных намаганняў: *заважыць пяць кілаграмаў, атрымаць мяшок* [мукі], *выдаць*

*пяцьдзесят рублёў, перанесці шмат пакут* і інш. *Па азімых мы ўзялі абавязацельства дацьм 30 цэнтнераў з гектара* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Пайфунта хлеба ляжала на стале* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Зараз жа дасталі яму недзе ў Змітра дзве чаркі гарэлкі, і ён пачаў граць* (К. Чорны. Зямля). *Як бы там ні было, а мушу дастаць рублёў пяць і выслаць* (Ц. Гартны. На перагібе). *Цяпер жыццё патрабуе ад мяне адну частку сілы* (А. Карпюк. Данута).

в) Колькасць прадметаў: *выдзеліць дзесяць пуцёвак, пабудаваць тры школы, атрымаць дзве пасылкі* і інш. *Сорак пнёў далі яму на хату* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Выстаўка займала некалькі вялікіх залаў* (Я. Скрыган. Абраза). *Зямлянак засталося толькі тры, а гаспадарак у нас каля сотні* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Цяпер у саўгасе пабудавана 120 новых дамоў* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 312. Словазлучэнні з залежным назоўнікам у форме творнага склону выражаюць пераважна аб'ектныя адносіны, радзей — азначальна-акалічнасныя, прасторавыя, часавыя і абмежавальныя. Кожная з гэтых груп словазлучэнняў мае свае прыватныя, спецыфічныя адценні.

### Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі

§ 313. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі ў адпаведнасці са значэннем галоўнага слова — дзеяслова залежнае слова — назоўнік можа абазначаць:

а) прадмет, якім хто-небудзь надзяляецца, узнагароджваецца: *частаваць чаем, плаціць грашамі, узнагародзіць граматай* і інш. *З жалеза прасніца надзеліць сукном і шоўкавым кужэлем сваіх сялян, сваіх рабочых* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...). *Частавала белым сырам, хлебам сітнім, мёдам пчолім* (Я. Купала. Як у госці сын прыехаў...). *Плата давалася прадукцыяй* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Сельсавет прэміраваў яе за выдатную работу ста рублямі, райсаюз абяцаў прэміраваць нікелевым ложкам і матрацам* (К. Крапіва. Пачатак шчасця).

б) Прадмет, якім што-небудзь напаўняецца, насычаецца або аснашчаецца ці аздабляецца: *засыпаць снегам, заліць вадой, спавіць смугой, зарасці травой, аснасціць* [гаспадарку] *тэхнікай, аздобіць* [пакой] *кветкамі* і інш. *Станцыя напоўнілася людзьмі* (К. Чорны. Максімка). *Цяпер гэта канава заплыла гразёю* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Соня і Леначка аж абʼеліся пенкамі* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Яны выйшлі на шлях, абсаджаны маладымі бярозкамі, клёнікамі і таполямі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Луг заліўся галасамі* (П. Глебка. Летні дзень). *Дымам сцелюцца раўніны, сонныя нізіны. Захліпнулася крывёю у вайне краіна* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Марфачка прыпраўляла смятанай маладую цыбулю* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

в) Прадмет, пры дапамозе якога адбываецца пэўнае дзеянне: *жаць камбайнам, капаць экскаватарам, рэзаць нажнамі, стукаць малатком, пісаць карандашом* і інш. *Разам будзем араць поле трактарам сталёвым, сеяць жыта і пшаніцу на загонах новых* (Я. Купала. Ты з Заходняй, я з Усходняй...). *Мікалай дастаў з паліцы сыр, паскроб зверху нажом і пачаў есці* (К. Чорны. Зямля). *Ён з усёй сілы грукнуў дзвярыма* (Я. Колас. Стараста). *Хлапчук прыпыніў лейцамі лапавухую кабылу* (К. Чорны. Не хачу гэтак).

г) Прадмет (або прадметы), арганічна звязаны з непасрэдным вытворцам дзеяння — асобай ці істотай: *тупаць нагамі, біць капытамі, кусаць зубамі, павесці брывамі, махаць рукой* і інш. *Тамаш паварушыў плячамі, уткнуў галаву ў грудзі і пайшоў раптам адсюль* (К. Чорны. Зямля). *З радаснай усмешкаю яна кіўнула галавою* (там жа). *Данік ляжаў, падпёршы шчаку далонню* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Некаторыя з гэтых словазлучэнняў набываюць устойлівы характар: *мянціць языком, віляць хвастом* і інш. *Таможны жандар, відаць, спачуваў яму і, далікатна кашлянуўшы ў кулак, касіў на нас вокам* (М. Лынькоў. Прыгоды з чамаданам). *Алесь развёў рукамі і прысеў на лаву* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сказаўшы гэта, мы не крывілі душой* (М. Лынькоў. «Кацюша» ў акіяне).

Да гэтай групы набліжаюцца словазлучэнні, у якіх формай творнага склону назоўніка абазначаюцца прадметы, так або інакш звязаныя з іншымі прадметамі як непасрэднымі вытворцамі дзеяння: [лес] *шуміць верхавінамі,* [дарога] *чарнела асфальтам,* [рэчка] *жаўцела жвірам* і інш. Такія словазлучэнні пераважна ўжываюцца ў творах мастацкай літаратуры і служаць сродкам вобразнага адлюстравання рэчаіснасці. *Засеяныя шчыраю рукой палі вакол вёскі роўна зелянелі маладымі ўсходамі* (К. Чорны. Жаночая праўда і мужчынская крыўда). *Нівы пладавітыя шэпчуць грузным коласам* (П. Глебка. На пачатку лета). *І чорныя лугі ўсміхацца сталі першаю травіцай* (Я. Купала. Яна і я). *Млын калаціўся, скрыпеў падлогаю, гуў каменнямі* (К. Чорны. Мельнікі). *Вочы яе туманіліся слязьмі* (Я. Колас. Сірата-Юрка).

д) Прадмет, які выступае ў якасці аб'екта пэўнага ўспрымання, адчування або захаплення: *пахнуць сенам, адчуваць сэрцам, дзівіцца красой, ганарыцца працай* і інш. *Ноч была ціхая, душная, і паветра моцна пахла пылам, узнятым адвячоркам, збажыной і яблыкамі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Усход чырванеў, павеяла прахаладдзю* (Я. Колас. На начлезе). *І комінам, і смажанай рыбай, і ветрам падула з гары* (А. Куляшоў. З дзённіка брыгадзіра). *Алесь слухаў парторга і сам міжволі захапляўся краявідам* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я любуюся Ленай і Гаўрусёвай Лідачкай побач з ёю* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

е) Прадмет або паняцце, якім што-небудзь вызначаецца, замяняецца ці ў які што-небудзь пераходзіць: *характарызавацца ўстойлівасцю, вылучацца фігурай, кампенсаваць* [розніцу] *таварамі, пакрыць* [растрату] *грашамі, вярнуць* [доўг] *збожжам, аплаціць гароднінай, стаць прафесіяналам* і інш. *Мова прыказак вызначаецца надзвычайнай вобразнасцю* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Стаў камень зямлёю, сама ж яна каменем стала* (А. Куляшоў. Маці). *Нязмерная напалоханасць змянілася сорамам за тое, што здарылася* (Х. Шынклер. Каб не формулы...).

ж) Прадмет, які характарызуецца паводле яго прызначэння або выступае ў якасці пэўнага сродку, прылады, прыстасавання: *служыць компасам, выступаць паказчыкам, з'яўляцца кандэнсатарам* і інш. У сказе гэтыя словазлучэнні звычайна выконваюць ролю выказніка і з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі: *Ім певень гадзіннікам служыць* (З. Бядуля. Выбраныя творы). *Прыказка з'яўляецца толькі сродкам эстэтычнага задавальнення* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

з) Прадмет або асобу, якія з'яўляюцца вытворцамі дзеяння. У ролі галоўнага слова гэтых словазлучэнняў звычайна выступаюць зваротныя дзеясловы залежнага стану або дзеепрыметнікі: *пішацца школьнікамі, будуецца рабочымі, убіраецца машынамі, размываецца дажджамі*

і інш. *Агеньчык свеціць, разгараецца, пасведчанне людзьмі чытаецца!* (А. Куляшоў. Пасведчанне). *Як ветрам падхоплены, імчаў Міколка* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Закрылася навальнічнымі хмарамі ранішняе сонца* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

і) Прадмет, які выступае ў якасці аб'екта кіравання, авалодання, уладання, садзеяння або дапамогі: *кіраваць дзяржавай, авалодаць мовай, уладаць маёмасцю, дапамагчы грашамі* і інш. Сюды адносяцца таксама сэнсава непадзельныя спалучэнні тыпу *памагчы добрым словам. Яшчэ тады, калі дзед сам правіў гаспадаркай, завёў ён сад* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *А так хочацца авалодаць усімі ведамі, усёй гэтай прынаднай навукай!* (Х. Шынклер. Ічэ). *Дзяржава дапамагала коньмі і насеннем* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Няма чаго тут мне памагаць языком* (К. Чорны. Зямля).

к) Род або від працоўнай дзейнасці, пасаду, якую займае або на якую абіраецца ці прызначаецца пэўная асоба: *служыць леснікам, абраць брыгадзірам, паставіць палаводам, прызначыць рэдактарам* і інш. *Працаваў ён рабочым на цагельным заводзе ў Рызе* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Пакінуўшы брата, ён рабіў у Слуцку брукаром, кавалём у Лейбы, калеснікам у Карповіча, бляхаром на Школішчы, пільшчыкам на пільні ў Гуцайта* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Фельчарам ён вярнуўся з грамадзянскай вайны* (Я. Брыль. У сям'і). *Сцяпана выбралі дэпутатам* (Я. Колас. Бунт).

Да гэтай групы набліжаюцца словазлучэнні з асабовымі назоўнікамі якаснай ацэнкі: *аказацца расцяпай, застацца джэнтльменам* і інш. У сказе такія словазлучэнні звычайна выконваюць ролю выказніка і з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі. *І тут Курт аказаўся расцяпай* (К. Крапіва. Апошняя пасылка).

Асобную групу словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі складаюць словазлучэнні з дзеясловамі *хварэць, пакутаваць*, пры якіх формай творнага склону назоўніка абазначаецца від захворвання: *хварэць тыфам, хварэць грыпам* і інш. Гэтыя канструкцыі з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *на: хварэць на грып* (гл. § 358). *Пасля перажытых пакут, чорных дзён няволі ў фашысцкім палоне ён доўгі час хварэў туберкулёзам лёгкіх* (з газет).

### Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі адносінамі

§ 314. У словазлучэннях з азначальна-акалічнаснымі адносінамі залежнае слова ўказвае на спосаб утварэння дзеяння, названага дзеясловам, і звычайна надае гэтаму дзеянню якасную ацэнку: *вітаць апладысментамі, сустракаць песняй, размаўляць ціхім голасам, вязаць крутым перавязам.* Некаторыя з гэтых словазлучэнняў маюць устойлівае значэнне: *гучаць дысанансам, не памінаць ліхам* і інш. *Конь ішоў ступою* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Строем выходзілі зноў камсамольцы на шлях* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Хвалі кругамі пайшлі па рацэ* (П. Глебка. Рыбак). *Празвініць званок пералівамі, і застыне над кнігай рука* (П. Трус. Студэнтка). *Зацвілі зарніцы, зацвілі сузор'ем* (П. Глебка. Зацвілі зарніцы). *Добрым словам памінае вялікага сына Украіна маладая, вольная Украіна* (Я. Купала. Тарасова доля).

Асобную групу складаюць словазлучэнні, у якіх указанне на спосаб утварэння дзеяння выражаецца не прама, а праз адносіны да якасці



12. Зак. 378.

дзеяння, уласцівай пэўнаму іншаму прадмету, названаму залежным словам. Гэтыя канструкцыі суадносяцца па значэнню з параўнальнымі зваротамі са злучнікам *як*, параўн.: *ззяць зоркай — ззяць, як зорка, журчаць ручайком — журчаць, як ручаёк, віцца матылёчкам — віцца, як матылёчак.* Асабліва часта словазлучэнні названай групы з'яўляюцца ўстойлівымі: *імчацца віхрам, ляжаць пластом, глядзець ваўком, выкручвацца вужам, рассыпацца макам, сесці макам, залівацца салаўём* і інш. *Музыка ўсё б е г л а шырокімі х в а л я м і ў свет* (К. Ч о р н ы. Зямля). *І вочы ў с п а л ы х н у л і а г н я м і бліскавіц* (П. Г л е б к а. Калгасны вартаўнік). *Завіліся дажджынкі ў каралі і п а в і с л і с л я з ь м і на бярозах* (П. Г л е б к а. Радасць вёскі). *Я б хацеў насіцца, м а т ы л ё ч к а м в і ц ц а* (Ц. Г а р т н ы. Урачыстасць). *Потым твар яго р а с ц в і ў м а к а м* (М. Л ы н ь к о ў. Прыгоды з чамаданам). *Дым ад папярос с л у п о м с т а я ў над іх галовамі* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Калі ў ролі залежнага слова дзеяслоўных канструкцый з азначальна-акалічнаснымі адносінамі выступаюць назоўнікі са значэннем сукупнасці, меры, колькасці, то, указваючы на спосаб утварэння дзеяння, такія назоўнікі характарызуюць адначасова гэта дзеянне і з боку яго меры, колькасці: *бегчы табуном, плысці чарадой, піць вёдрамі, ліць бочкамі, сыпаць мяшкамі* і інш. Гэтыя словазлучэнні нярэдка набываюць устойлівае значэнне. *А там, адліваючы срэбнай луской, бліскучыя рыбы і д у ц ь ч а р а д о й* (П. Г л е б к а. Рыбак). *Дома яна п р а ч ы т а л а ўсё а д н ы м д у х а м, і здалося, што ўсё гэта яшчэ няпраўда* (Я. С к р ы г а н. Наталя). *А д г у л я ў ш ы тут радзіны ды вяселле а д н ы м м а х а м, маладыя з божым страхам сталі жыць ды пажываць* (К. К р а п і в а. Біблія).

Пры дзеясловах *называць, называцца, зваць, звацца* і інш. залежны назоўнік у форме творнага склону можа ўказваць на ўласную ці агульную назву асобы, мянушку жывёлы, на геаграфічны пункт, а таксама на тэрміналагічную назву, што служыць для абазначэння пэўнага паняцця ці з'явы з навукова-тэхнічнай, грамадскай ці якой-небудзь іншай галіны: *зваць Адамам, назваць інжынерам, клікаць Белкай, называць Залессем, называецца ромбам* і інш. *Там яе з в а л і А л е с я й тры леты, здаецца, тут яна поўных семнаццаць М а р ы н а й з а в е ц ц а* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Гэты край н а з ы в а й с я П а л е с с е м* (А. К у л я ш о ў. Кветка шчасця). *Частка асновы слова, якая стаіць перад коранем, н а з ы в а е ц ц а п р ы с т а ў к а й* («Граматыка беларускай мовы»).

З а ў в а г а. Пад уплывам размоўнага стылю ў творах мастацкай літаратуры магчымы выпадкі ўжывання пры дзеясловах *зваць, называць* і інш. залежнага назоўніка ў форме назоўнага (замест творнага) склону: *Малодшую жанчыну, жонку Строіша, з в а л і З о с я* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

### Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі

§ 315. У дзеяслоўных словазлучэннях з п р а с т о р а в ы м і адносінамі ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем руху, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія ўказваюць на месца або напрамак руху: *ісці лесам, ехаць полем, праязджаць вёскай* і інш. *П р а е х а ў ш ы крыху в ы г а н а м, Раман звярнуў да сваё клуні* (Я. К о л а с. Дачакаўся). *Яны і ш л і куставою д а р о г а ю* (К. Ч о р н ы. Зямля). *П р а й ш о ў с я а с а к о ю і а і р а м рыбак* (А. К у л я ш о ў. Добры чалавек). *Ой, к а ц і л а с я песня д у б р а в а й ды зялёным к а ц і л а с я я р а м* (П. Т р у с. Прысвячаецца Я. Купалу). *Загарэлыя мужчыны г о н я ц ь р э ч к а ю плыты* (П. Г л е б к а. Плыты). *Паласок спаўз у лагчыну і с т а ў п р а б і р а ц ц а к у с т а м і* (Я. К о л а с. Санітарка Таня).

Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў такія словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *І ш л і с в а ё ю д а р о г а ю дробныя здарэнні, шэрыя падзеі і гаворкі пра іх* (К. Ч о р н ы. Зямля).

### Словазлучэнні з часавымі адносінамі

§ 316. У ролі залежнага слова дзеяслоўных канструкцый з ч а с а в ы м і адносінамі звычайна выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць пэўны прамежак часу (*прыехаць раніцай, працаваць днём, сустрэцца вясною*), радзей — іншыя назоўнікі, якія часавае значэнне набываюць функцыянальна (*марыў юнаком, пасвіў падлеткам*): *П а з н а ё м і л і с я яны в я с н о ю* (Я. К о л а с. Сірата-Юрка). *На пушчанскім аэрадроме н а ч а м і с а д з і л і с я чырвоназорыя самалёты* (Я. Б р ы л ь. Сталасць). *Так р а з в а ж а ў в е ч а р а м і Андрэй, пыхкаючы люлькай* (Я. К о л а с. Малады дубок). *У змроку зімовым т а к о ю п а р о й агні д а г а р а ю ц ь, як зоры* (П. Г л е б к а. Песні жальбы). *Ён м а р ы ў ю н а к о м: сваю гармонь набуду* (А. К у л я ш о ў. Музыка). *Міцька сапраўды яшчэ п а д л е т к а м с т а ў найлепшым паляўнічым* (А. К у л а к о ў с к і. Сустрэчы на ростанях).

Дзеяслоўныя словазлучэнні з часавымі адносінамі могуць выражаць меру, працягласць дзеяння, названага дзеясловам. Пры залежным назоўніку такіх словазлучэнняў звычайна ўжываецца азначальны займеннік *цэлы: чытаць цэлымі вечарамі, працаваць цэлымі суткамі* і інш. *Ён м о г ц э л ы м і г а д з і н а м і н а з і р а ц ь, як у паркавай сажалцы плаваюць трытоны, розныя рыбкі* (М. Л ы н ь к о ў. Чорная пляма). *Інакш н е с я д з е ў бы ён тут ц э л ы м і д н я м і* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *М о м а н т а м і Рыгора з а б і р а л а труслівасць* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *П е р а г о н а м і с ы п а л і с я на зямлю снегавыя крупы* (К. Ч о р н ы. Зямля).

### Словазлучэнні з абмежавальнымі адносінамі

§ 317. У словазлучэннях з а б м е ж а в а л ь н ы м і адносінамі залежнае слова ўказвае на прадмет або паняцце, якім абмяжоўваецца дзеянне, названае дзеясловам: *Занядбала любая сялянка, з а н я д б а л а сёння п а я с а м і* (П. Г л е б к а. Хада падзей).

## ПРЫНАЗОЎНІКАВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 318. Прыназоўнікавыя дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікамі (або прадметна-асабовымі займеннікамі) з'яўляюцца надзвычай прадуктыўнымі і разнастайнымі па значэнню. Залежнае слова ў іх можа выступаць у форме розных ускосных склонаў з прыназоўнікамі, якія ўплываюць на характар сінтаксічных адносін паміж спалучальнымі словамі і надаюць словазлучэнню спецыфічныя адценні азначальна-акалічнасных, аб'ектных і іншых значэнняў.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З РОДНЫМ СКЛОНАМ

§ 319. У дзеяслоўных словазлучэннях з родным склонам назоўніка могуць ужывацца прыназоўнікі *з (са), з-за, з-пад, ад, да, для, дзеля, без, у (ва), паміж (між, спаміж)*, вытворныя адпрыслоўныя прыназоўнікі *каля (ля), сярод (пасярод), пасярэдзіне, збоку, узбоч, уздоўж (удоўж), усцяж, ускрай, паверх, паблізу (пobліз), воддаль, абапал, (паабапал, наабапал), вакол (навокал, навакола, наўкола), побач, супраць, насупраць, насустрач (насустрэчу), паводле, замест, пасля, напярэдадні, адносна*, вытворныя адыменныя прыназоўнікі *наконт, у адносінах, у сэнсе, у справе, у галіне, у святле, у асобе, па лініі, у напрамку,*

*у кірунку, у бок, у час, на працягу, на пачатку, з выпадку, з прычыны, з повалу, у выніку, у сілу, на выпадак, з мэтай, у мэтах, у імя, у знак, у гонар, у чэсць, у карысць, у інтарэсах, шляхам, пры дапамозе, з дапамогай, па меры, у меру,* у тым ліку складаныя прыназоўнікі *ў адносінах да, у дастасаванні да, у дачыненні да, у залежнасці ад* і інш.

Дзеяслоўныя словазлучэнні з названымі прыназоўнікамі ў большасці выпадкаў выражаюць акалічнасныя адносіны месца, часу, прычыны, мэты, умовы, спосабу дзеяння, а таксама аб'ектныя адносіны.

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*

§ 320. Дзеяслоўныя словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з (са)* выражаюць адносіны прасторавыя, часавыя, азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння, прычынныя, аб'ектныя і абмежавальныя.

Словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя адносіны, складаюцца з дзеясловаў са значэннем руху або пэўнага дзеяння і назоўнікаў, якія абазначаюць зыходны пункт руху або месца дзеяння *(выйсці з лесу, выехаць з Мінска, глядзець з акна),* прадмет, з якога адбываецца рух, дзеянне *(сысці з трамвая, зваліцца з дрэва)*, месца, адкуль штонебудзь здабываецца, бярэцца *(дастаць з кішэні, усыпаць з мяшка, выліць з вядра),* крыніцу дазнання, успрымання *(даведацца з кніг, узяць са слоў).* Некаторыя з такіх канструкцый з'яўляюцца фразеалагічна ўстойлівымі: *валіцца з рук, высмактаць з пальца* і інш. *У той зімовы дзень нас, дэлегатаў, многа сышлося з гарадоў, аулаў, вёсак, сёл* (А. Куляшоў. Жывы Ленін). *Алёша прыходзіў са станцыі раней за рабочых* (К. Чорны. Бяздонне). *Лес быў навокал, абступаў вёску з трох бакоў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Крайчанка злез з каня* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Гірня ўзяў з рук газнічку* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *З рэпрадуктара чуцен гадзінніка бой* (М. Танк. Агні Мінска). *Кастусь адчуваў сябе так, нібы вялікая гара звалілася з яго плеч* (Х. Шынклер. Каб не формулы...).

Да словазлучэнняў з прасторавымі адносінамі функцыянальна набліжаюцца канструкцыі, у якіх залежнае слова — назоўнік абазначае якую-небудзь катэгорыю асоб, асяроддзе, стан або занятак, а галоўнае слова — рух або дзеянне са значэннем уцікнення, выхаду, вяртання і г. д.: *вярнуцца з бежанцаў, уцячы з палону, выйсці з прыкрыцця, прыехаць з работы, прыйсці з суботніка* і інш. *Хлопчык з варожай блакады быў вырвацца рады* (А. Куляшоў. Навагодняя ёлка). *Прыйшоў з салдатаў наш Кандратка* (П. Трус. У семнаццаты год). *Так і не выйшаў Ігнат з парабкоўства, мусіў гнуцца на пана* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Але вярнуўся ён са службы на чыгунцы іншым чалавекам* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай).

Пры ўказанні на канечны пункт руху ў залежнай частцы словазлучэння побач з формай роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *з (са)* ужываецца форма вінавальнага склону назоўніка з прыназоўнікамі *у, на, за.* Канструкцыя ў такім разе структурна ўскладняецца: *ляцець з Мінска ў Маскву, выйсці з хаты на вуліцу, выехаць з двара за вёску* і інш. *Мы ляцелі з Сан-Францыска ў Канаду* (М. Лынькоў. У незнаёмым горадзе). *Сям'я едзе з Масквы на поўдзень* (Б. Мікуліч. Дужасць). *З пушчы верасень гнаў на дарогу лісты* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Начамі з пушчы за Нёман выязджалі разведчыкі* (Я. Брыль. Адзін дзень).

У тым выпадку, калі назвы зыходнага і канечнага пунктаў руху лексічна супадаюць, паўтараюцца, то ў словазлучэнні выражаецца зна-

чэнне працягласці руху, дзеяння: *бегаць з канца ў канец, перадавацца з вуснаў у вусны, лазіць з дрэва на дрэва* і інш. Многія з такіх словазлучэнняў з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі. *Спірыдон хадзіў з кутка ў куток* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу). *Дадому ён едзе з узгорка на ўзгорак* (А. Куляшоў. У дарозе). *Яны расказвалі таропка, перапыняючы адно аднаго, і зусім нечакана пераходзілі з тэмы на тэму* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 321. Словазлучэнні з часавымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння да часу, з якога яно пачынае праяўляцца. У ролі залежнага слова гэтых словазлучэнняў звычайна выступаюць назоўнікі са значэннем часу або звязаныя з панящцем часу: *прыйсці з ранку, працаваць з поўдня, заснуць з вечара, рыхтавацца з вясны, помніць са школы* і інш. *З самага ранку расчысцілася неба і сонца пачало прасушваць зямлю* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Ужо з абеду пачалі яны прыбываць на пакос* (Ц. Гартны. На перагібе). *З дзяцінства зведаны і назаўсёды памятны прыемны пах разліўся па хаце* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *З маленства да гэтых мясцін прывыкаў, палюбіў і балоты, і далі* (А. Куляшоў. Млынар). *Вось так у змаганні нязменна ты рос змагаром з хлапчука* (П. Глебка. Кара).

Назоўнікі з часавым значэннем *год, месяц, тыдзень, дзень* і некаторыя іншыя заўсёды выступаюць у залежнай частцы словазлучэння разам з паясняльнымі словамі: *пазнаёміцца з першых дзён, залічыць з будучага месяца, не бачыць з таго тыдня, паступіць з семнаццаці гадоў.* Пры недакладным выражэнні часу, з якога пачынае праяўляцца дзеянне, у склад некаторых з гэтых словазлучэнняў можа ўключацца азначальны займеннік *які (які-небудзь)* у форме роднага склону *(дапамагаць з якіх сямі гадоў, пачаць* [хадзіць] *з якіх-небудзь васьмі месяцаў)* або назоўнікі *год, месяц* выносяцца ў пачатак залежнай часткі словазлучэння і займаюць месца перад лічэбнікам *(працаваць з гадоў дзесяці, пачаць* [хадзіць] *з месяцаў васьмі*). *З малых год Каспар ведаў дзеда Яна* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *З дзён сямігодкі мінула чатыры гады* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *З якіх трох год Міця зводзіў маці сваёй непаседлівасцю* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Ён вучыўся тут гадоў з сямі* (А. Куляшоў. Бюро даведак).

Паясняльныя словы могуць мець пры сабе і такія назоўнікі, якія часавае значэнне набываюць у пэўным кантэксце: *Ужо з першых класаў, з першых чытанак мы дазнаваліся пра Парыжскую камуну* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

У склад дзеяслоўных словазлучэнняў з часавымі адносінамі могуць уключацца назоўнікі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да,* якія ўказваюць на часавую мяжу праяўлення пэўнага дзеяння, або назоўнікі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на,* якія ўказваюць на працягласць дзеяння: *вучыцца з восені да лета, працаваць з вясны да зімы, адкладваць з дня на дзень, паўтараць з году ў год* і інш. *А пад гарой Дняпровы хвалі з вясны да восені шумяць* (Я. Купала. Магіла льва). *Ой, гуляй жа, Бандароўна, з вечара да ранку!* (Я. Купала. Бандароўна). *Млечны пуць, ён пралёг з веку ў век, з веку ў век* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *І камуна гэта, і гэты саўгас будуць з лета ў лета расці ў добры час* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

§ 322. У словазлучэннях, якія выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння, залежная частка ўказвае на спосаб утварэння дзеяння, на яго інтэнсіўнасць: *адказаць з ходу, зразумець з паўслова, пераскочыць з разбегу, старацца з усіх сіл* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі.

*Мы з разгону ўскочылі ў ваду* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Тут ён з усёй сілы штурхнуў камлюк на ваду* (Я. Колас. Маляды дубок). *Будучае трэба было браць з бою, вырваць з варагавых рук* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Пачала лаяць з апошняга слова, трасучы кулакамі над Зосяю* (Ц. Гартны. На перагібе).

Заўвага. У творах мастацкай літаратуры пад уплывам размоўнага стылю сустракаюцца словазлучэнні, у якіх інтэнсіўнасць праяўлення дзеяння выражаецца формай роднага склону назоўніка і прыназоўнікам *ад*: *Зручна, гучна грай нам, грайка, ад усіх рэж струн!* (Я. Купала. Безназоўнае). *Ад усяе сілы ірвануўся конь— і панёс, і паімчаў, толькі вецер свістаў у вушшу* (Б. Мікуліч. Дужасць).

§ 323. Словазлучэнні з прычыннымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння, стану да прычыны, якой гэта дзеянне ці стан выклікаецца або абумоўліваецца. У ролі залежнага слова тут звычайна выступаюць назоўнікі з адцягненым значэннем: *пасівець з гора, пасінець з холаду, ускрыкнуць з нечаканасці, паглядзець з цікаўнасці* і інш. Гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *ад* (гл. § 329). *Прыкурыў чалавек і давай з непрывычкі кашляць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Машэка плыў, марнеў з нягоды, аддыху рэдка меў калі* (Я. Купала. Магіла льва). *А сэрца з радасці заскача, кроў адвагай забурліцца* (Я. Купала. Як у госці сын прыехаў...). *Ёй, мусіць, не спалася дома, або яна ўстала досвіткам з празмернай руплівасці* (К. Чорны. Мельнікі). *Можа, з гэтай прычыны вясковыя камуністы ўжо каторы год выбіралі яго сваім парторгам* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Сюды ж адносяцца словазлучэнні з залежным кампанентам устойлівага характару: *Спірыдонаў нос — тут і мудруй як хочаш — ні з таго, ні з сяго ўзяў ды засвярбеў* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу).

§ 324. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі залежны назоўнік можа абазначаць назвы састаўных частак прадмета *(складацца з глаў)*, колькасны склад прадметаў, асоб, з якіх вылучаецца пэўная група іх *(застацца* [траім] *з дзесяці)*, матэрыял, з якога што-небудзь ствараецца, будуецца *(прыгатаваць з бульбы, вырабляць з пластмасы)*, асобу, прадмет або паняцце, з якіх што-небудзь пачынаецца *(пачаць з навічкоў, пачаць з будаўніцтва)*, стан, з якога выходзіць асоба, прадмет *(выйсці з задумення, паўстаць з руін)*, аб'ект уздзеяння, пераўтварэння *(здзекавацца* з каго-небудзь, *зрабіць цуд з балотных абшараў)*, аб'ект адчування, успрымання *(адчуваць з пагляду, памятаць з гутаркі)* і інш. *Першае аддзяленне канцэрта складалася з розных сольных музычных і вакальных нумароў* (Б. Мікуліч. Дужасць). *З усіх семнаццаці засталося толькі трое* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ён з цэглы, а не з запалак, пад небам, а не пад дахам, пачаў будаваць з запалам магутны гмах за гмахам* (А. Куляшоў. Быліна пра волата). *Сваё запрашэнне Андрэй пачаў са старэйшых — з яе радні* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Ён уваскрасаў з папялішч і раскіданых гнёзд* (Я. Скрыган. Неспадзеўнае падарожжа). *Што зрабілі людзі з балотных палеткаў, сведкай верш мой гэты, вясна гэта сведкай* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *З голасу Марыя адчувала, што перад ёю родны брат, а па выгляду дык цяжка было верыць* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

Многія з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца фразеалагічна ўстойлівымі: *Згінуўшая шпулька не толькі Міхайлава і Дзеразу збіла з панталыку* (Х. Шынклер. Прапаўшая грамата). *Гэта, відаць, вывела Самусевіча з раўнавагі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Але скора ён выбіўся з сіл* (Б. Мікуліч. Дужасць).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем пераходу, пераключэння на што-небудзь, звычайна ўключаюць у склад залежнай часткі форму вінавальнага склону назоўніка з прыназоўнікамі *у, на* або форму роднага склону з прыназоўнікам *да*, у выніку чаго канструкцыя структурна ўскладняецца: *перавесці з шафёра ў стажоры, пераключацца з чытання на пісьмо, пераходзіць з запытання да адказу* і інш. *Вочы гарэлі, іншы раз напаўняліся слязьмі, а твар з хваравітай бледнасці пераходзіў у чарнату* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

§ 325. Словазлучэнні, якія выражаюць абмежавальныя адносіны, прадстаўлены нешырока. Ролю залежнага слова ў іх выконваюць назоўнікі, якія абмяжоўваюць змест паняцця, названага галоўным словам — дзеясловам: *пахудзець з твару, змяніцца з голасу* і інш. *Ён не толькі ўзмужнеў з выгляду, стаў больш разважлівы і спакойны, ён пасмялеў* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *з-за, з-пад*

§ 326. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *з-за, з-пад* выражаюць прасторавыя адносіны; залежнае слова ў іх абазначае прадмет, адкуль пачынаецца рух ці зыходзіць пэўнае дзеянне, названае дзеясловам: *прыехаць з-за мяжы, выбегчы з-за вугла, выйсці з-за прылаўка, выглянуць з-за дрэў, вылезці з-пад коўдры, усміхацца з-пад вусоў, ляцець з-пад капытоў, з'явіцца з-пад Мінска* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў набываюць устойлівае значэнне. *З-за павароту шашы выскачылі матацыклісты* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Пад вечар выбілася з-за хмар сонца* (К. Чорны. Зямля). *Дымок плыве з-за саду* (А. Куляшоў. Музыка). *Стась вылазіць з-за стала* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Чалавек гукае з-за Нёмана* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Ён выйшаў з-пад паветкі* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *І з-пад Буга плыве гоман, весяліцца ўся зямля* (Я. Купала. Расшумеўся лес зялёны...). *Ён дастаў з-пад прыпеку венік* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён выхапіў каменьчык у яго з-пад носа* (Я. Маўр. Слёзы Тубі).

Заўвага. У творах мастацкай літаратуры для выражэння прасторавых адносін можа ўжывацца форма роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *з-над*: *Чую ўжо з-над ракі, хоць і ў мове чужой, сэрцу гук дарагі* (М. Багдановіч. Дзве песні).

Асобнае месца ў гэтай групе займаюць словазлучэнні, у якіх залежным словам абазначаецца тое, з-пад чаго хто-небудзь або што-небудзь вызваляецца ці выходзіць: *выйсці з-пад уплыву, вызваліць з-пад варты, вывесці з-пад куль* і інш. Такія словазлучэнні ўскладняюцца аб'ектнымі адценнямі.

Іншы раз словазлучэнні з прыназоўнікам *з-пад* выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння: *працаваць з-пад палкі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *з-за*, акрамя прасторавых адносін, могуць выражаць таксама прычынныя адносіны: *спазніцца з-за дажджу, размінуцца з-за цемнаты, не чуць з-за шуму, загінуць з-за недасціпнасці* і інш. *Але ў даным выпадку з-за генеральскае благасцярожнасці здарылася бяда* (Э. Самуйлёнак. Урачыстая меса). *Ён моцна сціснуў яе руку і, не могучы з-за слёз вымавіць слова, хутка павярнуўся і пайшоў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад*

§ 327. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *ад* выражаюць адносіны прасторавыя, часавыя, прычынныя, азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння і аб'ектныя.

У словазлучэннях з прасторавымі адносінамі залежная частка можа абазначаць зыходны пункт руху, нярэдка з указаннем на адлег-

ласць (*ісці ад паваротк*і, *бегчы ад самай шашы*), месца, ад якога пачынаецца рух (*пачаць ад лесу, павярнуць ад Нёмана, рухацца ад вёскі* — у значэнні «з боку вёскі»), месцазнаходжанне, размяшчэнне прадмета ў прасторы або месца, паблізу (побач) якога адбываецца рух, дзеянне (*ляжаць ад сцяны, ісці ад рэчкі* — у значэнні «крайнім ад рэчкі», *скасіць ад балота* — у значэнні месца, якое прымыкае к балоту; тое ж: *зжаць ад дарогі*). Для большасці гэтых канструкцый характэрна сумяшчэнне прасторавых і аб'ектных значэнняў. Асабліва яскрава гэта відаць у словазлучэннях, дзе названае дзеясловам дзеянне абазначае адыход, аддаленне ад таго ці іншага прадмета (*адысці ад стала, адпаўзці ад акопа*). *Ад рэчкі іду і стругаю у граблі бярозавы клец* (А. Куляшоў. З дзённіка брыгадзіра). *Пачаўшы ад дарогі новую баразну, Мікола сядзеў на плузе і курыў* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Я думаў так, а ўжо ад Нёмана дарога павярнула ў лес* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *За намі беглі ад вёскі мужчыны. Капейка ішоў ад ракі. Мікола ўстаў ад стала і, смеючыся, пайшоў насустрач Міхасю* (там жа). *Хтосьці лёгкай хадой адышоў ад акна* (П. Трус. Як пажоўкнуць лісты).

У склад залежнай часткі словазлучэнняў з прасторавымі адносінамі могуць уключацца таксама назоўнікі ў формах роднага склону з прыназоўнікам *да*, давальнага склону з прыназоўнікам *к* і вінавальнага склону з прыназоўнікам *у*, якія ўказваюць на канечны пункт руху, дзеяння: *прайсці ад клуба да вакзала, перабегчы ад саду к рэчцы, праводзіць ад праспекта ў сквер.* Нярэдка назвы зыходнага і канечнага пунктаў руху ў залежнай частцы абазначаюцца аднолькавымі словамі, у выніку чаго словазлучэнне выражае значэнне працягласці, паўтаральнасці дзеяння: *хадзіць ад хаты да хаты, перабягаць ад пад'езда к пад'езду, разнесціся ад краю ў край* і інш. *Я падышоў ад акна да парога* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Кантралёр пераходзіў ад лаўкі да лаўкі* (Я. Скрыган. Пусты кошык). *Сапраўды, там ад дрэва к дрэву перабягалі нейкія людзі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Узяўшы ў рукі белую істужку, ён вядзе музыкантаў ад узбярэжжа ў цэнтральны парк* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Ад краю у край гудуць трактары* (П. Глебка. На нівах калгасных).

§ 328. У словазлучэннях з часавымі адносінамі залежнае слова ўказвае на час, калі пачынаецца дзеянне, і на працягласць гэтага дзеяння: *касіць ад раніцы, працаваць ад абеду, чакаць ад вясны* і інш. *Ад самага ранку з коміна віўся сіняваты дымок* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ад вясны ўжо не было ніякай весці ад яго* (Цётка. Навагодні ліст). *Ад тых часоў краіну сталі клікаць яе сапраўдным імем — Беларусь* (П. Глебка. Беларусь). *Нашы яшчэ спяць, толькі я ляжу, не сплючы ад поўначы* (Я. Брыль. У сям'і). *Стаялі харамы ад векаў над самым Днепрам, на гары* (Я. Купала. Магіла льва).

Побач з формай роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *ад* у склад залежнай часткі словазлучэнняў з часавымі адносінамі могуць уключацца назоўнікі ў формах роднага склону з прыназоўнікам *да* і вінавальнага склону з прыназоўнікамі *па, на,* якія ўказваюць на час завяршэння дзеяння ці на працягласць яго ў часе: *працаваць ад раніцы да ночы, сябраваць ад маленства па сягоняшні дзень, паўтарацца ад года на год* і інш. *Ад вясны вясёлай, ранняй да восені позняй пяе поле трактарамі весела, пагрозна* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Ад першай нашай стрэчы і па астатні дзень мы ходзім кожны вечар на мора паглядзець* (П. Глебка. Вясёлыя песні). *Твой шлях гераічны, былы і наступны, твой дружны народ, працавіты і рупны, ад веку на век, маладая дзяржава, а бвеян працоўнай і ратнаю славай* (П. Глебка. Прывітанне Радзіме).

§ 329. Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад*, якія выражаюць прычынныя адносіны, складаюць прадуктыўны тып дзеяслоўных канструкцый. У ролі залежнага слова іх звычайна выступаюць абстрактныя назоўнікі, якія ўказваюць на прычыну таго, чым выклікаецца пэўнае дзеянне або стан асобы: *пачырванець ад сораму, збянтэжыцца ад нечаканасці, смяяцца ад шчасця, хістацца ад стомленасці* і інш. *Ад сораму і злосці кроў зашумела ў Сомікавай галаве* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ад лютай летняй спёкі гарыць сухі пясок* (П. Глебка. Хмаркі). *Народ загуў ад радасці і здзіўлення* (Я. Маўр. Лацароні). *Алесь, хоць і хацеў гэтае сустрэчы, але таксама крыху сумеўся ад нечаканасці* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Тады ён адняў пальцы і ад слабасці прытуліўся грудзьмі к зямлі* (К. Чорны. Будзем жыць).

§ 330. Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння лексічна абмежаваны. Яны складаюцца з дзеясловаў і ўстойлівых спалучэнняў слоў (радзей паасобных назоўнікаў), якімі абазначаецца спосаб праяўлення дзеяння з указаннем на яго якасную ацэнку: *вітаць ад усяго сэрца, прымаць ад чыстага сэрца, гаварыць ад душы* і інш. *Частавалі ад усяго сэрца* (К. Крапіва. Ёлкі і палкі). *Хто позна ўвечары ля млына табе пакляўся ад душы і ўчора ў чорныя хвіліны табою цешыўся і жыў* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»).

§ 331. У словазлучэннях, якія выражаюць аб'ектныя адносіны, залежная форма назоўніка з прыназоўнікам *ад* можа абазначаць аб'ект пазбягання, вызвалення (*уцячы ад ворага, вызваліцца ад перажыткаў*), аб'ект пазбаўлення, выхаду з пэўнага стану (*абудзіцца ад мараў, ачуцца ад страху*), аб'ект адчужэння, адмаўлення (*адгарадзіцца ад кампаніі, адмовіцца ад дапамогі*), аб'ект, які выступае ў якасці крыніцы дазнання (*даведацца ад сястры, пачуць ад брата*). Сюды адносяцца ўстойлівыя словазлучэнні: *адбіцца ад рук* і інш. *З самай граніцы сляды пасыпаў тытунём, каб уцячы ад аўчарак* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Днём хаваўся ў кустах ад людзей* (там жа). *Ад разгрому такой падпольнай групы Красуцкі выратаваўся выпадкова* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Косцік тым часам вырашыў застрахавацца ад усякага падазрэння* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Данік прахапіўся ад задумы і ўстаў* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Але адставаць ад кампаніі ён не хацеў* (Ц. Гартны. На перагібе). *Адбіўся ад рук старэйшы сын Іцка* (Х. Шынклер. Ічэ).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *да*

§ 332. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да* выражаюць адносіны прасторавыя з адценнямі аб'ектных значэнняў, аб'ектныя з адценнямі прасторавых значэнняў, часавыя, азначальна-акалічнасныя са значэннем меры, ступені, а таксама азначальна-колькасныя.

Да словазлучэнняў з прасторавымі адносінамі належаць канструкцыі, у якіх залежнай формай назоўніка з прыназоўнікам *да* абазначаецца асоба, на якую накіраваны дзеянне, рух (*пайсці да суседа, паслаць да брыгадзіра, трапіць да старшыні*), прадмет, у напрамку да якога адбываецца рух (*накіравацца да пляцоўкі, пайсці да дзвярэй*), прадмет, які з'яўляецца канечным пунктам руху (*даехаць да места, дабегчы да рэчкі*), прадмет, які ўказвае на меру праяўлення дзеяння ў прасторы (*уздымацца да нябёс, нахіляцца да зямлі*), прадмет або асобу, да якіх каго-небудзь запрашаюць (*клікаць да стала, запрасіць да сына*) і г. д. Амаль для кожнай з названых груп словазлучэнняў характэрна сумяшчэнне прасторавых і аб'ектных адносін. *Цярпігораў*

*кінуў на стол карандаш і пайшоў да Толіка* (К. Крапіва. Каб весела было...). *Сцяпана выбралі дэпутатам і адправілі яго да настаўніка* (Я. Колас. Бунт). *З дзіцем на руках яна кінулася да выхаду* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Подбегам накіроўваўся да трамвайнага прыпынку* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Данік устаў і павярнуўся да класа* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Ён правёў яе да сянец* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Да нябёс уздымае зямля каласы сваіх ніў* (А. Куляшоў. Зямля і сонца). *Там бярозы белыя нікнуць да зямлі* (П. Глебка. Наш лес). *А лес падступае да самай броўкі* (Х. Шынклер. Апошні рэйс). *Маці зяця кліча да стала* (А. Куляшоў. Бюро даведак).

Да гэтай групы належаць устойлівыя словазлучэнні тыпу *ісці да мэты, весці да шчасця, заклікаць да волі.* І тут прасторавыя адносіны сумяшчаюцца з аб'ектнымі. *Мы ідзём ў шырокія прасторы, мы ідзём да шчасця і надзей* (П. Трус. І было апошняе тады). *Ішоў напорна я, ішоў да мэты* (П. Глебка. Ліст у вёску). *Заклікаў да лепшай долі, долі і свабоды* (Я. Купала. Тарасова доля). *«Ну што ж, і пара чалавеку да якога берага прыбіцца»,—падумаў Кірыла* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары).

Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да*, якія выражаюць прасторавыя адносіны, у большасці выпадкаў з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *к* (гл. § 344), параўн.: *ехаць да доктара— ехаць к доктару, кінуцца да выхаду — кінуцца к выхаду, заклікаць да стала — заклікаць к сталу.*

§ 333. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі залежная форма назоўніка з прыназоўнікам *да* можа абазначаць асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца *(загаварыць да суседа, звярнуцца да гісторыі)*, асобу, да якой хто-небудзь набліжаецца *(падсесці да брата, прытуліцца да маці)*, катэгорыю асоб ці іншых істот, да якіх належыць канкрэтная асоба ці істота *(належаць да пралетарыяў, адносіцца да млекакормячых)*, асобу, прадмет або паняцце, якія выступаюць у якасці аб'ектаў дачынення або пэўных адносін да іх з боку іншых асоб *(ставіцца да старшыні, заляцацца да дзяўчыны, прывыкаць да працы, схіляцца да разваг)*, прадмет, які выступае ў якасці аб'екта пэўнага ўспрымання, адчування або фізічнага ўздзеяння *(прыслухоўвацца да шорахаў, прыглядацца да людзей, дакранацца да пляча)*, падзею ці занятак, да якіх рыхтуецца асоба *(рыхтавацца да заняткаў, прыступаць да работы)*, і г. д. *Чалавек першы загаварыў да пастушкоў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Відаць, ён не з асаблівай пашанаю ставіўся да свайго старшыні* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Дзяўчынкі прытуліліся да мацеры* (К. Чорны. Зямля). *Ён не адносіўся да дэлегатаў і, тым больш, да акцёраў* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *Алёша прагна прыслухоўваўся да ўсяго* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам). *Ён вельмі рана пачаў прыглядацца да машын* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Адзін малады лісток намагаўся дакрануцца да шкла* (Я. Скрыган. Наталя). *Масква рыхтуецца да свята* (М. Танк. Напярэдадні свята).

Заўвага. У сучаснай беларускай літаратурнай мове на месцы некаторых словазлучэнняў з прыназоўнікам *да*, асабліва пры дзеясловах *належаць, казаць, адрасаваць* і інш., ужываюцца беспрыназоўнікавыя словазлучэнні з давальным склонам назоўніка: *належаць калгасу, казаць сыну, адрасаваць установе* і інш. Магчымыя ў творах мастацкай літаратуры канструкцыі тыпу *належаць да калгаса, казаць да сына, адрасаваць да ўстановы* для нашага часу з'яўляюцца ўстарэлымі: *Сам жа хутар і зямля каля хутара належыць да касцёла* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Калісьці продкі казалі слушна да дзяцей: «Жыццё здаецца нам кароткім, што мы не ўлічваем надзей»* (П. Глебка. Даўгалецце). *Я адрасую слова да Аб'яднаных Нацый* (А. Куляшоў. Слова да Аб'яднаных Нацый).

§ 334. У словазлучэннях з часавымі адносінамі залежнае слова называе час, да якога адбылося, адбываецца ці павінна адбыцца дзеянне, або абазначае меру часу, да якога працягвалася, працягваецца ці будзе працягвацца пэўнае дзеянне: *прыехаць да дня, сабрацца да мая, сустрэцца да восені, весяліцца да зары, не спаць да світання, пець аж да ночы.* Пры залежным назоўніку гэтых словазлучэнняў могуць ужывацца паясняльныя словы, якія нярэдка складаюць структурна неабходную частку канструкцыі: *не забыць да гэтага часу, адкладаць да лепшых дзён* і інш. *Ен рушыў далей і яшчэ да цямна мінуў балота* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Ён заставайся там да глыбокай ночы* (там жа). *Трэба справу зрабіць да пайдня!* (П. Глебка. Аповесць пра каня). *Да заходу яшчэ прыедзем у сяло* (А. Куляшоў. Глушцы). *Глушцы ж, якім жыццё я даравай, і ён, скубуць з асін лісцё аж і да гэтых дзён* (там жа). *І льюцца песні там да рання, танцуе моладзь аж да дня* (К. Буйла. Песня). *Да самага вечара ляжаў Цімошка і ўсё думаў* (Я. Колас. Чоран).

Да гэтай групы адносяцца таксама канструкцыі з колькасна-іменнымі спалучэннямі, якія ўказваюць на дакладную або прыблізную меру часу: *Там яны і прасядзелі да двух гадзін ночы* (К. Чорны. Захар Зынга). *Яны прахадзілі па лесе гадзін да трох дня* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

У ролі залежнага слова дзеяслоўных словазлучэнняў з часавымі адносінамі могуць выступаць назоўнікі, якія набываюць часавае значэнне ў пэўным кантэксце: *зайсці да абеду, сустракацца да вайны, навучыцца да школы, пазнаёміцца да паступлення, пазычыць да новага ўраджаю, адпачываць да сяўбы.* Некаторыя з такіх словазлучэнняў з'яўляюцца ўстойлівымі: *не спаць да трэціх пеўняў* і інш. *На наступны дзень Сашу яшчэ да снедання павезлі ў суседнюю вёску* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *І Стэпе прыходзілася ўставаць да сонца* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Мы яго махорку яшчэ курылі да вайны* (А. Куляшоў. Віцебская махорка). *Партызанская біяграфія амаль што кожнага з іх пачыналася да ўступлення ў атрад* (Я. Брыль. Героям стварае народ). *Тут паплаўнічы жыў да апошняй атавы* (Я. Брыль. Мой зямляк). *У тую ноч да трэціх пеўняў гаварыў Павал з начлежнікам* (К. Чорны. Быльнікавы межы).

§ 335. Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння ці стану да меры і ступені іх праяўлення. Ролю галоўнага слова ў іх звычайна выконваюць дзеясловы са значэннем унутранага адчування або канкрэтнага фізічнага дзеяння, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія ўказваюць на меру і інтэнсіўнасць дзеяння: *праняць да касцей, сціснуць да болю, укалоць да крыві, біцца да апошняй кулі.* Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў такія словазлучэнні могуць набываць устойлівае значэнне: *дабіць да ручкі* і інш. *Гэта ўсмешка траха не да слёз расчуліла Шуру* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Да болю напяўшы і позірк і слых, ён чуе хаду тваю, вецер!* (П. Глебка. На варце). *Увесь час мы коўзаліся, падалі, змарыліся да смерці* (Я. Маўр. У цясніне). *Крычалі абое да хрыпаты, да знямогі* (К. Крапіва. Пальчык). *Раптам наляцела грузавая машына і рэзка, ажно да піску затармазіўшы, спынілася* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Тады ўспаміналася ўсё да драбніц* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 336. Словазлучэнні, якія выражаюць азначальна-колькасныя адносіны, лексічна абмежаваны. У ролі залежнай часткі іх звычайна выступаюць спалучэнні колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі ў форме роднага склону, якія ўказваюць на колькасць прадметаў, на

прыблізную вагу, памер, рост, часавую мяжу і г. д.: *налічыць да дваццаці вазоў, заважыць да дзесяці пудоў, вырастаць да двух метраў, пражыць да ста гадоў* і інш. *У снежні ямчэ лік заяў у калгасе дайшоў да пятнаццаці* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Так з марай юнака, без музыкі, без жонкі дажыў да сарака і сеў на трактар гонкі* (А. Куляшоў. Музыка).

## Словазлучэнні з прыназоўнікамі *для, дзеля*

§ 337. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *для, дзеля* звычайна выражаюць мэтавыя адносіны. У ролі залежнага слова ў іх выступаюць найчасцей адцягненыя назоўнікі, якія ўказваюць на мэту дзеяння, названага дзеясловам: *сустрэцца для размовы, схадзіць для прыліку, набыць дзеля патрэбы* і інш. *Народ, на бой рашучы ўстань! Устань для помсты і расплаты!* (К. Крапіва. Нам памятны дваццаты год). *Не для мірнай прыемнай размовы адны тут сустрэліся блізкія людзі* (А. Куляшоў. Млынар). *Для жыцця, для любві сонца зноў адмыкае зямлю* (А. Куляшоў. Зямля і сонца). *Я прадаў сваю кнігу сам дзеля ратунку Эльзы* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Дзеля госця Марта напякла скавародку сала* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

Акрамя мэтавых адносін, словазлучэнні з прыназоўнікам *дзеля* могуць выражаць прычынныя адносіны (*не пярэчыць дзеля таварыша* — у значэнні «з-за таварыша»), а словазлучэнні з прыназоўнікам *для* — аб'ектныя (*спадабалася для сястры*) і адносіны прызначэння (*працаваць для фронту, закупіць для калгаса*). *Іонас ведаў гэтую слабасць свайго старшыні, а сёння дзеля Алеся не хацеў перапыняць яго* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Гэтая ноч цягнулася для Кузьмы вельмі доўга* (Я. Колас. Адукацыя). *Для Пятра час гэты праляцеў хутчэй і весялей, чым для Сашы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Аддана кожны працаваў для фронту, партызан, для бою* (К. Буйла. Масква ў 1941 годзе).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *без*

§ 338. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *без* выражаюць аб'ектныя і азначальна-акалічнасныя адносіны з рознымі адценнямі.

У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі залежнае слова абазначае прадмет, без якога адбываецца дзеянне або адсутнасцю якога яно характарызуецца: *прыехаць без рэчаў, прыйсці без таварыша, застацца без хаты, жыць без сям'і* і інш. Некаторыя словазлучэнні гэтай групы сумяшчаюць у сабе значэнні аб'ектных і азначальна-акалічнасных адносін. *На тое ж яно і Палессе — без стрэльбы там абысціся трудна* (Я. Колас. Дрыгва). *Затым думаў дзед і пра сваю хату, што праз колькі дзён застанецца адна без гаспадароў* (там жа). *Віктар сядзіць за рулём без шапкі, нават без камбінезона* (А. Кулакоўскі. Адвячорак). *Аляксей сапраўды сумаваў без работы* (І. Шамякін. Крыніцы).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *без*, у якіх ролю залежнага слова выконваюць абстрактныя назоўнікі, выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на спосаб утварэння дзеяння і меру, інтэнсіўнасць яго праяўлення (*жыць без клапот, аднесціся без увагі, разглядаць без цікавасці, любіць без меры*), на час (*пасівець без часу, загінуць без пары*), мэту, вынік і прычыну або ўмову дзеяння (*ха-*

*дзіць без мэты, зайсці без прычыны, схуднець без ежы*). Сюды ж прымыкаюць устойлівыя спалучэнні *наваліцца без дай прычыны, хадзіць без канца* і інш. *Чорны г а в а р ы ў ціха, б е з ж э с т а ў* (Я. С к р ы г а н. Неспадзеўнае падарожжа). *Коннікі е д у ц ь бязладна, б е з п а р а д к у* (Х. Ш ы н к л е р. Чмута). *І не раз нейкая сіла падбівала Васіля кінуцца на ляснічага.., біць, б і ц ь б е з ж а л ю, б е з м і л а с э р д з я* (Я. К о л а с. Васіль Чурыла). *Б е з ч а с у ліст на дрэвах ж о ў к* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Ён праз увесь час стаяў у дзвярах, быццам бы б е з яго н а г л я д у гэтыя дзве жанчыны п а в я л і б г а в о р к у не ў той бок* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Потым абцёр спацелы лоб рукавом шыняля, б е з д а й п р ы ч ы н ы п а г л я д з е ў* (Б. М і к у л і ч. Дужасць).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *у*

§ 339. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у* выражаюць найчасцей а б' е к т н ы я адносіны. Залежнае слова ў іх называе асобу (зрэдку іншую істоту), з якой што-небудзь здараецца, у якой што-небудзь узнікае (пачуццё, адчуванне, думка і інш.) або ад якой што-небудзь бярэцца, патрабуецца ці пераймаецца. Пераходныя дзеясловы ў складзе гэтых словазлучэнняў заўсёды патрабуюць далучэння да сябе прамога аб'екта ў форме вінавальнага склону назоўніка без прыназоўніка: *здарылася ў суседа* [няшчасце], *з'явілася ў бацькоў* [думка], *узнікла ў людзей* [пачуццё], *выклікаць у прысутных* [смех], *забраць у таварыша* [кнігу], *патрабаваць у віноўніка* [адказу] і інш. *Але ў С т э п ы н е в а р о ч а е ц ц а язык, каб што-колечы сказаць незнаёмаму ёй чалавеку* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Так вось а т р ы м а л а с я і ў А н д р э я* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Колькі ўспамінаў в ы к л і к а л а ў А л е с я гэтая мясціна!* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *І раптам з' я в і л а с я ў З а х а р а З ы н г і патрэба стаць бліз кім гэтаму панураму чалавеку* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга). *Дзесятак рук а б м а ц в а ю ц ь горла ў к а р о в ы* (К. Ч о р н ы. Вясковая ветэрынарыя). *«Ну, як жа, кумка, маецца?» — кума ў к у м ы п ы т а е ц ц а* (К. К р а п і в а. Дзве кумы).

Словазлучэнні, у якіх залежнае слова называе асобу, па месцазнаходжанню якой адбываецца дзеянне, сумяшчаюць у сабе значэнні аб'ектных і прасторавых адносін: *сабрацца ў старшыні, пабыць у калгаснікаў* і інш. *Забалачане з б і р а л і с я ў Я ч н а г а* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

З а ў в а г а. Словазлучэнні тыпу *стаяць у парога, сядзець у акна* не характэрны для сучаснай беларускай літаратурнай мовы; яны замяняюцца адпаведнымі дзеяслоўнымі канструкцыямі з прыназоўнікам *каля* (*стаяць каля парога, сядзець каля акна*, гл. § 341). *У в о к а н гэтых часта с т а я л а Рыта адвячоркам і глядзела туды ўніз* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж* (*між*)

§ 340. Дзеяслоўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж* (*між*) пераважна выражаюць п р а с т о р а в ы я адносіны. У ролі залежнай часткі іх могуць выступаць два назоўнікі, калі гутарка ідзе аб розных прадметах, у прамежку якіх адбываецца рух ці пэўнае дзеянне, або адзін назоўнік множнага ліку (за выключэннем назоўнікаў, якія не маюць множнага ліку), калі ім абазначаецца група аднолькавых ці аднародных прадметаў: *праязджаць між скалы і абрыву, праходзіць між яру і ўзлеску, сядзець паміж купін*. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца ўстойлівымі: *прапусціць між вушэй* і інш. *Амяльян спускаецца з горкі, ідзе лагчынкаю, т у л я ю ч ы с я п а м і ж б я р о з а к і к у с т о ў* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»). *П а м і ж з я м л я н а к, д р э ў,*

*платоў і чорных с т р у п'я ў котлішч заўсёды на вачах с т а я ў гэты незвычайны зруб* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Потым стракатая Надзіна хусцінка мільгала між яблынь пад вокнамі, між кучаравых бяроз на паляне і знікала, як той мятлік, між дубоў на беразе рачулкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Між жытоў падымаецца дарога на ўзгорак* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *Ляснік устаў, пусціўшы між вушэй Васілёвы словы* (Я. Колас. Нёманаў дар).

Заўвага 1. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паміж (між)* з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным словазлучэнням з творным склонам назоўніка (гл. § 400) і могуць замяняцца імі: *ісці між дрэў — ісці між дрэвамі, апынуцца паміж хвой — апынуцца паміж хвоямі, стаяць паміж кустоў — стаяць паміж кустамі* і інш. У радзе выпадкаў, асабліва пры неабходнасці канкрэтызацыі дзеяння і вылучэння прадметаў, паміж якімі адбываецца гэта дзеянне, форма творнага склону назоўніка ўжываецца часцей, чым форма роднага склону. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў сінанімічны дзеяслоўным словазлучэнням з прыназоўнікам *сярод: апынуцца між балот — апынуцца сярод балот* (гл. § 341).

Заўвага 2. Словазлучэнні з прыназоўнікам *спаміж* ужываюцца рэдка, яны з'яўляюцца ўстарэлымі: *Слупы мільгалі верставыя, дарожкі, сцежачкі крывыя, што чуць заметна спаміж збожжа віліся йстужкаю прыгожа* (Я. Колас. Новая зямля).

Калі ролю залежнага слова дзеяслоўных словазлучэнняў з прыназоўнікам *паміж (між)* выконваюць адушаўлёныя назоўнікі, то значэнне прасторавых адносін ускладняецца ў іх адценнем аб'ектнага і вылучальнага значэння: *вылучацца паміж сваіх аднагодкаў, ісці між школьнікаў, сядзець паміж калгаснікаў* і інш. *Паміж старцоў выдзяляліся два* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу). *Між вялікіх лазяць дзеці, так як мышы між снапоў* (К. Крапіва. Грышча). *Шмат здарэнняў і падзей такіх я бачыў між людзей* (К. Крапіва. Каршун і Цецярук). *Нідзе адступніцтва і здрады не знойдзе вораг між случчан* (А. Астрэйка. Случчанам). *Між сялян пайшла глухая гаворка* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Інжынер сядзеў паміж калгаснікаў на ўзгорку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Паміж мужыкоў было многа жартаў пра гэты кажух* (Я. Колас. Кажух старога Анісіма).

Словазлучэнні, у якіх формай роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *паміж (між)* абазначаецца час, у прамежку якога адбываецца пэўнае дзеянне, выражаюць часавыя адносіны. Такія канструкцыі з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паміж (між)* (гл. § 403). *Агей гаварыў спяшаючыся і між гаворкі падоўгу піў халодную ваду* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *На вайне, між атак, між цяжкімі баямі, выпадае на момант для спачынку нам час* (П. Броўка. Байцам-беларусам).

### Словазлучэнні з вытворнымі адпрыслоўнымі прыназоўнікамі

§ 341. Словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *каля (ля), міма, супраць (супроць), насупраць (насупроць), проці, сярод, пасярод, пасярэдзіне, абапал, наабапал, паабапал, вакол (вокал), навакол (навакола), наўкол (наўкола), паблізу (побліз, паблізу), ускрай (скрай), уздоўж (удоўж), усцяж, наўсцяж, узбоч* і некаторымі іншымі пераважна выражаюць прасторавыя адносіны з разнастайнымі адценнямі, якія абумоўліваюцца канкрэтным значэннем кожнага з названых прыназоўнікаў.

*Каморнік усё курыў каля акна, зрэдку ўстаўляючы слова* (К. Чорны. Зямля). *Міма бальніцы якраз пралягала дарога* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Яна стаіць процi печы з чапялою* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пасярод вуліцы ўжо стаяла некалькі дзядоў, бабулек і было многа дзяцей* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Пасярэдзіне пакоя, на крэсле,*

*сядзела надзьмутая пані, жонка загадчыка* (Х. Шынклер. Ічэ). *Толькі старыя бярозы ды маладыя дрэўцы прысадаў від аць былі абапал гасцінца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Мы пайшлі ўздоўж цэнтральнай магістралі* (М. Лынькоў. У незнаёмым горадзе). *Рыгор пайшоў усцяж майстэрні* (Ц. Гартны. На перагібе).

Акрамя прасторавых адносін, дзеяслоўныя словазлучэнні з прыназоўнікамі *супраць (супроць), сярод* могуць выражаць аб'ектныя адносіны *(змагацца супраць ворага, вылучацца сярод людзей)*, з прыназоўнікамі *пасля, напярэдадні,* а таксама *сярод, проці* — часавыя *(зайсці пасля антракту, паехаць напярэдадні свята, рабаваць сярод дня, выбірацца проці ночы),* з прыназоўнікамі *ўздоўж, напроці* — азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння *(выраўняцца ўздоўж лініі, стаяць адзін напроці аднаго),* з прыназоўнікамі *каля, блізка, супраць* — азначальна-колькасныя са значэннем меры плошчы, прасторы, часу, колькасці прадметаў *(узараць каля гектара, праляжаць каля тыдня, прастаяць блізка гадзіны, сэканоміць каля тысячы, набраць дзесяць супраць шасці),* з прыназоўнікамі *паводле, проці* — адносіны адпаведнасці або неадпаведнасці *(паступаць паводле правіла, дзейнічаць проці жадання).*

*Рогат падняўся сярод матросаў* (Я. Маўр. Бунт звяроў). *А тут прыйшлі на дапамогу бацькі, пачаўшы нагаворваць ёй супроць Алеся* (К. Чорны. Зямля). *Толькі адно пісьмо было атрымана неўзабаве пасля мабілізацыі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Напярэдадні Першага мая ён паехаў да Сашы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Пятро пайшоў праз гэты лес проці ночы* (там жа). *Сярод лета лугі парыжэлі, пажоўклі кусты* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Рукі былі выцягнуты ўздоўж цела* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Пастаялі так адзін напроці аднаго, паглядзелі коса адзін аднаму ў твар і разышліся кожны ў свой бок* (К. Чорны. Зямля). *Ім аставалася прайсці да прыстані каля вярсты* (Ц. Гартны. На перагібе). *І вось ужо каля месяца яны не гавораць, не глядзяць адно аднаму ў вочы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Сяржант блізка гадзіны сядзеў у маленькім пакоіку* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Усяго вучняў налічвалася каля пяцідзесяці* (Я. Колас. На ростанях). *Але іх было сто пяцьдзесят супраць ста* (Я. Маўр. У цясніне). *Дзікі крык вырваўся сам проці волі Васіля* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

## Словазлучэнні з вытворнымі адыменнымі прыназоўнікамі

§ 342. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова падпарадкоўваецца галоўнаму пры дапамозе вытворных адыменных прыназоўнікаў, складаюць прадуктыўны і семантычна разнастайны тып дзеяслоўных канструкцый. У залежнасці ад значэння прыназоўнікаў гэтыя словазлучэнні могуць выражаць наступныя адносіны: аб'ектна-абмежавальныя *(турбавацца наконт выезду, садзейнічаць у справе будаўніцтва, працаваць у галіне фізікі, памыліцца ў адносінах выбару* [спецыяльнасці]), прасторавыя *(ехаць у кірунку вёскі, пайсці ў кірунку да горада, павярнуць у напрамку магістралі, накіравацца ў бок возера, наступаць з боку лесу),* часавыя *(загінуць у час вайны, прахапіцца да пачатку дня, наведаць у пачатку сезона, стаяць на працягу якой, апладыраваць у канцы выступлення),* азначальна-акалічнасныя *(апрацаваць шляхам ціску, вымераць пры дапамозе лінейкі, знаходзіцца ў стане захаплення, працаваць па меры сіл),* прычынна-вынiковыя *(затрымлівацца з прычыны няшчасця, не прыехаць па*

*прычыне хваробы, пакінуць у сілу абставін*), мэтавыя (*наведаць з мэтай азнаямлення, заключыць* [дагавор] *у інтарэсах міру, салютаваць у адзнаку перамогі, пакланіцца ў знак павагі, арганізаваць* [вечар] *у гонар дружбы*), умовы (*выехаць на выпадак бяды*).

*Зося ведае, што гэта ўсё наконт яе і Юзіка гаворыцца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *А. Іонінас актыўна працуе ў галіне вершаванай сатыры* («Маладосць»). *Мар'янка ўстае і моўчкі ідзе сцяжынкаю ў бок чыгункі* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Выбухі аддаляліся ў напрамку шашы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Цацкай маломы ён здаўся ў час яго скону* (А. Куляшоў. Навагодняя ёлка). *На пачатку вайны над палянай гулі самалёты* (Я. Брыль. Казачок). *На працягу доўгіх вякоў наша краіна з'яўлялася скрыжаваннем чужых захопніцкіх інтарэсаў* (Я. Скрыган. Неспадзеўнае падарожжа). *Яны ўсе ўжо калупаліся ў зямлі з дапамогаю трэсачак* (Я. Маўр. У цясніне). *Кожны па меры сваіх сіл павінен служыць айчыне* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *У далейшым Кіеўская Русь у сілу пэўных прычын распалася на паасобныя часткі* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы). *Праўленне калгаса пастанавіла склікаць вас з повада вядомага вам артыкула ў нашай «Калгаснай праўдзе»* (Я. Колас. Адшчапенец). *Алесь у знак згоды кіўнуў галавой* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Прызначэнне ж сатырычнай камедыі — выкрываць зло ў імя дабра* (К. Крапіва. Канфлікт — аснова п'есы). *Я склаў бы гэты любы спеў у гонар дружбы і радзімы* (П. Глебка. Пад небам бацькаўшчыны). *Яны сказалі нам, што запелі гэтую песню ў адзнаку павагі да нас, савецкіх людзей* (М. Лынькоў. «Кацюша» ў акіяне). *Падавайся туды, да ўдавы Кацярыны, на выпадак бяды* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 343. У словазлучэннях з давальным склонам залежнае слова падпарадкоўваецца галоўнаму пры дапамозе простых невытворных прыназоўнікаў *к* (*ка*), *па*, а таксама вытворных прыназоўнікаў *насустрач, услед, наперакор, дзякуючы.* Такія словазлучэнні сустракаюцца параўнальна рэдка, не ўсе яны аднолькава характэрны для сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Так, замест канструкцый з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *к* (*ка*) у большасці выпадкаў ужываюцца дзеяслоўныя словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да*: *рыхтавацца к сяўбе — рыхтавацца да сяўбы, заклікаць к барацьбе — заклікаць да барацьбы, звярнуцца к настаўніку — звярнуцца да настаўніка* і інш. Словазлучэнні з вытворнымі прыназоўнікамі *адпаведна, згодна, падобна* замяняюцца звычайна дзеяслоўнымі прыназоўнікава-іменнымі словазлучэннямі з формамі іншых ускосных склонаў назоўнікаў (гл. § 349).

#### Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* (*ка*)

§ 344. Словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *к* (*ка*) могуць выражаць прасторавыя адносіны з аб'ектнымі адценнямі, аб'ектныя нярэдка з прасторавымі адценнямі, а таксама адносіны часу і мэты.

Словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца рух, а залежным словам — прадмет, да якога хто-небудзь або што-небудзь набліжаецца, выражаюць прасторавыя адносіны: *ісці к дому, паўзці к акопу, плысці к берагу, павярнуць к лесу, паехаць к мору.* Сюды ж уключаюцца словазлучэнні, у якіх залежнае слова абазначае падзею

або пару дня, года і г. д. Такія канструкцыі звычайна набываюць метафарычны характар: *ісці к рэвалюцыі, набліжацца к зіме, падыходзіць к экзаменам* і інш. Названыя словазлучэнні ўскладняюцца аб'ектнымі адценнямі. Асабліва яскрава гэта выяўляецца ў канструкцыях, дзе залежнае слова абазначае асобу. *Начлежнікі рынуліся к сталу* (К. Чорны. Максімка). *Жанчына падышла к ганку* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *І з ім я імчуся ў вольны прастор, к сваёй Беларусі, да сініх азёр* (К. Буйла. У дарозе). *І досвіткам раннім на бераг ідзе, і ціха спускаецца к цёмнай вадзе* (П. Глебка. Рыбак). *Дымок цягнуўся к соснам любым і плыў да хмарак* (А. Куляшоў. Віцебская махорка). *Сцелецца к сонцу дарога* (Я. Купала. Наша моладзь). *Дзень ішоў к вечару* (Я. Колас. Чоран). *Начлежнік падышоў к Паўлу* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *Кірылка палез на гару к хлопцам* (К. Чорны. Мельнікі).

§ 345. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў мае значэнне набліжэння, датыкання або падрыхтоўкі ці закліку да чагонебудзь, выражаюць аб'ектныя адносіны: *падсесці к суседу, прыперціся к сталу, падрыхтавацца к сяўбе, заклікаць к міру* і інш. І ў гэтых словазлучэннях могуць выяўляцца адценні прасторавых значэнняў. *Яна абярнулася к Васілю* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). [Начлежнік] *падсеў к Паўлу* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *Старыя хаты нізка прыпадалі к шэрай зямлі* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *Там ён, абліты вадой ледзяною, к сэрцу рукою білет прыціскаў* (А. Куляшоў. Камсамольскі білет). *Кукавала зязюля ў садочку, прылажыўшы галоўку к лісточку* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Ён клікаў к змаганню працоўны народ* (К. Буйла. Народны песняр).

§ 346. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на час або пэўны прамежак часу, к якому адбылося ці на які намячаецца выкананне дзеяння, выражаюць часавыя адносіны: *падарыць к дню* [нараджэння], *атрымаць к ад'езду, скончыць к тэрміну, прыйсці к абеду, пашыць к святу* і інш. *Якраз выспела к майму ад'езду* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *К таму часу ў Берастэчка к дружыне казачай прыблукаўся пан Патоцкі* (Я. Купала. Бандароўна). *Нарэшце* [шторм] *пачаў сціхаць і к сярэдзіне чацвёртага дня зусім утаймаваўся* (М. Лынькоў. «Кацюша» ў акіяне). *К вечару заняць пераправу ля Цітвян* (К. Крапіва. Партызаны). *Шчыра апрацаваныя палі рыхтавалі к лету ўраджай і радавалі людское вока* (К. Чорны. Свята працы і свету).

§ 347. Словазлучэнні, залежным словам якіх абазначаецца паняцце, у суадноснай (несуадноснай) сувязі з якім знаходзіцца дзеянне, названае галоўным словам, выражаюць адносіны адпаведнасці або неадпаведнасці з мэтавым адценнем: *падараваць к шчасцю, весяліцца не к дабру* і інш. *Кукавала зязюля, не к дабру кукавала* (Я. Купала. Чырвонай Арміі паходы).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 348. Дзеяслоўныя словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* колькасна абмежаваны. На іх месцы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове найчасцей ужываюцца дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* (гл. § 415—418), якія звычайна сумяшчаюць у сабе і значэнні канструкцый з давальным склонам імён.

Дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікам у форме давальнага склону і прыназоўнікам *па* могуць выражаць наступныя адносіны: прасторавыя *(жыць па суседству, працаваць па месцу пражывання),*

аб'ектныя (*праверыць па журналу, прагледзець па рукапісу*), азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння (*называць па імю, адшукаць па надпісу*), размеркавальна-колькасныя або колькасна-азначальныя (*выпіць па стакану, з'есці па лыжцы, збіраць па лістку*), абмежавальныя (*адставаць па чарчэнню, апярэдзіць па матэматыцы*), прычынна-вынікoвыя (*прыехаць па заданню, спазніцца па яго віне*).

*Жыве ён дзесь па суседству з прачкай Грындай* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Я не магу звягаць на кожнага па падваконню* (К. Чорны. Зямля). *Па гуку, па тону можна было зразумець, што прычына — не гром, не бліскавіца з яе нечаканым агнём* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Звяраем нумар па квіту, і вось яна — наша сасна* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Адну маці Марыны ён мог назваць па імю і па бацьку* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Але не па сэрцу яму вясковае жыццё прыйшлося* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай). *Гэты надзел дастаўся яму па жэрабʼю* (Я. Колас. Дачакаўся). *Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў* (Я. Колас. На начлезе). *Кожны вечар на ўзгорку за вёскай прыбывае па добраму дзесятку бярвенняў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Аказалася, што да гэтага яна працавала касіркаю, па бухгалтэрыі ведала мала* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *У калгас ён прыехаў па рашэнню райкома камсамола* (з газет).

### Словазлучэнні з вытворнымі прыназоўнікамі

§ 349. Дзеяслоўныя словазлучэнні з давальным склонам назоўніка і вытворнымі прыназоўнікамі *насустрач, наперарэз, наперасек, услед* у адпаведнасці са значэннем названых прыназоўнікаў выражаюць прасторавыя адносіны з адценнем аб'ектных значэнняў. Залежнае слова ў гэтых канструкцыях называе прадмет (асобу), у напрамку да якога або ўслед за якім адбываецца рух ці пэўнае дзеянне: *ісці насустрач транспарту, кінуцца наперарэз танкам, бегчы наперасек байцам, паглядзець услед брату* і інш. *Насустрач ім ехаў селянін* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Наперарэз машыне выбягае гурба дзяцей* (М. Гамолка. Ленінскі масток). *Ідзе павольна чалавек якраз яму наперасек* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Прайшоўшы колькі крокаў, ён спыніўся і паглядзеў услед Рудаку і Самусевічу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Словазлучэнні з вытворным прыназоўнікам *наперакор* выражаюць аб'ектныя адносіны. Залежным словам тут абазначаецца прадмет (асоба) або паняцце, не ў карысць якім адбываецца дзеянне, названае галоўным словам: *пайсці наперакор бацькам, выступіць наперакор* [яго] *жаданням* і інш. *І ён і цётка Магдалена пайшлі панам наперакор* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Ці ж у яе хопіць смеласці пайсці наперакор сваім бацькам?* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Але ён наперакор выбухам, наперакор усяму — бег, бег* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Словазлучэнні з вытворным прыназоўнікам *суразмерна* выражаюць адносіны адпаведнасці: *надзяліць суразмерна патрэбам.* Гэтыя канструкцыі звычайна ўжываюцца ў навуковым і дзелавым стылях мовы: *Звяно ільнаводаў атрымала надбаўку на працадзень суразмерна колькасці сабранай ільнотрасты* (з газет).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *адпаведна, згодна* не ўласцівы беларускай літаратурнай мове. Замест іх звычайна ўжываюцца канструкцыі з давальным, месным або родным склонамі назоўніка і прыназоўнікамі *па, паводле* (*дзейнічаць па закону, рабіць па інструкцыі, з'явіцца*

*па загаду, атрымліваць па заслугах, паступаць паводле правіла)* або з творным склонам назоўніка і складанымі прыназоўнікамі *ў адпаведнасці з, адпаведна з, згодна з (дзейнічаць у адпаведнасці з законам, паступаць адпаведна з інструкцыяй, з'явіцца згодна з паведамленнем).*

З а ў в а г а. Выпадкі ўжывання такіх канструкцый у газетным, а часам і ў мастацкім стылі з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы: *А д п а в е д н а з а г а л о ў к у ён п і с а ў, як зіхаціць ралля, як звініць у небе вясновы жаваранак* (І. Г р а м о в і ч. Нарасць). *З г о д н а сваім а б а в я з к а м яна* [грэчка] *ужо з а ц в і л а* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *З'я в і ў с я з г о д н а вашаму з а г а д у* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *падобна* выражаюць адносіны п р ы п а д а б н е н н я або п а р а ў н а н н я: *блішчаць падобна мармуру.* Такія канструкцыі ў беларускай літаратурнай мове сустракаюцца рэдка, звычайна замест іх выкарыстоўваецца параўнальны зварот са злучнікам *як (блішчаць, як мармур).*

Словазлучэнні з вытворным прыназоўнікам *дзякуючы* выражаюць п р ы ч ы н н а-ў м о ў н ы я адносіны: *адшукаць дзякуючы сябрам, пабудаваць дзякуючы дапамозе* і інш. *Кожны раз студыйцы д з я к у ю ч ы заядлай в а й н е між драматургам і рэжысёрам а д р ы в а л і с я ад ігры і прыслухоўваліся да гутаркі* (З. Б я д у л я. Салавей). *Д з я к у ю ч ы к а м с а м о л ь ц а м у д а л о с я дастаць супрацьтанкавую гармату* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ВІНАВАЛЬНЫМ СКЛОНАМ

§ 350. Дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікамі ў форме вінавальнага склону з'яўляюцца надзвычай прадуктыўнымі. Залежны назоўнік у іх можа ўступаць у падпарадкавальную сувязь з галоўным словам — дзеясловам пры дапамозе прыназоўнікаў *у (ва), на, па, з, за, па-за, пра, праз, цераз, скрозь, паўз, пад, аб, падобна на, у кірунку на* і некаторых іншых. Шырокі круг прыназоўнікаў, якія ўжываюцца з вінавальным склонам назоўніка, багацце іх значэнняў уплываюць на характар адносін паміж спалучальнымі словамі і абумоўліваюць семантычную разнастайнасць словазлучэнняў гэтага тыпу.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *у (ва)*

§ 351. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у (ва)* у залежнасці ад значэння слоў, з якіх яны ўтвараюцца, і прыназоўніка могуць выражаць прасторавыя, аб'ектныя, часавыя, азначальна-акалічнасныя, колькасныя і мэтавыя адносіны.

Словазлучэнні, якія выражаюць п р а с т о р а в ы я адносіны, складаюцца з дзеясловаў са значэннем руху або канкрэтнага дзеяння і назоўнікаў, якія абазначаюць:

а) назву населенага пункта, месца ці напрамак руху: *паехаць у Маскву, пайсці ў лес, скіравацъ у кювет, несціся ўдалечыню.* Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў словазлучэнне набывае ўстойлівы характар: *бегчы ў свет, адысці ў нябыт* і інш. *Мы б маглі заўтра п а е х а ц ь у Ж д а н о в і ч ы* (Я. С к р ы г а н. Няпрошаная сляза). *Г н а ў я статак пагонам у в ё с к у* (П. Г л е б к а. Успаміны падпаска). *Пятро таксама п а в я р н у ў у свой д в о р* (Я. К о л а с. Дачакаўся). *Даніла п е р а п о ў з у л а з н я к* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *З а х о д з і л а сонца ў с о с н ы* (А. К у л я ш о ў. Шэршні). *Шаша ў гэтым месцы с п у с к а е ц ц а ў н і з і н у* (Я. С к р ы г а н. Маці). *Кароткімі днямі хутка п а б е г л а жыццё ў в е ч н а с ц ь* (К. Ч о р н ы. Быльнікавы межы).

З а ў в а г а. У мастацкіх творах першай палавіны XX ст. для выражэння прасторавых адносін замест словазлучэнняў з прыназоўнікам *у* ўжываліся словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да: Таго дня д а М і н с к у п а е х а л а Зося* (Я. К у п а л а. Адплата кахання).

Да гэтага ж тыпу прымыкаюць словазлучэнні, у якіх залежным словам называюцца прадметы (пераважна рэчыўна-зборныя), дзеля якіх адбываецца рух: *пайсці ў грыбы, паехаць у дровы* і інш. Такія канструкцыі прыпадабняюцца па значэнню да дзеяслоўных словазлучэнняў з прыназоўнікам *па (ісці па грыбы, ехаць па дровы* і інш., гл. § 365). *Зося сабралася ісці ў траву* (Ц. Гартны. На перагібе).

б) Прадмет, унутр якога накіравана дзеянне або ў які што-небудзь змяшчаецца, уключаецца: *увайсці ў дом, забраць у хату, ссыпаць у пограб, палажыць у чамадан, уставіць у рамку.* Некаторыя з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі: *залезці ў душу, уесціся ў сэрца, кінуцца ў вочы, увесці ў вушы* і інш. Прасторавыя значэнні тут нярэдка сумяшчаюцца з аб'ектнымі. *Гарбачык накіраваўся ў вакзал* (Х. Шынклер. Чмута). *Бацька пайшоў зноў у гумно* (К. Чорны. Бяздонне). *Сцяпан хутка выйшаў у прыёмную* (І. Шамякін. За жыццё). *Людзі зносілі ў шатры чарапашкі* (Я. Маўр. Слёзы Тубі). *Мы хадзілі некалі сюды насыпаць у кайстры жалуды* (А. Куляшоў. Шэршні). *Нечым прываблівым яна запала яму ў вока* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

в) Месца, куды накіраваны позірк або куды заклікаецца асоба: *углядацца ў змрок, клікаць у лес.* Словазлучэнні гэтага тыпу могуць набываць пераноснае значэнне: *зазірнуць у заўтрашні дзень* і інш. *Пятро ляжаў на спіне і глядзеў у бяздонны блакіт яснага жнівеньскага неба* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Марына прыпынілася, зазірнула Андрэю ў твар* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Цішыня вуліцы звала ў поле* (К. Чорны. Зямля). *Яна палучыла нібы афіцыйны дазвол зазірнуць у сваё мінулае* (Я. Скрыган. Наталя). *Нават гэты прыблуда Захар Рудак не глядзіць у мой бок* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

г) Установу, арганізацыю, галіну або сферу дзейнасці, у якую ўключаецца ці мае намер уступіць асоба: *рыхтавацца ва універсітэт, уступіць у прафсаюз, прапанаваць у камісію* і інш. *Люся паступіла ў педінстытут* (У. Карпюк. У адным інстытуце). *Насцю Рагіну абралі ў прэзідыум* (І. Шамякін. У добры час). *Ён хацеў, каб яго калі-небудзь выбралі ў сельсавет* (К. Чорны. Максімка). *Ён заўжэй звычайнага збіраўся ў дарогу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Сюды ж адносяцца словазлучэнні, у якіх залежнае слова — назоўнік абазначае якую-небудзь катэгорыю асоб, аб'яднаных паводле іх роду заняткаў, сферы дзейнасці, прафесіі і г. д. Залежны назоўнік тут заўсёды ўжываецца ў множным ліку і супадае па форме з назоўным склонам: *пайсці ў муляры, прызначыць у памочнікі, перавесці ў радавыя, паступіць у рахункаводы, падацца ў аграномы* і інш. *І ў тую ж самую пару мяне забралі ў салдаты* (П. Трус. Развітанне). *Алеся ж пайшла ў партызаны* (П. Глебка. Герой і партызанка). *Заходніх дарог махляры сваіх самазванцаў, бывала, Маскве падсылалі ў цары* (А. Куляшоў. Каля самай граніцы). *І я пайшоў у пастухі да Бабрука* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

§ 352. Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі ў залежнасці ад значэння спалучальных слоў падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем пераходу, пераўтварэння, змянення, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія паказваюць, у што пераходзіць, пераўтвараецца пэўны прадмет, паняцце: [лагчына] *пераходзіла ў балота,* [шум] *пераходзіў у свіст,* [выбухі] *зліваліся ў гул,* [твар] *расплыўся ва ўсмешку,* [воблачкі] *выраслі ў хмару.* Пераходныя дзеясловы ў гэтых словазлучэннях патрабуюць далучэння да сябе назоўніка ў форме вінавальнага склону без прыназоўніка са значэннем прамога аб'екта: *перабудаваць* [кароўнік] *у канюшню, перапрацаваць* [трасту] *у ільноваланно, перапрацоў-*

*ваць* [трыснёг] *у цукар, ператварыць* [балоты] *ва ўраджайныя палі* і інш. *Часамі, калі ўздымалася бура, гэтая песня п е р а х о д з і л а ў злоснае в ы ц ц ё* (Я. М а ў р. Слёзы Тубі). *Так нечакана дзяўчына п е р а й ш л а ў сваіх думках і поглядах у с т а л у ю ж а н ч ы н у* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Раптам выплылі дзве хмаркі, хмаркі в ы р а с л і ў х м а р у* (П. Г л е б к а. У парку). *Цясніна вілася, нібы змяя, то п а ш ы р а ю ч ы с я ў досыць шырокую д а л і н у, то с ц і с к а ю ч ы с я ў ш ч ы л і н у* (Я. М а ў р. У цясніне). *Усё з л і л о с я ў адзін суладны с т о г н* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Ноччу ён у п а ў у б я с п а м я ц т в а* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга).

б) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем убрання, аздаблення і г. д., а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць самыя прадметы ўбрання, аздаблення: *закутацца ў футра, захінуцца ў шынель, адзецца ў камбінезон, абуцца ў лапці, загарнуць у газету.* Сюды ж прымыкаюць словазлучэнні з дзеясловамі *запрэгчы, упрэгчы: запрэгчы ў драбіны, упрэгчы ў плуг* і інш. *А б в і л а с я краіна ў к в е т к і, кліча сонца і месяц у сведкі* (Я. К у п а л а. Абвілася краіна...). *Калі ў зімовы люты час мяцеліцы гудзелі, радзіма а п р а н а л а нас у цёплыя ш ы н е л і* (П. Г л е б к а. Радзімы нашай слава). *Юрка ў т у л ь в а ў с я ў свой к а ж у ш о к* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Каня з а п р а г а ю ў к а л ё с ы, дугу з а к л а д а ю ў г у ж ы, вязу і сярпы я, і косы, і граблі ў свой стан на Сажы* (А. К у л я ш о ў. З дзённіка брыгадзіра).

в) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем занятку, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія ўказваюць на від занятку: *гуляць у валейбол, гуляць у мяч.* Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *гуляць у велікадушнасць, гуляць у небяспечную гульню* і інш. *Да таго ж ён не ўмеў г у л я ц ь у в а л е й б о л* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Частка* [хлопцаў] *асталася г у л я ц ь у д в а ц ц а ц ь а д н о* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Іншым крыўдна стала — і пашлі г у л я ц ь у п о м с т у* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе).

З а ў в а г а. Пад уплывам размоўнага стылю ў творах мастацкай літаратуры магчымы выпадкі ўжывання пры дзеяслове *гуляць* неадушаўлёных назоўнікаў у форме вінавальнага склону, характэрнай для адушаўлёных назоўнікаў: *І ўсюды дзеці г у л я ю ц ь у «к л ё к а» і ў м я ч а* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *У часе перамены вучні весела і г р а л і ці ў м я ч а, ці ў і н ш ы я якія г у л ь н і* (М. Л ы н ь к о ў. Чорная пляма) .

Да гэтай групы функцыянальна набліжаюцца словазлучэнні, галоўным словам якіх з'яўляюцца дзеясловы са значэннем канкрэтнага фізічнага дзеяння, а залежным словам — назоўнікі, якія ўказваюць на прадмет уздзеяння. Такія словазлучэнні звычайна з'яўляюцца несвабоднымі па значэнню: *біць у рэйку, пляскаць у ладкі, стукаць у адчыненыя дзверы* і інш. *Пабраўшыся за рукі, стаялі так яны, пакуль н е з а з в а н і л а іх ростань у з в а н ы* (А. К у л я ш о ў. Балада пра вянок). *Сняжок узняўся, з а л о п а ў ш ы ў к р ы л л і* (Я. Б р ы л ь. Шчасце маленства).

г) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем унікання ў сутнасць якіх-небудзь з'яў, уключэння ў што-небудзь, веры (няверы) у тое, што названа залежным словам. Назоўнік у такіх канструкцыях мае адцягненае значэнне і цесна звязаны па сэнсу са сваім галоўным словам — дзеясловам: *паглыбляцца ў чытанне, унікаць у дэталі, уступаць у спрэчку, увайсці ў смак, увайсці ў давер'е, ісці ў заклад, верыць у жыццё* і інш. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў сумяшчаюць у сабе адценні прасторавых значэнняў. *У ц я г н у ў с я ў р а б о т у, прывык да людзей, і здалося, што інакай не магло нават і быць* (Я. С к р ы г а н. Наталя). *Чым глыбей у д а в а л а с я яна ў д у м к і, тым з большай прагаю жадалася ёй даехаць да месца* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Цяпер у нас у в а й ш л о ў а б а в я з а к кожны раз пасля справаздачы правяраць усё зробленае* (Я. С к р ы-

ган. Няпрошаная сляза). *У дыскусію ўмешваецца Васька* (М. Лынькоў. Над Бугам). *Ты верыш сёння ў перамогу, як моцна верыла ў сябе* (П. Трус. Дзяўчыне).

§ 353. Словазлучэнні з часавымі адносінамі складаюцца з дзеясловаў са значэннем канкрэтнага дзеяння або стану, працэсу і назоўнікаў звычайна з часавым значэннем ці звязаных з паняццем часу, якія паказваюць, калі адбылося, адбываецца ці павінна адбыцца дзеянне, працэс і г. д.: *апавясціць у поўнач, прыехаць у свята, прыйсці не ў пару, загінуць у блакаду* і інш. *У суботу 24 верасня, раненька, у вайшоў дзядзька Марцін у клуню* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *У поўдзень рабілі перапынак* (Я. Маўр. Слёзы Тубі). *Адлятаюць дадолу лісты, адлятаюць лісты не ў пару* (П. Глебка. Хада падзей). *У вайну, калі ён ляжаў паранены, спадабалася яму сціплая дзяўчына* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Перад самым прыходам волі загінуў ён у блакаду* (там жа). *Я спаткаў яе летам у жніва* (П. Глебка. Палюбіў я яе). *І завялі ў мароз пад усмешкамі слёз, —і завялі ў аснежаных сцёжах* (П. Трус. Чырвоныя ружы).

У склад словазлучэнняў з часавымі адносінамі могуць уключацца азначальныя словы— прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, займеннікі або назоўнікі ў форме ўскосных склонаў, якія ў радзе выпадкаў, пераважна са словамі *год, квартал, сезон, месяц, дзень, час, мінута, момант*, утвараюць структурна неабходную частку словазлучэння: *пасівець у маладыя гады, прыехаць у апошні момант, пазнаёміцца ў першыя дні, загінуць у перыяд вайны.* Нярэдка ў ролі залежнай часткі гэтых словазлучэнняў выступаюць колькасна-іменныя спалучэнні: *з'явіцца ў чатырнаццаць гадзін, выехаць у тры дні* і інш. *У зусім маладыя гады пачала яна думаць* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *У першую ноч Вера доўга плакала* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *У той жа самы дзень Зося стрэла на вуліцы Сцяпана Варанца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Нарадзіўся ў год вайны* (А. Куляшоў. Маё пасведчанне). *Тады Пятро пачаў прыходзіць у шэсць гадзін раніцы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Словазлучэнні, якія складаюцца з дзеясловаў са значэннем канкрэтнага фізічнага дзеяння і назоўнікаў са значэннем прамежку часу або спалучэнняў слоў (уключаючы колькасна-іменныя), могуць выражаць адносіны да тэрміну завяршэння пэўнага дзеяння. Галоўнае слова такіх словазлучэнняў звычайна патрабуе далучэння да сябе назоўніка са значэннем прамога або ўскоснага аб'екта: *рабіць* [сто абаротаў] *у мінуту, зжаць* [яравыя] *у адзін тыдзень, справіцца* [з работай] *у два дні.* Па значэнню гэтыя канструкцыі суадносяцца з дзеяслоўнымі словазлучэннямі з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *за* (гл. § 371): *рабіць сто абаротаў за мінуту, зжаць яравыя за адзін тыдзень* і інш. *Пакінь ты гаспадарку без догляду — яна табе ў два дні на пшык з'едзе* (К. Чорны. Зямля). *Ды ці ўсё ж зжаць у адзін дзень?* (Ц. Гартны. На перагібе). *Яна ў гэты кароткі тэрмін захапілася гарачаю прыязню да яго* (там жа).

Лексічна абмежаваную групу складаюць словазлучэнні, у якіх часавыя значэнні выражаюцца праз адносіны дзеяння да ўзросту асобы: *навучыцца* [чытаць] *у шэсць гадоў, пайсці ў* [школу] *у сем гадоў.* Гэтыя канструкцыі сінанімічны дзеяслоўным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам з (гл. § 321): *навучыцца* [чытаць] *з шасці гадоў, пайсці* [у школу] *з сямі гадоў* і інш. *У дванаццаць гадоў засталася Арынка сіратою* (Я. Колас. Арыніна перамога). *У восем гадоў хлопчык ужо напалохаў сям'ю і ўсхваляваў усю вёску* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

§ 354. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на спосаб, характар, інтэнсіўнасць праяўлення дзеяння, названага галоўным сло-

вам — дзеясловам, выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння. Большасць з іх мае ўстойлівы характар: *стаяць у фронт, імчацца ва ўсю моц, глядзець ва ўсе вочы.* Інтэнсіўнасць праяўлення дзеяння, названага дзеясловам, можа выражацца таксама шляхам увядзення ў склад словазлучэнняў узмацняльнай часціцы *аж: уздымацца аж у неба* і інш. *Усюды па іх шляху выцягваліся ў струнку вартавыя* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбруп»). *Агні сышліся ў ланцуг* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Проста ва ўпор стрэліў ён з рэвальвера* (Х. Шынклер. Апошні рэйс). *Правакатары ведалі яго ў твар* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Марыя ў міг вока перабралася на гэты ўзмежак* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Конь рвануўся і ва ўсю моц паімчаўся па дарозе* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Полымя шугае аж у чаleсніkі* (там жа).

У паасобных выпадках указанне на спосаб або характар праяўлення дзеяння, названага дзеясловам, выражаецца шляхам уключэння ў склад залежнай часткі прыназоўнікава-іменных спалучэнняў са словамі *ў рост, у вышыню* і інш. Гэтыя словазлучэнні набываюць адценні суразмернасці, адпаведнасці: *Каб раслі ў рост чалавека жыта і пшаніца, каб аж госці к нам з-за свету ехалі дзівіцца* (Я. Купала. Сыны).

Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння могуць ускладняцца ўказаннем на колькасць. У ролі залежнай часткі іх звычайна выступаюць колькасна-іменныя спалучэнні: *працаваць у тры змены, несці ў дзве рукі* і інш. *У дзве люлькі на возе сябры закурылі* (А. Куляшоў. У дарозе). *Узыходзіла сонца ў сотні вясёлак* (А. Куляшоў. На ўборцы сена). *Пайстаў Барысаў у сотні гоняў* (Я. Купала. Барысаў). *Вышывала я ў сем шайкоў* (М. Багдановіч. На ціхім Дунаі). *За ноч намяло снегу ў пояс* (з газет).

§ 355. Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне характарызуецца з боку колькасці, выражаюць уласна колькасныя адносіны: *павялічыць* [даходы] *у тры разы, павысіць* [жыццёвы ўзровень] *у некалькі разоў* і інш. Такія канструкцыі лексічна абмежаваны. *Гэта ў дзесяць разоў павялічвала яго трывогу і нецярплівасць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Але ж затое пасля дажджу яна павялічваецца ў шмат разоў, раптоўна ўздымаецца, раве і нясецца так, што зносіць усё на сваёй дарозе* (Я. Маўр. У цясніне). *Нік у каторы раз мяняе голуба на зайца, зайца на голуба* (М. Лынькоў. Чорная пляма).

§ 356. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на мэту дзеяння, названага дзеясловам, выражаюць мэтавыя адносіны: *сказаць у апраўданне, зрабіць у насмешку* і інш. Гэтыя канструкцыі лексічна абмежаваны. *Хацелася нешта сказаць у апраўданне, але не было калі думаць* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 357. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *на* могуць выражаць прасторавыя, аб'ектныя, часавыя адносіны, адносіны мэты і прызначэння, азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння, меры і ступені, уласна колькасныя адносіны, адносіны ўмовы і ўступкі.

Словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя адносіны, вызначаюцца семантычнай разнастайнасцю. Сярод іх, у прыватнасці, вылучаюцца па значэнню наступныя групы:

а) словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляюцца дзеясловы са значэннем руху, а залежным словам — назоўнікі, якія абазначаюць

месца, прастору, населены пункт, установу або прадпрыемства, куды накіроўваецца асоба ці іншая істота або прадмет: *перабрацца на сушу, апусціцца на аэрадром, выехаць на праспект, уз'ехаць на двор, пайсці на пасёлак, забегчы на базу, накіравацца на аўтазавод.* Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў такія словазлучэнні набываюць устойлівае значэнне: *выйсці на прастор, выйсці на шырокую дарогу, вывесці на шлях* і інш. *Адзін выходжу на дарогу* (П. Глебка. За гаем сонца патухае...). *Прыбягаюць на ўзгорак, а там ужо цэлы натоўп* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Роўны клін іх* [жураўлёў] *аддаляўся на поўдзень* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Раман пайшоў на вёску паслухаць, што гавораць людзі* (Я. Колас. Дачакаўся). *Ён меў намер зайсці на электрычную станцыю* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *«Перавязі, дзядуля, на той бок», — папрасіла Наташа* (І. Шамякін. Наташа). *Брата брат на дарозе з лесу вывеў на шлях* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Плыві хоць на край свету* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Ён, як кажуць, узнёсся на сёмае неба* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Заўвага. Словазлучэнні з прычазоўнікам *на*, у якіх ролю залежнага слова выконваюць назоўнікі *завод, станцыя, вакзал, сяло, вёска* і інш., адрозніваюцца ад падобных словазлучэнняў з прыназоўнікам *у* тым, што ў апошніх, як правіла, залежным словам абазначаецца рух унутр, параўн.: *зайсці на станцыю — зайсці ў станцыю, пайсці на вёску — пайсці ў вёску.* Аднак у мастацкай літаратуры пад уплывам размоўнага стылю пры абазначэнні руху ўнутр замест прыназоўніка *у* часам ужываецца прыназоўнік *на*: *Нясуць Максімаў хлеб на млын малоць яны* (А. Куляшоў. Глушцы). *І вось вязу на млын людскія працадні* (там жа).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае рух або пэўнае дзеянне, а залежнае слова — род або від дзейнасці, занятку, на які накіроўваецца або куды заклікаецца асоба: *ехаць на жніво, хадзіць на трэніроўкі, спяшацца на пасяджэнне, паступіць на курсы, зваць на дапамогу, запрашаць на вяселле.* Адметнай рысай большасці гэтых словазлучэнняў з'яўляецца тое, што яны заключаюць у сабе ўказанне на мэтанакіраванасць дзеяння, руху. Калі ж названае галоўным словам дзеянне ўжыта ў пераносным значэнні, словазлучэнне змяшчае ў сабе аб'ектныя адценні: *пайсці на кампраміс, перайсці на дыэту, правесці на пасаду* і інш. *Вось і пайшоў ён на службу, на чыгунку* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай). *Ты мне прабач, але я спяшаюся ў гарком на бюро* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *На работу да нас паступіў Собіч* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Сыноў бацька сваіх кліча на нараду ў хату* (Я. Купала. Сыны). *Ён запрашаў яе на школьныя вечары, на танцы ў клубе, на лыжныя кросы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Думаюць прымусіць нас пайсці на міравую* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Яна ішла на вялікую рызыку* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляюцца дзеясловы са значэннем руху, дзеяння, а залежным словам — назоўнікі, якія абазначаюць прадметы ў якасці арыенціра, напрамку гэтага руху, дзеяння: *бегчы на звон, ехаць на агеньчык, плысці на маяк, павярнуць на Садавічы* і інш. *Марыя ішла на яе голас* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Ружжо, яхташ бяры, на цёмны корч ідзі* (А. Куляшоў. Глушцы). *Звяры на агонь не пойдуць, ды і на іх у яе ёсць пісталет* (І. Шамякін. Наташа). *Ой, у полі тры таполі на яр пахіліліся* (П. Трус. Ой, у полі тры таполі...). *І Сяргей Пятровіч цвёрда ўзяў ручку на сябе, даў поўны газ* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

г) Словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца канкрэтнае фізічнае дзеянне, а залежным словам — прадметы, на паверхню якіх накіравана дзеянне: *сесці на крэсла, легчы на дыван, стаць на табурэтку,*

*накінуць на плечы, паліць на рукі* і інш. У гэтых словазлучэннях сумяшчаюцца прасторавыя і аб'ектныя значэнні. *Ён сеў на пень, зMораны фізічна і душэўна* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Праз голле бяроз і алешын на кусты ляшчэўніку, на папаратнік, на мяккі сыраваты мох кладуцца светлыя плямы сонца* (Я. Брыль. Зялёная школа). *І на босыя ногі раса ападае з халоднай травы, і на плечы спадае каса ручаём залатым з галавы* (П. Глебка. Хада падзей). *Перагонамі сыпаліся на зямлю снегавыя крупы* (К. Чорны. Зямля).

Сумяшчэнне прасторавых і аб'ектных адносін мае месца таксама ў словазлучэннях, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем зрокавага ўспрымання (*глядзець на поле, зірнуць на прахожага, азірацца на дзверы, утаропіцца на хлапчука*), а таксама безасабовыя дзеясловы, што абазначаюць з'явы прыроды або ўнутраны стан асобы (*збіралася на дождж, бралася на дзень, цягнула на размовы*). *Паглядзі на зоры, паглядзі над краем, — знойдзеш сваю сцежку, знойдзеш, дарагая* (П. Глебка. Зацвілі зарніцы). *Ён таксама скоса паглядае на газеты* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён пазіраў на зялёныя пагоркі, на маладыя ўсходы ярыны* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Збіралася на дождж* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Як выбраліся з лесу, бралася на дзень* (Б. Мікуліч. Дужасць). *У такія часіны вельмі цягне на шчырыя размовы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне характарызуецца з боку залежнага слова па меры, колькасці ахопленай ім прасторы, сумяшчаюць у сабе значэнні прасторавых і азначальна-колькасных адносін. Пры залежным слове гэтых словазлучэнняў звычайна ўжываюцца азначальныя займеннікі *ўвесь, цэлы* або прыметнікі, якія ў радзе выпадкаў складаюць структурна неабходную частку цэлага словазлучэння. У склад канструкцый з прасторава-колькаснымі адносінамі нярэдка ўключаюцца колькасна-іменныя спалучэнні: *пралегчы на некалькі вёрст, раскінуцца на сорак кіламетраў, адысці на дзесяць крокаў* і інш. *Мы і самі заўважылі ўжо незвычайны рух ля вялізнага будынка, які цягнуўся на ўвесь квартал* (М. Лынькоў. «Не палітык...»). *За хутарам пачынаўся лес, цягнучыся на далёкія вёрсты* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Падпоўзшы на аўтаматны стрэл да хвайняку, немцы спыніліся, прыціхлі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Ён разліваецца на многа кіламетраў ушырыню, залівае лугі, лазнякі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Прычапіў сабе Тубі кошык і нырнуў на дванаццаць метраў у глыбіню* (Я. Маўр. Слёзы Тубі).

§ 358. Асноўную групу словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі складаюць словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца канкрэтнае дзеянне, унутраны стан, адчуванне, а залежным словам — асоба (калектыў), прадмет або паняцце, у адносінах да якіх гэта дзеянне, стан ці адчуванне праяўляецца або на якія яно накіравана: *сварыцца на дзяцей, наракаць на долю, сердаваць на суседа, надзеяцца на дапамогу, навесці на роздум* і інш. *Андрэй з нейкай лютасцю накінуўся на работу* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Юзік ускіпеў на бацькавы словы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Смешна за гэта было б крыўдаваць на сяброў* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Кірыл Фаміч часта скардзіўся на свайго сына* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Такі перадвечаровы час наводзіць на роздум і на шчырую гутарку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Хлопец адказваў на запытанні маці, а сам думамі быў далёка* (там жа).

Заўвага. У словазлучэннях з дзеясловамі *любавацца, радавацца, дзівіцца* залежны назоўнік звычайна ўжываецца ў форме творнага склону без прыназоўніка (*любавац-*

*ца прыродай, радавацца сынам, дзівіцца карцінай*), а пры дзеясловах *радавацца, дзівіцца* — яшчэ і ў форме давальнага склону без прыназоўніка (*радавацца сустрэчы, дзівіцца спрыту*) або ў форме роднага склону з прыназоўнікам *з* (апошняя пры дзеяслове *дзівіцца*: *дзівіцца з Алёнкі*): *Адтуль зной узбягае на ўзгорак і на самай яго верхавіне застывае, залюбаваўшыся далягядамі* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Многа людзей прыходзіла ў сад дзівіцца гэтым цвіценнем* (з газет). *Яны дзівіліся яе маладому спрыту* (В. Вітка. Познія палыны). *Я пачынаў яшчэ больш дзівіцца з гэтага Азаркі* (П. Кавалёў. Сонца ў вокны).

Аднак у выпадках, калі дзеясловы *любавацца, радавацца, дзівіцца* выступаюць у значэнні «глядзець, назіраць», пры іх могуць ужывацца назоўнікі і ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на* (*любавацца на сады, радавацца на гмахі будынкаў, дзівіцца на зорку* і інш.). *«Нічога сабе сямейка»,— сказаў аграном і залюбаваўся на дубняк* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ды як выйдзе паважна і стройна — залюбуюцца ўсе на красу* (П. Глебка. Як раней). *Цёплым вясновым надвячоркам павыпаўзалі людзі з хат парадавацца на аджываючую прыроду* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай). *Я гляджу, дзіўлюся на зуброў* (А. Вольскі. Водбліскі далёкіх маякоў). *Ён дзівіўся на схуднелыя твары новых сяброў, на абтрапанае, бруднае адзенне* (М. Лупсякоў. Людзі прагнуць).

Акрамя гэтага асноўнага значэння, словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі могуць выражаць і некаторыя іншыя, больш прыватныя значэнні.

Пры дзеясловах са значэннем канкрэтнага дзеяння *аставіць, пакінуць* залежным словам называецца асоба (калектыў), на якую што-небудзь або хто-небудзь часова ці на пастаянна пакідаецца: *пакінуць* [гаспадарку] *на сына, аставіць* [дзяцей] *на суседзяў* і інш. *Пакінуўшы Людачку на маму, я паехала з экспедыцыяй па праектаванню гарадоў* (Я. Скрыган. Наталя).

Пры дзеяслове *вучыцца* залежнае слова ўказвае на прафесію або спецыяльнасць, набыць якую мае намер асоба: *вучыцца на інжынера, вучыцца на трактарыста* і інш. *Я ў калгасе брыгадзір, сын мой на тэхніка вучыцца* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Многія з іх, скончыўшы школу, пайшлі вучыцца на аграномаў і садаводаў* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

У словазлучэннях, дзе галоўным словам з'яўляецца дзеяслоў *хварэць*, залежнае слова ўказвае на від захворвання: *хварэць на грып, хварэць на туберкулёз* і інш. *Мэра захварэла на гарачку* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Я захварэў на воспу* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Захар захварэў на хрыпку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Я не хачу хварэць на скарлатыну* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Ён ужо агледзеў Слаўнага і растлумачыў, што япрук проста захварэў на страўнік і нічога яму не пагражае* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *І на дактыль, на ямб, на харэй будуць новыя вершы хварэць* (А. Куляшоў. Вянок вершаў).

Заўвага. У сучаснай беларускай літаратурнай мове пры дзеяслове *хварэць* побач з формай вінавальнага склону назоўніка з прыназоўнікам *на* ўжываецца і форма творнага склону назоўніка без прыназоўніка: *хварэць грыпам, хварэць туберкулёзам* (гл. § 313).

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы *мяняць, замяняць, перабудоўваць, перакаваць, перашыць*, выражаюць адносіны дзеяння да прадметаў, на якія што-небудзь замяняецца ці перапрацоўваецца. Пераходныя дзеясловы ў гэтых словазлучэннях патрабуюць далучэння да сябе прамога аб'екта: *змяніць* [паліто] *на шынель, замяніць* [мотаролер] *на мотапед, мяняць* [канарэйку] *на чыжа, перабудаваць* [пуню] *на павець* і інш. *Найбольш мэтазгодна, на нашу думку, перапрацоўваць іх* [адходы драўніны] *на спірт або цэлюлозу* (з газет). *Зайграюць сурмы нам да бойкі, пажарам задымяць шляхі, — алоўкі зменім на вінтоўкі, заменім пёры на штыкі* (Я. Купала. Прывет вам...).

У словазлучэннях, галоўнае слова якіх абазначае рух, дзеянне, залежнае слова ўказвае на прадметы, у сутыкненне з якімі прыводзіць каго-небудзь або што-небудзь гэты рух, дзеянне. Такія канструкцыі мо-

гуць набываць прасторавыя адценні: *наткнуцца на кій, набегчы на калоду, наляцець на корч, наехаць на камень* і інш. *Бегучы назад, Тамаш спатыкнуўся на купіну і паваліўся* (Я. Колас. На начлезе).

§ 359. Словазлучэнні, якія выражаюць часавыя адносіны, звычайна ўключаюць у свой склад назоўнікі, што так ці інакш звязаны з паняццем часу. У такіх канструкцыях залежная форма назоўніка (нярэдка з паяснялынымі словамі пры ім) можа абазначаць:

а) час, на які намечана выкананне дзеяння, названага галоўным словам, або час, калі адбылося ці адбываецца гэта дзеянне. У ролі залежнай часткі гэтых словазлучэнняў выступаюць паасобныя словы са значэннем часу або сэнсава ці граматычна непадзельныя спалучэнні: *скончыць* [сяўбу] *на Мая, намеціць* [прыезд] *на суботу, прыехаць на Новы год, паступаць на другі год* і інш. *Мікалай хату будзе некалі на вясну ставіць* (К. Чорны. Спатканне). *Саша паабяцала хутка вярнуцца, але не вярнулася і на абед* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Але на пяты ці на чацвёрты дзень зайшоў да Юркі ляснік Варывода* (Я. Колас. Чоран). *На гэты раз Собіч выклікаў начальніка кацельнай Касцюкевіча* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза).

б) Працягласць дзеяння: *спазніцца на дзень, прылегчы на гадзіну, прыпыніцца на міг, застыць на імгненне* і інш. *Андрэй на хвіліну затрымаўся* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Твар яе на імгненне засвяціўся* (Я. Скрыган. Наталя). *Горыч сціснула грудзі, у горле засела камком, наваколле на момант заслала ў вачах туманом* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Згінуў на цэлы дзень, і нідзе знайсці яго не маглі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

в) Тэрмін або перыяд, на які пашыраецца пэўнае дзеянне ці вынік гэтага дзеяння. Пераходныя дзеясловы ў гэтых словазлучэннях патрабуюць далучэння да сябе назоўніка са значэннем прамога аб'екта: *зарабіць* [хлеба] *на ўсю зіму, выдаць* [прадукты] *на месяц, запомніць* [прамову] *на ўсё жыццё, прыехаць на ўвесь сезон, адкласці* [рашэнне] *на год.* Да гэтай групы належаць словазлучэнні з колькасна-іменнымі спалучэннямі ў ролі залежнай часткі: *перанесці* [тэрмін] *на два гады* і інш. *Толькі б здолеў, справы хопіць на лета* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Дасць вам на суткі паветра з балону, каб вашы сэрцы не ведалі скону* (А. Куляшоў. Зямля). *І адзін дзень на ўвесь час застаўся ў памяці Яна Лайзана* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Можа яна на гэтыя хвіліны нават забыла пра ўсё тое ці стараецца забыць* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

§ 360. Словазлучэнні з мэтавымі адносінамі амаль заўсёды сумяшчаюць у сабе адценні прасторавых, часавых, аб'ектных і іншых значэнняў. Яны адрозніваюцца паміж сабою і сваёй структурай.

Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае рух, дзеянне, а залежнае слова называе мэту гэтага руху, дзеяння, заключаюць у сабе адценні прасторавых значэнняў: *прыехаць на вучобу, прыйсці на кансультацыю* і інш. *Прыехаў Казімір на завод ад глаўка на рэвізію* (Я. Скрыган. Наталя). *З ім прыехала Ядзя на адведы, здалёк, каб зірнуць адным вокам на мядзведжы куток* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *На разведку Будзёнавец выйшаў* (там жа). *Я з горада еду дамоў на спачын* (П. Глебка. Герой і партызанка).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне звязана з пэўным часам або абумоўліваецца якой-небудзь падзеяй, заключаюць у сабе адценне часавага значэння або адценне абумоўленасці: *абняць на развітанне, пацалаваць на адыход* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны. *Яму на развітанне яна вянок сплялa* (А. Куляшоў. Балада пра вянок). *А пакідаючы знаёмага, нешта трэба яму сказаць на развітанне* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Кра-*

*суцкі злазіў у склянок і н а а д ы х о д з і н ы д а ў чалавеку скрутак папер* (Я. С к р ы г а н. У Кірылы на хутары).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне ацэньваецца з пункту погляду яго канчатковага выніку (пажаданага ці непажаданага), маюць адценні акалічнасных адносін спосабу дзеяння: *закінуць* [вуду] *на ўдачу, пазнаёміцца на няшчасце* і інш. *Будзь і ты, сынок, свядомы, нам н а р а д а с ц ь п а д р а с т а й* (П. Г л е б к а. Калыханка). *Н а ш ч а с ц е і ў д а ч у п а с е я л а маці зярняты* (А. К у л я ш о ў. Маці). *Няхай н а с л а в у пакалення над краем зоры ш а л я с ц я ц ь!* (П. Т р у с. Першамай). *А як бегла дзеўчына па ваду, — дзве сасонкі п л а к а л і н а б я д у* (П. Т р у с. З паэмы «Сірата Алеся»). *Н а новую б я д у, н а горшую н у д у, н а большую т у г у я да млына б я г у* (А. К у л я ш о ў. Глушцы).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне характарызуецца паводле яго мэтанакіраванасці, прызначэння, ускладняюцца аб'ектным адценнем прызначэння. У большасці выпадкаў яны ўтвараюцца з пераходных дзеясловаў, якія патрабуюць далучэння да сябе назоўніка ў значэнні прамога аб'екта: *збіраць* [грошы] *на кнігі, трубіць на адбой* і інш. *Я не цясляр, хаджу з цяслярскай меркай, н а в у ш а к і п і л у ю бервяно* (А. К у л я ш о ў. Хатка). *Іграюць пілы пільшчыкаў — н а д о ш к і і д з е бярвенне* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай). *Табе вянок у падарунак с а ў ю н а к у ж а л ь-в а л а с ы* (П. Т р у с. З паэмы «Сірата Алеся»). *«Трэба прасушыць жыта,— сказаў ён,— ды заўтра з м а л о ц ь у жорнах н а х л е б»* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Гарністы і г р а л і трывожны сігнал н а цёмную н о ч і н а в ы х а д у поле* (П. Г л е б к а. Ноч у вайсковых лагерах).

Значэнні мэтавых і аб'ектных адносін сумяшчаюць у сабе таксама словазлучэнні, залежным словам якіх называецца асоба або калектыў, у карысць якога адбываецца пэўнае дзеянне. Пераходныя дзеясловы ў ролі галоўнага слова могуць утвараць з формай вінавальнага склону назоўніка не толькі свабодныя, але і сэнсава непадзельныя спалучэнні: *ліць пот на пана, працаваць на сям'ю, выдзеліць* [аванс] *на ўсіх калгаснікаў* і інш. *Апроч гэтага, табе, як той казаў, трэба на сходзінах п а п р а ц а в а ц ь н а б а ц ь к о ў* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Дзе нядаўна пад прыгонам п о т к р ы н і ч ы ў н а п а н о ў, загула сталёвым звонам малатарня ў мужыкоў* (П. Т р у с. Асенняя праца). *Мануфактуру гэтую кааперацыя а д п у с ц і л а н а ў с ю б р ы г а д у* (К. Ч о р н ы. Брыгадзірава памылка).

§ 361. Словазлучэнні з а з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы м і адносінамі спосабу дзеяння звычайна складаюцца з дзеясловаў са значэннем канкрэтнага дзеяння або стану і назоўнікаў, якія ўказваюць на спосаб або характар праяўлення дзеяння, стану: *верыць на слова, стаць на калені, адказаць на пяць* і інш. У склад залежнай часткі гэтых словазлучэнняў могуць уключацца таксама прыметнікі або азначальныя займеннікі, наяўнасць якіх у радзе выпадкаў з'яўляецца структурна неабходнай: *вымяраць на цвёрды рубель, наладзіць на мінорны тон, раздавацца на ўсе галасы* і інш. *Тамаш л ё г н а с п і н у, падлажыўшы пад галаву рукі* (Я. К о л а с. На начлезе). *Маладая, вясёлая Ластаўка к р а н у л а н а р ы с ь* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Да маладых рабочых ён заўсёды з в я р т а ў с я н а «ты»* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Рыгор н е н а ж а р т ы п р ы з а д у м а ў с я* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Н а р о з н ы я т о н ы з а г у л і галасы* (К. Ч о р н ы. Максімка). *Довады Захара Рудака н а с т р о і л і і яго н а к р ы т ы ч н ы л а д* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Шынель р а с ш п і л е н ы н а ў с е г у з і к і* (Б. М і к у л і ч. Дужасць).

У словазлучэннях, дзе ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем актыўнага фізічнага ўздзеяння, залежнае слова можа выражаць меру, ступень або інтэнсіўнасць праяўлення дзеяння. Боль-

шасць з такіх канструкцый мае ўстойлівае значэнне: *спапяліць на тло, змяць на мак.* Пры залежным слове іх асабліва часта ўжываецца ў якасці структурна неабходнага элемента канструкцыі азначальны займеннік *увесь: крычаць на ўсё горла, зараўці на ўсю моц, спяваць на ўвесь голас* і інш. *Тады загарэлася ненавісць мас, на тло спапяліла варожую кроў* (П. Глебка. Апошняя стрэча). *Не мог на мак яму змяць косці, праклясце толькі прызываў* (Я. Купала. Магіла льва). *Тут гулі гарматы, рваліся снарады, дрэвы на кавалкі трушчылі, ламалі* (А. Куляшоў. Чмель). *Збілі на горкі яблык* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пасля ж уздыхнуў чалавек на ўсе грудзі* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Андрэй адводзіў душу работай: размахнецца, што называецца, на ўсё плячо* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *На ўсю хуткасць імчаліся грузавікі* (там жа).

Словазлучэнні з адносінамі меры, ступені, у якіх залежнае слова (звычайна з азначальным займеннікам *увесь*) выражае меру або ступень пашырэння дзеяння ў прасторы, сумяшчаючы у сабе адценні прасторавых значэнняў: *крычаць на ўсю вуліцу, стагнаць на ўсю хату* і інш. *Атрэсеныя яблыкі і грушы пахлі на ўсе сенцы і хату* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Зноў засвяціліся яе на ўвесь свет адкрытыя вочы* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *На гектары абнялі канавамі нетры, далей мераць пачалі ўжо на кіламетры* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

§ 362. Словазлучэнні, якія выражаюць уласна колькасныя адносіны, лексічна абмежаваны. Ролю залежнага члена ў іх звычайна выконваюць субстантывіраваныя лічэбнікі, назоўнікі са значэннем колькасці або колькасна-іменныя спалучэнні: *прасунуцца на метр, перавыканаць на пяцьдзесят працэнтаў* і інш. *Нарэшце сонца ўжо зайшло на чвэрць* (П. Глебка. Смерць салдата). *Павел Юткевіч паглядзеў на гадзіннік: ён паказваў на восем* (Б. Мікуліч. Дужасць). *На плячах кавалкі кашулі, з-пад якой на тры чвэрці галеецца загарэлае цела* (Я. Маўр. Лацароні). *«Пойдзем на тры з паловай?» — спытаў Апенка.—«Я цябе на чатыры выклікаю»,— адказаў Куніцкі* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

§ 363. Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне абумоўліваецца якімі-небудзь матывамі, меркаваннямі або адбываецца яно насуперак пэўным меркаванням і з'яўляецца нечаканым для асобы, выражаюць адносіны ўмовы або ўступкі. У большасці выпадкаў ролю галоўнага слова выконваюць пераходныя дзеясловы, якія патрабуюць далучэння да сябе назоўніка ў форме вінавальнага склону без прыназоўніка. *І вось на першае знаёмства Працадура пааб'яцаў бацьку дастаць малы дэтэктарны радыёпрыёмнік* (Я. Брыль. У сям'і). *Маторчык возьмем на ўсякі выпадак* (М. Гамолка. Шосты акіян). *На крайні выпадак ён можа атрымаць строгую нагонку за недагляд* (Х. Шынклер. Загінутая грамата). *Нават аднойчы на вялікае сваё здзіўленне пачуў ён вельмі цікавую і каштоўную для сябе гутарку пра паляванне* (Х. Шынклер. Пас зачапіў).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 364. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* звычайна выражаюць прасторавыя, аб'ектныя, часавыя і азначальна-колькасныя адносіны, прычым унутры кожнай з гэтых груп словазлучэнняў сумяшчаюцца адценні розных іншых сінтаксічных значэнняў — акалічнасных спосабу дзеяння, меры і ступені, мэты і г. д.

Словазлучэнні, якія выражаюць **прасторавыя** адносіны, падзяляюцца па значэнню на дзве асноўныя групы: словазлучэнні з уласна прасторавымі адносінамі і словазлучэнні, у якіх прасторавыя адносіны сумяшчаюцца з акалічнаснымі адносінамі меры і ступені.

У словазлучэннях з уласна прасторавымі адносінамі ролю залежнага слова выконвае назоўнік *бок*, які ў спалучэнні з указальнымі займеннікамі *той, гэты* (або лічэбнікамі *адзін, другі*) указвае на тое, па які бок чаго-небудзь адбываецца пэўнае дзеянне ці дзе знаходзіцца прадмет: *стралялі па той бок* [барыкад], *ішлі па адзін і па другі бок* [дарогі]. Гэтыя словазлучэнні аднастайныя па значэнню і лексічна абмежаваны. *Па адзін бок пасекі ўзвышаўся стары бор* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Да гэтай жа групы набліжаюцца словазлучэнні, у якіх залежнае слова абазначае мяжу, дзе што-небудзь заканчваецца: *Лінія праходзіла па лужок.*

У словазлучэннях з прасторавымі адносінамі, якія заключаюць у сабе акалічнаснае адценне меры і ступені, залежнае слова называе ўзровень, да якога ахопліваецца прадмет у выніку пэўнага дзеяння, руху. Залежная частка гэтых словазлучэнняў звычайна ўдакладняецца назоўнікам у форме вінавальнага ці меснага склону з прыназоўнікам *у* (пры абазначэнні прадметаў, у глыб якіх што-небудзь апускаецца або ў асяроддзі якіх адбываецца дзеянне) або ў форме творнага склону без прыназоўніка (пры абазначэнні прадметаў, якімі хто-небудзь ці што-небудзь надзяляецца, ахопліваецца): *улезці па шчыкалаткі* [у гразь], *урэзацца па вось* [у пясок], *уехаць па пахі* [у багнішча], *ісці па шыю* [у вадзе], *абрасці па плечы* [валасамі]. Сюды ж адносяцца ўстойлівыя спалучэнні тыпу *закахацца па вушы* і інш. *Ногі яго па калені ўлазілі ў снег* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Па чэрава ўехаў лапавухі нагамі ў нейкае крынічышча* (К. Чорны. Забойства). *Урэзалася яна ў гразь па самыя калодкі* (Я. Колас. У балоце). *Ад ракі з балацін напаўзалі туманы, дрэвы ў іх патанулі па грудзі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Дубы на нізкім левым беразе стаяць па голле ў вадзе* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Аброс па пояс барадою* (П. Трус. У семнаццаты год). *Вось плыве шырока хваля залатая, абдае па плечы каласамі нас* (К. Буйла. Ідучы з поля).

Заўвага. Словазлучэнні са значэннем ахопу, працягласці ў прасторы тыпу *скасіў па дарожку* сінанімічны адпаведным дзеяслоўным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да* і нярэдка замяняюцца імі (*скасіў да дарожкі*, гл. § 332).

§ 365. Словазлучэнні, галоўнае слова якіх абазначае рух, дзеянне, а залежнае слова — прадмет, па які накіроўваецца асоба і дзеля якога адбываецца гэты рух, дзеянне, выражаюць **аб'ектна-мэтавыя** адносіны: *ісці па хлеб, паехаць па ячмень, паслаць па доктара* і інш. *А ўвечары ды сцяжынкаю я іду на ставок па ваду* (П. Трус. Студэнтка). *Верка злазіць з лавы, бяжыць у куточак па венік* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *Косцік і ўчора і пазаўчора хадзіў у лес па чужыя дровы* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *І цяпер ён ішоў па брата* (К. Чорны. На пыльнай дарозе). *Зосі самой прыйшлося збегаць на прыгумень па каня* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Заўвага. Пад уплывам некаторых гаворак у творах мастацкай літаратуры замест словазлучэнняў з прыназоўнікам *па* зрэдку ўжываюцца дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *за*: *ісці за вадой, паслаць за доктарам* і інш. *Я ўсё гэта бачыў зараз, як хадзіў за кветкамі* (Э. Самуйлёнак. Героі нацыі). *Хутка прыйдзе дамоў цымбаліст за сваімі цымбаламі* (А. Куляшоў. Быль аб цымбалах і цымбалісце). *За нявестай яму трэба ехаць — прывозіць у дом самаму* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

§ 366. Словазлучэнні з **часавымі** адносінамі выражаюць працягласць дзеяння ў часе з указаннем на час яго заканчэння, а іншы раз і на яго пачатак. У апошнім выпадку да залежнай часткі гэтых

словазлучэнняў далучаецца форма роднага склону назоўніка з прыназоўнікам *ад*: *успамінаць па сённяшні дзень, рыхтавацца ад красавіка па верасень* і інш. *Хадзіў я дзень па самы вечар* (П. Броўка. Сустрэча з земляком). *Іх і па сёння з удзячнасцю свет вымаўляе* (А. Куляшоў. Балада аб жывой газеце). *Над нівай вясёлыя птушкі па-іншаму песні запелі. Чырыкаюць дружна, з заўзяццем па самы кастрычнік ад мая* (Я. Купала. Дзе крыўда адвечная спела).

У паасобных выпадках залежнай часткай гэтых словазлучэнняў можа выражацца працягласць дзеяння з указаннем на меру, колькасць часу: *працаваць па дзесяць гадзін, не спаць па ночы* і інш. *Хлопцы праводзілі ў чарцёжнай па дванаццаць гадзін* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Не нявольнікаў скутых толпы шлі па ночы,— то ўставаў да працы вольны люд рабочы* (Я. Купала. То не рыцары з князем...).

§ 367. У словазлучэннях з азначальна-колькаснымі адносінамі ў ролі залежнай часткі звычайна выступаюць колькасна-іменныя спалучэнні з указаннем на дакладную ці недакладную (прыблізную) колькасць: *выкошваць па пяцьдзесят сотак, выпрацоўваць па дзве нормы, убіраць па некалькі гектараў, хадзіць па некалькі разоў* і інш. *Выжыналі па дзве і па тры нормы* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Я чытаў і перачытваў гэтыя кніжкі па некалькі разоў* (Я. Скрыган. Надпіс на кнізе).

У словазлучэннях з дзеясловамі *высяваць, рассяваць, сабраць, атрымаць, надаіць, выдзеліць* і інш. да залежнай часткі звычайна далучаюцца назоўнікі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *з, ад* або ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на*, якія ўказваюць на адзінку плошчы, з якой збіраецца ці на якой высяваецца што-небудзь, або на адзінку раздзельных прадметаў, жывых істот, з якіх што-небудзь бярэцца, атрымліваецца або на якія што-небудзь прыпадае, выдзяляецца: *сабраць па трыццаць цэнтнераў* [з гектара], *высяваць па два цэнтнеры* [на гектар], *атрымаць па сто яек* [ад нясушкі], *надаіць па пяць тысяч літраў* [ад каровы], *выдзеліць па дваццаць рублёў* [на чалавека] і інш. *Восенню мы рассеялі калійнай солі па тры цэнтнеры на гектар* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Звяно Амілі Барткевіч сабрала па 28,7 цэнтнера жыта з гектара. Такім парадкам саўгас у мінулым годзе здаў па дзевяноста пудоў свініны ад кожнай свінаматкі* (там жа).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*

§ 368. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з (са)* выражаюць азначальна-колькасныя адносіны з указаннем на прыблізную меру часу, прасторы або прыблізную колькасць прадметаў. У ролі залежнай часткі гэтых словазлучэнняў могуць выступаць як паасобныя назоўнікі з часавым ці прасторавым значэннем (нярэдка з паясняльнымі словамі пры іх), так і колькасна-іменныя спалучэнні з постпазіцыйным (радзей з прэпазіцыйным) ужываннем у іх складзе колькасных лічэбнікаў: *пралежаць з тыдзень, правучыцца месяцаў з пяць, прайсці з кіламетр, купіць з дзесятак іголак* і інш. *Так дружба іх цягнулася можа з год* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Пасля ён злез з воза, пастаяў з хвіліну і пачаў распрагаць каня* (Ц. Гартны. На перагібе). *А да касьбы яшчэ застаецца тыдні са два* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *З пядзю за дзень вытча, а болей дык млосна* (Я. Купала. Гутарка аб кепскай гаспадыні). *Нам трэба будзе праехаць кіламетраў з восемдзесят, аж у другі раён* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Тут ён назапасіў з восем кавалачкаў цукру, акрайчык хлеба з асушкам* (Я. Колас. «Дзераўеншчына»).

## Словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, па-за*

§ 369. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *за, па-за* вызначаюцца семантычнай разнастайнасцю. У большасці выпадкаў яны выражаюць пprасторавыя, аб'ектныя і часавыя адносіны з рознымі адценнямі.

Словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя адносіны, падзяляюцца па значэнню на наступныя групы:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае рух або пэўнае дзеянне, а залежнае слова называе месца або прадмет, за межы якога ці ўнутр якога накіраваны рух, дзеянне: *выйсці за сяло, схавацца за лес, выкінуць за акно, перасяліцца за раку, каціцца па-за горы, кápаць за каўнер, засунуць за крысо.* Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні набываюць устойлівы характар: *выйсці за рамкі, ехаць за свет* і інш. *Выплыўшы за паселішча, Палазок накіраваў човен на той бераг* (Я. Колас. У разведцы). *Мяне так і цягне за Дняпро* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Зайшло сонейка за горы* (П. Глебка. Песні прыгону). *Янка смела глядзеў па-за станцыю* (П. Трус. Юны змаганец). *Дай ёй боты і лыжку запхнуў за халяву* (А. Куляшоў. Песня мая). *Вядома, часы змяніліся, але і старога, перажытага, як кажуць па-простаму, пад печ не сунеш, за парог не вымецеш* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае канкрэтнае дзеянне (*сесці, стаць, вярнуцца* і інш.), а залежнае слова — прадмет, адносна якога гэта дзеянне адбываецца: *вярнуцца за парту, сесці за руль, стаць за пульт, станавіцца за станок* і інш. *Ён вярнуўся за стол, прывычным жэстам паправіў рамень гімнасцёркі* (Я. Брыль. Іржавая стрэмка). *За сталы, за парты сядзем мы па класах* (П. Глебка. Канец лета). *Яна села за машынку* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Дырыжор стаў за пульт, выцягнуў правую руку, прыцягнуўшы гэтым самым увагу ўсёй залы* (там жа).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае дзеянне, рух або стан, знаходжанне, а залежная частка — дакладную ці прыблізную меру прасторы, якая пераадольваецца ў працэсе руху, ці адлегласць, на якой знаходзіцца прадмет ад чаго-небудзь. Ролю залежнай часткі могуць выконваць паасобныя назоўнікі са значэннем колькасці або колькасна-іменныя спалучэнні. Да залежнай часткі такіх канструкцый звычайна далучаецца назоўнік у форме роднага склону з прыназоўнікам *ад* (зрэдку прыслоўі *адсюль, адгэтуль, адтуль*), які ўказвае на месца, адносна якога вымяраецца гэта адлегласць: *ездзіць за сем кіламетраў, прыпыніцца за два крокі, пражываць за кіламетраў пяць* [ад дарогі], *пралягаць ганок за чацвёра* [адсюль] і інш. Гэта разнавіднасць словазлучэнняў з прасторавымі адносінамі набывае адценні колькасных адносін. *Яна хадзіла штодзень за шэсць кіламетраў у суседняе мястэчка* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Вярсты за дзве, па той бок яру, стаяла іх сяло* (Я. Колас. Дачакаўся). *Калгас мае і свой цагельны завод, толькі ён знаходзіцца за дзевяць кіламетраў ад пасёлка* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Воддаль, за пайгоней адсюль цягнуліся хлявы з высокаю чырвонаю сіласнай вежай побліз іх* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 370. Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі ў залежнасці ад значэння галоўнага і залежнага слоў падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае канкрэтнае фізічнае дзеянне, а залежнае слова — прадмет, на які накіравана гэта дзеянне: *узяць за руку, кранyць за плячо, цягнуць за крысо, зачапіць за кручок, трымацца за поручні.* Пры пераносным ужыванні

спалучальных слоў такія словазлучэнні набываюць устойлівае значэнне: *узяцца за справу, прыняцца за працу* і інш. *Першыя сані з а ч а п і л і с я вязам з а к о р ч і ні з месца* (Я. Б р ы л ь. Дзяўчынанька чарнаброва). *Аднекуль вынырнуў бацька, с х а п і ў з а р у к у, пацягнуў за сабой* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Ён а б н я ў з а п л я ч о сінявокага Строіша* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Гуляюць на хвалях, жыруюць на дне, а вось з а к р у ч о к ні адна н е к р а н е* (П. Г л е б к а. Рыбак). *Чакае Палессе людзей смелых, жвавых, каб прыйшлі і дружна ў з я л і с я з а с п р а в у* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай). *«З такімі не загінеш,— яны і ў вайну крышылі ворага і цяпер жыццё з а г р ы в у т р ы м а ю ц ь»,— думаў Алесь* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

б) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы *быць, стаць, застацца, паставіць, абраць* і інш., а ролю залежнага слова — назоўнікі, што абазначаюць род дзейнасці, занятку або пасаду, якую займае ці на якую абіраецца асоба: *застацца за дырэктара, выбраць за сакратара, уладкаваць за дворніка* і інш. Гэтыя словазлучэнні суадносяцца па значэнню з беспрыназоўнікавымі дзеяслоўнымі канструкцыямі з творным склонам назоўніка (гл. § 313). *Сцёпка б ы ў з а г а с п а д а р а* (К. К р а п і в а. Пальчык). *Ты, ранак, б у д з ь з а с в е д к у* (А. К у л я ш о ў. Ранак). *С т а ў у двор з а л е с н і к а я* (Я. К у п а л а. Калека). *Так і а с т а ў с я Казімір на заводзе з а галоўнага б у х г а л т а р а* (Я. С к р ы г а н. Наталя). *Ну, тады давайце яго а б я р э м з а с а к р а т а р а* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *Як акцёр ён быў пакуль што не патрэбен, а з а р а х у н к а в о д а п а с т а в і л і* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Н е ў д а л о с я п р ы с т р о і ц ь Марту з а к у х а р к у* (там жа). *Яго з а п р а ш а л і ў губернскую клініку з а а р д ы н а т а р а* (Б. М і к у л і ч. Дужасць).

З а ў в а г а. У словазлучэннях з дзеясловам *вучыцца* залежны назоўнік можа выступаць у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на* (*вучыцца на агранома*, гл. § 358) або *за* (*вучыцца за агранома*). *А то было раз, як я з а к р а ў ц а яшчэ в у ч ы ў с я, чаляднікам быў у гэтага Банадыся дымаўскага* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Да гэтай групы функцыянальна набліжаюцца словазлучэнні тыпу *выбраць за мужа, узяць за жонку* і інш. *Вось Янка шчаслівы, ужо гора не знае, з а ж о н к у ўжо Зосю прыгожую м а е* (Я. К у п а л а. Адплата кахання). *Любую з іх з а ж о н к у я мог сабе ў з я ц ь* (П. Г л е б к а. Вясёлыя песні). *Валя в ы й ш л а з а М і х а с я яшчэ ў партызанах* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Каго гэта ты сабе з а м у ж а в ы б р а л а?* (А. Я к і м о в і ч. Бацькаў дар).

Сюды ж прымыкаюць і словазлучэнні з дзеясловамі *лічыць (не лічыць), прыняць, слыць*, большасць з якіх набылі ўстойлівае значэнне: *палічыць за людзей, прыняць за свайго чалавека* і інш. *У Дымаўцы таксама знайшліся такія, што л і ч ы л і Каржакевіча з а р а з у м н а г а ч а л а в е к а і д о б р а г а г а с п а д а р а* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Землякі вітаюцца з пашанай, ну, а я? Лаўлю сабе ляшча і хаджу, хаджу дарогай знанай, і слыву, с л ы в у з а м а с к в і ч а* (А. К у л я ш о ў. Вуліца Маскоўская). *Людзі з а г о н а р л і ч а ц ь працаваць, а ты ўсё роўна як пакаранне адбываеш* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае актыўнае дзеянне (*працаваць, выконваць, рабіць* і інш.), а залежнае слова — асобу, за якую што-небудзь робіцца: *працаваць за сястру, выйсці* [на працу] *за брата*. Гэтыя словазлучэнні могуць набываць акалічнаснае значэнне меры, ступені: *упраўляцца за траіх* і інш. *Собіч бадай-што ўсё з р а б і ў з а Н а ў р о ц к а г а* (Я. С к р ы г а н. Няпрошаная сляза). *Баба г у к а е з а М а р ы л ь к у тонка, па-дзявочаму* (Я. Б р ы л ь. У сям'і). *За што б ні ўзяўся я, з а д в а і х мне трэба р а б і ц ь, браток* (А. К у л я ш о ў. За дваіх).

г) Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем унутранага адчування, пабуджэння або мэтанакі-

раванага дзеяння, а ролю залежнага слова — назоўнікі з абазначэннем тых прадметаў ці паняццяў, якімі выклікаецца ці абумоўліваецца пэўнае дзеянне, пабуджэнне. Гэтыя словазлучэнні заключаюць у сабе адценні абумоўленасці, кампенсацыі (нярэдка з указаннем на лік, колькасць) або мэты, прычыны. Да галоўнага слова такіх канструкцый могуць далучацца беспрыназоўнікавыя формы назоўнікаў са значэннем прамога ці ўскоснага аб'екта: *адпомсціць* [ворагу] *за слёзы, адплаціць* [дабром] *за ўсе клопаты, падняць* [тост] *за дружбу, змагацца за праўду, выступаць за мір, дзякаваць за дапамогу, выкупіць* [кнігі] *за дзесяць рублёў* і інш. *Клялася дзяўчына, узышоўшы на жвір, адпомсціць панам за каханне* (П. Глебка. Герой і партызанка). *Я ім павінен аддзякаваць за ўсе клопаты* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Ды калі б мяне лаялі за благую работу, я не ведаў бы, дзе вочы падзець* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Змалацілі яны з бацькам трохі жыта, прадалі за чатыры рублі* (К. Чорны. Бяздонне). *Ён паважае мяне за добрую працу* (М. Лынькоў. Джыавані). *За чароўны зіркі за шчырасць слоў падарыла я сэрца яму!* (П. Трус. Студэнтка). *За хараство і вось за гэтую цёплую ўсмешку і ўзяў Юзік Зосю* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 371. Словазлучэнні з часавым значэннем выражаюць адносіны дзеяння да часу яго завяршэння. У ролі залежнага слова іх звычайна выступаюць назоўнікі, якія абазначаюць час або звязаны з паняццем часу. Часавыя значэнні назоўнікаў асабліва часта ўдакладняюцца рознымі формамі азначэнняў (прыметнікамі, указальнымі і азначальнымі займеннікамі, назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў), якія ў радзе выпадкаў складаюць структурна неабходную частку цэлага словазлучэння. З паясняльнымі членамі можа ўжывацца і галоўнае слова, калі неабходна ўдакладніць, канкрэтызаваць названае ім дзеянне. *Прысела. Шляхі затамілі за дзень* (А. Куляшоў. На сотай вярсце). *За зіму можна прыгледзецца, як ён будзе рыхтавацца да вясны* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Зжалі дванаццаць гектараў за тыдзень* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Ёй здалося, што камандзір ніяк не змяніўся за апошнія месяцы* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *За гэтыя гады я многа пабачыла гора людскога* (там жа). *Нічога не прыдумаў Паўлюк за ўсю раніцу* (Я. Колас. Тоўстае палена). *За гады савецкай улады слоўнікавы састаў нашай мовы папоўніўся вялікай колькасцю новых слоў* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы).

У словазлучэннях з часавымі адносінамі ролю залежнай часткі могуць выконваць колькасна-іменныя спалучэнні: *Але ж затое за адзін ці два дні можна зарабіць столькі, колькі не заробіш за месяц* (Я. Маўр. Незвычайная прынада). *За тры гады яна выгадавала сто цялят* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Дом перавезлі за некалькі дзён талакою* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *За якіх тыдні паўтара магло наскочыць жніво* (Ц. Гартны. На перагібе).

Пры ўказанні на час дзеяння, якое адбылося, адбываецца ці адбудзецца да пачатку якой-небудзь падзеі, з'явы і г. д., у склад залежнай часткі гэтых словазлучэнняў могуць уключацца назоўнікі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да* або, радзей, назоўнікі ў форме творнага склону з прыназоўнікам *перад*, у выніку чаго канструкцыя структурна ўскладняецца: *узяць* [білет] *за дзве гадзіны* [да ад'езду], *закончыць* [справу] *за тыдзень* [да адпачынку], *выехаць за дзень* [перад навальніцай] і інш. *Людзей узніміце за дзесяць хвілін да адыходу* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Календруп»). *Усе яны былі напісаны за колькі дзён да вайны і былі поўныя рада-*

*сці* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *За тыдзень да занятка ў па рашэнню «сямейнай рады» Аляксей пакінуў працу* (І. Шамякін. Крыніцы). *За дзень перад куццёю ляснік Тарас яшчэ досвітку ўехаў з гасцінцам у горад Н.* (Я. Колас. Калядны вечар).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пра*

§ 372. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пра* выражаюць аб'ектныя адносіны. У ролі галоўнага слова тут пераважна выступаюць дзеясловы са значэннем маўлення, думкі, а ў ролі залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, паняцці, з'явы або падзеі, што з'яўляюцца аб'ектамі маўлення, думкі: *развaжаць пра жыццё, паведаміць пра сына, успамінаць пра паходы* і інш. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пра* сінанімічны такім жа словазлучэнням з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* (*развaжаць аб жыцці, думаць аб дзецях* і інш., гл. § 423). *Гаварыў пра спякоту народ, пра сухмень нечаканы, які прыхапіў ярыну* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Змарнелая дзяўчынка доўга хадзіла па мястэчку, распытваючы пра сястру* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *І спяваюць плытагоны пра далёкі акіян* (П. Глебка. Плыты). *Пра брыгаду напісалі ў заводскай шматтыражцы* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Агата ведала пра ад'езд сына і рыхтавалася да гэтага* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Тут ён мог падумаць і пра работу, і пра сваё жыццё* (Я. Скрыган. Наталя).

Заўвага. Пад уплывам некаторых паўночна- і паўднёва-ўсходніх гаворак у творах мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі ўжывання пры дзеясловах *забыць* (*забываць*), *забыцца* (*забывацца*) назоўнікаў у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на* замест літаратурнай нормы з прыназоўнікам *пра*: *забыць на сяброў, забыцца на крыўду, забываць на стомленасць* і інш. *На сон забыліся* (Б. Мікуліч. Дужасць). *А яны ж ані на хвіліну не забываюцца на гэта* (Х. Шынклер. Апошні рэйс). *Лаўрэн забыўся на мароз* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Тут забываешся на ўсё ў свеце* (Я. Маўр. Лацароні). *Магчыма, ты забудзешся на крыўду* (П. Глебка. О, не!..). *Нават суровы Каетан, як бы забыўшыся на сваю трывогу, паддаўся гэтаму настрою* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У гэтым вадавароце ён часам забываўся на Сашу* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Яна забылася на суровы загад і голасна плакала* (Я. Брыль. Зялёная школа). *На Андрэя забыліся* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *праз, цераз*

§ 373. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *праз, цераз* выражаюць прасторава-аб'ектныя, азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння (звычайна з аб'ектнымі адценнямі), а таксама часавыя і прычынныя адносіны. Адметнай рысай большасці гэтых словазлучэнняў з'яўляецца тое, што ў іх, як правіла, сумяшчаюцца значэнні розных сінтаксічных адносін, і толькі зрэдку паасобныя групы іх служаць для выражэння пэўнага канкрэтнага значэння.

Словазлучэнні з прасторава-аб'ектнымі адносінамі ў залежнасці ад значэння спалучальных слоў і іх семантычных узаемаадносін падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца рух, а залежным словам называецца прастора, праз якую гэты рух адбываецца: *ісці цераз поле, імчацца праз лес, ехаць праз вёску* і інш. *Мы пабеглі праз двор да ракі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Яны на пальчыках прайшлі праз кухню* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *І насупор дажджу і ветру вялі прасторныя шляхі цераз балоты, цераз нетры, цераз пяскі пустынь сухіх* (П. Глебка.

Дужасць). *Машына праскоквае праз невялікі гаёк і спыняецца* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца рух, а залежным словам — прадметы, якія перашкаджаюць руху: *прабірацца праз дрэвы, не прабіцца праз зараснік* і інш. *Цераз пушчы прабіцца да сэрца твайго я не мог* (А. Куляшоў. Зямля і людзі). *Не прайсці праз людзей,— іх на вуліцы сёння мільёны* (П. Глебка. Крывавая нядзеля). *Доўга і ўпарта прадзіраліся яны праз дрэвы, праз купаўё* (Б. Мікуліч. Дужасць).

Да гэтай групы належаць таксама словазлучэнні з назоўнікамі, якія абазначаюць розныя падзеі, з'явы прыроды, што з'яўляюцца перашкодай на шляху пэўнай асобы: *несці* [праўду] *праз агонь, праходзіць праз сцюжы* і інш. Такія словазлучэнні звычайна набываюць устойлівы характар. *Праз дажджы ляцяць, праз буры, быццам тыя галубкі, не залежацца на пошце нецярплівыя радкі* (А. Куляшоў. Галубкі). *Ён ішоў, салдат, да хаты праз баі, праз дым і гром* (К. Буйла. Каваль). *Ні адзін з сённяшняй атакі не прабіўся праз смертаносную сцяну, праз страшны шквал агню, жалеза і зямлі* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *З баявою выкладкай салдата праз эпоху бур праходжу я* (А. Куляшоў. Маё пасведчанне). *Адно чалавек упарта спяшаецца недзе праз ноч* (П. Глебка. Кара). *Шмат пасля гэтага ён блукаў па свеце, прайшоў праз дзетдом, рамеснае вучылішча, армію, але ў памяці не маглі сцерціся ні высокія дняпроўскія кручы, ні звонкі бор над ракой* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

в) Словазлучэнні, галоўным словам якіх абазначаецца рух, а залежным словам — прадмет, паверх якога гэты рух адбываецца: *пераляцець цераз мора, пераскочыць цераз канаву* і інш. *Клапатлівыя людзі пераступалі цераз іх ногі, наступалі на іх халаты і не давалі ім задрамаць* (К. Чорны. Максімка). *Клемусь пералез цераз плот аднекуль з папоўскага двара* (К. Чорны. Зямля). *Яна... нібы пераляцела цераз леташнюю градку і апынулася каля маладой яблынькі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

г) Словазлучэнні, у якіх галоўным словам абазначаецца пэўнае дзеянне, а залежным словам — прадмет, праз які што-небудзь пранікае: *свяціцца праз дзіркі, пранікаць цераз сцены* і інш. *Звонкія дзіцячыя галасы даляталі праз расчыненыя вокны* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Праз насцеж адчыненыя вокны пачуўся лёгкі шум таполяў* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Праз дзіркі ў страсе мігацелі высокія зоркі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Уласна прасторавыя адносіны выражаюць нешматлікія словазлучэнні, у якіх залежным словам абазначаецца пастаяннае ці часовае месцапрабыванне асобы (*жыць праз дарогу, працаваць цераз вуліцу*), прадмет, за межы якога хто-небудзь або што-небудзь пераpraўляецца (*перакінуць цераз Прыпяць, перавезці цераз Днепр*), мера прасторы або адлегласць, на якой знаходзіцца прадмет ад чаго-небудзь (*заўважыць праз гоні, віднецца праз пяць кіламетраў*). *Сястра жыла праз раку ад Загор'я* (У. Шахавец. Пасля вяселля). [Сасна] *выцягнула абслізганае карэнне цераз дарогу* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Праз поле ўраджайнае, тарфяныя балоты, праз пушчы векавечныя ляглі вы пазалотай* (Я. Купала. Дарогі). *І праўда, увечары разведчыкі пераправілі цераз Нёман даволі цікавага дзецюка* (Я. Брыль. Выпрабаванне). *Праз гоні ад сталярні віднелася праўленне калгаса* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Кіламетры праз тры пачаўся лес* (Я. Скрыган. Пусты кошык).

§ 374. У словазлучэннях з азначальна-акалічнасным і адносінамі спосабу дзеяння залежнае слова называе прадмет, пры дапамозе якога адбываецца дзеянне. Гэтыя словазлучэнні амаль заўсёды змяшчаюць у сабе аб'ектныя значэнні: *апавясціць праз газету, пісаць праз злучок, друкаваць праз два інтэрвалы, перадаць* [пакет] *цераз пасыльнога, пускаць* [дым] *праз рот*. Сюды ж адносяцца ўстойлівыя словазлучэнні *працадзіць праз зубы* і інш. *Малы цераз брыво глянуў угору на старшага і ўсміхнуўся* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Прыгожа вісеў цераз плячо скураны футарал з дробнымі каморнцкімі рэчамі* (К. Чорны. Зямля). *Паілі козліка малаком з бутэлькі цераз соску* (Я. Брыль. Шчасце маленства). *Учора я пералічыў туды праз банк пяць тысяч рублёў* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Чалавекам праз няшчасце зрабіла мяне чыгунка* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне характарызуецца паводле інтэнсіўнасці яго праяўлення, выражаюць акалічнасныя адносіны з адценнем меры, ступені. Такія канструкцыі лексічна абмежаваны: *Станіслаў праз сілу стрымаў сябе, каб не абразіць новага свайго знаёмага* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Стась праз сілу заплюшчвае вочы* (там жа).

§ 375. Словазлучэнні з часавымі адносінамі падзяляюцца на некалькі груп:

а) словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае пэўнае дзеянне, а залежнае слова — прамежак часу, праз які адбылося ці павінна адбыцца гэта дзеянне: *убачыцца цераз год, паехаць праз тыдзень, прыйсці праз гадзіну* і інш. *Ажно цераз год, як квітнелі сады, Алеся прыйшла на магілу* (П. Глебка. Герой і партызанка). *Ён дамовіўся з ёю сустрэцца ў бацькоў роўна праз тыдзень* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Рыта прыехала цераз дзень раніцаю* (К. Чорны. Захар Зынга). *А праз гадзіну яе выклікалі зноў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

У ролі залежнай часткі названых канструкцый могуць выступаць колькасна-іменныя спалучэнні, якія ўказваюць на дакладны або прыблізны прамежак часу, праз які адбылося дзеянне: *Праз два месяцы Наталя першы раз паднялася і ціхенька дабралася да акна* (Я. Скрыган. Наталя). *Праз некалькі дзён мы бачылі знаёмы аркестр на адной з вуліц горада* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Неяк праз гады тры зноў з'явіўся ён у роднай вёсцы* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай).

б) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае дзеянне, а залежнае слова — прамежак часу, на працягу якога адбывалася, адбываецца ці будзе адбывацца гэта дзеянне: *не сціхаць праз гады, не прыпыняцца праз цэлыя дні* і інш. Такія канструкцыі звычайна з'яўляюцца сінанімічнымі беспрыназоўнікавым дзеяслоўным словазлучэнням з творным склонам назоўніка (*не сціхаць гадамі, не прыпыняцца цэлымі днямі* і інш., гл. § 316). *Праз вёсны, леты, зімы на роднай цаліне я чую гул любімы* (А. Куляшоў. Ельнік). *Жывой паэзіі крыніца напоіць смагу маладых і будзе, светлая, бруіцца праз незлічоныя гады* (П. Глебка. Вялікі сын народа). *Праз цэлы дзень гучаць песні* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Праз усё першае аддзяленне чулася ў зале гамана* (Б. Мікуліч. Дужасць).

в) Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае дзеянне, а залежнае слова называе прамежак часу, праз які гэта дзеянне паўтараецца: *выступаць праз кожныя два дні, сеяць цераз год, прымаць* [лякарства] *праз тры гадзіны, дзяжурыць праз шасцідзёнку* і інш. *Жыта толькі і сеялі цераз два гады на трэці* (К. Крапіва. Мя-

дзведзічы). *Паўлюк праз два-тры месяцы абавязкова вяртайся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 376. У словазлучэннях з прычыннымі адносінамі залежнае слова — назоўнік абазначае асобу, прадмет або паняцце, якія з'яўляюцца прычынай дзеяння, названага галоўным словам: *пацярпець праз суседа, пастарэць праз бараду, адстаць праз хваробу* і інш. Гэтыя словазлучэнні змяшчаюць адценні аб'ектных значэнняў, яны лексічна абмежаваны. Па характару сінтаксічных адносін такія канструкцыі набліжаюцца да дзеяслоўных словазлучэнняў з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з-за* (*пацярпець з-за суседа, пастарэць з-за барады* і інш., гл. § 326). *На грэх пусціўся праз дзяўчыну і мусіў праз яе сканаць* (Я. Купала. Магіла льва). *Красуцкі яшчэ зусім малады, гадоў недзе за трыццаць, але выглядае куды старэй праз свае вусы* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Можа, праз гэта хлопец і не надта спяшайся хутчэй дабрацца да месца* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *А вось на другую зіму ён праз смеласць сваю і загінуў* (Я. Брыль. Шчасце маленства).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *скрозь*

§ 377. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *скрозь* выражаюць аб'ектныя адносіны з прасторавымі або азначальна-акалічнаснымі адценнямі спосабу дзеяння. Залежнае слова ў іх можа абазначаць канкрэтны прадмет, праз які што-небудзь пранікае, праходзіць (*пранікаць скрозь лісце, прасвечвацца скрозь галінкі* [дрэў], *прабірацца скрозь натоўп*), або адцягненае паняцце, стан ці адчуванне, праз якое адбываецца пэўнае дзеянне (*прабівацца скрозь цемру, пачуць скрозь сон*). Па значэнню яны звычайна суадносяцца з дзеяслоўнымі словазлучэннямі з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *праз, цераз* (*пранікаць праз лісце, прабівацца праз цемру* і інш., гл. § 373). Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў гэтыя словазлучэнні могуць набываць устойлівае значэнне. *Скрозь шчыліны ў аканіцах шылася на вуліцу з хаты святло* (П. Галавач. З тых дзён). *Скрозь дрымоту мы пачулі спачатку нечыя спуджаныя галасы* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *А за гэтыя яго паляўнічыя якасці можна на шмат што скрозь пальцы зірнуць* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *Няўжо ж яны скрозь зямлю праваліліся?* (Я. Маўр. У цясніне).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *паўз*

§ 378. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паўз* выражаюць прасторавыя адносіны. Галоўнае слова ў іх абазначае рух, а залежнае слова — месца або прадмет, паўз які, паблізу якога адбываецца рух: *ісці паўз жыта, праязджаць паўз балота* і інш. *Яны пайшлі ўздоўж паўз мяжу* (К. Чорны. Зямля). *У бяздум'і ён ідзе паўз штабелі* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Але калі праходзіў паўз школу, зайсці не адважыўся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Паўз акопчык прабягаюць людзі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Паўз лес мы едзем* (А. Куляшоў. Глушцы).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 379. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пад* могуць выражаць прасторавыя, часавыя, азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння і аб'ектныя адносіны.

Словазлучэнні, якія выражаюць п р а с т о р а в ы я адносіны, складаюць прадуктыўны тып дзеяслоўных канструкцый. Залежнае слова ў іх можа абазначаць: прадмет, да ніжняй часткі якога або пад які накіравана дзеянне, названае галоўным словам (*пакласці пад галаву, легчы пад дрэва, узлятаць пад воблакі, зірнуць пад ногі, закінуць пад печ, паставіць пад павець*); прадмет, з'яву прыроды, стан або працэс, пад уздзеянне якога хто-небудзь або што-небудзь падпадае (*трапіць пад дождж, падвесці пад удар, узяць пад апеку, ставіць пад пагрозу*); мясцовасць, населены пункт, у зону якога накіроўваецца або куды трапляе асоба (*трапіць пад Нясвіж, заехаць пад Свіслач, перавезці пад Саяны*). Многія з названых разнавіднасцей словазлучэнняў набываюць устойлівы характар: *мармытаць пад нос, весці пад вянец* і інш. *Хлопчык п р ы л ё г на сумёт п а д яловае в е ц ц е* (А. К у л я ш о ў. Навагодняя ёлка). *Ён злосна скамячыў пяцёркі і в ы к і н у ў іх п а д к у с т* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *З печы дым не ў комін, а п а д с т о л ь н я с е* (Я. К у п а л а. Гутарка аб кепскім гаспадару). *Анатоль п р ы в ё ў дзяўчынку п а д п а в е ц ь, дзе вучыліся цяпер малодшыя дзеці* (Я. Б р ы л ь. Зялёная школа). *Хоча браць, ды не хоча в я с ц і п а д в я н е ц* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *І п а д а г о н ь і м к н е ц ц а бурная душа!..* (П. Т р у с. Юны змаганец). *П а д с у д а д д а м, калі што...* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Мы е з д з і л і п а д М і н с к у іх калгас* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

З а ў в а г а. Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пад*, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем руху, а ролю залежнага слова — назоўнікі, што абазначаюць напрамак і канечны пункт руху, характэрны для размоўнага стылю; у літаратурнай мове яны звычайна замяняюцца дзеяслоўнымі словазлучэннямі з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *да* (гл. § 332) або з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *к* (гл. § 344): *ісці пад калодзеж — ісці да калодзежа (к калодзежу), пад'ехаць пад ганак — пад'ехаць да ганка (к ганку)* і інш. *Па прывычцы ўзяла вядро і п а й ш л а п а д к а л о д з е ж* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»). *Выпускнік вясковай сямігодкі п а д ы ш о ў п а д школьны г а н а к* (А. К у л я ш о ў. Бюро даведак). *П а д' я з д ж а ю ч ы п а д г о р а д, Пятрок адчуў нейкую няясную трывогу* (Я. С к р ы г а н. У Кірылы на хутары). *Юлік Барановіч, падцягваючы хворую нагу, п а в а л о к с я п а д Т а м а ш а* (К. Ч о р н ы. Зямля).

§ 380. У словазлучэннях з ч а с а в ы м і адносінамі залежнае слова абазначае пэўны час сутак, пэўную пару года або які-небудзь іншы прамежак часу, да пачатку якога адбылося, адбываецца ці павінна адбыцца дзеянне, названае галоўным словам: *А п а д в е ч а р п а д' е х а л і нашы падводы* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *З а с н у ў толькі п а д р а н і ц у* (Я. К о л а с. Адукацыя). *П а д п о ў н а ч хмары п а з б я г а л і на захад і ачысцілі ўсход* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *П а д самую в о с е н ь з а б а л е л а ў Цімошкі нага* (Я. К о л а с. Чоран). *П а д к а н е ц м е с я ц а да нас п а с т у п я ц ь спраўздачы* (Я. С к р ы г а н. Няпрошаная сляза). *Суседняму гандляру... ён і так ужо з а п а з ы ч ы ў с я п а д г э т ы ў р а д ж а й* (Я. М а ў р. Незвычайная прынада).

§ 381. У словазлучэннях з а з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы м і адносінамі спосабу дзеяння галоўнае слова называе дзеянне, а залежнае слова ўказвае на спосаб яго ўтварэння. Амаль усе такія словазлучэнні заключаюць у сабе адценні прыпадабнення або суправаджэння. Дзеянне, якое абазначаецца пераходнымі дзеясловамі гэтых словазлучэнняў, звычайна ўдакладняецца (зрэдку не ўдакладняецца) прамым аб'ектам: *падрабіць* [голас] *пад дыктара, пастрыгчы* [валасы] *пад хлапца, пісаць пад Дастаеўскага*. Пры пераносным ужыванні галоўнага і залежнага слоў такія канструкцыі могуць набываць устойлівае значэнне: *іграць пад* [чыю-небудзь] *дудку* і інш. *І ш л а яна з ім п а д р у к у* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Джамбулу я песню сёгоння пяю, п а д с э р ц а і думу н а с т р о і ў сваю* (Я. К у п а л а. Джамбулу). *Скрыпка Тамаша кожнаму на яго ж мове гаварыла, п а д я г о г у с т г р а л а* (З. Б я д у л я. Тры пальцы). *Ён адчуваў, што лоўка п а д р а-*

*бій сваю постаць* *п а д  а п т э к а р а, і яму зрабілася весела* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Пачаць п і с а ц ь  п а д  Дастаеўскага* (Я. С к р ы г а н. Неспадзеўнае падарожжа). *П а д  с м е х  усяго класа Данік с а д з і ц ц а і пачынае маляваць* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб). *П а д  ветру ціхія п а в е в ы, п а д  с о н  развесістага бору, ой, б у д у  с л у х а ц ь  твае спевы і сэрца звонкія акорды* (П. Т р у с. З паэмы «Сірата Алеся»).

§ 382. У словазлучэннях з а б'е к т н ы м і адносінамі ролю галоўнага слова выконваюць пераходныя дзеясловы са значэннем мэтанакіраванага дзеяння (*пабудаваць, абсталяваць, прыстасаваць, падрыхтаваць, расчысціць, заняць* і інш.), а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, пад якія што-небудзь прызначаецца і дзеля якіх адбываецца дзеянне. Пры галоўным слове амаль заўсёды ўжываюцца назоўнікі ў форме вінавальнага склону без прыназоўнікаў, якія называюць прадметы ў якасці прамога аб'екта. Такія словазлучэнні змяшчаюць у сабе адценні мэты, прызначэння: *адвесці* [памяшканне] *пад бібліятэку, прызначыць* [пограб] *пад бульбу, араць пад жыта* і інш. *Напрадвесні Жарстак з д а ў  хату  п а д  д а ч у* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам). *Мы ачысцілі і  а б с т а л я в а л і  п а д  к а н ю ш н ю два абагуленыя гумны* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Кірылаў хутар стаяў на невялікім грудку, р а с ц я р э б л е н ы м  п а д  с я д з і б у  ды  п о л е* (Я. С к р ы г а н. У Кірылы на хутары). *Землямеры рабілі абход і зямлю за дубровай р а з б і в а л і  п а д  с е в а з в а р о т* (А. К у л я ш о ў. Поспех).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб*

§ 383. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* выражаюць а б'е к т н ы я адносіны. У ролі галоўнага слова іх выступаюць дзеясловы са значэннем уздзеяння на прадмет, дакранання, сутыкнення (*біць, стукаць, крануць, зачапіць, церці, абдзіраць* і інш.), а ў ролі залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць самыя прадметы ў якасці аб'ектаў гэтага ўздзеяння, дакранання, сутыкнення: *церці аб снег, абдзіраць аб сукі, спатыкнуцца аб пень* і інш. *Колы с т у к а л і с я  а б  к а р э н н е* (Я. К о л а с. Кірмаш). *Разоў некалькі з а ч а п і ў  ён воссю  а б  х в о ю  і скінуў атосу* (там жа). *А б  к о р а н ь  дуба  конь б'е капытом* (А. К у л я ш о ў. Табуны). *На вуліцы зморшчаныя лісці клёнаў суха ш а р а в а л і с я  пад ветрам  а б  з я м л ю* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Дроб а б а п ё р с я  а б  п о р у ч н і* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»).

### Словазлучэнні са складанымі прыназоўнікамі

§ 384. Дзеяслоўныя словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і складанымі прыназоўнікамі *ў кірунку на, у напрамку на* выражаюць п р а с т о р а в ы я адносіны. Гэтыя словазлучэнні колькасна абмежаваны. *Па шашы, у  к і р у н к у  н а  А н т о н а ў  л у г, за возерам у з н я ў с я вялікі рух* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і складаным прыназоўнікам *нягледзячы на* выражаюць у с т у п а л ь н ы я адносіны: *Якуб Панасавіч, н я г л е д з я ч ы  н а  свае вялікія г а д ы,  в ы г л я д а ў  яшчэ даволі рухава* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ТВОРНЫМ СКЛОНАМ

§ 385. У дзеяслоўных словазлучэннях залежнае слова — назоўнік у форме творнага склону падпарадкоўваецца галоўнаму слову — дзеяслову пры дапамозе прыназоўнікаў *з (са), за, па-за, над, па-над, пад,*

*перад, паміж (між), побач з, поруч з, услед за* і інш. Словазлучэнні з названымі прыназоўнікамі складаюць прадуктыўны і семантычна разнастайны клас дзеяслоўных канструкцый. Яны могуць выражаць аб'ектныя, прасторавыя, часавыя і іншыя адносіны, унутры якіх вылучаюцца свае прыватныя значэнні і адценні.

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *з (са)*

§ 386. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з (са)* звычайна выражаюць аб'ектныя адносіны, ускладненыя адносінамі сумеснасці, радзей — аб'ектна-суб'ектныя, азначальна-акалічнасныя спосабу дзеяння, часавыя.

Словазлучэнні, у якіх ролю галоўнага слова выконваюць дзеясловы са значэннем узаемнага дзеяння, руху, стану (*размаўляць, танцаваць, спаборнічаць* і інш.), а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія ўказваюць на асоб, жывых істот або на прадметы, сумесна з якімі ўтвараецца гэта дзеянне, рух, выражаюць аб'ектныя адносіны са значэннем сумеснасці: *Толькі маці з любым сынам будзе доўга размаўляць* (П. Глебка. Калыханка). *Зімою Міхась працаваў з бацькам у кузні* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Дося сядзела з практыкантам на прызбе* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Дзік ходзіць з дзічыхай, за ім — табун вочы* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Вечары прыходзілі з густою сінню неба, з рэдкімі зорамі і кудзельнымі абрыўкамі хмар* (К. Чорны. Зямля).

Значэнне сумеснасці асабліва яскрава праяўляецца ў словазлучэннях са зваротнымі дзеясловамі ў ролі галоўнага слова: *Ідучы дахаты, Адам сустрэўся з натоўпам* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *З Кацярынай Марына здружылася скора* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Ліпнёвая раніца, ціхі ветрык цалуецца з жытам* (П. Трус. Яна). *Амяльян ажаніўся з Мар'янкаю* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Я хачу падзяліцца з чытачамі толькі першымі сваімі ўражаннямі* (К. Крапіва. Лондан). *Ён з ёю спрачаўся, сварыўся, дакараў за бессардэчнасць* (Я. Скрыган. Наталя).

Пры дзеясловах *змяшацца, злучыцца, зліцца, расстацца* і інш. залежнае слова ўказвае на групу асоб, калектыў або на прадметы, паняцці, з якімі хто-небудзь або што-небудзь зліваецца ў адзінае цэлае або, наадварот, абасабляецца, аддзяляецца: *Неба змяшалася з зямлёю* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Мужчына быў увесь у чорным і зусім зліваўся з разгацістым дрэвам* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Потым цемра злучылася з цішынёй* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Конь мой пырхае,—ён неахвотна расстаўся з духмяным мурогам* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Час развітацца з бальніцай яму, з медсястрою* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Пры дзеясловах *справіцца, расправіцца, расквітацца* (у значэнні «расправіцца») залежнае слова ўказвае на аб'ект пераадолення: *справіцца з цяжкасцямі, расправіцца з ворагам, расквітацца са злачынцам.* Такія словазлучэнні выражаюць уласна аб'ектныя адносіны.

Уласна аб'ектныя адносіны выражаюць таксама словазлучэнні, у якіх галоўнае слова — дзеяслоў абазначае рух або пэўнае іншае дзеянне, а залежнае слова — канкрэтны неадушаўлёны прадмет, які транспартуецца асобай або які падвяргаецца пэўнаму ўздзеянню: *ісці са стрэльбай, бегчы з гранатай, ехаць з мяшкамі, расправіцца са шкоднікамі.* Сюды адносяцца таксама аб'ектныя словазлучэнні з прама-пераходнымі дзеясловамі ў ролі галоўнага слова: *сеяць* [авёс] *з гарохам, піць* [чай] *з лімонам, варыць* [суп] *з грыбамі* і інш. *Санітары*

*з ліхтарыкам ішлі ў гэты бок паўз акопы* (К. Чорны. Семнаццаты год). *Вольныя жнеі прыдуць з сярпамі* (Я. Купала. Сей, вольны сейбіт!). *Ён даўно ўжо звязаў лёс свой з лёсам людскім* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Там хадзіла дзяўчыначка ды сеяла з мятай ружы* (П. Трус. Не на ўзмор'і чаўны...).

Калі ж у ролі залежнага слова выступаюць назоўнікі з адцягненым значэннем, то словазлучэнні ўскладняюцца адценнямі мэтавых або прычынных адносін: *Не палохайся. Пойдзеш з вельмі адказным заданнем* (І. Шамякін. Наташа). *З далёкай вёскі, з сялянскіх палёў прыйшлі мы вітаць вас са з'ездам* (П. Глебка. Дваццаты з'езд КПБ).

Заўвага. Ад дзеяслоўных словазлучэнняў з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *з* трэба адрозніваць прэдыкатыўныя па свайму характару спалучэнні слоў, якія складаюцца з назоўнікаў (або займеннікаў) у формах назоўнага і творнага склонаў з прыназоўнікам *з* і дзеяслова-выказніка ў множным ліку, утвараючы з ім структурнае ядро сказа: *Волька з Шураю пасябравалі за час Вольчынай хваробы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Мы з Гаўрусём спыніліся і падышлі наперад* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

§ 387. Словазлучэнні з аб'ектна-суб'ектнымі адносінамі лексічна абмежаваны. У ролі галоўнага слова іх выступаюць дзеясловы *здарацца, рабіцца, адбывацца* і інш., а ў ролі залежнага слова — назоўнікі, што ўказваюць на асоб, з якімі што-небудзь здарылася, адбылося. *Нядаўна з Шурам здарыўся адзін нязначны выпадак, які чамусьці запомніўся ўсім у разведцы атрада* (Я. Брыль. Адзін дзень).

§ 388. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць адцягненыя назоўнікі, што ўказваюць на спосаб, стан, характар або інтэнсіўнасць праяўлення дзеяння, названага галоўным словам, выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння: *сустрэць з радасцю, глядзець з усмешкай, працаваць з запалам, набягаць з шумам* і інш. *З адчыненых дзвярэй хлява, пачуўшы нас, высыпалі з піскам вераб'і* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Уз'язджалі са стогнам падводы на двор* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Мне здавалася, што яго размову з вялікай ахвотаю хацеў бы паслухаць кожны* (Я. Скрыган. Абраза). *Ярошка са злосцю тыркаў пальцам у нейкую паперу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Злосна прайшоўся па хаце і з сілаю шпурнуў на лаву рукавіцы* (Я. Колас. Тоўстае палена).

§ 389. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на час, калі адбываецца дзеянне, або на прамежак часу, з надыходам якога дзеянне пачынае паўтарацца, узрастаць, пашырацца, выражаюць часавыя адносіны. Пры залежным слове, асабліва пры ўказанні ім на час паўтараемага дзеяння, звычайна ўжываюцца паясняльныя члены, якія ў радзе выпадкаў складаюць структурна неабходную частку дзеяслоўнай канструкцыі. *З першымі праменямі асенняга сонца пайшла банда ў лес* (Х. Шынклер. Чмута). *З кожным днём рух на дарозе ўзмацняўся* (Я. Маўр. У цясніне).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, па-за*

§ 390. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікамі *за, па-за* выражаюць аб'ектныя і акалічнасныя адносіны — прасторавыя, часавыя, прычынныя і г. д. У канструкцыях, дзе ролю залежнага слова выконваюць аддзеяслоўныя назоўнікі, аб'ектныя і акалічнасныя адносіны сумяшчаюцца.

Словазлучэнні, якія выражаюць аб'ектныя адносіны, з'яўляюцца семантычна разнастайнымі. Залежнае слова ў іх можа абазначаць асобу, іншую жывую істоту або прадмет, услед за якімі адбываецца рух (*ехаць за праваднікам, бегчы за коньмі, ісці за возам*), асобу,

прадмет або паняцце, за якімі вядзецца назіранне, догляд (*назіраць за дзіцем, сачыць за падзеямі*), прадмет, які выступае ў якасці аб'екта працы, думкі (*сядзець за чарцяжамі*), асобу (асоб), на ўтрыманні якой хто-небудзь знаходзіцца (*жыць за бацькамі, жыць за мужам*). Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў такія словазлучэнні могуць набываць устойлівае значэнне: *ганяцца за славай* і інш. *Юрка важна пайшоў за цёткаю* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Не могуць вершы ўгнацца за экспрэсам* (А. Куляшоў. Станцыя Камунары). *Анежка непрыкметна ўвесь час сачыла за Алесем* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ён назірае за таварышам* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Ён і вучыўся добра, хоць вельмі мала сядзеў за сшыткамі і кніжкамі* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Учора мама расказвала, як добра Валя жыве за сваім Міхасём* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнай часткі выконвае спалучэнне двух аднназначных назоўнікаў у формах назоўнага і творнага склонаў з прыназоўнікам *за*, змяшчаюць у сабе акалічнасныя значэнні спосабу дзеяння і з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі: *Крок за крокам адыходзілі яны назад* (Я. Маўр. У цяснінe). *Емка кладзецца бярэма за бярэмам* (А. Куляшоў. На ўборцы сена). *Вянок за вянком вырастае зруб* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

§ 391. Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае пэўнае дзеянне, а залежнае слова — месца, за якім гэта дзеянне адбываецца, выражаюць прасторавыя адносіны з аб'ектным адценнем: *схавацца за дрэвамі, стаяць за дзвярамі, чакаць за вёскай.* Сюды ж адносяцца таксама ўстойлівыя спалучэнні са словамі *мець за спіной* (*мець за спіной 50 гадоў*) і інш. *Хаваючыся па-за кустамі, яны не мелі тых страт, якія маглі быць у іншых умовах* (Я. Маўр. У цяснінe). *За лесам няспынна грымела кананада* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *За сялом рух усё ўзмацняўся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Пайлюк чакаў за вёскай, на ўмоўленым месцы* (Я. Брыль. Мой зямляк). *За акном цвіў сад* (Я. Скрыган. Наталя). *Амаль шаснаццаць год я маю за спіной* (А. Куляшоў. Глушцы).

Заўвага. У словазлучэннях тыпу *стаяць за штурвалам, сядзець за рулём, стаяць за пультам* залежнае слова называе прадмет, побач з якім, у непасрэднай блізкасці ад якога знаходзіцца асоба ў час выканання ёю пэўных функцый.

§ 392. Асобнае месца займаюць словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі, у якіх залежнае слова ўказвае на пэўныя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне. У гэтых словазлучэннях звычайна сумяшчаюцца розныя адценні акалічнасных і аб'ектных адносін. *Я сустракаў цябе за працай у сельсавеце на сяле* (П. Трус. Дзяўчыне). *Так за працай, за гутаркай непрыкметна прайшлі дзве гадзіны* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *І за гоманам працы, за шумам я знайду цябе, дзе б ні была* (П. Глебка. У шчаслівай сям'і). *Устае і за дымнай лучынаю з вераценцам заводзіць напеў* (П. Трус. Яна).

У некаторых словазлучэннях пераважаюць часавыя або прычынныя значэнні: *Алесь і заснуў за гаворкаю з маці* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Як сябры, між сабой размаўлялі яны за асенняй сяўбой* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Алесь увайшоў так ціха, што тыя нават не заўважылі яго за вялікаю спрэчкаю* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *За работай дзён не лічыла Марына* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

### Словазлучэнні з прыназоўнікамі *над, па-над*

§ 393. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *над* могуць выражаць прасторавыя і аб'ектныя адносіны, а словазлучэнні з прыназоўнікам *па-над* — толькі прасторавыя.

У словазлучэннях з *прасторавымі* адносінамі галоўнае слова — дзеяслоў называе рух або пэўнае іншае дзеянне, стан, працэс, а залежнае слова — прадмет, паверх якога, над якім гэта дзеянне, рух адбываецца: *узыходзіць над зямлёй, звісаць над рэчкай, спяваць над калыскай* і інш. Некаторыя з гэтых канструкцый змяшчаюць адценні аб'ектных значэнняў. *Над затокай плыў халодны туман* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Над мястэчкам уставала сонца* (Я. Брыль. Іржавая стрэмка). *Высока над вадою ляжаць гэтыя ярусы* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Па-над джунглямі стаяла ноч* (Я. Маўр. Незвычайная прынада). *Халодны дзень імжыць па-над сялом* (П. Трус. Трыпціх).

Заўвага. Пад уплывам размоўнага стылю ў мастацкіх творах пачатку XX ст. для выражэння прасторавых адносін зрэдку ўжываліся словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *над*. Такія словазлучэнні не з'яўляюцца літаратурнай нормай. Напрыклад: *Мы паляцім над Нёман сіні, над бор, ад князя ўжо свабодны* (Я. Купала. Якубу Коласу).

§ 394. У словазлучэннях з *аб'ектнымі* адносінамі ролю галоўнага слова звычайна выконваюць дзеясловы са значэннем думкі, дзейнасці, а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць прадметы ў якасці аб'ектаў думкі, працы: *задумацца над пытаннем, працаваць над дысертацыяй, сядзець над задачай* і інш. *Доўга думаў над доляй сваёю* (А. Куляшоў. Млынар). *Ён у гэты час працаваў над дыпломным праектам* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Сёння Ніна сядзіць над сшыткамі свайго чацвёртага класа* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*

§ 395. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пад* выражаюць прасторавыя, а таксама розныя іншыя акалічнасныя адносіны з указаннем на пэўныя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне, на спосаб, час, прычыну або ўмову дзеяння. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў маюць аб'ектнае значэнне.

Словазлучэнні, у якіх галоўнае слова абазначае пэўнае дзеянне, а залежнае слова — прадмет, пад якім або недалёка ад якога адбываецца дзеянне ці што-небудзь знаходзіцца, выражаюць *прасторавыя* адносіны: *ляжаць пад снегам, рухацца пад вадой, стаяць пад дрэвам, разысціся пад гарою, жыць пад Масквой.* Некаторыя з такіх канструкцый з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі: *жыць пад адной страхой, знаходзіцца пад самым носам* і інш. *Маленькія, хітраватыя вочкі хаваліся пад ілбом* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Перачакалі пад елкай грымотуяны* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Снег рыпеў пад нагамі* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *Начамі дзікія свінні ўзрывалі бульбу амаль пад вокнамі хаты* (Я. Брыль. Казачок). *Алеся дажынала палоску пад гаем* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Пад Арлом аскабалкам міны яго секанула ў плячо* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *У тую ноч разведка была на заданні пад самым бокам фашысцкага гарнізона* (Я. Брыль. Адзін дзень).

§ 396. Словазлучэнні, у якіх залежнае слова ўказвае на пэўныя *абставіны*, пры якіх што-небудзь адбываецца або пад уздзеянне якіх хто-небудзь ці што-небудзь трапляе, вызначаюцца семантычнай разнастайнасцю і могуць сумяшчаць у сабе адценні як аб'ектных, так і розных акалічнасных значэнняў — прасторавых, спосабу дзеяння, умовы, прычыны і г. д. *Ён ляжаў бы пад бурай цяпер, пад дажджом, пад маланкай той самаю, што пранізала змрок старой яліны незабыўным агнём* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Поле сумавала пад густымі вятрамі* (К. Чорны. Зямля). *Стаю, маўчу й дзіўлюся, як скалы крышацца пад вечнасцю вяс-*

*ны* (П. Трус. Гады бягуць...). *Абяззброіць і трымаць пад самым пільным арыштам!* (І. Шамякін. Браты). *Некалькі разоў салдаты спрабавалі пайсці ў атаку, але вымушаны былі спыніцца пад градам куль* (Я. Маўр. У цясніне).

У словазлучэннях з асабовымі назоўнікамі ў ролі залежнага слова пераважаюць аб'ектныя і часавыя значэнні: *Пад царамі, пад панамі мучыліся людзі,— у нядолі, у няволі чахлі, сохлі грудзі* (Я. Купала. Засвяціла ясна зорка...). *Я таксама нарадзіўся ў ланцугах пад царам* (Я. Купала. Тарасова доля).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад (прад)*

§ 397. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і прыназоўнікам *перад (прад)* выражаюць прасторавыя, аб'ектныя і часавыя адносіны.

У словазлучэннях з прасторавымі адносінамі галоўным словам абазначаецца пэўнае дзеянне, стан або працэс, а залежным словам — прадмет, перад якім адбываецца гэта дзеянне, стан: *прайсці перад трыбунай, стаяць перад карцінай, рассцілацца перад вокнамі* і інш. Такія словазлучэнні асабліва часта змяшчаюць у сабе адценні аб'ектных значэнняў. *Далей перад Андрэем пачынаўся лес* (Я. Колас. Малады дубок). *Перад акном у нас расцвітае чаромха* (Я. Брыль. У сям'і). *Аўтамат, як заўсёды, вісеў перад грудзьмі* (Я. Брыль. Адзін дзень). *І стаіць яна прад панам, як калінка тая* (Я. Купала. Бандароўна).

§ 398. У словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі галоўным словам абазначаецца дзеянне, а залежным словам — асоба або прадмет, у адносінах да якіх гэта дзеянне праяўляецца ці павінна праявіцца: *выканаць* [абавязак] *перад Радзімай, адказваць перад калектывам, пакланіцца перад памяццю* [героя] і інш. *І сыны адказ трымалі перад бацькам родным* (Я. Купала. Сыны). *Перад бацькам Мінаем станьце ўсе бацькі на калені!* (А. Куляшоў. Балада аб чатырох заложніках). *І перад ім паўставаў перажыты малюнак* (Б. Мікуліч. Дужасць).

§ 399. У словазлучэннях з часавымі адносінамі залежнае слова ўказвае на пэўны прамежак часу, перыяд, да наступлення якога адбываецца дзеянне: *прыехаць перад канікуламі, зайсці перад ад'ездам, сустракаць перад Новым годам* і інш. *Гэта сталася перад самай касавіцай* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Перад самым днём прыехаў Дзяніс Пляцінскі* (К. Чорны. Захар Зынга). *Ластаўкі перад сном кармілі птушанят* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Нават свежай вады не паспела прынесці перад адыходам у школу* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Перад вайной стары Селівей памёр* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж (між)*

§ 400. Дзеяслоўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *паміж (між)* могуць выражаць адносіны прасторавыя, аб'ектныя, сумеснасці, часавыя. Ролю залежнай часткі ў іх можа выконваць адзін назоўнік, звычайна ў множным ліку, або спалучэнне двух аднасклонавых назоўнікаў у адзіночным ці множным ліку, звязаных паміж сабою пры дапамозе злучніка *і*.

Словазлучэнні з прасторавымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння да прадметаў ці асоб, у прамежку паміж якімі або сярод якіх гэта дзеянне адбываецца: *стаяць між дрэвамі, праходзіць паміж будынкамі і агарожай, сядзець паміж братам і сястрой* і інш. Гэтыя словазлучэнні сінанімічны дзеяслоўным словазлучэнням з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *паміж (між)* (гл. § 340). *Паміж*

*бярвеннямі журчэла, пералівалася вада* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Між дзвярыма і другою сцяною прытулілася шафа* (Я. Колас. Школа). *Каваль Антон Рубановіч стаяў паміж натоўпам і сталом, за якім быў прэзідыум сходу* (К. Чорны. Звяга). *Кастусь сядзеў між ім і татам* (Я. Колас. Новая зямля). *Трудна, крыўдна жыць на свеце між нячулымі людзьмі* (Я. Купала. З людзьмі).

Заўвага. Пры пераносным ужыванні спалучальных слоў такія словазлучэнні могуць набываць устойлівае значэнне: *Вішу між небам і зямлёю* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

§ 401. Словазлучэнні з аб'ектнымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння да аб'ектаў, паміж якімі што-небудзь дзеліцца, робіцца выбар або праводзіцца размежаванне: *падзяліць* [набытак] *паміж сынамі, вагацца паміж выбарам* і інш. *Пасля пайшоў назад у маёнтак — дзяліць яго між усімі парабкамі* (К. Чорны. Спатканне). *Між надзеямі і роспаччу вагаўся Яхім* (Я. Колас. Царскія грошы). *Лавіруючы між сустрэчнымі машынамі, праехала назад вяртлявая эмка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Між іншымі кабетамі Марта ясна адрозніла Сымоніху* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 402. Словазлучэнні са значэннем сумеснасці выражаюць адносіны дзеяння да асоб або прадметаў, якія ўзаемадзейнічаюць паміж сабою: *Паміж групамі пачалося спаборніцтва* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *У суботу пад вечар між Юркам і крываносым Мікалаем Жыгунцом адбылася гаворка* (К. Чорны. Зямля). *І між марозам і вадою на гэтай рэчачцы зімою такія справы вынікаюць, што надта Костуся займаюць* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 403. Словазлучэнні з часавымі значэннямі выражаюць адносіны дзеяння да пэўных прамежкаў часу, паміж якімі гэта дзеянне адбываецца: *Яны сказалі Дробу, што Крамарчык прыдзе ў гэты парк паміж адзінаццатай і дванаццатай гадзінай ночы* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Глуха і рэдка стукаў тугі бубен, бразгаў паміж ударамі бляшачкамі і бомамі* (П. Галавач. Кара).

## Словазлучэнні са складанымі прыназоўнікамі

§ 404. Дзеяслоўныя словазлучэнні з творным склонам назоўніка і складанымі прыназоўнікамі могуць выражаць адносіны прасторавыя (*стаяць побач з маткай, ісці поруч з возам*), аб'ектныя (*рухацца ўслед за машынай, бегчы следам за камандзірам*), сумеснасці (*працаваць разам з сябрамі*), адпаведнасці (*перавыконваць* [нормы] *адпаведна з графікам*). *Ён таксама быў поруч з ёю* (Я. Скрыган. Наталя). *Побач з цялушкай, на вяроўцы, ідзе каза* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Услед за ёю павольна ішоў паравоз Т-219* (Х. Шынклер. Апошні рэйс). *Алесь прысеў з Рудаком следам за Якубам Панасавічам* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Разам з Паўлюком за пнём прытаіўся Мурза* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Яна* [думка] *умацоўвалася адпаведна з ростам тэхнікі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Заўвага. Некаторыя з названых груп словазлучэнняў сінанімічны адпаведным дзеяслоўным канструкцыям з родным (гл. § 342) або давальным (гл. § 349) склонам назоўнікаў.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З МЕСНЫМ СКЛОНАМ

§ 405. У дзеяслоўных словазлучэннях залежны назоўнік у форме меснага склону падпарадкоўваецца галоўнаму слову — дзеяслову пры дапамозе прыназоўнікаў *у (ва), на, па, пры, аб (аба), а.* Сярод кан-

струкцый з названымі прыназоўнікамі найбольшай семантычнай разнастайнасцю вызначаюцца словазлучэнні з прыназоўнікамі *у (ва), на.* Словазлучэнні з прыназоўнікамі *па, пры, аб, а* выражаюць параўнальна нешырокі круг сінтаксічных значэнняў, хоць і складаюць у цэлым прадуктыўныя тыпы дзеяслоўных канструкцый (за выключэннем словазлучэнняў з прыназоўнікам *а*).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *у(ва)*

§ 406. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у (ва)* выражаюць пераважна прасторавыя адносіны, радзей — аб'ектныя, а таксама розныя акалічнасныя з указаннем на спосаб дзеяння, час, умову і г. д.

У словазлучэннях, якія выражаюць прасторавыя адносіны, галоўнае слова — дзеяслоў абазначае пэўнае канкрэтнае дзеянне, рух, стан або працэс, а залежнае слова — месца (у прыватнасці, геаграфічныя назвы, прасторавыя прамежкі, масівы, назвы ўстаноў, арганізацый, калектыўных аб'яднанняў і г. д.), дзе адбываецца гэта дзеянне, або адлегласць, на якой знаходзіцца прадмет ад чаго-небудзь: *адпачываць у Крыме, сустрэць у Мінску, працаваць у вёсцы, заблудзіцца ў лесе, сустрэць у школе, пазнаёміцца ў арміі, пасадзіць* [самалёт] *у дзесяці метрах* [ад лініі] і інш. *Пасля іх часта пачалі бачыць разам у парку, у кіно* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Яны ўдвух сядзелі ў полі на мяжы* (К. Чорны. Зямля). *Стаіўшыся ў дзікім, густым лазняку, ён вуды свае закідае ў раку* (П. Глебка. Рыбак). *Усё гэта адбывалася ў калгасе* (Я. Колас. У чым іх сіла). *Цябе ў «Наднёмані» сустрэну камсамолкай, і ўславім песнямі пражытыя гады* (П. Трус. Ліст да сястры). *Армію Андрэй Былінскі адслужыў у аўтачасцях* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Бацька Марыі загінуў у партызанах* (М. Лынькоў. Джыавані). *Кроках у двух ад вартавога Макарка спыніўся* (Я. Колас. Макарка Навак).

§ 407. У словазлучэннях, якія выражаюць аб'ектныя адносіны, ролю галоўнага слова звычайна выконваюць дзеясловы са значэннем успрымання, валявога ці фізічнага ўздзеяння, праяўлення і г. д., а ролю залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць асоб або адцягненыя паняцці ў якасці аб'ектаў ускосна накіраванага на іх уздзеяння, успрымання: *адчуваць* [усхваляванасць] *у голасе, бачыць у чалавеку* [сябра], *дасягнуць* [поспехаў] *у вучобе, перамагаць у працы, разбірацца ў фактах, праяўляцца ў рухах.* Такія канструкцыі могуць заключаць у сабе адценні прасторавых, а нярэдка і абмежавальных значэнняў. *У голасе яго чуецца ласка* (Я. Колас. Называецца — зарабіў). *Нешта такое бачыў Алёша ў гэтых людзях* (К. Чорны. Бяздонне). *У ім пазнаў ён сына* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Галоўныя якасці, якія высока ставяцца ў чалавеку, гэта перш за ўсё працавітасць* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Стрымаў я гэта слова ў вучобе і ў рабоце* (П. Глебка. Прысяга). *І вучыцца Іцка, шпарка пасоўваецца ў навуцы наперад* (Х. Шынклер. Ічэ). *Нас не падолець у бітвах крывавых* (П. Глебка. Слава Кастрычніку). *Толькі ў справах гарачых куецца бяссмерце* (А. Куляшоў. Першамайская араторыя).

Да гэтай групы прымыкаюць таксама словазлучэнні з назоўнікамі, якімі абазначаюцца з'явы прыроды, пад уздзеяннем ці ў акружэнні якіх хто-небудзь ці што-небудзь знаходзіцца: *Сяло схавалася ў тумане, патух на вішнях сонцавей* (П. Трус. Развітанне). *Замест баціставых карунак ў расе скупаю каласы* (П. Трус. З паэмы

«Сірата Алеся»). *Хаты танулі ў зеляніне садоў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне з'яўляецца вынікам уплыву пэўных з'яў, што абазначаны залежным словам, змяшчаюць адценні прычынна-выніковых адносін: *Балоты жаўцелі ў хмурнасці сініх дзён* (К. Чорны. Зямля). *Бярозы ў шэрані сівеюць, палі бялеюць, як паркаль* (П. Глебка. Зіма).

§ 408. У словазлучэннях, якія выражаюць акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння, галоўнае слова называе пэўнае канкрэтнае дзеянне, стан, працэс, а залежнае слова ўказвае на спосаб, характар праяўлення дзеяння, на ўнутранае адчуванне асобы, стан і г. д.: *выкласці ў пісьмовай форме, прабегчы ў думках, жыць у згодзе, стаяць у роздуме* і інш. *Яны не любілі пераказваць у словах таго, што і так адчувалася кожным* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Фельдфебель стаяў у той жа скамянелай позе, як і раней* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Лепш памерці ў змаганні, чымсь жыць у няволі* (Ц. Гартны. На перагібе). *Цёмны лес апусціў у знямозе галлё* (П. Глебка. Матчыны казкі). *Жыві у радасці і шчасці, у яснай долі, слаўнай волі* (Я. Купала. Якубу Коласу). *Заснулі дрэвы ў пухавых аснежаных уборах* (П. Глебка. Навагодні тост). *Засядзецца ў дзяўчатах ёй тут не дадуць* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Заўвага. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў з'яўляюцца сэнсава непадзельнымі: *Зусім у іншым святле рысавалася зноў Наталя* (Я. Скрыган. Наталя). *Мы не засталіся ў даўгу перад матросамі* (М. Лынькоў. «Кацюша» ў акіяне).

§ 409. У словазлучэннях, якія выражаюць часавыя адносіны, галоўнае слова называе тое або іншае дзеянне, стан, адчуванне, а залежнае слова ўказвае на час, калі гэта дзеянне адбылося, або на прамежак часу, на працягу якога яно будзе адбывацца: *прыехаць у хуткім часе, пазнаёміцца ў школе, не згасаць у вяках* і інш. *У верасні трыццаць дзевятага года, калі прыйшлі нашы, надзялілі Івана зямлёй* (Я. Брыль. Гаспадар). *Пакахаў Тарас дзяўчыну ў дзяцінстве, рана* (Я. Купала. Тарасова доля). *Яны пажаніліся яшчэ ў інстытуце* (Я. Скрыган. Наталя). *І светлы воблік не пагасне, не згіне памяць у вяках* (П. Глебка. Вялікі сын народа).

§ 410. У словазлучэннях з умоўна-ўступальнымі значэннямі выражаюцца адносіны дзеяння да магчымасці яго праяўлення: *У такіх выпадках у ім абуджалася пачуццё адказнасці за другіх* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Ва ўсякім выпадку ён працаваў добрасумленна* (з газет).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *на*

§ 411. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *на* выражаюць пераважна прасторавыя адносіны, і толькі нязначная частка іх выражае аб'ектныя, часавыя і акалічнасныя адносіны спосабу дзеяння.

Словазлучэнні, якія выражаюць прасторавыя адносіны, складаюцца з дзеясловаў са значэннем канкрэтнага дзеяння, стану або працэсу і назоўнікаў, якія абазначаюць месца дзеяння — канкрэтныя назвы мясцовасцей, плошчаў, рэк, азёр, розныя прасторавыя прамежкі, масівы, установы, арганізацыі і г. д.: *сустрэцца на Беразіне, сеяць на тарфяніўшчы, чакаць на станцыі, прыехаць на курсы* і інш. *Аднойчы я адпачываў на Каўказе, у Хосце* (Я. Скрыган. Слепата). *Зашумела на Украіне песня Тарасова* (Я. Купала. Тарасова доля). *Кружыў вецер сухое лісце ў садзе і на агаро-*

*дзе* (К. Чорны. Зямля). *Бацька мой жыў на пятай будцы ад Пінска* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Агні мігцелі на вакзале* (П. Трус. Развітанне). *Тут спяць на ўзбярэжжы Дзвіны кутузаўскія ветэраны* (М. Танк. У Віцебску). *Навошта яна такое гаворыць на людзях* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

У радзе выпадкаў на месца, дзе адбываецца дзеянне, могуць указваць адцягненыя назоўнікі са значэннем працэсу, занятку, роду дзейнасці і г. д.: *Цвёрда трымаўся юнак на дапросе* (А. Куляшоў. Камсамольскі білет). *Муж яе трагічна загінуў на лесараспрацоўках* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Было гэта на начлезе* (Я. Колас. На начлезе).

§ 412. Словазлучэнні, якія выражаюць аб'ектныя адносіны, лексічна абмежаваны. Залежным словам у іх абазначаюцца прадметы або паняцці, на якіх што-небудзь засноўваецца, кладзецца адбітак або на якіх адбываецца дзеянне: *засноўвацца на інструкцыі, сказацца на аўтарытэце, пераканацца на фактах, ехаць на машыне* і інш. *Правапіс, як збор арфаграфічных норм, таксама павінен грунтавацца на законах агульнанароднай мовы* (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу). *А калі, часамі, і давядзецца крыху пацярпець — што ж: на горы жыць вучацца* (Ц. Гартны. На перагібе). *Лячэнне ў санаторыі станоўча адбілася на яго здароўі* (з газет). *Я ў бяскрайнасць імчуся на лёгкім кані* (П. Глебка. Матчыны казкі).

Заўвага. У словазлучэннях з дзеясловамі *сядзець, ляжаць, стаяць, вісець* і інш. пераважаюць значэнні аб'ектных адносін, калі залежнае слова — назоўнік абазначае адушаўлёных істот ці канкрэтныя прадметы ў якасці аб'ектаў апоры (*сядзець на кані, ляжаць на скамейцы, стаяць на пні, вісець на кручку*), або значэнні прасторавых адносін, калі залежнае слова абазначае месца, дзе адбываецца дзеянне, працэс ці дзе знаходзіцца прадмет (*сядзець на мяжы, ляжаць на пляжы, стаяць на ўзгорку, вісець на сцяне*).

§ 413. Словазлучэнні з часавымі адносінамі звычайна ўключаюць у свой склад назоўнікі са значэннем часу або звязаныя з паняццем часу, якія ўказваюць на тое, калі адбылося, адбываецца ці павінна адбыцца дзеянне, названае галоўным словам: *з'явіцца на прадвесні, заснуць на світанні, уставаць на золку, зраўняць* [лік] *на шостай мінуце, злавіць на першым слове* і інш. Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны. *Да Веры яна зайшла ўжо на змярканні* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Саша вярнулася амаль на світанні* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *На досвітку яны вярталіся з задання* (Я. Брыль. Адзін дзень). *На снеданні я зноў сустракаўся з Вераю* (Я. Скрыган. Слепата). *На дваццаць першым годзе аддаў Міша маладое жыццё* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі).

§ 414. Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі значэннямі спосабу дзеяння выражаюць адносіны дзеяння да спосабу яго ўтварэння, характару і інтэнсіўнасці праяўлення: *размаўляць на беларускай мове, трымаць на галодным пайку, стаяць на каленях, хадзіць на пратэзах* і інш. *Міхась увайшоў на мыліцах* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Прыемна было пагаварыць з гасцямі на іх мове* (там жа). *Дні прайшлі, адшалясцелі зоры на гарачых крыллях навальніц* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Яна неяк перамянілася на вачах* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза).

Сюды ж адносяцца некаторыя ўстойлівыя словазлучэнні: *Джыавані хадзіў на сёмым небе ад шчасця* (М. Лынькоў. Джыавані). *Трывога толькі за поспех задання, за лёс людзей, чыё жыццё вісіць на валаску* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

## Словазлучэнні з прыназоўнікам *па*

§ 415. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* выражаюць прасторавыя, аб'ектныя (нярэдка з адценнямі спосабу дзеяння, прыпадабнення або з абмежавальным адценнем), азначальна-акалічнасныя, часавыя адносіны. Некаторыя з гэтых словазлучэнняў як па форме залежнага слова, так і па значэнню супадаюць з адпаведнымі дзеяслоўнымі словазлучэннямі з давальным склонам назоўніка і прыназоўнікам *па* (гл. § 348).

Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі складаюць найбольш прадуктыўную групу дзеяслоўных канструкцый з прыназоўнікам *па*. Залежнае слова ў іх абазначае месца, дзе або па які бок чаго-небудзь адбываецца дзеянне ці што-небудзь знаходзіцца: *плысці па небе, туляцца па лесе, бегчы па вёсцы, глядзець па баках, размяшчацца па абодвух баках* [дарогі] і інш. *Санітары забіралі раненых, ходзячы па полі* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Доўга хадзіў ляснік па беразе* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Зранку Красуцкі разам з Пятром паехалі па сёлах* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Дымкі дружна ўспыхнулі скрозь па кустах* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамешку з маладымі хвоямі* (Я. Колас. Страшнае спатканне).

Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *па* набылі ўстойлівае значэнне: *Хопіць і мне па чужых кутках аціраццa* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Не ісці ж ім па нашых слядах, не патураць нам* (Ц. Гартны. На перагібе). *Увесь наш прывычны парадак механічнай работы пачаў трашчаць па ўсіх застаўках* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза).

Заўвага. У творах мастацкай літаратуры нярэдка замест формы меснага склону назоўніка (асабліва пры выражэнні прасторавых адносін) ужываецца форма давальнага склону гэтага ж назоўніка: *Плылі па небу сіне-чорныя хмаркі* (К. Чорны. Захар Зынга). *Мы па бурліваму мору вольна з адвагаю віхрым* (П. Трус. Пасля буры). *Гэтая чутка ў адзін міг разнеслася па тэхнікуму* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Так і стаяў, смеючыся над катам, доўга па целу сцякала вада* (А. Куляшоў. Камсамольскі білет).

§ 416. Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі ў залежнасці ад значэння спалучальных слоў падзяляюцца на некалькі груп: словазлучэнні, у якіх залежнае слова абазначае аб'ект уздзеяння, дакранання *(палопаць па плячы, барабаніць па стале, гладзіць па галаве)*; словазлучэнні, у якіх залежнае слова абазначае аб'ект думкі, разважання, унутранага адчування, перажывання, неспакою *(клапаціцца па дзецях, сумаваць па ўнуках, пагутарыць па праблемах)*; словазлучэнні, у якіх залежнае слова абазначае аб'ект распазнання, ацэнкі і г. д. *(адрозніць па адзенні, ацаніць па якасці)*; словазлучэнні, у якіх залежным словам абазначаецца аб'ект прыпадабнення *(пайсці па бацьку)*. *Хацеў са мною ў лесе быць, са мной з-за ціхіх дрэў па чорных крыллях біць* (А. Куляшоў. Глушцы). *Рудая плямка сунецца па снежнай нерушы, нібы строчыць па кужалі ўзор сваіх дробных слядоў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Я хацеў бы з вамі параіцца па адным пытанні* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Кандрат Даніламіч хвалявауся, непакоіўся па табе* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Нават па вопратцы, па нейкіх асаблівых позірках пазнаеш рабочых свайго завода* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Цаніць ты маеш права і недруга і друга па іх сапраўдных справах, па іх жывых заслугах* (П. Глебка. Прысяга). *Слаўны малы, і па дзеду пайшоў* (Я. Колас. Называецца — зарабіў).

§ 417. Словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі спосабу дзеяння колькасна абмежаваны. Залежнае слова ў іх абазначае спосаб утварэння дзеяння, парадак, паслядоўнасць яго ажыццяўлення, меру,

склад: *раскласці па частках, абмеркаваць па пунктах, выдаваць па чарзе, браць па парадку* і інш. *Пісьмо па парадку уголас чыталі* (А. Куляшоў. У дарозе). *Тым часам немцы па адным высыпалі на палянку і сталі паўзці* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Калі мы будзем маўчаць, то нас па частках скруцяць, як снапы* (Ц. Гартны. На перагібе).

Аднак асноўную групу складаюць словазлучэнні, у якіх указанне на спосаб дзеяння спалучаецца з указаннем на аб'ект як сродак, пры дапамозе якога ўтвараецца ці адбываецца дзеянне, названае галоўным словам: *апавясціць па тэлефоне, паведаміць па тэлеграфе, знайсці па слядах, зверыць па квітанцыях* і інш. *Ён гэта павінен зрабіць, а не зробіць па добрай волі, змушаны будзе зрабіць гэта па суду* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Да таго часу я ведаў Якуба Коласа і Тараса Гушчу толькі па кнігах* (Я. Скрыган. Надпіс на кнізе). *Шле нявеста па пошце маёру пакет* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Пятро пачуў гэтую навіну па радыё ў сельсавеце* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Я пяскамі прайшоў на ўсход, я па моры аб'ехаў Крым* (П. Глебка. Чатыры вятры).

§ 418. Словазлучэнні з часавымі значэннямі выражаюць адносіны да тэрміну, пасля заканчэння якога адбылося ці павінна адбыцца дзеянне, названае галоўным словам. Гэтыя словазлучэнні прадстаўлены ў беларускай мове нешырока. На іх месцы звычайна ўжываюцца сінанімічныя ім дзеяслоўныя словазлучэнні з родным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пасля* (*выехаць па снеданні — выехаць пасля снедання*, гл. § 341). *Госці павінны былі сабрацца па поўдні* (К. Чорны. Зямля). *Я казаў бы, зусім па нядзелі не йсці на работу* (П. Глебка. Крывавая нядзеля). *Прыляцяць сюды зноў жураўы па вясне* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Бандароўну хоць па смерці думае праславіць* (Я. Купала. Бандароўна).

Колькасна абмежаванымі з'яўляюцца таксама словазлучэнні, залежнае слова якіх указвае на меру, працягласць дзеяння: *Мама казала, што я па цэлай гадзіне тут некалі стаяла, пакуль яна пынілася каля хаты* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры*

§ 419. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *пры* могуць выражаць адносіны прасторавыя (нярэдка з адценнямі аб'ектных значэнняў), часавыя, абумоўленасці, а таксама акалічнасныя з указаннем на спосаб і на розныя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне.

Словазлучэнні, у якіх залежным словам абазначаецца прадмет, у непасрэднай блізкасці ад якога адбываецца дзеянне ці што-небудзь знаходзіцца, выражаюць прасторавыя адносіны: *спаткаць пры дарозе, спыніцца пры дзвярах, жыць пры лесе* і інш. *Маладая раслінка стаяла пры лесе ў полі* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Чужы і маўклівы, даўно ён ляжыць пры гасцінцы* (А. Куляшоў. Маці). *Мы з Быстровым і лейтэнантам засталіся пры машыне* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Яна сустрэнецца з Гарасімам пры выйсці з двара* (Ц. Гартны. На перагібе).

Гэтыя словазлучэнні могуць ускладняцца адценнямі аб'ектных значэнняў, калі залежнае слова ў іх абазначае асобу (калектыў), у якой хто-небудзь знаходзіцца на ўтрыманні, застаецца (не застаецца) на пэўны час або пры якой знаходзіцца пэўны прадмет: *Пры Сымоне я і жыву* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Каб не астацца пры немцах, маці пусцілася ў эвакуацыю* (Я. Скрыган. Наталя). *Кожны з іх меў пры сабе кошык* (Я. Маўр. Слёзы Тубі).

§ 420. Словазлучэнні, якія выражаюць часавыя адносіны, неадна-

родныя па значэнню. Залежнае слова ў іх можа абазначаць: асобу (групу асоб), пры жыцці або дзейнасці якой адбылося дзеянне, названае галоўным словам *(нарадзіцца пры цару)*, сацыяльны ўклад жыцця, дзяржаўны лад, у перыяд існавання якога адбылося ці адбываецца пэўнае дзеянне *(расквітнець пры Савецкай уладзе)*, з'явы, падзеі, у момант узнікнення, праяўлення якіх адбываецца дзеянне, працэс *(паведаміць пры сустрэчы, уставаць пры адказе)*. Некаторыя з гэтых канструкцый з'яўляюцца ўстойлівымі. *Хіба пры Пілсудскім бедны чалавек мог выбіцца ў людзі?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Зямлі пры панах ён меў пайгектара. Пры савецкай уладзе вольна ўздыхнула гэта зямля* (там жа). *Апошнія вазы забіралі ўжо пры святле месяца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І тое, што кожны раз пры сустрэчах яна вітаецца з ім неяк асабліва.., таксама нешта значыць* (Я. Скрыган. Наталя). *Мужчыны дзень пры дні выязджалі ў поле* (К. Чорны. Свята працы і свету).

§ 421. Словазлучэнні, у якіх названае галоўным словам дзеянне абумоўліваецца ў сваім узнікненні з'явамі, падзеямі, абазначанымі залежным словам, выражаюць адносіны абумоўленасці. У гэтых словазлучэннях могуць сумяшчацца значэнні ўмовы і ўступкі. *А ў рабоце на балоце немалая будзе помач, бо жанчына пры ахвоце не паддасца ўжо нікому* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *З даўніх пор кажуць: праца спорыцца пры песні* (К. Буйла. Заспявайце песню!). *Пры выпадку пускала ў ход сваю зброю* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Вецер сціх, не было каму круціць крыллі, хоць у апошнія часы пры добрым ветры стаялі яны нерухома, бо не было чаго малоць* (Я. Колас. Дачакаўся).

§ 422. Словазлучэнні, якія выражаюць акалічнасныя адносіны з указаннем на спосаб і абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне, вызначаюцца семантычнай разнастайнасцю. Яны могуць змяшчаць у сабе адценні прасторавых, часавых, прычынна-выніковых, умоўна-ўступальных значэнняў, а таксама заключаць указанне на занятак, стан, унутранае адчуванне і г. д.: *Рота стаяла, трымаючы стрэльбы пры назе* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Спаць ёй не хацелася, сядзець жа пры агні было ніякавата* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Твая дзяўчына пры кудзелі сляпіць не будзе ясных вочак* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...). *Іх дождж пры маланцы чытае ды з літар сцякае слязьмі* (А. Куляшоў. Балада пра вестку). *Недасачылі за ёю фашысцкія вочы, не захапілі пры лямпе яе апаўночы* (А. Куляшоў. Балада аб жывой газеце). *Мы галодную восень пры халоднай пагодзе сустракалі, як лепшую нашу вясну* (П. Глебка. Пра вайну і рэвалюцыю). *А дзядзька Максім гадоў, можа, трыццаць сядзеў пры баранку* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *А бацька не прыйшоў, бо быў зусім пры смерці* (П. Трус. Сцежкі).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб*

§ 423. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *аб* выражаюць аб'ектныя адносіны. У ролі галоўнага слова іх выступаюць дзеясловы са значэннем гутаркі, думкі, унутранага адчування, стану, а ў ролі залежнага слова — назоўнікі, якія абазначаюць аб'ект гутаркі, думкі, адчування: *разважаць аб сям'і, думаць аб працы, успамінаць аб падзеях, сумаваць аб палетках* і інш. *Мы так, як ніколі раней, гаварылі аб Міхале* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Ён усё думаў аб сваім жыцці, аб леснікоўай службе* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Васіль пайшоў і хутка забыўся аб усім гэтым* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

### Словазлучэнні з прыназоўнікам *а*

§ 424. Дзеяслоўныя словазлучэнні з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *а* выражаюць часавыя адносіны з указаннем на недакладны, прыблізны час дзеяння: *прыехаць а другой гадзіне* [ночы], *сабрацца а пятай гадзіне* [дня] і інш. Гэтыя словазлучэнні сінанімічны адпаведным дзеяслоўным канструкцыям з месным склонам назоўніка і прыназоўнікам *у* (*прыехаць у другой гадзіне* [ночы], гл. § 409). *Досвіткі пачынаюцца а трэцяй гадзіне* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Уставаў Андрэй Стронін а гадзіне адзінаццатай* (К. Чорны. Бяздонне). *Гадзіне а дзевятай Казімір варочаўся з партвучобы* (Я. Скрыган. Наталя). *Мы пайшлі у поле а вясне* (А. Куляшоў. Надзвычайнае сяброўства).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ДЗЕЯСЛОВАЎ З АТРЫБУТЫЎНЫМІ ЧАСЦІНАМІ МОВЫ

§ 425. Дзеяслоўныя словазлучэнні з прыметнікамі, дзеепрыметнікамі, парадкавымі лічэбнікамі, азначальнымі і ўказальнымі займеннікамі складаюць у цэлым прадуктыўны тып канструкцый. Яны выражаюць якасна-азначальныя адносіны з указаннем на тыя або іншыя прызнакі, якімі характарызуецца дзеянне, названае галоўным словам. Адметнай рысай словазлучэнняў з атрыбутыўнымі часцінамі мовы з'яўляецца тое, што амаль усе яны ўтвараюць сінтаксічна непадзельныя спалучэнні, якія ў сказе выконваюць функцыю састаўнога або складанага дзеяслоўнага ці іменнага выказніка. З галоўным словам — дзеясловам атрыбутыўныя часціны мовы знаходзяцца ў так званай сувязі цягацення (гл. § 3).

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫМЕТНІКАМІ І ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМІ

§ 426. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць прыметнікі або дзеепрыметнікі, выражаюць якасна-азначальныя адносіны з указаннем на характар праяўлення дзеяння, стан: *расці дужым, стаяць маўклівым, выглядаць узбуджаным* і інш. Некаторыя з такіх канструкцый могуць утвараць устойлівыя адзінкі мовы. *Дзень стаяў ясны, сонечны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Алесь варочаўся дахаты таксама занепакоены* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Рос ён дужым, вынослівым і ўпэўненым у сабе* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Яна выглядала ў змроку маленькай і лёгкай, як маладое дрэўца перад веснавым росквітам* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Цімошка ляжаў ні жывы, ні мёртвы* (Я. Колас. Чоран).

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПАРАДКАВЫМІ ЛІЧЭБНІКАМІ

§ 427. Словазлучэнні, у якіх у ролі залежнага слова выступаюць парадкавыя лічэбнікі, выражаюць азначальныя адносіны з указаннем на парадак, паслядоўнасць дзеяння: *з'явіцца першым, прыйсці трэцім* і інш. *Другім ішоў чалавек сярэдніх год* (М. Лынькоў. Чорная пляма). *Ты першая прывяла мяне на гэты завод* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З АЗНАЧАЛЬНЫМІ І УКАЗАЛЬНЫМІ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 428. Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць абагульнена-якасныя займеннікі *такі, гэтакі, увесь* і інш., выражаюць якасна-азначальныя адносіны з указаннем на меру, ступень або якасць праяўлення дзеяння, на шырыню ахопу дзеяннем пэўнага прадмета: *загарэць усяму, выступаць такім, застацца гэтакім* і інш. *Тут бой пайставай такім, якім быў у сапраўднасці* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Клянецца ён пад сонцам мірным быць гэткім, як яны ў атацы* (П. Панчанка. Гарніст іграе збор). *Ён пачырванеў увесь, убачыўшы непарадкі на ферме* (з газет).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ДЗЕЯСЛОВАЎ З МАРФАЛАГІЧНА НЯЗМЕННЫМІ СЛОВАМІ

§ 429. Дзеяслоўныя словазлучэнні з інфінітывам, прыслоўем і дзеепрыслоўем шырока прадстаўлены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Яны будуюцца ў адпаведнасці з правіламі прымыкання (гл. § 3). Паміж галоўным і залежным словамі гэтых канструкцый устанаўліваюцца розныя віды сінтаксічных адносін, якія абумоўліваюцца канкрэтнымі значэннямі спалучальных слоў.

### СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ІНФІНІТЫВАМ

§ 430. Адметнай рысай словазлучэнняў з інфінітывам з'яўляецца тое, што ў іх выражаюцца адносіны аднаго дзеяння, названага асабовай формай дзеяслова, да другога дзеяння, названага інфінітывам. У ролі канструктыўна вядучага слова ў іх звычайна выступаюць мадальныя дзеясловы са значэннем жадання, імкнення, магчымасці, неабходнасці, умення, здольнасці, адчування, волевыяўлення і г. д., дзеясловы з указаннем на пачатак, працяг або заканчэнне дзеяння, дзеясловы руху, а ў ролі залежнага слова — інфінітывы, якія абазначаюць канкрэтныя дзеянні, працэсы, стан. Па сваёй функцыі ў сказе інфінітыў можа быць суб'ектным, калі названае ім дзеянне ўтвараецца той жа асобай, што і дзеянне, названае асабовай формай дзеяслова, або аб'ектным, калі ўтваральнікамі дзеянняў, названых асабовай формай дзеяслова і інфінітывам, з'яўляюцца розныя асобы, параўн.: *вырашыў дапамагчы* (суб'ектны інфінітыў) — *прасіў дапамагчы* (аб'ектны інфінітыў).

Словазлучэнні з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах з агульным мадальным значэннем выражаюць адносіны дзеяння да магчымасці (немагчымасці), пажаданасці, намеру або неабходнасці яго ўтварэння (*умеў працаваць, не мог адказаць, здолеў выправіцца, хацеў прыйсці, імкнуўся растлумачыць, любіў пагаманіць, баяўся ступіць, вырашыў памаўчаць, згадзіўся прачытаць, пастанавіў даказаць*), пры дзеясловах тыпу *пачаць, закончыць, працягваць* — адносіны дзеяння да яго пачатку, заканчэння або працягу (*пачаў вучыцца, кончыў пісаць, перастаў смяяцца, працягваў жартаваць*), пры дзеясловах руху, стану — адносіны дзеяння да мэты, якой яно выклікаецца (*пайшоў паглядзець, прылёг падрамаць, сеў адпачыць*).

*Хлопчык умеў чытаць і не мог пісаць* (Я. Колас. Рыгорава памылка). *Яна спадзявалася знайсці мяне* (Я. Скрыган. Наталя). *Марына старалася гаварыць жартам* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *У яго і прыйшлося начаваць Максімку і Тодару* (К. Чорны. Максімка). *Я дастаў папяросы і вырашыў лепш памаўчаць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Рыгор мусіў ісці* (Ц. Гартны. На перагібе). *Неба на ўсходзе пачынала святлець* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Пераста-*

*ла зязюля* **к у в а ц ь** *у лясах да наступнага лета* (А. К у л я ш о ў. Алёнка). *П а д ы ш л а яна аднойчы нашы нормы п а г л я д з е ц ь* (П. Г л е б к а. Расказ цесляра). *І здаецца зноўку — е д у я дадому п е р а в е д а ц ь родных, блізкіх, дарагіх* (П. Т р у с. Дзесяты падмурак). *Юзік н а г н у ў с я над калыскаю п а з а б а ў л я ц ь* [малога] (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Словазлучэнні з аб'ектным інфінітывам пры дзеясловах са значэннем пабуджэння (дазволу, забароны) выражаюць адносіны дзеяння да волевыяўлення асобы (*прапанаваў прагуляцца, угаварыў выступіць, прасіў закусіць, прымусіў чакаць, абавязаў падрыхтавацца, не дазволіў увайсці, забараніў наведваць*), пры дзеясловах руху, пабуджэння — адносіны дзеяння да яго мэтанакіраванасці (*направіў апавясціць, паслаў пазнаёміцца, прывёў паказаць*), пры дзеясловах з канкрэтным значэннем — адносіны дзеяння да аб'екта (*падаў абедаць, прынёс курыць*).

*Афіцэр з а к а м а н д а в а ў ч а к а ц ь* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Доўг салдацкай дружбы п а т р а б а в а ў ад мяне н е с ц і параненага сябра* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Марыя Браніславайна п р а с і л а гасцей з а к у с в а ц ь* (К. К р а п і в а. Над ракой Арэсай). *Ён у г а в а р ы ў токара ў с т у п і ц ь змену і застаўся каля станка* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Незнаёмых, сынок, н а ч а в а ц ь н е п у с к а й* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Цяпер жа Алесі у вёсцы няма — у горад п а с л а л і в у ч ы ц ц а* (П. Г л е б к а. Герой і партызанка). *Маці п а с т а в і л а бацьку а б е д а ц ь* (Я. Б р ы л ь. У сям'і).

З а ў в а г а 1. Словазлучэнні з суб'ектным і аб'ектным інфінітывамі могуць структурна ўскладняцца, калі да першага інфінітыва, які непасрэдна залежыць ад асабовай формы дзеяслова, адносіцца другі, да другога — трэці і г. д. *Ён р а ш ы ў н а в у ч ы ц ц а п і с а ц ь сам* (Я. К о л а с. Рыгорава памылка). *З а б ы л а п р ы й с ц і п а а б е д а ц ь* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *Яны патупалі трохі каля сваіх вазоў і с т а л і з б і р а ц ц а е х а ц ь н а ч а в а ц ь у горад* (К. Ч о р н ы. Максімка). *Ён не с п о з н і ц ц а п р ы е х а ц ь п а к а з а ц ь нам кладку сцен* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Аднак Любе ўсё-такі ў д а л о с я ў г а в а р ы ц ь яго п а й с ц і па грыбы* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Яны а б я ц а ю ц ь н а в у ч ы ц ь Марыну добра ч ы т а ц ь і п і с а ц ь* (К. К р а п і в а. Пачатак шчасця).

З а ў в а г а 2. Словазлучэнні з суб'ектным і аб'ектным інфінітывамі, якія выражаюць мэтавыя адносіны, з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям і даданым акалічнасным сказам мэты са злучнікам *каб* і нярэдка могуць замяняцца апошнімі (*пайшоў правесці — пайшоў, каб правесці*): *Зося п а й ш л а за ім, к а б п р а в е с ц і* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Неўзабаве п р ы й ш о ў ён сюды, к а б а г л е д з е ц ь х а т к у* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам). *Логіка рэчаў в ы м а г а л а, к а б ён у з я ў с л о в а* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫСЛОЎЕМ

§ 431. Да дзеясловаў са значэннямі канкрэтнага дзеяння, стану, працэсу або адчування могуць прымыкаць акалічнасныя прыслоўі розных семантычных груп, якасна-акалічнасныя, якасныя і якасна-колькасныя прыслоўі. Характар адносін у такіх словазлучэннях вызначаецца канкрэтнымі значэннямі спалучальных слоў і ў першую чаргу значэннямі саміх прыслоўяў.

Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць акалічнасныя прыслоўі, могуць выражаць: п р а с т о р а в ы я адносіны з указаннем на месца, дзе адбываецца дзеянне, працэс (*праязджаць непадалёку, пражываць наводшыбе, квітнець навокал*), на кірунак дзеяння, руху і яго зыходны пункт (*рухацца наперад, вяртацца назад, павярнуць управа, узняцца ўвысь, апусціцца ўглыб, накіравацца дахаты, выехаць адсюль*), на пэўную мяжу дзеяння, руху, на яго канечны пункт (*прыехаць дасюль, апусціцца данізу, нагрузіць даверху*); ч а с а в ы я адносіны з указаннем на час, калі адбываецца дзеянне, на які намечана або як доўга яно працягваецца і як часта паўтараецца (*выехаць сёння, вярнуцца апаўночы, дамовіцца загадзя, адпачыць улетку, адкласці назаўтра,*

*прыходзіць штодзень, запомніць назаўсёды)*, на час, з якога пачынаецца дзеянне або да якога яно працягваецца *(ведаць здаўна, уставаць зранку, шумець спрадвеку, успамінаць дагэтуль)*; прычынныя адносіны з указаннем на прычыну або падставу, па якой адбываецца дзеянне *(сказаць спрасоння, забыць сторапу, не заўважыць чамусьці, загінуць нізавошта)*; мэтавыя адносіны з указаннем на тое, для чаго, з якой мэтай адбываецца дзеянне *(зрабіць назнарок, кашлянуць сумыслу, сказаць на смех)*.

*Дзе-ні дзе з перадранішняга змроку вынікалі вёскі* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Усё спявала навокал* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ён пацiснуў яе руку і знарана апусціўся побач* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Карчуюць нетру дзень у дзень уздоўж, ушыр, углыб* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Чалавек звярнуў з дарогі налева* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Адсюль, з лясной паляны, на бітву і ў разведку хадзілі партызаны* (М. Аўрамчык. Шляхамі дружбы). *Устаў Сцяпан Варанец яшчэ на цямочку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён завідна выйшаў на вуліцу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Доктара чакалі назаўтра* (К. Чорны. Будзем жыць). *Поўны месяц надоўга спыніўся над полем* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *А край падымаўся, пад зорамі рос, квітнеў штовясну небывала* (К. Буйла. Народны пясняр). *Змалку прывучыў яго бацька хадзіць каля зямлі* (Ц. Гартны. На перагібе). *Ён быў падобны не на мужчыну, а на свавольнага распуснага хлапчука, які здуру нарысаваў сабе сажай вусы і бараду* (А. Чарнышэвіч. Марцін Когут). *Спрасонку выцяўся аб рог вушака* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Прападзеш ты гэтак нізавошта* (П. Галавач. Дасужая). *А цяпер ён наўмысна стараўся не думаць пра гэта* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Агата моцна назнарок кашлянула і пачакала* (К. Чорны. Верасвёвыя ночы). *Аднойчы ён знарок пачакаў, пакуль яна выйдзе пасля работы* (Я. Скрыган. Наталя).

Словазлучэнні, у якіх ролю залежнага слова выконваюць якасныя, якасна-акалічнасныя і якасна-колькасныя прыслоўі, выражаюць азначальна-акалічнасныя адносіны з указаннем на якасць дзеяння *(працаваць аддана, выглядаць весела, вымаўляць гучна, гаварыць падобраму, выступіць смела, адзначыць урачыста, выканаць якасна)*, характар ці спосаб утварэння дзеяння *(ехаць вярхом, ісці маўчком, адзець навыварат, адчыніць насцеж, упасці ніцма, працаваць падзённа, глядзець спадылба, перайсці ўброд)*, на якасную характарыстыку дзеяння, якая праяўляецца шляхам яго параўнання, прыпадабнення *(імчацца віхрам, каціцца клубком, сядзець крукам, ляцець роем, ісці ступою, сустрэць па-брацку, адзецца па-святочнаму)*, на сумеснасць дзеяння *(выйсці ўдваіх, застацца ўтрох, прадаць оптам)*, на ступень інтэнсіўнасці дзеяння, на яго мяжу *(аддаць да астатку, адмыць дабяла, наесціся дасыта, спапяліць датла, зачыніць наглуха, нагуляцца ўволю, зруйнаваць ушчэнт)*, на меру дзеяння, яго колькасную характарыстыку *(вельмі ўзрадавацца, надта старацца, многа працаваць, мала чытаць, крыху адпачыць, ледзь устаць, чуць-чуць паздаравець, зусім аслабець, павялічыць удвая, паменшыць учэцвера)*.

*Слаўна адчуваецца блізкая восень* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *За акном прарэзліва і няўмела заспяваў малады певень* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Начлежнікі ехалі шумна* (Я. Колас. На начлезе). *Лена глядзіць на мяне і неяк загадкава ўсміхаецца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Над нівай вясёлыя птушкі па-іншаму песні запелі* (Я. Купала. Дзе крыўда адвечная спела). *Пагаворым па-братняму, шчыра!* (П. Трус. Брату). *Пятро ўподбег кінуўся ў сад* (І. Шамякін. Трывож-

нае шчасце). *Галас кінуўся да мяне кулём* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Казімір ішоў дахаты паволі-паволі* (Я. Скрыган. Наталя). *Сёмку не вельмі хацелася абедаць* (Ц. Гартны. На перагібе). *Свае сілы мы двойчы і тройчы памножым* (А. Куляшоў. Першамайская араторыя).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕМ

§ 432. Дзеяслоўныя словазлучэнні з дзеепрыслоўем выражаюць акалічнасныя адносіны з указаннем на характар або стан праяўлення дзеяння, на яго інтэнсіўнасць, якасную ацэнку: *ісці размахваючы, паўзці прыслухоўваючыся, бегчы аглядаючыся*. Сюды ж адносяцца ўстойлівыя спалучэнні тыпу *глядзець не адрываючы вачэй, працаваць не шкадуючы сіл, стаяць панурыўшы галаву, ісці не чуючы пад сабою ног*.

*Ішлі працягнуўшы рукі — згіналі жыта — і гутарылі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Людзі слухалі юнака стаіўшы дыханне* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Мы не можам сядзець злажыўшы рукі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Яны працавалі не пакладаючы рук* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Я ж маўчаў сцяўшы зубы і ад злосці, і ад болю* (А. Якімовіч. За адной партай).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫСЛОЎЕМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА СЛОВА

§ 433. Словазлучэнні з прыслоўем у ролі галоўнага слова значна менш багатыя і менш разнастайныя ў параўнанні з іншымі відамі словазлучэнняў. Да прыслоўяў могуць прымыкаць толькі прыслоўі і назоўнікі (а таксама займеннікі) з прыназоўнікамі. І толькі якасныя прыслоўі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання і адзінкавыя якасна-акалічнасныя прыслоўі могуць кіраваць назоўнікамі ці займеннікамі.

У залежнасці ад значэння і граматычнага афармлення кампанентаў словазлучэнні з прыслоўямі ў ролі галоўнага слова структурна падзяляюцца на рад груп. Найбольш чотка вылучаюцца дзве вялікія групы: словазлучэнні «прыслоўе + прыслоўе» і словазлучэнні «прыслоўе + назоўнік». Трэцяя група, нешматлікая па колькасці тыпаў,— «прыслоўе + займеннік» — структурна паўтарае некаторыя мадэлі словазлучэнняў прыслоўя з назоўнікам.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫСЛОЎЯ З ПРЫСЛОЎЕМ

§ 434. Якасныя прыслоўі ў ролі галоўнага слова могуць спалучацца з якаснымі (у тым ліку і з падгрупай якасных — колькаснымі), якасна-акалічнаснымі і акалічнаснымі прыслоўямі.

1. Словазлучэнні, якія ўтвараюцца ад спалучэння якаснага прыслоўя з колькасным, у сучаснай мове сустракаюцца даволі часта, прычым найбольш пашыраны з іх тыя, дзе ў ролі галоўнага слова выступае якаснае адпрыметнікавае прыслоўе ў форме «нулявой» ступені параўнання. Такія словазлучэнні выражаюць якасна-акалічнасныя адносіны: галоўнае слова — прыслоўе называе акалічнасны прызнак, а залежнае слова абазначае меру, ступень або інтэнсіўнасць праяўлення гэтага прызнака: *амаль спакойна, гэтак удала, даволі лагічна, досыць спраўна, залішне пранізліва, зусім зразумела, занадта іранічна, колькі-небудзь грунтоўна, так сурова, напалавіну нядбала, крыху мнагаслоўна, незвычайна яскрава, надзвычайна ціха* і інш. *Ці не занадта бегла я прагортваю гэтыя тамы?* (Я. Скрыган. Дакументальная рэвізія). *Вяс-*

*койцы не* *л і ш н е ў п а р т а* *абаранялі загадчыка* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Час пасоўваўся н е з в ы ч а й н а х у т к а, — і ў дні ваенныя, і потым, пасля вайны* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

У якасці галоўнага слова можа выступаць любое якаснае прыслоўе, а ў якасці залежнага слова — пераважна прыслоўі з прамым колькасным значэннем (*амаль, трохі, крыху, напалавіну, колькі-небудзь, даволі, досыць, лішне, залішне, зусім, занадта,* а таксама *так, гэтак*[1]). Калі ж прыслоўе іншай семантычнай групы пераносна набывае колькаснае значэнне, тады і такое прыслоўе можа спалучацца з якаснымі прыслоўямі: *асабліва ўважліва, на дзіва спакойна, страшэнна пагана, бясконца галасна, праз меру доўга, далёка не абыякава*[2] і нават *як можна спакойна, як ніколі нецярпліва* і інш., дзе ў ролі колькаснага прыслоўя можа выступаць несвабоднае словазлучэнне: *Камандзір агледнуўся на Зайцава. Той выняў з-за пояса дзве гранаты і вяртлява, але н а р э д к а с ц ь х у т к а папоўз да бронемашыны* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *Цяпер чакаў ён сустрэчу я к н і к о л і н е ц я р п л і в а, можа таму, што так многа перажыў за гэтыя горкія дні* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Некаторыя прыслоўі, што часта выступаюць у функцыі залежнага слова, утвараюць з галоўным словам — прыслоўем даволі цеснае адзінства, якое набліжаецца да аналітычнай формы вышэйшай або найвышэйшай ступені параўнання ці формы непаўнаты прызнака, параўн.: *зусім неправамерна, зусім беспадстаўна, зусім натуральна, зусім роспачна; занадта шырока, занадта іранічна, занадта бегла; даволі часта, даволі ярка, даволі ўдала; досыць неахайна* і інш. *«Заспявай, Лідачка»,—гавару я з у с і м м і ж в о л ь н а* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Ён разважаў д а в о л і л а г і ч н а* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *А вось работу Ашчэпкавай я браў на слых д о с ы ц ь с п р а ў н а* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця).

У разглядаемых словазлучэннях колькаснае прыслоўе — залежнае слова звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі, перад галоўным словам — якасным прыслоўем. Гэты прамы парадак слоў можа парушацца: *лётна так, хітра так, неўспадзеў зусім, залішне трохі, аднастайна бясконца.* Такое інверсійнае ўжыванне характэрна для паэзіі: *Будзь гатоў ты, ваяка малы, ці то рана, ці позна! Л ё т н а т а к, як арлы-сакалы, не чакаючы слоў ад прынукі пагрознай, будзь гатоў!* (Я. К у п а л а. Піянерскае). *Аднаго так разу, н е ў с п а д з е ў з у с і м, адляцела дошка, гакнула па ім* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай). *А д н а с т а й н а б я с к о н ц а шалясцяць сітнягі* (П. Г л е б к а. Партызаны).

Паколькі ў групу якасных прыслоўяў уваходзіць і падгрупа колькасных, то магчымы выпадкі, калі ў ролі галоўнага слова выступае к о л ь к а с н а е прыслоўе, а да яго прымыкае залежнае слова — таксама колькаснае прыслоўе: *так мала, так многа, роўна ўдвая, зусім трохі, зусім крышачку* і інш.: *Аратыя а м а л ь у т р а я норму сваю выгналі* (К. Ч о р н ы. Лета).

У сказах з двума і больш аднароднымі якаснымі прыслоўямі залежнае колькаснае прыслоўе можа ўжывацца або пры кожным з іх, або толькі пры першым: *Зрабіў ён т а к м н о г а і т а к яшчэ м а л а!* (А. Б я л е в і ч. Дэлегат з Палесся). *Тут зранку было н а д з і в а с п а к о й н а і м і р н а* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *З імі французскія педагогі абыходзяцца н а д з в ы ч а й л а г о д н а, д а л і к а т н а і м я к к а* (З. Б я д у л я. Салавей).

---

[1] Прыслоўі *так, гэтак*, якія выступаюць у якасці залежнага слова пры галоўным слове — якасным прыслоўі, набліжаюцца па сваёй функцыі да ўзмацняльных часціц: *так горка, так сурова, гэтак трапна, гэтак маркотна* і інш.

[2] Прыслоўе з пераносным колькасным значэннем *далёка* можа ўступаць у сувязь толькі з такімі якаснымі прыслоўямі (галоўнымі словамі словазлучэння), якія маюць адмоўе *не: далёка не поўна, далёка не падрабязна, далёка не весела* і інш.

З а ў в а г а. У ролі прыслоўяў, як вядома, ужываюцца несвабодныя словазлучэнні колькасных прыслоўяў *чуць, ледзь, ледзьве* і інш. (як слоў залежных) з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі *чутно (чутна)*[1], *відно, бачна, улоўна, заметна, прыметна (прыкметна)* і інш. (*ледзь бачна, ледзьве чутна, чуць прыметна, ледзь прыкметна*): *Агонь баязліва дрыжаў, і ч у ц ь з а м е т н а скакаў і пераліваўся змрок па сцяне* (Я. К о л а с. Васіль Чурыла). *Валіны грудзі зыбаюцца л е д з ь-л е д з ь у л о ў н а для маіх вачэй, а ўсё ж за кожным іх уздымам нарастае ў душы маёй вера* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Вецярок прыдарожную грушу л е д з ь в е ч у т н а варуша-калыша, міла бомы смяюцца у цішы, ціха срэбрам грукае крыніца* (М. Б а г д а н о в і ч. Добрай ночы, зара-зараніца!).

2. Якасныя прыслоўі ў форме вышэйшай ступені параўнання, выступаючы ў ролі галоўнага слова словазлучэння, могуць таксама спалучацца з колькаснымі прыслоўямі. Такія словазлучэнні характарызуюцца а з н а ч а л ь н а-к о л ь к а с н ы м і адносінамі: *мала ніжэй, непараўнальна больш, учэцвера даражэй* і інш., а таксама *як мага хутчэй, як можна шырэй* і інш. *І нарэшце, Настачка, знайсці кватэру м н о г а ц я ж э й, чым, скажам, свядомую жонку* (Я. К о л а с. Адукацыя). *У хаце было ціха. Усе стараліся трымаць сябе я к м о ж н а п р ы с т о й н е й* (Я. К о л а с. Калядны вечар).

Сюды ж адносяцца і словазлучэнні якасных прыслоўяў у форме вышэйшай ступені параўнання (у ролі галоўнага слова) з прыслоўямі *ўсё* і *яшчэ*[2]. Апошнія ўказваюць на паступовае нарастанне прызнака, выражанага галоўным словам, або на праяўленне яго ў большай меры: *Заскрыпеў снег сыпучы пад маімі нагамі, і марозам калючым твар пякло ў с ё к р а п ч э й* (М. Б а г д а н о в і ч. Мне снілася). *Конь я ш ч э г о р ш пайшоў* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Як і ў папярэднім тыпе словазлучэнняў, залежныя прыслоўі *ўсё, яшчэ* могуць адносіцца або да кожнага з аднародных галоўных слоў, або толькі да першага з іх: *Я голас твой у с ё г л ы б е й, у с ё с т а р а н н е й хаваў у памяці сваёй* (П. П а н ч а н к а. Я прысягаў не раз, не двойчы...). *А дарога мая чуць віднаю шэраю ніткаю ідзе ў с ё д а л е й і д а л е й* (Я. К о л а с. Думкі ў дарозе). *Дык ідзі ж, мая краіна, гулкай, светлай хваляй, узнімайся ў верхавіны я ш ч э в ы ш а й, д а л е й* (Я. К о л а с. Савецкай Беларусі).

У словазлучэннях гэтага тыпу залежнае слова заўсёды стаіць у прэпазіцыі да галоўнага; інверсійны парадак часта зусім немагчымы, калі ж такія выпадкі і сустракаюцца, то яны кваліфікуюцца як рэзкае адхіленне ад нормы.

3. Якасныя прыслоўі ў ролі галоўнага слова, спалучаючыся з іншымі якаснымі прыслоўямі, утвараюць словазлучэнні, у якіх выражаюцца ў л а с н а а з н а ч а л ь н ы я адносіны: *падкрэслена сурова, непаўторна міла, баязліва шпарка, кампазіцыйна проста* і інш. *«Для добрага суседа хіба можа быць перашкодаю дрэннае надвор'е?»—п а д к р э с л е н а в е т л і в а і з прытоенаю насмешкаю запытаў Лабановіч* (Я. К о л а с. На ростанях). *Я вас прывітаю, як друг і таварыш, а д н о л ь к а в а р о ў н а ўсміхнуся усім* (П. Г л е б к а. Ад шчырага сэрца). *Сюжэт апавядання «Астап» пабудаваны к а м п а з і ц ы й н а п р о с т а і стройна* (У. А г і е в і ч. Творчасць Міхася Лынькова).

З прыкладаў відаць, што залежнае слова, паясняючы галоўнае, паказвае на адзін з магчымых бакоў праяўлення яго значэння.

Можа быць і так, што і залежнае і галоўнае словы характарызуюць прызнак амаль што з аднаго боку. У такім разе яны настолькі збліжаюцца, што ўспрымаюцца як адно складанае прыслоўе: *А стрэл апошні яшчэ не хутка, а кулі свішчуць з л а в е с н а ж у д к а* (Я. К у п а л а.

---

[1] Выключэнне складаюць такія прыклады прыслоўнага ўжывання адзначаных слоў, як *Прысеўшы паблізу пад лапкай яліны, сачыла добрымі, пяшчотнымі вачыма, як ён прагна еў хлеб з салам, як, ч у т н а каўтаючы, ускінуўшы зашчаціне́ны падбародак, запіваў вадою з пляшкі, якую яна таксама прынесла* (І. М е л е ж. Край, які любіш).

[2] Дарэчы, гэтыя прыслоўі таксама ўжо стаяць на мяжы пераходу ва ўзмацняльныя часціцы (гл. спасылку на стар. 234).

Пераклад В. Бранеўскага. Парыжская камуна). *Актор на сцэне ўсё робіць проста, натуральна, жыццёва перакана́ўча* (А. Бутакоў. Рэжысура і акторская моладзь).

Парадак слоў у словазлучэннях гэтага тыпу такі ж, як і ў папярэдніх (гл. § 434, п. 2): залежнае слова знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага. Інверсійны парадак магчымы, але надзвычайна рэдка ўжываецца, таму што ён можа прывесці да ўспрыняцця залежнага слова ў якасці галоўнага, параўн.: *Часта бывае так, што драматургу пакажуць на слова або на фразу і гавораць хоць бы так: тут слова дрэнна гучыць, або: тут сінтаксічна дрэнна сказ пабудаваны* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію).

Да гэтага ж тыпу адносяцца і словазлучэнні з залежнымі прыслоўямі *неяк (нейк, неяксьці), яксьці*, якія ўносяць у значэнне ўсяго словазлучэння адценне няпэўнасці: *неяк вусцішна, неяк вельмі сумна, яксьці пагардліва* і інш. *Даруйце, выйшла неяк недарэчна* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *А Лена глядзіць на мяне і неяк загадкава ўсміхаецца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

4. Да якасных прыслоўяў, што выступаюць у ролі галоўнага слова словазлучэння, могуць прымыкаць і некаторыя якасна-акалічнасныя прыслоўі (асабліва са значэннем параўнання ці прыпадабнення). У такіх канструкцыях і выражаюцца азначальныя адносіны з дадатковымі адценнямі параўнання ці прыпадабнення: *па-свойму ціха, па-маладому неразумна, па-гаспадарску задаволена, па-капралску хлёстка, пахатняму люба, па-блазенску непрадумана, па-сапраўднаму заможна, без прывычкі няўдала, па-дзіцячаму даверліва, мастацкі ярка* і інш. *Па-святочнаму ўрачыста люд наш вольны пахаджае* (Я. Купала. З Першым маем). *У хаце чытаў за сталом Аржанец, і яны па-ўчарашняму асцярожна шапталі, спрачаліся* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Сонца па-ранейшаму няспынна пасылае стрэлы па зямлі* (П. Броўка. Канец лета).

Залежнае слова ў такіх словазлучэннях размяшчаецца зноў-такі перад галоўным, хоць выпадкі адваротнага парадку слоў могуць таксама зрэдку сустракацца: *Стала на момант непрыемна, беспрытульна па-даўняму* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У тых выпадках, калі галоўныя словы выступаюць як аднародныя, залежнае слова ўжываецца звычайна перад першым з іх, не паўтараючыся перад іншымі: *Вялікія светла-блакітныя вочы глядзелі па-дзіцячаму даверліва, наіўна* (Я. Брыль. Ты — мой найлепшы друг).

5. Акалічнасныя прыслоўі ў якасці залежных слоў прымыкаюць да якасных прыслоўяў надзвычай рэдка. Тут магчымы толькі словазлучэнні якасных прыслоўяў з некаторымі мэтавымі прыслоўямі: *назнарок спакойна, знарочыста хутка, сумыслу голасна* і некаторыя іншыя. Звычайным парадкам слоў у такіх словазлучэннях з'яўляецца размяшчэнне залежнага слова перад галоўным.

§ 435. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў ролі галоўнага слова могуць спалучацца з якаснымі (у тым ліку і з колькаснымі), якасна-акалічнаснымі і акалічнаснымі прыслоўямі.

1. Якасныя прыслоўі (звычайна са значэннем параўнання або прыпадабнення), прымыкаючы да якасна-акалічнасных, утвараюць словазлучэнні з уласна азначальнымі адносінамі: *роблена па-старыкоўску, неяк па-іначшаму, нейк раптам, таксама пагардліва* і інш. *Сеў за стол грузна, цяжка і роблена па-старыкоўску «эхнуў»* (З. Бядуля. Салавей). *Скуратовіч таксама пагардліва, але паслушна сцебануў каня* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Залежнае слова ў такіх словазлучэннях размяшчаецца, як правіла, перад галоўным.

2. Асноўнае значэнне азначальных адносін паміж кампанентамі захоўваецца і ў спалучэннях якасна-акалічнасных прыслоўяў з колькаснымі прыслоўямі: *крыху нараспеў, трохі наўзбоч, вельмі затанна, вельмі адразу, амаль усутыч, зусім па-летняму* і інш. *На ёй было лёгкае футра; зімняя шапачка, надзетая крыху набок, вельмі ішла да яе твару* (Я. Колас. У палескай глушы). *Снежныя камары падалі ўніз трохі наўскос заільдзянелымі хвілінамі вячэрняга часу* (З. Бядуля. Салавей). *Работу я дастаў, і мы пражывём не вельмі гаруючы* (К. Чорны. Зямля).

Надзвычай часта ў ролі залежнага слова выступаюць прыслоўі *зусім* і *крыху (трохі): зусім па-хатняму, зусім па-рыцарску, зусім па-гарадскому, зусім па-дзіцячаму, крыху па-інакшаму, трохі наўскасяк* і інш.

Звычайны парадак слоў — размяшчэнне залежнага слова перад галоўным.

У ролі галоўнага слова ў такіх словазлучэннях могуць выступаць толькі тыя якасна-акалічнасныя прыслоўі, якія называюць дынамічны прызнак (г. зн. прызнак, які можа праяўляцца ў пэўнай меры ці ступені): *моўчкі, наўскасяк, бягом, спадылба, цішком, набакір, ступою, па-брацку, па-народнаму, па-ранейшаму, па-салдацку, па-суседску* і інш. І наадварот, такія прыслоўі, як *надвае, насцеж, ніц, уброд,* звычайна не спалучаюцца з колькаснымі прыслоўямі, таму што іх лексічнае значэнне — не дынамічны прызнак, а статычны.

3. Якасна-акалічнаснае прыслоўе ў ролі залежнага слова вельмі рэдка можа прымыкаць да другога якасна-акалічнаснага прыслоўя — галоўнага слова. Адносіны паміж кампанентамі ў такіх словазлучэннях застаюцца азначальнымі: *Танкісты — большасць з іх афіцэры — цэлымі днямі займаліся «пеша па-танкаваму» і страявой падрыхтоўкай* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Здавалася, што нават і страха яго служыць па-заліхвацку набакір* (К. Чорны. Мураваны скляпок). Парадак слоў у такіх словазлучэннях адносна свабодны.

4. Надзвычай рэдкімі з'яўляюцца і выпадкі прымыкання акалічнасных прыслоўяў да прыслоўяў якасна-акалічнасных. Гэта назіраецца толькі тады, калі якасна-акалічнаснае прыслоўе мае аддзеяслоўнае паходжанне *(ідучы, едучы, бегучы* і інш.). У ролі залежнага слова ўжываецца прыслоўе месца: *Тады заязджайце назад едучы* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

§ 436. Акалічнасныя прыслоўі ў ролі галоўнага слова выступаюць наогул нячаста; больш-менш ужывальнымі ў гэтай функцыі з'яўляюцца толькі прыслоўі месца і часу. Акалічнасныя ж прыслоўі прычыны і мэты спалучаюцца з іншымі прыслоўямі надзвычай рэдка. У ролі залежнага слова пры акалічнасных прыслоўях могуць выступаць як акалічнасныя, так і якасныя (у прыватнасці, колькасныя) прыслоўі.

У адпаведнасці з гэтым вылучаецца некалькі тыпаў словазлучэнняў: прыслоўі месца (галоўнае слова) з прыслоўямі месца і з якаснымі прыслоўямі; прыслоўі часу з прыслоўямі часу і таксама з якаснымі прыслоўямі; нарэшце, прыслоўі прычыны і мэты з якаснымі прыслоўямі.

1. Акалічнасныя прыслоўі месца, уступаючы ў сувязь з прыслоўямі такога ж значэння, утвараюць словазлучэнні, у якіх паміж кампанентамі ўстанаўліваюцца прасторавыя адносіны: *недзе далёка, там наперадзе, зблізку адсюль, далёка ззаду, высока ўгару* і інш.

У адпаведнасці са значэннем прыслоўяў, што выступаюць у ролі галоўнага і залежнага слоў, словазлучэнні гэтага тыпу падзяляюцца на пяць падтыпаў:

а) галоўнае слова абазначае канкрэтнае месца або канкрэтны напрамак *(далёка, далей, там, зводдалек, убок, уніз, знізу)*, а залежнае — няпэўнае ўказанне на месца або напрамак *(недзе, дзесь, дзесьці, аднекуль, кудысь, некуды* і інш.). Характэрна, што і галоўнае і залежнае

прыслоўі абавязкова павінны мець аднолькавую разнавіднасць агульнага прасторавага значэння (або чыста лакальнае, або ўказанне на кірунак руху адкуль-небудзь, або ўказанне на кірунак руху куды-небудзь): *недзе далей, недзе там, дзесьці далёка, дзе-небудзь адзаду, аднекуль зводдалек, некуды ўніз* і інш. *А недзе далёка у цёплым тумане засыўна гудуць цягнікі* (П. Панчанка. Сабе і другім). *Дзесь далёка неба свеціцца ў агні* (Я. Колас. Засада). *Пеючы, Ніна пазірала кудысь убок* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Залежнае слова ў такіх словазлучэннях стаіць перад галоўным, інверсія наглядаецца рэдка. У выпадку інверсіі тактавы націск застаецца на галоўным слове [1]. Словазлучэнні такога роду могуць разрывацца рознымі словамі — членамі іншых словазлучэнняў, інверсійна пабудаваных; гэта наглядаецца, напрыклад, у мове паэзіі: *Пагасла дзесь сонца далёка, і толькі праменні ўгары узняты, як рукі прарока, і дрэвы змыкаюць шатры* (Я. Колас. Салар).

б) Галоўнае слова — займеннікавае прыслоўе, якое мае значэнне шырокага ўказання на месца або напрамак *(там, тут, туды)*, а залежнае слова ў пэўнай меры канкрэтызуе гэта ўказанне на месца або напрамак *(наперадзе, непадалёку, паблізу, назад)*. У гэтым падтыпе галоўнае і залежнае прыслоўі таксама адносяцца да адной і той жа разнавіднасці прасторавага значэння: *там угары, тут непадалёку, туды назад* і інш. *Раптам там наперадзе, куды падышоў эшалон, грукнулі гарматы, пасля яшчэ, яшчэ з перапынкамі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Рыгор Чуйка цяпер, здаецца, зараз будзе тут поблізу* (там жа).

Прамым парадкам слоў у такіх словазлучэннях лічыцца размяшчэнне залежнага слова пасля галоўнага. Інверсія ў гэтым падтыпе немагчыма.

в) Галоўнае слова — прыслоўе месца, якое канкрэтна ўказвае на месца дзеяння або на кірунак руху *(далёка, угару, зблізку)*, а залежнае слова — прыслоўе займеннікавага паходжання *(адгэтуль, адтуль, адсюль* і інш.) з указаннем кірунку, у якім адбываецца рух (дзеянне), характарызуемы прыслоўем — галоўным словам. Абавязковага супадзення разнавіднасцей прасторавага значэння ў галоўным і залежным словах тут не наглядаецца, параўн.: *недалёка адсюль, угару адгэтуль, назад адтуль* і інш. *Вы недзе, значыцца, зблізку адсюль?* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *«Дык вы мясцовы?» — «З непадалёку адсюль»* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

Галоўнае слова ў такіх словазлучэннях стаіць перад залежным і мае тактавы націск. Аднак даволі часта ўжываецца і інверсія, хоць тактавы націск застаецца на галоўным слове. *Адсюль далёка Каспій* (А. Астрэйка. Каспійка). *Вось бераг Нёмана. Вярсты дзве адгэтуль угару пакідаў Андрэй дубкі* (Я. Колас. Малады дубок).

г) Галоўнае слова — прыслоўе месца, якое паказвае на кірунак руху ад пэўнага месца, а залежнае —кірунак руху ў пэўным напрамку: *знізу ўверх, злева направа* і інш. *Потым лёгка па дрэвах, па шурпатай кары пройдуць справа налева і замоўкнуць вятры* (П. Глебка. Партызаны).

д) Галоўнае слова — прыслоўе са значэннем месца або кірунку *(наперадзе, ззаду, угару, наперад)*, а залежнае — прыслоўе месца, якое пераносна можа набываць колькаснае значэнне (*высока, глыбока, далёка*): *далёка наперад, далёка ззаду, глыбока ўнізе, высока ўверсе* і інш. *Неўзабаве ён пачаў заўважаць, што далёка наперадзе раскалыхваюцца ў павольнай хадзе дзве чалавечыя постаці* (К. Чорны. Люба

[1] Акцэнтуацыйная характарыстыка тыпаў (і падтыпаў) словазлучэнняў даецца толькі ў тым выпадку, калі месца тактавага націску з'яўляецца фіксіраваным і не залежыць ад іншых прычын.

Лук'янская). *Высока ўгору стрэлы ўзняў сталёвых кранаў бор* (А. Астрэйка. На беразе мора).

Вядома, што агульныя пpасторавыя адносіны ў такіх словазлучэннях ускладняюцца і колькасным адценнем. Залежнае слова займае пазіцыю перад галоўным, аднак інверсія магчыма: *Угору высока, да фарбаў блакіту нямоўчнага рэха шыбаюць прыбоі, адвечная мука няволі — разбіта, паломаны веры заўзентай устоі* (Ц. Гартны. Над шумным палацам...).

2. Акалічнасныя прыслоўі месца ў спалучэнні з колькаснымі прыслоўямі *вельмі, лішне, залішне, дужа, шмат, зусім, крыху, трохі,* а таксама *так, гэтак, яшчэ* ўтвараюць словазлучэнні з прасторавым значэннем, якое ўскладняецца колькасным адценнем. Паміж кампанентамі такога словазлучэння ўстанаўліваюцца азначальна-колькасныя адносіны: *вельмі ўгару, лішне блізка, залішне ўбок, зусім блізютка, крыху зводдалеку, крыху наводшыбе, трохі кнізу, трохі ўперад* і шмат іншых; сюды ж: *гэтак блізка, яшчэ вышэй, яшчэ больш крута* і інш. *Дрэмле Алега харобрае ў полі на шчытах гняздо. Ой, заляцела, адважнае, дужа далёка яно!* (Я. Купала. Слова аб палку Ігаравым). *Шмат адкуль людзі тут ёсць* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Фельчар жыў не так далёка* (Я. Колас. Доктар памог).

Прамым парадкам слоў тут будзе размяшчэнне залежнага слова перад галоўным. Інверсія і нават разрыў словазлучэння кампанентамі іншых словазлучэнняў або часціцамі дапускаецца: *Убаку трохі, схаваўшыся ў цень камяніц, цэлы рынак бабы адчынілі: з малаком, шчаўем, ягадамі* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Гук і рып калёс зусім ужо блізка* (Я. Колас. Чорт).

3. Акалічнасныя прыслоўі часу ў спалучэнні з такімі ж прыслоўямі ўтвараюць словазлучэнні з часавымі адносінамі: *сёння ноччу, заўтра рана, учора зранку, позна вечарам, калісьці даўно, раз увечары* і інш.

У залежнасці ад разнавіднасці і характару часавага значэння гэты тып можна падзяліць на тры падтыпы:

а) галоўнае слова абазначае часавае паняцце (*даўно, нядаўна, уночы, увечар, раніцою*), а залежнае — няпэўнае ўказанне на час (*калісьці, неяк, аднойчы, раз* і інш.): *калісьці даўно, калі-небудзь уночы, раз уночы, неяк нядаўна* і інш.[1] *Аднойчы пад вечар Толя вярнуўся ў штаб з данясеннем і застаўся да ранку ў лагеры* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Раз увечар дзед з Сымонам выйшлі ў парк у свой абход* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Залежнае слова ў такіх словазлучэннях размяшчаецца перад галоўным, але даволі часта магчыма і інверсія: *Даўно калісьці, ясновым ранкам, з далінаў Нёмна крыжацкі комтур да прускіх замкаў гнаў шмат палонных* (М. Танк. Іван-ды-Мар'я).

б) Да галоўнага слова — прыслоўя прымыкае прыслоўе з вузкім канкрэтным часавым значэннем. У ролі галоўнага слова выступаюць прыслоўі *сягоння, сёння, заўтра, назаўтра, узаўтра, учора, сёлета, летась, узімку* і інш., а ў ролі залежнага — *ноччу, увечары, апоўдні, зранку, рана, досвіткам, з цёмнага, улетку, увосень, начамі* і інш.; прычым галоўнае слова заўсёды абазначае больш шырокае часавае паняцце: *сягоння ноччу, назаўтра ранічкою, узаўтра ранічкою, узаўтра досвіткам, учора ўвечар, сёлета ўлетку, узімку начамі. «Пераначуй, заўтра нацямочку зойдзеш»,— гукнуў яму наўздагон бацька* (К. Чорны. Трэцяе пака-

---

[1] Спалучэнне слоў *раз назаўсёды* не з'яўляецца словазлучэннем з прыслоўем у ролі галоўнага слова. Гэта спалучэнне, якое ўжо ў пэўнай меры фразеалагізавана, утварылася з канструкцыі *раз і назаўсёды*, дзе абодва прыслоўі выступалі як аднародныя. Апушчэнне злучніка *і* з'явілася штуршком да фразеалагізацыі: *Пагардлівыя лініі губ і рэзкія складкі на шчоках упэўненымі і раз назаўсёды застылымі штрыхамі нязломнай волі сцягнулі сухаваты твар* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

ленне). *Назаўтра зранку старыя правялі Антуся з кіламетр у кірунку да гарадка* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Санька вярнуўся з арміі летась увосень* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Галоўнае слова ў такіх словазлучэннях часцей за ўсё стаіць перад залежным, хоць магчыма і інверсія: *І вось апаўдні назаўтра яго прыгналі назад у маёнтак* (Я. Брыль. Ты — мой найлепшы друг). *Там вадзіліся і начамі ўзімку завывалі ваўкі, а ўлетку пасвіліся каровы* (Я. Скрыган. Сустрэчы).

в) Галоўнае слова абазначае час у межах сутак, а залежнае ўдакладняе гэты час: *позна вечарам, позна ўночы, рана досвіткам* і інш. *Позна ўвечары чырвонаазёрскія сабакі сустрэлі ў канцы вёскі аднаго незнаёмага ім чалавека і з заядлым брэхам вялі яго ледзь не да сярэдзіны вёскі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

У такіх словазлучэннях залежнае слова стаіць перад галоўным. Выпадкі інверсіі сустракаюцца рэдка і ўспрымаюцца як адхіленне ад літаратурнай нормы: *Ідзём да пана мы да сонейка, а прыходзім у ноч позненька* (Зб. «Жанчына ў беларускай народнай творчасці»).

4. Да акалічнасных прыслоўяў часу могуць прымыкаць колькасныя прыслоўі *вельмі, зусім, дужа, крыху, трохі,* а таксама *яшчэ, гэтак, так.* Часавае значэнне такіх словазлучэнняў ускладняецца колькасным адценнем, а паміж кампанентамі ўстанаўліваюцца азначальна-колькасныя адносіны: *вельмі зарана, зусім падвечар, трохі порана; яшчэ досвітку, яшчэ зацемна, так позна, гэтак нядаўна* і інш. *Слаўся змрок, у цяні трава даўно ахаладзела, і яна ішла вельмі шпарка, стараючыся яшчэ завідна мінуць лес* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Прамым парадкам слоў у прыведзеным тыпе будзе размяшчэнне залежнага слова перад галоўным. Інверсія наглядаецца рэдка.

5. Акалічнасныя прыслоўі прычыны ў ролі галоўнага слова могуць спалучацца толькі з колькаснымі прыслоўямі: *зусім сторапу, амаль нізавошта, крыху спрасоння* і інш. Словазлучэнні гэтага тыпу надзвычай нешматлікія і зрэдку ўжываюцца ў вуснай мове.

6. Акалічнасныя прыслоўі мэты таксама рэдка ўступаюць у спалучэнне з колькаснымі прыслоўямі: *зусім знячэўку, амаль назнарок, трохі напаказ* і інш. Сустракаюцца яны ў вуснай мове.

Абодва апошнія тыпы характарызуюцца прэпазіцыяй залежнага слова (у адносінах да галоўнага) і азначальна-колькаснымі адносінамі паміж кампанентамі.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫСЛОЎЯ З НАЗОЎНІКАМ

§ 437. Якасныя прыслоўі звычайна не ўступаюць у спалучэнні з назоўнікамі. І толькі нешматлікія з такіх прыслоўяў могуць злучацца з назоўнікамі, утвараючы словазлучэнні з азначальнымі або аб'ектнымі адносінамі. Лягчэй уступаюць у сувязь з назоўнікамі (а таксама і займеннікамі (гл. § 440)) якасныя прыслоўі ў формах вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання. Вылучаюцца тры асноўныя тыпы такіх словазлучэнняў:

1. Якаснае прыслоўе (т. зв. «нулявой» ступені параўнання) у ролі галоўнага слова — з назоўнікам, які абазначае меру ці ступень прызнака. Залежнае слова — назоўнік ужываецца ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да: цяжка да жудасці, сорамна да слёз, недарэчна да смешнага, цікава да чорцікаў* (разм.) і інш. Паміж кампанентамі ў такіх словазлучэннях устанаўліваюцца азначальныя адносіны з адценнем меры і ступені. Звычайны парадак слоў — постпазіцыя назоўніка, але інверсія таксама не з'яўляецца адхіленнем ад нормы: *Прайшоў год з дня смерці Эдуарда Самуйлёнка, і думаць аб гэтым да жудасці цяжка* (К. Чорны. Аб Эдуарду Самуйлёнку).

2. Якаснае прыслоўе (таксама ў «нулявой» ступені параўнання) з назоўнікам, што абазначае асобу ці прадмет, у адносінах да якіх праяўляецца названы ў прыслоўі прызнак дзеяння. Залежнае слова — назоўнік ужываецца ў форме роднага склону з прыназоўнікам *для*: *нечакана для сяброў, незразумела для студэнтаў, цікава для пасажыраў, зручна для наведвальнікаў* і інш. *Максім умеў расказваць займальна і цікава для сваіх слухачоў* (У. Карпаў. За годам год).

Паміж кампанентамі ў такіх словазлучэннях выражаюцца аб'ектныя адносіны. Парадак слоў — постпазіцыя залежнага слова — назоўніка. Блізкімі да разгледжаных з'яўляюцца і словазлучэнні якасных прыслоўяў і назоўнікаў у формах творнага (з прыназоўнікам *з*), вінавальнага (з прыназоўнікам *на*) і роднага склонаў (з прыназоўнікам *ад*): *адпаведна з правіламі, згодна з загадам, параўнальна з тэкстам, падобна на зоры*[1], *асобна ад салдат, ізалявана ад натоўпу* і інш. Тут таксама выражаюцца аб'ектныя адносіны, прычым лексічнае значэнне такіх прыслоўяў прыкметна аслабляецца, і ўсё словазлучэнне набліжаецца да звычайнай прыназоўнікава-іменнай канструкцыі. Параўн.: *Вельмі жаласная гісторыя, выкладзеная згодна з праўдай беларускім вершам* (М. Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *Але святлей бліскаюць, пякнейміргаюць, на зоры спадобна* (Ц. Гартны. Шырэй крокі). *Пана Крулеўскага вялі асобна ад салдат* (Я. Колас. Дрыгва). *Аб гэтых недахопах нельга гаварыць ізалявана ад усёй работы беларускіх крытыкаў, якія яшчэ вельмі слаба ўдзельнічаюць у распрацоўцы надзённых праблем літаратуры* (з газет).

3. Якасныя прыслоўі ў форме вышэйшай або найвышэйшай ступені параўнання з назоўнікам у форме роднага склону (без прыназоўнікаў ці з прыназоўнікамі *за, ад*). У гэтых словазлучэннях наглядаюцца адносіны прыпадабнення з адценнем меры:

Беспрыназоўнікавыя словазлучэнні вельмі шматлікія: *вышэй арла, раней зоркі, больш гадзіны, лявей дарогі, мацней землетрасення, найпазней усіх студэнтаў*[2] і інш. *Устанеш летам раней зоркі, пойдзеш перша ў поле* (Я. Колас. Доля батрачкі). *І вось ужо Толя зусім не бачыць гэтага, глядзіць вышэй стала* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Я вышай арла падымуся ў прастор, званчэйшую песню спяе мой матор* (Я. Колас. Песня пілота).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* таксама шматлікія і таксама лічацца нормай літаратурнай мовы: *пазней за таварышаў, менш за аднаасобнікаў, даўжэй за суседзяў, найчасцей за астатніх жыхароў* і інш. *Даўжэй за іншых сваіх суседзяў араў сваю палосу Верамейчык* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён выязджаў на поле пазней. І зацягнуў сваю сяўбу пазней за калгаснікаў* (К. Чорны. Вясна).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* не лічацца нормай сучаснай літаратурнай мовы, аднак у размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца даволі часта: *вышэй ад арла, лепей ад чырвонца, мацней ад зор, больш ад хмелю, цвярдзей ад сталі* і інш. *І думы вышэй ад Карпат узляталі* (П. Броўка. Дом у Пароніне). *А дрот зіяе лепей ад чырвонца!* (М. Багдановіч. Споўненае абяцанне). *Больш ад хмелю пахучая ў лузе трава!* (Л. Гаўрылаў. У касавіцу).

---

[1] Калі такія прыслоўі спалучаюцца непасрэдна з назоўнікамі ў форме роднага ці давальнага склону, трэба гаварыць ужо не столькі аб прыслоўях, колькі аб прыназоўніках: тут прыслоўе выступае ў функцыі прыназоўніка, параўн.: *адносна даклада, адпаведна інструкцыі, згодна загаду, падобна ветру, раўналежна старому шасэ* і інш.

[2] Спецыфіка значэння форм найвышэйшай ступені параўнання (найвышэйшая ступень якасці ў параўнанні з падобнымі якасцямі іншых аналагічных прадметаў або асоб) патрабуе пры залежным слове — назоўніку абавязковага азначэння, выражанага прыметнікам ці займеннікам: *астатніх, усіх, іншых*.

Парадак слоў у такіх словазлучэннях лічыцца прамым пры постпазіцыі назоўніка. Інверсія сустракаецца вельмі рэдка (хіба толькі ў вершах).

§ 438. Якасна-акалічнасныя прыслоўі, спалучаючыся з назоўнікамі, утвараюць словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі: прыслоўе ўказвае на прызнак дзеяння, а назоўнік — на прадмет ці асобу, у адносінах да якіх гэты прызнак праяўляецца.

Залежнае слова — назоўнік у такіх словазлучэннях ужываецца ў формах ускосных склонаў без прыназоўнікаў ці з рознымі прыназоўнікамі. У адпаведнасці з гэтым вылучаюцца наступныя тыпы:

1. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі творнага склону (з прыназоўнікам *з*): *заадно з народам, супольна з жыццём, сумесна з партызанамі, удвух з братам, упобачкі з сонцам, узагрудкі з ветрам, адначасна з маланкаю* і інш. *Ты прыпала вачмі да пятліцаў зялёных, не заўважыўшы з радасці той, што наўкола стаялі ў слязах эскадроны разам з бацькам, названым табой* (П. Броўка. Сустрэча). *І так лёгка было везці паравоз тады, падганяць яго, пускаць уперагонкі з ветрам* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун).

Назоўнік, які ўваходзіць у такое словазлучэнне, можа мець, вядома, пры сабе прэпазіцыйнае азначэнне, якое фактычна ўкліньваецца ў сярэдзіну прыслоўна-іменнай канструкцыі, не парушаючы гэтым яе структуры: *О, мой родны край! Поруч з галытвою ходзіць роскаш і багацце; разам з людскімі слязьмі мяшаюцца панскія вальсы, льюцца вясёлыя галасы песень, грыміць музыка з панскага саду; разам з мужыцкім потам цякуць дарагія віны* (Я. Колас. Думкі ў дарозе).

Заўвага. Некаторыя спалучэнні якасна-акалічнасных прыслоўяў з назоўнікамі набліжаюцца да фразеалагічных адзінстваў, якія выконваюць у сказе функцыю прыслоўяў: *Янка і не дамагаўся вельмі сабе палавіны, ён і з трацяком упраўляўся папалам з бядою* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Сяк-так дзядзька плечы й грудзі папалам памые з горам, але далей кажа,—будзе, раздзяваццa, бачыш, сорам* (К. Крапіва. Будуйце лазні!). *Скокам-бокам, нáпаў з горам наспеў годзік і дваццаты, быў хлапцом — сказаць не сорам!* (Я. Купала. Калека).

Дарэчы, у гутарковай мове замацоўваецца інверсійная будова аднаго з такіх фразеалагізмаў: *з горам папалам.*

2. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі творнага склону (з прыназоўнікам *за*): *наўкос за дарогай, наўздагон за машынай, удагон за шчасцем* і інш. *У аддаленні наўскос за шляхам чарнела паласа невялікага лесу, які нядаўна мінулі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Агледзеў сам сябе, а дакладней — крылы свайго паліто, і з ніжняй прыступкі паляцеў наўздагон за поездам* (там жа).

3. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі вінавальнага склону (з прыназоўнікамі *праз* і *цераз*): *упоперак цераз мяжу, упоперак праз дарогу, наўпраскі цераз палетак, навылёт праз чалавека* і інш. *Гасцінец быў перад вачыма; хвойнік, дзе крычала птушка, быў далёка па той бок яго, ісці трэба было туды, але адразу перайсці ўпоперак цераз гасцінец чалавек не адважваўся* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *У гэты перадвячэрні час ён убачыў блізка Тураўца, які ішоў да яго шырокімі хуткімі крокамі наўпраскі цераз поле* (І. Мележ. Мінскі напрамак). Параўн. і інверсію: *Твар яго быў ружовы ад утрапення, вочы глядзелі праз чалавека навылёт* (К. Чорны. Вясна).

4. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі роднага склону (з прыназоўнікам *да*) ці давальнага склону (з прыназоўнікам *к*): *упоперак да сцежкі, напрост да бярозы, упоперак к мяжы, напрост к бярозе* і інш. Залежныя словы — назоўнікі сінтаксічна сінанімічны (родны склон з прыназоўнікам *да* — гэта сінтаксічны сінонім канструкцыі давальнага склону з прыназоўнікам *к*): *Хлопец раняе гарачыя слёзы, напрост к бярозе ідзе праз быллё і асцярожна здымае з бярозы*

*сэрца сваё і каханне сваё* (А. Астрэйка. Чорныя косы). Параўн.: *напрост да бярозы.*

5. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі роднага склону (з прыназоўнікам *ад*): *употай ад людзей, наўкасы ад разораў, напрасткі ад балота* і інш. *Па сцежцы, што вілася напрасткі ад лесу і бегла праз поле, павольна пасоўваліся якраз сюды дзве чалавечыя фігуры* (Я. Колас. Дачакаўся).

6. Якасна-акалічнасныя прыслоўі ў спалучэнні з назоўнікамі давальнага склону без прыназоўнікаў: *наўздагон поезду, наперарэз уцекачу, наўздзіў сябрам. Дык імчыся жыццю наўздагон: недалёка ускраіна гаю* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *От вазьміце хаця звычайную ігрушу-дзічку. Калючая яна, нягеглая. А вазьмі яе да прыгледзь, ды абкапай, ды прышчэпку зрабі, глядзі і выйдзе такая бэра слуцкая, што толькі людзям наўздзіў* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»).

Гэты тып словазлучэнняў вельмі няўстойлівы: прыслоўі, якія кіруюць беспрыназоўнікавым ускосным склонам імені або займенніка (за выключэннем прыслоўяў вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання), імкнуцца да пераходу ў прыназоўнікі. І чым бліжэй значэнне такіх якасна-акалічнасных прыслоўяў да акалічнаснага (у прыватнасці, да прасторавага), тым лягчэй такі пераход адбываецца. Таму прыслоўі *наўздагон, наўздзіў* у такіх словазлучэннях, як *наўздагон жыццю, людзям наўздзіў,* яшчэ захоўваюць сваю спецыфіку, а прыслоўе *наперарэз* ужо набліжаецца да прыназоўніка (выконвае функцыю прыназоўніка). Такія ж прыслоўі, як *насустрэчу, настрэчу, насупор, напоперак* і падобныя да іх, пры ўжыванні з беспрыназоўнікавымі формамі ўскосных склонаў назоўнікаў (у прыватнасці, давальнага склону), функцыянальна з'яўляюцца прыназоўнікамі.

Разгледжаныя шэсць тыпаў словазлучэнняў не вычэрпваюць, безумоўна, усёй разнастайнасці магчымых сувязей якасна-акалічнасных прыслоўяў з назоўнікамі. У мове могуць узнікаць паасобныя, адзінкавыя выпадкі спалучэння прыслоўяў з іншымі прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі (*найпрост па вуліцы, напрасткі па цаліку* і інш.). Аднак названыя вышэй тыпы вылучаюцца як найбольш характэрныя. Самым прадуктыўным у сучаснай мове з'яўляецца першы тып (дзе ў ролі залежнага слова — назоўнік творнага склону з прыназоўнікам *з*).

Парадак слоў у такіх словазлучэннях адносна свабодны, хоць прамым трэба лічыць такое размяшчэнне кампанентаў, калі назоўнік стаіць у постпазіцыі. Праўда, з парадкам слоў у гэтых словазлучэннях звязваюцца пэўныя функцыянальныя іх асаблівасці: пры прамым парадку слоў усё словазлучэнне набліжаецца да прыназоўнікава-іменнай канструкцыі, г. зн. прыслоўе разам з прыназоўнікам (*з, за, праз* і інш.) пачынае выконваць ролю прыназоўніка: *разам з, наўздагон за, упоперак праз, наўкасы ад* і інш. Найлягчэй гэты функцыянальны пераход у прыназоўнікі адбываецца ў тыпе словазлучэнняў з прыназоўнікам *з*. Пры інверсіі ж такога збліжэння з прыназоўнікам не наглядаецца: *Мікалай, варочаючыся надвечар з касцамі з сенажаці, заўважыў іх і, з Ілюком разам, рушыў туды* (К. Чорны. Вясна). *Само сабою зразумела, яго спаткалі тут пачэсна гаспадары з гасцьмі сумесна* (Я. Колас. Новая зямля). *Можа ваўкі недзе блудзяць, возера з ветрам ўзагрудкі ўзялося* (М. Танк. Нарач). *Даглядае каровы і жыта высокае жне цэлы дзень ля дубровы з кабетаю нараўне* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

У спалучэнні з галоўным словам — прыслоўем можа быць некалькі аднародных залежных слоў, пры якіх прыназоўнік звычайна паўтараецца: *Разам з ветрам, з халадамі думак рой к нам паляціць,— нудных думак, неспакойных,— сэрца беднае сушыць* (Я. Колас. Пад шум ветру).

§ 439. Акалічнасныя прыслоўі даволі лёгка спалучаюцца з назоўнікамі. Асабліва гэта датычыць прыслоўяў месца і часу.

І. Прыслоўі месца могуць уступаць у спалучэнне з рознымі склонавымі формамі назоўнікаў з прыназоўнікамі. У такіх словазлучэннях прыслоўе абазначае месца, а пры дапамозе назоўніка з прыназоўнікам дасягаецца канкрэтызацыя гэтага прасторавага паняцця. Такім чынам, адносіны паміж кампанентамі ў словазлучэнні прасторава-абмежавальныя. У залежнасці ад структуры такіх словазлучэнняў вылучаюцца наступныя тыпы:

1. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі роднага склону (з прыназоўнікам *ад*): *далёка ад горада, далей ад радні, воддаль ад сяла, непадалёку ад сястры, увысь ад зямлі, убок ад хаты, збоку ад студні, назад ад плота, налева ад дзвярэй, улева ад парога, управа ад узгорка, наводшыбе ад дома, узбоч ад тракту, наперад ад страхі, блізка ад парога, углыб ад дарогі, лявей ад вуліцы* і інш. *Далёка ад станцый, далёка ад мора, нібы семафоры, стаяць ветракі* (А. Астрэйка. Ветракі). *Ярына на полі буяла, высыпала; жыта канчала наліваццa, нават на ўзгорках, далей ад лесу, на самым санцапёку, месцамі ледзьледзь яно запалавела* (К. Чорны. Вясна). *Міхась сядзеў адзінока пры мокрай дарозе воддаль ад пастухоў* (Цётка. Міхась). *За горкай панская пасада, як у вяночку, каля саду ў глыбі прасторнага дзядзінца стаяла збоку ад гасцінца* (Я. Колас. Новая зямля). *Налева ад парога стаяў доўгі стол* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

2. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі роднага склону (з прыназоўнікам *з*): *убок з дарогі, некуды з вёскі, вон з хаты* і інш. *Зусім сівая, з пачырванелымі ад бессані вачыма, з растрапанымі з-пад хусткі валасамі, яна баязліва хацела схавацца за дрэвы, кінуўшыся ўбок са сцежкі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Пасля гэтага ён неўзабаве і рушыў некуды з дому* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

3. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі творнага склону (з прыназоўнікам *з*): *побач з вазамі, упобач з народам, побач з таварышам, радам з гумном, урoўнядзь з долам, упоравень з дахамі, поплеч з сынамі* і інш. *Прабегшы дугою побач з сялом, ён* [Нёман] *падыходзіў ужо да другога яго канца і далей бег старою дарогаю* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Да гэтага радаснага жыцця ідзе вёска поплеч са сваім старшым братам — горадам* (К. Чорны. Вёска на новым шляху).

4. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі творнага склону (з прыназоўнікам *за*): *следам за людзьмі, услед за пасланцом, далёка за вёскай, воддалек за канваірам, ззаду за возам, замужам за аднасяльчанінам* і інш. *Кравец дастаў з партабака новую папяросу і выйшаў следам за Тварыцкім* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Надыдзе час, і шоўкам лісцвяным усе завулкі, плошчы прыбяруцца, і пэўна ўслед за харaством лясным у Мінск і салаўі перабяруцца* (А. Астрэйка. Перасяленне ліп). *Месяц з-за высокіх ліп квітнеючых усміхаўся ласкавым святлом, зоркі, ясным бляскам палымнеючы, падалі далёка за сялом* (Арк. Гейне. Шчаслівая зорка).

5. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі вінавальнага склону (з прыназоўнікам *за*): *назад за рэчку, замуж за Костуся, вон за дзверы* і інш., а таксама з колькасным удакладненнем: *здалёк за кіламетр (за два, тры кіламетры)*. *Я зноў сябе кінуў за рэчку назад, бягу па рыдлёўку дахаты* (Я. Колас. Даняў). *Выйшла* [Банадыся] *моўчкі вон за дзверы* (Я. Колас. Батрак). *Ажно з пад'ельніцкага поля, за два кіламетры здалёк, відны тры тонкія таполі, а між таполяў — след-дымок* (А. Астрэйка. Дадому).

6. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі творнага склону (з прыназоўнікамі *над, па-над*): *высока над лесам, нізка над зямлёй, высока па-над полем* і інш. *Клопатна кружыліся нізка над травою балот-*

*ныя птушкі* (З. Бядуля. На балоце). *І я веру ўсёй душою — рухне сіла цьмы, і высока над зямлёю сцяг падымем мы* (Я. Колас. 1942). *Унь там, высока па-над долам, развесіў хвост купчасты дым* (Я. Колас. На новай зямлі).

7. Прыслоўі месца ў спалучэнні з назоўнікамі роднага склону (з прыназоўнікам *да*) ці назоўнікамі давальнага склону (з прыназоўнікам *к*): *нізка да зямлі, блізка да стала, нізка к зямлі, блізка к сталу* і інш. *А іграў ён* [музыка] *заўсёды весела. Нават дрэва, пачуўшы яго, хоць бы нізка да долу галіны плакучыя звесіла — зашуміць, засмяецца, атрасаючы пыл* (М. Танк. Казка пра музыку). *Жыта нізка к долу нахіляецца* (А. Астрэйка. А я жыта жала).

Пералічаныя тыпы прыслоўна-іменных спалучэнняў таксама не вычэрпваюць усёй разнастайнасці такіх словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове. Так, сустракаюцца канструкцыі *блізка ля лазні; уздоўж паўз цягнік; далёка ў тыл, высока ў неба, глыбей у кут; скрозь паўз лес; унізе пад дрэвамі; далёка на захадзе; уніз на тратуар; уперадзе перад возам; налева пры сцяне, блізка пры дарозе; уверх па рэчцы, уздоўж па Нямізе* і інш.

Прамым парадкам слоў ва ўсіх разгледжаных словазлучэннях лічыцца прэпазіцыя прыслоўя. Агульнае прасторавае значэнне ўсяго словазлучэння садзейнічае функцыянальнаму пераходу прыслоўна-прыназоўнікавых канструкцый у прыназоўнікі. Так, у ролі прыназоўнікаў могуць ужывацца канструкцыі *далёка ад, збоку ад, здалёк ад, побач з, поплеч з, поруч з, следам за, услед за, унізе пад, нізка над* і некаторыя іншыя; пры гэтым лексічнае значэнне прыслоўя — былога галоўнага слова прыкметна аслабляецца.

Аднак пры інверсіі, г. зн. калі прыслоўе стаіць у постпазіцыі, такога пераходу ў прыназоўнікі не наглядаецца. Нельга гаварыць аб ім і тады, калі словазлучэнне разрываецца кампанентамі іншых словазлучэнняў (за выключэннем дапасаванага азначэння пры залежным слове — назоўніку): *Ходзяць зоры над краінай нізка* (П. Глебка. «Звязда»). *Высокі ганак на тоўстых круглых слупках значна выступаў ад даху наперад і таксама быў накрыты гонтамі* (Я. Колас. Школа). *Вон пайшоў ты з хаты, сівы дзед з кульбою!* (Я. Колас. Уночы). *Цяпер жыву ад Вусця я ўдалі, сяджу між кніг, чарніл, паперы* (Я. Колас. Вусцянскі груд).

Так як і ў словазлучэннях якасна-акалічнасных прыслоўяў з назоўнікамі, тут могуць быць выпадкі ўжывання аднародных назоўнікаў пры адным прыслоўі — галоўным слове: *Паміж ялін, паміж крыніцаў у непраходным гушчары, узбоч ад трактаў і гасцінцаў стаяць вясковыя двары* (А. Астрэйка. Сялянскі лагер). *Не крыўдзіць жыццё ў беспрытонні сіроткі гаротнай сягоння ўдалі ад няпраўды, ад свету* (Я. Купала. З сіроцкай долі). І нават — зрэдку — два аднародных прыслоўі пры адным назоўніку: *Заработкаў ніякіх няма — ні далёка, ні блізка ад дому* (Я. Брыль. У сям'і).

Асобна стаяць словазлучэнні прыслоўяў месца з беспрыназоўнікавымі формамі творнага і вінавальнага склонаў назоўнікаў тыпу *дагары коламі, здалёк родам, далоў вайну.*

У такіх словазлучэннях ужо намячаецца некаторая фразеалагізацыя, у прыватнасці сувязь паміж кампанентамі не матывавана. Сапраўды, форма творнага склону на першы погляд залежыць ад прыслоўя, але на самай справе назоўнік стаіць у творным склоне па патрабаванню дзеяслова, што яскрава відаць з прыкладаў: *Усе бачылі, як Волечка стаяла тварам на захад і, прыклаўшы руку да ілба, углядалася ў далечыню* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ляжыць ботамі на дарожнай каляіне і галавою ў ядлаўцовы куст* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Заўважаецца дзеяслоўнае кіраванне і ў тым выпадку, калі назоўнік

у сказе папярэднічае прыслоўю: *Ішоў ён неяк не па-людску, нібы поўз у паветры, няўпэўнена, зыбаўся часам, шугаў* *н о с а м* *уніз, зноў выпроствайся* (М. Л ы н ь к о ў. Талісман). *Ляжаў ён* *т в а р а м* *уніз* (К. Ч о р н ы. Браты). *Локцямі ён успёрся на калені, далонямі падпёр твар і так сядзеў* *т в а р а м* *уніз* (К. Ч о р н ы. Гора).

Аднак у сучаснай мове такі парадак слоў ужо ўспрымаецца як інверсія, а нормай лічыцца постпазіцыя назоўніка адносна прыслоўя: *дагары нагамі, уверх дном, наперад задам, уверх шэрсцю* і інш. *Усё ў думках яго перамяшалася, як бы хто там віламі жалезнымі перавярнуў усё* *д а г а р ы* *н а г а м і* (З. Б я д у л я. Летапісцы). *Дэманстрацыя і ў сувязі з гэтым — непарадкі ў горадзе, цэлыя два дні ўсё* *д а г а р ы* *д н о м* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Календруп»). *Так смерць ляснічага старога Міхала моцна ўскалыхнула і ўсё* *ў в е р х* *д н о м* *перавярнула* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Міхась скінуў кажух, вывернуў* *у в е р х* *ш э р с ц ю* *і накінуў на сябе* (Я. К о л а с. Чорт).

З а ў в а г а. Па аналогіі з пералічанымі словазлучэннямі з назоўнікам творнага склону могуць ужывацца і некаторыя якасна-акалічнасныя прыслоўі, значэнне якіх блізкае да пpacтopaвaгa: *Яна апусцілася на калені, нейк бокам, і* *с т а р ч м а* *г а л а в о й* *уткнулася ў зямлю, і ні з чым непараўнаная асалода сну ахапіла яе* (К. Ч о р н ы. Маленькая жанчына).

Падобным шляхам утварыліся і словазлучэнні тыпу *здалёк родам, адкуль родам, зблізку родам* і інш.

Уплывам дзеяслова можна растлумачыць паяўленне і такіх канструкцый, як *далоў вайну, прэч думкі, вон акупантаў*. Вінавальны склон назоўніка — былога прамога аб'екта залежаў ад дзеяслова (параўн. *прэч прагнаць думкі*). У сувязі з пропускам дзеяслова вінавальны склон назоўніка стаў успрымацца як залежная ад прыслоўя форма. *Мы заяўляем горда ўсяму свету: «**Д а л о ў** **в а й н у**, праклятую вайну!»* (А. А с т р э й к а. Салдаты міру). *Д а л о ў* *усякія* *х і с т а н н і! Смялей наперад!* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Няма сумнення —* *д у м к і* *п р э ч* (Ц. Г а р т н ы. Айчына).

II. Прыслоўі ч а с у могуць уступаць у спалучэнні з формай роднага склону назоўніка (з абавязковым азначэннем) або з формамі ўскосных склонаў назоўнікаў з прыназоўнікамі. Адносіны паміж кампанентамі ч а с а в а-а б м е ж а в а л ь н ы я: прыслоўе ўказвае на час, а назоўнік выконвае функцыю абмежавання гэтага часавага паняцця.

Структурна тут вылучаюцца наступныя тыпы:

1. Прыслоўі часу ў спалучэнні з формай роднага склону назоўніка, які абавязкова мае азначэнне: *аднойчы летняй раніцай, вечаркам таго дня, улетку сорак чацвёртага года* і інш. *А д н о й ч ы* *л е т н і м* *в е ч а р а м, калі ад цёплай ракі паднімаецца пара, мы цягалі з ім сетку, удвох* (Я. Б р ы л ь. Мой зямляк). *В е ч а р к о м* *ж а* *т а г о* *д н я* *піша зводку старшыня* (К. К р а п і в а. Жарабяты могуць быць). *Д о с в і т а* *д р у г о г а* *д н я* *Андрэй ужо кошкаўся ў хляве* (Я. К о л а с. Малады дубок). *Звольніўся з працы ў ваенкамаце я* *ў л е т к у* *1 9 2 2* *г о д а* (К. Ч о р н ы. Аўтабіяграфія).

Прамы парадак слоў — постпазіцыя назоўніка разам з азначэннем — норма літаратурнай мовы; інверсіі тут быць не можа.

З а ў в а г а. Прызнакі фразеалагізацыі наглядаюцца ў канструкцыях тыпу *тыдзень назад* (у значэнні «адзін тыдзень назад»), *дзён пару назад, два гады назад*, дзе прыслоўе *назад* пераносна набыло часавае значэнне. У сучаснай мове ўся канструкцыя, гэтак жа як і канструкцыя тыпу *два гады таму назад*, пачынае ўжывацца ў функцыі прыслоўя часу.

2. Прыслоўі часу ў спалучэнні з формамі ўскосных склонаў назоўнікаў (з прыназоўнікамі *пасля, за, пад, у, на* і інш.). У адпаведнасці з формай залежнага слова тут вылучаюцца тыпы:

а) назоўнік у родным склоне з прыназоўнікам *пасля*: *адразу пасля рэвалюцыі, вечарам пасля работы*;

б) назоўнік у вінавальным склоне з прыназоўнікам *за: далёка за поўнач* (тут пераноснае, часава-колькаснае значэнне прыслоўя *далёка*);

в) назоўнік у вінавальным склоне з прыназоўнікам *пад: учора пад вечар;*

г) назоўнік у месным склоне з прыназоўнікам *у: вечарам у суботу, зранку ў нядзелю;*

д) назоўнік у месным склоне з прыназоўнікам *на: заўтра на досвітку.*

Назоўнікі ў такіх словазлучэннях маюць таксама значэнне часу: *Я сціснуў вінтоўку рукой, мне з а ў т р а н а д о с в і т к у ў бой* (А. А с т р э й к а. Таржок). *Невялікае селішча Скіп'ёўскае Пераброддзе ўзнікла на голым месцы пры вялікім Скіп'ёўскім лесе а д р а з у п а с л я р э в а л ю ц ы і* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Хата гудзела д а л ё к а з а п о ў н а ч* (Я. Б р ы л ь. Пісьмо з Амерыкі).

У гэтых тыпах магчыма і інверсія: *У н я д з е л ю з р а н к у высокі хлопец падышоў да Гушкавай хаты* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

З а ў в а г а. Удакладненне часавага паняцця, выражанага прыслоўем, можа адбывацца шляхам далучэння да яго не толькі назоўнікаў з прамым часавым значэннем, а і любых іншых назоўнікаў, якія кантэкстуальна ці сітуацыйна могуць указваць на пэўны прамежак часу: *у школе, пры размове, у час падарожжа* (*пазаўчора пры размове, заўтра ў школе* і інш.).

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ ПРЫСЛОЎЯ З ЗАЙМЕННІКАМ

§ 440. Спалучэнні я к а с н ы х прыслоўяў з займеннікамі структурна паўтараюць некаторыя тыпы словазлучэнняў такіх жа прыслоўяў з назоўнікамі (гл. § 437). Так, ужываюцца словазлучэнні з а б'е к т н ы м і адносінамі (*нечакана для іх, спецыяльна для нас*) і з адносінамі п р ы п а д а б н е н н я (*спакайней усіх, пазней за нас, найраней за ўсіх, меней ад нас* і інш.): *Зайчык пайшоў адзін, н е ч а к а н а д л я н а с і паблазенску непрадумана* (Я. Б р ы л ь. Ты — мой найлепшы друг). *Але с п а к а й н е й з а ў с і х сябе адчуваў ослік, які абавязкова прысутнічаў на кожнай рэпетыцыі* (З. Б я д у л я. Салавей). *Воля і Зоська мне д а р а ж э й з а ў с ё* (там жа).

З а ў в а г а. Словазлучэнні прыслоўяў у форме вышэйшай ці найвышэйшай ступені параўнання з займеннікам *усё* (*усіх*) паступова набліжаюцца да своеасаблівых аналітычных форм ступеней параўнання з элятыўным значэннем.

§ 441. Спалучэнні я к а с н а-а к а л і ч н а с н ы х прыслоўяў з займеннікамі таксама структурна паўтараюць падобныя тыпы словазлучэнняў з назоўнікамі (гл. § 437): *адначасна са мной, у адно з намі, упоперак да яе, насустрач к ім, наўскасы ад іх, употай ад усіх; з намі сумесна, за табой наўздагон, наўздагон мне* і інш. *Але практыка аднаго чалавека абмежавана часам і прасторай: ён не можа абысціся толькі сваёй практыкай, ён скарыстоўвае для сябе практыку іншых людзей, што жылі да яго, што жывуць а д н а ч а с н а з і м* (К. К р а п і в а. Слова да маладых). *Усе ішлі на ўсход, ад ворага. І ўсё асабістае злілося ў кожнага ў а д н о з у с і м і* (К. Ч о р н ы. Маленькая жанчына). *І ў той вечар, мабыць упершыню, мы асталіся з т а б о ю ў д в а і х* (Я. С к р ы г а н. Таіса). *«Пераначуй, заўтра нацямочку зойдзеш», — гукнуў я м у н а ў з д а г о н бацька* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

§ 442. З а к а л і ч н а с н ы х прыслоўяў спалучацца з займеннікамі могуць толькі прыслоўі месца[1], прычым тыпы гэтых словазлучэнняў структурна такія ж, як і адпаведныя тыпы словазлучэнняў з назоўнікамі ў ролі залежнага слова (гл. § 437): *блізка ад яго, збоку ад іх, навадшыбе ад усіх, убок ад яго, воддаль ад мяне, далёка ад вас, поплеч*

[1] Спалучэнне слоў *пакуль што* не з'яўляецца прыслоўна-займеннікавым словазлучэннем з прыслоўем у ролі галоўнага слова, і паходжанне яго звязана з трансфармацыяй складанага сказа ў просты.

*з ім, поруч са мною, за ёю следам, услед за імі, воддалек за ім, уперадзе перад ім, уполеч да вас* і інш. *Многа ўсякіх падзей, змен адбылося на яго памяці, а цяпер ён стаіць як бы збоку ад усяго і са спакоем мудраца аглядае жыццё* (Я. Колас. Збоку ад жыцця). *Не шумі ж ты, цёмны гаю, бо мне й так не лёгка—маё шчасце, мая доля ад мяне далёка* (зб. «Беларускія песні»). *Брат ішоў подбегам поплеч з ёю* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *А следам за вамі пачэснай дарогай нязменна ішла перамога* (Я. Колас. Камсамольцам). *Высока нада мною між скал віюцца горныя арлы* (П. Трус. Гады бягуць...). *А бераг у гэтым месцы быў высокі, абрывісты, а ўнізе пад ім пеніўся глыбокі вір* (Я. Колас. Нёманаў дар).

§ 443. Аналіз словазлучэнняў прыслоўя (у ролі галоўнага слова) з займеннікам паказвае, што ў такіх словазлучэннях ужываюцца толькі асабовыя займеннікі, асабова-ўказальны займеннік *ён (яно, яна, яны)* і азначальны займеннік *увесь (усё, уся, усе)*. Калі ж у склад словазлучэнняў з прыслоўямі ўступаюць іншыя займеннікі *(каторы, іншы, такі, гэтакі, які-небудзь* і інш.), то гэтыя займеннікі абавязкова субстантывіраваныя: *следам за іншымі, воддаль ад каго-небудзь* і інш. І толькі ў тым выпадку, калі пытальна-адносныя займеннікі выступаюць у ролі адносных (злучальных) слоў у дадзеных частках складаназалежнага сказа, яны могуць уступаць у спалучэнне з прыслоўямі: *Машыны, поплеч з якімі ішлі людзі, ехалі павольна.*

# ГАЛОЎНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

## ДЗЕЙНІК

### АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 444. Дзейнік — гэта галоўны член сказа, які граматычна не залежыць ад іншых членаў і абазначае прадмет думкі, аб дзеянні, стане, уласцівасці або якасці якога паведамляецца ў выказніку.

Дзейнік найбольш часта выражаецца формай назоўнага склону назоўніка, займенніка і лічэбніка. У ролі дзейніка таксама могуць выступаць субстантываваныя прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, дзеепрыметнікі, незмяняльныя словы, розныя формы змяняльных слоў, непадзельныя словазлучэнні і нават цэлыя сказы або, наадварот, часткі слоў і назвы літар.

### ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ НАЗОЎНІКАМ

§ 445. Абазначаючы прадмет у граматычным сэнсе гэтага слова, назоўнік з'яўляецца самай тыповай формай выражэння дзейніка. У ролі дзейніка выступаюць назоўнікі любога роду і ліку як адушаўлёныя, так і неадушаўлёныя, як агульныя, так і ўласныя. Па сваёй структуры яны могуць быць простымі, складанымі і складанаскарочанымі: *Параўняўшыся з тым ляском, дзе калісь натрапіліся* *б а р а в і к і*, *н а с т а ў н і к* *збочыў з дарогі, патупаў па лесе, а потым прысеў на гладка спілаваны дубовы пень* (Я. К о л а с. На ростанях). *А ў д о ц ц я* *мацней сціснула тонкую руку дзяўчынкі і маўкліва ступіла следам за ўсімі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *І адной сагрэты песняй і адною мэтай добрай аб'яднаны сёння* *Н е с в і ж* *і* *К а п ы л ь*, *Б а б р у й с к* *і* *К о б р ы н* (П. П а н ч а н к а. Шчаслівы верасень). *То цераз алешнік, то праз дубнякі, то борам, нібыта жалезная змейка, паўзе, выгінаецца* *в у з к а к а л е й к а* (А. З а р ы ц к і. Таварыш Саша). *Бой заціх ля чыгункі, і салдатам* *к а м б а т* *раздаваў падарункі ад палескіх дзяўчат* (М. С м а г а р о в і ч. Кісет). *Братняй дапамогай роўная між роўных* *Б С С Р* *красуе, нібы жыта летам* (Я. К у п а л а. Нашай Канстытуцыі).

З а ў в а г а. Неадушаўлёны назоўнік *справа* ў некаторых сказах поўнасцю страчвае сваё лексічнае значэнне і з'яўляецца дзейнікам толькі фармальна. Значыць, фармальна з'яўляюцца не аднасастаўнымі, а двухсастаўнымі і сказы з такім дзейнікам: *З паперай была цяжкая* *с п р а в а* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *З барадою* *с п р а в а* *была наладжана добра* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *С п р а в а* *ідзе да лета* (А. В а с і л е в і ч. Пасля вайны).

§ 446. Некаторыя агульныя назоўнікі адзіночнага ліку ў ролі дзейніка выступаюць са зборным значэннем: *Жоўты рай, дрымотны рай акацый паланіла рупная* *п ч а л а* (А. В я л ю г і н. Лета). *Ужо засыпаў на бярозах майскі* *ж у к*, *л і с т* *убраўся ў сілу, а на палетках вырасла маладая рунь* (М. Л у п с я к о ў. Грабскі хутар). *Між маладых сасонак трапляецца* *б я р о з а*, *р а б і н а*, *в о л ь х а* (І. П т а ш н і к а ў. Лонва).

§ 447. У эмацыянальным выказванні дзейнік з мэтай узмацнення можа некалькі разоў паўтарацца: *А з ё р ы, а з ё р ы, а з ё р ы ўдалі забялелі* (М. Т а н к. Нарач). *Мы, Палессе, з табой заўтра чаек марскіх дачакаемся, паплывуць праз бары к а р а б л і, к а р а б л і, к а р а б л і* (П. П а н ч а н к а. Вершы пра Палессе). *На камені, белым ад плесені, у засені сосен зялёных гучаць, як забытыя песні, і м ё н ы, і м ё н ы, і м ё н ы* (А. В я л ю г і н. Помнік на выгане).

§ 448. Калі дзеючая асоба ці прадмет успрымаецца няпэўна, то дзейнік паўтараецца з адмоўем *не*: *Р ы к а н н е — н е р ы к а н н е, т у п а т — н е т у п а т расце, падыходзіць з блізкага лесу* (З. Б я д у л я. Набліжэнне). *Як з узрушаным нутром трапіў на аэрадром ды наўкола Федзя глянуў, — анідзе аэрапланаў, толькі проста на зямлі к а р а б л і — н е к а р а б л і* (К. К р а п і в а. Хвядос — Чырвоны нос).

Няпэўнасць дзеючай асобы ці прадмета выражаецца і пастаноўкай перад дзейнікам параўнальных часціц *як бы, быццам, быццам бы, нібы*: *Ва ўяўленні пачалі нават існаваць я к б ы нейкія г у к і* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Нават я к б ы сонечныя п р о м н і пачалі вызначацца на супрацьлеглай сцяне* (М. Л у п с я к о ў. Дажджы). *Здалёк данесліся н і б ы людскія г а л а с ы і зніклі, праглынутыя начным туманам* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

## ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ЗАЙМЕННІКАМ

§ 449. У ролі дзейніка асабліва часта выступаюць асабовыя займеннікі *я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны*: *Не люблю я змрочных фарбаў, не люблю я шэрых тонаў* (П. П а н ч а н к а. Шчаслівы верасень). *М ы кладзем у Будучыню крокі без аглядкі боязнай назад* (А. З в о н а к. Размова ад душы). *Т ы заспявала сагу, што тоіць дно марское, пра мужнасць, пра адвагу загінуўшых герояў* (М. Т а н к. Рэквіем). *Тады ж я н а зведала першы боль растані і першую чароўную радасць сустрэчы* (В. Б ы к а ў. Незагойная рана). *Спачатку я н о шалясцела вельмі нясмела, а потым лізнула аконца ціха, як сонца* (Я. К у п а л а. Безназоўнае). *І я н ы развіталіся з цёплай таварыскай прастатой і шчырасцю* (М. З а р э ц к і. Вязьмо).

§ 450. Дзейнік можа быць выражан прыналежнымі займеннікамі *мой, твой, наш, ваш, свой* у формах любога роду і ліку: *На што м о й ціхоня з ціхоняў, слова не выціснеш, а, як ні кажыце, падмога ў сям'і* (А. П а л ь ч э ў с к і. Малако). *Цікава — т в а я гэта ідзе ці м о й?* (Я. Б р ы л ь. Птушкі і гнёзды). *Яму, Пінхасіку, н а ш ы я аднаго разу лоўка бакі натаўклі* (З. Б я д у л я. Набліжэнне). *С в о й сваяка бачыць здаляка* (прыказка).

§ 451. У ролі дзейніка могуць выступаць пытальна-адносныя займеннікі *хто, што, які, каторы, чый*. Са значэннем пытальных гэтыя займеннікі ўжываюцца ў тым выпадку, калі з'яўляюцца дзейнікамі простых пытальных сказаў, а са значэннем адносных — калі з'яўляюцца дзейнікамі даданых сказаў і адначасова звязваюць даданыя сказы з галоўным.

а) *Х т о перашкодзіць нам прабіць камення грань і долю казачную выткаць?* (М. Т а н к. З паднятай галавой). *Ш т о ж мне можа быць больш за Радзіму любімую міла?* (П. П а н ч а н к а. Радзіме).

б) *Х т о жыў тваім хлебам, х т о піў тваё воды, х т о меў тут прытулак у час непагоды, гатоў той памерці, цябе ж ратаваць!* (П. Б р о ў к а. Беларусь). *Кавалак неба, я к і быў відзён праз акенца, цяпер здаваўся жывым* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз). *Мужчыны, к а т о р ы я ездзілі ў якую вялікую дарогу, асабліва зімою ў мароз, абавязкова спынялі вазы пад Евелевым ганкам і забягалі ў карчму* (Р. С а б а л е н к а. Незамужняя ўдава).

Пытальна-адносныя займеннікі *хто, што, каторы* ў ролі дзейніка часам выступаюць са значэннем няпэўных: *Зязюлька ў тахт «ку-ку»*

*кукуе, як ёй х т о голас натачыў* (Я. К у п а л а. У лесе). *І цяжка, цяжка Ганне стала, як бы ў грудзях там ш т о апала* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Вядома, падсмейваліся к а т о р ы я, калі слухалі пра згоду ды іншыя там сямейныя справы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Пытальна-адносны займеннік *хто,* калі ён як дзейнік паўтараецца ў кожнай частцы складаназлучанага сказа, набывае няпэўна-размеркавальнае значэнне: *Х т о рыхтаваўся ў настаўніцкі інстытут, х т о ўзбройваўся філасофіяй жыцця, х т о лавіў рыбу на ўлонні прыроды, х т о ўходжваўся каля гаспадаркі, памагаючы бацькам, а х т о проста біў бібікі* (Я. К о л а с. На ростанях). *Х т о зарагатаў, а х т о ўнурыўся ў кайнер* (К. Ч о р н ы. Зямля).

§ 452. Дзейнік можа быць выражан указальнымі займеннікамі *гэты, той, такі, гэтакі* ў формах любога роду і ліку: *Знаёмым здаваўся і т о й мне і г э т ы, хоць я іх імёнаў не знаў* (А. А с т р э й к а. Сустрэча ў стэпе). *То т о е яму не падабалася, то г э т а е, то там бы ён што-небудзь перайначыў, то тут* (А. К у л а к о ў с к і. Не выбралі). *На вуліцы было т а к о е, што сапраўды ўсхвалявала Захара Рудака і Якуба Панасавіча* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Займеннік *гэта* ў ролі дзейніка можа ўказваць не толькі на канкрэтных асоб ці прадметы, але і на цэлыя папярэднія і наступныя паведамленні: *Потым я даў яму выпіць крыху спірту і прымусіў з'есці плітку шакаладу. Г э т а сагрэла яго* (І. Ш а м я к і н. У снежнай пустыні). *Г э т а было даўно, чатыры дзесяткі год таму назад. У маленькай мінгрэльскай вёсцы на ўзбярэжжы вялікай Калхідскай нізіны пад вечар гарачага летняга дня паміраў селянін Самсон Коркія* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

§ 453. Са значэннем абагульненага ўказання на папярэдняе або наступнае паведамленне ў ролі дзейніка зрэдку ўжываецца ўказальны займеннік *то: «Мне міла тут з табою...» — «Каб т о была праўда!»* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *І як т о здарыцца магло, што кніжкі знойдзены ў яго?* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

§ 454. Дзейнік можа быць выражан азначальнымі займеннікамі *сам, сама, усё, усе, усякі, кожны, іншы: Дык бач, с а м не пабег на дождж, а пагнаў нашага* (І. Н а в у м е н к а. Сасна пры дарозе). *У с е дзяліліся свежымі ўражаннямі, у с е апавядалі адзін аднаму пра новыя цікавыя падзеі* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Бяду нажыці ў с я к і можа, бяды пазбыціся — не ў с я к і* (Я. К у п а л а. Разлад). *К о ж н ы мае дружбака такога, захавана ў сэрцы да якога прыязні даўнейшай цеплыня* (А. К у л я ш о ў. Карусель). *І н ш ы слова скажа—проста ў сук улепіць* (Б. С а ч а н к а. Адгадала).

§ 455. Дзейнік можа быць выражан адмоўнымі займеннікамі *ніхто, нішто: І н і х т о ўжо не зможа ані ў якай прыгодзе налажыць табе путы, беларускі народзе* (Я. К у п а л а. Летапіснае). *Здаецца, н і ш т о засмуціць не магло, н і ш т о шчасцю не пагражала, ды лета мінула і гора прыйшло з асенняю хмарай-навалай* (М. Т а н к. Ля вогнішч начлежных).

Адмоўны займеннік *ніхто* зрэдку выступае ў форме *аніхто,* якая характарызуецца большай ступенню катэгарычнасці: *Ведайце, што нас не пераможа ў дружбе а н і х т о* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). *Не, не стопчуць красы тваёй брудныя боты, не, народа майго а н і х т о не сагне* (П. П а н ч а н к а. Беларусі).

§ 456. Дзейнік можа быць выражан няпэўнымі займеннікамі *нехта, нешта, некаторыя* (толькі ў форме множнага ліку), *хтосьці, штосьці, хто-небудзь, што-небудзь, хто-кольвечы, дзе-хто: Н е х т а ходзіць, здаецца, у бары, н е х т а блудзіць у змроку лагчыны, н е х т а крадзецца там з-за гары* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам). *Мы заўсёды кахаем мацней, калі адчуваем, што каханню нашаму н е ш т а пагражае*

(І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Некаторыя ціхенечка падыходзілі да дзвярэй кватэры настаўніка і з найвялікшаю цікавасцю заглядвалі ў шчылінкі* (Я. Колас. На ростанях). *Тут хтосьці быў вінаваты, хтосьці не хацеў абсячы лёду, хтосьці быў абібок, гультай несусветны* (К. Чорны. Вясна). *Лапочучы крыллямі, у цемры штосьці праляцела* (І. Мележ. Адна). *Тады ёй зрабілася сорамна: убачыць хто-небудзь і пачне кпіць* (А. Асіпенка. Паплавы). *Хіба паміж імі што-небудзь было?* (К. Крапіва. Проба агнём). *Дзе-хто стаў уцякаць у бакавую вуліцу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ПРЫМЕТНІКАМ

§ 457. Дзейнік часта выражаецца якаснымі і адноснымі прыметнікамі: *Барадатыя і безбародыя, маладыя і старыя сядзяць і стаяць, дзе толькі можна, плячо ў плячо* (Я. Колас. Адшчапенец). *Калі сярэдні баяўся пярэдняга, дык задні баяўся абодвух—ён бачыў перад сабою двух чалавек* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Жахне ў вочы кур'ерскі, гарачы, як чутка, і раскроіць гарачым хвастом краявід, бліскавіцаю шкла прамільгне заклапочаны хуткі, пратуркоча паштовы, прасыпле вясёлы транзіт* (М. Лужанін. Рух таварных цягнікоў). *Пакуль не пачаўся сход, многія жартуюць, смяюцца* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

§ 458. Дзейнік можа быць выражан якасным прыметнікам у формах ступеней параўнання. У ролі дзейніка, як правіла, выступаюць формы вышэйшай ступені простыя, а формы найвышэйшай ступені складаныя: *Праўда, не сам ён стаў на варту, яго паставілі вышэйшыя за яго* (К. Чорны. Смерць). *Па старой завядзёнцы, мацнейшы валіў работу на слабейшага* (А. Асіпенка. Сыну майго сына). *Самая меншая не пакідала плакаць* (К. Чорны. Насцечка). *І вось тут здарылася самае страшнае* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

## ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМ

§ 459. У ролі дзейніка часцей выступаюць дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу: *Неспакойна варушыліся цяжка параненыя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Можна было чуць толькі шум дажджу ды завыванні ветру, а пасля запелі прыведзеныя на расстрэл* (П. Галавач. Спатканне). *Затрыманыя пад аховай паліцыі некаторы час стаялі ў калідоры дырэкцыі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Перажытае адбілася і на яе характары, і на дачасна састарэлым, хваравітым твары* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

§ 460. Значна радзей ролю дзейніка выконваюць дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу: *Камандуючы ўважліва слухаў, але амаль нічога не запісваў* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Пасля вядучы абвясціў імя сакратара райкома, і той, не накрываючы галавы, падышоў да мікрафона* (Я. Брыль. Сэрца камуніста). *Прыйшоўшы завярнуў у дзверы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Скончыўшыя работу прыйшлі паглядзець на выпрацоўку ўдарнай групы* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

Заўвага. Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу ў ролі дзейніка амаль не выступаюць, што тлумачыцца малаўжывальнасцю іх у сучаснай беларускай мове.

## ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ЛІЧЭБНІКАМ

§ 461. Дзейнік можа выражацца колькасным лічэбнікам: *Мрэ адзін, а ўсё з ім не ўмяншаецца: на яго месца родзіцца пяць* (Я. Купала. Грабар). *Мёртвымі вачамі моўчкі глядзяць у залатую будучыню трыццаць пяць* (А. Дудар. Трыццаць пяць). *Абое маўчалі,*

*а б о е чакалі адзін ад аднаго пытання* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах). *Т р о е выйшлі з балота на морскі бераг, калі ўжо сцямнела зусім* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

З а ў в а г а. У творах мастацкай літаратуры пад уплывам гаворак сустракаюцца такія двухсастаўныя сказы, у якіх дзейнік выражан колькасным лічэбнікам у форме не назоўнага, а роднага склону: *Д з е с я ц ё х удойж вуліцы гразкай сталі пільна пад кожным акном; ч а т ы р о х у блішчастых касках увайшлі асцярожна ў дом* (П. Г л е б к а. Аповесць пра каня). *У фаэтоне сядзела т р о х, яны былі прыгожа і спрытна апранутыя* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

§ 462. Дзейнік можа выражацца парадкавым лічэбнікам: *Адзін муруе, д р у г і цэглу робіць, т р э ц і дрэва чэша, ч а ц в ё р т ы зямлю арэ* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Іх людзі часамі ўспомняць, як поле стрыгуць сярпы... Ды доўгую гэту аповесць раскажа д з е с я т ы, сляпы* (А. К у л я ш о ў. Крыўда). *Ды ўчора с е м с о т д в а ц ц а т ы зноў напомніў аб сабе* (Я. В а с і л ё н а к. Семсот дваццаты кіламетр).

### ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ НЕЗМЯНЯЛЬНЫМІ СЛОВАМІ

§ 463. Дзейнік можа выражацца інфінітывам. Пры дзейніку, выражаным інфінітывам, даволі часта інфінітывам выражаецца і выказнік. З двух інфінітываў, што выступаюць у ролі галоўных членаў, дзейнікам з'яўляецца той, які знаходзіцца на першым месцы: *З табою г а в а р ы ц ь — сораму набрацца* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *Ж ы ц ь — Радзіме служыць* (прыказка). *Х а в а ц ц а цяпер у гурце — значыць, паказаць, што ён спужаўся* (В. В і т к а. Позняя палыны). *Найлепшы спосаб в у ч ы ц ц а ад жыцця — гэта самому тварыць гэта жыццё* (К. К р а п і в а. Слова да малодшых). *П я р э ч ы ц ь яму — усё роўна, што ў сцяну гарохам страляць* (Я. К о л а с. На ростанях).

Інфінітыў-дзейнік заўсёды знаходзіцца на першым месцы, калі выказнік выражан прыслоўем: *Праз гэты двор п р а й с ц і прыемна: тут адзен клопат, ёсць і план* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *А д р о з н і ц ь вельмі лёгка ад жывых таго, каго жыццё жадае сэрцы* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *А р а з б у р ы ц ь супакой душы такаройца было надта лёгка* (З. Б я д у л я. Дванаццацігоднікі). *Але і с т а я ц ь уначы на адным месцы таксама было нядобра: у цемры маглі падкрасціся ворагі* (Я. М а ў р. У краіне райскай птушкі).

З а ў в а г а. Пры перастаноўцы такіх галоўных членаў месцамі прыслоўе пераходзіць у разрад безасабова-прэдыкатыўных слоў і зліваецца з наступным інфінітывам у непадзельнае словазлучэнне, у выніку чаго сказы з двухсастаўных ператвараюцца ў аднасастаўныя: *Удваіх нам з табой па жыцці гэтак л ё г к а і д о б р а і с ц і* (А. А с т р э й к а. Бачыў шмат я гарачых вачэй...). *П р ы е м н а ў летні час к р о ч ы ц ь па лесе, у д ы х а ц ь пах суніц і грыбоў, с л у х а ц ь лагодны шум дрэў* (Г. Ш ч а р б а т а ў. Песня пра Тоню Любчанка). *Ц і к а в а б ы л о н а г л я д а ц ь у пушчы за гульнёй маладых зуброў-падлеткаў* (В. В о л ь с к і. Гаспадар пушчы).

Інфінітыў-дзейнік звычайна знаходзіцца на першым месцы і ў выпадку, калі выказнік выражан іменнымі часцінамі мовы. Аднак у такіх сказах можа быць і адваротны парадак размяшчэння галоўных членаў: *У бор х а д з і ц ь Алёшку не навіна* (А. Я к і м о в і ч. Незвычайны мядзведзь). *Для пастушкоў п р а н і к а ц ь у лес было марай* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *А самым цікавым для мяне было п а б а ч ы ц ь, як з высокага яруса бярвення кацілі ў Нёман калоды* (Я. К о л а с. Страшнае спатканне). *Для яго ўжо было вялікай непрыемнасцю к у р ы ц ь якую-небудзь махорку і дрэнна п а а б е д а ц ь* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

§ 464. Дзейнік можа быць выражан прыслоўем: *Гэта «к у д ы» ўстала цяпер перад Ракопам з усёй вострасцю і ў поўнай велічы* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Рамантычнае «к а л і с ь ц і» пакінула свае сляды да самай рэвалюцыі: лепшыя землі, лепшыя лугі і ўсе лясы асталіся пасля*

*паншчыны ў памешчыкаў* (З. Бядуля. Панскі дух). *І гэтае «д о б р а» чамусьці так кальнула Косцю, што ён ажно падскочыў* (І. Шамякін. Наташа).

§ 465. Дзейнік зрэдку выражаецца прыназоўнікамі: *П а-н а д — складаны прыназоўнік.*

§ 466. Ролю дзейніка можа выконваць злучнік: *Але... тут знайшлося сваё «а л е»* (Я. Колас. На ростанях). *Гэтае «а т о» было сказана так грозна і выразна, што нават громаадводы спалохаліся* (Я. Маўр. ТВТ). *Усё гэта, вядома, вельмі цікава, але было тут і сваё «а д н а к»* (Я. Брыль. Вачыма друга).

§ 467. Дзейнік можа выражацца часціцай: *Вось гэтыя «б ы ц ц а м», «м о ж а» і «н і б ы т а» інтрыгуюць нас* (У. Калеснік. Час і песні). *Дзе «б а д а й» умяшаецца, там дабро адступаецца* (прыказка).

§ 468. Дзейнік можа быць выражан выклічнікам: *Хочацца яму заклікаць людзей на вялікую новую працу, і ўвесь час у яго гэтае «г э й» на языку верціцца* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Нехта за рудаўкамі на купінах дрыгвы хоча голасна запець, але як бы захлёбваецца, і толькі б у л ь-б у-у-у х чуваць па баках* (З. Бядуля. Мядзведзь). *Гэтае «г а» гучала зусім ужо грозна* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *І не ведаў сам старшыня, да чаго «а г а» было* (М. Лынькоў. Выпадак на чыстцы).

### ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ФОРМАМІ ЗМЯНЯЛЬНЫХ СЛОЎ, ІХ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ І НАЗВАМІ ЛІТАР

§ 469. У ролі дзейніка могуць выступаць формы змяняльных слоў: *Мудронае «с а ў з л о м а м» пераканала раптам і Марціна ў вялікай праступнасці Ігналі, якая ніякім чынам не можа быць падаравана* (З. Бядуля. Сорам). *І гэта «і х», як здань ліхая, спакой ад дзядзькі адганяе; «і х»—нешта злое, цемень-сіла, што душу дзядзькаву муціла; «і х» — гэта тое, што варожа і ў рог барані сагнуць можа* (Я. Колас. Новая зямля). *Гэтае «в ы к р у ч в а е ц ц а» было сказана так, што я ўжо не сумняваўся: 250 тон угнаення будуць на полі ў сваю пару* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай).

§ 470. У ролі дзейніка можа выступаць частка слова: *Вось гэта п а ў служыць другой адзнакай назоўнікаў з канчаткамі -а, -я* (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу). *Пішуцца разам: колькасныя лічэбнікі, апошнім элементам якіх з'яўляецца -д з е с я ц ь, -с ц е, -с т а, -с о т, напрыклад: пяцьдзесят, дзвесце, трыста, восемсот* (М. П. Лобан, М. Р. Суднік. Арфаграфічны слоўнік). *Так, у сербскай, славенскай, чэшскай і славацкай мовах ъ р і ь р змяніліся ў складовае р* (П. Я. Юргелевіч. Нарыс сучаснай беларускай мовы).

§ 471. У ролі дзейніка могуць выступаць нават назвы літар: *Напята туга даль нябёс. Наструнена паветра. І «Т» пасадкавае нос трымае ўсё па ветру* (М. Калачынскі. Пусты аэрадром). *У словах іншамоўнага паходжання (акрамя імён уласных) д і т, як правіла, не змякчаюцца* (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі).

### ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ СЛОВАЗЛУЧЭННЕМ

§ 472. Дзейнік можа выражацца цэлымі словазлучэннямі. Па сваёй структуры і характару яны вельмі разнастайныя. Галоўнай граматычнай асаблівасцю такіх словазлучэнняў з'яўляецца іх сінтаксічная непадзельнасць.

§ 473. У ролі дзейніка часта выступае спалучэнне колькаснага або зборнага лічэбніка ў форме назоўнага склону з назоўнікам у форме назоўнага склону множнага ліку (пры лічэбніках *два, тры, чатыры* і *абодва*) або ў форме роднага склону множнага ліку (пры ўсіх астатніх лічэбніках): *Два высокія клёны каля гумна здаваліся сінімі і мокрымі* (К. Чорны. Зямля). *Быў ціхі вечар, калі тры падарожнікі падышлі балотамі да ўзмор'я* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Пяць сапёраў і сем разведчыкаў на вяселлі клічуць мяне* (П. Панчанка. Сват). *Трое Чыкілевічаў момант заставаліся ў знямелым маўчанні* (Я. Колас. Адшчапенец). *Нарэшце з'явіліся чацвёра салдат з вінтоўкамі і загадалі Ігнату ісці за імі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У колькасна-іменных словазлучэннях гэтага тыпу замест назоўніка могуць выступаць аналагічныя формы асабовых займеннікаў, субстантываваных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. Спалучаюцца яны, як правіла, толькі са зборнымі лічэбнікамі: *Абодва мы моўчкі разглядаем Ленінград* (М. Лупсякоў. Букет ружаў). *У той дзень зранку пяцёра іх у паўразбураным начною бамбёжкаю цэху выкопвалі неўзарваную бомбу* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Гаварылі двое незнаёмых* (У. Шыцік. Майская раніца). *Трое сядзеўшых за сталом зрэдку перакідваліся паміж сабою глухімі сказамі ды ківалі галовамі ў знак згоды* (Я. Колас. Дрыгва).

Пры абазначэнні прыблізнай колькасці лічэбнік у колькасна-іменных словазлучэннях выступае з прыслоўямі *каля, больш, менш* у форме роднага склону, а з прыназоўнікамі *з, за, пад* і спалучэннем прыслоўяў *больш, менш* і прыназоўніка *за* — у форме вінавальнага склону: *Сабралася чалавек каля дваццаці* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Ад лагера да Кромані па нармальнай дарозе не больш дваццаці кіламетраў, аднак на гэты пераход быў затрачаны доўгі летні дзень* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *І з пяцьдзесят сялян паскідалі лапці, падкасаліся і смела рушылі ў балота; толькі пыркі ляцелі з-пад ног ды ўздымаліся булбаткі* (Я. Колас. У балоце). *Назаўтрае больш за трыццаць чалавек з'явілася ў Сабакучава* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Заўвага 1. У мастацкіх творах пад уплывам гаворак у ролі дзейніка зрэдку ўжываюцца такія колькасна-іменныя словазлучэнні, у якіх абодва кампаненты выражаны формамі роднага склону і пры абазначэнні дакладнай колькасці: *А траіх чангарцаў працуе і сягоння на тых раскаваных камунарскіх гонях* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Пад гэтым жа Сяргейчыкам, які цяпер у лесе туляецца, яшчэ трох маладшых ёсць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Заўвага 2. Калі ў склад колькасна-іменнага словазлучэння ўваходзіць назоўнік з аслабленым лексічным значэннем (*чалавек, штука, душа*), то для ўказання на канкрэтныя прадметы ў гэта словазлучэнне ўводзіцца другі назоўнік, субстантываваны прыметнік або дзеепрыметнік з поўным лексічным значэннем у форме роднага склону множнага ліку: *Як толькі загуў заводскі гудок к выхаду на працу, да будынка дырэкцыі завода накіраваліся дваццаць чалавек рабочых* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Чалавек дзесяць жанчын і дзяўчат жылі і працавалі тут* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Весела там было — штук пятнаццаць жнеек шорхалі сярпамі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 474. Дзейнік можа быць выражан спалучэннем зменяльных слоў з няпэўна-колькасным значэннем *колькі, некалькі, столькі, гэтулькі* ў форме назоўнага склону з назоўнікамі, займеннікамі, субстантываванымі прыметнікамі або дзеепрыметнікамі ў форме роднага склону множнага ліку: *Колькі талентаў звялося, колькі іх і дзе ляжыць невядомых, непрызнаных, не аплаканых нікім, толькі ў полі адспяваных ветру пасвістам пустым!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Колькі закаханых глядзела на гэты месяц і ўздыхала: ах, як хораша!* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Некалькі жанчын завіхаліся ў дзедавай хаце* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Столькі спраў*

*ящчэ не зроблена!* (А. Марціновіч. Водгулле). *Гэтулькі людзей сышлося, як ніколі ў гэтую пору ў гэтым месцы* (К. Чорны. Вясна).

У ролі дзейніка такія словазлучэнні са змяняльным словам *некалькі* могуць ускладняцца другім назоўнікам у форме роднага склону множнага ліку, які абазначае пэўную колькасць прадметаў ці асоб: *Некалькі пар ног загрукала ў сенях, і разам з адчыненымі дзвярамі ў хату ўварваўся цэлы пук белага святла* (Я. Колас. Дрыгва). *Некалькі дзесяткаў коней прагна ўткнуліся мордамі ў росную траву* (З. Бядуля. Віхор). *Часам, і вельмі часта, прыязджала сюды некалькі сот фурманак* (К. Чорны. Максімка).

§ 475. Дзейнік часта выражаецца спалучэннем незмяняльных слоў з няпэўна-колькасным значэннем *многа, нямнога, мала, нямала, шмат, поўна, багата* і некаторых іншых з назоўнікамі, займеннікамі, субстантывіраванымі прыметнікамі або дзеепрыметнікамі ў форме роднага склону множнага ліку: *На сход прыйшло многа беспартыйных, і зала была поўная яшчэ да пачатку сходу* (П. Галавач. Вінаваты). *Такіх магутных гонкіх хвой нямнога на зямлі* (П. Панчанка. Сустрэча з Вільняй). *Там яшчэ мала ў мяне дружбакоў* (М. Арочка. Пакуль малады). *Нямала сватоў прыязджала здалёк, але іх адмова чакала* (М. Танк. Ля вогнішч начлежных). *Шмат вайной людзей закалыхана, многа спіць іх у зямлі сырой* (А. Куляшоў. Маё пасведчанне). *Там назбіралася поўна дзяўчат, якія стараліся пераспяваць і перакрычаць адна другую* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 476. Дзейнік можа быць выражан спалучэннем слоў *шмат* і *мала* з займеннікам *хто* ў форме назоўнага склону: *Мартына Рыля тут шмат хто ведаў* (Я. Колас. Дрыгва). *Яўстрата Скачыляса, чалавека ціхманага, мала хто калі ўдзень і бачыць* (В. Вітка. Трывога ў Ельнічах).

§ 477. У ролі дзейніка часта выступаюць спалучэнні назоўніка з колькасным значэннем у форме назоўнага склону з назоўнікам, займеннікам, субстантывіраваным прыметнікам або дзеепрыметнікам у форме роднага склону: *Уцалелая тройка дыверсантаў старалася трымацца падалей ад франтавой лініі, якая за апошнія дні пачала ўсё больш і больш стабілізавацца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Частка людзей адразу ж вярнулася ў пакой, дзе стол ламаўся ад усякай яды* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Большасць рабочых, галоўным чынам жанчыны і дзеці, пасля збору лісця разышлася па хатах* (Я. Маўр. У цясніне). *Добрая чвэрць стажка ўжо была разабрана* (Я. Колас. Дрыгва). *Узняты сотні рук сялянскіх да полымя сцягоў чырвоных* (М. Аўрамчык. Слова паэта).

Пры абазначэнні прыблізнай колькасці назоўнік з колькасным значэннем у гэтых словазлучэннях выступае з дапаможнымі словамі *каля, да, з, больш, менш* і некаторымі іншымі ў форме не назоўнага, а роднага або вінавальнага склону: *Каля паловы гэтых таварышаў — камуністы* (Я. Маўр. Амок). *На сход сышлося да сотні чалавек* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Пад Рагачовам у іх палку засталося не больш трэці байцоў і каля дзесятка танкаў* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *На вуліцы каля Базылёвай камяніцы ляжала з дзесятак ёмкіх камянёў* (Я. Колас. На ростанях).

§ 478. У ролі дзейніка могуць выступаць аналагічныя словазлучэнні, у якіх першы кампанент, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, абазначае не колькасць, а пэўную групу ці сукупнасць асоб, прадметаў або рэчыва: *У гародчыках каля хат за пасівелымі частаколамі намецены гурбы снегу* (Я. Колас. Адшчапенец). *Натоўп жанчын з каламі і віламі кінуўся к дому* (К. Чорны. Аксеніны

сляды). *На гумне з завеямі гаворыць малатарань радасны атрад* (А. Куляшоў. Малацьба). *Кучы непрыбранай яшчэ саломы ляжалі і на панадворках* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 479. Дзейнік вельмі часта выражаецца спалучэннямі назоўніка або асабовага займенніка ў форме назоўнага склону з назоўнікам або асабовым займеннікам у форме творнага склону з прыназоўнікам *з*: *Песняй вясны лебядзінаю, скінуўшы зімнія чары, шэпчуцца явар з калінаю ў сумнай даліне над ярам* (Я. Купала. Явар і каліна). *Часта ўвечары хлопцы з дзяўчатамі пасля працы збіраліся на пагулянкі ля крайняй хаты бабыля Сідара* (В. Каваль. На загонах). *Мы з табою справілі заручыны на зары далёкае пары* (А. Звонак. Слаўлю жыццё). *Жэня, чырванеючы, расказала яму, што яны з Антосем пажаніліся* (А. Чарнышэвіч. Марцін Когут).

Заўвага 1. Словазлучэнні гэтага тыпу з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі і цалкам выступаюць у ролі дзейніка, калі выказнік мае форму множнага ліку. Калі ж выказнік мае форму адзіночнага ліку, то дзейнікам трэба лічыць толькі назоўнік або займеннік назоўнага склону, бо ў такіх выпадках назоўнік або займеннік творнага склону з прыназоўнікам *з* выконвае функцыю ўскоснага дапаўнення: *Каня ў іх не было, і бярвенне на хату Марына з мужам насіла на плячах* (К. Крапіва. Пачатак шчасця). *Да поўначы раіўся Міколка з дзедам, як лепш справу зрабіць* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Спаў ён са мною на ложку, і мы пасябравалі* (Б. Сачанка. Уладзік).

Заўвага 2. Галоўны кампанент разглядаемых словазлучэнняў, якія цалкам выступаюць у ролі дзейніка, выражаецца займеннікам множнага ліку незалежна ад таго, ідзе размова аб некалькіх асобах ці аб адной. Словазлучэнні з галоўным кампанентам, выражаным займеннікам адзіночнага ліку, для беларускай літаратурнай мовы не характэрны, аднак у мастацкіх творах паасобных аўтараў яны зрэдку сустракаюцца: *Пасучы статак ля бору, я з Якімам пялі лазовыя кашы, седзячы над ракою* (М. Нікановіч. Вясновы прамень). *Але ад Вінцэся адчапіцца не было як, ён з Васілём вазілі і цягалі бярвенне, а Вацік корпаўся каля іх, злаваў, калі нічога не патрапляў аднай рукой* (Б. Мікуліч. Жыццёпіс Вінцэся Шастака).

§ 480. Дзейнік можа выражацца спалучэннямі пытальнага, азначальнага, адмоўнага і няпэўнага займеннікаў, колькаснага і парадкавага лічэбнікаў і некаторых прыметнікаў у форме назоўнага склону з назоўнікам, субстантываваным прыметнікам і дзеепрыметнікам, колькасным лічэбнікам і асабовым займеннікам у форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*: *Хто з нас не любіўся, хто ўцехай кахання хоць міг сваіх лет маладых не правёў?* (Я. Купала. Зімою). *Ніхто з хатніх не ведаў, ці радавацца, ці тужыць* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Пазняк з усмешкай наглядаў за тым, як хто-небудзь з адпачываючых пасля мёртвай гадзіны пагойдваўся ў плеценым крэсле, відаць, жадаючы прыбавіць у вазе* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *Кожны з трох адчуваў парывістае дыханне другога* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Двое з памочнікаў Плішчынскага, якія знаходзіліся ў пакоі, таксама з цікавасцю глядзелі на Юрыя* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *Цяпер вырашаліся прыватныя пытанні кіраўніцтва, і ў размову ўступалі то адзін, то другі з запрошаных у штаб-кватэру* (А. Асіпенка. Вогненны азімут). *Гэтым годам нам падаравана самая найлепшая з надзей* (П. Панчанка. Навагодняе слова).

Аналагічнымі з'яўляюцца дзейнікі, выражаныя словазлучэннямі, ролю першага кампанента якіх выконваюць спалучэнні *шмат хто, мала хто, нямала хто*: *Шмат хто з гараджан балюча перажываў гэтыя падзеі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Над уласцівасцямі солі мала хто з нас задумваецца* (А. Кулакоўскі. Гісторыя аркі). *На гэты конт нямала хто з тых, што яшчэ сядзелі ў зале, відаць, меў іншую думку* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 481. У ролі дзейніка выступаюць словазлучэнні, якія з'яўляюцца ўласнымі назвамі дзяржаў, населеных пунктаў, арганізацый, устаноў, мастацкіх твораў і г. д.: *Ізноў Савецкая Расія праславіла дваццаты век* (М. Машара. Збыліся мары). *Савецкая Беларусь — неад-*

*дымная частка ўсяго Савецкага Саюза — кіпіць энергіяй і радасцю* (К. Чорны. Ясны дзень краіны). *Глухі Бор быў вельмі ўстрывожаны* (З. Бядуля. Год за годам). *Мы зробім усё для таго, каб «Пагібель эскадры», адна з лепшых п'ес савецкай драматургіі, не толькі стала «спектаклем сезона», але і ўвайшла ў фонд лепшых работ тэатра* (з газет).

У мастацкіх стылях у ролі дзейніка зрэдку выступаюць словазлучэнні, якія з'яўляюцца жартоўнымі мянушкамі асоб: *Гляньце, «Касі сена» ідзе!* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Шмат часу быў заняты «Пакахай ды сохні» і рознымі лістамі: то прачытваў чужыя, то пісаў свае* (М. Паслядовіч. Марсель). *Тэхнікаў няма, цэглы няма і «Глядзі сюды» невядома дзе бадзяецца* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

У мастацкіх стылях дзейнік зрэдку можа выражацца і словазлучэннямі, якія называюць асобу па знешняй прымеце: *Кароткая бравэрка ў глянсаваных ботах зноў штосьці тлумачыла ў натоўпе* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Шэры гарнітур страсянуў з свае папяросы попел і падаў яе* (П. Галавач. Навела без назвы). *Шэрыя курткі рагаталі* (М. Лынькоў. Дзіцячы башмачок).

Падобныя словазлучэнні зрэдку могуць выступаць у форме не назоўнага склону, а творнага з прыназоўнікам з: *З чорнымі вусікамі зноў сеў на крэсла* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

§ 482. Дзейнік можа выражацца сінанімічнымі збліжэннямі назоўнікаў: *Аб высокай гарэ, дзе ніхто не арэ, казкі-байкі ліюцца крыніцай* (Я. Купала. Песня званара). *Шлях-дарога ўецца змеем* (А. Александровіч. Шчаслівая дарога). *Явар загамоніць над вадою, гусі-лебедзі ўзляцяць над ім* (А. Зарыцкі. Гэтак будзе).

Аналагічнымі з'яўляюцца дзейнікі, выражаныя наменклатурнымі збліжэннямі назоўнікаў тыпу *хата-чытальня, школа-інтэрнат, прэм'ер-міністр, генерал-лейтэнант, плашч-палатка, кілават-гадзіна: Словам, хата-чытальня была тым месцам, дзе можна гаварыць аб усім, нават аб сваіх крыўдах* (З. Бядуля. Дэлегатка). *Генерал-маёр, шчуплы, з акуратна паголенай галавой, з дабрадушнымі ўсмешлівымі вачыма, падаў камандуючаму каленкоравую папку* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 483. Дзейнік можа быць выражан спалучэннем назоўніка ці асабовага або ўказальнага займенніка з дапасаваным да іх азначальным займеннікам *сам*, які, выконваючы функцыю ўзмацняльнай часціцы, падкрэслівае, што іменна названая асоба з'яўляецца суб'ектам дзеяння або носьбітам прыметы: *Сам камандзір батальёна сядзеў за сталом і займаў цэнтральнае месца* (Я. Колас. Дрыгва). *Так я зразумеў яшчэ адну ісціну, што няскazанае слова павінен сказаць толькі ты сам* (В. Вітка. Няскaзанае слова). *Праз пару дзён паўтарылася тое самае* (З. Бядуля. Велікодныя яйкі).

§ 484. У ролі дзейніка могуць выступаць спалучэнні асабовага займенніка множнага ліку, указальных займеннікаў *гэты* і *той*, азначальнага займенніка *іншы*, субстантываванага прыметніка або дзеепрыметніка ніякага роду і колькаснага або зборнага лічэбніка з дапасаваным да іх азначальным займеннікам *увесь: Запомнілі ўсе мы зямлі той кавалак, дзе нам на растанні зязюля кувала* (П. Панчанка. Думы салдата). *Праз хвіліну ўсе яны былі на двары* (П. Галавач. З тых дзён). *Усё тое і ўсе тыя, што, як карны лёс, віселі над ім, асталіся далёка і сюды не дасягнуць* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Размову вялі галоўным чынам падлоўчы з настаўнікам, а ўсе іншыя слухалі і толькі зрэдку ўстаўлялі сваё слова* (Я. Колас. На ростанях). *Усё жывое разамлела, замёрла, стаілася* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *Усе трое дапытліва пaглядзелі на Дзяміда Сыча* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Спалучэнне зборнага лічэбніка з азначальным займеннікам *увесь,* якое выступае ў ролі дзейніка, можа ўключаць у свой склад асабовы займеннік множнага ліку: *Усе трое яны адышлі пад павець і селі там на дошках* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Яны ўсе трое былі ўжо адзетыя* (Я. Васілёнак. Жанчына).

§ 485. Дзейнік можа выражацца спалучэннямі няпэўнага і адмоўнага займеннікаў, якія ўказваюць на асобу ці прадмет, з дапасаваным да іх прыметнікам, дзеепрыметнікам, указальнымі займеннікамі *такі, гэтакі* і азначальным займеннікам *іншы: І ўзняўся нехта дужы, і кінуў кліч дасужы — як помста, як пярун* (Я. Купала. Безназоўнае). *Здавалася, што ў іх жыццё ўціснулася нешта чужое, непатрэбнае, перашкаджаючае, з якім немаведама што рабіць* (Я. Маўр. Сын вады). *Але аднаго разу здарылася нешта такое, што ўзварухнула раўнавагу жыцця Аўгіні* (З. Бядуля. Дэлегатка). *Не хочацца неяк, каб нехта іншы пачынаў* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Хто іншы адчуў бы сябе адзінокім, забытым і нават абражаным такой няўвагай гэтых чужых незнаёмых хлапцоў* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Замерла і не рухалася з месца нішто жывое* (А. Васілевіч. Тая першая зіма).

§ 486. У ролі дзейніка могуць выступаць спалучэнні асабовага займенніка, указальных займеннікаў *гэты, той,* зрэдку назоўніка множнага ліку з адлічэбнікавымі прыслоўямі тыпу *ўдвух—удваіх, утрох — утраіх: Вайніловіч хоць і быў дужэйшы за кожнага з нас, але ўдвух мы яго лёгка перамаглі* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Асіна крывая. Пад ёю разрослся дзядоўнік і мох, а там, за высокай травою, паселі яны ўдзевяцёх* (А. Куляшоў. З дзённіка брыгадзіра). *І тыя ўтрох, спатканыя халоднай сцяной ледзянога недавер'я бясхітрасных вяскоўцаў, прасядзелі пайдня на гнілых бярвеннях у канцы вёскі, не дачакаўшыся сходу* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *Убачыўшы Акіліну, нешта аж упяцёх вясёлыя кавалеры падскочылі да яе, выгінаючыся ў цырымонным паклоне* (В. Вітка. Познія палыны).

§ 487. У ролі дзейніка гэтыя словазлучэнні могуць уключаць у свой склад яшчэ азначальны займеннік *увесь,* дапасаваны да асабовага займенніка, або назоўнік ці асабовы займеннік у форме творнага склону з прыназоўнікам *з: А яны ўсе ўтрох тады зарагаталі* (К. Чорны. На дарозе). *Удвух з Тодарам увайшлі яны ціха, баязліва азірнуліся вакол, не выпускаючы з рук пугаў, сталі вачыма шукаць ціхага і цёмнага месца, дзе б задрамаць* (К. Чорны. Максімка). *Праўда, зрабіць тое, пра што я кажу, мы ўдвух з табою не зможам* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 488. Дзейнік можа выражацца спалучэннямі займеннікаў *хто-ніхто, што-нішто, сёй-той (той-сёй),* якія абазначаюць невялікую колькасць няпэўных асоб і прадметаў: *Пасля веснавога пажару людзі пабудавалі зямлянкі, а хто-ніхто нават управіўся паставіць зрубы* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *За гэты час што-нішто змянілася і ў жыцці ў князя* (М. Лупсякоў. Паданне пра кніжніка). *Сёй-той ведаў аб сакрэце могілак, некаторыя здагадваліся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У нядзелю ўвечары ў доме Тамашэвічаў граў патэфон, нехта запяваў песні, той-сёй танцаваў* (Г. Шчарбатаў. Закінуты кацёл). *У Сашкі таксама сёе-тое наклёўвалася* (М. Гроднеў. Вяртанне).

§ 489. У творах мастацкай літаратуры дзейнік, выражаны назоўнікам, субстантываваным прыметнікам і дзеепрыметнікам, з мэтай падкрэслівання, акцэнтуацыі на ім увагі можа паўтарацца ў выглядзе адпаведнага асабовага займенніка або ўказальнага займенніка *той.* Займеннікі гэтыя часта выступаюць са словамі *і, дык* і выконваюць функцыю ўзмацняльных часціц: *Няпраўда! Наш Ленін не мёртвы, наш Ленін — ён вечна жывы!* (П. Броўка. Заўсёды з Леніным). *Ма-*

*л а д з е й ш ы я — я н ы, брат, неяк глядзяць шырэй* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *М у ж ч ы н ы — т ы я зубамі толькі скрыгіталі ды кулакі камячылі* (М. Н і к а н о в і ч. Мяцеліца). *Н а в а т п а л о н н ы я і т ы я прынеслі сюды сваю гаворку* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *К а р ж а к е в і ч д ы к т о й гаварыў мала, больш слухаў гарачую нервовую гаворку Соміка і яго блытаныя няпэўныя довады супроць Наздрэйкаў* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

§ 490. Дзейнік, выражаны назоўнікам, асабовым або ўказальным займеннікам, субстантываваным прыметнікам або дзеепрыметнікам, можа ўскладняцца непадзельнымі спалучэннямі *не хто іншы, як; не хто іншы, а; не што іншае, як; не што іншае, а,* якія выконваюць пры ім функцыю ўзмацняльнай часціцы *іменна: І вось у гэтую хвіліну ў хату ўвайшоў н е х т о і н ш ы, я к цётка А ў д о л я* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Стычыны). *І я чакаю, бо гэта ж н е х т о і н ш ы, а д з е д выпрасіў у воласці жыта, з якога і спяклі хлеб* (Б. С а ч а н к а. Хлеб).

## ДЗЕЙНІК, ВЫРАЖАНЫ ЦЭЛЫМ СКАЗАМ

§ 491. Дзейнік можа быць выражан цэлым сказам і нават спалучэннем сказаў, калі яны выступаюць як адно цэлае паняцце, якому прыпісваецца пэўнае дзеянне або прымета: *Гэта «Н у, я к з д а р о ў, В а с і л ь» гучыць сёння не так, як гучыць яно звычайна* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Першы раз у жыцці яе вечнае «т а к т р э б а» змянілася на «так не трэба»* (З. Б я д у л я. Дэлегатка). *І тут жа раптам яму ясна стала, што гэта «н е х т а і ш о ў» павінна яго выратаваць... хоць гэты раз, а там будзе відаць* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Нібы з адных грудзей гучыць салдацкае і наша «Н е х ж ы е!» — здравіца гэтай дружбы, а потым — дзяржаўныя гімны дзвюх братніх краін* (Я. Б р ы л ь. Вачыма друга). *Хай носам хлюпік хлюпае, а смачны на марозе ямшчыцкае «Н о, л ю б а я» і стылы звон палоззя!* (А. В я л ю г і н. Вецер з Волгі).

# ВЫКАЗНІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 492. Выказнік — гэта галоўны член сказа, які знаходзіцца ў сэнсавай і граматычнай залежнасці ад дзейніка і абазначае дзеянне, стан або прымету прадмета, названага дзейнікам.

Па сваёй будове выказнікі бываюць простыя і складаныя. П р о с т ы м і з'яўляюцца выказнікі, якія складаюцца з аднаго канструктыўнага кампанента, г. зн. слова або спалучэння слоў, якія выражаюць адну граматычную форму: *І пад птушак крык і гоман, даўшы хвалям вольны ход, п р ы п а д ы м е бацька Нёман на хрыбце магутны лёд* (М. Б а г д а н о в і ч. Перад паводкай). *І часта, часта ў чыстыя іх сны ў р ы в а ц ц а б у д у ц ь галасы вайны* (П. П а н ч а н к а. Дзеці вайны). *Вышыўка сапраўды ц у д о ў н а я* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Адзіноцтва пакуты — с а м а е ц я ж к а е* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Выказнікі з двума і больш канструктыўнымі кампанентамі з'яўляюцца с к л а д а н ы м і: *Я х а ч у / р а с к а з а ц ь аб адной вясёлай акалічнасці нашага знаёмства* (В. В і т к а. Нясказанае слова). *С т а л і / я в а й адвечныя мары* (Я. Ж у р б а. Беларусь Савецкая). *Ён р а ш ы ў / н а в у ч ы ц ц а / п і с а ц ь сам* (Я. К о л а с. Рыгорава памылка). *У любую хвіліну з нізкага неба г а т о в ы / б ы ў / п а ч а ц ь / с е я ц ц а дробны дождж* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка).

## ПРОСТЫ ВЫКАЗНІК

§ 493. Просты выказнік выражаецца дзеясловам, назоўнікам, прыметнікам, лічэбнікам, займеннікам, прыслоўем, безасабова-прэдыкатыўнымі словамі (толькі ў аднасастаўных безасабовых сказах), выклічнікам, фразеалагічнымі і сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі.

Найбольш пашыраны ў сучаснай беларускай літаратурнай мове простыя дзеяслоўныя выказнікі. У ролі простага дзеяслоўнага выказніка часцей за ўсё выступаюць асабовыя формы дзеяслова. Акрамя асабовых форм дзеяслова, просты дзеяслоўны выказнік можа быць выражан дзеепрыметнікам, інфінітывам і аддзеяслоўным выклічнікам.

### ПРОСТЫ ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ АСАБОВЫМІ ФОРМАМІ ДЗЕЯСЛОВА

#### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЯСЛОВАМ АБВЕСНАГА ЛАДУ ЦЯПЕРАШНЯГА ЧАСУ

§ 494. Просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу цяперашняга часу, звычайна абазначае дзеянне, якое супадае з момантам паведамлення аб ім: *Над хвоямі пранасіцца мяккі веснавы вецер* (П. Галавач. Праз гады). *Недзе далёка ў прадонні цемры гаснуць нясмелыя агні* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казематa).

Акрамя дзеяння, якое супадае з момантам паведамлення аб ім, выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу цяперашняга часу, нярэдка мае іншыя часавыя значэнні. Ён можа абазначаць: 1) дзеянне як пастаянную ўласцівасць прадмета: *Лечыцца трава ад спёкі ліўнем, людзі ласкай лечацца людской* (П. Панчанка. Чалавечнасць); 2) дзеянне, якое адбылося ў мінулым: *Аднойчы прыязджае да яе знаёмы Рыгор Баравец* (А. Якімовіч. Партызанская маці); 3) дзеянне, якое адбудзецца ў будучым: *«Заўтра я іду па месцах ласінага рэву, — сказаў ён мне. — Калі хочаце, пойдзем разам»* (В. Вольскі. У лясах над Бярозай).

Выказнік, выражаны спалучэннем асабовай формы дзеяслова цяперашняга часу з часціцай *бывала*, абазначае шматкратнае даўномінулае дзеянне: *Бывала, імчыцца вей-вецер і вецце лёгкім павевам авее* (А. Александровіч. Вясна).

§ 495. У ролі простага выказніка дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу выступаюць у формах любога стану, асобы і ліку: *Краіна родная, Савецкая краіна, табе я ў песнях сэрца аддаю* (А. Александровіч. Цені на сонцы). *Мы нашых дзён радкі жывыя кладзём на музыку вясны* (У. Хадыка. Песня з поўдня). *Ты, пэўна, сумуеш пасля развітання і з гэтай хвіліны чакаеш мяне* (С. Грахоўскі. Прызнанне). *Праз дождж і сівер, вечныя нягоды ён крочыць і выстуквае зямлю у пошуках упартае пароды* (Э. Агняцвет. Шукальнік). *Не завіце маю Рэспубліку краінай багнаў-аблог! У садах яна разліваецца, у жытах яна калыхаецца, разбягаецца ў стрэлах дарог* (К. Кірэенка. Мая Рэспубліка).

§ 496. У сказах з дзейнікам-назоўнікам выказнік выражаецца незваротнымі і зваротнымі дзеясловамі ў форме 3-й асобы адпаведнага ліку: *Над паласамі аўсоў зіхаціць ледзь прыкметны для вока залацісты сонечны пылок* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Насустрач цягніку выходзяць з-за ўзгорка маладыя алешыны, хвоі, імчацца спярша адзінкамі, сыходзяцца густой сцяной, падыходзяць блізенька да цягніка, заглядаюць у вокны, ківаюць лісцямі, праводзяць цягнік гучным шолахам і знікаюць ззаду, ужо за новымі ўзгоркамі* (П. Галавач. Вінаваты).

§ 497. Дзеяслоў *быць* у беларускай мове страціў формы 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку і форму 3-й асобы множнага ліку, таму для выражэння наяўнасці, існавання каго-небудзь або чаго-небудзь у цяперашнім часе пры розных дзейніках ужываецца форма 3-й асобы адзіночнага ліку *ёсць*: *Ды ё с ц ь жа ты, праўда, на свеце, ды ё с ц ь жа ты, вечны закон* (Я. К о л а с. Адплата). *Ё с ц ь музыка і ты, і ё с ц ь тваё зялёнае акно* (А. П ы с і н. Домскі арган). *Хто з іх належаў да маладой гвардыі, пра якую гаварыла Ганна, Васіль не ведаў, але адчуваў, што яны тут ё с ц ь* (Р. Н я х а й. Героі не адступаюць). *Далей пад рэчку ё с ц ь месцы і няроўныя* (П. Г а л а в а ч. Праз гады).

З а ў в а г а. У мастацкіх творах паралельна з літаратурнай формай *ёсць* зрэдку сустракаюцца дыялектныя формы *ё* і *ёсцека*: *Е часіна, ё скрыпіна,— весяліся, грамада!* (Я. К у п а л а. Адвечная песня). *Хутчэй бы як дазнацца, ці немцы ё ў сяле* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *Але трэба сказаць, што ўсё-ткі ё с ц е к а адмысловыя брахуны* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *«Можа і ё с ц е к а тут праўда...»— амаль з вясковым прыдыханнем сказала яна* (У. К а р а т к е в і ч. Каласы пад сярпом тваім).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЯСЛОВАМ АБВЕСНАГА ЛАДУ ПРОШЛАГА ЧАСУ

§ 498. Просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу прошлага часу, звычайна абазначае дзеянне, якое мела месца да моманту паведамлення аб ім: *Тэкля н е д а м а г а л а, але цераз сілу каля печы ў п р а ў л я л а с я* (В. А д а м ч ы к. Свой чалавек). *Над горадам в і с е л а душная жнівеньская ноч* (А. А с і п е н к а. Да запатрабавання). *Я чуў, як з ветрам стройная сасна ш а п т а л а с я ўсю ноч аж да відна* (А. А с т р э й к а. У дазоры).

Просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу прошлага часу, зрэдку можа абазначаць дзеянне ў плане будучага часу. Сінтаксічныя канструкцыі з такімі выказнікамі характэрны для размоўнага стылю. Яны сустракаюцца ў мастацкіх творах пры абазначэнні дзеяння, якое вельмі хутка наступіць пасля паведамлення аб ім, або пры экспрэсіўным адмаўленні дзеяння ў будучым. *«Нічога, Толя, — сказала Люда, — пакуль я снеданне зраблю, ты зловіш яшчэ. Ну, я п а й ш л а»* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Танечка, я да цябе на хвіліначку. Віншую, і ўсё такое іншае, а сама я п а б е г л а* (Я. В а с і л ё н а к. Тэлеграма). *«Таго і глядзі, з жывых скуру здзяруць, калі зловяць вось». — «Так яны і з л а в і л і! Дамся я ім, гадам!»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Вось няхай толькі сучка Жагулава ашчэніцца, непрыменна шчанюка вазьму», — рашыў раптам Тодар Пошта. — «Так табе Жагула і д а ў шчанюка!»* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Зрэдку просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу прошлага часу, можа абазначаць загад, пабуджэнне да дзеяння, якое павінны сумесна выканаць гаворачы і субяседнік: *Твая справа — высветліць і ў атрад вярнуцца. А цяпер п а й ш л і да камандзіра* (А. А с і п е н к а. Першае заданне). *«П а й ш л і, Чыжык», — весела сказала Тамара* (Я. В а с і л ё н а к. Дзяўчына і стэп).

§ 499. У ролі простага выказніка дзеясловы абвеснага ладу прошлага часу выступаюць у формах любога стану, трывання і ліку: *Туман н а б р а к а ў расою, ц я ж э ў і, ападаючы з аўса на выган, а с я д а ў у лагчынах і п а в і с а ў камякамі на алешнікавым голлі, густа нагортваючыся вакол кустоў* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *У некаторых выпадках усе найбольш важныя стратэгічныя пытанні в ы р а ш а л і с я агульным сходам* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Ён моўчкі а д в я р н у ў с я і, хоць б а ч ы ў с я ў школе, п р ы в і т а ў с я з Данілам Платонавічам, які с я д з е ў на табурэце перад грубкай і п а д к і д а ў дровы* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Р а с ч а с а л і вішні шоўкавыя косы і ў р а н і л і долу снегавы вянок* (П. Т р у с. Дзесяты падмурак). *Дзяўчына, як і трэ-*

*ба было чакаць,* *вельмі* *ўзрадавалася,* *калі* *даведалася,* *што ёй нечакана* *трапіўся* *спадарожнік* (Б. Сачанка. Мая спадарожніца).

§ 500. У сучаснай беларускай літаратурнай мове просты выказнік часта выражаецца аналітычнымі дзеяслоўнымі формамі прошлага часу. Яны ў асноўным бываюць двух тыпаў:

1. Аналітычныя формы, якія складаюцца з поўназнамянальнага дзеяслова прошлага часу і часціцы *бывала*. Выказнік, выражаны гэтымі формамі, абазначае шматкратнае даўномінулае дзеянне: *А калі,* *бывала,* *ён* *выходзіў* *у круг, то вырабляў такія «калены», што зайздрасць брала хлопцаў* (Г. Шчарбатаў. Таямніца). *Так,* *бывала,* *у чайхане мой дзед* *павучаў,* *расказваў* *спакваля, як ступіць, каб зеляней твой след, шапацела пра цябе зямля* (А. Русецкі. Каракумская легенда).

2. Аналітычныя формы, якія складаюцца з поўназнамянальнага дзеяслова прошлага часу і аналагічнай формы дапаможнага дзеяслова *быць*. Выказнік, выражаны гэтымі аналітычнымі дзеяслоўнымі формамі, звычайна абазначае дзеянне, якое не было даведзена да канца ці не дало жаданага выніку, таму што яно перарвалася другім дзеяннем: *Андрэй* *быў* *павярнуўся,* *каб ісці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі* (Я. Колас. Малады дубок). *Раіса адразу з нервовай трывогай у вачах* *схапіла* *была* *яго за руку, а потым сама схамянулася, засмяялася* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Нехта* *быў* *тоненька* *хіхікнуў,* *але яго зараз жа супакоілі злым шыканнем* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Мы пад вечар аж пад самыя акопы нямецкія* *падпаўзлі* *былі,* *а яны гранатамі калі шарахнулі* (К. Крапіва. Доўг).

У некаторых выпадках такія выказнікі абазначаюць проста даўномінулае дзеянне, якое па значэнню адпавядае старажытнаму плюсквамперфекту: *Карызна памятае, як усяго месяцы з тры таму* *прыехаў* *быў* *у іхні раён таварыш Гайдук* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *А я* *была* *спалохалася,* *Лёня, думала, што цябе няма* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *У хмуры і мокры дзень восені, пад вечар,* *выйшлі* *яны* *былі* *разам з піўной* (К. Чорны. Захар Зынга).

Заўвага 1. У выказніках гэтага тыпу дапаможны дзеяслоў *быць* часам пераходзіць у часціцу і выступае ў форме ніякага роду незалежна ад таго, якога роду асноўны дзеяслоў: *У гурт узбуджаны, вясёлы кідаў ён словы нараспеў, але й яго нястрымны голас* *было* *зрываўся* *і* *дрыжэў* (П. Броўка. Дэкрэт Леніна). *Маці тады* *затрымалася* *было* *ў* *вёсцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Заўвага 2. Вельмі працяглае ў мінулым дзеянне можа выражацца дзеясловамі абвеснага ладу прошлага часу з падвойнай прыстаўкай *па*: *Пасля таго, як узбек* *папакурчыўся* *жыватом ад балотнай вады, Машкін забараніў набіраць у біклажкі ваду з розных лужын і канаў* (А. Кулакоўскі. Да ўсходу сонца). *Колькі я* *папапрошвала* *цябе, колькі* *папагрожвала,* *а ты і вухам не вяла* (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца). *Ён ведаў, колькі я* *папасядзеў* *над нарысам* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЯСЛОВАМ АБВЕСНАГА ЛАДУ БУДУЧАГА ЧАСУ

§ 501. Просты выказнік, выражаны дзеясловам абвеснага ладу будучага часу, абазначае дзеянне, якое будзе мець месца пасля моманту паведамлення аб ім: *Зашуміць* *трава густая, кветкі ў лузе* *засмяюцца,* *вясна* *прыйдзе* *маладая, ўсюды песні* *панясуцца* (Я. Колас. Вясна). *Будуць* *праходзіць* *дні і ночы,* *будзе* *грымець* *вецер і дождж,* *будзе* *бушаваць* *мяцеліца,* *будуць* *галасіць* *правады,* *будзе* *смяротным маўчаннем* *маўчаць* *турма* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата).

Просты выказнік выражаецца дзеясловамі будучага простага і будучага складанага часу.

§ 502. Выказнік, выражаны дзеясловам будучага простага часу, абазначае будучае закончанае дзеянне. Гэтыя дзеясловы ў ролі простага выказніка выступаюць у формах любога стану, асобы і ліку. Адрозніваюцца яны ад адпаведных форм дзеясловаў цяперашняга часу толькі катэгорыяй трывання: *Калі-небудзь я сам усё раскажу яму і ўсё вытлумачу, прызнаю, так сказаць, свае памылкі* (П. Галавач. Праз гады). *Мы працаю ўзнімем за горадам горад, зялёнаю рунню засцелем палі* (П. Броўка. Беларусь). *Загартована наша натхненне — яно адгарыць няскора* (Е. Лось. Пра пакаленне). *Здрыганецца зямля ад расплаты святой, і ад смерці нідзе не схаваецца гад* (П. Панчанка. Пісьмо другу).

Просты выказнік, выражаны спалучэннем дзеясловаў простага будучага часу з некаторымі часціцамі, можа абазначаць дзеянне, якое адбылося да моманту паведамлення аб ім.

Спалучэннем асабовай дзеяслоўнай формы будучага простага часу з часціцай *бывала* абазначаецца шматкратнае даўномінулае дзеянне: *Пазаве, бывала, Цімох свайго любімца, чухае яму за вушамі ці пад сківіцамі, адганяе камароў, смачнай травы, канапелькі нарве яму і кавалкам хлеба пачастуе* (Я. Колас. Чоран). *Зайду, бывала, да яго ў лабараторыю, а там шкляначак розных, бутэлечак, прылад усякіх* (У. Краўчанка. Эліта).

Спалучэннем асабовай дзеяслоўнай формы будучага простага часу з прэпазіцыйнай узмацняльнай часціцай *як* выражаецца дзеянне, якое вельмі хутка, імгненна адбылося ў мінулым: *Але тут як падскочыць конь, як падкіне ўгору заднія ногі, не ўтрымаўся дзед і лёгкай птахай узвіўся ў паветра* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Прадаўшчыца азірнулася ды як крыкне: «Хлопчык, злезь з прылаўка!»* (У. Дадзіёмаў. Над Нёманам).

Асабовыя дзеяслоўныя формы простага будучага часу могуць выражаць дзеянне, якое зрэдку паўтаралася ў мінулым, і без часціц. Часавае значэнне такіх выказнікаў вынікае са структуры ўсяго сказа: *У хвойніку было ціха, толькі час ад часу крыкне варона, шарахнецца заяц* (З. Бядуля. Салавей). *Часам вырвецца дзе з нізіны дзікая качка і паімчыцца нізка над лугамі* (М. Лупсякоў. Як злавіць сома).

У некаторых выпадках асабовыя дзеяслоўныя формы абвеснага ладу будучага простага часу ў ролі простага выказніка выступаюць са значэннем загаднага і ўмоўнага ладу: *«У мяне няма рэшты, — з жалем прамовіла Таня. — То, можа, у другім акне возьмеце»* (Я. Васілёнак. Тэлеграма). *Высунеш галаву з зямлянкі — і шолаху ў лесе не пачуеш* (П. Кавалёў. Настачка).

§ 503. Просты выказнік, выражаны дзеясловам будучага складанага часу, абазначае будучае незакончанае дзеянне. Ён мае аналітычную форму: складаецца з асабовай формы дапаможнага дзеяслова *быць* і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Цяпер спяваць я буду песні магутным трактарным калонам* (М. Чарот. На новай зямлі). *Мы будзем біцца з панамі да таго часу, пакуль ніводнага з іх не застанецца на нашай зямлі* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Будзеш кужаль ты прасці, будзеш ткаці кросны, выглядаці долі, шчасця ў маладыя вёсны* (Я. Купала. Алеся). *Будуць свежым лісцем шалясцець бярозы, будзе рунь кусціцца пышна па вясне* (М. Васілёк. Першы снег).

Заўвага. У мастацкіх творах будучае незакончанае дзеянне нярэдка перадаецца дыялектнымі сінтэтычнымі дзеяслоўнымі формамі, якія складаюцца з інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова і асабовай формы дапаможнага дзеяслова *імаці*: *Калі я там жыцьму, дык хто ж маме памагацьме* (Б. Сачанка. Мая спадарожніца). *І пісацьмем вершы не пяром мы — кіпарысам на лістах зары* (П. Панчанка. Дэмавенд, галоўная гара іранцаў). *А ты будзеш рабіць на яго і свайго нічога не мецьмеш* (К. Чорны. Вясна). *А куды вы, паненачка, ехацімеце?* (Я. Колас. На ростанях). *Гэта ж народная сіла ўставала: вечна яна існавацьме на свеце* (У. Ду-

б о ў к а. Крычаўская спакуса). *Ну, пойдзем, паслухаем, што сяляне* *к а з а ц ь м у ц ь на нарадзе* (Ц. Г а р т н ы. Трэскі на хвалях).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЯСЛОВАМ ЗАГАДНАГА ЛАДУ

§ 504. Просты выказнік, выражаны дзеясловам загаднага ладу, абазначае розныя пабуджэнні да выканання дзеяння. Пабуджэнне да выканання дзеяння, адрасаванае аднаму ці некальнім субяседнікам, выражаецца дзеяслоўнымі формамі загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку: *З а з в і н і ты, як звон, і у д а р, як пярун, песня наша, як воля, магучая!* (Я. К у п а л а. Наша песня). *Палкоўнікі, ваеўнікі! Ці меч вам па плячы? П р ы п о м н і ц е вы прыказку старую аб мячы!* (Я. К о л а с. Панам-ваякам). *П а г л я д з і на шырокі раскованы Нёман, Белавежы п а с л у х а й абуджаны гоман* (П. П а н ч а н к а. Матчына гора). *П р ы м а й, хлебароб, плён сваіх рук і турбот* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая). *Арлы маладыя — нявoлі сыны, у з н і м а й ц е халодныя крылы* (П. Т р у с. Дзесяты падмурак). *П і ц е салодкі мёд, госцейкі, п і ц е, слаўную Ганначку нашу л ю б і ц е* (М. Т а н к. Вясельная).

Для выражэння пабуджэння ў выглядзе сяброўскай просьбы да дзеяслоўнай формы загаднага ладу 2-й асобы дабаўляецца часціца *-ка (-тка): А ну, п а с а л і ц е-к а гэтаму разумцу гаршчок трохі, каб не прэсна было яму на тым свеце* (М. Л ы н ь к о ў. Гой). *А ну, старая, у к л ю ч ы-т к а там прыёмнік, можа, музыку якую знойдзеш* (Я. В а с і л ё н а к. Забыты вензель).

Сказы з такімі выказнікамі характэрны для мастацкіх стыляў. У творах мастацкай літаратуры нярэдка выказнік, выражаны дзеяслоўнай формай загаднага ладу 2-й асобы, ускладняецца часціцай *давай* або формай загаднага ладу 2-й асобы ад дзеяслова *глядзець*, якая страціла лексічнае значэнне і выконвае функцыю ўзмацняльнай часціцы: *Д а в а й, падносчык, п а д б я ж ы, круцей з р а б і рашчыну, праз месяц трэба палажыць апошнюю цагліну* (М. Л у ж а н і н. Кладкі Градоўскага). *Толькі г л я д з і, дружа, с я д з і спакойна* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ды г л я д з і ж н е п а т р а п пад вінтоўку* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

§ 505. Пабуджэнне да выканання дзеяння, адрасаванае субяседнікам і самому гаворачаму, выражаецца формамі дзеясловаў будучага або цяперашняга часу абвеснага ладу: *Гэй жа, браццi, ўсе мы разам песню з а п я ё м, дружна, смела, на свет цэлы аб жыцці сваём!* (Я. К у п а л а. Усе разам). *Шчыльней жа з'я д н а е м рады баявыя, на ворага р у ш ы м, як вір* (Я. К о л а с. Фашысцкім бандытам). *Прашу, паважаныя таварышы, п а г л я д з і м наш клуб!* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Дык п о й д з е м і п а д ы м е м чаркі за гэта адкрыццё!* (Я. В а с і л ё н а к. Важнае адкрыццё).

У мастацкіх стылях зрэдку сустракаюцца дыялектныя формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку на *-ма(-мо): П е й м а ж, г у л я й м а, гулка, не слёзна! Скрышаны путы паншчыны грознай* (Я. К у п а л а. Даўней і цяпер). *В ы й д з е м а, хлопцы, усе, в ы й д з е м а, братцы, к працы вялікай на поле!* (М. Ч а р о т. Да працы). *Панічок, х а в а й м а с я!* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Аднагодкі Кастрычніка! С т а н ь м а сягоння пад сцягі* (П. П а н ч а н к а. Прысяга).

У размоўных стылях форма загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку ад дзеяслова *хадзіць* часам ужываецца з часціцай *-це*, якая змякчае пабуджэнне: *Дык х а д з е м ц е хіба дамоў* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *«Х а д з е м ц е ў бальніцу»,— прапанавала Галіна Іванаўна, узяўшы за руку бабулю* (А. М а р ц і н о в і ч. Радня).

Пабуджэнне да сумеснага дзеяння ў размоўных стылях вельмі часта выражаецца спалучэннем дзеяслоўнай формы 1-й асобы множнага ліку

будучага часу абвеснага ладу з часціцай дзеяслоўнага паходжання *давай (давайце)*: *«Спі, Валодзя, спі,— мякка прамовіў Канстанцін Сцяпанавіч. — І д а в а й н е б у д з е м в я р т а ц ц а да гэтага пытання»* (Я. В а с і л ё н а к. Забыты вензель). *Д а в а й, таварыш, п а с я д з і м пад елкай на лясным улонні, цыгаркі с к р у ц і м, п у с ц і м дым і аб мінулым п а г а м о н і м* (А. А с т р э й к а. Прадраканне). *Д а в а й ц е з б у д у е м добрыя хаты замест ракет, замест гарматаў, д а в а й ц е ж бальніцы, школы п а м н о ж ы м замест знішчальнікаў і бамбавозаў* (П. Б р о ў к а. Голас сэрца). *Д а в а й ц е, добрыя сябры, п а г у т а р ы м аб шчасці* (П. Г л е б к а. Размова аб шчасці).

З а ў в а г а. У гэтай складанай форме загаднага ладу другая частка зрэдку выражаецца інфінітывам: *Д а в а й ц е песняй в е с ц і людзей за камунізм у атаку* (П. П а н ч а н к а. Слова да паэтаў). *Хлопцы, ну то д а в а й ц е г а в а р ы ц ь!* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Д а в а й ц е г у л я ц ь у што-небудзь другое* (Я. В а с і л ё н а к. Бацька).

§ 506. Пабуджэнне да выканання дзеяння, адрасаванае 3-й асобе, выражаецца апісальнымі формамі загаднага ладу, якія складаюцца з часціцы *няхай (хай)* і дзеяслова 3-й асобы цяперашняга ці будучага простага часу абвеснага ладу: *Н я х а й в е д а ю ц ь ворагі міру, што ім сонца не пагасіць скавытаннем сваім!* (М. Т а н к. Пражскі дзённік). *Так, н я х а й ж ы в у ц ь навекі еднасць верная братоў, нашы зоры, нашы рэкі, нашы песні і любоў* (П. П а н ч а н к а. Праводзіны). *Н я х а й у з н і м а ю ц ц а дзеці і ярка юнацтва цвіце, х а й шчасце к р а с у е на свеце і вечная дружба р а с ц е* (П. Б р о ў к а. Заўсёды з Леніным). *Х а й слава а с я н і ц ь, крылом а т у л і ц ь і хату воіна, і сінь нябёс, а д о р ы ц ь шчасцем кожную матулю, каторай сын цяжар ваенны нёс* (А. А с т р э й к а. Дзень перамогі). *Х а й мірны вецер яркія сцягі к а л ы ш а на трыбунах стадыёна* (А. З а р ы ц к і. Вялікі спіс).

§ 507. Дзеяслоўныя формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку ў ролі простага выказніка могуць выступаць са значэннем адпаведных дзеяслоўных форм абвеснага ладу. Яны абазначаюць:

1. Дзеянне, якое вельмі хутка адбылося ў мінулым (асабліва часта ў спалучэнні з прэпазіцыйнай часціцай дзеяслоўнага паходжання *вазьмі*): *Авечку ў Панкрата спёр, а Панкрат за яго і в а з ь м і с я з братамі* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *А ў немца ды была харошая дачка, звалася Эльза, — хлапец в а з ь м і д ы й з а к а х а й с я* (М. Г а р э ц к і. Сасна). *На пярэзвах Анэля в а з ь м і д ы п а х в а л і с я, што падашукала мяне* (А. П а л ь ч э ў с к і. Аджытая прафесія).

2. Дзеянне, якое абавязкова павінна адбывацца насуперак волі выканаўцы: *Ты сабе сядзіш там, а я—ч а к а й тут!* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Ён настыраецца, а ты м а ў ч ы* (В. В і т к а. Гуляшчы хлеб). *А ён ломіцца ды бедніцца — няма. А калі дасць, дык Сцяпан г а р у й яму цэлае лецейка* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Світанне).

§ 508. Дзеяслоўныя формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку ў ролі простага выказніка могуць выступаць са значэннем адпаведных дзеяслоўных форм умоўнага ладу, называючы дзеянне, пры выкананні якога абавязкова наступіць другое дзеянне: *Ён ведаў — п р ы й д з і ён ноччу — і гэтыя позіркі могуць ператварыцца ў гарачую свінцовую кулю* (М. Л ы н ь к о ў. Салют). *Колькі таго часу прайшло, а п р ы е д з ь дадому — не пазнаеш цяпер ні тых Пруцікаў, ні тых Мінковічаў* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне). *Н а х і л і с я ніжэй над магілай свяшчэннай, у якой з Кашавым яго сябры ляглі, і адчуеш, як дзесьці ў глыбінях каменных б'ецца сэрца вялікай савецкай зямлі* (М. А ў р а м ч ы к. Данбас).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЯСЛОВАМ УМОЎНАГА ЛАДУ

§ 509. Просты выказнік, выражаны дзеясловам умоўнага ладу, абазначае дзеянне, якое з'яўляецца магчымым пры наяўнасці пэўнай умовы:

*Я з л а в і ў б ы яго, млынара, за руку, я яму п а к а з а ў б ы, чым мелюць муку* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *А д д а ў б ы я край самы райскі і дзіўны за цень ад сасны на далёкай Радзіме* (П. П а н ч а н к а. Гімнасцёрка). *«З дабра не п а й ш л а б», — нарэшце загаварыла Ганна Арцёмаўна* (А. М а р ц і н о в і ч. Радня).

§ 510. У галоўнай частцы складаназалежнага сказа такі выказнік абазначае дзеянне, якое становіцца магчымым пасля выканання дзеяння, названага выказнікам даданай часткі, а ў даданай частцы ён абазначае дзеянне, пасля выканання якога становіцца магчымым дзеянне, названае выказнікам галоўнай часткі: *Сайка, напэўна, у ц ё к б ы, калі б за ім н е п а г н а л і с я разам з гаспадарамі сабакі* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Д а р а в а ў б ы Хвёдару Цімох недахопы маладосці, калі б ён на Кацю н е з а г л я д а ў с я* (М. В а д а н о с а ў. Жаніх). *Калі б Толік п а г л я д з е ў на маці і калі б ён н е б ы ў х л а п ч у к о м, якому яшчэ і адзінаццаці год не было, ён, напэўна, з д з і в і ў с я б, убачыўшы яе твар* (Я. В а с і л ё н а к. Адзінота). *Калі б ён н е д а ў свой дзённік настаўніку, той п а с т а в і ў б ы дрэнную адзнаку толькі ў класным журнале* (П. К а в а л ё ў. Згублены дзённік).

Выказнік даданай часткі складаназалежнага сказа, выражаны дзеясловам умоўнага ладу, можа абазначаць дзеянне, незалежна ад якога дзеянне, названае выказнікам галоўнай часткі, ажыццяўляецца заўсёды: *І раптам як бы электрычным токам страсянула яго: ш т о б тут н і а д б ы л о с я — усё ляжыць на яго клопаце.* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Ш т о б яна н і с к а з а л а, сын павінен паслухаць* (П. К а в а л ё ў. Непагадзь). *Д з е б я н і б ы ў далёка, у сэрцы ты жыла, знаёмая дарожка да роднага сяла* (П. Б р о ў к а. Знаёмая дарожка).

§ 511. Дзеясловы ўмоўнага ладу ў ролі простага выказніка могуць выступаць са значэннем абвеснага або загаднага ладу. У першым выпадку выказнік вельмі катэгарычна або, наадварот, вельмі нерашуча сцвярджае рэальнасць названага дзеяння: *Яшчэ б н е п о м н і ў таго вечара Сцяпан!* (Я. В а с і л ё н а к. Адзінота). *«Я вельмі змарыўся за дарогу і вельмі п р а с і ў б ы Любу Дарашаўну і вас таксама,— ён кіўнуў галавой да рэшты, — падтрымаць маю прапанову адпачыць у хаце»* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Я п р а с і ў б ы вызваліць мяне* (П. Г а л а в а ч. Праз гады).

У другім выпадку выказнік перадае пабуджэнне да выканання дзеяння ў форме просьбы, парады, пажадання: *Дык можа б ты цяпер з а р а б о т у, Язэп, у з я ў с я?* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *Вы б хоць пад застрэшак с т а л і, Арцём Іванавіч* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Вы з хлопцамі, дзядзька Нічыпар, можа п а д ы ш л і б калі-небудзь да нас на стрэльбішча?* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *Н я х а й б ы ж ы ў чалавек, н я х а й б ы р а с к а з в а ў розныя гісторыі* (А. К у л а к о ў с к і. Тры зоркі). *Х а й б ы ён к і р а в а ў якой-небудзь рыбалавецкай арцеллю* (М. Л у п с я к о ў. Інжынер Ватулін).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ІНФІНІТЫВАМ

§ 512. Інфінітыў з'яўляецца адзінай формай выражэння простага выказніка ў аднасастаўных інфінітыўных сказах: *Слаўны горад! Эх, п а в у ч ы ц ц а б тут, п а ж ы ц ь б ы ў ім!* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *І зараз тупяцца мячы, і марны іх крывавы старт: нікому ў свеце н е з м а г ч ы рэвалюцыйны авангард* (У. Х а д ы к а. Эпоха будням лік вядзе...). *Імкненняў нашых н е с т р ы м а ц ь!* (А. Б а ч ы л а. Сорак год). *Самы раз б ы цяпер п а х в а л і ц ц а добрым пудам салідных паэм* (П. П а н ч а н к а. Далёкія станцыі).

Просты выказнік можа выражацца інфінітывам і ў двухсастаўных сказах, у якіх звычайна інфінітывам выражаецца і дзейнік. Двухсастаўныя сказы з галоўнымі членамі, выражанымі інфінітывамі, асабліва ха-

рактэрны для народнай мовы. Такую сінтаксічную канструкцыю маюць многія прыказкі: *Жыццё пражыць — не поле перайсці. Без працы жыць — толькі неба капціць. У калгасе працаваць—гора і бяды не знаць. Хату зрабіць — не скрынку збіць.*

У літаратурнай мове ў сказах з галоўнымі членамі, выражанымі інфінітывамі, выказнік-інфінітыў часцей за ўсё звязваецца з дзейнікам-інфінітывам пры дапамозе розных часціц: *значыць, гэта, гэта значыць: Любіць — значыць змагацца за лепшае заўтра* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сёння нам адступіць — гэта легчы ў магілу* (М. Танк. Песня фелаха). *А ці ведаеш ты, што ваяваць за рэвалюцыю гэта значыць праходзіць самую вышэйшую навуку ў свеце?* (К. Чорны. Трыццаць год).

Заўвага. Часціцы *значыць, азначаць* могуць мець розныя асабовыя формы і па свайму значэнню набліжацца да дзеяслова. Выказнікі з такімі часціцамі стаяць на граніцы паміж простымі і складанымі: *Уцякаць было позна, ісці насустрач фашыстам азначала ісці на немінучую пагібель* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Пярэчыць адкрыта супроць гэтага пункта азначала б для пасла скампраметаваць сябе перад з'ездам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сказаць «забыўся» — гэта значыла зманіць... Сказаць праўду — гэта значыла прызнацца, што несумленна паставіўся да сваіх абавязкаў* (А. Якімовіч. Гаворыць Масква).

Выказнік-інфінітыў можа звязвацца з дзейнікам-інфінітывам пры дапамозе параўнальных часціц: *І аддаць гэты бераг — усё роўна, што дазволіць адсеч сабе руку або нагу* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Адчуў, што ісці цяпер праз жыццё — гэта ўсё роўна, як прарывацца праз лясныя нетры, церабіць дарогу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Навучанага чалавека вучыць — што ў ступе ваду таўчы* (прыказка).

§ 513. Просты выказнік можа выражацца інфінітывам у сказах з дзейнікам-назоўнікам. Калі ў якасці дзейніка выступае неадушаўлёны назоўнік, то выказнік-інфінітыў характарызуе прадмет з боку яго мэтавага прызначэння: *А Сайкава справа — нагамі папіхацца* (Я. Колас. Дрыгва). *І самая галоўная, самая баявая задача — як мага пашыраць партызанскі рух* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Клопат у нас з вамі адзін — вырататавацца ад белапольскай погані і ўзяць назад зямлю і фабрыкі* (К. Крапіва. Партызаны). *Абавязак усіх сумленных людзей — ізаляваць сілы агрэсіі і вайны, умацаваць мірнае суіснаванне паміж народамі, ва ўмовах якога чалавецтва зможа вырашыць усе свае праблемы* (з газет).

Калі ў якасці дзейніка выступае адушаўлёны назоўнік, то выказнік-інфінітыў абазначае дзеянне, якое вельмі інтэнсіўна пачалося ў мінулым. Такія простыя інфінітыўныя выказнікі сінанімічны складаным двухкампанентным выказнікам з дапаможным дзеясловам *пачаць* у якасці першага канструктыўнага кампанента і інфінітывам поўназнамянальнага дзеяслова ў якасці другога канструктыўнага кампанента (*пачаў бегчы*) або з простым выказнікам, які выражан дзеясловам прошлага часу: *Душа ў напружным хваляванні, Алеся—бегчы...* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Я за імі-мі цікаваць-ваць, потым-тым калі трахнуў-нуў...* (З. Бядуля. Салавей). *Прыганяты ўцякаць* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Вельмі часта такія выказнікі-інфінітывы выступаюць з узмацняльнымі часціцамі *ну, давай: Часам які Ганну пад бокі падхопіць і ну кружыць і ну наварочваць пад скрыпку* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Казакі спыніліся ля іхняй хаты і давай пікамі стукаць у акно* (З. Бядуля. Набліжэнне). *Знячэўку нешта Косцік хуценька падсунуўся да Галі, абняў і давай цалаваць* (Р. Сабаленка. Незамужняя ўдава).

§ 514. Спецыфічнай асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца ўжыванне ў ролі простага выказніка інфінітываў *відаць, чуваць, чуць* замест

звычайных у такіх выпадках кароткіх прыметнікаў *відзён, чуцён: Здалёк, за вёрст, магчыма, пяць, ажно з Рымлянскае гары мой гарадок Капыль в і д а ц ь, яго будынкі і двары* (А. А с т р э й к а. Капылю). *Стрэлы ў лесе ч у в а ц ь, блізкі гоман салдат* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *За спакойным тонам пісьма ч у в а ц ь вялікае хваляванне, можа, нават гора* (У. Д а м а ш э в і ч. Трэці лішні). *І ўсю ноч, аж да ўсходу, ч у ц ь іх танец агністы* (М. Т а н к. Ну, і вечар вясновы).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМ

§ 515. У сучаснай беларускай літаратурнай мове просты выказнік звычайна выражаецца толькі дзеепрыметнікамі залежнага стану прошлага часу. Яны ўказваюць на прымету прадмета па дзеянню, якое адбылося раней, але вынікі якога наяўныя і ў момант паведамлення аб ім.

Дзеепрыметнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку ў ролі простага выказніка выступаюць як у кароткай, так і ў поўнай форме. Сэнсавай і стылістычнай розніцы паміж гэтымі формамі не наглядаецца: *Я адзін, нічым н е з в я з а н, мне няма над чым карпець, свет нідзе мне н е з а к а з а н, вольны ўсюды я ляцець* (Я. К о л а с. З песень адзінокага). *Рукі хочуць яшчэ да грудзей прытуліць сваіх сірат, ды з варожае ласкі паганай дол цесны ім в ы р ы т* (А. К у л я ш о ў. Над брацкай магілай). *І я ўжо шчодра тым у з н а г а р о д ж а н, да смерці буду гэтым даражыць, што быў я у Семнаццатым н а р о д ж а н і ў новым свеце стаў адразу жыць* (П. П а н ч а н к а. Патрыятычная песня). *З шпіталя вунь пакет а т р ы м а н ы, паперы прыйшлі* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Капкан ужо з а с ы п а н ы снегам* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *Андрэй Давыдавіч Кружкоў ужо даўно п р ы з н а ч а н ы начальнікам інструментальнага цэха* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне).

§ 516. Дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку ў ролі простага выказніка выступаюць звычайна ў кароткай форме: *Справа яго на разгляд а д а с л а н а ў Варшаву* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Крывёю з а л і т а трава прыдарожная, пшаніца п а т о п т а н а, дым над сялібамі* (П. П а н ч а н к а. Трывожныя зводкі). *Жыта з в е з е н а даўно* (Я. К о л а с. Восень). *І здаецца мне, што ўсё на белым свеце а п р а н у т а ў слуцкі кужаль дарагі* (А. А с т р э й к а. Сняжынкі асыпае вецер).

У кароткай форме ў ролі простага выказніка звычайна выступаюць дзеепрыметнікі ўсіх трох родаў множнага ліку: *Двары каля хат з а с т а ў л е н ы драбінамі, паабрасталі дрэвамі* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Жоўтыя свечкі лубіну а к р о п л е н ы яшчэ не знятай сонцам расою* (Я. Б р ы л ь. Вачыма друга). *Ужо і хаты п р ы х а р о ш а н ы, ужо гатовы пірагі, ужо і госці ўсе з а п р о ш а н ы на дзень святочны, дарагі* (А. А с т р э й к а. Свята ў калгасе).

Дзеепрыметнікі жаночага роду адзіночнага ліку і дзеепрыметнікі ўсіх родаў множнага ліку ў ролі простага выказніка зрэдку выступаюць і ў поўнай форме, асабліва калі маюць пры сабе залежныя словы: *Варшава і сёння з а л і т а я сонцам, Варшава і сёння працуе ад ранняга рання* (Я. Б р ы л ь. Вачыма друга). *Драўляныя вуліцы п а к а л е ч а н ы я агнём* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Калі ён увайшоў у сені, то ўбачыў, што дзверы ў хату толькі п р ы ч ы н е н ы я, а ў хаце Алена з некім гаворыць* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Маліна ўка).

§ 517. Просты выказнік можа выражацца дзеепрыметнікамі ўсіх родаў і лікаў на *-л*, якія ў беларускай мове часта замяняюць дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу на *-ш-*, *-ўш-*: *А ты — я чытаў — з а п у с ц е л ы, зусім занядбаны цяпер* (П. П а н ч а н к а. Ліст гораду Гарган). *Зямля н а с т ы г л а я* (П. Г а л а в а ч. Сваё ўласнае). *Абодва ўзбуджаныя, с п а ц е л ы я, расхрыстаныя, з сякерамі за папружкамі і пугамі ў руках* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

§ 518. Выказнік, выражаны дзеепрыметнікам, можа мець пры сабе параўнальную часціцу: *Бабка чымся заклапочана, як бы нават засмучана* (Я. Колас. На ростанях). *Усё вакол нібы намалявана* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Асфальт нібы расплаўлены і ўгінаецца пад коламі аўтамашыны і пад нагамі пешаходаў* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Бярэзінкі як аблітыя золатам* (І. Навуменка. Бульба).

Заўвага. У мастацкіх творах зрэдку сустракаюцца дыялектныя формы простага выказніка, выражанага дзеепрыслоўем прошлага часу на *-ш-, -ўш-*: *Цяпер яны прыехаўшы ў Лугвенева* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь). *Не прывыкшы мы да чыстага жыцця* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ АДДЗЕЯСЛОЎНЫМ ВЫКЛІЧНІКАМ

§ 519. Просты выказнік можа выражацца аддзеяслоўнымі выклічнікамі тыпу *зірк, грук, бліc, шусь, тыц, пырх, скок, гоп, хап, шмыг*, якія звычайна суадносяцца з асабовымі дзеяслоўнымі формамі прошлага часу. Аддзеяслоўныя выклічнікі абазначаюць імгненнае дзеянне, якое адбылося да моманту паведамлення аб ім, і даволі шырока бытуюць у мастацкіх стылях: *Ужо ладна за горад стары адышоў, тут за пазуху зірк: што схаваў — не знайшоў* (Я. Купала. У шынку). *Тут — грук яму жонка ў плечы!* (Я. Колас. Тоўстае палена). *І вось з замiраннем сэрца Лявоніха бліcь адным вокам у бок дзвярэй Сымонавай хаты* (З. Бядуля. Лявоніха і Сымоніха). *А я ім і тыц сваё пасведчанне: «Часова скарочаны»* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Вяртлявая сінічка пырх—і няма яе* (М. Лынькоў. Пацалунак). *Потым—гоп яна з калёс, села ля дарогі, а каня як чорт панёс, — дзе ўзяліся й ногі!* (К. Крапіва. Дзед і Баба). *Дык ён гэта потым шапку маю хап з галавы да вобземлю!* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Спатыкнуўся Іванаў бацька, пакаўзнуўся і — трах! — пад тую ж сасну, якую сам спусціў* (М. Лупсякоў. Галаўні).

У пэўных сінтаксічных канструкцыях аддзеяслоўныя выклічнікі суадносяцца з асабовымі дзеяслоўнымі формамі будучага часу, якія абазначаюць дзеянне, што паўтараецца ў мінулым або становіцца магчымым пасля выканання другога дзеяння: *Ляснічы паглядзіць, паглядзіць і — шась...* (Я. Колас. На ростанях). *Тады ён возьме гладыш, з'есць зверху смятану — бразь аб падлогу* (В. Вітка. Гуляшчы хлеб). *Так вот і барсук: шмыг у нару і зараз жа назад вылазіць* (Р. Ігнаценка. Барсучыная загадка). *Вынесеш пастанову аб высяленні якога-небудзь панка, што мае дзесяцін шэсцьдзесят-восемдзесят, а ён табе праз два тыдні тыц у нос ахоўную грамату: не чапай яго, ён культурны гаспадар* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Засунеш руку ў нару, а рак цап за пальцы кляшнёй* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ НАЗОЎНІКАМ

§ 520. У ролі простага выказніка выступаюць назоўнікі ў формах розных склонаў. Асабліва часта просты выказнік выражаецца назоўнікам у форме назоўнага склону.

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, характарызуе прадмет шляхам указання на тое, чым ён з'яўляецца або не з'яўляецца наогул ці ў момант паведамлення аб ім: *Прыгрэбнік — летняя рэзідэнцыя пана Зыгмуся, яго майстэрня і спальня* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Абыякавыя адносіны да людзей, да чалавека працы—страшэнны эгаізм* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Беларусь, я — твой воін адданы і сын, мае думкі і сэрца заўсёды з табою* (П. Панчанка. Беларусі). *Масавая творчасць перш за ўсё*

*д а к у м е н т жыцця, с п о в е д з ь самога народа перад сваёй і наступнай эпохамі* (У. К а л е с н і к. Час і песні). *А яны там яшчэ не ведаюць, што ён ужо н е н а с т а ў н і к Верханскай школы і наогул н е н а с т а ў н і к* (Я. К о л а с. На ростанях). *Ён мне цяпер н е с ы н, а я яму ўжо н е б а ц ь к а* (М. Г а р э ц к і. Сасна). *І раптам цяпер адчуў, што ніякі ён н е г а с п а д а р тут* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні). *Свіслач, вядома, н е Д н я п р о, н е В о л г а* (М. П а с л я д о в і ч. Ахвяра цывілізацыі).

§ 521. Выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, можа лексічна супадаць з дзейнікам. Ён указвае, што прадмет увесь час з'яўляецца самім сабою, увесь час адпавядае агульнапрынятаму аб ім уяўленню. Гэта пастаянства падкрэсліваецца і акалічнасцю часу *заўсёды*, якая звычайна суправаджае такі выказнік: *Факт заўсёды ф а к т, хто б пра яго ні гаварыў* (К. Ч о р н ы. Звяга). *Маці заўсёды м а ц і: пашкадуе хлопца, стомленага ў паходзе, ці кубкам малака, ці — ад беднасці — чыстай, сцюдзёнай вадою і цёплым словам* (Я. Б р ы л ь. Вачыма друга). *Рыбіна, яна, браце, заўсёды р ы б і н а* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

Калі такі выказнік выступае з адмоўем *не*, то гэта значыць, што прадмет страціў сваю пастаянную прымету і перастаў быць самім сабою наогул, ва ўспрыняцці пэўнай асобы або пры пэўнай умове: *Цяпер, бачыш, гэтае балота — н е б а л о т а* (М. Л у п с я к о ў. Паданне пра кніжніка). *Хоць сны дайно тасуе горад, знік шум на вуліцы дайно, але Аксане — ноч н е н о ч, душа — нібыта ў шторме мора* (А. Б а ч ы л а. Асенняя аповесць). *Страта н е с т р а т а, калі ведаеш, што яна не вернецца* (М. Л ы н ь к о ў. Тры злоты).

Пасля такога выказніка часта змяшчаецца другі выказнік, які канкрэтна ўказвае, чым стаў прадмет у выніку страты сваёй пастаяннай прыметы: *Людзі — н е л ю д з і, а м а н е к е н ы, якія рухаюцца па сцэне, як персанажы лялькавага тэатра, не ў сілу сваіх унутраных матываў, а выключна па волі аўтара* (К. К р а п і в а. П'есы і вобразы). *А праз колькі хвілін ён і сам пераканаўся, што чуткі пра партызан ужо н е ч у т к і, а самая рэальная с а п р а ў д н а с ц ь* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Святло дугавых ліхтароў на дварэ турмы — н е с в я т л о, а к а л а м у т а* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казэмата).

§ 522. Выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, можа характарызаваць прадмет шляхам параўнання яго з другім прадметам: *Губы тыя — н у, к а р а л і, бровы — д у ж а ч к і-ш н у р о к* (Я. К о л а с. Паслушная жонка). *Кожнае слова — с т у к молата па кавадле* (З. Б я д у л я. Год за годам). *Яго погляды — д а л і люстраныя, волі дух — сакаліны п а л ё т, яго грудзі — у з д ы м акіяна, вольнай песняй вітаюць Заход* (П. Т р у с. Пад напевамі ветраў асенніх). *Вочы — сінія к р ы н і ц ы, вусны — спелыя с у н і ц ы, косы — к у ж а л ь залаты* (П. П а н ч а н к а. Іспанская ноч). *«Горад — п е с н я», — згадзіўся Сербаноўскі* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

Такія выказнікі звычайна выступаюць з параўнальнымі часціцамі: *Жалуды — я к залатыя б о ч а ч к і: стукні ў донца — кожны загудзе* (П. П а н ч а н к а. Жалуды). *Хмары белыя — б ы ц ц а м к у с т ы беласнежных вялізманых руж* (П. Г л е б к а. Хада падзей). *Вецер з-пад лесу я к б ы ц ц а м в і н о, травы ў праменных ільдзінках расы* (П. Б р о ў к а. Добры друг). *Дайно юнаку ажаніцца пара, дзяўчына — б ы я г а д к а тая* (М. Т а н к. Сентыментальная трагедыя). *Матчына любоў — ш т о к р ы н і ц а: колькі ні пі з яе—у ёй менш не становіцца* (І. Ш а м я к і н. Спі, мой сыночак). *У вашай хаце не сціхае гоман, там людзі ўсе н і б ы адна с я м'я* (А. К у л я ш о ў. Хатка).

Параўнальную часціцу *як* можа мець пры сабе выказнік, які лексічна супадае з дзейнікам і ўказвае на тое, што прадмет адпавядае агульнапрынятаму ўяўленню аб ім: *Сын я к с ы н, а з нявесткай — маўчыце*

*вы ўжо лепш, пане Каржакевіч* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Кажух, кабета, як кажух, а што вялікаваты — невялікая бяда* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Мама плача: у людзей, кажа, дзеці як дзеці, а мае разляцеліся па белым свеце, быццам ім тут пры доме было б кепска* (А. Васілевіч. Блізкія знаёмыя). *Усе каровы як каровы, а Коўбе заўсёды мала* (І. Навуменка. Пiліпка).

§ 523. Просты выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, можа выступаць з указальнымі часціцамі *гэта, вось: Камуністы—гэта Леніна салдаты, воляй партыі з'яднаныя рады* (А. Куляшоў. Камуністы). *Жыццё рабочага класа — гэта пастаянная барацьба за хлеб, за працу, за сацыялізм* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Калектывізацыя сельскай гаспадаркі — вось лозунг сённяшняга дня* (Я. Колас. Адшчапенец). *Няволя, крыўда — вось іх мацi* (М. Чарот. Босыя на вогнішчы).

Такія выказнікі асабліва часта выкарыстоўваюцца пры дзейніку, які выражан інфінітывам: *У мяне дружба на першым месцы, а пакасціць сваім сябрам — гэта свінства, і вы, калі ласка, мяне на гэта не падбухторвайце* (К. Крапіва. Мая прынцыповасць). *Хіба жадаць мірнага жыцця — гэта злачынства?* (Я. Маўр. Цётка Эміля). *Разгарнуць шырэй партыйную і камсамольскую работу, умацаваць на месцах савецкую ўладу — вось задача, якую неадкладна трэба было праводзіць у жыццё* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

§ 524. У ролі простага выказніка назоўнік можа выступаць у форме роднага склону з прыназоўнікамі *без, да, з-пад, для, з.*

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *без*, характарызуе прадмет з унутранага або знешняга боку: *Яна самому, зямля гэта, бадай без карысці, хіба ўскалупаеш яе без каня* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *І мая ваа... варажба не без поспеху* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У вёсцы ў вас усё без уліку* (М. Ваданосаў. Жаніх). *Вокны без рам, і ад гэтага вялікі дом выглядае сляпым* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Сам без шапкі, босы ногі, грудзіна раскрыта* (Я. Колас. На ніве). *Перш за ўсё мы павінны выжыць грунт з-пад прымаўкі, што шавец заўсёды без ботаў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Падобнае значэнне мае і выказнік, выражаны назоўнікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *да*. Некаторыя з такіх выказнікаў у пэўнай меры фразеалагізаваліся: *«Люба слухаць, што да ладу!» — з-за дзвярэй гукае заяц* (Я. Колас. Заяц). *А зямелька мне да рукі, зусім, можна сказаць, таго пайнадзела з маімі загонамі злучыць — і выйдзе яно не кепска* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Камендanту такі чалавек да спадобы* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Хіба да твару Прыбытковічам такія пакрыўленыя, гнілыя тратуары?* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *з-пад*, характарызуе прадмет па яго знешняму выгляду або паходжанню: *Гарнітур з-пад іголкі і кашуля з узорам на дзіва* (П. Броўка. Дзед Тарас). *Там, чуеш, падлога і ўсё іншае з-пад фуганчыка, як у нашым калгасным клубе* (А. Бажко. Позняе вырыва). *«А сам адкуль?» — «Не тутэйшы — з-пад Круцішч»* (Я. Скрыган. Непатрэбны чалавек).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *для*, характарызуе прадмет з боку яго прызначэння: *Не для пса каўбаса, не для ката сала* (прыказка).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *з*, характарызуе прадмет шляхам указання:

1. На матэрыял, з якога зроблен прадмет: *Сцены гладка склютаваны, стрэхі з бляхі белай* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Тратуары*

*месцамі з гладкіх* *д о ш ч а к,* *месцамі з гнілых* *а п о л к а ў,* *а шмат дзе і зусім папрыбіраны з-пад ног клапатлівымі тутэйшымі жыхарамі* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга). *Сэрца ж дзявочае* *н е з к а м е н ю,* *яно ж чулае, і параніць яго не гэтак ужо цяжка* (Р. С а б а л е н к а. Незамужняя ўдава).

2. На пэўны геаграфічны пункт або ўстанову, да якой мае непасрэднае дачыненне асоба ці прадмет: *Не, дзеду, дадому мне далекавата, я сам* *з П е т р а г р а д а* (Я. С к р ы г а н. У Кірылы на хутары). *Тася* *з М а к а в е й к і,* *а я* *з К у р г а н о ў* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца). *А я* *з р а б а ч к о м а,* *упаўнаважаная сельсавета* (Я. К о л а с. Арыніна перамога). *А я ж чамусьці падумаў, што вы* *з г а з е т ы* (Я. В а с і л ё н а к. Тацяна Ларына).

3. На пэўную групу людзей, што маюць нешта агульнае па характару, роду заняткаў, сацыяльнай або нацыянальнай прыналежнасці, да якіх адносіцца абазначаная дзейнікам асоба: *Толькі Шагал* *н е з д у р н я ў* *— раней паехаў* (З. Б я д у л я. Набліжэнне). *Іра — таксама* *з п а р а ш у т ы с т а ў* (Я. Б р ы л ь. Птушкі і гнёзды). *Яны хоць* *і з і н ж ы н е р а ў,* *а любяць перадаваць такія навіны без пары* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *Н е з к н я з ё ў я,* *н е з г р а ф' ё ў якіх-небудзь* (М. Л ы н ь к о ў. На вялікай хвалі). *Яны ж і не простыя палякі, а* *з м а з у р а ў,* *а мазуры, па-іхняму, і ёсць самыя сапраўдныя палякі* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам).

§ 525. У ролі простага выказніка назоўнік можа выступаць у форме давальнага склону з прыназоўнікам *па.* Такія выказнікі выражаюць якасную характарыстыку прадмета. Яны ў большасці выпадкаў фразеалагізаваныя: *Але ёсць чалавек, якому такая аперацыя* *п а с і л е* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы). *Я веры*ў*, што зараз мне ўсё* *п а п л я ч у* (У. К а р а т к е в і ч. Дзікае паляванне караля Стаха). *Крычалі тут тыя, каму дысцыпліна* *н е п а н у т р у,* *хто прывык вудзіць рыбку ў мутнай вадзіцы* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут).

§ 526. У ролі простага выказніка назоўнік можа выступаць у форме вінавальнага склону з прыназоўнікамі *з, па, за, пад, у, на.*

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *з,* указвае на памер прадмета шляхам параўнання яго з другім прадметам: *Вось жа і людзі часам — сам* *з в ы ж л у,* *а вэрхалу наробіць такога* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах).

На памер прадмета ўказвае і выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *па*: *Дзе прайшла — паўнеюць рэкі, травы —* *а ж п а г р у д з і* (А. Б я л е в і ч. Ясныя водбліскі). *Трава* *п а к а л е н і,* *дзікі гарошак чапляецца за ногі — ісці нельга, а салаўі спяваюць, і дождж льецца* (М. Л у п с я к о ў. Дажджы).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за,* характарызуе прадмет шляхам указання на род заняткаў, прафесію: *Яна ў мяне* *з а г а с п а д ы н ю* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Хто тут* *з а к а м а н д з і р а* *ў вас?* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Сёння* *з а н а г л я д ч ы к а* *стары, пануры чалавек з сівой барадой* (А. А с і п е н к а. Сыну майго сына). *Я была ў кінабудцы... мой брат тут* *з а г а л о ў н а г а к і н а м е х а н і к а* (І. Ш а м я к і н. Першае спатканне).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *пад,* характарызуе прадмет шляхам указання на яго ўнутраную якасць: *Алена больш і больш пераконваецца, што змаганне з падсуседнікамі ёй* *н е п а д с і л у,* *што выжыць іх аніякім спосабам яна не здолее* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *у,* характарызуе прадмет шляхам указання на ўнутраную якасць або знешнюю прымету. Некаторыя з такіх выказнікаў з'яўляюц-

ца фразеалагізаванымі: *Не ў страх нам пагрозаў замахі, не ў страх інтэрвенцкія шхуны* (Я. Купала. Хвалюющца морскія хвалі). *А падрастуць, дык усе — у маму, з характарамі* (І. Шамякін. Спі, мой сыночак). *Відаць адразу, што гэтая работа для яе не ў навіну* (І. Навуменка. Бульба). *Ці праўда тое, жвенькаюць людзі, дужа ён жыла вялікая і з пападдзёй у рожкі заўсёды* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Такія выказнікі часам лексічна супадаюць з дзейнікам: *Як быццам і спёка не ў спёку, і праца не ў цяжар* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Тут — хата ў хату, паглядзець, па шэсць, па сем акон, пад кожным дахам дроту медзь заводзіць перазвон* (А. Астрэйка. На беразе мора).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на*, характарызуе прадмет шляхам указання на дадатную якасць. Такія выказнікі звычайна выступаюць з параўнальнай часціцай *як* і ў большасці выпадкаў з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Пара з вас як на падбор* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Пагода — як на заказ, і ўся вёска вываліла за Марозаву лазу — схапіць, скласці ў стагі сваё сухенькае, як порах, сена* (М. Ракітны. На пакосе).

§ 527. У ролі простага выказніка назоўнік можа выступаць у форме творнага склону без прыназоўніка і з прыназоўнікамі *з, за, пад.* Выказнік, выражаны назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка, характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання:

1. На прафесію або род заняткаў: *Мотка ўжо дваццаць пяць гадоў крайцом* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Настаўнікам я тут, вось у гэтай вёсцы* (П. Галавач. Праз гады). *У нас жа магазіншчыцаю Аўдотка* (В. Вітка. Познія палыны).

2. На ўнутраную або знешнюю істотную прымету шляхам параўнання з другім прадметам: *Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына; паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай* (Я. Купала. Спадчына). *Вочы — сінія, зірк у іх сталлю, і душа разліваецца маем* (П. Глебка. Звон вясны). *І дуб табе — братам, і хвойка — сястрой, і цёткай — бярозка і елка — кумой* (З. Бядуля. Летнік). *А ты ў мяне малайцом!* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме творнага склону, можа лексічна супадаць з дзейнікам. Па значэнню ён сінанімічны выразам *само сабою, само па сабе.* Сказы з такім выказнікам самастойна не ўжываюцца, а з'яўляюцца састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў і па спаянасці слоў набліжаюцца да фразеалагічных выразаў: *Ідзі вось да нас у таварыства, дык плата платаю, а на пай яшчэ нешта прыпадзе* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Жарты жартамі, а я такі сумую, дый здорава* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Дружба дружбай, а шчасце бывае сляпое, глухое, неразумнае* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Смех смехам, а вось я алгебру заўтра магу правaліць* (А. Васілевіч. Падчарыца).

У складаназлучаных сказах такую канструкцыю можа мець кожная іх састаўная частка: *Ну, жарты жартамі, а дзела дзелам* (М. Лынькоў. Гой). *Але ж стары старым, а справа справаю* (А. Якімовіч. Помста). *Работа работай, а адпачынак адпачынкам* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). *Спрэчкі спрэчкамі, а дружба дружбай* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме творнага склону з прыназоўнікамі *з, за, пад,* характарызуе прадмет ці асобу шляхам указання на ўнутраную якасць, знешнюю прымету, стан або месцазнаходжанне. Некаторыя з такіх выказнікаў фразеалагізаваліся: *Ты, хлапец, відаць, з галавой, але вопыту ў цябе яшчэ малавата* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Выяўляецца, я — з плямай, а маё прабыванне ў ла-*

*геры смерці і ўцёкі з яго не заслуга, а страшная віна* (А. Карпюк. Пушчанская адысея). *Твары з вусамі і без вусоў, паголеныя, напамаджаныя* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Нос тонкі, з гарбінкаю, а погляд вачэй востры,— яны як бы ўвесь час смяяліся* (Б. Сачанка. У жыцці). *Ты ведай, перамога ўжо не за гарамі* (М. Танк. Не плач). *Ты не глядзі, што мо' пад хмелем я!* (М. Танк. Янук Сяліба). *На чорта мне ехаць да таго Яся, калі твой млын пад бокам* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

§ 528. У ролі простага выказніка назоўнік можа выступаць у форме меснага склону з прыназоўнікамі *у, на, пры.*

Выказнік, выражаны назоўнікам меснага склону з прыназоўнікам *у*, характарызуе прадмет ці асобу шляхам указання:

1. На знешнюю прымету: *Дарога ўся ў лужах* (М. Багдановіч. Старасць). *Чалавек у лапцях, у сівай жакетцы, у шапцы з сінім шырокім аколышкам* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Я сёння ў шлеме, у вопратцы вайсковай, за колькі вёрст ад бітвы канчатковай* (А. Куляшоў. Станцыя Камунары).

2. На пасаду, род заняткаў, прафесію або прыналежнасць да якой-небудзь палітычнай арганізацыі. Такія выказнікі характэрны для размоўнага стылю: *Мужык — чысты камуніст, сын — у камсамольцах* (К. Крапіва. Ганульчына гора). *Твой жа Кандрат у начальніках, то, мож, яму даюць?* (М. Лобан. На парозе будучыні).

3. На ўзрост: *Дарма, што ён у гадах — зажывеш, як пані* (М. Лупсякоў. Міхалапіха). *Зосітэ ж, наадварот, была белая, дзябёлая, яе твар з выразнымі рысамі гаварыў пра тое, што гэтая дзяўчына ўжо ва ўзросце* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

4. На ўнутраны стан: *Ясна відаць, што Іван Пракопавіч, казённы ляснічы, не ў гуморы* (Я. Колас. На ростанях). *Ён ведае душу зямлі. Ён увесь у клопатах па ёй* (П. Пестрак. Серадзібор). *Нават тое, што недзе там дома маці, напэўна, у слязах, ніяк не абыходзіла яму* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Сэрца—у гневе, маўчаць не магу я!* (П. Броўка. Голас сэрца). *У бровары і ў млыне ўсё яшчэ ў парадку, а на стайні, у кароўніку і ў свінарніку не хапае работнікаў* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Я з часам заўсёды не ў згодзе* (М. Танк. Чакаючы).

5. На ўнутраны змест, сутнасць: *Радасць не ў дастатку і шчасце не ў багацці* (Я. Колас. Дрыгва). *Я не чытаў тады Рабле і не браўся пераконваць чалавека, што сэнс жыцця ўсё ж, мусіць, не ў гарэлцы* (Б. Сачанка. У жыцці). *Ён, брат, патрыёт свайго раёна, і выносіць смецце з уласнай хаты—не ў яго характары* (І. Шамякін. Крыніцы).

6. На ўнутраную характарыстыку: *У нас паны не ў пашане* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Ну, што, у дурнях вы, ды ўжо ў пятых, здаецца* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме меснага склону з прыназоўнікам *на*, указвае на ўнутраны стан асобы. Такія выказнікі ў большасці выпадкаў фразеалагізаваныя: *Нябось, вы цяпер з Ваўчком на нажах — натуру Сцяпана Захаравіча я ведаю* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Не паспяваю сказаць што-небудзь, а партызаны на нагах* (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

Выказнік, выражаны назоўнікам у форме меснага склону з прыназоўнікам *пры*, характарызуе асобу шляхам указання на наяўнасць у яе чаго-небудзь: *Покі Яўхім пры грашах, ён нікога не баіцца, бо грошы — усё* (Я. Колас. Царскія грошы). *І тады мы пераканаліся, што Косця сапраўды пры вялікіх грашах* (В. Вітка. Газета).

§ 529. Просты выказнік выражаецца звычайна якаснымі і адноснымі прыметнікамі ў форме назоўнага склону. Выказнік, выражаны якасным прыметнікам, указвае на прымету, якая ўласціва прадмету ў той ці іншай ступені: *Шырокі твар яго спакойны, а погляд смелы, упэўнены* (Я. Колас. Адшчапенец). *У познюю восень вада пад мастком чыстая і халодная* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Сёння дзень, як на дзіва, цёплы і радасны* (В. Каваль. Экзамен). *Ты ад пілоткі да ботаў знаёмая нам, што вандруюць з агню і ў агонь* (П. Панчанка. Рэгуліроўшчыца).

Выказнік, выражаны адносным прыметнікам, указвае на прымету, якая ўзнікае з адносін аднаго прадмета ці паняцця да іншага прадмета ці паняцця: *Дамы тут драўляныя, невысокія, а навокал іх — садочкі* (А. Пальчэўскі. Знаходка). *А на маёй вудзе канец лёскі драцяны — яго ні адна рыба не адкусіць* (А. Якімовіч. Базылёў курган). *Да таго ж сёння я беспартыйны, а, можа, заўтра ці паслязаўтра таксама буду партыйным чалавекам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тут табе лес панскі і я над ім гаспадар* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Адносныя прыметнікі ў ролі простага выказніка часам выступаюць са значэннем якасных: *Вочы ў яго шкляныя — ад сполаху* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Рукі залатыя, ды горла ўсё пажорла* (прыказка). *Яшчэ дзіця, а ўжо амаль дзяўчына, усмешка маміна, відаць, і мамін рост* (Н. Тарас. Яшчэ дзіця).

§ 530. Якасныя прыметнікі, для якіх характэрны поўныя і кароткія формы, у ролі простага выказніка часцей выступаюць у поўнай форме. Прэдыкатыўнае ўжыванне кароткіх форм колькасна абмежавана. У кароткай форме могуць ужывацца прыметнікі, якія абазначаюць якасны стан асобы ці прадмета: *варт, вінават, відзён, волен, годзен, жадзён, задаволен, згодзен, здолен, знаём, падобен, патрэбен, повен, праў, рад, чуцён* і некаторыя іншыя: *Ён ні ў чым не вінават. Вінават я* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Дом здалёку відзён* (М. Лужанін. Лепшы месяц). *Можа чалавек жадзён кавалку хлеба якога?* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Міша зусім не згодзен з тым, што гаворыць Нупрэй* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *Левін знаём з імі ўжо некалькі дзён* (З. Бядуля. Набліжэнне). *Калі ты камусьці хоць крышку патрэбен, дык хочацца доўга і радасна жыць* (С. Грахоўскі. Прызнанне). *Які сяголета шчаслівы і ураджайны выпаў год: ва ўсіх садах агрэст і слівы, клубнікі повен агарод* (П. Глебка. Ягады). *Стол устаўлены багата, госцю я сардэчна рад* (А. Бялевіч. Браты). *Каля клуба чутна гранне* (Н. Гілевіч. Гоман працы). *Нарэшце «кухар» аб'явіў, што рыба гатова, можна есці* (А. Шашкоў. Лань — рака лясная).

У кароткай форме могуць ужывацца і іншыя якасныя прыметнікі, калі імі падкрэсліваецца высокая ступень якасці: *Люб мне поўдзень, цішыня раніцы прахладнай* (Я. Колас. З турмы). *Ты з куста травы пражывеш, як верабей, дык табе і міл той куст* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Калгасная восень багата дарамі* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Ты яшчэ малад і дуж* (М. Танк. На задворках). *Ад Смаленска да гораў Кітая дораг нам твой магутны прастор* (П. Панчанка. З Новым годам, Расія!). *Вольна ў свеце жыве, усім народам таварыш, працавіт і вялік беларускі народ* (М. Лужанін. Беларускаму народу).

Заўвага. Амаль усе прыведзеныя тут прыметнікі ў ролі простага выказніка выступаюць і ў поўнай форме. Паміж кароткімі і поўнымі формамі гэтых прыметнікаў значнай сэнсавай і стылістычнай розніцы не наглядаецца.

У кароткай форме ў ролі простага выказніка выступаюць прыналежныя прыметнікі: *«Гэта кнігі ўжо не Эльзіны», — строга прамовіў Станіслаў* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Дом — матчын, і я, калі б і хацела, не маю ніякага права высяляць яе кватарантаў* (М. Ваданосаў. Трэці лішні...).

§ 531. Просты выказнік можа выражацца якаснымі прыметнікамі ў формах ступеней параўнання. Часцей у ролі простага выказніка ўжываюцца сінтэтычныя і аналітычныя формы ступеней параўнання, якія змяняюцца па родах, ліках і склонах і дапасуюцца да дзейніка: *Бутрым старэйшы за Алеся ажно на тры гады* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Гэты вораг страшнейшы за Гендарсана і хітрэйшы* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Выраз жа яго твару найлагаднейшы і найдабрэйшы* (Я. Журба. Наш сцяг, вышэй лунай!). *Мікуцева поле самае бліжэйшае ад калгаснага* (К. Чорны. Вясна). *Самы светлы і самы прыгожы залатога юнацтва сон* (М. Хведаровіч. Мо не варта ў вясновы вечар...).

Значна радзей у ролі простага выказніка выступаюць сінтэтычныя формы ступеней параўнання на *-эй, -ей,* якія не змяняюцца па родах, ліках і склонах і не дапасуюцца да дзейніка: *Вось я і то за цябе храбрэй, не баюся ракаў!* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Але сустрэча з вамі даражэй усялякіх матэрыяльных здабыткаў* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *З кожным крокам круцей дарога, з кожным крокам імгла гусцей, і памалу ў грудзях трывога незнаёмая нам расце* (М. Танк. Перавал Штурэц). *Тут туман рассцілаецца ўранку, і росы ярчэй серабра, раняючы лісце ля ганку, сумуе з вятрамі вярба* (М. Машара. Восень).

Заўвага. Вельмі высокая ступень якасці часам выражаецца паўтарэннем прыметніка (гл. § 550): *Песня вясёлая, вясёлая!* (М. Лынькоў. Недапетыя песні). *Шчокі расчырванеліся, вочы паблісваюць, а бровы чорныя-чорныя* (А. Асіпенка. Абжыты кут).

§ 532. Пры абазначэнні прыметы прадмета шляхам параўнання просты выказнік, выражаны прыметнікам, выступае з параўнальнай часціцай: *Валасы да плеч густыя, мае рукі як стальныя* (Я. Колас. З песень беззямельнага). *Сасна ж як жывая* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *І твар адкрыты, малады, каса — як залатая* (П. Панчанка. Помнік). *Зірнула на вёску: вёска што мёртвая, ні з аднаго коміна дым, як бывала, толькі ў адной яе* (М. Нікановіч. Вы... звяры).

Заўвага. З параўнальнымі часціцамі выступаюць і выказнікі, выражаныя прыметнікам, калі яны абазначаюць няпэўную прымету прадмета: *«Ваш твар мне таксама нібы знаёмы», — адказаў дыпламатычна Юры, стараючыся выйграць час* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе).

§ 533. У ролі простага выказніка прыметнікі могуць выступаць у форме роднага склону множнага ліку з адмоўем *не* і прыназоўнікам *з*. Такія выказнікі ўказваюць, што асоба ці прадмет выключаецца з ліку асоб ці прадметаў, якія валодаюць названай у выказніку прыметай: *Яна не з баязлівых* (З. Бядуля. Набліжэнне). *Адным словам, здабытак не з вялікіх* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Зноў пошту радасна нашу, хоць сам не з маладых* (П. Панчанка. Паштальён). *Рад, што вы прыйшлі, хоць выпадак для гаворкі не з радасных* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Калі прыметнік субстантывіраваны, то ён у ролі простага выказніка выступае без адмоўя *не*. Такія выказнікі ўказваюць, да катэгорыі якіх людзей адносіцца названая ў дзейніку асоба або з катэгорыі якіх людзей складаецца названая ў дзейніку пэўная сукупнасць асоб: *Выгляд у вас гасподскі, такі, што можна палічыць за гаспадара, тым болей што ўласнік гэтага двара, як чуў я, з ваенных* (Я. Колас. На ростанях). *Апроч мяне ды хіба яшчэ капітана і яго памочніка, уся каманда ў нас таксама з заключоных* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ЛІЧЭБНІКАМ

§ 534. Просты выказнік выражаецца лічэбнікамі колькаснымі і парадкавымі ў форме назоўнага склону. Выказнік, выражаны колькасным лічэбнікам, характарызуе асобу, прадмет або паняцце шляхам указання на колькасць: *Я — а д з і н, жыву без дому, сам сабе я першы пан, галавы не гну нікому, не схіляю гібкі стан* (Я. Колас. З песень адзінокага). *У адзіноце гэтай ты, аднак, н е а д з і н* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Маці, а д н а ты, а д н а між мільёнаў* (П. Броўка. Голас сэрца). *А гэта такая штукенцыя, што калі ў цябе і ёсць, скажам, толькі тых ведаў, што два на два — ч а т ы р ы, дык ты і не падступішся да яе* (Я. Васілёнак. Забыты вензель). *Трыццаць чатыры — н е д в а ц ц а ц ь* (У. Мехаў. Слота).

Выказнік, выражаны парадкавым лічэбнікам, характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання на іх парадкавае месца сярод іншых аднародных асоб ці прадметаў: *З усіх бакоў выцягваюцца да санак рукі з грашыма. — «Мне!» — «Мне!» — «Я п е р ш а я!»* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Гэты садок — п е р ш ы* (В. Вольскі. У лясах над Бярозай). *Наша хата д з е с я т а я ад канца сяла* (А. Якімовіч. Канец сервітуту).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ЗАЙМЕННІКАМ

§ 535. Просты выказнік можа выражацца займеннікамі амаль усіх разрадаў. У прэдыкатыўнай функцыі займеннікі выкарыстоўваюцца пераважна ў форме назоўнага склону, але паралельна могуць выступаць і ў формах ускосных склонаў без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі.

§ 536. Выказнік, выражаны асабовым займеннікам у форме назоўнага склону, характарызуе асобу шляхам указання на адпаведнасць або неадпаведнасць яе самой сабе ці іншай асобе. Вельмі часта такія выказнікі ўжываюцца з указальнай часціцай *гэта: А я ім дакажу, што я — г э т а я* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Сацыял-дэмакраты — г э т а м ы ж самі* (Р. Мурашка. Сын). *Мне здаецца, што ты — г э т а н е т ы* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). *Яму цяпер было так, быццам ён — г э т а н е ё н* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь). *Я адчуў, што ён зусім н е я* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха). *І я — н е т ы* (І. Пташнікаў. Лонва). *Ты ж вылітая ё н* (Р. Сабаленка. Кветкі).

Выказнік, выражаны асабовым займеннікам 3-й асобы ў форме роднага склону без прыназоўніка, указвае на прыналежнасць: *І ўсё цела — н е я г о* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Выказнік, выражаны асабовым займеннікам у форме роднага склону з прыназоўнікам *для*, выступае, як правіла, з адмоўем *не*. Ён характарызуе асобу ці прадмет шляхам адмаўлення іх прызначэння для іншай асобы: *Вясна, вясна! Н е д л я м я н е ты!* (Я. Колас. Новая зямля). *І раптам убачыў, што гэты слухач н е д л я я г о* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Гэтая справа н е д л я н а с* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

§ 537. Выказнік, выражаны прыналежным займеннікам у форме назоўнага склону, характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання на іх прыналежнасць той ці іншай асобе: *«А ён яшчэ н е м о й», — шапнула Тоня* (А. Пальчэўскі. Настырная). *Такім чынам выяўляецца, хто н а ш ы, а хто н е н а ш ы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ніякая яна, значыць, н е «н а ш а я», яна — і х н я я* (Я. Васілёнак. Таццяна Ларына). *Мы цябе не пакінем, ты с в а я паміж намі* (П. Броўка. Палапянка). *Закуткі самыя патаемныя, ціхія, мілыя ў маленстве — і яны цяпер н е с в а е* (Я. Брыль. Рамонкавы россып).

Прыналежныя займеннікі ў функцыі простага выказніка могуць выступаць у форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*: *Аграном з нашых* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Мусіць, вы не з нашых... не з нашага сяла* (В. Палтаран. Ключы ад Сезама).

§ 538. Выказнік, выражаны пытальна-адносным займеннікам у форме назоўнага склону, указвае на суадносасць асобы, прадмета ці прыметы з іншымі асобамі, прадметамі ці прыметамі: *Я вось так: пан упраўляючы дык ён і ёсць упраўляючы. А я хто?* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *«На Рыгоравым сёння прыехаў», — пачаў тлумачыць нам, нібы мы не бачылі, чый гэта конь, або не ведалі, што ўласнага ў хлопца яшчэ ўсё няма* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Перадавалі ўжо нават і біяграфію лётчыка, і хто яго бацькі, і хто жонка* (Я. Васілёнак. Тацяна Ларына). *Страшэня, пераступіўшы парог дзвярэй, як бы забыўся на тое, хто ён і што ён, і быццам парынуў у вір успамінаў* (Р. Сабаленка. Святло ў вокны).

§ 539. У ролі простага выказніка могуць выступаць указальныя займеннікі ў форме назоўнага склону і ў форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*.

Выказнік, выражаны ўказальным займеннікам у форме назоўнага склону, характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання на прымету, сутнасць якой раскрываецца дадзеным сказам або больш шырокім моўным кантэкстам: *Ён не той, якім умее прыкідвацца, ён цяпер такі, які ёсць, а не такі, які быў тады, калі першыя разы да мяне прыходзіў!* (К. Чорны. Трыццаць год). *Чым я вінавата, што мой бацька такі?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *О, не! Камсамолец Віктар не гэткі!* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Цяперашнія дзеці не тое, што наш брат* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Выказнік, выражаны ўказальным займеннікам у форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*, звычайна мае пры сабе адмоўе *не*. Ён характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання на тое, што яны не адносяцца да разраду асоб ці прадметаў, якія валодаюць якой-небудзь прыметай, сутнасць якой раскрываецца дадзеным сказам або больш шырокім моўным кантэкстам: *Мы не з тых, не з гэтых і не снім аб барахле* (П. Панчанка. Паэма майго лесу). *Я, пан, не з такіх, я чалавек казённы, на тое і бляха ў мяне відаць за нумарам* (П. Галавач. Праз гады). *Я не з такіх, каб мужчыну пясціць* (А. Пальчэўскі. Малако). *Але Клямт не з гэтакіх: ёсць такія і сярод унтэраў* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 540. Выказнік, выражаны азначальным займеннікам у форме назоўнага склону, указвае на абагульненую якасць асобы ці прадмета, сутнасць якой раскрываецца дадзеным сказам або больш шырокім моўным кантэкстам: *Наступіла наша паўналецце, ужо інакшыя і мы, і Беларусь* (М. Аўрамчык. Паўналецце). *Неба, зоры, сонца — усё там іншае* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

Азначальны займеннік *усё* ў ролі простага выказніка часам выступае са значэннем «самае галоўнае, самае важнае»: *Вядома, для цябе ж яна цяпер — усё* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Мая небяспека — глупства, але іншыя людзі — усё* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха). *Мусіць, праца — гэта, Алёша, яшчэ не ўсё* (У. Карпаў. За годам год).

§ 541. У ролі простага выказніка могуць выступаць адмоўныя займеннікі ў форме назоўнага склону, а адмоўны займеннік *нішто* — і ў форме роднага склону без прыназоўніка.

Выказнік, выражаны адмоўным займеннікам у форме назоўнага склону, характарызуе асобу ці прадмет шляхам адмаўлення пэўнай адпаведнасці паміж імі і іншымі асобамі ці прадметамі або шляхам адмаўлення наяўнасці ў іх якой-небудзь абагульненай якасці: *Староста вось*

*ён, а я, як і іншыя, я* ***ніхто*** (П. Галавач. Праз гады). *Без гэтага няма чалавека, без гэтага ён —* ***нішто*** (Я. Скрыган. Наталя). *Я... так... хлопец... падарожны, праз сябе сам... Я...* ***нічый!*** (Я. Колас. Сымон-музыка).

Выказнік, выражаны адмоўным займеннікам *нішто* ў форме роднага склону без прыназоўніка, выступае са значэннем «добры» або «так сабе— не вельмі добры і не вельмі дрэнны»: *І галасіна, відаць,* ***нічога*** (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *А што, ён і праўда* ***нічога!*** (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Генрых —* ***нічога****, але спіць і сніць сябе інжынерам* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 542. Выказнік, выражаны няпэўным займеннікам у форме назоўнага склону, характарызуе асобу ці прадмет шляхам указання на суадноснасць іх з якой-небудзь няпэўнай асобай ці прадметам або шляхам указання на наяўнасць у іх няпэўнай прыметы, сутнасць якой не раскрываецца нават шырокім кантэкстам. Пасля такога выказніка ў сказе звычайна знаходзіцца другі аднародны яму выказнік, які ўжо канкрэтна ўказвае на тое, кім або чым з'яўляецца асоба ці прадмет або якая іх асноўная прымета: *Ён не быў упэўнены, што гэта—* ***нехта****, хутчэй схіляўся да таго, што гэта —* ***нешта*** (І. Шамякін. Крыніцы). *Тут ужо яму здавалася, што ён сам* ***не абы-хто****, а нейкі важны дзеяч* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сын твой* ***не хто-небудзь****, не просты чалавек, а вучыцца ў горадзе на агранома* (В. Каваль. Ліпы). *Туравец усім сваім выглядам паказваў, што задача гэтая* ***не абы-якая*** (І. Мележ. Мінскі напрамак).

## ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ПРЫСЛОЎЕМ

§ 543. У ролі простага выказніка могуць выступаць прыслоўі якасныя і акалічнасныя. Выказнік, выражаны якасным прыслоўем, указвае на ўнутраную якасць або знешнюю прымету прадмета ці асобы: *У канторы таксама ўсё* ***па-новаму****: выбелена, адрамантавана* (І. Шамякін. Галоўны інжынер). *Так міла ўсё і ўсё* ***дарэчы****, тым больш, калі ты змёрз і змок, пакуль датрося на агеньчык на самазвале ў гарадок* (М. Лужанін. У гасцініцы). *Косы — як крылы ластаўкі —* ***уразлёт*** (Я. Брыль. Рамонкавы россып). *Фрэнч на ім* ***унакідку*** (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Там, кажуць, нашы малюнкі* ***нарасхват*** (А. Якімовіч. Смелыя людзі). *Усе вокны ў райкоме —* ***насцеж*** (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Зіна відавочна спяшалася абвясціць, што яна* ***замужам*** (Я. Васілёнак. Слота).

Выказнік, выражаны акалічнасным прыслоўем, указвае на месцазнаходжанне прадмета ці асобы: *Так* ***блізка*** *роднае сяло, і яно так* ***далёка!*** (Я. Колас. Суд у лесе). *Праўда, я не вельмі спяшаюся: служба мая* ***побач*** (М. Ракітны. Пад адным дахам). *Ён не задумваўся, хто яна і* ***адкуль*** (Я. Васілёнак. Розныя дарогі).

§ 544. Выказнік, выражаны прыслоўем, якое генетычна ўзыходзіць да кароткага прыметніка, можа выступаць у сказе, дзейнік якога выражан інфінітывам. Інфінітыў-дзейнік заўсёды знаходзіцца перад прыслоўем-выказнікам, аддзяляецца ад апошняга інтанацыйна і часта дадатнымі членамі сказа: *Хадзіць тут у такую ноч* ***небяспечна*** (П. Галавач. З тых дзён). *Ляжаць на пахучай саломе* ***прыемна*** *і* ***ўтульна*** (І. Шамякін. Крыніцы). *Ганна Сяргееўна разумела, што ліквідаваць нямецкіх агентаў* ***неабходна****, інакш можа сарвацца перадсвяточная аперацыя не толькі на чыгунцы* (Р. Няхай. Героі не адступаюць).

Пры перастаноўцы такіх галоўных членаў месцамі прыслоўе пераходзіць у разрад безасабова-прэдыкатыўных слоў і зліваецца з наступным інфінітывам у непадзельнае словазлучэнне — складаны двухкампанент-

ны выказнік, у выніку чаго сказ з двухсастаўнага ператвараецца ў аднасастаўны: *Мне цікава ведаць, хто каля майго парога швэндаецца* (К. Крапіва. З народам). *Добра ў садзе хадзіць, сустракаючы сонечны ранак, чулым сэрцам лавіць звонкі голас дзявочых вяснянак* (П. Панчанка. Юнак). *Мне прыемна стаяць ля ракі і глядзець, як варушыцца Нёман* (А. Астрэйка. Ручаі загулі).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ БЕЗАСАБОВА-ПРЭДЫКАТЫЎНЫМІ СЛОВАМІ

§ 545. Безасабова-прэдыкатыўныя словы выступаюць у ролі простага выказніка ў аднасастаўных безасабовых сказах. Выказнік, выражаны безасабова-прэдыкатыўным словам, абазначае стан жывых істот, прыроды і навакольнага асяроддзя або ацэнку гэтага стану: *Вам халадна, Рыма?* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Спачатку Стэфцы непрыемна, а пасля страшна* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Мне прыкра і балюча за яго* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Весела на полі, слаўна пад бярозкай, хоць ты сядзь спачынь* (Я. Колас. Летам). *У хаце пуста і няўтульна* (А. Асіпенка. Сыну майго сына). *Як цёпла ды сонечна на дварэ, дык і Грышку з Віцем весялей* (А. Пальчэўскі. Ты не адзін). *Яшчэ і не позна, а цёмна зусім* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *Пясок і спёка. Няма ўжо сілы... А як далёка да хваляў Ніла!* (А. Вольскі. Пясок гарачы).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ВЫКЛІЧНІКАМ

§ 546. У ролі простага выказніка могуць выступаць эмацыянальныя выклічнікі і прымыкаючыя да іх гукапераймальныя словы.

Выказнік, выражаны эмацыянальным выклічнікам, абазначае пэўную станоўчую або адмоўную характарыстыку асобы ці прадмета: *Такія ножыкі ў полі—о-г о-г о!* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Калі чалавек, сынку, умее добра лічыць, ён — ого!* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *«Ты ў нас ого-го!» — шчэрыў зубы Пятрусь, але яго ўжо ніхто не слухаў* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Мы з табой тады былі старыя, а цяпер — во!* (Я. Маўр. Сям'я).

Выказнік, выражаны гукапераймальным словам, абазначае пэўнае дзеянне асобы ці прадмета: *А мой пранік лясь ды лясь па гліняным па таку, падышоў бліжэй Міхась, мне паклаў на стан руку* (Я. Купала. Лён). *Бярэ пісьмо, а жонка ў час той з графіна ў чаркі — буль-буль-буль* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Што б я ні сказаў, Ганна — хі-хі-хі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Вось выстраліў адзін, вось разам — пах-пах-пах!* (К. Крапіва. Махальнік Іваноў).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ СЛУЖБОВЫМІ СЛОВАМІ

§ 547. У ролі простага выказніка зрэдку могуць выступаць службовыя словы: *Ноччу ды і нядаўна яшчэ яму здавалася, што гэтая адмова— простае дзявочае не, і ён яшчэ мацней, яшчэ пяшчотней абдымаў яе і шчасліва смяяўся* (Я. Брыль. На Быстранцы).

### ВЫКАЗНІК, ВЫРАЖАНЫ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫМ І СІНТАКСІЧНА НЕПАДЗЕЛЬНЫМ СЛОВАЗЛУЧЭННЯМІ

§ 548. Просты выказнік часта выражаецца фразеалагічнымі словазлучэннямі.

У ролі простага выказніка могуць выступаць фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя па значэнню з асабовымі формамі дзеяслова. Яны

абазначаюць дзеянне асобы ці прадмета: *Адзін толькі паручык Жыгалкоўскі не згубіў галавы* (Я. Колас. Дрыгва). *Ён усім нам доўга жыць загадаў* (З. Бядуля. Набліжэнне). *Не спалі ў шапку і польскія патрыёты* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Выгляд у яе быў такі ўбогі, што нікому яна не ўпала ў вока* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *А калі ён і цябе вакол пальца абвёў?* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Яны таксама з мухі слана зробяць* (В. Вітка. Палёт чмяля). *Нехта недзе бачыў, што нібы-та ён, раззлаваўшыся, палажыў на ўсе чатыры лапаткі кадрылевага ардэна* (А. Кулакоўскі. Нямко). *«А ты чаго нос павесіў?» — ужо мякка дакрануўся рукой Аскар Шардыкаў да пляча Сямёна* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

Заўвага. Фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя з інфінітывам незакончанага трывання, пры абазначэнні будучага дзеяння выступаюць з асабовай формай будучага часу дапаможнага дзеяслова *быць*: *Ну, дык згуртоўвайце людзей, якіх ведаеце, а я таксама не буду спаць у шапку* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Спадзяюся, што смецця з хаты выносіць вы не будзеце, каб гэта не лягло брудней плямай на нашу ўстанову* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

У ролі простага выказніка могуць выступаць фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя па значэнню з прыметнікамі. Яны абазначаюць прымету асобы ці прадмета: *А тут мароз, хоць ты лысых лічы!* (З. Бядуля. Дудар). *Праўда, бацюшка і сам не абы там што якое* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Не апошняя ж я тут спіца ў калясе!* (К. Чорны. Вінгель). *Купец — усім купцам купец!* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Мужык што трэба — свойскі, моцны* (П. Панчанка. Стары знаёмы). *Васілю здавалася, што хлопец нішто сабе, не выскаквае, ад яго павявае сціпласцю, адчуваецца паслухмянасць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І дзяўчынка пачала расказваць, што апошнія дні Маня і так сама не свая* (Б. Сачанка. Мая спадарожніца).

§ 549. Просты выказнік часта выражаецца самымі разнастайнымі сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі. Па агульнаму значэнню яны ў пэўнай ступені суадносяцца з іменнымі часцінамі мовы і абазначаюць прымету асобы ці прадмета або ўказваюць, кім або чым асоба ці прадмет з'яўляецца: *Час світання — час зычлівы* (Я. Колас. Усход сонца). *Ніна наогул дзяўчына нядрэнная* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Пятрок твой, я гляджу, шырокай натуры чалавек* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Касцюм на гэтай асобе зеленаватага колеру, такая ж кепка* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Рыбалтовіч — адзін з самых цёплых калісьці дзядзькой у гэтай вось Пясчанай Слабадзе* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Сам я па прафесіі настаўнік, знаю слоў дакладную вагу* (П. Панчанка. Апошнія навіны). *Хоць Сцяпан і Змітрок — родам з вёскі адной, ды жыццё іх даўно раздзяліла мяжой* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Вуліца, па якой едзе Ігнась з бацькам, даўжынёю каля вярсты* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Анісім хутчэй здагадаўся, чым пазнаў, што чалавек гэты не хто іншы, як Толік* (Б. Сачанка. Дзік-бадзяга). *Нудная скарга яго не што іншае, як нездавальненне тым, што яго адарвалі ад цёплага месца ў горадзе і прыслалі сюды* (І. Шамякін. Галоўны інжынер).

Заўвага. У асобную падгрупу можна вылучыць простыя выказнікі, выражаныя такімі непадзельнымі словазлучэннямі, якія складаюцца з асабовага дзеяслова і залежнага ад яго назоўніка і па значэнню амаль поўнасцю адпавядаюць дзеяслову, утворанаму ад гэтага залежнага назоўніка, параўн.: *стаяць на кватэры — кватараваць, прыйсці да пераканання — пераканацца, прымаць удзел — удзельнічаць* і г. д.: *У дзеда Талаша стаяў на кватэры бальшавіцкі камандзір* (Я. Колас. Дрыгва). *Юзік пачаў успамінаць, як ён прыйшоў да пераканання, што на пасёлкі выходзіць не трэба* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Адзін Алесь не прымаў удзелу ў гэтых перамовах* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

## УСКЛАДНЕНЫЯ ФОРМЫ ПРОСТАГА ВЫКАЗНІКА

§ 550. Просты выказнік з мэтай выражэння дадатковых сэнсавых і экспрэсіўных адценняў можа ўскладняцца шляхам паўтарэння або далучэння да яго розных часціц. Паўтарэннем выказніка, выражанага дзеясловам абвеснага ладу, падкрэсліваецца працягласць і інтэнсіўнасць дзеяння: *У небе хмаркі светлыя плывуць, плывуць, як пух* (Я. Колас. Думкі). *Прынік Міколка гарачым ілбом да жалеза крат і глядзеў, глядзеў* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Вунь мая пляменніца Надзя вучылася, вучылася на доктара* (А. Васілевіч. Падчарыца). *Набліжаецца, набліжаецца, набліжаецца навальніца* (П. Панчанка. Цішыня). *І Надзя піша, піша, піша* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *А млын меле, меле, меле* (А. Зарыцкі. А млын меле).

Двухразовым паўтарэннем выказніка, выражанага дзеясловам абвеснага ладу, можа абазначацца інтэнсіўнае дзеянне, якое праз некаторы час замяняецца другім дзеяннем: *А я падумаў-падумаў і таксама захацеў ехаць* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Тым часам Макрына лапатала-лапатала ды раптам змоўкла* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Толькі Пятрусь пасядзіць-пасядзіць, устане, пойдзе ў хату і выйдзе на парог са скрыпкай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Двухразовым паўтарэннем выказніка, выражанага прыметнікам, падкрэсліваецца высокая ступень якасці (гл. § 531): *У самыя вясёлыя хвіліны яна толькі ўсміхалася, і мне заўсёды здавалася, што ўсмешка яе хітрая-хітрая* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Вусны дзіўна перакрыўленыя, ля носа глыбокія цені, колер твару шэры, чорныя бровы ў нейкім дзівацкім надломе, вочы вялізныя-вялізныя, чорныя, але і ў іх нейкі незразумелы, застыглы выраз* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха).

§ 551. Просты выказнік, які паўтараецца, можа мець пры сабе розныя часціцы. Часціца *ўсё*, знаходзячыся перад першай дзеяслоўнай формай або пасля яе, падкрэслівае працягласць дзеяння: *А яна ўсё ідзе і ідзе* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *А дзед сядзеў усё, сядзеў* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб).

Часціца *дык*, знаходзячыся паміж дзвюма аднолькавымі дзеяслоўнымі формамі, указвае на вялікую інтэнсіўнасць або вычарпальнасць дзеяння: *«Ось хіба сягоння пілі дык пілі!» — кажа памочнік* (Я. Колас. Выбар старшыні). *«Вось выспаўся дык выспаўся»,— задаволена прамовіў Рыгор і пайшоў к мыцельніку* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Дзякуй прафсаюзу за пашану: на пуцёўку сонца даў дык даў* (П. Панчанка. Ля мора).

На вялікую інтэнсіўнасць дзеяння ўказвае і часціца *як*, калі яна паўтараецца перад кожнай дзеяслоўнай формай: *Наддаў ходу і як пайшоў, як пайшоў — яшчэ да вечара падыходзіў к Вільні* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Выказнік, выражаны дзвюма аднолькавымі дзеяслоўнымі формамі абвеснага ладу, другая з якіх выступае з адмоўнай часціцай *не*, абазначае дзеянне няпэўнае або малой інтэнсіўнасці: *У сваёй хаце і пры матцы жыў не жыў, бяда выпхнула бадзяцца, у свет пабрыў* (Я. Купала. Адвечная песня). *Пад гэтую песню спаў — не спаў чалавек, трызніў — не трызніў* (М. Лынькоў. Талісман). *Ён ляжаў з прыплюшчанымі вачамі: слухаў не слухаў, драмаў не драмаў* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Аднак Шыман Кантаровіч і маўчыць і не маўчыць* (З. Бядуля. Набліжэнне). *Марына Міхайлаўна верыла і не верыла такім апавяданням* (М. Па-

с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *Антон Цітавіч ч у ў і н е ч у ў, што гаварыў Мікульскі* (А. М а р ц і н о в і ч. Водгулле).

Пры абазначэнні няпэўнага ўражання, якое пакідае аб сваёй сутнасці асоба, з адмоўнай часціцай *не* паўтараецца і выказнік, выражаны назоўнікам або займеннікам: *Я к а з а к — н е к а з а к, што нагайкай свісціць* (Я. К у п а л а. Я казак — не казак). *Х а л а с ц я к — н е х а л а с ц я к я тут, а сёе-тое, каб ты ведаў, у мяне ёсць* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая). *Я — у д а в а і н е ў д а в а* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Руневіч, Алёнка, і я і н е я* (Я. Б р ы л ь. Птушкі і гнёзды).

Выказнік, выражаны двума дзеясловамі аднолькавага лексічнага значэння, першы з якіх выступае ў форме незакончанага трывання, а другі — у форме закончанага трывання з часціцай *не*, абазначае працяглае дзеянне, якое па той ці іншай прычыне не можа завяршыцца: *Ч а к а е я н а н е д а ч а к а е ц ц а, пакуль выныране з-за вугла які-небудзь хлопчык-купец і прамяняе скрадзенае ў клеці яйка на чэрствы абаранак, печаны перад тым шабасам* (М. Л ы н ь к о ў. У мястэчку). *«Відаць, дадому так спяшаецца, а маці недзе ч а к а е н е д а ч а к а е ц ц а»,— з дакорам сказала старая* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

§ 552. У мастацкіх стылях з мэтай больш дакладнага і вобразнага абазначэння дзеяння ўскладнены выказнік можа выражацца спалучэннем дзвюх сінанімічных па свайму лексічнаму значэнню дзеяслоўных форм: *Глуха нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі, п л а ч а-г а л о с і ц ь у коміне вецер глухі* (Я. К у п а л а. Зваяваным). *Т у л і ц ц а-ц і с н е ц ц а ў пяшчоце галоўка да галоўкі, а жняя душыць закарузлай, патрэсканай, мазалістай рукою цэлае племя жытніх сцяблоў* (З. Б я д у л я. Салавей). *Пушыста ў е ц ц а-с ц е л е ц ц а густая дзераза* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Вясна-красуня). *Дзесь далёка на праспектах Мінска х о д з і ц ь-б р о д з і ц ь тая русакосая, што хлапцу ад самага дзяцінства стала самай лепшай і харошаю* (А. З в о н а к. Маладосць). *Час мінуў, і гудкі гарадскія мяне к л і к а л і-з в а л і ў паход* (А. А с т р э й к а. У родных мясцінах).

§ 553. Пры асаблівай акцэнтуацыі ўвагі на дзеянні выказнік выражаецца спалучэннем асабовай формы дзеяслова абвеснага або загаднага ладу і інфінітыва гэтага ж дзеяслова, які займае прэпазіцыйнае становішча і часам выступае з часціцай *то: В е р ы ц ь н е в е р у, але гавораць людзі* (Я. К о л а с. Калодка пчол). *І на Чарнушкавых глядзеў не вельмі каб ветліва, і Ганнай быў недавольны: сама р а б і ц ь н е р о б і ц ь, ды яшчэ ўсякіх падказчыкаў водзіць!* (І. М е л е ж. Навальніца над полем). *П а с я л і ц ц а там ніхто н е п а с е л і ц ц а, калі дом аддадуць пад клуб* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *К і р а в а ц ь т о ты к і р у й, ды не вельмі тузай* (К. К р а п і в а. Памагаты).

Такім жа дадатковым значэннем характарызуецца і выказнік, выражаны спалучэннем асабовай формы дзеяслова абвеснага ладу і аднакарэннага з ім прэпазіцыйнага прыслоўя на *-ма(-мя): А Беларусь к і ш м я к і ш э л а шляхтай і панамі* (З. Б я д у л я. З сказаў буры і віхораў). *Глянула матка здалёк, б е г м а п а д б е г л а да госця* (П. Г л е б к а. Эма). *А хачу, кажа, на нізавой рабоце сябе паказаць, каб не ўпікалі, што брыгадзірава жонка г у л ь м а г у л я е* (В. В і т к а. Гуляшчы хлеб). *Ганна падымала яго, узяўшы пад пахі, і ставіла на ногі, а Лукаш як звязаны быў — не пераступаў, а цягнуўся і р о ў м а р о ў* (М. Л о б а н. На парозе будучыні).

З а ў в а г а. Пры абазначэнні руху ў якасці першага кампанента зрэдку можа ўжывацца прыслоўе на *-ма(-мя)* не ад выказнікавага дзеяслова, а ад яго сіноніма: *Б е г м а к і н у л і с я да старту, задыміла «санітарка», затарахцела, плаўна падкацілася бліжэй* (М. Л ы н ь к о ў. Талісман). *Ён б е г м а п у с ц і ў с я дадому* (Я. В а с і л ё н а к. Бацька).

Замест прыслоўя на *-ма(-мя)* у такіх выказніках часта выступаюць аднакарэнныя з дзеясловам назоўнікі ў форме творнага склону адзіноч-

нага ліку, якія ўжо страцілі свае лексічныя значэнні і выконваюць функцыю ўзмацняльных часціц: *Валіць валам люд у тунелі пад вакзалам, а з ім і дзядзька цісне збоку ад шэрых світ непадалёку* (Я. Колас. Новая зямля). *А лес гэткі харошы, гэткі прыгожы, што проста цягам цягне да сябе старога Міхайлу* (З. Бядуля. Туга старога Міхайлы). *Яно, братка, па ядзе яшчэ можна пражыць. Але ж нуда чалавека поедам есць* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *У прасторную хату біткам набіліся людзі* (В. Адамчык. На крыжавых дарогах).

§ 554. Для абазначэння нечаканага, непрадбачанага дзеяння ўжываюцца ўскладненыя выказнікі, выражаныя спалучэннем асабовай формы дзеяслова прошлага або будучага часу закончанага трывання і аналагічнай асабовай формы дзеяслова *ўзяць*, якая займае прэпазіцыйнае становішча і звязваецца з асноўнай дзеяслоўнай формай пры дапамозе злучнікаў *і, ды, ды і (дый)*: *Чалавек зрабіў, што ад яго трэба было, зямлю выкарчаваў, вырабіў, сама што яе прыйшла пара сеяць, а пан узяў ды і выгнаў яго адтуль* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *А яны ўзялі ды ўзбунтаваліся, нагаварылі яму, гаспадару, непрыемнасцей, забралі сваё барахло і пайшлі* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *А тут наша хата ўзяла дый згарэла* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Ён баяўся, што насільшчык возьме і сыдзе кудысьці з чамаданам, пакінуўшы яго з пустымі рукамі на пероне, сярод незнаёмых людзей* (П. Галавач. Праз гады).

Заўвага. Калі другая дзеяслоўная форма абвеснага ладу не мае пры сабе злучніка і звязваецца з першай пры дапамозе толькі адной інтанацыі, то значэнне нечаканасці і непрадбачанасці дзеяння, выражанага такім ускладненым выказнікам, амаль поўнасцю страчваецца: *Напрыклад, пацерлася ў вас адзежына,— узяў пераліцаваў яе, падлажыў трохі — і зноў новая* (К. Крапіва. Мой сусед). *Добрай была нябожчыца, ды вось узяла надарвалася* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Потым Домна ўзяла патушыла лучыну, каб Віктар ведаў, што ў яе цяпер нікога няма* (М. Лобан. На парозе будучыні).

Ускладненыя выказнікі гэтага тыпу, у якіх абодва дзеясловы маюць форму 2-й асобы загаднага ладу і не дапасуюцца ў асобе да дзейніка, абазначаюць не пабуджэнне да дзеяння, а раптоўнае і непрадбачанае дзеянне ў мінулым (гл. § 507): *Я аднойчы зайшоў да яе, а тая вазьмі і звядзі мяне з Ганнаю* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Вазьмі і запытайся тады Міколка: «То вы гранаты і кулямёты вазілі ў лес хаваць?»* (М. Лынькоў. Васількі).

Ускладнены выказнік, які выражаецца спалучэннем асабовай формы будучага простага часу або загаднага ладу дзеясловаў *пайсці, схадзіць, паехаць, панесці* і іншых у якасці першага кампанента і аналагічнай асабовай формы якога-небудзь другога дзеяслова, абазначае рух з мэтай выканання дзеяння, названага гэтым другім дзеясловам: *А я схаджу запытаюся ў Ленкі, яна павінна ведаць, дома ён ці не* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пойдзем, хлопцы, паглядзім на горад, па кіно даўно знаёмы нам* (П. Панчанка. Патрыятычная песня).

§ 555. Ускладненыя выказнікі даволі часта выражаюцца спалучэннем асабовых дзеяслоўных форм з рознымі службовымі словамі.

Выказнік, выражаны спалучэннем асабовай формы дзеяслова абвеснага ладу з прэпазіцыйнай часціцай *так і*, абазначае вельмі інтэнсіўнае дзеянне, калі дзеяслоў незакончанага трывання, або дзеянне нечаканае, раптоўнае, калі дзеяслоў закончанага трывання: *Вецер хмары так і гоніць* (Я. Колас. Асенні вечар). *Стаіць сярод пакоя, размаўляе са мной, а сам так і шнырыць вачыма па закутках* (А. Асіпенка. Паплавы). *Так і не пайшоў Васілька тую зіму ў школу* (К. Крапіва. Здаў «акзамінт»). *Прыгожых у шчасці, цкатлівых у тайне, іх так і застала над рэчкай світанне* (Н. Гілевіч. Дачка рыбака).

Выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова абвеснага ладу і прэпазіцыйнай падвойнай часціцай *не* са злучнікамі *ды, ды і (дый)*, абазначае дзеянне, якое праяўляецца нерэгулярна, спарадычна: *А сярод вобразаў, што кружацца перад заплюшчанымі вачыма, н е-н е д ы з'я ў л я е ц ц а тое самае: высачэзная шэрая каменная сцяна, перад якой бушуюць звар'яцелыя, брудна-запененыя твары* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Усё-ткі ёй было трывожна, і жанчына мімаволі н е-н е д ы і п а г л я д в а л а, ці не цягнецца гэтая брыда зноў* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *І ў косах яркая зара н е-н е д ы й з а і с к р ы ц ц а* (М. Засім. Касавіца). *Н е-н е д ы й п р о й д з е ц ц а ледзяным сіверам па балоце вецер* (Б. Сачанка. Ноч на балоце).

Выказнік, выражаны спалучэннем асабовай формы дзеяслова з постпазіцыйнай займеннікавай часціцай *сабе*, абазначае дзеянне, якое адбываецца ў інтарэсах толькі выканаўцы і не залежыць ад навакольных абставін: *Ж ы в у ц ь с а б е камунары весела, шчасліва* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Народ ля кузні п а к у р в а ў с а б е, гаварыў, радзіў* (К. Чорны. Рамонтная брыгада). *Стась таксама раззлаваўся, плюнуў і п а й ш о ў с а б е далей* (Я. Маўр. ТВТ). *Ж у р ч ы ц ь с а б е рачулка светла-крышталёвымі хвалямі, г а м о н і ц ь с а б е памаленьку і так прыцягвае сваёй прыгажосцю, утульнасцю, што як бы чалавек ні спяшаўся, спыніцца хоць на хвіліну* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

Выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова з прэпазіцыйнымі спалучэннямі слоў *не то што, не тое каб, нельга сказаць каб*, якія выконваюць функцыю часціц, абазначае недакладна акрэсленае дзеянне з адценнем прыблізнасці і меркавання: *Часамі магло здавацца, што ён н е т о е ш т о п а б о й в а е ц ц а ўсяго навакольнага свету, а не верыць яму* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Ён н е т о ш т о с т а в і ў с я да яе а б ы я к а в а, а як бы баяўся — усё адкладваў заняткі і вось ужо двойчы сарваў* (І. Шамякін. Завіруха). *Гэтай жа раніцай Дзіма н е т о е к а б з а с п а ў, але калі ён узняўся на пасцелі, бацька ўжо быў апрануты* (А. Васілевіч. Новая дарога). *Ён н е л ь г а с к а з а ц ь к а б з б я н т э ж ы ў с я, але стаў* (І. Мележ. Навальніца над полем).

Выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова абвеснага ладу з прэпазіцыйнай параўнальнай часціцай, абазначае недакладна акрэсленае дзеянне шляхам параўнання яго з іншым падобным дзеяннем: *Н і б ы т а н ц а в а ў перад ім гняды стаенны конь, як лебедзь, выгнуўшы пругкую шыю* (Я. Колас. Дрыгва). *Б ы ц ц а м бы ён у б а ч ы ў сякеру, якой рыхтуюцца яму адняць галаву* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Я к б ы в ы р а с л і крыллі ў зярнят за плячамі, я к б ы поле п р а б і л і скрозь яны агенькамі* (П. Броўка. Хлеб). *Аднаго толькі Івана Качана, іх даўняга знаёмага, Каця я к б ы ц ц а м п а в а ж а е* (М. Ваданосаў. Жаніх). *Старая кніга я к б ы з л у ч а е сённяшняе з даўномінулым, што адляцела ў нябыт, але тым не менш працягвае жыць* (І. Навуменка. Бульба).

Шляхам параўнання можа абазначаць сутнасць або прымету прадмета і выказнік, выражаны іменнай часцінай мовы і дзеепрыметнікам у спалучэнні з прэпазіцыйнай параўнальнай часціцай (гл. § 518, 522, 532).

## СКЛАДАНЫ ВЫКАЗНІК

§ 556. Складаны выказнік выражаецца двума і больш канструктыўнымі кампанентамі. У ролі першага канструктыўнага кампанента складанага выказніка найбольш часта ўжываюцца асабовыя формы дзеясловаў. Па ступені лексічнай значымасці яны падзяляюцца на тры групы:

1. Асабовыя формы дзеясловаў-звязак. Яны не маюць уласнага лек-

січнага значэння і ў складаным выказніку служаць толькі паказчыкам граматычных катэгорый часу, ладу, асобы, ліку і роду. Да гэтай групы адносяцца асабовыя формы дзеяслова *быць* і ў пэўных кантэкстах асабовыя формы дзеяслова *з'яўляцца.*

2. Асабовыя формы паўзнамянальных дзеясловаў. У складаным выказніку яны выступаюць з аслабленым лексічным значэннем. Да гэтай групы адносяцца асабовыя формы дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне або існаванне прыметы (*станавіцца, рабіцца, заставацца* і інш.), на ўяўленне прыметы (*аказвацца, выглядаць, здавацца, лічыцца, прыкідвацца, уяўляцца* і інш.), на ўласную або агульную назву асобы ці прадмета (*звацца, называцца* і інш.), на пачатак, працяг і канец дзеяння (*пачынаць, распачынаць, брацца, працягваць, канчаць, кідаць, пераставаць* і інш.), на магчымасць або немагчымасць, здольнасць або няздольнасць, жаданне або нежаданне, схільнасць, імкненне, спробу выканаць дзеянне і на розныя працэсы думкі і ўнутраныя перажыванні, звязаныя з выкананнем дзеяння (*магчы, умець, спрабляцца, хацець, імкнуцца, прагнуць, старацца, ладзіцца, спрабаваць, збірацца, рыхтавацца, наважвацца, спяшацца, пастанаўляць, думаць, здагадвацца, згаджацца, прывыкаць, спадзявацца, адважвацца, асмельвацца, марыць, любіць, баяцца* і інш.).

3. Асабовыя формы поўназнамянальных дзеясловаў. У складаным выказніку яны захоўваюць сваё асноўнае лексічнае значэнне. Да гэтай групы адносяцца асабовыя формы дзеясловаў, якія ўказваюць на рух, стан і розныя канкрэтныя дзеянні (*адрывацца, бегчы, вяртацца, ехаць, ісці, спыняцца, узнімацца, усхопліваццa, ляжаць, сядзець, спаць, гаварыць, глядзець, дзьмуць, жыць, начаваць, прачынацца, працаваць, рабіць, радзіцца, служыць, чакаць* і інш.).

Акрамя асабовых форм дзеясловаў, у ролі першага канструктыўнага кампанента складанага выказніка могуць выступаць:

1. Назоўнікі, суадносныя па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі (*аматар, ахвотнік, дока, майстар, не зломак, не дурань, спец* і інш.).

2. Прыметнікі і дзеепрыметнікі, суадносныя па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі (*ахвоч, вымушан, гатоў, павінен, рад* і некаторыя іншыя).

3. Прыслоўе *супроць* з прэпазіцыйнай адмоўнай часціцай *не* і асобныя назоўнікі ў форме меснага склону з прыназоўнікам *у* і часта з прэпазіцыйнай адмоўнай часціцай *не*, суадносныя па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі (*не супроць, не ў праве, не ў сілах* і некаторыя іншыя).

4. Безасабова-прэдыкатыўныя словы, суадносныя па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі (*можна, нельга, варта, трэба, сорам, ахвота* і многія іншыя).

5. Непадзельныя словазлучэнні, суадносныя па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі (*лічыць патрэбным, лічыць неабходным, лічыць абавязкам, лічыць за абавязак, лічыць за гонар, лічыць за лепшае, мець ахвоту, мець жаданне, мець гонар, мець сілы, мець права, мець патрэбу, мець звычку, мець падставы, мець на ўвазе, мець за шчасце, рабіць спробу, ставіць за правіла, траціць надзею, трымаць у думках, узяць за абавязак* і інш.).

Цэласнае значэнне складанага выказніка выражаецца спалучэннем першага канструктыўнага кампанента, які выконвае звычайна дапаможную ролю, з усімі астатнімі канструктыўнымі кампанентамі, якія нясуць на сабе асноўную сэнсавую нагрузку, паколькі называюць канкрэтнае дзеянне або прымету.

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК

§ 557. Выказнік гэтага тыпу складаецца з двух канструктыўных кампанентаў. Спосабы выражэння першага канструктыўнага кампанента пералічаны вышэй. Другі канструктыўны кампанент выражаецца дзеясловамі, назоўнікамі, прыметнікамі, лічэбнікамі, займеннікамі, прыслоўямі, безасабова-прэдыкатыўнымі словамі (толькі ў аднасастаўных безасабовых сказах), выклічнікамі, фразеалагічнымі і сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі.

Дзеясловы ў ролі другога канструктыўнага кампанента складанага двухкампанентнага выказніка выступаюць толькі ў формах інфінітыва і дзеепрыметніка.

Магчымасць спалучэння розных па форме канструктыўных кампанентаў у адным складаным двухкампанентным выказніку залежыць ад іх лексічных і граматычных значэнняў.

### СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ІНФІНІТЫВАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 558. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка выражаецца інфінітывамі незакончанага і закончанага трывання.

Інфінітыў незакончанага трывання выступае ў спалучэнні з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў, якія абазначаюць пачатак, працяг і канец дзеяння: *Плаўна прайшоўшы па кругу і лёгка выгінаючыся, яна спынілася, перавяла дых і пачала так выстукваць чаравікамі, што练Пракоп Сыс аж зажмурыўся ад пылу* (В. Вітка. Познія палыны). *Рыгор прысеў, разгарнуў кніжку і пачаў чытаць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Мікола працягваў свістаць, пахаджваючы на памосце, і вымахваў пры гэтым аброцьмі* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Ванька астаўся сядзець дома, а Сашка, стараючыся даць сабе хоць штучную спакойнасць, выйшаў на вуліцу* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ганна аж прасці перастала, паглядзела на Кандрата і сваім вушам не паверыла* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Яраш скончыў распытваць пра здароўе і змоўк* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на магчымасць або немагчымасць, здольнасць або няздольнасць, жаданне або нежаданне, схільнасць, імкненне, спробу выканаць дзеянне і на розныя працэсы думкі і ўнутраныя перажыванні, звязаныя з выкананнем дзеяння: *Задушэўная песня Рэчыцы можа кожнага заваражыць* (П. Панчанка. Вершы пра Палессе). *Андрэй не ўмеў суцяшаць словамі* (А. Чарнышэвіч. Дзіцятка горкае). *Ён нават наламаўся гаварыць басам* (В. Вітка. Баравіцкія музыкі). *Ніхто не хоча пусціць Ганну да сябе ў хату, а свайго прыпынку ў яе няма* (Я. Колас. На ростанях). *Ён імкнуўся здагадацца, навошта яго сюды пазвалі* (А. Кулакоўскі. Не выбралі). *Прызнацца вам, я таксама жаніцца збіраўся* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). *У гэты ранні час Арцём заўсёды любіў глядзець на далёкія горы* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Як ён марыў прывезці ў палі Беларусі хоць бы частку таго, чым квітнеў Ленінград* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *Ты хоць бы мне саромеўся гэта казаць* (І. Сіўцоў. Нягоды і радасці).

Заўвага 1. Пры абазначэнні дзеяння, якое не было даведзена да канца або не дало жаданага выніку, першы кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, выражаны паўзнамянальным дзеясловам прошлага часу, ускладняецца аналагічнай асабовай формай дзеяслова *быць*: *Пан Зыгмусь пачаў быў гаварыць, які ён яшчэ мужчына, але не скончыў, бо Алена не хоча яго слухаць, не спыняецца* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Спачатку Ганарджыя быў вырашыў ад'ехаць*

*куды-нібы на пэўны час, але потым пакінуў пра гэта думаць* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ён быў выбраўся ўзараць пад жыта атрыманы на памешчыцкай зямлі надзел* (М. Паслядовіч. Паўстанне).

У такіх выказніках дзеяслоў *быць* часам пераходзіць у часціцу і ўжываецца ў форме ніякага роду незалежна ад таго, якога роду паўзнамянальны дзеяслоў: *Ён хацеў было сказаць, што Пушкін таксама любіў восень, але адчуў, што гэта будзе наіўна — паведамляць тое, што агульнавядома* (І. Шамякін. Дзеці настаўніцы). *Не ўбачыўшы на пайстанку нікога знаёмага, Андрэй сабраўся ўжо было ісці дахаты пеша, але ледзь ён мінуў будынкі, як убачыў за шуркамі дрог падводу і Драбка* (У. Краўчанка. Родная сям'я).

Заўвага 2. Спецыфічнай асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца складаны выказнік, першы кампанент якога выражан асабовымі формамі дзеяслова-звязкі, а другі кампанент — інфінітывамі *відаць, чуваць* замест звычайных у такіх выпадках прыметнікаў *відзён, чуцён*: *З разварушанага сена відаць былі ногі* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *У яго тоне чуваць былі кпіны моцнага чалавека над слабейшым* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Постаць Ігната не растаяла яшчэ ў цемры, і глухія хлюпкія крокі яго чуваць былі выразна* (Р. Мурашка. Сын).

§ 559. Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання выступаюць у спалучэнні з назоўнікамі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *«Вы не аматар адгадваць,— адказала Ядвіся:— Усё гэта вы самі выдумалі»* (Я. Колас. На ростанях). *Сутычка была немінучая, тым болей што насарогі заўсёды ахвотнікі пабіцца* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Будаваць я і сам не зломак* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Тавару дастаць усякага ён спец* (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні). *Ён толькі хваліцца майстар* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 560. Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання выступаюць у спалучэнні з прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Пры зручным жа выпадку гаспадыня вельмі ахвоча пагаварыць* (А. Кулакоўскі. Кватаранты). *Ён гатоў нават і спачуваць ім, але што ты зробіш, калі так збегліся акалічнасці?* (Я. Колас. Дрыгва). *Мы здатны ўсе пра шчасце паразважаць парой* (Н. Гілевіч. Сто вузлоў памяці). *Хто гэта казаў, што ён яшчэ зялёны касіць?* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Марына і сама рада вучыцца, ле толькі крышку палохаюць цяжкасці гэтай справы* (К. Крапіва. Пачатак шчасця). *Яна вымушана смяяцца* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

§ 561. Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання выступаюць у спалучэнні з прыслоўем *не супроць* і назоўнікамі ў форме меснага склону *не ў праве, не ў сілах*, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Мікалай Кірылавіч у святочны дзень не супроць сустрэцца са знаёмымі, сходзіць на танцы* (з газет). *Ты лёг мне каменем на сэрцы, які не ў сілах зваліць я* (Я. Купала. На папасе). *Пазбыцца гэтых сноў і з'яў былых не ў сілах я і сёння* (Я. Колас. З дарогі). *Але адразу ўбачылі, што яны не ў сілах спыніць страшэнны агонь, які з кожнай хвілінай бушаваў усё болей і болей і перакідаўся на новыя цыстэрны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 562. Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання выступаюць у спалучэнні з непадзельнымі словазлучэннямі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Гаворачы так са сваім Сержам, ён адчуваў патрэбнасць расказаць каму-небудзь аб сваім жыцці, аб самім сабе* (К. Чорны. Насцечка). *Каму трэба, а каму і не трэба — кожны лічыў за абавязак сходзіць у воласць, каб даведацца, што чуваць* (М. Чарот. Чалавек, які не радзіўся). *Хваліцца гэтым права я не маю* (П. Панчанка. Патрыятычная песня). *Нават Цыпрук Ярэмчык, бацька рабфакаўца, чалавек сумленны і не сквапны, рабіў захады выкарыстаць камсамольства сына, каб паправіць гаспадарку* (В. Каваленка. Пошукі і здзяйсненні).

§ 563. Інфінітывы незакончанага і закончанага трывання ў аднасастаўных безасабовых сказах выступаюць у спалучэнні з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Як Прыпяці н е л ь г а п а с е ч напалову, як вольных вятроў не суцішыць размовы, так н е л ь г а народ у палоне т р ы м а ц ь* (П. Б р о ў к а. Беларусь). *Ці можа гарачае сэрца тужыць, калі яшчэ т р э б а так многа п р а ж ы ц ь?* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Роздум у святочны вечар). *І заўсёды гэтаму падрыўніку а х в о т а п а с м я я ц ц а з чалавека, п р ы м у с і ц ь пачырванець* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Эт! н е г р э х ужо мне, старому, пад кажухом пазней п а л я ж а ц ь!* (З. Б я д у л я. Умарыўся).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 564. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка найбольш часта выражаецца дзеепрыметнікамі залежнага стану прошлага часу. Гэтыя дзеепрыметнікі выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне, існаванне або ўяўленне прыметы, і з асабовымі формамі многіх поўназнамянальных дзеясловаў, якія абазначаюць рух і стан.

§ 565. З дзеясловам-звязкай *быць* дзеепрыметнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку ўжываюцца як у кароткай, так і ў поўнай форме назоўнага склону. Паралельна з поўнымі формамі назоўнага склону зрэдку могуць выступаць і поўныя формы творнага склону. Паміж гэтымі формамі прэдыкатыўных дзеепрыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку прыкметнай сэнсавай і стылістычнай розніцы няма: *Малюнак дзіўны з м е ш ч а н б ы ў у газетах, малюнак, што ў жывых у памяці жыве* (Я. К у п а л а. На смерць таварыша Кірава). *Я не ведаю нават, чаму б ы ў а д м е н е н загад* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Прамы шлях панам на Бярозу б ы ў п е р а р э з а н* (М. П а с л я д о в і ч. Паўстанне). *Хутарок б ы ў п а б у д а в а н ы нядаўна на арандаванай скарбовай зямлі* (Я. К о л а с. На ростанях). *Белы пясок паблізу вады б ы ў з а т к а н ы зялёнымі верасамі* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Больш за месяц Слышэня б ы ў п р ы к у т ы цяжкай хваробай да пасцелі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Чалавек, відаць, б ы ў вельмі з а д а в о л е н ы м, што ўбачыў Гунава* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

З дзеясловам-звязкай *быць* дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду адзіночнага і множнага ліку, а таксама дзеепрыметнікі мужчынскага роду множнага ліку ўжываюцца звычайна ў кароткай форме. Поўныя формы хоць і магчымы, але выкарыстоўваюцца толькі спарадычна. *Вада б ы л а п а к р ы т а перламутравым блескам* (З. Б я д у л я. На балоце). *Здароўе Захара б ы л о п а д а р в а н а гадамі вайны і голадам* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Сталы і столікі б ы л і з а с л а н ы чыстымі настольнікамі і настольнічкамі* (Я. К о л а с. На ростанях). *У школе ўсе лаўкі б ы л і ўжо з а н я т ы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Вокны б ы л і р а с ч ы н е н ы, але ўсё роўна пад столлю калыхалася шызае воблака махорачнага дыму* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая). *Сталы б ы л і н е п р ы б р а н ы я* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Яна б ы л а заўсёды чым-небудзь н е з а д а в о л е н а я* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Новы бухгалтар). *Маму мы сяк-так улагодзім. Ды і яна б у д з е з а н я т а я сваімі справамі* (Я. М а ў р. ТВТ).

§ 566. З паўзнамянальнымі і поўназнамянальнымі дзеясловамі дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўсіх родаў і лікаў ужываюцца толькі ў поўнай форме як назоўнага, так і творнага склону, пры-

чым формы назоўнага склону выкарыстоўваюцца значна часцей: *Муры, якія і былі ў ім, а с т а л і с я п а б і т ы я гарматамі* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Дэлегацыя в ы й ш л а з канторы трохі з б я н т э ж а н а я, а Грамабой нават раззлаваны* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Штанге с я д з е ў у крэсле з г о р б л е н ы* (Э. С а м у й л ё н а к. Герой нацыі). *Яна л я ж а л а перад ім уся з а л і т а я сонцам, жоўты жвір быў яркі, далёка-далёка відаць было вуліцу* (Б. М і к у л і ч. Цяжкая гадзіна). *І гэтае вялікае вынаходства так і з а с т а л о с я н е з а ў в а ж а н ы м* (Я. М а ў р. Чалавек ідзе). *Раніцою на другі дзень чырвонаармейцы п р а ч н у л і с я ў с т р ы в о ж а н ы м і* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах). *Доўгія нізкія штабелі пашчапанага карчэўя л я ж а л і н е к р а н у т ы м і* (М. П а с л я д о в і ч. Паўстанне).

§ 567. Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу на *-ем, -ім,* а таксама дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу на *-ач(-яч), -уч(-юч)* і дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу на *-ш, -ўш* у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца вельмі рэдка. Яны выступаюць звычайна ў поўнай форме назоўнага склону ў спалучэнні з тымі ж дзеясловамі, што і дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу: *І раптам павысіўся ў Міхася голас, с т а ў н е п а з н а в а е м* (К. Ч о р н ы. Мельнікі). *В ы б р а л і с я на бераг ледзь жывыя, аблепленыя тванню, д р ы ж а ч ы я ад холаду* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Купец б ы ў з яго п а ч ы н а ю ч ы, нават па тавар хадзіў пехатою* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *За некалькі дзён да канфлікту і пасля яго Грында х а д з і л а а ц і х ш а я і як бы нечым засмучаная* (Я. К о л а с. У дварэ пана Тарарацкага). *Анісся с я д з е л а спустошаная, п а с т а р э ў ш а я* (М. Л ы н ь к о ў. Насустрач жыццю).

Замест дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу на *-ш, -ўш* у сучаснай беларускай мове ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка звычайна выступаюць сінанімічныя імдзеепрыметнікі на *-л,* якія ў форме назоўнага ці, зрэдку, творнага склону спалучаюцца з дзеясловам-звязкай *быць,* з некаторымі паўзнамянальнымі і поўназнамянальнымі дзеясловамі: *Рукі ў яе б ы л і моцныя і а г р у б е л ы я ад працы* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Яна б ы л а р а с ч ы р в а н е л а я ад марозу, а мо' ад радаснай узрушанасці, якой поўнілася ўся яе істота* (Я. В а с і л ё н а к. Тэлеграма). *А белая дзяўчына тым часам с я д з е л а с к а м я н е л а я ад жудасці і чакала смерці* (Я. М а ў р. Сын вады). *Мікалай Аляксеевіч не спаў, хоць в я р н у ў- с я на кватэру стомлены і п р а м о к л ы да ніткі* (І. Н а в у м е н к а. Вясновы прамень). *Хаты крынічнікаў — гледзячы здалёк — з д а в а л і- ся ў р о с л ы м і ў зямлю* (С. Б а р а н а в ы х. Чужая зямля).

§ 568. З некаторымі поўназнамянальнымі дзеясловамі са значэннем успрымання або якога-небудзь канкрэтнага дзеяння, якія маюць пры сабе прамое дапаўненне, што называе аб'ект гэтага ўспрымання або дзеяння, дзеепрыметнікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону. Такія складаныя двухкампанентныя выказнікі ўзыходзяць да старажытных сінтаксічных канструкцый з «другім вінавальным»: *Смутак рвануў яму душу: ён у б а ч ы ў яе п а х у д з е л у ю за адзін дзень, н а п а л о х а н у ю* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Нешта раз Лясніцкі з а с п е ў яе асабліва ў с т р ы в о ж а н у ю, з а п л а к а н у ю* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *А Грышку таго рудога б а ч ы л а р а н е н а г а* (І. М е л е ж. У завіруху).

У сучаснай беларускай мове ў такіх складаных двухкампанентных выказніках часцей ужываюцца дзеепрыметнікі творнага склону, асабліва калі пры першым выказнікавым кампаненце прамое дапаўненне выражана зваротным займеннікам *сябе: Ён а д ч у в а е сябе крыху з н я в а ж а н ы м і а б р а ж а н ы м* (Я. К о л а с. Дрыгва). *То ён б а ч ы ў сябе*

*б я г у ч ы м на чале ланцугоў сваёй роты па шырокім голым полі Усходняй Прусіі з аўтаматам у руках...* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі).

§ 569. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, выражаны дзеепрыметнікам, часта звязваецца з першым кампанентам-дзеясловам пры дапамозе параўнальных часціц: *Чыкілевіч, яго жонка і сын с я д з е л і як а г л у ш а н ы я громам* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *У просценькай сукенцы з вясёлага паркалю, у звычайных туфельках яна с т а я л а ў дзвярах н і б ы а п ы р с к а н а я сонцам: светлавалосая, стройная, з ледзь прыкметным румянцам* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Стафанковіч с т а я ў я к р а с п я т ы на сцяне* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Лісавета л я ж а л а я к а п л ё в а н а я* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка). *Вуліца тут б ы л а я к б ы а б с е ч а н а, далей усё было спалена* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі).

§ 570. У сучаснай беларускай літаратурнай мове другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца дзеепрыслоўем закончанага трывання ад дзеяслова *выпіць,* якое ўжо знаходзіцца на мяжы пераходу ў прыслоўе. Пад уплывам паўночна-ўсходніх гаворак у мастацкіх творах сустракаюцца паасобныя выпадкі выражэння другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка дзеепрыслоўямі закончанага трывання і ад некаторых іншых дзеясловаў. Выступаюць гэтыя дзеепрыслоўі ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых поўназнамянальных дзеясловаў, якія абазначаюць рух, стан: *Мікалай б ы ў добра в ы п і ў ш ы, гэта адразу пазнала Лісавета* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка). *Зязюльскі п р ы й ш о ў ужо в ы п і ў ш ы* (Я. К о л а с. На ростанях). *Ля нас там, дзе я п а й ш о ў ш ы б ы л а, зусім поплеч камунаю працавалі* (М. З а р э ц к і. Вязьмо). *Ён б ы ў у адной сарочцы, т о л ь к і ў с т а ў ш ы з пасцелі пасля адпачынку* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Стары Цыпрук с я д з е ў з а б е д а в а ў ш ы с я* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З НАЗОЎНІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 571. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме назоўнага склону. Ён даволі часта выступае ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць.*

Складаныя выказнікі, у якіх другі кампанент выражан назоўнікам у форме назоўнага склону, а першы кампанент выражан дзеясловам-звязкай *быць* у форме цяперашняга часу, указваюць на сутнасць таго ці іншага паняцця і з'яўляюцца прыналежнасцю кніжных стыляў: *Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ё с ц ь р а д а с ц ь, вялікае ш ч а с ц е, бясцэнны д а р* (Я. К о л а с. На ростанях). *Малюнак ужо ё с ц ь м а с т а ц т в а* (З. Б я д у л я. Салавей). *Забастоўка павінна паказаць, што рабочы клас — ё с ц ь с і л а, з якою трэба лічыцца* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Пісьменнік сцвярджае, што фашызм ё с ц ь самае дзікае, самае варварскае ў в а с а б л е н н е капіталістычнага свету* (М. Л у ф е р а ў. Проза Кузьмы Чорнага). *А кожны адбор фактаў ё с ц ь ужо і а ц э н к а* (У. К а л е с н і к. Час і песні).

Пры падкрэсліванні поўнай адпаведнасці паняцця, выражанага дзейнікам, і паняцця, выражанага прэдыкатыўным назоўнікам у форме назоўнага склону, дзеяслоў-звязка *ёсць* ужываецца з узмацняльнай часціцай *і: Дагадваецца войт, што Панас і ё с ц ь той к л ю ч, якім можна адамкнуць месца тулянне дзеда Талаша* (Я. К о л а с. Дрыгва). *А калі, кажа, незнаёмы, дык пазнаёмцеся — я сам і ё с ц ь б а л ь ш а в і к* (К. К р а п і в а. Доўг). *Рыгор не бачыў цяпер Пілінкі — другі хлапчук пасвіў панскіх кароў, але аднойчы Рыгору здалося, што юнак,*

*якi ходзiць за бараною ўслед за сейбiтамi па панскiм полi, i ё с ц ь П i л i п к а* (Т. Х а д к е в i ч. Сяброўства).

Другi кампанент складанага выказнiка, выражаны назоўнiкам у форме назоўнага склону, лексiчна можа супадаць з дзейнiкам: *Iнструкцыя ё с ц ь i н с т р у к ц ы я, правiла ё с ц ь п р а в i л а, i мы iм падпарадкуемся* (М. Л ы н ь к о ў. Прыгоды з чамаданам). *Хоць у барацьбе без ахвяр нельга абысцiся, але ўсё ж такi страта ё с ц ь с т р а т а* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Але мацi ё с ц ь м а ц i, яна заўсёды клапоцiцца, каб дзецi яе, пайшоўшы ў людзi, нi ў чым не адчувалi патрэбы* (I. Ш а м я к i н. Крынiцы). *Сорамна было ў гэтым прызнацца нават самому сабе, аднак што ж рабiць — праўда ё с ц ь п р а ў д а* (А. К у л а к о ў с к i. Гартаванне). *Адказнасць ё с ц ь а д к а з н а с ц ь* (В. В i т к а. Палёт чмяля).

Другi кампанент складанага выказнiка, выражаны назоўнiкам у форме назоўнага склону, можа выступаць у спалучэннi з дзеясловам-звязкай *быць* у форме прошлага часу. Такiя выказнiкi ўказваюць як на пастаянную, так i на часовую прымету прадмета. Па значэнню i частаце ўжывання яны сiнанiмiчны складаным двухкампанентным выказнiкам, у якiх з указанай асабовай формай дзеяслова-звязкi *быць* прэдыкатыўны назоўнiк выступае ў форме творнага склону (гл. § 578): *Яны б ы л i а д н а г о д к i i мелi абодва разам гадоў трыццаць пяць* (Я. М а ў р. Палескiя рабiнзоны). *Б ы ў гэты пан н е м е ц* (В. В о л ь с к i. У лясах над Бярозай). *Цётка Агата б ы л а далёкая р а д н я Васiлю Зарэчнаму* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы). *Б а л ь ш а в i к б ы ў iхнi бацька, пралетарый родам, зведаў сушы, зведаў моры, бiтвы i паходы* (Я. К у п а л а. Сыны). *Цяпер ён б ы ў н а ч а л ь н i к усёй каапeрацыйнай сеткi на сельсавеце* (К. Ч о р н ы. Макаркавых Волька). *Твой бацька б ы ў г е р о й, i ты не плач* (Я. Б р ы л ь. Сiрочы хлеб).

Другi кампанент складанага выказнiка, выражаны назоўнiкам у форме назоўнага склону, можа выступаць у спалучэннi з iншымi асабовымi формамi дзеяслова-звязкi *быць: Н е б ы ў б ы то ён ф р а н т а в i к: як брытву навастрыў язык!* (Я. К о л а с. На шляхах волi). *«Няхай дзед Талаш б у д з е а т а м а н наш!»—сказаў хтось нават у рыфму* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Скiнуў нявол i цяжар,— сам б у д з ь зямлi г а с п а д а р* (М. Ч а р о т. Сцяг ты чырвоны трымай). *Н е б у д з ь я I г н а т, калi кажу няпраўду* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах).

§ 572. Другi кампанент складанага выказнiка, выражаны назоўнiкам у форме назоўнага склону, можа выступаць у спалучэннi з асабовымi формамi некаторых паўзнамянальных i поўназнамянальных дзеясловаў, але вельмi рэдка, бо ў спалучэннi з iмi прэдыкатыўны назоўнiк звычайна мае форму творнага склону. Форма назоўнага склону прэдыкатыўнага назоўнiка колькасна пераважае над формай творнага склону толькi ў спалучэннi з паўзнамянальнымi дзеясловамi са значэннем называння: *Ты с т а ў проста д в у р у ш н i к* (К. Ч о р н ы. Iдзi, iдзi). *Я р а д з i л а с я х р ы с ц i я н к а?* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Ад таго бык гэты i н а з ы в а ў с я Ч о р а н, што ўвесь быў чорны, як галка* (Я. К о л а с. Чоран). *З о р а х з в а ў с я той карчмар* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах). *Хлопцы з а в у ц ц а У л а д з i к i Ш у р а* (Я. Б р ы л ь. Лiпка i клёнiк).

§ 573. Складаныя двухкампанентныя выказнiкi, першы кампанент якiх выражан асабовай формай дзеяслова, а другi — назоўнiкам у форме назоўнага склону, могуць характарызаваць прадмет шляхам параўнання яго з другiм прадметам. У такiм выпадку яны выступаюць з параўнальнымi часцiцамi, якiя ставяцца памiж першым i другiм кампанентамi: *Наогул жа Бабiч i па службоваму i па сацыяльнаму свайму стану ё с ц ь я к б ы нейкая прамежная п л а н е т а, што адчувае на сабе ўплыў другiх планет* (Я. К о л а с. На ростанях). *Ноч б ы л а н i б ы*

*казка* (З. Бядуля. Салавей). *Але Маша была для яго што міраж для падарожніка ў пустыні* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Вочы сталі як шчылінкі, губы заварушыліся і ўзнялі ўгару кароткае шчацінне — ні то вусы, ні то так колер губы* (К. Чорны. Нянавісць). *А на цябе нічога і думаць не будуць, на цябе там вока маюць, ты ў сельсавеце ўсё адно як дэлегатка якая лічышся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 574. Складаныя двухкампанентныя выказнікі з параўнальнай часціцай *як*, калі першы іх кампанент выражан дзеясловам-звязкай *быць* у форме прошлага часу, а другі — назоўнікам у форме назоўнага склону і лексічна супадае з дзейнікам, указваюць на тое, што прадмет адпавядае агульнапрынятаму ўяўленню аб ім: *Нявеста была як нявеста: у беласнежным вэлюме, з вянком, з букецікам белых красак на грудзях* (М. Лынькоў. Вяселле). *Была сабе цырульня як цырульня — невялічкая, з новых габляваных дошак* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Для другіх лета было як лета, як ва ўсе іншыя гады* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Анекдот быў як анекдот* (М. Стральцоў. На вакзале чакае аўтобус).

§ 575. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме роднага склону без прыназоўніка і з прыназоўнікамі *без, да, для, з, з-пад.*

Назоўнікі ў форме роднага склону без прыназоўніка выступаюць у спалучэнні з назоўнікам *аматар: Зіну калгас прэміруе бібліятэкай, так як Зіна вялікі аматар кніг* (А. Асіпенка. Паплавы). *«Ніякі я не піяніст, проста аматар музыкі»,— адказаў на маё запытанне Платон Іванавіч* (А. Пальчэўскі. Крыніца жыцця). *Я не аматар сярэднявечча, старое не надта па густу мне* (А. Вольскі. Стары год).

Назоўнікі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да* выступаюць у спалучэнні з назоўнікамі *аматар* і *ахвотнік* і з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*. Складаныя выказнікі, у якіх ролю першага кампанента выконваюць асабовыя формы дзеяслова-звязкі *быць*, часта з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Я ведаю, што Ахрэм вялікі аматар да чаю, і стараюся загадзя заахвоціць яго* (М. Лупсякоў. На вірах). *Міхась Лазук добра ведаў, што камісар вялікі ахвотнік да грыбоў* (У. Шахавец. Насустрач). *Жаласлівасць чужых цётак Ваню была не да смаку* (З. Бядуля. Год за годам). *Гуляць з малышамі ў ачкі ім, вядома, было не да твару* (Я. Маўр. ТВТ). *Не сказаць, каб дужа да спадобы была Чырвонцу яго палавіна, але дзе ты дзенешся ад яе* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Назоўнікі ў форме роднага склону з іншымі прыназоўнікамі звычайна выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць: Лес быў ужо зусім без лісця, і малады дубок выглядаў цяпер яшчэ раўнейшым, яшчэ прыгажэйшым* (Я. Колас. Малады дубок). *Каб яна, дзяўчына гэтая самая, ды была без заганы, тады, канешне, невялікі і клопат* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Апошняя вуліца была з адных платоў* (К. Чорны. Трыццаць год). *Яна ж таксама з вуніятаў была, аж пакуль іх ад вуніі не адвялі* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Гагулька быў з Мінска* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Быў адзін салдат з-пад Слуцка, а другі — з-пад Навагрудка* (М. Лужанін. Два салдаты). *Ды не, яйкі былі з-пад качкі* (М. Скрыпка. Дзіва ў рэшаце).

§ 576. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме да́вальнага склону з прыназоўнікам *па*. Назоўнікі давальнага склону з прыназоўнікам *па* звычайна выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*. Такія складаныя выказнікі ў большасці выпадкаў з'яўляюцца фразеалагізава-

нымі: *А галоўнае — не па натуры яму былі ўсялякія махінацыі* (А. Кулакоўскі. Твой шлях перад табою). *А між тым праца ў Старыцы была Васіліне па душы* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *І капялюш, і паліто, і шалік былі яўна не па сезону, але ён, відаць, не адчуваў холаду сёлетняй зімы* (Я. Васілёнак. Тэлеграма).

§ 577. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікамі *на, за, у, па, пад, з.*

Назоўнікі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на* выступаюць у спалучэнні з назоўнікамі *аматар, ахвотнік, майстар, спец* і з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў. Складаныя выказнікі, у якіх ролю першага кампанента выконваюць асабовыя дзеяслоўныя формы, часта з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Я на прымхі не аматар, я не веру ў іх, але перайшоў дарогу трактар — стала сэрцу весялей* (А. Александровіч. Летнім ранкам). *Не вельмі майстар ты на спевы, шпака ты нават не зацьміў* (П. Броўка. Певень). *О, ён вялікі спец на ўсе гэтыя віны, кактэйлі!* (М. Лынькоў. Падарунак матцы). *Усе хлопцы былі як на падбор: рослыя, плячыстыя, прыгожыя* (з газет). *Але на славу ўдаўся зруб, ён на выдатна здаў экзамен* (М. Танк. Наваселле). *Ураджай на калгасных палях і на палях недалёкага ад сяла саўгаса ўдаўся ў гэтым годзе на славу* (А. Якімовіч. Смелыя людзі).

Назоўнікі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за* выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў *стаць, выдаваць, лічыць* (апошнія два заўсёды маюць пры сабе прамое дапаўненне) і зрэдку з асабовымі формамі некаторых поўназнамянальных дзеясловаў тыпу *хадзіць, ездзіць: Ты, ранак, будзь за сведку, услед ідзі за мной* (А. Куляшоў. Ранак). *Я ўжо тады за наглядчыка на ферме быў* (В. Вітка. Гуляшчы хлеб). *Цяжка жыць без маткі, а Лісавета ўжо два гады была за гаспадыню ў хаце* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *І нейк само па сабе выйшла на тым сходзе, што сельсаветчыкі сталі і за кіраўнікоў калгаса* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *А далей прыйшла ў душу ўдзячнасць да свайго хлебадаўцы, якога ён цяпер лічыць за свайго бацьку* (П. Пестрак. Камень). *Прысутнічаў і нейкі пан, які выдаваў сябе за журналіста не то з Даніі, не то з Галандыі* (І. Новікаў. Дзесяць тыдняў у ЗША). *Той самы галоўны, за каменданта ходзіць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, які выражан назоўнікам у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за* і выступае ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, лексічна можа супадаць з дзейнікам. Такія складаныя двухкампанентныя выказнікі звычайна з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Вось каму жыццё не за жыццё было, а адна пакута* (М. Лынькоў. Воўчы лог). *Не, не, без яе яму жыццё будзе не за жыццё* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Назоўнікі ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *у* выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і паўзнамянальнага дзеяслова *ўдацца: Біяграфія сакольніка была для мяне ў навіну* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Вячэра Глушаку была не ў смак* (І. Мележ. Навальніца над полем). *І не ў радасць была праца на жніве, цяжкім, ой, якім цяжкім здаваўся серп* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Яна ў нас у татку ўдалася* (А. Васілевіч. Дачушка). *Чаму Віктар не ўдаўся ў свайго бацьку: такога справядлівага, шчырага і праўдзівага* (М. Гроднеў. Чужая віна).

Назоўнікі ў форме вінавальнага склону з іншымі прыназоўнікамі звычайна выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць: Неяк аж сумнавата стала: з кім жа тут можна будзе дружыць, да каго звярнуцца за дапамогай, калі самой будзе што не пад сілу?* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Кожнае яблыка было з кулак* (з газет).

Заўвага. Складанымі двухкампанентнымі, відаць, трэба лічыць выказнікі, другі кампанент якіх выражан назоўнікам, суадносным з аб'ектным інфінітывам, у форме вінавальнага склону без прыназоўніка, а першы кампанент выражан асабовымі формамі дзеясловаў, што ўказваюць на пачатак, працяг і канец дзеяння або на розныя ўнутраныя перажыванні, звязаныя з выкананнем дзеяння. Такія складаныя двухкампанентныя выказнікі па значэнню сінанімічны выказнікам, у якіх з асабовымі формамі пералічаных дзеясловаў у ролі другога кампанента выступае інфінітыў (гл. § 558): *Як і ўсе, хто радаваўся вызваленню роднай зямлі, мы пачыналі жыццё на голым месцы* (В. Вітка. Запавет). *Супакоіўшыся, Пятро працягваў размову суха і неахвотна* (І. Мележ. Сустрэча). *Вяржбіцкі вельмі любіў чытанне* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

§ 578. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка і з прыназоўнікам *пад.*

Назоўнікі ў форме творнага склону без прыназоўніка выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць,* акрамя формы цяперашняга часу, і з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *з'яўляцца,* з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў *стаць, рабіцца, заставацца, называцца, аказвацца, лічыцца, прыкідвацца, здавацца, даводзіцца, выглядаць* і некаторых іншых, з асабовымі формамі поўназнамянальных дзеясловаў *служыць, працаваць, ездзіць, жыць* і некаторых іншых: *Дык ты неўзабаве гаспадаром будзеш!* (К. Чорны. Зямля). *Я быў бы верхаглядам, каб не памятаў гэтага* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Я не з'яўляюся непрацаўленцам злу: міндальнічаць і гуляць у шляхетнасць не буду* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Рускія рабочыя з'яўляліся моцнай апорай бальшавіцкай партыі ў яе рэвалюцыйнай рабоце* («Весці АН БССР»). *Лес і нетры палескіх балот стануць цяпер іх прыпынішчам і домам* (Я. Колас. Дрыгва). *У часы народных нягод чужыя робяцца сваякамі* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Хутка будуць называцца — знаю гэта — камуністамі ўсе людзі на зямлі* (А. Куляшоў. Камуністы). *Казінае малако лічылася найлепшым ратункам ад сухотаў, ад усялякай знямогі, кашлю, болю ў грудзях* (А. Кулакоўскі. Марскія хвалі). *Мне свет увесь здаецца Беларуссю,— такі на захад і на ўсход прасторны шлях* (П. Глебка. Зіма). *Яна ссунула з галавы хустку і выглядала зусім дзяўчынкай* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Дагэтуль мой тата служыў у пана парабкам* (К. Чорны. Сцяпанавы дзеці). *Мужчына немаладога веку, ён працуе ўжо каторы год калгасным вартаўніком* (В. Вітка. Трывога ў Ельнічах). *Вася ў дальніх паяздах ездзіць праваднікам* (М. Ракітны. Пад адным дахам).

Заўвага 1. Паўзнамянальны дзеяслоў *стаць* у ролі першага кампанента такіх складаных выказнікаў можа выступаць у зваротнай форме: *Вось як дзед Талаш стаўся партызанскім атаманам* (Я. Колас. Дрыгва). *Што снілася некалі ў снах — праўдзіваю сталася явай* (П. Глебка. На нівах калгасных). *Душны закапцелы барак і штодзённае тузанне са шпаламі, бярвеннямі сталіся лячэбніцай ад усіх знямог* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага 2. Некаторыя паўзнамянальныя дзеясловы ў ролі першага кампанента такіх складаных выказнікаў выступаюць з прамым дапаўненнем, і другі выказнікавы кампанент указвае, чым прадмет, названы прамым дапаўненнем, аб'яўляецца, лічыцца або ўяўляецца: *Неўзабаве ён абвявіў сябе начальнікам некалькіх валасных упраў, а потым нават акругоў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Наступнае пакаленне людзей абзаве іх хлусамі і бязліўцамі* (П. Галавач. Праз гады). *Па наіўнай і смешнай звычцы мы сябе юнакамі лічым* (П. Панчанка. Далёкія станцыі). *Сёння Алтар адчуў сябе гаспадаром у хаце* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, выражаны назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка, можа лексічна супадаць з дзейнікам: *Хлебам хлеб не быў мне, усё валілася з рук* (Я. Купала. За чаркай). *Словам, без жаўранка і вясна не была б вясной* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *«Можа, і ваша праўда, — заўважыў ён, — аднак факт застаецца фактам і з ім прыходзіцца лічыцца»* (Я. Колас. На ростанях). *І сапраўды, хутка Віця для ўсіх стаў Віцем* (І. Шамякін. Бацькі і дзеці).

Другі кампанент складанага выказніка, выражаны назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка, можа мець пры сабе параўнальную часціцу: *Хутар быў як бы ўзнагародай за некалішнія пакуты і шуканні зямлі* (П. Галавач. Праз гады). *І зрабіўся ён як бы кур'ерам у арганізацыі* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *З таго часу, як Манг набыў свой уласны човен, ён зрабіўся нібы разведчыкам для сваіх бацькоў, а разам і для Коса* (Я. Маўр. Сын вады).

Назоўнікі ў форме творнага склону з прыназоўнікам *пад* звычайна выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*. Такія выказнікі часта з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Ён ужо трошкі быў пад «мухаю»* (Я. Колас. На ростанях). *Ён і тады быў пад хмяльком* (З. Бядуля. Салавей). *Калі я вазьму яго да сябе, ён будзе пад маім наглядам* (Я. Маўр. Запіска). *Увесь гэты дзень ён быў пад уражаннем падзей, што адбыліся ў суседніх вёсках* (П. Кавалёў. Прыход у атрад).

§ 579. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца назоўнікам у форме меснага склону з прыназоўнікамі *у*, *на*, *пры*.

Назоўнікі ў форме меснага склону з прыназоўнікам *у* выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, паўзнамянальных дзеясловаў *лічыцца, заставацца* і поўназнамянальных дзеясловаў *хадзіць, ездзіць*. Некаторыя з гэтых выказнікаў з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *Стары быў у валёнках, у чорных суконных штанах і кароткім кажушку з раменнай перавязкай на ім* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Яны даўно ўжо былі не ў ладах, цяпер жа свята сталася зачэпкаю для таго, каб даць волю языкам* (Я. Колас. На ростанях). *Мама была ў роспачы і не ведала, што рабіць, каб адцягнуць увагу Косціка ад дзіцячага сада* (П. Пестрак. Сіла дружбы). *Я тады быў у сіле і мог ісці сам* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Пракоп Сыс не быў у афіцэрах і ў арміі не служыў, але трымаўся досціпу, які яму падабаўся ў вайсковых людзях* (В. Вітка. Познія палыны). *Быў і я ў чыгуначніках* (Х. Шынклер. Пульс жыцця). *Мы сябе ў героях не лічылі, часта славу бралі напавер* (М. Калачынскі. Сталасць). *Даўно ён лічыцца ў паэтах* (Н. Гілевіч. Вінцусь Каляндарны). *Цяпер Федзя ў дурнях застанецца* (У. Нядзведскі. Хлопцы з другога корпуса). *А пакулькі ён дваццаць год нязменна ходзіць у ганаровых суддзях у губернскім земскім судзе, то ўзнамерыўся ўпячы злачынцу, куды і крумкач косці не заносіў* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *А я гляджу, які гэта Урбановіч ходзіць тут у славе?* (У. Карпаў. За годам год). *Два сыны даўно жылі асобна, адзін ездзіў у машыністах пад Масквой, другі служыў кадравым камандзірам у Чырвонай Арміі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Назоўнікі ў форме меснага склону з прыназоўнікамі *на* і *пры* звычайна выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*. Некаторыя з гэтых выказнікаў з'яўляюцца фразеалагізаванымі: *З усходам сонца ліпнёўцы былі на нагах* (М. Чарот. Кірмаш). *Гэты быў заўсёды на вачах* (К. Чорны. Зямля). *У Зачэпічах яшчэ ніхто*

*не ведаў, што гэта стары воўк з аблупленым носам* *б ы ў  н а  п а с л у г а х  у Томчака* (А. Б а ж к о. Позняе ворыва). *Чырвонаармейцы б ы л і  п р ы  в і н т о ў к а х  і з ручнымі гранатамі* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Толькі ў хаце пры цьмяным святле газоўкі Рыгор убачыў, што гэта за людзі: два чалавекі б ы л і  ў цывільным, два ў паліцэйскім адзенні і  п р ы  з б р о і* (Р. С а б а л е н к а. Каралінцы). *Няхай сабе пан Чапкоўскі б у д з е  п р ы  сваіх  г р а ш а х,  а  я — п р ы  сваіх  б а й к а х* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах). *Ведаеш, старэйшы, Міша, б ы ў  п р ы  п а м я ц і* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ПРЫМЕТНІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 580. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца прыметнікамі якаснымі і адноснымі. Якасныя прыметнікі, для якіх характэрны кароткія і поўныя формы, у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца звычайна ў поўнай форме. У кароткай форме могуць ужывацца толькі некаторыя з іх. Паміж поўнымі і кароткімі формамі якасных прыметнікаў значнай сэнсавай і стылістычнай розніцы не наглядаецца (гл. § 530).

§ 581. Кароткія прыметнікі выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і зрэдку з асабовымі формамі некаторых паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне прыметы: *У гэтым б ы ў  г р э ш а н  і сам старшыня* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Нічога, чалавеча, ц э л  б у д з е ш* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Сто гадоў рос ты, дуб, б ы ў  нам  д о р а г  і  л ю б!* (П. Б р о ў к а. Ясны кут). *Не хварэў я ні грыпам, ні катарам, б ы ў  заўсёды  і  д у ж  і  з д а р о ў* (П. Г л е б к а. Скарга). *Руды наш  с т а ў  д а б ё р  і  г л а д а к, аж чуць цягае ўжо азадак* (К. К р а п і в а. Кормны і Надворны). *Ад гора горбіцца бедная маці, і белы свет ёй  з р а б і ў с я  н е  м і л* (П. П а н ч а н к а. Быў дзень такі).

§ 582. Поўныя прыметнікі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў формах назоўнага і творнага склонаў. Значнай сэнсавай і стылістычнай розніцы паміж гэтымі склонавымі формамі не наглядаецца.

Формы назоўнага і творнага склонаў поўных прыметнікаў выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*: *Голас аднаго з хлопцаў  б ы ў  в я с ё л ы  і  ж а р т а ў л і в ы* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Палыновая духмянасць  б ы л а  п р ы е м н а я, але ж  і  г о р к а я, як удовіны слёзы* (В. В і т к а. Позняя палыны). *Пытанне гэта для Саўкі  б ы л о  н е б я с п е ч н а е* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Рукі  б у д у ц ь  ч ы с т ы я, без мазалёў* (І. Н а в у м е н к а. Сасна пры дарозе). *Да канца  б у д з ь  ж а  с м е л ы м  і  м у ж н ы м, мой друг* (П. П а н ч а н к а. Пісьмо другу). *Наша дарога дамоў  б ы л а  зусім  н е в я с ё л а й* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Дробязі). *Тваё пакаленне  б у д з е  ш ч а с л і в ы м, яно не будзе ведаць вайны* (І. Ш а м я к і н. Дзеці настаўніцы). *Жнівеньскія раніцы  б ы л і  р о с н ы м і  і  с в е т л ы м і* (В. К а в а л ь. Нянавісць).

Формы назоўнага і творнага склонаў поўных прыметнікаў могуць выступаць у спалучэнні з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне і выяўленне прыметы, пераход з аднаго стану ў другі, захаванне ранейшага стану і г. д.: *Андрэй  с т а ў  н е в я с ё л ы  і  з а д у м ё н ы* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Дзіцятка горкае). *Ноч  в ы д а л а с я  з о р н а я,  ц ё п л а я* (А. Я к і м о в і ч. Языковы доўг). *Яму хацелася, каб маці ў яго памяці  з а с т а л а с я  ж ы в а я* (І. Ш а м я к і н. Дзеці настаўніцы). *Праўда, некаторыя твары  п а к а з а л і с я  ёй  з н а ё м ы я* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ён адразу  с т а ў  больш  у в а ж л і в ы м  і  л а г о д н ы м* (Я. М а ў р. Амок). *Сонца ўжо амаль сышло з кляновай кроны за акном, лісце  з р а б і л а с я  амаль-*

*чорным* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Такія ўмільныя просьбы казыталі самалюбства Барсука, але ён знарок заставаўся нахмураным, непрыступным* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сам ён здаваўся невясёлым і моцна заклапочаным* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І гэты сведка ўяўляўся яму таксама чужым і непатрэбным* (К. Чорны. Смерць).

Заўвага 1. Паўзнамянальны дзеяслоў *стаць* у ролі першага кампанента такіх складаных выказнікаў можа выступаць у зваротнай форме: *Ты стаўся нам родны і блізкі: ты — гэта наш край* (Я. Колас. Бацьку Мінаю). *Такія вандроўкі шмат прыносілі яму радасці і задавальнення, і многія мясцінкі ў ваколіцы Верханя сталіся блізкімі і дарагімі* (Я. Колас. На ростанях).

Заўвага 2. З некаторымі паўзнамянальнымі дзеясловамі, якія выступаюць з прамым дапаўненнем, поўныя прыметнікі ўжываюцца толькі ў форме творнага склону. Яны ўказваюць, якім прадмет, названы прамым дапаўненнем, аб'яўляецца, лічыцца або ўяўляецца: *У света старога імя яна для сябе не пытала. Улада Саветаў сама Савецкай яе назвала* (М. Калачынскі. Цэнтральная магістраль). *Так парашыў Ігнаська, цвёрда парашыў, бо лічыў сябе ўжо дарослым* (Р. Мурашка. Сын). *Марына разумела добрыя намеры бацькі і ўсё ж прычыну пераходу лічыла негрунтоўнай* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Формы назоўнага і творнага склонаў поўных прыметнікаў выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі поўназнамянальных дзеясловаў, якія абазначаюць рух, стан і некаторыя канкрэтныя дзеянні: *Пад ігрушу ў той вечар Сюзана прыйшла ціхая, замаркочаная* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *Усе, хто быў у гэтым пакоі, стаялі прыціхлыя і маўклівыя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І як прыйшлося паміраць, дык і хварэла і памірала зусім адзінокая* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Мы галодныя робім на заводзе, каб Хурс багацеў* (К. Чорны. Трыццаць год). *Мужчыны ад царквы пайшлі маўклівымі і адразу разышліся па хатах* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Нямко занёс мяне дадому, а назаўтра і яшчэ дзён дзесяць сам пасвіў стракатую, бо я ляжаў хворым* (А. Кулакоўскі. Нямко). *Жыў стары ўжо некалькі год адзінокім і ўсё чакаў сына з вайны* (А. Якімовіч. Залатыя рукі). *Жонка ў яго памёрла маладою* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Заўвага. Пры выражэнні даўномінулага дзеяння паўзнамянальныя і поўназнамянальныя дзеясловы прошлага часу, якія выступаюць у ролі першага выказнікавага кампанента, ускладняюцца аналагічнымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*: *Нікому Бушмар ні ў чым не прызнаўся, навит самой Амілі, якая пасля прыйшла была сама да яго бледная і трывожная* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Поташ быў прыкінуўся хворым* (М. Паслядовіч. Паўстанне).

§ 583. З некаторымі поўназнамянальнымі дзеясловамі са значэннем успрымання або якога-небудзь канкрэтнага дзеяння, якія маюць пры сабе прамое дапаўненне, што называе аб'ект гэтага ўспрымання або дзеяння, поўныя прыметнікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону. Такія складаныя двухкампанентныя выказнікі ўзыходзяць да старажытных сінтаксічных канструкцый з «другім вінавальным»: *Там ён знайшоў жонку зусім хворую — збітая тады вайсковым начальнікам, яна нарадзіла нежывое дзіця і сама з таго часу ледзьве хадзіла* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Ён пераносіў іх сонных на ложак, сам распрануў, і нявестка заўсёды саступала яму ў гэтай справе* (М. Лынькоў. Астап). *«Я памятаю цябе зусім маленькую»,— сказала старая* (К. Пішчыкава. Цяжкі настаў час...).

У сучаснай беларускай мове ў такіх складаных двухкампанентных выказніках часцей ужываюцца поўныя прыметнікі ў форме творнага склону: *Насця ніколі не бачыла яго такім злым* (Я. Колас. Адукацыя). *Мы бачылі яго часцей за ўсё маўклівым* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Люба застала яе мёртвай* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Мяккасць і асцярожнасць, з якой Жывіцкі пачаў сваю прамову, адразу зрабілі Кірылу сур'ёзным і злосным* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 584. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца якасным прыметнікам у формах ступеней параўнання. Часцей за ўсё ўжываюцца сінтэтычныя і аналітычныя формы ступеней параўнання, якія змяняюцца па родах, ліках і склонах. У формах назоўнага і творнага склонаў яны спалучаюцца з асабовымі формамі дзеясловаў-звязак *быць* і *з'яўляцца* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Ён быў старэйшы за мяне на адзін год і вышэйшы ростам, але гэта не мяняла справы* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Мікітава сям'я была самая бедная ў вёсцы Запушніках* (З. Бядуля. Велікодныя яйкі). *І рух яго стаў павольнейшы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Тон фраў Кёрзінг робіцца яшчэ мякчэйшы, у ім такія прыязныя, ласкавыя ноткі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У памяшканні каровы здаваліся яшчэ буйнейшыя* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Яна на выгляд была старэйшаю за брата* (К. Чорны. Захар Зынга). *Ты яшчэ будзеш жыць і будзеш самаю шчасліваю, Аўстра!* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Наступная група прыказак па сваёй колькасці з'яўляецца самай вялікай* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Сёння пазнаць у ім цяжка падлетка былога, стаў ён вышэйшым, дужэйшым зрабіўся намнога* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Цяпер Рудзіну 57 год, але на выгляд ён шмат маладзейшым здаецца* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

Значна радзей у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца формы ступеней параўнання на *-ей(-эй)*, якія не змяняюцца па родах, ліках і склонах. Яны спалучаюцца, як і змяняльныя формы ступеней параўнання, з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *А «граць перад людзьмі» ў Тамаша было даражэй за грошы* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Канфуз быў куды хужэй, чым любыя страхі* (М. Лынькоў. Джыавані). *Тады я быў намнога маладзей, цвярдзей была рука мая і воля* (А. Звонак. Геолаг). *Заіграе музыка Сымон, стане свет прыгажэй і ярчэй, і магутнай ракою здаецца звычайны ручэй* (П. Панчанка. Сорак год).

Заўвага. Вельмі высокая ступень якасці часта выражаецца паўтарэннем аднаго і таго ж прыметніка (гл. § 531, 550). У ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка такія паўтораныя прыметнікі ў форме назоўнага або творнага склону спалучаюцца з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Тады неба было высокае-высокае* (Я. Васілёнак. Адзінота). *Вікці ўчарашнія згрызоты здаваліся далёкімі-далёкімі* (І. Навуменка. Бульба). *Андрэй апісваў як мог, як дазвалялі ўмовы службы, але і ў яго часта пісьмы выходзілі доўгімі-доўгімі, падобнымі на рэфераты* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 585. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, выражаны поўным прыметнікам у форме назоўнага склону, можа мець пры сабе параўнальную часціцу: *Ён быў тады як родны мне* (К. Чорны. Насцечка). *Цагляныя сцены станцыі, асветленыя вогнішчам, выглядалі на фоне белага снегу як быццам казачныя* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Садкі без агарожы выглядалі як чужыя* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Яна ішла як непрытомная, абыякавая ў гэты час да ўсяго, што рабілася навокал, ішла як асуджаная на смерць* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 586. У ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка прыметнік можа выступаць у форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*. Ён звычайна мае пры сабе адмоўе *не* і спалучаецца з асабовай формай прошлага часу дзеяслова-звязкі *быць*: *Задача была не з лёгкіх* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ЛІЧЭБНІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 587. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца лічэбнікамі колькаснымі і парадкавымі. Колькасныя лічэбнікі (калі размова ідзе пра абстрактныя лічбы — усе лічэбнікі, калі размова ідзе пра колькасць асоб або прадметаў — толькі лічэбнік *адзін*) у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў форме назоўнага склону. Яны выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, а пры абазначэнні колькасці асоб ці прадметаў таксама з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў *стаць, застацца* і поўназнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на рух або стан: *Плішчынскі на гэты раз быў адзін* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). *Ён аставаўся дома адзін, хадзіў па хаце, выходзіў на чыгунку і чакаў Рыту* (К. Чорны. Захар Зынга). *Жанкі пайшлі на праполку пшаніцы, і Аксіння зноў засталася адна* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Часамі яму здавалася, што ён адзін сядзіць тут, на горным узвышшы, а Тарыел гаворыць да яго аднекуль вельмі далёка* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Заўвага. Пры абазначэнні колькасці асоб ці прадметаў лічэбнік *адзін* можа ўскладняцца аднакарэннай памяншальнай формай: *Юлька адна-адзінюсенька засталася* (З. Бядуля. Юлька). *Валя сказала гэта і сама спалохалася: як гэта яна адна-адзінюткая апынецца ў тых дзікіх бяскрайніх стэпах* (Р. Сабаленка. Блакітнае ззянне).

Парадкавыя лічэбнікі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў формах назоўнага і творнага склонаў. Яны выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі тых жа дзеясловаў, што і колькасныя лічэбнікі: *Першы, хто выступіў у гэты дзень на сцэне, быў сам пан Тарбецкі* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Піліпоўскія выехалі са стадолы першыя* (К. Чорны. Трыццаць год). *Першая густымі купінамі вылазіла мяжа* (В. Вітка. Познія палыны). *І ён сеў першы проста на зямлю паміж градак фасолі, дзе ніякай засені не было* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Трэці ішоў услед за імі я* (М. Лупсякоў. Дажджы). *Тады адзінаццатая школа пачала ганарыцца, што яна была першай у гэтай справе* (Я. Маўр. ТВТ). *Гэтым другім і быў Алесін брат — Андрэй* (П. Пестрак. Серадзібор). *Першым прывёз страшную вестку ў Верасніцу Майсей Жаркевіч, старшыня бядняцкага камітэта* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Напэўна, ён чакаў, каб першай загаварыла жонка* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка).

Заўвага. Парадкавы лічэбнік *другі* ў формах назоўнага і творнага склонаў можа выступаць са значэннем азначальнага займенніка *іншы*: *За край небасхілу пралегла раўніна, і воблік зямлі стаў адменны, другі* (М. Танк. Першыя барозны). *Бо калі ён вернецца, і, магчыма, няскора, ён будзе ўжо зусім другі, непадобны, а Урга можа састарэць ці нават пасці* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Няхай гавораць! — свой заветны план ён споўніць, і другою Наста стане* (З. Астапенка. Эдэм).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ЗАЙМЕННІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 588. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца займеннікамі ўсіх разрадаў. У ролі другога кампанента часцей за ўсё ўжываюцца займеннікі ў форме назоўнага або творнага склону без прыназоўніка і толькі зрэдку — у формах іншых склонаў без прыназоўніка і з прыназоўнікам.

§ 589. Асабовыя займеннікі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка выступаюць у форме назоўнага склону

ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*: *І ён моўчкі падаўся ў сваю дарогу, несучы ў сабе яшчэ большую нянавісць да гэтага хлопца за тое, што ён ё с ц ь ён* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Першы ён баяўся загаварыць з ёй, яго злавала, што тыя, хто ехаў з імі, не заўважалі, не разумелі, што яна б ы л а я н а* (М. Стральцоў. Што будзе сніцца). *Валя слухае-слухае, ды і скажа ў захапленні: «Б у д у я — н е я, калі не паступлю ў інстытут»* (М. Ваданосаў. Трэці лішні...). *Калі нарадзіўся Юрка, Вера Антонаўна, гледзячы на сына, у захапленні сказала: «Ён б у д з е выліты т ы, Васіль»* (У. Карпаў. За годам год).

Заўвага 1. Пры выражэнні прыналежнасці асабовы займеннік 3-й асобы ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываецца ў форме роднага склону без прыназоўніка: *А ён жа б ы ў я е, а яна б ы л а — я г о, яны так хораша, так многа цалаваліся* (Я. Брыль. Галя).

Заўвага 2. Асабовыя займеннікі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка могуць мець пры сабе параўнальныя часціцы: *А яны ж б ы л і зусім я к я* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

§ 590. Зваротны займеннік *сябе* ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка выступае ў форме творнага склону ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Што б ні здарылася, яна заўсёды б у д з е с а б о й і ніколі не пакрывіць душою* (У. Карпаў. За годам год).

§ 591. Прыналежныя займеннікі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў формах назоўнага і творнага склонаў у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Гэта ж, мусіць, і конік б у д з е ўжо н е м о й і кароўка б у д з е н е м а я?* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён кожнаю думкай быў блізкі, б ы ў н а ш, каб вечна народным застацца* (К. Буйла. Народны пясняр). *Хоць старшыня сельсавета б ы ў с в о й, але і ён нічога супроць гэтага зрабіць не мог* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *І я ўсё зраблю, каб фальварак і Адэля б ы л і навечна м а і м і* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Б у д з е навука н а ш а й — і сродкаў не так шмат патрабуецца на Сымонку, каб яго вывучыць* (Ц. Гартны. Сымонка-інжынер). *Значыць, напішу працу я, а яна б у д з е л і ч ы ц ц а в а ш а й* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

§ 592. Пытальна-адносныя займеннікі *хто, што, які, чый* у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў формах назоўнага і творнага склонаў у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *А ты ведаеш, ш т о ё с ц ь стараста?* (Я. Колас. Стараста). *Я к і б ё н н і б ы ў, вы на яго не забыліся* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Ты збудзіся, устань, на сябе паглядзі, ч ы м ты б ы ў, ч ы м ты ё с ц ь і што будзе з цябе* (Я. Купала. Што ты спіш?). *«Пачакай,— раптам перарваў ён сам сябе,— ты к і м б ы ў да вайны?»* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Гэта зусім не важна, ч ы ё й яна б у д з е л і ч ы ц ц а* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

§ 593. Указальныя займеннікі *гэты, гэтакі, той, такі* ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў форме назоўнага або, радзей, творнага склону ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных і поўназнамянальных дзеясловаў: *А ты, думаеш, н е г э т к і б ы ў?* (Я. Брыль. Усям'і). *Цяпер адчуванні б ы л і зусім н е т ы я* (Р. Мурашка. Сын). *А мне падчас здаецца, што ён заўсёды б ы ў т а к і, як цяпер* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Зеленюку яна заўсёды ў с п а м і н а е ц ц а т а к а я, як ён яе ўпершыню ўбачыў на заводзе сярод дакучлівае гурмы экскурсантаў* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Патржанецкі с т а ў цяпер зусім н е т а к і м, які́м быў у дарозе* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Ён глядзеў на блакітны Дняпро, на сенажаць і палеткі і, здава-*

*лася, поглядам абдымаў усю дарагую сваю радзіму — зараз яна* л я ж а- *л а перад ім* т а к о й, *якой ён бачыў яе ў сваіх марах: расцвіўшым маладым садам* (У. К р а ў ч а н к а. Песня Чарнечай гары).

Указальны займеннік *той* у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка, калі першы выказнікавы кампанент выражан формай прошлага часу дзеяслова-звязкі *быць*, можа ўжывацца ў форме меснага склону множнага ліку з прыназоўнікамі *з, між: Ён* б ы ў  н е  з  т ы х, *хто пабудзе пайдня ў МТС і, непрыкметна знікшы, робіць глыбакадумныя вывады* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая). *Мы* б ы л і  м і ж  т ы х, *хто цуда на балоце будаваў: цудам зоры Асінбуда хто тады не называў!* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Галубінае крыло).

§ 594. Азначальныя займеннікі *ўсякі (усялякі), увесь, іншы (інакшы)* у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў формах назоўнага і творнага склонаў у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных і поўназнамянальных дзеясловаў: *А людзі ж* у с я к і я  ё с ц ь (В. В і т к а. Гуляшчы хлеб). *Гаворка тут* б ы л а  ў с я л я к а я, *людзей прысылалі некалькі разоў з розных месц* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Сёння мы не тыя,* і н ш ы я *мы* с т а л і *— новы нарадзіўся народ* (Я. К о л а с. Восеньскае). *У хаце пад старым гадзіннікам зноў* з а с т а- л а с я *яна* н е  ў с я, *нібы* н е  ў с я *ячшэ* в я р н у л а с я *з поля* (Я. Б р ы л ь. Галя). *Адлягло ад сэрца ў напалоханага натоўпу — каровы* б ы л і, *здаецца,* у с е (Р. М у р а ш к а. Сын). *Хвіліну таму назад і думкі ў Марылі* б ы л і  і н ш ы м і (А. К у л а к о ў с к і. Марскія хвалі). *Народ* с т а ў  і н а к ш ы м, *ён — сам гаспадар жыцця і зямлі сваёй вольнай* (А. К а л а ч ы н с к і. Святочны рэпартаж). *Мы гадуем людзей, мы* і н а к ш ы м і  р о б і м с я *самі: нашу працу і нашых сяброў мы умеем любіць* (А. Д у д а р. Пераклічка гадоў).

§ 595. Адмоўныя займеннікі *ніхто, нішто, нічый* у ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка ўжываюцца ў форме назоўнага і зрэдку творнага склону ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Вялікая сіла — мара. Чалавек без яе* б ы ў  *бы* н і ш т о (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Але з'явілася іншая сіла, і супроць яе ён* б ы ў  н і- ш т о (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Світанне). *Тут не трэба забываць жыватворчага подыху тых год, калі «хто* б ы ў  н і ч ы м, *той рабіўся ўсім»* (К. Ч о р н ы. Заўтрашні дзень).

З а ў в а г а. Адмоўны займеннік *нішто* ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка можа выступаць са значэннем «добры» або «так сабе — не вельмі добры і не вельмі дрэнны»: *Гарнітур* б ы ў  н і ш т о, *але няспрытна вельмі ж сядзеў...* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *І гаспадарка* б ы л а  н і ш т о: *культурнаю лічылася* (К. К р а п і в а. Канец дружбы).

Адмоўны займеннік *нішто* ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка можа ўжывацца ў форме меснага склону з прыназоўнікам *пры* ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Я быў бы рад, каб ён* б ы ў  н і  п р ы  ч ы м (К. К р а п і в а. Канец дружбы).

§ 596. З некаторымі паўзнамянальнымі і поўназнамянальнымі дзеясловамі са значэннем успрымання або якога-небудзь канкрэтнага дзеяння, якія маюць пры сабе прамое дапаўненне, што называе аб'ект гэтага ўспрымання або дзеяння, некаторыя пытальна-адносныя, указальныя і азначальныя займеннікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону. Такія складаныя двухкампанентныя выказнікі ўзыходзяць да старажытных сінтаксічных канструкцый з «другім вінавальным»: *Дзе ж ім ведаць, аматарам лёгкай экзотыкі, што* і н а к ш у ю *дзяўчыну* в ы р а с ц і ў *Крым?!* (П. Г л е б к а. Экзотыка). *Хоць бы ўжо напісаў, каб яго* т а- к о г а  ч а к а л і! (М. Р а к і т н ы. Сашкі). *І вось* т а к у ю, *другую, ён яе* і  к а х а ў (У. К а р а т к е в і ч. Каласы пад сярпом тваім).

У сучаснай беларускай мове ў такіх складаных двухкампанентных выказніках пытальна-адносныя, указальныя і азначальныя займеннікі часцей ужываюцца ў форме творнага склону: *А я зусім не такая, якою ён мяне лічыць* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Перад яго вачыма стаяў вобраз Галіны — такі, якой ён пакінуў яе больш двух год назад* (І. Шамякін. Помста). *Дзіва: я сабе яго такім і ўяўляла — рашучым, нязломным, смелым* (Р. Сабаленка. Незамужняя ўдава). *Толькі што скончыўшы школу, яна не ведае жыцця і бачыць людзей такімі, якімі яны хочуць паказацца* (В. Каваленка. Пошукі і здзяйсненні).

## СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ПРЫСЛОЎЕМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 597. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца прыслоўямі якаснымі і акалічнаснымі. Якасныя прыслоўі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, акрамя формы цяперашняга часу, і зрэдку ў спалучэнні з асабовымі формамі некаторых паўзнамянальных і поўназнамянальных дзеясловаў: *А Пайло, йдучы дахаты, быў зусім навесяле* (Я. Колас. Паўлюкова бяда). *Вось мы і будзем напагатове* (А. Якімовіч. Смелыя людзі). *Але бацькавы словы мне былі і няўцям* (С. Баранавых. Пастка). *У Стычынах, здавалася, усё было па-старому* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Не шмат мінула часу, і калі апамятаўся хлопец, Ніна была ўжо замужам* (В. Быкаў. Непагадзь). *Мы былі толькі ўдваіх, удваіх на цэлым свеце* (Я. Васілёнак. Адзінота). *Такі ўступ аказаўся дарэчы, і людзі добрымі вачыма глядзелі на сакратара* (П. Пестрак. Серадзібор). *Дзверы так і засталіся насцеж* (І. Грамовіч. Недакурак). *Гонкія сосны стаялі ўперамешку з лапістымі елкамі* (І. Сіняўскі. Дабрадзейка).

Акалічнасныя прыслоўі ў ролі другога кампанента складанага двухкампанентнага выказніка выступаюць звычайна ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, акрамя формы цяперашняга часу: *Сяло найпрост было блізка, якіх кіламетры з два* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Салюцічы былі даволі далёка ад размяшчэння брыгады, і група падышла да іх толькі апоўначы* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *«Здароў, чалавеча!» — звярнуўся ён да грузнага Шаплыкі, які абвязваў дрэўцы на сваёй сядзібе, што была крыху наводшыбе ад сяла* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Над бездаnню часу мы поплечкі будзем* (М. Калачынскі. Сястры друга). *Дзяўчына была побач, ён адчуваў яе таямнічую блізкасць, яе дыханне* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

§ 598. Выказнік, выражаны спалучэннем якаснага прыслоўя, якое генетычна ўзыходзіць да кароткага прыметніка, з асабовай формай дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова, можа выступаць у сказах з дзейнікам-інфінітывам. Інфінітыў-дзейнік заўсёды знаходзіцца на першым месцы і аддзяляецца ад такога выказніка інтанацыйна і часта даданымі членамі сказа: *Стаяць, маўчаць з ёю было, як ні з кім, няёмка* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Далей ляцець было немагчыма, і я вырашыў садзіцца* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Бегчы далей, відаць па ўсім, было небяспечна, — можна з галавою праваліцца ў багну* (А. Пальчэўскі. Ты не адзін). *Не, узяць хлопца тут было не так лёгка* (В. Быкаў. Здрада).

Пры перастаноўцы такіх галоўных членаў месцамі асабовая форма

дзеяслова-звязкі *быць*, прыслоўе, якое пры гэтым пераходзіць у разрад безасабова-прэдыкатыўных слоў, і наступны інфінітыў зліваюцца ў непадзельнае словазлучэнне — складаны трохкампанентны выказнік, у выніку чаго сказ з двухсастаўнага ператвараецца ў аднасастаўны: *Цікава і жудасна было глядзець, як гэтыя дзеці прыроды рабілі сваё першабытнае набажэнства* (Я. Маўр. Сын вады). *Прыемна было наглядаць і слухаць размову гэтай высокай, немаладой ужо жанчыны з неспакойнай сямігадовай дзяўчынкай* (А. Васілевіч. Звычайная справа). *Ганак, густа абвіты хмелем, ператварыўся ў альтанку, у якой, відаць, было прыемна пасядзець і памарыць цёплымі летнімі вечарамі* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

### СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З БЕЗАСАБОВА-ПРЭДЫКАТЫЎНЫМ СЛОВАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 599. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка ў аднасастаўных безасабовых сказах можа выражацца безасабова-прэдыкатыўным словам. Безасабова-прэдыкатыўныя словы выступаюць у спалучэнні з безасабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, акрамя формы цяперашняга часу, і з безасабовымі формамі некаторых паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне і ўяўленне пэўнага стану жывых істот, прыроды або навакольнага асяроддзя: *На станцыі было досыць пуста і ціха* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Яму было балюча і крыўдна* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета). *Але да вясны было яшчэ далёка* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *«Можа вам так холадна будзе,— спагадліва запытала яна,— дык вы падбярыце ногі, накрыйцеся»* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Вярнуўшыся ад печы, Захарыха глянула зноў так строга, што Хадосьцы стала боязна* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Веры зрабілася сорамна — няўжо яна не можа ўзяць сябе ў рукі?* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Ад гэтага спакойнага святла яшчэ цішэй здавалася на зямлі* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Кожны робіць так, як яму здаецца лепш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

### СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ВЫКЛІЧНІКАМ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 600. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца эмацыянальнымі выклічнікамі, якія выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, акрамя формы цяперашняга часу, і з асабовымі формамі некаторых паўзнамянальных дзеясловаў: *Ты быў о-го-го! Ён стаў проста цьфу.*

Такія выказнікі ў беларускай мове ўжываюцца рэдка.

### СКЛАДАНЫ ДВУХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК З ФРАЗЕАЛАГІЧНЫМ І СІНТАКСІЧНА НЕПАДЗЕЛЬНЫМ СЛОВАЗЛУЧЭННЯМІ У РОЛІ ДРУГОГА КАМПАНЕНТА

§ 601. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца фразеалагічнымі словазлучэннямі, суадноснымі па значэнню з дзеясловамі-інфінітывамі і прыметнікамі. Фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя з дзеясловамі-інфінітывамі, выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказва-

юць на пачатак, працяг і канец дзеяння, на магчымасць або немагчымасць, здольнасць або няздольнасць, жаданне або нежаданне, схільнасць, імкненне, спробу выканаць дзеянне і на розныя працэсы думкі і ўнутраныя перажыванні, звязаныя з выкананнем дзеяння: *Нават мужыкі і тыя пачалі языкамі на сходзе мянціць* (Я. Колас. Царскія грошы). *Перастала свінка і нагамі кратаць* (К. Крапіва. Шэпча бабка, шэпча...). *Яна не магла прыйсці ў сябе ад перажытага страху* (З. Бядуля. Бондар). *І госці, відаць, умелі трымаць язык за зубамі, бо па акрузе ніхто і словам не абмовіўся пасля аб гэтым здарэнні* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха). *Бацькі разважалі добра: яны здолелі, як самі казалі, галавой дайсці да жыцця, а гэтыя елі свой хлеб з натруджаных рук* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Суддзя хоча паставіць усе кропкі над «і»* (У. Дадзіёмаў. Белазёрскі дзённік). *Яна старалася ўзяць сябе ў рукі* (Я. Васілёнак. Апошні вагон). *І цяпер пры мужчыну, ды яшчэ незнаёмым, яна не асмельваецца падняць вачэй* (В. Вітка. Позніх палыны).

Заўвага. Пры абазначэнні дзеяння, якое не было даведзена да канца або не дало жаданага выніку, першы кампанент складанага двухкампанентнага выказніка, выражаны паўзнамянальным дзеясловам прошлага часу, ускладняецца аналагічнай асабовай формай дзеяслова *быць*: *Ад пячанага сала па ўсіх пуцях разносіцца прыемны пах; да таго прыемны, што дзяжурны стрэлачнік, чмыхнуўшы некалькі разоў носам, памкнуўся быў даць лататы да хаты* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун).

Фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя з дзеясловамі-інфінітывамі, выступаюць у спалучэнні з некаторымі назоўнікамі, прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і непадзельнымі словазлучэннямі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Сядура не дурань у гэту кашу лезці* (М. Лобан. На парозе будучыні). *«Мітрафан Васільевіч не павінен даць маху»,— дадае памочнік, і маленькія вочкі яго амаль зусім засланяюцца смехам* (Я. Колас. На ростанях). *І хопіць таго, што ён гатовы крыжам легчы, каб толькі не дазволіць ім вось так гібець на свеце* (У. Карпаў. За годам год). *Хлопец, як відаць, набраўся вопыту «замыльваць вочы»* (П. Пестрак. Серадзібор).

Фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя з дзеясловамі-інфінітывамі, у аднасастаўных безасабовых сказах выступаюць у спалучэнні з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Як можна з пані строіць кпіны?* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Нельга на ражон пераці* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Нельга ні з таго ні з сяго станавіцца да чалавека бокам* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Не бядуй, мая старая, сёння сорамна ліць слёзы* (Н. Тарас. На Новы год).

§ 602. Фразеалагічныя словазлучэнні, суадносныя з прыметнікамі, выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць*, паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне і выяўленне прыметы, пераход з аднаго стану ў другі, захаванне ранейшага стану і г. д., і з асабовымі формамі некаторых поўназнамянальных дзеясловаў, што абазначаюць рух і стан: *А моладзь ліпнёўская ад радасці была на сёмым небе* (М. Чарот. Кірмаш). *А яна, твая несвіжанка, была — абыйдзі вялік-свет і такой не знойдзеш* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Хлопец раней быў хоць да раны прыкладзі* (І. Гурскі. Летняю ноччу). *Ражном у горле вам сябрына наша стала, дзе самі ўладары — нядаўнія рабы* (Я. Колас. Ворагам). *Ён за гадоў так восем, штосьці, зрабіўся — скура толькі й косці, аж рэбры лёсткамі тарчаць* (К. Крапіва. Вараны). *Быў,аднак, час, калі Тодар хадзіў спусціўшы свой задзірасты нос* (К. Крапіва. Каровін муж). *Ладымер з'явіў-*

*ся дадому сам не свой* (К. Чорны. Вясна). *Стараста за парканам стаяў ні жывы ні мёртвы* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 603. Другі кампанент складанага двухкампанентнага выказніка можа выражацца разнастайнымі па структуры сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі. Яны выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова-звязкі *быць* і зрэдку *з'яўляцца*, а таксама з асабовымі формамі некаторых паўзнамянальных дзеясловаў, якія ўказваюць на ўзнікненне, існаванне або выяўленне прыметы, і некаторых поўназнамянальных дзеясловаў, якія абазначаюць рух і стан: *Серадзібор будзе гаспадаркай жывёлагадоўчага напрамку* (П. Пестрак. Серадзібор). *Мужчына быў год пад сорак — але моцны яшчэ чалавек* (У. Караткевіч. Партызанская балада). *Я здагадаўся, што тая дзяўчынка была не хто іншы, як дачка Зыгмунты* (Р. Сабаленка. Аўтограф). *Гісторыя архітэктуры па сутнасці з'яўляецца гісторыяй яе набліжэння да чалавека* (У. Карпаў. За годам год). *Праца ў нашай краіне стала справай гонару* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Седас зрабіўся вялікім чалавекам* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Хіба на заводзе ў чарцёжным бюро не яна лічыцца адной з першых?* (М. Лупсякоў. Інжынер Ватулін). *Залескі стаяў з набожным тварам, але нельга было пазнаць, якому ён богу моліцца: свайму ці нашаму* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Дрэвы стаялі з задумнымі кронамі, пяшчотна пазалочаныя праменнямі, як бы разважаючы, што іх чакае ў надыходзячым мораку ночы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Заўвага. У асобную падгрупу можна вылучыць выказнікі з другім кампанентам, выражаным такімі непадзельнымі словазлучэннямі, якія складаюцца з асабовага дзеяслова і залежнага ад яго назоўніка і па значэнню амаль поўнасцю адпавядаюць дзеяслову, утворанаму ад гэтага залежнага назоўніка: *аддаваць загады — загадваць, прыйсці да памяці — апамятацца, знаходзіць спакой — супакойвацца, наводзіць парадак — парадкаваць* і г. д. Такія словазлучэнні выступаюць у спалучэнні з асабовымі формамі некаторых паўзнамянальных дзеясловаў і з некаторымі ўстойлівымі словазлучэннямі, якія суадносяцца па значэнню з адпаведнымі паўзнамянальнымі дзеясловамі: *Пан Крулеўскі пачаў аддаваць загады ротным камандзірам* (Я. Колас. Дрыгва). *Яна ўсё яшчэ не магла прыйсці як след да памяці* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *У кожным з іх ён як бы пачынаў бачыць схаванага правапарушальніка, які можа ці нават мае на мэце зрабіць замах на будучыню горада* (У. Карпаў. За годам год).

## СКЛАДАНЫ ТРОХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК

§ 604. У сучаснай беларускай мове даволі ўжывальнымі з'яўляюцца выказнікі, якія складаюцца з трох канструктыўных кампанентаў. Гэтыя кампаненты знаходзяцца паміж сабою ў пэўнай сэнсавай і граматычнай сувязі і ўтвараюць непадзельнае сінтаксічнае адзінства, якое абазначае дзеянне, стан або прымету прадмета, названага дзейнікам. Структурна складаныя трохкампанентныя выказнікі суадносяцца са складанымі двухкампанентнымі выказнікамі і адрозніваюцца ад апошніх наяўнасцю яшчэ аднаго канструктыўнага кампанента. Па спосабу выражэння кожнага кампанента можна вылучыць некалькі асноўных падтыпаў складанага трохкампанентнага выказніка.

§ 605. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *А вось якія мае мыслі: я хачу навучыцца рабіць фатаграфічныя знімкі, хачу купіць апарат* (Я. Колас. На ростанях). *Цераз ноч на світанні яна пачала старацца штосьці сказаць* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Начаваць ён мецўся пайсці да Андрэя* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Толя хацеў папрасіцца ісці з ім, але палічыў гэта нетактоўным і астаўся адзін сярод параскіданых, кінутых абы-як рэчаў* (Б. Мікуліч. Зорка). *Коля Сухарэвіч, мой даў-*

*ні сябар, прыйшоў да мяне на кватэру, калі я збіраўся ўжо класціся спаць* (Б. Сачанка. Памяць).

§ 606. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і кароткага або поўнага дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону: *Такі дом мог быць пабудован год за дзесяць да вайны, а мог быць і за трыццаць* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 607. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і поўнага дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме творнага склону: *Тут Гурба нават не імкнуўся быць незаўважаным і не баяўся перашкодзіць Піліпу,—такім рукам не перашкодзіш* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Глеб цудам астаўся жывы і ў сорак шостым зноў вярнуўся да мяне, а больш правільна — я сама вярнула яго, бо ён не хацеў вяртацца такім пакалечаным* (Я. Васілёнак. Жанчына).

§ 608. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за*: *Калі часць абзавялася сталоўкай, яна стала працаваць за афіцыянтку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 609. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме вінавальнага склону множнага ліку з прыназоўнікам *у*: *Адны казалі, што Алеся здурнела, робячы так, а другія меркавалі, што яна хоча выйсці ў вялікія начальнікі* (П. Пестрак. Серадзібор). *Вера і Чупрык яшчэ даўно, калі вучыліся ў дзесяцігодцы, вырашылі падацца ў механізатары* (І. Гурскі. Незгасальныя зоры).

§ 610. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Хачу быць я, мой ты бацька, лётчыкам-героем* (Я. Купала. Сыны). *Максім Астаповіч навучыўся быць і муляром* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Ганнуся ў такім выпадку магла застацца дзеўкай* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Грыша згадзіўся стаць інтэндантам* (І. Навуменка. Вераніка). *Некалі дом красаваўся на месцы на гэтым. Пасля бамбёжак стаяць ён застаўся шкілетам* (А. Куляшоў. Дом). *Андрэй хацеў паступіць на завод рабочым, каб запоўніць гэты недахоп у працэсе «простай» працы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 611. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і назоўніка ў форме меснага склону множнага ліку з прыназоўнікам *у*: *Не мог ён разам з намі ў піянерах быць* (Н. Гілевіч. Сто вузлоў памяці).

§ 612. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме назоўнага склону: *Пакаціла пачынае быць падобны да бабыля* (П. Пестрак. Серадзібор). *Калісьці мы, напэўна, маглі быць вялікія, але не сумелі* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Дзень меўся быць найлепшы* (Я. Скрыган. Над гаем кружылі буслы). *Узнімаўся вецер, змрок пачаў рабіцца яснейшы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 613. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і прыметніка ў форме творнага склону: *І сыны адказ трымалі перад бацькам родным, а стараўся з іх быць кожны свайго бацькі годным* (Я. Купала. Сыны). *Вялікім, неабдымным, нязмерным можа быць каханне мацеры!* (Р. Мурашка. Сын). *Ад выпітай гарэлкі злёгку кружылася галава, і ўсё стала здавацца простым і ясным* (У. Карпаў. За годам год). *Людзі хацелі выйсці жывымі і здаровымі з пекла вайны* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

§ 614. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме назоўнага склону: *Ці бачыш, якая вострая! Пазней прыйшла, а першая хоча справіцца!* (Я. Колас. Наталка, Джон і Муха). *І ён першы стаў памагаць такелажнікам* (У. Краўчанка. Зорка Венера).

§ 615. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме творнага склону: *Адным словам, яна ўсюды і заўсёды хацела быць першай і шукала вінаватых, бо бачыла, што нехта ёй замінае* (А. Чарнышэвіч. Чарвячок). *Тут ніхто не імкнуўся быць першым, хоць Кацярына Барысаўна глядзела мужа як старэйшая* (У. Карпаў. За годам год). *Кожны хацеў ўцячы першым* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Першым пачаў гаварыць дырэктар* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 616. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і займенніка ў форме назоўнага склону: *І ты хочаш быць такі?* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

§ 617. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і займенніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Лінія мясцовага палітыка, калі ён ім хоча быць, — гэта памяркоўнасць у адносінах да людзей* (П. Пестрак. Серадзібор). *Вера Васільеўна, перастаньце быць тым, хто вы ёсць, вазьміце вось гэты пашпарт і будзьце маёй жонкай* (Б. Мікуліч. Цяжкая гавосць дзіна). *Але як быць з сям'ёю, з Валяю, без якой ён не можа быць сабою?* (У. Карпаў. За годам год). *Я пазіраю на колішнюю Алену, і яна ўсё больш пачынала здавацца мне інакшай, не той* (М. Лупсякоў. Дажджы).

§ 618. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыслоўя: *Але затое, беражліва ставячыся да такіх хвілін, яны мацней адчувалі сваю знітаванасць, патрэбнасць адзін у адным і стараліся быць тады побач* (У. Карпаў. За годам год).

§ 619. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і непадзельнага словазлучэння: *А ён безупынку хваліўся, як выдатна здаваў экзамен, як яму бацька сказаў, што ён, Казік, цяпер можа быць з бацькам на адной назе* (Р. Сабаленка. Блакітнае ззянне). *Калі хочаш быць разумным чалавекам, то бяры прыклад ад разумных людзей і рабі тое, што робяць яны* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Пацыенткі ў яе вачах пераста-*

*валі быць жанчынамі небяспечнымі* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Вы неяк сказалі, што чалавек можа быць самага благога характару, мець самыя нядобрыя схільнасці, але гэта не мае адносін да яго работы, гэта не павінна прымацца пад увагу* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

§ 620. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова, кароткага ці поўнага дзееприметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Маё раскошнае жыццё цягнулася нядоўга: прыехала больш хлапцоў, і я вымушаны быў прыняць на сваю пасцелю кватаранта* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Баючыся скандалу ў свеце і большай матэрыяльнай адказнасці, Лукавіцын прымушан быў прымірыцца* (К. Крапіва. Мой сусед). *Цаною жыцця ён стаў абавязаны жыць з Цярэшкам пад адным дахам і «ахоўваць яго душу»* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна).

Заўвага. У безасабовых сказах першы канструктыўны кампанент такога складанага трохкампанентнага выказніка выражаецца безасабовай формай дзеяслова-звязкі *быць*: *Мне ў святочныя дні было дазволена гуляць з Болесем на падворку* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Пасля ачамярэлага ёй старога Гальваса яна ўбачыла ў Ксавэру Блецьку таго чалавека, якога толькі аднаго ёй суджана было любіць* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вырашана было арганізаваць у бліжэйшым часе гарадскую падпольную газету* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 621. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, кароткага ці поўнага дзееприметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *У 1933 годзе, пасля заканчэння тэхнікума, Ціхон Піменавіч быў назначан на Гомельскі цагельны завод № 6 тэхнічным кіраўніком* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *М. В. Фрунзе быў назначан начальнікам міліцыі* («Весці АН БССР»). *І, змяніўшыся ноччу з дзяжурства — Шурка быў залічаны цяпер спецсувязным пры губрэўкоме, — ён рашуча накіраваўся не ў казарму, а па знаёмай дарозе да кватэры Берсана* (У. Мехаў. Камісар Берсан).

§ 622. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, кароткага або поўнага дзееприметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону і непадзельнага словазлучэння: *Хутка, аднак, ваяўнічы бургамістр прымушан быў падмазаць пяткі разам з рэшткамі свайго разбітага атрада, які ён гучна называў вызваленчай арміяй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Цар зразумеў, што «рассекание гнойника» цяпер справа несвоечасовая, і вымушаны быў пайсці на некаторыя ўступкі* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Побач з тымі, хто ўчора быў названы ў ліку лепшых людзей, сёння становяцца ўсё новыя і новыя* (У. Дадзіёмаў. Людзі вялікай будоўлі).

§ 623. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага назоўніка (*аматар, ахвотнік, майстар* і інш.) у форме назоўнага склону і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *І майстар быў дзяцюк есці гэтыя абаранкі!* (З. Бядуля. Год за годам). *Лазіць па дрэвах я быў мастак* (А. Якімовіч. Сарочыя яйкі).

§ 624. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова, прэдыкатыўнага назоўніка (*аматар, ахвотнік, майстар* і інш.) у форме творнага склону без прыназоўніка і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Настаўнік быў майстрам апавядаць* (З. Бядуля. Год за годам). *Майстрам стаў вялікім туркаць языком, пугачом кугыкаць, скавытаць ваўком* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна).

§ 625. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага назоўніка (*аматар, ахвотнік, майстар* і інш.) у форме назоўнага склону і другога назоўніка ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да*: *Ён сам быў ахвотнік да мудрых гутарак: ён любіў часам задаць, усыпаць, адгабляваць такое ядранае слоўца, ажно сусед вочы казеліў, як бы хрэну налыпаўся* (З. Бядуля. Летапісцы).

§ 626. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага назоўніка (*аматар, ахвотнік, майстар* і інш.) у форме назоўнага склону і другога назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *на*: *Ён сам займаўся паляваннем і быў аматар на такія выдумкі* (З. Бядуля. Фрося). *Мой слаўны душой прасцяк, будзь на шчырасць заўжды аматар* (Н. Чарнушэвіч. Хлопчык). *Ён часта бегаў да рэчкі мяняць ваду ў кацялку, не хацела ж бо жыта мяккім быць, ніяк не ўдавалася варыва Ваську, хоць і быў ён на гэтыя штукі добры майстра* (М. Лынькоў. Над Бугам).

§ 627. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова, прэдыкатыўнага назоўніка (*аматар, ахвотнік, майстар* і інш.) у форме творнага склону без прыназоўніка і другога назоўніка ў форме роднага склону без прыназоўніка: *Буйны мільянер Фрык быў аматарам і добрым цаніцелем твораў мастацтва* (І. Новікаў. Дзесяць тыдняў у ЗША).

§ 628. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*рад, гатоў, павінен, згодзен, схільны, бездапаможны* і інш.) і інфінітыва поўназнаменальнага дзеяслова: *Лабановіч быў дужа рад сустрэцца са сваім дайнім прыяцелем, але ў яго жаданні паступіць у настаўніцкі інстытут адчуў, што іхнія дарогі разыходзяцца* (Я. Колас. На ростанях). *Ён прыйшоў на Случчыну і гатовы быў цалаваць зямлю, якой так доўга цураўся* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Алёшка павінен быў сказаць аб нечым важным, сур'ёзным, аб чым гаварыць звычайна адзін раз у жыцці* (М. Лынькоў. Салют). *Цяпер Еўдакія ўжо схільна была б поўнасцю пераключыцца на ўрачыстасць, смех і весялосць* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Гэта злавала Васіля Пятровіча, ён нерваваўся, але быў бездапаможны што-небудзь змяніць* (У. Карпаў. За годам год).

§ 629. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*ахвочы, схільны* і інш.) у форме назоўнага склону і назоўніка ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да*: *Малодшы, Марцін, да гаспадаркі не быў ахвочы* (А. Карпюк. У адным інстытуце).

§ 630. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова, прэдыкатыўнага прыметніка (*ахвочы, схільны* і інш.) у форме творнага склону і назоўніка ў форме роднага склону з прыназоўнікам *да*: *Ілья Ілыч пасля некалькіх чарак стаў асабліва схільным да цягучых, глыбакадумных разважанняў* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 631. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*гатоў, здольны, павінен* і інш.) і непадзельнага словазлучэння: *Што ж датычыцца маладзейшай часткі падполля, то яна гатова была гарой стаяць за прапановы Ладуцькі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Адзін з млынароў гатоў быў хоць скрозь зямлю праваліцца* (М. Ракітны. Млын). *Я стаяў, пэўна, збялелы, у грудзях у мяне моцна білася сэрца, я не здольны быў падняць яшчэ раз вочы, бо*

*адразу пазнаў гэтую жанчыну* (М. Лупсякоў. Дажджы). *Каб не ўпасці ў падазрэнне, ён павінен быў крывіць душой* (У. Краўчанка. У імя Радзімы).

§ 632. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыслоўя *супроць* з адмоўнай часціцай *не* або прэдыкатыўнага назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам *у* (і часта з адмоўнай часціцай *не*) тыпу *не ў сілах, не ў праве* і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Чупрык быў не супроць праводзіць яе* (І. Гурскі. У вялікай дарозе). *Як той матылёк лёгкакрылы, што вось-вось із маку ўзвіваецца, на вуснах яе трапятала і было не ў сілах сарвацца адно ціхавейнае слова* (М. Багдановіч. Як толькі закрыю я вочы).

§ 633. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*гатоў, павінен* і інш.), інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Яна, Стэфка, сама з прыемнасцю гатова навучыцца так спяваць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Пісьменнік павінен умець карыстацца ўсімі гэтымі здабыткамі чалавецтва* (К. Крапіва. Слова да малодшых). *Чалавек павінен умець не толькі стрымліваць свае пачуцці. Ён павінен умець і абурацца, пратэставаць, лаяцца, калі гэта трэба* (І. Шамякін. У добры час).

§ 634. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка *павінен,* інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і кароткага або поўнага дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону: *У даным жа выпадку Лапко зрабіў незаконна, і яго ўчынак не павінен быць замоўчан* (Я. Колас. Адшчапенец). *Але гэта павінна быць зроблена для таго і так, каб той, хто чытае кнігу, так сказаць, перажывае гэтыя з'явы нанава, зрабіў дакладныя з іх высновы* (К. Чорны. Маладыя празаікі). *Яна лічыла, што выхаванне — такі хітры механізм, які павінен быць заўсёды схаваны і разам з тым ні на міг не спыняцца, не грымець, не ляскаць, не дыміць, не чадзіць, але працаваць бездакорна* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 635. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка *павінен,* інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і назоўніка ў форме роднага склону множнага ліку з прыназоўнікам *з*: *З якіх жа важных паноў павінен ён быць, калі так едзе!* (Я. Маўр. Шлях з цемры).

§ 636. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, гатоў, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Чаму ён павінен партызанам быць, а я дома сядзець?* (Я. Колас. Дрыгва). *Кожны быць павінен спецам дзён вялікае будоўлі!* (П. Глебка. Арка над акіянам). *З арганізатараў і ўдзельнікаў барацьбы з ворагам мы цяпер павінны стаць удзельнікамі адбудовы разбуранага жыцця* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Я ж казаў, што гатоў стаць памочнікам у Юзіка* (А. Якімовіч. Базылёў курган).

§ 637. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка *павінен,* інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і прыметніка ў форме назоўнага склону: *Дружба тут павінна быць вялікая, моцная і вечная* (К. Чорны. Насцечка). *Талент, як і сумленне, павінен быць непадкупны, галава павінна быць цвярозая, жыццёвы інстынкт здаровы, зрок востры, слых абсалютны* (М. Стральцоў. Дзень у шэсцьдзесят сутак). *Згодзен, што рука тут павінна быць намнога мацнейшая, цвярдзейшая, а значыць, магчыма, не мая або не толькі мая* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 638. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка *павінен*, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і прыметніка ў форме творнага склону: *Не трэба, хлопцы, забывацца і на тое, што мы павінны быць вельмі і вельмі асцярожнымі* (Я. Колас. На ростанях). *Мастацтва і яго гісторыя павінны стаць жыццёвымі і цікавымі, бо інакш разам з крытыкай страцяць павагу ў людзей* (У. Калеснік. Час і песні). *Там блізка фронт, там тысяча салдат, і слова нашай партыі да іх дайсці павінна чыстым і праўдзівым* (П. Глебка. Святло з Усходу).

§ 639. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, схільны, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме назоўнага склону: *Не павінен ты, дзед, першы страляць!* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 640. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, схільны, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме творнага склону: *Відаць, таму, што ніколі ім не быць ні беларусамі, ні палякамі, ні немцамі, хоць яны схільныя быць і тым, і другім, і трэцім* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Першымі мы павінны пачаць і першымі выканаць збожжапастаўкі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 641. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, схільны, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і займенніка ў форме назоўнага склону: *Крэпасць-герой павінна застацца такая, якая яна была ў дні баёў, а манумент будзе да яе лагічным дапаўненнем* (з газет).

§ 642. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, схільны, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і займенніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Чым павінен быць гэты кабінет?* (К. Чорны. Працу з кадрамі — у творчы план). *Каб мець карысць, належны плён, каб чуць яе душою, паэзія сучасных дзён павінна быць якою?* (П. Броўка. Паэзія). *А ён упарта не хоча зразумець, што ўсё гэта мае непасрэднае дачыненне да архітэктуры, да таго, якой павінна стаць сталіца рэспублікі, што выйшла на міжнародную арэну* (У. Карпаў. За годам год).

§ 643. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка або дзеепрыметніка (*гатоў, павінен, вымушан* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* і прыслоўя: *Мы не заўсёды на пярэднім краі. І ўвесь час павінны быць напагатове* (І. Сіняўскі. На правым флангу).

§ 644. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*гатоў, павінен* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і непадзельнага словазлучэння: *Ён бачыў, што гэтая хвіліна павінна быць хвілінай развітання* (К. Чорны. Трыццаць год). *І толькі адно непакоіць паноў — салдацкія простыя боты: яны, як вядома з мінулых баёў, павінны быць моцнай работы* (П. Глебка. Боты). *Ліпскі сельсавет павінен быць на першым месцы ў раёне па збожжапастаўках* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 645. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме творнага склону: *Згодна з урадавай пастановай, тут мае права быць*

*пахаваным толькі абаронца ўзбярэжжа ў трыццаць дзевятым і вызваліцель яго ў сорак пятым* (Я. Брыль. Вачыма друга).

§ 646. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *«Не ўсе маюць шчасце стаць афіцэрскай жонкай»,— адказала Ларыса* (М. Лобан. На парозе будучыні).

§ 647. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме творнага склону: *Мы не маем права быць паспешлівымі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Цётка Агата мела падставы быць незадаволенай* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

§ 648. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме назоўнага склону: *Мы маем падставы закончыць жніво першыя ў раёне* (з газет).

§ 649. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і парадкавага лічэбніка ў форме творнага склону: *Табе, доктар, выпаў гонар быць першым* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 650. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з непадзельнага словазлучэння, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і займенніка ў форме творнага склону. *Яна, Валя, не мае права быць такой і не будзе* (У. Карпаў. За годам год).

§ 651. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, безасабова-прэдыкатыўнага слова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Ёй было важна хоць перад кімнебудзь пагаварыць* (К. Чорны. Трыццаць год). *Сільніцкага нельга было вынесці з поля бою, ён трапіў у палон* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Трэба было рыхтавацца да заўтрашніх заняткаў* (А. Васілевіч. Пасля вайны). *Здавалася, лягчэй было б яму адсекчы ўласную руку, чым высекчы гэтыя дубкі* (І. Шамякін. Дубы).

§ 652. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Варта б ёй ужо хрысціцца пасаромецца* (К. Крапіва. Здарэнне на вуліцы). *І трэба яму пачынаць жыць спачатку, і ці ўдасца гэтае жыццё?* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Але трэба вучыцца пісаць* (З. Бядуля. Год за годам). *Справа пэўная — трэба толькі ўмець чакаць* (М. Лупсякоў. Як злавіць сома).

§ 653. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме творнага склону: *Пытанне можна лічыць высветленым* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 654. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Так, трэба быць патрыётам свайго калектыву, хварэць душой за яго справы* (У. Шыцік. Майская раніца).

§ 655. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме творнага склону: *Трэба быць*

*цвёрдым, непадатным, упартым, тады шмат большага дасягнеш* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Цяпер жа, стоячы тут, на Мамаевым кургане, ён неяк надзвычай востра адчуў, што яму, Аляксею, трэба быць лепшым* (У. Карпаў. За годам год).

§ 656. Трохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова і непадзельнага словазлучэння: *«Чалавеку трэба ўмець абысці ўсялякія падводныя камені»,— разважаў Андрэй* (І. Гурскі. Вясна пачыналася).

## СКЛАДАНЫ ЧАТЫРОХКАМПАНЕНТНЫ ВЫКАЗНІК

§ 657. Выказнікі, якія складаюцца з чатырох канструктыўных кампанентаў, у сучаснай беларускай мове з'яўляюцца малаўжывальнымі. Структурна яны суадносяцца са складанымі трохкампанентнымі выказнікамі і адрозніваюцца ад апошніх наяўнасцю яшчэ аднаго кампанента. Па спосабу выражэння кожнага кампанента можна вылучыць некалькі асноўных падтыпаў складанага чатырохкампанентнага выказніка.

§ 658. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме назоўнага або творнага склону: *Вэня, як толькі ўбачыў Хурса і пагаварыў з ім, пачаў старацца быць падобным да яго* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 659. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць*, дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону і назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за*: *Спачатку яе паклікалі ў секцыю народнай асветы і сказалі, што яна можа быць назначана за настаўніцу ў вячэрнюю школу для дарослых, але толькі тады, калі яна сама паможа арганізаваць гэтую школу* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 660. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць*, дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону і непадзельнага словазлучэння: *Антон Крамарэвіч мог быць залічаны ў натуры дробныя, якія могуць убачыць у растрэсенай на дарозе саломе вялікую страту* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

§ 661. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону, інфінітыва паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Але пачынаць такую марудную работу было позна, і яны вымушаны былі застацца тут начаваць* (Я. Маўр. Сын вады). *Зрабіў так, што ніводзін не мог адмовіцца і ўсе да аднаго вымушаны былі ехаць працаваць на Жодзінскі аўтамабільны* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні).

§ 662. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Ужо тады мой бацька, Пятрусь Сурмак, вымушаны быў лічыць мяне памочнікам у гаспадарцы* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *У вершы «Пастушка» Бядуля піша пра лёс парабчанскай дачкі, якая вымушана была стаць пастушкай у фальварку* (А. Кучар. Змітрок Бядуля).

§ 663. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу ў форме назоўнага склону, інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова і колькаснага лічэбніка *адзін* у форме назоўнага склону: *Але ішлі дні,— хутка тыдзень будзе,— а яна не магла знайсці нікога і вымушана была сядзець адна, адна, адна* (І. Мележ. Адна).

§ 664. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*гатоў, рад* і інш.), інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Бацька ж мой, дый амаль што ўсе ў арганізацыі літоўцамі сябе не адчувалі, па-літоўску гаварыць не ўмелі і вучыцца гаварыць не былі ахвотны* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Мімаволі залюбаваўшыся прастатою танца, натуральнасцю рухаў, ажыўленасцю, Драздовіч, сам паддаўшыся агульнаму настрою, гатоў быў у гэтую хвіліну пайсці танцаваць* (І. Гурскі. Свежы вецер). *Ды яна і сама рада была пайсці куды-небудзь працаваць, каб хоць трохі падсабіць маці гадаваць дзяцей* (Р. Сабаленка. Блакітнае ззянне).

§ 665. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен, рад* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *І можа выразней, чым раней, зарукаю поспеху або прычынаю яго няўдачы павінна была стаць Зося* (У. Карпаў. За годам год). *Горад павінен быў стаць помнікам славы народа і сваёй* (там жа). *Будзем рады бачыць вас сваім госцем* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі).

§ 666. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме назоўнага склону: *У яго ўяўленні яна павінна была быць, вядома, не абарваная, але ў якой-небудзь несамавітай адзежыне і, можа, нават у неахайным выглядзе* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 667. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з асабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і прыметніка ў форме творнага склону: *Лаюцца толькі тыя, каму гэтая справа павінна была б стаць блізкай* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *І таму ў ім усё павінна было быць незвычайным і грандыёзным: плошчы, вуліцы, дамы* (У. Карпаў. За годам год).

§ 668. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з прэдыкатыўнага прыметніка (*павінен* і інш.), інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць*, прэдыкатыўнага прыметніка тыпу *гатоў* і інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Мы павінны быць гатовы ўсе падтрымліваць рэвалюцыйныя камітэты, рэвалюцыйную ўладу, якая зараз можа пачаць працаваць легальна* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

§ 669. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова і другога інфінітыва поўназнамянальнага дзеяслова: *Трэба было з імі змагацца і пачынаць аднаўляць усё жыццё спачатку, бо і палякі і немцы пакінулі тут руіны* (К. Чорны. Ясны дзень краіны). *Тады Вера зразумела, што не варта было выходзіць гуляць з гэтым хлапцом* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 670. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабовай

формы дзеяслова-звязкі *быць*, безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *Дык вось на граніцы я думаў чамусьці ўвесь час аб тым, як добра было б мне быць на гэты час яшчэ і мастаком* (Я. Брыль. На заходняй граніцы). *А я, пазіраючы на яе, дзівячыся яе ўпартасці, усё больш пачынаў думаць з павагаю аб медыцыне, і ўсё часцей прыходзіла думка, што добра было б, калі выжыву, стаць урачом* (М. Лупсякоў. Дажджы).

§ 671. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабовай формы дзеяслова-звязкі *быць*, безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* (паўзнамянальнага або поўназнамянальнага дзеяслова) і прыметніка ў форме творнага склону: *Трэба было быць гатовым да падпольнай работы сярод нямецкіх салдат, каб зрабіць іх салдатамі-рэвалюцыянерамі* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Часам я думаю, каб можна было ўбачыць гатовым тое, пра што думаеш* (У. Карпаў. За годам год).

§ 672. Чатырохкампанентны выказнік, які складаецца з безасабова-прэдыкатыўнага слова, інфінітыва паўзнамянальнага дзеяслова, інфінітыва дзеяслова-звязкі *быць* або паўзнамянальнага дзеяслова і назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка: *А то не будзеш жа ўвесь час толькі падзьмухваць ды прыладкі падаваць, трэба ж вучыцца быць малатабойцам* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

## ДАПАСАВАННЕ ВЫКАЗНІКА ДА ДЗЕЙНІКА

§ 673. Выказнік — галоўны член сказа, залежны ад дзейніка. Залежнасць гэта, з'яўляючыся перш за ўсё сэнсавай, знаходзіць сваё адлюстраванне і ў прыпадабненні граматычных форм выказніка, выражанага змяняльнымі словамі, да граматычных форм дзейніка. Такое прыпадабненне як від граматычнай сувязі называецца дапасаваннем.

Дапасаванне бывае поўным і частковым. Пры поўным дапасаванні выказнік прыпадабняецца да дзейніка ва ўсіх магчымых граматычных формах, а пры частковым — толькі ў некаторых. Часам выказнік, выражаны змяняльнымі словамі, не дапасуецца да дзейніка зусім. Возьмем для прыкладу тры сказы: *Мой брат настаўнік. Мой брат настаўнікам. Мой брат з настаўнікаў.* У першым сказе выказнік дапасуецца да дзейніка ў ліку і склоне. Тут дапасаванне поўнае. У другім сказе выказнік дапасуецца да дзейніка ў ліку, але не дапасуецца ў склоне. Тут дапасаванне частковае. У трэцім сказе выказнік не дапасуецца да дзейніка ні ў ліку, ні ў склоне. Значыць, тут дапасаванне як від граматычнай сувязі выказніка з дзейнікам адсутнічае. Адсутнічае яно і ў тым выпадку, калі выказнік выражан незмяняльнымі словамі або формамі слоў.

Асаблівасці дапасавання выказніка да дзейніка абумоўліваюцца спосабам выражэння кожнага з гэтых членаў сказа.

## ДАПАСАВАННЕ ВЫКАЗНІКА, ВЫРАЖАНАГА АСАБОВЫМІ ФОРМАМІ ДЗЕЯСЛОВА

### ДАПАСАВАННЕ Ў АСОБЕ

§ 674. Дапасаванне ў асобе мае месца ў тых выпадках, калі выказнік выражан асабовай формай дзеяслова абвеснага ладу цяперашняга ці будучага часу, а дзейнік — асабовым займеннікам. У сказах такога тыпу асобе дзейніка адпавядае форма асобы выказніка: *І здаецца зноў-ку—еду я дадому пераведаць родных, блізкіх, дарагіх* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Але спадзяюся, што ты цяпер і мне дапаможаш* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Гэта гаворыце вы, а я ны інакш ка-*

*жуць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *З касманаўтаў віцебскіх і мінскіх створым мы надзейны экіпаж* (П. Панчанка. У космас).

Пры дзейніку, які выражан не асабовым займеннікам, а любой іншай часцінай мовы ці спалучэннем іх, выказнік ужываецца ў форме 3-й асобы: *Над калыскай маці ночку каратае, хворага сыночка цешыць, забаўляе* (Я. Колас. Уночы). *Так мяркуюць багатыя, а вось бедныя думаюць і гавораць інакш* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Што ж урэшце гэтае «крыху» азначае?* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Чалавек дваццаць дзяўчат і падлеткаў жвава працуюць рыдлёўкамі* (З. Бядуля. Шрам).

Заўвага. Выказнік ўжываецца ў форме 3-й асобы і ў тым выпадку, калі ў ролі дзейніка выступае субстантываваны асабовы займеннік: *На месца «я» індывідуалізму прыходзіць «мы», і ў гэтым «мы», у калектыве максімальнай свабоды і вышыні ўсебаковага свайго развіцця дасягае «я» — індывідуальнасць* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

## ДАПАСАВАННЕ Ў ЛІКУ

§ 675. Выказнік ставіцца ў форме адзіночнага або множнага ліку ў адпаведнасці з формай ліку дзейніка: *А Нёман гамоніць, сярдзіта шуміць, і коцяцца грозныя хвалі* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Шлюць рабочыя шчыры паклон, запрашаюць на працу прыходзіць* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Нямарна насіў я шахцёрскую робу, у будучы час пракладаючы штрэк, я браў ад жыцця найгарчэйшыя пробы, каб вынасіць назву адну: Чалавек!* (А. Звонак. Чырвонае Урочышча). *Мы потым іначай зробім, мы цэлы пакой табе абсталюем тут* (М. Зарэцкі. Вязьмо).

§ 676. Пры дзейніку, які выражан зборным назоўнікам, выказнік ставіцца ў форме адзіночнага ліку: *Чалавецтва прайшло вялікі шлях, і гэты шлях нас вучыць* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію). *У тую восень і зіму вуглоўская моладзь ладзіла вечарыны ва Устронні* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча). *Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамешку з малымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *У кастры гулка патрэсквала вуголле* (А. Асіпенка. Паплавы).

§ 677. Пры дзейніку, які выражан незмяняльным назоўнікам, выказнік ставіцца ў форме адзіночнага або множнага ліку ў залежнасці ад таго, адзін ці некалькі прадметаў абазначаецца гэтым назоўнікам: *Затым бюро прыступіла да разгляду заявы Галаўнёва* (П. Дудо. Першы салют). *Наглядзелася Волька цудаў у заапарку, спадабалася ёй вельмі метро* (А. Васілевіч. Шляхі-дарогі). *Пападаліся нават зусім пустыя купэ* (Я. Колас. На ростанях). *Даўганогія фламінга стаялі на адной назе, як вартаўнікі, а смешныя гарбатыя пеліканы таўкліся, як дурні, на адным месцы* (Я. Маўр. Чалавек ідзе).

§ 678. Пры дзейніку, выражаным займеннікам, які не мае формы множнага ліку, выказнік ставіцца ў форме адзіночнага ліку нават тады, калі гэты займеннік абазначае некалькі асоб ці прадметаў: *Хто ўстрымаў паводак разгульнае мора?* (Я. Купала. Плачуць мае песні). *Ніхто не заўважаў залатой восені, здаровага подыху зімы* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *І ніхто не перашкаджала плаўнасці думак* (А. Пальчэўскі. Стахнова студня). *Хтосьці часта ў змроку наведвае склад, хтосьці ўночы блукае, як здань, ля машыны* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Нічога, запішацца хто-ніхто, а потым і ўсе* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Выключэнне з гэтага правіла складаюць даданыя сказы, дзейнік якіх выражан адносным займеннікам *што*. Калі гэты займеннік абазначае некалькі асоб ці прадметаў, аб чым сведчыць галоўны сказ, то выказнік ставіцца ў форме множнага ліку: *Яны нязломныя дубы, што служаць*

*праўдзе і народу* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Па гнуткіх мастках прабягалі рабочыя, што падвозілі цэглу да жалабоў, і гналі перад сабой нагружаныя тачкі* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Гледзячы на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар, ён адчуў, што шчасце без яе немагчыма* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 679. Пры дзейніку, выражаным колькасным лічэбнікам, які абазначае абстрактны лік, выказнік ставіцца толькі ў форме адзіночнага ліку: *Дваццаць чатыры дзеліцца на шэсць без астатку.*

Калі колькасны лічэбнік у ролі дзейніка абазначае асоб, то выказнік можа ставіцца ў форме адзіночнага і множнага ліку: *Ты паглядзі на прыстань — матросамі кішыць, адно маргну, і трыста за мною пабяжыць* (П. Глебка. Вясёлыя песні). *І дзевяць сказала: «Пусцім!» І дзевяць сказала: «Ідзі!»* (А. Куляшоў. Крыўда). *Чатырнаццаць з шаснаццаці збіраліся паступаць толькі ў ваенныя вучылішчы* (І. Навуменка. Вераніка).

У форме адзіночнага і множнага ліку ставіцца выказнік пры дзейніку, які выражан зборным лічэбнікам. Форма адзіночнага ліку звычайна выкарыстоўваецца пры абазначэнні стану асобы, форма множнага ліку— пры абазначэнні дзеяння асобы: *На месцы бойкі засталося трое* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ля камля стаяла трое, а ля верхавіны — двое* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Двое, як паваліўся Ігнат, адразу падхапілі яго пад рукі, паднялі і подбежкам пацягнулі яго, наўгад накіроўваючы свой крок у бок ад горада* (П. Галавач. З тых дзён). *Сямёра аднаго не чакаюць* (прыказка).

Пры дзейніку, выражаным колькасным або зборным лічэбнікам, які мае пры сабе дапасаванае азначэнне ў форме множнага ліку, выказнік заўсёды ставіцца ў форме множнага ліку: *Першыя трое раджаліся мёртвымі, а гэтае жыло і здавалася вельмі дужым* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Усе трое ўвайшлі ў хату* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Стараючыся не парушыць цішыні, усе трое засцярожліва падаліся да таго ўваходу* (В. Быкаў. На ўсходзе сонца).

§ 680. Пры дзейніку, які выражан інфінітывам, выказнік (або дзеяслоўны кампанент складанага выказніка) ставіцца ў форме адзіночнага ліку: *Мне жыць без прытулку надакучыла, гады ўжо не тыя* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Відаць было, што сказаць гэта каштавала яму адвагі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Насіць пастаянна ў кішэні фотаздымкі блізкіх здавалася мне залішняй сентыментальнасцю* (І. Шамякін. Непрыгожая).

§ 681. У форме адзіночнага ліку ставіцца выказнік пры дзейніку, выражаным незмяняльнымі словамі або формамі змяняльных слоў, якія выступаюць са значэннем адзіночнага ліку: *Гэтае «хе-хе-хе» зноў вымаўляецца так, што Отта не разумее — жартуе з яго гаспадар ці кажа ўсур'ёз* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Злосна засакаталі ўдалечыні іх лёгкія кулямёты, і недзе побач у паветры пачулася нядобрае «ф' ю-ф' ю»* (В. Быкаў. Страта). *Ужо даўно закончыў кран пагрузку рэек, бэлек, труб, ужо сонца ўзняў ён угару і развітальнае «бывай!» ляціць услед за небакрай* (М. Танк. На Волзе). *«Мусіць» за вуха не ўкусіць* (прыказка).

Калі незмяняльныя словы або формы змяняльных слоў, якія выступаюць у ролі дзейніка, маюць значэнне множнага ліку, на што ўказваюць дапасаваныя да іх азначэнні, то выказнік ставіцца ў форме множнага ліку: *Твае «чаму» ўжо мне надаелі.*

§ 682. Пры дзейніку, які выражан спалучэннем колькаснага лічэбніка з назоўнікам або іншай субстантываванай часцінай мовы, выказнік ставіцца ў форме множнага ліку, калі гэта спалучэнне абазначае асоб: *Чатыры коннікі замыкалі абоз* (Я. Колас. Дрыгва). *Пяць*

*чалавек сядзелі каля агню і курылі цыгарку з зялёнага тытуню* (Я. Маўр. У краіне райскай птушкі). *Кожную раніцу пасля дойгай лагернай паверкі дваццаць спецыяльна прызначаных на тое палонных лезлі ў гулкі кузаў вялізнага «Ханамага» і пад канвоем васьмі салдат ехалі ў далёкі кар'ер* (В. Быкаў. Дваццаты). *Абапал матулі-хвоі мітусяцца, як мурашкі, двое маленькіх хлапчукоў* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі).

Пры такім дзейніку выказнік можа выступаць і ў форме адзіночнага ліку:

1. Калі спалучэнне лічэбніка з назоўнікам абазначае прыблізную колькасць асоб: *І сышлося на нараду чалавек якіх мо' з трыццаць* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *І як бы ў пацвярджэнне іх самых найгоршых меркаванняў, у роту з'явілася да дваццаці чалавек салдат, пераважна немцаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Больш за сто цётак і дзяўчат атрымлівае медалі Усесаюзнай выстаўкі — за лён, якім славіцца гэты куток Надняомоння* (Я. Брыль. Рамонкавы россып).

2. Калі гаворачы або пішучы акцэнтуе ўвагу не на асобах, а на іх колькасці: *У той хаце жыве дзевяць розных братоў Ярмаліцкіх* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Праз два дні вярнулася дзевятнаццаць чалавек* (Я. Маўр. У цясніне). *Умовы жыцця і работы на першым часе былі тады нялёгкія, таму семдзесят дзевяць юнакоў уцякло з будоўлі, асталося толькі сем* (А. Кулакоўскі. З душой спакойнаю). *Побач з імі, за суседнім сталом, сядзела пяцёра мужчын* (У. Дадзіёмаў. Над Нёманам).

§ 683. Пры дзейніку, які выражан спалучэннем колькаснага лічэбніка з назоўнікам або іншай субстантываванай часцінай мовы, выказнік ставіцца ў форме адзіночнага ліку, калі гэта спалучэнне абазначае жывёл ці прадметы: *Стаяла пяць асядланых коней, прывязаных да плота* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *На долю сялянскіх надзелаў прыпадала пяць тысяч семсот сорак дзесяцін, а ў памешчыкаў і ў дробных маёнтках было дваццаць сем тысяч пяцьдзесят дзесяцін* (Я. Колас. На ростанях). *У пладовым гадавальніку вырошчвалася сорак тысяч прышчэпаў* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Пры такім дзейніку выказнік можа выступаць і ў форме множнага ліку:

1. Калі ў дзейніку залежны ад лічэбніка назоўнік жаночага роду: *На горцы пясчанай сем сосен шырока выносяць галіны, а купінкі вычварных кросен духмяныя сцелюць тканіны* (Я. Колас. Адплата). *Два галубы купаюцца ў праменнях, цвітуць, абняўшыся, дзве вішні ля акна* (А. Александровіч. І ты і я). *Дзве машыны стаяць крыху наперадзе іншых* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

2. Калі ўсё дзейнікавае словазлучэнне ў цэлым або толькі залежны ад лічэбніка назоўнік мае пры сабе азначэнне: *Пяць прысадзістых шырокіх дубоў абсталі маленечкі лапік — палянку* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Шаснаццаць страшных, нясцерпных год штогадзінным болем адмералі свой лік у матчыным сэрцы* (В. Быкаў. Незагойная рана).

§ 684. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем змяняльнага слова з няпэўна-колькасным значэннем (*колькі, некалькі, столькі, гэтулькі*) у форме назоўнага склону з назоўнікам, займеннікам і субстантываваным прыметнікам або дзеепрыметнікам у форме роднага склону, выказнік звычайна ставіцца ў адзіночным ліку, але пры абазначэнні асоб зрэдку можа мець і форму множнага ліку: *На Лясніцкага з пагардлівай паблажкай зірнула колькі чалавек і сярод іх адна гімназістка*

(М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Прайшло яшчэ некалькі доўгіх пакутных хвілін пасля таго, як адплыў Эдазі* (В. Каваль. Ноч на моры). *Некалькі коннікаў галопам прамчалаў той бок, адкуль нядаўна чуліся стрэлы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сярод салдат мільганула некалькі жанчын* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Некалькі чалавек, схаваўшыся ўсярэдзіне сходу, паціху іранічна рагаталі* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Некалькі чалавек санаторнікаў стаялі побач* (А. Кулакоўскі. Ластаўкі).

§ 685. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем незмяняльнага слова, што абазначае няпэўную колькасць (*многа, нямнога, мала, нямала, шмат, поўна, багата*), з займеннікам *хто* ў форме назоўнага склону або з назоўнікам, займеннікам, субстантываваным прыметнікам і дзеепрыметнікам у форме роднага склону, выказнік заўсёды ставіцца ў адзіночным ліку: *Мала хто працаваў на пажарышчы з такім запалам, як стараста са сваім прыяцелем* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *З таго часу прайшло многа год* (К. Чорны. Сцяпанавы дзеці). *І калі многа людзей дзяжурыла на перамычцы, дык не менш сабралася на будаўніцтве* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ліха, небяспека ўсюды вас чакала, — згінула ў дарозе змагароў нямала* (Я. Колас. Змаганнікам за Кастрычнік). *У гэтым мінулым мясцілася багата характэрных рысак і глыбокіх момантаў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 686. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем назоўніка, што абазначае пэўную або няпэўную колькасць (*чацвёрка, дзесятак, сотня, тысяча, грамада, чарада, гурт, шэраг* і інш.), у форме назоўнага склону адзіночнага або множнага ліку з назоўнікам, займеннікам, субстантываваным прыметнікам і дзеепрыметнікам у форме роднага склону множнага ліку, выказнік ставіцца ў адзіночным або множным ліку адпаведна з формай ліку назоўніка назоўнага склону: *Супроць старастаў хаты стаяла грамада палешукоў* (Я. Колас. На ростанях). *У механічным цэху ў перапынку паміж змен вакол навічкоў сабраўся гурт рабочых* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *У сяленні мычалі каровы, па вуліцы прайшло стада коз, пабразгваючы бляшанымі званочкамі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Незлічоныя мільёны мошак аж кішаць у скошанай траве* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Па гэтых вуліцах пасля, праз шмат год, ішлі ўзброеныя атрады маракоў і рабочых* (М. Лупсякоў. Букет ружаў). *Над апусцелымі палямі з сумным карканнем ляталі чароды галодных варон* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Заўвага. Калі ў ролі першага кампанента дзейнікавага словазлучэння, якое абазначае пэўную колькасць асоб ці жывёл, выступае назоўнік *пара* ў форме адзіночнага ліку, то пры ўказанні на дзеянне гэтых асоб ці жывёл выказнік зрэдку можа ўжывацца і ў множным ліку: *Прыйшлі гэта надоечы да яго на двор пара беспрытульных хлапчукоў* (К. Крапіва. Смерць). *І вось на горку пара коней вазок узвозяць запрайскі* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Пара сабак хрыпла брахнулі і адрывіста змоўклі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 687. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем назоўніка ці асабовага займенніка ў форме назоўнага склону з назоўнікам, асабовым займеннікам, субстантываваным прыметнікам або дзеепрыметнікам у форме творнага склону з прыназоўнікам *з*, выказнік заўсёды ставіцца ў множным ліку: *Лясніцкі з Андрэем, нервова распіхваючы натоўп, пралезлі наперад* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Тата з Толем едуць ззаду, на другім возе* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Мы з Закрэўскім пайшлі ў той бок лесам, а дзяўчына з фурманшчыкам ішлі за намі крокаў за пяцьсот* (К. Чорны. Насцечка). *Мы з ім пазналіся і падружыліся яшчэ ў дваццатым годзе* (К. Крапіва. Канец дружбы).

З а ў в а г а. Калі ў такіх сказах выказнік мае форму адзіночнага ліку, то дзейнікам з'яўляецца не ўсё словазлучэнне, а толькі назоўнік ці асабовы займеннік у форме назоўнага склону (гл. § 472).

§ 688. Пры аднародных дзейніках выказнік можа быць або толькі ў множным, або толькі ў адзіночным ліку, або ў роўнай ступені як у множным, так і ў адзіночным ліку, што абумоўліваецца значэннем і граматычнай формай аднародных дзейнікаў, характарам сінтаксічнай сувязі паміж імі і месцам знаходжання іх у сказе.

У множным ліку выказнік ставіцца:

1. Калі ўсе аднародныя дзейнікі маюць форму множнага ліку: *У буйным лузе з з я ю ц ь, г р а ю ц ь к в е т к і, м о ш к і, м а т ы л ь к і* (Я. К у п а л а. Летам). *А р л ы, к а р ш у н ы, к р у м к а ч ы, я с т р а б ы, с о в ы п а з л я т а л і с я з гары, каб запыніць ваду* (Я. К о л а с. Жывая вада). *Следам за ім л я ц е л і к а з к і, п е с н і, б ы л і н ы* (А. К у л я ш о ў. Быліна пра волата). *Л і з ы, Г а л і н ы, І р ы н ы, В а л і (колькі позіркаў агнявых!) н е п р а с і л і — п а т р а б а в а л і пазнаёміць з героямі іх* (П. П а н ч а н к а. Сват).

2. Калі аднародныя дзейнікі выражаны формамі адзіночнага і множнага ліку, аднак бліжэйшы да выказніка дзейнік мае форму множнага ліку: *Жаласна-прыгожа льюцца ў небе гукі, с л у х а ю ц ь л я с ы іх, л у г, б а л о т а, л у к і* (Я. К о л а с. Адлёт жураўлёў). *С п я ш а ю ц ц а в ё р с т ы, і д у м к і, і ч а с* (А. А л е к с а н д р о в і ч. На векі вякоў). *Хутка В а с і л ь І в а н а в і ч і яго л ю д з і а п ы н у л і с я ў часовай партызанскай стаянцы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *І калі я прывалокся дадому, то там б ы л і п а ж а р н ы я, мёртвая Э л ь з а і яе л і с т да мяне* (Э. С а м у й л ё н а к. Герой нацыі).

3. Калі аднародныя дзейнікі незалежна ад формы іх ліку абазначаюць асоб, звязаны паміж сабою пры дапамозе адной інтанацыі або інтанацыі і злучальных злучнікаў і знаходзяцца перад выказнікам: *А калі ў хату ўвайшоў Пракоп, м а ц і і с ы н адразу з м о ў к л і* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *С ц я п а н і брат яго В а с і л ь шнурок надоечы к а с і л і* (К. К р а п і в а. Сука ў збане). *У першы дзень школьных заняткаў пасля ўрокаў С ц я п а н, К о с ц я, А н т о с ь, Д з і м а, В а л о д з ь к а і Л е н к а с а б р а л і с я на беразе возера* (М. Г а м о л к а. Лета ў Калінаўцы).

У адзіночным ліку выказнік ставіцца:

1. Калі ён адносіцца да двух аднародных дзейнікаў, якія маюць форму адзіночнага ліку і звязаны паміж сабою супраціўным злучнікам: *Цяпер ужо н е д з я д з ь к а, а К а с т у с ь панура к л е н ч ы ц ь спераду* (Я. Б р ы л ь. Казачок). *Н е к а в а л а к х л е б а дзядзьку Мікалая на тыя сцірты цягне, а с у м л е н н е чыстае* (А. Б я л е в і ч. Запольскія салаўі). *П л а ц і ц ь н е б а г а т ы, а в і н а в а т ы* (прыказка).

2. Калі выказнік знаходзіцца паміж двума аднароднымі дзейнікамі, якія выражаны формамі адзіночнага ліку: *У лозах шчэбет не сціхае, ш у м с т а і ц ь і с в і с т, у яркім бляску спачывае на ракіце ліст* (Я. К о л а с. На лузе). *С т а р ш ы н я г а р у е і з а г а д ч ы к фермы* (К. К р а п і в а. Шэпча бабка, шэпча...).

У іншых выпадках пры аднародных дзейніках, якія абазначаюць асоб ці прадметы, звязаны паміж сабою пры дапамозе адной інтанацыі або інтанацыі і злучнікаў, знаходзяцца перад выказнікам або пасля яго, выказнік можа ўжывацца як у адзіночным, так і ў множным ліку: *З л е з ф у р м а н, с л у г і, п а н, п а н і, п а н е н к і* (Я. К о л а с. У балоце). *І д у ц ь б а б у л я, і маленькі ў н у к, і ў н у ч к а з д з е д а м ад гадоў гарбатым* (А. А с т р э й к а. Магілёўскае шасэ). *У вушшу п а ч у ў с я знаёмы с в і с т бомбы, рэзкі в ы б у х, шалёны в і з г ашкалёпкаў, сухі ш о р г а т ападаўшага друзу, пяску* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *У голасе камандуючага п а ч у л і с я вялікая з а к л а п о ч а н а с ц ь і н е с п а к о й* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Рознагалосае*

*іржанне, усхрып, ценькі зазлаваны* *п і с к р а з л я г а ў с я ў па-ветры* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *С п а л о х, б о л ь і р а д а с ц ь адначасна а з в а л і с я ў гэтым воклічы* (В. Быкаў. Альпійская балада).

§ 689. Калі пры аднародных дзейніках ёсць абагульняючае слова, то выказнік ставіцца ў адзіночным або множным ліку ў адпаведнасці з формай ліку абагульняючага слова: *Засыпаныя снегам шпалы, старыя трухлявыя пні дайно загубленых дрэў, гнілыя галіны — у с ё в ы г л я-д а л а з-пад снегу і ў с ё, здавалася, р а д а в а л а с я, што не апошні раз бачыла сонца* (Я. Колас. На ростанях). *Тут жыў калісьці вялікі Ленін, пра што р а с к а ж у ц ь у с е з ахвотай: і кожны газда, Паронец пенны, і гальны вецер, і шчыт Гевонта* (М. Танк. Хата гураля). *Ні клопат, ні штодзённая часам і аднастайная работа — н і ш т о н е с п ы-н і ц ь тваіх парыванняў, н і ш т о н е п а д р э ж а тваіх к р ы л л я ў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 690. У размоўных стылях сучаснай беларускай мовы наглядаюцца выпадкі адсутнасці дапасавання дзеяслоўнага выказніка да дзейніка ў ліку ў наступных выпадках:

1. Калі дзейнік выражан назоўнікам, займеннікам або іншай суб-стантывіраванай часцінай мовы ў форме множнага ліку, а выказнік — дзеясловам загаднага ладу адзіночнага ліку са значэннем умоўнага або абвеснага ладу. У першым выпадку такі выказнік указвае на ўмову, пры якой можа адбыцца дзеянне, у другім — на дзеянне, якое абавязкова павінна адбыцца: *С х і л і с я г а л і н ы яшчэ трошкі — і пісталет вы-паў бы ў ваду* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). *Але ў тых жа Хайрутовічах малатарню паламалі, хлеб у бабках пагніў, а м ы за іх з д а в а й* (І. Навуменка. Вясновыя праталіны).

2. Калі дзейнік, які абазначае асобу, выражан назоўнікам адзіноч-нага ліку, а выказнік — дзеясловам абвеснага або ўмоўнага ладу множ-нага ліку. Такія канструкцыі супярэчаць нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы і зрэдку ўжываюцца ў мастацкіх творах пры пера-дачы выказванняў дзеючых асоб, якія асабліва падкрэсліваюць сваю павагу да тых, аб кім гавораць: *Не, дружок, памыляешся: іх в ы с о к а-б л а г а р о д з і е, палкоўнік Сцяпанаў, у Пецярбургу ж ы в у ц ь, а я толькі давераная асоба іх высокаблагародзія* (Я. Колас. На роста-нях). *А ваш т а т к а в е д а ю ц ь, як яно, дабро гэтае, мне даставалася* (М. Паслядовіч. Паўстанне). *Князёўна Н а т а л я з а г а д а л і табе нікуды не ісці і чакаць у афіцыні* (М. Лупсякоў. Паданне пра кніжніка). *П а н е н к а с я д з я ц ь у сваім пакоі, в ы ш ы в а ю ц ь* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Цётка Фрузына, вас П е т р а ч э н-к а ў к л і ч у ц ь* (В. Быкаў. На сцяжыне жыцця).

## ДАПАСАВАННЕ Ў РОДЗЕ

§ 691. У родзе да дзейніка дапасуюцца выказнікі, якія выражаны дзеясловамі абвеснага ладу прошлага часу адзіночнага ліку і дзеясло-вамі ўмоўнага ладу адзіночнага ліку: *Х л а п ч у к в я р н у ў с я назад, в ы ц я г н у ў з саней з-пад саломы сурамцовую пугу і п а д а ў с я зноў у сельсавет* (К. Чорны. Не хачу гэтак). *З а п л а к а л а з і м а пад капяжамі мільёнамі слёз* (Я. Колас. Дрыгва). *З магілак і ш л о прыглушанае адлегласцю в о д г у л л е галасоў* (П. Галавач. Нось-біты нянавісці). *А н т о н п а з н а ў б ы яго сярод тысяч іншых* (П. Кавалёў. Прыгожая). *Можа б К л а в а і н е в я р н у л а с я да Галайні, калі б не яе бацька* (М. Гроднеў. Сцяпан Покат).

§ 692. Пры дзейніку, выражаным уласным незмяняльным назоўні-кам, які абазначае асобу, выказнік ставіцца ў форме мужчынскага або жаночага роду адпаведна полу гэтай асобы: *І а ж з д р ы г а н у ў с я на якую хвіліну Ю м о а* (М. Лынькоў. Агні Танганьікі). *З і р н у л а*

*Мгу і закрычала з няменшым жахам* (Я. Маўр. Сын вады). *Маро пайшла ў кут, прынесла адтуль дошку і паклала яе ў створку дзвярэй* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Хоці хуценька адчыніў дзверцы клеткі і пусціў туды птушку* (Л. Арабей. Калібры).

Гэта правіла дапасавання выкарыстоўваецца яшчэ і ў такіх выпадках:

1. Калі дзейнік выражан змяняльным уласным або агульным назоўнікам, які адной родавай формай абазначае асоб мужчынскага і жаночага полу: *Шмат дзён ужо Саша не бачыў малых* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *Саша ў знаёмай сукенцы ляжала пад яблыняй і чытала* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Зімою агранам часцей за ўсё жыў у горадзе, а на лета прыязджаў у пілацееўскі маёнтак, блукаў па лесе і па полі, зрэдку даючы такія-сякія парады панскаму аканому, і пісаў вершы* (П. Галавач. Праз гады). *Старшы агранам павярнула на вузкую сцежку ўздоўж высокага берага рэчкі і хутка знікла з відавоку* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Стараста, прабіраючыся праз кусты, заўважыў дзяўчыну і затрымаўся* (П. Кавалёў. Спяваць вам, сёстры). *«За» выступіла стараста класа* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

2. Калі дзейнік выражан асабовым займеннікам *я* або *ты*: *Я з вялікай радасцю кінуў бы ўсю гэтую работу* (К. Чорны. Зямля). *Я ўсё толькі і думала аб табе* (В. Каваль. Ліпы). *А чаму ты не галасаваў за Халамееву прапанову?* (П. Галавач. Праз гады). *Ты мяне зразумела б адразу, я гэта ведаю* (Я. Скрыган. Наталя).

§ 693. Пры дзейніку, выражаным іншым займеннікам, які не мае родавых форм (*хто, што, ніхто, нішто, нехта, нешта* і інш.), выказнік ставіцца ў форме мужчынскага роду, калі займеннік указвае на асобу, і ў форме ніякага роду, калі займеннік указвае на прадмет: *Хто на лугу пакінуў след, з духмяных траў абіўшы росы?* (М. Танк. На родных гонях). *Як відаць, яе нішто не прымацоўвала тут, ніхто не цікавіў* (Я. Колас. На ростанях). *Нехта збоку тузануў яго за полу жакеткі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ад нечаканага гора нешта спарахнела ў Іванавай душы* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Хтосьці рэзка пацягнуў да сябе па падлозе табурэт, віснулі спружыны ложка* (А. Алешка. Першыя крокі). *Раптам штосьці залапацела над галавой* (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор).

§ 694. Пры дзейніку, выражаным незмяняльным назоўнікам, які абазначае жывёлу або іншую істоту, выказнік звычайна ставіцца ў форме мужчынскага роду: *Замест папуаса перад імі ляжаў... кенгуру, так званы «лазячы кенгуру», які водзіцца галоўным чынам на Новай Гвінеі* (Я. Маўр. У краіне райскай птушкі). *Праз некалькі дзён сапі ледзь цягаў ногі* (Я. Маўр. Амок).

Калі неабходна падкрэсліць, што жывёла ці іншая істота з'яўляецца самкай, то выказнік ставіцца ў форме жаночага роду: *Шымпанзе захварэў — шымпанзе захварэла.*

§ 695. Пры дзейніку, выражаным незмяняльным назоўнікам, што абазначае неадушаўлёны прадмет, выказнік звычайна ставіцца ў форме ніякага роду, бо ўсе гэтыя назоўнікі, за рэдкім выключэннем, у беларускай літаратурнай мове выступаюць іменна з такой родавай прыметай: *Кашнэ дзе падзелася? Я горла прастуджу* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Праз момант аўто імчала да біскупскай рэзідэнцыі* (Э. Самуйлёнак. Урачыстая меса). *Нічыпар нават здзівіўся, калі апынуўся ля дома, дзе размяшчалася адраснае бюро* (А. Асіпенка. Дарога ў даль). *Пад'ехала таксі* (М. Ваданосаў. Пераломнае лета). *У бронзавай аправе красавалася вы-*

*сокае, ледзь не пад самую столь, т р у м о* (М. Д а н і л е н к а. Урокі жыцця).

§ 696. У форме ніякага роду ставіцца выказнік і пры дзейніку, які выражан незмяняльнай часцінай мовы, формай змяняльнай часціны мовы, часткай слова, назвай літары, субстантывіраваным словазлучэннем і цэлым сказам: *І гэта «д о б р а» чамусьці так к а л ь н у л а Косцю, што ён ажно падскочыў* (І. Ш а м я к і н. Наташа). *Вароты ў гумне былі адчынены, і адтуль д а н о с і л а с я прагавіта-заядлае « х р у м-х р у м! х р у м-х р у м!»* (Я. К о л а с. На ростанях). *Раптам у начной цішыні г р ы м н у л а задорнае дружнае «ў р а»* (А. Я к і м о в і ч. Языковы доўг). *Асабліва прыемна г у ч а л а ў некаторых словах «л», падзіцячы падобнае на «в»* (У. К а р а т к е в і ч. Каласы пад сярпом тваім). *Гэтае «я ж к а в а л ь» Платона с п а л о х а л а* (М. Р а к і т н ы. Млын).

§ 697. У форме ніякага роду выказнік ставіцца і пры дзейніку, які выражан субстантывіраваным займеннікам, у прыватнасці асабовым: *«Ну, а што? — с к а з а л а маё другое «я», — пытанне гэтае трэба пусціць па двух лініях»* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *Гэтае «м ы» найбольш у р а з і л а Тышкевіча* (А. А с і п е н к а. Вогненны азімут).

§ 698. Калі дзейнік выражан незмяняльным назоўнікам або незмяняльным спалучэннем слоў, што абазначаюць уласную геаграфічную назву, выказнік дапасуецца ў родзе да таго агульнага назоўніка, які ў адносінах да назоўніка ўласнага з'яўляецца родавым паняццем, параўн.: *Тбілісі* — горад, *Кракатау* — вулкан, *Поперак Дарогі* — востраў, *Палеастомі* — возера, *Сагвасаліо* — сяленне: *Але Т б і л і с і, як фенікс, зноў п а д ы м а ў с я, зноў р а с п р а ў л я ў к р ы л л е, зноў с п я в а ў сваю салаўіную песню* (Б. М і к у л і ч. Развітанне). *Злева ц я м н е ў с я «П о п е р а к Д а р о г і», справа далёка мільгануў агонь маяка* (Я. М а ў р. Амок). *Б у ш а в а л а П а л е а с т о м і, усё больш люта налятаў вецер з мора, гучней біў морскі прыбой за пясчанай касой, што адлучала мора ад возера* (Э. С а м у й л ё н ак. Будучыня). *Воддалі, на плоскім узгорку, зялёным астраўком у з в ы ш а л а с я над балотамі С а г в а с а л і о* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

§ 699. Да дзейніка, які выражан змяняльным назоўнікам, што з'яўляецца ўласнай назвай парахода, калгаса, саўгаса, газеты, мастацкага твора і г. д., выказнік дапасуецца ў родзе па агульнаму правілу. Калі ж пры гэтай уласнай назве ёсць родавае паняцце, то выказнік у родзе дапасуецца да яго, бо ў сказе родавае паняцце выконвае функцыю дзейніка, а ўласная назва выступае пры ім як азначэнне-прыдатак: *Ноччу «П а б е д а» п р а й ш л а Мармуровае мора і на світанні ўжо н а б л і ж а л а с я да Стамбула* (І. М е л е ж. Ліпень у дарозе). *На світанні ц е п л а х о д «Пабеда» п р а п л ы ў Басфор, і вось перад намі разліло сваю шыза-зеленаватую шыр роднае Чорнае мора* (І. М е л е ж. Ліпень у дарозе).

§ 700. Калі дзейнік выражан нескланяльным складанаскарочаным словам, то выказнік дапасуецца ў родзе да таго слова, якое з'яўляецца галоўным у словазлучэнні, што з'явілася базай для ўтварэння складанаскарочанага слова: *К Н П 3-га Беларускага фронту р а з м я ш ч а ў с я ў 12 кіламетрах ад горада Дуброўна, каля невялічкай вёскі Рэдзькі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Р А П П, якая прэтэндавала на выключнае месца ў літаратурным жыцці ды стала метадамі каманды, пакрыквання, сектанцкіх інтрыг і грызні навязваць усім і кожнаму свае вульгарна-сацыялагічныя догмы,— в а б і л а к сабе розных гарлахватаў* (У. К а л е с н і к. Час і песні). *Нядаўна Г К Б у з я л о с я з а р а с п р а ц о ў к у праекта парка на базе маладога лесу ў раёне нядаўна забудаванага жылога масіву «Фестывальны»* (з газет).

Калі складанаскарочанае слова, якое выступае ў ролі дзейніка, скланяецца, то выказнік дапасуецца да яго ў родзе па агульнаму правілу:

*Ён вырас да тых дзён, калі* *к а л г а с* *п р ы й ш о ў* *на вёску, рушачы ўстоі* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *І калі ранняй вясной* *р а й в ы к а н к о м* *Гецольду* *п р а п а н а в а ў* *для тытуню ўчастак у паўтара гектара, ён згадзіўся* (А. К а р п ю к. Мая Гродзеншчына). *Н э п* *а к т ы в і з а в а ў* *дзейнасць капіталістычных элементаў у горадзе і вёсцы* (І. К у д р а ў ц а ў. Кузьма Чорны).

### ДАПАСАВАННЕ ВЫКАЗНІКА, ВЫРАЖАНАГА ФОРМАМІ ІМЕННЫХ ЧАСЦІН МОВЫ І ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАЎ

§ 701. Выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, дапасуецца да дзейніка ў склоне і ліку: *Д р у ж н а с ц ь* — *першы* *к р о к* *свабоды,* *з г о д а* — *с і л а* *грамады* (Я. К о л а с. Песні вясны). *Старажытная* *Б е л а в е ж а* — *усхвалёваны* *а к і я н* (П. П а н ч а н к а. Белавежа). *Кажуць,* *ж а н ч ы н ы* *ш т о* *к в е т к і* — *расцвітаюць вясной* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні). *Тут адвечныя* *г а с п а д а р ы* — *п т у ш к і* (І. П т а ш н і к а ў. Бяроза маўчала). *К а м у н і с т* — *р ы ц а р* *прагрэсу і* *р а з в е д ч ы к* *будучыні* (У. К а л е с н і к. Час і песні).

Дапасавання ў ліку можа і не быць, калі выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, абазначае абстрактнае паняцце або дае якасную характарыстыку прадмету ці асобе: *М о г і л к і* — *с і м в а л* *канца чалавечага існавання* (Я. К о л а с. На ростанях). *Кажуць,* *в о ч ы* — *д у ш а* *чалавека* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *А к у л я р ы* — *надзейная* *г а р а н т ы я* *службовай саліднасці* (В. В і т к а. Палёт чмяля). *Э к з а м е н ы* *н е* *с в я т а,* *гэта ўпартая і адказная праца* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Чарвячок). *Сінеючыя* *л я с ы* *ўсходніх ваколіц Навагрудка* — *к а л ы с к а* *гэтага партызанскага атрада* (В. Т а ў л а й. Катоўцы).

Не дапасуюцца да дзейніка ў ліку таксама выказнікі, якія выражаны сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі, дзе назоўнік у форме назоўнага склону ўжо амаль страціў сваё самастойнае лексічнае значэнне і выступае ў ролі ўказальнага займенніка: *Чарнавокія нашы* *с у с е д к і* — *м а л а д ы* *і* *п р ы г о ж ы* *н а р о д* (П. П а н ч а н к а. Патрыятычная песня). *Кажуць,* *л і ч б і н ы* — *с у х а я,* *н у д н а я* *р э ч* (У. К а р п а ў. Вясеннія ліўні).

Не дапасуюцца да дзейніка ў ліку і выказнікі, выражаныя назоўнікам, што не мае форм ліку: *Лісты, лісты!* *Я н ы* *я к* *п о р а х,* *ад сэрца іх далей трымай!* (М. Т а н к. Адасланыя лісты). *Р у б е л ь* *таксама* *г р о ш ы* (з газет).

§ 702. Выказнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, у родзе да дзейніка не дапасуецца. Калі ж ёсць парныя назоўнікі аднаго кораня для назвы асоб ці жывёл, якія адрозніваюцца сваім полам, то ў ролі выказніка звычайна выступае назоўнік таго роду, што і назоўнік, які выступае ў ролі дзейніка: *Ё н,* *Вaraновіч,* *н а с т а ў н і к,* *чалавек з адукацыяй, а гэты грубымі рукамі ледзьве выводзіць каракулі на паперы* (І. Д у б р о ў с к і. Жывая слава). *Мая* *ж о н к а* *н а с т а ў н і ц а,* *і ў мяне хапае, калі б я захацеў выпіць* (Я. Е р м а л о в і ч. Прыкры вузел). *К у л а г а* *М а ц в е й* — *былы* *в у ч а н ь* *Міхаіла Дзем'янавіча* (М. Д а н і л е н к а. Цудоўны почырк). *Г а л я* — *в у ч а н і ц а* *трэцяга класа* (Л. А р а б е й. Васількова бант).

У афіцыйным і кніжным моўных стылях пры дзейніку, які абазначае асобу жаночага полу, можа ўжывацца выказнік, выражаны назоўнікам мужчынскага роду, калі ён абазначае прафесію, род заняткаў, спецыяльнасць. У мастацкіх стылях у такіх выпадках выкарыстоўваюцца аднакарэнныя назоўнікі жаночага роду: *М а р ы я* *Я к а ў л е ў н а* *Д а н і л а в а* — *адказны* *с а к р а т а р* *гарадскога Савета дэпутатаў працоўных* (Я. Б р ы л ь. Гэта было ў Рагачове). *У с ц я* *Ч ы п у р к а* — *цяпер* *с а-*

*кратар пруцікаўскай камсамольскай арганізацыі* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Яна асабістая сакратарка* (Л. Вірня. Сюрпрыз).

Заўвага. Пры дзейніку, выражаным асабовым займеннікам *я* або *ты*, у ролі выказніка з двух магчымых аднакарэнных назоўнікаў выступае назоўнік таго роду, якога роду прадмет або якога полу асоба прадстаўлена гэтымі асабовымі займеннікамі: *Я — калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю* (Я. Купала. Я — калгасніца). *Ты, Коля, вялікі выдумшчык і фантазёр* (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

§ 703. Выказнік, выражаны прыметнікам, парадкавым лічэбнікам, колькасным лічэбнікам *адзін*, займеннікавым прыметнікам або дзеепрыметнікам у форме назоўнага склону адзіночнага ліку, дапасуецца да дзейніка ў родзе, ліку і склоне: *Калышучы дзіцё, Хіма заўважыла, што твар у жанчыны не малады, добры і нейкі строгі* (В. Каваль. За доляю). *Адзін ён цяпер, сіраціна* (Я. Колас. Суд у лесе). *Ніякай цішыні, таямнічасці, і сам лес зусім не такі* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *З трох бакоў Гдыня акружана амфітэатрам зялёных узгоркаў* (Я. Брыль. Вачыма друга).

Выказнік, выражаны ўказанымі словамі ў форме назоўнага склону множнага ліку, дапасуецца да дзейніка ў ліку і склоне: *Адносіны да настаўніка ў яго афіцыйныя, строга начальніцкія* (Я. Колас. На ростанях). *Адны у нас з табою зоры, што над краінаю гараць* (П. Прыходзька. Літве). *І жанчыны іншыя: вусны занадта пажадлівыя, позірк манерны і жорсткі* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха). *Мае дзетачкі пазна-рана і накормлены, і прыбраны* (Я. Купала. Я — калгасніца).

Заўвага 1. Калі ў ролі дзейніка выступае асабовы займеннік *я* або *ты*, то родавая форма выказніка вызначаецца родам назоўніка або полам асобы, на якую ўказвае асабовы займеннік: *Я ў госці запрошан да важнага чына* (П. Панчанка. Здарэнне ў гасцях). *Ты яшчэ малы, сынок мой, я не пушчу цябе* (Р. Мурашка. Сын). *Цяпер я выгнаная* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Ты вельмі багатая, наша зямля: і горы, і нетры належаць табе* (П. Глебка. Мой шлях).

Заўвага 2. Калі ў ролі дзейніка пры ветлівым звароце замест займенніка *ты* выступае займеннік *вы*, выказнік, выражаны назоўнікам, прыметнікам, парадкавым лічэбнікам, колькасным лічэбнікам *адзін*, займеннікавым прыметнікам і дзеепрыметнікам, мае форму адзіночнага ліку: *Вы жонка паважанага Штрыпке?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Дзядзька Бабрук, — спытаўся Валодзя Цітовіч, — а чаму гэта вы адзінокі?»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Вы — малады, а паспелі так многа начытацца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Вы ж не заўсёды такая* (К. Крапіва. Проба агнём). *Я ж казала вам даўно, што вы чяўдалы* (К. Чорны. Зямля).

§ 704. Выказнік, выражаны назоўнікам у форме творнага склону без прыназоўніка, дапасуецца да дзейніка ў ліку: *Што зрабілі людзі з балотных палеткаў, сведкай верш мой гэты, вясна гэта сведкай* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Ён — старшым конюхам* (З. Бядуля. Крэўныя). *Мне ўжо дваццаты стукнула, а я ўсё пастухом* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). *Яна — настаўніцай, ён — старшынёй* (З. Астапенка. Эдэм).

§ 705. Выказнік, выражаны незмяняльным словам або склонавай формай змяняльных слоў, акрамя форм назоўнага і творнага склонаў без прыназоўніка, да дзейніка не дапасуецца: *А тут слёзы кап-кап!* (Я. Купала. Не кляніце мяне). *Сядайце, вось і чай дарэчы, кладзіце цукар... ну, нішто?* (С. Грахоўскі. Аганёк уначы). *Цяпер ужо Анюта замужам* (Я. Брыль. Рамонкавы россып). *Сцены з новых плашак і нават з мохам* (К. Чорны. Рамонтная брыгада). *Мой Хвёдар не з такіх* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Заўвага. Складаны выказнік дапасуецца да дзейніка кожным сваім канструктыўным кампанентам паасобку: канструктыўны кампанент, выражаны асабовай дзеяслоўнай формай, дапасуецца, як і аналагічны просты дзеяслоўны выказнік, а канструктыўны кампанент, выражаны формай назоўнага або творнага склону назоўніка, прыметніка, лічэбніка, займеннікавага прыметніка і дзеепрыметніка, дапасуецца, як і аналагічны просты іменны выказнік.

# ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

## ДАПАЎНЕННЕ

§ 706. Дапаўненнем называецца дадаены член сказа, які абазначае прадмет у яго аб'ектных адносінах да дзеяння, другога прадмета ці прызнака, названага кіруючым словам, або дзеянне (стан, працэс) у яго аб'ектных адносінах да папярэдняга дзеяння, названага асабовай формай дзеяслова.

Дапаўненне як член сказа найчасцей выражаецца субстантыўнымі часцінамі мовы — назоўнікамі, асабовымі і азначальнымі займеннікамі, колькаснымі лічэбнікамі, а таксама словамі і спалучэннямі, якія функцыянальна набываюць прадметнае значэнне: *Хворыя памагалі слабейшым, прыбіралі іх ложкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усе за аднаго, а адзін за ўсіх* (народн.). *Маці сурова загадала яму змоўкнуць і ісці спаць* (І. Шамякін. У Маскву). *Цярэшка сядзеў у кабінеце і ўспамінаў «тады»* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Скажу вам дзякую яшчэ раз* (Я. Колас. Новая зямля). *Яна ў працы людзям замяніць сотні рук* (А. Русак. Думы за працай). *Сустрэнуся — «дзень добры» не дам* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

У сказе дапаўненні могуць адносіцца да розных лексіка-граматычных разрадаў слоў. У залежнасці ад гэтага яны падзяляюцца на тры асноўныя групы: 1) прыдзеяслоўныя дапаўненні, якія залежаць ад дзеяслова і яго форм — дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў; 2) прыйменныя дапаўненні, якія залежаць ад назоўнікаў, прыметнікаў і парадкавых лічэбнікаў; 3) прыадвербіяльныя дапаўненні, якія залежаць ад прыслоўяў.

Заўвага. Пры колькасных лічэбніках, а таксама ўказальных, азначальных, пытальна-адносных, няпэўных і адмоўных займенніках кіруемая форма роднага склону назоўніка ці асабовага займенніка з прыназоўнікам *з* не ўтварае самастойнага члена сказа і ў спалучэнні з імі выконвае ў сказе ролю дзейніка або дапаўнення: *Адна з дзяўчат падбегла к сталу* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Здзіўлена запытаў Андрэй, пазлядаючы на кожнага з іх* (там жа). *Мы яшчэ пабачым, хто з нас цвярдзейшы* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Што-ніі што з таго тут трэба ўспомніць* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Хто-небудзь з суседзяў мог бы звярнуць на гэта ўвагу* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Ніхто з кіраўнікоў завода не пытаўся аб забастоўцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## ПРЫДЗЕЯСЛОЎНЫЯ ДАПАЎНЕННІ

§ 707. Паводле характару пераходу дзеяння на аб'ект і формы выражэння прыдзеяслоўныя дапаўненні падзяляюцца на прамыя і ўскосныя.

Дапаўненне, якое залежыць ад пераходнага дзеяслова і абазначае прадмет у якасці аб'екта непасрэдна накіраванага на яго дзеяння, называецца прамым.

Дапаўненне, якое залежыць ад пераходнага або непераходнага дзеяслова і абазначае прадмет у якасці аб'екта ўскосна накіраванага на яго дзеяння, называецца ўскосным.

## ПРАМОЕ ДАПАЎНЕННЕ

§ 708. Значэнне аб'екта як спецыфічнай рысы дапаўнення ў прамым дапаўненні выступае найбольш выразна і акрэслена. Прамое дапаўненне выражаецца назоўнікамі або іншымі субстантывіраванымі часцінамі мовы, займеннікамі з абагульнена-прадметным значэннем, колькаснымі лічэбнікамі ці колькасна-іменнымі спалучэннямі. Гэтыя дапаўненні звычайна маюць форму вінавальнага склону без прыназоўніка. Яны абазначаюць аб'ект уздзеяння, пераадолення ў прасторы, аб'ект пачуцця, адчування ці ўспрымання, аб'ект думкі, увагі, размовы і г. д. (гл. «Дзеяслоўныя словазлучэнні», § 306—307). *А як ноч добра агортала зямлю, у кустах вылі ваўкі і трывожылі сабак* (К. Чорны. Зямля). *Лядовыя наплывы перапаўзалі рэйкі запаснога пуці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усе любілі яе, бо гэта была зямля бацькоў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Мы ўспаміналі сяброў, уяўлялі іх заклапочанасць, сумныя твары* (там жа). *Каб адчуваць радасць, трэба бачыць і сум* (З. Бядуля. Тры пальцы).

Прамое дапаўненне можа выражацца формай роднага склону без прыназоўніка, калі дзеянне, названае пераходным дзеясловам, ахоплівае не ўвесь прадмет, а толькі яго частку *(выпіць вады)* або калі пры пераходным дзеяслове, з якім звязана дапаўненне, ёсць адмоўе *не (не вывучыць урока): Назарэўскі папрасіў вады* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Вернецца Максім, дык няхай паедзе да Лабузы ў Прыцькі пазычыць сена* (Я. Колас. Дрыгва). *Жыццё не любіць тлену* (М. Лынькоў. Кавалак хлеба).

Форму роднага склону маюць і такія дапаўненні, якія адносяцца да пераходных дзеясловаў з прыстаўкай *на-* і ўказваюць на вялікую частку ці меру чаго-небудзь: *Эх, каб у яго былі грошы: кніжак, кніжак накупляў бы ён сабе!* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Заўвага 1. У мастацкай літаратуры пры пераходным дзеяслове з адмоўем *не* побач з формай роднага склону магчыма ўжыванне прамога дапаўнення ў форме вінавальнага склону. Асабліва часта ў форме вінавальнага склону пры гэтых дзеясловах прамое дапаўненне выступае ў тым выпадку, калі гутарка ідзе аб вядомым для суб'яседнікаў прадмеце або калі неабходна лагічна выдзеліць той ці іншы прадмет. Такое дапаўненне звычайна займае месца ў пачатку сказа: *Алесь Марціна прыплятае і ўсё шукае ды шукае, і не знаходзіць сваю страту* (Я. Колас. Новая зямля). *Цярэшку ніхто не заўважыў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Дапаўненне, якое адносіцца да інфінітыва, што ўваходзіць у склад дзеяслоўнага выказніка з адмоўем *не*, таксама побач з формай роднага склону можа часам ужывацца і ў форме вінавальнага склону: *Жонка не магла стрымаць свайго плачу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Сухая прыгожая восень не хацела аддаваць сваё хараство жудасным сілам вайны* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Я не маю права пакідаць бальніцу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 2. У безасабовых сказах магчыма ўжыванне вінавальнага склону назоўніка ў якасці прамога дапаўнення пры выказніку, выражаным дзеясловамі *відаць, чуваць, чуць* і вытворнымі ад іх безасабова-прэдыкатыўнымі формамі *відно, чутно*, а таксама *бачна: Зараз за лесам відаць стане вёску* (К. Чорны. Нянавісць). *Яго хаду стала чуць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Праз шыбы бачна кавалак сіняга неба* (І. Мележ. У завіруху).

У моўнай практыцы такія сказы звычайна замяняюцца асабовымі сказамі: *У баку, каля шашы, відаць была вёска* (Т. Хадкевіч. Сяброўства). *Чуваць былі стрэлы* (К. Чорны. Злачынца пакараны).

## УСКОСНАЕ ДАПАЎНЕННЕ

§ 709. У ролі ўскоснага дапаўнення выступаюць назоўнікі або іншыя субстантывіраваныя часціны мовы ў формах роднага, давальнага і творнага склонаў без прыназоўнікаў або ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі.

Дапаўненні, выражаныя беспрыназоўнікавымі формамі назоўнікаў або іншых часцін мовы з прадметным значэннем, могуць абазначаць аб'ект пажадання, дасягнення або ўнікнення, пазбаўлення

(у форме роднага склону), аб'ект, на які накіравана дзеянне або для якога яно адбываецца, асобу, якой уласцівы пэўны стан, пачуццё (у форме давальнага склону), прадмет, пры дапамозе якога ўтвараецца пэўнае дзеянне, прадмет напаўнення або надзялення чым-небудзь, прадмет заняткаў ці аб'ект кіравання (у форме творнага склону).

Падрабязна аб значэннях ускоснага аб'екта ў беспрыназоўнікавых дзеяслоўных канструкцыях гл. «Дзеяслоўныя словазлучэнні», § 301—302, 304, 313.

*З нецярплівасцю Мікола чакаў п а с е д ж а н н я ячэйкі* (З. Б я д у л я Язэп Крушынскі). *Пазбыцца гэтых с н о ў і з'я ў былых не ў сілах я і с ё н н я* (Я. К о л а с. З дарогі). *Кланялася ніва  і м  нізка да зямлі* (А. Р у с а к. На Прыпяці). *Ё й  не спалася* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Коні пужліва замахалі  г а л о в а м і* (М. Л ы н ь к о ў. Воўчы лог). *Пахла густым п'яным в о д ы р а м ападаўшага лісця* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Ён не толькі займаўся к а в а л ь с т в а м* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Я сказаў, што сам буду кіраваць к а р а б л ё м* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

Дапаўненні, выражаныя формамі ўскосных склонаў з п р ы н а з о ў н і к а м і, вызначаюцца шырынёй ужывання і семантычнай разнастайнасцю. Яны могуць абазначаць матэрыял, з якога што-небудзь прыгатаўляецца, аб'ект увагі, заняткаў, прадмет ці асобу, у карысць якіх або без удзелу якіх адбываецца дзеянне, носьбіта пэўнага дзеяння, стану і г. д. (у форме роднага склону з прыназоўнікамі *з, да, для, без, у* і інш.), аб'ект дачынення, накіраванасці або набліжэння (у форме давальнага склону з прыназоўнікам *к*), прадмет, у які што-небудзь пераходзіць, пераўтвараецца або ў адносінах да якога праяўляецца ці на які накіравана пэўнае дзеянне, аб'ект дасягнення, уздзеяння або сутыкнення, пераадолення, аб'ект думкі, размовы і г. д. (у форме вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на, за, аб, праз, цераз, пра* і інш.), прадмет, сумесна з якім ці ў суправаджэнні якога ўтвараецца дзеянне, названае дзеясловам-выказнікам, прадмет ці паняцце ў якасці аб'екта ўвагі, мэтанакіраванага дзеяння і г. д. (у форме творнага склону з прыназоўнікамі *з, за, між, паміж* і інш.), асобу, прадмет ці з'яву, якія служаць аб'ектам пэўнага дзеяння, стану, пачуцця, думкі, размовы (у форме меснага склону з прыназоўнікамі *у, на, па, аб* і інш.).

Падрабязна аб значэннях ускоснага аб'екта ў прыназоўнікавых дзеяслоўных канструкцыях гл. «Дзеяслоўныя словазлучэнні», § 318—423.

*І несла залаты вянок, што з к а л а с о ў сплала* (А. Р у с а к. Сустрэча). *Я ззамаладу прывык д а  р а б о т ы* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Васіль набыў д л я  к а л г а с а трохтонку* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *У я г о моцна забалела рука* (з газет). *Яна абярнулася к  В а с і л ю* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Яны хіляць галаву д а  с н у, ахіляюць яе ў чароўныя м а р ы* (М. Л ы н ь к о ў. Крот). *Ён не меў часу калі і пакрыўдзіцца н а  гэту ж а н ч ы н у* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *З а  шчасце, з а  в о л ю,  з а  к р а й  родны гэты — ну, хто не паўстане, спытай?* (Я. К о л а с. Дзед-калгаснік). *А б  к о р а н ь дуба конь б'е капытом* (А. К у л я ш о ў. Табуны). *Клемусь пералез ц е р а з  п л о т* (К. Ч о р н ы. Зямля). *П р а  б р ы г а д у напісалі ў заводскай шматтыражцы* (У. Ш а х а в е ц. Пасля вяселля). *Мінула восень, а за ёю прыйшла з м а р о з а м і зіма* (Я. К у п а л а. Магіла льва). *Станіслаў сачыў з а  с ц э н а й* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Жаліцца ў н я ш ч а с ц і не было каму* (Я. К у п а л а. Нікому). *А злосць спаганяе н а  п а р а б к а х* (М. Л ы н ь к о ў. Воўчы лог). *Я п а  і м  засумаваў* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Усе думалі а б  а д н ы м* (Э. С а м у й л ё н а к. Сон).

§ 710. Акрамя назоўнікаў і іншых слоў з субстантыўным значэннем, дапаўненне можа выражацца інфінітывам, які ўваходзіць у склад дзеяслоўных словазлучэнняў і з галоўным словам — асабовай формай дзеяслова знаходзіцца ў аб'ектных адносінах. Аб'ектны інфінітыў у ролі

дапаўнення можа абазначаць дзеянне, якое з'яўляецца аб'ектам канкрэтнага дзеяння, названага асабовай формай дзеяслова, або аб'ектам волевыяўлення, мэтанакіраванага дзеяння і г. д. (гл. «Дзеяслоўныя словазлучэнні», § 430). *Маці падала снедаць, а сама пайшла ў горад* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Наўздагон выцягваюць вецце кусты, дарэмна просячы пачакаць* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны). *Трус угаварыў і мяне прачытаць свой верш* (Р. Сабаленка. Жыццё і дзейнасць).

## ПРЫЙМЕННЫЯ ДАПАЎНЕННІ

### ДАПАЎНЕННІ, ЯКІЯ АДНОСЯЦЦА ДА НАЗОЎНІКАЎ

§ 711. Прыйменныя дапаўненні могуць залежаць ад вытворных аддзеяслоўных або адпрыметнікавых назоўнікаў і назоўнікаў, не суадносных па ўтварэнню з іншымі часцінамі мовы.

Дапаўненні, якія адносяцца да аддзеяслоўных назоўнікаў, утвораных ад непераходных дзеясловаў, супадаюць па сваіх формаўтваральных і сэнсавых сувязях з адпаведнымі прыдзеяслоўнымі дапаўненнямі, параўн.: *жаданне поспеху — жадаць поспеху, кіраўніцтва боем — кіраваць боем, змаганне з ворагам — змагацца з ворагам.* Гэтыя дапаўненні абазначаюць аб'ект жадання, дасягнення або захаплення, асобу ці прадмет, дзеля якіх адбываецца дзеянне (у формах роднага, давальнага і творнага склонаў без прыназоўнікаў, гл. «Іменныя словазлучэнні», § 27, 30, 33), аб'ект, на які накіравана дзеянне або з якім яно звязана, аб'ект пазбягання ці вызвалення і г. д. (у формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, гл. «Іменныя словазлучэнні», § 36—133).

*Прага ратунку ахапіла людзей* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Гэтая стараннасць, гэтае шчырае адданне навуцы вывелі яе і тут на першае месца ў класе* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Уздым, захапленне працай зігінулі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Хлопца брала крыўда за бацьку, злосць на Чыкілевіча як галоўнага звадыяша і баламута* (Я. Колас. Адшчапенец). *Усе чакалі, чым жа скончацца ўрэшце гэтыя падзеі, ці будзе калі збаўленне ад пана, ад немца* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Імкненне к подзвігу жыло ў душы Савы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Мікола заўважыў перамену ў выразе яго твару* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Дапаўненні, выражаныя формай роднага склону без прыназоўніка, пры кіруючым слове, што ўтворана ад пераходнага дзеяслова, не паўтараюць узору дзеяслоўнага кіравання, хоць па значэнню і з'яўляюцца тоеснымі, параўн.: *абарона айчыны — абараняць айчыну* (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 27). *Адчыненне рабочага клуба будзе дастасавана да дня закладкі станцыі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Дапаўненні, якія адносяцца да адпрыметнікавых назоўнікаў, супадаюць па значэнню і форме з адпаведнымі прыад'ектыўнымі дапаўненнямі, параўн.: *пакорнасць лёсу — пакорны лёсу, задаволенасць згодай — задаволены згодай, шпаркасць у рухах — шпаркі ў рухах* (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 31, 34, 36—134). *Гэта была самая крайняя процілегласць мельніку і постаццю і голасам* (К. Чорны. Мельнікі). *Братняя чуласць да Зоські з'явілася адразу* (К. Чорны. Нянавісць).

Пры назоўніках, не суадносных па ўтварэнню або семантычна з іншымі часцінамі мовы, залежны член сумяшчае ў сабе побач з аб'ектнымі азначальныя або акалічнасныя значэнні, у выніку чаго да катэго-

рыі дапаўнення можа быць аднесен толькі ўмоўна (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 9—23, 29, 32, 36—133).

## ДАПАЎНЕННІ, ЯКІЯ АДНОСЯЦЦА ДА ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 712. У ролі прыад'ектыўных дапаўненняў могуць выступаць назоўнікі, асабовыя займеннікі, а таксама розныя субстантываваныя часціны мовы ў формах роднага, давальнага і творнага склонаў без прыназоўнікаў або ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі.

Дапаўненні, выражаныя склонавымі формамі без прыназоўнікаў, могуць абазначаць прадмет або паняцце ў якасці аб'екта напаўнення, надзялення (у форме роднага склону), асобу ці прадмет, якім уласціва ці прыпісваецца пэўная якасная прымета (у форме давальнага склону), прадмет, якім вызначаецца або канкрэтызуецца другі прадмет з боку яго знешніх або ўнутраных якасцей (у форме творнага склону) і г. д. (гл. «Словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова», § 164—170; 172—176).

*З грэблі спускалася ўніз поўная белых мяхоў фурманка* (Я. Брыль. На Быстранцы). *З дарагімі сэрцу думкамі адляцеў некуды далёка і Вольчын сон* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Першае, што кінулася ў вочы адразу, — гэта кракаўскія хамуты на конях, характэрныя сваімі трыма шпянямі над грывай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Дапаўненні, выражаныя формамі ўскосных склонаў з прыназоўнікамі, вызначаюцца шырынёй і разнастайнасцю значэнняў. Асабліва багатыя аб'ектнымі значэннямі дапаўненні, якія выражаны формамі роднага склону з прыназоўнікамі *ад, да, для,* вінавальнага склону з прыназоўнікамі *на, за,* творнага склону з прыназоўнікам *з(са),* месцнага склону з прыназоўнікам *у* і інш. (гл. «Словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова», § 180—271).

*Ён быў вольны ад работы* (К. Чорны. Трыццаць год). *Гэтая сустрэча была нечаканай для Васіля* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Следам бег сабака Гун, падобны да воўка* (Я. Колас. Макарка Навак). *Ён быў вельмі хціві на грошы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ажыўлены, памаладзелы, горды за савецкіх патрыётаў, з удзячнасцю ціснуў руку сыну і бацьку* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Чалавеку пабочнаму, які не знаёмы са справай, магло б здацца, што ён робіць усё залішне павольна* (І. Мележ. Блізкае і далёкае). *Варывончык быў настойлівым у сваіх рашэннях* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры).

Дапаўненні, якія залежаць ад прыметнікаў вышэйшай ступені параўнання, звычайна выступаюць у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за* і абазначаюць прадмет, з якім параўноўваецца другі прадмет: *Ён быў бялейшы за палатно* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. Магчымыя ў мастацкіх творах выпадкі выражэння гэтых дапаўненняў назоўнікамі ў форме роднага склону без прыназоўніка (*вышэйшы брата*) ці з прыназоўнікам *ад* (*вышэйшы ад брата*) з'яўляюцца парушэннямі літаратурнай нормы: *Рака наша слаўная, Нёман, чысцейшая чэрвеньскіх рос* (А. Астрэйка. Нёману). *Ён старэйшы ад мяне гадоў на чатыры* (Я. Колас. У палескай глушы).

## ДАПАЎНЕННІ, ЯКІЯ АДНОСЯЦЦА ДА ПАРАДКАВЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

§ 713. Дапаўненні пры парадкавых лічэбніках указваюць на прадметы, ад якіх пачынаецца лічэнне ці з ліку якіх вылучаецца пэўны прадмет (гл. «Словазлучэнні з лічэбнікам у ролі галоўнага слова»,

§ 295). Такія дапаўненні звычайна выражаюцца склонавымі формамі назоўнікаў (ці займеннікаў) з прыназоўнікамі. *У першым паcля сяней пакоі народу было больш* (К. Чорны. Не хачу гэтак). *Другая будка, чацвёртая ад сяла, была не больш як за паўвярсты ад трэцяе* (Я. Колас. У палескай глушы). *Міхась Старавойтаў, так звалі трэцяга з хлопцаў, ахвотна згадзіўся з такой прапановай* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

## ПРЫАДВЕРБІЯЛЬНЫЯ ДАПАЎНЕННІ

§ 714. Дапаўненні, якія залежаць ад прыслоўяў і безасабова-прэдыкатыўных слоў, указваюць на прадметы ці асобы, праз адносіны да якіх вызначаюцца пэўныя прызнакі (прасторавыя, часавыя, якасныя і г. д.) іншых прадметаў ці асоб. Гэтыя дапаўненні з'яўляюцца семантычна разнастайнымі (гл. «Словазлучэнні з прыслоўем у ролі галоўнага слова», § 437—439). Яны выражаюцца назоўнікамі, займеннікамі або іншымі часцінамі мовы з прадметным значэннем у формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі або, радзей, без прыназоўнікаў. *Там, у самым кутку, наводшыбе ад баракаў і далёка ад першай лініі, вырысоўваліся цёмныя абрысы нерухомых эшалонаў* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Ўстанеш летам раней зоркі, пойдзеш перша ў поле* (Я. Колас. Доля батрачкі). *Здала яна экзамен не толькі лепш за вучняў свае школы...* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *І нашы не горш за вашых* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Павал нічога не адказаў, бо было яму неяк нялоўка перад Сёмкам* (К. Чорны. Па дарозе).

## АЗНАЧЭННЕ

§ 715. Азначэннем называецца дадаты член сказа, які ўказвае на прымету прадмета, названага азначаемым словам. У ролі азначаемага могуць выступаць назоўнікі або колькасна-іменныя спалучэнні, зваротны займеннік *сябе*, няпэўныя займеннікі, а таксама розныя субстантываваныя часціны мовы і цэлыя спалучэнні слоў. *Жніўны напеў змяняецца вясельным* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Астатнія сто чалавек раўняліся ў рабоце на брыгаду Сцяпанавіча* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Ён ставіў побач ранейшага і цяперашняга сябе* (З. Бядуля. Салавей). *Аб нечым таямнічым ціха гамоняць дрэвы* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *Гэтым «яны» хацеў Грамабой адгарадзіць ад «іх» Ганскага і перацягнуць на свой бок* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Да мяне не прыйдуць маіх трое, але слава іх навек не згіне!* (К. Буйла. 9 мая 1945 года). *І гэтае «бачу» — звычайнае слова, нахлынула...* (А. Куляшоў. Першая стрэча). *Цяпер ужо і самі многія над гэтым «пасля» смяюцца* (Я. Брыль. Гаспадар). *З кожным «я», «як» голас у крытыка павышаўся* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Стаяла, слухала, ці не пачуе ў лесе знаёмае «но!»* (Я. Колас. Калядны вечар). *Язэп не адказваў на гэтае Васілёва «дзень добры»* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

Круг марфалагічных катэгорый і форм, пры дапамозе якіх выражаюцца азначэнні, таксама даволі шырокі і разнастайны. Азначэнне можа выражацца прыметнікамі і іншымі атрыбутыўнымі формамі, склонавымі формамі назоўнікаў без прыназоўнікаў ці з прыназоўнікамі, інфінітывам, прыслоўем і дзеепрыслоўем. У залежнасці ад марфалагічнага выражэння азначэнняў і характару граматычнай сувязі іх з азначаемымі словамі азначэнні падзяляюцца на дапасаваныя і недапасаваныя.

## ДАПАСАВАНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 716. Дапасаваныя азначэнні выражаюцца прыметнікамі, лічэбнікамі, займеннікамі з абагульнена-якасным значэннем, дзеепрыметнікамі. Да ліку дапасаваных азначэнняў адносіцца і прыдатак як іх асобая разнавіднасць (гл. § 724).

Азначэнні, выражаныя атрыбутыўнымі часцінамі мовы, знаходзяцца ў поўнай сэнсавай і граматычнай залежнасці ад азначаемага слова. Яны набываюць адпаведную форму склону і ліку таго назоўніка, ад якога залежаць, а пры назоўніку, які мае форму адзіночнага ліку,— дадаткова і адпаведную форму роду. Аднак у дапасаванні азначэнняў да азначаемых слоў ёсць і свае асаблівасці. Сярод дапасаваных азначэнняў, выражаных колькаснымі лічэбнікамі, толькі лічэбнік *адзін* дапасуецца да азначаемага ва ўсіх формах — родзе, ліку і склоне. Лічэбнікі *два, абодва* дапасуюцца да азначаемага слова ў родзе і склоне, а лічэбнікі ад *трох* і далей—толькі ў склоне (за выключэннем назоўнага).

Азначэнне, якое адносіцца да колькасна-іменнага спалучэння з лічэбнікамі *два (дзве), тры, чатыры*, выступае пераважна ў форме назоўнага склону: *Дзве цёмныя постаці з'явіліся на вуліцы* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Майстар паказвае рукой на тры пакамечаныя аркушы* (Я. Брыль. Лазунок). Калі ж колькасна-іменнае спалучэнне абазначае недакладны лік прадметаў або мае экспрэсіўнае ўзмацняльна-якаснае адценне, то азначэнне пры ім можа выступаць у форме роднага склону: *Праз якіх тыдні два ты будзеш зусім спраўны* (К. Крапіва. Проба агнём). *Прайшоўшы добрых дзве гадзіны ад Дварка, Мікола сустрэўся з двума хлапчукамі* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Тут ён прасядзеў цэлых тры дні* (Я. Колас. У чым іх сіла). Пры выражэнні названых адценняў форму роднага склону звычайна маюць і такія азначэнні, якія адносяцца да непадзельных колькасна-іменных спалучэнняў з іншымі колькаснымі лічэбнікамі, пачынаючы з *пяці*: *Бегаеш, таўчэшся за якіх-небудзь няшчасных восем рублёў у месяц і яшчэ колькі ўшчункаў ды папрокаў атрымаеш* (Ц. Гартны. На перагібе). *Хлапчук ішоў сюды цэлых сорак кіламетраў пешкі* (Я. Брыль. Лазунок).

Азначэнне пры двух і больш азначаемых словах, выражаных назоўнікамі адзіночнага ліку, можа адносіцца да бліжэйшага з іх (і тады яно выступае ў форме адзіночнага ліку) або да ўсіх азначаемых слоў (у такім выпадку яно выступае ў форме множнага ліку): *Яна лёгка сцягнула задубелы ад марозу шынель і ватоўку* (І. Мележ. У завіруху). *Гэтыя яе весялосць і прыветлівасць адразу, у адзін момант, прымірылі з ёй Пятра* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

У дзвюх формах ліку можа выступаць і азначаемае слова, да якога адносяцца два і больш азначэнняў. Аднак з мэтай канкрэтызацыі, падкрэслівання таго, што гутарка ідзе не аб адным асобным прадмеце, а аб двух і больш падобных прадметах, азначаемае слова звычайна ставіцца ў форме множнага ліку: *Чацвёрты і пяты класы вучацца ў новым драўляным доме* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Недзе зусім блізка гавораць людзі: жаночы і мужчынскі галасы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Ты ніколі не парывай сувязі з тваімі роднымі вялікімі братамі — рускім і ўкраінскім народамі* (Я. Купала. Кліч да беларускага народа).

Азначэнні, якія адносяцца да нескланяльных слоў, дапасуюцца да апошніх толькі па сэнсу: *Вочы ў чалавека ў новым кашнэ наліліся непрытомным бляскам* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін).

§ 717. Дапасаваныя азначэнні, выражаныя якаснымі прыметнікамі, характарызуюць той ці іншы прадмет шляхам указання на яго якасць або ўласцівасць (колер, форму, памер, вагу, сілу, узрост, псіхічны стан і г. д.; гл. «Іменныя словазлучэнні», § 137). Якасныя прыметнікі выконваюць азначальную функцыю, як правіла, у членнай форме, якая, аднак, у вершаваных творах можа сцягвацца: *Збілі з дошак габляваных белу дамавіну і складалі ў ёй нявшчасну забіту дзяўчыну* (Я. Купала. Бандароўна). Ужыванне нячленных форм якасных прыметнікаў у ролі азначэння абумоўлена часцей за ўсё іх пэўнай стылістычнай нагрузкай: *Буйны ветры там зложаць песню-быль* (П. Трус. Чырвоныя ружы). *Ці прыкажаш мне пад кавыль-траву за цябе злажыць буйну галаву?* (там жа). *Каронаю бор мне зялёны, а тронам-пасадам бел снег* (Я. Купала. Мароз). *Ясну месячыку ў вочы зіркане тугой пужлівай* (Я. Купала. Песня). *Па калена яму сіне мора* (З. Бядуля. Палескія байкі).

Дапасаваныя азначэнні могуць выражацца якаснымі прыметнікамі ў сінтэтычнай або аналітычнай форме вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання: *Стварыць табе новыя моры яшчэ, шырэйшыя моры, мой мілы* (А. Зарыцкі. Равеснік мора). *Ён напружваў зрок, каб не прапусціць найдрабнейшай дэталі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Стрымлівае іх большураўнаважаны Гудзілка* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Але самы шчаслівы закаханы і самы натхнёны паэт урэшце стамляецца* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Іншы раз у ролі азначэння выступае кантамінацыя сінтэтычнай і аналітычнай форм параўнання якасных прыметнікаў: *Праз некалькі дзён мы мусім злучыцца ў больш мацнейшыя дружыны* (М. Чарот. Свінапас). *Але самы найтрагічнейшы гераізм — гэта адвечнае цярпенне* (З. Бядуля. Без споведзі).

Дапасаваныя азначэнні, выражаныя адноснымі прыметнікамі, указваюць на прымету, якая ўзнікае з адносін прадмета да месца яго знаходжання, часу існавання, да матэрыялу, рэчыва, з якога ён зроблен, да прызначэння, да колькасці, да дзеяння, стану, працэсу і г. д. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 138). Адносныя прыметнікі выконваюць ролю дапасаванага азначэння ў членнай форме: *А сонца неслі ў зорках на пілотцы разанскія і гомельскія хлопцы* (М. Лужанін. Ранішні спакой). *І гаворым мы пад шум хваёвы аб вялікім ворыве вясновым* (А. Зарыцкі. Ноччу ў полі). *Ліпнёвая раніца, ціхі ветрык цалуецца з жытам* (П. Трус. Яна). *Звоніць аб камень сталёвы нарог* (М. Танк. Чорныя скібы). *Дзіцячы гоман і плёскат вады чуўся трохі далей* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Грымнула трохразовае «ўра»* (з газет). *Пачаўся навучальны год* (там жа).

Адносныя прыметнікі ў выпадку пераносна-вобразнага ўжывання набываюць якасныя значэнні і характарызуюць азначаемы прадмет з боку якасці: *Ночкай зоры глядзяць залатыя* (Я. Купала. Курган). *Толькі сцелюцца тужліва шоўкавыя руні* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Ён нават усміхнуўся з-пад кепкі, з мядзведжай далікатнасцю пацісну́ўшы маю руку* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Не тоўпілася ў яго мястэчковай галаве, каб яго сястра Фрэйда зрабілася свінаркай* (З. Бядуля. Свінарка Фрэйда).

Дапасаваныя азначэнні, выражаныя адносна-прыналежнымі прыметнікамі, указваюць на адносіны прадмета да ўладальніка. Прычым большасць з гэтых азначэнняў указвае не на калектыўную, а на індывідуальную прыналежнасць (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 139).

З а ў в а г а. Сярод іншых разрадаў прыметнікаў у атрыбутыўнай функцыі прыналежныя прыметнікі займаюць нязначнае месца. Гэта тлумачыцца імкненнем мовы да дакладнасці ў абазначэнні адзінкавага і калектыўнага ўладальніка, а таксама немагчымасцю, за рэдкімі выключэннямі, выразіць прыналежнасць неадушаўлёнаму прадмету ў выпадку яго персаніфікацыі. У сувязі з гэтым у сучаснай мове актыўна развіваюцца канструкцыі з родным склонам назоўніка, якія з'яўляюцца больш гнуткім граматычным сродкам выражэння катэгорыі прыналежнасці (гл. § 722). Азначэнні, выражаныя прыналежнымі прыметнікамі, звычайна абмяжоўваюцца ўказаннем на бытавыя адносіны (*бацькаў, матчын, дзядзькаў, сынаў, гаспадынін голас* і інш.), а таксама на ўласныя імёны, ад якіх утвараюцца такія прыметнікі (*Харланаў сад, Васілёў адказ, Таніна віна*).

Прыналежныя прыметнікі ў формах назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага і множнага ліку выконваюць азначальную функцыю ў нячленнай форме: *Ціхі дом л е с н і к о ў адзінока стаіць* (Я. К о л а с. На адзіноце). *Часам т р а к т а р ы с т а в а цыгарка загарыцца ў цемрадзі нярка* (А. З а р ы ц к і. Ноччу ў полі). *С т а р ш ы н ё в ы бровы яшчэ больш збегліся на пераноссі* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Чарнавус павярнуў галаву на д а ч ч ы н голас* (А. К у л а к о ў с к і. Не выбралі). *Васіль убачыў к а м а н д з і р а в ы вочы — строгія, дапытлівыя* (І. М е л е ж. Таварышы).

Членную форму прыналежныя прыметнікі маюць ва ўскосных склонах, акрамя вінавальнага: *Праваднік асвятляе Б а г д а н о в і ч а ў твар ліхтаром* (Б. М і к у л і ч. Развітанне). *Глінскі зрабіў выгляд, што нават не пачуў б р ы г а д з і р а в ы х слоў* (А. К у л а к о ў с к і. У Чырвоным возеры). *Нотка дакору і строгасці пачулася ў б а б ч ы н ы м голасе* (Я. К о л а с. На ростанях).

Пры пэўных кантэкстуальных умовах прыналежныя прыметнікі набываюць якасныя значэнні і характарызуюць азначаемы прадмет паводле яго якасці: *Іх імкненне — бязмежжа-прыволле, нестрыманы палёт с а к а л і н ы* (П. Т р у с. Юны змаганец). *Родная партыя ўсё мне сказала, м а т ч ы н ы м словам узрадаван я* (А. З а р ы ц к і. Матчына слова). *М ы ш ы н ы я вочкі яго жвава бегалі ва ўсе бакі* (З. Б я д у л я. Салавей).

### АЗНАЧЭННІ, ВЫРАЖАНЫЯ ЗАЙМЕННІКАМІ

§ 718. У ролі азначэння могуць выступаць прыналежныя, указальныя, азначальныя, пытальна-адносныя, няпэўныя і адмоўныя займеннікі. Спецыфіка гэтых азначэнняў заключаецца ў тым, што яны не называюць канкрэтнай прыметы прадмета, а толькі ўказваюць на той ці іншы прадмет (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 140—146). Праўда, у паасобных выпадках у гэтым указанні на прадмет можа дадаткова змяшчацца і пэўная якасная (станоўчая ці адмоўная) ацэнка, мера, ступень.

*Не тая краіна м а я ўжо, не тая, і н а к ш а я постаць і сіла ў яе, на ў с і х асамблеях яна засядае і моцна с в о й голас за мір падае* (П. Б р о ў к а. Спеў новых дзён). *Н е й к і м графам належаў вякі г э т ы лес, г э т ы луг, г э т ы кут* (А. З а р ы ц к і. Шлях да праўды). *Т о е ж с а м а е начы т а к і ж выпадак вось с а м ы бачыць ён і з каласамі* (К. К р а п і в а. Біблія). *Заспявае — пасыплюцца зоры і на край, і на ц э л ы сусвет* (П. Г л е б к а. Я хацеў бы). *Над лермантаўскімі вяршамі ў с ю ноч сядзелі* (П. П а н ч а н к а. Маладосць у паходзе). *Ён узважвае к о ж н ы с в о й крок, к о ж н у ю с в а ю мысль і к о ж н а е с в а ё слова* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам). *І струны дзіўныя я к і я с ь ц і звіняць* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі). *Украіна! Табе вораг н і я к і не страшан* (Я. К у п а л а. Украіна).

## АЗНАЧЭННІ, ВЫРАЖАНЫЯ ЛІЧЭБНІКАМІ

§ 719. Дапасаваныя азначэнні, выражаныя колькаснымі лічэбнікамі, указваюць на пэўную або няпэўную колькасць прадметаў (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 295). Колькасныя лічэбнікі выконваюць азначальную функцыю толькі ва ўскосных склонах, паколькі ў форме назоўнага склону яны ўтвараюць разам з назоўнікам сінтаксічна непадзельнае спалучэнне. *Увага трох прыяцеляў спынілася на незнаёмых падарожных* (Я. Колас. На ростанях). *Падводы ехалі з розных вёсак па абодвух баках рэчкі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *На курсы механізатараў камандзіравалі некалькіх хлапцоў* (з газет).

Дапасаваныя азначэнні, выражаныя парадкавымі лічэбнікамі, указваюць на парадак прадметаў пры іх лічэнні (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 147). Парадкавыя лічэбнікі могуць выконваць ролю азначэння ў формах розных склонаў: *Настала чацвёртая ноч* (Я. Колас. Адзін). *Сёлета Толя скончыў трэці курс літаратурнага аддзялення універсітэта* (Я. Брыль. На Быстранцы).

## АЗНАЧЭННІ, ВЫРАЖАНЫЯ ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАМІ

§ 720. Адметнай рысай азначэнняў, выражаных дзеепрыметнікамі, з'яўляецца тое, што яны ў процілегласць азначэнням, якія выражаны іншымі атрыбутыўнымі формамі, характарызуюць азначаемае слова паводле прымет, аднесеных да пэўнага часу. У сувязі з гэтым такія азначэнні побач з атрыбутыўным значэннем маюць адценні прэдыкатыўнага значэння (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 148).

Азначэнні могуць выражацца дзеепрыметнікамі ў розных формах, хоць не ўсе з іх у аднолькавай меры характэрны для беларускай літаратурнай мовы. У ролі азначэння найчасцей выступаюць дзеепрыметнікі прошлага часу с суфіксамі *-н-, -т-, -л-*, радзей — з суфіксамі *-ш-, -ўш-*.

*Парэзаны плугамі бульбоўнік выглядаў з раллі* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Ён вярнуўся ў камору, зняў адбітую дзедам касу* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Схіляецца долу даспелае жыта* (К. Буйла. Летнім вечарам). *Аплыўшы, пагалены твар пасвятлеў* (Я. Брыль. Іржавая стрэмка). *Мужчыны сякерамі прабівалі замёрзшы пласт* (А. Кулакоўскі. Сад).

Што ж датычыць дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану цяперашняга часу (з суфіксамі *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-), -ем-, -ім-*), то ўжыванне іх у атрыбутыўнай функцыі абмежавана амаль выключна навуковым і публіцыстычным стылямі мовы, і толькі зрэдку яны пранікаюць у мову мастацкіх твораў. *Савецкія патрыёты пакрылі сябе нямеркнучай славай* (Я. Колас. На шляху да камунізма). *Сапраўды вялікую і грандыёзную* [культуру] *створым толькі мы — узыходзячы клас будаўнікоў новага жыцця* (Я. Купала. Створым літаратуру, лепшую ў свеце). *Колькі хвілін чуваць было заціхаючае рохканне, трэск кустоўя і заміраючыя чаўкаючыя гукі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Але сінеючы прастор бязмежны нам і цяпер, як і калісьці, люб* (П. Глебка. Зімовы адпачынак). *Людзі павінны былі плаціць яму за займаемае месца штогоднюю арэнду* (К. Чорны. Дарагуся).

Наогул не ўласцівы беларускай літаратурнай мове дзеепрыметнікі сярэдне-зваротнага стану (з часціцай *-ся*). Ролю азначэння яны выконваюць у вельмі рэдкіх выпадках. *Спакойна і паважна злез ён з воза ля гэткай самай, нічуць не змяніўшайся хібаркі, якую і пакінуў ён* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Яна чытала* [газеты і часопісы] *гуртку сабраўшыхся ў нядзелю на вуліцы сялян* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел).

## НЕДАПАСАВАНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 721. Недапасаванымі называюцца азначэнні, якія не прыпадабняюцца да форм азначаемага слова, а знаходзяцца з ім у граматычнай сувязі кіравання або прымыкання. У ролі недапасаваных азначэнняў могуць выступаць назоўнікі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў і марфалагічна нязменныя словы — інфінітыў, прыслоўе і дзеепрыслоўе.

### АЗНАЧЭННІ, ВЫРАЖАНЫЯ НАЗОЎНІКАМІ

§ 722. Недапасаваныя азначэнні, выражаныя беспрыназоўнікавымі формамі імён, вельмі разнастайныя па значэнню. Яны могуць указваць на знешнія або ўнутраныя якасці, уласцівасці прадмета, раскрываючы або ўдакладняючы яго змест, на прыналежнасць прадмета асобе, на адносіны асобы ці прадмета да месца іх знаходжання, да ўстановы, калектыву або арганізацыі, на ўтваральніка пэўнага дзеяння або на носьбіта той ці іншай з'явы (у форме роднага склону), на прызначэнне прадмета, на стан, у якім знаходзіцца асоба, на якасную ацэнку прадмета, яго меру (у форме давальнага склону), на змест азначаемага паняцця, на прыладу або спосаб дзеяння, на месца, памер або форму (у форме творнага склону) і г. д. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 9—34).

*Слёзы радасці стаялі ў дзедавых вачах* (К. Чорны. Насцечка). *На Станіслававым твары ўхмылка пераможцы* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Лабановіч акінуў вокам пакоік свайго калегі* (Я. Колас. У палескай глушы). *Мы ідзём з Ленай па вуліцы вёскі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Стук дзятла і зязюлі крык сустрэў вясёла ранне* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Было ўсё пад рукамі: прытуплены зрэзаны плуг, аброчная торба з кормам каню, прыпон* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Хутка яны ад спеваў «сола» перайшлі да спеваў «дуэтам»* (Х. Шынклер. Каб не формулы...). *Кожны стук малатком у цвік будзіў пачуццё ўласнасці* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Адзін са старых, з вострымі хітраватымі вачыма і бародкай клінком, смачна пыхнуў дымам* (У. Краўчанка. Апавяданне пра мужнае сэрца).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя склонавымі формамі імён з прыназоўнікамі, указваюць на самыя разнастайныя адносіны адных прадметаў да другіх, на іх знешнія або ўнутраныя якасці, адзнакі і г. д. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 36—134). Аднак неабходна адзначыць, што ўласна азначальную функцыю выконваюць параўнальна нямногія формы ўскосных склонаў з прыназоўнікамі; большасць іх побач з атрыбутыўным значэннем выражаюць дадаткова і розныя акалічнасныя (прасторавыя, часавыя і г. д.) або аб'ектныя адценні. *Гэта быў невялічкі танклявы хлапчына з кірпатым носам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Наперадзе цэлае жыццё, горкае і цёмнае, жыццё з малымі дзяцьмі, жыццё па чужых кутках, сярод чужых людзей* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Лабановіч захапляецца мыслямі аб вясне і аб вандроўніцтве* (там жа). *Прабеглі каля Аксінні кабеты з яе звяна* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Праз шчыліны ў вокнах пралазіць у хату з ветрам мяцеліца* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Дарога ад гаркома да завода была даволі доўгая* (Я. Скрыган. Наталя). *Сядзелі на канапцы і расказвалі пра сваё жыццё за восем месяцаў, што не бачыліся* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Праз дзень з'явіўся новы начальнік і з ім атрад у дваццаць чалавек* (Я. Маўр. У цясніне). *Квадрацік зямлі на шэсць аршын у хаце быў усёй Фросінай зямельнай гаспадаркай* (З. Бядуля. Фрося).

## АЗНАЧЭННІ, ВЫРАЖАНЫЯ МАРФАЛАГІЧНА НЯЗМЕННЫМІ СЛОВАМІ

§ 723. Недапасаваныя азначэнні, выражаныя інфінітывам, выконваюць функцыю раскрыцця зместу паняццяў, названых абстрактнымі назоўнікамі з агульным мадальным значэннем жадання, намеру, неабходнасці, магчымасці, патрэбы і г. д. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 150—157). *Зноў з'яўлялася жаданне нешта рабіць, неадкладна, зараз жа* (П. Галавач. Не так). *Усё не кідалі надзеі выратаваць хлопцаў* (Ц. Гартны. На перагібе). *Гарэў ахвотай узяцца за сяўбу* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *У яго ўзнікла неабходнасць падзяліцца думкамі* (з газет).

Пры назоўніках з канкрэтна-прадметным значэннем недапасаваныя азначэнні найчасцей указваюць на прызначэнне прадмета: *У школе ёсць машынка стрыгчыся* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя прыслоўем, абазначаюць прыметы па спосабу выканання дзеяння, названага аддзеяслоўным назоўнікам, па якасці, напрамку або месцу працякання дзеяння, па месцу знаходжання прадмета, па часе і г. д. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 158—160).

*Поглядам неўзаметкі, здаецца, правярае кожны рух чалавека* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сполах спрасонку саступіў месца нейкай дзіўнай абыякавасці* (М. Ракітны. Пад адным дахам). *Па дарозе дадому Люба забегла на медпункт* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Дзверы першага пакоя злева адчыніў Крайчанка* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Перастрэлка ноччу нас насцеражыла* (з газет).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя прыслоўямі, якія паходзяць ад дзеепрыслоўяў, колькасна абмежаваны. Яны звычайна ўжываюцца пры аддзеяслоўных назоўніках і ўказваюць на стан або спосаб дзеяння: *стральба стоячы, язда лежачы* і інш. (гл. «Іменныя словазлучэнні», § 161).

## ПРЫДАТАК

§ 724. Прыдатак — гэта асобы від азначэння, які выражаецца назоўнікам ці іншай субстантывіраванай часцінай мовы ў той жа склонавай форме, што і азначаемае ім слова, і знаходзіцца з апошнім (з азначаемым назоўнікам, асабовым займеннікам ці з іншым словам у значэнні назоўніка) у атрыбутыўна-апазіцыйнай сувязі.

Прыдатак у адрозненне ад дапасаванага азначэння выражае прымету прадмета праз адносіны да яго прадмета, названага самім прыдаткам. У выніку такога супастаўлення двух розных па семантыцы назоўнікаў той з іх, які выконвае ў адносінах да другога азначальную сінтаксічную функцыю, надзяляе апошні і своеасаблівай лексіка-семантычнай характарыстыкай. Вось чаму далёка не заўсёды можна адшукаць азначэнне, адэкватнае прыдатку па выражаемых адценнях, параўн.: *лес-гусляр — гаманлівы лес, дуб-волат — магутны дуб, вочы-зоркі — прамяністыя вочы.*

Заўвага. Ад словазлучэнняў з прыдаткам трэба адрозніваць знешне падобныя да іх такія субстантыўныя спалучэнні, кампаненты якіх па свайму значэнню і ролі знаходзяцца паміж сабою ў раўнапраўных, незалежных адносінах і як сінонімы ўтвараюць адно цэльнае паняцце: *шлях-дарога, ветры-буры, думкі-мары, гусі-лебедзі* і інш.

Адметнай рысай прыдатка ў параўнанні з дапасаваным азначэннем з'яўляецца тое, што ён граматычна больш самастойны і незалежны ад азначаемага слова. Прыдатак, як правіла, падпарадкоўваецца азначаемаму слову толькі ў форме склону. Праўда, і тут ёсць пэўныя адступленні, напрыклад калі ў ролі прыдатка выступае ўласнае імя, якое служыць умоўнай назвай (прадпрыемства, арганізацыі, часопіса,

газеты і г. д.), то прыдатак мае форму назоўнага склону незалежна ад склонавай формы азначаемага ім слова: *Рудак працаваў брыгадзірам у калгасе «Чырвоная зорка» нядаўна* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Карэспандэнцыя была паслана ў Мінск, у газету «Беларуская вёска»* (З. Бядуля. Год за годам).

У форме ліку і асабліва ў форме роду прыдатак можа наогул не дапасоўвацца да азначаемага слова: *Апускаюцца з размаху рукі-сталь у мазалях, праца спорыцца з адвагай, смех бруіцца на вачах* (П. Трус. Асенняя праца). *З-пад снежнага куродыму ўзняўся працяглы стогн паваленага дрэва-асілка* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі).

Дапасаванне ў ліку і родзе наглядаецца ў тым выпадку, калі ў ролі прыдатка і азначаемага ім слова выступаюць назоўнікі, формы ліку і роду якіх супадаюць: *Потым бярозы валіліся, асыпаючы з вецця снег-пушок* (І. Мележ. Ноччу). *Замяцеліла полька-цыганачка* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Дзяўчаты-вязальшчыцы спрытна вязалі снапы* (І. Шамякін. За жыццё). *Дзе ты, дзе, у якім краі, мой нявольнік-сокал?* (Я. Колас. Песня салдаткі). *Ой, не ведае голуб-татуля, ой, не ведае брат мой Карней, што сягоння да сонца прытуліць, жвір халодны прытуліць мяне* (П. Трус. Астрожнік). *Для радзімы-маткі сіл сваіх не пашкадую* (Я. Колас. Я — баец чырвоны). *У горадзе гаспадарыць ударніца-вясна* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

У сказах, дзе азначаемае слова выступае ў форме назоўнага склону, выказнік звычайна дапасуецца не да прыдатка, а да азначаемага ім слова: *А мрок-багна строга-строга неба, землю агарнуў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Нішчымны колас-сіраціна ў зацішку лёгенька гайдаўся* (Я. Колас. Новая зямля). *Вялікі бунтар-грамада сарвала з прыроды луску папоўскай і вядзьмарскай забабоннасці і страху* (З. Бядуля. Дэлегатка).

§ 725. Прыдатак можа далучацца да азначаемага слова непасрэдна або, радзей, пры дапамозе злучнікаў ці злучальных слоў: *Хачу быць я, мой ты бацька, лётчыкам-героем* (Я. Купала. Сыны). *Ён, як сын гэтага народа, стаў на абарону гэтых правоў* (Я. Колас. У палескай глушы). *Яська, па прозвішчу Даўгавязы, дуў з усёй сілы ў трубу* (Цётка. Міхаська).

Прыдатак у сказе звычайна займае месца побач з азначаемым словам (постпазіцыйна ці, радзей, прэпазіцыйна), аднак у паасобных выпадках ён можа аддзяляцца ад азначаемага іншымі словамі, і тады сувязь яго з азначаемым словам паслабляецца: *Як гаспадар, якому ўсё тут добра вядома, Уладзік накіраваўся да хлява, дзе стаяць коні* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ен стаіць цяпер, гэты чалавек, за сталом* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

У творах мастацкай літаратуры магчыма паўтарэнне перад прыдаткам таго прыназоўніка, які ўжываецца пры азначаемым слове. Такія выпадкі абумоўліваюцца стылістычнымі мэтамі. *А на рэчцы на Арэсе сталася прыгода: ідзе наступ на балота з поўначы, з усхода* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

§ 726. Па структуры прыдаткі бываюць неразвітымі, калі яны складаюцца з аднаго слова (назоўніка), або развітымі, калі яны маюць пры сабе паясняльныя члены. Як развітыя, так і неразвітыя прыдаткі ў сваю чаргу могуць быць адасобленымі і неадасобленымі: *Сядзеў каля Сашы Андрэй-пагранічнік, ды бульбу ім Валя пякла, медсястра* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *І пасвятлее ў старэнькай хаце, як сын мой — лётчык — абніме маці* (К. Буйла. Калыханка). *Несцяровіч, стары партызан, ардэнаносец, заслужаны чалавек, начальнік усяго будаў-*

*ніцтва, трапіў у такі стан, што ніхто не пазайздросціць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Камандзір атрада лейтэнант Макарэвіч тут жа галопам рвануўся насустрач хлопчыку* (А. Якімовіч. Пастушок Ігнатка).

Заўсёды з паяснялънымі членамі выступаюць прыдаткі, выражаныя словамі, якія самі па сабе губляюць паўнату свайго лексічнага значэння (*чалавек, асоба, справа, рэч* і інш.), або словамі, якія названы ўжо ў азначаемым члене сказа: *Спадарожны Пятра быў Захар Палянскі, чалавек сярэдніх гадоў* (Я. Колас. Дачакаўся). *Дома была маці, старая маўклівая жанчына з уважлівымі чорнымі вачыма* (І. Мележ. Таварышы). *Шафранавы твар Сцяпанавіча, стары, суровы, пасечаны зморшчакамі твар, кранула маладая і спакойная ўсмешка* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

Да аднаго азначаемага слова можа адносіцца некалькі прыдаткаў, якія знаходзяцца паміж сабою ў сузалежнай сувязі (калі кожны з прыдаткаў адносіцца да агульнага для іх азначаемага слова, а самі яны з'яўляюцца раўнапраўнымі і незалежнымі адзін ад другога) або ў паслядоўнай падпарадкавальнай сувязі (калі першы прыдатак непасрэдна залежыць ад азначаемага слова, другі ад першага і г. д.): *Вось глядзі: агуркі суравыя і маласольныя ...бульба-спяшок-рассыпушка — колькі хочаш* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Так Слава-дзіця-дзяўчынка — Слава Тварыцкая — уваходзіла ў свет чалавечага жыцця* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *У Вепрах пачаў паказвацца Васіль Бусыга, відны дзяцюк, сын дужа багатых бацькоў* (Я. Колас. Дрыгва). *Падбухторыла Маланню насмешніца-суседка Лізавета* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *І вось паўстаў крылаты пралетарый,— і бура ўміг з зямлі змяла цара-драпежніка арла* (К. Крапіва. Варона-мітынгоўшчыца). *А топаль, волат-сірацiна, стаіць на варце папялішча* (Я. Колас. Топаль).

§ 727. Круг значэнняў і функцый, якія выражае прыдатак, з'яўляецца даволі шырокім. Прыдатак можа ўказваць на асобу па роду занятку, пасадзе, прафесіі, званню, сацыяльнай прыналежнасці, прыналежнасці да калектыву, арганізацыі (*хлапец-механізатар, дзяўчына-кантралёр, жанчына-аграном, капітан Гастэла, жняя-калгасніца, дзед-пенсіянер, юнак-камсамолец*), характарызаваць асобу па месцы яе жыхарства, працоўнай дзейнасці, нацыянальнасці (*жыхары-мінчане, беларусы-цаліннікі, чабан-таджык*), указваць на відавую прымету пры яе родавай назве (*грыб-баравік, ягада-галубіка, арол беркут, рыба вугор*), абазначаць геаграфічныя назвы (*горад Слуцк, возера Нарач, рака Нёман*), назвы твораў мастацтва, газет, часопісаў, таварыстваў, калектыўных аб'яднанняў, устаноў, прадпрыемстваў, машын, караблёў і г. д. (*раман «Векапомныя дні», газета «Звязда», часопіс «Полымя», таварыства «Веды», калгас «Камінтэрн», саўгас «Піянер», санаторый «Беларусь», завод імя Кірава, атамаход «Ленін»*).

*Ён убачыў на дарозе вялікі гурт дзяўчат-жней, якія вярталіся з поля* (І. Шамякін. За жыццё). *Нашы хлопцы-трактарысты сталі ля прысад* (К. Буйла. Пасля вечарынкі). *Назаўтра студэнт-этнограф выехаў з вёскі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Праз многія гады карычанскі каваль Дубейка вярочаўся дахаты* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *У князя Радзівіла быў слуга Кірыла* (Я. Колас. Чорт). *У гэтай бакоўцы сядзеў толькі адзін пасажыр-селянін* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Унізе рабочыя-сезоннікі складалі цэглу ў штабелі* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Раз'яраныя афіцэры-карнілаўцы ўварваліся на тое месца, дзе была батарэя* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Іду на*

*сельскі сход з сястрою-камсамолкай* (П. Трус. Ізноў я там). *Шаўчэнка і госці-жанчыны стаялі па той бок калодзежнай вышкі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Песні грае дудар, стары дзед-паляшук* (З. Бядуля. Палескія байкі). *Гэтымі думкамі часам дзяліўся ён са сваім кватэрным гаспадаром-немцам, колішнім уласнікам слясарных майстэрань* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Покуль Нарачы дрэмле прастор, ходзіць недзе глыбока рыба вугор* (А. Зарыцкі. Выдатнейшы балетмайстар). *Аб траву-драцянку рукі я калю* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). *Плыве у свет рака Бяроза* (Я. Купала. Барысаў). *Верш «Радасць» напісан аўтарам у 1937 годзе* (К. Крапіва. Аб характары беларуса). *Атрад «Сокал» вырас у брыгаду, а камандзір яе заслужана насіў вядомае па вобласці імя — Грозны* (Я. Брыль. Адзін дзень).

Заўвага 1. Калі назва родавага паняцця выконвае ў адносінах да назвы відавога паняцця паясняльную функцыю, то ў ролі прыдатка выступае назва не відавога, як звычайна, а родавага паняцця: *Пушча-лес не шуміць, белка, лось не бяжыць, салавей-птушка ў той час сціхае* (Я. Купала. Гусляр). *Будуць вечна цвісці ружы-кветкі, вянкі, будуць ветры шумець, ветры-сокалы* (П. Трус. Чырвоныя ружы).

Заўвага 2. У спалучэннях уласнага імені з агульным ролю прыдатка можа выконваць не агульнае, а ўласнае імя, калі аўтар хоча лагічна выдзеліць, падкрэсліць гэта імя з мэтай удакладнення, канкрэтызацыі дзеючай асобы: *Там сядзеў швейцар інстытута, Максім* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Дарога ж героя палескіх аповесцей, Лабановіча, не скончана* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Заўвага 3. У спалучэннях з геаграфічнай назвай агульны назоўнік можа выступаць у ролі прыдатка ў тым выпадку, калі ён сам удакладняе, канкрэтызуе геаграфічную назву або з'яўляецца пры ёй якаснай характарыстыкай: *Трактары шнуруюць над Арэсай-рэчкай, сякуць плугам, дыскам торфішча на сечку* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Не забыў у песнях-думках Украіну-маці* (Я. Купала. Тарасова доля).

У паасобных выпадках прыдатак можа выступаць як эпітэт з пэўным экспрэсіўным адценнем (ласкі, знявагі і г. д.) або як метафара ці параўнанне: *Вось спыніўся ў цяньку каля дрэў волат-танк на старым скрыжаванні* (А. Куляшоў. Алёнка). *У гэты момант веліч-параход знік на завароце ракі* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *За ваколіцай на пыльнай дарозе буян-вецер скручваўся ў жмут* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *Санкоўскі і ўсе рабочыя сачылі за кожным рухам гэтага пана-самадура* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Зашумеў буйны лес-маладняк* (П. Трус. Лес). *Іду я горды ды зухлівы вясну-чароўніцу спаткаць* (Ц. Гартны. Ізноў вясна). *Сустракала ўдава з адраджэннем лёгкакрылых сыноў-арлянят* (П. Трус. Юны змаганец). *Ляж, дачушка мая, адпачні, вочкі-зоры на хвілю самкні* (К. Буйла. Чую, маці мая...). *Дзяцел носам-долатам стукае адзін* (П. Глебка. Наш лес). *Яшчэ дзён колькі — і жніво настане, і паплывуць камбайны-караблі* (К. Буйла. Песня). *Маладры зайздросны параснік наступае на чыгунку-змяю* (Х. Шынклер. Апошні рэйс).

Прыдаткі, выражаныя назоўнікамі з паясняльнымі словамі пры іх, звычайна выконваюць функцыю ўдакладнення, канкрэтызацыі асобы ці прадмета, функцыю дадатковага паведамлення, сцвярджэння чаго-небудзь аб асобе, прадмеце ці з'яве, функцыю перадачы адносін гаворачага да зместу азначаемага паняцця і г. д. Некаторыя з гэтых прыдаткаў ускладняюцца эмацыянальна-экспрэсіўным адценнем (гл. «Адасобленыя прыдаткі», § 783).

## АКАЛІЧНАСЦЬ

§ 728. Акалічнасцю называецца даданы член сказа, які служыць для абазначэння прыметы дзеяння (стану) з указаннем на спосаб або характар яго праяўлення, на тыя ці іншыя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне (стан).

У ролі акалічнасці могуць выступаць прыслоўі і дзеепрыслоўі, назоўнікі ў формах ускосных склонаў без прыназоўнікаў ці з прыназоўнікамі, лічэбнікі або колькасна-іменныя спалучэнні, займеннікі з абагульнена-прадметным значэннем, інфінітыў. Па сваёй структуры акалічнасці могуць быць неразвітымі, калі яны выражаюцца адным словам, і развітымі, калі ў ролі акалічнасці выступаюць назоўнікі, прыслоўі, дзеепрыслоўі і некаторыя іншыя часціны мовы разам з паяснялыіымі членамі. Як неразвітыя, так і развітыя акалічнасці ў выпадку сэнсава-інтанацыйнага выдзялення могуць адасабляцца. *Лагодна і роўна падае зверху сняжок* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Мікалай Патапавіч не спяшаючыся распрануўся* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Усю ноч яна праляжала не заплюшчваўшы вачэй* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Угледзеўшы каля сябе сына, Ганна Максімаўна некалькі супакоілася* (І. Гурскі. У агні). *Нашы быстрыя рэкі разліваюцца морам* (А. Русак. Дарога). *Ступіў наш дзядзька крокам смелым, ідзе к сталу, што быў паблізкай* (Я. Колас. Новая зямля). *Там на вузенькай лаўцы за маленькім столікам сядзела некалькі чырвонаармейцаў* (К. Чорны. На граніцы). *Там, пад кустом, насупроць, тая самая нара, якую знайшоў сёння Лаўрэн* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Раніцою, дванаццатага жніўня, мы прайшлі шосты шлюз* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Пісаць вучыўся сам* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Потым ён пусціў хлопцаў пагуляць* (Я. Колас. Школа).

У сказе акалічнасці найчасцей адносяцца да асабовых форм дзеяслова, радзей да іншых марфалагічных разрадаў слоў — да аддзеяслоўных назоўнікаў, прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, прыслоўяў, дзеепрыслоўяў, да безасабова-прэдыкатыўных слоў: *Хутка ноч, а ноччу, чуў Васька, наступленне, пераход за Буг* (М. Лынькоў. Над Бугам). *Твары дзяўчат па-вясенняму адкрытыя, у вачах задорныя агеньчыкі* (А. Кулакоўскі. У Чырвоным возеры). *Вяселле было назначана на заўтра* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не адкладаючы справы на доўгі час, Андрэй назаўтра ж пайшоў у бюро рацыяналізацыі і вынаходстваў* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Стол засланы, як дома, люба, міла да слёз* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *На вуліцы спякота* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У лесе было надзвычай прыгожа* (там жа).

Акалічнасці ў залежнасці ад таго, якую прымету дзеяння ці стану яны абазначаюць, падзяляюцца на некалькі разрадаў: акалічнасці месца, часу, спосабу дзеяння, меры, ступені, прычыны, мэты, умовы, уступкі.

Падрабязна аб сэнсава-граматычных значэннях і формах выражэння розных акалічнасных адносін гл. адпаведныя параграфы раздзела «Словазлучэнне».

## АКАЛІЧНАСЦЬ МЕСЦА

§ 729. Акалічнасць месца можа абазначаць, дзе адбываецца ці праяўляецца пэўнае дзеянне, шлях, напрамак, накіраванасць яго, зыходны або канечны пункт руху і г. д.

Акалічнасці са значэннем месца, дзе адбываецца дзеянне, ці месца, на якім праяўляюцца пэўныя прыметы, якасці, выражаюцца прыслоўямі месца, назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *каля, супраць, паміж, ускрай, пасярод, вакол, побліз*, вінавальнага склону з прыназоўнікамі *праз, цераз, паўз*, творнага склону з прыназоўнікамі *за, па-за, над, па-над, пад, паміж (між)*, меснага склону з прыназоўнікамі *у, на, пры, па* і г. д. *Тут было сёння ціха і пуста* (Я. Брыль.

На Быстранцы). *Зямля вільготная зверху, і на ёй месцам таксама прыкметны налёт замаразку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Сцёпка стаяў каля веснічак* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Праходзячы паўз родны дом, Тася ўспомніла, што даўно ўжо не заходзіла сюды* (Б. Мікуліч. Дужасць). *За хвойнікам стракатала жняярка* (І. Шамякін. За жыццё). *Пад акном роўна шумелі старыя ліпы* (там жа). *Над дубамі ў паднябессі арлы-сокалы лятаюць* (А. Русак. Тры дубы). *А Міхась па-над кручай сядзіць* (М. Лынькоў. Гой). *Не чутны яны між людзьмі* (А. Куляшоў. Балада пра вестку). *І зазвінела грозна зброя па цёмных пушчах і лясах* (П. Глебка. Героі). *На вуліцы было ціха, і прыемна пахла ў хаце гэтым дымам* (К. Чорны. Зямля).

Акалічнасці са значэннем напрамку, накіраванасці дзеяння, выходнага або канечнага пункту руху выражаюцца рознымі тыпамі прыслоўяў, назоўнікамі ў форме творнага склону без прыназоўнікаў, роднага склону з прыназоўнікамі *з, з-за, з-пад, ад, да, у кірунку, у напрамку, у бок,* давальнага склону з прыназоўнікам *к,* вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на, за, пад, праз,* меснага склону з прыназоўнікам *па,* а таксама ўстойлівымі словазлучэннямі. *Бухалі гарматы, грукацелі громы, а вы йшлі наперад віхрам-бураломам* (Я. Колас. Змагаңнікам). *Аднекуль даносілася далёкая песня* (І. Шамякін. За жыццё). *Я паеду тым жа шляхам, па якім ішлі лісты* (А. Куляшоў. Адказ). *Вецер урываўся з поля на шырокія вуліцы* (Б. Мікуліч. Дужасць). *На яе голас з-за садка выйшлі Шура з Якубам* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён наставіў адно вуха ў бок акна* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Твая брыгада зойдзе ад поля, ад ракіт, мая касілка пойдзе да самае ракі* (А. Русак. На сенажаці). *Мы з табой паедзем к мору* (К. Буйла. Матроска). *Я заходжу ў купэ і гляджу праз акно на перон, бурапенны, як лава* (П. Глебка. У падарожжы). *Ён не раз сам ішоў у лапы свайго ворага, але заўсёды з-пад самага носа ўцякаў, як толькі было небяспечна* (М. Чарот. Свінапас). *Зноў пайшоў па палатах* (Я. Скрыган. Наталя).

## АКАЛІЧНАСЦЬ ЧАСУ

§ 730. Акалічнасць часу паказвае, калі адбываецца пэўнае дзеянне або калі праяўляюцца тыя ці іншыя якасці, прыметы, на пачатак або заканчэнне дзеяння.

Акалічнасці са значэннем часу працякання дзеяння або праяўлення пэўных якасцей, прымет выражаюцца прыслоўямі часу, дзеепрыслоўямі, назоўнікамі ў форме творнага склону без прыназоўнікаў, у форме роднага склону з прыназоўнікамі *пасля, напярэдадні, каля, сярод, у час,* давальнага склону з прыназоўнікам *к,* вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на, за, пад, праз,* творнага склону з прыназоўнікамі *з, за, перад, паміж (між), услед за,* меснага склону з прыназоўнікамі *у, на, пры, а,* а таксама колькасна-іменнымі спалучэннямі і фразеалагічна ўстойлівымі выразамі. *Прыгожа там летам вячэрняй парой, прыгожа вясною уранку* (П. Глебка. Герой і партызанка). *Збярэмся вольным часам, гасцям такім я рад* (А. Русак. Думы за працай). *Нагаманіўшыся, яны падняліся, пайшлі ад вогнішча* (І. Мележ. Перад навальніцай). *Пасля вячэры яны гулялі на беразе Сожа* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Прыкладна к сёмаму класу быў ужо спрытным трактарыстам* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *У апошнія часы Грамабоі сталі ласкавейшымі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *На трэці дзень у яго галаве злажыўся пэўны план* (Я. Колас. У чым іх сіла). *Толькі*

*пад раніцу заснула Наталя* (Я. Скрыган. Наталя). *Праз нейкі момант у хаце было ціха* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Дзесьці ў шале коні скачуць перад боем* (П. Трус. Чырвоныя ружы). *Адчаго не была ты ў юнацтве імклівай ракой?* (А. Куляшоў. Зямля і мора). *На другім годзе службы ў Андрэя была прынята першая рацыяналізатарская прапанова* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Прыехалі туды а дзесятай гадзіне раніцы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Якраз упору трапіў... якраз з'явіўся на разбор шапак* (К. Чорны. Максімка).

Акалічнасці са значэннем пачатку або заканчэння дзеяння ці праяўлення якасцей, прымет выражаюцца назоўнікамі ў формах роднага склону з прыназоўнікамі *з, ад, да, пасля,* вінавальнага і меснага склонаў з прыназоўнікам *па* і некаторымі прыслоўямі часу, дзеепрыслоўямі. *З малых год пачаў ездзіць на трактары* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *З даўніх пор тым і міл, тым і люб гэты кут, што няпрошаны госць не трымаецца тут* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Так правандруеш да змяркання, а сам туды не трападзеш і толькі дзень дарма звядзеш* (Я. Колас. Новая зямля). *Пакой павінен быць закончаны да Першага мая* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Пасля доўгіх думак Максімка з Тодарам паехалі на рынак* (К. Чорны. Максімка). *Чырыкаюць дружна, з заўзяццем па самы кастрычнік ад мая* (Я. Купала. Дзе крыўда адвечная спела). *Па сходзе многіх дзён я зноў зірнуў у вочы родным долам* (Я. Колас. З дарогі). *Спачатку было трохі няёмка* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Але калі яна, скончыўшы, глянула на залу, то зразумела, што выйшла добра* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

## АКАЛІЧНАСЦЬ СПОСАБУ ДЗЕЯННЯ

§ 731. Акалічнасць способу дзеяння ўказвае на спосаб ажыццяўлення або на якасць дзеяння, працэсу, на стан. Гэтыя акалічнасці могуць выражацца прыслоўямі, дзеепрыслоўямі, назоўнікамі ў форме творнага склону без прыназоўнікаў або ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, у прыватнасці формамі роднага склону з прыназоўнікам *без,* вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на, па, пад, праз,* творнага склону з прыназоўнікам *з,* меснага склону з прыназоўнікамі *у, на, па,* а таксама параўнальнымі зваротамі і фразеалагічнымі слова-злучэннямі.

*Молада, хораша, звонка спявае гарманіст* (Я. Брыль. Галя). *Па-святочнаму ўрачыста люд наш вольны пахаджае* (Я. Купала. З Першым маем). *Магдалена сядзела ўнурыўшыся* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Талакою вазілі лапкі, жэрдзі, бярвенне, пясок, каменне* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Думкі лебедзямі плывуць* (там жа). *Я ступаю смелым крокам без тугі, трывогі* (Я. Колас. Радасць). *Вось, вось, здаецца, пашчапаюцца колы на крыжавінах ці ў пух разляцяцца стрэлкі* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Дом збудаваны на славу* (П. Глебка. Расказ цесляра). *Дык яно ўсё і робіцца па канец рук* (К. Чорны. Зямля). *Хаця ён і быў пахаваны пад музыку, песні, вершы, але назваць яго можна хутчэй жывым, чым памёршым* (А. Куляшоў. На полі бою). *І гэтыя ж ідэі праводзіў праз школу і ён, Лабановіч* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Наташа з нецярплівасцю чакала верасня* (І. Шамякін. Наташа). *Нібы ў сне прайшоў наступны дзень* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Ён уважліва прагледзеў усе нарады і размеціў па шыфрах* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Маўчаць як вады ў рот набраўшы* (народн.).

## АКАЛІЧНАСЦЬ МЕРЫ

§ 732. Акалічнасць са значэннем меры, колькасці ўказвае на меру часу, прасторы або колькасць прадметаў. Акалічнасць меры выражаецца прыслоўямі, назоўнікамі (або колькасна-іменнымі спалучэннямі) у формах вінавальнага і творнага склонаў без прыназоўнікаў, назоўнікамі ў формах вінавальнага і некаторых іншых ускосных склонаў з прыназоўнікамі *з, за, на, па, праз, цераз, у, каля* і інш., фразеалагічна ўстойлівымі зваротамі.

*Мы на той на дарозе назаўжды падружылі, адны думы і мары нас навек параднілі* (А. Русак. Дарога). *Столькі працы рукам! Толькі рабі — не лянуйся!* (І. Мележ. Блізкае і далёкае). *Пасее там чалавек пуд проса, а збярэ дваццаць пяць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Дома ён некалькі хвілін маўчаў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Цэлымі днямі гула ў таку малатарня* (там жа). *На хвіліну змоўклі, у акно зірнулі* (М. Лынькоў. Гой). *Проста на ўсё сваё сяло праславілася* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Не пабаяўся прайсці пяхотам цэлых сто вёрст, каб паступіць на рабфак* (там жа). *Тут ён назапасіў з восем кавалачкаў цукру* (Я. Колас. «Дзераве́ншчына»). *Гора ў нас па вушы* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). *Пагалоўе рагатай жывёлы ў саўгасе будзе павялічана амаль у тры разы* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай). *Нагаворана ўсяго-ўсякага каля дзесяці кашалёў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

## АКАЛІЧНАСЦЬ СТУПЕНІ

§ 733. Акалічнасць ступені ўказвае на ступень праяўлення дзеяння, стану або якасці. Гэтыя акалічнасці выражаюцца прыслоўямі са значэннем ступені, якаснымі прыслоўямі ў вышэйшай ступені параўнання, назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *да, без*, а таксама фразеалагічнымі спалучэннямі. *Значна пасінеў абшар* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Страх як хацелася яму мець такую кніжку!* (Я. Колас. Школа). *Ясней і сонца нам заззяла, грамчэй і песня зазвінела* (А. Русак. У дзень вызвалення). *Батарэі грымелі без канца* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Ён да болю моцна ўхапіўся пальцамі за ручку крэсла* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Горка, крыўдна да слёз* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Скакаць да сёмага поту* (народн.).

## АКАЛІЧНАСЦЬ ПРЫЧЫНЫ

§ 734. Акалічнасці са значэннем прычыны абазначаюць прычыну дзеяння (стану), названага паясняемым членам. Акалічнасці прычыны выражаюцца прыслоўямі прычыны, дзеепрыслоўямі, назоўнікамі ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, у прыватнасці формамі роднага склону з прыназоўнікамі *з, з-за, ад, для, з прычыны, з выпадку, з повадду*, давальнага склону з прыназоўнікам *дзякуючы*, вінавальнага склону з прыназоўнікам *за*, меснага склону з прыназоўнікам *па*, а таксама фразеалагічна ўстойлівымі словазлучэннямі.

*Спрасонку яна забылася, што і Сашка дома* (М. Гроднеў. Вартанне). *Стары, бачачы нецярплівасць вайсковага чалавека, не шкадаваў пары і выціскаў з паравозіка такую хуткасць, на якую той быў здатны* (І. Мележ. Пабыўка сержанта). *Самому Міколу з непрывычкі нязручна было хадзіць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *З прычыны добрай пагоды і святочнага дня сход асабліва мнагалюдны і шумны* (К. Крапіва. Вясна). *У Сцяпана ад сораму ўспыхнулі вушы* (І. Шамякін.

За жыццё). *Яго сухаваты твар меў энергічны выгляд* *дзякуючы* *двум рэзкім* *маршчынам* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Вось* *за гэтыя* *гутаркі і расказы* *коса пазіраў на Міхася і Рыву* *стары Мотэль* (М. Лынькоў. Гой). *Ад такіх* *пераліванняў* *з пустога ў парожняе* *ён заўсёды ўваходзіў у цяжкі настрой* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

## АКАЛІЧНАСЦЬ МЭТЫ

§ 735. Акалічнасць мэты ўказвае на тое, дзеля чаго адбываецца дзеянне або чым яно абумоўліваецца. Акалічнасць мэты выражаецца прыслоўямі мэты, дзеепрыслоўнымі зваротамі, назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *для, дзеля, у парадку, у знак, у імя, у гонар,* вінавальнага склону з прыназоўнікамі *у, на,* інфінітывам, фразеалагічна ўстойлівымі словазлучэннямі.

*Назнарок* *заводзілі песню і спявалі на ўвесь голас* (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). *Ён* *сумысля* *маўчаў* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ён час ад часу з надзеяй падымаў галаву і пазглядаў уперад,* *спадзеючыся ўбачыць поле* (І. Мележ. У завіруху). *Для* *шчасця* *вашага, сыны, бацькі на ўсё гатовы* (П. Глебка. Размова аб шчасці). *Усё гэта рабілася* *для адводу вачэй* (А. Кулакоўскі. Стары млын). *Гэта было міжвольнае прызнанне, ужытае* *ў парадку самаабароны* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Агата* *ў знак згоды* *кіўнула галавою* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я ж працую толькі* *на карысць* *дзяржаве* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Выйшлі людзі светлай раніцай на Дрысвяцкае на возера* *будаваць* *электрастанцыю* (А. Русак. Узнялося сонца яснае).

## АКАЛІЧНАСЦЬ УМОВЫ

§ 736. Акалічнасць умовы паказвае ўмову, пры якой адбываецца, можа ці павінна адбыцца дзеянне, названае паясняемым членам. Акалічнасць умовы звычайна выражаецца дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўнымі зваротамі, формай роднага склону назоўніка з прыназоўнікамі *без, у выпадку,* меснага склону назоўніка з прыназоўнікам *пры*. *Працуючы,* *не хочацца спаць, ды і час не прападзе дарма* (А. Кулакоўскі. Марскія хвалі). *Ён ведаў, што не могуць людзі не гаварыць,* *сабраўшыся вялікаю грамадою* (К. Чорны. Максімка). *Не відно гаспадыні, а* *без жанчыны* *хатняя пустата набывае характар нейкай журботы* (Я. Колас. Дрыгва). *У выпадку* *дажджу* *мы заначуем у вёсцы* (з газет). *Гэта рэакцыя магчыма толькі* *пры пэўных умовах* («Весці АН БССР»).

## АКАЛІЧНАСЦЬ УСТУПКІ

§ 737. Акалічнасць са значэннем уступкі ўказвае на прадметы або з'явы, наперакор якім што-небудзь адбываецца. Гэтыя акалічнасці звычайна выражаюцца дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, а таксама назоўнікамі ўскосных склонаў з вытворнымі прыназоўнікамі *нягледзячы на, наперакор* і інш. *Коні нехаця адскочылі ад аўса,* *успеўшы,* *аднак, скубянуць яго* (К. Чорны. Зямля). *Нягледзячы на* *позкюю восень,* *палонных трымалі на дварэ, за агарожай з калючага дроту* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Назаўтра,* *наперакор* *звычаю,* *Прося не прыгатавала дзецям снедання* (А. Васілевіч. Падчарыца).

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

§ 738. Два або некалькі членаў сказа, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, адносяцца да аднаго і таго ж слова ці словазлучэння і характарызуюцца інтанацыяй пералічэння, называюцца аднароднымі.

У якасці аднародных могуць выступаць як паасобныя члены сказа, так і цэлыя словазлучэнні: *Помняць Нёман, Дзвіна і Буг нашых танкаў пагрозны гуд* (П. Панчанка. Вызваленаму брату). *Ударым, як гром з яснага неба, скрышым паноў, выратуем людзей і захопім мост* (К. Крапіва. Партызаны). *Волечка прыносіла то цыбулю, то моркву, то бульбіну, то нейкае карэнне, то лісце і падкідала ў гаршчок* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *На Украіне, на Палессі, ля Арла і ля Разані дзень праводзяць дзеці ў лесе з досвітку і да змяркання* (М. Аўрамчык. Шляхамі дружбы). *Снег, вецер, галасны певень, пах сена з пуні, крык зімовай птушкі, счарнелы ад прымаразкаў лісток з саду на ветры, ясны захад сонца, пах свежага хлеба ў хаце, вымалачаны колас, узняты ветрам на бязлісты куст бэзу, зорнасць марознай ночы, бесперапынная плынь часу — дзень за днём, дзень за днём — і пайшло яно з вялікай радасцю аб тым малым, што вельмі патрэбна чалавеку* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Не, ні дарогі, ні Сцёпкі, ні Алеся не бачыла Аленка* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

У сказе аднародныя члены выражаюцца звычайна аднолькавымі часцінамі мовы, але часам яны могуць выражацца і рознымі часцінамі мовы: *А за Лядамі, на банёўскім полі, як мурашкі, капошацца людзі, бесперастанку ездзяць падводы то з бярвеннем, то з пяском, то ўлегцы* (П. Галавач. Кнак). *Па дарозе з Нівішчаў у мястэчка — дзеду ўжо добра відаць — ідуць час ад часу машыны. То з сенам, то са снапамі, то пустыя* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Ён быў невысокага росту, у ботах, у пінжаку, без шапкі, з палыселай галавой і з вусамі* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Пеша, конна, на возе прывыклі з вясны да вясны вандраваць па дарозе ад дзеда да ўнука яны* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

Заўвага. Нельга лічыць аднароднымі членамі сказа выпадкі паўтарэння аднаго і таго ж слова (часцей яны маюць месца ў паэтычнай мове): *Ой, кацілася песня дубравай ды зялёным кацілася ярам* (П. Трус. Прысвячаецца Я. Купалу). *А Пракопавы думкі ідуць ды ідуць* (Я. Колас. Адщчапенец). *Лета ты, лета прыгожа-квяцістае, колькі ты ўносіш аздобы з сабою* (Я. Купала. Лета). *Не хадзі, сынок, у двор, не хадзі, лепш у тую старану не глядзі* (М. Танк. Наказ казачкі).

Аднародныя члены сказа спалучаюцца паміж сабою злучнікамі або бяззлучнікавым спосабам, пры дапамозе інтанацыі пералічэння. Часцей за ўсё яны звязваюцца злучальнымі злучнікамі, хоць сустракаюцца адзінкавыя выпадкі спалучэння аднародных членаў і падпарадкавальнымі злучнікамі. Адбываецца гэта тады, калі два або некалькі членаў сказа выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю ў сказе і адносяцца да аднаго і таго ж слова: *Спарыш і дзяцельнік гусціліся ля дарог* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Не страшны смелым ім былі спякота, халады, асенняя слата, імжа, снягі, марозы, льды* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Цяпер эфект выйшаў не меншы, калі нават не большы* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Людзі палічаць нас баязліўцамі, калі не здраднікамі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Андрэй не стрымаўся, хоць даваў сабе абяцанне не дакучаць больш просьбамі* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

У сказе можа быць некалькі груп аднародных членаў, якія аб'ядноўваюцца ў больш складаныя адзінствы: *Чысты блакіт і барвовы пурпур, цёмная сінь і жоўтыя агнявыя ўспышкі на грэбнях хваль, безліч колераў і адценняў іх расцякаліся, мяняліся, трапяталі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Да дзён яго старасці на ўсіх тутэйшых дарогах увабраліся ў сілу, выраслі і далі мясцовасці зусім іншы выгляд — клёны і бярозы, ясені, вязы, ліпы і таполі* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Аднароднымі ў сказе могуць быць дзейнікі, выказнікі, дапаўненні, азначэнні і акалічнасці.

## АДНАРОДНЫЯ ДЗЕЙНІКІ

§ 739. Аднароднымі з'яўляюцца такія дзейнікі, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да агульнага для іх выказніка або да групы аднародных выказнікаў і аб'ядноўваюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў ці інтанацыйна: *Пад імі мільгае і гаць, і азёры, і ўзгоркі, і ім не відаць а ні нашы шынелі, ні зоркі* (А. Куляшоў. Пад восеньскім небам). *Армяне, грузіны, башкіры, татары, казахі, кіргізы, як грозныя хмары, на ворагаў лютых абрушылі сілу і злых акупантаў дашчэнту скрышылі* (Я. Колас. Савецкай Беларусі). *Непраглядны мрок і сыры туман спляліся густа-густа і як бы глынулі гэту закінутую між балот і лесу невялікую вёску* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ціхая сельская ваколіца і прасторы неба і зямлі жычліва прынялі настаўніка на сваё ўлонне, атулілі яго цішынёй і спакоем* (Я. Колас. На ростанях).

Адным з граматычных сродкаў сувязі аднародных дзейнікаў з'яўляюцца злучальныя злучнікі. Сярод іх найбольш ужывальныя спалучальныя злучнікі, якія звязваюць раўнапраўныя ў сэнсавых і сінтаксічных адносінах аднародныя дзейнікі, што набываюць характар простага пералічэння. Пры дапамозе спалучальных злучнікаў, якія ставяцца перад тым дзейнікам, што замыкае сабою пэўную групу аднародных членаў, утвараецца цесна звязаны закрыты рад аднародных членаў. Пры дапамозе спалучальных злучнікаў, якія ўжываюцца перад кожным дзейнікам, утвараецца адкрыты рад аднародных членаў, у склад якога можа ўваходзіць неабмежаваная колькасць дзейнікаў.

Аднародныя дзейнікі, якія звязваюцца спалучальнымі злучнікамі, могуць выступаць як з залежнымі ад іх дадзенымі членамі сказа, так і без іх. У абодвух выпадках магчыма аб'яднанне двух або некалькіх аднародных дзейнікаў: *Беднасць і благароднасць заўсёды ішлі поруч* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Білі кулямёты і аўтаматы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Каласіцца на палетку жыта ды пшаніца* (К. Крапіва. Вагон табакі). *Даліся ім у знакі гракі ды буслы* (А. Бялевіч. Калі зацвітаюць вішні). *І пожні, і нівы цвітуць на балоце* (Я. Колас. Савецкай Беларусі). *Выступаюць ушыр, разлягаюцца ўдаль лугі, пожні, даліны і ўзгоркі* (З. Бядуля. Палескія байкі). *Хтось гармонік прынёс, з песняю да нябёс верас, шышкі ды мох паляцелі з-пад ног* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Адзін толькі штаб, ды разведка, ды Толя Клімёнак ведаюць пра новую блакаду* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Стук дзятла і зязюлі крык сустрэў вясёла ранне* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Шмат часу заняла прыборка памяшкання і ўстаноўка вучэбных машын* (Я. Брыль. Лазунок). *Пайшлі ў далёкае выгнанне, як на вадзе ідуць кругі, і дні вялікага змагання, і ночы цёмныя тугі* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *Чорная карова з адной загарадкі, цялушка-выпустка з другой і чырвоны конік уставіліся*

*пільна на гэтую цікавую дзею* (Я. Колас. Малады дубок). *Рэшта вясны, усё лета і частка восені заставаліся вольныя* (Я. Колас. На ростанях).

§ 740. Аднародныя дзейнікі могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе спалучальных злучнікаў у пары, якія звязваюцца паміж сабою бяззлучнікавай або камбінаванай сувяззю (пры дапамозе злучнікаў і без іх): *На думкі прыдуць лес і звеpы, грыбы і рыба на вячэру, прастор і скарб калгаснае зямлі* (Я. Колас. Вусцянскі груд). *Бярозы белыя і хвоі, дубы і клёны — без канца* (К. Кірэенка. Малады лес). *Тут быў таран, мянёк пузаты, шчупак, лінок, акунь, карась, кялбок і ялец, плотка, язь, яшчэ засушаныя з лета* (Я. Колас. Новая зямля). *Герояў подзвіг і пяшчота маці, гамонка нівы, белы яблынь цвет, і розум твой, і спеў вясельны ў хаце — усё жыццё, усё — наш родны свет* (К. Кірэенка. Родны свет).

§ 741. Аднародныя дзейнікі, якія звязваюцца паміж сабою пры дапамозе супастаўляльных злучнікаў, могуць выступаць як без залежных, так і з залежнымі ад іх дадамымі членамі сказа. У абодвух выпадках утвараецца закрыты, але расчлянёны рад аднародных членаў. Супастаўляльныя злучнікі ўказваюць на адносіны, у аснове якіх ляжыць супастаўленне, супрацьлегласць або неадпаведнасць аднародных прадметаў, з'яў, падзей аб'ектыўнай рэчаіснасці: *Цяпер ужо не дзядзька, а Кастусь панура кленчыць спераду* (Я. Брыль. Казачок). *Вясною, усыпаная белым цветам, як маладая дзяўчына, яна проста аздабляе дзедаў двор, і не толькі дзед Талаш, а і бусел з гнязда, змайстраванага на дзедавай клуні, залюбуецца ёю* (Я. Колас. Дрыгва). *Не то што думка, а інстынкт яго працаваў увесь час вельмі востра* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Патрэбны жывыя людзі, а не порах* (К. Чорны. Зямля). *Але ў іх гуле і громе — не голас бітвы былой, а песня працы і міру, упэўненасць і спакой* (К. Кірэенка. Маякі). *Не кавалак хлеба дзядзьку Мікалая на тыя сціpты цягне, а сумленне чыстае* (А. Бялевіч. Запольскія салаўі). *Трэба было спрачацца або наадрэз адмовіцца ад гэткага напарніка, але так мог бы зрабіць хто-небудзь іншы, а не Алесь Крупеньчык* (У. Шахавец. Напарнікі).

Заўвага. Зрэдку для аб'яднання аднародных дзейнікаў ужываецца парны параўнальна-супастаўляльны злучнік *як, так і*: *Як адно, так і другое баяліся сказаць што-небудзь не да месца, не да часу* (А. Кулакоўскі. Незабыўнае рэха).

§ 742. Аднародныя дзейнікі, якія звязваюцца паміж сабою пры дапамозе пералічальна-размеркавальных злучнікаў, выступаюць як без залежных, так і з залежнымі ад іх дадамымі членамі сказа. Пры дапамозе адзіночных пералічальна-размеркавальных злучнікаў аднародныя дзейнікі ўтвараюць закрыты рад аднародных членаў, у склад якога ўваходзіць толькі два дзейнікі. Адзіночныя злучнікі ўжываюцца ў сказах для сувязі пералічэння з адценнем супастаўлення, якое праяўляецца ў форме выбару аднаго з паведамленняў. Кожнае з такіх паведамленняў з'яўляецца аднолькава магчымым: *Кожны дзень прыходзілі сюды бацька або маці* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Дрымотна звінела сухая трава ці то зелле* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). *Рэдка парушае цішыню крык прадаўцоў садавіны, грукат колаў альбо рык жывёлы* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Пры дапамозе паўторных злучнікаў аднародныя дзейнікі ўтвараюць адкрыты рад аднародных членаў, у склад якога можа ўваходзіць некалькі дзейнікаў. Паўторныя злучнікі ўжываюцца ў сказах з чаргаваннем аднолькава магчымых, немагчымых або папераменных з'яў і падзей: *Ні Сяргей, ні Лемяшэвіч не ведалі, што Алёша з першага дня — яго добраахвотны памочнік* (І. Шамякін. Крыніцы).

*Ці то маякі, ці то сонцы над роднай Волгай-ракой? Не бачылася капітану яна ніколі такой* (К. Кірэенка. Маякі). *А вочы шэры, невялічкі, глядзяць прыветна, як сунічкі, але раптоўна і адразу не расчытаеш і выразу: то смех, то хітрасць з іх бліскае, то дабрата, але якая!* (Я. Колас. Новая зямля). *Сустрэнецца то параконная фура, то веласіпедыст, то вайсковая, наша, машына* (Я. Брыль. Партрэт старэйшага таварыша). *Ні лійні з вятрамі, ні снег — нам не дзіва* (К. Кірэенка. Лясныя думы). *Тым часам па ўсёй гэтай мясцовасці не спыняліся то дробныя баявыя сутычкі, то рух машын, то разрывы авіябомб у розных месцах* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

§ 743. Аднародныя дзейнікі могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе інтанацыі пералічэння. Яны ўтвараюць адкрыты рад аднародных членаў сказа. Такія дзейнікі могуць ужывацца без залежных і з залежнымі ад іх даданымі членамі сказа, прычым магчыма аб'яднанне двух і некалькіх аднародных дзейнікаў: *Лётны пляц, дамы, панелі моцна раптам падрабнелі, паплылі на поўнач дзесьці, а Хвядос, як быў, на месцы* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Там былі клёнікі, ліпкі, бярозкі* (Я. Брыль. Ліпка і клёнік). *Там звон пчалы, там бас чмяля, іграние, спеў навокала. І дрэвы скачуць, аж зямля пад праскамі завойкала* (К. Кірэенка. У вёсцы). *Тут цэлая заблытаная сетка пуцей, шэраг перасячэнняў, мноства сігнальных ліхтароў — зялёных, белых, чырвоных* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

§ 744. У некаторых выпадках аднародныя дзейнікі ўжываюцца ў спалучэнні са словамі, якія паўтараюцца амаль перад кожным дзейнікам. Такія словы служаць для ўзмацнення, падкрэслівання тых дзейнікаў, з якімі яны ўжываюцца: *Яе аўтарытэту ў значнай меры спрыялі яе здольнасці да навукі, а таксама і яе прыгожы твар, яе характар і ўвесь яе воблік* (Я. Колас. На ростанях). *Дэлегаты да Лазаны панаехалі вазамі. Іх сабралася бясконца — і англьцы, і японцы, і французы, італьянцы, нават тут амерыканцы, тут румынскія музыкі, тут баўгарчык невялікі, тут і грэкі, тут і туркі — і давай гуляць у жмуркі* (К. Крапіва. Гульня ў жмуркі). *І ўсе думкі іх, усе гутаркі, усе надзеі, усе жаданні былі пераплецены з разуменнямі — хлеб, зямля, праца, падаткі* (П. Галавач. Дасужая).

## АДНАРОДНЫЯ ВЫКАЗНІКІ

§ 745. Выказнікі з'яўляюцца аднароднымі, калі яны аднолькава адносяцца да аднаго або групы аднародных дзейнікаў і аб'ядноўваюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў ці бяззлучнікавай сувязі. Выказнікі могуць выступаць у якасці аднародных членаў без залежных і з залежнымі ад іх даданымі членамі сказа: *Лабановіч стаяў каля акна, як прычараваны, і не адводзіў вачэй ад гэтых самавітых, простых малюнкаў Палесся* (Я. Колас. У палескай глушы). *Чайкі гуляюць над люстранай вадою, пікіруючы на спажыву, або садзяцца на вільготны, вылізаны прылівам пясок, толькі імі затупаны, пацярушаны іхнімі перцамі* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Букрэй, дзед Талаш і Мартын Рыль уважна агледзелі мясцовасць і выбралі пазіцыю* (Я. Колас. Дрыгва).

Аднародныя выказнікі могуць выражацца рознымі часцінамі мовы. У залежнасці ад гэтага вылучаецца некалькі відаў такіх выказнікаў.

## АДНАРОДНЫЯ ВЫКАЗНІКІ, ВЫРАЖАНЫЯ ДЗЕЯСЛОВАМІ

§ 746. Аднародныя выказнікі, выражаныя дзеясловамі, складаюць самую шматлікую групу. Яны могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе злучальных злучнікаў, бяззлучнікавай або камбінаванай сувязі.

§ 747. Выказнікі, якія звязваюцца пры дапамозе адзіночных ці парных злучнікаў, утвараюць закрыты рад аднародных членаў: *Цягнік з р у ш ы ў с я з месца і п а ш ы б а в а ў далей* (Я. К о л а с. На ростанях). *П а с т а я л і людзі і р а з ы ш л і с я* (П. Г а л а в а ч. Яўленая). *Ён т о л ь к і ч ы т а е ды п і ш а* (Я. Б р ы л ь. У сям'і). *Усё гэта н е т о л ь к і н е з д а в а л ь н я л а Андрэя, а н а р а д ж а л а новыя пытанні* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі).

Аднародныя выказнікі, якія звязваюцца паўторнымі злучнікамі або бяззлучнікавым спосабам, утвараюць адкрыты рад аднародных членаў: *Некалькі разоў твар Паліводскага зменьваў свой колер: т о ч ы р в а н е ў, т о з е л я н е ў, т о зноў ч ы р в а н е ў* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *І з усёй страсцю свае душы ён з м а г а ў с я з дыверсантамі, д а п а м а г а ў мабілізацыі, а х о ў в а ў чыгуначныя і шашэйныя дарогі, з а б я с п е ч в а ў хлебам і мясам чырвонаармейцаў, б у д а в а ў супрацьтанкавыя равы, т у ш ы ў пажары ад бамбёжак* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

У сказе некаторыя аднародныя выказнікі могуць звязвацца пры дапамозе злучнікаў, а некаторыя — без іх. І ў гэтых выпадках утвараюцца адкрытыя або закрытыя рады аднародных выказнікаў. Калі папярэднія выказнікі злучаюцца паміж сабою бяззлучнікавай сувяззю, а наступныя — злучнікам, утвараецца закрыты рад аднародных членаў: *Арцём у с т а ў, апіраючыся на матыгу, п р а й ш о ў па агародзе, папраўляючы вывернутыя Сімонам тычкі, з а к р ы ў фортку і з а д у м а ў с я* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). І наадварот, калі папярэднія аднародныя выказнікі звязаны злучнікамі, а наступныя без іх, утвараецца адкрыты рад аднародных членаў: *І п і л і ц ь* [віхура], *і т р у ц і ц ь, і с е е муку, к а ч а е ц ц а, с т о г н е, л я ж ы ц ь на баку* (З. Б я д у л я. Зімнік).

## АДНАРОДНЫЯ ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ ВЫКАЗНІКІ, ЗВЯЗАНЫЯ СПАЛУЧАЛЬНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

§ 748. У сучаснай беларускай мове найбольш пашыранымі з'яўляюцца аднародныя дзеяслоўныя выказнікі, у якіх выражаецца паслядоўнасць дзеянняў. Такія выказнікі часцей за ўсё маюць аднолькавыя формы часу, але формы трывання могуць быць як аднолькавымі, так і рознымі. Такім чынам адрозніваюцца аднародныя выказнікі, якія характарызуюцца наяўнасцю або адсутнасцю паралелізму граматычных форм: *Насоўвалася хмара над лесам, месяц н ы р н у ў пад яе і с х а в а ў с я* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Сцяпанавіч с п ы н і ў с я і в ы й ш а ў з машыны* (Я. Б р ы л ь. Прывал). *Вось с а б р а л і с я мы троху ды т у р н у л і так паноў, што яны з перапалоху адракліся й жупаноў* (К. К р а п і в а. Чырвоная мятла добра мяла). *Яна* [Бярэзіна]... *у з д ы м е на свае асілкавыя плечы гэтыя ярусы лесу і п а н я с е аж да Дняпра, на Украіну* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *П а д з я к а в а ў Кірыла князю, у з я ў самага лепшага каня, с е ў і п а е х а ў* (Я. К о л а с. Чорт). *Па планеце п р о й д з е м бурай, Марксаў помнячы завет,— свет стары ушчэнт р а з б у р ы м і з б у д у е м новы свет* (К. К р а п і в а. Камсамольскія прыпеўкі). *Ён р а з г о р т в а е скрутак і п а к а з в а е настаўніку план* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Мы в ы х о д з і м на двор і р а з ы х о д з і м с я кожны ў свой бок* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *За ваколіцай на пыльнай дарозе буян-вецер с к р у ч в а ў с я*

*ў жмур, д а к о ч в а ў с я стралой да крайняй хаты, у з б я г а ў па сцяне і к і д а ў с я на яе старую віхрастую галаву* (К. Ч о р н ы. Быльнікавы межы). *Хаўрус паноў, ксяндзоў хлуслівы с н а в а ў тут кросны павуцця д ы з в о д з і ў з ісціны-пуця* (Я. К о л а с. Да 10-й гадавіны БССР).

У адным сказе аднародныя выказнікі з паслядоўнасцю дзеянняў могуць быць выражаны дзеясловамі розных трыванняў. Тут магчыма аб'яднанне двух або некалькіх выказнікаў, звязаных адзіночнымі ці паўторнымі злучнікамі: *На елачцы дрозд п р ы м а с ц і ў с я і в ы с в і с т в а е свае песні* (Я. К о л а с. Называецца — зарабіў). *Вясна, пачаўшыся раптоўна, несупынна з б і р а л а с і л у і ў некалькі дзён з м я н і л а палескі краявід* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Вось тут звер с п ы н і ў с я, с л у х а ў і п р ы н ю х в а ў с я* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Гунава п р а е х а ў на другі канец сялення, с п ы н і ў с я на мосце і доўга нешта а б д у м в а ў, аглядаючы балоты* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Ён с п а ў на сваім возе доўга і раптам у с х а п і ў с я і с е ў* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні).

Часам аднародныя выказнікі з паслядоўнасцю дзеянняў могуць быць выражаны дзеясловамі цяперашняга, прошлага і будучага часу: *Б і л і, б'ё м і б у д з е м біць фашысцкіх разбойнікаў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Яна* [мужнасць] *з г а і л а нашы раны, пякучы п а т у ш ы л а боль, яна і ш л а заўсёды з намі, в я л а і п а в я д з е у бой* (П. Г л е б к а. Мужнасць). *Хараства такога ў свеце н е б ы л о, н е б у д з е...* (Я. К у п а л а. Бандароўна).

У ролі аднародных членаў сказа з паслядоўнасцю дзеянняў могуць выступаць выказнікі, выражаныя дзеясловамі ў форме загаднага ладу: *В ы х о д з ь, народ працоўны, в і т а й свой дзень цудоўны, што даў табе прастор* (Я. К о л а с. Да дня 20-й гадавіны Кастрычніка). *П а с т о й, вясна, н е п а к і д а й нас, в я р н і с я яшчэ хоць на момант!* (Я. К о л а с. Так і трэба ашуканцу). *Радзіма, у якой столькі мораў і даляў і столькі шчаслівых шляхоў,— б у д у й караблі, п р а б і в а й с я праз хвалі да новых яе маякоў!* (К. К і р э е н к а. Караблі).

Простыя аднародныя дзеяслоўныя выказнікі могуць спалучацца са складанымі: *«Слухаем вашу каманду!» — весела г р ы м н у л і ў адказ партызаны і п а ч а л і п а м а г а ц ь прыехаўшым з б і р а ц ь іх невялікія манаткі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Часавы р а з д з е ў с я, н а б р а ў у кварту вады і с т а ў у м ы в а ц ц а* (К. Ч о р н ы. На граніцы).

§ 749. Пры выражэнні адначасовасці ці сумеснасці дзеянняў аднародныя выказнікі часцей за ўсё ўжываюцца ў форме аднаго і таго ж трывання і часу. Такія выказнікі выражаюцца дзеясловамі незаконччанага трывання цяперашняга і прошлага часу і дзеясловамі закончанага трывання прошлага і будучага часу: *Ш у м і ц ь і г а м о н і ц ь Савецкае Палессе* (Я. К о л а с. Дрыгва). *У чарацяным гушчары ш ч а б е ч а д ы ш а с т а е нейкая птушыная дробязь* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Людзі і ш л і і д у м а л і аб адным* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н я с е маці з яслей сына, п е с ц і ц ь яго, т у л і ц ь д ы в а р к у е з яснай мінай так, каб іх не чулі* (Я. К о л а с. Шчаслівая хвіліна). *Абоз і м ч ы ц ц а па завулку, г р ы м і ц ь і т р у б і ц ь і з в і н і ц ь* (К. К р а п і в а. Пажар). *Лес ш у м і ц ь і д р ы ж ы ц ь і з в і н і ц ь і г у д з і ц ь жоўтым лісцем шуршавым, дрыжучым* (З. Б я д у л я. Палескія байкі). *Буйная раса б л і ш ч э л а пад праменнямі сонца, з і х а ц е л а і п е р а л і в а л а с я вясёлкамі* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Вісеўшы ўсе гэтыя дні туман развеяўся, усюды п а с в я т л е л а і п а в е с я л е л а* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Р а з ы ш л і с я пасля гэтага і больш н е с п р а ч а л і с я* (П. Г а л а в а ч. Яўленая). *П р ы в і т а е м яго* [Май] *мы як трэба і с п а т к а е м яго як адзін — караваем калгаснага хлеба і сімфоніяй грознай машын* (Я. К о л а с. Камсамолец Май). *Тут работа адда-*

*насцю ўзнята, каб наш край багацей і мацней* (Я. Журба. На калгаснай сенажаці). *Хапала затое клопатаў цётцы Ганне. Але гэта ўжо ў яе характары жаночым: і павесяліць, і паспачувае, і з чалавекам аб усім пагаворыць, і распытае часам, а што да чаго* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Пры выражэнні адначасовасці ці сумеснасці дзеянняў аднародныя выказнікі могуць ужывацца ў адным і тым жа часавым плане, аднак трыванні могуць быць рознымі: *Лабановіч сеў на роўна спілаваны пень, сядзеў і штосьць думаў* (Я. Колас. У палескай глушы). *Над самым акенцам звісла голая вярбіна і глуха шумела, усё роўна як стагнала* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Ля срэбнай затокі ля рэчкі на лузе дубок прытаіўся і рос* (З. Бядуля. Ля срэбнай затокі).

У ролі аднародных членаў сказа са значэннем адначасовасці ці сумеснасці дзеянняў выступаюць выказнікі, выражаныя спалучэннем інфінітыва і безасабова-прэдыкатыўных слоў: *І з кожным днём усё больш было патайных, асцярожных шэптаў пра тое, што няёмка так доўга сядзець ды чакаць* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Вам жа толькі жыць ды жыць, ды жыццём тым цешыцца!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Як хораша жыць пад гэтымі аблачынкамі! Хадзіць, рухацца, удыхаць пах сасновага бору. Прыслухоўвацца да зялёнага шолаху ды глядзець, як іграе ранішняе сонца на жывой вадзе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі са спалучальнымі злучнікамі *і, ды* могуць знаходзіцца ў прычынна-выніковых адносінах. Гэтыя выказнікі заўсёды ўтвараюць закрыты рад аднародных членаў сказа: *Дзяўчаты не вытрымлівалі і дружна пырскалі смехам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Дзівак-чалавек, укалоў ды злуецца!» — сказаў ён* (Я. Брыль. Шчасце маленства). *Гальвас упершыню ўбачыў яго* [Антона] *і жахнуўся* (К. Чорны. Вялікі дзень).

## АДНАРОДНЫЯ ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ ВЫКАЗНІКІ, ЗВЯЗАНЫЯ СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

§ 750. Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі з супастаўляльнымі злучнікамі выражаюць адносіны неадпаведнасці, а таксама супраціўныя ці супастаўляльныя адносіны з некаторымі дадатковымі адценнямі: *У хату, грукнуўшы дзвярамі, не ўваходзіць, а ўскаквае дзяўчына* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Нічога нас тут не здзіўляе, а радуе многае* (Я. Брыль. Вачыма друга). *Яна хацела б нешта адказаць, ды не можа* (Я. Брыль. Казачок). *Учора яна расказвала пра пастанову, а гаварыла пра здароўе людзей* (І. Шамякін. Крыніцы). *Я прыпамінаю пакоі, але пазнаю іх не адразу* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне).

Пры дапамозе парнага злучніка *не толькі, а (але)* спалучаюцца аднародныя дзеяслоўныя выказнікі з супастаўляльнымі адносінамі без абмежавання дзеяння: *Дэталі можна не толькі выточваць, а і штампаваць* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Не толькі чулі і чыталі, але і думалі пра яе* [калектывізацыю] (Х. Шынклер. Хата). *Усё гэта не толькі не здавальняла Андрэя, а нараджала новыя пытанні* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

## АДНАРОДНЫЯ ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ ВЫКАЗНІКІ, ЗВЯЗАНЫЯ ПЕРАЛІЧАЛЬНА-РАЗМЕРКАВАЛЬНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

§ 751. Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі, звязаныя адзіночным пералічальна-размеркавальным злучнікам, абазначаюць дзеянні, якія ўзаемна выключаюць адно другое: *Выкінуць з памяці Мартына або думаць аб ім зусім спакойна... Аўгіня не магла* (Я. Колас. Дрыгва). *Чайкі гуляюць над люстранай вадою, пікіруючы на спажыву, або садзяцца на вільготны, вылізаны прылівам пясок* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Калі што трэба будзе памагчы вам альбо парадзіць — мы ў гэтым першыя* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»). *Гарадок нібы вымер ці то прытаіўся, усё чагосьці чакаючы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі, звязаныя паўторнымі пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі, абазначаюць дзеянні, якія папераменна замяняюць або ўзаемна выключаюць адно другое: *Гвацiя то майстраваў у пограбе, то складаў перамытыя бочкі пад павець, то знікаў некуды па справах* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Пануры голас з цемры не то гаворыць, не то марыць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ні то ён спалохаўся Макара, ні то адчуў, што не варт гаварыць з ім* (К. Чорны. Новыя людзі). *Майка альбо не адказвала Камару, нібы зусім не заўважаючы яго, альбо намагалася пайсці ў рашучую атаку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ці брыдзеш цэлы дзень па снезе, ці сядзіш за сталом,— усюды адны толькі думкі, адно і на сэрцы* (Я. Брыль. Казачок). *А па-твойму, дык найлепш — ні меркаваць, ні рабіць* (К. Чорны. Зямля).

Сустракаюцца нешматлікія выпадкі, калі дзеяслоўныя выказнікі могуць звязвацца падпарадкавальнымі злучнікамі, напрыклад пры дапамозе ўступальнага злучніка *хоць (хаця)* або ўступальна-супраціўнага злучніка *хоць, але*: *Сонца павольна ішло да захаду, хаця грэла ўсё яшчэ моцна* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Лемяшэвіч хоць не надта разумеў, але любіў музыку* (І. Шамякін. Крыніцы). *Адам хоць у душы і саромеўся сваёй слабасці, але захапіўся радыё* (Х. Шынклер. Пас зачапіў). *Ён [Даніла Платонавіч] хадзіў яшчэ шпарка і ўпэўнена, хоць і абапіраўся на кій* (І. Шамякін. Крыніцы). *Спазніліся мы, хоць і вельмі застаць іх хацелі* (А. Куляшоў. Пад восеньскім небам).

Адносна рэдка для сувязі дзеяслоўных выказнікаў ужываюцца злучальныя словы, якія выражаюць паслядоўнасць дзеянняў: *Сымоніха ўхапілася парадкаваць хату, потым пабегла даглядаць сваю лысую* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Разам з другімі пастаяў ён каля парога, пасля падышоў у куток і сеў на пустое месца* (К. Чорны. Новыя людзі). *Падняўшы капот, ён зазірнуў у цёплы, супакоены матор, пасля паволі абышоў машыну* (Я. Брыль. Прывал).

§ 752. Аднародныя дзеяслоўныя выказнікі, звязаныя бяззлучнікавай сувяззю, утвараюць адкрыты рад аднародных членаў, пры дапамозе якіх даецца пералічэнне адначасовых або папераменных дзеянняў: *У рукі ўласныя свой лёс узяў народ вольналюбівы, на вогнішчах палацы ўзнёс, ператварыў балоты ў нівы* (К. Крапіва. Нам памятны дваццаты год). *А дарога мая чуць віднаю шэраю ніткаю ідзе ўсё далей і далей, круціцца, абвіваецца наўкруг курганоў, узбягае на горы, спускаецца ў лагчыны, прападае ў лесе пад жывою страхою высокіх хвой і ялін* (Я. Колас. Думкі ў дарозе). *Вецер біўся, качаўся раз'юшаным зверам, бразгатаў у акно, аканіцамі ляпаў* (П. Глебка. Арка над акіянам).

## АДНАРОДНЫЯ ВЫКАЗНІКІ, ВЫРАЖАНЫЯ ІМЕННЫМІ ЧАСЦІНАМІ МОВЫ І ПРЫСЛОЎЯМІ

§ 753. Выказнікі, выражаныя іменнымі часцінамі мовы, а таксама прыслоўямі, ужываюцца значна радзей, чым выказнікі, выражаныя дзеясловамі. Аднародныя іменныя выказнікі могуць спалучацца пры дапамозе злучальных злучнікаў або інтанацыйна. У выпадках, калі іменныя выказнікі звязваюцца адным злучальным злучнікам, утвараецца закрыты рад аднародных членаў. Калі іменныя выказнікі звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю, а таксама пры дапамозе паўторных злучнікаў, утвараецца адкрыты рад аднародных членаў.

§ 754. Аднародныя выказнікі, выражаныя поўнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, а таксама формамі ступеней параўнання, могуць звязвацца пры дапамозе адзіночных, паўторных злучальных злучнікаў або бяззлучнікавай сувязі. Спалучальныя, супастаўляльныя, пералічальна-размеркавальныя, далучальныя злучнікі звязваюць іменныя выказнікі з раўнапраўнымі супастаўляльнымі, пералічальна-размеркавальнымі і іншымі адносінамі, прычым тут магчыма аб'яднанне двух або некалькіх выказнікаў: *Я быў у тую пару высокі і стройны, як таполя* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Час быў нялёгкі, але і вясёлы* (Я. Брыль. Ёй мы не скажам). *Алёша быў самы непрыкметны і сціплы сярод іх* (І. Шамякін. Крыніцы). *Ніколі на нашай дарозе раней такой не бывала праявы, і ночы, глянь, сталі цямней і страшней, патоптаны нівы і травы* (Я. Колас. Жураўліны вырай). *Я стары ўжо, а не малады* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Астап быў смутным, то вясёлым* (П. Трус. У семнаццаты год). *Ён стаяў здзіўлены і крышачку ўстрывожаны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Свет быў вялікі для яго, аднак і цесны, нібы клетка* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Усе мы былі або малыя, або самыя зялёныя падросткі* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Галена Прыбыткоўская была і вясёлая, і рухавая, і спрытная да ўсяго* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Васіль Іванавіч быў узрушаны, усхваляваны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Іншы раз аднародныя выказнікі, выражаныя прыметнікамі, звязваюцца пры дапамозе ўступальна-супраціўнага злучніка *хоць, але: Гэта была хоць і слабая, але адзіная тут яго надзея* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 755. Зусім рэдка ўжываюцца аднародныя іменныя выказнікі, выражаныя кароткімі прыметнікамі. Гэтыя выказнікі звязваюцца паміж сабою злучальнымі злучнікамі, якія аб'ядноўваюць два або некалькі аднародных членаў: *Блакіт небасхілу і ясен і чыст, не шэпча на дрэвах здаволены ліст* (Я. Журба. Навальніца). *Быў здароў, быў дуж і молад, ніпачым саха, сякера, што там значыў холад, голад, крэпка сіла, крэпка вера!* (Я. Купала. Нікому).

У радзе выпадкаў у якасці аднародных членаў могуць выступаць таксама іменныя выказнікі, выражаныя поўнымі ці кароткімі прыметнікамі і назоўнікамі: *Не папусціць ў крыўду славу, славу ды свабоду, хоць і дужы і багаты, ды панскага роду* (Я. Купала. Бандароўна). *Вось як жывога дзядзьку бачу, я тут партрэт яго зазначу. Ён невысок, не надта ёмак, ды карчавіты і няўломак* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 756. Аднародныя іменныя выказнікі, выражаныя назоўнікамі, звязваюцца паміж сабою злучальнымі злучнікамі (адзіночнымі ці паўторнымі), якія аб'ядноўваюць два ці некалькі выказнікаў, або бяззлучнікавай сувяззю: *Раіса была яго вучаніца і суседка* (І. Шамякін. Крыніцы). *І ўсё выразна гаварыла, што ён не толькі гаспадар, але й прыроджаны штукар* (Я. Колас. Новая зямля). *Я табе*

*дам — чалавек!* З л о д з е й *ты, а* н е ч а л а в е к! (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Гэта яшчэ не быў* м і р, *а* т о л ь к і п р ы м і р э н н е (У. Шахавец. Напарнікі). *Ён стаў* п ч а л я р о м, с а д а в о д а м і а г а р о д н і к а м (К. Чорны. Вялікі дзень). *І сад быў яго* ў ц е х а й, к р ы н і ц а й *яго ных* р а д а с ц е й, м е с ц а м а д п а ч ы н к у (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 757. Выказнікі, выражаныя прэдыкатыўнымі прыслоўямі, могуць быць аднароднымі, калі яны маюць агульную для іх звязку і аб'ядноўваюцца паміж сабою злучальнымі злучнікамі. Такі рад аднародных членаў складаецца з двух або некалькіх выказнікаў: *Там* б ы л о ц і х а *і* ў т у л ь н а (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У хаце каля акна* б ы л о п р ы т у л ь н а, ц і х а *і* в е с е л а (К. Чорны. Зямля). *У канцылярыі* с т а л а п р а с т о р н а, с в е т л а, ч ы с т а (І. Шамякін. Крыніцы).

### АДНАРОДНЫЯ ВЫКАЗНІКІ ЗМЕШАНАГА ТЫПУ (ІМЕННЫЯ І ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ)

§ 758. Аднародныя выказнікі, выражаныя спалучэннем дзеясловаў і іменных часцін мовы, у сучаснай беларускай мове мала пашыраны. Для аб'яднання гэтых выказнікаў ужываюцца злучальныя злучнікі, а таксама бяззлучнікавая сувязь. Па гэтай прычыне ўтвараюцца закрытыя і адкрытыя рады аднародных выказнікаў, для якіх не характэрны паралелізм іх граматычных форм. Ва ўсіх выпадках магчыма аб'яднанне двух або некалькіх выказнікаў: М а л ы б ы ў *Алесь Іванюта,* а л е п а м я т а е, *што падысці сюды было нельга* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Спачатку* в у ч ы ў с я, *а потым* ф е л ь ч а р а м б ы ў (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Яны адчувалі сябе шчаслівымі: дзеці іх* р а с л і, г а д а в а л і с я, д у ж э л і *і* б ы л і р а з у м н ы я (Я. Колас. У чым іх сіла).

Зрэдку аднародныя выказнікі змешанага тыпу з узмоцненым супраціўным адценнем аб'ядноўваюцца пры дапамозе ўступальнага злучніка *хоць,* які выступае ў пары з супраціўным злучнікам *але:* Х о ц ь *рана* і н е б ы л а с у р'ё з н а я, *але доўга* н е з а г о й в а л а с я (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## АДНАРОДНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 759. Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да аднаго і таго ж члена сказа і характарызуюць яго з якога-небудзь аднаго боку (напрыклад, па знешняму выгляду, колеру, памеру, форме, адценнях, якасці, сіле і г. д.): *Збіраючы сотні рачулак з гор струменняў, што радзяцца на ледніках, кіпіць у цяснінах, ляціць на прастор* б у р л і в ы, н я ў р ы м с л і в ы, д з ё р з к і *Вахш* (К. Кірэенка. Вахш). *І паціху вецер сіні* н а п р а з р ы с т ы, л ё г к і *насціл залаты гарох рассыпаў* т р а п я т к і х, н я м ы х *сузор'яў* (П. Панчанка. Сустрэча). *Успамінаю сасновае бярвенне на снезе і смех* х о ц ь с т о м л е н ы х, а л е в я с ё л ы х *лесарубаў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Вясна і лета недзе далёка, а ў гомане лесу чуўся ўжо цяжкі крок зімы* д о ў г а й, л ю т а й, м а р о з л і в а й (П. Галавач. Дасужая). *Адроджаны ўзняўся над краем будынак з* б е т о н у *і* с т а л і (К. Кірэенка. Камуніст).

Аднародныя азначэнні спалучаюцца пры дапамозе злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі. Паміж аднароднымі азначэннямі, звязанымі бяззлучнікавым спосабам, можна лёгка ўставіць злучнікі *і, ды: Навакол*

*густы, непралазны лес* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Навакол густы* [і, ды] *непралазны лес. Памятае наша вёска Сымона Мігая вясёлым, гуллівым хлопцам* (Х. Шынклер. Стрэлачнік Мігай). *Памятае наша вёска Сымона Мігая вясёлым* [і, ды] *гуллівым хлопцам.*

Заўвага. Аднародныя азначэнні, звязаныя пры дапамозе бяззлучнікавай сувязі, трэба адрозніваць ад неаднародных азначэнняў. Апошнія характарызуюць прадмет з розных бакоў, напрыклад указваюць на колер і памер, якасць і прыналежнасць, якасць і прызначэнне прадмета і г. д. Такія азначэнні не надзяляюцца інтанацыяй пералічэння, паміж імі нельга ўставіць злучнікі *і, ды: Гладкі дубовы статбун ляжаў упоперак Нёмана* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Шчаслівыя дзяцінья галасы напоўнілі ўвесь дом* (Я. Колас. У палескай глушы). *Надзвычай выразныя дзявочыя галасы заглушылі піяніна* (І. Шамякін. Крыніцы). *Пад сонцам грэліся бярозы ў белым тонкім палатне* (З. Бядуля. Яшчэ бялелі касагоры).

Азначэнні з'яўляюцца неаднароднымі і тады, калі адно з іх растлумачвае другое і служыць для ўдакладнення сэнсу. Такія азначэнні раздзяляюцца коскай, а часам паміж імі можна таксама ўставіць словы *гэта значыць, а іменна: Лёгкі, ледзьве чутны шолах прабег па іх, як бы яны аб чымсі перамаўляліся між сабою* (Я. Колас. У палескай глушы). *Хістаўся стары лад у самых асновах сваіх, у муках болю нараджаўся другі, новы парадак* (Я. Колас. Царскія грошы).

Азначэнні трэба лічыць неаднароднымі і ў тых выпадках, калі адно з іх непасрэдна звязана з назоўнікам і ўтварае з ім словазлучэнне, а другое адносіцца да гэтага словазлучэння і выступае ў ролі азначэння пры ім: *Не па грукату мін і снарадаў, не па спаленых вёсках я цябе пазнаю, мой суровы Калінінскі фронт* (П. Панчанка. Ідуць сібіракі). *У гэтай будыніне хаваліся галоўныя калгасныя прадукты* (Я. Колас. Адшчапенец).

Аднародныя азначэнні могуць быць дапасаванымі і недапасаванымі. Першыя звычайна ставяцца перад і пасля азначаемага слова, другія ж заўсёды знаходзяцца пасля яго. Дапасаваныя аднародныя азначэнні звычайна выражаюцца прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, недапасаваныя — часцей за ўсё назоўнікамі.

## ДАПАСАВАНЫЯ АДНАРОДНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 760. Дапасаваныя аднародныя азначэнні, якія знаходзяцца перад азначаемым словам, звязваюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў або бяззлучнікавай сувязі і ўтвараюць закрытыя і адкрытыя рады.

Злучальным злучнікам *і* звязваюцца два або некалькі раўнапраўных у сэнсавых і сінтаксічных адносінах аднародных азначэнняў. Ужыванне *і* паміж двума або перад апошнім аднародным членам рэзка абмяжоўвае пералічэнне, замыкаючы яго інтанацыйна: *Лабановіч здзівіўся, калі на цэлы рад яго запытанняў Мініч даваў дакладныя і грунтоўныя адказы* (Я. Колас. На ростанях). *У хаце стаяла суровая і ўрачыстая цішыня* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Такія ціхія, разважлівыя, чыстыя і па-свойму рамантычныя натуры часта бываюць страшныя ў крытычныя для іх хвіліны жыцця* (І. Шамякін. Крыніцы). *Куртаты, шыракаваты на канцы, і трохі задзёрысты нос яго падняўся ўгору і апусціўся ўніз* (Я. Колас. Дрыгва).

Злучнік *і* можа паўтарацца пры кожным з аднародных членаў або пры некаторых з іх: *У Адама былі галіфэ і з чырвоным, і з зялёным, і з сінім кантамі* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Новае і кожны раз няяснае і чароўнае пачуццё прастору і волі калыхала людзям сэрца* (Я. Колас. На ростанях).

Злучнік *і* можа спалучаць дапасаваныя аднародныя азначэнні ў пары, якія звязаны бяззлучнікавым спосабам: *Так, з людзьмі розных узростаў сустракаліся мы ў Югаславіі, аднак найбольш запала ў душу нам працавітая і мужная, вясёлая і шчырая моладзь гэтай краіны* (Я. Брыль. Як прывітанне простым).

§ 761. Дапасаваныя аднародныя азначэнні могуць звязвацца пры дапамозе супастаўляльных і пералічальна-размеркавальных злучнікаў: *Жнівеньскімі начамі загараліся рэшткі былых панскіх, а цяпер нямецкіх маёнткаў — баз жывёлы і збожжа* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *І хацелася тады ёй выказаць гэтай незнаёмай, але ўжо блізкай жанчыне ўсё, што перадумала, што пераэкыла* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *Глядзіш — узносяцца будынкі то з той, то з гэтай стараны, і цешаць вочы мне навінкі і сэрца радуюць яны* (Я. Колас. На новай зямлі). *Так заўсёды рабілася на вуліцы, калі ці тоў пахмурны, ці то ў сонечны дзень раздавалася паблізу тая песня* (М. Лынькоў. Тры злоты). *Грубы і роўны голас чалавека ў шыракаплечай бравারцы, пацягненай ні то жоўтым некалі, ні то зялёным, а цяпер аблезлага няпэўнага колеру сукном, прагучэў цвёрда* (К. Чорны. Зямля). *Я лічу, што яны знаходзяцца альбо на адным, альбо на другім з бліжэйшых узгор'яў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Сустракаюцца выпадкі спалучэння аднародных дапасаваных азначэнняў пры дапамозе ўступальна-супраціўнага злучніка *хоць*: *Яго падтрымалі дружнымі, хоць і няроўнымі галасамі* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

§ 762. Дапасаваныя аднародныя азначэнні, якія стаяць перад азначаемым словам, могуць спалучацца паміж сабою бяззлучнікавым спосабам: *Стаіць цяплынь і пахне мёдам новы, ціхі, вешні дзень* (З. Бядуля. Летнік). *Дарожны рэпертуар складаецца з польскіх, беларускіх, рускіх, украінскіх песень* (Я. Брыль. Вачыма друга).

Дапасаваныя аднародныя азначэнні, якія знаходзяцца пасля азначаемага слова, спалучаюцца пры дапамозе злучальных злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі і ўтвараюць закрытыя ці адкрытыя рады. Найбольш ужывальным тут з'яўляецца злучнік *і*: *Вобраз мілы і далёкі ў сэрцы кінуў след глыбокі, ціхай жаласці пячаць* (Я. Колас. Успаміны). *Прастор лашчыў вока красой непаўторнай і свежай* (П. Панчанка. Майскі ранак). *І ўсё патрошку ажывала: на дрэве покаўка таўшчала, ў сабе лісточак далікатны, пахучы, свежанькі, прыўдатны на добрым сонцы гадавала* (Я. Колас. Новая зямля). *Раскатам мнагаструнным, узнімным, дружным, юным грыміць з ім песень хор* (Я. Колас. Да дня 20-й гадавіны Кастрычніка).

Злучнік *і* можа паўтарацца пры ўсіх аднародных постпазіцыйных азначэннях ці пры некаторых з іх або аб'ядноўваць аднародныя азначэнні ў пары: *Усю ноч, ад рэчкі і па Нёман, ушыр, удоўж нясецца гоман няўцямны, сцішны і таемны і разам страшны і прыемны* (Я. Колас. Новая зямля). *На поўнач і поўдзень у шырокай даліне густа стаялі стагі, розныя па форме — нізкія і пузатыя, высокія і тонкія, прыгожыя і нязграбныя, дзе-нідзе крыху схіленыя, збочаныя, з бярозавымі і дубовымі вопаўзнямі* (І. Шамякін. Крыніцы).

## НЕДАПАСАВАНЫЯ АДНАРОДНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 763. Недапасаваныя аднародныя азначэнні ў сучаснай беларускай мове выражаюцца назоўнікамі, інфінітывам, а таксама словазлучэннямі.

§ 764. Недапасаваныя аднародныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі ці без іх у формах роднага, вінавальнага, творнага і меснага склонаў, спалучаюцца часцей за ўсё пры дапамозе злучніка *і* або інтанацыйна: *Дні трывог, страху і непакою пачаліся*

*для дзеда Талаша і яго сям'і* (Я. Колас. Дрыгва). *Калгасныя таварыствы гналі, і на продаж, і сабе на патрэбу, віно з яблык, ігруш, вішань, сліў, з лясных і агародных ягад, з арабіны і дзікіх ігруш* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Гэта быў волат на рост і таўшчыню* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Цябе акрыляе адвагай песня пра подзвіг «Варага», пра сэрца Лазо, пра віхуры, пра грукат гармат на Амуры* (К. Кірэенка. Галасы мораў). *Як жа хораша з сябрамі песні пець Алёнцы шчаснай пра зямлю сваю — з барамі, з лугам, з полем, з небам ясным* (К. Кірэенка. Алёнчына школа). *Дзеда непакоіла думка аб доме, аб Панасе* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 765. Недапасаваныя аднародныя азначэнні, выражаныя інфінітывам, часцей за ўсё спалучаюцца пры дапамозе злучніка *і* або інтанацыйна: *Патузваючы лейцы, малады фурманшчык перажываў дзіцячае жаданне спыніць каня, адысціся да шыпшынніку і нарваць, немаведама дзеля чаго, поўную шапку ягад* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *З'явілася рашэнне адратаваць яго, вырваць з кіпцюроў смерці* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *І бурліла ў людскіх пачуццях жаданне як бы крыкнуць усёй зямлі, сказаць усяму, што ёсць,— аб радасці дзён, аб песнях і звонах жыцця* (К. Чорны. Свята працы і свету). *Спроба ворага з ходу авалодаць пераправай і ўварвацца ў пушчу на гэтым участку не ўдалася* (Я. Брыль. Нёманскія казакі.) *А за ветласцю хавалася жаданне спіхнуць ад сябе падалей адказнасць, як мага адкараскацца ад праяўлення ініцыятывы* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

§ 766. У ролі недапасаваных аднародных азначэнняў могуць выступаць словазлучэнні, якія звязваюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў або інтанацыйна: *Гэты твар з вострым абцягнутым падбародкам, з жоўтым касцістым носам, з ямамі на шчаках, з цёмнымі ценямі пад запалымі вачыма, з глыбокімі рысамі маршчын — ні ў чым не нагадваў Міхаіла Ганарджыя* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Праўда, да гэтае адзежыны больш падыходзіла слова «лапсярдак», чым сурдут, бо ён быў пашыты на чалавека — шырынёю на аршын у плячах і на паўтары, а то і цэлых дзве, галавы вышэйшага ад Лабановіча* (Я. Колас. У палескай глушы). *За поплавам былі дзве вуліцы новых хат і дамкоў з жоўтымі шуфлядамі і шалёўкай вокан, з кветкамі ад вуліцы і вяндлярнямі на агародах* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ён* [настаўнік] *прынёс з сабою вялікую кнігу ў чорнай вокладцы, з наклеенаю на адным баку белаю паперкаю* (Я. Колас. Школа).

Заўвага. У некаторых выпадках пры адным азначаемым слове могуць быць як дапасаваныя, так і недапасаваныя азначэнні. Яны стаяць, як правіла, пасля азначаемага слова: *Пасля дзеда Талаша выступаў чалавек з сякераю за поясам, немалады, сутулаваты, з даўно нябрытым тварам* (Я. Колас. Дрыгва). *Сосны — адна ў адну, тоўстыя, роўныя, з белымі ад інею шапкамі, якія зліваліся з такім жа белым небам* (І. Шамякін. Крыніцы).

## АДНАРОДНЫЯ ДАПАЎНЕННІ

§ 767. Аднароднымі з'яўляюцца дапаўненні, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да аднаго і таго ж слова (звычайна выказніка) і характарызуюцца паралелізмам сваіх граматычных форм. Часцей за ўсё ў якасці аднародных дапаўненняў выступаюць назоўнікі з прыназоўнікамі ці без іх і займеннікі. Аднародныя дапаўненні могуць ужывацца без залежных і з залежнымі ад іх даданымі членамі сказа: *І кмінам, і сма-*

*жанай рыбай, і ветрам падула з гары* (А. Куляшоў. З дзённіка брыгадзіра). *Адны толькі цёмныя пушчы захоўвалі сваю звычайную суровасць, нават няветлую панурасць, тоячы ў сваіх нетрах звярыныя логавы, непраходныя дрыгвяністыя балоты, рэчкі, азярцы, пясчаныя груды-астравы, вузкія, не ўсім вядомыя, праходы, дарогі з бясконцымі бродамі і цэлыя шырачэзныя рэчкі снегавой вады* (Я. Колас. Дрыгва). *Вазіў некага ці нешта* (К. Чорны. Зямля).

У якасці аднародных дапаўненняў могуць выступаць таксама словазлучэнні і нават структурныя часткі складаных сказаў: *Так, не веру, не верыцца мне ні вадзе, ні чаротаў сцяне, ні таму, што ручай безназоўны да бору прывёў нас* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Ён вельмі многа думае аб Скіп'ёўскім Перабродзі, аб Ганне і аб бацьку, аб Скіп'ёўскім лесе і аб усім, што ў гэтым баку робіцца* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Нібы на нейкім перавале, стаю, гляджу назад з гары і бачу пройдзеныя далі, і шлях праметраны стары, і ўсё, што ззаду засталося, і ўсё, што знойдзена ў вясну* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Акрамя гэтых пакутлівых пытанняў, была яшчэ злосць на самога сябе за сваю нястрыманасць, за тое, што раскрычаўся* (І. Шамякін. Крыніцы).

Аднародныя дапаўненні спалучаюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі. Калі яны звязваюцца адзіночным злучнікам, утвараецца закрыты рад аднародных членаў, калі ж паўторнымі ці бяззлучнікавай сувяззю, утвараецца адкрыты рад аднародных членаў.

Заўвага. Аднародныя дапаўненні могуць звязвацца пры дапамозе злучальных слоў у спалучэнні са злучнікам *а*, які выконвае функцыю ўзмацняльнай часціцы: *За квасам елі верашчаку, а потым блінчыкі на маку, а там ламанцы, праснакі з пшанічнай добрае мукі* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 768. Найбольш распаўсюджанымі і ўжывальнымі з'яўляюцца аднародныя дапаўненні, звязаныя спалучальнымі злучнікамі, якія могуць быць адзіночнымі, могуць паўтарацца пры асобных дапаўненнях ці аб'ядноўваць іх у пары. Гэтыя злучнікі звязваюць раўнапраўныя ў сінтаксічных адносінах аднародныя дапаўненні.

Калі дапаўненні выражаюцца формамі ўскосных склонаў з прыназоўнікамі, то пры спалучэнні іх адзіночным злучнікам прыназоўнік звычайна ставіцца перад першым з аднародных дапаўненняў: *Прад народам і Радзімай клятвай вернай, нерушымай паклянуся я* (Я. Колас. Клятва). *Клумбы і газоны і ўтрыманыя ў парадку дрэвы сведчылі аб яго дбайнасці і ўмельстве* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Зямля маёй цудоўнай Магілёўшчыны, ты ўся з красы і радасці саткана* (К. Кірэенка. Магілёўшчына). *«Схіляю галаву перад мудрасцю і юнасцю»,— без усмешкі сказаў ён замест звычайных слоў прывітання* (І. Шамякін. Крыніцы). Даніла. *Дзякуй добрым людзям за клопаты ды спагаду* (К. Крапіва. Партызаны).

Пры спалучэнні аднародных дапаўненняў паўторнымі злучнікамі прыназоўнік ставіцца звычайна перад кожным з гэтых дапаўненняў: *Слаўся ты, мая дарога, дзе ў жыцці сустрэцца можна і з натхненнем непачатым, і з руплівасцю трывожнай* (К. Кірэенка. Слаўся ты, маё юнацтва). *Было шмат агульнага ў Бародкі і ў гэтага: і ў росце, і ў паважнасці, і ў тварах, аднолькава чыста выгаленых, поўных, па-мужчынску прыгожых* (І. Шамякін. Крыніцы). *Тое было і з пасекай, і з канавамі на балоце, як капалі, і з вялікай сажалкай за садамі, у якой разводзілі пасля карпаў, і з лядамі ў лесе, на якіх вырошчвалі потым добрае проса* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І па тону гутарак, і па выразе яго твару*

*відаць, што Аксён не пярэчыць супроць вучэння* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Пры спалучэнні аднародных дапаўненняў у пары прыназоўнік часцей за ўсё ставіцца перад першым дапаўненнем кожнай пары, а самі пары звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю: *Праходзяць дні, ідуць сваёй чарадою зімы і леты з іх халадамі і спякотамі, з іх бурамі і навальніцамі* (Я. Колас. У старых дубах). *За пакуты, кроў і слёзы, за разбой і грабяжы ім* [фашыстам] *драўляныя, з бярозы, забяспечаны крыжы* (К. Крапіва. Два парады). *Тыя гады прымусілі нас змалку прывучвацца да плуга і касы, да пілы і сякеры, да гэбля і долата, да молата і кавадла* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

§ 769. Аднародныя дапаўненні, якія звязваюцца супастаўляльнымі злучнікамі, утвараюць закрыты, але расчлянёны рад аднародных членаў. Гэтыя дапаўненні могуць ужывацца без залежных і з залежнымі ад іх словамі. Супастаўляльныя злучнікі ўказваюць на адносіны, у аснове якіх ляжыць супастаўленне, супраціўнасць або неадпаведнасць паміж прадметамі і з'явамі аб'ектыўнай рэчаіснасці: *Народ не пра вайну гамоніць, а пра дом* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Не васількамі, а буйным калоссем, лета, нам сэрца крані* (К. Кірэенка. Васількі). *Ведаеце, ніяк не магу зразумець,— ну, навошта ўсе гэтыя размовы, хіба не лепей спраўна працаваць; працай, а не гутаркамі будаваць вытворчасць* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). *Ад поспехаў тваіх залежыць лёс не толькі горада, а ўсёй краіны* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Учора зусім выпадкова яна сустрэлася вечарам на вуліцы са сваёй калі не таварышкай, то ва ўсякім разе блізкай знаёмай па інстытуту Надзяй Канапелькай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Лемяшэвіч адчуў не тое што рэўнасць да Наталлі Пятроўны, а нейкае іншае, больш складанае пачуццё* (І. Шамякін. Крыніцы).

Калі рад складаецца з некалькіх аднародных дапаўненняў, то супастаўляльны злучнік можа звязваць толькі апошнія два, папярэднія ж спалучаюцца толькі інтанацыйна: *І зараслі* [пуцявіны] *не палынамі, не крапівой, не драсянамі, не чаратом, не лебядою,— а беларускаю бядою* (Я. Колас. Новая зямля). *Не за цяжкую работу, не за вечную турботу, а за іншы, горшы здзек слязьмі плакаў чалавек* (З. Бядуля. Адплата пану).

У рэдкіх выпадках для спалучэння аднародных дапаўненняў ужываецца параўнальна-супастаўляльны злучнік *як, так і*: *Як партызанам, так і падпольшчыкам трэба асабліва пільнавацца дысцыпліны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 770. Аднародныя дапаўненні, якія звязваюцца пры дапамозе пералічальна-размеркавальных злучнікаў, утвараюць адкрыты рад. Гэтыя злучнікі ўказваюць на пералічэнне аднолькава магчымых або немагчымых папераменна і ўзаемна выключаючых з'яў, падзей. Аднародныя дапаўненні ўжываюцца без залежных і з залежнымі ад іх членамі сказа: *Не чуваць было ні лёскату машын, ні грукату матораў, ні людскіх галасоў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Праплыве пад ім горад, ён сядзіць і мала гора, толькі дзіва яму зноў: ані дыму табе тога непрагляднага, густога, ні фабрычных комінаў* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Не ведае Агатка, на што глядзець ёй: ці на гэтыя трубы бліскучыя, ці на дзяцей, ці на іх чырвоныя павязкі?* (Я. Колас. Агатка). *Праўда, ён марыў неўзабаве паехаць вучыцца не то на інжынера, не то на артыста* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вось ён спатыкнуўся ці то аб камень, ці то аб корань* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Удзень усё было як бы сціснута то познім усходам сонца, то раннім лістападаўскім змярканнем, то нежывым*

*бляскам* *халоднага* *сонца* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ні месяца, ні зорак зусім не было відаць* (Я. Колас. Адгукнуўся).

У некаторых выпадках аднародныя дапаўненні могуць звязвацца паміж сабою пры дапамозе адзіночнага размеркавальнага злучніка, які ўказвае на неабходнасць выбару аднаго з прадметаў: *Я прыйшоў да цябе з просьбай: дапамажы нам, Тэафіл, справай ці парадай* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Аж віхрыў з-пад ног снежны пыл, калі пускаліся ў мяцеліцу альбо лявоніху* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 771. Значную групу складаюць аднародныя дапаўненні, звязаныя бяззлучнікавым спосабам, якія ўтвараюць адкрыты рад аднародных членаў і выражаюць простае пералічэнне. Такія дапаўненні могуць ужывацца як з залежнымі, так і без залежных ад іх членамі сказа: *Дзед памёр, і родны бацька гаспадарку з родным дзядзькам падзяліць не мог спакойна. Пайшлі бітвы. Пайшлі войны за гародзік, за карову, за цабэрак, за вяроўку, за бярвенне на гумнішчы, за саху, за тапарышча* (З. Бядуля. З паэмы «Ярыла»). *Добра, што цягне яго да людзей, да вучобы, да працы* (Я. Брыль. Галя). *Расказаў дзед Талаш пра падзеі апошняга часу, пра Букрэеўскі паход, пра стычку з палякамі пад Ганусамі, пра свае прыгоды, пра захват польскай контрразведкі* (Я. Колас. Дрыгва). *Падабаецца супрацоўнікам канторы раўнаважнасць яго ных паводзін, таварыскасць у зваротах, чуласць да ўсіх акалічнасцей працы, жыцця* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

## АДНАРОДНЫЯ АКАЛІЧНАСЦІ

§ 772. Аднароднымі з'яўляюцца акалічнасці, якія маюць адно і тое ж сінтаксічнае значэнне (спосабу дзеяння, месца, часу, прычыны і г. д.). Як і іншыя аднародныя члены сказа, аднародныя акалічнасці звязваюцца паміж сабою злучальнымі злучнікамі або бяззлучнікавай сувяззю. У склад аднародных акалічнасцей уваходзяць таксама залежныя ад іх даданыя члены сказа.

Аднародныя акалічнасці звычайна выражаюцца аднолькавымі часцінамі мовы, г. зн. або прыслоўямі, або дзеепрыслоўямі, або назоўнікамі ў формах ускосных склонаў: *Марозны снег пад нагамі парыпвае гучна і бадзёра* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *І не толькі ўдзень, а і ўначы ідуць цягнікі* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). *Раман сядзеў пад дубам, то прыслухоўваючыся да грому гармат, то пазіраючы на падарожных* (Я. Колас. Дачакаўся). *За сумленную работу ў вёсцы і ў сталіцы ёсць у нас і хлеб, і боты, чыстыя святліцы* (К. Крапіва. Кім мы сёння сталі). *Па-вясноваму молада і па-святочнаму ўрачыста выглядае сёння наш працавіты Мінск* (Я. Брыль. Ты мой найлепшы друг). *Яны і ў хаце, і ў сенцах, і на прызбах стоячы падглядаюць у акно* (П. Галавач. Кнак).

Акрамя таго, аднародныя акалічнасці могуць выражацца неаднолькавымі часцінамі мовы або неаднолькавымі формамі назоўнікаў: *А другі ні то жартам, ні то сур'ёзна сказаў...* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»). *Цімошка пільна і з трывогаю пазіраў на кожную новую асобу* (Я. Колас. Чоран). *Жылі хоць і не багата, але ў дастатку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Касцы ідуць то грамадою, то шнурам цягнуць, чарадою, то паасобку, то па пары ідуць касцы, ідуць, як хмары* (Я. Колас. Новая зямля). *Рос клёнік не адзін, а разам з іншымі дрэўцамі* (Я. Брыль. Ліпка і клёнік).

§ 773. У залежнасці ад значэнняў аднародныя акалічнасці падзяляюцца на акалічнасці спосабу дзеяння, месца, часу, прычыны, мэты, меры і ступені.

Аднародныя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі, дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, звычайна звязваюцца пры дапамозе адзіночнага злучніка *і* і ўтвараюць закрыты рад аднародных членаў двухчленнага або трохчленнага саставу: *Але як весела і міла тут пчолка ў вуллях гаманіла* (Я. Колас. Новая зямля). *Узносіцца краіна, як скала, усё вышай і дужэй* (Я. Колас. Роднай краіне). *Густа і роўна стаяла над прымёрзлай зямлёй рунь* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Шумна і гучна ўлетку на беразе Нёмна* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Фыркаючы і сігналячы, праімчаліся штабныя машыны* (І. Шамякін. У добры час).

Аднародныя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі і дзеепрыслоўямі, могуць аб'ядноўвацца ў пары, якія звязваюцца паміж сабою бяззлучнікавым спосабам або пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі: *Так лёгка і хораша, спраўна і спорна ідуць у пракосе сапраўдныя касцы* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Нібы расказваюць* [сосны] *чароўныя казкі маленства — адну за адной, нястомна і радасна, ціха і мудра, як гэта можа добрая, пагодлівая старасць* (там жа). *Стагнаў ён доўга, стагнаў на ўсе лады і галасы: то высока і тонка, то нізка і тоўста, то каротка, адрывіста, то працяжна і пявуча* (Я. Колас. Выстагнаўся).

Акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі або дзеепрыслоўямі, могуць звязвацца супастаўляльнымі і пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі і ўтвараць закрытыя або адкрытыя рады аднародных членаў: *Усе таварышы вельмі мякка, але настойліва прасілі яго астацца на месцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пасля ўважлівага вывучэння прапановы аб штампоўцы дэталей начальнік бюро рацыяналізацыі і вынаходстваў мякка ды даволі бязлітасна растлумачыў Андрэю, што яна — пакуль толькі заяўка* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Дзе з войскам праходзілі, дзе ваявалі, і як вас — ці добра, ці кепска — там людзі страчалі?* (К. Кірэенка. У бацькавай хаце). *То стрымліваючыся, то ледзь не подбегам Алесь ішоў да Краўца* (У. Шахавец. Напарнікі). *«Трэба залічыць дзеда ў рады Чырвонай Арміі і выдаць яму стрэльбу, як чырвонаармейцу»,— не то жартліва, не то сур'ёзна заўважыў адзін з ротных камандзіраў* (Я. Колас. Дрыгва). *«Ага... кажаш пісьмо,— сказаў стары.— Можа ад сына з войску»,— ні то падкрэсліваючы, ні то пытаючы, сказаў ён* (К. Чорны. На варце).

Аднародныя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі і дзеепрыслоўямі і звязаныя бяззлучнікавым спосабам, утвараюць адкрытыя рады аднародных членаў і знаходзяцца ў сінанімічных адносінах паміж сабою: *Смачна, салодка пахне высокая, густая кукуруза* (Я. Брыль. Сэрца камуніста). *Спакойна, разважна, дакладна ён расказаў усё ад пачатку да канца* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Рагаталі зычна, шчыра, весела* (К. Чорны. Па дарозе).

Аднародныя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя назоўнікамі ў формах ускосных склонаў, аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальных злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі. У першым выпадку ўтвараюцца закрытыя ці адкрытыя рады аднародных членаў, у другім выпадку — заўсёды адкрытыя рады.

Калі рад аднародных акалічнасцей, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, спалучаецца пры дапамозе адзіночнага злучніка *і*, то прыназоўнік звычайна ставіцца ў пачатку рада аднародных членаў, і, на-

адварот, калі акалічнасці звязваюцца супастаўляльнымі, пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі і бяззлучнікавай сувяззю, прыназоўнікі ставяцца перад кожным з аднародных членаў: *З шумам і гамам раскладалі начлежнікі агонь* (Я. Колас. На начлезе). *Радзілася ў вёсцы, жыла ў беднасці ды ў горы* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *То ў роспачы, то ў крыўднай злосці павышалі галасы* (К. Чорны. Забойства). *І вось ты без слоў, але з тугой... ты крычыш, пратэстуеш усімі сіламі маладое душы* (Я. Брыль. Ты мой найлепшы друг). *«Глядзі ты, яшчэ бадзёра ходзіць»,— не так са здзіўленнем, як з насмешкай падумаў Алесь* (У. Шахавец. Напарнікі). *Апошняе было сказана не толькі без усякай злосці, а нават з нейкай шматабяцаючай суровай пяшчотнасцю* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Шпаркім тэмпам, скорым ходам прабягаюць год за годам* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Глядзяць Даніла і Марына на незнаёмага, а той глядзіць на іх з прыветнай мінай, з усмешкай ціхай, з цеплынёй* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Адносна рэдка для аб'яднання аднародных акалічнасцей спосабу дзеяння, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, ужываецца ўступальны злучнік *хоць*. У гэтых выпадках утвараецца закрыты расчлянёны рад аднародных членаў: *А затым ізноў у працы дні пайшлі, хоць і ў трывозе* (К. Кірэенка. Алёнчына школа).

§ 774. Аднародныя акалічнасці месца могуць выражацца прыслоўямі, назоўнікамі і звязвацца паміж сабою пры дапамозе спалучальных, супастаўляльных, пералічальна-размеркавальных злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі. Акалічнасці месца, выражаныя прыслоўямі, часцей складаюць закрыты рад з двух слоў: *Я пілой павяду і туды і сюды — буду пляжыць гнілле за вякі, за гады* (З. Бядуля. Дрывасек). *Вывучай яго* [жыццё] *не зверху, а з сярэдзіны* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Мае таварышы! Ніколі не ведаў страху наш атрад: з любой засады — вымчаць коні, а ці наперад, ці назад* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *Жывём ні тут, ні там* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Закруціў* [Нёман] *і не пускае ані ўзад, ані ўпярод, кружыць міску і ганяе страшны той вадаварот* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Першыя зоры ўжо замігацелі то там, то сям у бяздонным небе* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Звілістая дарога ішла то ўправа, то ўлева* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Акалічнасці месца, выражаныя назоўнікамі ў формах аднолькавых ці розных ускосных склонаў з прыназоўнікамі ці без іх, складаюць закрыты ці адкрыты рад з двух або некалькіх слоў: *У лесе і ў палях пачынала цямнець* (Я. Колас. У палескай глушы). *Дзверы — і ў сенцах, і ў кухні, і ў хаце — старыя, скрыпучыя* (Я. Брыль. Галя). *Кабеты ў гэтыя дні даставалі насенную бульбу з паграбоў ды капцоў* (К. Чорны. Свята працы і свету). *Людзі — або ў дварах пад павецямі, або ў хатах* (П. Галавач. Суседзі). *Вы там у горадзе ці ў вёсцы жывяце?* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча). *Браточкі! Ды я ж не ўцякаю... Няма мне прытулку ні ў гаю, ні ў лесе, ні ў лузе, ні ў полі* (Я. Колас. Адплата). *Пісьмо — не з рэдакцыі, а ад Максіма, сябра яшчэ з ваенных дзён* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Моцны звонкі гук набліжаўся, і нельга было зразумець, адкуль ён ідзе: ні то з горада, ні то з бязжызных караблёў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Пад узгорак або ў гразь — конь насілу возьме* (К. Крапіва. Дзед і Баба).

У паасобных выпадках аднародныя акалічнасці, выражаныя назоўнікамі, могуць звязвацца пры дапамозе злучнікаў у пары, якія спалучаюцца паміж сабою бяззлучнікавым спосабам: *У хаце і ў клеці,*

*у клуні і хлявах дабра было многа* (Я. Колас. Дрыгва). *Вялікая шаша... хавалася ў полі і хмызняках, на тарфяніках і ў дробных лясках, дзесьці на поўдзень адтуль* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Заўвага. Аднародныя акалічнасці месца, выражаныя прыслоўямі і назоўнікамі, трэба адрозніваць ад неаднародных. Акалічнасці з'яўляюцца неаднароднымі, калі адна з іх мае неакрэсленае значэнне, а другая ўдакладняе яе. Удакладняючая акалічнасць на пісьме заўсёды выдзяляецца з двух бакоў коскамі: *А ў нашай жа рэспубліцы, пад бокам, у цёмным і густым бары ды жыў Каршун стары* (К. Крапіва. Каршун і Цецярук).

Неаднароднымі трэба лічыць таксама акалічнасці месца, якія ўказваюць на зыходны і канечны пункты руху, але два або некалькі спалучэнняў такіх акалічнасцей утвараюць аднародныя групы даданых членаў: *Шырока і размашыста пралягаюць яны* [шляхі] *ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў* (Я. Колас. У палескай глушы). *Леніна слова — мільёны збірала, Партыі слова — на бітву вяло! Вось яны коцяцца ўзрушаным валам з горада ў горад, з сяла у сяло* (П. Глебка. У тыя дні).

§ 775. Аднародныя акалічнасці часу могуць выражацца прыслоўямі, назоўнікамі ў формах ускосных склонаў і цэлымі іменнымі словазлучэннямі. Як і іншыя аднародныя акалічнасці, яны спалучаюцца паміж сабою пры дапамозе злучальных злучнікаў і бяззлучнікавай сувязі і ўтвараюць закрытыя ці адкрытыя рады аднародных членаў: *Мне яго і шкада было, і тады і цяпер* (К. Чорны. Зямля). *Нічога, тата!.. Свет — ён будзе! А вось такіх, як былі людзі, паноў і іншых жывадзёраў, не сёння, заўтра, але скора у нас іх тут зусім не будзе* (П. Трус. У семнаццаты год). *Абсаджаны па баках кучаравымі бярозамі, вясной і летам цягне да сябе ён* [шлях] *падарожных* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *І асабліва гучна звініць гэтая песня надвячоркам або раніцаю* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Улетку і ў раннюю восень тут заўсёды шумеў вецер у лісці* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Звер блукае дзікі ў пагоды, у імжакі* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч не меў Максім супакою* (Я. Колас. Малады дубок). *Не гадзіну, не дзень, наваті не тыдзень, а праз цэлыя месяцы хмурыцца яго крутая лабаціна* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *У кожны міг, у кожны час душою, сэрцам я між вас, браты мае, байцысябры, зямлі святой багатыры!* (Я. Колас. Абаронцам роднай зямлі).

Заўвага. Дзве акалічнасці часу не з'яўляюцца аднароднымі, калі другая з іх удакладняе папярэднюю: *А назаўтра — у нядзелю — Грышка і Васька склікалі сход вясковай моладзі* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»).

§ 776. Аднародныя акалічнасці прычыны ў сучаснай беларускай мове выражаюцца назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *ад* і звязваюцца злучальнымі злучнікамі ці бяззлучнікавай сувяззю, утвараючы закрытыя ці адкрытыя рады аднародных членаў: *Ішоў і ног не адчуваў пад сабой ад радасці, ад душэўнага ўзрушэння* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ці то ад старасці, ці то ад другой якой прычыны, ён заўсёды забываў тое, аб чым пачынаў гаварыць* (К. Чорны. Максімка). *Тут мяне, хлопцы, ад радасці такой ды гордасці ажно ўверх падцягнула* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Ад дажджу і ветру наўкола ў кустах гул* (П. Галавач. З тых дзён). *Па нізінах яны сям-там паляглі і не ад дажджоў, не ад навальніц, а проста ад буйнога росту* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І тут жа, ці то ад перажытага, ці то ад папярэдняй утомленасці, адчуў Ігнась зноў знаёмую боль у грудзях* (К. Чорны. Новыя людзі).

§ 777. Аднародныя акалічнасці мэты звычайна выражаюцца назоўнікамі ў формах роднага і вінавальнага склонаў з прыназоўнікамі *на*, *для* і спалучаюцца пры дапамозе злучніка *і*, утвараючы закрыты рад аднародных членаў: *І бацька бровы пасувае, пільчак чысцейшы адзявае,*

*Ідзе на двор* ***для павітання і для пачэснага спаткання*** (Я. Колас. Новая зямля). *На бітву крывавую сына праводзіўшы з хаты,* ***на шчасце і ўдачу*** *пасеяла маці зярняты* (А. Куляшоў. Маці).

## АБАГУЛЬНЯЮЧЫЯ СЛОВЫ ПРЫ АДНАРОДНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА

§ 778. Аднародныя члены сказа могуць мець пры сабе абагульняючыя словы. Спецыфічнай асаблівасцю гэтых слоў з'яўляецца тое, што яны абазначаюць шырокае, родавае паняцце, а аднародныя члены — відавыя, або індывідуальныя паняцці. Сярод абагульняючых слоў найбольш ужывальнымі з'яўляюцца займеннік *усё (усе)*, а таксама прыслоўе *ўсюды*, якія знаходзяцца або перад аднароднымі членамі, або пасля іх. У першым выпадку пасля абагульняючых слоў звычайна ставіцца двукроп'е, у другім выпадку — працяжнік. Займеннік *усё* часцей ужываецца ў функцыі дзейніка і дапаўнення, прыслоўе *ўсюды* — у функцыі акалічнасці: *Усё цешыла вочы: прыдарожныя* ***дрэвы*** *і* ***травіна*** *над* ***каляінай*** *і* ***сіняе «акно»*** *ў* ***неба*** *ў глыбокім прарыве паміж хмар* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *За дзень Круміня можна было бачыць* ***усюды:*** ***то на таку, то на кароўніку, то ў сталярні*** (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). ***Новае месца, новыя людзі і тая работа ў школе,*** *якую трэба было распачынаць на гэтых днях і да якой ён так доўга падгатоўваўся, —* ***усё*** *гэта займала яго думкі* (Я. Колас. У палескай глушы). ***Вудачкі, вуды,*** *начныя* ***шнуры, венцер, восці, сачок*** *—* ***уся*** *гэтая* ***рыбацкая снасць*** *пушчалася ў ход* (Я. Брыль. Мой зямляк).

У некаторых выпадках займеннік *усё* спалучаецца са словамі *гэта, тое* для ўзмацнення свайго абагульняючага значэння: *Нібы сон які страшны знік, і навакол зноў* ***усё тое,*** *чым пахла непаўторнае дзяцінства:* ***сонца, гонкія дрэвы, настоеная густая цішыня лесу, ледзь чутны гоман хваёвых вяршынь*** (М. Лынькоў. Векапомныя дні). ***Сцены, стайні, вароты, калючы дрот*** *у невялічкіх акенцах —* ***усё гэта*** *было ўкрыта густым марозным інеем* (там жа).

Займеннік *гэты* ў функцыі ўзмацнення спалучаецца не з абагульняючым словам, а з аднароднымі членамі сказа: ***Гэты час,*** *і* ***гэты свет,*** *і квятлівы* ***водар гэты*** *—* ***ўсё*** *ацэньвае паэт, як вясновыя прыкметы* (А. Куляшоў. Расцвілі сады).

Калі ў сказе многа аднародных членаў сказа (асабліва дзейнікаў з залежнымі ад іх даданымі членамі сказа), абагульняючыя словы могуць ужывацца двойчы, г. зн. перад аднароднымі дзейнікамі і пасля іх: *І ад сонца здавалася шырокім* ***усё:*** *і глыбокае* ***неба,*** *і спустошаная на зіму ўраджаем* ***зямля,*** *і нават дробны* ***камень*** *пасярод палявой травы і зрэзанай саломы, —* ***усё*** *да туманавай сіні блізкіх лясоў, да рэчак і азёр, да дзеравяных хат і мураваных будынкаў, да ўсяго малога і вялікага, сярод чаго так пазнаны былі вялікія бунты радасці і смутку* (К. Чорны. Зямля). ***Усё*** *наўкола — і* ***сцены,*** *і* ***дзеці,*** *і* ***дошка чорная,*** *і* ***настаўнік*** *—* ***усё*** *расло і расплывалася ўшыркі, і захапляла сабой яе* (П. Галавач. Дасужая).

У якасці абагульняючых слоў могуць выступаць, акрамя займенніка *ўсё (усе)* і прыслоўя *ўсюды,* іншыя часціны мовы і нават цэлыя словазлучэнні, якія абазначаюць больш шырокія паняцці ў адносінах да ўдакладняючых іх аднародных членаў сказа: *На двор да Якава з'язджаецца* ***сваяцтва*** *з далёкіх вёсак:* ***дзядзькі, цёткі, браценікі*** (П. Галавач. Кнак). *Мы ідзём — і* ***падзёншчык,*** *і* ***токар,*** *і* ***шахцёр,*** *і* ***марак,*** *і* ***гарбар,*** *і* ***студэнт,*** *маладыя і высокі, і панурыя сівыя* ***качагар*** (П. Глебка. Мужнасць). *У шырокіх дзвярах цялятніка з'я-*

*віліся дзве постаці: старшыня калгаса і малады чарнявы хлопец* (Я. Колас. Кінахроніка). *Мікуцічане — народ грамадскі, любіць пагутарыць аб розных рознасцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасцях жыцця, аб тым, што нешта на свеце робіцца і нешта гатуецца і што павінна нешта адбыцца, бо далей так жыць нельга* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Усе былі апрануты па-святочнаму: чысценька і прыгожа* (Я. Колас. Рыгорава памылка). *Яна ўзялася за работу: набрала бярэма дроў, унесла ў хату і, запаліўшы газоўку, стала класці іх у печ* (К. Чорны. Будзем жыць).

## АДАСОБЛЕНЫЯ ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

### АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 779. Інтанацыйнае і сэнсавае выдзяленне даданых членаў у структуры сказа называецца адасабленнем, а самі члены — адасобленымі даданымі членамі.

Адасабленне даданых членаў можа быць абумоўлена перагрузкай залежных ад іх слоў, парадкам слоў у сказе, немагчымасцю сінтаксічнай спалучальнасці паміж асобнымі членамі і дадатковым характарам таго, што абазначана гэтымі членамі. Адасобленыя даданыя члены вызначаюцца своеасаблівым інтанацыйным афармленнем і характарызуюцца адпаведнай сэнсавай самастойнасцю ў сказе. Яны ўтвараюць сінтаксічна непадзельныя адрэзкі мовы і заключаюць у сабе адзін з момантаў выказвання — сцвярджэнне або адмаўленне. Па сваёй ролі ў сказе адасобленыя даданыя члены (асабліва адасобленыя звароты) у пэўнай ступені збліжаюцца з даданымі часткамі складаназалежных сказаў. На пісьме адасобленыя даданыя члены звычайна аддзяляюцца ад іншых членаў сказа коскамі або працяжнікамі.

У сучаснай беларускай мове ў якасці адасобленых даданых членаў ужываюцца азначэнні, дапаўненні і акалічнасці.

### АДАСОБЛЕНЫЯ АЗНАЧЭННІ

§ 780. Сярод адасобленых азначэнняў асноўнае месца займаюць дапасаваныя азначэнні. Яны выражаюцца прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, якія могуць быць адзіночнымі, парнымі і з залежнымі ад іх словамі. Адпаведна сваім функцыям у сказе адасобленыя дапасаваныя азначэнні падзяляюцца на тры групы.

Першую групу складаюць дапасаваныя азначэнні, якія побач з уласна азначальным значэннем маюць адценне дадатковага паведамлення аб пэўных прадметах ці асобах. Такія азначэнні звычайна адносяцца да назоўніка або займенніка, якія выступаюць у ролі дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці: *Хворы, я ля той крынічкі быў* (А. Звонак. Залаты алень). *Над хатамі стаяла ноч, пустая, глухая* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Больш паўсотні кабет, маладых і старых, жнуць панскае поле* (З. Бядуля. Салавей). *Амывае вёска вочы, закарэлыя ад сну* (П. Трус. Асенняя праца). *Дзед сядзеў на кучы лам'я, прыкрытага тоўстым слоем яловых лапак* (Я. Колас. Дрыгва). *Вёска стаяла паміж балота, парослага густою лазою і алешнікам* (М. Чарот. Самалёт). *Забалочаная паляна, акружаная з усіх бакоў цёмнай сцяною лесу, млела ад гарачыні* (З. Бядуля. На балоце).

Другую групу складаюць дапасаваныя азначэнні, якія маюць дадатковае акалічнаснае адценне; яны не толькі адносяцца да назоўніка або займенніка ў ролі дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці, але па сэнсу звязаны таксама з дзеясловам, што выступае ў ролі выказніка: *Задаволеныя, усе весела заўсміхаліся* (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). *Заўсёды шустрая, цяпер дзяўчына чамусьці была вялай* (І. Гурскі. Нараджэнне героя). *Узрушаны і выведзены з раўнавагі, старшыня грозна ўсчуньвае крыкуноў* (Я. Колас. Адшчапенец). *Цёпла апранутыя, яны весела шумелі і зусім холаду не баяліся* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Лён, дагледжаны як трэба Міхалём Навіцкім, урадзіў на славу* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Стары Кляшчэвіч часам, даведзены да сапраўднай злосці, гатоў быў схапіць мятлу і адагнаць курэй на кіламетр ад кладоўкі* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...).

Трэцюю групу складаюць дапасаваныя азначэнні, якія адносяцца да другога азначэння і ўдакладняюць або паясняюць прызнакі, што абазначаны гэтым азначэннем: *Тэкля затаіла сваю, матчыну, мару ў адносінах да Іллюка* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Наўздагон палякаў, як віхор, наш, чырвоны, атрад* (У. Дубоўка. Закладалі падмурак дзяржавы сваёй...). *Зусім не па душы прыйшлося Грышку новае жыццё з новымі, дагэтуль незнаёмымі, людзьмі* (М. Чарот. Апошняя ноч). *Гэтак ціха ныла яго — падарванае горам — сэрца* (Я. Скрыган. Шорсткая дарога). *Прыгожа выглядаў яшчэ адзін новы, пакрыты шыферам, кароўнік* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 781. Адасабленне недапасаваных азначэнняў адбываецца значна радзей, чым адасабленне дапасаваных азначэнняў. Недапасаваныя азначэнні выражаюцца ў асноўным назоўнікамі ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі і размяшчаюцца пасля азначаемых імі слоў. Па сваёй функцыі гэтыя азначэнні падзяляюцца на тры групы.

Першую групу складаюць недапасаваныя азначэнні, якія, акрамя асноўнага (азначальнага) значэння, заключаюць у сабе элемент дадатковага паведамлення адносна зместу паясняемых імі слоў: *Іван Кузьміч, з неразлучнай люлькай у зубах, глядзіць на мяне* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Быў у замку дзед Даніла, родам дзесь з-пад Мазыра* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Таксама не спіць адзін высокі селянін, гадоў пад сорак* (З. Бядуля. У глушы). *Вузкая палявая дарога, як праехаць з калясьмі, ішла паўз самую батарэю і гублялася ў ячменным полі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У кароткім кажушку, са стрэльбай за плячыма, ён абыходзіць калгасны табун* (З. Бядуля. Віхор).

Другую групу складаюць недапасаваныя азначэнні, якія маюць дадатковае акалічнаснае адценне (галоўным чынам прычыннае): *Бацьку, на сухоты хворага, з завода выкінулі* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Мінск — у зелені і белі — цудоўнай песняй зазвініць* (М. Машара. 3-га ліпеня). *Мой табе, па дружбе братняй, гэты верш і гэты подых* (У. Хадыка. Ручаі ў адталай глебе...).

Трэцюю групу складаюць недапасаваныя азначэнні, якія ўдакладняюць тое, што абазначана дапасаванымі азначэннямі, размешчанымі непасрэдна перад недапасаванымі: *Павел Грэк распрануў сваё шэрае, у елачку, дэмісезоннае паліто і павесіў яго на вешалцы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Цёплая, з заечай шкуры, шапачка хавала яе белы твар* (М. Чарот. Галя). *Дома малады музыка звычайна іграў на сваім старым, з заклеенымі мяхамі і саматробнымі ладамі, гармоніку* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Гэта стварыла ёй славу працавітай, з залатымі рукамі, дзяўчыны* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

§ 782. У радзе выпадкаў адценне дадатковага паведамлення, а так-

сама акалічнаснае адценне могуць выражацца пры дапамозе розных спалучэнняў, якія складаюцца з дапасаваных і недапасаваных азначэнняў або іх зваротаў: *Падбягае міліцыянер—высокі, у чорнай шынелі, тонкі* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Ён выйшаў з-за стала насустрач, высокі, стройны, у гарнітуры вайсковага пакрою, але без усякіх знакаў адрознення, з пышнай сівой шэвелюрай* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *З грабянцом у кароткай прычосцы, у лёгкай стракатай сукенцы, румяная—Валя смяецца цяпер* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Худыя, зарослыя, у парванай і бруднай адзежы, скаваныя ў рады ланцугамі, яны маўкліва... пазіралі насустрач людзям* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Па-летняму ў чыстым палатняным касцюме, у просценькай кашулі з расшпіленым каўняром, загарэлы, ён выглядае значна маладзейшым, больш вясёлым і словаахвотлівым* (І. Шамякін. Галоўны інжынер).

§ 783. Шырока ўжываюцца адасобленыя азначэнні ў форме прыдаткаў, выражаных адзіночнымі назоўнікамі або іменнымі словазлучэннямі з назоўнікам у ролі галоўнага слова. Па сваёй функцыі ў сказе адасобленыя азначэнні-прыдаткі таксама, як і адасобленыя дапасаваныя або недапасаваныя азначэнні, падзяляюцца на тры групы. Аднак гэтыя групы ў адрозненне ад папярэдніх характарызуюцца большай разнастайнасцю ўласцівых ім форм і адценняў.

Першую групу складаюць адасобленыя прыдаткі, якія заключаюць у сабе элемент дадатковага паведамлення адносна зместу азначаемых імі слоў. Пры гэтым у якасці адзіночных прыдаткаў могуць ужывацца не толькі назоўнікі, але і субстантывіраваныя прыметнікі з дадатковым адценнем якаснай характарыстыкі: *Мужчына, фурман, здымаў з калёс вялізную карзіну* (П. Галавач. Вінаваты). *Жывеш ты, каханая, дзесьці далёка* (А. Звонак. Вайна размяла нас па беламу свету). *Малы хлапчук, унучак дзедаў, сядзеў на возе* (П. Трус. У семнаццаты год). *Ідуць балтыйцы маладыя — савецкіх вод вартаўнікі* (А. Звонак. Ідуць балтыйцы). *На сяле праспявалі апошнія пеўні, вешчуны блізкай зары і новага дня* (В. Каваль. Дзень палымнее). *Усе віталі Міколку, слаўнага машыніста бранепоезда, слаўнага партызана, смелага сына бальшавіка* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Асобна стаяць адасобленыя прыдаткі гэтай групы, выражаныя іменнымі словазлучэннямі, дзе ролю галоўнага слова выконвае тое ж слова, да якога адносіцца гэта словазлучэнне. У выніку такога паўтарэння дасягаецца больш чоткае інтанацыйнае і сэнсавае выдзяленне адпаведных членаў: *Сайкава місія, паганая, здрадніцкая місія, скончана* (Я. Колас. Дрыгва). *Накацілася на ціхія вуліцы мястэчка грозная і крывавая хваля, хваля вайны* (М. Лынькоў. Гой). *Усё жыццё, шэрае, невясёлае жыццё, прайшло яшчэ раз перад яго вачыма* (Я. Колас. Выстагнаўся).

Другую групу складаюць адасобленыя прыдаткі з дадатковым акалічнасным адценнем. Гэта адценне праяўляецца асабліва выразна ў тым выпадку, калі адасобленыя прыдаткі далучаюцца да азначаемых імі слоў пры дапамозе злучніка *як*: *Яны, як вобразы жывыя, сягоння ў памяці ўсплылі* (П. Трус. Развітанне). *Борух, як граматны чалавек, не дазваляў купецкім прыказчыкам абманваць сваіх суседзяў* (З. Бядуля. Год за годам). *Ён, як праваднік, праяўляў усе адзнакі руплівасці і турботы* (Я. Колас. Дрыгва). *Паўлюка Труса, як сапраўды нацыянальнага паэта-патрыёта, не магла не хваляваць тэма Заходняй Беларусі* (Р. Няхай. Творчасць Паўлюка Труса). *Як дазорца, яна пазірала ва ўсе чатыры бакі ў розныя поры*

*доўгага летняга дня* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). Параўн. бяззлучнікавыя спалучэнні: *Прыход Зарубы, фельчара, памог падняцца Янку* (М. Танк. Янук Сяліба). *Не хацеў алень палону, вольнай тундры выхаванец* (А. Звонак. Залаты алень). *Салдат пяра, ён быў напагатове са словам, як з адвостраным штыком* (А. Звонак. Чалавек).

Трэцюю групу складаюць адасобленыя прыдаткі, якія ўдакладняюць тое, што абазначана азначаемымі імі словамі. Гэтыя прыдаткі звычайна выражаюцца адзіночнымі назоўнікамі, субстантывіраванымі прыметнікамі або іменнымі словазлучэннямі: *Фурман яго, Даніла, ведае мяне* (М. Чарот. На Пасеках). *Яна, Валя, таксама любіла патанцаваць* (І. Шамякін. Завіруха). *Вы, дарослыя, столькі разоў лазілі на самы дах* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Работа такая далікатная, ажно страх бярэ нас — малых* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Іх бацька — кульгавы Цыпрук — сам працаваць не мог* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі). *Яе, сарамлівую дзяўчыну, выбралі тады членам праўлення* (П. Пестрак. Неспадзяванак). *Майстар цэха, Антон Гаўрылавіч Шульга, надзеўшы акуляры, чытаў і перачытваў кароткую заметку аб наватары* (І. Гурскі. Нараджэнне героя).

У размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры ўдакладненне азначаемых слоў можа суправаджацца ўвядзеннем у склад адасобленага словазлучэння ўказальнага займенніка *гэты (гэта, гэтыя)*: *Цяпер ён пачаў камандаваць, гэты добры і вясёлы дзядзька Тамаш* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *Яны вельмі таропкія, гэтыя Сімховічавы пальцы* (Я. Скрыган. Дарога ад 401-й вярсты). *Яна — гэта вера — ратуе мяне ад адчаю, дае мне сілу і мужнасць быць чалавекам* (К. Крапіва. З народам).

У радзе выпадкаў адасобленыя прыдаткі могуць далучацца да азначаемых імі слоў пры дапамозе злучнікаў *ці, або, гэта значыць*. У такім разе ўдакладненне адзначаных слоў праяўляецца больш чотка і выразна: *Гірш, або, як называў яго практыкант Пракоп, Грыша — шыў касцюмы толькі для паноў і купцоў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Дзядзька Васіль, ці іначай Кураўка, падсек нядрэнна* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Ад сораму ён нават нікому з сваіх блізкіх людзей не гаварыў, што пан Скшымбжыцкі, гэта значыць Салавей, над ім учыніў* (З. Бядуля. Салавей).

## АДАСОБЛЕНЫЯ ДАПАЎНЕННІ

§ 784. Адасобленыя дапаўненні звычайна выражаюцца спалучэннямі назоўнікаў або займеннікаў у формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі *акрамя, апрача, замест, за выключэннем* і інш. У структуры сказа такія дапаўненні могуць паясняць змест выказніка ці іншых членаў, займаючы прэпазіцыйнае або постпазіцыйнае становішча.

Па значэнню адасобленыя дапаўненні падзяляюцца на тры групы.

Першую групу складаюць адасобленыя дапаўненні, якія абазначаюць прадметы і з'явы, што выключаюцца з рада іншых прадметаў і з'яў: *Апрача шуму самавара, нічога не чуваць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Пры гэтай жа хаце, апроч сянец, нічога не было* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Няма каму клапаціцца пра яе шчасце, акрамя мяне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён нічога не бачыў, апрача жывых і вострых вочак старога, нічога не чуў, апрача слабага, трохі пявучага голасу* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *За выключэннем педагагічнай літаратуры, тут было многа іншых кніг* (М. Паслядовіч. Святло

над Ліпскам). *Увесь гэты дзень, за выключэннем перапынку на снеданне і абед, быў прызначан агляду калгаснай гаспадаркі* (Я. Колас. Адшчапенец). *У горадзе яго асабліва не ведалі, за выключэннем хіба чыгуначнага вузла* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Другую групу складаюць адасобленыя дапаўненні, якія абазначаюць прадметы і з'явы, што ўключаюцца ў рад іншых прадметаў і з'яў: *Акрамя рыбы, у рэчцы было багата ракаў* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Апрача яго, тут было яшчэ некалькі чужых людзей* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Апроч той зямлі і зямное арбіты, былі ў ім яшчэ і сузор'і адбіты* (А. Куляшоў. Балада пра вока). *У купэ, апрача іх двух, ехаў пажылы артылерыйскі палкоўнік з дачкой і чарнявы хлопец у адменным шэрым касцюме* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Звыш усяго гэтага, да яго прыстаўлена памочніца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Трэцюю групу складаюць адасобленыя дапаўненні, якія абазначаюць прадметы і з'явы, што замяшчаюцца іншымі прадметамі і з'явамі: *Замест адказу, матчыны пальцы даволі блізка знаёмяцца з Міколкавым вухам* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *У качарэжніку, замест чапялы і вілак, стаяла на табурэце ацынкаванае вядро з вадою і зялёны эмаліраваны кубак* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Дзед сядае на калоду і, замест а барышу, дае сальца малышу* (Я. Колас. Сымон-музыка). *У некаторых на галовах мяшкі, замест башлыкоў* (З. Бядуля. Шрам).

Дапаўненні гэтай групы не адасабляюцца, калі прыназоўнік *замест* ужываецца ў значэнні прыназоўніка *за*. Параўн.: *Замест Сучынскага зрабіўся тоўсты кругляк* (Я. Колас. Тоўстае палена) і *За Сучынскага зрабіўся тоўсты кругляк. Антон быў у яго замест парабка* (К. Чорны. Вялікі дзень) і *Антон быў у яго за парабка.*

## АДАСОБЛЕНЫЯ АКАЛІЧНАСЦІ

§ 785. Адасобленыя акалічнасці часцей за ўсё выражаюцца дзеепрыслоўямі, якія могуць быць адзіночнымі і з залежнымі ад іх словамі (дзеепрыслоўныя звароты). Гэтыя акалічнасці звычайна паясняюць або ўдакладняюць змест дзеяслоўнага ці іменнага выказніка і займаюць у адносінах да яго прэпазіцыйнае або постпазіцыйнае становішча. Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі, калі такія акалічнасці паясняюць ці ўдакладняюць іншыя члены сказа.

Па функцыі ў сказе адасобленыя акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, падзяляюцца на тры групы.

Найбольш пашыраную групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія абазначаюць дадатковае або пабочнае дзеянне; яно суправаджае асноўнае дзеянне, абазначанае выказнікам у ролі паясняемага слова. Як відаць, адасобленая акалічнасць па свайму значэнню некалькі набліжаецца да выказніка; яна становіцца як бы другарадным выказнікам. Такое значэнне выразна праяўляецца пры замене падобнай акалічнасці спрагальнай формай дзеяслова, у выніку чаго агульны сэнс сказа захоўваецца без істотных змен. Параўн.: *Старыя сяляне курылі люлькі, нічога не гаворачы між сабою* (З. Бядуля. На балоце) і *Старыя сяляне курылі люлькі і нічога не гаварылі між сабой. Ціха скрыгануўшы коламі, сталі вагоны* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз) і *Ціха скрыганулі коламі і сталі вагоны.* З гэтага відаць, што адзначаныя акалічнасці ўскладнены разнастайнымі адценнямі і займаюць прамежкавае становішча паміж акалічнасцямі часу і выказнікам.

Дадатковае дзеянне (стан), якое абазначаецца адасобленымі акалічнасцямі ўказанай групы, можа папярэднічаць або адбывацца адначасова ці пасля таго дзеяння (стану), якое абазначана выказнікам. Для выражэння дадатковага дзеяння (стану), якое папярэднічае асноўнаму дзеянню (стану), ужываюцца галоўным чынам дзеепрыслоўі прошлага часу закончанага трывання. Пры гэтым асноўнае дзеянне (стан) можа часцей выражацца дзеясловамі прошлага часу закончанага і незакончанага трывання і радзей дзеясловамі цяперашняга часу незакончанага трывання: *Накінуўшы на плечы бушлат, ён знік за дзвярыма* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ганна, апрануўшыся, выйшла з хаты* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Стомленыя байцы, акапаўшыся на выспе, з трывогаю чакалі недалёкай раніцы заўтрашняга дня* (Я. Колас. Дрыгва). *Зняўшы шапку, ён гладзіў лысую галаву* (Я. Скрыган. У Гараніна нядобры гадзіннік). *Мы адступалі, падпаліўшы свае сядзібы і зямлю* (М. Танк. Мы вернемся). *Нагаварыўшыся, ён аддаляецца ад майго акна* (Я. Скрыган. Невядомы чалавек). *Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам, доўга іх пілуе месяца сярпом* (М. Танк. Песня кулікоў). *Выйшла маці ўслед за ёю, стала ля парогу і, падпёршы твар рукою, зорыць на дарогу* (Я. Колас. Доля батрачкі).

Адзінкавымі з'яўляюцца канструкцыі, у якіх ролю акалічнасцей са значэннем дадатковага дзеяння (стану) выконваюць дзеепрыслоўі цяперашняга часу незакончанага трывання. Ужыванне дзеепрыслоўяў у такой форме стылістычна абумоўлена: *Не п'ючы вячэрняй гарбаты, ён заснуў* (М. Чарот. На Пасеках). *Сонца яшчэ не ўзышло, хаваючыся недзе за распаленай імглою небасхілу* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Для выражэння дадатковага дзеяння (стану), якое адбываецца або суіснуе адначасова з асноўным дзеяннем (станам), звычайна ўжываюцца дзеепрыслоўі цяперашняга часу незакончанага трывання. Асноўнае дзеянне (стан) можа выражацца дзеясловамі прошлага часу часцей за ўсё незакончанага трывання і дзеясловамі цяперашняга часу незакончанага трывання: *Папыхкваючы дымком, да прыстані набліжаўся параход* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Бабуля, стоячы ля прыпечка, апавядала мне розныя гісторыі з мінулых часоў* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Сцёпка доўга стаяў, любуючыся горадам* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Малы Тамаш ішоў подбегам, трымаючыся за бацькаву руку* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Сярпок скрыгоча прагавіта, жытцо згрызаючы сярдзіта* (Я. Колас. Новая зямля). *Коні на лузе храпяць, бразгаючы жалезнымі путамі* (З. Бядуля. У глушы). *Жнеі спяваюць у полі, жыта густое жнучы* (М. Танк. Над Прыпяццю).

Заўвага. Калі адзіночныя дзеепрыслоўі або дзеепрыслоўныя звароты цесна звязаны адзінствам зместу з паясняльным словам (выказнікам), то яны інтанацыйна і сэнсава не адасабляюцца і пераходзяць у разрад прыслоўяў: *Спявалі жнеі ідучы* (П. Трус. Развітанне). *Жанкі між тым падыходзілі гамонячы* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *А Лена тым часам бегла не азіраючыся назад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Асноўнае дзеянне (стан) можа суправаджацца адначасова двума дадатковымі дзеяннямі (станамі), адно з якіх з'яўляецца дапаможным. Такое дзеянне звычайна абазначаецца адасобленай акалічнасцю, якая займае прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да паясняемага выказніка, тады як другое дзеянне (стан) абазначаецца адасобленай акалічнасцю, якая знаходзіцца ў постпазіцыйным становішчы да паясняемага выказніка: *Пішучы пад дыктоўку, я на ляту адшліфоўваў чужыя фразы, надаючы ім блеск красамоўства* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Тузаючы лейцы і круцячы пу-*

*гай, ён доўга гнаў каня берагам,* ***выглядаючы новага броду*** (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Невялікі кулічок-пясчанік, зусім* ***не звяртаючы ўвагі на Дзяміда Сыча,*** *бегаў вакол плыткай лужыны,* ***падбіраючы нешта з зямлі*** (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Для выражэння дадатковага дзеяння (стану), якое адбываецца пасля асноўнага дзеяння (стану), ужываюцца дзеепрыслоўі цяперашняга часу незакончанага трывання і дзеепрыслоўі прошлага часу закончанага трывання. У першым выпадку асноўнае дзеянне (стан) можа выражацца дзеясловамі прошлага часу незакончанага і закончанага трывання або дзеясловамі цяперашняга часу незакончанага трывання, а ў другім выпадку — дзеясловамі прошлага часу толькі закончанага трывання. *Ён насоўваў акуляры на тоўсты сіняваты нос,* ***прымацоўваючы іх ніткамі замест аглабелец*** (З. Бядуля. Анчар). *Залпы грымелі адзін за адным,* ***скаланаючы зямлю і паветра*** (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Па полі пабеглі палахлівыя цені,* ***змяняючы і блытаючы колеры*** (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Няправільная зборка праходзіць праз увесь паток,* ***даючы сістэматычныя зрывы*** (Я. Скрыган. Як на 401-й вярсце). *У душы Анісава варухнуўся нейкі цёплы ўспамін,* ***выклікаўшы радасную ўсмешку*** (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Маці павесіла калыску на трыножнік,* ***ахутаўшы яе радзюгай*** (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Секануў касы дождж,* ***заліўшы падаконнік, апырскаўшы фіранкі*** (І. Гурскі. Свежы вецер).

Зрэдку сустракаюцца канструкцыі, у якіх адно дадатковае дзеянне (стан) папярэднічае асноўнаму дзеянню (стану), а другое дадатковае дзеянне (стан) адбываецца адначасова з асноўным дзеяннем (станам). Адпаведна з гэтым першае дзеянне (стан) абазначаецца адасобленай акалічнасцю ў прэпазіцыйным становішчы да паясняемага слова, а другое — адасобленай акалічнасцю ў постпазіцыйным становішчы да гэтага ж слова: ***Разышоўшыся з Панасам,*** *дзед Талаш павольна пасунуўся балотамі,* ***прыслухоўваючыся да шолахаў і галасоў палескай ночы*** (Я. Колас. Дрыгва). *Механік Шавель,* ***завёўшы матор камбайна,*** *схіліў набок галаву, відаць* ***прыслухоўваючыся да яго работы*** (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Другую, менш пашыраную групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія маюць уласна акалічнаснае значэнне. Сярод іх вылучаюцца:

Акалічнасці **спосабу дзеяння.** У большасці выпадкаў гэтыя акалічнасці выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання, якія знаходзяцца ў прэпазіцыйным становішчы да паясняемага слова (выказніка): ***Не змаўкаючы,*** *гула завіруха* (І. Мележ. У завіруху). ***Не спяшаючыся,*** *ідуць пажылыя мужчыны* (М. Лынькоў. Тры злоты). *Яна,* ***хвалюючыся,*** *едзе* (М. Лужанін. Я ўсіх сустрэў). ***Душу раздзіраючы,*** *вылі вятры* (А. Александровіч. Сон маці). *Маці,* ***не зводзячы вачэй,*** *спалохана глядзела на яе* (І. Шамякін. Наташа). *Чорны жук,* ***коўзаючыся па шэрай плёнцы пылу,*** *перапаўзаў дарогу* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Зрэдку адасобленыя акалічнасці спосабу дзеяння выражаюцца дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання, якія могуць знаходзіцца як у прэпазіцыйным, так і ў постпазіцыйным становішчы да паясняемага выказніка: ***Галлё спусціўшы над паркана́м,*** *расла тут грушка з тонкім станам* (Я. Колас. Новая зямля). *Дрэмле,* ***прынікшы да шыбаў,*** *ноч* (В. Таўлай. Гутарка з палонным сэрцам).

Заўвага. У радзе выпадкаў дзеепрыслоўі прошлага часу закончанага трывання

цесна звязаны адзінствам зместу і адзінствам інтанацыйнага афармлення з паясняемым дзеясловам-выказнікам; яны не з'яўляюцца адасобленымі, хоць на пісьме часта выдзяляюцца адпаведнымі знакамі прыпынку: *Нор слухаў, стаіўшы дыханне* (І. Шамякін. Хлопчык з-за акіяна). *Слышэня сядзеў у камеры, глыбока задумаўшыся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Акалічнасці часу. Адасобленыя акалічнасці часу звычайна выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання і дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання: *Гаворачы, ён заікаўся* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Ідучы дамоў, Пракоп абдумваў план свайго выступлення* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Добра ў садзе хадзіць, сустракаючы сонечны ранак* (П. Панчанка. Юнак). *Песні новыя пяюць дзяўчаты, калгасным полем з працы ідучы* (М. Машара. Прайшлі гады). *Выйшаўшы з завода, Гусараў зменшвае крок* (Я. Скрыган. Зноў абарвалася). *Яшчэ больш сур'ёзны стаўся Сцёпка, скончыўшы пачатковую школу* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Лебядзіным крылом замахала, падляцеўшы да вокан, мяцель* (М. Машара. Мяцель). *Паддасць, бывала, дзядзька руху, пачуўшы холад-завіруху* (Я. Колас. Новая зямля).

Адасобленыя акалічнасці часу, выражаныя дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання, могуць ускладняцца дадатковым адценнем месца або прасторы: *Сягоння яна толькі стогне, лежачы на сенніку* (З. Бядуля. Тулягі). *Не даходзячы да двара, калона спынілася* (Я. Колас. Дрыгва).

Акалічнасці прычыны. Адасобленыя акалічнасці прычыны выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання і дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання: *Пагойдваючыся ад ветру, дрэвы скрыпелі* (П. Галавач. Спатканне). *У вырай яны, баючыся зімы, адляцелі* (А. Куляшоў. Пад восеньскім небам). *Вецер знямогся зусім, бродзячы ў моры калосся* (М. Машара. Казкі начы). *Натужліва гудзеў грузавік, коўзаючыся па слізкіх выбоінах* (М. Лынькоў. Талісман). *Зірнуўшы ў баразну, Антон Васільевіч спахмурнеў* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Людзі вышэй падымаюць галовы, пачуўшы таварыша Леніна слова* (С. Грахоўскі. Дарога да шчасця). *Кіпелі рэкі навакол, сабраўшы плачу ручаі* (А. Александровіч. Беларусь).

Акалічнасці ўмовы. Адасобленыя акалічнасці ўмовы сустракаюцца вельмі рэдка. Яны могуць выражацца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання і дзеепрыслоўямі прошлага часу закончанага трывання, якія размяшчаюцца ў асноўным перад паясняемым выказнікам: *Набраўшыся смеласці, ён лёгка справіўся б з такім даручэннем* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Паны, распісваючы б нас, не шкадавалі чорнай фарбы* (з газет).

Акалічнасці мэты. Адасобленыя акалічнасці мэты таксама сустракаюцца вельмі рэдка. Яны звычайна выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання: *Афіцэр замахаў шашкай, патрабуючы спыніць песню* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Каля хат, чакаючы бацькоў, стаялі дзеці* (І. Мележ. Гарачы жнівень).

Акалічнасці ўступкі. Як правіла, адасобленыя акалічнасці ўступкі выражаюцца дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання з адмоўем *не* і размяшчаюцца перад паясняемым выказнікам: *Не зважаючы на дождж, Крушынскі запрог каня і паехаў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Не чакаючы канца сходу, людзі паволі разыходзіліся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Не звяртаючы ўвагі на гасцей, Іллюк загаварыў са Шведам* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

Трэцюю групу складаюць нешматлікія адасобленыя акалічнасці, якія ў пэўнай меры страцілі сваё акалічнаснае значэнне і наблізіліся да катэгорыі пабочных слоў. Гэтыя акалічнасці выражаюцца галоўным чынам дзеепрыслоўямі цяперашняга часу незакончанага трывання, якія разам з залежнымі ад іх словамі ўтвараюць устойлівыя спалучэнні, размешчаныя перад паясняемым выказнікам: *Уласна кажучы, і гаварыць я не маю права* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *На праўду кажучы, крыўдзіцца было не варта* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Дакладней кажучы, усюды вiдаць любоў да працы* (П. Пестрак. Неспадзяванак).

§ 786. Адасобленыя акалічнасці, выражаныя прыслоўямі (адзіночнымі або з залежнымі словамі), сустракаюцца параўнальна рэдка. Яны падзяляюцца на дзве групы.

Першую групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія па сэнсу звязаны з выказнікам і выражаюць разнастайныя акалічнасныя значэнні: *Ішоў і ўсміхаўся — прывeтна, ласкава* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Тут усталёўвалася натура на ўсё жыццё, халадна і роўна* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Трэба выйсці дружным строем, — раней ад ранняе зары, — вясны навальныя настроі магутнай сіле пакарыць* (П. Глебка. Пачатак вясны).

Другую групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія звязаны з іншымі акалічнасцямі і служаць для іх удакладнення. Такія акалічнасці заўсёды размяшчаюцца непасрэдна за ўдакладняльным словам: *У той жа дзень, вечарам, у пакой да Алеся зайшлі групай таварышы* (П. Галавач. Вінаваты). *Будынкі гэтыя былі тут, побач* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Па другі бок дарогі, наўкасы ад іх, стаяў слуп* (К. Чорны. На варце). *Там, дзесьці далёка на ўсходзе, застаўся яго сын* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Сані рыпяць па-ранішняму — глуха, коратка абрываючыся* (Я. Скрыган. Па ручаінах).

Для больш поўнага ўдакладнення паасобных членаў сказа можа ўжывацца побач некалькі акалічнасцей, выражаных прыслоўямі і спалучэннямі назоўнікаў з прыназоўнікамі: *Там, далёка, за дамамі, разляглося поле* (Я. Колас. У астрозе). *На другім беразе, воддаль ад нас, насупроць вёскі, купаюцца жанчыны і дзеці* (І. Шамякін. «Крытыкун»). *Дзесьці там, далёка, на тым беразе, мусіць на старой сівой званіцы, прагудзеў мілагучны звон* (М. Лынькоў. Над Бугам).

§ 787. Значнае месца належыць адасобленым акалічнасцям, якія выражаны склонавымі формамі назоўнікаў. Праўда, большасць гэтых акалічнасцей у аднолькавых сінтаксічных умовах можа адасабляцца і не адасабляцца. Гэта цалкам залежыць ад таго, хоча ці не хоча гаворачая асоба выдзеліць пэўную акалічнасць з тым, каб надаць ёй большае значэнне. Параўн.: *Першым, пасля сну, было адчуванне голаду* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці) і *Першым пасля сну было адчуванне голаду. Насустрач госцю — на гуменні сасна абдымкі разняла* (П. Глебка. Вітанне) і *Насустрач госцю на гуменні сасна абдымкі разняла.*

Адасобленыя акалічнасці, выражаныя склонавымі формамі назоўнікаў, падзяляюцца на дзве групы.

Першую групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія звязаны з выказнікам і дапаўняюць або паясняюць яго змест, займаючы прэпазіцыйнае ці постпазіцыйнае становішча. Сярод гэтых акалічнасцей вылучаюцца:

Акалічнасці прычыны: *Дзякуючы большай зарплаце, ён меў магчымасць набыць іншы раз што-небудзь для сям'і* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ад вечнага гора — плечы ска-*

*ваў невядомы страх* (П. Глебка. Умоўны знак). *А ўсё з-за прагнай панскай дрэні — давай падаткі ім спаўна!* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Распраналася яна марудна — ад утомы* (І. Мележ. Ноччу).

Акалічнасці ўступкі: *Нягледзячы на свае дваццаць пяць гадоў, ён ужо зусім лысы* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Увесь вечар, нягледзячы на холад, дзверы не зачыняліся* (К. Чорны. Максімка). *З усіх частак былой царскай Расіі Карэлія была краінай самага павольнага эканамічнага развіцця, нягледзячы на велізарныя прыродныя багацці* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

Акалічнасці мэты: *Ён, дзеля прыклёпу, пагладзіў яе па галаве і падняўся* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Збоку другі кацёл умураваны ў ляжанку, для награвання вады* (Я. Скрыган. Новая зямля). *Яны грузілі не доўгія бярвенні, а кароткія — для шпал* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Акалічнасці часу: *Пасля сваёй апошняй паездкі ў Ліпск, Леаніда Пятроўна інакш паглядзела на цэнтральную сядзібу машынна-трактарнай станцыі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Нас, на прадвесні, паілі вы сокам* (У. Дубоўка. Зноў вас пабачыў...). *Трапіў ён, з першых дзён падарожжа свайго, на варожы заслон* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Самы напружаны час — перад боем* (І. Мележ. Дарогі на ўсход і на захад).

Акалічнасці месца: *Я ёй, з далёкага прадмесця, як родны чалавек і брат* (У. Хадыка. Прыйшла і загадала сесці). *От сядзелі мы з Алісеем Сімчанком уначы, супроць хвойнага лесу, ля самай рэчкі* (В. Каваль. Ноч).

Акалічнасці спосабу дзеяння: *Надхмар'ем ён, за строем строй, бясстрашна водзіць караблі* (А. Александровіч. Беларусь). *Сталёвыя важкія машыны — адна за другою — хлынулі з гары па шырокаму шляху* (І. Мележ. Дарогі на ўсход і на захад).

Другую, больш шматлікую групу складаюць адасобленыя акалічнасці, якія звязаны з іншымі акалічнасцямі і служаць для іх удакладнення або дадатковай характарыстыкі. Гэтыя акалічнасці заўсёды займаюць постпазіцыйнае становішча ў адносінах да ўдакладняемага слова ці групы слоў. Сярод такіх акалічнасцей вылучаюцца:

Акалічнасці месца: *За калонамі, па той бок паркана, узвышаліся няскончаныя сцены новых заводскіх карпусоў* (К. Чорны. Браты). *Улева, над абшарамі балота, плыў лёгкі туман* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). *Далей, за аганьком, стаяла чорная сцяна лесу* (І. Шамякін. Матчыны рукі). *Каля хаты, пад бярозкай, штосьці каліне шэпча змрок* (М. Машара. Вісяты). *Трапіць туды, на будоўлю, Аліку давялося толькі ранняй вясной* (Т. Хадкевіч. Новая школа). *Мікола спаў тут жа, пры стале на лаве* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Акалічнасці часу: *Раз, ужо ў позню восень, грамада мужыкоў прываліла ў школу* (Я. Колас. Бунт). *Калісьці, пры мужу, яна любіла сабак* (З. Бядуля. Салавей). *Летнім вечарам, пасля дзённага грукату і пылу, цягне за горад* (П. Галавач. Яўленая). *У гэты час, пад поўнач, з усіх канцоў зямлі нагружаныя поўна прыходзяць караблі* (П. Глебка. Вясёлыя песні). *Ён не забыўся слёз матчыных тады, у восень дажджавую* (Р. Мурашка. Сын). *Адзін раз, у нядзельку, цэлая чарада вясковых хлапцоў пасвіла коні* (М. Чарот. Галя).

## АДАСОБЛЕНЫЯ ЧЛЕНЫ УСКЛАДНЕНАЙ ФОРМЫ

§ 788. Ускладненую форму могуць мець адасобленыя азначэнні, дапаўненні і акалічнасці. Гэта форма характарызуецца тым, што ў структуры адзначаных членаў заўсёды знаходзяцца другарадныя адасобленыя члены, якія паясняюць або ўдакладняюць адпаведныя словы са складу асноўных адасобленых членаў: *Прыходзячы з фермы ў хату, апусцелую пасля ад'езду Алёнкі, яна цяпер часцей прастойвала перад рамкай з фотакарткамі* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Апрануты ў жоўты доўгі кажух, прамы і высокі, ён асцярожна ступаў сваімі валёнкамі з чырвонымі бахіламі па заснежанай зямлі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *За выключэннем камандзіра, апранутага ў вайсковую форму, ніхто нічога не заўважыў* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Брагінец, абвёўшы позіркам палеткі, акаймаваныя зялёнай стужкай лясоў, рушыў далей* (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). *З асабліваю заўзятасцю насядае ён* [вецер] *на двор і сядзібу Пракопа Дубягі, наносячы туды цэлыя гурбы хрыбусткога снегу, пранятага ёмкім марозам* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ён надыходзіць, светлы час, агорнуты красой чароўнай* (У. Дубоўка. Твой голас песняю звініць). *Год назад ён прыцёгся адтуль, не здабыўшы нічога сабе, апроч куль* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

## СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ З РОЗНЫМІ КАМБІНАЦЫЯМІ АДАСОБЛЕНЫХ ЧЛЕНАЎ

§ 789. У сучаснай беларускай мове значнае месца займаюць канструкцыі, у якіх адначасова знаходзяцца розныя камбінацыі адасобленых членаў. Такія адасобленыя члены звычайна паясняюць або ўдакладняюць розныя словы ў сказе: *Пагнуўшы ў крук худыя спіны, сярпом махаючы крывым, мы, жонкі, удовы і дзяўчыны, пры доўгай постаці стаім* (Я. Купала. Песня жней). *Дужы і моцны яшчэ чалавек, ён неяк адразу аслаб і, прытуліўшыся да абгарэлага дрэва, прыплюшчыў вочы і бяссільна пахіліў галаву* (М. Лынькоў. Астап). *На ўскраіне горада, у сырой і цёмнай кватэры, ляжыць хворая дзяўчынка, маленькая Жанета, яго сямігадовая ўнучка, сірата* (І. Шамякін. Дзве сілы). *Некалі мы, маладыя салдаты, ваду, адступаючы, прагна пілі* (П. Панчанка. Думы салдата). *Яна, ганарлівая і прыгожая, пазірала на людзей і ішла, высока ўзняўшы сцяг* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Дом Бараноўскіх, абкружаны маладым садам, стаяў у нізіне, каля запруды, недалёка ад млына* (І. Гурскі. Сустрэча). *Уласна кажучы, гэтая дарога, як праехаць з калясьмі, служыла вуліцай двум дзесяткам хат, пастаўленых у адзін рад, вокнамі на тарфянік цераз дарогу* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Здавалася, што прылятаў ён аднекуль, з далёкіх краёў, з самай той халодна-захмаранай далечы, і — працавіты, сур'ёзны — ляцеў паспешна далей, захапіўшы на ляту верхавінкі чалавечых імкненняў, памкнуўшы з сабой іх у невядомы прасцяг* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Ужо седзячы ў вагоне, насунуўшы брыль кепкі на вочы, Андрэй у дрымоце, перабіраючы ўражанні дня, часта вяртаўся да гэтага вобраза бацькі і хворай дачушкі, загубленых у натоўпе варшаўскага вакзала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 790. Параўнальнымі зваротамі называюцца словы і словазлучэнні, якія шляхам параўнання раскрываюць і ўдакладняюць змест іншых слоў ці словазлучэнняў у сказе. Гэтыя звароты ўводзяцца ў структуру сказа пры дапамозе злучнікаў *як, што, чым, бы, нібы, як бы, быццам* і інш.

У залежнасці ад характару параўнання і ступені сувязі з удакладняльным словам або словазлучэннем параўнальныя звароты могуць размяшчацца ў пачатку, сярэдзіне ці ў канцы сказа (перад або за гэтым словам і словазлучэннем): *Як сталь, пружыняць нервы* (А. Кулягоў. Манеўры). *Быццам у кручыне, галаву схіляе старадаўні бор* (П. Глебка. Канец лета). *Пуцінамі вайны, што мерцвякі, тырчэлі каміны* (П. Броўка. Уранку, толькі бойка адгула). *У вокнах, нібы на экране, ужо загараецца ранне* (С. Грахоўскі. Дыспетчар). *Сэрца ныла, бы з нуды* (Я. Купала. Лён). *Для Пятра гэты час праляцеў хутчэй і весялей, чым для Сашы* (І. Шамякін. Непаўторная вясна). *У сярэдзіне ў яго нешта заныла, як бы адарвалася* (Я. Колас. Малады дубок).

Заўвага 1. Параўнальнымі зваротамі нельга лічыць словы і словазлучэнні, якія ўводзяцца ў структуру сказа пры дапамозе параўнальных злучнікаў і ўваходзяць у склад простага або састаўнога выказніка: *Вочы нібы васількі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Шчокі — быццам расквечаны макам* (П. Броўка. Ужо верасень). *Хата была як цацка* (А. Чарнышэвіч. Зразумеў). *Яны сталі як бы змоўшчыкамі* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

Параўнальнымі зваротамі нельга лічыць таксама словы і словазлучэнні з параўнальнымі злучнікамі, якія ўтвараюць устойлівыя або непадзельныя выразы і выконваюць ролю акалічнасці або дапаўнення пры ўдакладняемым выказніку: *Бушмар як мае быць ужо ўстрывожыўся* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Яны беглі што ёсць сілы па рэдкім сасняку* (І. Шамякін. Пошукі сустрэчы). *Сэрца нібы варам аблілося* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Заўвага 2. Пераходную з'яву паміж дадзенымі параўнальнымі часткамі складазалежнага сказа і параўнальнымі зваротамі простага сказа ўтвараюць спалучэнні з апушчаным выказнікам, які мае аднолькавую форму і аднолькавае значэнне з выказнікам асноўнай часткі сказа: *Рухалася пяро па паперы, як цяжкі воз па старой грэблі* (З. Бядуля. Летапісцы). *Чалавек, як трава к сонцу, горнецца да лепшага* (К. Чорны. Вялікі дзень).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *як*

§ 791. Параўнальныя звароты са злучнікам *як* могуць удакладняць розныя словы ў складзе асноўнай часткі сказа. Асабліва поўна і выразна праяўляецца характар параўнання ў тым выпадку, калі звароты адносяцца да ўказальнага прыслоўя *так (гэтак)* або ўказальнага займенніка *такі (гэтакі)* (часам у спалучэнні з іншымі часцінамі мовы).

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя *так* у ролі акалічнасці, звычайна маюць у сваім складзе назоўнік у форме назоўнага склону або прыслоўе (адзіночныя ці з залежнымі словамі): *Вецер свішча так, як звер* (Я. Колас. Восень). *Яна пазірала не так, як зайсёды* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Дзед пазіраў так, як горды арол* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Цяпер ахмістрыня так, як ніколі раней, здавалася яму непатрэбнай* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, у склад якіх уваходзіць спрагальная форма дзеяслова: *Дзень скончыўся не так, як за-*

*чаўся* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу). *Ён зрабіў так, як мог* (І. Гурскі. У агні).

У радзе выпадкаў слова *так (гэтак)* выступае ў ролі ўказальна-ўзмацняльнай часціцы пры адпаведным прыслоўі, якое выконвае функцыю акалічнасці або ўваходзіць у склад састаўнога выказніка асноўнай часткі сказа. Пры гэтым у складзе параўнальнага звароту знаходзіцца прыслоўе або назоўнік у формах ускосных склонаў з прыназоўнікам, якія заўсёды выступаюць у ролі акалічнасці; сам жа параўнальны зварот адносіцца не да ўказальна-ўзмацняльнай часціцы *так*, а да яе спалучэння з адзначаным прыслоўем: *Мне так вясёла, як ніколі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Усюды было так ціха, як у лесе* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У хаце было так цёмна, як у яме* (П. Галавач. Праз гады). *Усе выспаліся гэтак добра, як дома* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мы сабраліся так хутка, як на пажар* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

§ 792. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальнага займенніка *такі (гэтакі)* у ролі дзейніка, дапаўнення або азначэння, маюць у сваім складзе назоўнік у форме назоўнага склону (адзіночны ці з залежнымі словамі) ці асабовы займеннік (адзіночны) у форме назоўнага склону: *Такая, як Аленка, нідзе не прападзе* (Р. Сабаленка. Агонь душы). *Такія, як гэты купец, нажылі вялікі капітал* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Гэтакіх, як я, было многа* (К. Чорны. На граніцы). *Мільёны стала з тых часоў такіх, як ён, гаспадароў* (П. Броўка. Бацькаў дом).

Зрэдку ўказальнае слова *такі* ўжываецца ў ролі ўзмацняльнай часціцы пры адпаведным назоўніку, прыметніку ці іх спалучэнні, якія знаходзяцца ў асноўнай частцы сказа. У такім выпадку параўнальны зварот, у склад якога ўваходзяць назоўнік, асабовы займеннік ці субстантываваны лічэбнік у форме назоўнага склону, адносіцца не да ўказальна-ўзмацняльнай часціцы *такі*, а да яе спалучэння з адзначаным назоўнікам ці прыметнікам: *Вот бы самалёты такія пабудаваць, як буслы* (М. Лынькоў. Васількі). *Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, цяжка знайсці* (Я. Колас. Трывога). *На ўсе Сумлічы няма нікога такога багатага, як вы* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Такая ж вясёлая, такая ж рухавая, як і другія, яна была неадрыўнай часткай вялікага і працавітага калектыву* (М. Лынькоў. Салют).

Заўвага. Ад параўнальных зваротаў трэба адрозніваць канструкцыі, якія не змяшчаюць у сабе параўнання, і служаць пэўнай формай падкрэсленага выдзялення асобнага прадмета ці прызнака: *Не трэба слухаць такіх людзей, як Чыкілевіч* (Я. Колас. Адшчапенец). *Цяжка дагадзіць такому начальніку, як пан палкоўнік* (М. Лынькоў. Пацалунак).

Акрамя таго, указальны займеннік *такі*, да якога адносіцца параўнальны зварот, можа ўваходзіць у склад састаўнога выказніка. У такім разе параўнальны зварот звычайна складаецца з прыслоўя або спалучэння назоўніка ці займенніка з прыназоўнікам, якія заўсёды выконваюць ролю акалічнасці: *Лес тут быў не такі, як на пясчаніку* (І. Мележ. Людзі на балоце). *Юзік стаў такі, як раней* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пах травы быў не такі, як у сярэдзіне лета* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Над усёй планетай павінна быць неба такое, як і над намі* (П. Панчанка. Веснавое).

Часам у складзе састаўнога выказніка ўказальнае слова *такі* выконвае ролю ўзмацняльнай часціцы пры адпаведным прыметніку. Параўнальны зварот, які адносіцца да спалучэння гэтай часціцы з прыметнікам, звычайна мае ў сваім складзе прыслоўе або назоўнік у форме назоўнага склону: *Зоры на ўсходняй старане неба не былі ўжо такія зыркія, як раней* (К. Чорны. Скіпʼёўскі лес). *Ноч такая цёмная, як сажа* (П. Пестрак. Серадзібор).

§ 793. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, часцей за ўсё маюць у сваім складзе назоўнік у форме назоўнага або творнага склону: *Вочы свецяцца, як зоры* (М. Чарот. Дзяўчына, якая не сумуе). *Баец загінуў, як герой* (П. Броўка. Балада пра чырвоны сцяг). *Вецер звініць, як струна* (М. Калачынскі. Песня Дзвіны). *Асеннія сады, як вогнішчы, палаюць* (П. Панчанка. Восень). *Сонца не кідае, як агнём, смаліць* (Я. Купала. Тканне намёткі). *Гукне вясна і, як ветрам, развее гора-нуду* (М. Багдановіч. Прыйдзе вясна). *Пятрусь, як абцугамі, сціснуў стражніка* (Я. Колас. Тоўстае палена). *Мяцеліца снег мяце, як мятлой* (Я. Купала. Зіма).

У радзе выпадкаў у склад параўнальнага звароту ўваходзіць назоўнік (звычайна ў форме назоўнага склону) з залежнымі ад яго словамі: *Снег блішчыць, як халодная сталь* (М. Багдановіч. Зімовая дарога). *Чулы аер дрыжыць, як птушыныя крыллі* (З. Бядуля. Вісіць серп залаты). *Твар яе расчырванеўся, як макаў цвет* (Я. Колас. Дрыгва). *Як дзве зоркі — свецяцца вочы* (Я. Купала. Дзяўчыне маладой).

Заўвага. Калі назоўнікавыя канструкцыі са злучнікам *як* надзвычай цесна звязаны з паясняемым выказнікам, то яны могуць выконваць ролю акалічнасці. Як правіла, у склад такіх канструкцый уваходзіць назоўнік у формах ускосных склонаў і адпаведным прыназоўнікам: *Дождж паліўся як з вядра* (Я. Колас. Навальніца). *Усё відаць як на далоні* (М. Лынькоў. Васількі). *Яна сядзела як на іголках* (І. Гурскі. Расцвілі вішні). *Паравоз ідзе як па маслу* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун).

У склад параўнальнага звароту, які ўдакладняе выказнік асноўнай часткі сказа, можа ўваходзіць прыметнік або дзеепрыметнік, надзелены пэўнай субстантыўнасцю: *Снег пад нагамі скрыпіць, як жывы* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі). *Мікола ўсхапіўся з пасцелі, як непрытомны* (Я. Колас. Трывога). *Буран, як ашалелы, вые* (М. Танк. У мяцель). *Санька, як заваражаны, лавіў кожнае бацькава слова* (У. Краўчанка. Сенькава ліпа). *Цімка, як апараны, адскочыў ад сябра* (М. Гамолка. Жылі-былі два сябры).

Заўвага. Калі ж такі прыметнік або дзеепрыметнік пазбаўлен пэўнай субстантыўнасці і надзвычай цесна прымыкае да паясняемага ім дзеяслова, то ён разам з гэтым дзеясловам выконвае ролю выказніка: *Іван спаў як забіты* (Я. Колас. Чорт). *Сашка стаяў як апараны* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ён збялеў і стаяў як укопаны* (Я. Колас. Соцкі падвёў).

Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, у склад якіх уваходзіць спрагальная форма дзеяслова. У такім разе дзеянне (стан), аб якім паведамляецца ў асноўнай частцы сказа, прыпадабняецца да таго дзеяння (стану) ці абумоўліваецца тым дзеяннем (станам), аб якім паведамляецца ў параўнальным звароце: *Мы гаспадарым, як гаспадарылі* (М. Лужанін. Хто робіць пагоду). *Кожны ратуецца, як умее* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Мы сваё ім песні пелі, як маглі* (П. Панчанка. Госці). *Сімон зробіць, як захоча* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Таксама малаўжывальнымі з'яўляюцца параўнальныя звароты, у склад якіх уваходзіць дзеепрыслоўе з залежнымі ад яго словамі: *Іван захроп, як пшаніцу прадаўшы* (Я. Колас. Чорт). *Як мыла з'еўшы, ён паклыбаў далей* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

У некаторых зваротах, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа, параўнанне праяўляецца ў форме тоеснасці або прыпадабняецца да выразу «ў якасці». У складзе гэтых зваротаў звычайна знаходзіцца назоўнік (адзіночны ці з залежнымі словамі) у форме назоўнага склону: *Цяпер ён старайся трымацца са мною як таварыш* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Яны развіталіся як браты* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Яны сустрэліся як даўнія знаёмыя* (П. Прыходзька. Гарачае сэрца). *Цыбулька гаварыў як найлеп-*

*шы прамоўца* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Шнаркевіч працаваў цяпер у саўгасе як старшы рабочы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 794. Параўнальны зварот, які адносіцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа разам з залежнымі словамі (дапаўненнем ці акалічнасцю), можа мець у сваім складзе назоўнік (адзіночны ці з залежнымі словамі), прыслоўе або займеннік: *Лес цягнуўся, як падкова, роўным паўкругам* (Я. Колас. Калядны вечар). *Жаўра песеньку, як нітку, аж да сонца заснаваў* (П. Броўка. Кацярына). *Нястрымнай сілай, як агнямі, кіпіць наша кроў* (П. Глебка. У тыя дні). *Некалькі хвілін ураднік стаяў сагнуўшыся і круціў шыяй, як аглушаны баран* (Я. Колас. Пісаравы імяніны). *Хустка, як у дарослых, завязана пад бараду* (Я. Брыль. Пад гоман вогнішча). *Цяпер я ўжо там болей патрэбен, як тут* (Я. Скрыган. Развітанне). *Тодар Пошта бегаў па хатах жвавей, як звычайна* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Арына любіць яе, як сваю* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). *Дырэктар сустракаў іх на заводзе, як сваіх* (П. Кавалёў. Камуніст ідзе наперадзе).

§ 795. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа ў ролі азначэння, у большасці выпадкаў складаюцца з назоўніка, які можа ўжывацца:

а) у адным і тым жа склоне з удакладняемым прыметнікам: *Вялікае, як навальніца, шчасце ахапіла яго* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Пырскі крохкія, як шкло, узлятаюць пад вяслом* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Прыходзіла стома грубая, як дзяруга* (А. Куляшоў. Балота). *Бліснулі белыя, моцныя, як крэмень, зубы* (П. Пестрак. Серадзібор);

б) у розных склонах з удакладняемым прыметнікам: *Вецер засыпае сцежку белымі струменьчыкамі дробнага, пухкага, як мука, снегу* (Я. Колас. Адшчапенец). *Мы ўвайшлі ў густы, як шчэць, алешнік* (У. Краўчанка. Эліта). *Неба мела густыя, як над Палессем, колеры* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Хлапец адрозніваўся ад іншых дробным, бялявым, як у дзяўчынкі, тварам* (А. Кулакоўскі. Гарэў аганёк).

У некаторых выпадках назоўнікі, якія ўваходзяць у склад такіх параўнальных зваротаў, могуць мець пры сабе паясняльныя словы: *Цяжкі, як стопудовы камень, смутак наваліўся на яго* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Яго адносіны з лётчыкамі былі абмежаваны сухімі, як урыўкі кароткіх загадаў, прывітаннямі* (М. Лынькоў. Талісман). *Стройная, прыгожая, — як нейкая кветка, закінутая адна сюды, — расла яна* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Нешматлікімі з'яўляюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа і ў сваім складзе маюць прыметнік, дзеепрыметнік або інфінітыў з залежнымі словамі: *Дробныя хвалі, як жывыя, пераліваліся і блішчэлі пры месячным святле* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Меднастволы, як выліты, высіцца бор* (П. Панчанка. Зварот). *Праз гэты гушчар ішла вузенькая, як праехаць з калясьмі, дарога* (К. Чорны. Смерць).

У радзе выпадкаў прыметнік, да якога адносіцца параўнальны зварот, уваходзіць у склад састаўнога выказніка асноўнай часткі сказа. Пры гэтым параўнальны зварот звычайна складаецца з назоўніка ў форме назоўнага склону (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Быў дзень, як хвіліна, кароткі* (А. Звонак. Старацелі). *Адказ быў трапны, як выстрал* (М. Гамолка. Ленінскі масток). *Песня была шэрай, як пыл, цяжкай, як камень* (М. Лынькоў. Васількі). *Бор стаіць задуменны, як сівы дзед* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі).

*Шлях твой ясны, як пшаніцы залацісты колас* (Я. Купала. Украіна).

§ 796. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя асноўнай часткі сказа ў ролі акалічнасці, складаюцца галоўным чынам з назоўніка, які можа быць адзіночным або з залежнымі словамі. Адзіночны назоўнік звычайна мае форму назоўнага склону, тады як назоўнік з залежнымі словамі можа мець форму розных склонаў: *Ночка глухая цягнецца доўга, як год* (Я. Колас. Асенні дождж). *Усё адбылося хутка, як сон* (М. Лынькоў. Дзіцячы башмачок). *З другога канца вуліцы ціха, як цень, ішла высокая фігура* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Смела і ўпэўнена, як нейкі асілак-забіяка, ходзіць па полі вецер* (Я. Колас. Адшчапенец). *Імкліва, як быстрая веснавая вада, плылі дзень за днём у цяжкай напорыстай працы* (У. Краўчанка. Андрэйка). *Далёка-далёка, як з-пад зямлі, даносіўся сабачы брэх* (Я. Колас. Чорт). *Кляновіч паволі, як з роздумам, падняўся па сходках на сцэну* (П. Пестрак. Серадзібор).

Вельмі рэдка сустракаюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя ў ролі акалічнасці асноўнай часткі сказа і маюць у сваім складзе прыслоўе або прыметнік, надзелены пэўнай субстантыўнасцю: *Тады, як цяпер, красавала зямля* (У. Дубоўка. Перад іменем любові). *Грамабой быў гаваркі сёння, як ніколі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Гаварыў ён стала, як дарослы* (К. Чорны. На пыльнай дарозе).

Часам прыслоўе, да якога аднссіцца параўнальны зварот, уваходзіць у склад састаўнога выказніка асноўнай часткі сказа і выконвае ролю безасабова-прэдыкатыўнага слова. Такі параўнальны зварот складаецца з прыслоўя або назоўніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі) у формах ускосных склонаў: *Івану стала горка, як ніколі* (Я. Колас. Выстагнаўся). *У цеснай кабіне ўтульна, як дома* (С. Грахоўскі. Летуценнік). *Навокал светла, як у палацы* (М. Гамолка. Ленінскі масток). *У вёсцы стала ціха і панура, як у магіле* (М. Лынькоў. Ірына). *На душы яго стала спакайней, як пасля кожнай буры* (Я. Колас. Малады дубок).

§ 797. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да адзіночнага назоўніка (часам у спалучэнні з прыназоўнікам) асноўнай часткі сказа, могуць мець у сваім складзе адзіночны назоўнік або назоўнік з залежнымі словамі. Неабходна падкрэсліць, што назоўнік параўнальнага звароту і назоўнік асноўнай часткі сказа заўсёды ўжываюцца ў адным і тым жа склоне: *Жыта, як мост, клалася пад зубамі жняяркі* (К. Чорны. Вясна). *Лісты, як надзеі, аблятаюць на дол з пачарнелых галін* (А. Куляшоў. Пра восень). *Вецер, убраўшыся ў сілы, лесам, як вехцем, трасе* (Я. Купала. Восень). *З таго дня я больш раілася з Ванесавым, як з Лупіновічам* (А. Кулакоўскі. Незабыўнае рэха). *Цяпер Юзіку без газеты, як без вачэй* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Як на старонках кніг, на гонях чытаю літары слядоў* (П. Глебка. Ліст брату).

Заўвага. Калі падобныя звароты маюць значэнне тоеснасці або ўжываюцца са значэннем «у якасці», то яны выконваюць ролю прыдатка: *Васілю як войту трэба нешта прыдумаць* (Я. Колас. Дрыгва). *Ліда як сакратар камісіі першая села за стол* (І. Шамякін. У добры час). *Хлопца брала злосць на Чыкілевіча як галоўнага звадыяша і баламута* (Я. Колас. Адшчапенец).

Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, у склад якіх уваходзіць прыметнік з пэўнай субстантыўнасцю (адзіночны ці з залежнымі словамі): *Нядоля жартуе з дзеда, як з малога* (Я. Купала. Перабендзя). *Беларусь, як вольная між вольных, мінулых дзён забудзе цяжкі шлях* (М. Чарот. Беларусь). *Я гляджу на акардэон, як на штосьці жывое* (М. Ракітны. На прыстані).

Для ўзмацнення параўнання непасрэдна за злучнікам *як* у складзе

параўнальнага звароту ставіцца часціца *і*: *Шчасце, як і гора, часта прыходзіць нечакана* (І. Шамякін. У добры час). *Вова, як і Юра, вельмі прыстойны хлопчык* (Я. Брыль. Туга). *Аўгіня, як і бабка Наста, спалохалася* (Я. Колас. Дрыгва). *Ганка ў тэхнікуме, як і ў калгасе, уся аддавалася справе* (У. Краўчанка. Жыта красуе).

§ 798. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да назоўніка з залежнымі ад яго словамі ў асноўнай частцы сказа, звычайна складаюцца з назоўніка і залежных слоў: *Бліщчасты месяц, як кружок заламы, стаяў высока над лесам* (Я. Колас. Чорт). *Над усім гэтым вісела хмурнае неба, як кепска заараная поле* (Я. Колас. Малады дубок). *У адной кішэні доўгага сівога халата тырчэла турэцкая булка, як раменны мужыцкі чук* (Я. Колас. Андрэй-выбаршчык). *Няма на свеце лепшых падушак, як з гусінага пуху і пер'я* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *З закутка паказалася калдунаватая галава з чубам збоку, як у Кузьмы Кручкова* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 799. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да займенніка (часам у спалучэнні з прыназоўнікам) асноўнай часткі сказа, могуць складацца з назоўніка, займенніка або прыметніка з пэўнай субстантыўнасцю, якія заўсёды ставяцца ў адным і тым жа склоне з удакладняемым імі займеннікам: *Ці ў вас усе так жывуць, як Сурвіла?* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Словы нашы не гулі, як вашы* (П. Панчанка. Маякоўскаму). *Пра каго ж тады і пісаць, як не пра вас?* (А. Васілевіч. Суседка вятроў і сонца). *Хто, як наш пан, мае столькі зямлі?* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Мы прывыклі да вас, як да свайго роднага* (А. Кулакоўскі. Кватаранты).

Заўвага. Калі падобныя звароты маюць значэнне тоеснасці або ўжываюцца са значэннем «у якасці», то яны могуць выконваць ролю прыдатка: *Ён, як мудрэц, вакол глядзіць* (П. Броўка. Цар-дуб). *Ёй, як жанчыне, варта было ў першую чаргу ўсё ведаць пра Гузоўскую* (Я. Скрыган. Прамова пракурора Кульбацкага).

Зрэдку такія звароты разам з удакладняемым займеннікам выконваюць ролю дзейніка або выказніка: *Загадчыкам быў прызначан не хто іншы, як дзед Даніла* (М. Гамолка. Залатыя рукі). *Не хто* іншы, *як яна, будзе карыстацца найбольшаю павагаю на будаўніцтве* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 800. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўсёй асноўнай часткі сказа, звычайна маюць у сваім складзе назоўнік (адзіночны або з залежнымі словамі): *Хлапчукі, як верабі'і, рассыпаліся ва ўсе бакі* (І. Гурскі. У агні). *У наш час праўда, як паплавок, заўсёды наверсе і далёка відаць* (У. Краўчанка. Шыла ў мяшку не схаваеш). *Рассыпаны вішні, як груда рубінаў* (М. Танк. Нацюрморт). *Думкі, як растрывожаны рой, ніяк не могуць угаманіцца* (Я. Брыль. Пад гоман вогнішча). *Забуяла кукуруза, як гай палескае зямлі* (К. Буйла. Вясна). *Княжацкі бор шумеў пакутна, як нашы песні таго часу* (Я. Купала. Якубу Коласу).

Параўнальны зварот, які адносіцца да ўсёй асноўнай часткі сказа, можа развівацца дададнай часткай складанага сказа: *Далёкая цёмная палоска лесу абвязалася наміткаю сіняватай смугі, як маладзіца хусткаю, каб не так пякло сонца* (Я. Колас. Недаступны). *Як рыбіна спайманая, што ротам паветра ловіць, наш Раман жыве* (А. Зарыцкі. Раман Шаплыка).

§ 801. Для больш поўнага і выразнага параўнання адно і тое ж слова або група слоў з асноўнай часткі сказа ў радзе выпадкаў удакладняецца двума параўнальнымі зваротамі, якія аб'ядноўваюцца бяззлучнікавай сувяззю або пры дапамозе злучнікаў *ці, або*. У склад гэтых зваротаў звычайна ўваходзіць назоўнік (адзіночны або з залежнымі словамі): *Як віхар, як куля, імчыцца каршун* (Я. Купала. Каршун). *Як прысяга, як клятва народу, Леніна словы ідуць па зямлі* (П. Глебка. Снежаньскі вечар). *Вырас на ніве, як волат чыгун-*

*ны, як дзень — пераможны калгас* (А. Куляшоў. Пяцігодка). *На агонь, як на хвалі ці як на ўспаміны, можна глядзець* (М. Танк. На рамонце чыгункі). *У гарадку ўсё кіпела цяпер як у катле або як у вуллі* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

§ 802. Параўнальныя звароты, якія ўжываюцца для ўдакладнення аднаго або некалькіх слоў асноўнай часткі сказа, могуць суправаджацца дадатковым адценнем заключэння. Гэтыя звароты складаюцца з паасобных слоў або іх спалучэнняў: *Калгаснікі, як адзін, прагаласавалі за Мірона Пятровіча* (У. Краўчанка. Праз шэсць гадоў). *Каля крамы, як звычайна ў нядзелю, таўпілася многа святочнага народу* (І. Мележ. Людзі на балоце). *У класе, як заўсёды перад пачаткам заняткаў, было шумна і весела* (У. Краўчанка. Самае галоўнае). *Ясныя былі дні, марозлівыя і, як заўсёды ў такую восень, ціхія* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

Для ўзмацнення такога адцення ў складзе параўнальнага звароту непасрэдна за злучнікам *як* ставіцца часціца *і*: *Леніну, як і ўсім, падалі бульбяны суп* (М. Гамолка. Луста хлеба). *Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат* (Я. Колас. Адшчапенец). *Змрок, як і заўсёды ў позную восень, наплываў хутка* (А. Кулакоўскі. Не з таго боку).

Параўнальныя звароты, якія складаюцца з назоўніка ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікам (часам у спалучэнні з прыметнікам), могуць суправаджацца дадатковым адценнем умовы або прычыны: *Усе, як па камандзе, ускоквалі на ногі* (М. Ракітны. На прыстані). *Галава ў яго трэслася, як ад старасці* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). *У Андрэя, як ад моцнага ўдару, сціснуліся бровы* (Я. Скрыган. Развітанне).

§ 803. Некаторыя звароты са злучнікам *як* у пэўнай меры ўжо страцілі значэнне параўнання і наблізіліся да катэгорыі пабочных слоў: *Нос, як сумыслу, зноў засвярбеў* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу). *Рыба, як на злосць, не лавілася* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Драўляныя домікі тут, як на тое, уцалелі ўсе* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). *Як на грэх, лоў быў шчаслівы* (Я. Колас. Бунт). *Васіль, як па ўмове, з палеткаў ужо набліжаўся сюды* (М. Калачынскі. Сонца ўстае над полем). *Саўка, як ні ў чым не бывала, падышоў да Максіма* (Я. Колас. Дрыгва).

Пры больш аслабленай сувязі з асноўнай часткай сказа паасобныя звароты са злучнікам *як* могуць выконваць ролю ўстаўнога словазлучэння і бяруцца ў дужкі: *Твар да жудасці белы (як бяроста)* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Стрэльба (як ніколі раней) здалася непатрэбнай* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

§ 804. У тых выпадках, калі зварот уводзіцца ў структуру асноўнай часткі сказа пры дапамозе злучніка *як* у спалучэнні з часціцамі *не (ні), амаль, зусім, іменна* або некаторымі размеркавальнымі злучнікамі, ён часцей за ўсё выконвае ролю акалічнасці: *Хіба ж ты там размясціўся не як у сябе дома?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Страха свіціцца амаль як сіта* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Сонца прыгравала зусім як летам* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Чырвоныя камандзіры прынялі яго ў сваю сям'ю іменна як камандзіра і свайго чалавека* (Я. Колас. Дрыгва). *Латкі чапляліся за латкі то як кастры аладак, то як кучкі медзякоў* (Я. Колас. Кажух старога Анісіма). *Вочы дзяўчыны глядзелі не то як сарамліва, не то як вінавата* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

Калі ж падобныя звароты ўжываюцца са значэннем удакладнення і маюць у сваім складзе словы, якія супастаўляюцца і пэўным чынам параўноўваюцца з адпаведнымі словамі асноўнай часткі сказа, то яны з'яўляюцца параўнальнымі: *У каморцы было холадна, амаль як на двары* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

§ 805. У тых выпадках, калі зварот уводзіцца ў структуру асноўнай часткі сказа пры дапамозе спалучэнняў *больш як (не больш як), менш як (не менш як), часцей як (не часцей як), горш як (не горш як)* і інш., ён часцей за ўсё выконвае ролю акалічнасці або ўваходзіць у склад састаўнога выказніка: *Больш як месяц не была яна ў сяле* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Да ракі Псёл адгэтуль было не болей як дваццаць вёрст* (Я. Колас. Дачакаўся). *Менш як праз хвіліну Несцяровіч вярнуўся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Калгаснікі выступілі ініцыятарамі звышпланавага адлову кожнай брыгадай не менш як па тры тоны рыбы* (з газет). *Бухча заходзіў сюды не часцей як адзін раз* (К. Чорны. Нянавісць). *Танк стаяў не бліжэй як за паўкіламетра* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Калі ж падобныя звароты ўжываюцца са значэннем параўнальнага супастаўлення і ўключаюць словы, якія суадносяцца з адпаведнымі словамі асноўнай часткі сказа, то яны з'яўляюцца параўнальнымі: *Мне баліць не менш, як табе* (К. Крапіва. Проба агнём). *Маці шкадавала Уладзіка болей, як мяне* (Б. Сачанка. Уладзік). *Усё выходзіць у яе не горш, як у людзей* (А. Кулакоўскі. Нявестка).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *што*

§ 806. Злучнік *што*, пры дапамозе якога параўнальныя звароты аб'ядноўваюцца з асноўнай часткай сказа, мае значэнне, вельмі блізкае да злучніка *як*. Аднак параўнальныя звароты са злучнікам *што* сустракаюцца вельмі рэдка.

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальнага прыслоўя *так* у ролі акалічнасці, звычайна маюць у сваім складзе назоўнік у форме назоўнага або ўскосных склонаў з прыназоўнікам: *Голас звініць так, што ручаёк* (І. Шамякін. У добры час). *Вадзіцель глядзіць так, што вар'ят* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Шчокі зарумяніліся так, што ў мароз* (Я. Колас. На ростанях).

Іншы раз указальнае слова *так* выконвае ролю ўзмацняльнай часціцы пры адпаведным прыслоўі, якое ўваходзіць у склад састаўнога выказніка: *Тут так цёпла, што ў лазні* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

§ 807. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальнага займенніка *такі* ў састаўным выказніку, складаюцца з назоўніка ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікам: *Выгляд у чалавека быў такі, што ў пастуха* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Часам указальнае слова *такі* можа выконваць ролю ўзмацняльнай часціцы пры адпаведным прыметніку, які ўваходзіць у склад састаўнога выказніка. У такім разе ў склад параўнальнага звароту ўваходзіць назоўнік або субстантываваны прыметнік у форме назоўнага або ўскосных склонаў (іншы раз з залежнымі словамі). *Ільны такія белыя — што лебядзіны пух* (М. Калачынскі. Верасень). *Валасы былі ўжо такія сівыя і рэдкія, што ў старога* (К. Чорны. Зямля).

§ 808. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага ці ўскосных склонаў (іншы раз у спалучэнні з прыметнікам) або прыметніка з пэўнай субстантыўнасцю ў форме назоўнага склону: *Дзявочыя бровы ўзляцелі, што крылы* (П. Броўка. Хлеб). *Паўстануць сосны старчмака, гудуць, што ў буралом* (П. Броўка. Плытагон). *Хлопчык імчаўся, што лёгкая птушка* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Снег пад нагамі скрыпіць, што жывы* (Я. Колас. Дрыгва).

Заўвага. Калі падобныя звароты надзвычай цесна звязаны з дзеясловам-выказнікам асноўнай часткі сказа, то яны могуць выконваць ролю акалічнасці: *Хлопчыкі што было сілы прыпусцілі па снежнай дарожцы* (М. Гамолка. Залатыя рукі).

§ 809. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка ў спалучэнні з іншымі членамі асноўнай часткі сказа (пераважна дапаўненнем), звычайна складаюцца з назоўніка ў формах ускосных склонаў: *Вядзе к сялу Нічыпар цягач, што карабель* (М. Калачынскі. Дажынкі ў Каласоўцы). *Яго* [туман] *вятры ледзь-ледзь крылом гайдалі, што калыску* (П. Броўка. Родныя берагі).

§ 810. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўсёй асноўнай часткі сказа, могуць складацца з назоўніка або прыметніка часцей за ўсё ў форме назоўнага склону: *Ляжаў шнурок, што паясок* (П. Броўка. Бацькаў дом). *Што дзятлы, клююць сякеры* (П. Броўка. На Палессі гоман, гоман...). *Снапы, што салдаты, стаяць* (П. Броўка. Добры друг). *Скачуць ліпы, што жывыя* (П. Броўка. Кацярына).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *чым*

§ 811. Параўнальныя звароты аб'ядноўваюцца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *чым,* калі трэба падкрэсліць большую або меншую ступень якасці ці колькасці тых прадметаў і з'яў, якія параўноўваюцца паміж сабою. Як правіла, гэтыя звароты адносяцца да прыслоўяў або прыметнікаў у форме вышэйшай ступені.

Прыслоўі ў форме вышэйшай ступені, да якіх адносіцца параўнальны зварот, у большасці выпадкаў уваходзяць у склад састаўнога выказніка. Самі ж параўнальныя звароты складаюцца ў асноўным з назоўніка ў формах розных склонаў (адзіночнага ці з залежнымі словамі). Гэты назоўнік суадносіцца з адпаведным яму назоўнікам у асноўнай частцы сказа, які выконвае ролю дзейніка, дапаўнення або акалічнасці: *Дачка зайсёды бліжэй да матчынага сэрца, чым сын* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Грудочкаў было больш, чым буданоў* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *У лесе было многа цяплей, чым у полі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Каля вокан тваіх нам не горай было, чым на ўзлеску* (Р. Няхай. Скарга сяброў маленства). *Сярод жанчын было весялей, чым сярод мужчын* (П. Пестрак. Серадзібор). *Пан страшней, чым люты звер* (А. Бялевіч. Карэнні дуба). *Немцы былі значна бліжэй да рэчкі, чым пунька падарожнікаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Назоўнік у складзе параўнальнага звароту можа суадносіцца з адпаведным яму займеннікам або прыслоўем асноўнай часткі сказа: *Зямлі ў яго больш, чым у Сурвілы* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Людзей тут было менш, чым у Серадзіборы* (П. Пестрак. Серадзібор).

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўяў вышэйшай ступені ў ролі састаўной часткі выказніка, могуць складацца з займенніка (іншы раз у спалучэнні з прыназоўнікам). Гэты займеннік звычайна суадносіцца з адпаведным яму займеннікам асноўнай часткі сказа, які выконвае ролю дапаўнення: *Мне тут лягчэй, чым вам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Латвей камусьці парадзіць, чым сабе* (прыказка). *У іх чысцей, чым у іншых, хаты* (С. Грахоўскі. Дальні прыпынак).

У тых выпадках, калі ў склад параўнальнага звароту ўваходзіць прыслоўе са значэннем часу або безасабова-прэдыкатыўнае слова, яны звычайна не маюць суадноснага прыслоўя ў асноўнай частцы сказа, якое падразумяваецца з кантэксту: *Аўдоля гаварыла мацней, чым*

*звычайна* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *На душы ў Міхала было лепш, чым раніцай* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). *На нашай вуліцы светлай крышку святлей, чым звычайна* (М. Лужанін. Размова з дачкою).

Заўвага. Калі зварот са злучнікам *чым* не мае суадносных слоў у асноўнай частцы сказа і яны не падразумяваюцца, то ён страчвае параўнальную функцыю і ўваходзіць у склад выказніка: *Чыкілевіч быў больш чым пакрыўджаны* (Я. Колас. Адшчапенец). *Да граніцы не меней чым сорак вёрст* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

§ 812. У радзе выпадкаў прыслоўі ў форме вышэйшай ступені, да якіх адносіцца параўнальны зварот, выконваюць ролю акалічнасці. Пры гэтым параўнальныя звароты часцей за ўсё складаюцца з назоўніка ў формах розных склонаў (адзіночнага ці з залежнымі словамі). Гэты назоўнік суадносіцца з адпаведным яму назоўнікам асноўнай часткі сказа, які выконвае ролю дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці: *Дзед быў узрушаны не менш, чым Міколка* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Хмыз Рома лепш, чым бацька, церабіў* (А. Зарыцкі. Раман Шаплыка). *Палюбіла лес дзяўчына нават болей, чым Івана* (М. Чарот. Марына). *Яна дырыжыравала больш галасам, чым рукамі* (А. Кулакоўскі. Незабыўнае рэха). *Гаворка больш выказваецца ў нейкіх гуках, чым у словах* (Я. Колас. Агатка). *Заўвагі накіроўваліся больш на самога Мікуця, чым на яго прамову* (К. Чорны. Вясна). *Яна прамовіла гэта больш рашуча, чым Лясніцкі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Такая гульня стамляла больш, чым самая цяжкая работа* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя асноўнай часткі сказа ў ролі акалічнасці, складаюцца часам з асабовага дзеяслова. Гэты дзеяслоў заўсёды суадносіцца з адпаведным яму дзеясловам асноўнай часткі сказа, які выступае ў ролі выказніка: *Сход разыходзіўся шумней, чым збіраўся* (К. Чорны. Зямля). *Білі мяне больш, чым кармілі* (З. Бядуля. Навагодняя ёлка). *Рабіў ён хутчэй, чым гаварыў* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *На сенажаці больш ляжаў ён, чым касіў* (А. Русак. Мікіта і Макар).

Заўвага. Калі ж дзеясловы не суадносяцца паміж сабою, то спалучэнне з параўнальным злучнікам выступае ў ролі дапаўнення: *Я памагаю чым магу* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *На ўроках мы займаліся чым папала* (Я. Скрыган. След гумавых шын).

Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, якія складаюцца з займенніка (часам у спалучэнні з прыназоўнікам ці часціцай) і суадносяцца з адпаведным займеннікам асноўнай часткі сказа ў ролі дапаўнення: *Маці шкадавала яго больш, чым сябе* (Р. Мурашка. Сын). *На сябе я магу спадзявацца больш, чым на каго* (К. Крапіва. Проба агнём). *Яна больш была занята сабою, чым усім іншым* (К. Чорны. Трыццаць год).

Словы, якія ўваходзяць у склад параўнальных зваротаў, могуць суадносіцца са словамі асноўнай часткі сказа, якія выражаны рознымі часцінамі мовы: *Цяпер Саша спалохалася больш, чым хто* (І. Шамякін. Начныя зарніцы). *Міхал хутчэй па голасе, чым па іншым, пазнаў Кастуся Алешку* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). *У гэтую нядзельную раніцу Андрэйка раней, чым звычайна, ускочыў з пасцелі* (М. Гамолка. Жылі-былі два сябры). *Назаўтра ён прыйшоў дадому раней, чым у мінулыя дні* (А. Кулакоўскі. Кватаранты). *У Надзі былі ўсе падставы не з'яўляцца там, дзе яе асобай маглі цікавіцца больш, чым на гэтай глухой станцыі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Калі зварот са злучнікам *чым* не мае суадносных слоў у асноўнай частцы сказа і цесна звязан з выказнікам гэтай часткі, то ён разам з прыслоўем у форме вышэйшай ступені страчвае параўнальную функцыю і выконвае ролю акалічнасці: *Пражыў ужо ён больш чым пажыцця* (А. Зарыцкі. Раман Шаплыка). *Сякера больш*

*чым напалову ляза ўвайшла ў дрэва* (І. Шамякін. У добры час). *Ён меў права затрымлівацца ў адным месцы не больш чым на суткі* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

§ 813. Прыметнік у форме вышэйшай ступені (іншы раз у спалучэнні з назоўнікам), да якога адносіцца параўнальны зварот, звычайна ўваходзіць у склад выказніка. У такім выпадку параўнальны зварот можа складацца з назоўніка або займенніка (адзіночных ці з залежнымі словамі), дзеяслова або прыслоўя, якія суадносяцца з адпаведным назоўнікам, займеннікам, дзеясловам ці прыслоўем асноўнай часткі сказа: *Афіцэр быў яшчэ маладзейшы, чым салдат* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У раёне аб нас не горшай думкі, чым аб іх* (У. Крапівa. Шыла ў мяшку не схаваеш). *Надвор'е стала яшчэ горшае, чым было* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Цяпер змрок стаў яшчэ чарнейшы, чым раней* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 814. Выключна рэдкімі з'яўляюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка ў форме вышэйшай ступені (іншы раз у спалучэнні з назоўнікам), што выступае ў ролі азначэння асноўнай часткі сказа. Такі параўнальны зварот складаецца з назоўніка ў форме назоўнага склону, які суадносіцца з адпаведным яму назоўнікам або займеннікам асноўнай часткі сказа: *Нешта большае, чым радасць, гучала ў яе словах* (А. Чарнышэвіч. Заценак Малінаўка). *Няма ў нас у калгасе чалавека з большай гаспадарчай здагадкай, чым Маркавіч* (У. Краўчанка. Сорак конскіх сіл).

§ 815. У размоўным стылі, а пад яго ўплывам і ў мове мастацкай літаратуры замест злучніка *чым* параўнальныя звароты могуць аб'ядноўвацца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *чымся*. Гэтыя звароты таксама адносяцца да прыслоўя або прыметніка ў форме вышэйшай ступені і вызначаюцца аналагічнымі асаблівасцямі, што і звароты са злучнікам *чым*: *Камяніцы бачылі болей, чымся дрэвы і вуліцы* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *Гэта ён скарэй падумаў, чымся выгаварыў* (З. Бядуля. Умарыўся). *Ён глядзеў больш на Слышэню, чымся на следчага* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Старыя яшчэ з большай заядласцю, чымся маладыя, валілі высокія хвоі* (З. Бядуля. Год за годам).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *нібы*

§ 816. Параўнальныя звароты аб'ядноўваюцца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *нібы*, калі трэба паказаць, што параўнанне мае прыблізны характар. Гэтыя звароты ўжываюцца для ўдакладнення слоў і спалучэнняў, якія знаходзяцца ў складзе асноўнай часткі сказа.

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, у большасці выпадкаў складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага склону (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Дзеці мітусіліся, нібы матылькі* (Я. Колас. На ростанях). *Мы падаем на дол, нібы лісты* (М. Калачынскі. Асеннія лісты). *Бурт узвышаўся на агародзе, нібы вялікі курган* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У небе зорак харавод гарыць, нібы дзяўчынкі вочы* (М. Чарот. Схавалася сонца). *Барабанщчык узвышаўся над усімі, нібы капітан карабля* (І. Шамякін. У добры час). *Нібы подых ночы, даносіліся шолахі з блізкага бору* (З. Бядуля. Віхор).

Заўвага. Калі звароты са злучнікам *нібы*, у склад якіх уваходзіць назоўнік у формах ускосных склонаў (часам у спалучэнні з прыназоўнікам), цесна звязаны з выказнікам асноўнай часткі сказа, то яны могуць выконваць ролю дапаўнення або акалічнасці: *Віктара нібы снегам абдало* (А. Кулакоўскі. Нявестка). *Бяда прылучылася нібы з грому* (Я. Колас. У балоце). *Гэта было сказана нібы жартам* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, у склад якіх уваходзіць прыслоўе або прыметнік з пэўнай субстантыўнасцю: *Чалавек, нібы неўзаметку, адвярнуўся ад Хурса* (К. Чорны. Трыццаць год). *Андрэйка, нібы незнарок, выставіў убок нагу* (М. Гамолка. Жылі-былі два сябры). *Дзіўныя снапы святла трапяталіся, нібы жывыя* (І. Шамякін. У добры час).

У склад параўнальных зваротаў, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка (часам у спалучэнні з іншымі членамі) асноўнай часткі сказа, можа ўваходзіць дзеепрыслоўе (адзіночнае ці з залежнымі словамі): *Аленка, нібы спалохаўшыся, раптам спыняецца* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Над лесам ляжаў, нібы астываючы, велізэзны шар сонца* (М. Гамолка. Даруй мне, Міша...). *Часамі Шавель паварочваў галаву і акідаў позіркам дарогу, нібы некага чакаючы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Пышныя чупрыны снапоў цяпер трымаліся ганарліва, нібы пахваляючыся перад раніцай сваім буйным ростам* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

У радзе выпадкаў параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа, складаюцца з дзеяслова, што мае іншы раз пры сабе паясняльныя словы. Але такія звароты ўжываюцца не столькі для параўнання, колькі для дапаўнення і пашырэння зместу дзеяслова асноўнай часткі сказа: *Яна маўчала, не пярэчыла — нібы не чула* (І. Мележ. Спатканне за горадам). *Дзед слухае, нібы сон сніць* (Я. Колас. Адплата). *Старая маці варочалася на ложку, размінала старыя косці, кашляла, вохкала, нібы скардзілася на жыццё* (М. Лынькоў. Гой).

Параўнальныя звароты, якія складаюцца з дзеяслова (адзіночнага ці з залежнымі словамі), адносяцца часам да дзеяслова ў спалучэнні з іншымі членамі асноўнай часткі сказа: *Дзед падышоў неяк неўзаметку, нібы падкраўся* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Нікадзім Пятровіч з гордасцю нахіляў аблыселую з ілба галаву, нібы кланяўся* (А. Кулакоўскі. Кватаранты). *Сцяпанавіч правёў рукавом па ілбу, нібы абцёр пот* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Міколка сцяўся ў халодны камяк, нібы ўліп у зямлю* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 817. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа ў ролі азначэння, звычайна складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага склону або дзеепрыметніка з залежнымі словамі: *Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за лесу* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Цёмна-карычневыя, нібы абпаленыя агнём, лісты сіратліва трапечуцца да самай вясны* (І. Шамякін. У добры час). *Па пустой, нібы ахутанай імглою, вуліцы з пагашанымі фарамі праімчала аўтамашына* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

Калі параўнальныя звароты адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа, які ўваходзіць у склад састаўнога выказніка, яны таксама складаюцца з назоўніка або дзеепрыметніка: *Горкае, нібы крушына, было ў людзей жыццё* (М. Калачынскі. Сонца ўстае над полем). *Пустым, нібы вымершым, здаецца Затонне* (Я. Колас. Адшчапенец).

§ 818. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя асноўнай часткі сказа ў ролі акалічнасці, могуць мець у сваім складзе прыслоўе або назоўнік у формах ускосных склонаў з прыназоўнікам: *Ён хутка, нібы спалохана, апіраецца рукамі на голле і ўстае* (А. Кулакоўскі. Адвячорак). *Побач, нібы на экране, плыла другая лодка* (Я. Брыль. Пад гоман вогнішча).

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя ў спалучэнні з дзеясловам-выказнікам асноўнай часткі сказа, звычайна складаюцца

з назоўніка ў форме назоўнага або ўскосных склонаў: *Струны енчаць жаласна, нібы авадні* (М. Чарот. Марына). *Яны крочылі паволна, нібы на прагулцы* (А. Кулакоўскі. Нявестка). *Яны сядзелі ціха, нібы ў кіно* (А. Чарнышэвіч. Світанне). *Віхрам імчыцца машына, нібы на пажар* (зб. «Народная творчасць»).

§ 819. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да назоўніка асноўнай часткі сказа ў ролі дзейніка або дапаўнення, звычайна складаюцца з адзіночнага назоўніка або назоўніка ў спалучэнні з прыметнікам. Пры гэтым назоўнік параўнальнага звароту заўсёды знаходзіцца ў адным і тым жа склоне з удакладняемым назоўнікам асноўнай часткі сказа: *Плывуць леты, нібы рэкі* (Я. Купала. Сцёпка Жук). *Дзяўчаты, нібы русалкі, карагоды водзяць* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе). *З гнёздаў буслы пазіраюць і дзюбамі, стрэлкамі нібы, паказваюць шлях* (М. Лужанін. Вясна). *Узоры вытканыя з зор, нібы са злота-срэбных нітак* (М. Чарот. Чырвонакрылы вяшчун). *Сонца, нібы агнёвае вока, залоціць даль* (З. Бядуля. Год за годам).

Калі параўнальныя звароты адносяцца да назоўніка ў спалучэнні з іншымі словамі асноўнай часткі сказа, то ў склад гэтых зваротаў можа ўваходзіць як адзіночны назоўнік, так і назоўнік з залежнымі ад яго словамі: *Бліскучы месяц, як серп, павіс над сялом* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Пад хвалі шум, нібы пад калыханку, заснуў ён* (А. Зарыцкі. Раман Шаплыка). *Гурбы снегу, нібы белыя мядзведзі, насіліся на прасторы* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі). *Дзе-нідзе зрэдку відаць — нібы жоўтая пена на гэтых чорных хвалях — плямы пяску* (І. Шамякін. Вясновымі днямі).

§ 820. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да зместу ўсёй асноўнай часткі сказа, звычайна складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага склону (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Вясною падалі пялёсткі, нібы сняжынкі, на мурог* (П. Панчанка. Яблыня). *Узварухнулася мястэчка, нібы той мурашнік* (М. Лынькоў. Гой). *Сэрца скалыхнулася, нібы той лісток* (А. Русак. На Прыпяці). *Нібы цудоўная кветка, ордэн галубіць мне грудзі* (Я. Купала. Сэрца і думка мне кажа). *Яе словы падалі на галаву, нібы цяжкія кроплі халоднай вады* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

§ 821. Акрамя параўнальнага значэння, звароты са злучнікам *нібы* могуць суправаджацца дадатковым адценнем прычыны або мэты. Як правіла, гэтыя звароты складаюцца з назоўніка ў форме роднага склону ў спалучэнні з прыназоўнікамі *ад* і *для*: *Чыхнуў пару разоў і, нібы ад нясмеласці, захлібнуўся рухавічок* (У. Краўчанка. Праз шэсць гадоў). *Салдат здрыгануўся, нібы ад удару, і ўпіўся ў Петрыка вачыма* (М. Гамолка. Бацька). *Яго твар пабялеў і, нібы ад цяжару шрама, скрывіўся набок* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Высока, нібы для ўдару, паднята яго рука* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 822. У размоўным стылі, а пад яго ўплывам і ў мове мастацкай літаратуры замест злучніка *нібы* параўнальныя звароты могуць аб'ядноўвацца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *нібыта*. Параўнальныя звароты з гэтым злучнікам маюць такія ж асаблівасці, што і параўнальныя звароты са злучнікам *нібы*: *Яна гарыць, нібыта сцяг* (А. Бялевіч. Сцяг). *Яны прайшлі ўначы, нібыта цені, праз дарогу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яны размаўлялі з прыезджымі, нібыта з баркаўчанамі* (І. Грамовіч. Калі паспелі антонаўкі). *Пакачаўшы трохі, нібыта для маскіроўкі, госць нешта запісвае* (Я. Брыль. У снезе журацца бярозы). *Над тундрай зара зіхаціць залатая, нібыта калыска палярнага дня* (А. Александровіч. Нараджэнне дня).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *бы*

§ 823. Злучнік *бы*, пры дапамозе якога параўнальныя звароты аб'ядноўваюцца з асноўнай часткай сказа, мае значэнне, вельмі блізкае да злучніка *нібы*. Аднак параўнальныя звароты з гэтым злучнікам сустракаюцца значна радзей.

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, звычайна маюць у сваім складзе назоўнік (адзіночны ці з залежнымі словамі) у формах назоўнага, вінавальнага ці меснага склонаў: *Яго сын хістаўся, бы кнот* (Я. Купала. Батрак). *Гай заціх, бы ў сне* (Я. Колас. Восень у гаі). *Загудзела ў лесе, бы ў віхор* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Шумелі трывожна, стагналі, бы ў горы, высокія сосны пад гнеўнай віхураю* (А. Бялевіч. Смерць чайкі). *Бы статак ішакоў, равуць сірэны караблёў* (М. Танк. Стамбул).

Заўвага. Калі такі зварот цесна звязан з удакладняемым выказнікам асноўнай часткі сказа, то ён можа ўжывацца ў ролі акалічнасці: *Даніла выйшаў, бы ў тумане* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Параўнальны зварот, які складаецца з назоўніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі), можа адносіцца да дзеяслова-выказніка ў спалучэнні з іншымі членамі асноўнай часткі сказа: *За трактарамі, бы шпакі, ідуць у грамадзе вясёлай суседніх вёсак хлапчукі* (М. Танк. Мінскі трактар). *Лёд, бы камень самацветны, блішчыць праменнаю ігрой* (А. Звонак. Вясна ідзе). *Бы на краёчку горнай стромы, трапечуць сэрцы юнакоў над кнігай* (А. Вялюгін. Вецер з Волгі).

У радзе выпадкаў параўнальныя звароты, якія адносяцца да адзіночнага дзеяслова-выказніка або дзеяслова-выказніка ў спалучэнні з іншымі членамі асноўнай часткі сказа, складаюцца з дзеяслова (іншы раз у спалучэнні з залежнымі словамі): *Свежую траву ўспомніў конь і заржаў, бы затужыў* (М. Танк. Журавінавы цвет). *Вароны ў высі крык заўзяты ўзнялі, бы клянуць сябе* (Я. Купала. У лесе).

§ 824. Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка або безасабова-прэдыкатыўнага слова, што ўваходзіць у склад састаўнога выказніка асноўнай часткі сказа. Такія звароты звычайна складаюцца з адзіночнага назоўніка ў форме назоўнага або ўскосных склонаў з прыназоўнікам: *Зямля была тлустая, бы масла* (З. Бядуля. На балоце). *Рукі моцны, бы са сталі* (Я. Купала. Беларусі ардэнаноснай). *У хаце сумна, бы ў нявол*і (М. Чарот. Вясенняя раніца).

§ 825. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да назоўніка асноўнай часткі сказа ў ролі дзейніка, заўсёды складаюцца з назоўніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі) у форме назоўнага склону: *Садзіцца пыл, бы шэрань, на малады ліпняк* (М. Калачынскі. Дажынкі ў Каласоўцы). *Шалясцелі чары, бы вятры-узвеі* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *На нізінах туман, бы кудзельнае мора* (З. Бядуля. Вісіць серп залаты...). *Збоку вербачкі крывыя, бы кабецінкі старыя, нуднай кучкаю стаяць* (Я. Колас. Наша сяло).

§ 826. Вельмі рэдка сустракаюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да зместу ўсёй асноўнай часткі сказа. Яны складаюцца з назоўніка, які звычайна ўжываецца ў спалучэнні з залежнымі словамі: *Заварушылася моладзь, бы тое птаства* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 827. Некаторыя звароты са злучнікам *бы* і прыслоўем у пэўнай меры ўжо страцілі значэнне параўнання і наблізіліся да катэгорыі пабочных слоў: *Вецер, бы знарок, суняўся* (П. Броўка. Кацярына). *Полымя, бы знячэўку, шуганула ўверх* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сашка, бы незнарок, кашлянуў* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *як бы*

§ 828. Параўнальныя звароты аб'ядноўваюцца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *як бы*, калі трэба паказаць, што параўнанне мае прыблізна-дапушчальны характар. Гэтыя звароты ўжываюцца для ўдакладнення ўказальнага прыслоўя або іншых слоў, якія знаходзяцца ў складзе асноўнай часткі сказа.

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальнага прыслоўя (часцей за ўсё ў спалучэнні з дзеясловам) асноўнай часткі сказа, звычайна складаюцца з дзеяслова і залежных слоў: *Мы думалі так, як бы ўсё ўжо ведалі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Яны вялі сябе так, як бы чагосьці шукалі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яму здалося, што людзі глядзелі на яго так, як бы ведалі ўсю справу з дубком* (Я. Колас. Малады дубок).

§ 829. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, заўсёды складаюцца з дзеяслова і залежных слоў: *Ён ішоў берагам, прыглядаўся, як бы чагосьшукаў* (Я. Колас. Малады дубок). *Чалавек прыпыніўся, як бы ўспомніў штосьці* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Лапы то падымаліся, то апускаліся, як бы лавілі нявіднага ворага* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

Заўвага. Калі зварот са злучнікам *як бы* знаходзіцца пры дзеяслове асноўнай часткі сказа і складаецца з назоўніка і залежных ад яго слоў, то ён заўсёды выконвае ролю акалічнасці: *Хлопец глядзеў на Гальваса як бы з нейкім патрабаваннем* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вячэра часта праходзіла як бы на святочным узроўні* (А. Кулакоўскі. Кватаранты).

Параўнальны зварот можа адносіцца таксама да дзеяслова ў спалучэнні з іншымі словамі, якія знаходзяцца ў асноўнай частцы сказа. Гэты зварот, як і папярэдні, складаецца з дзеяслова і залежных слоў: *Цэлы дзень яна праляжала з шырока расплюшчанымі вачыма, як бы ўглядалася перад сабой* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 830. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа (часам у спалучэнні з іншымі словамі), могуць складацца з адзіночнага дзеепрыслоўя або дзеепрыслоўя ў спалучэнні з залежнымі словамі: *Як бы прыглядаючыся, ён спыніўся пасярод вуліцы* (Я. Колас. На ростанях). *Горад ужо відавочна сцішаўся, як бы павольна засынаючы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Павел Сцяпанавіч і Кавальчук сядзелі каля стала, як бы прыслухоўваючыся да гоману* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Бушмар правёў рукою па твары, як бы знімаючы з яго штосьці чужое і непрыемнае* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Яна адказала і занялася сваімі справамі, як бы не хочучы заводзіць асаблівых дыскусій з бацькам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 831. У некаторых выпадках параўнальныя звароты са злучнікам *як бы* адносяцца да прыслоўя асноўнай часткі сказа, якое ўжываецца ў ролі акалічнасці. Сам зварот у такім разе звычайна складаецца з назоўніка ў формах ускосных склонаў, які часцей за ўсё мае пры сабе залежныя словы: *Адтуль, як бы з суседняй вёскі, даносіўся плач дзіцяці* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Далей, як бы на самым ужо блізкім даляглядзе, узнімаўся комін завода і сцены яго з чырвонай цэглы* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Параўнальныя звароты могуць адносіцца да прыслоўя ў спалучэнні з дзеясловам-выказнікам асноўнай часткі сказа. У склад гэтых зваротаў заўсёды ўваходзіць дзеяслоў з залежнымі словамі: *Яна варушылася зусім павольна, як бы і не збіралася ісці дадому* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 832. Вельмі рэдка сустракаюцца параўнальныя звароты, якія

адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа ў ролі азначэння або адной з частак састаўнога выказніка. У абодвух выпадках параўнальны зварот звычайна складаецца з прыметніка або дзеепрыметніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Адтуль, недзе з-за ўзгорку, даносіліся невыразныя, як бы прыдушаныя, гукі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Непадалёку віднеўся сіні, як бы ахутаны дымам, лес* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Гэты куточак стаўся яму нават блізкі, як бы родны* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»).

§ 833. У радзе выпадкаў некаторыя звароты са злучнікам *як бы* ў пэўнай меры ўжо страцілі значэнне параўнання і наблізіліся да катэгорыі пабочных слоў: *Крушынскі, як бы неўзаметку, варухнуў плячом* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Яноўскі, як бы няўцямна, правёў паліцаяў позіркам* (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *быццам*

§ 834. Параўнальныя звароты злучаюцца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *быццам*, калі трэба паказаць, што параўнанне мае ўмоўна-дапушчальны характар. Гэтыя звароты служаць для ўдакладнення ўказальных і іншых слоў у складзе асноўнай часткі сказа.

Сярод указальных слоў, да якіх адносіцца параўнальны зварот са злучнікам *быццам*, часцей за ўсё ўжываецца прыслоўе *так*. Яно заўсёды цесна звязана з дзеясловам асноўнай часткі сказа, які выступае ў ролі выказніка. У складзе параўнальнага звароту звычайна знаходзіцца дзеяслоў у спалучэнні з залежнымі словамі: *Іліко глядзеў так, быццам бачыў яго ўпершыню* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Бацька слухаў моўчкі і глядзеў на мяне так, быццам любаваўся нечым* (М. Гамолка. Выпадак у лесе). *Ён адчуваў сябе так, быццам разлічыўся ўжо з усімі сваімі непрыяцелямі* (К. Чорны. Насцечка).

§ 835. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, у большасці выпадкаў складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага склону: *Успыхнуў, быццам свечка, куст* (П. Броўка. Вясновая кніга). *Зляцелі воплескі віхурай і зашумелі, быццам лес* (П. Глебка. У тыя дні). *Перад вачамі, быццам дым, усё плыло* (А. Зарыцкі. Раман Шаплыка). *Зары праменні, прарваўшыся праз сад вішнёвы, на шыбах, быццам зайчаняты, гуляюць, скачуць* (М. Танк. Мой родны кут).

Заўвага. Калі назоўнік, з якога складаецца зварот, мае форму ўскосных склонаў, то ён надзвычай цесна прымыкае да паясняемага выказніка і выконвае ролю дапаўнення або акалічнасці: *Яго быццам варам абдало* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Яны ішлі быццам на маёўку* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Зрэдку назоўнік, які ўваходзіць у склад параўнальнага звароту, мае пры сабе паясняльныя словы: *Звініць яе голас, быццам ветрык гарэзлівы* (М. Танк. Негрыцянка пяе). *Разам з намі, быццам ціхая песня, плыў на лёгкіх крыллях ветру спакойны шум збажыны* (У. Краўчанка. Эліта). *У сярэдзіне нешта лопнула, быццам туга напятая струна* (М. Гамолка. Жылі-былі два сябры).

У склад параўнальнага звароту, які адносіцца да дзеяслова-выказніка (часам у спалучэнні з іншымі словамі) асноўнай часткі сказа, можа ўваходзіць дзеяслоў разам з залежнымі словамі: *Нізка слалі бярозы лісты, быццам зналі пра нашую страту* (П. Броўка. Помнік). *Яна не ўзняла галавы, быццам нічога не чула* (І. Шамякін. Непаўторная вясна). *Хлопчык моцна засмяяўся, быццам успомніў штосьці смешнае* (Р. Мурашка. Сын).

*Яна апусціла рукі, быццам наткнулася на перашкоду, перамагчы якую будзе нялёгка* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

У радзе выпадкаў параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа, складаюцца з прыметніка або дзеепрыметніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Быццам ашалелыя, мчацца коні* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Быццам нікому непатрэбная, адзінока стаяла яна сярод апусцеўшай вуліцы* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). *У вузенькім калідорчыку, быццам нечым спалоханая, стаяла яна* (М. Ракітны. На прыстані).

§ 836. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыметніка асноўнай часткі сказа ў ролі азначэння, складаюцца галоўным чынам з адзіночнага назоўніка ў форме назоўнага склону або дзеепрыметніка ў спалучэнні з залежнымі словамі: *Такой часінай дня густая, быццам пара, стаіць гарачыня* (П. Глебка. На рэчцы). *На палях шугаў цёплы, быццам недзе знарок нагрэты, вецер* (У. Краўчанка. Андрэйка).

У некаторых выпадках прыметнік, да якога адносіцца параўнальны зварот, уваходзіць у склад састаўнога выказніка. У такім разе параўнальны зварот можа складацца з назоўніка ў форме назоўнага склону або прыметніка ці дзеепрыметніка (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Ты — цёмны, сляпы, быццам крот* (М. Багдановіч. Народ...). *Месяц круглы ўстаў на небе, блішчыць невысока, увесь чырвона-жоўты, быццам пугачова вока* (М. Багдановіч. Вечар). *Ён быў ціхі, быццам чужы* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Ён стаяў нерухомы, быццам аглушаны* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *Твар быў белы, быццам абсыпаны мукой* (П. Галавач. Праз гады).

§ 837. Зрэдку сустракаюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да прыслоўя ў спалучэнні з дзеясловам-выказнікам асноўнай часткі сказа. Такія звароты звычайна складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага або ўскосных склонаў: *Дні ішлі, быццам цені, маўкліва* (М. Машара. Ноч прайшла). *Хлопцы спешна падняліся, быццам на пажар* (М. Калачынскі. Не праспаць бы!..).

§ 838. Некаторыя параўнальныя звароты адносяцца да назоўніка (часам у спалучэнні з прыметнікам) асноўнай часткі сказа, які можа ўжывацца ў ролі дзейніка, дапаўнення або акалічнасці. У склад такіх зваротаў часцей за ўсё ўваходзіць адзіночны назоўнік у форме назоўнага або ўскосных склонаў: *Месяц, быццам падкова, павіс на зялёнай сасне* (П. Броўка. Ясны кут). *Ясныя зоркі, быццам дзяўчаткі, скрозь іх валокны глядзяць* (Я. Колас. Хмаркі). *Рукамі, быццам абцугамі, учапіўся ён за край лодкі* (Я. Маўр. Сын вады). *Пары кругам, быццам бурай, закружыліся віхурай* (А. Русак. Зімняя ноч).

Назоўнік у складзе параўнальнага звароту можа мець пры сабе паясняльныя словы (галоўным чынам прыметнік): *Над возерам устае, быццам белая вайна, пахучы туман* (З. Бядуля. Прытуліся ка мне). *Пялёсткі, быццам снег падталы, плылі успененай ракой* (П. Прыходзька. Чарэмха ў садзе адцвітала). *Быццам думкай невясёлай, наміткай туману засцілаўся луг* (Я. Колас. Журба палёў).

§ 839. Параўнальныя звароты могуць адносіцца да ўсёй асноўнай часткі сказа. Яны складаюцца з аднаго назоўніка або назоўніка і залежнага прыметніка ў форме назоўнага склону: *Лагер варушыцца, быццам мурашнік* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Вочы, быццам вугалі, гараць* (З. Бядуля. Тулягі). *Страха, быццам сіта, свіціцца* (М. Танк. Нарач). *Гэтая пачцівая мянушка ўвесь лагер*

*абляцела, б ы ц ц а м  п т у ш к а* (А. З а р ы ц к і. Раман Шаплыка). *Б ы ц ц а м  б е л ы я  к о н і, уздыбіліся гурбы* (З. Б я д у л я. Малыя дрывасекі).

§ 840. Умоўна-дапушчальны характар параўнання суправаджаецца адпаведнай катэгарычнасцю і набывае большую дакладнасць тады, калі для аб'яднання параўнальнага звароту з асноўнай часткай сказа ўжываецца злучнік *быццам* у спалучэнні з часціцай *бы*. Такія параўнальныя звароты звычайна адносяцца да дзеяслова-выказніка ў спалучэнні з залежнымі словамі і складаюцца з дзеепрыслоўя і залежных слоў: *Яны ціха размаўлялі, б ы ц ц а м  б ы  б а ю ч ы с я  р а з б у д з і ц ь  А н д р э я* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Яна сядзела моўчкі, б ы ц ц а м  б ы  н е  з в я р т а ю ч ы  ў в а г і  н а  п р ы с у т н ы х* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Чалавек спяваў уголас, б ы ц ц а м  б ы  з а б ы ў ш ы с я  н а  ў с ё, ш т о  р а б і л а с я  н а в о к а л* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні).

§ 841. У паўднёва-заходніх гаворках, а пад іх уплывам і ў мове мастацкай літаратуры (асабліва 20—30-х гадоў XX ст.) у значэнні злучніка *быццам* ужываўся злучнік *мэрам*. Параўнальныя звароты з гэтым злучнікам характарызуюцца такімі ж асаблівасцямі, што і параўнальныя звароты са злучнікам *быццам*: *Некалькі хвілін яна памаўчала, м э р а м  у с п а м і н а л а  а б  н е ч ы м* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Ціхі нейкі, м э р а м  д а  з я м л і  п р ы б і т ы, стаўся Сымон Мігай* (Х. Ш ы н к л е р. Стрэлачнік Мігай). *За бліскавіцаю грукнуў гром, м э р а м  в ы с т р а л  з  д з е с я т к а ў  г а р м а т* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

Пры пэўных умовах сувязь параўнальнага звароту з асноўнай часткай сказа магла ажыццяўляцца пры дапамозе злучніка *мэрам* у спалучэнні з часціцай *бы*: *Алеська не адыходзіла ад маткі, м э р а м  б ы  б а ю ч ы с я  я е  а д н у  п а к і н у ц ь* (Ц. Г а р т н ы. Трэскі на хвалях).

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ ЗВАРОТЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *як быццам*

§ 842. Параўнальныя звароты злучаюцца з асноўнай часткай сказа пры дапамозе злучніка *як быццам*, калі параўнанне суправаджаецца дадатковым умоўна-дапушчальным адценнем. У сучаснай беларускай мове гэтыя звароты ўжываюцца вельмі рэдка.

Параўнальныя звароты, якія адносяцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа ў ролі выказніка, могуць складацца з назоўніка, дзеяслова або іншых часцін мовы: *Яны хаваліся, я к  б ы ц ц а м  з л а д з е і* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ён паў над жоўтымі пяскамі, я к  б ы ц ц а м  з а д р а м а ў* (П. Б р о ў к а. Шчорс). *Я к  б ы ц ц а м  с п у д ж а н ы, маўчыць сасняк* (М. М а ш а р а. Асенні лес).

З а ў в а г а. Калі зварот са злучнікам *як быццам* цесна прымыкае да паясняемага дзеяслова асноўнай часткі сказа, то ён звычайна выконвае ролю дапаўнення або акалічнасці: *Гэта слова прымае як быццам зусім неўласцівую для сябе аснову* (М. Л у ж а н і н. Праца ў газеце). *Усё ідзе як быццам нармальна* (Я. Б р ы л ь. У снезе журацца бярозы).

Калі параўнальныя звароты адносяцца да дзеяслова-выказніка асноўнай часткі сказа ў спалучэнні з залежнымі ад яго словамі, яны складаюцца ў асноўным з дзеяслова або дзеепрыслоўя і залежных слоў: *Хлопец пільна прыглядаўся, я к  б ы ц ц а м  ш т о с ь ц і  ш у к а ў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Глюга змераў усіх вачыма і, я к  б ы ц ц а м  а б  ч ы м  з д а г а д а ў ш ы с я, хутка нырнуў за дзверы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 843. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да назоўніка асноўнай часткі сказа ў ролі дзейніка, дапаўнення або акалічнасці, звычайна складаюцца з назоўніка ў форме назоўнага або ўскосных склонаў (адзіночнага ці з залежнымі словамі): *Фурманка, я к  б ы ц ц а м  м у-*

*р а ш к а, паволі выпаўзала з далёкага лесу* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ён зірнуў на хлопчыка, я к б ы ц ц а м н а я к о е д з і в а* (М. Г а р э ц к і. Віленскія камунары). *На змрочным крыле небасхілу, я к б ы ц ц а м н а х м а р ы с а м о й, пялёсткі яна* [вішня] *распусціло* (М. Л у ж а н і н. Вішнёвага дрэва галіна).

§ 844. Адзінкавымі з'яўляюцца параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўсёй асноўнай часткі сказа. Як правіла, у склад гэтых зваротаў уваходзіць назоўнік у форме назоўнага склону: *Усе гаманілі, я к б ы ц ц а м р а д н я* (П. Б р о ў к а. Добры друг).

## ЗВАРОТАК

§ 845. З в а р о т к а м называецца слова (або спалучэнне слоў), якое служыць для абазначэння асобы ці персаніфікаванага прадмета, да якога звяртаюцца з мовай. Зваротак знаходзіцца са сказам, у склад якога ён уключаецца, або з паасобнымі яго членамі ў сэнсава-сінтаксічнай сувязі. Гэта сувязь фармальна выражаецца пры дапамозе інтанацыі, а часам і спецыяльных марфалагічна-сінтаксічных сродкаў.

Адметнай рысай звароткa з'яўляецца тое, што ён атрымлівае граматычную форму на аснове яго семантыка-сінтаксічнай функцыі ў сказе. Зваротак найчасцей адносіцца да прэдыкатыўнай часткі сказа — да дзеяслоўнага выказніка, з якім ён нярэдка ўступае і ў граматычную сувязь. Так, у пабуджальных сказах *Т а в а р ы ш, н е з а б у д з ь своечасова падпісацца на газеты і часопісы* і *Т а в а р ы ш ы, н е з а б у д з ь ц е своечасова падпісацца на газеты і часопісы* ўстанаўліваецца граматычная суадноснасць звароткa з дзеясловам-выказнікам у формах ліку, а ў пытальных сказах *С ц ё п к а,* [ты] *х а д з і ў у школу?* і *А л е н к а,* [ты] *х а д з і л а ў школу?* устанаўліваецца граматычная суадноснасць звароткa з дзеясловам-выказнікам і ў формах роду. Такім чынам, зваротак заўсёды выступае ў сказе як граматычна арганізаваная адзінка мовы. Ён не можа існаваць без сувязі з канкрэтным сказам і, значыць, не можа не падпарадкоўвацца законам граматыкі аб арганізацыі слоў у сказе.

Адрозніваецца зваротак ад іншых членаў сказа і своеасаблівасцю інтанацыйнага афармлення. Незалежна ад структуры і размяшчэння ў сказе зваротак заўсёды інтанацыйна выдзяляецца (з павышэннем ці паніжэннем голасу). Звароткі з інтанацыяй заклiку, пабуджэння наогул могуць выносіцца за межы сказа: *П е с н я! Тут табе і воля, і прастор, дык гудзі ж і разлівайся, п е с н я!* (К. Б у й л а. Песня). *Т а в а р ы ш ы! Зняць шапкі над жывой магілай!* (Я. К у п а л а. На смерць таварыша Кірава). *Д а р а г і я т а в а р ы ш ы, п а ч э с н ы я г о с ц і н а ш ы! Ад усяго сэрца вітаю вас у гэты радасны дзень* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *В я с н а м а я! Развей утому!* (П. Г л е б к а. Заклік да вясны).

З а ў в а г а. Ад звароткаў неабходна адрозніваць розныя тыпы аднасастаўных (бяздзейнікавых або безвыказнікавых) сказаў, у якіх выражаюцца тыя ці іншыя эмоцыі — пачуццё жалю, смутку, журбы, тугі, маркоты, незадаволенасці, радасці, замілавання і інш. У залежнасці ад характару эмоцый кожны з гэтых сказаў вызначаецца і адпаведнай інтанацыйнай афармленасцю: *«Э х, З о с я!— так Янка гаворыць бывала: за што мяне шчасце такое спаткала?»* (Я. К у п а л а. Адплата кахання). *О х, с ы н о к! Сядзіць, саколік, за сцяной высокай* (Я. К о л а с. Каля парога). *С я л о... С я л о... А за сялом прасторы, а за сялом нітуюцца пуціны і шляхі* (П. Т р у с. Ізноў я там). *М л е ч н ы п у ц ь!.. Што яму да людское крыві, што яму да пакут маладое любві?* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *«Э х, х л о п ц ы, х л о п ц ы!»— сказаў я, каб атрэсціся ад цяжкіх дум* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

§ 846. У ролі звароткa звычайна выступаюць назоўнікі або іншыя субстантываваныя часціны мовы ў форме назоўнага склону: *Даруйце, л ю б ы я! Даруй, м а т у л я!* (П. Г л е б к а. Ліст у вёску). *Не плач, з а б ы т а я, прыеду на пасёлак, пазней ці ў травені, як зацвітуць сады*

(П. Трус. Ліст да сястры). *Гэй, араты, пастой!* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Н-но, гнядыя, варушыцеся!* (М. Лынькоў. Воўчы лог).

У творах мастацкай літаратуры, асабліва пры перадачы мовы дзеючых асоб, сустракаюцца звароткі, выражаныя клічнай формай назоўнікаў: *Дружа мой, сокале ясны, крылаты, крыллі навекі апалі твае* (Я. Купала. Памяці Эдуарда Самуйлёнка). *Спі, сыночку, спі, каточку, спі* (П. Глебка. Матчыны казкі). *Сядай, Якубе, з намі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не шумі ж ты, цёмны гаю, бо мне й так нялёгка* (П. Трус. Дзесяты падмурак).

Магчымы выпадкі выражэння зваротКаў займеннікамі 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку звычайна ў суправаджэнні выклічнікаў: *Эй, ты, чаму не едзеш?* (К. Чорны. Максімка). *«Эй, ты!»— крыкнуў ён, нахіляючыся над люкам* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Гэй, ты! На гонары далёка не паедзеш! Садзіся. Давязу* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *«Эй, вы! — смяюся я. — Гэта, хлопцы, не наша»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Пры асабовых займенніках *ты, вы* могуць ужывацца словы, якія канкрэтызуюць месцазнаходжанне асоб, да якіх звяртаюцца з мовай. Такімі з'яўляюцца прыслоўі *там, тут,* парадкавыя лічэбнікі *першы, другі, трэці* і інш. *«Гэй, вы там! Сюды ідзіце» — паклікаў ён у цемнату* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Гэй ты, другі, там! рві сэрцам струну!..* (Я. Купала. Грай жа, музыка...).

Значэнне асабовых займеннікаў *ты, вы* можа, акрамя таго, удакладняцца аднасклонавымі формамі назоўнікаў (прыдаткамі) нярэдка з паясняльнымі словамі пры іх, якаснымі прыметнікамі, прыметнікавымі і дзеепрыметнікавымі зваротамі, прыназоўнікавымі канструкцыямі. Гэтыя словы і цэлыя сінтаксічныя канструкцыі служаць для якаснай характарыстыкі асоб, даюць ім станоўчую або адмоўную ацэнку. *Гэй ты, сонцу раўня, не на тое пазваў на вяселле цябе сваёй княжны!* (Я. Купала. Гусляр). *«Гэй, вы, služкі пана!» — крыкне так Тамаш* (Я. Купала. Нікому). *Ты, бізун дзедаў! — на Уладзю бацька напусціўся* (Я. Колас. Новая зямля). *Ну ты, гад! — крычаў Мікола, вымахваючы вуздзечкай* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Ну ж вы, воўчае мяса! — прабуе злавацца Мікола* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Гэй вы, смутныя, гэй вы, бедныя, мае мілыя сябры згнаннікі! Ці вы сіраты ў сям'і людской, што глядзяць на вас вокам ворагаў* (Я. Колас. Сябрам-выгнаннікам). *Ты, сэрцам збалелы, ты, страціўшы веру, без моцы і сіл, з разбітай надзеяй, з душой абамлелай, што ценем стаіш каля родных магіл?* (К. Буйла. Тварыць і кахаць).

Зрэдку звароткі выражаюцца азначальнымі, пытальнымі і некаторымі іншымі разрадамі займеннікаў у суправаджэнні паясняльных слоў і канструкцый: *Гэй, усе, у каго сіла, уменне, ахвота, працуйце!* (К. Буйла. Тварыць і кахаць). *«Здавайся, тут, каторы я!» — загарлаў ён* (Э. Самуйлёнак. Сон).

У некаторых выпадках асобы, да якіх звяртаюцца з мовай, у сказе не называюцца, а даюцца толькі агульныя ўказанні на прадметы, якія з'яўляюцца месцам знаходжання гэтых асоб: *Гэй! над магіламі! Сёння каму нам плакаць і слёзы раняць? Вамі пачатую справу бунтарскую... мы давядзём да канца* (П. Трус. Камунарам). *Гэй, там, пад вінтом!* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Э-э! там, на востраве, ганіце лодку, нягоднікі!* (А. Асіпенка. Абжыты кут).

§ 847. Зваротак пераважна называе асоб па іх імені, прозвішчу, роду заняткаў, пасадзе, званню, спецыяльнасці, полу, узросту, сваяцтву, па якой-небудзь знешняй ці ўнутранай прымеце і г. д.: *Уставай, На-*

*таша* (І. Шамякін. Наташа). *Гэй, ліхтаршчык, дзе ты дзеўся?* (Ц. Гартны. Ліхтаршчык). *Дайце, жнейкі, серп займісты* (Цётка. Лета). *Зор вам ніяк не злічыць, астраномы* (А. Куляшоў. Зямля). *Эй, брыгадзір, пішы нам поўны працадзень!* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Вы дрэнна сябе адчуваеце, прафесар?* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Іграй, музыка, гулка, громка! Дзяўчына, песні нам спявай!* (Я. Купала. Дзень Канстытуцыі). *Як шкода, нябожчык дзядуля, што свет ты не ўбачыўшы спіш!* (П. Панчанка. Закон). *Давай, зямляк, мяшкі паложым, спачнем ля бацькаўскіх варот* (П. Глебка. Зварот).

У паасобных выпадках званоткам могуць абазначацца іншыя адушаўлёныя істоты, абстрактныя паняцці, з'явы прыроды (апошнія пераважна ў паэтычных творах пры персаніфікацыі): *Гэй, Буланы, выцягвай з аблогі свой плуг* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Закукуй, зязюлька, закукуй!* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння!* (Я. Колас. Краіне Саветаў). *Добрай раніцы, сонечны лес!* (Я. Брыль. Зялёная школа). *Слаўся палётам крылатым, наша жыццё маладое* (А. Русак. Слаўся, Радзіма). *Будзь жа, век маладым, поўны светлымі днямі! Пралятайце, гады, залатымі агнямі!* (М. Багдановіч. Маладыя гады). *Вядзі нас, добрая надзея, у занядбаны наш куток!* (П. Глебка. Зварот). *Ты спыніся, мяцель, не гудзі, ты дзяўчыну маю не будзі* (К. Буйла. Чую, маці мая...).

Іншы раз у ролі зваротка выступаюць словы з аслабленым лексічным значэннем. Такімі пераважна з'яўляюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб па іх адносінах да радні, сяброўства і г. д.: *«Жыві, — сказаў ён з сумам.— Жыві, брат выдра, калі такая справа выйшла!»* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Ну вот я ў вас, дзядзька* [так звяртаецца сакратар да чалавека з натоўпу], *хачу запытацца...* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *«Дык вось нам, таварыш* [у звароце да прадстаўніка мясцовых улад], *грошы патрэбны на культурную справу»* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 848. Найбольш часта звароткі сустракаюцца ў мастацкіх творах, асабліва пры перадачы дыялога, у публіцыстычных жанрах літаратуры, у прамовах, выступленнях, лозунгах, закліках, загадах, рапартах, адозвах, аб'явах, у перапісцы і г. д.

Яны ўжываюцца ў мове для таго, каб выявіць месцазнаходжанне пэўнай асобы, выклікаць яе да сябе або накіраваць куды-небудзь, паведаміць асобе або калектыву аб чым-небудзь, атрымаць адказ на пастаўленае пытанне, звярнуць іх увагу на які-небудзь факт рэчаіснасці, заклікаць да выканання пэўных задач, дзеянняў, даць параду або выказаць пажаданне і г. д. *Марыля, гу! гу-гу, Тацяна!* (Я. Колас. Новая зямля). *Дык дзе ты? Дзе, любімы мой?* (К. Буйла. А я ўсё чакаю...). *Прыйдзіце вы, добрыя... Вокам праніклівым кінье на нашу нядолю!* (З. Бядуля. Прыйдзіце). *«Сходзі за падводай, Ігнаце», — гаворыць хлапцу гаспадар* (А. Куляшоў. Каля самай граніцы). *Ганулся мая! Пішу табе з дарогі* (К. Чорны. Зямля). *Што добрае на свеце чуваць, айцец Палікарп?* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Думайце над гэтым, таварышы* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Ідзі, народ, на свой вялікі, вольны сход!* (Я. Купала. Настаў чарод...). *Наперад, хлопцы, блізка Гомель — радзіма добрая мая!* (П. Глебка. Гай). *А вы, дзеткі, пакуль што пагуляйце* (Цётка. Гутаркі аб птушках). *Дзядуля, дык вы мяне правядзіце ў лагер* (І. Шамякін. Наташа).

Акрамя асноўнай, так званай намінатыўнай функцыі, звароткі выконваюць у мове і важную стылістычную ролю: яны служаць сродкам перадачы адносін гаворачага да той ці іншай асобы, выражаюць ласку, замілаванне або, наадварот, нянавісць, знявагу. Разнастайныя мадаль-



26. Зак. 378.

ныя адценні выражаюцца звароткам пры дапамозе суправаджальных выклічнікаў, форм суб'ектыўнай ацэнкі, эмацыянальна афарбаваных слоў, паўтарэння адных і тых жа ці розных, але экспрэсіўна аднародных слоў, якія адрасаваны адной і той жа асобе. *О к р а й м о й л ю б і м ы, як многа прыволля, і думам і працы бяскрайні прастор* (А. Р у с а к. Край мой любімы). *А х, с н ы, л е т у ц е н н і м а е з а л а т ы я, які ж вы саткалі узор!* (П. Г л е б к а. Далёкі вясковы ўзор). *Гэй, Р а д з і м а, з вяселлем Марыну прымай!* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Толькі ж не разыходзьцеся, м у ж ч ы н к і* (Я. К о л а с. Кантракт). *Падумайце, с я с т р ы ц ы, ці ж то можна вытрымаць!* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *А што чуваць у цябе, к у м а ч к а-л ю б а ч к а?* (З. Б я д у л я. Лявоніха і Сымоніха). *Давай-ка, д р у ж ы ш ч а, закурым* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Т о д а р к а, с а к о л і к, можа б ты мне каня дай* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *«Распранайся, г а л у б к а», — сказала маці, выціраючы слёзы* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Д з я д з е ч к і! Д з я-д з е ч-к і-і, г о-о ў! Памажыце!* (там жа). *Г р ы ш а! Г р ы ш а! Хадзі сюды, п а д ш ы в а л е ц!* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *М а с к в а! С т а л і ц а! К а л ы с к а с л а в ы! О, як жа сёння ты ўся прыгожа!* (К. Б у й л а. 9 мая 1945 года). *Ой, скажэце, г у с а н ь к і, ой, скажэце, л е б е д з і, ці я сваё шчасцейка ды знайду?* (П. Т р у с. Ліст да сястры).

§ 849. Па сваёй структуры звароткі бываюць н е р а з в і т ы м і, калі яны выражаюцца адным назоўнікам (субстантываваным словам) ці займеннікам 2-й асобы, і р а з в і т ы м і, калі пры назоўніку або іншай субстантываванай часціне мовы ёсць паясняльныя словы — прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, абагульнена-якасныя займеннікі, дзеепрыметнікі, прыназоўнікавыя або беспрыназоўнікавыя формы назоўнікаў і г. д.: *Б е л а р у с ь м а я р о д н а я, як жа я рвуся яшчэ раз пеша ўсю цябе змераць* (А. К у л я ш о ў. Над брацкай магілай). *Л ю д з і д о б р ы я! Д а р а г і я м а е!.. Ратуйце дзіця!..* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Расцвітай жа, к р а й т ы н а ш п а л е с к і* (А. Р у с а к. Край палескі). *Мір табе, у з а р а н а я н і в а, ураджаям тваім і пладам* (П. Г л е б к а. Слова міру). *Дык уздымі свой голас-звон з глыбінь душы, п я с н я р с в а б о д ы* (К. Б у й л а. Назыму Хікмету). *Бывай, р а ў н і н а с н е ж н а я м я ц е л і ц!* (П. Г л е б к а. Зімовы адпачынак). *Ой, в ё с к а, в ё с к а п р ы г а с ц і н ц ы!.. Я пакахаў цябе да слёз* (П. Т р у с. Я пакахаў цябе да слёз). *М о й р о д н ы к р а й і д о м п а д б е л ы м п а д а р л о м! Нядоляю ты цяжкаю спавіты* (Я. К о л а с. З дарогі). *Спіце спакойна ў магіле крывавай, спіце, а р л ы-к а м у н а р ы!..* (П. Т р у с. Камунары).

З а ў в а г а. Часам звароткі разбіваюцца ў сказе або аддзяляюцца ад паясняльных слоў іншымі членамі сказа: *Г э й в ы, к о н і, г э й, м а л ы я! Што заснулі! Весялей! Гэй, у скачку, з а л а т ы я! Варушыцеся жывей!* (Я. К о л а с. Зіма). *Мужайся ж, м а я н е п а к о р н а я, мацуйся, ідзі, п р а ц а в і т а я, да новых здабыткаў, к р а і н а!* (П. Г л е б к а. Памяці М. І. Калініна). *К р а і н а р о д н а я, прымі ж маё вітанне, прымі мой зорны спеў, д а л ё к а я с я с т р а!* (П. Т р у с. Ліст да сястры). *Ну што, зачакаўся, М і х а с ь, а мне, д а р а ж э н ь к і, усё не было часу выйсці* (М. Л ы н ь к о ў. Гой).

Развіты зваротак можа ўключаць у свой склад не толькі паасобныя словы, але і спалучэнні, прыметнікавыя і дзеепрыметнікавыя звароты, параўнальныя канструкцыі, даданыя азначальныя сказы: *М а т у л я, р о д н а я м а я, ўжо дагарыць лучына ў хаце, як да цябе вярнуся я* (П. Т р у с. Развітанне). *Працуй на шчасце роднае дзяржавы, н а ш д о б р ы д р у г, а б р а н н і к і п а э т, у в е н ч а н ы у с е н а р о д н а й с л а в а й* (К. Б у й л а. Якубу Коласу). *Добры дзень табе, з'я д н а н ы ў д р у ж н ы я к а л г а с н ы я с е м'і, п р а ц а в і т ы і ш ч ы р ы п а л е с к і н а р о д* (У. К р а ў ч а н к а. Палессе). *С я р г о н а ш л ю б і м ы, с ц я г п р а ў д ы і с і л ы! Не згасне агонь твой ніколі* (Я. К о л а с. Апошняе развітанне). *Дзень добры, М а с к в а, як вясна*

*маладая!* (Я. Купала. Дзень добры, Масква!..). *Народы вялікай краіны, што селі ў пачэсным куце! Няхай наша дружба цвіце, каб сонцам ірдзелі пуціны* (Я. Колас. Народам СССР).

У паасобных выпадках зваротак можа выражацца цэльнымі сінанімічнымі спалучэннямі слоў: *Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі! Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі* (М. Багдановіч. Ой, лясы-бары...). *Эх, лета-лецейка любое, ты адцвітаеш, залатое!..* (Я. Колас. Новая зямля).

Пры зваротках, якія адрасаваны некалькім асобам ці персаніфікаваным прадметам і знаходзяцца паміж сабою ў адносінах аднароднасці, таксама могуць ужывацца розныя паясняльныя словы і канструкцыі: *Маленства радаснага час! Сябры мае малыя! Цяжкія мы прайшлі для вас дарогі баявыя* (П. Глебка. Размова аб шчасці). *Грабар і муляр, каменшчыкі з цеслямі, стройцеся дружна ударнымі цэхамі!* (П. Глебка. Будуйце шлях да мэты). *Дзень добры вам, лясы і далі, прасторы вольныя зямлі!* (Я. Колас. У палях Беларусі).

§ 850. Зваротак не мае пастаяннага месца ў сказе. У залежнасці ад яго функцый і сэнсавых узаемаадносін з іншымі словамі ён можа стаяць у пачатку, у канцы або ў сярэдзіне сказа.

У пачатку сказа зваротак звычайна ставіцца тады, калі ён выражае заклік, загад, просьбу або эмоцыі: *Гэй вы, хлопцы, арлы маладыя! Уздымайце магутныя крыллі!* (П. Трус. Юны змаганец). *Браты мае родныя! Там, на вайне, знішчайце без жалю забойцаў!* (К. Буйла. Мяцеліца). *Матросы свабоднай савецкай зямлі, мяне забярыце з сабой!* (П. Глебка. Песня вязня). *Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы* (Я. Колас. Новая зямля).

У пытальных і клічных сказах, асабліва са зваротамі ветлівасці, зваротак пераважна займае месца ў канцы сказа: *Што ж маўчыш ты, гусляр, ніў, лясоў песнябай?* (Я. Купала. Гусляр). *Куды ж ты ідзеш, таварыш? Вярніся, далёкі друг!* (П. Глебка. Кара). *Дык ярчэй жа гары, сонца радасных дзён!* (Я. Колас. Нашы дні). *Добры дзень, аснежныя прасторы, добры дзень, сталіца харастваі!* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Прывет табе, Масква мая!* (М. Танк. Масква). *Будзь здарова, дачушка! Здарова будзь, маці!* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

Звароткі, якія ўжываюцца з паніжанай інтанацыяй, звычайна займаюць месца ў сярэдзіне сказа. У ролі гэтых звароткаў нярэдка выступаюць словы са значэннем ацэнкі, характарыстыкі, а таксама тыя з іх, якія страцілі сваю паўназначнасць: *Давайце, добрыя сябры, пагутарым аб шчасці* (П. Глебка. Размова аб шчасці). *Знайце, падпальшчыкі войнаў крывавых, калі полымя смерці заскача на вогнішчах чорных, гнеў пабяжыць па сцяжынках сваіх незлічоных к сэрцу ад сэрца па нашай вялікай зямлі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *«Хадзі, дзеткі, сюды», — паклікала яго цётка ў камору* (Я. Колас. Сірата-Юрка).

## ПАБОЧНЫЯ СЛОВЫ, СЛОВАЗЛУЧЭННІ І СКАЗЫ

§ 851. **Пабочнымі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія знаходзяцца ў своеасаблівай сэнсава-сінтаксічнай сувязі з членамі або часткамі таго сказа, у склад якога ўключаюцца. Такая сувязь не з'яўляецца злучальнай або падпарадкавальнай, а вызначаецца як сэнсава і інтанацыйна суадносная. Семантычная суадноснасць пабоч-

ных слоў і канструкцый са сказам знаходзіць сваё выражэнне ў тым, што яны не могуць быць апушчаны ці заменены без парушэння сэнсу ўсяго сказа, параўн.: *пойдзем у лес; пойдзем, бясспрэчна, у лес; пойдзем, магчыма, у лес; пойдзем, на маю думку, у лес; пойдзем, на шчасце, у лес; пойдзем, калі хочаце ведаць, у лес; пойдзем, заяўляем мы, у лес* і інш.

Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы па свайму значэнню надзвычай разнастайныя. Яны могуць выражаць адносіны гаворачай асобы да зместу і формы выказанай думкі, указваць на крыніцу паведамлення, на ступень дакладнасці, звычайнасці (незвычайнасці) выкладзенага факта і на ацэнку яго гаворачым, заключаць зварот да субяседніка з мэтай аказаць уплыў на яго адносіны да таго, што паведамляецца; яны, нарэшце, могуць выкарыстоўвацца для ўстанаўлення сувязі паміж выказваннямі, для суаднясення выказанай думкі з іншымі ці з агульным кантэкстам.

У адносінах да сказа і яго членаў пабочныя словы, словазлучэнні і сказы выконваюць службовую функцыю. Яны не выступаюць у якасці адзінак паведамлення, а з'яўляюцца толькі сродкам выражэння адносін асобы да зместу паведамлення, да спосабаў перадачы думкі і стылю выказвання; яны ўказваюць на тое, у якім плане вядзецца паведамленне — у плане бясспрэчнай рэальнасці ці нерэальнасці, магчымасці ці немагчымасці, упэўненасці ці няўпэўненасці і г. д. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы з'яўляюцца, такім чынам, важным сінтаксічным сродкам выражэння мадальнасці сказа. Таму яны не могуць ужывацца самастойна, ізалявана ад сказа і заўсёды выступаюць толькі ў складзе сказа.

§ 852. У залежнасці ад сэнсу сказа, накіраванасці думкі і спосабу яе выражэння пабочныя словы, словазлучэнні і сказы могуць адносіцца:

а) да ўсяго сказа: *К о л ь к і я п о м н ю, дык Хведар заўсёды сварыцца з брыгадзірам і яго памочнікам* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *З д а е ц ц а, нічога і не змянілася* (М. Р а к і т н ы. Млын);

б) да адной з частак складаназлучанага сказа: *Даўно той бой — м ы в е д а е м — заціх і пераможцы ўдвух вярнуліся дадому* (М. К а л а ч ы н с к і. Камуністы). *Той таксама тузануўся, ледзьве не вырваўшы з рукі ашыйніка, коратка якатнуў, але — а д ч у ў І в а н — пад каленам у яго штосьці нібы хруснула* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Янук стаіць на высачэзным рыштаванні і, з д а е ц ц а, увесь свет відзён яму адтуль* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне);

в) да галоўнай часткі складаназалежнага сказа з даданым дапаўняльным, азначальным або акалічнасным прычыны, умовы і г. д.: *В я д о м а, ён разумеў, што ў такім становішчы трэба было быць асабліва пільным* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *М а б ы ц ь, таму мы і зацікавіліся шпакамі, якія клапатліва лёталі з поплаву і на поплаў* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *М а б ы ц ь, яна была зусім блізарукая, бо занадта жмурылася* (там жа);

г) да якой-небудзь залежнай часткі складанага сказа — азначальнай, дапаўняльнай ці акалічнаснай (часу, мэты, умовы і г. д.): *Такі цяжкі, што, к а ж а, ледзь-ледзь узваліў на плечы* (І. Г р а м о в і ч. Дзіва). *У пакоі пачалася размова, якая, в і д а ц ь, была перарвана маім паяўленнем* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Ён падумаў, што, м а г ч ы м а, ім пашанцуе на сякую-такую адзежыну* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *М у с і ц ь, пакуль стаяў пад скалою, тканіна на сцягне недзе прысохла да раны* (там жа). *Трус, м а б ы ц ь, каб яму аднаму было не сумна выступаць, угаварыў і мяне прачытаць свой верш «Маці»* (Р. С а б а л е н к а. Жыццё і дзейнасць). *Андрэй апрануў кажух, узяў з сабою бурку: калі, н а в ы п а д а к, і прыйдзецца паспаць, то каб было цёпла* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка);

д) да паасобных членаў сказа — да д з е й н і к а: *Ніхто, з д а е ц ц а, не выклікаў падазрэння* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

*З д а е ц ц а, увесь поплаў звініць, спявае* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут); да і м е н н а г а або д з е я с л о ў н а г а в ы к а з н і к а: *Яно пачалося адразу пасля вайны і, в я д о м а, было нялёгкае* (Р. С а б а л е н к а. Паляўнічыя боты). *Яна зразумела, коратка ўсміхнулася, нават, з д а л о с я я м у, чмыхнула* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Кладаўшчык, к а л і ш т о, паможа* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут); да д а п а ў н е н н я: *Той верш напісан, н а п э ў н а, пра яе* (М. К а л а ч ы н с к і. Тады ў Цхалтуба). *Нічога, з д а е ц ц а, і не адбылося* (Р. С а б а л е н к а. Кветкі); да а з н а ч э н н я: *Андрэй і Санкоўскі звярнулі ў ціхую, з д а е ц ц а, малавядомую вуліцу* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Ад гэтага, м а б ы ц ь, самага найбольшага клопату ўсім стала няёмка* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада); да п р ы д а т к а ці ў д а к л а д н я ю ч а г а ч л е н а: *Каля каройніка ішлі дзве жанчыны з цынкавымі вёдрамі, н а п э ў н а, даяркі* (І. М е л е ж. Гарачы жнівень). *Клеверу, ці, п а-н а ш а м у, канюшыны, мы пасеялі на дзесяць гектараў больш* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут); да а к а л і ч н а с ц і м е с ц а, ч а с у, п р ы ч ы н ы, м э т ы, с п о с а б у д з е я н н я, м е р ы і с т у п е н і: *Аднекуль, м а б ы ц ь, з печы, да іх кінулася жанчына* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Тваю мы ўбачылі мяжу на досвітку, м н е п о м н і ц ц а* (М. К а л а ч ы н с к і. Добры дзень, Югаславія!). *Ніколі, з д а е ц ц а, не бывае па-сапраўднаму сур'ёзны* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *А вось дошка трэснула, в і д а ц ь, ад марозу* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Зыгмунта, м у с і ц ь, знарок пацалавала мяне* (Р. С а б а л е н к а. Аўтограф). *Любіў Палессе я і раней, але, з д а е ц ц а, не так* (Б. С а ч а н к а. Зямля маіх продкаў). *М о ж а, пад сотню іх, подпісаў* (М. Р а к і т н ы. Сагура). *Рогат не сціхаў, м о ж а, з гадзіну* (К. Ч о р н ы. Мураваны скляпок);

е) да розных тыпаў адасобленых канструкцый і параўнальных зваротаў: *З-пад белай хусткі, в і д а ц ь, завязанай наспех, буйнымі хвалямі звісалі на плечы цёмныя валасы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Яна, прыціхлая і, п э ў н а, змораная, падалася за ім* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Іван жвава, знарок не збаўляючы кроку, лез і лез між камлёў і камення, я к ц я п е р з а ў в а ж ы ў, пабліскваючы голым каленам праз прадраную сабакам штаніну* (там жа). *Чукрай здзіўлена глядзіць, не разумеючы, в і д а ц ь, чым ён незадаволены* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *У возчыка, п р а ў д а, ладнага на плечы хлапца, разваліўся воз сена* (М. Р а к і т н ы. Сын). *Людзі там спяшаюцца, м у с і ц ь, як і гэтыя воблакі* (І. Г р а м о в і ч. Воблакі).

§ 853. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы ўключаюцца ў склад пэўнага сказа пры дапамозе адпаведнай інтанацыі, якая характарызуецца паніжэннем голасу і больш хуткім вымаўленнем параўнальна з астатняй часткай сказа, а ў некаторых выпадках і пры дапамозе розных фармальных сродкаў — адносных слоў *што, як, дзе,* злучнікаў *ці, калі, каб,* часціц *такі, бадай, няхай* і інш., якія разам з імі складаюць адну канструкцыю: *Там дымелі, я к я з д а г а д а ў с я, каміны фабрык і заводаў* (І. Г р а м о в і ч. Ірынка). *А можа, ч а г о д о б р а г а, возьмуць ды камандзіруюць куды* (А. К у л а к о ў с к і. У Чырвоным возеры). *Дадому ён не вельмі ездзіў, і к а л і п р а ў д у к а з а ц ь, дык яго не дужа і цягнула туды* (Р. С а б а л е н к а. Пасынак). *З н о ў ж а т а к і, каб не крывіць душой, дык Мітрафан недалюбліваў дамоўку* (там жа). *Т а к і і п р а ў д а, што ў тыя дні каровам лепш было ў калгасе, як у гаспадара* (К. Ч о р н ы. Вясна).

§ 854. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы могуць выконваць не толькі важную для выказвання мадальную функцыю, але і выступаць у якасці сродку сувязі сінтаксічных адзінак мовы. У такім выпадку іх роля набліжаецца да ролі злучнікаў, і наяўнасць іх у сказе з'яўляецца структурна неабходнай. Пабочныя словы, словазлучэнні

і сказы могуць выкарыстоўвацца ў сказе або паміж сказамі для выражэння наступных сінтаксічных адносін:

а) пералічальна-размеркавальных: *Ей было, м о ж а, гадоў тры, м о ж а, чатыры, не больш* (К. Ч о р н ы. Сцяпанавы дзеці). *А м о ж а, гэта быў сон? М о ж а, нічога я маці не абяцаў?* (І. Г р а м о в і ч. Садок насаджу). *Відаць, сапраўды яна нешта ўжо чула, м о ж а, у лагеры, а м о ж а, яшчэ ў Рыме* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада);

б) умоўных, умоўна-ўступальных і ўмоўна-выніковых: *К а л і п р а ў д у г а в а р ы ц ь, дык мы сваёй работай часта затрымлівалі зборачны цэх* (Р. С а б а л е н к а. Суседзі). *«Мне хацелася б пачытаць твае нататкі,— сказала Фруза.— В я д о м а, калі не сакрэт»* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Калі прыгналі трактары, з н а ч ы ц ь — вясна пачалася* (там жа). *Халуста падумаў бы, што парабак баіцца, а калі баіцца, з н а ч ы ц ь, вінаваты* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка);

в) прычынных і прычынна-выніковых: *І гэты брэх як прарваўся, так і хутка, раптоўна заціх, — м у с і ц ь, і сабака адчувае прыгнёт глушыні* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *На небе ярка, м у с і ц ь, на пагоду, гарэлі зоркі* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Хлапчук кашлянуў, пацёпаў плячыма, п э ў н а, ад туману, што ўздымаўся над вадой* (там жа). *Ваўкадаў натапырыў хрыбціну, ударыў па зямлі хвастом, здалося, скокне, але ўсё ж не скочыў,— в і д а ц ь, яму дасталося не менш, чым чалавеку, і ён ціхенька, бяссільна якатаў* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Адразу ён не адважыўся ісці да Сашкі, в і д а ц ь, тут быў нейкі рызыкоўны ход* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Цягаюцца па свеце з маёнтка ў маёнтак, крадуць — в е д а м а, бяздомнікі* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка);

г) уласна выніковых: *Ціха, чыста ўсё прыбрана,— з н а ц ь, абедаць яшчэ рана* (К. К р а п і в а. Хвядос — Чырвоны нос);

д) супраціўных: *Але партызанскі рух і пасля гэтага не спыніўся, н а а д в а р о т, ён яшчэ вырас* (Б. С а ч а н к а. Зямля маіх продкаў). *У яе словах я адчуў папрок сабе, але ён не пакрыўдзіў мяне. Н а а д в а р о т, я быў удзячны Шуры, што яна разумее мяне* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Н а п е р а к о р з в ы ч а ю, у гэты раз яму не прысніўся яго заўсёдны, пакутны сон* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада);

е) уступальных: *Ёсць печ, падлогі, п р а ў д а, няма* (Б. С а ч а н к а. Варэйка золата). *Сонца грэла і пасылала людзям ясны розум. П р а ў д а, кажуць, шмат розуму не пасылала: скупілася ці што?* (А. Я к і м о в і ч. Адкуль ліха не свеце). *К а н е ш н е, і ты пабачыла ўсяго, а на маю долю выпала больш* (А. К у л а к о ў с к і. У Чырвоным возеры). *М о ж а, гэта і праўда, але я гэтага не адчуваю* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Навошта грашыма кідацца на ўзвей вецер? З н о ў ж а т а к і — хіба Хілімон не майстар?* (Р. С а б а л е н к а. Дыпламат);

ж) сцвярджальна-абмежавальных або абагульняючых: *А мы сядзім, прытуліўшыся адно да аднаго. Нам вельмі хараша. Мне, в а ў с я к і м р а з е* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Але я цешу сябе надзеяй, што за падарожжа паспею яшчэ пабачыць сапраўдную раніцу, пабачыць, як узыходзіць сонца, паслухаць, як спявае салавей, — а д н ы м с л о в а м, пагляджу, паслухаю...* (Б. С а ч а н к а. Зямля маіх продкаў).

Пабочныя словы і канструкцыі, нарэшце, могуць выступаць і ў якасці сродку выражэння тлумачальнай сувязі: *Па нядзелях тут бываюць вечарынкі. Н а п э ў н а, на вечарынкі ён і прыходзіць* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка). *Дакладна не помню, дзе мы тады выступалі. З д а е ц ц а, у артылерыстаў* (М. Р а к і т н ы. Сагура). *А вось пасля сходу са смельчаком можна разлічыцца. Неўпрыкметку, в я д о м а* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *Ён пайшоў, нешта гаворачы сабе пад нос. М а б ы ц ь, лаяўся* (там жа). *Кажуць, калі такія воблакі бываюць у сяўбу, трэба чакаць ураджаю. М о ж а, гэта праўда* (там жа).

§ 855. Да аднаго і таго ж сказа або яго членаў можа адносіцца некалькі пабочных слоў або канструкцый, якія выражаюць адносіны асобы да розных бакоў выказвання: *З д а е ц ц а, і словы тыя самыя, што і ва ўсіх нас, а калі ён гаворыць, с к а ж а м, пра стральбу, дык, з д а е ц ц а, порахам навокал пахне* (К. Ч о р н ы. Вінгель). *Н а ж а л ь, н а к о л ь к і м н е в я д о м а, да гэтага часу творчы кантакт паміж аўтарам і тэатрам яшчэ не наладжаны* (К. К р а п і в а. Беларуская савецкая драматургія за 1947 год). *А д н ы м с л о в а м, старыя жылі, я к к а ж у ц ь, прыпяваючы* (Р. С а б а л е н к а. Святло ў вокны). *А д н ы м с л о в а м, с к а з а ц ь в а м, я тыя пісьмы схаваў* (К. Ч о р н ы. Навагодняя ноч). *І Андрэй адчуў такі прыліў энергіі, што, з д а е ц ц а, мог бы, я к к а ж у ц ь, варочаць горы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *В я д о м а, яшчэ маладосць, п р а ў д а, кіпучая, адданая ідэям вызвалення* (там жа). *У яе ды, п р а ў д у с к а з а ц ь, і ў мяне самога ўзнікла рашэнне перабірацца сёння, а то яшчэ, ч а г о д о б р а г а, улезе хто ў кватэру* (Р. С а б а л е н к а. Суседзі). *М а г ч ы м а, нехта з іх пакрыўдзіў яе, пасля, в я д о м а, сербанула гора ў лагеры* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Цяля збегла, м о ж а, д у м а ў, прыбілася сюды* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар).

§ 856. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы могуць ставіцца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа.

У пачатку або ў канцы сказа яны звычайна займаюць месца тады, калі адносяцца да ўсяго сказа: *З д а в а л а с я — уся зямля чарнее торфам з-пад травы* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *В я д о м а, я не адзін тады такі быў* (Р. С а б а л е н к а. Жыццё і песня). *М а г ч ы м а, мне проста хацелася пабыць аднаму, агледзецца вакол* (І. Г р а м о в і ч. Ірынка). *С а м о с а б о й, к а н е ч н е, паставілі мы і хату* (Б. С а ч а н к а. Не, не ўсё роўна...). *С а п р а ў д ы, хто яна, гэтая пеставатая прыгажунька, зіхатлівы асколак чужога, далёкага свету* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *Гэты год будзе ранняя восень, в і д а ц ь* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *Нішто ўжо не магло скрануць іх з месца — ні сталь, каваная дзеля вайны, ні полымя, ні смерць сама, з д а е ц ц а* (М. К а л а ч ы н с к і. Камуністы).

Калі ж пабочныя словы, словазлучэнні і сказы адносяцца да адной з частак складаназлучанага ці складаназалежнага сказа, то яны, як правіла, займаюць месца перад гэтай часткай: *Стала адразу шумна, і, м а б ы ц ь, праз паўхвіліны ўсяго якой пачаўся мітынг* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Санкоўскі з ходу далучыўся да песні, і, м о ж а, ад таго яна загучэла яшчэ энергічней* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *М о ж а, прайшло яшчэ з паўгадзіны, калі ён пачаў з усімі развітвацца* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *М а б ы ц ь, таму, што Даніла заўсёды бывае пры рабоце, і мне здаецца, што шэрыя Данілавы вочы асуджаюць мяне* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут). *В і д а ц ь, разумеюць, што абразілі чалавека* (там жа). *Я чуў, нават бачыў, як перад захадам сонца яны, нібы дамовіўшыся, узлятаюць высока-высока, м а б ы ц ь, каб развітацца да заўтра, дружна, на ўсе лады, адзін перад адным спяваюць пяшчотныя песні* (І. Г р а м о в і ч. Жаваранак). *Няхай бы ўсе харошыя былі, каб, я к в ы к а ж а ц е, весялей жылося* (А. А с і п е н к а. Абжыты кут).

Пабочныя словы і канструкцыі, якія адносяцца да паасобных членаў сказа (галоўных ці даданых), таксама звычайна размяшчаюцца ў непасрэднай блізкасці да гэтых членаў сказа і найчасцей перад імі: *Ішоў, в і д а ц ь, кандуктар або хто іншы з службістаў* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Цяпер крэслаў гэтых, в я д о м а, нехапіла* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *М у с і ц ь, зоркам, хлопча, рады* (М. К а л а ч ы н с к і. Ганарыстым дужа стаў). *Цяпер усё прыгадалася, прабегла ў памяці: і тое, як яны сустрэліся з Віктарам на заводскім вечары-*

*балі, і тое, як чарнявы і стройны і (я к Г а л і з д а л о с я) на дзіва прыгожы хлапец запрасіў яе на вальс і яна закружылася з ім нібы п'яная, нібы ў сне* (Р. С а б а л е н к а. Кветкі). *Дзве дзяўчыны, м а б ы ц ь, дочкі, маладзенькія, чырванашчокія, сядзяць і прадуць* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Засценак Малінаўка). *Стрымана, але, з д а е ц ц а, з палёгкай кашлянуў Срэбнікаў* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада).

## МАРФАЛАГІЧНАЯ І СТРУКТУРНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПАБОЧНЫХ СЛОЎ, СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ І СКАЗАЎ

§ 857. У ролі пабочных могуць выступаць:

а) словы або ўстойлівыя словазлучэнні, якія страцілі жывую сувязь з пэўнымі часцінамі мовы, пераўтварыліся ў ізаляваныя, застылыя формы і выступаюць у функцыі толькі пабочных адзінак мовы: *бадай, бадай што, бач, выбачайце, дарэчы, значыць, калі ласка, канешне, мабыць, майляў, нябось, падчас, прабачце, прынамсі, словам, адным словам, уласна кажучы* і інш. Сюды адносяцца таксама словы, якія ўказваюць на адносіны паміж часткамі выказвання: *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і інш.;

б) словы і словазлучэнні, якія захоўваюць сувязь з часцінамі мовы, ад якіх утварыліся, і могуць выступаць у функцыі як пабочных, так і граматычна звязаных са сказам сінтаксічных адзінак мовы: *бясспрэчна, відавочна, вядома, далей, звычайна, карацей, магчыма, наогул, напэўна, пэўна, сама менш; бывае, гавораць, здаецца, здараецца, кажуць, можна сказаць, паведамлялі, паверце, памятаю, перадавалі, прызнаюся вам, разумееш, спадзяюся, успамінаецца мне; на бяду, на радасць, на шчасце, на самай справе, па-мойму, па-твойму, па праўдзе, па расказах, па сутнасці справы, тым часам; галоўнае, паміж іншым, самае большае, самае важнае* і інш. Аднак і гэтыя словы і словазлучэнні, выступаючы ў функцыі пабочных, губляюць сваю паўназначнасць, канкрэтнасць значэння і набываюць больш агульны, нярэдка службовы характар: *Ён, в і д а ц ь, не спішаў* (К. Ч о р н ы. Браты). *Навін у нас, с к а з а ц ь, вялікіх няма* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *У сёдлавіне, н а п э ў н а, быў перавал* (В. Б ы к а ў. Альпійская балада). *М о ж а, і гэта напэўна так, тут было закранута балючае месца яго душы* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *В е д а е ш, Косця, начамі я часта думаю пра яе* (К. К р а п і в а. Проба агнём). *Гэта, р а з у м е е ц ц а, вельмі кепска, але што зробіш!* (З. Б я д у л я. Юлька). *Паноў тады яшчэ, я к б а ч ы ш, не было* (А. Я к і м о в і ч. Адкуль ліха на свеце). *Усё ж, я к н і к а ж ы, свая кроў* (Р. С а б а л е н к а. Пасынак). *Спынішся нанач, а ўранні, г л я д з і ш, сядзіш на сушы* (Б. С а ч а н к а. Зямля маіх продкаў).

Ролю пабочных могуць выконваць паасобныя словы (*безумоўна, відавочна, дапусцім, мусіць, напрыклад, па-мойму, па-першае, урэшце, словам, часам* і інш.), спалучэнні двух і больш знамянальных слоў (*вядомая рэч, галоўным чынам, дарэчы сказаць, тым часам, уласна кажучы, палажыўшы руку на сэрца, само сабою зразумела* і інш.), спалучэнні знамянальных слоў са службовымі — з прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі (*акрамя таго, да прыкладу, з свайго боку, на мой погляд, між іншым, калі праўда, ці паверыце, як на тое, як на грэх, як быццам бы, усё ж такі* і інш.), розныя тыпы аднасастаўных і двухсастаўных сказаў (*адчуваю, бачым, гавару табе праўду, думаю сабе, зрабіце ласку, калі на тое пайшло, калі хочаце ведаць, скажу вам па сакрэту, так гаварылі аб ім, трэба думаць, як калісьці казалі, я ведаю, ты сам добра разумееш, ён быў упэўнены, мы ўсе перакананы, як кажуць нашы людзі* і інш.).

Будучы генетычна звязанымі з рознымі лексіка-граматычнымі разрадамі слоў, пабочныя словы, словазлучэнні і сказы з'яўляюцца надзвычай разнастайнымі па форме.

## ПАБОЧНЫЯ СЛОВЫ

§ 858. У залежнасці ад таго, з якой часцінай мовы і яе формай суадносіцца пабочнае слова, вылучаюцца наступныя марфалагічныя тыпы:

1. Пабочныя словы, суадносныя з назоўнікамі: а) у формах назоўнага, вінавальнага і творнага склонаў без прыназоўнікаў *(праўда, напрыклад, словам, прыкладам)*; б) у форме давальнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікамі *к, па (к задавальненню, к здзіўленню, к прыкладу, к слову, к шчасцю, па звычаю, па праўдзе)*; в) у форме вінавальнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам *на (на бяду, на жаль, на шчасце)*; г) у форме меснага склону адзіночнага і множнага ліку з прыназоўнікамі *па, у (па звычцы, па сутнасці, па чутках, у прыватнасці)*.

2. Пабочныя словы, суадносныя з прыметнікамі: а) у форме назоўнага склону адзіночнага ліку ніякага роду *(галоўнае)*; б) у форме найвышэйшай ступені параўнання *(самае галоўнае, самае большае, самае меншае, самае лепшае)*.

3. Пабочныя словы, суадносныя з займеннікамі *той, увесь:* а) у форме роднага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікамі *да, акрамя, апрача, звыш (да таго ж, акрамя таго, апрача ўсяго, звыш таго)*; б) у форме давальнага склону з прыназоўнікам *к (к таму ж, к усяму)*; в) у форме творнага склону з прыназоўнікамі *між, разам з (між тым, між іншым, разам з тым)*.

4. Пабочныя словы, суадносныя: а) з прыслоўямі на *-а (адпаведна, бясспрэчна, відавочна, прыблізна, звычайна, зразумела, пэўна, напэўна, натуральна, прыкладна)*; б) з прыслоўямі ў форме вышэйшай ступені *(карацей, праўдзівей)*; в) з прыслоўямі, утворанымі ад злучэння назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *(дарэчы, зрэшты, нарэшце, сапраўды, увогуле, па-сапраўднаму, па-мойму, па-твойму, прытым, аднак* і інш.).

5. Пабочныя словы, суадносныя з часціцамі *што ж, чаго ж* і інш.: *Ну, ш т о ж, няхай яму забаліць сэрца, але трэба гаварыць адкрыта і сур'ёзна, у вочы* (І. Грамовіч. У людзі).

## ПАБОЧНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 859. Сярод пабочных словазлучэнняў вылучаюцца наступныя тыпы:

1. Словазлучэнні, суадносныя са спалучэннем: а) назоўніка ў форме назоўнага склону без прыназоўніка і дапасаванага да яго прыметніка *(вядомая справа, вядомая рэч)*; б) назоўніка ў форме творнага склону без прыназоўніка і дапасаванага да яго прыметніка ці займенніка *(адным словам, іншымі словамі, галоўным чынам, пэўным чынам, такім чынам, тым часам)*; в) субстантываванага прыметніка ў форме роднага склону без прыназоўніка і адноснага займенніка *што* ў гэтай жа склонавай форме *(чаго добрага)*. Амаль усе гэтыя беспрыназоўнікавыя словазлучэнні маюць устойлівы характар.

2. Словазлучэнні, суадносныя са спалучэннем: а) назоўніка ў форме роднага склону з прыназоўнікам *з* і дапасаванага да яго прыметніка ці займенніка або кіруемага ім назоўніка ў форме роднага склону *(з аднаго боку, з другога боку, з свайго боку, з вашага дазволу, з пункту гледжання* каго- ці чаго-небудзь); б) назоўніка ў форме давальнага склону з прыназоўнікамі *к, па* і дапасаванага да яго прыметніка ці займенніка або кіруемага ім асабовага назоўніка ці займенніка ў форме роднага склону *(к вялікаму задавальненню, к нашаму здзіўленню, к май-*

*му сораму, к яго шчасцю, к шчасцю* каго-небудзь; *па крайняй меры, па меншай меры, па нашаму звычаю, па іх перакананню, па перакананню* каго-небудзь); в) назоўніка ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікамі *на, у* і дапасаванага да яго прыметніка ці займенніка або кіруемага ім асабовага назоўніка ці займенніка ў форме роднага ці давальнага склону (*на вялікі жаль, на сваю (тую) бяду, на ўсякі выпадак, на мой розум, на яго шчасце, на іх погляд, на думку* каго-небудзь, *на радасць* каго- або каму-небудзь, *на дзіва ўсім, у дадатак да ўсяго*); г) назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікамі *у (ва), на, па* і дапасаванага да яго прыметніка ці займенніка (*у лепшым выпадку, у горшым выпадку, ва ўсякім разе, на самай справе, па дакладных звестках, па няпэўных чутках, па яго словах*) або назоўніка ў форме меснага склону з прыназоўнікам *па* і кіруемага ім асабовага назоўніка ў форме роднага склону (*па звестках, па словах* каго-небудзь).

Многія з названых прыназоўнікава-іменных словазлучэнняў маюць устойлівы характар.

3. Словазлучэнні, суадносныя са спалучэннем: а) указальных займеннікаў *гэты, той* у форме давальнага склону з прыназоўнікам *к* і дапасаванага да яго азначальнага займенніка *ўвесь (к усяму гэтаму, к усяму таму)*; б) двух аднолькавых займеннікаў у форме роднага склону з прыназоўнікам *на (усяго на ўсяго)*. Гэтыя спалучэнні маюць устойлівы характар.

4. Словазлучэнні, суадносныя са спалучэннем: а) прыслоўя вышэйшай ступені і ўказальнага займенніка ў форме роднага або творнага склону без прыназоўніка (*больш таго, тым больш, тым не менш*); б) прыслоўя на *-а* і прыслоўя са значэннем меры і ступені (*зусім проста, упаўне зразумела*) або прыслоўя на *-а* ў спалучэнні з займеннікамі *само сабой (само сабою зразумела)*; в) прыслоўя *перш* і азначальнага займенніка *ўсё* ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за (перш за ўсё)*; г) двух аднолькавых прыслоўяў з прыназоўнікам *на (перш-наперш)*; д) двух антанімічных прыслоўяў у форме вышэйшай ступені параўнання без злучніка (*больш-менш*) або з паўторным злучнікам *ні-ні (ні больш ні менш)*.

5. Словазлучэнні, суадносныя са спалучэннем: а) дзеепрыслоўяў, утвораных ад дзеясловаў маўлення (*гаварыць, казаць* і інш.), і назоўнікаў у форме вінавальнага склону без прыназоўніка або ў форме давальнага склону з прыназоўнікам *па (праўду кажучы, па праўдзе кажучы, кажучы па сакрэту, гаворачы па-добраму)*; б) дзеепрыслоўяў, утвораных ад дзеясловаў маўлення, і асабовых займеннікаў у форме творнага склону з прыназоўнікам *паміж (між)* або ў форме меснага склону з прыназоўнікам *пры (паміж намі гаворачы, між намі кажучы, не пры вас кажучы, не пры табе гаворачы)*; в) дзеепрыслоўяў, утвораных ад дзеясловаў маўлення, і прыслоўяў спосабу дзеяння (*інакш кажучы, карацей кажучы, няўрокам кажучы, праўдзівей кажучы, уласна кажучы, прасцей гаворачы*).

## ПАБОЧНЫЯ СКАЗЫ

§ 860. Па структуры пабочныя сказы падзяляюцца на дзве асноўныя групы:

I. Двухсастаўныя развітыя і неразвітыя простыя сказы, у якіх дзейнік выражан займеннікам (найчасцей асабовым) або, радзей, назоўнікам, а выказнік — дзеясловам абвеснага ладу цяперашняга, прошлага ці будучага часу са значэннем успрымання, думкі, маўлення (*я думаю, я вас запэўніваю, наколькі я разумею, ты сам добра памятаеш, ён ведаў гэта дакладна, мы чулі гэта ад многіх, як вы ўжо гаварылі аб гэтым, як хтосьці (нехта) сказаў, самі бачыце, скажуць людзі*) або пры-

метнікам ці дзеепрыметнікам залежнага стану (*я ўпэўнены, я быў у гэтым упэўнены, мы ўсе перакананы*).

II. Розныя структурныя тыпы аднасастаўных бяздзейнікавых сказаў. Сюды адносяцца:

1. Аднасастаўныя пэўна-асабовыя сказы, у якіх галоўны член выражан: а) дзеясловам абвеснага ладу 1-й асобы адзіночнага і множнага ліку без паясняльных слоў (*бачу, думаю, кажу, пішу, помню, прызнаюся, спадзяюся, дапусцім, скажам, падкрэсліваем, чуем*) або з паясняльнымі словамі — са зваротным займеннікам *сябе*, з займеннікамі 2-й асобы, а часам дадаткова і назоўнікамі ў формах давальнага і вінавальнага склонаў з прыназоўнікамі і без іх (*гавару табе, думаю сабе, запэўніваю вас, прызнаюся вам, скажу табе праўду, скажу па сакрэту*), з прыслоўямі (*скажу проста, гавару вам зусім шчыра*); б) дзеясловам абвеснага ладу 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку (часам з адмоўем *не* або пытальнай часціцай *ці*), якім абазначаецца зварот да канкрэтнай асобы ці калектыву (*бачыш, ведаеш, думаеш, кажаш, разумееш, ці ведаеш, ці паверыш, не паверыш, не паверыце, бачыце, ведаеце* і інш.); в) дзеясловам загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку (таксама пры звароце да канкрэтнай асобы ці калектыву) без паясняльных слоў (*глядзі, заўваж, зразумей, лічы, прабач, уяві, глядзіце, заўважце* і інш.) або з паясняльнымі словамі — са зваротным займеннікам *сабе* (*заўважце сабе, уяві сабе, уявіце сабе*), з назоўнікам у форме вінавальнага склону без прыназоўніка і з прыназоўнікам *на* (*зрабі ласку, прабачце агаворку, скажыце на міласць*), з прэдыкатыўным прыметнікам (*будзь ласкаў, будзьце ласкавы*).

2. Аднасастаўныя абагульнена-асабовыя сказы, у якіх галоўны член выражан дзеясловам абвеснага ці загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку і абазначае зварот не да адной канкрэтнай асобы ці калектыву, а да ўсіх наогул: *А там, глядзіш, дажджы пойдуць* (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце). *Вот і падумала я, таго і глядзі, абкруцяць яны хлопца* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *На вадзе мы ўжо, лічы, з учарашняга, з таго самага моманту, як пераступілі борт цеплахода* (Б. Сачанка. Зямля маіх продкаў). *Нядобра, канечне, ты абышоўся, тут што ні кажы, вельмі дрэнна* (М. Ракітны. Была вясна...).

3. Аднасастаўныя няпэўна-асабовыя сказы, у якіх галоўны член выражан дзеясловам абвеснага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку без паясняльных слоў (*гаворыць, гавораць, гаварылі, кажа, кажуць, казалі, скажуць, думае, думаюць, думалі, падумаюць*) або з паясняльнымі словамі — з займеннікамі і назоўнікамі ў формах ускосных склонаў без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі, а таксама з рознымі прыслоўямі (*кажуць нам, скажуць неаднойчы, так думалі ў нас, як звычайна гаварылі ў такіх выпадках*).

4. Аднасастаўныя безасабовыя сказы, у якіх галоўны член выражан безасабовым дзеясловам 3-й асобы адзіночнага ліку без паясняльных слоў (*аказваецца, бывае, выходзіць, здаецца, здалося, значыцца, здараецца, мусіць*) або з паясняльнымі словамі — з асабовымі займеннікамі і назоўнікамі ў форме давальнага склону без прыназоўніка або ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, з адносным займеннікам *што* ў форме вінавальнага склону, а таксама з рознымі прыслоўямі (*нам думаецца, мне ўяўляецца, ім здаецца, здалося хлопчыку, мне добра помніцца, як значылася ў праекце, што называецца*). У некаторых выпадках ролю галоўнага члена аднасастаўных безасабовых сказаў выконвае інфінітыў у спалучэнні з рознымі паясняльнымі членамі — найчасцей з прэдыкатыўнымі прыслоўямі (*трэба думаць, трэба згадзіцца, пара ім ведаць, няма чаго казаць*).

5. Аднасастаўныя інфінітыўныя сказы, у якіх галоўны член выражан інфінітывам са значэннем думкі, маўлення ў спалучэнні з назоў-

нікам у форме вінавальнага склону без прыназоўніка, у форме давальнага ці меснага склону з прыназоўнікамі *к*, *па*, а таксама ў спалучэнні з рознымі тыпамі прыслоўяў (*сказаць праўду, сказаць па праўдзе, сказаць па шчырасці, к слову сказаць, к прыкладу сказаць, дарэчы сказаць, інакш сказаць, лепш сказаць, можна сказаць, правільней сказаць, прасцей сказаць* і інш.).

## ГРУПЫ ПАБОЧНЫХ СЛОЎ, СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ І СКАЗАЎ ПА ЗНАЧЭННЮ

§ 861. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы паводле значэння аб'ядноўваюцца ў наступныя групы:

1. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія выражаюць адносіны асобы да верагоднасці выказанай думкі. Яны могуць абазначаць цвёрдую перакананасць, упэўненасць або няўпэўненасць асобы ў рэальнасці таго, аб чым паведамляецца: *безумоўна, бясспрэчна, і гэта бясспрэчна, ведаю, я гэта добра ведаю, вядома, вядомая справа, зразумела, упаўне зразумела, канечне, натуральна, не іначай, не сакрэт, несумненна, гэта праўда, разумеецца, само сабой разумеецца, сапраўды, я упэўнены; бадай, бадай-што, быццам, быццам бы, як быццам, відавочна, відаць, відаць па ўсім, як відаць, думаю, трэба думаць, думалася, як здавалася, здаецца, як мне здаецца, мабыць, мабыць жа, магло быць, магчыма, магчыма гэта і так, мажліва, мо, можа, можа б, можа быць, вельмі можа быць, можна падумаць, можна спадзявацца, мусіць, мяркую, я мяркую, напэўна (пэўна), нібыта, як нам здалося, прыблізна, спадзяёмся, хутчэй за ўсё, хто яго ведае, цяжка сказаць* і інш.

*Там, я добра ведаў, у агародчыках цвіў бэз* (Б. Сачанка. Букет бэзу). *Таварышы, вядома, не забудуць, а яна, мабыць, ужо забыла* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Выйшла, канечне, нядобра* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Ён пачаў ужо думаць, што як-небудзь адолее і гэтую бяду, пяройдзе хрыбет (не можа быць, каб не перайшоў), абы толькі быў жывы* (В. Быкаў. Альпійская балада). *У ім, гэта праўда, можна было напаткаць драпежнага звера і заблудзіцца ў гушчары* (І. Грамовіч. Песня ў бары). *Усе гэтыя расказы, бадай, нікога так не хвалявалі, як Тамару Асколкіну* (М. Ракітны. Сагура). *Але Максім чагосьці, па ўсім відно, засмучан* (М. Калачынскі. Дажынкі ў Каласоўцы). *Гэта, відавочна, тлумачыцца аднакімі эканамічнымі, прыроднымі і іншымі ўмовамі жыцця* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Самага важнага ён, здаецца, не выслухаў* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Па гэтым пероне Ліда, напэўна, не раз хадзіла. Магчыма, нават учора* (І. Мележ. У завіруху).

2. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія ўказваюць на ступень звычайнасці (незвычайнасці) фактаў, аб якіх паведамляецца ў працэсе абмену думкамі: *звычайна, як звычайна, па звычаю* каго-небудзь або чыйму-небудзь, *па звычцы, як вядзецца, як і водзіцца, як вялося, так павялося ўжо з незапомных часоў, як заўсёды, бывае, бывала, як бывала, часамі, падчас, здаралася, здарылася так* і інш.

*Ратавала, звычайна, бульба, але і яе не заўсёды хапала да новай* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Перасыпаў ён там хату, і, як водзіцца, у канцы работы запрасілі яго за стол* (І. Грамовіч. Дзіва). *На гэтых дубах — так павялося ўжо з незапомных часоў — на Купалле вешалі качэлі* (Б. Сачанка. Дзік-бадзяга). *А слова якраз, бывае, раніць мацней* (М. Ракітны. Была вясна...). *Для сябе і для сваіх блізкіх сяброў я пісаў, часамі, вершы жартаўлівыя*

(К. Крапіва. Слова да малодшых). *Нейкі час працаваў шафёрам, а потым — здарылася так — яго вылучылі дырэктарам аўтарамонтнага* (Р. Сабаленка. Скрутак ватману).

3. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія ўказваюць на крыніцу паведамлення, на тое, каму належыць думка, кім яна выказана і інш.: *адчуваў ён, адчуваю, было бачна, бачым, як высветлілася, як выявілася пазней, як стала вядома, гавораць, сам гаварыў, як гаворыцца, думаецца мне, думалі людзі, на думку* каго-небудзь або чыю-небудзь, *на мой погляд, з пункту гледжання (погляду)* каго-небудзь, *па-мойму, па-нашаму, па-твойму, з свайго боку, па іх звычаю, па меркаванню* каго-небудзь, *па перакананню* каго-небудзь, *па словах* каго-небудзь, *па чутках, паводле яго ўяўлення, паводле атрыманых звестак, па дакладных звестках, як яму здавалася, як я здагадваўся, кажа, кажуць, як кажуць у народзе, казаў неяк ён, як той казаў, маўляў, як расказвалі нам, перадавалі, як усе яго звалі, як завуць у нас, як яе называлі, памятаю, помню, успомнілася, чуваць было, я чуў, чую* і інш.

*Ды і самім, адчуваў ён, трэба куды-небудзь схавацца, бо з кожнай секундаю ззаду маглі з'явіцца немцы* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Яна, бачна было, неяк адразу акрыяла* (там жа). *Тут, як гаворыцца, цэлы комплекс* (М. Ракітны. Была вясна...). *Можа, думаю тайком, і фота здагадаецца ўкінуць* (там жа). *Сарамлівасць, на маю думку, сведчыць аб сціпласці* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Па-мойму, здраднік у любой справе здраднік* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Бацькі, па звычаю грузіна, што непарушны, як закон, віно паставілі для сына у дзень, калі радзіўся ён* (М. Калачынскі. Праводзіны). *Дзед, як нам здалося, меў добры настрой* (Б. Сачанка. Не, не ўсё роўна...). *Горад, як мне казалі, знаходзіўся дзесьці на ўсход ад нашай вёскі* (І. Грамовіч. Ірынка). *На паншчыну звычайна ганяў сельскі стараста або войт, як усе яго звалі,— Марка Вакуліч* (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце). *Во, глядзіце, маўляў, які я!* (там жа).

4. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія выражаюць адносіны асобы да спосабу перадачы думкі. Яны могуць перадаваць адносіны асобы да формы і стылю выказвання, да падбору слоў і выразаў, да будовы сказаў, а таксама да тону самога выказвання і яго экспрэсіўнай характарыстыкі: *будзем гаварыць шчыра, паміж намі гаворачы, гаворачы проста, без жартаў, не на жарт, калі казаць праўду, як кажуць у нас, дакладней кажучы, дакладней, інакш кажучы, інакш, карацей кажучы, карацей, мякка кажучы, не пры вас кажучы, не тут кажучы, няўрокам кажучы, праўду кажучы, па праўдзе кажучы, па праўдзе, проста кажучы, прасцей кажучы, прасцей, уласна кажучы, уласна, будзем лічыць, скажу вам адкрыта, я скажу адкрыта, скажу па сакрэту, можна сказаць, можна смела сказаць, калі можна так сказаць, калі сказаць па шчырасці, з пазвалення сказаць, папросту сказаць, скажам проста, правільней сказаць, правільней, больш правільна, так сказаць, трэба праўду сказаць, трэба думаць, трэба прызнацца, прызнацца, другімі словамі, на добры лад, няхай будзе, ва ўсякім выпадку, ва ўсякім разе, па сутнасці, ні больш ні менш, па крайняй меры, па меншай меры* і інш.

*Інакш кажучы, сатырык заўсёды мае крытэрыем нейкія пэўныя нормы жыцця або ідэалы* (К. Крапіва. Думкі пра сатыру). *Праўдзівей кажучы, на злосць брату, яна не хацела ад яго адмаўляцца* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Не падыходзіць, а, праўдзівей, пад'язджае* (К. Крапіва. Доўг). *Шчыра кажучы, я толькі лічуся брыгадзірам* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Па шчырасці, лепшага брыгадзіра ў нас не знойдзеш* (там жа). *Мы людзі, сказаць, простыя і працавітыя* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Я яго, можна сказаць, выгадаваў* (І. Грамовіч. Гусель). *Голас*

*у яго быў звонкі, я* *с к а з а ў* *б ы, нейкі нават музыкальны* (Р. Сабаленка. Жыццё і песня). *А я, п р ы з н а ц ц а, тады горш шкадаваў пчолак, як тую скваплівую жанчыну* (А. Кулакоўскі. Шляхамі жыцця). *Той дзень — не дзень, п а* *с у т н а с ц і — эпоха* (М. Калачынскі. Новы хлеб). *Другая гадзіна, як мы на вадзе. Д а к л а д н е й, другая гадзіна, як мы пакінулі Гомель* (Б. Сачанка. Зямля маіх продкаў). *Гэтую, х а й* *б у д з е, «маю радасць» я ўбачыў і на твары капітана* (там жа). *Усякая бяда — палова бяды, к а л і* *м о ж н а* *ё й* *д а ц ь* *т л у м а ч э н н е* (М. Ракітны. Была вясна...). *Тут будзе, с а м а* *м е н ш, пятнаццаць радкоў* (К. Чорны. Не пі густога чаю).

5. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія выражаюць эмацыянальную ацэнку таго, аб чым гаворыцца ў сказе. Яны могуць перадаваць пачуцці радасці, задавальнення, захаплення, гонару, жалю, засмучэння, абурэння, асцярогі, здзіўлення і г. д.: *к майму задавальненню, на радасць* каму-небудзь, *о радасць!, якая радасць!, яшчэ нават лепш!, што і казаць, дзякуй ім, слава яму, на шчасце, як на шчасце, на бяду, як на тую бяду, о гора!, як на грэх, на жаль, на вялікі жаль, як на злосць, на тое ліха, ліха з ім усім, як наўмысна, на няшчасце, к майму сораму, дзе бачылі!, дзе там!, чаго добрага, нябось, як на дзіва, як ні дзіўна, дзіўная рэч, на маё здзіўленне, ці дасцё веры, трэба ж такому здарыцца* і інш.

*Хата была, н а* *ш ч а с ц е, ужо абжытая* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Пабудавалі — д з я к у й* *і м! — як падраслі дзеці* (Б. Сачанка. Дунька). *А то — я ш ч э* *н а в а т* *л е п ш! — сходзі да маці сваёй, нуду сваю пранясі* (Б. Сачанка. Варэйка золата). *Я пусціў яго на падлогу, — я к а я* *р а д а с ц ь! — яно пайшло* (І. Грамовіч. Нікога не было дома...). *Кіпіць работа, ш т о* *к а з а ц ь* (М. Калачынскі. Дажынкі ў Каласоўцы). *Н а* *в я л і к і* *ж а л ь, лісты, якія я бярог, як найкаштоўнейшы скарб, у першыя дні вайны згарэлі* (Р. Сабаленка. Жыццё і песня). *А другі, н а* *б я д у, быў не адзін* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Я к* *н а* *з л о с ц ь, у ягоную калодку недзе трапіў каменьчык* (там жа). *І — о* *г о р а — як ні намагалася ўявіць, нічога не выходзіла* (Б. Сачанка. Былое). *Недзе тут, за бродам, — т р э б а* *ж* *т а к о м у* *з д а р ы ц ц а, — Алёшка вывіхнуў нагу* (Б. Сачанка. Адведкі). *Н а* *т о е* *л і х а, нідзе нікога не было* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Але, н а* *м а ё* *з д з і ў л е н н е, ён адказвае зусім не так, як я думаў* (там жа).

6. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія выкарыстоўваюцца для выражэння адносін паміж часткамі выказвання. Яны могуць устанаўліваць парадак перадачы думак, абагульняць ці абмяжоўваць іх змест, супастаўляць ці звязваць змест выказанай думкі з папярэдняй, выдзяляць асноўныя і другарадныя звенні пры выражэнні думкі, пацвярджаць і даваць дадатковыя звесткі аб фактах рэчаіснасці, тлумачыць, удакладняць сэнс выказанай думкі і г. д.: *далей, затым, з аднаго боку, з другога боку, першае, другое, трэцяе, па-першае, па-другое, патрэцяе, перш за ўсё, перш-наперш, нарэшце, урэшце, у першую чаргу; адным словам, словам, аказваецца, як бачым, выходзіць, значыць, наогул, увогуле, такім чынам, у прыватнасці, усяго толькі; аднак, аднак жа, зноў жа такі, наадварот, праўда, тым не менш; як адзначалася вышэй, мы ўжо гаварылі, як было сказана, што ўжо падкрэслівалася намі; галоўнае, галоўным чынам, між іншым, між тым; акрамя таго, апрача таго, больш таго, звыш таго, да таго ж, у дадатак да ўсяго, дарэчы, дарэчы сказаць, гэта значыць, менавіта, накшталт, напрыклад, як напрыклад, для прыкладу, прыкладна, прынамсі, скажам* (у значэнні «напрыклад»), *так, пры гэтым, прытым, разам з тым* і інш.

*П а-п е р ш а е, вы павінны ведаць, што ў Зарэччы шмат добрых, сумленных людзей. П а-д р у г о е, не забывайцеся, што Зарэчча самая да-*

*лёкая вёска, а людзі і там павінны адчуваць сябе так, нібы жывуць побач з вялікім цэнтрам* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Сям'я, нарэшце, прыехала* (К. Чорны. Вінгель). *Ну, словам, там жывёлаводства паставілі на вышыню* (К. Крапіва. Старшыня). *Значыць, яны дабраліся да седлавіны* (В. Быкаў. Альпійская балада). *Усе намаганні, выходзіць, дарэмныя* (там жа). *Наогул, Пайлюку была ўласціва добрая рамантызацыя ўсяго навакольнага* (Р. Сабаленка. Жыццё і песня). *Усё, аднак, абышлося добра* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Сенаўборку, праўда, мы зацягнулі* (там жа). *Ды мяцеліца цяпер не палохала Анісіма — наадварот, яна радавала* (Б. Сачанка. Дзік-бадзяга). *Ёсць больш важная задача, для выканання якой трэба мець спрыт і, галоўнае, адвагу* (Р. Сабаленка. Аўтограф). *Праз гэта, між іншым, авечаму пастуху не належала даваць падпаска* (І. Грамовіч. Жаваранак). *Да таго ж, яна пакарала ўсіх сваёй шчырасцю* (М. Ракітны. Сагура). *У садзе, напрыклад, ён дагэтуль не сустракаў яе* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Так, прынамсі, думаў Даніла* (З. Бядуля. Бондар).

7. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, якія з'яўляюцца зваротам да субяседніка з мэтай прыцягнуць яго ўвагу або выклікаць тую ці іншую рэакцыю на паведамленне: *бач, бачыш, як бачыце, ведаеце, самі ведаеце, ты сам ведаеш, глядзі ты, а ўжо глядзі, таго і глядзі, даруй мне, думаеш, запомні, заўваж, сам знаеш, што ні кажы, як вы кажаце, калі ласка, лічы, павер, ці паверыце, вы толькі падумайце, як памятаеце, разумееце, скажыце, скажы ты, уявіце сабе, калі вы хочаце ведаць* і інш.

*Мы жылі, як бачыце, у глухім кутку* (І. Грамовіч. Кавалак хлеба). *Ён, ведаеш, ва універсітэце вучыцца* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Я, знаеш, плаваць не ўмею* (там жа). *Ты ж пра гэта, глядзі, нікому не кажы* (там жа). *Ён, што ні кажы, здымаўся ўжо ў трэцяй карціне* (М. Ракітны. Сагура). *«А чыя, скажы, там дзяўчына?» — зацікавіўся Якаў* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Тады, калі ласка, падпішыце вось гэта* (там жа). *Чысцілі разам калодзеж, а значыць, лічы, разам знайшлі і золата* (Б. Сачанка. Варэйка золата). *Я, разумееш, сірата* (А. Асіпенка. Абжыты кут). *Разумееце, у іх ёсць нешта блізкае мне* (там жа). *Я, слухай сюды, усё перадумаў* (там жа).

## УСТАЎНЫЯ СЛОВЫ, СЛОВАЗЛУЧЭННІ І СКАЗЫ

§ 862. Устаўнымі з'яўляюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія ўводзяцца ў структуру сказа для перадачы дадатковых паведамленняў, розных удакладненняў і тлумачэнняў адносна яго зместу. У адрозненне ад пабочных гэтыя словы, словазлучэнні і сказы не выражаюць мадальных або эмацыянальных значэнняў і вызначаюцца большай інтанацыйнай і сэнсавай адасобленасцю ад зместу асноўнага сказа.

Адпаведна характару і спосабам удакладнення або тлумачэння ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы маюць простую або ўскладненую будову і размяшчаюцца ў сярэдзіне ці ў канцы асноўнага сказа (перад або за ўдакладняльнымі членамі): *Кожны раз перад выступленнем былі спеўкі (рэпетыцыі)* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Мне трэба было — не толькі трэба, а неабходна — голай рукой злавіць на галінцы бярозы маленькую, палахлівую птушку* (Я. Брыль. Ты мой найлепшы друг). *Важныя госці азірнуліся навокал — як тут і што — і накіраваліся ў воласць* (М. Лобан. На парозе будучыні). *Папаў ён*

*у вялікі горад (з р о д у  н е  б ы ў  т а м)* (В. К а в а л ь. Жніво). *Разлівала чай Рыва, паглядала на таварыша Міхася (т а к  з в а л і  м а л а д о г а  к а м а н д з і р а)* (М. Л ы н ь к о ў. Гой). *Ён быў адзіным чалавекам, які (б о л ь ш  п а  г о л а с е,  я к  з  в ы г л я д у) пазнаў Уладзіка ў прымежнай вёсцы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Але я (г э т а к і  в ы п а д а к  з д а р ы ў с я) не захацела з ім гаварыць* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

## УСТАЎНЫЯ СЛОВЫ

§ 863. У с т а ў н ы я  с л о в ы служаць для ўдакладнення і тлумачэння зместу паасобных членаў сказа. У большасці выпадкаў гэтыя словы выражаны аднолькавымі часцінамі мовы з удакладняльнымі або тлумачальнымі членамі сказа і маюць аднолькавую з імі форму. Як правіла, у якасці такіх членаў выступаюць:

а) назоўнікі (часам у спалучэнні з прыметнікамі): *Косцік з вельмі гаспадарлівым і заклапочаным выглядам прайшоў паўз іх да калгаснага двара з метроўкаю (м е р к а ю) на плячы* (К. Ч о р н ы. Брыгадзірава памылка). *Ззаду важна ступаюць кароўкі, жуючы жуйку (ж в а ч к у)* (Я. К о л а с. Заход сонца). *Люба трымала ў руках жалезныя вілы (с а х о р) і рвала імі гной* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Ёсць тут беламорскі лунны камень (л а б р а д о р)* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора);

б) прыметнікі: *Феадальныя (п р ы г о н н і ц к і я) перажыткі накладвалі адбітак на ўвесь грамадскі лад краіны* («Гісторыя КПСС»). *Мільён купін з каржакаватымі (н я з г р а б н ы м і) хвойкамі рассыпаліся па балоту* (Я. К о л а с. Палессе). *На возе ляжаў яшчэ мяшок з дробнай (с в і н о й) бульбай і плуг* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы);

в) дзеясловы: *Ён спяшаўся (б е г) дадому* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Хурс ужо сядзеў за сталом (с н е д а ў)* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні);

г) займеннікі: *Яго (я е) сям'я спрые гэтаму непаслухмянству* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі).

У радзе выпадкаў устаўныя словы маюць аднолькавую форму з удакладняльнымі або паясняльнымі членамі сказа, але выражаны living рознымі часцінамі мовы або маюць розную форму, але выражаны аднолькавымі часцінамі мовы: *Ён (Ц і м о х) цябе закуцае работаю* (С. Б а р а н а в ы х. Пастка). *Настаўнік пасадзіў мяне ў трэцяе (а п о ш н я е) аддзяленне* (Я. М а ў р. Шлях з цемры). *Бальзак ніяк не выйшаў з рамак свайго (б у р ж у а з н а г а) класа, які ён так высмейваў і крытыкаваў* (К. Ч о р н ы. Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства). *Некалькі разоў уязджалі ў завадскую браму фурманкі з жалезным і чыгунным ломам (у т ы л ь с ы р э ц)* (К. Ч о р н ы. Браты). *Прызавое месца занялі спартсмены «Буравесніка» (М і н с к)* (з газет).

З а ў в а г а. Калі ўстаўное слова з'яўляецца нявыказаным, то замест яго ставіцца пытальнік або клічнік, якія заўсёды бяруцца ў дужкі: *Некаторыя маладыя паэты рытмічную рыхласць, рыфмоўку несугучных слоў лічаць (?) за наватарства і арыгінальнасць* (з газет). *З верша было выкрэслена 40 (!) радкоў, якія псуюць яго* (І. К у д р а ў ц а ў. Другое спатканне з чытачом).

§ 864. Устаўныя словы ў форме назоўніка ўскосных склонаў з прыназоўнікам звычайна ўжываюцца для ўдакладнення паасобных членаў сказа, пашыраючы або абмяжоўваючы іх змест. Гэтыя словы заўсёды маюць розную форму з удакладняльнымі членамі сказа і выражаюцца як аднолькавымі, так і рознымі часцінамі мовы: *Ад першай (н а  р ы н к у) сустрэчы прайшло ўжо пяць год* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Яны нібы співаюць жніўна-вясельныя песні, у якіх чуецца (а п р о ч  с у м у-р а д а с ц і) зусім нявыказанае чалавекам пачуццё* (В. К а в а л ь.

Жніво). *Збожжавыя і бабовыя культуры (без кукурузы) скошаны на ўсёй плошчы* (з газет). *Нікому Гняды (апрача мяне) у рукі не давайся — волю любіў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Гэты слюнявы мястачковы дэмагогік апошні час быў незадаволены тым, што яго не дапускаюць (у прыватнасці, Рунда) да арганізацыйных сакрэтаў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 865. Устаўныя словы (з прыназоўнікамі і без іх) могуць уводзіцца ў структуру сказа пры дапамозе злучальных або падпарадкавальных злучнікаў. Такія словы служаць у асноўным для пашырэння або канкрэтызацыі зместу паасобных членаў сказа. У першым выпадку яны заўсёды маюць аднолькавую форму з гэтымі членамі, а ў другім — розную: *Практыка паказвае, што байка прыхільна сустракаецца чытачом (і слухачом) і стварае належны эфект* (К. Крапіва. Думкі пра сатыру). *Грамадзянская вайна яшчэ доўга будзе тэмай для літаратуры (ці драматургіі)* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію). *Гэтага Уладзя Гельскі зрабіць (або сказаць) не можа* (К. Чорны. Вялікая і малая тэма). *Я не скарыўся, бо ведаю-знаю: дзесьці (і скора) цябе напаткаю* (П. Глебка. На моры). *Каваль сеў на каня, перакінуў цераз плечы звязаныя дротам вілкі і далоты (нібыта на продаж) і паволі ад'ехаў ад дома* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *На ўзлеску (дзе ні іншэй) яны спыніліся і расклалі касцёр* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Іншы раз падобныя ўстаўныя словы маюць пры сабе адпаведную часціцу. У гэтым выпадку характар удакладнення заўсёды вызначаецца living рознымі дадатковымі адценнямі: *Мы аб заводзе наогул ведалі (ды і то не ўсе )толькі тое, што ўдалося падглядзець праз акно, рызыкуючы сваёй скурай* (Я. Маўр. Шлях з цемры). *Яны (ці не ў Капылі) на завод быка купілі* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Я багатая калгасніца (хоць бы і свінарка)* (З. Бядуля. Свінарка Фрэйда).

§ 866. У радзе выпадкаў удакладненне аднаго з членаў сказа ажыццяўляецца пры дапамозе двух ці больш устаўных слоў, якія выконваюць функцыю аднародных членаў і звязваюцца злучнікавым або бяззлучнікавым спосабам. Часцей за ўсё гэтыя словы маюць аднолькавую форму з удакладняльным членам сказа, хоць выражацца могуць як аднолькавымі, так і рознымі часцінамі мовы: *Нам кожнаю назвай (вялікай і дробнаю) патрэбна, як імем сваім, даражыць* (П. Панчанка. Пра назвы). *Гэты чалавек са сваім тварам нагадваў птушку (арла ці іншую), якая сядзіць на дрэве або на скале* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Не сядзеў бы ён тут (ні ў павеце, ні ў гміне), каб не жыта яго, што няжатае гіне* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Усе прадукты (сала, рыба, алей, крупы, цукар і інш.) разам з талонам на прамтавары развезлі проста на кватэры* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Увесь паўночны край пасёлка занялі новыя гаспадарчыя будынкі: кароўнікі, свінарнікі, стайня, птушнік, сталярня, кузня, камбінат (млын, піларама, электрастанцыя)* (К. Крапіва. Над ракой Арэсай).

Калі ж устаўныя словы выражаны рознымі часцінамі мовы і маюць розную форму з удакладняльным членам сказа (у асноўным дзеясловам-выказнікам), то ўдакладненне звычайна суправаджаецца акалічнасным адценнем: *Пачула трывожнае вуха нечыя крокі (у сне ці праз сон)* (П. Глебка. Трывога). *Андрэй паспяшаў — дзе пехатою, а дзе поездам — да месца свайго прызначэння* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 867. Сустракаюцца выпадкі, калі ўстаўныя словы маюць пры сабе адасобленыя члены, параўнальныя звароты або састаўныя часткі (толькі залежныя) складанага сказа. У такім разе ўдакладненне паасобных членаў сказа ажыццяўляецца больш поўна і ўсебакова: *Гэтае месца (во-*

*с т р а ў, а к р у ж а н ы з у с і х б а к о ў б а л о т а м) яму спадабалася* (М. Л ы нь к о ў. Векапомныя дні). *Поўная жыўнасці лістота неяк нясмела яшчэ,— н і б ы с а р а м л і в а, я к м а л а д о е д з я ў ч о, — цягнецца насустрач сонцу, жыццю* (І. П т а ш н і к а ў. На шляху луг). *Я сяджу пад вішняю (н е п а д т о ю, д з е с к л е п) і чакаю Юзіка* (С. Б а р а н а в ы х. Пастка). *Стары Мікіта зняў сваю кепку, — т а к у ю п а к а м е ч а н у ю і з д з і р к а м і, н і б ы я е п а ж а в а л а к а р о в а, — і прывітаўся* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб).

Устаўныя словы могуць мець пры сабе залежныя ад іх пабочныя словы, словазлучэнні і сказы. У такім выпадку ўдакладненне або тлумачэнне зместу паасобных членаў сказа заўсёды суправаджаецца рознымі мадальнымі адценнямі: *З сянец выскачыла дзяўчына — м а б ы ц ь, В о л ь к а! — і скоранька пайшла цераз двор* (Я. С к р ы г а н. У Кірылы на хутары). *Ён мае адну, вельмі сімпатычную мне (п э ў н а, і ў с і м) якасць* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця). *Ён душыцца (в і д а ц ь, н е п р ы з в ы ч а е н ы) ад гэтага паху* (М. Г а р э ц к і. Ціхая плынь). *З кім, (в ы б а ч а й ц е, з ч ы м) змагацца буду — са сном ці стомаю?* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця). *Варштат меў дванаццаць панажоў (ц і, я к т а м к а з а л і, «п а д н о ж а к») і дванаццаць нітоў* (К. Ч о р н ы. Слуцкія сурвэты). *Калі будан (а б о «ю р т а», я к к а з а ў В і к т а р) быў гатовы, сябры прыступілі да ўпарадкавання агню* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

## УСТАЎНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 868. У с т а ў н ы я с л о в а з л у ч э н н і ўжываюцца для ўдакладнення і тлумачэння слоў, словазлучэнняў ці ўсяго сказа. У сучаснай беларускай мове гэтыя словазлучэнні маюць разнастайную будову і склад.

Найбольш пашыраны ўстаўныя словазлучэнні, якія ўдакладняюць або тлумачаць паасобныя члены сказа. У якасці такіх членаў ужываюцца:

а) назоўнікі ў формах розных склонаў (з прыназоўнікамі і без іх): *Мядзведзіч — п р о з в і ш ч а М і к о л ы — суцяшаў яе* (А. Б я л е в і ч. Карэнні дуба). *Узялі мы вуды, кацялок для юшкі, сачок (н а ў с я к і в ы п а д а к) і рушылі на рыбалку* (А. Я к і м о в і ч. На рыбалцы). *Старэйшыя мужчыны гуртом і без шапак (м н у ч ы і х р у к а м і) забіліся ў кут, быццам баючыся чаго* (В. К а в а л ь. Сяльчане). *Ля ганку, дзе дубы (л е с а в ы я п а с л а н ц ы ў п о л е) застылі ў перадранішняй дрымоце, цямнела ў водбліску неба чалавечая постаць* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Гэтая думка не давала мне спакою ўсю дарогу да ЦТ (ц э н т р а л ь н ы т э л е г р а ф)* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця);

б) прыметнікі: *Корань працаваў качагарам на Кіраўскім (б ы л ы м П у ц і л а ў с к і м) заводзе* (І. Г у р с к і. На скрыжаванні дарог). *Паўвека назад адсюль, з Саборнай (ц я п е р А к ц я б р с к а й) прыстані, накіравалася да Паўночнага полюса навуковая экспедыцыя пад кіраўніцтвам Г. Я. Сядова* (з газет). *Раніцаю а восьмай гадзіне ён устае, п'е чай з самаробным (в ы р а б ж о н к і) пячэннем і ідзе ва ўстанову, дзе служыць* (П. Г а л а в а ч. Вінаваты). *Вочы — маладыя і жвавыя (р а н е й с у м н ы я і я к б ы п а т у х ш ы я)* (З. Б я д у л я. Крэўныя).

З а ў в а г а. Калі ўстаўное словазлучэнне адносіцца да дзеяслова асноўнай часткі сказа, то ўдакладненне звычайна суправаджаецца акалічнасным адценнем: *Над лугам загаласіла — т о й с а м а й ж н і ў н а ю п е с н я й — жалейка* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб).

§ 869. Пашыраны таксама ўстаўныя словазлучэнні, якія ўдакладняюць, дапаўняюць або тлумачаць паасобныя словазлучэнні асноўнай часткі сказа. У якасці ўдакладняльных ужываюцца:

а) словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова: *Хаўтурны рэквіем — ж а л о б н ы м а р ш — усяму пярэчыць* (М. Т а н к. 28 чэр-

веня). *Раман «Улада» (першы том) чытаў я два гады таму назад* (Я. Брыль. Вачыма друга). *Перад хатаю да самага гасцінца (крокаў з трыццаць) буяў спарыш і трыпутнік* (К. Чорны. Трыццаць год). *У трамвайным вагоне сядзіць нейкі неахайны хлапчук з віхрастым чубам (шмат большым, як у Валодзі) і грызе семячкі* (А. Якімовіч. Навічок);

б) словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага слова: *Дзяніс Бухча пачаў знацца з панамі (знімаў шапку здалёку)* (К. Чорны. Нянавісць). *Зінка тупае за аўтамабілем (імчыцца за ім)* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Адтуль жа ішлі двое ў чорным, паціху гаварылі (хлапечыя галасы)* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Саша схіліў галаву — ледзь што не прыклаў вуха да баяна — і слухаў меладычны спеў ладоў* (І. Шамякін. Першае спатканне);

в) словазлучэнні з прыметнікам ці іншымі часцінамі мовы ў ролі галоўнага слова: *Камандзір, у баях суровы (хваляваўся вельмі рэдка), усё ж двух вучняў Смалячкова пасылае на разведку* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *З расхлістанага акна пахілага дамка, асеўшага пад цяжарам грамоздкай, уздутай пухіром (на купецкаўральскі манер) страхі, даляцелі да мяне гукі бравурнай музыкі* (Х. Шынклер. Пульс жыцця). *Сярод прыказак і прымавак, якія змешчаны ў гэтым зборніку, значная колькасць (больш за сто) з'яўляюцца новымі* («Весці АН БССР»).

Асобную групу складаюць канструкцыі, дзе ўстаўныя словазлучэнні тлумачаць розныя псеўданімы або ўдакладняюць прозвішча і ўласнае імя: *Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся ў 1882 годзе* (К. Чорны. Янка Купала). *Работнікаў дзяржаўнай бяспекі Івана Цюрына (Аляксандра Якаўлевіча Бобылева) і Фёдара Бурцава (Фаму Фаміча Хвясько) запрасілі ў кабінет генерала* (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). *Лукаш Суравец (Сяргееў бацька) не крыўдзіцца на тое, што ў яго ў кузні работы шмат* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 870. Зрэдку сустракаюцца выпадкі, калі ўстаўныя словазлучэнні ўдакладняюць або пашыраюць змест усяго сказа: *Яна пяшчотна паднімае на рыцара вочы (першы раз у жыцці)* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Ён быў ужо членам партыі (з 1930 года)* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *На глухі паўстанак (пяць далёкіх вёрст) будзе слацца ельнік лапкамі напрост* (П. Глебка. Мужнасць). *Андрэй экзаменаваў Грышу і Якава (па іх просьбе) па палітычнай эканоміі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Часам устаўныя словазлучэнні ўжываюцца для ўдакладнення, пашырэння або характарыстыкі зместу адной з састаўных частак складанага сказа: *Настаўніца прыняла Ігнася (ласкава-добрая настаўніца!); яна выдала яму кніжку і сшытак* (Р. Мурашка. Сын). *Выграб ямку пад рэйкай паміж шпаламі, уставіў тол, тады — найбольш адказная работа, — сабраўшы ўсю асцярожнасць, ён прывязаў да кручка шнурок і капсуль заправіў у зарад* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Яўмен чытаў раённую газету, у якой (каторы раз за вясну!) зноў пісалі пра Сяргея Бярозку* (І. Шамякін. Вясновымі днямі).

§ 871. Устаўныя словазлучэнні могуць уводзіцца ў структуру сказа пры дапамозе злучальных або падпарадкавальных злучнікаў. Гэтыя словазлучэнні служаць для ўдакладнення, дапаўнення і развіцця зместу паасобных членаў, словазлучэнняў і ўсяго сказа: *Сам пра сябе ён думаў (і гэтым ганарыўся ўпотай), што хоць у нейкай малюсенькай меры з'яўляецца выканаўцам гэтай ролі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Яны вярнуліся з горада і прывезлі повен воз усялякага дробнага (а на сваё мястэчка нават і нядробнага) тавару* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка). *Ён націскае ключ патрэбнай яму станцыі*

(*або ўсіх адразу*) *на выклікальным апараце* (Х. Шынклер. Запіскі інструктара Томана). *Гэтага дня людзей у горадзе было менш (як не кірмашовы дзень)* (Р. Мурашка. Сын). *Якуб хітра падмаргнуў Вольцы (што ў сіняй сукенцы) і ў думках пахваліў дзяўчат за розум і дагадлівасць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Валі Іваноўскай спатрэбілася некалькі часу, каб яна раскусіла Любу па-сапраўднаму, знайшла ў ёй новыя якасці і праз яе (чаго ніяк не чакала) убачыла і паказала новыя грані жыцця* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Сустракаюцца выпадкі, у якіх устаўныя словазлучэнні маюць пры сабе даданыя часткі складаназалежнага сказа. Такія словазлучэнні даюць магчымасць ажыццяўляць удакладненне або дапаўненне паасобных членаў, словазлучэнняў ці ўсяго сказа больш поўна і ўсебакова: *Васіль не развітаўшыся (бо добра ведаў, што яшчэ вернецца) хутка выйшаў з цеснага пракуранага кабінета* (І. Шамякін. У добры час). *Ад блізарукасці ён прыплюшчваў вочы (а зусім не ад пагарды да людзей, як маглі б падумаць тыя, хто не ведаў яго)* (І. Мележ. Дом пад сонцам).

§ 872. Зрэдку ў склад устаўных словазлучэнняў уваходзяць пабочныя словы, словазлучэнні і сказы. Пры гэтым удакладненне або дапаўненне паасобных членаў, словазлучэнняў ці ўсяго сказа заўсёды суправаджаецца рознымі мадальнымі адценнямі: *Выган заўсёды служыў месцам зборышч (можа ад часоў народнага веча)* (З. Бядуля. Год за годам). *Павергнуць супастата (чужымі, праўда, рукамі) Лукавіцыну вельмі хацелася* (К. Крапіва. Мой сусед). *Ён усё больш і больш упэўніваўся (прынамсі, угаварваў сябе) у тым, што тут яму працы па-інакшаму не павесці* (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). *У апошнія дні хлопцы часта лятал (зразумела, на сваіх шустрых нястомных нагах) да старшыні суседняга калгаса* (А. Якімовіч. Авіятары). *Пачулія паставіў лямпу на вялікае бюро з чырвонага дрэва (вельмі тонкай работы, як заўважыў Сімон)* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

## УСТАЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 873. Устаўныя сказы служаць для выражэння дадатковых заўваг, розных удакладненняў і тлумачэнняў адносна зместу паасобных членаў, словазлучэнняў ці ўсяго сказа. У сучаснай беларускай мове ўстаўныя сказы маюць самую разнастайную будову і склад.

Устаўныя сказы, якія адносяцца да аднаго з членаў асноўнага сказа, часцей за ўсё маюць форму простых сказаў (поўных і няпоўных, развітых і неразвітых). У якасці гэтых членаў могуць ужывацца назоўнікі, прыметнікі (пераважна субстантываваныя), займеннікі, лічэбнікі і прыслоўі. Такія ўстаўныя сказы:

а) удакладняюць змест паасобных членаў: *Чалавек (ён быў Яцына) на зямлю віхрам паляцеў* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Бараноўскія (тры хлопцы як дубы) былі дома* (І. Гурскі. Сустрэча). *Стары — гэта быў Павел Змітрук — падышоў да старшыні* (І. Дуброўскі. Светлы шлях). *Аднойчы — гэта было з месяц назад — ён сустрэў яе за вёскай* (І. Шамякін. Завіруха). *З іх гаворкі чулася Шклярскаму — такое прозвішча было ў памочніка — нейкая насмешка па яго адрасу* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел);

б) дапаўняюць і развіваюць змест паасобных членаў: *Сын (яму было цяпер год дванаццаць) не прыходзіў да бацькі больш за тыдзень* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Мужчын і хлопцаў — іх было дзевяць — Алена накіравала вазіць снапы* (І. Мележ. Гарачы

жнівень). *Наконт ідэй (без ідэй, абы якіх, рэдка можа быць чалавек) я не бяруся меркаваць* (Р. Мурашка. Сын). *Нехта (цяпер цяжка было ўстанавіць хто) чуў стрэл на грэблі* (М. Паслядовіч. Паўстанне);

в) тлумачаць характар, раскрываюць прычыну, падкрэсліваюць вынік ці суправаджаюць тое, што абазначана паасобнымі членамі сказа: *Трое (цяпер я бачу іх зусім выразна) ідуць па тратуары* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Абвяшчае генерал — у ім пазнаў ён сына — байцам дывізіі прывал* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Неўзабаве — на двары ўжо быў вечар — пачалі сыходзіцца суседзі* (І. Мележ. Незнаёмы). *Ніна ўгаварыла Зіну (яе бацькі загінулі ў вайну) паехаць да сваіх* (І. Гурскі. Вясна пачыналася). *З шарачка — дзе ж корту таго ўзяці?— з кантамі мне галіфэ пашыла маці* (В. Вітка. Першае, наіўнае каханне);

г) з'яўляюцца мімаходнай заўвагай (іншы раз з падагульняючым або заключальным адценнем) адносна зместу паасобных членаў сказа: *Парсюка ці можа свінку (нешта мне не ў галаве) прадаў сёлета на рынку з гэтай вёскі чалавек* (К. Крапіва. З «барышом»). *Казік (ён нечага варт!) перабіў мае думкі* (С. Баранавых. Пастка). *У сне — хоць ты плач! — пачынаецца песня* (М. Лужанін. Драч). *Калі часам улетку перападзе маслёнка — звычайна ёю гаспадары свіней кармілі,— тады было вялікае свята* (І. Гурскі. Сустрэча);

д) суправаджаюць паасобныя словы з мовы апавядальніка адпаведнымі ўказаннямі на розныя абставіны знешняга парадку: *Аднойчы селянін (Базыль нават назваў яго прозвішча) паехаў красці хвою ў княжацкі лес* (Я. Колас. У старых дубах). *Вунь там (селянін паказвае ў бок капліцы) засталіся сляды яе босых ног* (З. Бядуля. У глушы).

Устаўныя сказы могуць уводзіцца ў структуру асноўнага сказа пры дапамозе злучальных або падпарадкавальных злучнікаў (галоўным чынам *а* і *які*). Пры гэтым устаўныя сказы прымаюць форму злучальных або падпарадкавальных састаўных частак, якія адносяцца да назоўніка асноўнай часткі сказа (часам у спалучэнні з прыназоўнікам). Яны ўдакладняюць, дапаўняюць або тлумачаць змест такога назоўніка і суправаджаюць яго дадатковым далучальна-азначальным адценнем: *Збынеўскі — а гэта быў ён — без асаблівага энтузіязму пераступіў парог зямлянкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Каля Нёмана—а ён быў тут зусім блізка — пачулася Якубава песня* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Малка паклала два пернікі (якія тут завуцца папраднікамі) і пахваліла Хомку* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь). *Удзень Іліко быў каля Гвацiя (які не абцяжарваў хлапца работай), увечары да самай позняй гадзіны круціў ручку шарманкі ў духане* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Нешматлікімі з'яўляюцца выпадкі, калі ўстаўныя сказы, якія адносяцца да аднаго з членаў асноўнага сказа, маюць форму складаназлучанага, складаназалежнага або бяззлучнікавага складанага сказа. Удакладненне, дапаўненне ці тлумачэнне гэтых членаў ажыццяўляюцца больш поўна і ўсебакова: *Калісьці (гэта было менш за месяц таму назад, а здаецца даўно-даўно) у такі час сяло як бы абуджалася пасля дзённай цішыні* (І. Мележ. Адна). *Мне казалі ісці на «шырокую» («шырокаю» называлі грэблю, якая цягнулася цераз лес)* (М. Чарот. Апошняя ноч). *Вада і вецер— не разбярэшся: хто зверху, хто знізу! — здзекуюцца з упартасці чалавека* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе).

Устаўныя складаныя сказы часам уводзяцца ў структуру асноўнага сказа пры дапамозе злучніка *а*, які надае ўдакладненню або дапаўнен-

ную пэўнае дадатковае адценне: *Данік ведаў: партызан (а ё н н е с у м н я в а ў с я, ш т о П я т р о п а р т ы з а н) не пойдзе ўдзень па адкрытым месцы* (І. Ш а м я к і н. Пошукі сустрэчы). *Натоўпам дзеці (а с я р о д д з я ц е й б ы л і і н е з у с і м д з е ц і: а д з і н з т а к і х «н е з у с і м д з я ц е й» м е ў с о р а к т р ы г а д ы, л ы с і н у і с і в ы я в у с ы) кішэлі на Тонікавай прызбе* (К. Ч о р н ы. Мураваны скляпок).

§ 874. Устаўныя сказы, якія адносяцца да словазлучэнняў асноўнага сказа (з назоўнікам, дзеясловам і іншымі часцінамі мовы ў ролі галоўнага слова), у большасці выпадкаў таксама маюць разнастайную форму простых сказаў. Гэтыя ўстаўныя сказы могуць ужывацца:

а) для ўдакладнення зместу адпаведнага словазлучэння: *Старшыні калгаса (п р о з в і ш ч а я г о К у д з е в і ч) прыйшлося тут густа пачырванець* (К. К р а п і в а. Пачатак шчасця). *Мы атрымалі весткі, што гэты чорны (ё н з а в е ц ц а С т а н о ў с к і) мае сувязь з кантрабандыстамі* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Якуб Панасавіч, нягледзячы на свае вялікія гады (я м у б ы л о п а д с е м д з е с я т), выглядаў яшчэ даволі рухава* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Тамара Васільеўна Збынеўская — т а к з в а л і м а л а д у ю н а с т а ў н і ц у — з'явілася ў гэтых мясцінах яшчэ ў канцы мінулага года* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні);

б) для дапаўнення і пашырэння зместу адпаведнага словазлучэння: *Віхрасты хлапчук (я м у б ы л о г о д ш э с ц ь) штосьці мармытаў праз сон і смяяўся* (К. Ч о р н ы. Звяга). *Хутка дырэктар школы — ё н у с ё я ш ч э х а д з і ў у к і ц е л і б е з п а г о н а ў — авалодаў сабою* (І. Г у р с к і. Вясна пачыналася). *Намеснік старшыні Цяцера (п а ш т а т у ё н — і а г р а н о м) малюе табель — на фанеры выводзіць лічбы за сталом* (М. К а л а ч ы н с к і. Дажынкі ў Каласоўцы). *Камбайнер Рыгор Чуприк са сваёй памочніцай трактарысткай Верай Сляпухай — я н ы п р а ц а в а л і н а п р ы ч э п н ы м з е р н е ў б о р а ч н ы м к а м б а й н е — з поспехам праводзілі ўборку палеглага збожжа* (І. Г у р с к і. Незгасальныя зоры);

в) для тлумачэння характару, раскрыцця прычыны або падкрэслівання выніку таго, што абазначана зместам адпаведнага словазлучэння: *Так праз хвіліны тры ці дзве (в а й с к о в е ц н е п р ы в ы к м а р у д з і ц ь) і коні нашы ўжо ў хляве і самі ў хаце мы, як людзі* (К. К р а п і в а. Шкірута). *Уперадзе мяне шафёр у чорных рагавых акулярах (с о н ц а б і л а я к р а з н а м у в о ч ы) апавядаў нешта* (І. П т а ш н і к а ў. На шчасце). *Падвязаныя вяровачкамі галёшы (с н е г у в у н ь к о л ь к і н а ў р а л ь с к і х л а г ч ы н а х!) шархалі па ільдзінах* (Х. Ш ы н к л е р. Дзённік сувязіста). *Сабраўшы ўсю сваю волю, напружыўшы нечалавечыя сілы — а ж ц ё м н ы я к р у г і п а й ш л і п р а д в а ч ы м а, — Алёшка нацягнуў на твар прызвычаеную ўсмешку* (М. Л ы н ь к о ў. Салют). *Паглядзеўшы на гадзіннік (д а а д ы х о д у п о е з д а з а с т а в а л а с я х в і л і н т р ы ц ц а ц ь п я ц ь), пасажыр спакваля пайшоў у буфет* (І. Г у р с к і. У вялікай дарозе);

г) для мімаходных заўваг адносна зместу адпаведнага словазлучэння: *У адным сяле (н е в а ж н а — д з е) хадзіў баран у чарадзе* (К. К р а п і в а. Дыпламаваны баран). *Змрокам купальскім, — г о д д а к л а д н а н е в е д а е м м ы, — кветку шчасця свайго ў лесе панскім бачыў ён, як вяртаўся з карчмы* (А. К у л я ш о ў. Кветка шчасця).

У радзе выпадкаў устаўныя сказы ўводзяцца ў структуру асноўнага сказа пры дапамозе злучальных або падпарадкавальных злучнікаў, прымаючы форму злучальных ці падпарадкавальных састаўных частак. Устаўныя сказы ў форме злучальных састаўных частак (галоўным чынам са злучнікам *а*) звычайна адносяцца да розных словазлучэнняў і не толькі ўдакладняюць, дапаўняюць або тлумачаць іх змест, але і суправаджаюць яго дадатковым далучальна-азначальным або далучальна-

супастаўляльным адценнем: *Палавіну дарогі — а гэта будзе вёрст пяць — Пятрусь быў сярдзіты* (Я. Колас. Кірмаш). *Па прозвішчу яго — а быў ён Івановым — ніхто звычайна не клікаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Парайняўшыся з ёю,— а панна Ядвіся стаяла і чакала яго,— ён досыць прыветна прывітаўся* (Я. Колас. У палескай глушы).

Устаўныя сказы ў форме падпарадкавальных састаўных частак таксама адносяцца да розных словазлучэнняў асноўнага сказа; яны развіваюць або раскрываюць ці тлумачаць змест гэтых словазлучэнняў і суправаджаюць яго далучальнымі адценнямі прычыны, мэты, умовы і г. д.: *Панна Людміла — бо гэта была яна — зараз жа падмеціла яго нясмеласць і замяшанне* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ад калючага болю — нібы хто вострым нажом паласнуў па пальцу нагі — ён прахапіўся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На зямлі ляжаў кавалачак паперы, на якім друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі) штосьці напісана* (К. Чорны. Звяга). *Напужаныя авечкі адна за адной — быццам іх за шкірку хто выкідвае з хлеўчыка — на двор павыскоквалі* (І. Грамовіч. Дзіва). *Падышоўшы да хаты, Міцька Папок садзіўся на парозе сенцаў (калі яны былі адкрыты) ці на ганку і пачынаў адшукваць памечаную для гэтага двара карэспандэнцыю* (М. Паслядовіч. Магістральны канал).

Іншы раз устаўныя сказы, якія адносяцца да паасобных словазлучэнняў асноўнага сказа і ўводзяцца ў яго структуру бяззлучнікавым або злучнікавым спосабам, маюць форму складаназлучаных, складаназалежных або бяззлучнікавых складаных сказаў: *Новая блясна без ліпняга ўсплёску ападае на ваду метраў за дваццаць ад лодкі (рака вузкая і закід не поўны)* (Я. Брыль. На Быстранцы). *У нервовай сумятлівасці (нельга было пазніцца ў клуб, дзе прыезджыя акцёры ставілі новую п'есу) Пайлік выскачыў на двор* (М. Паслядовіч. Магістральны канал). *Корань разгарнуў запісную кніжачку (папера ў ёй пажоўкла, сцёрліся асобныя словы) і, запінаючыся, стаў чытаць* (І. Гурскі. На скрыжаванні дарог). *Важна надзьмуўшы шчокі, — а гэта азначала, што ён трохі ўтаміўся, — Васіль стаў распранацца* (Я. Колас. Дрыгва).

Сустракаюцца выпадкі, калі ў склад устаўных сказаў, якія адносяцца да словазлучэнняў асноўнага сказа, уваходзяць пабочныя словы. Удакладненне, дапаўненне або тлумачэнне зместу гэтых словазлучэнняў заўсёды суправаджаецца рознымі мадальнымі адценнямі: *Марлен нават расказала ёй, — ну вы ж свой, зразумела, чалавек!— як ставяцца самі начальнікі да сваёй установы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Паважная асоба, абцерабіўшы раку шыю й клешні (не хоча з драбязой займацца ён, канешне), давай упісваць рэшту* (К. Крапіва. Рак). *Віктар, неяк прытанцоўваючы ля ганка (мусіць, памёрзлі ногі), успеў толькі спытацца* (Р. Сабаленка. Кветкі).

§ 875. Устаўныя сказы, якія адносяцца да зместу адной з састаўных частак складанага сказа, у сучаснай беларускай мове займаюць параўнальна нязначнае месца. Яны маюць у асноўным форму простых сказаў, уведзеных у структуру асноўнага сказа бяззлучнікавым або злучнікавым спосабам. Гэтыя ўстаўныя сказы ўжываюцца для дапаўнення і развіцця зместу адпаведнай састаўной часткі складанага сказа або для тлумачэння ці абгрунтавання гэтага зместу: *Пад брамай рог звініць прызывам (бягуць да брамы ключары), і скача рэха пералівам ў лясным заснуўшым гушчары* (М. Машара. Мамчына горка). *Пытаецца аб чым-небудзь Волька — яе заўсёды цікавяць розныя рэчы, — а мама не чуе і не адказвае* (І. Мележ. Мінскі напра-

мак). *Нарэшце людзі згадзіліся — н а в о к а л у ж о б ы л і к а л г а с ы, — што аб'ядноюць гаспадаркі* (І. Г у р с к і. Расцвілі вішні). *У трэці дзень, калі добра змеркнецца, будзь на Доўгім бродзе і чакай, покі не завые воўк: гэта буду выць я (д з е д Т а л а ш у м е ў в е л ь м і д о б р а в ы ц ь п а-в о ў ч ы)* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Пасля таго, як пачуццё страху знікла (б о н е б ы л о ч а г о ш к а д а в а ц ь у ж ы ц ц і), я стагнаў* (Э. С а м у й л ё н а к. Герой нацыі). *Антон Крамарэвіч убачыў перад сабой хударлявага хлапчука, у якім (і г э т а а д р а з у к і д а л а с я ў в о ч ы) нерашучасць і баязлівасць змагаліся з самай выразнай адвагай* (К. Ч о р н ы. Заўтрашні дзень).

Выключна рэдкімі з'яўляюцца ўстаўныя сказы, якія адносяцца да зместу адной з састаўных частак складанага сказа і самі маюць форму складаных сказаў: *Маме хочацца, каб я быў як Мішка з нашага двара (ё н т о ў с т ы, і ў с е л і ч а ц ь я г о з д а р а в я к а м), а я чамусьці ніяк не раблюся такі, як Мішка* (А. Я к і м о в і ч. Васількі). *Калі ж часам яго выпусцяць разам з намі (г э т а з а л е ж ы ц ь а д т а г о, я к і н а г л я д ч ы к с т а і ц ь п р ы к л ю ч а х), ён, босы, галопам бегае па калідоры другога паверха* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 876. Асабліва шырока распаўсюджаны ўстаўныя сказы, якія адносяцца да ўсяго зместу асноўнага сказа. Часцей за ўсё такія ўстаўныя сказы маюць розную форму простых сказаў, уведзеных у структуру асноўнага сказа бяззлучнікавым або злучнікавым спосабам. Бяззлучнікавыя ўстаўныя сказы ўжываюцца:

а) для дапаўнення і развіцця зместу асноўнага сказа: *Уцалела некалькі кароў (н а і х в я с н о й а р а л і)* (І. Г у р с к і. Свежы вецер). *У нашай вёсцы не было школы (я н а б ы л а з а 10 в ё р с т)* (Я. М а ў р. Шлях з цемры). *Хлопец спіць (с о н у я г о с п а к о й н ы)* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Там нехта крычыць (у г о л а с е ч у в а ц ь п а г р о з а)* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак);

б) для раскрыцця і падагульнення зместу асноўнага сказа: *З высокай пастаўні старой сасны цярушыцца апад (ж а ў н а к а р у м я д з я н у ю д з я ў б л а)* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *След пайшоў (н а ц я р у ш а н а б ы л о) аж пад самую адрыну Наздрэйкаву* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Ля канторы стаяла легкавая машына (н е х т а п р ы е х а ў)* (І. Г у р с к і. Свежы вецер). *Чыноўнік толькі лыпнуў вокам і павярнуўся к дзядзьку бокам ды водзіць пёркам па паперы (т а к і ў ж о п а ч о т с я р м я з е!)* (Я. К о л а с. Новая зямля);

в) для тлумачэння прычыны і падкрэслівання выніку: *Чырвонаармейцы прыходзілі да Аўдзея шашкі вастрыць (у я г о т а ч ы л а ё с ц ь)* (К. К р а п і в а. Вайна). *Паснедаўшы сырадоем з хлебам, Васіль выйшаў на гарод (ё н п а з б я г а ў х а д з і ц ь п а в у л і ц ы ў т а к і ч а с)* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Валатовіч супыняе (ц і ш ы н я н а с т а л а ў х а ц е)* (П. Б р о ў к а. Чырвон-гарадок). *Буслы над возерам замёрлі (н а с а х а п і л а ц і ш ы н я)* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі);

г) для ўказання на абставіны, якія абумоўліваюць або суправаджаюць тое, што абазначана зместам асноўнага сказа: *У крылах вакзала — б а ч н а п р а з в о к н ы — шугае згусклы дым* (Х. Ш ы н к л е р. Блок). *Перад ім — н е в е р а ц ь в о ч ы — гаспадар!* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Векапомная восень). *У травах лежучы (з а к р а й з н і к а л а с о н ц а), пра будучнасць мы марылі з табой* (А. К у л я ш о ў. Дарогі). *Я дадому пайшла (с п е ў н а ч л е ж н і к а ў ч у ў с я н а л я д а х)* (М. Т а н к. Пісьмо Марылі);

д) для мімаходных заўваг адносна зместу асноўнага сказа: *Міхал — н а в о ш т а ў ж о т а і ц ц а? — любіў-такі павесяліцца* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Я (б ы л о ж н я м а л а н а с) чакаў павесткі кожны вечар* (А. З в о н а к. У дні вайны). *Сялом — у с е т а к р о б я ц ь! —*

*красуем цэлы дзень* (А. Куляшоў. Ельнік). *У яе былі нейкія непрыемнасці — у каго іх няма!* (У. Шахавец. Месца ў жыцці).

Сярод злучнікаў, пры дапамозе якіх устаўныя сказы ўводзяцца ў структуру асноўнага сказа, сустракаюцца ў асноўным злучальныя *і, а* і падпарадкавальныя *хоць, бо.* Устаўныя сказы са злучнікам *і* звычайна служаць для ўдакладнення і тлумачэння зместу асноўнага сказа: *Дзед Талаш нарэшце запыніўся — і гэта было цэнтральным месцам яго апавядання — на здзеках акупантаў над людзьмі* (Я. Колас. Дрыгва). *Найбольш яму падабалася — і ў гэтым ён чамусьці саромеўся прызнацца — тая разбуральная сіла, якая дзейнічала на велізарнай прасторы* (А. Асіпенка. Вогненны азімут).

Устаўныя сказы са злучнікам *а* ўжываюцца для перадачы дадатковых заўваг, якія супрацьстаўляюцца зместу асноўнага сказа або дапаўняюць ці пашыраюць гэты змест: *Сын табакурам заўзятым зрабіўся (а не цягнула ж да курыва змалку)* (П. Панчанка. Прычына). *Вось і чын у Лыскі новы (а ранейшы — знік)* (К. Крапіва. У папа ды быў сабака). *Не з хлапцоў пачаў ён, а з дзяўчыны пошукі вандроўныя свае (а для гэтага прычын стае)* (А. Куляшоў. Бюро даведак). *Слухай, Петрык, збегай к маме, возьмеш хлеба, сала (а за грэбляй між лясамі вёска іх стаяла)* (Я. Колас. Матчына прычытанне).

Устаўныя сказы са злучнікам *хоць* ужываюцца для перадачы дадатковых заўваг, якія маюць уступальнае адценне: *Пытаю ў птушак я (хоць я не адвакат)* (А. Куляшоў. Глушцы). *Мне не лёгка растацца з табою (хоць даўно ўжо мінуў аўдыенцыі час)* (М. Танк. У Луўры).

Устаўныя сказы са злучнікам *бо* служаць для перадачы дадатковых заўваг, якія маюць прычыннае адценне: *Зноў штодзень яму без жалю плечы трэ хамут (бо не ў зямлю ж жывому лезці)* (К. Крапіва. Вараны). *Нават агульны выгляд твару меў характар цікавай асаблівасці (бо і дрэва мае свой воблік)* (Я. Колас. Адзінокае дрэва).

Зрэдку сустракаюцца ўстаўныя сказы, якія маюць форму складаных сказаў. Як правіла, такія сказы звычайна ўводзяцца ў структуру асноўнага сказа бяззлучнікавым спосабам і служаць для перадачы дадатковых заўваг, якія пашыраюць або тлумачаць змест гэтага сказа: *Сідарка цяпер вымушаны быў моцна трымацца за аглабіны (дарога віляла па карэнні і калдобінах, і яшчэ больш трасло сна пы)* (І. Пташнікаў. Не па дарозе). *Па сцяне ад ганка расце шырокі куст (Казік потым казаў мне, што гэта расце вінаград)* (С. Баранавых. Пастка). *Ад малодшага брата Колі не было ніякіх вестак (потым высветлілася — ён загінуў)* (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

Часам у склад устаўных сказаў, якія адносяцца да ўсяго зместу асноўнага сказа, уваходзяць пабочныя словы. У гэтым выпадку ўдакладненне або канкрэтызацыя зместу асноўнага сказа заўсёды суправаджаецца адпаведнымі мадальнымі адценнямі: *Валасы над вушыма ў яго былі яшчэ мокрыя (відаць, ён толькі што памыўся, вярнуўшыся з працы)* (К. Чорны. Браты). *Сцяпана зноў жа сон змарыў (хоць ён, здаецца, не курыў)* (К. Крапіва. Сука ў збане). *Тут давялося ёй (а можа гэта не раз бывае) час ад часу спрабаваць ветру і пылу* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 877. У радзе выпадкаў устаўныя сказы адносяцца да зместу папярэдняга сказа, але не ўваходзяць у яго структуру. Яны могуць мець форму простых ці складаных сказаў, якія далучаюцца да папярэдняга сказа бяззлучнікавым або злучнікавым спосабам. Такія ўстаўныя сказы з'яўляюцца сінтаксічна самастойнымі і служаць для перадачы дадатковых заўваг, якія ўдакладняюць, пашыраюць, абмяжоўваюць ці тлума-

чаць змест папярэдняга (асноўнага) сказа: *Я размяк. (Душа ў паэта чулая.)* (П. Панчанка. Беластоцкія вітрыны). *Ён адкрывае чамадан драйляны і скрынку металічную на стол кладзе. (Патроны некалі і тол хавалі ў гэткіх скрынках партызаны.)* (А. Зарыцкі. Аповесць пра залатое дно). *Натоўпу дайно ўжо не было на вуліцы. (А я крычу!)* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *У мамы зубы забалелі. (Каб вы такой прыемнасці не мелі.)* (К. Крапіва. Зубы). *Яна будзе адна, апранутая для сустрэчы пасвяточнаму. (Яна жадала, каб у гэты момант нікога не было ў хаце — ні Пятра, ні Алесі.)* (І. Шамякін. У добры час).

Падобныя ўстаўныя сказы афармляюцца часам у выглядзе прамой мовы (са словамі аўтара ці без іх): *Маша наблізілася да яго, пяшчотна пагладзіла любыя, белыя валасы. («Зусім як у Сямёна», — падумала яна.)* (І. Мележ. Ноччу). *Марцін тут ходзіць паранены, скалечаны... («Як шкода, што няма яго Ганны!..»)* (І. Мележ. Павел прыехаў).

§ 878. Устаўныя сказы, якія з'яўляюцца сінтаксічна самастойнымі, могуць адносіцца не да аднаго, а да некалькіх папярэдніх сказаў. У такім выпадку ўстаўныя сказы звычайна ўдакладняюць або пашыраюць змест таго, што абазначана папярэднімі сказамі: *Было ясна, сонечна. Пасля пайдня моцна прыгрэла сонца. З дрэў закапала снегавая вада. (Былі апошнія дні лютага.)* (К. Чорны. Вясна). *Успаміны плывуць, агартаюць чало. Беларусь! Беларусь! (А палеткі бягуць...)* (П. Глебка. У падарожжы). *Лаўрэн хапае стрэльбу, нацэльваецца. Палец сціскае курок... Асечка! (Пістоны за пазухай, няма часу выцягваць.) Зноў узведзены курок... Зноў асечка!* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

## ВІДЫ ПРОСТЫХ СКАЗАЎ

### АДНАСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 879. Сказы з адным галоўным членам, які часцей за ўсё суадносіцца з дзейнікам або выказнікам двухсастаўнага сказа і называе прадмет, з'яву, дзеянне, адначасова выражаючы адносіны да рэчаіснасці, з'яўляюцца аднасастаўнымі. Адсутнасць другога галоўнага члена не з'яўляецца паказчыкам непаўнаты сказа, гэта характэрная асаблівасць яго структуры.

Галоўны член аднасастаўных сказаў з'яўляецца незалежным словам. Усе аднасастаўныя сказы, за выключэннем слоў-сказаў, могуць быць развітымі і неразвітымі, г. зн. паясняцца або не паясняцца даданымі членамі.

Аднасастаўныя сказы нярэдка ўжываюцца ў саставе складаназлучаных і складаназалежных сказаў.

### ПЭЎНА-АСАБОВЫЯ СКАЗЫ

§ 880. Пэўна-асабовымі называюцца аднасастаўныя бяздзейнікавыя сказы з галоўным членам — дзеясловам 1-й або 2-й асобы адзіночнага ці множнага ліку цяперашняга і будучага часу. У якасці галоўнага члена пэўна-асабовага сказа можа выступаць і дзеяслоў у форме 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу.

Пэўна-асабовыя сказы сінанімічны двухсастаўным сказам, у якіх

ролю дзейніка выконвае асабовы займеннік. Ужыванне такога дзейніка не абавязковае з-за таго, што ўжо ў самой форме дзеяслова выражаецца катэгорыя асобы: форма 1-й асобы ўказвае на таго, хто гаворыць, форма 2-й асобы ўказвае на субяседніка. Толькі пры лагічным падкрэсліванні суб'екта дзеяння асабовы займеннік з'яўляецца неабходным кампанентам структуры сказа: *Вы мелодый не слухаеце, а я — прыкладаю вуха да долу: з Надазер'я, над лугам вясна завілася столкамі* (У. Дубоўка. Вы мелодый не слухаеце...). *«Задушу!» — хрыпеў ён, як звер, сціснуўшы аб'ездчыка за горла* (Я. Колас. Малады дубок). *Камендант, адарваўшыся ад папер, коратка запытаў яго: «Ну, што? Ведаеш?»* (М. Лынькоў. Салют). *Настае і развітанне. Сэрца торгае трывога. Покуль «МАЗ» ля хаты стане, пасядзім перад дарогай* (У. Дубоўка. Настае і развітанне). *Марына паціснула плячыма, як бы сказаўшы: «А мне што да таго? Як хочаце, так і рабіце»* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Не стаў сабе дачасна помнік і у бяссмерце не спяшы, лаві не ўласнай славы промні, а сонца кожнае душы* (П. Панчанка. Ямбы).

У пэўна-асабовых сказах больш выдзяляюцца дзеянні, іх змена. Яны маюць значнае пашырэнне ў размоўным стылі і ў мове паэзіі.

## АБАГУЛЬНЕНА-АСАБОВЫЯ СКАЗЫ

§ 881. Абагульнена-асабовымі называюцца такія аднасастаўныя сказы, у якіх дзеянне, абазначанае дзеясловам, можа адносіцца да любой асобы, да кожнага, хто аказваецца ў адпаведных умовах. Галоўны член абагульнена-асабовых сказаў выражаецца дзеясловам у форме 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу, нярэдка — дзеясловам у форме 2-й асобы загаднага ладу, у форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу, у форме 1-й або 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу: *Як дбаеш, так і маеш. Не рабі ліхога і не бойся нікога. Пераначуем — болей пачуем* (народн.).

§ 882. Часцей за ўсё галоўны член абагульнена-асабовага сказа выражаецца дзеясловам у форме 2-й асобы цяперашняга ці будучага простага часу. Дзеянне, абазначанае дзеясловам, уяўляецца такім, якое можа ўтварыць любая асоба, г. зн. суб'ект дзеяння ўспрымаецца як абагульненая асоба. Многія з такіх сказаў маюць мадальнае значэнне магчымасці або немагчымасці дзеяння: *Чаго спяшацца, надвор'е гэткае добрае, у такі час адпачываеш толькі на дварэ, здорава гэта* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Бо што ж чалавеку болей трэба, як не імкненне? З імкненнем абойдзеш зямлю — з добрым, прыгожым, — не заблудзіш на моры і ў лесе* (В. Каваль. Ноч). *Шчасце — нідзе не спыняцца ў дарозе, спынішся — плынню адгоніць назад* (С. Грахоўскі. Плынь). *Адразу ўсяго не раскажаш* (К. Чорны. Зямля). *Прыйшла пара для песні — не супыніш лёт* (У. Дубоўка. Ідзе май). *І ўсё робіцца, як намечана, — свайго шчасця не абмінеш* (П. Панчанка. Сват). *А каханне прыйшло — не ўтрымаеш у жмені* (М. Лужанін. Пацалунак).

Агульны характар дзеяння і абагульненасць асобы, якая ўтварае гэта дзеянне, прыводзяць да таго, што такія абагульнена-асабовыя сказы ўспрымаюцца часта як вывад, павучанне, заключэнне і г. д. Нездарма такімі сказамі з'яўляюцца многія прыказкі і прымаўкі: *Панскае работы не пераробіш. За багацце розуму не купіш. Жывучы, усім не ўнаровіш. На дзень станеш — на два адстанеш. Глыбей узарэш — болей збярэш. Ці мала да чаго прывыкнеш, а да хваробы ніколі.*

§ 883. Абагульнена-асабовыя сказы з галоўным членам — дзеясловам у форме 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага про-

стага часу ўжываюцца і для перадачы дзеяння канкрэтнай асобы, пераважна дзеяння, якое ўтвараецца тым, хто гаворыць. У такім сказе гаворыцца пра дзеянні, якія часта паўтараліся ці паўтараюцца, якія пры адпаведных акалічнасцях утвараюць многія асобы. У абагульнена-асабовых сказах з такім значэннем нярэдка ўжываецца часціца *бывала: А-ах, дзеўкі. А ці ж я вам пáра? У такую парý, б ы в а л а, як была маладзейшаю, в ы й д з е ш на загуменне, як з а п я е ш вясновую з падругамі, аж паветра дрыжыць* (В. К а в а л ь. Як вясну гукалі). *Шапочучы падае* [ліст], *ападзе — і зноў лес маўчыць. І д з е ш пад цёмназялёныя шаты ельніку, і ў зацені яго такая празрыстасць, што дробную іголіцу ці порсткую з вусамі мурашку п р ы м е ц і ш на адлегласці* (І. Г р а м о в і ч. У лесе на палянцы). *Калі г л я д з і ш на маленькую металічную фігурку зубра на радыятары аўтамабіля, перад вачыма паўстае той слаўны, імклівы шлях, які прайшла Савецкая Беларусь* (В. В о л ь с к і. Родны край). *Быў шынель нам і за адзежу, а ўначы ён служыў і за коўдру. Мешкавіны кавалак а д р э ж а ш — вось і шалік на шыю добры* (У. Д у б о ў к а. Студэнт).

§ 884. Значнае пашырэнне ў беларускай мове маюць абагульнена-асабовыя сказы з галоўным членам — дзеясловам у форме 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу. Перш за ўсё тут выдзяляюцца сказы са значэннем парады, павучання, папярэджання, якія адносяцца да многіх ці да ўсіх людзей, а не толькі да субяседніка, у асноўным — гэта прыказкі і прымаўкі: *Меней г а в а р ы, болей пачуеш. Не ўсё тое б я р ы, што хараша. Новых сяброў н а б ы в а й, а старых не з а б ы в а й. Б е р а ж ы бацькаву капейку, то і сваю здабудзеш. За мухай не г а н я й с я з абухам* (народн.). *Чалавека с л у х а й, а сваю думку м е й* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Старыя робяць крыху інакш, па другому прынцыпу: болей р а б і і меней г а в а р ы пра гэта* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

У абагульнена-асабовых сказах можа гаварыцца пра дзеянне, якое з'яўляецца непазбежным, але непрыемным, вымушаным, пра дзеянне, якое ацэньваецца іранічна: *Трэба тут з сілай ды не з малою, а потым ш о р г а й яшчэ пілою, так натрэш і мазоль часамі; а потым — г н і с я, к л а д з і на сані ды цаліною т р а л ю й да дарогі* (К. К р а п і в а. Лясная песня). *Так і с а ч ы за ім, каб не ўкраў хаця больш ужо* (П. Г а л а в а ч. Рубанаўскі вузел). *Уга, цябе п а с л у х а й, ты ў нас гаваркі* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Бываюць такія зайздросныя людзі. Скажа, што з-пад ягонай стрэльбы ўзяў звера, і д з я л і с я з ім немаведама за што!* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *А бра-атка! Што ж тады будзе? Якое ж тады жыццё настане? Гэта ж спакойна не пажывеш... Усё г н і с я, с п я ш а й с я зрабіць...* (І. Г р а м о в і ч. У лесе на палянцы).

Сказы з формай 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу могуць абазначаць дзеянне, якое абумоўлівае іншае дзеянне. Такія абагульнена-асабовыя сказы ўваходзяць у састаў складанага сказа з прычынна-выніковымі адносінамі, прычым на першым месцы звычайна знаходзіцца абагульнена-асабовы сказ з формай загаднага ладу: *Глядзіць, здаецца, і не зварухнецца, а з а п ы т а й яго, што ён там бача, — хіба адкажа* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *От в а з ь м і кавалак, п а к л а д з і яго на сонца ўлетку — і нізашто не растане, от гэта масла* (Р. М у р а ш к а. Салаўі святога Палікара). *З а г л я н і цяпер да нарачанцаў. Раз вугра іх тлустага з'я с і, пра цану не с т а н е ш больш спрачацца* (П. П а н ч а н к а. На рынку). *А п а в я р н і с я назад — і ў б а ч ы ш яшчэ адно дзіва прыроды — лес* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, другім сказам нярэдка з'яўляецца абагульнена-асабовы з галоўным членам — дзеясловам у форме 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага часу.

§ 885. Абагульнена-асабовымі сказамі па форме з'яўляюцца спалучэнні тыпу *хоць пакацiся, куды ні глянь, што ні рабі, як ні круці* і інш. Яны адыгрываюць ролю даданага сказа пры галоўным, але ў сучаснай беларускай мове ва ўсё большай ступені набываюць устойлівы характар. Асабліва пашыраны ўстойлівыя спалучэнні са словам *хоць: хоць махалам махай, хоць на вецер пусці, хоць рэпу сей, хоць вяроўкі ві, хоць кол на галаве чашы, хоць вока выкалі, хоць гаць гаці, хоць дарма аддавай* і інш.: *Куды ні зірні — усюды лес ды лес, — таемны, магутны, прыгожы* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Калі табе зайшло за сорак, як ні круці — не малады!* (М. Лужанін. Роздум). *«А, браткі ж мае, — гаварыў часам «дзядзька», спускаючыся з мокрага ганку, — вось цемрыва, хоць на воўка ўссунься, а-я-яй!»* (К. Чорны. Максімка). *Было цёмна, хоць вока выкалі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *А за Мядзведкай — цэлае возера, хоць садзіся на лодку і шыбуй прама на курган, дзе скіданы стагі* (І. Навуменка. Хлопцы-равеснікі).

§ 886. Вельмі рэдка ўжываюцца абагульнена-асабовыя сказы з галоўным членам — дзеясловам у формах 1-й і 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу: *Увосень за стол просім. Сядзем у рад — тата будзе рад. Як маем, так ужываем. Добра працуем — калгас мацуем. Хваліце мяне, а я вас* (народн.).

§ 887. У якасці галоўнага члена абагульнена-асабовага сказа можа выступаць дзеяслоў у форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу. Сказы з такім галоўным членам сустракаюцца нячаста: Пытляваны. *Ад дабра дабра не шукаюць* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Хваробу лечаць і атрутамі* (М. Багдановіч. Уступ). *Аб адсутных не гавораць кепска* (І. Шамякін. Крыніцы). *У госці запрашаюць сяброў сям'і* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *З сваёю цаною на кірмаш не едуць. Клін клінам выганяюць* (народн.).

§ 888. У абагульнена-асабовых сказах пры галоўным члене, выражаным дзеясловам у формах 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу, загаднага ладу, 1-й і 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу, формай множнага ліку прошлага часу, магчыма ўжыванне дзейніка — асабовага займенніка. Гэты займеннік страчвае ў многім сваё лексічнае значэнне і з'яўляецца самым агульным указаннем на асобу. Наяўнасць такога па сутнасці фармальнага дзейніка не змяняе тыпу сказа, ён па-ранейшаму захоўвае свой абагульнена-асабовы характар: *Гэта ж добра вядома старым і малым: на рабоце не возьмеш гарбом ты адным* (У. Дубоўка. Дзяўчына і кілім). *Так заўсёды бывае: не можаш ніяк пагадзіцца з аднастайнасцю рэчаў, і звычак, і фарбаў, і слоў, і зямля невядомая ноччу вясноваю сніцца, і ты марыш пра лёгкія крыллі залётных буслоў* (П. Панчанка. І скрыпяць, і скрыпяць). *А ты бяжыш следам за берагам, каб чарпануць вады. І толькі ты сагнешся — хваля зноў як плясне. І бераг твой пабег, пабег, а ты ўжо стаіш у вадзе. І ты з вады ўцякай, бо хваля другая таксама — як плясне!..* (Я. Брыль. Туга). *Ты вось адгаблюй добра дошку, адпаліруй яе як след, пусці добрую палітуру, і воку твайму прыемна!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мы ім пакажам, колькі мы важым. Будзем мы то будуць і грошы* (народн.). *У кожнага мара свая залатая, якую мы песцім, гадуем і любім* (П. Панчанка. Калумбы). *Праходзячы з залы ў залу і сузіраючы творы вялікіх мастакоў, вы, нарэшце, пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў* (К. Крапіва. Лондан). *Згодзен, аднак заўважце, усё, што робіцца ўпотай ад другога, з'яўляецца здрадай дружбе, бо ў такім выпадку вы кіруецеся толькі ўласнай выгадай, а не выгадай для вас абаіх* (А. Чарнышэвіч. Дробязі).

§ 889. Сказы, якія абазначаюць дзеянне, што ўтвараецца неабазначанымі няпэўнымі асобамі, называюцца няпэўна-асабовымі. Галоўны член гэтых сказаў выражаецца дзеясловам у форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага часу, формай множнага ліку прошлага часу абвеснага ладу: *Званяць у калгасе!* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Там адразу з парадамі вернымі чула схіляцца над табой: «Не хвалюйцеся... Кепска з нервамі...»* (П. Панчанка. Пра гэта). *Вось і драбіны табе прынеслі* (Я. Колас. Недаступны). *На Бушмара наклалі вялікі штраф* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

Няпэўна-асабовыя сказы пашыраны ў гутарковай мове, у кніжных стылях яны амаль не ўжываюцца. Часам толькі гэтыя сказы сустракаюцца ў аб'явах, афіцыйных паведамленнях, у некаторых відах газетных матэрыялаў: *Тут прадаюць білеты на вячэрнія сеансы.* Рубрыкі ў газетах і часопісах: *Нам пішуць. Нам паведамляюць. «Вожыку» адказваюць. З Віктарам нямала гутарылі ў камітэце камсамола* (з газет).

Абазначэнне асобы-дзеяча ў няпэўна-асабовых сказах непатрэбна, бо асноўная ўвага тут аддаецца дзеянню, якое ўтвараецца няпэўнай колькасцю асоб. Няпэўнасць асобы ў гэтай групе сказаў выражаецца самім тыпам канструкцыі, яна мае сінтаксічны характар: *Па натоўпу хваляй прайшлі галасы: «Б'юць! Зноў б'юць іх!»* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Бацьку яго забілі на вайне з польскімі панамі, у дваццатым годзе* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Адвозілі іх на казённых санках падвечар. Галасілі нема бабы* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе).

§ 890. Дзеянне, якое абазначана дзеясловам — галоўным членам няпэўна-асабовага сказа, звычайна адносіцца да няпэўнай колькасці асоб: *Асабліва не паказвайся* [Гумоўскі] *на людзі пасля таго, як абрэзалі ў яго зямлю* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). Зяма. *Ой, там ідуць.* Валошын. *Ідуць? Чужыя? Нашы?* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Каля Мікітавых гулялі, бо гэта было ў нядзелю* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў, не пакідалі на камені камень* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *Яго праводзілі авацыяй. Білі ў ладкі, крычалі, нагамі стукалі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

Такія няпэўна-асабовыя сказы ўжываюцца і ў аўтарскіх рэмарках, што ўводзяць прамую мову: *Выходзяць з хат усе. (Чаго? — каб іх спыталі.)* (А. Куляшоў. Музыка). *«Выпі вады!» — крыкнулі яму* (І. Шамякін. Крыніцы). *«Бо смерць прыйшла», — адказвалі нам* (К. Чорны. Зямля).

§ 891. Калі ў няпэўна-асабовым сказе ўказваецца на месца, дзе адбываецца дзеянне, то няпэўная асоба выступае як абагульненая, але разам з тым аслабляецца ў некаторай ступені значэнне няпэўнасці асобы: *У хаце пасварыліся* (К. Чорны. Нянавісць). Нодэльман. *З падшэфнага калгаса пішуць* (К. Крапіва. Канец дружбы). *У гарах і ў доме адпачынку чулі ўначы крык з мора* (В. Каваль. Ноч на моры). *Спяць у вагоне, імчыцца цягнік* (У. Дубоўка. Кругі). *У штабе Мірона Іванавіча радаваліся і сумавалі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І ў натоўпе крычалі. І кідалі ўгару шапкі і лоўка лавілі іх, калі яны ляцелі ўніз* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

§ 892. З кантэксту часам бывае вядома, што за асобы ўтвараюць дзеянне, пра якое гаворыцца ў няпэўна-асабовым сказе: *Незнаёмы правёў Каленіка да самай хаты. У хаце яго не адразу пазналі. Старая маці, якая была пасадзіла дзяцей есці, узнялася з-за стала, абтрэсла*

*фартух і, толькі прыгледзеўшыся, падалася да сына: «Рыгорка!.. Дзеткі... гэта ж бацька прыйшоў»* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). *Першы раз, калі Юрку ўзялі туды, ён спачатку глядзеў, потым драмаў, а тады і зусім заснуў у таты на каленях. І мама сказала, што лепш ужо яна сама не пойдзе ў кіно, але ж і дзіцяці марнаваць не будзе... І Юрку ўжо не бяруць у кіно* (Я. Брыль. Туга).

§ 893. Няпэўна-асабовы сказ можа абазначаць дзеянне адной асобы. Галоўны член сказа ў такім выпадку як бы адыгрывае ролю дзеяслова ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку. Гэта асоба, пра дзеянне якой паведамляе няпэўна-асабовы сказ, вядома ці невядома з кантэксту. Як пра дзеянне няпэўнай асобы ў гэтых сказах можа гаварыцца і тады, калі субяседнік ці субяседнікі ведаюць, хто ўтварае дзеянне, але афармленне канструкцыі як няпэўна-асабовай мае стылістычны характар. *«Цябе не выклікалі* (з шырокага кантэксту вядома, што да дошкі выклікала настаўніца. — *Б. Л.), ты і сядзі», — пакрыўдзілася Насця* (К. Чорны. Насцечка). *Раіна доўга стукала, пакуль ёй адчынілі. «Хто ты і адкуль?» — спытаўся фельчар* (М. Танк. Янук Сяліба). *«Вам Наталля Пятроўна загадала ляжаць», — дакорліва сказала Раіса з парога... «А мне загадалі ляжаць!» — ужо сапраўды нездаволена адказаў ён і, зняўшы акуляры, пайшоў у пакой* (І. Шамякін. Крыніцы). *Здалёк* [Іра] *паклікала: «Наташка! Хадзем на луг!..» Запрашэння Ірынага яна не пачула. Галіна Адамаўна сказала: «Наташа, цябе клічуць»* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *«А я не жартавала ў пісьме. Да мяне сапраўды сваталіся... Ды не сам жаніх, а яго маці», — і яна расказала ўсё* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Зайдзі да мяне, Антон. Я напаю цябе вадой. Толькі што прынеслі сіфон* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 894. Галоўны член няпэўна-асабовага сказа можа абазначаць дзеянне таго, хто гаворыць. Форма 3-й асобы множнага ліку тут па сутнасці выступае ў функцыі 1-й асобы адзіночнага ліку. Гэтыя сказы ўжываюцца даволі рэдка, служаць яны для большай катэгарычнасці сцвярджэння, загаду, пры паўтарэнні просьбы ці загаду (*у цябе пытаюць, табе кажуць, цябе просяць* і інш.). *«Майка Светлік!» — голас грубы, патрабавальны. Схамянулася: пераклічка! Ледзь паднялася на ногі. «Ты што ж, шэльма, не адгукаешся, калі цябе клічуць?..»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Званская. *Каханы мой, не гавары пра смерць. Калі ты будзеш верыць у жыццё і будзеш помніць, што цябе чакаюць... ты вернешся* (П. Глебка. Святло з Усходу).

§ 895. Па форме да няпэўна-асабовых адносяцца і сказы, якія не даюць уяўлення аб дзейнай асобе,— гэта сказы тыпу *Як цябе завуць?: Як жа вас завуць?* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *То калі вы не грэбуеце, пазнаёмімся. Завуць мяне Язэп Сівец* (А. Чарнышэвіч. Злачынец). *Вёску звалі Дзяругі* (В. Каваль. За доляю).

## БЕЗАСАБОВЫЯ СКАЗЫ

§ 896. Аднасастаўныя бяздзейнікавыя сказы, у якіх галоўны член абазначае працэс ці стан, незалежны ад актыўнага дзеяча, называюцца безасабовымі. У адрозненне ад няпэўна-асабовых і абагульнена-асабовых сказаў у безасабовых сказах дзейнік не толькі не абазначаны, але і не падразумяваецца.

Безасабовыя сказы абазначаюць з'явы прыроды, псіхічны або фізічны стан чалавека або жывой істоты, дзеянні ці працэсы, якія адбываюцца незалежна ад дзеяча, быццам самі па сабе.

Галоўны член безасабовых сказаў часцей за ўсё выражан безасабовымі дзеясловамі ці асабовымі дзеясловамі ў безасабовым значэнні, безасабова-прэдыкатыўнымі словамі (прэдыкатыўнымі прыслоўямі),

кароткімі дзеепрыметнікамі залежнага стану: *Срэбнай рыбы поўны лодкі. Запяваюць песню недзе.* *В е ч а р э е...* *Зор паводка... Колер золата і медзі* (П. П а н ч а н к а. Шчаслівы верасень). *Іду сцяжынкаю, і проста з в а л ь в а е з ног — так х о ч а ц ц а с п а ц ь* (М. Л у п с я к о ў. На вірах). *А тым часам на небе і сапраўды р а с ч ы ш ч а л а с я. Фельчар сказаў: «Па поўдні зусім р а с п а г о д з і ц ц а»* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *С т р а ш н а б ы л о тут уночы* (Я. К о л а с. Чорт). А з о р ы ч. *Пра гэта ўсё н а п і с а н а вось тут* (П. Г л е б к а. Святло з Усходу).

Ад таго, чым выражан галоўны член, залежыць аднесенасць сказа да пэўнай групы безасабовых сказаў. Гэта ж уплывае і на семантычныя асаблівасці безасабовага сказа.

§ 897. Безасабовыя сказы з галоўным членам — безасабовым дзеясловам. Аднасастаўныя сказы з такім галоўным членам складаюць пераважную большасць безасабовых сказаў. Гэта найбольш яркі выпадак выражэння безасабовасці: марфалагічнае выражэнне галоўнага члена цалкам адпавядае сінтаксічнаму тыпу сказа.

Галоўны член безасабовага сказа, выражаны безасабовым дзеясловам, у сілу сваёй прыроды не можа мець пры сабе дзейніка. Гэтыя дзеясловы ўжываюцца ў цяперашнім, прошлым ці будучым часе абвеснага ладу, могуць мець форму ўмоўнага ладу і інфінітыва. Яны не змяняюцца па асобах і не маюць катэгорыі асобы. У цяперашнім і будучым часе яны супадаюць з формай 3-й асобы адзіночнага ліку, а ў прошлым часе і ўмоўным ладзе — з формай ніякага роду.

Галоўны член безасабовага сказа можа быць выражан безасабовым дзеясловам з суфіксам *-ся(-ца)* ці без яго: *В е ч а р э е. Дзень даўно павесіў на сасне сваю касу зары* (М. Т а н к. Дарогай з сенажаці). *В е ч а р э л а, калі Лукаш Малюга пад'язджаў да свае вёскі* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Зразумеў). *Мне не б у д з е спакойна с п а ц ц а, я не выпушчу стрэльбы з рукі, пакуль ёсць паны ў палацах, пакуль ёсць на зямлі жабракі* (П. П а н ч а н к а. Жабракі). *Як х а ц е л а с я б гэтых п а б а ч ы ц ь сяброў: самых сціплых і самых найлепшых!* (У. Д у б о ў к а. Перад іменем любові).

§ 898. Як вядома, безасабовых дзеясловаў без суфікса *-ся(-ца)* параўнальна нямнога. Яны пераважна абазначаюць з'явы прыроды, фізічны і псіхічны стан чалавека, дзеянне стыхійнай сілы. Безасабовыя дзеясловы могуць мець таксама значэнне, звязанае з уяўленнем пра лёс, а таксама значэнне наяўнасці ці недахвату. Такое ж значэнне маюць і безасабовыя сказы, у якіх ролю галоўнага члена выконваюць гэтыя дзеясловы. *С в і т а л а. Пад ботамі скрыпеў марозны снег* (Я. Б р ы л ь. Праведнікі і зладзеі). М а р ф а П я т р о ў н а. *А д л я г л о? Ну, то я пайду* (К. К р а п і в а. З народам). *І вось урэшце Івану Іванавічу п а ш а н ц а в а л а* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *На гэта ў мяне лесу х о п і ц ь* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо).

§ 899. Безасабовыя сказы могуць быць неразвітымі і развітымі. У неразвітым безасабовым сказе няма даданых членаў *(Світае)*. Неразвітымі з'яўляюцца і такія безасабовыя сказы, у якіх галоўны член выражан безасабовым дзеясловам у форме інфінітыва незакончанага трывання і дзеясловам у форме цяперашняга, прошлага ці будучага часу са значэннем пачатку дзеяння *(Пачынае світаць)*.

Неразвітыя безасабовыя сказы, як правіла, абазначаюць з'явы прыроды і навакольнай рэчаіснасці. У мове мастацкай літаратуры такія сказы часта пачынаюць апісанні: *П а ц я п л е л а. Вецер сціх. Залаціцца ціхі асенні дзень* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *В е ч а р э л а, і далёкая сінява неба фарбавалася ў ледзь улоўны аранжавы колер* (В. К а в а л ь. Шчасце Сілівея Зязюлі). *Р а з в і д н е л а. А певень людзей не будзіў. Цішыня. Мёртвы попел* (П. П а н ч а н к а. Кожны з нас...). *Ш а р э л а. Вецер дыхаў у цішы густым і п'яным шолахам крушын* (М. Т а н к.

Журавінавы цвет). *П ы л е л а... На скверах, на плошчах шамацела сарванае ветрам жоўтае лісце* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына).

§ 900. Да галоўнага члена безасабовага сказа, які абазначае з'яву прыроды, могуць адносіцца акалічнасці часу, месца, спосабу дзеяння, меры і ступені. Гэтыя акалічнасці выражаюцца прыслоўямі ці назоўнікамі. Такія развітыя безасабовыя сказы асабліва часта ўжываюцца ў апісаннях: *Ц я м н е е ў л е с е. Ноч надходзіць, марозік злёгку націскае. На небе месяц усплывае, задуму смутную наводзіць і лес маўклівы азірае* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Н а д л е с а м п а ч ы н а л а д н е ц ь. Янук зямлянкі асцярожна абмінуў, каб не збудзіць нікога, адчыніў смалярні дзверы* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Пасля абеду н а х м а р ы л а* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні). *Чым далей ішоў Том, тым больш л ю д н е л а* (М. Л у п с я к о ў. Дэлегат кангрэсу). С ы м о н. *Спі. Хутка д н е ц ь б у д з е* (М. Т а н к. Нарач).

§ 901. У безасабовых сказах, галоўны член якіх абазначае фізічны і псіхічны стан чалавека ці наогул жывой істоты, мае значэнне наяўнасці ці недахвату, заўсёды ёсць даданыя члены. Развіты сказ, які абазначае фізічны ці псіхічны стан жывой істоты, мае ў сваім складзе дапаўненне, якое ўказвае на таго, хто ўспрымае дзеянне, названае безасабовым дзеясловам. Калі ў сказе такога дапаўнення няма, то з больш шырокага кантэксту вядома, хто знаходзіцца ў пэўным псіхічным ці фізічным стане, абазначаным безасабовым дзеясловам. Зразумела, што ў такім развітым безасабовым сказе могуць быць і іншыя дапаўненні, і акалічнасці, але яны ў структуры сказа не такія абавязковыя: *Ганна заўважыла, што старая не крыўдуе, і ё й п а л я г ч э л а* (І. М е л е ж. Навальніца над полем). *Марыля ўлезла ў яму, наскрэбла першы кошык гразі з бульбяной гніллю і кастрыцай і, падаючы яго наверх свякрові,— раптам войкнула, кінула кошык і села... Як толькі і прайшла тая ночка! Пад раніцу як быццам а д л я г л о* (Я. Б р ы л ь. Марыля).

Калі значэнне галоўнага члена звязана з паняццямі лёсу, дзеяння невядомай сілы, то ў безасабовым сказе, акрамя прамога дапаўнення, выражанага формай вінавальнага склону назоўніка ці займенніка, ужываецца дапаўненне — інфінітыў. І ў гэтых сказах могуць быць таксама іншыя дапаўненні і акалічнасці: С ы м о н. *К а р ц і ц ь мне д а в е д а ц ц а, што там яму ў двары сказалі* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Найбольш гэта здаралася пасля таго, як яму ш ч а с ц і л а з а р а б і ц ь некалькі грошай* (М. Л у п с я к о ў. Дэлегат кангрэсу). *Ц я г н у л а п а г а в а р ы ц ь зараз аб тым, што чулі са Славіным, але чамусьці трудна было распачаць. А Славін таксама маўчаў, нешта думаў. Мабыць, і я м у к а р ц е л а п а г у т а р ы ц ь, ды не ведаў, як тут пачаць* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). Ч а р н а в у с. *У такім выпадку д а к л а д ч ы к у в е л ь м і п а ш а н ц а в а л а* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім).

Безасабовыя сказы са значэннем наяўнасці ці недахвату абавязкова маюць у сваім складзе дапаўненне — назоўнік ці займеннік у форме роднага склону. Гэты член сказа называе наяўны ці адсутны прадмет. Да дапаўнення можа адносіцца інфінітыў, які або з'яўляецца азначэннем да назоўніка, або ўказвае на мэту. У сказе, безумоўна, могуць быць і іншыя даданыя члены: *Лезь, стараста, дальбог, лезь! Месца х о п і ц ь і табе* (Я. К о л а с. Недаступны). *І сапраўды, працы маці х а п а л а* (М. Л у п с я к о ў. Вясновая навальніца). М і х а л. *Мы з Соняй на службе, на ферме. Там нам х о п і ц ь і працы, і заработкаў* (А. М а к а ё н а к. Лявоніха на арбіце). *Толькі мора ўзбуранага н е х а п а е, хмар чорных і вінтападобных бліскавіц* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Сілачкі мае н е х а п а е далей тут гібець* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо).

Своеасаблівым з'яўляецца такое ўжыванне безасабовага дзеяслова: *Каму с т а л а на юшку, таму с т а н е і на пятрушку* (народн.).

§ 902. Галоўны член безасабовых сказаў можа быць выражан безасабовым дзеясловам з суфіксам *-ся(-ца)*. Гэты дзеяслоў абазначае стан прыроды ці навакольнай рэчаіснасці, пажаданасць, магчымасць, неабходнасць дзеяння, стан жывой істоты, яе схільнасць да пэўнага дзеяння. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца групы дзеясловаў, якія абазначаюць стан жывой істоты і яе схільнасць да пэўнага дзеяння. Такія дзеясловы свабодна ўтвараюцца ад асабовых дзеясловаў у форме 3-й асобы адзіночнага ліку ці ад форм прошлага часу ніякага роду з дапамогай суфікса *-ся(-ца): спіцца, спалася, працуецца, працавалася, чытаецца, чыталася* і інш.

Як і ў сказах з галоўным членам, выражаным безасабовым дзеясловам без суфікса *-ся,* значэнне безасабовых сказаў з безасабовым дзеясловам, які мае суфікс *-ся,* залежыць ад значэння галоўнага члена: *Змяркалася. Сінія горы маўчалі* (П. Панчанка. Слухаючы «Перапёлку»). *Ночка зорамі іскрыцца, не ляжыцца мне, не спіцца* (П. Броўка. Што ты, месяц, выраблявш?). *Дзён тры Лабановічу ўсё ж такі прыйшлося пабыць у воласці на кватэры пісара* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Нікуды ёй ісці не хацелася — толькі многа думалася вельмі* (В. Каваль. Ліпы).

Безасабовыя сказы з галоўным членам — безасабовым дзеясловам з суфіксам *-ся* могуць быць неразвітымі і развітымі.

§ 903. Неразвітыя безасабовыя сказы, галоўны член якіх выражан безасабовым дзеясловам з суфіксам *-ся,* абазначаюць стан прыроды ці стан жывой істоты. Сюды ж адносяцца і такія сказы, у якіх безасабовы дзеяслоў у форме інфінітыва выступае ў спалучэнні з дзеясловам, што мае значэнне пачатку дзеяння: *Сцямнелася... Закінуўшы назад галаву, выліваў раздумны Гарась сваю песенную душу, а хор дзяўчат падцягваў* (В. Каваль. Сіняя восень). *Ляжым. Не спіцца. Ноч. Імжыць імжа. Налева мора, ўперадзе мяжа* (А. Зарыцкі. Пяцёра). *Будзе жыцца ды здаровіцца, то і ўсё будзе!* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Пачынала змяркацца, як паслаў яго ляснічы з лістом да суседняга двара* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

Такія безасабовыя сказы пашыраны ў прыказках і прымаўках: *Не хочацца, дык і не можацца. Калі павядзецца, то і певень нясецца. Не куецца, не плешчацца.*

§ 904. Развітыя сказы з безасабовым дзеясловам, які мае суфікс *-ся,* больш пашыраны ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, чым неразвітыя. Да галоўнага члена, выражанага безасабовым дзеясловам са значэннем стану навакольнай рэчаіснасці ці стану жывой істоты, могуць адносіцца акалічнасці часу, месца, спосабу дзеяння, меры і ступені: *Праясняецца ў лесе* (М. Лупсякоў. Паўнюткі кошык грыбоў). *Ну, людцы, за тое, каб добра жылося, вялося, радзілася, пладзілася і ў палях і ў хлявах* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). Паўлінка. *Э-э, штосьці не пяецца сягоння* (Я. Купала. Паўлінка).

У сказах, якія абазначаюць стан жывой істоты, акрамя акалічнасцей, вельмі часта ўжываюцца дапаўненні — назоўнік ці займеннік у форме давальнага склону, якія ўказваюць на асобу, што адчувае пэўны стан ці схільна да пэўнага дзеяння: *Падышлі да сіня мора. Мора дрэмле, серабрыцца. Толькі аднаму музыку ноччу месячнай не спіцца* (М. Танк. Казка пра музыку). *А Шарэйку ніяк не маўчыцца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Мне здалёк па табе сумавалася часта, я хацеў аднаго — каб да стрэчы дажыць* (М. Лужанін. На вызваленай зямлі). *Працавалася Андрэю сёння лепш, чым калі-небудзь раней* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Не церпіцца Сашу — а як жа там дзеці?* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *Каб яму лёгенька ікнулася!* (народн.).

§ 905. У безасабовых сказах, якія маюць значэнне пажаданасці, вымушанасці, магчымасці або немагчымасці дзеяння, галоўны член выражаецца спалучэннем безасабовага дзеяслова з інфінітывам. У такіх сказах ад галоўнага члена залежаць акалічнасці і дапаўненні. Нярэдка тут ужываюцца дапаўненні — назоўнік ці займеннік у форме давальнага склону, якія ўказваюць на асобу, што ўтварае дзеянне, абазначанае безасабовым дзеясловам і інфінітывам: *Кожны год даводзілася яму ездзіць перад калядамі ў замак* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Ну, хлопча, мусіць, з табою прыйдзецца гаварыць іначай* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Толькі і застаецца ўцякаць ад вас у студню* (Я. Колас. Недаступны). *На жаль, не ўдалося мне паднесці вам пару падарункаў* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Ну, але мне жыць хочацца!* (Я. Купала. Паўлінка). *Пад залатымі сонечнымі промнямі не хочацца і птушкам паміраць, і будуць доўга галасамі сумнымі радзіму жураўліную гукаць* (П. Панчанка. Жуpавы).

§ 906. Вельмі часта ў сучаснай беларускай мове галоўным членам безасабовага сказа з'яўляецца асабовы дзеяслоў у безасабовым значэнні. Гэтыя дзеясловы ў безасабовых сказах маюць форму 3-й асобы адзіночнага ліку або форму ніякага роду прошлага часу.

Безасабовыя сказы з галоўным членам — асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні абазначаюць стан і з'явы прыроды, стан жывой істоты, дзеянні, што ўспрымаюцца як дзеянні невядомай ці міфічнай сілы. Такія безасабовыя сказы ўжываюцца ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры. Часцей за ўсё яны развітыя: *Ну, як вас тут не заліло?* (Я. Брыль. Пад гоман вогнішча). *Іду пехатою ад самай станцыі, а дарога цяпер такая, што... Яшчэ і зверху ўранні падлівала* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *І вось тады падагнала Івана* (Я. Брыль. Марыля). *Ля вірoў плавучы бакен сарвала. Загнала, брат, ажно пад самы той пракляты бераг, у самую вымоіну* (М. Лупсякоў. На вірах). *Але ў галаве страшэнна шумела* (І. Шамякін. Крыніцы). *На вуліцы пахне пылам і прэлым лісцем* (В. Каваль. Сяльчане).

Неразвітыя безасабовыя сказы з галоўным членам — асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні абазначаюць стан прыроды, пачуццёвыя ўспрыманні, радзей — стан жывой істоты і дзеянне як дзеянне невядомай сілы: *Бліснe і грымне... І ў хмарах відны белыя, сінія, чорныя далечы* (М. Лужанін. Перуны). *Так і з вечара было: і грымела, і ліло* (М. Лужанін. Дзявочыя думкі). *Такое надвор'е, што проста не прадыхаць. Пячэ!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Вы не спіцё? Баліць?» — спытала яна ў Сашы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *«Браткі, таварышы! — закрычаў Чыжык. — Прыдушыла! Ратуйце!»* (М. Лупсякоў. Людзі прагнуць).

§ 907. У склад развітых безасабовых сказаў з галоўным членам — асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні могуць уваходзіць акалічнасці часу, месца, спосабу дзеяння, меры і ступені, а таксама іншыя даданыя члены сказа: *Зноў трашчыць у кустах* (Я. Купала. Сон на кургане). *У сенцах раптам загрукала* (М. Танк. Янук Сяліба). *У пячурцы засіпела* (П. Галавач. Спалох на загонах). *На тым беразе зноў заскакаў сіні агеньчык і зноў затахкала. Сціхла, а потым і яшчэ раз* (М. Лупсякоў. Пераправа).

Калі гэтыя сказы абазначаюць стан жывой істоты, то ўказанне на яе ёсць ці ў больш шырокім кантэксце, ці ў самім безасабовым сказе. У апошнім выпадку тут можа быць дапаўненне, выражанае пераважна назоўнікам ці займеннікам з прыназоўнікам *у*: *«Што ж ты не гаворыш, Пятрусь Ігнатавіч?» — пытаем яго. «Га! Не чую! Вушы нешта пазакладала»* (Я. Колас. Стары канакрад). *У вачах яго як бы праcвятлела* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Сярод іх запанавала глыбо-*

*кая трывожная цішыня. Ад гэтай цішыні з в і н е л а ў вушах* (В. К а в а л ь. Ноч на моры). *Ніначка, хадзем дзе пашукаем вады, бо ў роце, у горле п е р а с о х л а, што аж д у ш ы ц ь!* (П. П е с т р а к. Серадзібор). *У мяне з а к і п е л а ў грудзях* (І. Н а в у м е н к а Пераломны ўзрост). *В е с я л е л а на душы ў Малашкіна* (П. П е с т р а к. Серадзібор).

У сказах, дзе ў якасці галоўнага члена выступае дзеяслоў са значэннем актыўнага дзеяння, прамое дапаўненне абазначае прадмет (асобу), на які гэта дзеянне накіравана: *«Як там у вас сенажаць?» — «Т р а в ы с п а л і л а — так суха...»* (М. Т а н к. Нарач). *К а м а н д у ю ч а г а к і н у л а к ветравому шклу* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Падобным жа чынам арганізаваны сказы і ў тых выпадках, калі прамое дапаўненне абазначае істот, якія па сутнасці самі ўтвараюць дзеянне, але дзякуючы своеасаблівай структуры безасабовых сказаў яно ўспрымаецца як дзеянне невядомай, міфічнай сілы, як дзеянне сілы лёсу, накіраванае на гэтыя істоты: *Чаго я г о, гэтага шалёнага клікача, п р ы н е с л а сюды?* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *На трэці дзень на вёску н а н е с л а польскіх л е г і я н е р а ў* (Р. М у р а ш к а. Вінчэсцер). *Мусіць, у некага былі хрэсьбіны, і адразу ж з-за стала л ю д з е й п а в я л о на танцы* (Б. С а ч а н к а. Мальвіна). *«Куды м я н е н я с е?» — прашаптаў Андрэй і вярнуўся назад* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Дзіцятка горкае). *З усяго балота і х с а г н а л а, мусіць* (У. Д у б о ў к а. Як чалавек гарох пільнаваў).

У безасабовых сказах з галоўным членам — асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні, акрамя дапаўнення з указаннем на аб'ект, можа быць дапаўненне, выражанае назоўнікам (радзей — займеннікам) у форме творнага склону, гэта дапаўненне абазначае прадмет, што ўтварае дзеянне. Пры ўскосна-пераходных дзеясловах у дапаўненні аслабляецца значэнне ўтваральніка дзеяння. *Я ў х і м а як бы па галаве абухам с т у к н у л а* (Я. К о л а с. Царскія грошы). *Д ы м а м счарнелыя бэлькі з а с л а л а* (М. Т а н к. Шэрыя хаты). *Д ы п ы л а м з а м я л о, д а ж д ж а м і з м ы л а усе сляды у полі* (М. Т а н к. Нарач). *Выйшаў на вуліцу, дзе а б д а л о яго ядраным марозным п а в е т р а м* (В. К а в а л ь. Сіняя восень). *З двара п а ц я г н у л а ў пакой в е т р а м, і адразу гудкі сталі мацнейшымі, выразнымі* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне). *Ад ручая, з поплава, п а т ы х а л а в і л ь г а ц ц ю і х о л а д а м* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

§ 908. Да безасабовых адносяцца і сказы, у якіх галоўны член выражан спалучэннем дзеяслова *ёсць (было, будзе)* і інфінітыва, ад гэтага галоўнага члена залежаць акалічнасці і дапаўненні. Дапаўненне — займеннік у форме давальнага склону ў гэтым выпадку абазначае асобу, якая ўтварае дзеянне, дапаўненні, выражаныя назоўнікам ці займеннікам у формах ускосных склонаў, абазначаюць асобу ці прадмет, на якія накіравана дзеянне. Часта тут у якасці акалічнасцей выступаюць прыслоўі ці спалучэнні колькаснага лічэбніка з назоўнікам. Наяўнасць даданых членаў сказа пры галоўным члене, выражаным спалучэннем дзеяслова *ёсць (было, будзе)* і інфінітыва, абавязковая. *А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей! А п і с а ц ь ё с ц ь ш м а т ч а г о* (Ф. Б а г у ш э в і ч. Прадмова да зб. «Дудка беларуская»). *А п а д у м а ц ь ёй б ы л о аб чым* (Я. К о л а с. На сваім хлебе). *Табе ж ё с ц ь з кім і с ц і ў кіно.* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *Не б у д з е ў што і з у б ы ў в я з і ц ь* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Куды б ы л о п а д з е ц ь гэты вольны час?* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *«І вы прасядзелі з ім усю ноч у бамбасховішчы?» — недаверліва спытаўся Кох, унікаючы глянуць у вочы інжынера. «А ш т о м н е б ы л о р а б і ц ь?»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

§ 909. Асабовыя дзеясловы з часціцай *-ся(-ца)*, якія выступаюць у безасабовым значэнні, могуць быць галоўнымі членамі безасабовых

сказаў. Гэтыя дзеясловы абазначаюць успрыняцце, праяўленне прыметы, канкрэтнае дзеянне. Да галоўнага члена такога сказа звычайна адносяцца даданыя члены сказа — дапаўненні ці акалічнасці, пераважна часу або месца: *То* *думалася* *Васілю, што ён сам шукае свае магілы, то здаваліся перад ім сцены, камені, гатовыя кожны момант наваліцца на яго ўсім цяжарам* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Сніцца Вялю: пахне шышкамі і мятай* (М. Танк. Сказ пра Вяля). *Хай яму трызніцца, хай яму блюзніцца пра уваскрошанне дзей нежывых — вораг ёсць вораг!* (М. Лужанін. Волжскі сшытак). *Самому не верыцца — гэта ж было спачатку звычайным бярвеннем* (У. Дубоўка. Чаму ж гэта...). *«Што там за трасца гэтакая! Тпру...» — пачулася з воза* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, сказы з дзеясловамі, якія маюць значэнне ўспрыняцця, праяўлення прыметы, пераважна з'яўляюцца часткай складанага сказа ці канструкцыі для перадачы чужога выказвання. Іншыя дзеясловы могуць выступаць і ў простых безасабовых сказах: *Услед закіпела страляніна бліжэй, дзе быў Крайко. Туравец адразу ўстрапянуўся: пачалося!* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *А потым прывыклася. Нібы так і трэба* (А. Чарнышэвіч. Злачынец). *Цяпер ён выразна падумаў: пакуль намалоціцца і пасеецца, то пройдзе некалькі дзён* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Маці за гэтыя дні проста памаладзела. Ёй прыбавілася і сілы, і рухавасці* (І. Навуменка. Пеця). *Яшчэ можа кіламетраў якіх з дзесяць засталося* (М. Лупсякоў. Капчына песня).

§ 910. Дзеепрыметнікі ў форме залежнага стану прошлага часу часта выступаюць у ролі галоўнага члена безасабовага сказа. Неразвітыя сказы з такім галоўным членам сустракаюцца даволі рэдка, толькі ў мове мастацкай літаратуры, дзе адлюстроўваюцца асаблівасці гутарковых стыляў: Цёця Каця. *А які ў мяне беспарадак можа быць? Падмецена, выцерта... Чаго яшчэ трэба?* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Пралыгін. *Работа здраднікаў! Падказана! Якраз там сёння канферэнцыя Саветаў салдацкіх дэпутатаў...* (М. Клімковіч. Уся ўлада Саветам). Кавальчук. *Усё! Вырашана!.. Да восені. А там лён выручыць нас і разлічымся з дзяржавай. Адмерана і адрэзана* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

Ужо гэтыя прыклады паказваюць, што такія дзеепрыметнікі пры адсутнасці звязкі абазначаюць стан як вынік дзеяння, што ўжо адбылося. Дзеепрыметнікі могуць выступаць і ў спалучэнні з дзеяслоўнай звязкай у форме прошлага ці будучага часу. Звязка ўваходзіць у склад галоўнага члена і адпаведным чынам суадносіць з часам (прошлым ці будучым) дзеянне, абазначанае дзеепрыметнікам.

Безасабовыя сказы з залежным дзеепрыметнікам у якасці галоўнага члена часцей за ўсё бываюць развітымі. Нярэдка тут ужываюцца дапаўненні і акалічнасці. Дапаўненне ўказвае або на прадмет (асобу), на які накіравана дзеянне (пераважна вінавальны ці давальны склон імені), або на ўтваральніка дзеяння (творны склон імені). Да дзеепрыметніка можа адносіцца інфінітыў, які канкрэтызуе дзеянне. 1-шы партызан. *Некаму суджана апошні раз сёння глядзець на гэтыя зоркі* (К. Крапіва. Партызаны). *У валасы яе натыкана кветак не дзеля хараства, а дзеля свавольства* (К. Чорны. Ірынка). *Яны нічога не казалі — пра ўсё было сказана, дамоўлена* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *На безымянным кургане ім суджана вянком апасці* (М. Танк. Пралескі). *Яму самому дазволена было з'яўляцца тут толькі ў выпадку самай крайняй патрэбы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Многа было сказана харошых слоў і пажаданняў* (П. Пестрак. Серадзібор). *Усяго было забіта да трохсот чалавек, ды некалькі сот было паранена і кантужана* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Безасабовыя сказы з залежным дзеепрыметнікам, утвораным ад дзеяслова маўлення і думкі, могуць выступаць у якасці галоўнай часткі канструкцыі з ускоснай мовай ці ў якасці сказа, што ўводзіць прамую мову. У гэтым выпадку дадаая частка канструкцыі з ускоснай мовай ці прамая мова з'яўляецца як бы разгорнутым дзейнікам да галоўнага члена безасабовага сказа. Значэнне безасабовасці тут, безумоўна, аслабляецца. *«Працаўнік пры артылерыі аказаўся ў нас у тыле», — было данесена ў штаб па тэлефоне* (Я. Колас. Васька Кудлаты). *У паперы напісана, што мы цяпер вольныя і што нікому не трэба працаваць на паноў* (В. Вольскі. Цудоўная дудка). *У спіску сказана, што праз яе вядуцца сувязі з атрадам?* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой).

Безасабовыя сказы з залежным дзеепрыметнікам маюць даволі значнае пашырэнне ў пэўных канструкцыях афіцыйна-дзелавога стылю: *«Не загадана даваць харчы»,—зноў той жа хрыпаты голас* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Было загадана правесці ў санчасць для праверкі аднаго старшага сержанта — ён быў паранены ў плячо* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *«Ды вось па тых адрасах падкінуць, аб якіх гаварыў я».— «Зроблена ўжо, Канстанцін Сяргеевіч»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 911. Безасабова-прэдыкатыўныя словы ў якасці галоўнага члена безасабовага сказа выступаюць вельмі часта. Пасля безасабовых дзеясловаў гэта найбольш шматлікая катэгорыя слоў з тых, што могуць з'яўляцца галоўным структурным элементам безасабовага сказа. Безасабова-прэдыкатыўныя словы спалучаюцца з дапаможным дзеясловам, нярэдка ў склад галоўнага члена ўваходзяць безасабова-прэдыкатыўнае слова і інфінітыў: *Было ціха. Над белай зямлёй звіслі бясформенныя сівыя хмары* (Я. Колас. Калядны вечар). *Было цёмна. Заслонаў пайшоў на вугальны склад праверыць экіпіроўку паравозаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Янка. *Стаміўся нешта. Відаць, ужо час адпачыць. Ды есці захацелася* (В. Вольскі. Цудоўная дудка). *Яшчэ злева, дзе быў Ермакоў, кіпеў бой, а Туравец рашуча ўзняўся: «Час пачынаць»* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *А трэ' было пакарыцца!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). Лямэнт. *Толькі бегчы не можна* (К. Чорны. Ірынка). Грышка. *Цяжка, брат, ісці, ужо выбіліся з сілы* (М. Танк. Нарач). *Дзе быць, там трэба рабіць* (народн.).

§ 912. Неразвітыя безасабовыя сказы з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі сустракаюцца радзей, чым развітыя. Сказы са словамі, якія аманімічны з прыслоўямі і абазначаюць стан, нярэдка маюць месца ў апісаннях. У гэтых выпадках па суседству з імі могуць знаходзіцца намінатыўныя сказы: *Куцця. Марозна. Хмурнавата. Сняжок падкідвае заўзята; снег на куццю — грыбы на лета, такая матчына прымета* (Я. Колас. Новая зямля). *Горача. Балюча. Адчуваю — плавяцца зямля і жвір пад сэрцам, і трава зялёная, жывая ў сутаргах шапоча мне аб смерці* (П. Панчанка. Паранены). *Калі ішлі, нават пад руку мяне падхапіў, праз нейкія вароты міма вакзала працягнуў — і проста да вагона, да кума ў рукі... А цёмна, і мокры снег, і дожджык...* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Зразумела, што неразвітыя безасабовыя сказы з безасабова-прэдыкатыўным словам у якасці галоўнага члена маюць месца не толькі ў апісаннях, яны адзначаюцца, напрыклад, і ў дыялогу: Званская. *Позна.* Рабінін. *Ды дзе там позна, восьмая гадзіна* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Пятрусь падняў пугу, але не асмеліўся выцяць «чорта». «Ну, годзе! Пайшоў з дарогі!»* (Я. Колас. Чорт). Даніла. *Досыць, хлопцы! Ідзіце гатуйце вячэру, каб хапіла на ўсіх* (К. Крапіва. Партызаны). *Маша ўзяла яе за руку, сказала амаль жорстка да ўсіх: «Даволі! — Пасля да Зосі: — Вам нельга хваля-*

*ваццa», — і павяла да цэнтральнай алеі, дзе іх чакаў сіні «Масквіч»* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 913. Развітыя безасабовыя сказы з галоўным членам — безасабова-прэдыкатыўным словам, аманімічным з адпрыметнікавым прыслоўем на *-а*, могуць мець у сваім складзе акалічнасці месца, часу, спосабу дзеяння і некаторыя іншыя. Такія сказы ўжываюцца ў розных структурных частках мастацкага твора, адзначаюцца яны і ў гутарковай мове, але пераважаюць усё ж у тых частках кантэксту, якія больш блізкія да апісанняў: *Вакол было ціха. На небе свяціліся зоркі* (Я. Колас. На сваім хлебе). *Гарачы дзень. На полі душна. Прыціх той ветрык непаслушны, як бы сваім аддаўся марам* (Я. Колас. Новая зямля). Мікалай. *Як чыста і зелена стала пасля дажджу.* Насця. *Грымоты сціхлі пад самы дзень* (К. Чорны. Ірынка). *У бліндажы было параўнальна цёпла* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ад гэтага ціха і радасна. Гаварыць хочацца Карнею* (В. Каваль. Ліпы). *Дрэвы, якія абступілі з усіх бакоў людзей, гулі глуха і цягуча. Ад іх гулу на сэрцы Ніны стала трывожней* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Ад безасабова-прэдыкатыўнага слова, якое мае значэнне стану, можа залежаць дапаўненне ў форме давальнага склону. Такое дапаўненне абазначае суб'ект стану. Безумоўна, у склад безасабовага сказа і ў гэтым выпадку могуць уваходзіць розныя акалічнасці і іншыя дапаўненні: Батура. *Бедны Рыгорка, будзе табе горка* (К. Крапіва. Партызаны). *І аж горача стала раптам Гансу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І яму непрыемна бывае ад гэтага* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Агею чамусьці стала весела* (В. Каваль. Ліпы). *Валянціне Андрэеўне стала і радасна, і балюча і боязна за дачку* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 914. Безасабова-прэдыкатыўныя словы з мадальным значэннем неабходнасці, магчымасці або немагчымасці дзеяння ў безасабовым сказе звычайна маюць пры сабе інфінітыў. Дапаўненне — форма давальнага склону часцей за ўсё з'яўляецца назвай суб'екта дзеяння. Пры адсутнасці такога дапаўнення фактычны суб'ект дзеяння можа быць вядомы з кантэксту. У безасабовых сказах з галоўным членам — безасабова-прэдыкатыўным словам названай разнавіднасці нярэдка ўжываюцца акалічнасці, іншыя дапаўненні, а часам і азначэнні.

*Значыцца, Якімка, трэба ўжо табе рабіць фырр!* (Я. Купала. Паўлінка). Гольман. *Ну? Новае заданне?* Мяснікоў. *Адгадалі. Набраць брашуру трэба. Вельмі спешна* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Сорак гадоў меў ён, а на выгляд можна было даць ля пяці дзесяткаў* (П. Галавач. Кнак). *Ці ж без яго дык і абысціся няможна* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). Маці. *Дадому ж табе нельга ісці.* Даніла. *Нельга, мама* (К. Крапіва. Партызаны). *Такі тон льга было адчуць у яе пісьме* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). Гарлахвацкі. *З Чарнавусам гаварыць не варта* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

§ 915. Галоўным членам безасабовага сказа можа быць няпэўнаколькасны лічэбнік або якое-небудзь іншае слова, што выступае ў значэнні такога лічэбніка. Амаль заўсёды галоўны член мае пры сабе назоўнік ці займеннік у форме роднага склону (*Многа студэнтаў. Мала карысці. Бездань работы*): *На такой гаспадарцы, як наша, зімой работы няшмат* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Дружа! Кінь на неба вока — колькі зорак, колькі зор!* (Я. Колас. Неба). *Песень скрозь у нас багата* (П. Панчанка. Шчаслівы верасень). *А зойдзеш у сад калі ты, там гэткая цётка ліпа — на ёй салаўёў — сяло!* (М. Лужанін. Дзве вясны). *А людзей — бясконца, многа, ажно страх!* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). *Наўмыснік памаўчаў, зноў абазваўся: «Па-мойму, то можна цагельню прыпыніць.*

*Цэглы — чорт што»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Прагоніце мяне, не дасцё зрабіць работу — вас тут многа, а я адзін — біцца з вамі не буду* (Я. Колас. Нёманаў дар).

Безасабовымі з'яўляюцца і сказы, у якіх няпэўна-колькасны лічэбнік адсутнічае, а ў якасці галоўнага члена выступае толькі форма роднага склону назоўніка. Важную ролю ў афармленні гэтых сказаў адыгрывае своеасаблівая працяжная інтанацыя, а таксама розныя ўзмацняльныя часціцы. Нярэдка ў такіх сказах назіраецца паўтор назоўніка ў форме роднага склону: *А дарог жа, дарог, ды прасторных якіх, што яснотай дышуць!* (Я. Колас. Сіла маладая). *А ў гарадах, кажуць, што тавару ў магазінах!* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *А птушак, птушак!* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *«А трафеяў! — гучна здзівіўся Ладуцька, разглядаючы зводку. — Браткі мае, колькі трафеяў!.. Вось гэта па-баявому!..»* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 916. Спецыфічныя безасабовыя сказы ўтвараюцца пры дапамозе дзеясловаў *чуваць, відаць* (часам іх адносяць да інфінітыўна-безасабовых сказаў). Прамое дапаўненне — імя ў форме вінавальнага склону, што залежыць ад такога галоўнага члена сказа, указвае на аб'ект дзеяння. Пры інфінітыве можа быць звязка, якая суадносіць дзеянне з прошлым ці будучым часам. Сінанімічныя да такіх сказаў безасабовыя сказы са словамі *бачна, відно, чутно*. *Чуваць здалёк дажынкавую песню* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Чуваць ігру на скрыпцы* (Я. Купала. Паўлінка). *Узняўся вецер, у лесе будзе шумець і трашчаць. Пілу цяжэй чуць будзе* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *З высокага ўзбярэжжа было добра відаць усю прастрань балота* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі).

Пры наяўнасці адмоўя *не* перад галоўным членам сказа дапаўненне выражана назоўнікам або займеннікам у форме роднага склону: *Не, нічога не выходзіць — не відаць Аленкі* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Часам сцяны не відаць* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Пайсці б пашукаць свайго сына па свету — не бачна і следу* (П. Панчанка. Быў дзень такі). *Не чутно, як звычайна, аукання ў лесе, толькі дождж шуміць і шуміць* (М. Лупсякоў. Паўнюткі кошык грыбоў). *Яшчэ некалькі хвілін не відно было коней* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях).

§ 917. Існуе некалькі разнавіднасцей безасабовых адмоўных сказаў. Сказы, галоўным членам якіх з'яўляецца слова *няма* ці спалучэнне *не было*, маюць у сваім складзе дапаўненне — форму роднага склону імені. Гэты назоўнік або займеннік абазначае прадмет (асобу), якога няма ў цяперашні час ці не было ў прошлым. *Але гудкоў няма. Над усім цішыня* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Няма сыноў — няма падмогі, а сам я стаў слабы на ногі* (Я. Колас. Новая зямля). Маці. *Янкі не відаць?* Марынка. *Не... Няма Янкі* (В. Вольскі. Цудоўная дудка). *Не было турмы. Не было агароджы* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Кірык правёў рукою па галаве і ўздыхнуў. Валасоў не было* (М. Лупсякоў. Кірык з Дняпра).

У складзе безасабовых сказаў са словамі *няма, не было* могуць быць і даданыя члены сказа, пераважна дапаўненні, акалічнасці: *Чаму іх так доўга няма?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *У горадзе запасаў гаручага няма* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Кім прыйшоў вясною. Яго не было ў нашым пасёлку ледзь не два гады* (І. Навуменка. Верасы на выжарынах). *Дні тры ў мястэчку ніякай улады не было* (С. Грахоўскі. Так і было).

Пры родным склоне імені, што залежыць ад слоў *няма, не было*, ужываецца часам часціца *ні* або злучнік *ні... ні*. Адмаўленне ў гэтых выпадках лагічна падкрэсліваецца: *Вечаровы позні час. Няма ні суму, ні хворасці* (А. Куляшоў. На лузе ўначы).

Зрэдку значэнне безасабовасці набываюць і спалучэнні *не бывае, не будзе:* Ц ё ц я  Қ а ц я. *Кажуць, што яго хутка ў нас н е  б у д з е* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім). *Такіх выпадкаў нават у казках н е  б ы в а е* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Галоўны член безасабовага адмоўнага сказа выражаецца і формай роднага склону назоўніка (без слова *няма* або спалучэння *не было*), але з ужываннем перад назоўнікам часціцы *ні: Ён быў пануры, маўклівы. Н і  с л о в а  просьбы, н і  с л о в а  жальбы* (Я. К о л а с. Крывавы вір). *Н і я к а г а  самалётнага  г у к у,  н і  знаёмага  п о с в і с т у  бомб* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н і  д р э ў ц а,  н і  к у с т о ў,  н і в о д н а й  р а ч у л к і, ёсць некалькі равоў, па якіх сцякае ў Дняпро вясновая вада, ды ў жніўні яны заўсёды сухія* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Ціха. А н і  з ы к у,  а н і  ш о л а х у* (М. З а р э ц к і. Бацькаў сын).

Галоўны член адмоўнага безасабовага сказа можа быць выражан толькі займеннікамі *нікога, нічога* (нярэдка ў форме суб'ектыўнай ацэнкі): *Ранюткі час. Нідзе  н і к о г а,  між дрэў звіваецца дарога* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Прыслухаўся яшчэ... Н і к а г у т к а. Толькі вецер гудзе ў садзе* (Я. К о л а с. Пракурор).

§ 918. У якасці галоўнага члена безасабовага сказа выступаюць і ўстойлівыя словазлучэнні, якія па форме супадаюць з разгледжанымі вышэй рознага роду галоўнымі членамі: *Гэта ж і  м н е  з  п а м я ц і  з ы ш л о* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Дужа стаміўся, у  п о т  мяне  к і н у л а,  але прыбег першы* (В. К а в а л ь. Шчасце Сілівея Зязюлі). *У Палікара  з а й м а л а  д у х* (К. Ч о р н ы. Гора). *Пяхоту ўжо  з а б р а л а  з а  ж ы в о е* (П. П е с т р а к. Серадзібор). *Булановічу  б ы л о  н е  п а  с а б е* (М. З а р э ц к і. Кветка пажоўклая). *Няўжо ж у вас  н е  х о п і ц ь  к л ё к у  такое глупства расшалопаць?* (Я. К о л а с. Новая зямля). М а р ы л я. *У п ы н у  на цябе  н я м а ш а к а  ніякага* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *І ўсё прапала,  н я м а  і  п о ч у т у  Міхала* (Я. К о л а с. Новая зямля). Н е с ц е р к а. *А  ч а г о  ж  т у т  т о л ь к і  н я м а?! От, каб грошы былі!* (В. В о л ь с к і. Несцерка).

Як безасабовыя сказы аформлены і многія ўстойлівыя народныя параўнанні, а таксама так званыя «кленічы», многія з такіх выразаў маюць прастамоўны характар: *Заняло, як жабе зімою. Пайшло, як на мазаных колах. Выгнала, як тычыну. Як агнём запякло* (народн.). *Цэлы дзень тугой мяне гняло, а прыйшоў сюды — р у к о й  з н я л о* (П. П а н ч а н к а. Дэмавенд, галоўная гара іранцаў). *Каб яго ўзяло ды не адпусціла! Каб табе заняло! Каб цябе цяміла!* (народн.).

## ІНФІНІТЫЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 919. Аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх выражан незалежным інфінітывам, называюцца і н ф і н і т ы ў н ы м і: *Нам, з Зарэчча зарачанцам, век з ракой не разлучацца* (А. З а р ы ц к і. Зарачанцы). *Быць заўсёды і ўсюды табе неразлучнай са мной!* (П. П а н ч а н к а. Ноч перад святам). *Сачыў і думаў: «Мо' прынада? Не апынуцца б у бядзе»* (М. Т а н к. Дружба).

З а ў в а г а. Пры незалежным інфінітыве не можа быць безасабовага дзеяслова ці прэдыкатыўнага прыслоўя, гэтым інфінітыўныя сказы адрозніваюцца ад безасабовых, у склад якіх уваходзіць інфінітыў. Але апошні заўсёды з'яўляецца залежным і прымыкае да дзеяслова, прэдыкатыўнага прыслоўя ці залежнага дзеепрыметніка (больш падрабязна аб гэтым гл. у § 905, 908, 914).

Інфінітыўныя сказы абазначаюць дзеянне, якое той, хто гаворыць, уяўляе непазбежным, неабходным ці пажаданым. Таму ў гэтых сказах звычайна гаворыцца пра дзеянні, якія будуць мець месца ў будучым. Сказы з залежным інфінітывам абазначаюць таксама дзеянне, што павінна адбыцца па волі таго, хто гаворыць. Такія сказы маюць значэнне загаду. Мадальныя значэнні інфінітыўных сказаў выражаюцца інтана-

цыяй, а зрэдку і часціцамі. Важную ролю ў мадальнасці інфінітыўных сказаў адыгрывае сам тып канструкцыі гэтых аднасастаўных сказаў.

Акрамя незалежнага інфінітыва, у склад інфінітыўных сказаў могуць уваходзіць і іншыя члены сказа. У сувязі з гэтым інфінітыўныя сказы могуць быць развітымі і неразвітымі.

У склад інфінітыўных сказаў могуць уваходзіць розныя віды дапаўнення. Асабліва часта сустракаюцца дапаўненні ў форме давальнага склону назоўніка або займенніка (такія словы абазначаюць асобу ці прадмет, якія павінны выканаць дзеянне): *Каленіку ісці ўправа ад рэчкі* (П. Галавач. Яны не пройдуць!).

Інфінітыўныя сказы могуць быць развіты і акалічнасцямі часу, месца, мэты, спосабу дзеяння: *Ім страшна, страшна, атамным злачынцам. А нам і ўвысь, і ўглыб, і ўдаль ісці* (П. Панчанка. Радугі). *Ды толькі дням не дагараць спакойна ў сонечным загары, як некалі* (М. Танк. Нарач).

§ 920. Важную ролю ў структуры інфінітыўных сказаў адыгрывае наяўнасць ці адсутнасць часціцы *бы*. У залежнасці ад гэтага яны падзяляюцца на інфінітыўныя сказы без часціцы *бы* і інфінітыўныя сказы з часціцай *бы*. У сваю чаргу кожны з гэтых відаў інфінітыўных сказаў мае свае падгрупы ў залежнасці ад мадальнага значэння сказаў.

## ІНФІНІТЫЎНЫЯ СКАЗЫ БЕЗ ЧАСЦІЦЫ *бы*

§ 921. Адно з асноўных значэнняў інфінітыўных сказаў без часціцы *бы* — абазначэнне дзеяння, якое павінна быць ажыццёўлена, або дзеяння пажаданага. Сюды адносяцца і сказы са значэннем дзеяння непажаданага і дзеяння, якое не павінна быць здзейснена. *Заўжды ёй* [Радзіме] *квітнець і ясніцца, застацца ў вяках маладою* (Н. Чарнушэвіч. Нясу надзею). *Ад напасці не прапасці* (народн.).

У сказах гэтай падгрупы звычайна ўжываецца дапаўненне ў форме давальнага склону, якое абазначае асобу (ці прадмет), што павінна або хоча ажыццявіць дзеянне.

§ 922. Большае пашырэнне ў беларускай мове маюць інфінітыўныя сказы са значэннем непазбежнасці дзеяння, яго абавязковасці. Ёсць цэлы рад адценняў такога значэння інфінітыўных сказаў, з-за чаго ў паасобных выпадках бывае цяжка вызначыць, да гэтай ці папярэдняй падгрупы адносіцца пэўны сказ.

У інфінітыўных сказах са значэннем непазбежнасці дзеяння звычайна ўжываецца дапаўненне ў форме давальнага склону: *За даўнімі мáрамі гнацца яшчэ мне і гнацца* (М. Танк. Адыходзячы з хаты). *Так, я ведаю: зоркам гераяў — гарэць і звінець славам рапартаў на высокіх падвоблачных струнах* (П. Панчанка. Абаронцы міру). *Ім пра вочы вясёлыя граць ды граць на баяне* (М. Лужанін. Сямёра).

Інфінітыўныя сказы з адмоўем *не*, якія выражаюць непазбежнасць дзеяння, у беларускай мове больш пашыраны: *Мядуніц нашых не пазнаць: вялікія, па кубку добрым* (У. Дубоўка. Кругі). *Значыць, век не забыць нам ні пясок залаты, ні капцы ў спелым жыце — дружбы нашай сляды* (А. Куляшоў. Дружба). *Не стрымаць, не спыніць нас сягоння ў нашай дружнай і радаснай працы!* (Я. Журба. Не стрымаць, не спыніць...).

Асобна выдзяляюцца інфінітыўныя сказы са словам *быць (не быць)*: *Чаму ж вясёлымі не быць?* (Я. Журба. Ляці, наш спеў!). *Быць табе з другім і лепшым, быць мне з горшаю, з другою* (П. Панчанка. Сустрэча з Вільняй). *Быць бычку на лычку, а цялушачцы на вяровачцы* (народн.).

§ 923. Інфінітыўныя сказы выражаюць часам загад. Прычым выражэнне загаду пры дапамозе такіх сказаў з'яўляецца найбольш катэга-

рычным, хоць у тых з іх, што маюць адценне просьбы, парады, гэта катэгарычнасць змяншаецца. Сказы са значэннем загаду могуць быць развітымі і неразвітымі, звычайна для іх характэрна клічная інтанацыя: *Васіль Іванавіч пацямнеў тварам, гучна загадаў: «С п ы н і ц ь!»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ужо бачыць Вяль з музыкай бор стары, знаёмы бераг. Яшчэ раз вяслом у д а р ы ц ь!* (М. Т а н к. Казка пра музыку). *Такі прысуд: садам пустым р ы д а ц ь, вятрам с п р а ў л я ц ь шалёнае ігрышча* (П. П а н ч а н к а. Ноч). *У вясёлай зялёнай кашулі май прымае рабочы парад. Сонцу вышэй с т а я ц ь! Сонцу ярчэй з а з з я ц ь!* (М. Л у ж а н і н. Першамайская вуліца). *«Інтэрнацыянал» п е ц ь», — запрапанаваў Круміньскі* (П. Г а л а в а ч. Носьбіты нянавісці).

§ 924. Інфінітыўныя сказы ў саставе складанага сказа могуць мець значэнне ўмовы; такія складаныя сказы бываюць бяззлучнікавымі ці злучнікавымі: *З ваўкамі жыць — па-воўчаму выць. З гультаём пажаніцца — лепей задавіцца* (народн.).

Да гэтай падгрупы адносяцца і сказы з аднолькавымі інфінітывамі, злучанымі пры дапамозе часціцы *дык: Жыць, дык жыць — чалавекам, а не парабкам* (П. Г а л а в а ч. Суседзі). Такія выказванні маюць катэгарычны характар, у іх падкрэсліваецца рашучасць здзейсніць тое або іншае дзеянне.

### ІНФІНІТЫЎНЫЯ СКАЗЫ З ЧАСЦІЦАЙ *бы*

§ 925. Інфінітыўныя сказы з часціцай *бы* абазначаюць пажаданасць дзеяння або яго непажаданасць, апасенне, што пэўнае дзеянне можа быць здзейснена, мэтазгоднасць дзеяння, да якога маюць схільнасць тыя ці іншыя асобы: *П р ы б р а ц ь б ы тут* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). *П а х а д з і ц ь б ы ў іх гушчары так праз месяц, калі яны* (каноплі) *узнімуцца казачным лесам, п а д ы х а ц ь б ы тады іх водарам* (Я. Б р ы л ь. Пад гоман вогнішча). *С п і л а в а ц ь б ы яго* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Д а е х а ц ь б ы хутчэй да свайго сяла* (В. К а в а л ь. Ліпы). *На сяўбу п р ы й с ц і б дамоў нам* (М. Л у ж а н і н. Два салдаты).

У сказах з часціцай *бы* можа быць дапаўненне ў форме давальнага склону назоўніка або займенніка, якое абазначае асобу, што можа ці павінна ўтвараць дзеянне. З часціцай *бы* можа злучацца часціца *толькі: т о л ь к і б с т а ц ь добра, Камень нагой разатрэ на жарству: т о л ь к і б у п я ц ц а* (У. Д у б о ў к а. Жыхары). *У б а ч ы ц ь т о л ь к і б родны Сож — не шкода ўсё аддаць* (П. П а н ч а н к а. Начны мсцівец).

§ 926. Структура інфінітыўных сказаў арганізавана часцей за ўсё такім чынам, што дзеянне, абазначанае незалежным інфінітывам, падкрэсліваецца. Асабліва выразна гэта выяўляецца ў тых выпадках, калі інфінітыў знаходзіцца на першым ці на апошнім месцы ў сказе: *Н е з а б ы ц ь цяпер Гірню гэтага пагляду* (А. К у л а к о ў с к і. Сустрэчы на ростанях). *Н е, н е п р а й с ц і карычневай ардзе!* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Нікому дружбы нашай н е п а р у ш ы ц ь!* (П. П а н ч а н к а. Радугі). *Звоняць шыбы; звон—ясны, халодны. Толькі горад стары н е п а з н а ц ь* (М. Т а н к. Каліноўскі).

Гэта ўзмацненне адмаўлення дасягаецца таксама паўтарэннем аднаго і таго ж дзеяслова ці ўжываннем блізкага да яго па значэнню: *Ад зары да зары цэлы месяц куваць і ўсяго н е з л і ч ы ц ь, н е з л і ч ы ц ь* (П. П а н ч а н к а. Ты скажы мне, зязюля...). *Н е с к р ы ш ы ц ь, н е з а с л а ц ь п а з ё м к а й, што зрабілі бальшавікі* (М. Л у ж а н і н. Першамайская вуліца). *Н е п а с п е ц ь мне, н е ў г н а ц ц а сягоння за ім, нешта дзіўнае робіцца з сэрцам* (А. К у л я ш о ў. Кожны мае свой бор...). *Н е п р а й с ц і пехатой, н е п р а е х а ц ь канём па вільготных далінах на стыку Радэзій,— вадаспады шалеюць, з каньёна ў каньён*

*пераскоквае сіняя стужка Замбезі* (М. Лужанін. Замбезі). *Век жывым звяр'ю не вырвацца і ад помсты не схавацца* (М. Танк. Не шкадуйце, хлопцы, пораху...).

## НАМІНАТЫЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 927. **Намінатыўнымі** называюцца аднасастаўныя сказы, у якіх сцвярджаецца наяўнасць, існаванне прадмета. Галоўны член такіх сказаў выражан назоўнікам у форме назоўнага склону (радзей асабовым займеннікам, лічэбнікам або колькасна-іменным спалучэннем): *Восень. Ноч. Завываюць вятры. Пагасіла агні свае Вязынь* (П. Глебка. У дарогу). *Жніво. Ранне. Спелае жыта схіліла каласы. Бліщчыць раса, буйнымі круглымі слязьмі капае і з колаcа, і з тонкага залатога сцябелля* (М. Гарэцкі. Ціхая плынь). *Трыццаты год. Гудзегамоніць вёска* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе). *Вось брама. Шыльда кажа нам, што тут знаходзіцца даследчы інстытут* (А. Зарыцкі. Аповесць пра залатое дно).

Намінатыўныя сказы могуць быць развітымі і неразвітымі. Неразвітыя намінатыўныя сказы складаюцца толькі з аднаго галоўнага члена, пры якім часам можа быць часціца ці выклічнік: *Эх, вясна! Эх, песні! Хочацца мне цяпер думаць думы шырокія, вольныя, ды бегчы ўдаль па бяскрайняй зямлі* (В. Каваль. Як вясну гукалі).

Развітыя намінатыўныя сказы складаюцца з галоўнага члена і аднаго ці некалькіх азначэнняў, што адносяцца да яго: *Зіма. Светлая ноч. Ускраіна лесу. Дрэвы, пакалечаныя артылерыйскім агнём* (К. Крапіва. Проба агнём).

Намінатыўныя сказы бываюць апавядальнымі, пытальнымі і клічнымі, часцей, аднак, у беларускай мове ўжываюцца апавядальныя намінатыўныя сказы.

### НЕРАЗВІТЫЯ НАМІНАТЫЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 928. У якасці галоўнага члена намінатыўнага сказа часцей за ўсё выступае назоўнік у форме назоўнага склону. Неразвіты намінатыўны сказ з такім галоўным членам указвае на наяўнасць пары года, часу сутак, стану надвор'я, дзеяння, падзеі, з'явы, прадмета. Гэтыя сказы шырока ўжываюцца ў мастацкіх апісаннях: *Восень. Падаюць яблыкі ў звонкіх садах. Вечар. Сонца расплавіла медныя шыбы* (М. Лужанін. На вызваленай зямлі). *Поўнач. Куранты крамлёўскія звоняць* (М. Танк. Янук Сяліба). *Цішыня. Чутна, як горача і ўсхвалявана дыша натоўп* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Мне ўспамінаецца адзін асенні вясковы вечар. Дождж ычак. Імгла. У пуні мы сабраліся на сене — тры камсамольцы нашага сяла* (А. Зарыцкі. Пяцёра). *На сцэне перад Несцеркам кірмаш у мястэчку. Шум, мітусня, гоман. Палаткі і крамы. Вісяць бублікі і абаранкі, цацкі* (В. Вольскі. Несцерка).

§ 929. Неразвітыя намінатыўныя сказы могуць быць клічнымі. Іх вымаўляюць з адпаведнай клічнай інтанацыяй. У гэтых сказах могуць ужывацца выклічнікі з рознымі словамі, што выражаюць эмоцыі, прыцягваюць увагу слухача: Голас (заглушае ўсё). *Вайна! Усім у салдаты ісці трэба!* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). Міранок. *Ой, хлопчыкі! Казакі!* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Раптам з калгаснага саду данёсся дробны шчэбет, а потым нечакана паліліся чароўныя і непаўторныя спевы салаўёў. «Салаўі!—прашаптаў Андрэй.—Чуеш, Каця, салаўі спяваюць!»* (А. Чарнышэвіч. Дзіцятка горкае). *Раптам шафёр радасна ўсклікнуў: «Таварыш камісар, грыбы!»* (У. Шахавец. Насустрач). *Навіна, Даніла Платонавіч!* (І. Шамякін. Крыніцы).

*«Паветра! Трывога!» — нібыта мяцеліца вые і вее снягамі ў апалены вераснем стэп* (М. Лужанін. Волжскі сшытак).

Паўтарэнне клічнага намінатыўнага сказа прыводзіць да большай эмацыянальнасці выказвання: *Цішыня, цішыня!.. Нават гул кананады не развее тугі замяртвелага сэрца* (П. Глебка. У тыя дні). *Вайна, вайна! Гул апошніх боек... Гадзіны зацішных вятроў і зарніц... Свае гарады ўспаміналі з любоўю салдаты, стаміўшыся ад заграніц* (П. Панчанка. Свой горад).

§ 930. Пэўнае пашырэнне маюць і неразвітыя пытальныя намінатыўныя сказы. У іх афармленні як пытальных важную ролю адыгрывае інтанацыя: *Што вы так пакутуеце? Зубы?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Тацяна. *Хіба я плачу? Не...* Валошын. *А слёзы?* Тацяна. *Слёзы?* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Гэта ўмельства ў сабе рашчу, каб загадваць, як захачу: — Вадаспад? Прыручыць на завод!* (М. Лужанін. Галасуе вясна за вясну). *«Ніхто не загадвай... Выйшла стыхійна...» — «Паніка?»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 931. Асобную групу складаюць намінатыўныя сказы з указальнай часціцай *вось*. Яны ўказваюць на наяўнасць, існаванне таго, што знаходзіцца недалёка, або проста на існаванне, наяўнасць чаго-небудзь: *Вось Мінск... Рог вуліцы і невялічкі дом. Сюды вучыцца вёскі нас паслалі* (М. Лужанін. На мачту, слова!). *Вось мой дом. Дакранешся рукой — і пад столлю святло загарыцца* (М. Лужанін. Лепшы месяц).

Заўвага 1. Ад гэтых сказаў трэба адрозніваць сказы, дзе, акрамя часціцы *вось*, ёсць часціца *і*. Такія ненамінатыўныя сказы ўказваюць на паяўленне прадмета ці ўзнікненне пэўнай з'явы. Нельга лічыць намінатыўнымі і такія сказы, у якіх часціца *вось*, акрамя значэння ўказальнасці, набывае іншыя адценні — здзіўлення, абагульнення і г. д.: *А вось і Гніб. Ен верай і праўдай служыў польскім фашыстам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ну, вось і млын. Ну, вось і месца для тугі — стаіць Максімаў воз, чакаючы чаргі* (А. Куляшоў. Глушцы). *Вось і ноч. Вось і пейням спяваць неўзабаве* (А. Зарыцкі. Пралескі). *А вось і возера — акно, якога мала дзе пабачыш* (Я. Колас. Загібелька).

Заўвага 2. Не адносяцца да намінатыўных сказы з часціцай *вунь*, якія ўказваюць на прадмет, што знаходзіцца на адлегласці: *За гэтым гайком — вашы Крыніцы. Кіламетры два, а мо' і не будзе. Вунь дрэвы высокія. Парк... Не заблудзіце* (І. Шамякін. Крыніцы). *Вунь Трохкрыжовая гара* (П. Панчанка. Сустрэча з Вільняй).

## РАЗВІТЫЯ НАМІНАТЫЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 932. З развітых намінатыўных сказаў часцей за ўсё ўжываюцца такія, у якіх галоўны член, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, мае пры сабе адно ці некалькі дапасаваных азначэнняў, прычым азначэнне звычайна займае прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да азначаемага.

Заўвага. Дапасаваны да назоўніка прыметнік, які знаходзіцца пасля назоўніка, часцей за ўсё мае лагічны націск і выступае ў сказе ў ролі выказніка: *Ноч, помню, цёмная, адно ўгары, шукаючы варожы самалёт, пераплятаюцца пражэктары* (М. Танк. Янук Сяліба). *Ноч цёмная. Адна дарога віднеецца белая, як палатном усланая* (В. Каваль. Сіняя восень).

Нават прэпазіцыйны прыметнік пры лагічным націску на ім і адпаведнай будове кантэксту (напрыклад, супрацьстаўленне сказаў, што следуюць адзін за адным) можа быць выказнікам: *Зусім цёмная ноч. Ілька нікога не бачыць, апроч Марты* (В. Каваль. Ілька).

Азначэнне пры галоўным члене намінатыўнага сказа пераважна бывае выражана прыметнікам. Але ў гэтай ролі тут выступаюць і дапасаваны парадкавы лічэбнік і прыналежны займеннік. Як і неразвітыя намінатыўныя сказы, развітыя ўжываюцца часцей за ўсё ў мастацкіх апісаннях. Нярэдка яны маюць месца ў аўтарскіх рэмарках драматычных твораў. Апісанне могуць пачынаць або развітыя, або неразвітыя сказы. Далей удакладняецца, раскрываецца, канкрэтызуецца агульны малюнак, створаны намінатыўнымі сказамі, ці паведамляецца пра дзеянні, падзеі, што адбываюцца на фоне гэтага агульнага малюнка: *Сонечны*

*д з е н ь. Лясы ў зялёных уборах маўчаць у летняй палявой шырыні* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *В я ч э р н я я з а д у м н а я х в і л і н а... Расплёскан на бярозах і хваінах барвовы лівень жнівеньскай зары, і песня чутна — «А ў бары, бары...»* (П. П а н ч а н к а. Асеннім днём). *П о з н я я в о с е н ь. Адвячорак. Л я с н а я п а л я н к а. Недзе побач то пачынае гусці, то зноў змаўкае матор самалёта* (К. К р а п і в а. З народам). *К а р а л е ў с к і п а к о й. Трон. За вокнамі палаца шум, крыкі, мітусня* (В. В о л ь с к і. Цудоўная дудка). *А с а д н і ц к і х у т а р, ф а л ь в а р а к н е й к і, ш э р а я в ё с к а. Гай. І, быццам сон на павекі, спускаецца ўніз небакрай* (А. З а р ы ц к і. Перабежчык). *Паправіла ражкі зялёнае хусціны. Змарылася-такі — д з е с я т а я г а д з і н а* (М. Л у ж а н і н. Дзяўчына). *П е р ш ы м а р о з і к: шапачку возьмем, шалік на плечыкі ўскінем* (М. Л у ж а н і н. Размова з дачкою).

З а ў в а г а. Не з'яўляюцца намінатыўнымі сказы, дзе займеннік (часцей *які*) выступае ў ролі ўзмацняльнай часціцы: *Я к і я сэрцы, я к і я людзі! Тут раз пабудзеш—век не забудзеш* (П. П а н ч а н к а. Дарога ў Закарпацце). *Я к і я горы! А сады я к і я! Тут шмат зямнога цёплага дабра, а назвы дрэў мудроныя такія, што цяжка нават рыфму падабраць* (П. П а н ч а н к а. Мы першы раз за межамі Радзімы). *Ах, ш т о з а галава!* (Я. К о л а с. Пісаравы імяніны).

§ 933. Пры галоўным члене намінатыўнага сказа можа быць недапасаванае азначэнне, выражанае формай роднага склону назоўніка без прыназоўніка або іншымі склонавымі формамі (да гэтага назоўніка часам адносіцца дапасаванае азначэнне). Развітыя намінатыўныя сказы з недапасаваным азначэннем ужываюцца, як і іншыя віды намінатыўных сказаў, у апісаннях: *Нейкая не абы-якая ўстанова грашовых спраў. Вялікі пакой. Многа сталоў (чым больш, тым лепш)* (К. Ч о р н ы. Не пішы чорт ведае як). *Хата Леапольда Гушкі. Пустыя сцены, нізка навісла столь. Вяселле. Марылька ідзе замуж за Паўла Няміру* (К. Ч о р н ы. Драма «Бацькаўшчына»). *Восень. Веранда панскага дома* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Станцыя Прыяміна. Штаб чырвонаармейскай часці. Два вакзальныя пакоі: пасажырская зала і пакой дзяжурнага. У пакоі дзяжурнага тэлеграф і тэлефон, а ў зале стаіць стол, завалены паперамі, на сцяне вісіць карта і розныя плакаты* (П. Г л е б к а. Над Бярозайракой). *Восень. Ноч на беразе Дняпра. Ганка сядзіць адна каля вогнішча, спявае* (В. В о л ь с к і. Машэка).

§ 934. Галоўны член намінатыўнага сказа можа быць выражан займеннікам (у гэтых выпадках пры ім нярэдка ёсць указальная часціца *вось*), лічэбнікам ці колькасна-іменным спалучэннем: *Вось яны стаяць перад вамі... пакажыце іх бліжэй. В о с ь ё н, пан Ярыга, Ён палез сюды, каб захапіць зямлю вашу, здабыткі вашы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Зноў раптоўныя стрэлы... Тупат... люк адчыняецца... Сонца!.. С в а е... Шахцёры!.. Моцна руку паціскае рука* (А. З а р ы ц к і. Чортава баржа). *Т ы с я ч а д з е в я ц ь с о т д в а ц ц а ц ь п е р ш ы г о д. Студзень. Сівер. Зіма. Вецер салому зняў, вецер салому растрос...* (П. Г л е б к а. Эма). *Т р ы а б р э з ы і кольт. На дарозе — цок, цок, цок — загрымелі капыты* (А. З а р ы ц к і. Залп з засады).

§ 935. Намінатыўныя сказы ў кантэксце сустракаюцца або асобна (сярод іншых тыпаў сказаў), або групамі. Некалькі намінатыўных сказаў могуць ужывацца як самастойныя ці ў саставе складанага сказа: *Марозны дзень. Санкт-Пецярбург. Гулянне. Апошні раз агледжан пісталет* (М. Л у ж а н і н. Вечнае жыццё). *Новы дом. Агарожа. На сцены ўзбіраецца хмель* (П. П а н ч а н к а. Дачка). *Дзея адбываецца ў лістападзе 1941 г. Пакой небагатай гарадской кватэры. Пажаўцелыя абоі, стол, два-тры крэслы, старая шафа для адзення* (К. К р а п і в а. Мілы чалавек). *Мокры снег і галалёдзіца. Як зашклёны тратуар. Гнуцца дрэвы перадрогшыя, вее сіверам у твар!* (М. Т а н к. Пад астрожнай сцяной). *Вечар. Берагам крочу крутым. Зоры, вербы, рака. Ну, проста казка, прынадная казачка* (А. З а р ы ц к і. Пад шум вясенняга лісця).

## КАНСТРУКЦЫІ, ЯКІЯ, НЕ З'ЯЎЛЯЮЧЫСЯ НАМІНАТЫЎНЫМІ СКАЗАМІ, СУПАДАЮЦЬ З ІМІ ПА ФОРМЕ

§ 936. У беларускай мове шырока ўжываюцца канструкцыі, якія па форме супадаюць з намінатыўнымі сказамі, але не з'яўляюцца імі. Сюды перш за ўсё адносяцца назвы, загалоўкі, надпісы на этыкетках і шыльдах, якія наогул не з'яўляюцца сказамі. Для гэтых выразаў з назоўнікам у форме назоўнага склону, да якога можа адносіцца адно ці некалькі азначэнняў, не характэрна ўказанне на існаванне прадмета: *«Шарсцяныя тканіны». «Аптэка». «Домакіраўніцтва». «Акадэмія навук БССР». «Сярэдняя школа». «Басейн для плавання». «Рыбакова хата». «Сымон-музыка». «Раскіданае гняздо». «Трэцяе пакаленне». «Векапомныя дні». «Кофе». «Цукар». «Сталічны кекс».*

*Усё часцей сустракаюцца шыльды; яны прыгожа размаляваны: «Ваенны і цывільны кравец Кічын»* (А. Чарнышэвіч. Світанне).

§ 937. Не з'яўляюцца намінатыўнымі сказамі і выразы, якімі аб'яўляюць пра наяўнасць пэўных прадметаў: Нохім. *Гнутыя палкі, тытунь і запалкі, шпількі, іголкі і перац горкі* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). Трэці. *Камізэлі, спадніцы, ручнікі вышываныя!* Мальвіна. *Міскі, талеркі, гаршкі маляваныя!* (В. Вольскі. Несцерка).

§ 938. Словы і спалучэнні слоў, якія абазначаюць прывітанне, не адносяцца да намінатыўных сказаў: *Добры дзень, дзяўчаты!* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Кравец падаўся ў былую Несцяровічаву хату. «Дзень добры!» — «Дзень добры...»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). Сярго. *Бывайце, дарагія!* Валошын. *Добры шлях!* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Ляснік устаў, пусціўшы між вушэй Васілёвы словы, і сказаў: «Дабранач, Ганна!»* (Я. Колас. Нёманаў дар).

§ 939. Назоўны склон назоўніка, да якога можа адносіцца адно або некалькі азначэнняў, не з'яўляецца намінатыўным сказам у тым выпадку, калі гэта спалучэнне толькі называе прадмет (ці з'яву), уяўленне аб якім узнікла ў таго, хто гаворыць. У наступным сказе наконт гэтага прадмета, з'явы, асобы або задаецца пытанне, або выказваецца якое-небудзь суджэнне. Такія словы і спалучэнні называюць назоўным уяўлення. Пры гэтых словах ці спалучэннях можа быць злучнік (у далучальным значэнні), часціца. Назоўны ўяўлення вымаўляецца або з клічнай інтанацыяй, або з інтанацыяй незакончанасці: *Снег... Ляжыць снег — сыпучы і мяккі, белы, як чыстая радасць. І вецер гуляе па загонах* (В. Каваль. Сяльчане). *Адпачынак... Добра было б адпачыць хоць не месяц, а тыдзень, але Лукашу не было часу адпачываць* (А. Чарнышэвіч. Зразумеў). *Ну, а вочы... Бачыў вочы? Так і хочацца нырнуць* (П. Панчанка. Лівень). *Сорак трэці год... Я не забуду пра яго да смерці!* (А. Лойка. Лясная песня). *Радасць і вясна! А ці ва ўсіх яна ёсць?* (В. Каваль. Сяльчане). *Грозная пушча! У глыб яе пойдзе не кожны спрактыкаваны ў дарогах лясных падарожны* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Тая ж самая вузенькая, крывая вуліца, тыя ж касавокія халупкі... А хлявы! Хлявы былі новыя, з тоўстай смалістай сасны. Сям-там новыя платы і парканы* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Родны Ленін! Як дораг мне воблік яго, за ўсіх ён бліжэй* (П. Панчанка. Заўсёды гатовы).

§ 940. Да намінатыўных не адносяцца сказы, якія, супадаючы з імі па форме, выконваюць у кантэксце іншую функцыю: не даюць указання на існаванне прадмета, а з'яўляюцца своеасаблівым прэдыкатам да папярэдняга (або папярэдніх) сказа ці да дзейніка, які падразумяваецца. Прэдыкатыўнасць гэтых сказаў — іх адметная рыса, што адрознівае іх ад намінатыўных сказаў: *Пасярод, на прыгорку, стаяў аднапавярховы драўляны будынак з бляшаным дахам, які пасля дажджу зіхацеў на сон-*

*цы. «Ш к о л а», — кіўнуў Арэшкін* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Злезшы з воза, Ігнась агледзеўся. Ён заўважыў, што каля дома стаіць доўгі хлеў. Ля гэтага хлява ў завулку стаяць поруч два высокія слупы, злучаныя ўверсе перакладзінай. На перакладзіне вісіць звон. «П а ж а р н ы х л е ў», — тлумачыць бацька, распрагаючы каня* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Світанне).

§ 941. Асобную падгрупу такіх прэдыкатыўных сказаў складаюць сказы, якія ўжываюцца пры рэкамендацыі адной асобы другой ці пры самарэкамендацыі чалавека, — гэта назвы чалавека па імені, прозвішчу, пасадзе, становішчу і г. д.: *Афіцэр хапіў Аміліну руку, паднёс да рота і адрэкамендаваўся: «П р а п а р ш ч ы к  П і л і п о ў с к і»* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *«Вы наш новы дырэктар. — Чалавек працягнуў руку і назваў сябе: — З а г а д ч ы к  н а в у ч а л ь н а й  ч а с т к і  А р э ш к і н, В і к т а р  П а ў л а в і ч». — «Вельмі прыемна. Л е м я ш э в і ч». Яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі, як добрыя сябры і старыя знаёмыя, і пайшлі далей побач* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Груздовіч з захапленнем і гонарам знаёміў яе з сваімі сябрамі-настаўнікамі: «М а я  н я в е с т а»* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *«Якія ж ты добрыя беларускія словы ведаеш! П р ы р о д н ы  б е л а р у с!» — «Б е л а р у с, не адракаюся», — усміхнуўся Ліцкевіч* (М. Г а р э ц к і. Віленскія камунары).

§ 942. Сказ, які па форме супадае з намінатыўным, але не з'яўляецца ім, можа даваць ацэнку таму, аб чым гаварылася раней. Гэта ацэнка часам мае іранічнае адценне. У такім выпадку слова набывае іншае значэнне — яно дае адмоўную характарыстыку з'яве, падзеі ці асобе: Б а л у е ў. *Афіцэры і машыніст арыштаваны.* В і с к а в а т ы. *Ж а х!* (П. Г л е б к а. Святло з Усходу). М а к а р э н к а. *Жыццё заўсёды пакідае след.* С я р г о. *Ф і л о с а ф!* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). *Як быццам ты без мянушкі! Р а з я д а!* (К. Ч о р н ы. Мураваны склепок).

§ 943. Не з'яўляюцца намінатыўнымі і сказы, якія называюць характэрную прымету таго, аб чым гаварылася раней: *Ёсць толькі адна цікавая жанчына... Дзіўная жанчына, я вам скажу. Урач тутэйшы... У д а в а. Дачка гадоў трынаццаць* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Адзін вось зноў убачыў сон: к а н ц л а г е р, д р о т  к а л ю ч ы, як ён бяжыць да партызан праз нетры, пушчы, кручы* (М. Т а н к. Дзіцячы дом). *Вы бачылі змялелую раку? Трывожны і нярадасны малюнак: і рэчышча ўсё тое ж, і кірунак, а бераг так далёка ў баку ад трапяткой вады. З я л ё н а й ц і н ы  с л е д,  п я с о к,  ж а р с т в а. І лозы недарэчна схіліліся над месцам тым спрадвечным, дзе бачылі свой стан, свой ліст, свой цвет* (П. П а н ч а н к а. Слова). *Ён быў падобны на мерцвяка. Б е л ы я  ш ч о к і,  п у с т ы я  в о ч ы,  п а с і н е л ы я  г у б ы* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Дробязі). *А думкі імкнуліся роем, абганялі адна адну... Яна чытае верш пра мароз-чырвоны нос... Мароз-чырвоны нос... За маразамі вёсны, леты. Настаўнікі. Школа. Таварышы. Шэфства над калгаснымі фермамі. Электрыфікацыя. Севазвароты. «Камсамольцы, вышэй ураджай!» Колькі спраў, колькі захапляючых клопатаў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

§ 944. Некаторыя сказы, якія супадаюць па форме з намінатыўнымі, указваюць на прычыну таго, аб чым гаворыцца ў папярэдніх сказах. Гэтыя канструкцыі цесна звязаны з кантэкстам: *А куля — дзык! А другая ў руку! А трэцяя вось тут, у грудзі!.. Р э ш а т а! Э п а п е я!* (Я. Б р ы л ь. Зорка на спражцы). *«Я гуляю... пасля навальніцы... А з о н... Р а с а...» — «Ну, гуляйце, гуляйце», — і Даніла Платонавіч хутка рушыў далей. Раіса, дагнаўшы яго, пачула, як стары бурчэў: «Азон... Раса...»* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

## СЛОВЫ-СКАЗЫ

§ 945. Словы-сказы — гэта непадзельныя сінтаксічныя адзінкі з аднаго слова ці ўстойлівага спалучэння слоў, якія не з'яўляюцца ні галоўнымі, ні даданымі членамі сказа і не могуць быць развіты якімі-небудзь членамі сказа. Словы-сказы выражаюць сцвярджэнне, адмаўленне або ацэнку папярэдняга выказвання ці нейкай сітуацыі, яны могуць выяўляць якія-небудзь пачуцці да раней сказанага, пабуджаць да пэўнага дзеяння. Гэтыя своеасаблівыя канструкцыі пераважна ўжываюцца ў дыялогу, але могуць мець месца і ў маналогу.

Словы-сказы нельга зблытваць з аднаслоўнымі сказамі іншых тыпаў, напрыклад з няпоўнымі; апошнія маюць у сваім складзе тыя ці іншыя члены сказа. *«Значыцца, яны заўсёды жывуць на адным месцы, на беразе?»— здзівіўся Манг.— «Так»* (Я. Маўр. Сын вады). *Але зараз мне стала шкада яго не як няшчаслівага, мілага, па-дзіцячы здольнага хлопчыка. Не! Я стаў бедаваць аб марна загубленым таленце* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе). *Некалькі хвілін хлопцы стаялі моўчкі і прагна ўзіраліся на тое месца, дзе паказаліся людзі. Лёнік бачыў іх толькі на адзін міг. «Колькі іх было?» — запытаў ён. «Ці то два, ці то тры»,— адказаў Макарка* (Я. Колас. Макарка Навак).

Пры словах-сказах могуць быць словы, граматычна не звязаныя з гэтай канструкцыяй: звароткі, устаўныя словы і сказы, выклічнікі, а таксама ўзмацняльныя часціцы. Сымон. *А дзедка ўсё госціць у нас!* Старац. *Але, сынку мой* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Маўчанне парушыў Мікола. «Ведаеце што, хлопцы? Пакіну я...» — «Латуту свайго?» — перабіў Гарась.— «Але ж. Надакучыла мне, браткі, да смерці»* (В. Каваль. Сіняя восень). *Дубіна яшчэ раз ускінуў выразлівыя вочы на гаспадара, як бы чытаючы яго затоеныя мыслі. «Што ты, брат, нешта сам не свой?»—«А нічога. Проста трохі не даспаў, трохі натупаўся за дзень»* (Я. Колас. Адзін). *«Ідзі спаць... Цябе ўжо морыць сон...» — «О, не! Як жа так пайсці? Пабачым...»* (М. Гарэцкі. «Дурны настаўнік»).

Словы-сказы могуць мець пры сабе сказы, якія ўдакладняюць ці паясняюць іх, пераважна гэта паўтораныя (нярэдка ў змененым выглядзе) часткі папярэдняга выказвання. Старац. *А ў двары, кажуць, перамены цяпер вялікія пайшлі.* Марыля. *Але, дзедка,— перамены* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *«У мяне, бачыце, падарожжа сюды было незвычайнае крышку...» — «Так, падарожжа было незвычайнае, пойдзем»* (Б. Мікуліч. Дужасць). Халімон. *З вайны ж яму Даніла пісаў не раз.* Рыгор (узяўшы паперку). *Праўда, яго рука* (К. Крапіва. Партызаны).

У залежнасці ад зместу словы-сказы падзяляюцца на некалькі груп: сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы-сказы, эмацыянальна-ацэначныя словы-сказы, пабуджальныя словы-сказы.

§ 946. У ролі сцвярджальных слоў-сказаў выступаюць словы *так, але,* гутарковыя *ну, ага, эге, угу* і пад. Булыга. *Жывеш ты там, як воўк, адзін.* Шумяка. *Так, голубе, я трохі адзічэў* (Я. Колас. Забастоўшчыкі). Пры стаў. *Зямлі захацеў свае?* Леапольд Гушка. *Але, паночку* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). *«Праясняецца»,— сказаў я. «Ага... К вечару будзе лётная пагода»,— зазначыў Сеня* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *«Ты што, адзін дома?» — «Угу»* (І. Мележ. Дом пад сонцам).

Словы з мадальнай афарбоўкай (*добра, вядома, ладна, праўда, зразумела* і інш.) не толькі даюць адказ на пытанне, не толькі выражаюць згоду з папярэднім выказваннем, але і ўносяць адценне пэўнай ацэнкі. *«Вось я і хацеў прапанаваць табе ехаць разам».— «Добра. Тады пачакай тутака, пакуль вада падымецца»* (Я. Маўр. Сын вады). Дані-

л а. *То, мусіць, хутар перацягне?* Б а т у р а. *В я д о м а. Маргўн не дачакаецца, калі Шмігельскі ў сваты прыйдзе* (К. К р а п і в а. Партызаны). Б у й к е в і ч. *Вось на цябе і ўзвалілася твая сядзіба.* Л я в о н. *В е р н а* (А. М а к а ё н а к. Лявоніха на арбіце). *«Гэта — Ганс Крафт. Каланіст. З Украіны. Шпіён».—«Агент СД?» — «Б е з у м о ў н а»* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

Падобны характар, пераважна з большай эмацыянальнай афарбоўкай, маюць і спалучэнні *вось як, вунь як, чаму не, ну як жа, ды ўжо ж* і інш. Ц я р э ш к а. *Хто я такі? Гаспадар я тут!* К а в а л ь ч у к. *В о с ь т а к!* (А. М а к а ё н а к. Каб людзі не журыліся). М я р к у л а в і ч. *Вось купіш якую лахманіну, ходзіш з ёй дні два, пакуль прадасі — дый то не заўсёды заробіш.* Б а р б а р а. *Д ы ў ж о ж т а к* (М. З а р э ц к і. Віхор на балоце). Л я м э н т. *Вы пацвердзіце ўсё гэта, што казалі?* З ы г м у с ь. *Д з і в а ш т о! Адразу* (К. Ч о р н ы. Ірынка). *«Значыцца, замацаваліся?» — «Т а к т о ч н а, замацаваліся»* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 947. Некаторыя словы-сказы маюць характар няпэўнага адказу ці няпэўных адносін да папярэдняга выказвання. Акрамя слоў *нічога, дармо,* у такой канструкцыі могуць выступаць і паасобныя назоўнікі, але з выразнай зменай значэння. Л ю т ы н с к і. *Як болька, хацей я запытаць?* К а р н е й ч ы к. *Н і ч о г а. Траха што і зажыла ўжо* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). М о ц к і н. *Так жа можна прастудзіцца.* Г а р д з і ю к. *Н і ч о г а, н і ч о г а. Я не прамокла* (А. М а к а ё н а к. Выбачайце, калі ласка). А л е н а. *Ты выбач мне, дурной.* А з о р ы ч. *Д а р м о* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). М і р о н. *Прапала што-небудзь з лесу?* Х а р к е в і ч. *Г л у п с т в а. Пагранічнікі кляніну ссеклі, пры дарозе. Учора нешта везлі на заставу і дышла ў іх зламалася* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка).

§ 948. А д м о ў н ы я словы-сказы маюць значна меншую колькасць варыянтаў, чым сцвярджальныя. Адмоўныя словы-сказы ўжываюцца ці як адказ на пытанне, ці як выражэнне нязгоды з папярэднім выказваннем. *«З людзьмі, мусіць, не сышоўся душа ў душу, а?» — «Д ы н е. Людзі мне падабаюцца»* (І. М е л е ж. Зямля, якую любіш). М а р ы н к а. *Ваш Янка яшчэ не прыходзіў?* М а ц і. *Янка? Н е, даражэнькая, ні старога майго няма, ні Янкі* (В. В о л ь с к і. Цудоўная дудка). *«Зося, табе холадна?» — спытала Маша, якая сядзела за яе спіной.— На маю куртку».— «Н е-н е. Нічога. Гэта так!»* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні). *«Гэты вось, Малец, — ён тыцнуў рукой у грудзі Даніку,— падвучыў іх сабраць грошы...» — «Н я п р а ў д а», — перабіў яго Санька* (Я. Б р ы л ь. Сірочы хлеб).

§ 949. Сцвярджальныя і адмоўныя словы *(так, не),* пытальныя часціцы пры адпаведнай інтанацыі выступаюць у якасці п ы т а л ь н ы х слоў-сказаў. М і х а л. *Просім вашай згоды. З Соняй мы ўжо рашылі. Т а к?* С о н я. *Учора рашылі...* (А. М а к а ё н а к. Лявоніха на арбіце). А б а б у р к а. *Здароў, друг. Што ж ты гэта? Я ўжо чакаў, чакаў. Сядай! Н у?* Х а р к е в і ч. *Прыбыў* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка).

§ 950. Э м а ц ы я н а л ь н а-а ц э н а ч н ы я словы-сказы даюць эмацыянальную ці мадальную ацэнку зробленага, сказанага субяседнікам, у большасці выпадкаў яны з'яўляюцца клічнымі. Гэтыя сказы складаюцца з выклічнікаў або слоў, блізкіх да іх па значэнню. Словамі-сказамі з'яўляюцца і назоўнікі ў форме назоўнага склону, якія даюць эмацыянальна-ацэначную характарыстыку таго, што ўбачыў, пачуў персанаж. Такія словы-сказы адрозніваюцца ад намінатыўных, бо ў апошніх назоўнік указвае на наяўнасць прадмета або з'явы, не даючы ім ацэнкі. Словы-сказы могуць выражаць ацэнку і таго, што сказаў або зрабіў сам персанаж. *Але растлумачылі: інакш нельга, можа яшчэ збегчы хто, расказаць пра склад. «А-а...» — здагадаўся тады Ганс* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Гэта таксама справа агульная, дзяржаўная».—*

*«Н у?!» — здзівіўся Тугай* (Я. Маўр. Амок). *«Навошта ты кідаешся гэтакімі словамі?» — «А й!»* (К. Чорны. Лявон Бушмар). Лютынскі. *Яшчэ самаварчык пастаў ды ідзі сабе.* Ульяна. *Вой! Такой гарачынёй ды чай піць* (К. Крапіва. Канец дружбы). Мірон. *Ён мяне вось чым рэзнуць хацеў!* (Паказвае нож). Насця. *А х!* (Схапілася за галаву) (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Але ў тым і бяда, што ў апошні час, калі ўсё, здавалася б, высветлілася, у яго раптам як бы знікла натхненне. Парадокс* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Рыгор. *Не, не магу* (Адкідае ўбок абору і кладзецца на ложак. Кацярына падыходзіць да яго). Кацярына. *Баязлівец, размазня! Усё роўна яму не жыць, ён без цябе загіне* (К. Крапіва. Партызаны). *Рыгор падцягнуў яе да самага берага, скочыў уніз і вывалак на траву. У ёй было бадай не менш двух кілаграмаў — першая вялікая рыбіна ў гэта лета. «Ого!— пачуў ён збоку ад сябе пявучы голас.— Малайчына, хлопчык!»* (М. Лупсякоў. Аднагодкі).

§ 951. Пабуджальныя словы-сказы перадаюць і рэакцыю на якія-небудзь падзеі, учынкі або выказванне і адначасова з'яўляюцца волевыяўленнем таго, хто гаворыць. У гэтых сказах, выражаных выклічнікамі (сярод іх нямала такіх, што ўзыходзяць да назоўнікаў), заключаецца пабуджэнне да пэўнага дзеяння. Часцей за ўсё пабуджальныя словы-сказы з'яўляюцца клічнымі. *«Ся, малая! Гэй, паволі! Но, кабыла!» — свішча заяц* (Я. Колас. Заяц). *«Сыдзі на брук, — кажу я да Лісніцкага.— Н у!..»* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *«Во-о-о н!— раптам крычыць Галена.— Вон! Вон!»* (К. Чорны. Лявон Бушмар). Повар. *Ц с-с-с! Асцярожней!.. Нас могуць пачуць* (В. Вольскі. Цудоўная дудка). Буйкевіч. *Максім! Ш а! Улічы гістарычную важнасць моманту!* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). Пан Яндрыхоўскі. *Не размаўляць! Марш, марш!* (К. Крапіва. Партызаны). *Бушмар, не спяшаючы, бярэ яго за штрыфлі вопраткі. «Гва-а-алт!.. Васпане, што робіш!»* (К. Чорны. Лявон Бушмар). Самасееў. *Каравул! Б'юць! Ратуйце! Каравул!* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

§ 952. Да слоў-сказаў адносяцца і такія, што выражаюць падзяку, прывітанне, просьбу. Вельмі часта тут пры словах *дзякуй, здароў, выбачайце, бывай* і інш. ужываецца зваротак. Пралыгін (звоніць па тэлефоне). *Мне Іванова... А, здароў! Ці ўсё ў парадку?* (М. Клімковіч. Уся ўлада Саветам). Глуздакоў. *А-а, Лявоніха! Здарова, здарова* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). *«Бывайце».— з смуткам сказаў ёй Бушмар* (К. Чорны. Лявон Бушмар). Чарнавус. *Не, выбачайце! Разам працавалі, разам і адказваць будзем* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Юрась. *Бывай, Несцерка!* (В. Вольскі. Несцерка).

## НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ

§ 953. Няпоўнымі прынята называць такія сказы, у якіх фармальна адсутнічае адзін або некалькі членаў сказа, што падказваюцца абставінамі размовы, кантэкстам ці ўласнымі лексіка-граматычнымі сродкамі сказа. Няпоўныя сказы характэрны для размоўнага стылю і мовы мастацкай літаратуры. Яны суадносяцца з пэўнымі тыпамі поўных сказаў кніжнай мовы. Але падразумяванне тых або іншых членаў няпоўных сказаў носіць умоўны характар, гутарка пра гэта ідзе толькі дзеля зручнасці іх вывучэння. Увядзенне ў склад няпоўных сказаў слоў, якіх тут быццам не хапае, непатрэбна, нават недапушчальна, гэта змяніла б структуру сказаў, прывяло б да іншай стылістычнай афарбоўкі.

Адсутнасць таго ці іншага члена з'яўляецца нормай будовы адпаведных няпоўных сказаў. Таму ўжыванне тэрміна «няпоўныя сказы» мае ўмоўны характар, гэты тэрмін выкарыстоўваецца традыцыйна для абазначэння своеасаблівых сінтаксічных канструкцый гутарковай мовы і ўказвае на суадноснасць іх з пэўнымі канструкцыямі кніжнай мовы.

Тэрмінам «няпоўныя сказы» аб'ядноўваюцца даволі разнародныя па складу і ўмовах функцыяніравання групы сказаў:

1) няпоўныя сказы ва ўзаемазвязаных рэпліках дыялога;

2) няпоўныя сказы ў саставе складаных сказаў;

3) няпоўныя сказы, што ўжываюцца самастойна (эліптычныя сказы).

Асобна разглядаюцца няпоўныя сказы, якія з'яўляюцца ўстойлівымі словазлучэннямі, фразеалагізмамі.

## НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ ВА ЎЗАЕМАЗВЯЗАНЫХ РЭПЛІКАХ ДЫЯЛОГА

§ 954. Асаблівасць структуры рэплік дыялога звязана з умовамі, у якіх ён адбываецца: непасрэдны моўны кантакт субяседнікаў, дапамога жэста, мімікі, самой сітуацыі, у якой праходзіць гутарка, — усё гэта прыводзіць да вельмі шырокага ўжывання няпоўных сказаў. Рэплікі дыялога часцей за ўсё выступаюць не ізалявана, а ў сукупнасці. Дзве або некалькі рэплік утвараюць так званае дыялагічнае адзінства (гл. § 1400). Рэплікі, якія ўваходзяць у такое адзінства, па сутнасці складаюць адну канструкцыю: адна рэпліка дапаўняе другую і ў сінтаксічных і ў лексічных адносінах. У такіх умовах няма патрэбы ва ўжыванні ўсіх членаў сказа, ёсць магчымасць гаварыць асноўнае, новае, а астатняе становіцца вядомым з папярэдняга. Наступная рэпліка як бы папаўняецца членамі сказа з іншых рэплік, з якімі яна звязана: Чырвонаармеец. *Хто ў хаце ёсць?* Ірынка. *Я.* Чырвонаармеец. *А яшчэ хто?* Ірынка. *Больш нікога* (К. Чорны. Ірынка). Карнейчык. *Як яго прозвішча?* Насця. *Касабуцкі* (К. Крапіва. Канец дружбы). Лявон. *Ты пра якіх там сватоў гаварыла?* Лушка. *Да Сонькі да нашай, дачкі твае!* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

Сярод дыялагічных адзінстваў выдзяляюцца дзве групы канструкцый:

1) адзінства, якое складаецца з рэплікі-пытання і рэплікі-адказу;

2) адзінства, якое складаецца з узаемазвязаных рэплік дыялога (без пытання), прычым няпоўны сказ звычайна ўжываецца ў другой рэпліцы. *«А чаго ён да цябе заходзіў?» — «Наконт брата»* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). Туляга. *Паверце, Аляксандр Пятровіч, што ўсё гэта выдумка ад пачатку да канца. Я палкоўнікам ніколі не быў.* Гарлахвацкі. *Ну, можа падпалкоўнікам* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

Ёсць і некаторыя іншыя віды арганізацыі дыялагічнага адзінства, але найбольш пашыраны гэтыя дзве групы.

Па наяўнасці членаў сказа ў наступнай рэпліцы можа быць некалькі тыпаў няпоўных сказаў. Гэта сказы, якія ўключаюць:

1) дзейнік са словамі, што да яго адносяцца (пры адсутнасці выказніка);

2) дзейнік са словамі, што да яго адносяцца, і члены сказа, якія залежаць ад выказніка (пры адсутнасці выказніка);

3) выказнік са словамі, што да яго адносяцца (пры адсутнасці дзейніка);

4) члены сказа, што залежаць ад выказніка (пры адсутнасці выказніка і дзейніка);

5) азначэнне (пры адсутнасці азначаемага слова).

§ 955. У рэпліцы-пытанні звычайна ўжываюцца пытальныя словы, на якія падае лагічны націск. У адказе слова ці некалькі слоў пераваж-

на выступаюць у той жа функцыі, што і пытальнае слова ў папярэдняй рэпліцы. Калі першая рэпліка не з'яўляецца пытаннем, у другой робіцца дадатковае ўдакладненне, даецца тлумачэнне і г. д. Павал Няміра. *Хто піша?* Адась Гушка. *Цывін, што разам са мной на фабрыцы працаваў* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). Несцерка. *А яны і слухаць не хочуць: кароль ды годзе!..* Шкаляр. *Але хто — яны?* Несцерка. *Ды паслы.* Шкаляр. *Але дзе яны?* Несцерка. *Па фурманку пайшлі* (В. Вольскі. Несцерка). *«Адкуль ты такая храбрая? Як ты сюды трапіла?» — «Са станцыі, цётачка»* (А. Астапенка. Першае заданне). Ірынка. *Куды ты ідзеш?* Мікалай. *Недалёчка, ун сюды, за рэчку* (К. Чорны. Ірынка). *«Ты ў які клас пойдзеш?» — «У шосты». — «І я таксама»* (М. Лупсякоў. Аднагодкі). Абабурка. *Колькі гадоў ён палявод?* Міхась. *Пяць* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *І хлапчук пад'язджае з кійком пад акно: «Тэлефон выклікае!» — «Які тэлефон?» — «Сельсавецкі, вядома!..»* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). Георгій. *Распіска ёсць?* Ешка. *На пяцьдзесят, здаецца, ёсць, а рэшту ўзяў пры сведках* (М. Клімковіч. Георгій Скарына).

§ 956. Дыялагічныя адзінствы з няпоўным сказам у другой рэпліцы без рэплікі-пытання маюць некалькі меншае пашырэнне, чым дыялагічныя адзінствы з рэплікай-пытаннем: *«Як гэта я дагэтуль не здагадвалася! Гэта ж ты ўсадзіў яго!» — «Бушмара? Я!» — урачыста крычыць Вінцэнты* (К. Чорны. Лявон Бушмар). Несцерка. *Гаршчок таксама ладны.* Мальвіна. *Прыгожы, зграбны!* (В. Вольскі. Несцерка). *«Жанчына ў бальніцы. Пасля цяжкай аперацыі...» — «На сэрцы», — падказаў Шыковіч* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Вартавы. *Жабрак прычапіўся, таварыш начдыў. Хоча бачыць нейкага начальніка.* Дзед Бадыль. *Не нейкага, а самага большага* (К. Крапіва. Партызаны).

§ 957. Разнавіднасцю дыялагічных адзінстваў з пытаннем і адказам з'яўляюцца такія, у якіх субяседніку ў самім пытанні даецца магчымасць выбраць адзін з варыянтаў адказу (першая рэпліка ў гэтым выпадку, як правіла, не мае пытальных слоў, акрамя пытальнай часціцы *ці*). Тады ў другой рэпліцы паўтараецца слова або спалучэнне слоў з першай рэплікі. Пры гэтым словы часам змяняюць свае формы (асабовыя формы дзеяслова, асабовыя займеннікі і інш.). У рэпліцы-адказе замогуць быць словы, блізкія па значэнню да слоў першай рэплікі, замест якіх яны выступаюць. Другая рэпліка бывае і часткай словазлучэння, г. зн. у адказе не паўтараецца ўсё словазлучэнне. Князь Глінскі. *Усе ў зборы?* Бабіч. *Усе, за выключэннем Скарыны* (М. Клімковіч. Георгій Скарына). *«Міхалка, — шэпча ён, — спіш?» — «Сплю, галава баліць», — нібы праз сон крэкча Міхалка, поўны зларадная хітрасці* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). Міхась. *Ну, дык што ж? Усё ў парадку, цётка Сцепаніда?* Сцепаніда. *Канешне, усё!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *«Дык ці хто пытаў, ці так надалую прыйшла?» — звярнулася яна да Ніны. «Так, мо' хто нойме»* (П. Галавач. Загубленае жыццё). Чарноцкі. *Дык зусім малая твая дачка?* Мікалай. *Зусім малая* (К. Чорны. Ірынка). Гудзееў. *Рэвізію гаспадарчай дзейнасці Самасеева закончылі?* Кавальчук. *Закончылі* (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся).

§ 958. Своеасаблівыя спалучэнні ўтвараюць рэплікі, адна з якіх з'яўляецца ўдакладняльным пытаннем. Субяседнік задае пытанне, каб высветліць няяснае для яго, каб даведацца, ці правільна ён зразумеў таго, хто з ім гаворыць, і г. д. Гэта пытанне, а ў многіх выпадках і адказ афармляюцца як няпоўны сказ: Туляга. *А я ў той час таксама быў у Варонежы.* Вера. *Палкоўнікам?* Туляга. *Не, я быў настаўнікам гімназіі* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Есель. *Чаго гэта ён тут сядзеў з віламі?* Костусь. *Хто?* Есель. *Ну гэты Якубоўскі*

(К. Чорны. Лета). *«Там, у рамане,— кіўнула Маша на кніжку,— гэта, напэўна, называецца: ён папрасіў яе рукі».— «Хто?» — «Тарас — маёй»* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 959. У другой рэпліцы можа быць ужыта даданая частка складаназалежнага сказа. Галоўная частка ў гэтым выпадку аднаўляецца з папярэдняй рэплікі. Часам гэта другая рэпліка можа мець пры даданай частцы суадноснае слова, якое засталося тут ад галоўнай часткі. *«Мне сорамна, што ты мяне, як малога, вядзеш...» — «Бо я дарогу ведаю»* (П. Галавач. Спалох на загонах). *«Я пакінуў? Я да тралейбуса пабег, а ты за мной не пабегла!..» — «Бо вуліцу перабягаць няможна!»* (Я. Брыль. Светлае ранне). Гудовіч. *Вы мне казку расказваеце.* Юля. *Якая стане праўдай* (К. Крапіва. З народам). *«Жыта і ярына, значыцца, вам асталіся?» — «Якія жыта і ярына?» — «А што Скуратовіч у вас складаў!»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«А што ты, дочка, скубеш?» Я, братка, клею дый чую: «Драсён»,— кажа тая дзяўчына. «А навошта?» — «Каб не блытаў красён». А сама засмяялася хораша, звонка* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). Наташа. *А за што вы яго?* Лёня. *За тое, што ўсім грахі даруе* (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

## НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ У САСТАВЕ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ

§ 960. У многім падобныя да ўзаемазвязаных рэплік дыялога з няпоўным сказам складаныя сказы, для якіх характэрна непаўната фармальна-граматычнага складу адной ці некалькіх яго састаўных частак. Звычайна адсутнічаюць тыя словы, якія ёсць у іншых частках складанага сказа. Няпоўнымі могуць быць як часткі складаназлучанага, так і часткі складаназалежнага сказа. У апошнім выпадку няпоўнымі можа быць галоўная або даданая частка ці абедзве часткі складанага сказа. Часцей за ўсё апускаецца выказнік, калі ён абазначае аднолькавыя дзеянні. Дзейнік не паўтараецца тады, калі ён аднолькавы ў некалькіх частках, а таксама калі слова, якое павінна быць дзейнікам у адной ці некалькіх частках, ужо ёсць у адной з частак складанага сказа ў іншай функцыі, пераважна ў ролі дапаўнення. У частках складанага сказа можа не паўтарацца азначаемае слова (пры наяўнасці азначэння), дапаўненне (пры наяўнасці кіруючага слова, звычайна гэта выказнік, выражаны пераходным дзеясловам). Зразумела, што ў частках складанага сказа можа адсутнічаць не які-небудзь адзін член сказа, а некалькі (дзейнік і выказнік, выказнік і азначаемае слова і г. д.).

Усё сказанае адносіцца не толькі да частак складанага сказа, але і да сказаў, якія аддзелены ад папярэдніх адпаведнай паўзай, а на пісьме — кропкай, але характар адносін якіх з папярэднімі сказамі нагадвае адносіны частак складаназалежнага ці складаназлучанага сказа. Напорка. *Тут сядзіба пана Сурвілы, а там, крышку наводшыбе, пана Мазавецкага* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Я ляжаў за плітой, і Нядоля — са мной* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Ураднік апусціў вочы, зірнуў на стражніка, стражнік — на соцкага* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Ідуць некалькі чалавек злева, з саду. З імі — Мікола. Ад клуба ідзе Ліда, разам з ёю Лук'янконюх* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Многія «дзеячы» выклікалі падазрэнне. Ён — не* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Гілёрык упёрся нагамі ў крайнія лёсткі, а рукамі ўшчарэпіўся за вулей, каб не з'ехаў* (Я. Колас. Калодка пчол). *Парабак нядаўна памёр, дык, значыцца, і рабіць пакінуў таму, у каго служыў* (К. Чорны. Зямля). *Якім зернем хто сее, такім і збірае. Як галава не будзе без воласа, так жытніішча без коласа* (народн.).

§ 961. Часткі складанага сказа з адсутным выказнікам могуць канкрэтызаваць дзеянне, якое абазначана выказнікам папярэдняй часткі складанага бяззлучнікавага ці складаназлучанага сказа. У ролі дзейнікаў у гэтых частках ужываюцца займеннік *хто* ў размеркавальным значэнні, спалучэнні *адзін... другі* ці іншыя, якія звычайна выступаюць тут у няпоўным саставе. Зразумела, у гэтых сказах нярэдка няма і іншых членаў сказа. Д а м і ц э л я. *З'ямо, кумок, ды пойдзем: я — шукаць свайго Трахімкі, а ты — сваёй Паланейкі* (Я. К у п а л а. Прымакі). *У другой грамадзе народ акружыў чалавека з круцёлкаю і пазіраў, як прабаваў хто шчасця: клаў дзесяткі і грыўні і круціў. Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць, гула асмаленая* (Я. К о л а с. Кірмаш). С к а м а р о х. *Вось і рашылі паблукаць па вёсках, яны ў суседнюю, я ў гэту* (М. К л і м к о в і ч. Георгій Скарына). *Ногі не слухалі Янкі, а ішлі, як хацелі: адна ўлева, другая ўправа, а сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, то ў адзін бок, то ў другі* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў).

§ 962. Азначаемы член можа не паўтарацца, калі ён у другой частцы сказа выступае з іншым азначэннем. Назіраецца гэта як у простым (звычайна з некалькімі выказнікамі), так і ў складаным сказе. Гэта з'ява мае значнае пашырэнне ў мове мастацкай літаратуры: *Мартын падцягнуў найперад Аўгінін човен,* *п о т ы м с в о й* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Кастусь Прыбыткоўскі трымаў у левай руцэ аўтаматычную вінтоўку, а* *п р а в а й* *даставаў з пояса гранату* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

§ 963. Асобна выдзяляюцца сказы, у якіх апушчана частка спалучэння, што выконвае ролю аднаго члена сказа, а таксама сказы з адсутнымі часткамі граматычнай формы.

Найбольш пашыраны ў беларускай мове сказы з апушчаным назоўнікам, які з'яўляўся б часткай колькасна-іменнага спалучэння. Прычым сказы з парадкавымі лічэбнікамі — членамі спалучэння асабліва блізкія (адносна прычын апушчэння азначаемага) да сказаў, пра якія гаварылася ў § 962: *Бом... бом... бом... Гэта каланча гарадская выбівае гадзіны.* *У ж о д з е с я ц ь* (П. Г а л а в а ч. Яўленая). *Саша глядзіць на кошык, напоўнены бульбай, і не можа ўспомніць, які гэта па ліку. Чатыры яна высыпае ў гаспадарскія мяшкі,* *п я т ы — у с в о й* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). К а р о л ь. *Першую курачку я бяру сабе. Другую даю каралеве. Трэцюю і чацвёртую — каралевічам. Пятую — старэйшай маёй дачцы. Шостую... А дзе шостая?..* (В. В о л ь с к і. Цудоўная дудка).

У наступных сказах могуць апускацца дапаможныя ці паўназначныя дзеясловы, што ўваходзяць у склад выказніка або галоўнага члена бездзеяслова сказа, а таксама інфінітывы. Калі аднародныя выказнікі выражаны складанай формай будучага часу, то можа не паўтарацца інфінітыў ці дзеяслоў-звязка (гл. «Граматыку беларускай мовы», т. 1, § 870).

## НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ, У ЯКІХ АДСУТНІЧАЕ ВЫКАЗНІК

§ 964. Сярод няпоўных сказаў асобны тып складаюць сказы з адсутным дзеясловам-выказнікам, прычым для аднаўлення гэтага выказніка не патрэбен шырокі кантэкст, ён зразумелы са структуры самога сказа. Па сутнасці функцыю гэтага дзеяслоўнага выказніка выконваюць дапаўненні і акалічнасці. Такія сказы часам называюць э л і п т ы ч н ы м і.

Няпоўныя сказы з адсутным дзеясловам-выказнікам у залежнасці ад таго, з якімі поўнымі сказамі яны суадносяцца, падзяляюцца на дзве

групы: 1) сказы, якім адпавядаюць поўныя сказы з дзеясловам-выказнікам са значэннем наяўнасці, існавання, праяўлення, успрыняцця, 2) сказы, якім адпавядаюць поўныя сказы з дзеясловам-выказнікам са значэннем руху.

Сказы абедзвюх груп характэрны пераважна для апавядальнага стылю, яны шырока бытуюць у гутарковай мове. Словы з саставу выказніка ў гэтых сказах могуць знаходзіцца як перад дзейнікам, так і пасля яго. У першай групе больш пашыраны сказы з прэпазіцыяй акалічнасцей і дапаўненняў, у другой групе пераважаюць сказы з іх постпазіцыяй адносна дзейніка: *На сцэне вялікі шчыт з паказчыкамі лепшых вынікаў працы* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *У Сілічах, за барамі — іх родная школа: дом старажытны і парк на ўзбярэжжы ракі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). Мікола. *Як толькі ён загудзеў, я таго з ямы і на бальшак... Машына стала, ён—туды, і паехалі* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Заўвага. У адносінах эліптычных сказаў тэрміны «акалічнасць» і «дапаўненне» часта маюць умоўны характар, бо гэтыя члены сказа нярэдка выконваюць тут функцыю выказніка. Але для зручнасці ў раздзеле выкарыстоўваюцца гэтыя традыцыйныя тэрміны.

§ 965. Сказы, суадносныя з поўнымі сказамі, у якіх дзеяслоў-выказнік мае значэнне існавання, знаходжання, наяўнасці, праяўлення, успрыняцця, уключаюць у свой склад часцей за ўсё акалічнасці часу ці месца, апошнія ўдакладняюць, дзе ці ў які час існаваў, знаходзіўся прадмет (асоба). Дапаўненні ў гэтых сказах сустракаюцца радзей. Эліптычныя сказы гэтай групы ўжываюцца ў мастацкіх апісаннях, аўтарскіх рэмарках у драматычных творах, а таксама ў гутарковай мове. *Хата дзеда Бадыля. Налева — печ. У процілеглым куце — стол пад абразамі* (К. Крапіва. Партызаны). *Убок ад вазоў — у два рады сталы. На сталах розныя тавары* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Вакол — лугі. Трава ў пояс, а то і па плечы. Далёка на небасхіле — паселішчы* (М. Лупсякоў. На вірах). Лютынскі. *Давай паедзем разам да майго старога. Там — лес, рака...* (К. Крапіва. Канец дружбы). *А сёння ў Маскве на Чырвонай плошчы — парад* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У радзе выпадкаў адчуваецца, што няпоўны сказ суадносіцца з поўным сказам, у якім дзеяслоў-выказнік з асаблівай падкрэсленасцю выражае значэнне наяўнасці, праяўлення, успрыняцця: *Збоку, абапёршыся на вінтоўку, босы, у шэрай світцы Павал* (П. Галавач. Суседзі). *Пад вязам, за акном, цяжкія крокі — жандар пільнуе дом* (А. Вялюгін. Вецер з Волгі). *Таты ўсё яшчэ няма, Марылька — у школе, мама паехала ў горад,— і Люся засталася ў кватэры адна* (Я. Брыль. Светлае ранне). *І наогул, Антаніна Пятроўна, сёння я ў вас апошні дзень* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Яшчэ і яшчэ раз дружныя ўдары* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

§ 966. Да першай групы адносяцца і такія няпоўныя сказы, у якіх дапаўненне выражана або формай роднага склону з прыназоўнікам *у*, або формай давальнага склону назоўніка ці займенніка. Гэтыя словы ўказваюць на сувязь пэўнай асобы з абазначанай дзейнікам з'явай. Канструкцыі з формай роднага склону больш разнастайныя па сваіх значэннях, чым канструкцыі з формай давальнага склону, апошнія маюць толькі адно значэнне— указанне на ўзрост пэўнай асобы, прадмета, істоты. *У іх насцярожаныя, суровыя твары* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Ды што ў нас — эксперыментальны цэх?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *У каго дзеці, у таго шчасце* (народн.). *Хворай — трыццаць шэсць год* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Хлопец. *Мне дваццаць сем гадоў* (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). *Мне толькі дзевятнаццаты год, з апошняй мабілізацыі папаў на фронт* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

Сказы, што ўказваюць на ўзрост асобы, абазначанай дапаўненнем, абавязкова ўключаюць колькасна-іменнае спалучэнне, праўда, часам яно бывае няпоўным: *Браты. Аднаму дзевяць, другому сем* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

§ 967. Сказы, суадносныя з поўнымі сказамі з дзеясловамі-выказнікамі са значэннем руху, у сваім складзе маюць дзейнік, што абазначае таго, хто ўтварае дзеянне, і даданыя члены, апошнія ўказваюць, на які прадмет накіравана гэта дзеянне, дзе яно пачалося, месца, спосаб дзеяння і г. д. Звычайна для гэтых сказаў характэрна выражэнне імгненнасці, энергічнасці дзеяння. Яны пашыраны ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры. Дзейнік тут пераважна знаходзіцца перад даданымі членамі з саставу выказніка, але сустракаецца і постпазіцыя слова, якое абазначае суб'ект дзеяння: *Я на мост, і ён за мною* (В. В о л ь с к і. Несцерка). *Яна наўцёкі, а я за ёю. Яна сюды, ад мяне ратуючыся, і я следам* (К. Ч о р н ы. Ірынка). П р а л ы г і н. *Сама—на станцыю, за стрэлкі... будка справа... спытаеш «дзеда»* (М. К л і м к о в і ч. Уся ўлада Саветам). *Бярэ яго ззаду за плечы і кідае ў дзверы. З дзвярэй насустрач мешчанчук, нечакана, як здань* (К. Ч о р н ы. Драма «Бацькаўшчына»). *Ён ішоў паміж станкамі, як па лесе. Насвістваў. І раптам з-за станка — яна, Нінка* (І. Ш а м я к і н. Сэрца на далоні).

У няпоўным эліптычным сказе можа быць апушчан дзеяслоў, які ўваходзіць ва ўстойлівае спалучэнне, астатняя частка спалучэння ў сказе застаецца, таму адсутны дзеяслоў лёгка ўзнаўляецца і без шырокага кантэксту: *Дзень за днём і месяц за месяцам. Зіма за восенню. Нарэшце, буйная кропля вады ўпала марозлівым і сонечным днём са страхі* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *А ён яе адразу на вялікі фрэзерны станок* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *Ён зямлі і свабоды дабіваецца людзям, а яна яго мешалкаю!* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў). Д ж у з е п е. *Дык вось, прыйшлі. Вартаўніка за горла, ключы ад пояса і ў храм* (М. К л і м к о в і ч. Георгій Скарына).

§ 968. Вельмі часта ў сучаснай беларускай мове ўжываюцца няпоўныя сказы, якія выражаюць загад, патрабаванне, просьбу, пажаданне і якія маглі б быць суаднесены з поўнымі сказамі, дзе выказнікамі з'яўляюцца формы загаднага ладу ці інфінітыў, калі апошні выражае загад. У склад такіх сказаў уваходзяць назоўнікі і займеннікі ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі і без іх, прыслоўі; назоўнік можа мець пры сабе азначэнне. Дзейніка тут няма, але на асобу, да якой звяртаюцца з просьбай, загадам, нярэдка ўказвае зваротак.

У адных выпадках лёгка сказаць, які дзеяслоў з'яўляецца выказнікам ці галоўным членам (у інфінітыўных) адпаведнага поўнага сказа, у другіх зрабіць гэта цяжка ці нават немагчыма. Такую своеасаблівую канструкцыю гутарковай мовы нельга разглядаць як нейкае адступленне ад норм беларускай мовы, яна мае сваю сферу ўжывання і свае функцыі.

Няпоўныя сказы адзначанага тыпу падзяляюцца на некалькі груп:

1. Сказы, у склад якіх уваходзіць назоўнік у форме вінавальнага ці роднага склону. Гэты назоўнік абазначае прадмет, які патрабуюць, просяць і г. д.: Ж а н д а р. *Д а к у м е н т ы!* С к і б а. *Якія ж, пане, дакументы ў свата!* (К. К р а п і в а. Партызаны). Я р а ш э в і ч. *Не, я глядзеў без бінокля.* Ч а р н о ц к і (нецярпліва). *Б і н о к л ь.* (Ярашэвіч бярэ з чамадана бінокль і дае Чарноцкаму) (К. Ч о р н ы. Ірынка). М я с н і к о ў. *Марына, Г о л ь м а н а! Гольман* (уваходзячы ў пакой). *А Гольман тут* (П. Г л е б к а. Святло з Усходу). *«Л я м п у!» — загадаў той, які стаяў пасярод і трымаў ліхтарык* (У. К а р п а ў. Нямігі крывавыя берагі). П а о л а. *В і н а, Джакобе... Што, цяжка, камандор? Віна б мо' выпіў?* (М. К л і м к о в і ч. Георгій Скарына). П а н. *Гэй!* (Прыходзіць слуга). *С т р э л ь б у! Н і т к у! В а р а н а е я й к а!* (Слуга прыносіць тое, што загадаў пан) (В. В о л ь с к і. Несцерка).

2. Сказы, у склад якіх уваходзіць назоўнік ці займеннік у форме ўскоснага склону з прыназоўнікам. Такія сказы пераважна з'яўляюцца пабуджэннем да дзеяння ў пэўным напрамку, да пэўнага прадмета ці асобы: *«Кругом агонь!» — адказалі яму сотні ўтрапёных галасоў. «Праз агонь!» — крыкнуў Астаповіч* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Чарняхоўскі загадаў: «У штаб фронту!»* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *«За мной!» — крыкнуў Кіян* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

3. Сказы, якія складаюцца з прыслоўя. Часцей за ўсё такое прыслоўе мае простую форму вышэйшай ступені параўнання: *«Сюды! Хутчэй!»— раздаўся яго вясёлы голас* (Я. Маўр. У краіне райскай птушкі). *Раптам нечы патрабавальны і рашучы голас: «Стой! Назад!»* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). Кацярына. *Ціха! Чаго ты крычыш?* (К. Крапіва. Партызаны). *І бурна расцалаваўшыся з Чычынам, з такой сілай сціснуў яго ў абдымках, што той, ледзь устаяўшы на нагах, узмаліўся: «Цішэй, цішэй, Канстанцін Сяргеевіч!»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Рота выцягвалася ўсцяж лінейкі. «Хутчэй, хутчэй», — падганяў Гогабярыдзе* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Але найбольш часта ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца такія няпоўныя сказы, якія з'яўляюцца рознага роду камбінацыяй гэтых паасобных тыпаў няпоўных пабуджальных сказаў. У сказе могуць быць прыслоўе і форма ўскоснага склону назоўніка ці займенніка, назоўнік ці займеннік у форме вінавальнага склону без прыназоўніка і імя ў форме ўскоснага склону з прыназоўнікам і г. д.: *«Бліжэй да яго! З гранатамі!» — закрычаў Прыбыткоўскі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). Жандарскі чын (да жандара). *Гушку сюды!* (Да Цывіна). *Будзеш глядзець яму ў вочы і расказваць мне ўсё* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). *«За рэчку, падалей, на балота!» — падаў каманду аўтаматчыкам Бохан* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Юрась. *Хутчэй на дапамогу!* (В. Вольскі. Несцерка). *«Гэта вы засвоілі, — сказаў Сербаноўскі, набіраючы нумар тэлефона. — Ало. Швагерава да мяне...»* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

§ 969. Да разгледжанага тыпу няпоўных пабуджальных сказаў прымыкаюць і такія, што складаюцца з устойлівых спалучэнняў. Яны выражаюць пажаданне, прывітанне, пагрозу і г. д. Суаднесенасць з некаторымі групамі поўных сказаў дае падставу лічыць гэтыя ўстойлівыя спалучэнні (з пэўнымі агаворкамі) няпоўнымі сказамі, хоць іменна тут з асаблівай выразнасцю выяўляецца ўся ўмоўнасць такога іх называння: Ліда. *А, вось яны дзе, прыяцелі! Добрая раніца вам.* Мірон. *Добрае ранне!* Харкевіч. *Добрага здароўя* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). Азорыч. *Ну, добрай ночы! Кладзіцеся ды адпачніце трохі* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). Несцерка. *Шчаслівай дарогі!* (В. Вольскі. Несцерка). Усе прысутныя. *У добры час! У добрую гадзіну! На доўгі век! На Насціна шчасце!* (там жа). Данілава маці. *Шчасліва табе, сынок!* (К. Крапіва. Партызаны). *«Прабачце, пане, дазвольце прыкурыць».—«Калі ласка, калі ласка!»* (П. Галавач. Навела без назвы). *«Эх вы, а яшчэ рыцар называецца! Ну, бывайце здаровы».— «Добрых сноў і добрых жаніхоў...» — у тон ёй адказаў Заслонаў і спяшаючыся пайшоў назад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мір краінам! Улада Саветам рабочых!* (П. Глебка. У тыя дні). Георгій. *Народу слава, яго вачам уважлівым хвала, яго дапытліваму розуму...* (М. Клімковіч. Георгій Скарына).

§ 970. Няпоўнымі па форме з'яўляюцца і некаторыя пытальныя сказы, сярод якіх сустракаюцца і такія, што складаюцца з устойлівых словазлучэнняў: *А маці дзе яго?* (К. Чорны. Зямля). *Хто ў другую роту?!* (Э. Самуйлёнак. Сон). Марыля. *Што з табою, Зоська?.. Зосечка* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Што за прычына? Я туды, я сюды— няма жонкі* (Ф. Багушэвіч. Палясоўшчык). *Было ўжо зусім відно,*

*як Пятрусь прачухаўся трохі і падняў галаву. «Што за ліха? Што гэта? Дзе ж гэта я?»* (Я. Колас. Кірмаш). *Малады лейтэнант, які сядзеў там з пажылым чалавекам і аб нечым гаварыў з ім, суха запытаў у Соміка: «Па якому пытанню?»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 971. Няпоўныя сказы з адсутным выказнікам, якія суадносяцца з поўнымі сказамі, дзе ў якасці выказніка выступае дзеяслоў маўлення, пашыраны ў гутарковай мове і ў мастацкіх апісаннях. Як і адпаведныя ім поўныя сказы, яны служаць для ўвядзення прамой мовы. Такія няпоўныя сказы могуць ужывацца ў складзе адной ці некалькіх канструкцый з чужым выказваннем. Часцей за ўсё гэтыя няпоўныя сказы маюць месца ў тым выпадку, калі ў папярэдніх сказах ужо ёсць дзеяслоў маўлення або думкі. Ёсць некалькі відаў няпоўных сказаў з адсутным дзеясловам маўлення. Такі сказ можа складацца толькі з дзейніка: *«Дзе ты, Клемус, тапор падзеў?» — пытае Міхась. А ён: «У лесе схаваў»* (С. Баранавых. Новая дарога). *Помніце, я сказала: «Забяруць у вас правы». А ён: «Ціпун вам на язык»* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Тры яго на мякіну, а ён: «Прывычкі не кіну»* (народн.).

Вельмі часта ў няпоўных сказах пры дзейніку ёсць дапаўненне, што ўказвае, да каго звяртаюцца з гаворкай; яно пераважна выражана формай давальнага склону назоўніка ці займенніка: *«Як жывяце?» — пытае, а я яму: «Добра!»* (П. Галавач. Дасужая). *Камандзір мне: «Хлопец, ша! Ну, заб'еш. А сам — на звалку?» Я яму: «Баліць душа...»* (З. Астапенка. Помста партызана). *Паручнік зноў да Лясніцкага: «Дык вы не ведаеце нямецкай мовы?»* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

Пры дзейніку могуць быць і іншыя дапаўненні і акалічнасці. Апошнія выражаюцца назоўнікамі ў формах ускосных склонаў з прыназоўнікамі, а таксама прыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. У сказе, зразумела, можа быць некалькі дапаўненняў і акалічнасцей у розных спалучэннях: *А дзед зноў: «Баранкі ў мяне ёсць... Свежыя»* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Прыйшла дамоў, а маці да мяне: «Чаму не скажаш, каб хадзіў хоць есці»* (М. Клімковіч. Уся ўлада Саветам). *Я ўжо наважыўся ісці дадому, як раптам нехта з-за спіны: «Добры вечар, таварыш Шыянок»* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё). *А дзяўчына так ветла: «Мар'яна ад нас пазаўчора ў суседні раён пераехала»* (П. Панчанка. Ля дзявочай кватэры № 5). *Апрануўся, а матка, лежачы на ложку: «Поўнач... Божухна-бацюхна... Няма ні дня, ні ночы! Як тыя непрыкаяныя»* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

Зрэдку ў сказах, што ўводзяць прамую мову, ужываюцца толькі словы са складу выказніка — самі ж галоўныя члены сказа адсутнічаюць: *«Ці не ведаеш ты (там сякая-такая), дзе наш свярдзёлак?» — «Ты ж, здаецца, Данілу даваў». — «Данілу? А чорт яго ведае, можа і даваў». А сустрэўшыся з ім: «Даніла, ці табе ўжо мой свярдзёлак не трэба?» — «Які свярдзёлак? Хіба я ў цябе браў?»* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Неспадзявана: «Добры дзень!» Я глянуў — сапраўды растаў дажджлівай хмары цень і зацвілі сады. Ад радасці я не знайшоў, каб адказаць, патрэбных слоў* (М. Танк. Добры дзень).

Своеасаблівы тып складаюць сказы, у якіх ёсць некалькі выказнікаў (са словамі свайго саставу ці без іх) і словы з саставу выказніка, выражанага дзеясловам маўлення, самога ж гэтага дзеяслова няма, ён апушчан: *Сікірніцкі прымушана ўсміхнуўся і не ўзвышаючы тону: «Давайце пагаворым... Сядайце!»* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). Вайніловіч. *Ледзь толькі выйшлі вы няйна з дому, з'явіўся селянін і да мяне: «Аддай зямлю. Аддай сам — інакай мы возьмем сілаю». Так і сказаў* (П. Глебка. Святло з Усходу).

Асобную разнавіднасць утвараюць сказы, што складаюцца з дзейні-

ка і назоўніка, блізкага па значэнню да дзеясловаў маўлення (*крык, слова, адказ* і інш., гл. § 1407). Іншыя словы з саставу выказніка могуць быць у наяўнасці, але сам дзеяслоў адсутнічае: *«Я даўно цябе кахаю»,— у адказ дзяўчына* (М. Танк. Нарач). *Ды некалькі чалавек у адзін голас: «Не... Не ведаем мы партызан... І дарогі да іх не ведаем»* (М. Лынькоў. Астап). *Прыйшоў Карзюк у проведы, а яна ў крык: «Зачыняйце дзверы!»* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *І раптам — злосны смех і абразлівыя словы: «Трашчаць, як сарокі. Аж агідна слухаць!»* (І. Шамякін. Крыніцы).

Дзеясловы маўлення могуць апускацца не толькі ў аўтарскіх рэмарках, але і ва ўзаемазвязаных рэпліках дыялога, калі наступная рэпліка з'яўляецца рэакцыяй на папярэдняе выказванне, на яго манеру, а таксама ў спалучэннях назоўнікаў тыпу *гук, слова* з адмоўем: Лямэнт. *Ты!* Юзя. *З якой гэта прычыны вы так на мяне?* (К. Чорны. Ірынка). Даніла. *Толькі глядзі, мама, нікому ні слова, ані-ні* (К. Крапіва. Партызаны). *Куды зніклі дасціпнасць, кідкасць: ты мне слова — я табе дзесяць* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Няпоўныя сказы з адсутным дзеясловам маўлення ўжываюцца і пры паўторы асноўнай думкі ці найбольш лагічна выдзеленага слова з папярэдняй рэплікі. Выказванне другога персанажа ў гэтым выпадку больш-менш разгорнутае, у ім тлумачыцца, чаму субяседнік выступае супраць пэўнага палажэння. Паўторанае слова вымаўляецца з падкрэсленай, працяглай інтанацыяй: Праменны. *Ты сапраўды пішаш гэту камедыю ці толькі дурышся?* Язва. *Я ўжо да фінішу падыходжу, а ён — дурышся* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *«Лепш падаць сігнал з берага». — «Сігнал, сігнал, — нервова паўтарае Ахрэм. — Я, калі хочаш, узяўся грузы праводзіць, як па зялёнай вуліцы. Нават у газеце пісалі. А ён — сігнал»* (М. Лупсякоў. На вірах). Стары. *Мой дзед і прадзед няньчылі зямельку гэту, крывавым потам сам я палівоў і сніў, каб ад яе кавалак як адрэзаць... А ты «шпіён»* (М. Клімковіч. Уся ўлада Саветам). Касабуцкі. *Надоечы за расцэнкі завяліся. Я — павысіць, а яна — панізіць* (К. Крапіва. Канец дружбы).

# ПАРАДАК СЛОЎ У ПРОСТЫХ ДВУХСАСТАЎНЫХ СКАЗАХ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 972. Размяшчэнне членаў сказа адзін адносна другога называецца парадкам слоў. Гэта ж паняцце абазначаюць часам тэрмінамі «словапарадак» і «словаразмяшчэнне». У асобна ўзятым сказе (у залежнасці ад колькасці членаў сказа) можа быць даволі значная колькасць варыянтаў парадку слоў (параўн.: *Птушкі шчабечуць у садку. Птушкі ў садку шчабечуць. Шчабечуць птушкі ў садку. Шчабечуць у садку птушкі. У садку шчабечуць птушкі. У садку птушкі шчабечуць*). Але кожная змена парадку слоў прыводзіць да некаторай змены значэння сказа, да рознай ступені лагічнага выдзялення таго ці іншага слова. Таму парадак слоў у беларускай мове нельга лічыць вольным, больш правільна гаварыць пра тое, што ў беларускай мове, як і ў іншых усходнеславянскіх мовах, словапарадак адносна вольны. На месца слова ў сказе ўплывае цэлы рад фактараў: структура сказа, спосаб выражэння членаў сказа, месца слоў, з якімі звязаны пэўны член сказа, лексіка-сінтаксічная сувязь з сумежнымі сказамі, жанр твора, характар міжфразнага адзінства (напрыклад, мастацкае апісанне, дыялог), патрабаванні стылі-

стычнага парадку (лагічнае выдзяленне, эмацыянальна-экспрэсіўнае падкрэсліванне).

Выдзяляюць два тыпы парадку слоў у сказе. Стылістычна нейтральны, больш пашыраны парадак слоў называюць п р а м ы м. Парадак слоў, пры якім назіраецца адступленне ад звычайнага словаразмяшчэння, называюць а д в а р о т н ы м. Змена парадку слоў з мэтай лагічна падкрэсліць пэўнае слова мае назву і н в е р с і і.

Тэрміны п р а м ы і а д в а р о т н ы парадак слоў у пэўнай ступені з'яўляюцца ўмоўнымі. Так, звычайным для дзейніка і выказніка з'яўляецца такое словаразмяшчэнне, калі дзейнік папярэднічае выказніку: *Калі гэта здарылася? А ўрэшце, не гэта важна. Гай шумеў зялёны, пярэсты дзяцел па бярозе стукнуў — я рыфмаў нечакана адказаў. Цыбаты бусел дзюбай клюнуў сонца — прамень зламаўся і з вясёлым звонам асыпаўся на травы, на мяне. Вячэрняя блакітная рачулка, падштурхваючы хвалямі малымі, каціла мілiён маладзікоў* (П. П а н ч а н к а. Маладосць у паходзе). Але ў сказах, што ўводзяць прамую мову і знаходзяцца ўсярэдзіне ці пасля яе, пераважае пастаноўка выказніка перад дзейнікам: *«Эх, Ветру! — к а ж а ч а л а в е к, — у праўдзе гарката — не здзек!»* (У. Д у б о ў к а. Хто дужэйшы). *«Татка!» — у с к р ы к н у ў Я с ь к а і к і н у ў с я да яго праз вуліцу* (М. Л ы н ь к о ў. Пра хлопчыка Яську).

Пры разглядзе парадку слоў у сказе ўжываюць яшчэ тэрміны п р э п а з і ц ы я і п о с т п а з і ц ы я, п р э п а з і ц ы й н ы і п о с т п а з і ц ы й н ы член сказа. Дапасаванае азначэнне, напрыклад, часцей за ўсё знаходзіцца перад словам, да якога яно адносіцца. Гэта прэпазіцыйны член сказа. Дапаўненне звычайна знаходзіцца пасля таго члена сказа, ад якога яно залежыць, дапаўненне — постпазіцыйны член сказа. Але прэпазіцыя дапасаванага азначэння і постпазіцыя прамога дапаўнення — гэта найбольш пашыранае словаразмяшчэнне, і ў адным і ў другім выпадку — прамы парадак слоў. *Марысіны дочкі — Верка, Зося і Нінка — збіраюць іх* [жалуды] (Я. К о л а с. Туды, на Нёман!).

Постпазіцыя дапасаванага азначэння ў адносінах да назоўніка і прэпазіцыйнае становішча выказніка — гэта менш ужывальнае словаразмяшчэнне, і ў адным і ў другім выпадку — адваротны парадак слоў. *Вечар ліпнёвы ахінуў змрокам сінім палі мястэчковыя. Цішыня косамі шаўковымі атуліла саламяныя хаты, пад месячыкам бледным жаўцеюць плямамі пахілыя стрэхі* (М. Л ы н ь к о ў. Гой).

Сказы, у якіх дзейнік стаіць перад выказнікам, прынята называць с к а з а м і з п р а м ы м п а р а д к а м с л о ў, сказы, у якіх дзейнік ідзе за выказнікам, — с к а з а м і з а д в а р о т н ы м п а р а д к а м с л о ў.

§ 973. Парадак слоў — важны стылістычны і сінтаксічны сродак, пры дапамозе яго дасягаецца пэўная арганізацыя слоў у сказе і сказаў у кантэксце. У радзе выпадкаў парадак слоў адыгрывае асабліва важную ролю ва ўстанаўленні сэнсавых і сінтаксічных сувязей паміж членамі сказа. Калі дзейнік і прамое дапаўненне выражаны назоўнікамі, у якіх супадаюць формы назоўнага і вінавальнага склонаў, а выказнікам з'яўляецца дзеяслоў, што можа абазначаць дзеянне і аднаго і другога прадмета, то слова, прэпазіцыйнае да выказніка, як правіла, з'яўляецца дзейнікам, а слова постпазіцыйнае — дапаўненнем: *Тралейбус абагнаў аўтобус. — Аўтобус абагнаў тралейбус. Варожы дот абстрэльвае бронепоезд. — Бранепоезд абстрэльвае варожы дот. Маці шукала дзіця. — Дзіця шукала маці.*

*Ішлі на ўсход, ішлі і ноч, і дзень, а д ы м пажараў, быццам змрочны цень, г а с і ў б л а к і т і сонца над зямлёй* (М. Т а н к. Янук Сяліба).

Падобныя сказы зрэдку маюць адваротнае словаразмяшчэнне. У высвятленні структуры сказаў тут дапамагае кантэкст. *Ён разгарнуў папку і засмяяўся, на момант яго ахапіла незразумелая весялосць... В е с я-*

*лосць замяніла злоснае раздражненне, выклікане пачуцццём асабістай абразы* (І. Шамякін. Крыніцы).

У сказах, у якіх абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону, першы з іх з'яўляецца дзейнікам, а другі — выказнікам (*яго дзед — вартаўнік; вартаўнік — яго дзед*): *Грыша падняў памутнелыя, зацёкшыя крывёю вочы і сказаў: «Студэнт Заплацінскі. Старая пані — мая бабка»* (Я. Колас. Крывавы вір). *Вочы — сінія крыніцы, вусны — спелыя суніцы, косы — кужаль залаты* (П. Панчанка. Іспанская ноч).

Гэткае ж значэнне мае парадак слоў і ў сказах, дзе адзін ці абодва галоўныя члены выражаны інфінітывам. Постпазіцыйны інфінітыў звычайна з'яўляецца выказнікам, прэпазіцыйны — дзейнікам. *Пайсці — гэта значыць пакарыцца ім* (Я. Колас. Дрыгва). *Завязаць яе* [кашулю] *і ўставіць лазовы абруч было лёгкай і хуткай справай* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

У сказах, якія складаюцца толькі з назоўніка і дапасаванага да яго прыметніка ці некалькіх прыметнікаў, прэпазіцыйны да назоўніка прыметнік часцей за ўсё выступае як азначэнне, а постпазіцыйны — як выказнік: *Позняя ноч. Пад нагамі паскрыпвае свежы, марозны снег* (Я. Брыль. Лазунок). *Марыйка зграбная. Нечым няўлоўным яна падобна на Алёшу* (І. Навуменка. Прыпяцкая зона).

Тып сказа залежыць ад парадку слоў і ў тых выпадках, калі сказ складаецца з інфінітыва і прыслоўя. Калі прыслоўе стаіць перад інфінітывам, то сказ з'яўляецца аднасастаўным, калі прыслоўе знаходзіцца пасля інфінітыва, то сказ двухсастаўны з інфінітывам-дзейнікам (*неабходна адпачываць; адпачываць неабходна*): *Снег неглыбокі, ісці не цяжка. Шчокі і вушы прывыклі ўжо да марозу і сіверу. Лёгка дыхаць, прыемна глядзець* (Я. Брыль. У снезе журацца бярозы). *Арэшкін тлумачыў сваё з'яўленне тут, далёка ад вёскі: «Чуеце, азон?.. Дыхаць лёгка. А?»* (І. Шамякін. Крыніцы).

Зразумела, што пры лагічным націску, у кантэксце слова, якое знаходзіцца на першым месцы ў названых групах сказаў, можа выступаць і як выказнік: *На схілах невысокіх гор, што асланяюць горад з поўначы, шумяць духмяныя гонкія сосны. Іх добра слухаць, лежачы на траве, бясконца гледзячы ў неба праз сіва-зялёную сетку ігліцы. Іх радасна ўяўляць здалёк, вось як цяпер, на світанні, з чужога пакойчыка* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

§ 974. Парадак галоўных членаў сказа ўплывае на характар дапасавання ў ліку дзеяслоўнага выказніка да дзейніка, выражанага колькасна-іменным спалучэннем, зборным лічэбнікам або зборным назоўнікам ці некалькімі назоўнікамі ў форме адзіночнага ліку і г. д. У гэтых выпадках у сказах з прамым парадкам слоў пераважае выказнік — дзеяслоў у форме множнага ліку, у сказах з адваротным парадкам слоў нярэдка адзначаецца і выказнік — дзеяслоў у форме адзіночнага ліку. *На тутэйшай зямлі дзве сястрыцы жылі* (Я. Купала. Дзве сястрыцы). *Шэсць чалавек правілі кары: жніво і ўборка з поля былі блізка* (К. Чорны. Вясна). *Крыгі пайшлі сапраўды вялікія, і Кузьма, Мешкеліс і Йонас працавалі без спачынку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Каля млына, у павеці, валтузілася чалавек пяць сялян пры лесапільным станку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *У парку астаўся я ды тры-чатыры чырвонаармейцы* (М. Лынькоў. Выпадак на чыстцы). *У пасёлку каля слупа з рупарам стаяла некалькі мужчын і жанчын з дзецьмі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

Асабліва паказальныя ў адносінах уплыву парадку слоў на характар дапасавання выказніка да дзейніка сказы з некалькімі выказнікамі: прэпазіцыйны дзеяслоў тут нярэдка мае форму адзіночнага ліку, а постпазіцыйны (ці постпазіцыйныя) — форму множнага ліку. Паведамленне як бы распадаецца на два сказы: у адным (двухсастаўным) увага кан-

цэнтруецца на суб'екце, што ўспрымаецца як зборны, у другім (аднасастаўным) падкрэсліваецца дзеянне, утворанае некалькімі суб'ектамі. *Абступіла галатва ўрадніка, звалілі на зямлю* (В. Каваль. На загонах). *Уміг з процілеглага боку вуліцы падляцела яшчэ двое ў шэрых кепках і сталі побач* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Зразумела, што пры названых дзейніках дзеяслоў — прэпазіцыйны выказнік можа мець часам форму множнага ліку, дзеяслоў — постпазіцыйны выказнік — форму адзіночнага ліку. *У такі час і трапілі сюды гэтыя два хлопцы* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Праз хвіліну насустрач ім вылецелі пяць матацыклістаў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). Здаравеня. *Кажуць, іх трое прыехала, але сюды заходзілі двое* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

§ 975. Парадак слоў адыгрывае значную ролю і ў некаторых словазлучэннях. Словаразмяшчэнне частак колькасна-іменнага спалучэння ўплывае на яго значэнне. Прэпазіцыя назоўніка адносна лічэбніка прыводзіць да таго, што словазлучэнне ўказвае на прыблізныя колькасць, парадак, лік: Камандуючы. *Колькі снарадаў сёння выпусцілі?* Кузняцоў. *Паўтара боекамплекта* (К. Крапіва. Проба агнём). *Гэта быў калдабан сярод поля — гектара паўтара* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Як адсвянцаю разоў сто, як адлуплю — тры дні не сядзе!* (Я. Колас. Новая зямля). *Добрыя вярсты тры прайшоў Пракоп, калі ў полі пачало святлець, займацца на дзень* (Я. Колас. Адшчапенец).

## МЕСЦА ДЗЕЙНІКА І ВЫКАЗНІКА Ў СКАЗЕ

§ 976. Пануючым у сучаснай беларускай мове з'яўляецца прамы парадак слоў, гэта адносіцца да ўсіх стыляў мовы. *Мама з татам паехалі ў горад разам, але ўвечары мама вярнулася адна. Ды затое яна прывезла Ліпцы такі дарагі і доўгачаканы падарунак — пушыстую, белую шубку* (Я. Брыль. Ліпка і клёнік). *Эліза Ажэшка (1842—1910) нарадзілася на беларускай зямлі, у Мілкоўшчыне ля Гродна. Ужо ў дзяцінстве будучая пісьменніца навучылася трошкі гаварыць на беларускай мове. З побытам беларускіх сялян Ажэшка яшчэ бліжэй пазнаёмілася ў Людвінове, маёнтку свайго мужа ў Кобрынскім павеце. Гады жыццёвай і творчай сталасці пісьменніца амаль бязвыезна правяла ў Гродне* (А. Мальдзіс. Творчае пабрацімства). *Каліноўскі быў барацьбітом за беларускую рэвалюцыйна-дэмакратычную культуру, адным з заснавальнікаў нацыянальнай літаратурнай мовы. Яго рэвалюцыйна-дэмакратычная публіцыстыка па праву займае пачэснае месца ў гісторыі грамадска-палітычнай думкі. Каліноўскі змагаўся за стварэнне школ на роднай мове* (І. М. Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў ІІ палавіне XIX веку). Артыкул 86. *Судаводства ў БССР праводзіцца на беларускай або рускай мовах з забеспячэннем для асоб, якія не валодаюць мовай судаводства, поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць у судзе на роднай мове* (Канстытуцыя (асноўны закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі).

Сказы з прамым парадкам слоў пачынаюцца ці самім дзейнікам, ці словамі, якія ўваходзяць у склад групы дзейніка. *Быстрыя цёмныя вочкі яго пазіралі ўдумліва* (Я. Колас. Дрыгва). *Шэрая, мёрзлая зямля блішчэла ад месяца* (К. Чорны. Будзем жыць). *Сяргей Пятровіч на адно імгненне ўбачыў наперадзе шырокія, магутныя, ссутуленыя плечы* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

§ 977. Сказы з прамым парадкам слоў часам пачынаюцца словамі з саставу выказніка — дапаўненнем, акалічнасцю. Калі гэтыя члены сказа выражаны назоўнікам, яны могуць мець пры сабе азначэнні. *Добра ў цябе разведка працуе* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Шпаркім позіркам ён знайшоў Мішурына* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *З вялікімі намаганнямі Тацяна супакоіла яе* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Са страшнымі выбухамі агнёвае мора з бровара захлынула панскія пакоі* (З. Бядуля. Анчар).

Дапаўненне ці акалічнасці, вынесеныя на першае месца ў сказе з прамым парадкам слоў, часта служаць для сувязі гэтага сказа з папярэднімі. *Там ляжыць зялёны луг, а за лугам цягнецца высокі і заўсёды пануры лес. Гэтага лесу Міхалка калісь баяўся* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Праз месяц пасля гэтага пісьма ён паслаў другое, ужо больш выразнае. А пасля і трэцяе. У апошнім пісьме ён ужо гаварыў выразна* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Пераправіўшыся цераз Дняпро, Тацяна з палёгкаю ўздыхнула. Цяпер яна лічыла сябе ўжо дома* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *«Мы яго выратуем» ...І ў наступную хвіліну ён ужо бег па дарозе з дзіцянём на руках* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Як хлопцу мінула сем гадоў, яго паслалі ў школу. Там ён меў спачатку вельмі шчаслівыя хвіліны* (З. Бядуля. Велікодныя яйкі).

У радзе выпадкаў у пачатку наступнага сказа паўтараюцца словы папярэдняга сказа. Гэтыя словы з саставу выказніка нярэдка знаходзяцца перад дзейнікам. *Камітэт па справах бежанцаў змясціў хворую ў бальніцу, а сямігадовую Галіну накіраваў з партыяй дзяцей у адзін з дзіцячых прытулкаў Мінска. У прытулку дзяўчынка прабыла некалькі дзён* (П. Галавач. Спатканне). *Цэглу спушчалі ўніз па жалабах, смецце папросту выкідвалі за сцяну... Унізе рабочыя-сезоннікі складалі цэглу ў штабелі* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *«А каня няма?» — «Каня палякі пазаўчора ў абоз пагналі»* (К. Чорны. Начлег у вёсцы Сінегах).

§ 978. Калі ў наступным сказе ў якасці дзейніка выступае слова, што абазначае прадмет ці асобу, пра якія ішла гутарка ў папярэднім сказе, то гэты наступны сказ надзвычай часта мае прамы парадак слоў. *Яна найпрасткі пабегла да жняяркі. Жняярка зноў пачынае стракатаць* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *Калгаснікі любілі Шахлевіча, Шахлевіч любіў свой калгас* (Я. Колас. Адшчапенец). *Перад раніцай прашумела навальніца. На світанні яна сціхла, дождж сышоў на захад, да Прыпяці, а за ім хутка сплылі і хмары. Над вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба і зазіхацела яркае, жнівеньскае сонца. І неба, і сонца... адбіваліся ў незлічоных буйных кроплях, што былі шчодра рассыпаны на пожні* (І. Мележ. Гарачы жнівень).

Прамы парадак слоў ужываецца ў адрэзках тэксту, дзе паведамляецца пра розныя дзеянні (або розны стан) розных асоб ці прадметаў. Дзейнікі тут лагічна падкрэслены. *Дзень ішоў к вечару. Сонца стала ніжэй і пачало біцца ў акно. У хаце стала ясна, шырэй і прасторней. Немец спаў. Салдат курыў. Волечка займалася дробнай хатняй таўкатнёй, як самая руплівая з усіх жанчын на свеце. Маладыя госць стаяў на двары пры возе і глядзеў, як коні ядуць сена. Фельчар моўчкі сядзеў і пасля разгаварыўся з Волечкай* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *У маёнтку пана Манішэўскага жыццё ішло звычайнымі крокамі... Пан, аддаўшы загад аканому, ехаў з паняю бавіць у бліжэйшы маёнтак, аканом ганяў да працы парабкоў, парабкі бурчалі пад нос і запускалі моцныя слоўцы і на пана і на аканома* (М. Чарот. На пасеках).

У сказах з такім паралелізмам размяшчэння слоў лагічна выдзеленымі аказваюцца і выказнікі. *Людзі маўчаць. Начальнік абводзіць поглядам усіх па чарзе. Бірг паглядае на візгучае акно і задумана водзіць*

*пальцамі па шчаціне падбародка. Лётчык Туманаў нешта напружана абмяркоўвае, прыкусіўшы губу. Пілоты Галубенка, Рустанян, малады і смяшлівы Заяц глядзяць на кволы агеньчык лямпы. Астатнія стаяць у засені. Усе маўчаць* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

§ 979. Месца галоўных членаў сказа ў значнай ступені залежыць ад таго, якой часцінай мовы, якой формай слова выражан выказнік. Постпазіцыя яго ў радзе выпадкаў замацоўвае сінтаксічную ролю слова ў сказе, дапамагае слову выконваць функцыю прэдыката. Асабліва паслядоўна прамы парадак слоў маюць сказы з выказнікам, выражаным: а) назоўнікам у форме назоўнага склону: *Яна* [іронія] — *палын і мёд, асы укус, зніщчальны смех, ратунак ад маразму* (А. Звонак. Іронія). *Старыя забораўцы — раскіданыя хмары пасля навальніцы* (Я. Колас. На прасторах жыцця). Браніслава. *Ён — пан. Я ж — сірата, нябога, а пан — ён знаецца з панамі* (У. Дубоўка. Браніслава); б) інфінітывам ці формай 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу, якія выступаюць у значэнні дзеяслова абвеснага ладу: *Вунь ужо снегу колькі, я санкі з гарышча здыму, а ты — хварэць* (Я. Брыль. У сям'і). *Злыя людзі вазьмі і дакажы палячцы* (М. Гарэцкі. Страшная музыкава песня). *Ты сядзеш на яго* [неаб'езджанага каня], *закелзаеш, або і не закелзаеш, каб весялей ішоў і — но! Ён круціцца, а ты адно старайся падвясельваць яго* (К. Чорны. Лета); в) дзеяслоўным выклічнікам ці формай дзеяслова будучага простага (перад апошняй тады ўжываюцца ўзмацняльныя часціцы *як, калі*), якія выступаюць у значэнні дзеяслова прошлага часу: *Калі ж налева глянуў коса — святла там яркая палоса. Ён — гоп у левы бок* (К. Крапіва. Сава, Асёл ды Сонца). *Пацягнуў ламачыну, а яны з-пад яе калі сыпануць кучаю — дробныя, як гарох* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Ды яна як зірне строга гэтак, што слоў не хапае ў мяне* (А. Куляшоў. Толькі ўперад); г) ускосным склонам назоўніка (пераважна з прыназоўнікам): *Твар служанкі былой у слязах* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Камплекцыя толькі не па пасадзе* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Крушына і Мазалёк у партызанах* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). Да апошняй падгрупы адносяцца і сказы з выказнікам, выражаным творным склонам назоўніка, такі назоўнік абазначае прафесію, занятак, спецыяльнасць і г. д. пэўнай асобы. *Сам я суддзёю!* (Я. Купала. Блізкім і далёкім). *Яна ў галоўнага інжынера... хатняй работніцай* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Вось трэці месяц яна дырэктарам на буйнай швейнай фабрыцы* (М. Лынькоў. Маладосць).

§ 980. Прамы парадак маюць пераважна сказы, якія вымаўляюцца са своеасаблівай іранічнай інтанацыяй і ў адносінах сцвярджэння ці адмаўлення маюць сэнс, адваротны значэнню слоў, што ў яго ўваходзяць: *«Ну чаго ж вы лаецеся! Я папытаўся дазволу ў дзядзькі Мірона!» — «Дужа ён табе будзе дазволы даваць»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Так ён цябе і паслухаў. Чакай»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

§ 981. Сказы з адваротным парадкам слоў у сучаснай беларускай мове сустракаюцца нярэдка. Прычыны, якія абумоўліваюць адваротнае словаразмяшчэнне, розныя. Найбольш часта прэпазіцыя выказніка адносна дзейніка абумоўлена вынясеннем на першае месца ў сказе слоў з саставу выказніка. Дапаўненне ж, акалічнасці на першае месца ў сказе нярэдка трапляюць пад уплывам больш шырокага кантэксту. *А «сіцыліст» усё спіць —ураднік проста не ведае, як арыштаваць соннага чалавека. На помач яму прыйшоў соцкі* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Побач з зямлянкай — новая хата... Вокны ад вуліцы забіты аполкамі. Не здолеў Мікола ўсяго да зімы. Аднак ужо не ў зямлянцы, а ў новым кухонным акне гарыць спакойны, утульны агеньчык* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Сад быў вялікі — лепшы ў вёсцы. Пад дрэвамі стаяла многа вулляў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *«Што гэта?..*

*Звоняць у калгасе!»* *І ў гэты момант ірвануў вецер* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Дык Ганнуся да паўдня і праспала. Ну, а потым жа пачалося снядание* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Галоўнае месца займалі Сымон з Міколам. Сварка з першых слоў абяцала цікавы бой. Вакол ваяк стала жывая сцяна народу* (Я. Колас. Дзяліцьба). *Сівая жанчына стаіць ля крыніцы, над ёю плывуць сакавіцкія хмары* (П. Панчанка. Сівая жанчына...).

Адваротны парадак галоўных членаў сказа можа быць звязаны з неабходнасцю выдзеліць, лагічна падкрэсліць выказнік. *Ды бягуць дзянькі і вясна мая, не вярну я іх, не стрымаю я* (Я. Колас. Маёй вясне). *Жыццё!.. Пракліналі яго мы!* (А. Александровіч. 8-е сакавіка). *Хораша стала ісці, нібы ўранні па полі, калі навокал сонца і калоссе. Памаладзелі людзі* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Хто бачыў Леніна? Радзее гвардзейскі строй старых байцоў* (М. Лужанін. Жывыя рысы Ільіча).

У асобных адрэзках тэксту рад такіх прэпазіцыйных выказнікаў добра перадае агульную карціну руху, змены дзеянняў, пэўны стан. *Рабочыя працавалі дружна. З кожнай хвілінай пераваньваліся цераз карніз важкія рулоны жалеза. Угінаўся пад ударамі ламоў дах. Адвальваліся пласты штукатуркі сцен* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Усе дваццаць дзве хаты Скіп'ёўскага Перабродзя паабрасталі вішняком і арабіннікам. За хатамі спеюць улетку антонаўкі, папяроўкі і слуцкія бэры, і да самых замаразкаў вісяць у голлі чырванабокія «цыганкі». Да самых маразоў пад вокнамі цвіце бабіна лета. З канца зімы і да лета пры кожнай хаце дымiцца вяндлярня, і па селішчы стаіць пах вэнджаных каўбас і шынак. Праз усё лета на вешалах пад застрэшшамі сушацца тварожныя сыры. Усюды крычаць гусі і крэкчуць качкі. Спяваюць аж разлягаюцца пеўні, і па хлевухах стогнуць ад гультайскай асалоды ружовыя ягамосці з кірпатымі лычамі і закручанымі ў тонкі абаранак хвастамі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Але ў сказах з прэпазіцыйным выказнікам можа лагічна падкрэслівацца і дзейнік; як правіла, ён тады знаходзіцца ў абсалютным канцы сказа. *Усе дрэвы на тутэйшых дарогах панасаджваў я!* (К. Чорны. Вялікі дзень). *«А скажы, як зваўся той прарок, якому крумкачы насілі мяса?» — не здаваўся Арцём. Тут праціснуўся да студні Тарас Рубеж* (Я. Колас. Недаступны). *Але тут умешваецца ў справу трэцяя асоба* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *«Слова мае загадчык райаддзела аховы здароўя Вера Лукашэвіч», — аб'явіў Чаравака. На трыбуну выйшла яна — мілавідная, у белай кофце* (П. Пестрак. Серадзібор).

Асабліва выразна падкрэсліваюцца постпазіцыйныя дзейнікі ў такіх адрэзках тэксту, дзе паведамляецца пра розныя дзеянні (стан) рада асоб, істот, прадметаў. У пэўнай ступені тут лагічна выдзяляюцца і выказнікі. *Над рэчкай высокай, з лахматымі, белымі ад інею вярхамі, сцяной стаяць стромкія хвоі; шырока развесілі сваё галлё волаты-дубы; блішчаць ледзянымі пацеркамі ўвабраныя бярэзіны* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Хадзіў па лесе, прыслухоўваўся да птушынага шчэбету, да гоману хвой, прыглядаўся да лесавых красак. На балоцінках аж гарэлі пад сонцам жоўтыя, залацістыя люцікі, буйна раскінуліся белыя і сінія касачы. Ірдзелі на палянках чырвоныя смалянкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *За старыцай «драў дранку» дзяркач. Жаласна крыкнула нейкая птушка, можа трапіла ў зубы драпежніка. Недзе далёка закугакала сава* (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

Не адбываецца выдзялення выказнікаў у такіх кантэкстах, дзе ў некалькіх сказах гаворыцца пра аднолькавыя дзеянні розных асоб (прадметаў, істот), тут выдзяляюцца толькі дзейнікі. *О, Пятрусь мой цаца! Любім мы Пятруся: любіць яго тата, любіць і матуся* (Я. Колас.

Уночы). *Гэта быў малюнак таго дня па ўсёй Еўропе. Народы стаялі. Стаяў расійскі народ. Стаялі іншыя народы, з'яднаныя абцугамі пад сцягам Расійскай імперыі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Вайскоўцы ішлі панурыя, маўклівыя. Уперадзе ішоў Мірон з наганам. Паабапал сцежкі ішлі ўзброеныя сяляне. Калону замыкаў Астап* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Постпазіцыйны дзейнік лагічна падкрэслены і ў сказах, якія звязаны з папярэднімі далучальнай сувяззю. *Часавы раздзеўся, набраў у кварту вады і стаў умывацца. За ім памыліся яшчэ два* (К. Чорны. На граніцы). *Ён мне не падабаўся. Не любіў яго і Сяргей* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Яны асцярожненька падыходзяць да тыльнай сцяны, дзе акенца. «Ёсць. Ажно два»,—шэпча бацька, цікнуўшы ў яго... Зірнуў і Толя* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

У паасобных выпадках прэпазіцыйныя выказнікі лагічна не падкрэсліваюцца нягледзячы на тое, што ў радзе сумежных сказаў гаворыцца пра розныя дзеянні (стан) розных асоб. *Пажылы, з залатымі зубамі дзядзька ідзе падвечар па вуліцы і з кожным весела загаворвае, крычучы на ўсю вёску. Сядзіць на лаўцы настаўнік. «На сонейка выйшлі? Добры вам вечар!»... Едзе з поля калгаснік, з ім пад'язджае раённы ўпаўнаважаны. «А што ж гэта ён вас, таварышок, ды так неганарова пасадзіў? Хоць бы дзяружку якую... А-я-яй!..» Пасе баба козы. «Здарова, Агата! Каровы пасеш? Нічога, вырастуць козы — каровы будуць...» І так — ад хаты да хаты* (Я. Брыль. Жменя сонечных промняў).

§ 982. Рэдка сустракаецца прэпазіцыя выказніка, выражанага назоўнікам у форме назоўнага склону, прыметнікам, ускосным склонам назоўніка з прыназоўнікам ці без яго, а таксама інфінітывам, дзеяслоўным выклічнікам або формай 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу, якія выступаюць у значэнні дзеясловаў абвеснага ладу. Інверсія тут абумоўліваецца стылістычнымі прычынамі. *«Дзе я магу знайсці брыгадзіра шостай?» — «Брыгадзір — я»* (А. Чарнышэвіч. Дзіцятка горкае). *Але тут, акрамя ўсіх бядот, якія ты ведаеш, яшчэ і асабістая — старшыня. Каўрыжка яго прозвішча* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ты, Сайка, чымся згрызены. Не ў гуморы ты* (Я. Колас. Дрыгва). *«Ты з Навагрудчыны?» — «Нявож! З-пад Любчы я»* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *З галавой дзяўчына, з галавой, гэткую пасаду заняць!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Алена, як і не было таго, зачарпнула вады і йдзе. Шусь Апанас ёй насустрэчу і стаў на дарозе* (Я. Колас. Заклад). *Вазьмі і запытайся тады Міколка: «То вы гранаты і кулямёты вазілі ў лес хаваць, відаць пад тыя старыя яліны...»* (М. Лынькоў. Васількі). *І вазьмі ты яго рукамі* (Я. Колас. Недаступны).

§ 983. Прэпазіцыя выказніка адносна дзейніка з'яўляецца даволі звычайнай з'явай у мастацкіх творах пры апісанні з'яў прыроды, у сказах са значэннем змены часу. Такія сказы пераважна ўжываюцца ў пачатку самастойных адрэзкаў тэксту. Нярэдка гэта як бы своеасаблівыя тэзісы, якія ў далейшым раскрываюцца, дапаўняюцца. Вельмі часта ў блізкім суседстве з такімі сказамі знаходзяцца намінатыўныя і безасабовыя сказы, якія пераважна ўказваюць на стан навакольнай рэчаіснасці. Здараецца, што адрэзак пачынаецца аднасастаўным сказам. *Надыходзіць вечар, сінеюць снегавыя гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промені і не зззяюць, а тлеюць над лесам і полем* (М. Лынькоў. Воўчы лог). *Неахвотна, марудна паўзуць даўгія зімовыя месяцы. Мароз і снег, адлега і мароз. Рыпіць самотна пад палазамі снег* (Р. Мурашка. Сын). *Была восень. Пачынала развідняцца, і было спакойна на вясковай вуліцы. У белаватым змроку блішчэла нерухомая дажджавая вада; у абложаных картаплянікам хлявах спявалі пеўні. Маўчалі клёны*

*і грушы каля хат* (К. Чорны. Спатканне). *Змяркалася. Дзесьці далёка грукаталі гарматы* (Я. Колас. У разведцы).

Сказы з постпазіцыйнымі дзейнікамі даволі часта ўжываюцца пры апавядальным выкладзе. Нярэдка ў такіх адрэзках тэксту чаргуюцца сказы з адваротным парадкам галоўных членаў і сказы з прамым парадкам. *А гэта здарылася значна пазней, аж праз некалькі год пасля расказанага выпадку. Жыў Агей не ў хаце, а ў клеці цеснай. А як ажаніўся яшчэ сын старэйшы, зрабілася ў клеці, што няма дзе і павярнуцца* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Дыхнула вясна, і зямля стала вясёлая. У прагным жаданні парыліся ўзгоркі, лагчыны купаліся ў тумане* (К. Чорны. Забойства). *Ішла вясна, квітнелі сопкі, я піў смалістай хвоі дух* (А. Звонак. Пад небам поўначы далёкай). *На рагу вуліцы дарогу перарэзаў натоўп. У вушы ўдарыў прыўзняты гоман, вочы ўгледзелі ўсхваляваныя аблічы* (Б. Мікуліч. Дужасць).

Здараецца, што сказы са значэннем змены часу ці стану навакольнай рэчаіснасці маюць прамы парадак слоў, але па сутнасці гэта ўжо інверсія, бо звычайнай для іх з'яўляецца постпазіцыя дзейніка. *Ад таго часу, як везлі яго ў бальніцу, засталіся ў Агеевай памяці чырвоныя агні, якія бачыў ён нібы праз сон. Калёсы тарахцелі па шашы і змоўклі. Н о ч  б ы л а. Наперадзе цераз шашу прабеглі агні, і тады зноў затарахцелі калёсы* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Паўстаюць у змроку белыя цені, досвіткі зараджаюцца ў золкім тумане. Ціха. Ветру няма. А д л і г а  с т а і ц ь* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

§ 984. Сказы з састаўным і складаным выказнікам (іменным і дзеяслоўным) у адносінах словаразмяшчэння выдзяляюцца ў асобную групу ў сувязі з тым, што можа быць розны ўзаемапарадак частак такога выказніка. Пры прамым парадку слоў дзеяслоў-звязка ці асабовы дзеяслоў стаіць перад прызвязачным членам або інфінітывам. Акрамя дапаможнага дзеяслова ці слова, што выконвае яго функцыю, у склад выказніка можа ўваходзіць назоўнік у назоўным або ўскосным склоне (у апошнім выпадку з прыназоўнікам ці без яго), прыметнік, дзеепрыметнік, інфінітыў і г. д. *Першыя дзеці ёсць адзнака маладосці жанчыны. Апошняе дзіця ёсць адзнака сталасці перад старасцю* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Павал Сыманчук быў блізкі Костусеў таварыш* (К. Чорны. Вясна). *Стары быў найлепшым яму дарадчыкам* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я стану танкістам спраўным, ты будзеш заворваць гоні* (П. Панчанка. Ростань). *Уся галава Дарафея была ў сырой капусце* (Я. Колас. Пісаравы імяніны). *Маці была ў задуме, а бацька рухава клапаціўся па справах ад'езду* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Дзевятнаццаты год быў нялёгкі для нас* (У. Дубоўка. Закладалі падмурак дзяржавы сваёй). *Цераз некалькі мінут у хату ўвайшоў Тарас. Вусы яго былі белыя ад марозу* (Я. Колас. Калядны вечар). *Але шарэнга ўжо не была нерухомай* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Гэтая хатка заўсёды была паўнютка людзей* (Я. Колас. Кірмаш). *Дробныя акенцы былі залеплены звонку сіняватым снегам* (З. Бядуля. Анчар). *І пад ценем снапоў, над калыскаю сына матуля будзе казкі казаць, будзе песні спяваць, і тады адпачыне матуля* (П. Глебка. Матчыны казкі).

§ 985. У сказе з прэпазіцыйным дзейнікам іменны член або інфінітыў можа знаходзіцца перад звязкай, часцей за ўсё гэта прыводзіць да некаторага падкрэслівання гэтых частак выказніка. *Аднак, што ж мы з табою рабіць будзем?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ведай, што я доўга ўпрошваць цябе не буду!* (А. Рылько. На прадвесні). *Дзетка прымушаны быў расказаць усю гісторыю* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Магдалена відна была ў клопаце на Перабродскім селішчы, невялікая ростам, гаваркая, крыху занадта шумлівая і цікаўная ўсюды і да ўсяго* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Кавалку хлеба той жадзён не быў* (К. Чорны. Вясна).

Заўвага. У складаных формах прошлага часу тыпу *быў пайшоў, была пайшла* ўзаемапарадак гэтых частак не мае асаблівага значэння. *Ён быў пры тым і ўсё мне як мае быць расказаў. Усе былі пабеглі і рассыпаліся былі па полі, а немец, як бы сказаць, ганяўся за імі і страляў зверху* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Як бачым, Шмерц не толькі чуў пра трапныя снайперскія кулі, але і пазнаёміўся быў з імі даволі блізка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

На месца перад дзейнікам можа быць вынесены ўвесь састаўны ці складаны выказнік, пры гэтым у пачатку сказа ўжыты або інфінітыў, іменны член або звязка, асабовы дзеяслоў. Сказы другой падгрупы сустракаюцца радзей, чым сказы першай. Больш звычайнымі з'яўляюцца толькі сказы з прэпазіцыйнымі выказнікамі, выражанымі залежнымі дзеепрыметнікамі і дапаможным дзеясловам. Прычыны прэпазіцыі састаўнога і складанага выказніка такія ж, што і простага выказніка (стылістычныя мэты, сувязь з папярэднім кантэкстам, апавядальны характар выкладу). *Сумнымі і журботнымі былі песні беларускага народа, бо не бачыў ён дарогі, каб выйсці з галечы, гнёту і ўніжэння. Радаснымі і шчаслівымі сталі гэтыя песні пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі* (Я. Колас. Ясны і светлы наш шлях). *Непрывабны быў засценак Малінаўка, цёмна і нецікава жылі ў ім людзі, але летняй парой ён здалёк кідаўся ў вочы* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Рака маўклівa несла свае воды. Яна ў гэтым месцы была нешырокая — усяго якіх сто пяцьдзесят метраў... Цяжкія сталі цяпер гэтыя сто пяцьдзесят метраў* (М. Лупсякоў. Пераправа). *З дальняга алешніку з бярэзнікам, што на мяжы поля, усхватваўся вецер і кудлачыў травы, гладзіў прыгнутыя спіны. Азалочана было сонцам Чмарава* (В. Каваль. Сяльчане). *У пачатку рэйса ў насценгазеце з'явіліся вершы. Аўтарам быў Яша* (Э. Самуйлёнак. Сустрэча).

Сказы, у якіх у прэпазіцыйным выказніку на першым месцы знаходзіцца звязка або словы, што выконваюць яе функцыю, адзначаюцца пры апавядальным выкладзе. *У адну секунду быў абяззброены следчы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Былі высланы бакавыя і пярэднія дазоры* (Я. Колас. Дрыгва). *На вуліцы ў сярэдзіне ўсіх стаяў без шапкі Андрон. Не мог разабрацца ўраднік, пра што гаварылі* (В. Каваль. На загонах). *Пасля ракет не больш як праз хвіліну пачалі страляць усе гарматы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

У становішчы перад дзейнікам можа быць толькі частка састаўнога ці складанага выказніка: звязка, асабовы дзеяслоў ці іменны член, інфінітыў. Сказы з прэпазіцыйным адносна дзейніка дапаможным дзеясловам сустракаюцца пераважна пры апавядальным выкладзе. *Стаў ён хмурны, задуменны, як бы нешта ўсё таіў* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Гэты ліст напісаў яму з дому бацька, нешта месяцы са тры таму назад. Быў ліст кароткі* (В. Каваль. Нянавісць). *І быў у тую хвіліну бацька ворагам сыну, а сын—ворагам бацьку* (М. Зарэцкі. Двое Жвіроўскіх). *Ён чуў ад другіх камандзіраў пра палкоўніка Бойку, былога начальніка абласнога ваенкамата, як пра чалавека, што называецца, з мухамі. Быў ён прыдзірлівы фармаліст, вялікі аматар канцылярскай бюракратыі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У сказах, дзе перад дзейнікам знаходзіцца іменны член ці інфінітыў, а звязка ці дапаможны дзеяслоў ідзе пасля дзейніка, прэпазіцыйная частка выказніка пераважна выдзяляецца. *Сонца бывае рознае. То яно — палкае, шчырае — прынікае да самай зямлі, сціскае яе ў сваіх моцных абдымках, цалуе смагла агнёвымі вуснамі. То атуляе нас, песціць... А то дык зусім неяк дзіка, недарэчы выгляне збоку, з-за хмар — касавокае — і падражніць, пакпіць... Рознае сонца бывае* (М. Зарэцкі. Радасць). *«Гм... — Чмаруцька яўна зацікавіўся прапановай. — Пайсці з табой я, канешне, магу, але ж патрэбен тут загад больш вышэйшага начальства»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Наталля. *Вядома ж, маленькі. Цешыць я яго буду!* (К. Крапіва. Канец дружбы).

§ 986. Своеасаблівую групу складаюць сказы, дзе ў якасці выказніка выступае спалучэнне назоўнікаў *чалавек, жанчына, хлопец, дзяўчына, справа, рэч* і інш. з прыметнікамі, якія адносяцца да гэтых слоў. Лексічнае значэнне такіх назоўнікаў аслаблена, яны выконваюць функцыю ўказальных слоў, асноўную ролю ў выказніку адыгрываюць прыметнікі.

У сказах з прамым парадкам слоў гэтыя прыметнікі звычайна ўжываюцца пасля назоўнікаў у адзначанай указальнай функцыі. Калі прыметнік знаходзіцца перад такім назоўнікам, то першы бывае ў пэўнай ступені лагічна выдзеленым (*Янка — чалавек добры. Янка быў чалавекам добрым. Янка — добры чалавек. Янка быў добрым чалавекам). Змена правапісу — справа складаная і адказная* (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу). *Гулак—чалавек сярэдніх год, маламоцны серадняк* (Я. Колас. Адшчапенец). *Бо, вядома, мы народ дробны, бедны ўсё найбольш, адкуль тыя ў нас грошы* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Паўлінка — стройная і досыць прыгожая дзяўчына* (Я. Купала. Паўлінка). *«А добра кажаце,— падхапіў Цімох,— картоплі — не дрэнная рэч»* (Ц. Гартны. Шукаючы працы).

З мэтай лагічнага падкрэслівання часам у становішча перад дзейнікам трапляе і спалучэнне назоўніка з прыметнікам, якое адыгрывае ролю выказніка. Часцей за ўсё ў самім выказніку прыметнік папярэднічае назоўніку. *Н е м а л а д ы ўжо ч а л а в е к Тамаш Чучка, не яму б ездзіць на начлег* (Я. Колас. На начлезе). *«Падшуруй, брат, топку, ды будзем вячэраць». В я с ё л ы х л о п е ц змазчык. Голымі рукамі яго не возьмеш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Д о б р ы я л ю д з і яны! Апошні кавалак хлеба аддаюць жабраку* (З. Бядуля. Ля вапеннай гары).

Перад дзейнікам можа знаходзіцца і толькі прыметнік з названага спалучэння, назоўнік жа займае становішча пасля дзейніка. Зразумела, што прыметнік у гэтым выпадку лагічна выдзяляецца. *А гавораць пра цябе нядобрае: быццам н е н а д з е й н ы ты ч а л а в е к* (В. Каваль. На загонах).

Словы тыпу *чалавек, людзі, народ, рэч, справа* ў прэпазіцыю да дзейніка (пры постпазіцыі прыметніка са спалучэння) трапляюць рэдка. *Н а р о д мы гасцінны* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Самой толькі Ганны было шкода. Д з е ў к а яна не цаца была, а Ванька — атлет* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

§ 987. У сказах з некалькімі выказнікамі ёсць некаторыя асаблівасці ўзаемаразмяшчэння галоўных членаў. Пры прамым парадку слоў усе выказнікі знаходзяцца пасля дзейніка. Узаемапарадак выказнікаў, выражаных дзеясловамі закончанага трывання, звязан з парадкам, у якім адбываліся дзеянні. Змена парадку размяшчэння такіх выказнікаў прыводзіць да змены ўяўлення аб тым, якую паслядоўнасць у рэальнасці мелі дзеянні, абазначаныя гэтымі выказнікамі. *Сцяпанавіч павярнуўся на ложку і абапёрся на локаць* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). (Параўн.: *Сцяпанавіч абапёрся на локаць і павярнуўся на ложку). Я толькі папытаюся і вярнуся назад* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Пані падлоўчая выплакалася, выліжыла з душы ўвесь свой смутак і гора і крыху заспакоілася* (Я. Колас. На ростанях). *Андрэй крэпка абняў слупок, упёрся нагамі ў зямлю і зрушыў яго* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Ён ахвотна завярнуў свой грузавік на Скіп'ёўскае Пераброддзе, яшчэ ахвотней пасадзіў каля сябе ў кабіну Гэлю, не менш ахвотна выпіў добра і не кепска закусіў разам з Марцінам* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У двары ён зайшоў пад павець і прачытаў запіску* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Калі выказнікі выражаны дзеясловамі незакончанага трывання і абазначаюць дзеянні, якія адбываюцца адначасова ці беспарадкава, то яны не маюць строгага парадку ўзаемаразмяшчэння. *Хлапчук гудзеў і ўсміхаўся* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). (Параўн.: *Хлапчук усмі-*

*хаўся і гудзеў).* Але і ў такіх сказах дзеяслоў, які абазначае больш агульнае дзеянне, часцей за ўсё папярэднічае іншым. *Алесь і Костусь гэтым часам гасцей пад дубам вартавалі і між сабою жартавалі* (Я. Колас. Новая зямля). *Але дзядзька Марцін ведаў лес добра, у лесе гадаваўся, жывёлу пасвіў, грыбы збіраў* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Хмары гусцелі, чарнелі, звісалі зусім нізка над галавой і ўсё цяжэй душылі сваім пагрозна-нахмураным ценем* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Ён гнаў па небе рэдкія белыя воблачкі, свістаў у яшчэ голых галінах прысад* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Стружкі з-пад нажа падалі яму на калені і сыпаліся вакол* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Яна і спявала, і плакала, і рассыпалася смехам — ягоная скрыпка* (Я. Брыль. Жменя сонечных промняў). *Раз-адразу гармата ўздрыгвалася і слала агонь насустрач тых прышэльцаў* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

З прыведзеных прыкладаў відаць, што ва ўстанаўленні адпаведнасці парадку аднародных выказнікаў сапраўднаму парадку дзеянняў ці станаў, абазначаных гэтымі словамі, значную ролю адыгрываюць лексічныя значэнні дзеясловаў, лагічныя сувязі паміж імі, дадаными члены сказа. *Яны спыняліся, рáдзіліся, шукалі спосаб вярнуць назад сваю зямліцу* (Я. Колас. Бунт). *Увесну да змяркання пчолы над кожнай вішняю гулі; з-пад Рагачова навасёлы раслі, дужэлі і цвілі* (С. Грахоўскі. «Вішнёвы»). *Панас пазірае на фурманку, прыкладае да вушэй далонямі рукі, трымае іх так некаторы час, а пасля засоўвае рукі глыбока ў кішэні паліто і там перабірае пальцамі падкладку, камечыць яе, каб хутчэй адагрэліся пальцы* (П. Галавач. Спалох на загонах).

§ 988. У сказе частка выказнікаў можа быць выражана дзеясловамі закончанага трывання, а частка — дзеясловамі незакончанага трывання, пры гэтым большае пашырэнне маюць сказы, у якіх пасля дзейніка стаіць дзеяслоў закончанага трывання, далей ужо ідуць дзеясловы незакончанага трывання. *Ракоп у сваю чаргу з трывогай зірнуў на Лапка і са страхам чакаў навіны* (Я. Колас. Адшчапенец). *Старая бабка звярнула на гэта ўвагу і з нейкім страхам і цікавасцю пазірала на «паніча»* (Я. Колас. На ростанях). *Ён налёг грудзьмі на падважнік і так раскалыхваў абкапаны навокал корч* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Яна апранула паліто і чакала Панаса* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Вогнішча прыпала да зямлі, патухала і дыміла* (З. Бядуля. Віхор).

Выпадкі, калі выказнік, выражаны дзеясловам незакончанага трывання, папярэднічае выказнікам, выражаным дзеясловамі закончанага трывання, рэдкія. *Каравай ён ледзь трымае, аж плячук наверадзіў* (Я. Колас. Заяць). *Расстралянага Скуратовіча сын камандуе бандыцкай хэўрай і за бацьку папомсціўся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 989. У сказах, дзе побач з простымі выказнікамі ўжываецца складаны ці састаўны (але не іменны, а дзеяслоўны), на апошнім месцы пераважна знаходзіцца складаны ці састаўны. *От ён зусім выбіўся з сіл, залез у снег па пояс і не можа ўжо мясіць яго здзервянелымі нагамі* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Ён прывалокся сюды і яшчэ хоча помсціць за свайго раненага салдата* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Таня заўважыла гэта і насцярожылася, употайкі пачала назіраць за адценнямі бацькавага твару* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У тых жа выпадках, калі адзін з выказнікаў іменны, а іншыя — дзеяслоўныя, то непасрэдна пасля дзейніка часцей за ўсё ідзе іменны (просты ці састаўны). *Яна яшчэ дзіцянё і нічога не знае* (Я. Купала. Расстанае гняздо). *Нахама была вельмі мажная і здаровая асоба і добра спабачылася Юліку Сцяпуцкаму* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Ён быў вальнадумцам і за гэта трапіў у правінцыю* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Жэня быў вялікі свавольнік і часта лаяўся з дзяўчатамі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Але заканамернасці ўзаемаразмяшчэння простых і састаўных выказнікаў, дзеяслоўных і іменных не з'яўляюцца такімі строгімі. У мове назіраецца і іншы парадак гэтых членаў сказа: *Малыя дайно памыліся, прыбраліся і гатовы былі сесці за стол* (Я. Колас. Калядны вечар).

§ 990. У сказах з некалькімі выказнікамі вынясенне ў становішча перад дзейнікам усіх выказнікаў назіраецца даволі рэдка, пры гэтым, як правіла, не ў вельмі разгорнутых сказах. *Замірае, моўкне ён, кволы галасочак* (Я. Колас. Тройка). *У небе аддаляўся і заціхаў шум* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Паволі чытае і перачытвае яна вершы Пушкіна* (З. Бядуля. Анчар). *На небе калыхнулася і папаўзла крывавая пляма заравай* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі).

Больш часта ўжываюцца сказы, у якіх у прэпазіцыйнае адносна дзейніка становішча выносіцца адзін выказнік (радзей два), а астатнія знаходзяцца пасля дзейніка. Такі парадак слоў мае месца ў апісаннях, пры апавядальным выкладзе, дзеля больш цеснай сэнсава-сінтаксічнай сувязі з папярэднімі сказамі. *І хадзіў і лячыў ён яго, даглядаў, ну, як брата; ягад, хлеба яму і ўсяго зносіў шчодра, багата* (Я. Колас. Дронік). *Рванулся коні, забілі нагамі ды глыбей у гразь аселі* (Я. Колас. У балоце). *Тут стала артылерыйская часць і змятушыла на шашы нямецкі танкавы клін* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Кідай ты гэтыя чарапы ды прыходзь хутчэй да нас на завод* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Увaходзіць Стрэльбін, загароджвае дарогу* (А. Александровіч. Напор). *Усіх ахапіла цікавасць... Хацелася бліжэй пабачыць гэту нябачаную штуку — самалёт. Зусім ужо нізка кружыцца самалёт, гудзе, рэжа крыллямі паветра і проста мерыцца апусціцца на грамаду, якая сабралася на прасторным папары за вёскаю* (М. Чарот. Самалёт). *Лёг Янка на мяккую пасцель і заснуў як забіты* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

## МЕСЦА АЗНАЧЭННЯ Ў СКАЗЕ

§ 991. Дапасаванае азначэнне звычайна знаходзіцца перад тым назоўнікам, да якога яно адносіцца. Ступень выдзялення азначэння і азначаемага ў гэтым выпадку, як правіла, аднолькавая. *Дворныя людзі выходзяць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Раніцаю мокры вецер біўся ў сонечнае акно* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Ужо жоўтаю сцяною стаіць спелае жыта, пацігу шапаціць калоссем, развітваецца з полем* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Потым хлынуць у цёмную залу вадаспады лістоў і зарніц, сініх рэчак цёплыя хвалі, звон наднёманскіх навальніц* (П. Панчанка. На канцэрце хора Р. Шырмы). *Бацька, аднак, нагінаецца і асцярожна цалуе сваю ненаглядную радасць, нібы здымаючы з цёпленькіх вуснаў салодкую ўсмешку* (Я. Брыль. Жменя сонечных промняў). *Стамлёна дыхаюць хвалі, як грузчыкі,— на плячах гарачае сонца насілі. Нерастуюць ільдзінкі халоднымі плоткамі, азябламу поўдню ў хмарах не ўгрэцца* (Р. Барадулін. Лодкі).

Прыметнікі, якія знаходзяцца ў прэпазіцыі да азначаемага, у пэўных умовах могуць набываць прэдыкатыўны характар. Тады яны выконваюць у сказе функцыю выказніка: *«Хвацкая, браткі, дзяўчына!»— скажа хто-небудзь пасля, выйшаўшы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усемагутны чалавек!.. А вось мы не можам зразумець адзін аднаго* (Я. Брыль. Дваццаць).

Дапасаванае азначэнне, што адносіцца да няпэўнага займенніка, знаходзіцца ў постпазіцыі да яго, такое азначэнне ў пэўнай ступені субстантывіруецца, азначаемае ж часткова набывае атрыбутыўную функцыю. *Нешта трывожнае і патаемнае рабілася ў вёсцы* (Я. Колас. Бунт). *Ён ціха апусціўся, стаў лёгка, свабодна ўлазіць у нешта мяккае і*

*халоднае* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Усё: і хмурнае неба, і мёрзлая чорная зямля — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным* (К. Чорны. На граніцы). *Ёсць што-небудзь новае?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

У прэпазіцыі да няпэўных займеннікаў дапасаванае азначэнне бывае вельмі рэдка. *Ты, мусіць, нядобрае нешта задумаў* (К. Крапіва. Канец дружбы). *І чулася яно, гэтае нешта, і ў зыках шумлівай ночы, і ў ветры, і ў цёмнай заснуўшай зямлі* (К. Чорны. На граніцы).

§ 992. Дапасаваныя прыметнікі, якія ўваходзяць у склад устойлівых спалучэнняў, з асаблівай паслядоўнасцю займаюць прэпазіцыйнае становішча адносна назоўніка. Перш за ўсё тут выдзяляюцца спалучэнні фразеалагічнага характару. *На ўсім ляжала пячаць нядбайнасці і нейкай недаробленасці, як бы тутэйшыя гаспадары будавалі яе на скорую руку* (Я. Колас. На ростанях). *Ён мог бы мець чалавечы выгляд, але ж трэба ўсё, што мае, хаваць на чорны дзень* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). Караневіч. *Тады, пад гарачую руку, я не стрымаўся і зрабіў глупства* (К. Крапіва. Проба агнём). *Яшчэ крыху часу — і ўсё выйдзе на чыстую ваду* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Да вайны сям'я яго была ў калгасе, а сам ён больш раз'язджаў — шукаў лёгкага хлеба* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Чуў ён, што трэба атраду зрабіць налёт на горад і даць добрага пытлю немцам* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

У выразах, якія з'яўляюцца тэрмінамі і абазначаюць адно паняцце, прыметнік, як правіла, займае прэпазіцыйнае становішча. *Хай ішла бяда па свету — спелі коласам палі, ды па беламу білету тры сыны яго жылі* (П. Броўка. Кацярына). *Земскі начальнік жыў у мястэчку* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Артылерысты пачалі біць у іх простай наводкай* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Пад спеўную жаночую дыктоўку я пісаў лісты мужам у акопы імперыялістычнай вайны* (З. Бядуля. Крэўныя). *Аднойчы група дэлегатаў наведала дзяржаўны тэатр* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *Аднекуль з вуліцы данёсся сігнал баявой трывогі* (К. Крапіва. Проба агнём).

Захоўваецца прэпазіцыйны дапасаваны прыметнік і ва ўласных назвах. *Нават імя сваё мае ў вуснах народа гэтая вайна — Шведскае Паленне* (Я. Колас. На ростанях). *Невялікае селішча Скіп'ёўскае Пераброддзе ўзнікла на голым месцы пры вялікім Скіп'ёўскім лесе адразу пасля рэвалюцыі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У Белых Крыніцах нудна пераклікаліся совы* (Я. Колас. Чорт). *За вёскай Каменныя Горы, сярод камарыных балот, зарыты па самыя вочы стаіць запусцелы дот* (П. Панчанка. Балада пра Міколу Сасноўскага).

Заўвага. У асобных выпадках прыметнік ва ўстойлівых выразах можа займаць постпазіцыйнае становішча. Назіраецца гэта пераважна ў мове паэзіі. *Мы ж глядзім, як узняліся зоры над задумным лесам Аўгустоўскім* (П. Броўка. Беларускі фронт). У некаторых фразеалагізмах постпазіцыя прыметніка адносна назоўніка наогул з'яўляецца нормай. *Дай ты рады памяці гэтай, зрабілася на рэшата дзіравае* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 993. Займеннікі, якія выступаюць у ролі азначэння, могуць знаходзіцца ў прэпазіцыі і ў постпазіцыі адносна азначаемага, прычым постпазіцыйнае ўжыванне займеннікаў-азначэнняў не прыводзіць, як правіла, да іх лагічнага выдзялення. *Наша зямля квітнела хараством і багаццем* (Я. Купала. Кліч да беларускага народа). *Станьце ж вы, хмаркі, над рубяжамі нашых палеткаў* (Я. Колас. Хмаркі). *Дзюбастая птушка хваліла прыгоства свайго жытла на свеце не зусім далікатным голасам* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Ваша хвароба паставіла мяне ў цяжкое становішча* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *І хлапчук ужо лёгка пераходзіў цераз усю хату* (І. Шамякін. Глыбо-

кая плынь). *Бацькі в а ш ы іначай жылі!* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *А Зоську н а ш у таксама знлі, дзедка!* (там жа). *Сэрца м а ё пераглумачыць сабе ўсе гэтыя дзіўныя малюнкі* (З. Б я д у л я. Прытуліся ка мне). *Пытанні г э т ы я хвалявалі кожнага чалавека* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

§ 994. Дапасаванае азначэнне можа знаходзіцца і пасля назоўніка, да якога яно адносіцца. Перш за ўсё гэта назіраецца пры лагічным падкрэсліванні азначэння, пра што яскрава сведчыць кантэкст. Нярэдка ў такіх сказах адно азначэнне супрацьстаўляецца другому. *Першую песню спяем салаўіную. Дайце цымбалам размаху, разгону... Песню д р у г у ю спяем, весялейшую, шырака, з захаду і аж да ўсходу* (М. Т а н к. Тры песні). *Чаму да гэтага часу ў рад з многімі цудоўнымі паэтычнымі і празаічнымі талентамі не сталі такія ж моцныя таленты к р ы т ы ч н ы я?* (Я. К о л а с. Аб літаратурнай працы). *Нашы палеткі буйным абшарам нас гадавалі хлебам п ш а н і ч н ы м, вашы палоскі голым папарам голад дарылі вам б е з г р а н і ч н ы* (Я. К у п а л а. Сонца свяціла нам аднолькова). *Сіла п р а ц о ў н а я не памірае, а памірае драпежнік п р а к л я т ы* (У. Д у б о ў к а. Крычаўская спакуса).

Зразумела, што лагічнае выдзяленне постпазіцыйных азначэнняў адбываецца не толькі пры супрацьстаўленні, але і ў іншых выпадках. *Бор стары завые нудна* (Я. К о л а с. Пад шум ветру). *Змарылася сэрца старое* (З. Б я д у л я. Умарыўся). *Баюся я гэтага папялішча раскапанага* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Далеч снежная імгліцца* (А. З в о н а к. Паўночнае ззянне).

З а ў в а г а. Постпазіцыйнае дапасаванае азначэнне не трэба зблытваць з выказнікам, выражаным словамі, што звычайна выступаюць у атрыбутыўнай функцыі. *Звычайна ўсе крамольнікі — кудлатыя і абарваныя* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў). *Мае мазгі спрытныя* (Я. К у п а л а. Паўлінка). *Ладымер насупроць Сымона зусім шчуплы і худы* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Воз з бярвеннем цяжкі* (З. Б я д у л я. На каляды к сыну).

У мове паэзіі, у апісаннях, пры апавядальным выкладзе постпазіцыйнае азначэнне можа лагічна і не выдзяляцца. *Густа жыта м а л а д о е поле ўсё акрыла* (Я. К о л а с. Рольнік). *З васілёчкаў с і н і х, з муравы з я л ё н а й ты спляці вяночак, ты спляці карону* (Я. К у п а л а. Усюды лета...). *Ажно глядзіш — у ваконцы галоўка б е л е н ь к а я* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *Не шумі, човен, па явару, не пужай качак м а л а д з е н ь к і х, не псуй кветак б е л ы х з маленькімі гладышыкамі, з зялёнымі каптурыкамі* (З. Б я д у л я. Не шумі...). *Над Нёманам д а л ё к і м з надзеяй хвоі шэпчуць: «Ён ідзе!»* (П. П а н ч а н к а. Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю).

З а ў в а г а. У радзе выпадкаў перанясенне прыметніка ў постпазіцыю прыводзіць да таго, што ён уступае ў больш цесную сінтаксічную сувязь з дзеясловам-выказнікам, гэта надае прыметніку прэдыкатыўнасці і можа прыводзіць да змены яго ролі ў сказе. *Той глядзеў на яго з б я н т э ж а н ы* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Валодзя і Надзя спыніліся з б я н т э ж а н ы я* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *Якуб падышоў н е в я с ё л ы і з б я н т э ж а н ы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Дні цягнуліся н у д н ы я, д о ў г і я* (І. М е л е ж. Далёкае і блізкае). *Сняжок сцярушваецца с ы п к і* (М. Л у ж а н і н. Жывыя рысы Ільіча).

Даволі звычайнай з'явай з'яўляецца постпазіцыя прыметніка, які адносіцца да іменнага выказніка, выражанага тым жа словам, што дзейнік, да іншага якога-небудзь слова, якое паўтарае пэўны член сказа, а таксама ў тых выпадках, калі адсутнасць прыметніка пры назоўніку прывяла б да бяссэнсіцы або да змены значэння сказа. *Вядома, гэта наша дзіця р о д н а е* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *Гэта лякарства п а в я р х о ў н а е* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Каханне — пачуццё с к л а д а н а е* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі). *Наш народ беларускі — народ ш ч ы р ы, ч у л ы* (Я. К у п а л а. Кліч да беларускага народа). *Зоры д а л ё к і я, зоры б л і с к у ч ы я ціха гараць над зямлёй. Крыкі з н а ё м ы я, тоны п я в у ч ы я льюцца вячэрняй парой* (Я. К о л а с. Гусі). *Заўсёды ён быў вельмі скупы на словы, асабліва на словы*

*л а с к а в ы я, і на першы погляд здаваўся суровым* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Праўда, і ў названых умовах часам можа назірацца прэпазіцыя прыметніка, але ў гэтых выпадках ён часцей за ўсё выдзяляецца. *Гэта быў п е р а л о м н ы момант. Прыбыткоўскі ўсхапіўся на ногі, рынуўся на два крокі і шпурнуў гранату* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Будаўнікі — г а н а р о в а я прафесія* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата).

Значнае пашырэнне мае постпазіцыя азначэння ў сказах ці ў частках сказа з далучальнай сувяззю. Да гэтай жа групы прымыкаюць і такія канструкцыі, у якія ўваходзіць азначэнне, а назоўнік, да якога фактычна адносіцца яно, уваходзіць у папярэдні сказ. *Потым даюць квас, ды такі с м а ч н ы* (Я. К о л а с. Калядны вечар). *А мы суд зробім... п р а в ы і с к о р ы* (Я. К у п а л а. Паўлінка). *Ён зборлівы чалавек. І п р а ц а в і т ы* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Горад на ўзгорку ляжыць. Ц і х і* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Вырабляем там адзенне. Вось такое, як на мне. Шмат адзежы, і х а р о ш а й* (К. К р а п і в а. Хвядос — Чырвоны нос). *«Дэсант!» — нехта голасна кінуў, хаця кожны ўжо бачыў, што гэта дэсант, і дэсант в я л і к і* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *А дзень яшчэ наперадзе, я с н ы, с о н е ч н ы і... п р а ц а в і т ы* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба).

§ 995. Моцным сродкам лагічнага выдзялення постпазіцыйных дапасаваных азначэнняў з'яўляецца іх адасабленне. *Адна вуліца, прасторная, роўная, шырокая, ішла на чыгунку, другая, невялічкая, бегла ў поле і зараз жа канчалася, перайшоўшы ў дарогу* (Я. К о л а с. На ростанях). *А ўверсе гнаў ён цэлыя шэрагі хмар, цяжкіх і чорных, якімі павялічваў змрок халоднай ночы* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *Мужчына, злосны, пайшоў у хату* (В. К а в а л ь. Нянавісць). *У пакой хутка ўбегла знадворку Палагея, расчырванелая, усхваляваная, і з крыкам кінулася да іх* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Лагічна падкрэсліваюцца і адасабляюцца таксама прэпазіцыйныя азначэнні, якія адносяцца да асабовага займенніка. *Усхвалёваны і горды, далікатнейшы з людзей, ты нясеш законны ордэр, два ключы і сто надзей* (П. П а н ч а н к а. Навасёлу). *Часам ноччу, змораная, фізічна разбітая, яна незаўважна засынала каля калыскі* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

§ 996. У якасці сродку выдзялення дапасаванага азначэння ўжываецца адрыў яго ад азначаемага. Ёсць некалькі варыянтаў пастаноўкі такога азначэння ў сказе.

Азначэнні, адарваныя ад азначаемага, могуць быць вынесены ў пачатак сказа. *Бледная курыцца на стале газоўка* (Я. К у п а л а. Адвечная песня). *Худы, высокі, сухарлявы, для ўсіх жаданы і цікавы, вайшоў Кандрат і павітаўся і пра здароўе распытаўся* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Мільгалі дзіўныя языкі полымя. Чорныя, белыя, клубіліся воблакі дыму* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Устрывожаны, неспакойны, прыйшоў ён раз да Лабановіча* (Я. К о л а с. На ростанях).

Адарваныя ад азначаемага дапасаваныя азначэнні могуць знаходзіцца ў канцы сказа. *Зачыніла свет вайна, а я з дзеткамі адна, з дробнымі, малымі* (Я. К у п а л а. Песні аб імперыялістычнай вайне). *Вёсачка тулілася на ўзгорку, малапрыкметная і маленькая* (Я. К о л а с. На ростанях). *Яна моўчкі сядзела — нерухомая, ціхая* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *І азіраецца Сымон кругом сябе, смутны, благі* (З. Б я д у л я. Сымон).

Азначэнне, адарванае ад азначаемага, можа знаходзіцца ў сярэдзіне сказа. *Зноў я чую надрыўныя грузавікоў галасы* (П. П а н ч а н к а. Ноч перад святам). *Сяргей Пятровіч, заклаўшы рукі за спіну, хадзіў, ссутулены, узад і ўперад па коўзкім лінолеуме кабінета* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Ды бывала ж ты малы босы і голы мёрз* (К. Ч о р н ы. Зямля).

§ 997. Недапасаваныя азначэнні стаяць пасля таго слова, да якога яны адносяцца. Азначэнні, выражаныя інфінітывам, часцей за ўсё ідуць адразу пасля азначаемага. *Аб сваім жаданні п а б ы ц ь на пасёлку папаведаміў Пракоп Лапку* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Ён крыкнуў каманду б і ц ь простай наводкай* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *У яго і цяпер была ахвота п а г а р э з н і ч а ц ь* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы). *Жывучая ж яна — прывычка з а г л а д ж в а ц ь* (Я. Б р ы л ь. Жменя сонечных промняў).

Паміж азначаемым і азначэннем-інфінітывам могуць быць і іншыя члены сказа. *Прага хоць раз яшчэ ў жыцці ў б а ч ы ц ь маці была цяпер самым большым яго пачуццём* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Ёсць загад мне п а д а ц ц а на ўсход* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Ды ты майстар дзяўчат а б д у р в а ц ь* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба).

§ 998. Недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў з прыназоўнікамі ці без прыназоўнікаў, звычайна знаходзяцца пасля азначаемага. Перад гэтымі назоўнікамі-недапасаванымі азначэннямі могуць быць дапасаваныя азначэнні, якія да іх адносяцца. Прэпазіцыя адзіночнага недапасаванага азначэння сустракаецца вельмі рэдка. *Тут бытавала паэзія простай працы* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Вось і гоман горада даходзіць да яе вушэй* (З. Б я д у л я. На каляды к сыну). *Сцяпанавіч разбіраў прасценак акна* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *Прыйшла вясна саракавога года* (Я. Б р ы л ь. Ты мой найлепшы друг). *Думы, як зоры, праз чорныя сцены стрэламі волі бягуць* (П. Б р о ў к а. Прамова фактамі). *Рэвалюцыя з Усходу змяла назаўсёды няволю і цемру з гэтай краіны* (Я. К у п а л а. Добра жыць, тварыць і змагацца...). *І трэба ж выскачыць якраз цяпер Піліпу, селяніну з чорнай барадой* (Я. К о л а с. Выбар старшыні). *Немцы з вартыне адразу заўважылі пажар* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Сетку Тацяна пляла. Н а р а ч ы хвалі гулі* (М. Т а н к. Нарач). *Эх, сябрыбраты! Самі знаеце: а г н ю палкага іскры маеце* (Я. К о л а с. Сябрам).

§ 999. Займеннікі, якія выступаюць у функцыі недапасаваных азначэнняў, могуць знаходзіцца як перад назоўнікам, так і пасля яго. Прэпазіцыя такога азначэння адносна азначаемага не прыводзіць да яго лагічнага падкрэслівання. Больш часта, аднак, ужываецца постпазіцыйнае недапасаванае азначэнне-займеннік. *Ногі я г о па калені ўлазілі ў снег* (Я. К о л а с. Васіль Чурыла). *Твар я е зноў уздрыгнуўся. Ёй стала ясна ўсё* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Над галавой я г о быў залаты маладзік* (З. Б я д у л я. Над сажалкай). *У рысках і х залягла зялёная цвіль* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *У пячурцы ляжаў я г о капшук з тытунём і крэсіва* (Я. К о л а с. Бунт). *Ніколі яшчэ я г о пачуццё да яе не даходзіла да такой сілы* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

§ 1000. Да аднаго азначаемага можа адносіцца некалькі азначэнняў. З рада дапасаваных азначэнняў бліжэй да азначаемага знаходзіцца тое, што абазначае больш пастаянную прымету, а таксама азначэнне, якое разам з назоўнікам утварае адзін тэрмін, адно ўстойлівае спалучэнне. Іншыя азначэнні па сутнасці адносяцца да ўсяго гэтага спалучэння. *Касматыя я л о в ы я вяршыні трэсліся, як у шалёным танцы* (Я. К о л а с. Васіль Чурыла). *Новая н я м е ц к а я калона абмацвала сабе іншую дарогу* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Валасатыя рукі высунуліся з-пад старой а т л а с н а й коўдры* (З. Б я д у л я. Таварыш Мінкін). *Раздаваліся сухія а ў т а м а т н ы я чэргі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Адрузлы, мясісты г е н е р а л ь с к і твар перасмыкнула лютая грымаса* (Э. С а м у й л ё н а к. Сон).

Азначэнне, якое раскрывае, удакладняе сэнс іншага азначэння, знаходзіцца пасля гэтага першага слова. *У нашай мілай Радзіме яны адкрылі нам новыя, нечуваныя раней ясноты* (Я. К у п а л а. Узнімайся, народзе мой...). *Заняпалыя вочы надавалі яму своеасаблівы, надменны*

*выгляд* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён як бы вярнуўся ў сваё, даўно мінулае, маленства* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Калі адно з некалькіх азначэнняў выражана займеннікам, то яно звычайна займае месца перад іншымі азначэннямі. *Бачыў я свой родны беларускі народ у крыві і пакутах* (Я. Купала. Кліч да беларускага народа). *Гэтая шырокая мяжа даходзіць унь аж да таго ляска* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Рэальнасць бязлітасна скрышыла мой вогненны замак* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Першапачатковы спалох праходзіў, вярталася яе звычайная ўпэўненасць* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У падобных выпадках азначэнне-займеннік адносіцца не толькі да азначаемага, але і да іншага азначэння. Таму перанясенне ў такіх сказах азначэння, выражанага займеннікам, у пазіцыю пасля назоўніка прыводзіць да лагічнага выдзялення займенніка, толькі займеннікі *яго, яе, іх* і ў постпазіцыі лагічна не падкрэсліваюцца. *Доўгія валасы мае ад пакуты вылінялі* (З. Бядуля. За тканінай). *Першыя думкі яго былі аб тым, што ён у горадзе і што гэта ўжо другая ноч, праведзеная за парогам бацькоўскага дома* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Зрэдку азначэнне-займеннік знаходзіцца пасля іншых азначэнняў. *Доўгай гэтай дарогай ішоў я па-рознаму* (Я. Купала. Жыццё маё належыць народу...). *Толькі цяпер ён ехаў на сталае сваё месца* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

§ 1001. У сказах, дзе да аднаго азначаемага адносяцца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні, ёсць два варыянты іх размяшчэння. Недапасаваныя і дапасаваныя азначэнні могуць знаходзіцца перад тым словам, да якога яны адносяцца, пры гэтым, як правіла, недапасаванае азначэнне ўжываецца пасля дапасаванага. Больш часта назіраецца пастаноўка дапасаванага азначэння перад назоўнікам, а недапасаванага азначэння — пасля назоўніка, але ў гэтым выпадку недапасаванае азначэнне адносіцца і да назоўніка і да яго дапасаванага азначэння. *Нізкі, з рыжаю барадою, Сымон Тачыла жартаваў з Аленаю* (Я. Колас. Кантракт). *Рухавы і малады, год пад дваццаць шэсць, салдат выйшаў з той групы, якая была на паўкіламетра ад стаянкі* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Нейкі ўскудлачаны, з дробнаю падстрыжанаю барадою, у нязменным сваім вылінялым і пазацыроўваным плашчы і высокіх ботах, ён, як вецер, рушыў з хаты* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *З сялянскай грамады выступіў Грыгор, шыракаплечы, з рудою барадою* (Я. Колас. У балоце). *Несамавіты, цеснаваты пакойчык Тэафіла выдаўся яму абшырным, вельмі чыстым* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Яна пачынала калыхаць яго, спяваць яму пяшчотныя, наіўныя песні-калыханкі без сэнсу, нават без слоў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Ён агледзеў вялізную постаць Апенкі з галавы да ног* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Несціханы гул на высокай ноце бесперастанку імкнуўся ў бясканцовую прастору* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Вельмі рэдка ў прэпазіцыі недапасаванае азначэнне знаходзіцца перад дапасаваным. *У зараслях трысця, увязшы па калена ў дрыгву, стаяў невялікага росту чырванатвары чалавек* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). Такое ж месца адносна дапасаваных азначэнняў можа часам займаць недапасаванае азначэнне ў сказах, дзе ўсе азначэнні знаходзяцца пасля азначаемага. *На пні прымасціўся Гарвада, сярэдняга росту, худы, касцісты і ёмкага складу і з віду яшчэ малады* (Я. Колас. Адплата).

## МЕСЦА ДАПАЎНЕННЯ Ў СКАЗЕ

§ 1002. Звычайна дапаўненне, якое выражана назоўнікам і адносіцца да дзеяслова, знаходзіцца пасля гэтага дзеяслова. *Я скажу Сымону* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *А як ён шанаваў гэты кажух*

(Я. Колас. Кажух старога Анісіма). *Якубоўскі таксама шпурнуў гранату* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Ніхто не чакаў такога здарэння* (Я. Колас. У балоце). *Дык вы сходзіце ў сад і напіцеся хлебнага квасу* (І. Грамовіч. Ірынка). *Ён марыў аб добрай гаспадарцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Антаніна Пятроўна нават крыўдзіцца на цябе* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

§ 1003. Займеннік, які выступае ў ролі дапаўнення (прамога ці ўскоснага), можа займаць становішча і пасля дзеяслова і перад ім. Прэпазіцыйнае становішча такога дапаўнення звычайна не прыводзіць да яго лагічнага падкрэслівання. *Яна выцірае ручкі адну аб адну і гаворыць: «Я знайду яго, тата»* (Я. Брыль. Светлае ранне). *Цемра глынула яго* (З. Бядуля. Умарыўся). *Сон падступае да яго* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Ладымер яго не слухаў* (К. Чорны. Вясна). *Я табе веру, Гузок* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Я нікога не баюся, тата!* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

§ 1004. Дапаўненне, выражанае інфінітывам, знаходзіцца пасля слова, да якога ён адносіцца. Зрэдку з мэтай устанаўлення больш цесных сэнсава-сінтаксічных сувязей з папярэднімі сказамі ці лагічнага выдзялення інфінітыў-дапаўненне выносіцца ў прэпазіцыю. *...І не збіраюся, не думаю кружыць, шукаю шлях да сонца самы блізкі* (С. Шушкевіч. Дакор). *А ў нашай справе самае галоўнае — умець заўважаць* (Я. Маўр. ТВТ). *Дык ты прапануеш халтурыць?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *А Аленка і не чакала ўглядзець яго* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *А хваляваццa ён меў рацыю, бо за сцяной сапраўды ляжаў у мораку Казюк Клышэўскі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Пагуляць — смела адкладай, а зрабіць — і на часіну не адкладай* (народн.).

§ 1005. Для лагічнага выдзялення дапаўнення выкарыстоўваецца некалькі відаў інверсіі. Калі ўлічваць размяшчэнне ў сказе дзейніка, выказніка і дапаўнення, то магчымы наступныя варыянты словапарадку, якія прыводзяць да падкрэслівання прыдзеяслоўнага дапаўнення: дзейнік — дапаўненне — выказнік (пры гэтым варыянце дапаўненне-займеннік не выдзяляецца), дапаўненне — дзейнік — выказнік, дапаўненне — выказнік—дзейнік, выказнік—дзейнік—дапаўненне. Варыянт словапарадку выказнік — дапаўненне — дзейнік не прыводзіць да падкрэслівання дапаўнення, бо яно займае тут сваё звычайнае, постпазіцыйнае адносна выказніка становішча.

§ 1006. Дапаўненне, выражанае назоўнікам ці субстантываваным словам і вынесенае ў становішча перад дзеясловам, выдзяляецца вельмі выразна. Гэта добра відаць, калі параўнаць наступныя дзве рэплікі: Альжбета. *Пан Быкоўскі мае імпэт толькі да маладых дзяўчат.* Адольф. *Я толькі да маладых маю імпэт* (Я. Купала. Паўлінка). Пры дапаўненні можа быць і азначэнне. Нават знаходзячыся ў прэпазіцыі да азначаемага, яно ў такіх умовах нярэдка лагічна выдзяляецца. *Я адмысловы пух дабірала* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Дворныя сохі гародніну і пшаніцу заворваюць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Ты, дачка, не сумуй, пра дэпо кінь думаць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вы ж півто сапсавалі* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *А ён знявечаны паравоз прагледзеў* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Я ж з Ячным ехаў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Мы «Паўлінку» рыхтуем якраз* (там жа). *Я да партызан пайду* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Пры захаванні прамога парадку галоўных членаў сказа дапаўненне, трапіўшы ў становішча перад дзейнікам, дапамагае ўстанаўленню сэнсава-сінтаксічных сувязей з папярэднімі сказамі і нярэдка лагічна выдзяляецца. *Яму самому не прыходзіла такая думка — ускочыць у студню... А як тут было прахладна і спакойна, то Арцём ад задавальнення нават усміхнуўся сам сабе. О, гэта штука! Аб гэтым усё сяло зага-*

*ворыць* (Я. Колас. Недаступны). *Тады на мяне страх нападае* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Галену навіна гэтая ўзварушыла вельмі: тут была замешана Зося* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *У руках ён трымаў ядлоўцавае пугаўё, яго ён адразу кінуў на саначкі з плугам* (К. Чорны. Вясна). *Спалохана адчыніў дзверы. На мяне ніхто не звярнуў увагі* (З. Бядуля. Анчар). *Сяброўак прывітаў старых, мяне сяброўкі прывіталі* (У. Дубоўка. На самой радзіме).

Вельмі падобная функцыя ў сказе дапаўненняў, якія знаходзяцца перад прэпазіцыйным выказнікам, толькі ступень выдзялення гэтага дапаўнення, як правіла, меншая, чым ступень выдзялення дапаўнення, якое знаходзіцца перад прэпазіцыйным дзейнікам. *«Гэта быў правакатар,— адказаў Сцяпанавіч.— Ён прадаў дружыну. Яго праз некалькі месяцаў потым забілі рабочыя дэпо»* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Для Алесі збірала маці і хавала гэта дабро* (Я. Колас. Дрыгва). *Але нічога гэтага не заўважала Тацяна ў першыя дні свайго жыцця дома* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У сказах, дзе дапаўненне знаходзіцца пасля постпазіцыйнага дзейніка, яно выдзяляецца нязначна, бо тут нярэдка падкрэсліваецца выказнік. Альжбета. *Не смяшы ты людзей* (Я. Купала. Паўлінка). *Не тушэце ж вы той агонь святы, асвятляйце ім родны край, куты* (Я. Колас. Сябрам). *Засмуткуюць зноў балоты без вас, госці лета* (Я. Колас. Гусі). *Дакарала часам жонка і Юрку* (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец).

§ 1007. Дапаўненне, якое адносіцца да назоўніка, прыметніка, дзеепрыметніка, заўсёды знаходзіцца пасля гэтых слоў. *Гэта абазваўся артылерыст Якубоўскі, магілёвец, вясёлы чалавек, схільны да гаворкі і шпаркай змены ў настроях* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Пачалося фізічнае і духоўнае ўзбуджэнне ўсёй істоты* (там жа). *Іспыты мадэлі паказалі высокую якасць машыны* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

§ 1008. Калі ў сказе ёсць некалькі дапаўненняў, то іх размяшчэнне залежыць ад таго, прамымі ці ўскоснымі яны з'яўляюцца, а таксама ад таго, якой часцінай мовы яны выражаны. Як правіла, прамое дапаўненне ставіцца перад ускосным. *Пабегаўшы па двары, вучні зноў прыйшлі ў школу. Яна ўжо не страшыла іх сваёю навіною* (Я. Колас. Школа). *Гады даводзяць гэта пачуццё да найвялікшага ўздыму* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Вы абвінавачвалі мяне ў руцінёрстве* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Давайце ж мы спалучым добрыя мары з добрымі справамі* (там жа).

Звычайна пры наяўнасці ў сказе дапаўнення, выражанага займеннікам, і дапаўнення, выражанага іншай часцінай мовы, спачатку ўжываецца займеннік. *Сон жа, як на злосць, ніяк не змыкаў яму вочы* (Я. Колас. Трывога). *Ураднік выбіў яму нагайкай правае вока* (З. Бядуля. Віхор). *Тацяна не зводзіла з яго вачэй* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Сказ з некалькімі дапаўненнямі можа мець і такую будову: адно дапаўненне знаходзіцца перад дзеясловам, другое — пасля дзеяслова, адно дапаўненне ў пачатку сказа, другое — у канцы сказа. *Я табе зайграю панічову музыку* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Яны сваю аддачасць Радзіме ператварылі ў подзвігі змагання з подлым ворагам* (Я. Купала. Узнімайся, народзе мой...). *Аб гэтым усім ты напішаш у сваіх вершах, Яша* (Э. Самуйлёнак. Сустрэча). *Сядзельцаў ён парабіў самымі лепшымі людзьмі* (Я. Колас. Пісаравы імяніны). *Мяне сустракала гасцінна, як сына, Палессе ягаднымі лясамі, чырвонымі паясамі, дзявочымі галасамі* (П. Панчанка. Палескі напрамак).

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, выражанае назоўнікам дапаўненне, якое знаходзіцца паміж дзейнікам і выказнікам або перад дзейнікам ці выказнікам, выдзяляецца больш, чым постпазіцыйнае адносна

выказніка дапаўненне, ужытае ў гэтым жа сказе. Праўда, прамое дапаўненне, аднесенае на апошняе месца ў сказе, лагічна падкрэсліваецца. *Роўнае хрумстанне* [коней] *надае дзеду супакой* (З. Бядуля. Віхор). *Тэхнік падаў Сцяпанавічу важкую цагліну* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата).

У сказе, дзе сярод дапаўненняў ёсць дапаўненне, выражанае інфінітывам, яно знаходзіцца пасля дапаўнення — імені ў форме давальнага склону (калі такое ёсць у сказе). Дапаўненне-інфінітыў у сваю чаргу можа мець дапаўненне, звычайным месцам для якога з'яўляецца постпазіцыя адносна неазначальнай формы. Прэпазіцыйнае становішча дапаўнення, якое адносіцца да інфінітыва, з'яўляецца інверсіяй. *Вы раілі мне не спяшацца з палепшаннем, а пачакаць водзываў з Волга-Дона* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Нездаровы старэчы тлушч, сівізна і бледнасць твару не перашкаджалі бачыць здаўна знаёмыя рысы* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Яшчэ б яны дагадаліся серную кіслату залівань* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

## МЕСЦА АКАЛІЧНАСЦІ Ў СКАЗЕ

§ 1009. Акалічнасць спосабу дзеяння, выражаная прыслоўем, утвораным не ад назоўніка, звычайна знаходзіцца перад дзеясловам. *Мініч спалохана прахапіўся* (Я. Колас. На ростанях). *Лес маркотна гаманіў* (Я. Колас. «Доктар памог»). *Я хуценька скончу* (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). *А мой каняга ніяк не цягнуў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Карп нездаволена паморшчыўся* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Яна моцна выцялася* (І. Грамовіч. Рына-Марына).

Калі акалічнасць спосабу дзеяння ў сказе з прамым парадкам галоўных членаў стаіць пасля выказніка, яна ў некаторай ступені лагічна выдзяляецца. *Усё пойдзе гладка* (Я. Купала. Паўлінка). *Нічыпар маўчаў вінавата і панура* (Я. Колас. Дрыгва). *Людзі працавалі моўчкі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Аўдоцця ішла маўкліва* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мы не ў даўгу у маладосці,— яна ў вачах, яна ў крыві, яна заве гасцінна ў госці: працуй, любі, твары, жыві!* (А. Звонак. На аўтастрадзе Мінск—Масква).

Лагічна выдзяляецца акалічнасць спосабу дзеяння, якая выражана прыслоўем і знаходзіцца перад выказнікам у сказе з адваротным парадкам галоўных членаў. Нярэдка гэта акалічнасць і выклікае перанясенне выказніка ў прэпазіцыйнае становішча. *Лес шумеў. Смутна шумеў стары лес* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Вунь ціха скрыпнула палавіца* (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). *Гарыць агонь. Спакойна дрэмле Нарач. І ноч, як песня ціхая, без слоў, на сонны бераг навявае чары, калыша хмары-думы рыбакоў* (М. Танк. Нарач). *Прыгожа танцуе Санкоўскі! Горда танцуе Санкоўскі!* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Акалічнасць, якая стаіць перад дзейнікам у пачатку сказа або пасля дзейніка ў канцы сказа, таксама лагічна падкрэсліваецца. *Фармальна вы маеце рацыю* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Правільна я кажу, хлопцы?* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Станавіўся на ногі ён вельмі доўга* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Сталі мы, братка, моцна* (Я. Колас. Андрэй-выбаршчык).

§ 1010. Акалічнасць спосабу дзеяння, выражаная прыслоўем, утвораным ад назоўніка, ці назоўнікам, знаходзіцца ў сказе пасля выказніка. Прэпазіцыя такой акалічнасці з'яўляецца інверсіяй. *Сівер са снегам рынуўся ў грудзі, рынуўся зверам на шыю* (Я. Купала. Згнаннік). *Скавытала воўкам бура за акном* (М. Засім. З палону). *Магдалена наважылася ісці пешкам* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *З усяго размаху ён даў вінтоўкаю па нямецкай галаве* (там жа). *Ён на поўныя*

*грудзі ўдыхае свежае паветра* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Шклянка са звонам куляецца на сподак* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Гневам заблішчэлі старыя вочы дзеда* (Я. Колас. Бунт). *Віхрам імчаўся Віхор на знаёмыя, родныя галасы* (З. Бядуля. Віхор).

§ 1011. Часцей за ўсё акалічнасць месца займае становішча ў пачатку сказа перад прэпазіцыйным (адносна дзейніка) выказнікам. *У нашай краіне будуецца камунізм* (Я. Купала. Прамова). *Тут жа каля хаты цякла рэчка-крыніца* (Я. Колас. Калядны вечар). *Там ужо сінеў далёкі лес* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Над балотам паплыў гул* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *З пакоя чуюцца гукі вальса* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *У хату зайшоў бацька* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Калі ў пачатку сказа стаіць некалькі акалічнасцей месца, прычым сярод іх ёсць удакладняльныя, то і ў сказе з адваротным парадкам галоўных членаў акалічнасці выдзяляюцца. *А ў Свіной вуліцы, каля хаты Сымона і Мікалая, была ўжо цэлая камедыя* (Я. Колас. Дзяліцьба). *Кіламетраў з дзевяць ад Скіп'ёўскага Пераброддзя, на самым бярозавым гасцінцы, край вялікага сяла Ціхамiраўшчыны, жыла Нахама-мельнічыха, бяздзетная ўдава* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Лагічна выдзяляюцца акалічнасці месца ў сказах са схемай словаразмяшчэння акалічнасць — выказнік — дзейнік у тых выпадках, калі ў кантэксце побач ёсць некалькі такіх сказаў. *У полі звінела ранняя дружная вясна. Улева, над абшарамі балота, плыў лёгкі туман. Справа ляжала ўзараная нядаўна чорная ралля. З бліжэйшага бярозавага гаю чуўся рознагалосы птушыны шчэбет* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). *Усё навокал было ціха, спакойна. Чуваць было, як у хлеўчуку жуе жвачку карова. З клеці даносіўся лёгкі храп: Піліпчык-пляменнік даўно ўправіўся з вячэрай і цяпер, падшывалец, бачыць каторыя сны ўжо. У сенцах заходзіўся цвыркун* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У сказе з адваротным парадкам галоўных членаў акалічнасць месца, ужытая пасля выказніка або пасля дзейніка, лагічна не падкрэсліваецца. *Вынырнуў з-за хмар чырвоны месяц* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі). *Імчалі нізка над зямлёй грузныя хмары* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Згасалі ў небе зоркі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Пачалася цішыня ў доме і за вокнамі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Шуміць трысцё на балоце* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі).

Акалічнасць месца, ужытая ў сказе з прамым парадкам слоў пасля выказніка, выдзяляецца асабліва тады, калі гэты выказнік абазначае рух. *Данілка адыходзіць убок* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Козлы схіліліся, вулей грукнуў на зямлю* (Я. Колас. Калодка пчол). *Кастусь Прыбыткоўскі збочыў улева* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Люся не лезе ў ёлачкі,— яна абягае іх навокал* (Я. Брыль. Светлае ранне). *Акіян гайдаўся на прасторы, дзень займаўся на хрыбце вякоў* (А. Звонак. Там, дзе займаецца дзень). *Цішыня стаяла навокал* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Мужчыны прыселі на лавачцы недалёка ад вакзала* (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца).

З высокай ступенню выдзялення акалічнасць месца ўжываецца ў пачатку сказаў з прамым парадкам галоўных членаў. *У валасці я застаў пісара і яго памочніка... А на «зборнай», як на кірмашы, гаманіў сход* (Я. Колас. Выбар старшыні). *Ехалі доўга, разоў у тры дайжэй за той час, пакуль жанчына паспела была схадзіць па каня і вярнуцца. Сюды яна, мусіць, моцна гнала каня* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *«Адкуль жа вы самі будзеце?» — «З горада я прыехала»* (В. Каваль. За доляю). *Дзе ветразь у моры халодным палошчыцца, кідае гарпун кітабой, ты снілася мне. У таежным урочышчы я мроіў таксама табой* (А. Звонак. Ты снілася мне...).

Такія прэпазіцыйныя акалічнасці месца асабліва моцна падкрэсліваюцца ў сумежных сказах з аднолькавым словаразмяшчэннем. *У Пра-*



31. Зак. 378.

*кудзіне сяляне высеклі дзесяць дзесяцін панскага лесу і забілі двух стражнікаў... У Хадулях сяляне самавольна падзялілі панскую зямлю і спалілі панскія свірны... У Аўсянішчы сяляне, абураныя жывадзёрствам памешчыцы, спалілі дашчэнту маёнтак і разабралі ўсё панскае збожжа* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Над ім гарыць святло, зямля не цісне грудзі, не ў глушыні ён спіць пад засенню дубоў, на вышыні ён спіць, што плошчай клічуць людзі, у цэнтры свету спіць пад засенню сцягоў* (А. Куляшоў. Жывы Ленін).

§ 1012. Звычайна акалічнасць часу ў сказе знаходзіцца перад прэпазіцыйным (адносна дзейніка) выказнікам. *Каля яго, уляпіўшыся за зрэбныя порткі, бег Міхаська. А на гэты час праходзіла тут варта* (Я. Колас. Трывога). *З самага ранку пачалі сыходзіцца людзі да аднапавярховага доўгага будынка з новага бярвення—клуб на пабудове* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Пасля ракет не больш як праз хвіліну пачалі страляць усе гарматы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У пачатку рэйса ў насценгазеце з'явіліся вершы* (Э. Самуйлёнак. Сустрэча).

Акалічнасць часу, ужытая на месцы паміж дзейнікам і выказнікам, а таксама ў сказе з адваротным парадкам слоў — пасля дзейніка, выдзяляецца, але не заўсёды ў моцнай ступені. *Кожны па часе мае розум* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Ты ж ніколі не лётаў!* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Лес рэдка калі маўчыць* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Прыехаў Алесь на світанні* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Загарэлася сяло ў часе бою* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

Больш моцнае лагічнае выдзяленне акалічнасці часу назіраецца ў сказах з прамым парадкам слоў, калі акалічнасць стаіць пасля выказніка. *Пісьмо прыйшло зранку* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Гул паўтарыўся зараз жа* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Гэта зрокавая дуэль цягнулася доўга* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Калі акалічнасць часу знаходзіцца перад дзейнікам у сказе з прамым парадкам слоў, яна часцей за ўсё служыць сродкам сэнсава-сінтаксічнай сувязі сказа з папярэднім кантэкстам і лагічна не падкрэсліваецца. *Магло здавацца, што ўсё адбылося за адну хвіліну. У такія моманты час як бы пакідае існаваць* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Трэцяя рота ўзбунтавалася. Але неўзабаве настрой апаў* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Антон сачыў. Спачатку Ром у дзверы біў старанна, у камісара пад акном пасля хістаўся п'яна* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла). *Так цягнулася ўсю ноч. З надыходам раніцы яны з палёгкаю ўздыхнулі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Але ў сказах з прамым парадкам слоў прэпазіцыйная акалічнасць часу можа і выдзяляцца, важную ролю ў гэтым адыгрывае больш шырокі кантэкст і мэта выказвання. *Няскор̲а сяляне прыступілі да работы. Яны сталі распытвацца: як? чаму? чаг̄о? ці не выпіўшы быў фурман?* (Я. Колас. У балоце). *У 1916 годзе пілот упершыню ўзяў у рукі штурвал парусінавага «Фармана». У 1926 годзе ён пакінуў сядзенне пілота...* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *У пяць гадзін я цябе чакаю* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

§ 1013. Акалічнасць прычыны і мэты ў сказах з прамым парадкам слоў звычайна знаходзіцца пасля выказніка. *Кастусь не вытрымаў, зарагатаў ад гэтай Міканоравай шчырасці* (З. Бядуля. Злодзей). *Прызначэнне ж сатырычнай камедыі — выкрываць зло ў імя дабра* (К. Крапіва. Канфлікт — аснова п'есы). *Халодныя мурашкі прабеглі па спіне ў Тацяны ад гэтых слоў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Невялікае лагічнае выдзяленне гэтай акалічнасці назіраецца ў сказах з адваротным парадкам галоўных членаў пры пастаноўцы акалічнасці пасля дзейніка. *Абудзіўся Яфім Сцяпанавіч ад моцнага штуршка* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Зайшоў я па справах*

*нашых* (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). *І блішчэлі іх галодныя вочы ад радасці* (З. Бядуля. Пяць лыжак заціркі).

Акалічнасці прычыны і мэты ў становішчы паміж галоўнымі членамі сказа і асабліва на месцы перад прэпазіцыйным (адносна выказніка) дзейнікам выдзяляюцца. *Не на радасць і не на пацеху яна ў мяне гадавалася* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Праз яе я прэміяльнай надбаўкі не атрымаю* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Апенка ад нечаканасці наткнуўся на пракладку для тачак* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

§ 1014. Інфінітыў, які выступае ў ролі акалічнасці прычыны і мэты, знаходзіцца пасля дзеяслова, да якога ён адносіцца. Часам на месцы паміж гэтым дзеясловам і неазначальнай формай ёсць іншыя даданыя члены сказа. *Здаецца, нядаўна было — я яшчэ на тыя хвоі, бывала, з вашым Міхалам лазіў гля́дзець у гнёздах вараняты* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Я іх пакінуў вартаваць начынне* (К. Чорны. Вясна). *Маёр вызначыў людзей суправаджаць Матуша і выправіў іх у дарогу* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Дзед выходзіць скаціне даваць* (Цётка. Гутаркі аб птушках). *Кузьма да суседзяў пайшоў курыць* (В. Каваль. За доляю). *Ехаў тудою казак і зайшоў у хату вады напіцца* (А. Якімовіч. Мужык і жонка).

§ 1015. Акалічнасці, якія адносяцца да назоўніка, прыметніка і прыслоўя, маюць свае асаблівасці размяшчэння ў сказе. Месца такой акалічнасці ў сказе залежыць і ад таго, да якой часціны мовы яна адносіцца, і ад таго, якой часцінай мовы яна выражана. Акалічнасць-прыслоўе, якая прымыкае да прыметніка ці да прыслоўя, знаходзіцца перад гэтым словам. Выражаная назоўнікам акалічнасць, якая адносіцца да прыметніка ці да назоўніка, займае месца пасля такога слова. *Будзе вясна. Хоць адвячорак у пушчы яшчэ ўсё як быццам зімовы. З рэшткамі хлюпкага, вадзяністага снегу. З нізкім, нудна панурым небам* (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). *Вось якую бліскучую старонку з мінулага падсунула Сяргею Пятровічу ў гэтую сумную хвіліну недарэчы ўслужлівая памяць* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Люба таксама не любіла Палагеі. Але да яе Палагея ставілася падкрэслена ласкава, ветліва* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *У вольны ад працы час Лясніцкі ідзе да перавозніка Сайкі. Той дае яму чорную ад старасці і страшэнна нязграбную лодку, і ён едзе катацца* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

Акалічнасць-прыслоўе, ужытая ў постпазіцыі, і прэпазіцыйная акалічнасць-назоўнік лагічна выдзяляюцца. *Маўклівы заўсёды Кухар больш Грамабою не адказваў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Будзе бойка, будзе сёння страшная бясконца* (М. Хведаровіч. Алесь Камінскі).

# СКЛАДАНЫ СКАЗ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 1016. Складаным сказам называецца структурна-сінтаксічнае і сэнсавае цэлае, якое ўтвараецца ў выніку аб'яднання двух і больш простых сказаў.

Знаходзячыся ў структуры складанага сказа, простыя сказы губляюць граматычную і сэнсавую самастойнасць і ператвараюцца ў састаўныя часткі, якія неразрыўна звязаны і ўзаемна дапаўняюць адна другую.

Састаўныя часткі складанага сказа аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў або бяззлучнікавым спосабам. Адпаведна з гэтым складаныя сказы падзяляюцца на злучнікавыя і бяззлучнікавыя: *За вокнамі шумяць у садзе слівы, і месяц стаў над стрэхамі сяла* (С. Грахоўскі. Народная настаўніца). *Ужо цямнела, як увайшлі яны ў горад* (М. Лынькоў. Салют). *Яна не ведала, куды ёй ісці* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Мора злуе, крэпнуць хвалі, з дзікім шумам бераг рвуць; гром грыміць у сіняй далі, з мора брызгі ў неба б'юць* (Цётка. Мора).

У залежнасці ад формы сувязі і характару адносін паміж састаўнымі часткамі сярод злучнікавых складаных сказаў вылучаюцца:

складаназлучаныя сказы: *Даліны крыюцца туманам, і поле ў ветразі завей* (П. Трус. Навошта сэрца я параніў?). *Пільнуе курапатку зыркі собаль, ды песняй цішыні звіняць снягі* (А. Звонак. Дзе пройдзе маладосць). *Анежцы хацелася нешта сказаць, але яна ніяк не асмельвалася* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Спіць маё багатае Палессе, толькі пагранічнікі не спяць* (П. Броўка. Палессе);

складаназалежныя сказы: *Раман пайшоў на вёску паслухаць, што гавораць людзі* (Я. Колас. Дачакаўся). *Яны спаткаліся так, быццам бы ведалі адзін аднаго з маленства* (К. Чорны. Смерць). *Да хаты была прыбудавана велізарная стадола, гарбатая і высокая, так што хата здавалася дадаткам да гэтай стадолы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Калі няма чаго рабіць, Іван заўсёды чытае ліст, каб чуў і сусед* (М. Лынькоў. Над Бугам).

Асобна стаяць складаныя сказы, якія займаюць прамежкавае становішча паміж складаназлучанымі і складаназалежнымі сказамі. Як правіла, у такіх сказах форма сувязі злучальная, а характар адносін — падпарадкавальны ці, наадварот, форма сувязі падпарадкавальная, а характар адносін — злучальны. У радзе выпадкаў і форма сувязі і характар адносін могуць змяшчаць у сабе як элементы злучэння, так і элементы падпарадкавання. *Непрыкметна падкраўся змрок, і ў хаце пацямнела* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Давайце малаціць, а то есці хочацца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Калі на дварэ было яшчэ светла, дык у хаце было ўжо цёмна* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Як цяжка там было нам плакаць, так лёгка зараз тут смяяцца* (У. Ха-

дыка. Пяць вершаў). *Хоць складанае пастаўлена пытанне, але просты на яго адказ* (П. Глебка. Хада падзей). *Што ні кажыце, а слаўна летам каля хаткі над балотцам!* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

У залежнасці ад характару адносін паміж састаўнымі часткамі (бо форма сувязі аднолькавая) бяззлучнікавыя складаныя сказы падзяляюцца на:

сказы з аднатыпнымі часткамі: *Плачуць ніцыя лозы, залацеюць бярозы, глуха лес па-за полем шуміць* (А. Русак. Дзе ты, цёплае лета?). *Бацька з сынам быў на фронце, дзед падвозіў ім снарады* (П. Броўка. Год дваццаты). *Не адзін ён — з скрыпкай ён!* (Я. Колас. Сымон-музыка);

сказы з разнатыпнымі часткамі: *Мы пачулі—недзе полем песня сумная плыла* (П. Броўка. Кацярына). *Раніла сэрца мне сёння горкая вестка ў газеце: ёсць у Еўропе Заходняй нашы ў канцлагерах дзеці* (М. Танк. Іх не вярнулі). *Дывізію зноў трэба было папаўняць: блакада абышлася ёй не танна* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Народу прыйдзе хай пара — успомніць часам песняра!* (Я. Купала. Спроба актавы). *Каля гумен, на муражной траве, сядзелі паляўнічыя ў кругу, было іх больш за сотню чалавек* (М. Танк. Янук Сяліба).

# СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 1017. Складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'яднаны пры дапамозе злучальных злучнікаў спалучальнымі, супастаўляльнымі, пералічальна-размеркавальнымі і рознымі відамі далучальных адносін, называюцца складаназлучанымі.

Састаўныя часткі, якія ўваходзяць у структуру складаназлучаных сказаў, заўсёды знаходзяцца ў цеснай узаемнай сувязі і ўзаемнай абумоўленасці. Гэта ўзаемасувязь і ўзаемаабумоўленасць вызначаецца характарам сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі і сінтаксічнай будовай гэтых частак. Так, спалучальная ўзаемасувязь знаходзіць сваё адлюстраванне ў віда-часавых суадносінах выказнікаў састаўных частак, супастаўляльная—у лексіка-граматычным значэнні супастаўляемых членаў, пералічальна-размеркавальная — у характары звязачных элементаў, далучальная — у інтанацыйным афармленні і разнароднасці саставу аб'яднаных частак: *Зашумела над кручай сасна, і вярба зацвіла пры дарозе* (А. Куляшоў. Вясна). *На шыбах снег ляжыць іскрыстым пухам, а ў хаце пахне грэчкай чысты мёд* (С. Грахоўскі. Вось і зіма). *Ці ён грозіць каму, ці спужаў яго страх?* (Я. Колас. На адзіноце). *Мы цэлы дзень нічога не елі, а галоднаму прайдзі па гэтых пясчынах!* (Ц. Гартны. Шукаючы працы). *Багдановіч усміхнуўся, але гэта была не ўсмешка, а грымаса болю* (Б. Мікуліч. Развітанне).

У складаназлучаных сказах толькі першая састаўная частка пабудавана больш-менш свабодна; будова ж другой састаўной часткі часцей за ўсё абумоўлена будовай першай часткі. Гэта абумоўленасць знаходзіць сваё выражэнне ў парадку слоў другой састаўной часткі адносна першай, у наяўнасці ў другой састаўной частцы займеннікаў і прыслоўяў, якія замяняюць паасобныя члены першай, а таксама ў апушчэнні некаторых членаў, якія ёсць у першай састаўной частцы: *Касілі мы лугі заліўныя, ды ў нябёсах завылі бамбавозы чужыя* (А. Бялевіч. Ясныя водбліскі). *Ля груда бярвення распрагала свайго каня цётка Восілене, і яе звонкі голас разносіўся далёка навокал* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Спалоханая Галя кінулася ў хату, але там яе з папрокам*

*сустрэла маці* (І. Шамякін. Вясновымі днямі). *Над ракой стаіць каліна, а над возерам вярба* (П. Трус. Антырэлігійныя частушкі).

Прыведзеныя прыклады яскрава сведчаць аб тым, што парадак слоў, канкрэтнае значэнне займенніка *яе*, прыслоўя *там* і адсутнасць выказніка ў другой састаўной частцы могуць быць зразумелы і растлумачаны толькі на аснове зместу першай састаўной часткі.

Аб'яднанне састаўных частак у складаназлучаным сказе ажыццяўляецца пры дапамозе двух відаў сінтаксічнай сувязі — злучэння і далучэння. Граматычным сродкам гэтых відаў сувязі з'яўляюцца не толькі злучнікі, але і структурныя суадносіны саміх частак. Акрамя таго, значная роля ў аб'яднанні састаўных частак складаназлучанага сказа належыць інтанацыі.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНАЙ СУВЯЗЗЮ

§ 1018. Сінтаксічная сувязь паміж састаўнымі часткамі складаназлучанага сказа, пры якой гэтыя часткі адыгрываюць адносна раўнапраўную ролю ў выражэнні адзінай складанай думкі, называецца злучальнай.

Адносна раўнапраўнае становішча састаўных частак складаназлучаных сказаў са злучальнай сувяззю падкрэсліваецца аднатыпнасцю будовы гэтых частак і аднароднасцю іх інтанацыйнага афармлення.

У сучаснай беларускай мове злучальная сувязь ужываецца для афармлення спалучальных, супастаўляльных і пералічальна-размеркавальных адносін, якія існуюць паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА СПАЛУЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1019. Спалучальнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх у гэтых частках паведамляецца аб з'явах і падзеях, што адбываюцца ў адзін і той жа момант або адны за другімі з адпаведным прамежкам часу. У залежнасці ад гэтага спалучальныя адносіны маюць дзве разнавіднасці, якімі з'яўляюцца адносіны адначасовасці і адносіны паслядоўнасці.

Заўвага 1. У радзе выпадкаў паміж адносінамі адначасовасці і адносінамі паслядоўнасці няма выразнай мяжы. Некаторыя з'явы і падзеі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучаных сказаў, адбываюцца настолькі хутка, што іх паслядоўнае працяканне ўяўляецца як аднáчасовае супадзенне: *Расплюшчваюць вокны павекі фіранак, і сонца ліецца ў акно* (А. Звонак. Рэспубліка маладая). *Разрэдзіліся хмары, і дзе-нідзе блізнулі зоры* (П. Галавач. Яны не пройдуць!).

Аднáчасовасць суіснавання падобных з'яў і падзей можа знаходзіць сваё лексіка-граматычнае выражэнне ў спалучэннях *у гэты (той) час, у гэты (той) момант* і інш.: *Хлопец неяк міжвольна войкнуў, і ў гэты час стары каваль заўважыў яго* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *Вось у скрыжаванні прыцэлу паявіўся сілуэт варожага самалёта, і ў той жа час лётчык націснуў на гашэтку* (з газет). *Ён падняў кулак над Насцяй, і ў той жа момант моцная рука, якраз як некалькі дзён таму назад, хапіла яго за плячо* (К. Чорны. Насцечка).

Заўвага 2. У сучаснай беларускай мове сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх лексічны змест састаўных частак не дазваляе дакладна вызначыць характар сінтаксічных адносін паміж гэтымі часткамі: *Вецер ліст з лясоў атрос, і на поле свае ковы кінуў злёганьку мароз* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Моцна трэснула сухая галінка, і зашасталі хваёвыя лапкі* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Прыклады сведчаць аб тым, што ў падобных выпадках з аднолькавым правам можа вызначацца аднáчасовасць суіснавання адпаведных з'яў і падзей на працягу пэўнага адрэзку часу і паслядоўнасць іх працякання.

З а ў в а г а 3. Па традыцыі разнавіднасцямі спалучальных адносін лічацца таксама п р ы ч ы н н а-в ы н і к о в ы я і ў м о ў н а-в ы н і к о в ы я адносіны, якія існуюць паміж састаўнымі часткамі складаных сказаў са злучнікам *і*. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць граматычнай форме і лексічнаму значэнню слоў, што выступаюць у якасці выказнікаў састаўных частак, а таксама інтанацыйнаму афармленню, структуры і парадку размяшчэння гэтых частак у складаным сказе: *Бабка хітра так міргае, і Лукаш адразу зняў* (Я. К о л а с. Доктар памог). *Кірмаш быў невялікі, і каня купіць не ўдалося* (К. Ч о р н ы. Вёска на новым шляху). *Варта толькі пайсці дажджу ці снегу, і тоны сухога подсцілу будуць папсаваны* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *А з'ясі ты з бульбай скварку — і работа пойдзе шпарка* (А. Р у с а к. Бульба).

Па свайму характару прычынна-выніковыя і ўмоўна-выніковыя адносіны залежныя (падпарадкавальныя), але ў дадзеным выпадку яны аформлены пры дапамозе злучальных сродкаў сувязі. Таму складаныя сказы з такімі адносінамі не з'яўляюцца складаназлучанымі або складаназалежнымі ў поўным сэнсе гэтага слова; яны ствараюць асобную катэгорыю, якая прадстаўляе сабой прамежкавую, або пераходную з'яву паміж складаназлучанымі і складаназалежнымі сказамі.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З АДНОСІНАМІ АДНАЧАСОВАСЦІ

§ 1020. Адносіны а д н а ч а с о в а с ц і характарызуюцца пастаянным або непастаянным супадзеннем у часе дзеянняў (станаў, прызнакаў) прадметаў і з'яў, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучанага сказа. Гэта супадзенне можа быць поўным або частковым.

Адначасовасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) прадметаў і з'яў вызначаецца на аснове зместу састаўных частак складаназлучанага сказа, які знаходзіць найбольш яркае граматычнае адлюстраванне ў суадносінах часу і відаў выказнікаў гэтых частак. Віда-часавыя суадносіны выказнікаў састаўных частак даюць магчымасць вызначыць, у плане якога часу адбываецца супадзенне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і які характар носіць гэта супадзенне.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з адносінамі адначасовасці ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца злучнікі *і*, *ды*, якія маюць вельмі блізкае сінтаксічнае значэнне.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *І*

§ 1021. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і* выказнікі састаўных частак характарызуюцца самымі разнастайнымі суадносінамі сваіх форм і значэнняў. Часцей за ўсё яны выражаны асабовымі дзеясловамі цяперашняга, прошлага ці будучага часу. У такіх выпадках перадаецца адначасовасць працягла працякаючых дзеянняў без указання на іх закончанасць у плане цяперашняга, прошлага і будучага часу або адначасовасць закончаных ці рэзультатыўных дзеянняў у плане прошлага і будучага часу: *Жнеі жніўную пяюць, і шчабечуць птушкі* (П. П р ы х о д з ь к а. Арлы ў палёце). *Калгасны каласіцца лён, і песня радасная звоніць* (М. Т а н к. Белдрэс). *Трапяталі матылькі, і гулі мошкі* (Ц. Г а р т н ы. На новым месцы). *Чарнелі дарогі вільготнай глебай, і асенняй травой зеляніліся каляіны* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Будуць там нетнівы, і будуць сады* (П. Б р о ў к а. Спеў новых дзён). *Здрыгануліся нетры ад гулу, і хіснулася лісце ўгары* (Я. К о л а с. Адплата). *Яго твар нахмурыўся, і бровы ссунуліся на пераносіцы* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *Зной зацвітуць лугі, даліны, і атрасуць свой сон лясы і ў гоман радасны птушыны свае далучаць галасы* (Я. К о л а с. Не тужы).

У такіх складаназлучаных сказах дзеянні прадметаў і з'яў, абазначаныя выказнікамі састаўных частак у форме асабовых дзеясловаў аднаго і таго ж трывання, поўнасцю супадаюць у часе.

Калі ж выказнікі састаўных частак складаназлучаных сказаў выражаны дзеясловамі розных трыванняў, то супадзенне абазначаных імі дзеянняў з'яўляецца частковым: у адзін з момантаў працягла працякаў-

шага дзеяння ўзнікла ці ўзнікне новае, непрацяглае дзеянне, і наадварот: *Шчокі яе ліхаманкава гарэлі, і губы пасмаглі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Раз мы ехалі лесам, і на нас напалі бандыты* (К. Чорны. Насцечка). *Жыць будуць у словах постаці ахвяр, і словы загавораць нашай явай* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык). *Газоны пышна расцвілі, і зіхацелі вокны* (М. Танк. Майскі дождж). *Зялёныя кветачкі павыбіваліся ўжо на снег скрозь сухія выцвіўшыя лісцікі, і прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромуха* (Я. Колас. У палескай глушы).

Акрамя таго, частковае супадзенне дзеянняў уласціва таксама складаназлучаным сказам, у якіх выказнікі састаўных частак, выражаныя дзеясловамі, ужываюцца ў адным і тым жа часавым плане, але маюць розную часавую форму. Гэта асаблівасць складаназлучаных сказаў абумоўлена пэўнымі стылістычнымі функцыямі, сутнасць і прызначэнне якіх — надаць адпаведную вобразнасць, яркасць і выразнасць паведамленню аб адначасовым суіснаванні з'яў і падзей: *Ад лютай летняй спёкі гарыць сухі пясок, і пачарнеў далёкі нахмураны лясок* (П. Глебка. Хмаркі). *Дзесь цвыркун бесперастанку цягне сумную спяванку у густым галлі, і ўстрывожана пташына па-над рэчкай у нізіне свісне, бы ў кларнет* (Я. Колас. У сухмень). *Цэлую ноч не спіш, бывала, і думкі занясуць цябе далёка-далёка наперад жыцця* (К. Крапіва. Проба агнём).

Стылістычна абумоўлена таксама ўжыванне складаназлучаных сказаў, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі або прыслоўямі з дзеяслоўнай звязкай прошлага часу, а ў саміх частках ёсць такія словы, што ўказваюць на працэс працякання дзеянняў або існаванне станаў у плане цяперашняга часу: *А зараз ён хадзіў паміж папялішчаў і агню, і навокал не было ні аднаго чалавека, ні адной жывой душы* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Там цяпер стаяў стол для прэзідыума, гарэла вялікая лямпа і было даволі светла* (Я. Колас. У палескай глушы).

Са значэннем адначасовасці станаў або стану і дзеяння ў плане цяперашняга і прошлага часу ўжываюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан безасабовым дзеясловам, а выказнік другой — асабовым дзеясловам ці прэдыкатыўным прыслоўем: *Над шырокай зямлёй пахне восенню, і яснымі днямі дзьме густы вецер* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Яго вадзіла ў бакі, і ў вачах стаялі чорныя кругі* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Але ўжо вечарэла, і было халадна* (Я. Колас. На ростанях). *Кружылася ў галаве, і ў вачах было мутна* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Было сыра, і моцна пахла прэллю* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Адначасовасць станаў або стану і дзеяння ў плане цяперашняга і прошлага часу перадаецца яшчэ і тады, калі выказнікі састаўных частак складаназлучаных сказаў выражаны прэдыкатыўнымі прыслоўямі або выказнік адной састаўной часткі выражан прэдыкатыўным прыслоўем, а выказнік другой — асабовай формай дзеяслова: *Лёгка гэтым людзям і ясна ў іх усё на душы* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *На вуліцы было хмарна і ў хаце цёмна* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Дакучлівыя, невясёлыя думкі таўкуцца ў галаве і на сэрцы цяжка* (Я. Колас. Адшчапенец). *Глуха, пуста і зацята, і нікога не відно* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Было ясна, і дзьмуў вецер* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

Зрэдку пры выражэнні адносін адначасовасці ў якасці выказніка адной састаўной часткі складаназлучанага сказа выступае прэдыкатыўнае прыслоўе, а ў якасці выказніка другой часткі — прыметнік або дзеепрыметнік з дзеяслоўнай звязкай ці без яе. У такім разе перадаецца адначасовасць суіснавання стану і прызнака ў плане цяперашняга, прошлага і будучага часу: *Удзельнікаў многа, і пытанні розныя* (І. Шамякін. У добры час). *Тут былі навалены горы металалому і было зацішна*

(Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Работы будзе многа, і хлопцы будуць надзейныя* (Р. Мурашка. Сын).

У некаторых выпадках са значэннем адначасовасці стану і прызнака ў плане прошлага часу могуць ужывацца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнік адной састаўной часткі састаўны (дзеяслоў прошлага часу плюс прыметнік), а выказнік другой часткі выражан дзеепрыметнікам прошлага часу. Звычайна такія складаназлучаныя сказы выкарыстоўваюцца пры апісанні рознага стану чалавека: *Хлопцы ішлі вясёлыя, і настрой у іх быў узняты* (Я. Колас. Макарка Навак). *Твар яе быў заклапочаны, і сама бабка выглядала невясёлаю* (Я. Колас. На ростанях).

У складаназлучаных сказах з адносінамі адначасовасці выказнікі састаўных частак могуць быць выражаны прыметнікамі, назоўнікамі, спалучэннямі назоўнікаў або назоўніка і прыметніка ці назоўніка і прыназоўніка, часціцы або злучніка. У такіх складаназлучаных сказах заўсёды перадаецца супадзенне прызнакаў у плане цяперашняга, прошлага і будучага часу: *Рука яго цяжкая, і слова яго жорсткае* (Я. Колас. Агатка). *Ноч была глыбокая, і цішыня навокал была жудасная* (К. Чорны. Спатканні з аспаватым чалавекам). *Сход будзе вялікі, і пытанні на ім будуць самыя разнастайныя* (з газет). *Радасць не ў дастатку, і шчасце не ў багацці* (Я. Колас. Дрыгва). *Родам ён быў з гарадка, і сын ён быў радавітага сальніка* (К. Чорны. Трыццаць год). *Ён будзе аграномам, і яна — настаўніцай* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Галава як у Кавальчука, і голас падобны* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Твар яго быў чырвоны і адзежа ў зямлі* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *А пан Зыгмусь быў чалавек невялічкі, шчупленькі, і голас у яго быў бурклівенькі, як у ката* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Жалнер быў выдатны наезнік, і конь пад ім быў лёгкі і быстры* (Я. Колас. Дрыгва).

Адначасовасць прызнакаў або станаў у плане прошлага і будучага часу перадаецца таксама ў складаназлучаных сказах, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеепрыметнікамі закончанага трывання залежнага стану: *Доўгія гоні твае папустошаны, і сенажаці чужымі пакошаны* (Я. Колас. У дарозе). *Палосы тыя заараны, і межы зрыты* (У. Хадыка. Не гавары апошнім словам). *Ахоплена суздром зямля мая прадвеснем, і першым журавом пачаты пералёт* (А. Звонак. У дарозе). *Разгадана будзе загадка, і будзе адпомшчана зло* (Я. Колас. Суд у лесе).

Адначасовасць прызнака і дзеяння пераважна ў плане цяперашняга і прошлага часу перадаецца ў складаназлучаных сказах, у якіх функцыю выказніка адной састаўной часткі выконвае прыметнік, дзеепрыметнік або назоўнік з дзеяслоўнай звязкай ці без яе, а функцыю выказніка другой састаўной часткі — дзеяслоў закончанага або незакончанага трывання. Калі выказнік адной састаўной часткі выражан прыметнікам або назоўнікам, а выказнік другой — дзеясловам незакончанага трывання, то супадзенне прызнака і дзеяння поўнае. Супадзенне прызнака і дзеяння з'яўляецца поўным і тады, калі выказнік адной састаўной часткі выражан дзеепрыметнікам прошлага часу, а выказнік другой—дзеясловам прошлага часу закончанага трывання. Ва ўсіх іншых выпадках супадзенне прызнака і дзеяння няпоўнае, або частковае. *Хмур малады, і плача маладая* (Я. Купала. Маладым на вяселлі). *Дзень быў хмурны, і ліў дождж* (К. Чорны. Смерць). *У гэтыя часы пачынаецца бурны рост беларускай савецкай літаратуры, і Янка Купала становіцца настаўнікам літаратурнай моладзі* (К. Чорны. Янка Купала). *Падобныя сцэны адбываліся ў піўной амаль не кожны дзень, і цэнтральнай асобай іх заўсёды быў Захар Зынга* (К. Чорны. Захар Зынга). *Губы былі цесна сцяты, і смерць адбіла на іх пячаць сваю* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ноч была хмарная, і выпаў першы снег* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Хлопец быў разведчыкам, і яго любілі ў атрадзе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На яго* [возера] *дне схавана таямніца,*

*і яно не хацела яе нікому выдаваць* (М. Гамолка. Тайна крынічнага возера).

§ 1022. Адносіны адначасовасці могуць выражацца ў складаназлучаных сказах, састаўныя часткі якіх маюць форму намінатыўных сказаў. У такіх выпадках звычайна перадаюцца паведамленні аб адначасовым суіснаванні адпаведных прадметаў і з'яў у плане цяперашняга часу: *Балота, звон рыдлёвак і грубая, як дзяруга, стома* (А. Куляшоў. Першая сустрэча з трактарыстам Анісам). *Асенні холад, стынь і бездарожжа* (А. Звонак. Асенні холад). *Некалькі круглых градак з кветкамі і нядаўна пасаджаныя два клёнікі* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Сонца над полем, глыбокая сінь і ўцякаючыя ўдаль кучаравыя воблакі* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі).

Са значэннем адначасовасці з'яў і падзей у плане цяперашняга часу ўжываюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх першая састаўная частка або некалькі першапачатковых маюць форму намінатыўных сказаў, а другая ці апошняя састаўная частка — форму двухсастаўнага або аднасастаўнага бяздзейнікавага сказа з выказнікам, выражаным дзеясловам цяперашняга часу, і наадварот: *Мароз, зіма, снягі вакол, і спіць трава, пад снегам дол* (Я. Колас. Да вясны). *Барада, доўгі нос, і ўсё раз-поразу пачмыхвае носам* (К. Чорны. Звяга). *Звіняць іржавым звонам путы, і стогн дзядоў, і плач дзяцей* (К. Крапіва. Праметэй). *Вісіць пад небам бляхі ліст, руіны, прорвы, катакомбы, і скрозь агонь, і бомбы, бомбы, і страшны гул, і страшны свіст* (П. Глебка. Дзень вайны).

§ 1023. Асобную групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы са злучнікам *і*, у якіх адносіны адначасовасці праяўляюцца ў форме супастаўлення адпаведных узаемазвязаных з'яў і падзей. Састаўныя часткі такіх сказаў характарызуюцца аднатыпнасцю сваёй будовы, наяўнасцю слоў з аднолькавым лексічным значэннем і пастаноўкай лагічнага націску на супастаўляемых членах: *У полі — рунь і ў небе — рунь* (М. Багдановіч. Блішчыць у небе зор пасеў...). *Яна маладая і я — малады* (А. Куляшоў. На сотай вярсце). *У мяне камандзіроўка і ў яго камандзіроўка* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца). *Ёсць ворагі і ёсць сябры* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла).

§ 1024. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *і*, у якіх выражаюцца адносіны адначасовасці, маюць разнастайную будову. Састаўныя часткі гэтых сказаў ужываюцца ў форме двухсастаўных і аднасастаўных (няпэўна-асабовых, безасабовых, інфінітыўных і намінатыўных) сказаў, якія могуць быць поўнымі або няпоўнымі. Найбольш пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць аднатыпную будову, а дзейнікі і выказнікі гэтых частак выражаны словамі з розным лексічным значэннем. Такія састаўныя часткі з'яўляюцца раўнапраўнымі ў поўным сэнсе слова, а таму іх колькасць у складаназлучаным сказе неабмежавана: *Бурлілі рэкі і азёры, і помсты палымнеў агонь* (М. Танк. Мы вернемся). *Квітнее культура, красуюцца школы, і песні спявае народ твой вясёлы* (Я. Колас. Савецкай Беларусі). *Балелі рукі, млелі ногі, старыя падалі ад змогі, і чуўся плач і крык дзяцей* (П. Глебка. Дзень вайны). *Стаіць над лесам шум маркотны, па небе хмары, як палотны, паўночны вецер рассцілае, і бель над далямі звісае, і ціха стане на падворку, і лес жалобную гаворку, свой говар восені канчае і моўчкі зіму сустракае* (Я. Колас. Новая зямля).

Асобна стаяць складаназлучаныя сказы, у якіх дзейнік другой састаўной часткі суправаджаецца займеннікам у форме ўскоснага склону, замяняючым тое слова, што выступае ў ролі дзейніка першай састаўной часткі. Будова другой састаўной часткі ў такіх складаназлучаных сказах заўсёды абумоўлена першай састаўной часткай. Гэта абумоўленасць аказвае пэўны ўплыў на колькасць састаўных частак (звычайна аб'ядноўваецца не больш дзвюх): *Праз расчыненыя вокны сонца лілося ў па-*

*кой, і промні яго мякка клаліся на сцяну і вялікую карту рэспублікі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *На далёкім краявідзе ўставала сонца, і абмыты яго праменнямі абуджаўся горад* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казамата). *Трымціць рыжы Сомік ад злосці, і яго тонкі прарэзлівы голас вылучаецца з глухога гуду* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму няпэўна-асабовых, безасабовых або інфінітыўных сказаў, у сучаснай беларускай мове сустракаюцца рэдка. Як правіла, у такіх складаназлучаных сказах аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі: *Вам сказалі і ёй напісалі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Вялося многа там ласёў і дзікіх коз было* (П. Панчанка. Сувей). *Было душна і пахла вёскаю, сукном і чорным хлебам* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Ціха і ніякага руху* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Дзве састаўныя часткі аб'ядноўваюцца ў складаназлучаных сказах, калі ў гэтых частках знаходзяцца паасобныя члены, выражаныя адным і тым жа словам або групай слоў. Гэтымі членамі могуць быць:

дзейнікі састаўных частак (у дадзеным выпадку дзейнік першай састаўной часткі часцей за ўсё выражаецца назоўнікам, а дзейнік другой— адпаведным яму займеннікам): *Новы год у народ зважна ідзе, і з сабой думак рой ён вядзе* (Я. Купала. На Новы год). *Высока, высока ў астрозе акно, і крэпка жалезам абіта яно* (Я. Колас. Каля акна ў астрозе). *Ніхто не заходзіў, і не прыязджаў ніхто* (К. Крапіва. Мядзведзічы);

выказнікі састаўных частак (яны знаходзяцца ў кожнай састаўной частцы або ўжываюцца толькі ў першай частцы і апускаюцца ў другой): *Пелі кулямёты, і гарматы пелі* (Я. Купала. Чырвонай Арміі паходы). *Далоні рук былі мокрыя і мокрыя былі шчокі* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці). *Акрэсляцца спакоем паплавы і свежасцю паветранай — дарогі* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык);

дапаўненні састаўных частак (у большасці выпадкаў яны знаходзяцца толькі ў першай састаўной частцы і апускаюцца ў другой): *Твар яго бялее і рукі калоцяцца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Вейкі старога часта заморгалі і сурова сціснуліся губы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У ёй зорчын смех блукае, і вясёлкі ў ёй дрыжаць* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы з аднолькавымі дзеясловамі-выказнікамі, у якіх дзейнік першай састаўной часткі становіцца дапаўненнем другой. Калі ў першай састаўной частцы ёсць дапаўненне, то яно звычайна становіцца дзейнікам у другой частцы. *Яна бачыла, і яе бачылі* (М. Лынькоў. Насустрач жыццю). *Усё было ў ёй, і яна была ва ўсім* (К. Чорны. Зямля). *Хто не ведае швачкі Самабыліхі, і каго не ведае швачка Самабыліха?* (Я. Колас. На дварэ пана Тарбецкага).

У складаназлучаны сказ з адносінамі адначасовасці могуць уваходзіць дзве, радзей тры састаўныя часткі з адным агульным членам, які ў аднолькавай ступені адносіцца да кожнай з іх і размяшчаецца ў пачатку ўсяго сказа: *На сенажаці званілі косы і махаліся касцы* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *У бамбасховішчы было змрочна і тхнула сырою зямлёю* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Па свежай раллі скакалі кучамі вераб'і, бегалі жаўранкі і тупалі вароны* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1025. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ды*, у якіх выражаны **адносіны адначасовасці**, ужываюцца пераважна ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры. У гэтых сказах адносіны адначасовасці звычайна суправаджаюцца адценнем катэгарычнасці.

Суадносіны выказнікаў састаўных частак у складаназлучаных сказах з указаным злучнікам не вызначаюцца разнастайнасцю сваіх форм і значэнняў. У большасці выпадкаў гэтыя выказнікі выражаны асабовымі формамі дзеясловаў, якія абазначаюць дзеянні або станы прадметаў і з'яў у плане цяперашняга, прошлага ці будучага часу. Прытым выказнікі састаўных частак характарызуюцца аднолькавымі відавымі планамі, у выніку чаго абазначаныя імі дзеянні або станы поўнасцю супадаюць у часе: *Гурчаць маторы ды ляскочуць тракі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Чарнее слуп каля дарогі, ды снег мяцеліца мяце* (М. Танк. У мяцель). *Маўчала возера ў тумане, ды вербы плакалі ў цішы* (П. Трус. З паэмы «Цыганка»). *Захрупасцела недзе пабітая цэгла, ды ціха дзынкнулі правады* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Прамчыцца чужацкая зграя, ды танкі ўначы прагудуць* (П. Броўка. Па дарозе Мінск — Масква). *Лес застогне ўначы, ды ваўкі завыюць* (Я. Колас. Адплата).

Стылістычна абумоўлена ўжыванне складаназлучаных сказаў, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан дзеясловам цяперашняга часу, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу з імгненным значэннем. У такіх выпадках суадносіны выказнікаў састаўных частак указваюць на частковае супадзенне адначасовых дзеянняў або станаў у плане цяперашняга часу: *Стракоча машынка шытная, ды звякне жалеза таемна* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Часамі чуваць тут стрэлы ды праімчыцца на кані пагранічнік* (Я. Колас. На «святой зямлі»).

§ 1026. Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму намінатыўных сказаў і змяшчаюць паведамленні аб адначасовым суіснаванні пэўных прадметаў і з'яў без звязаных з імі дзеянняў (станаў, прызнакаў). Іншы раз адна з састаўных частак складаназлучанага сказа можа мець форму намінатыўнага сказа, а другая — двухсастаўнага сказа з выказнікам, выражаным асабовым дзеясловам цяперашняга часу: *З горкім палыном шляхі-дарогі, ды калючы стэпавы кавыль* (М. Аўрамчык. Галубы). *Цёмны лес, ды ноч наступае* (Р. Мурашка. Сын).

§ 1027. У складаназлучаных сказах з адносінамі адначасовасці, афармленымі пры дапамозе злучніка *ды*, састаўныя часткі з'яўляюцца ў асноўным аднатыпнымі; яны прадстаўлены ў форме простых двухсастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння. Аднак незалежна ад будовы ў складаназлучаных сказах звычайна аб'ядноўваецца не больш трох састаўных частак, прычым злучнік ставіцца толькі перад апошняй з іх: *Пазірае ноч у вокны мутным вокам мжы, ды ўсё булькаюць маркотна кроплі ў капяжы* (Я. Колас. Слава Арміі Чырвонай). *Аблягае грудзі плацце міла, ды іскрыцца тонкі каблучок* (П. Панчанка. На планеце ў нас усё бывае). *Скрыпелі сям-там вешніцы, парыквала карова, ды бразгалі дзверы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

У некаторых складаназлучаных сказах могуць знаходзіцца агульныя члены, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку ўсяго сказа. У такіх выпадках у складаназлучаны сказ уваходзяць толькі дзве састаўныя часткі: *Над вадой ля возера ціха спіць асока, ды лаза зялёная жаліцца-шуміць* (М. Багдановіч. Вадзянік). *На тым месцы валялася толькі бітае каменне ды дзе-нідзе тырчэлі абсмаленыя, пасечаныя камлі дрэў* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З РОЗНЫМІ КАМБІНАЦЫЯМІ ЗЛУЧНІКАЎ *і*, *ды*

§ 1028. У складаназлучаных сказах, якія складаюцца з трох і больш састаўных частак, адносіны адначасовасці могуць афармляцца пры дапамозе розных камбінацый злучніка *і* са злучнікам *ды*. Такія сказы звы-

чайна ўжываюцца пры апісанні бытавых з'яў і з'яў прыроды: *А дзесь на печы сваю песню заводзіць рэзвы цвіркунок, і спіць маленькі іх сынок, ды ў лучніку вугольчык трэсне* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Лянiва шэпчуцца чароты, ды ледзь калышыцца лазняк, і нейкай ціхаю пяшчотай шуміць задумлівы сасняк* (М. Машара. Мамчына горка). *Цяклі дзянькі ды йшлі нядзелі, і час тут вольны хлопцы мелі* (Я. Колас. Новая зямля). *Світала ўжо. Дзесь каля гаткі у гэтым досвітку маўклівым крычалі гусі праразліва, нястройным хорам гергеталі, ды качкі з шумам праляталі, і кнігаў нёсся плач з лукі, ў глыбі лясоў цецерукі ўжо зачыналі свае токі, усход віталі агнявокі, віталі шчыра і натхненна* (там жа).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З АДНОСІНАМІ ПАСЛЯДОЎНАСЦІ

§ 1029. Адносіны паслядоўнасці характарызуюцца тым, што дзеянні (станы, прызнакі) прадметаў і з'яў, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучаных сказаў, перадаюцца ў паслядоўным працяканні або ў паслядоўным размяшчэнні аднаго за другім.

Паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) прадметаў і з'яў вызначаецца на аснове зместу састаўных частак складаназлучанага сказа, якія знаходзіць найбольш яркае граматычнае адлюстраванне ў відa-часавых суадносінах выказнікаў састаўных частак і парадку размяшчэння гэтых частак у складаназлучаным сказе. Паколькі паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа перадавацца ў плане як аднаго, так і розных часоў, то адзначаныя структурна-граматычныя сродкі ў кожным выпадку выконваюць розную ролю.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з адносінамі паслядоўнасці ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца злучнікі *і, ды* і злучальныя словы *потым, затым, пасля* і інш.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1030. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і*, у якіх паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане аднаго і таго ж часу, характар сінтаксічных адносін вызначаецца парадкам размяшчэння састаўных частак і лексіка-граматычным значэннем слоў, што выступаюць у якасці выказнікаў гэтых частак. Парадак састаўных частак у складаназлучаным сказе заўсёды адлюстроўвае парадак працякання тых дзеянняў (станаў, прызнакаў), аб якіх паведамляецца ў гэтых састаўных частках.

Лексіка-граматычныя значэнні слоў, якія ўжываюцца ў якасці выказнікаў састаўных частак, даюць магчымасць устанавіць, што адбываецца паслядоўна — дзеянні, станы ці прызнакі.

Найбольш пашыраны ў сучаснай беларускай мове складаназлучаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны асабовай формай дзеяслова. У такіх выпадках звычайна перадаецца паслядоўнасць працягла працякаючых дзеянняў у плане цяперашняга, радзей прошлага часу або паслядоўнасць непрацяглых (часам імгненных) дзеянняў у плане прошлага і будучага часу: *Адчыняюцца дзверы, і ў воблаках пары з'яўляецца гіганцкая постаць лётчыка Бірга* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Клопікаў перагортваў сваю замусоленую кніжыцу, і ўсе яго запісы, адзнакі, таямнічыя пазнакі паступова пераходзілі ў камендантаў блакнот* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Рыгора асцярожна палажылі на воз, і Сцяпан пагнаў каня ў вёску* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Бразнула клямка ў сенцах, і на парозе з'явіўся Іллюк* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Адчыняцца дзверы, і на парозе з'явіцца Навум з яго ўважлівым позіркам чорных вачэй* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна).

*А праз тыдзень зубчатае сонца грабянцамі зямельку ачысціць, і па полі шырокім бясконца пойдзе трактар сталёвы ўрачыста* (П. Глебка. Эх, скарэй бы!..).

Іншы раз паслядоўнасць дзеянняў у плане прошлага і будучага часу выражаецца суадносінамі выказнікаў састаўных частак, у ролі якіх выступаюць дзеясловы закончанага і незакончанага трывання. Звычайна у такім разе пасля непрацяглага дзеяння, аформленага выказнікам-дзеясловам прошлага ці будучага часу закончанага трывання, узнікае працяглае дзеянне, якое афармляецца выказнікам-дзеясловам прошлага ці будучага часу незакончанага трывання: *Дзявочыя песні даўно змоўклі, і вёска спала моцным сялянскім сном* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Веснавая вада сышла, і паплавы абсыхалі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Сонца ўжо даўно схавалася за бор, і ноч, нібы чорная коўдра, накрывала ўсход* (М. Чарот. Сон Габруся). *Прыедзе другі пісар, і будзеце жыць і работу рабіць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Яна паедзе вучыцца, і мы ўсе будзем праводзіць яе* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы з адносінамі паслядоўнасці, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны безасабовымі дзеясловамі або выказнік адной састаўной часткі выражан безасабовым дзеясловам, а выказнік другой — асабовым дзеясловам. У такіх сказах звычайна перадаецца паслядоўнасць станаў або стану і дзеяння ў плане прошлага часу: *Прайшло з паўгадзіны, і зусім сцямнела* (М. Чарот. Сон Габруся). *Сцёпку ніколі не даводзілася быць на станцыі, і цяпер кожную пядзю яе зямлі, кожную часціну яе прыходзілася адольваць сваім уласным розумам* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *У гэтых кварталах горада зноў пацішэла, і народ стаяў на вуліцы* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ваенная хваля адышла на захад, і ў горадзе паспакайнела* (там жа).

У складаназлучаных сказах такога тыпу адносіны паслядоўнасці заўсёды ўскладняюцца прычынна-выніковым або ўмоўна-выніковым адценнем.

Са значэннем паслядоўнасці дзеяння і стану ў плане будучага часу ўжываюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнік першай састаўной часткі выражан безасабовым дзеясловам прошлага часу *засталося* плюс інфінітыў або без яго, а выказнік другой састаўной часткі — асабовым дзеясловам будучага часу: *Аленцы засталося апошні год пабыць у сямігодцы, і яна скора паедзе* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Засталося ўсяго дваццаць кіламетраў, і яна будзе дома* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Паслядоўнасць дзеяння і стану ў плане цяперашняга, прошлага і будучага часу можа афармляцца таксама тады, калі выказнік першай састаўной часткі складаназлучанага сказа выражан дзеясловам цяперашняга часу незакончанага трывання або прошлага і будучага часу закончанага трывання, а выказнік другой — прэдыкатыўным прыслоўем: *Гаворка канчаецца, і становіцца ціха* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Зара хутка загасла за ўзгор'ямі, і стала цёмна* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Але прайшло і знікла войска, і ціха стала навакол* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *Прабяжыць* [ветрык], *і ціха стане* (Я. Колас. Катаржнікі).

У складаназлучаных сказах, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан дзеясловам, а выказнік другой — прыметнікам, дзеепрыметнікам або назоўнікам з дзеяслоўнай звязкай ці без яе, перадаецца паслядоўнасць дзеяння і прызнака ў плане прошлага і будучага часу: *Усмешка раптам збегла з твару, і ён стаў жорсткім і насцярожаным* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Дыхнула вясна, і зямля стала вясёлая* (К. Чорны. Забойства). *Конь быў ужо запрэжаны ў простыя сані, і бацька, сабраўшы лейцы, рыхтаваўся сесці на воз* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *У хуткім часе заняткі ў інстытуце будуць закончаны, і ўсе студэнты*

*раз'едуцца на канікулы* (з газет). *Перабраліся маладыя на другую кватэру, больш прасторную і выгадную, і Насця стала гаспадыняй* (Я. Колас. Адукацыя). *Пачалася вайна, і хлопец стаў партызанам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Заўтра ўручаць дыплом, і Надзя стане аграномам* (з газет).

У складаназлучаных сказах з адносінамі паслядоўнасці першая саставная частка можа мець форму намінатыўнага сказа, а другая — форму аднасастаўнага або двухсастаўнага сказа з выказнікам, выражаным дзеясловам цяперашняга, прошлага і будучага часу або дзеепрыметнікам прошлага часу. У такіх выпадках звычайна афармляецца паслядоўнасць пэўнай з'явы, якая часцей за ўсё абазначае канкрэтны адрэзак часу або прасторы, і дзеяння ў плане цяперашняга, прошлага і будучага часу: *Момант — і афіцэр выхватвае шаблю* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Дзесятак шырокіх крокаў — і дужая рука за сукенку на спіне схапіла* (Я. Колас. Агатка). *Хвіліна — і надзета на твар маска* (М. Гамолка. Тайна крынічнага возера). *Тыдзень, другі — і яны будуць у Маскве* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1031. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і*, у якіх паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане розных часоў, характар сінтаксічных адносін вызначаецца віда-часавымі суадносінамі выказнікаў састаўных частак. Гэтыя суадносіны могуць праяўляцца ў форме прошлага і цяперашняга, цяперашняга і будучага, прошлага і будучага часу.

Сярод складаназлучаных сказаў са значэннем паслядоўнасці ў плане прошлага і цяперашняга часу найбольш пашыраны сказы, у якіх выказнік першай састаўной часткі выражан дзеясловам прошлага часу закончанага (часцей) і незакончанага (радзей) трывання, а выказнік другой — дзеясловам цяперашняга часу. У такіх складаназлучаных сказах перадаецца паслядоўнасць закончанага або незакончанага дзеяння ў мінулым і незакончанага дзеяння, якое адбываецца ў сучасны момант: *Пастушкі наклалі агню, і ядлоўцавы дым плыве над полем* (К. Чорны. Янка Купала). *Ускіпела снежнае віно, і белай пенай мкне яно* (М. Багдановіч. Завіруха). *Мінулі бітвы, адгулі, і шчасце зноў жыве* (П. Броўка. Ляснік). *Асака адшумела даўно, і касцямі не звоніць чарот* (У. Хадыка. Дзве песні). *Яго* [віно] *мы пілі, і ў сэрцы яно агнём палыхае сягоння* (М. Танк. Свята ў Таліне). *План экспедыцыі састаўлялі паспешна, і цяпер яго недахопы адчуваюцца на кожным кроку* (з газет).

Паслядоўнасць стану і дзеяння ў плане прошлага і цяперашняга часу звычайна перадаецца ў складаназлучаных сказах, дзе выказнік першай састаўной часткі выражан дзеепрыметнікам прошлага часу, а выказнік другой — дзеясловам цяперашняга часу: *Вячэра кончана, і цётка ідзе да воза слаць пасцель* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Працяты жудасцю астрогі, і стогнам поўняцца муры* (Я. Колас. Заходняй Беларусі). *Усё дагледжана, і Крушынскі ідзе адпачываць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Са значэннем паслядоўнасці дзеяння і прызнака ў плане прошлага і цяперашняга часу ўжываюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнік першай састаўной часткі выражан дзеясловам прошлага часу, а выказнік другой — прыметнікам без дзеяслоўнай звязкі. У такім выпадку для перадачы прызнака ў плане цяперашняга часу ў другой састаўной часткі звычайна ўжываюцца прыслоўі *зараз, сёння, цяпер*: *Школу здаў, і зараз я чужы ў ёй* (Я. Колас. На ростанях). *Аддаў у часопіс лірычны багаж, і сёння вольны ад песень* (А. Куляшоў. За зоры...). *Работу скончыў, і цяпер я свабодны* (з газет). *Даўно трывогі праплылі, і далягляд ізноў пустынны* (А. Звонак. Даўно трывогі праплылі...).

Складаназлучаныя сказы, у якіх суадносіны выказнікаў састаўных частак праяўляюцца ў форме цяперашняга і будучага часу,

у сучаснай беларускай мове сустракаюцца рэдка. Яны ўжываюцца ў асноўным для афармлення паслядоўнасці дзеянняў або дзеяння і прызнака. Паслядоўнасць дзеянняў у плане цяперашняга і будучага часу перадаецца ў складаназлучаных сказах, дзе выказнік першай састаўной часткі выражан дзеясловам цяперашняга часу, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу: *Дзеда ўсюды носяць ногі, і к нам прыйдзе на хвілінку адпачыць крыху з дарогі, важна сеўшы на ялінку* (Я. Колас. Дзедгосць). *Там таксама, напэўна, стабілізуецца фронт і праясніцца становішча* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Есць для цябе работа, Канстанцін, і тут ты будзеш сябе паказваць* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Паслядоўнасць прызнака і дзеяння ў плане цяперашняга і будучага часу перадаецца ў складаназлучаных сказах, дзе выказнік першай састаўной часткі выражан назоўнікам без дзеяслоўнай звязкі цяперашняга часу, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу абвеснага або загаднага ладу, а таксама словамі *павінен, можа* плюс інфінітыў: *З'яднаны магутны савецкі народ — вялікі патрыёт сваёй зямлі, і ён не дапусціць фашысцкую поскудзь паганіць яе* (Я. Колас. Макарка Навак). *Калектывізацыя сельскай гаспадаркі — наша чарговая, баявая задача, і мы павінны выканаць яе на 100 працэнтаў* (Я. Колас. Адшчапенец). *А гэта таксама факт, і ніякіх тут сумненняў не можа быць* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Гэта ваша кроўная справа, і вы займайцеся ёю* (з газет).

Са значэннем паслядоўнасці прызнака і дзеяння ў плане цяперашняга і будучага часу ўжываюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх выказнік першай састаўной часткі выражан прыметнікам або дзеепрыметнікам без дзеяслоўнай звязкі цяперашняга часу, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу, і наадварот: *Ён здалёку ўсім відзён, і не ў казцы будзе ён* (П. Броўка. Добры друг). *Ужо ўзнімаецца народ, і блізкі час адплаты!* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Нешматлікімі з'яўляюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак ужыты ў форме прошлага і будучага часу. У складаназлучаных сказах, дзе выказнік адной састаўной часткі выражан дзеясловам прошлага часу закончанага або незакончанага трывання, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу закончанага або незакончанага трывання, перадаецца паслядоўнасць непрацяглых або працяглых дзеянняў у плане прошлага і будучага часу: *Зацвіла зямля, і скора ў лесе з'явяцца грыбы* (П. Глебка. Грыбы). *Заціхла бура, і сонца будзе свяціць над родным краем балот і ніў* (М. Чарот. Заціхла бура). *Мне цяжка жылося з ім, і я вам зараз скажу чаму* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Нікога не было, і нікога не будзе* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Паслядоўнасць дзеянняў або прызнака і дзеяння ў плане прошлага і будучага часу можа быць аформлена ў складаназлучаных сказах, дзе выказнік першай састаўной часткі выражан дзеепрыметнікам прошлага часу, а выказнік другой — дзеясловам будучага часу або інфінітывам, і наадварот: *Цімохава песенька спета, і болей яму тут не жыць* (Я. Колас. Адплата). *Заключаны дагаворы, і ў хуткім часе пачнуцца работы па радыёфікацыі калгасаў імя Будзённага, імя Крупскай і іншых* (з газет). *Вылецелі самалёты, і пераправа будзе разрушана* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 1032. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *і*, у якіх выражаюцца адносіны паслядоўнасці, маюць розную будову. Найбольш часта аб'ядноўваюцца састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных сказаў. У такіх складаназлучаных сказах колькасць састаўных частак у пэўнай ступені залежыць ад іх лексіка-граматычнага складу. Калі дзейнікі і выказнікі састаўных частак выражаны словамі рознага лексічнага значэння, а самі састаўныя часткі маюць аднатыпную будову, то ў складаназлучаным сказе могуць аб'ядноўвацца дзве і больш такіх частак:

*Драбіны заварушыліся, і зараз жа са студні паказалася кудлатая галава Арцёма* (Я. Колас. Недаступны). *Балота скончылася, і сябры неўзабаве выйшлі на дарогу* (Р. Мурашка. Сын). *Я пазбыўся трывог, на душы супакой, і паволі знікае сумотнасць* (П. Трус. Як пажоўкнуць лісты). *Коратка і адрывіста раўнуў паравоз на раз'ездзе, ціхенька здрыгануліся рэйкі, і нейкі лёгкі, чуць чутны шорах прабег па іх* (Я. Колас. У палескай глушы).

Але ў тых выпадках, калі дзейнік першай састаўной часткі абазначае адну асобу і выражан адушаўлёным назоўнікам або займеннікам 1-й ці 3-й асобы адзіночнага ліку, а дзейнік другой састаўной часткі — займеннікам 1-й ці 3-й асобы множнага ліку (часта разам з назоўнікам) і абазначае некалькі асоб, сярод якіх знаходзіцца і папярэдняя асоба, у складаназлучаным сказе аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі: *Карп сеў побач з Жэнькам, і яны разгаманіліся* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Ён выйшаў ёй насустрач, і яны пайшлі далей* (К. Чорны. Зямля).

Сустракаюцца і адваротныя выпадкі, калі дзейнік першай састаўной часткі абазначае некалькі асоб, а дзейнік другой — адну з гэтых асоб: *На жэрдзе мы селі у мроку маўчком, і я прытуліўся к табе плечуком* (Я. Колас. Каханне). *Яны шчыра пацалаваліся, і Мірон Іванавіч рушыў да дзвярэй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Дзве састаўныя часткі ўваходзяць у складаназлучаныя сказы, у якіх дзейнікі або выказнікі выражаны адным і тым жа словам. Калі ў якасці дзейніка першай састаўной часткі выступае асабовы займеннік, то ў якасці дзейніка другой састаўной часткі можа выступаць азначальны займеннік *сам*: *Ён скінуў кажух, палажыў яго ў ногі на тапчан, і сам выцягнуўся на ўсю даўжыню свайго стомленага і абцяжэлага пасля ёмкага абеду цела* (Я. Колас. Адшчапенец). *Яна паспешліва паставіла на стол вячэру і сама прысела побач* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Мы з вамі заўсёды і ў мыслях і сэрцам, і руку мы вам падамо* (Я. Колас. Гераічнай Іспаніі).

Выказнікі састаўных частак могуць выражацца адным і тым жа словам толькі тады, калі паслядоўнасць аднаго і таго ж дзеяння перадаецца ў плане розных часоў: *Было шумна, пане дабрадзею, і будзе шумна* (Я. Купала. Паўлінка). *Ужо прыляцелі жаўранкі, і ў хуткім часе прылятуць шпакі* (з газет).

У некаторых складаназлучаных сказах дзейнік першай састаўной часткі можа ставіцца дапаўненнем у другой частцы, а дапаўненне першай састаўной часткі — дзейнікам у другой. Пры гэтым у другой састаўной частцы замест назоўніка ў ролі дзейніка або дапаўнення можа ўжывацца адпаведны яму займеннік. У склад такіх сказаў уваходзяць толькі дзве састаўныя часткі: *Выпадкам я пазнаёміўся там з адным добрым стрэлачнікам, і ён пасадзіў мяне на поезд* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Клава ў адказ на гэта пайшла ў горад да знаёмага доктара, і той прыняў яе ў лік сваіх служачых* (К. Чорны. Трыццаць год). *Цяпер жа ў яго вольны час, і ён цалкам аддасць яго навучанню* (Я. Колас. На ростанях).

Сустракаюцца часам складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць разнатыпную будову. Як правіла, у такім разе спачатку размяшчаюцца састаўныя часткі, якія маюць форму двухсастаўных сказаў, а затым састаўныя часткі, якія маюць форму аднасастаўных (няпэўна-асабовых і безасабовых) сказаў. Часцей за ўсё ў падобных сказах аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі і вельмі рэдка — больш дзвюх: *Другія палешукі расступіліся, і Міхалку пасадзілі за стол* (Я. Колас. Кантракт). *Кароткі, прыглушаны гоман прабягае па ўсёй групе людзей і становіцца зноў ціха* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Алесь з павагай узяў паперу з рук начальніка, і яму стала весялей* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Крыкнула гусь, у кароўніку ўздыхнула і шаргану-*



32. Зак. 378

*лася бокам аб сцяну карова, і зноў усё стала ціха* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў).

У складаназлучаныя сказы з адносінамі паслядоўнасці могуць уваходзіць агульныя члены, якія звычайна стаяць у пачатку сказа і ў аднолькавай ступені адносяцца да кожнай з яго частак. У гэтых сказах звычайна аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі: *У глыбі кватэры зараз жа грукнула крэсла і пачуліся крокі* (Я. Колас. У палескай глушы). *На трэці дзень паўднёвы вецер разагнаў хмары, і выглянула вясёлае ласкавае сонца* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1033. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ды*, у якіх выражаюцца адносіны паслядоўнасці, у сучаснай беларускай мове сустракаюцца вельмі рэдка. Паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) у такіх сказах звычайна перадаецца ў плане аднаго і таго ж часу і вызначаецца пры дапамозе віда-часавых суадносін выказнікаў састаўных частак.

Выказнікі састаўных частак выражаюцца ў асноўным дзеясловамі або прэдыкатыўнымі прыслоўямі. Такая форма выказнікаў дае магчымасць перадаваць паслядоўнасць непрацяглых або працяглых дзеянняў ці дзеяння і стану ў плане прошлага, а таксама будучага часу: *Пабралі яны аўтаматы, ды больш палавіны людзей і пакінулі атрад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Зачыняй куфар, ды будзем палуднаваць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Прайшоў невялікі дождж, ды зноў стала суха* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Праедуць машыны, ды зноў будзе ціха* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды*, у якіх выражаюцца адносіны паслядоўнасці, маюць аднатыпную і разнатыпную будову. Яны могуць ужывацца ў форме двухсастаўных або аднасастаўных (безасабовых) сказаў, якія бываюць поўнымі і няпоўнымі, з аднолькавымі і рознымі словамі ў функцыі паасобных членаў. Ва ўсіх такіх сказах звычайна аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі: *Ось прыслухайся, Ганўся, ды навокала ты глянь...* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ой ты, Юрачка, кінь ляніціся, ды надумайся ты вучыціся* (Я. Купала. Дзіцячае). *Збірай увечары сход, ды пра ўсё трэба пагаварыць грунтоўна* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Праплыве гук баязліва па-над лугам, па-над нівай у знямелы свет, ды зноў ціха-ціха стане* (Я. Колас. У сухмень). *Забіць бы гада, ды за плот!* (Я. Колас. Рыбакова хата).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМІ СЛОВАМІ *потым, затым* І ІНШ.

§ 1034. Сярод складаназлучаных сказаў са злучальнымі словамі *потым, затым* і інш. найбольш пашыраны сказы, у якіх паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане аднаго і таго ж часу. Асноўная роля ў вызначэнні характару сінтаксічных адносін у гэтых сказах належыць злучальным словам, бо яны заўсёды ўжываюцца для сувязі толькі тых састаўных частак, у якіх паведамляецца аб паслядоўным працяканні пэўных з'яў ці падзей.

У складаназлучаных сказах са злучальнымі словамі *потым, затым* і інш. віда-часавыя суадносіны выказнікаў састаўных частак і іх лексіка-граматычныя значэнні ўказваюць на час і характар працякання дзеянняў (станаў, прызнакаў). У большасці выпадкаў выказнікі састаўных частак выражаюцца дзеясловамі закончанага або незакончанага трывання і даюць магчымасць афармляць паслядоўнасць непрацяглых або пра-

цяглых дзеянняў у плане цяперашняга, прошлага ці будучага (вельмі рэдка) часу: *Праз дым вылятае некалькі іскраў, потым яго праразаюць зыркія языкі полымя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сын збялеў, потым твар ягоны счырванеў плямамі* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Мама дасць табе есці, потым ты будзеш мыць бочкі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Затрыманы натрый застаецца ў траўміраванай вобласці на працягу 4—6 сутак, затым ён выдаляецца з арганізма* («Весці АН БССР»). *Гара тут крута абрывалася, затым абрыў пераходзіў у пакаты спуск* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Усё маўчыць, пасля данасіцца прыглушаны звон* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Партызаны чулі нямецкую каманду, пасля яе заглушыў стук сякер і звон піл* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Клава вярнулася да ложка і легла, тады Кацярына выйшла з покоя, а неўзабаве прынесла некалькі галінак* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Пры горадзе асфальт канчаецца, далей пачынаецца брук* (там жа). *Хвіліну-другую пераклікаліся па ўсяму сялу пеўні, нарэшце і яны змоўклі* (М. Лынькоў. Маладосць).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаюцца прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і іншымі часцінамі мовы. У такіх сказах паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа афармляцца часцей за ўсё ў плане прошлага часу: *Спачатку мякаць была грубая, мела многа камяністых клетак, затым яна стала сакавітай, салодкай, з невялікай колькасцю камяністых клетак* («Весці АН БССР»). *У 1952 годзе паблізу горада Мазыра быў здабыт вугор даўжынёй каля аднаго метра і вагой каля паўтара кілаграма, затым было злоўлена некалькі экземпляраў вугра каля горада Пінска* (там жа). *Заскрыпела фортка, потым стала ціха* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 1035. Складаназлучаныя сказы са злучальнымі словамі *потым, затым* і інш., у якіх паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане розных часоў, у сучаснай беларускай мове сустракаюцца вельмі рэдка. Характар сінтаксічных адносін тут вызначаецца не столькі лексіка-сінтаксічным значэннем злучальных слоў, колькі часавымі суаднсінамі выказнікаў састаўных частак. Злучальныя словы надаюць толькі большую катэгарычнасць і ўзмацняльнае адценне паслядоўна працякаючым з'явам і працэсам, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучанага сказа.

Выказнікі састаўных частак у такіх складаназлучаных сказах звычайна выражаюцца дзеясловамі закончанага або незакончанага трывання і даюць магчымасць афармляць паслядоўнасць непрацяглых або працяглых дзеянняў у плане прошлага і цяперашняга, цяперашняга і будучага ці прошлага і будучага часу: *Пачулася шалёная страляніна, пасля наступае цішыня* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Коні пасвяцца на лугу, потым падыдзе Міха, паглядзіць* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Юныя кукурузаводы арганізавалі ўзорны догляд пасеваў, затым імі будзе праводзіцца ўборка і сіласаванне зялёнай масы* (з газет).

§ 1036. Злучальныя словы *потым, затым* і інш. могуць ужывацца ў спалучэнні са злучнікамі *і, а,* утвараючы звязачныя элементы ўскладненага тыпу *і потым, а потым* і г. д. У гэтым выпадку роля і значэнне злучнікаў *і, а* настолькі змяншаецца, што яны ў большай ступені выконваюць функцыю ўзмацняльнай часціны, чым функцыю злучніка. І таму адносіны паслядоўнасці, якія выражаюцца ў складаназлучаных сказах і афармляюцца пры дапамозе такіх звязачных элементаў, звычайна суправаджаюцца тымі ці іншымі экспрэсіўнымі адценнямі.

Звязачныя элементы *і потым, а потым* і інш. ужываюцца для сувязі састаўных частак галоўным чынам тады, калі паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане аднаго і таго ж часу: *Дзесьці пракрычала птушка, і потым усё сціхла* (Я. Маўр. Палескія рабінзо-

ны). *Лес цягнецца вярсты на чатыры, а можа на больш, а потым зноў сцелюцца раскошныя лугі* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). *Прайшлі з паўвярсты полем, а пасля пачаўся сасновы лес* (М. Чарот. Свінапас). *Янук прыстаў ля студні, і тады дзяўчына запыталася...* (М. Танк. Янук Сяліба). *Мяне абшукалі, дапытвалі, і, нарэшце, камандзір загадаў расстраляць* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *На трэцім уроку вучні малявалі прыгожыя лісточкі, яловыя галінкі, а затым усе хорам спявалі песню* (А. Кулакоўскі. Першы малюнак). *Нарэшце стрэлка гадзінніка прайшла па лічбе сем, і далей нельга было спаць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Вось пражывеце якога з паўгода адны, а далей Рыгор забярэ вас да сябе* (там жа).

Калі ж паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане розных часоў, то для сувязі састаўных частак звычайна ўжываюцца звязачныя элементы толькі са злучнікам *а*: *З паўгадзіны папасвіў каня, а потым выводзіць яго на дарогу, садзіцца і едзе* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Рамонт камбайна патрабуе не больш двух тыдняў, а потым буду працаваць над чарцяжамі новага трактара* (з газет). *Яшчэ год, другі застаўся ёй на вучобу, а тады выйдзе Надзейка доктарам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1037. У большасці выпадкаў састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучальнымі словамі *потым, затым* і інш. маюць аднатыпную будову; яны ўжываюцца ў форме двухсастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння. Такая форма дазваляе звязваць у складаназлучаным сказе дзве і больш састаўных частак, прычым злучальнае слова ставіцца толькі перад апошняй з іх: *На печы пачуўся нечы кашаль, потым з-за коміна паказалася ўскудлачаная сівая галава* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мінут праз колькі вярнуўся пан падлоўчы, а потым прыйшла і яго жонка* (Я. Колас. У палескай глушы). *Абяссілены бацька сеў, тады стол націснуў яму на грудзі* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Яшчэ далей бялясае святло перайшло ў ружовае, пачало гусцець, чырванець, і нарэшце ў прахонах паміж дрэў бліснуў чырвоны, дзіка раз'юшаны агонь пажару* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Грэбелька раптам перарывалася, далей была густая іржавая твань* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Затрашчала галлё, усплёснула вада, і потым усё сціхла* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Успыхнула маланка, пачуўся моцны кароткі ўдар грому, а потым залапаталі па даху буйныя кроплі дажджу* (І. Гурскі. Свежы вецер).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх дзейнікі або выказнікі састаўных частак выражаны словамі з аднолькавым лексічным значэннем. Звычайна такія сказы складаюцца з дзвюх састаўных частак: *Панна Ядвіся павярнулася і кінулася бягом у свой двор, потым яна спынілася і пайшла зноў да Лабановіча* (Я. Колас. У палескай глушы). *Была некалі беднасць, засмучанасць, потым — страхі вайны* (П. Пестрак. Неспадзяванак). *Крыху счакаўшы, пачуліся лёгкія крокі, а потым жаночы голас каля самых дзвярэй* (Я. Колас. На ростанях). Сустракаюцца адзінкавыя выпадкі, калі ў складаназлучаных сказах аб'ядноўваюцца тры падобныя часткі: *Шукала яго найперад Аўгіня, потым шукаў Аўгіню Мартын, потым шукалі яны адзін аднаго* (Я. Колас. Дрыгва).

Нешматлікімі з'яўляюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму двухсастаўнага сказа, а другая — форму аднасастаўнага (няпэўна-асабовага ці безасабовага) сказа: *Ён гаварыў хвілін пяць, а потым яго прагналі* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Доўга не спалася, а потым быў дзіўны сон* (Я. Брыль. Сэрца камуніста). *Потым загучэлі рэзкія галасы каманды, воклічы, і нарэшце стала ціхнуць* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З КАМБІНАЦЫЯМІ РОЗНЫХ ЗЛУЧНІКАЎ

§ 1038. Са значэннем паслядоўнасці дзеянняў (станаў, прызнакаў) у плане аднаго і таго ж часу могуць ужывацца складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе камбінацый розных злучнікаў і злучальных слоў. У склад гэтых сказаў звычайна ўваходзяць тры і больш састаўных частак, з якіх першыя часцей за ўсё звязаны злучальнымі словамі *потым, пасля,* а апошнія — злучнікам *і*: *Чырвонаармейцы перайшлі мост, пасля іхнія постаці выразна вызначыліся над узгоркам на небасхіле, і цераз хвіліну яны зніклі зусім, адыходзячы ў ноч, у невядомае* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). *Некалькі часу зялёны гушчар быў нерухомы, потым затрашчала галлё, шэрая птушка з прарэзлівым крыкам узляцела над зараслямі, мільганула нечая постаць і з зарасляў выйшаў чалавек са стрэльбай* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Узгоркі зменьваліся лагчынамі, жоўтыя чубы маладога бярэзніку саступалі месца зялёным хвойнікам, пасля зноў ішло поле, і, нарэшце, магутная сцяна старога лесу ў момант вока вырасла як з-пад зямлі* (К. Чорны. Родныя мясціны). *Крамарчык і Турчын прайшлі ў дзверы, іх крокі загрукалі ў сенях, потым скрыпнулі дзверы і ўсё сціхла* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Зрэдку сустракаюцца адваротныя выпадкі, калі першыя састаўныя часткі звязаны злучнікам *і*, а апошнія — злучальнымі словамі *потым, пасля*: *Некалькі разоў вуліца рабілася пустая, і па ёй беглі толькі польскія салдаты, пасля натоўп зноў з'яўляўся на ёй* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Штурман падаў каманду лётчыку, і самалёт пайшоў на зніжэнне, а потым з яго адзін за другім сталі выкідвацца парашутысты* (з газет).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1039. Супастаўляльнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх адна састаўная частка або паасобныя члены яе супастаўляюцца з другой састаўной часткай або яе паасобнымі членамі. У залежнасці ад характару супастаўлення гэтыя адносіны падзяляюцца на ўласна супастаўляльныя адносіны, адносіны неадпаведнасці і супрацiўныя адносіны.

Заўвага. Рэзкай граніцы паміж разнавіднасцямі супастаўляльных адносін у сучаснай беларускай мове няма. Сустракаюцца выпадкі, калі адны і тыя ж сінтаксічныя адносіны можна лічыць уласна супастаўляльнымі і супрацiўнымі або супрацiўнымі і адносінамі неадпаведнасці: *Вас тут трое, а я адзін* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Вы людзі вайсковыя, а я чалавек цывільны* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Суседзі з яго смяюцца, а ён увагі не звяртае* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Сусед жа ён, але яго чамусьці дужа недалюблівала бабка* (М. Лынькоў. Пацалунак).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З УЛАСНА СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1040. Уласна супастаўляльныя адносіны характарызуюцца ўстанаўленнем звычайнага адрознення паміж прадметамі і з'явамі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучанага сказа. Гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, якія знаходзяць найбольш яркае адлюстраванне ў лексіка-граматычным значэнні супастаўляемых членаў, інтанацыі і парадку слоў у гэтых частках. На супастаўляемых членах састаўных частак звычайна ставіцца лагічны націск, а самі члены заўсёды маюць розныя лексічныя значэнні: *Пісара-*

*вы бровы навісаюць строга, а вочы ўпіваюцца ў твар Лабановіча* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *На галоўцы вянок з сініх васілёчкаў, а чырвоны паясок стан абвіў дзявочы* (Я. Купала. Безназоўнае). *Лукаш прысеў на прызбе, а Платон пайшоў у двор* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»). *Каля рэчкі стада ходзіць, а яго хлапчук пільнуе* (У. Дубоўка. Музыка-чарадзейнік).

З прыкладаў відаць, што супастаўляецца звычайна не адзін, а некалькі членаў састаўных частак складаназлучанага сказа. Але калі неабходна з большай сілай падкрэсліць супастаўленне толькі аднаго з членаў першай састаўной часткі з адпаведным яму членам другой састаўной часткі, то ў другой састаўной частцы такі член заўсёды ставіцца непасрэдна за злучнікам незалежна ад таго, дзе знаходзіцца супастаўляемы з ім член у першай састаўной частцы: *Гаварыў больш бацька, а маці толькі калі-нікалі ўстаўляла некалькі слоў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Я буду вызначаць табе заданні, а распрацоўваць іх ты будзеш сама* (Я. Колас. Адукацыя). *Расце мята ў агародзе, а на градах цвіце мак* (П. Трус. Антырэлігійныя частушкі).

Значная роля ў выражэнні ўласна супастаўляльных адносін належыць злучнікам *а, ж (жа)*, якія ўжываюцца для аб'яднання састаўных частак складаназлучанага сказа. Пры адсутнасці гэтых злучнікаў складаназлучаныя сказы ў большасці выпадкаў прадстаўлялі б сабою злучэнне граматычна аформленых паведамленняў, якія толькі канстатуюць адпаведныя факты без прывядзення іх у супастаўляльную сувязь.

Часцей за ўсё ў аснове супастаўлення знаходзяцца дзеянні (станы, прызнакі) прадметаў і з'яў, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучанага сказа. Гэтыя дзеянні (станы, прызнакі) звычайна абазначаюцца выказнікамі састаўных частак, якія заўсёды выражаны словамі рознага лексічнага значэння. Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), як правіла, падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем іх суб'ектаў або аб'ектаў, а таксама акалічнасцей, звязаных з гэтымі дзеяннямі (станамі, прызнакамі).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны словамі аднолькавага лексічнага значэння і абазначаюць адно і тое ж дзеянне (стан, прызнак). У падобных выпадках у аснове супастаўлення знаходзяцца суб'екты дзеянняў (станаў, прызнакаў) або аб'екты ці акалічнасці, якія звязаны з гэтымі дзеяннямі (станамі, прызнакамі) і якія абазначаны пэўнымі сінтаксічнымі адзінкамі.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1041. У складаназлучаных сказах са злучнікам *а* супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, часцей за ўсё суправаджаецца супастаўленнем суб'ектаў, якія абазначаны дзейнікамі гэтых частак: *Граў Сымонка, а дзед слухаў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Мядзведзь танцаваў, а цыган спяваў жартаўлівыя песні* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Рукі былі заняты, а думкі былі далёка* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Шапка шэрая, а верх — зялёны* (К. Буйла. Пагранічніку). *Народ — суддзя, а сведка — лес* (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе).

Калі ў складаназлучаным сказе аб'яднаны дзве састаўныя часткі, з якіх адна мае форму безасабовага, а другая — асабовага сказа, то ў безасабовай частцы ў якасці суб'екта дзеяння або стану выступае дапаўненне, выражанае назоўнікам ці займеннікам у форме роднага або давальнага склону. Часам супастаўленне адзначаных членаў можа суправаджацца яшчэ адначасовым супастаўленнем аб'ектаў (дапаўненняў) у абедзвюх састаўных частках: *Вочы яе гарэлі, а гордасці не было*

канца (К. Чорны. Зямля). *Адно травішча расце невядомае ды аер-выраджэнец, а вады амаль зусім няма* (А. Кулакоўскі. Дома). *Мне самому ад гэтых бочак млосна, а ты яшчэ дзіця* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Няхай крыху супакояцца немцы ды пераключаць увагу на іншыя месцы, а нам трэба рыхтавацца да больш сур'ёзных спраў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Табе трэба насенне рыхтаваць, а расаду і хлапчукі пальюць* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка).

Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа суправаджацца адначасовым супастаўленнем суб'ектаў, аб'ектаў і акалічнасцей, звязаных з гэтымі дзеяннямі (станамі, прызнакамі) і абазначаных дзейнікамі, дапаўненнямі і акалічнасцямі састаўных частак: *Жанкі жалі сярпамі жыта, а мужчыны дакошвалі куп'істую сенажаць* (К. Чорны. Вялікая і малая тэма). *Каровы матка падоіць, а бацька коні напоіць* (К. Крапіва. Чорт). *Убок падалася рачулка, а мост апусціўся наніз* (Я. Колас. Адплата). *Шыпяць, свішчуць па лугах вужы, скарпіякі, а па стайнях, па хлявах лазяць ваўкалакі* (Я. Купала. Люлі, люлі, мужычок). *Чмель пузаты на басолі гучна грае, а на йскрыпцы ёмка пчолка падсякае* (М. Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *Бацька яе працуе машыністам на паравозе, а маці некалі была кухаркай на станцыі* (І. Гурскі. Нараджэнне героя).

Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа суправаджацца адначасовым супастаўленнем аб'екта, абазначанага дапаўненнем адной састаўной часткі, з акалічнасцю другой састаўной часткі: *Матка затапляла печку, а бацька поркаўся недзе на двары* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Па целе Сёмкі прайшоў сударажны ўздрыг, а ўнутры закіпела злосць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Сцяпан быў ужо камандзірам у марскім флоце, а Марыля закончыла будаўнічы тэхнікум* (А. Кулакоўскі. Марскія хвалі).

У радзе выпадкаў супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) разам з суб'ектамі, аб'ектамі або акалічнасцямі, якія абазначаны выказнікамі, дзейнікамі, дапаўненнямі і акалічнасцямі састаўных частак, падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем слоў, што выступаюць у ролі азначэнняў да гэтых дзейнікаў, дапаўненняў ці акалічнасцей: *Кудры твае пышныя жоўкнуць, высякаюцца, а лісточкі кволыя па зямлі качаюцца* (Я. Колас. Вярба). *Вакол растуць сосны з высокімі густымі макушкамі, а на новай, шырокай вуліцы пасаджаны маладыя, гладкія бярозкі* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *У вачах яго ігрkörала спачувальная вада, а на грудзі ападала чорнай хмарай барада* (П. Броўка. Кацярына).

Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа падтрымлівацца адначасовым супастаўленнем суадносных паміж сабою аб'ектаў і акалічнасцей, абазначаных дапаўненнямі і акалічнасцямі састаўных частак: *Каму ён дзед, а для мяне ён бацька* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Маладым садам — квітнець, а крынічаньцы — звінець* (М. Танк. Жаўрук). *На зубах хрупасцела, а ў роце пахла торфам* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У кухні-прахожай падлога была цагляная, а ў сталовай і ў спальні — дзеравяная* (Я. Колас. Адшчапенец). *Абабіт пабел усюды, а праз столь цячэ вада* (Я. Колас. Турэмная камера). *Не, капялюшык прымерае потым, а цяпер трэба прыступіць да навукі* (Я. Колас. Адукацыя).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем суб'екта, абазначанага дзейнікам адной састаўной часткі, з аб'ектам, абазначаным дапаўненнем або акалічнасцю ў другой састаўной частцы: *Ганна нізка апусціла галаву і маўчала, а ў лесніка вочы так і гарэлі* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Рукі і ногі дрыжалі, а горла сціскалі сухія спазмы*

(Я. Колас. Дрыгва). *У меншай хаце цяплей, а клуб — ён падыходзіць больш для моладзі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

У некаторых выпадках дзеянне (стан, прызнак), абазначанае выказнікам адной састаўной часткі, можа супастаўляцца з рознымі словамі ў ролі дапаўнення, азначэння і іншых членаў другой састаўной часткі. Такія складаназлучаныя сказы характарызуюцца адсутнасцю паралелізму ў будове састаўных частак; у сучаснай беларускай мове яны сустракаюцца даволі рэдка: *Бацька быў рамеснікам, а сын за зямлю ўзяўся* (К. Чорны. Зямля). *Светла стала ў нашай хаце, а простор які!* (Я. Колас. Пад ясным сонцам). *Ён цяпер на такарным, а я фрэзероўшчык* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 1042. У складаназлучаных сказах, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны адным і тым жа словам, уласна супастаўляльныя адносіны звычайна грунтуюцца на супастаўленні:

суб'ектаў, абазначаных дзейнікамі састаўных частак: *Дзяўчаткі трымаліся свае кампаніі, а хлопцы — свае* (Я. Колас. На ростанях). *Вы судзіце па сабе, а я па сабе* (Ц. Гартны. Сокі цаліны);

суб'ектаў і аб'ектаў, абазначаных дзейнікамі і дапаўненнямі састаўных частак: *Я пайду шукаць свайго Трахімкі, а ты — сваёй Паланейкі* (Я. Купала. Прымакі). *Вуглі і дымы — печным грудзям, а гордасць і магутнасць — людзям!* (Я. Купала. Песня аб вайне грамадзянскай). *Поле пахне аўсяным іржышчам і вялаю атаваю, а цесныя двары пры маўклівых хатах — коньмі і дзёгцем* (К. Чорны. Хвоі гавораць);

суб'ектаў, абазначаных дзейнікамі, і акалічнасцей састаўных частак: *На гары шуміць хвоіна, а ў даліне вербалоз...* (П. Трус. Вясковыя частушкі). *Там вясной шумелі травы, а ў кастрычніку — лісты* (П. Глебка. Прызнанне). *У небе пачалі запаляцца рэдкія зоры, а на вуліцах — ліхтары* (Ц. Гартны. Сокі цаліны);

суб'ектаў, аб'ектаў, абазначаных дзейнікамі, дапаўненнямі, і акалічнасцей састаўных частак: *Прадавалі ў палатках арцельны тавар ганчары, а ў ларках садаводы — калгаснага лета дары* (А. Куляшоў. Грозная пушча);

аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі састаўных частак: *Без яго ёй не жыці, а яму без яе* (Я. Купала. Ён і яна). *Дзірваны ў сад зменіць, а горы — на поле!* (Я. Купала. За што?);

акалічнасцей састаўных частак: *Пашыўка шарсцяного мужчынскага касцюма на бабруйскай фабрыцы імя Дзяржынскага займае 8,8 гадзіны, а на гомельскай фабрыцы «Камінтэрн» —7,6 гадзіны* (з газет);

аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі, і акалічнасцей састаўных частак: *З поля пахне ядлоўцам, а з вуліцы — дымам сырой асіны ў печах* (К. Чорны. Новыя людзі). *Аднаму здаецца так, а другому — гэтак* (К. Чорны. Зямля). *Воўка ў лес цягне, а плытагона на раку* (Т. Хадкевіч. Плытагоны);

слоў у ролі азначэнняў (іншы раз сумесна з дзейнікамі або дапаўненнямі) састаўных частак: *Па тым баку — мая доля, а па гэтым — гора* (Я. Купала. Таполя). *Адзін павінен у першы клас хадзіць, а другі — у трэці* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Ля пярэдняга воза ішоў незнаёмы нам вусаты чалавек, а ля задняга воза — ён* (К. Чорны. Вясна).

§ 1043. У радзе складаназлучаных сказаў уласна супастаўляльныя адносіны могуць ускладняцца рознымі дадатковымі адценнямі, якія ў пэўнай ступені залежаць ад будовы састаўных частак. Так, напрыклад, калі ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа знаходзяцца спалучэнні прыслоўнага характару *ў той час, тым часам* і інш., то ўласна супастаўляльныя адносіны звычайна ўскладнены дадатковым адценнем адначасовасці. Гэтыя спалучэнні могуць размяшчацца або непасрэдна за злучнікам *а*, або пасля дзейніка другой састаўной часткі: *Ручкі белы заламала, звесіла галоўку, а тым часам пан Патоцкі вый-*

*шаў у бакоўку* (Я. Купала. Бандароўна). *Зірнула яна на мяне, а ў гэты самы момант месяц зірнуў на яе* (З. Бядуля. Загадка). *Бярэ пісьмо, а жонка ў час той з графіна ў чаркі — буль-буль-буль* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Акрамя адцення адначасовасці, уласна супастаўляльныя адносіны могуць ускладняцца і адценнем паслядоўнасці. Гэта адбываецца ў асноўным тады, калі неабходна падкрэсліць супастаўленне з'яў і падзей у плане іх працякання аднаго за другім: *Агоньчык толечы развесці, а там закусім, аддыхнём* (Я. Купала. На папасе). *З празрыстай дымкі выступаў малады бярозавы параснік, а за ім цягнуўся бясконцай сінявой далёкі і загадкавы бор* (М. Лынькоў. Кавалак хлеба).

Асабліва выразна праяўляецца адценне паслядоўнасці, калі ў састаўных частках складаназлучаных сказаў знаходзяцца суадносныя прыслоўі часу *раней — цяпер* і інш.: *Раней было цяжка, а цяпер крыху лягчэй* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Спачатку ішло поле, а потым цягнуўся рэдкі кустарнік* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Зусім нядаўна апошнім тралейбусным прыпынкам быў парк імя Чэлюскінцаў, а цяпер гэты маршрут падоўжан да абсерваторыі* (з газет). *Яшчэ зусім нядаўна тут закладваліся першыя камені ў фундамент, а зараз ужо выразна бачны лініі новай вуліцы* (там жа).

Асобную групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы, у якіх супастаўляльныя адносіны ўскладняюцца ўступальным адценнем. У першай састаўной частцы такіх сказаў звычайна знаходзяцца словы-антонімы, якія выступаюць у ролі выказніка і іншых членаў сказа: *Хочаш не хочаш, а да яго з візітам з'явіцца трэба* (Я. Колас. На ростанях). *Купіў не купіў, а патаргаваць можна* (Я. Колас. Знайшлі). *Утаміўся не ўтаміўся, а трэба ісці* (Ц. Гартны. Шукаючы працы). *Прыбірай ці не прыбірай, а гразі пананосяць* (Я. Колас. На ростанях). *Будзе лад ці не будзе, а пачаставаць людзей трэба* (К. Крапіва. Партызаны). *Лёгкі лёс ці цяжкі, а жывуць як трэба* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Заўвага. У радзе выпадкаў уступальнае адценне можа пераходзіць ва ўступальнае значэнне, у выніку чаго сінтаксічныя адносіны становяцца ўступальна-супастаўляльнымі. Такія адносіны звычайна выражаюцца ў складаных сказах, першая састаўная частка якіх прадстаўляе сабою форму ўстойлівых спалучэнняў тыпу *што ні...* плюс дзеяслоў загаднага ладу з абагульнена-асабовым значэннем або *што ні...* плюс дзеяслоў абвеснага ці ўмоўнага ладу разам з іншымі часцінамі мовы: *Што ні кажыце, а хлопец ён слаўны!* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Як ні мяркуй, а справа — дрэнь* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Колькі вяровачцы ні віцца, а канец павінен быць* (прыказка). *Што б там ні было, а дагуляць вяселле трэба* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Прыклады сведчаць, што сінтаксічныя адносіны ў падобных сказах маюць злучальна-залежны характар. А таму гэтыя сказы не з'яўляюцца складаназлучанымі ў поўным сэнсе слова, а ўтвараюць прамежкавую, ці пераходную з'яву паміж складаназлучанымі і складаназалежнымі сказамі.

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх уласна супастаўляльныя адносіны ўскладняюцца адценнем умоўнасці: *Вось зраблю я гэтую работу, а там будзе другая, любімая* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *Азірнешся на вёску, а там блакітныя дымы з комінаў валяць* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Засунеш руку ў нару, а рак цап за пальцы кляшнёй* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1044. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *а*, у якіх выражаюцца ўласна супастаўляльныя адносіны, складаюцца галоўным чынам з дзвюх састаўных частак. Часцей за ўсё гэтыя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў, у якіх супастаўляемыя члены выражаны словамі рознага лексічнага значэння: *Амярцвелае поле рассцілалася белым абрусам аднастайнай роўнядзі, а лес цёмна-сіняю сцяною выступаў у нерухомай постаці і тупой немаце* (Я. Колас. Дрыгва). *Грамабоіха нават прабавала слязу выціснуць, а Грамабой чухаў патыліцу і лаяўся* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Губы запякліся ад смагі, а вочы пачырванелі ад бяссонніцы* (З. Бядуля. На балоце). *Юрка застаўся на*

*возе, а Платон пайшоў у канцылярыю* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»). *Над дарогамі вісеў пыл, а над поплавам трымцелі хвалі мроева* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Калі дзейнікі састаўных частак выражаны словамі, якія абазначаюць адну і тую ж асобу, а ў складаназлучаным сказе супастаўляюцца толькі выказнікі састаўных частак (іншы раз са звязанымі з імі дапаўненнямі), у якасці дзейніка другой састаўной часткі звычайна выступае займеннік *сам*. Калі ж дзейнікі састаўных частак выражаны словамі, якія абазначаюць розных асоб ці розныя прадметы, а супастаўленне выказнікаў падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем дзейнікаў і іншых членаў сказа, то ў такіх выпадках займеннік *сам* узмацняе значэнне дзейніка другой састаўной часткі: *Якуб Панасавіч гаварыў з Рудаком, а сам не спускаў вачэй з ягонага сына* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У сталовай дзед пакінуў дэлегатаў адных, а сам пайшоў шукаць Каскевіча* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Юзя паслушна падала на стол снеданне, а сама задуменна выйшла ў сені* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»). *Месцамі рассціламіся прасторныя даліны рэчак, а самі рэчкі пакручастымі завітушкамі вельмі прыгожа вырысоўваліся ў сваіх высокіх беражках* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Рыжаватыя бровы яго зрасліся на носе, а сам нос выглядаў даволі маркотна і нявесела* (Я. Колас. Дрыгва).

У выпадку, калі дзейнікі састаўных частак складаназлучаных сказаў выражаны словамі, якія абазначаюць адных і тых жа асоб, а супастаўленне выказнікаў падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем звязаных з імі дапаўненняў або акалічнасцей, то гэтыя дзейнікі могуць:

ужывацца ў абедзвюх састаўных частках: *Мы прайшлі Навагрудчыну за хмурыя дні, а на Гродзеншчыне мы адчулі сухую спёку ліпеньскага сонца* (К. Чорны. Сям'я Юрыя Гарэйкі). *Праз хвіліну Толік Скуратовіч сядзеў за сталом і еў, а праз хвілін дзесяць ён ужо выходзіў з хутарскога двара* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне);

ужывацца ў адной састаўной частцы і апускацца ў другой: *Пасылаюць польскія генералы на нас войска — цэлы батальён, а за камандзіра паставілі пана Крулеўскага* (Я. Колас. Дрыгва). *Наступныя дні ён усё думаў пра жанчыну, а праз некаторы час паехаў радзіцца да брата* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *У мінулым годзе мы закладвалі сілас пераважна з дзікіх траў, а ў гэтым годзе будзем мець высакаякасны кукурузны сілас* (з газет);

апускацца ў абедзвюх састаўных частках: *Адным вокам на кветкі глядзіць, а другім незаметна і на вокны Аленчынай хаты кіне* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Чалавека слухай, а сваю думку мей* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Калі дзейнікі састаўных частак выражаны рознымі словамі, а выказнікі — адным і тым жа словам, то ў большасці выпадкаў выказнік другой састаўной часткі апускаецца. Аднак сустракаюцца выпадкі, калі выказнікі ўжываюцца або апускаюцца ў абедзвюх састаўных частках: *Старшынёю сходу быў выбран Садовіч, а сакратаром Райскі* (Я. Колас. На ростанях). *У вялізных чанах ляжала свежанатоўчаная бульба, а ў скрыні — дробна насечаны капуснік* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Мы за іх пасеем махорку, а яны за нас што-небудзь іншае* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Мяне ведаць не хоча сын, а цябе ведаць не хацеў бацька* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Яны выканалі сваю работу за 6 гадзін, а мы выканаем сваю на паўгадзіны раней* (з газет). *Ты ёй слова, а яна табе дзесяць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У мужыка барада, а ў пана бакі* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

У складаназлучаных сказах з аднолькавымі выказнікамі дзейнік першай састаўной часткі можа станавіцца дапаўненнем у другой, а дапаўненне першай часткі — дзейнікам у другой: *Пайшлі горы долам, а да-*

*лы гарамі* (Ц ё т к а. Мужык не змяніўся). *Сны чаргаваліся з явай, а ява са снамі* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *Заўсёды з партыяй народ, а партыя з сваім народам* (Р. Н я х а й. Аб выбарах).

Часам у складаназлучаных сказах з уласна супастаўляльнымі адносінамі знаходзяцца састаўныя часткі, якія маюць форму простых аднасастаўных (безасабовых, няпэўна-асабовых, намінатыўных) сказаў або адна састаўная частка мае форму аднасастаўнага, а другая — двухсастаўнага сказа: *Цёткам жарты, а Настачцы шкада стала татку* (А. К у л а к о ў с к і. Рой). *Дэманстрацыю разагналі, а многіх пасадзілі за краты* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Не мне б пра гэта казаць, а не вам слухаць* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Касьба, а там і жніво* (Я. К о л а с. Дзядзькаў сведка). *Красу з галавы вострай брытвай знялі, а жалезны убор на нагах зазвінеў* (Я. К у п а л а. Агароднік). *Маці Гіго памёрла даўно, а бацьку забілі на вайне* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Сэрца стукае ў малога, а ў грудзях гудзе, як гром* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Сядзіць сабе салдат і анучу на нагу накручвае, а навокал ціха сабе, як дома* (К. Ч о р н ы. Вінгель). *Тысячы дотаў нямецкіх, а ў іх не злічыць вартавых* (М. Т а н к. Рэйкавая вайна).

Асобную групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць своеасаблівую форму простых неразвітых сказаў. У такіх сказах выказнік кожнай з састаўных частак выражаецца назоўнікам у форме творнага склону без дапаможнага дзеяслова, а дзейнік — формай назоўнага склону гэтага ж назоўніка. У некаторых складаназлучаных сказах падобную будову мае толькі першая састаўная частка. *Урад урадам, а буржуй буржуем* (П. Г л е б к а. Святло з Усходу). *Вайна вайной, а работа работай* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Заляцанне заляцаннем, а служба службаю* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Жарты жартамі, а ў нас таксама ёсць паклёпнікі* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім). *Гаворка гаворкай, а я калісьці быў кулак* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Госці гасцямі, а час і дахаты* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).

Своеасаблівай будовай вызначаюцца таксама састаўныя часткі, якія маюць форму ўстойлівых зваротаў або цесна звязаных сінтаксічных адзінстваў: *Крой за крой, а смерць за смерць!* (Я. К у п а л а. Беларускім партызанам). *Гнеў ёсць гнеў, а кат ёсць кат* (П. П а н ч а н к а. Ніагара). *Думаць думала, а чакаць не чакала* (Я. К о л а с. На ростанях). *Чытаць не чытала, а чуць чула* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

У складаназлучаныя сказы з уласна супастаўляльнымі адносінамі могуць уваходзіць агульныя члены, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку такога сказа: *Пасля веснавога пажару людзі пабудавалі зямлянкі, а хто-ніхто нават упраўіўся паставіць зрубы* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *У ранішнім прыцемку яна* [дарога] *нагадвала рэчышча, а купкі чорных дрэваў здаваліся падобнымі на скалы* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Вельмі рэдкімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх аб'ядноўваюцца не дзве, а тры і больш састаўных частак. Злучнік *а* ў такіх сказах звычайна ставіцца толькі перад апошняй састаўной часткай: *К канцу ночы ў яго пачало балець горла, зранку яму зусім нездаровілася, а пад вечар высока паднялася тэмпература* (К. Ч о р н ы. Макаркавых Волька). *У змроку, у іле ляжаць карасі, у зеллі багністым жыруюць язі, у ціне лянівыя ходзяць ліні, а ў тонях пярэстыя спяць акуні* (П. Г л е б к а. Рыбак).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ж* (*жа*)

§ 1045. Спецыфічнай асаблівасцю складаназлучаных сказаў, у якіх уласна супастаўляльныя адносіны афармляюцца пры дапамозе злучніка *ж(жа)*, з'яўляецца тое, што гэты злучнік ставіцца не паміж састаўнымі часткамі, а пасля таго члена другой састаўной часткі, які патрабуе лагічнага выдзялення сярод іншых супастаўляемых членаў. У большасці такіх сказаў у аснове супастаўлення знаходзяцца дзеянні (станы, прызнакі) прадметаў і з'яў, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках і якія абазначаюцца выказнікамі гэтых частак. Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) звычайна падтрымліваецца адначасовым супастаўленнем:

суб'ектаў, абазначаных дзейнікамі састаўных частак: *Аграном меў усхваляваны выгляд, Крушынскі ж быў хмурым і маўклівым* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Хутка ляціць над зямлёй самалёт, думы ж яго абганяюць* (П. Броўка. Добры друг). *Ты — нявеста, як быццам, я ж — як быццам, жаніх* (А. Куляшоў. Дружба);

суб'ектаў і аб'ектаў, абазначаных дзейнікамі і дапаўненнямі, або акалічнасцей састаўных частак (іншы раз са звязанымі з імі азначэннямі): *Сёмка пайшоў у мястэчка, Рыгор жа застаўся дома* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Я на ўсход пайшоў, ты ж свой шлях павёў па знаёмай мясціне ступою* (Я. Колас. Развітанне). *Падарунак аддаць не змагла ты, я ж не здолеў любоў зберагчы* (А. Звонак. Ты сказала, відаць, недарэмна). *Рыгор, Гэля і Волька згрудзіліся ў вулічным покутным акне, Юстына ж з дзецьмі і Сёмка ўлезлі ў тыльнае* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 1046. Нешматлікімі з'яўляюцца выпадкі, калі выказнікі састаўных частак складаназлучаных сказаў са злучнікам *ж(жа)* выражаны адным і тым жа словам. У такім разе супастаўленне грунтуецца не на суадносінах дзеянняў (станаў, прызнакаў), а на суадносінах звязаных з імі суб'ектаў, аб'ектаў і акалічнасцей, абазначаных адпаведнымі сінтаксічнымі адзінкамі: *Каню давалі авёс, карове ж — буракі і бульбу* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ты імкнулася ў далеч прастораў бясконцых марскіх, я ж — да сэрца твайго, дзесь схаванага ў нетрах лясных* (А. Куляшоў. Зямля і неба).

§ 1047. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікам *ж (жа)* могуць мець розную форму простых сказаў. Аднак незалежна ад формы ў складаназлучаным сказе звычайна аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі: *Бедна нашая старонка, яе ж люд бядней яе* (Я. Купала. Аўтарцы «Скрыпкі беларускай»). *Тыя аперацыі здаваліся Шашуру звычайнымі, як праца ў будзённы дзень, сёння ж яму належала зрабіць штосьці асаблівае* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Спаць ёй, нягледзячы на позні час, зусім не хацелася, сядзець жа пры агні было ніякавата* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Стаў камень зямлёю, сама ж яна каменем стала* (А. Куляшоў. Маці).

Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі, калі ў складаназлучаных сказах са злучнікам *ж(жа)* знаходзяцца тры састаўныя часткі: *Садавод нясе ранеты, палявод гарох паспеты, я ж паэмы і санеты* (П. Броўка. Маланка). *Зімой сапе сцюдзёнай думай, улетку песнямі уп'ешся, увосень жа там — шумы, шумы!* (Я. Купала. Лес).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З АДНОСІНАМІ НЕАДПАВЕДНАСЦІ

§ 1048. Адносіны неадпаведнасці характарызуюцца тым, што супастаўляемыя з'явы і падзеі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучаных сказаў, узаемна не адпавядаюць адны другім.

Паведамленне ў другой састаўной частцы супрацьстаіць таму, што было б натуральна і закаманамерна, магчыма або неабходна пры тых умовах ці акалічнасцях, якія паказаны ў першай састаўной частцы.

У складаназлучаных сказах з адносінамі неадпаведнасці звычайна супастаўляюцца састаўныя часткі ў цэлым. У залежнасці ад гэтага адносіны неадпаведнасці вызначаюцца на аснове агульнага зместу ўсіх тых слоў (не выключаючы і злучнікаў), якія ўваходзяць у склад кожнай з састаўных частак.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак у складаназлучаных сказах з адносінамі неадпаведнасці з'яўляюцца злучнікі *а, ж(жа), і, але, ды, аж(ажно), аднак, толькі,* якія ўскладняюць гэтыя адносіны адпаведнымі адценнямі.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1049. Сярод складаназлучаных сказаў са злучнікам *а* найбольш пашыраны сказы, у якіх перадаецца неадпаведнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) розных асоб, прадметаў ці з'яў, што выступаюць у ролі дзейнікаў або дапаўненняў састаўных частак: *Я наняў усю хату разам з кухняй, а вы напускаеце сюды нейкіх людзей* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Значыцца, працу напішу я, а яна будзе лічыцца вашай?* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Няўжо ты і раней быў такі, а я не заўважала?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Ей жа хочацца пагуляць, а вы яе да пліты прыставілі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Нельга было траціць ніводнай хвіліны, а людзі тапталіся на месцы* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Стуку шмат, а працы мала* (П. Глебка. Расказ цесляра).

Асабліва выразна праяўляюцца адносіны неадпаведнасці ў тых складаназлучаных сказах, дзе выказнік адной з састаўных частак мае адмоўнае значэнне: *Дванаццаты стукнуў тады мне гадок, а я і на свет не радзіўся* (Я. Колас. Даняў). *У вароны вока не было, а яна ў бога веек прасіла* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *У маёй хаце ўсё гэта робіцца, а я нічога не ведаю* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Ніхто, брат, яе не трымае, а яна крычыць «пусці!»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Адносіны неадпаведнасці праяўляюцца выразна таксама ў складаназлучаных сказах, у састаўных частках якіх паведамляецца аб неадпаведнасці дзеянняў (станаў) адной і той жа асобы. Гэта асоба можа абазначацца назоўнікам або займеннікам, якія ў абедзвюх састаўных частках выступаюць у ролі дзейнікаў: *Яна як за родную дачку была ў нас, а цяпер яна топіць нас* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Служы яму ты ўсёй сям'ёю, а сам ты хоць жабруй зімою* (Я. Колас. Новая зямля). *Ён думаў мне падножку зрабіць, а сам пакаціўся* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Выпытала ў вас самае патаемнае, а сама маўчу* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Калі ў складаназлучаным сказе знаходзяцца састаўныя часткі, якія маюць форму асабовых і безасабовых сказаў, у якасці дзейніка асабовай часткі выступае тое слова, якое ў безасабовай частцы з'яўляецца дапаўненнем са значэннем суб'екта дзеяння (стану) ці носьбіта прызнака. Аднак сустракаюцца выпадкі, калі ў безасабовай частцы складаназлучанага сказа падобнае дапаўненне адсутнічае: *Агрызаецца Янačка, а самому боязна* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ты павінен жыць шчасліва, а табе разгону мала!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Табе зранку трэба экзамены здаваць, а ты пайшоў купацца* (А. Кулакоўскі. Ластаўкі). *Жаніць пара, а ён слязьмі ўмываецца* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Тут радавацца трэба, а ты плачаш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Асобна стаяць складаназлучаныя сказы, у якіх першая састаўная частка змяшчае паведамленне аб дзеяннях якой-небудзь асобы, а другая—

аб тых дзеяннях, якія не ўтварае гэта асоба, але якія з ёю звязаны, або аб тых прызнаках, якія характарызуюць асобу ці яе дзейнасць. Назоўнік або займеннік, які абазначае гэту асобу, у першай састаўной частцы выступае ў ролі дзейніка, а ў другой — у ролі даданых членаў (часцей за ўсё азначэння) ці проста адсутнічае. У ролі ж дзейніка другой састаўной часткі звычайна выступае назоўнік, які абазначае тое, што ў пэўнай ступені належыць асобе, названай у першай састаўной частцы, або неразрыўна звязана з гэтай асобай: *Адэля, можа, колькі хвілін прабыла на будаўніцтве, а яе сэрца ўсё залілося крывёю* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *І сур'ёзны ты чалавек, здаецца, а паводзіны твае камарыныя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Хавуста глядзеў на паперу, а думкі яго былі далёка ад напісанага тут* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *Чалавек малады, а валасы ў яго сівыя* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *За супоню бярэцца, а рукі дрыжаць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

У некаторых выпадках адносіны неадпаведнасці падкрэсліваюцца наяўнасцю ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа слоў і словазлучэнняў тыпу *выходзіць, на самай справе* і інш.: *Меркавалі мядзведзіцкія сёння прыдаткі скасіць, а выйшла яно трохі не так* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Шукаюць Байсака і тут і там, а ён, аказваецца, набраўся самагону і з усімі сваімі ваякамі пралежаў ноч у гумне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Шукалі матэрыял па ўсім раёне, а ён аказаўся зусім радам* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Айцу Дзімітрыю гадоў пад сорак, а здаецца маладзейшым на гадоў дзесяць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Усе лічаць гэта звычайнай з'явай, а на самай справе гэта вельмі складана* (там жа).

Неадпаведнасць з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучанага сказа, можа падкрэслівацца наяўнасцю ў абедзвюх частках супрацьлеглых па свайму лексічнаму значэнню слоў дапаўняльнага і акалічнаснага характару: *Адно гаворыць табе ў вочы, а другое ў мыслях мае* (Я. Колас. Новая зямля). *На вуснах у кожнага — шакалад, а за пазухай — бамбавозы* (К. Крапіва. Майстры крывавага джаза). *На славах — магутны слон, а на дзеле — моль* (Я. Купала. Эпіграма). *Тэарэтычна — нельга, а на справе — можна* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Адно ў мыслях, а другое на языку* (прыказка).

§ 1050. У некаторых складаназлучаных сказах адносіны неадпаведнасці паміж састаўнымі часткамі могуць ускладняцца рознымі дадатковымі адценнямі. У большасці выпадкаў гэтыя адценні залежаць ад характару пэўных часціц, а таксама слоў і спалучэнняў прыслоўнага паходжання, якія знаходзяцца ў адной або абедзвюх састаўных частках. Так, калі ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа ёсць часціцы *ўсё, усё ж, усё ж такі*, то адносіны неадпаведнасці звычайна ўскладняюцца ўступальным адценнем: *Партызаны прасядзелі на поплаве амаль да світання, а самалёта ўсё не было* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мала помню родну хатку, а ўсё ж міла ўспамінаць* (Я. Купала. Калека). *Слаба разбіраюся ў навуцы, а ўсё ж такі люблю чытаць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Уступальна-ўзмацняльнае адценне ўласціва складаназлучаным сказам, у адной з састаўных частак якіх знаходзяцца прыслоўі *ўжо, яшчэ*: *Ужо дваццаць год паміраю, а смерць ліха не бярэ* (З. Бядуля. Салавей). *Колькі цябе ёсць, а ўжо на хітрыках хоча на свеце жыць!* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Сонца яшчэ не ўзышло, а ты яго цягнеш з пасцелі* (К. Чорны. Былынікавы межы). *Месячык май хутка пройдзе, а яшчэ ніводная капля цёплага дажджу не ўпала на пасевы* (А. Кулакоўскі. Суша).

Асабліва выразным узмацняльна-ўступальнае адценне бывае тады, калі ў састаўных частках складаназлучаных сказаў з адносінамі неад-

паведнасці знаходзяцца суадносныя словы *яшчэ — а ўжо, толькі — а ўжо* і інш. Акрамя таго, у такіх сказах неадпаведнасць перадаваемых з'яў і падзей удакладняецца ўказаннем на іх часавую сувязь паміж сабою, якая заключаецца ў неадпаведнасці надыходу, заканчэння, прадаўжэння адной з'явы наяўнасці другой, у выніку чаго атрымліваюцца цесна звязаныя і ўзаемна абумоўленыя сінтаксічныя адзінствы: *Яшчэ калядны далёка, а ты ўжо кілбас захацеў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Толькі пачалі наступленне, а кухні ўжо адсталі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Калі яшчэ тая вясна, а яна ўжо гной рыхтуе* (І. Шамякін. У добры час). *Ну, колькі яна тут пабыла, а ўжо фермы проста не пазнаць* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Прайшло ўжо з тыдзень часу, а злосць Паўлюка на аб'ездчыка Сучынскага ўсё не астывае* (Я. Колас. Тоўстае палена). *Ужо за хат дзесяць яна адойдзецца, а яны ўсё крычаць на ўсю вуліцу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Усяго першы дзень жанаты, а ўжо хоць ідзі вон з хаты* (Я. Купала. Сон на кургане).

Заўвага. У гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца складаназлучаныя сказы з адносінамі неадпаведнасці, у якіх уступальнае адценне характэрна не для першай састаўной часткі, а для другой. У такіх выпадках злучнік *а* па сваёй функцыі вельмі блізкі да злучніка *хоць*: *Твайго бацькі яшчэ не было тады на свеце, а ён ужо немаладога веку* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Час прыйшоў адлятаць, а ляцець ім не рупіла* (М. Лужанін. Гусі-лебедзі).

Зрэдку адносіны неадпаведнасці ўскладняюцца ўступальным адценнем у залежнасці ад граматычнай будовы састаўных частак складаназлучанага сказа і іх лексічнага зместу. Гэта адбываецца ў асноўным тады, калі першая састаўная частка мае форму намінатыўнага сказа. Для такіх сказаў характэрна, што другая састаўная частка неадпаведна не непасрэдна першай, а той, якая засталася нявыказанай і магла б чакацца на аснове першай, г. зн. другая састаўная частка неадпаведна магчымаму выніку з першай састаўной часткі. Такім чынам, атрымліваецца свайго роду лагічны эліпсіс з уяўляемым пропускам трэцяй састаўной часткі: *Настаўнік, а займаецеся глупствам* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Сталы чалавек, а чаго ты ўпіраешся?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Старац, а яшчэ дабром грэбуе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Прарыў, а вы пыл у вочы пускаеце* (Я. Скрыган. Як на 401-й вярсце).

§ 1051. Складаназлучаныя сказы з адносінамі неадпаведнасці заўсёды ўключаюць толькі дзве састаўныя часткі, якія могуць мець разнастайную форму простых сказаў: *Хоча ён нешта сказаць, а язык не варочаецца* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Загад партыі дадзены, а ты ў балота?* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Міхал занадта ўжо служака, а медалёў не начапілі* (Я. Колас. Новая зямля). *Мяне па язычку пазнаюць за вярсту, а вы са мною ў хованкі гуляеце* (Я. Брыль. На Быстранцы). *На руках цябе носяць, а табе не падабаецца* (К. Крапіва. Проба агнём). *Каханне ў сэрцы гэтак сеяў, а жаць прыйшлося праклясце* (Я. Купала. Магіла льва). *Блізка-блізка дачушка, а спаткацца нельга* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *«ЗІМ» табе вадзіць бы ўжо, а цябе — на «газік»* (П. Прыходзька. Арлы ў палёце). *Малады чалавек, а барада як дзяркач* (К. Чорны. Вясна). *Глыбокая ноч, а заснуць не магу* (П. Панчанка. На Волгу!). *К вечару, а гарачыня* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

У тых выпадках, калі ў складаназлучаных сказах перадаецца неадпаведнасць дзеянняў (станаў) адной і той жа асобы, у якасці дзейніка другой састаўной часткі звычайна выступае займеннік *сам*: *Ён любіць жыць сваім адумам, а сам на выдумкі дасуж* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Хлопец адказваў на запытанні маці, а сам думкамі быў далёка* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Пра апошнюю сарочку гаворыць,*

*а сам ля гарцаў тых, ля апошніх тых гарцаў сялянскіх дужа як завіхаецца* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

У радзе складаназлучаных сказаў назоўнік або займеннік, які выступае ў ролі дзейніка першай састаўной часткі, можа станавіцца дапаўненнем у другой частцы, а назоўнік або займеннік, які выступае ў ролі дапаўнення першай састаўной часткі, — дзейнікам у другой. Калі дзейнік першай састаўной часткі выражан займеннікам 1-й або 2-й асобы, то ён можа апускацца: *Яны бабку пужалі, а бабка іх не баіцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Шчасце даецца яму ў рукі, а ён топча яго нагамі* (Т. Хадкевіч. Неспакой). *Я яму дапамог, а ён мне дапамагчы не хоча* (П. Пестрак. Вярнуўся). *Да яго з хлебам-соллю, а ён жа цябе аблае* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ж (жа)*

§ 1052. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ж (жа)*, у якіх выражаюцца адносіны неадпаведнасці, у сучаснай беларускай мове сустракаюцца вельмі рэдка. У састаўных частках такіх сказаў звычайна перадаецца неадпаведнасць пэўных дзеянняў (станаў, прызнакаў), якія звязаны з рознымі асобамі: *Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, яны ж мне каменні давалі* (М. Багдановіч. З песняў беларускага мужыка). *Мне так шкода цябе, шкода. Ёсць бацькі, ты ж сірата!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ён цябе да спакою меў жаданне прымусіць, неслухмяныя ж пальцы дрыжэлі няўлад* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова).

У некаторых выпадках у склад састаўных частак могуць уваходзіць словы і словазлучэнні дапаўняльнага або акалічнаснага характару, якія па лексічнаму значэнню набліжаюцца да антонімаў. Адносіны неадпаведнасці паміж такімі састаўнымі часткамі праяўляюцца асабліва выразна: *Прэтэнзій у яго — хапіла б на слана, заслуг жа — як у зайца* (К. Крапіва. Тата-заяц). *На першы погляд такая з'ява можа паказацца непраўдападобнай, на самай жа справе — гэта факт* (з газет).

§ 1053. Складаназлучаныя сказы з адносінамі неадпаведнасці, у якіх састаўныя часткі звязваюцца пры дапамозе злучніка *ж(жа)*, складаюцца з дзвюх састаўных частак. Звычайна гэтыя часткі ўжываюцца ў форме разнастайных простых сказаў і характарызуюцца аднатыпнасцю сваёй будовы (гл. § 1052).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1054. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *і*, у якіх выражаюцца адносіны неадпаведнасці, таксама нешматлікія. Другая састаўная частка такіх сказаў звычайна мае адмоўнае значэнне, у выніку чаго неадпаведнасць з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках, праяўляецца асабліва выразна. Пры гэтым адносіны неадпаведнасці заўсёды суправаджаюцца выніковым адценнем: *Усе ляцелі к гэтай місе, і ніводныя не елі* (Я. Купала. У купальскую ноч). *Агонь пякельны грудзі паліць, і нечым той агонь заліць* (Я. Купала. Бываюць хвілі...). *Дзед Янусь працу любіў — і яму не давалі працы* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Фронта няма, і мы ў агні* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Мы ранілі ногі аб камяні, і нам не было балюча* (П. Панчанка. Краіна мая).

Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі, калі адносіны неадпаведнасці паміж састаўнымі часткамі ўскладняюцца адценнем адначасовасці, якое надаецца спалучэннямі *ў той час, разам з тым*, размешчанымі ў другой частцы непасрэдна за злучнікам *і*: *Алесь не мог яе груба абарваць у вочы, і ў той жа час яму было прыкра яе лапатанне* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Хацелася ўзяцца за якую-небудзь работу, і разам з тым слабасць апаноўвала яшчэ* (К. Чорны. Зямля).

§ 1055. У складаназлучаныя сказы са злучнікам *і* заўсёды ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў: *Ёсць, вядома, і другія дзяўчаты на вёсцы, і ўсё ж яны не раўня Васіліне!* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Дзед Янусь зямлю любіў — і яму не давалі зямлі* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Два чалавекі патрэбны геадэзістам, і тых няма!* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Вось-вось дзесьці шавеляцца ў памяці гэтыя словы, і ніяк не можна прыпомніць іх* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Жніва надыйдзе — і жаць нам няма чаго* (Я. Колас. Роднае поле). *Каторы раз мы рэкамендуем ім старшыню — і ўсё няўдала* (І. Шамякін. Падмочаны). *Сваё дзіця і столькі клопату!* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1056. Адносіны неадпаведнасці, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *але*, характарызуюцца пэўнай катэгарычнасцю і праяўляюцца надзвычай выразна. Часцей за ўсё ў састаўных частках такіх сказаў паведамляецца аб дзеяннях (станах, прызнаках), якія звязаны з рознымі асобамі або з рознымі прадметамі: *Усякі з нас летняму дожджыку рад, але тут ішла страшная летняя бура* (Я. Купала. Град). *Яе татка добры, але чагосьці яна баіцца яго* (Я. Колас. У палескай глушы). *Уся яго ўвага скіравана на гэтыя словы, але нічога не кажуць яны яму* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Было холадна ў ногі ад расы, але мы не чулі* (Я. Скрыган. Спатканне). *Спявала яна звычайна, але апладзіравалі ёй горача* (І. Шамякін. Першае спатканне).

Некалькі асобна стаяць складаназлучаныя сказы, дзе выказнік-дзеяслоў першай састаўной часткі абазначае дзеянне, якое намячалася да ажыццяўлення і для якога характэрна мадальнае адценне жадання, намеру і г. д. Аднак указанае дзеянне не мае магчымасці адбывацца, таму што існавала або перад самым яго пачаткам узнікла другое дзеянне, якое па свайму характару не адпавядае папярэдняму і якое абазначана выказнікам-дзеясловам другой састаўной часткі: *Настаўнік хоча загаварыць, але гутарка не клеіцца* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён так і збіраўся зрабіць, але жыццё неспадзявана перавярнула, перакруціла ўсё па-свойму* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Нешта хацеў сказаць Сілівон, але паліцай груба адштурхнуў яго вінтоўкай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Платон Астапавіч паімкнуўся злавіць унука, але той, звонка зарагатаўшы, уцёк да маці на кухню* (І. Шамякін. Памылкі). *Рабочы намерыўся загаварыць з майстрам, але таго паклікалі да тэлефона* (з газет).

У радзе складаназлучаных сказаў знаходзяцца састаўныя часткі, у якіх паведамляецца аб дзеяннях (станах, прызнаках), што ў той ці іншай ступені звязаны з адной і той жа асобай. У гэтым разе:

займеннік або назоўнік, які абазначае адну і тую ж асобу, выступае ў ролі дзейніка абедзвюх састаўных частак: *Ён адчувае фальшывасць свайго палажэння, але ён хоча паспрачацца з суседкаю* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *У мыслях яна была нават і рада гэтаму, але ад прыроды яна была трохі артыстка і спрытна праводзіла ролю зняважанай жонкі* (Я. Колас. Дрыгва);

займеннік або назоўнік, які абазначае адну і тую ж асобу, у адной састаўной частцы выступае ў ролі дзейніка, а ў другой — у ролі дапаўнення са значэннем суб'екта дзеяння: *Ён быў моцны кандыдат у героі, але з яго нічога не выйшла* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ёй, беднай, таксама непрыемна, але трымаецца яна геройскі і мяне падбадзёрвае* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Дзяўчыне было балюча, але яна маўчала* (І. Мележ. Мінскі напрамак);

займеннік або назоўнік, які абазначае адну і тую ж асобу, у першай састаўной частцы выступае ў ролі дзейніка, а ў другой — у ролі азначэння з указаннем на пэўную прыналежнасць суб'екта дзеяння другой састаўной часткі суб'екту дзеяння першай: *Хлопец прыслухоўваўся да ціхага людскога гоману ля шашы, але ўся яго ўвага была засяроджана на возе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Кузьма весяліўся разам з усімі, але сэрца яго было не на месцы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 1057. У тых выпадках, калі ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа знаходзяцца часціцы *ўсё, усё ж*, адносіны неадпаведнасці звычайна ўскладняюцца ўступальным адценнем: *Ёй ніхто не адказаў, але яна ўсё намагалася загаварыць з людзьмі, падзяліцца з імі думкамі, параіцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мне стала лягчэй на душы, але ўсё ж з вялікім жахам я азірнуўся навокал сябе* (К. Чорны. Насцечка).

Асабліва выразна праяўляецца ўступальнае адценне ў тых складаназлучаных сказах, дзе першая састаўная частка прадстаўляе сабою спалучэнні тыпу *думаць то думала, конь то конь*. Гэтыя спалучэнні звычайна выконваюць функцыю аднаго з членаў (галоўных або даданых) першай састаўной часткі складаназлучанага сказа: *Пачаць то пачаў, але чым скончыш?* (Я. Колас. Кантракт). *Думаць то думала, але неяк страшна* (Я. Купала. Паўлінка). *Седас то Седас, але чаму ж ён такі абшарпаны?* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Адносіны неадпаведнасці могуць ускладняцца не толькі ўступальным, але і ўмоўным адценнем. Гэта адбываецца ў асноўным тады, калі ў першай састаўной частцы складаназлучанага сказа знаходзяцца дзеясловы са значэннем абумоўленай магчымасці або словы катэгорыі стану з такім жа значэннем: *Можа яно там і правільна прадпісваюць дактары, але мне ў мае гады такія штукі не да спадобы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Можна было б мець і больш байцоў, але ўсё ж цяжка ісці вялікім атрадам* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Мог бы і ўздоўж прайсці, але ўначы ўсё ж небяспечна* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Яно-такі і трэба б даць вам фурманку, але ж коней нашых няма дома* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 1058. У складаназлучаныя сказы са злучнікам *але* заўсёды ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія могуць ужывацца ў форме двухсастаўных і аднасастаўных (галоўным чынам безасабовых) сказаў: *Нейкая думка вельмі засмучала яго і не давала спакою, але выказаць яе ён не адважваўся* (Я. Колас. Чоран). *Андрэй хацеў ёй сказаць што-небудзь ласкавае, але язык не слухаў* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Яна б адступіла, але чыгунная агарожа не пускае яе* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Лабановіч стараўся заснуць, але яму не спалася* (Я. Колас. У палескай глушы). *З выгляду Сцёпка ціхі хлопчык, але ваяцкага запалу ў ім досыць многа* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Мне страшна, але іду* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Хацеў бы іграць на жалейцы, але ж трэба даць спаць напрацаваным людзям* (З. Бядуля. Жалейка). *Трэба было б вышэй падкласці пад галаву саломы, але ёй было цяжка паварушыцца* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Трэба было ратаваць жарабца, але нікому са стражнікаў не хацелася разувацца і лезці пэцкацца ў гразь* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Спецыфічнай асаблівасцю складаназлучаных сказаў са злучнікам *але* з'яўляецца тое, што пры выражэнні неадпаведнасці дзеянняў адной і той жа асобы ў ролі дзейніка другой састаўной часткі звычайна выступае не займеннік *сам*, а асабовы займеннік: *Марыся Шпала — жанчына хітрая і прабеглая, але і яна папалася на Самабыліхіну вудачку* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Да гэтай хвіліны я не думаў аб яго смерці, але цяпер і я пачаў сумнявацца ў яго выратаванні* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1059. Па характару сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназлучаныя сказы са злучнікам *ды* надзвычай блізкія да складаназлучаных сказаў са злучнікам *але*. Аднак у адрозненне ад апошніх гэтыя сказы ўжываюцца пераважна ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры.

У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды* звычайна перадаецца неадпаведнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў), якія звязаны з адной і той жа асобай або з рознымі асобамі ці рознымі прадметамі: *Падкурчаныя ногі ныюць, ды я баюся правіць іх* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Сцямнела дайно на двары, ды сон не хіліў галавы* (П. Броўка. Па дарозе Мінск—Масква). *Смачны жабе арэх, ды зубой бог не даў* (К. Крапіва. Партызаны). *Ты будзеш каяцца, ды будзе позна* (П. Глебка. Арка над акіянам). *А пара зажаць нам тую ніву, ды няма чаго схапіць касе* (А. Бялевіч. Прыкмета вясны). *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* (прыказка).

Асабліва пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх першая састаўная частка змяшчае паведамленне аб дзеянні, што намячалася да ажыццяўлення, але ў сілу пэўных акалічнасцей, аб якіх паведамляецца ў другой састаўной частцы, не магло ажыццявіцца. Адносіны неадпаведнасці ў такім разе звычайна суправаджаюцца прычынна-выніковым або ўмоўна-выніковым адценнем: *Хацелася б суняць душу, ды крыўда не пускае* (П. Броўка. Добры друг). *Намерылася ўжо выйсці, ды маці штосьці затрымала* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Я сам збіраўся напісаць, ды ўсё, праўду кажучы, часу не было* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *Вазок ужо гатовы быў перакуліцца, ды Аляксей прытрымаў яго нагою* (І. Гурскі. У вялікай дарозе). *Трэба было б плакаць, ды слёзы не ішлі* (Р. Мурашка. Сын).

§ 1060. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды* заўсёды знаходзяцца дзве састаўныя часткі, адна з якіх часцей за ўсё мае форму простага двухсастаўнага, а другая — аднасастаўнага сказа: *Змалоць за сёння б льга, ды, мусіць, на млыне на тры вярсты чарга* (А. Куляшоў. Глушцы). *Граў бы я многа, ды сіл не хватае* (Цётка. Грайка). *Эх, сказаў бы я вам нешта вясёленькае, ды вось не выйдзе* (Я. Брыль. Прывал). *Ён не тое хацеў сказаць, а штось другое, ды так сказалася* (Я. Колас. Новая зямля). *Хацелася нешта сказаць, ды словы не ішлі* (Р. Мурашка. Сын). *Не блага б спачыць, ды важны наказ пад ватоўкай ляжыць* (П. Глебка. Пасланец).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі выступаюць у форме двухсастаўных або аднасастаўных сказаў: *Смяяцца хацеў бы я, ды губы не горнуцца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Хацелася нешта сказаць, ды не знаходзілася слоў* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Вось бы кветак сюды зноў тых вясніх, ды няма ў нас у стэпе такіх* (П. Прыходзька. Сустрэча).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *аж* (*ажно*)

§ 1061. Складаназлучаныя сказы, у якіх адносіны неадпаведнасці афармляюцца пры дапамозе злучніка *аж(ажно)*, сустракаюцца галоўным чынам у размоўным стылі. Сінтаксічныя адносіны ў такіх сказах заўсёды ўскладняюцца дадатковымі адценнямі раптоўнасці або нечаканасці: *Я думаў Анатоля за доктара выводзіць, аж не выйшла* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Я свайго Ігнася ўсё думала вывучыць, аж не давялося* (Р. Мурашка. Сын). *Селі яны на прызбе, хочуць закурыць, аж агню няма ні ў кога* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Думаў сам зраблю, ажно не атрымалася* (З. Бядуля. У дрымучых лясах).

§ 1062. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *аж(ажно)*, у якіх выражаюцца адносіны неадпаведнасці, складаюцца з дзвюх састаўных частак. Адна састаўная частка звычайна мае форму двухсастаўнага, а другая — аднасастаўнага сказа (гл. § 1061).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *дык*

§ 1063. Злучнік *дык* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з адносінамі неадпаведнасці ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры. Сінтаксічныя адносіны тут звычайна ўскладняюцца прычынна-выніковым або ўмоўна-выніковым адценнем: *Пара б і вучыцца, дык школы няма* (Я. Колас. Радасная сустрэча). *Падацца да санітараў, дык рана завельмі лёгкая* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Прабавала Аўдоля, застаўшыся салдаткаю, сама гаспадарыць, дык дзе ж вы бачылі...* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Частую добрай скваркай, дык не бяруць яны* (М. Лужанін. Хадок).

Адносіны неадпаведнасці могуць праяўляцца ў такой форме, дзе адны з'явы і падзеі толькі намячаюцца да ажыццяўлення, бо перад гэтым узнікаюць другія з'явы і падзеі і не даюць магчымасці ажыццявіцца папярэднім: *Хацеў выспацца, дык не даюць* (К. Чорны. Звяга). *Думаў схадзіць да пісара, дык адгаварыла жонка* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён памкнуўся нешта сказаць, дык на трэцім ці на чацвёртым слове затапілі яго голас яшчэ бурнейшым выбухам гвалту* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 1064. У складаназлучаныя сказы са злучнікам *дык* уваходзяць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Я яму кагадзе палажыў травы з балота, дык ён* [конь] *не есць* (К. Чорны. Зямля). *Чалавек заўсёды павінен аб сабе дбаць, дык дзе вы бачылі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Загадалі ёй паліто аддаць, дык не хоча, упіраецца* (там жа). *Ёй скажы, дык яна 'шчэ злуе...* (там жа). *Самому зрабіць, дык ахвоты няма* (З. Бядуля. У дрымучых лясах).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМІ *аднак, толькі*

§ 1065. У большасці выпадкаў злучнік *аднак* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з адносінамі неадпаведнасці ў навукова-дзелавым стылі і мове мастацкай літаратуры, а злучнік *толькі* — у размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры. Сінтаксічныя адносіны, афармленыя паміж састаўнымі часткамі пры дапамозе гэтых злучнікаў, заўсёды ўскладнены мадальным адценнем абмежавальнага пярэчання і надзвычай блізкія па свайму характару. Часцей за ўсё ў складаназлучаных сказах з такімі адносінамі перадаецца неадпаведнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў), якія звязаны з адной і той жа асобай або з рознымі асобамі ці прадметамі: *Такі старанны гэты Кох, аднак і ён нечага не дагледзеў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У хлопцаў не было настрою да смеху і жартаў, аднак яны не далі на гэта выгляду* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *На заводзе даўно ўжо гудкі прагудзелі, аднак — бацькі няма* (А. Александровіч. Таварыш сын). *Ой, даўно б я ўсё пакінуў, толькі ж многа слёз я лінуў* (Я. Колас. Эй, скажы мне, небарача...). *Кветка сама прыйдзе ў рукі, толькі сэрца спапялее* (Я. Купала. У купальскую ноч). *Можна было б і перапраўляцца, толькі ці вытрымаюць берагі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Сустракаюцца часам выпадкі, калі ў першай састаўной частцы складаназлучанага сказа паведамляецца аб такім дзеянні, якое пачало ажыццяўляцца, але не ажыццявілася, таму што яго перапыніла іншае дзеянне, аб якім паведамляецца ў наступнай састаўной частцы. Гэта

з'ява ўласціва пераважна тым сказам, дзе ў якасці граматычнага сродку сувязі састаўных частак выступае злучнік *аднак: Паўлік затупацеў на месцы, паспрабаваў упарта супраціўляцца, працягнуў нават руку ў бок дыміўшыхся кастроў, аднак маці настойліва пацягнула яго за сабою* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Раскрыліся б сакрэты, аднак у гэты міг, як той жаніх адзеты, кум падышоў да іх* (А. Александровіч. Цені на сонцы).

§ 1066. Для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў іншы раз ужываецца злучнік *аднак* у спалучэнні са злучнікам *і*, а злучнік *толькі* ў спалучэнні са злучнікам *ды*. Адносіны неадпаведнасці ў першым выпадку звычайна падаюцца ў плане адначасовасці, а ў другім выпадку — у плане рэзкага супрацьстаўлення: *Яе нельга было назваць прыгожай, і аднак жа рысы яе твару былі мілыя і прывабныя, выклікалі нейкую асаблівую сімпатыю* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *У сяле іграла музыка, ды толькі цяпер Лісоўскі яе не чуў* (І. Гурскі. Расцвілі вішні).

Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікамі *аднак* і *толькі* могуць ужывацца ў форме двухсастаўных або двухсастаўнага і аднасастаўнага сказаў: *Аж твар яе пачарнеў ад болю, аднак нічога падазронага млынар не заўважыў* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ён не адчуваў страху, толькі ўсё цела як бы напрудзілася* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Можа нават яны плачуць, толькі слёзак іх не бачаць* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Няма часу дзівіцца гэтаму, аднак Лейба дзівіцца* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Цяпер ужо смела можна б было лічыць Адама зусім дарослым і самастойным чалавекам, аднак людзі чамусьці ўсё яшчэ завуць яго Адамкам* (А. Кулакоўскі. Вечар трактарыста).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З СУПРАЦІЎНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1067. Супраціўныя адносіны характарызуюцца тым, што супастаўляемыя з'явы і падзеі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках складаназлучаных сказаў, маюць супрацьлеглыя значэнні. У складаназлучаных сказах з гэтымі адносінамі заўсёды знаходзяцца суадносныя паміж сабою словы-антонімы або словы, блізкія да антонімаў. Лексіка-граматычныя значэнні такіх слоў і ляжаць у аснове выражэння супраціўных адносін.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з супраціўнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *а, ж(жа), але, ды, аднак, толькі, затое* і інш.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1068. У большасці складаназлучаных сказаў са злучнікам *а* супрацьстаўленне грунтуецца на адначасовым супастаўленні дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў, абазначаных выказнікамі і дзейнікамі састаўных частак. *Схапіўся Костуська і скача, а маці з гора чуць не плача* (Я. Колас. Новая зямля). *Людзі робяць, а ён туляецца, круціць* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Ты крыўдзілася, а я смяяўся* (Я. Скрыган. Таіса). *Хата халодная, а печ была цёплая* (Я. Колас. Дрыгва). *Усё міне, а праўда застанецца* (А. Звонак. Усё міне...). *Я — раб без імя і аблічча, а ён—вяльможны і багат* (М. Машара. Мамчына горка).

У некаторых выпадках супрацьстаўляюцца дзеянні (станы, прызнакі) і звязаныя з імі суб'ект, абазначаны дзейнікам адной састаўной часткі, і суб'ект ці аб'ект, абазначаны дапаўненнем другой састаўной часткі: *Руцкага дык усе маюць за актывіста, а я дык не актывіст* (К. Чорны. Трухлявае кола). *Добрыя людзі гаспадаркай заводзяцца, а ў нас апош-*

*няе гіне* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Мяшчане смяяліся, а яму нязмерна было горка і млосна* (Ц. Г а р т н ы. Помста). *Яна злуецца, а мне смешна* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Ён адзін, а нас жа многа* (У. Д у б о ў к а. Паставы).

Супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа суправаджацца аднačасовым супрацьстаўленнем аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі, або акалічнасцей састаўных частак: *Пану цівуну варон страляць, а нам спіны гнуць* (З. Б я д у л я. Салавей). *Усё ад нас забралі, а што нам далі вы?* (Я. К о л а с. Ворагам). *Іх прывязвае жыццё на адным месцы, а мяне гоніць, не дае спыніцца* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Машын мала, а патрэбы на іх многа* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Два месяцы ішла — не баялася, а цяпер баюся чамусьці* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Значыць, гаварыць можна было раней, а цяпер працаваць трэба* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).

Часам у складаназлучаных сказах супрацьстаўляюцца дзеянні (станы, прызнакі) і іх суб'екты разам са звязанымі з імі аб'ектамі, акалічнасцямі і іншымі элементамі, якія абазначаны адпаведнымі сінтаксічнымі адзінкамі ў кожнай з састаўных частак: *Ты ела смачныя рэчы, а яны душыліся заціркай з мякіны* (З. Б я д у л я. Салавей). *Бедны пот лье, а багаты яго кроў п'е* (прыказка). *Бушавала бура з сілай нечуванай, а вы йшлі напорна крокам нестрыманым* (Я. К о л а с. Змаганнікам за Кастрычнік). *У вачах тваіх іскрыцца сонца поўдня, а мае авеяны сіняю смугой* (А. З в о н а к. Шумавала мора...). *Падзьмулі халодныя вятры над Доўгім, а ў доўгаўскіх жыхароў настала самая гарачая пара* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *На ўскраінах ціш, а трывога навісла над цэнтрам* (П. Г л е б к а. Крывавая нядзеля). *Меў ён выгляд чарнявы тады, а цяпер валасы пасівелі* (А. К у л я ш о ў. Алёнка). *Наўперад Алена сама адлівала пэўную порцыю малака сваім падсуседнікам, а цяпер пані Даміцэля адлівала пэўную порцыю гаспадыні* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам).

Сустракаюцца нешматлікія выпадкі, калі ў супраціўных адносінах знаходзіцца тое, што абазначана выказнікам адной састаўной часткі, і тое, што абазначана якім-небудзь членам (не выказнікам) другой састаўной часткі: *Чаму ён павінен быць партызанам, а я дома сядзець?* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Вечна ім гульні ды смешкі, а працаваць хто будзе* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Але ўсё гэта адзінкі, а трэба масавасць* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Цёплая радасць з'яўляецца ў душы за сваіх татку і мамку, а за сябе робіцца неяк яшчэ горш сумна* (А. К у л а к о ў с к і. Першы малюнак).

Асабліва выразна праяўляюцца супраціўныя адносіны ў тых складаназлучаных сказах, у якіх першая (у рэдкіх выпадках другая) састаўная частка мае адмоўнае значэнне: *Не рэкі гамоняць, а зброя звініць!* (П. Б р о ў к а. Беларусь). *Не прыродай ты створана, старай вадой, — а ты створана сілаю новай людской!* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Не сам я твой воблік прыдумаў, а цябе мне Радзіма дала* (П. Г л е б к а. У шчаслівай сям'і). *Здаецца не хвалі так смела бушуюць, а львы белагрывыя скачуць* (А. З в о н а к. На Волзе). *Вас варожыя збілі асколкі, а не вецер з галін пазрываў* (А. К у л я ш о ў. Лісты).

§ 1069. Супраціўныя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў са злучнікам *а*, могуць ускладняцца дадатковымі адценнямі. Гэтыя адценні залежаць у асноўным ад наяўнасці ў састаўных частках пэўных часціц або слоў прыслоўнага паходжання. Так, напрыклад, часціцы *ўсё, усё-такі, хоць*, якія звычайна знаходзяцца ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа, а таксама часціца *то*, якая знаходзіцца ў першай састаўной частцы складаназлучанага сказа, ускладняюць супраціўныя адносіны ўступальным адценнем: *Жонка даўно спіць, а Крушынскі ўсё сядзіць за сталом і думае*

(З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ляжы сабе, а лякарства ўсё ж такі я табе дам* (Я. Колас. Выстагнаўся). *Усё роўна дома сну не будзе, а тут хоць не душна* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Я то з ім паладжу, а вось суседа ён напэўна злопае* (К. Крапіва. Ці была ў яго галава?).

Супраціўныя адносіны ўскладняюцца ўступальным адценнем і ў тых выпадках, калі ў адной з састаўных частак знаходзяцца прыслоўі *ўжо* або *яшчэ*. Але калі гэтыя прыслоўі ёсць у абедзвюх частках і ўтвараюць суадносныя пары *ўжо — а яшчэ, яшчэ — а ўжо*, то супраціўныя адносіны суправаджаюцца не толькі ўступальным, але і ўзмацняльным адценнем: *Няхай хіба яны вучацца, а мы ўжо так дажывём* (Я. Колас. У палескай глушы). *Я ўжо колькі работы зрабіла, а вы кагадзе ўзварушыліся* (К. Чорны. Зямля). *Усюды яшчэ ляжыць снег, а подых вясны чуваць выразна* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Торфасезон на заводзе даўно пачаўся, а газета яшчэ не занялася як належыць вытворчымі пытаннямі* (з газет). *Ужо Дзетка і план свой выканаў, а сякія-такія запасы яшчэ трапляліся* (М. Лыњкоў. Векапомныя дні). *Відно яшчэ як, а ў лесе ўжо зусім цёмна* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 1070. Складаназлучаныя сказы, у якіх супраціўныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *а*, маюць разнастайную будову. Найбольш пашыраны сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму двухсастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння: *Людзі спяваюць, а яна, дзівачка, плача* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *На поўнач ішлі лясы, а на поўдзень мясцовасць была чыстая, зусім адкрытая* (К. Чорны. Трыццаць год). *Арцём адно мяркуе, а жыццё другое рыхтуе* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Рыльскі быў са мною як брат родны, а ўсе да мяне як звяры* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ён ластаўкі крыло любіў, а зараз над ім крыло драпежніка ўзнялося* (М. Лужанін. Вечны подзвіг). *Паны балююць, а мужыкі гаруюць* (прыказка).

Калі ў складаназлучаным сказе паведамляецца аб супрацьстаўленні дзеянняў (станаў, прызнакаў) адной і той жа асобы або прадмета, дзейнік першай састаўной часткі часцей за ўсё адсутнічае, а ў якасці дзейніка другой састаўной часткі выступае займеннік *сам*. Аднак магчымы і такія выпадкі, калі дзейнікі ўжываюцца ў абедзвюх састаўных частках або ўжываюцца ў адной частцы і апускаюцца ў другой: *Стаілася каля акна і за Сцёпкам цікуе, а сама не паказваецца* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Не заломіш ты ў роспачы рукі, а сама пабудуеш свой лёс* (П. Глебка. Спаткаем вясну). *Мы не сцены ставім, не дамы, а мы будуем шчасце чалавеку* (П. Глебка. Будаўнікі). *Аб многім яна думала ў дарозе, а вось аб самым галоўным і не падумала* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Калі ж адным і тым жа словам выражаны выказнікі састаўных частак, то яны звычайна апускаюцца ў абедзвюх састаўных частках або ўжываюцца ў адной састаўной частцы і апускаюцца ў другой: *Згуба камусьці, а ім — барышы* (К. Крапіва. Майстры крывавага джаза). *Мы да вас з душой, а вы з пагардай* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Сам ён жыў салодка, а беднота — горка* (Я. Купала. Калгасу «Чырвоны баец»).

У абедзвюх састаўных частках такія выказнікі ўжываюцца толькі тады, калі супрацьстаўленне мае ярка акрэслены характар і ў першай састаўной частцы ёсць адмоўе *не* (іншы раз у спалучэнні з часціцай *толькі*): *Сіла працоўная не памірае, а памірае драпежнік пракляты* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *Не толькі Малюга крычыць на яго, а крычыць увесь натоўп* (Я. Скрыган. На грані).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму аднасастаўных сказаў, а таксама складаназлучаныя

сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму аднасастаўнага, а другая — двухсастаўнага сказа: *Людзям весела, а ёй горка* (Я. Колас. Кінахроніка). *Хвастоў многа, а толку мала* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Усе сябры лісты чытаюць, а ад цябе лістоў няма* (П. Прыходзька. Ад цябе лістоў няма). *У цёплыя летнія дні адсюль тхло холадам, а зімой вада была цёплая і не замярзала* (А. Кулакоўскі. Шляхам жыцця).

Адметнай рысай з'яўляецца тое, што другая састаўная частка складаназлучаных сказаў можа складацца з супраціўнага злучніка і аднаго з супрацьстаўляемых членаў: *Людзі горы варочаюць, а вы?* (М. Лынькоў. Баян). *Я ўсе сілы аддаю, а ты...* (П. Пестрак. А гудок гудзеў...). *У нас яна прывыкла к мяккаму хлебу, а там...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *У мінулым годзе тут лапінкі незасеянай зямлі нельга было знайсці, а зараз...* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У складаназлучаных сказах з супраціўнымі адносінамі могуць знаходзіцца агульныя члены, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку сказаў: *У цябе двое коней летась было, а дзяцей малых няма* (К. Чорны. Зямля). *Для кожнай птушкі дзень кароткі, а ноч доўгая* (Цётка. Пералётныя птушкі). *Цяпер ён ляжыць мёртвы, а Генрых Віззнер жывы* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ж (жа)*

§ 1071. Сярод складаназлучаных сказаў са злучнікам *ж (жа)* часцей за ўсё сустракаюцца сказы, у якіх супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, падтрымліваецца адначасовым супрацьстаўленнем суб'ектаў, абазначаных дзейнікамі гэтых частак: *Ліха знойдзе ўсюды, шчасце ж уцякае* (Я. Колас. Дні ідуць за днямі). *Ён памёр у канцы лета, я ж вандрую жабраком* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Усё знікае, праходзіць, як дым, светлы ж след будзе вечна жывым* (М. Багдановіч. С. Е. Палуяну). *Паны-ліхадзеі дабро наша жэрлі, мужыцкія ж дзеці гібелі і мерлі* (Я. Колас. Восеньскае). *Нявольнік — я, яны ж — паны* (М. Машара. Мамчына горка).

Іншы раз тое, што абазначана дзейнікам першай састаўной часткі, супрацьстаўляецца таму, што абазначана дапаўненнем другой састаўной часткі, і наадварот: *Але ў кватэры былі толькі адны маўклівыя кнігі, жывога ж чалавечага голасу не чуваць было* (Я. Колас. Адукацыя). *Толькі нямногім шчаслі́ўчыкам удаецца папасці ў гэтыя школы, пераважная ж большасць маладых людзей застаецца за парогамі школы* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Весела пан з паняй едзе за граніцу, мужыку ж хоць зубы злажы на паліцу* (Я. Купала. На старую ноту). *Вас праўда не ўсцешыла, няпраўды ж не знаю ў душы я сваёй* (Я. Купала. Вы кажаце...).

У радзе выпадкаў супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх аб'ектаў падтрымліваецца адначасовым супрацьстаўленнем суадносных паміж сабою слоў, якія выступаюць у ролі дапаўненняў або акалічнасцей: *Хлеб наш людзі ядуць, мы ж мякіну жуём* (Я. Купала. За сахой, бараной...). *Вы пра гора, ды пра гора, я ж хачу пра шчасце* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Час беліць валасы, кладзе на твар маршчыны, трывогі ж цень касы не засціць далягляд* (А. Звонак. У дарозе). *Каралі найлепей б'юцца, мужыкі ж найбольш кладуцца* (Я. Купала. Як кароль у паход выходзіў).

§ 1072. Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны адным і тым жа словам. Супраціўныя адносіны ў іх грунтуюцца на супастаўленні тых членаў састаўных частак, якія па сваймy характару з'яўляюцца антонімамі: *Робіць ён*

*пустыню садам, вы ж — пустыняю сады* (П. Панчанка. Ніагара).

§ 1073. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ж (жа)* заўсёды ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Формы жыцця абмежаваны, само ж жыццё не мае граніц* (Я. Колас. У палескай глушы). *З цябе свет багаты, ты ж усіх бядней* (Я. Купала. Араты). *Ноч пяройдзе цераз горад хутка, вуліцы ж нямоўчныя пульсуюць* (У. Дубоўка. Кругі). *Насця звычайна выходзіла на спатканне яму, цяпер жа яе тут не відаць было* (Я. Колас. Адукацыя). *Макаркі і Лёніка не відаць было, дарога ж на Падбор'е і чалавек на ёй ім відны былі добра* (Я. Колас. Макарка Навак). *Але лёгка загадваць, выконваць жа загады было куды цяжэй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1074. Самае вялікае месца сярод складаназлучаных сказаў са злучнікам *але* займаюць сказы, у якіх супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, суправаджаецца аднachасовым супрацьстаўленнем іх суб'ектаў, абазначаных дзейнікамі гэтых частак. Характэрнай асаблівасцю такіх сказаў з'яўляецца тое, што выказнік другой састаўной часткі заўсёды мае пры сабе адмоўе *не* або з'яўляецца антонімам да выказніка першай састаўной часткі: *Поўнач пеўні пракрычалі, але не спіць маці* (Я. Колас. Маці). *Пайставаць будуць тыраны, але мы не зляжам* (Я. Купала. Перад бурай). *Часам раздаваўся бой гадзінніка, але Салавей не чуў* (З. Бядуля. Салавей). *Палавіна вёскі згарэла, але наш будынак неяк уцалеў* (Ц. Гартны. На руінах). *Уверх цягнуліся рэдкія іскры з агню, але чорныя вяршыны хвой тушылі іх* (М. Лынькоў. Сустрэчы). *Былі звязаны рукі ў Багуцкага, але свабодныя былі ногі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Супраціўныя адносіны праяўляюцца надзвычай выразна ў тых складаназлучаных сказах, у якіх дзейнікі састаўных частак абазначаюць розных асоб, а выказнік першай састаўной часткі перадае просьбу, жаданне, намер, намечанае да ажыццяўлення дзеянне і г. д., тады як выказнік другой састаўной часткі (часам у спалучэнні з іншымі членамі) паведамляе аб невыкананні гэтай просьбы, жадання і г. д.: *Вечарам Аўгіня чакала яго, але Мартын не прыйшоў* (Я. Колас. Дрыгва). *Я хацеў ісці і злавіць яго, але мяне не пусціла цётка Кетэ* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Йонас і Зосітэ прапанавалі Алесю пайсці паскакаць, але той адмовіўся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Мама хацела ўзяць чыгун сама, але дзед ёй не даў* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Міхась парываецца ўстаць, але боль у назе і цяжкая праз меру галава зноў прыціскаюць яго да пасцелі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Нешматлікімі з'яўляюцца выпадкі, калі супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) суправаджаецца аднachасовым супрацьстаўленнем таго, што абазначана дзейнікам адной састаўной часткі, і таго, што абазначана дапаўненнем або акалічнасцю другой састаўной часткі: *Усе машыны ў парадку, але гаручага няма* (Э. Самуйлёнак. Пункт апошні). *Не было сілы, але быў запал і энергія* (Я. Скрыган. Новая зямля). *Далоні яе рук сталі шурпатымі ад усёй гэтай работы, але ў сэрцы запанавала гордае ўсведамленне выкананага абавязку* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

У некаторых складаназлучаных сказах супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, можа падтрымлівацца аднachасовым супрацьстаўленнем слоў, якія выступаюць у ролі дапаўненняў, азначэнняў або акалічнасцей гэтых частак: *Пісаніны многа, але толку мала* (І. Шамякін. У добры час). *Высока твой сынок падымацца хоча, але каб нізка не зваліўся* (Я. Купала.

Раскіданае гняздо). *Маўчалі скаваныя нетры, але жывы падняўся кліч* (П. Глебка. Памяці У. І. Леніна). *Жанчына яна скупая на словы, але справа гарыць у яе руках* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *У цябе, праўда, шрам на руцэ не астаўся, але ў мяне на грудзях знак выразны* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Мінуліся, мае сябры, падзеі жорсткай явы, але застаўся успамін і песні мужнай славы* (П. Глебка. У тыя дні).

§ 1075. Дадатковыя адценні, якімі суправаджаюцца супраціўныя адносіны, залежаць ад структурна-граматычных і лексічных асаблівасцей састаўных частак складаназлучаных сказаў. Так, напрыклад, часціцы *ўсё, усё ж* і інш., якія знаходзяцца ў другой састаўной частцы, а таксама часціца *то,* якая знаходзіцца ў першай састаўной частцы, заўсёды надаюць супраціўным адносінам уступальнае адценне: *Глыбокая ноч, але Сімону ўсё не спіцца* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ямка была мелкая, але ўсё ж у ёй Юрый адчуў сябе больш надзейна* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Вёску ён абышоў стараною, але яго ўсё роўна ўбачылі* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Вечарынка быць то будзе, але не ўсе на ёй будуць* (Я. Купала. Паўлінка).

Супраціўныя адносіны ўскладняюцца ўступальна-ўзмацняльным адценнем тады, калі ў адной з састаўных частак складаназлучанага сказа знаходзіцца прыслоўе *ўжо* або *яшчэ.* Калі ж адзначаныя прыслоўі знаходзяцца ў абедзвюх састаўных частках, утвараючы суадносныя пары *ўжо—але яшчэ, яшчэ — але ўжо,* то ўступальна-ўзмацняльнае адценне праяўляецца асабліва выразна: *Ужо даўно звечарэла, але ў хатах усюды свяціліся агні* (Я. Колас. У палескай глушы). *Недзе свяціў месяц, але тут яго ўжо не было відаць* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Рэдактар яшчэ гаварыў, але яго ніхто не слухаў* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *З травы і зелля сыпалася спелае насенне, але кветкі яшчэ цвілі* (К. Чорны. Сцяпанавы дзеці). *На зямлі было ўжо змрочна, але неба было яшчэ яснае* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *Чарот яшчэ зялёны, але вада ўжо дыхае холадам восені* (Я. Брыль. Вачыма друга).

Зрэдку ўступальнае адценне, якім ускладняюцца супраціўныя адносіны, падкрэсліваецца не наяўнасцю пэўных часціц або прыслоўяў, а вынікае непасрэдна са зместу складаназлучанага сказа: *Сабачае жыццё незайздроснае, але ніякіх павіннасцей сабака не нясе* (Я. Колас. Наталька, Джон і муха). *Выразна яны нічога не высвятлялі, але заўсёды пасля іх варушыліся надзеі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Слабы быў дзіцячы ўдар, але Сомік схапіўся за галаву і прысеў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Урок, можа, невялікі, але ён спатрэбіцца* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Сустракаюцца нешматлікія складаназлучаныя сказы, у якіх супраціўныя адносіны ўскладнены адценнем адначасовасці. Гэта адценне знаходзіць сваё граматычнае выражэнне ў спалучэннях *разам з гэтым, разам з тым,* якія звычайна размешчаны ў другой састаўной частцы непасрэдна са злучнікам *але*: *Панна Марына, без спрэчкі, мела перавагу над Ядвісяю ў хараstве, але разам з гэтым Марына ўступала Ядвісі ў разнастайнасці праяўлення жыцця* (Я. Колас. У палескай глушы). *Сэрца яго калацілася, але разам з тым цвёрдасць намераў уціхамірвала яго хаду* (К. Чорны. Вялікае сэрца).

§ 1076. У складаназлучаных сказах са злучнікам *але* аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі, якія могуць мець разнастайную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі рознага лексічнага значэння: *Дзяўчаты клікалі вяснянак, але напеў самотны быў* (П. Глебка. Пачатак вясны). *Ён не гаварыў пра падрабязнасці, але Аляксей уяўляў іх* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Далёка бераг, але плыву* (Т. Хадкевіч. Плытагоны). *Ён папрасіў слова і пачаў апраўдвацца, але яму не далі дагаварыць* (І. Шамякін. Падмочаны). *Яго просяць чытаць, але ён катэгарычна адмаўляецца* (Б. Мікуліч. Развітанне). *Дзьмуў вецер, але было цёпла* (К. Чор-

н ы. Дарагуся). *Гладкі канцылярскі почырк, але вельмі непісьменна пісана* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Было хмарна, але дажджу не было* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі).

Мала пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх дзейнікі састаўных частак выражаны словамі, якія абазначаюць адну і тую ж асобу або адзін і той жа прадмет. У першым выпадку ў ролі дзейніка другой састаўной часткі можа выступаць займеннік *сам. Алесь за печчу весялее, але падняцца ён не смее* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Не славіцца багаццем мой грудок, але ён просты і адкрыты* (Я. К о л а с. Вусцянскі груд). *Візэнер груба піхнуў дзверы нагой, але сам не пайшоў першым, а прапусціў спачатку трох салдат* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Выказнікі састаўных частак могуць быць выражаны адным і тым жа словам толькі тады, калі пры іх знаходзіцца адмоўе *не: Потым вайна скончылася, але не скончылася барацьба* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *Маўчаць гарматы, але ў вушах не моўкне гром* (П. Г л е б к а. У тыя дні). *Страчана сіла крылляў, але не страчана мара пра новы ўзлёт* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах).

Характэрнай асаблівасцю складаназлучаных сказаў са злучнікам *але* з'яўляецца тое, што другая састаўная частка іншы раз складаецца або з аднаго супраціўнага злучніка, або побач са злучнікам размяшчаецца адзін з супрацьстаўляемых членаў: *Клуня добрая, але...* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Я проціў цябе нічога не маю, але ты!* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Мяне не запалохаюць, але цябе...* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Тут ціха і ўтульна, але там!* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1077. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды* супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, часцей за ўсё суправаджаецца адначасовым супрацьстаўленнем таго, што абазначана дзейнікамі гэтых частак: *Налятай віхор з навальніцаю, ды не гнуўся ты перад бураю!* (Я. К о л а с. Дуб). *Не дужа вялікі калгас «Слабада», ды дужа прыемна яго грамада* (Я. К о л а с. Калгасу «Слабада»). *Янка і Карла суседзі былі, ды розныя сцежкі іх змалку вялі* (К. К р а п і в а. Янка і Карла). *Устаюць успаміны ў душы, ды не вернуцца радасці дні* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі). *Стралялі чужынцы, ды цудам бярозка ўцалела* (А. К у л я ш о ў. Бярозка). *Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі* (І. Г у р с к і. Шумяць лясы зялёныя).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) суправаджаецца адначасовым супрацьстаўленнем звязаных з імі акалічнасцей ці аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі састаўных частак: *Варон на свеце многа, ды некаму страляць* (Я. К у п а л а. І як тут не смяяцца). *Ад усіх цяпер патомкі ёсць, ды няма адных — Страцімавых* (М. Б а г д а н о в і ч. Страцім-лебедзь). *Соладка спявае, ды горка слухаць* (К. Ч о р н ы. Радасць жанчыны). *Вельмі проста паслаць нам людзей на бяду, ды не проста прыняць смерць ім* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча).

У некаторых выпадках супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў можа суправаджацца адначасовым супрацьстаўленнем слоў, у ролі якіх выступаюць дапаўненні, азначэнні і акалічнасці састаўных частак: *Палонка лёдам моцна скута, ды працы тут адна мінута* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Ты ж грушы расціў на вярбе, ды я не спускаў цябе з вока* (Я. К о л а с. Адплата). *Нецярпліва жджэ хлапчына, ды не скора вечарок* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Я, вядома, у тым ліку быў нядрэнны будаўнік, ды нядаўна невялікі ў мяне канфлікт узнік* (П. Г л е б к а. Расказ цесляра). *Старая прывычка ў старых засталася,*

*ды гутарка ў іхнім «клубе» была, вядома, новая* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Быў цяжкі туман над старой вёскай, ды лёгкімі і новымі былі думкі ў жанчыны* (К. Чорны. Радасць жанчыны).

§ 1078. Супраціўныя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды*, могуць ускладняцца ўступальным або ўступальна-ўзмацняльным адценнем. Гэтыя адценні звычайна надаюцца ўвядзеннем у склад адной або абедзвюх састаўных частак прыслоўяў *ужо* і *яшчэ*: *Карусь ужо быў нарыхтаваўся кідаць, ды Грыпіна вырвала люльку з яго рук* (Я. Колас. Недаступны). *Яшчэ доўга б, мусіць, людзі гаварылі, ды акон крануўся золак сінім крыллем* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Сляды гарачыні яшчэ на тварах носім, ды паплылі ўжо дні у залатую восень* (П. Панчанка. Восень).

§ 1079. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ды* ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія звычайна маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія* (Я. Колас. Адукацыя). *Бег ён коратка ці доўга, ды ўзяла сваё знямога* (А. Звонак. Залаты алень). *Шум над каласамі, ды яны не чуюць* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Грозен рак, ды вочы ззаду!* (К. Крапіва. Біблія людаеда). *Сядзелі б так бясконца, ды не чакала сонца* (П. Броўка. Родныя берагі). *Мы б пагутарыць рады, ды цяпер не пара* (П. Глебка. Партызаны). *Есць, безумоўна, такія словы, ды іх не хочацца вымаўляць* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Вяслуюць усе, ды толку мала* (М. Танк. Казка пра музыку).

Калі дзейнікі састаўных частак выражаны словамі, якія абазначаюць адну і тую ж асобу або адзін і той жа прадмет, то выказнікі састаўных частак маюць рэзка супрацьлеглае лексічнае значэнне, а адзін з іх заўсёды мае пры сабе адмоўе *не*: *Згодна ў полі ўздоўж дарогі каляінкі ўюцца, ды ніколі між сабою яны не сальюцца* (Я. Колас. Дзе б ні быў я...). *Іх аднакі скрозь пуціны, ды не сходзяцца яны* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Судзіла доля мне сустрэць цябе, як казку негадану, ды не судзіла доля мець пацехі з гэтага жаданай* (Я. Купала. Зыйду...).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *наадварот*

§ 1080. Злучальнае слова *наадварот*, якое ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у навукова-кніжным стылі і мове мастацкай прозы, заўсёды мае значэнне рэзкага супрацьстаўлення. Спецыфічнай асаблівасцю складаназлучаных сказаў з гэтым словам з'яўляецца тое, што ў іх супрацьстаўляюцца састаўныя часткі ў цэлым. У выніку гэтага супраціўныя адносіны паміж састаўнымі часткамі праяўляюцца надзвычай поўна і выразна: *Са мной нічога не здарылася, наадварот, я атрымаў назначэнне ў лепшую школу, у Клінкі* (Я. Колас. На ростанях). *Пасля чатырнаццаці гадзін беганіны і трывог стомлены сержант не адчуваў сябе разбітым маральна, наадварот, ён адчуваў у сябе высокі ўздым унутраных сіл* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *У паходзе ён ні разу не паскардзіўся на цяжкасці, не панікаваў у хвіліны небяспекі — наадварот, ён да ўсяго ставіўся з гумарам і сваімі дасціпнымі жартамі ўвесь час падтрымліваў добры настрой сяброў* (У. Краўчанка. Рыгор Шыбай).

Вельмі рэдка сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх супрацьстаўляюцца паасобныя члены састаўных частак. Пры гэтым злучальнае слова *наадварот* звычайна ставіцца не паміж састаўнымі часткамі, а пасля аднаго з супрацьстаўляемых членаў другой састаўной часткі: *Старэйшы Агап быў танклявы і на дзіва шпаркі ў рухах і ў гаворцы, малодшы — Ягор, наадварот, — тоўсты, шырокі ў плячах, маўклівы і цяжкаваты* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

§ 1081. У радзе выпадкаў злучальнае слова *наадварот* можа ўжывацца ў спалучэнні са злучнікамі *а, і*, утвараючы звязачныя элементы *а наадварот, і наадварот*. Супраціўныя адносіны, афармленыя паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе гэтых элементаў, заўсёды ўскладняюцца тымі ці іншымі экспрэсіўнымі адценнямі: *Не свядомасць людзей вызначае іх быццё, а наадварот, іх грамадскае быццё вызначае іх свядомасць* (К. М а р к с. Капітал). *Савецкі дэпутат, выказваючы інтарэсы сваіх выбаршчыкаў, выказвае тым самым інтарэсы ўсяго народа, і наадварот, выказваючы інтарэсы ўсіх працоўных, ён выказвае інтарэсы сваіх выбаршчыкаў* (з газет).

§ 1082. У складаназлучаных сказах са злучальным словам *наадварот* знаходзяцца дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў. Калі састаўныя часткі маюць форму двухсастаўных сказаў, то дзейнікі гэтых частак звычайна выражаны словамі, якія абазначаюць адну і тую ж асобу або адзін і той жа прадмет ці з'яву: *Гэтай сувязі ён старайся не губляць, наадварот, ён яшчэ болей замацоўваў яе* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Але новая цяжкасць не збянтэжыла хлопца, наадварот, яна надала яму ранейшай рашучасці і ўпартасці* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Калі ж адна састаўная частка мае форму двухсастаўнага, а другая аднасастаўнага сказа, то ў якасці дзейніка двухсастаўнай часткі і дапаўнення са значэннем суб'екта дзеяння або апушчанага дзейніка з няпэўным значэннем аднасастаўнай часткі ўжываюцца словы, якія могуць абазначаць розных асоб або тое, што ў пэўнай меры звязана з адной і той жа асобай: *З яго ніхто і не думае смяяцца, наадварот, паважаюць яго* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка). *Непрыемнага адчування не было, наадварот, цела поўнілася бадзёрасцю* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Не можа быць гутаркі аб апраўданні ўчынкаў графа Ельскага і папа — наадварот, пачуццё справядлівасці дамагалася іх пакарання* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *інакш*

§ 1083. Злучальнаму слову *інакш (іначай)*, якое ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, уласціва значэнне рэзкага супрацьстаўлення, ускладненага ўмоўным адценнем. Сутнасць сінтаксічных адносін заключаецца ў тым, што паведамленне ў другой састаўной часці з'яўляецца адваротным вынікам, які можа атрымацца пры невыкананні тых умоў, аб якіх паведамляецца ў першай састаўной частцы: *Абавязкова пачнецца вайна, інакш быць не можа* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Зараз жа адмоўся ад сваіх слоў, інакш я ніколі не сустрэнуся з табой* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Павінна кожная рэч сваё месца ведаць, іначай, голуб мой, не парадак* (М. Л ы н ь к о ў. Над Бугам).

§ 1084. Часам злучальнае слова *інакш (іначай)* служыць граматычным сродкам састаўных частак у спалучэнні са злучнікам *а*, у выніку чаго супраціўныя адносіны паміж гэтымі часткамі заўсёды суправаджаюцца дадатковым экспрэсіўным адценнем: *Дзяцей трэба выхоўваць, а інакш іх галовы могуць забіваць рознай фашысцкай хлуснёй* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Скора кончу я рабфак, а іначай як жа!* (Зб. «Народная творчасць»).

§ 1085. У складаназлучаных сказах са злучальным словам *інакш (іначай)* звычайна аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных або двухсастаўнага і аднасастаўнага сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння: *Яе захапленне катамі пераходзіць усялякія межы, іначай пані была б недастойна іх* (З. Б я д у л я. Салавей). *Вельмі патрэбны людзі, інакш перакорпаемся мы тут да самай зімы* (Т. Х а д к е в і ч. Вя-

снянка). *Зрываць перагавораў ні ў якім разе не трэба, інакш мы не замацуем сваёй перамогі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сенажаці затопліваць ні ў якім разе, інакш наш калгас застанецца без корму* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх ёсць агульныя члены для кожнай з састаўных частак. Гэтымі членамі з'яўляюцца дапаўненні або акалічнасці, якія размяшчаюцца ў пачатку ўсяго сказа: *У нас павінен быць кантакт, іначай ніякая работа не выйдзе* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Там павінен быць сёння-заўтра чалавек, інакш сарвецца вельмі важная справа* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *аднак*

§ 1086. Злучнік *аднак* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, калі супрацьстаўленне з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў гэтых частках, мае абмежавальны характар. Складаназлучаныя сказы з адзначаным злучнікам сустракаюцца галоўным чынам у навукова-кніжным стылі і мове мастацкай прозы.

У большасці выпадкаў супраціўныя адносіны абмежавальнага характару грунтуюцца на супрацьстаўленні дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў, якое суправаджаецца адначасовым супрацьстаўленнем таго, што абазначана дапаўненнямі, азначэннямі або акалічнасцямі састаўных частак: *Нашы спынілі атакі, аднак немцы прадаўжалі абстрэльваць месца бою* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Проў лічыў свае доказы Панкелу важкімі і значнымі, нібы новымі, дагэтуль невядомымі яму, аднак Панкел глядзеў на іх не сур'ёзна, лічачы ўсё выясненне яму вядомым і старым* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа). *Сустрэча запланавана была на ранні вечар, аднак надвор'е, на жаль, унесла сваю папраўку ў план* (Я. Брыль. Вачыма друга). *Ён сам не любіў свайго імя, аднак ніхто ў жыцці не гаварыў яму такіх абразлівых слоў* (І. Шамякін. Вясновымі днямі). *Аляска мае значныя лясныя рэсурсы, аднак лясная промысловасць развіта слаба* (з газет).

Іншы раз у складаназлучаных сказах адсутнічае пэўны паралелізм у суадноснасці супрацьстаўляемых членаў састаўных частак. Тады звычайна супрацьстаўляецца адзін з членаў першай састаўной часткі з некалькімі членамі другой часткі або састаўныя часткі ў цэлым: *Голас у яго быў зычны, аднак спяваў ён нешта цягучае, незразумелае* (Т. Хадкевіч. Сяброўства). *Не без рызыкі прыйшлося Палікарпаўне брацца за новую справу, аднак яна ўзялася* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Тонкія праменьчыкі свідруюць вочы, аднак глядзець можна* (А. Кулакоўскі. Ластаўкі).

§ 1087. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікам *аднак* могуць мець розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў: *Жанчына рэзка бліснула на яго вачыма, аднак брыгадзір не сумеўся* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Качак пакуль што няма, аднак яны могуць быць* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Мы задаволены вашай працай, аднак нам бы хацелася большых вынікаў* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Пасля даклада выступалі многія, аднак найлепш успомніць слова Шарэйкі і старой Зязюліхі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Стрэлілі раз, і другі раз, і трэці, аднак зняць кулямёт не змаглі* (Я. Брыль. Іржавая стрэмка). *Раскарчаваць усё гэта не проста, аднак іншага выйсця не было* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Калі ў складаназлучаным сказе перадаецца супрацьстаўленне дзеянняў адной і той жа асобы або аднаго і таго ж прадмета, то дзейнік другой састаўной часткі можа апускацца. Гэта адбываецца ў асноўным тады, калі дзейнік першай састаўной часткі выражан асабовым займеннікам. Але калі дзейнік першай састаўной часткі выражан назоўнікам,

то дзейнік другой састаўной часткі выражаецца асабовым займеннікам і, як правіла, не апускаецца: *Самалёты праз хвіліну зніклі ў далечы, аднак неўзабаве яны зноў вярнуліся* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ён запытаўся пра нешта, аднак адказу не пачуў* (А. Міронаў. Мора ў агні).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМІ *тольні, адно*

§ 1088. Злучнікі *толькі* і *адно* вельмі блізкія па свайму значэнню. Яны адрозніваюцца паміж сабою галоўным чынам экспрэсіўнымі і стылістычнымі функцыямі. Злучнік *толькі* служыць граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у мове мастацкай літаратуры і размоўным стылі, а злучнік *адно* — у размоўным стылі.

Спецыфічнай асаблівасцю складаназлучаных сказаў са злучнікамі *толькі, адно* з'яўляецца тое, што супрацьстаўленне з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках, заўсёды мае абмежавальна-выключальны характар. Пры гэтым падкрэсліваецца, што паведамленне ў другой састаўной частцы з'яўляецца выключэннем з таго, аб чым паведамляецца ў першай састаўной частцы.

У большасці складаназлучаных сказаў са злучнікамі *толькі, адно* сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі грунтуюцца на адначасовым супрацьстаўленні дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў, абазначаных выказнікамі і дзейнікамі гэтых частак: *Дзеці леглі даўно, толькі маці не спіць* (Я. Колас. На адзіноце). *Бой сціх, толькі трашчыць агонь* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Дубрайкі і гайкі высечаны, толькі зрэдку сіротамі стаяць адзінокія дубкі ды бярозкі* (Ц. Гартны. На руінах). *Драмаў вечны бор, адно вяршаліны ледзь-ледзь шапталі штосьці сумнае* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Спіць мой край, адно не дрэмле варта яго надзейна ўзброеных сыноў* (П. Броўка. Думы аб правадыру).

Супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў можа падтрымлівацца аднačасовым супрацьстаўленнем слоў, якія выступаюць у ролі дапаўненняў, азначэнняў і акалічнасцей састаўных частак: *На блакітнай бухце човен белы у марскую даль паволі плыў, толькі ветры ціха шалясцелі, калыхалі ўзрушаную плынь* (А. Звонак. На блакітнай бухце). *У доме панавала цішыня, толькі на двары ды на вуліцы чуліся асцярожныя крокі вартавых* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сёння на брацкіх магілах вербы, хваіны павырасталі, — толькі ў грудзях не загаіліся раны* (М. Танк. Нарач). *А вы, сказаць, мала і змяніліся, адно што адзежа ў вас цяпер зусім інакшая* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *На нейкай станцыі ў зале мы ўсе чакалі цягніка, і ці сядзелі, ці ляжалі, адно чамусь для хлапчука мясціны здатнай не знайшлося* (П. Глебка. Сны хлапчука). *Людзей не знаў лес гэты хмурны, зайздросна сцежкі свае крыў, адно сваім дном Днепра бурны з вясны да восені ў даль плыў* (Я. Купала. Магіла льва).

Нешматлікімі з'яўляюцца выпадкі, калі супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) суправаджаецца адначасовым супрацьстаўленнем таго, што абазначана дзейнікам адной састаўной часткі, і таго, што абазначана дапаўненнем або акалічнасцю другой: *Тут вось могілкі шарамі між лазовымі кустамі, толькі крыжу штось не відна* (Я. Купала. Сон на кургане). *Твар вельмі бледны, малочна-белы, толькі на скулах ружавеюць дзве плямы сухотнага румянцу* (Б. Мікуліч. Развітанне). *Падлогі ў хаце няма, адно ўтрамбаваны пясок* (К. Чорны. Браты).

Зрэдку сустракаюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх дзеянні (станы, прызнакі), абазначаныя выказнікам адной састаўной часткі, супрацьстаўляюцца сукупнасці дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў, абазначаных спалучэннем выказніка і дзейніка другой састаўной часткі. Супрацьстаўленне адзначаных членаў можа падтрымлі-

вацца адначасовым супрацьстаўленнем суадносных паміж сабою слоў, што выступаюць у ролі азначэнняў ці акалічнасцей. У такіх складаназлучаных сказах адна састаўная частка звычайна мае форму безасабовага сказа, а другая — форму асабовага сказа. Граматычным сродкам сувязі састаўных частак, як правіла, з'яўляецца злучнік *толькі*: *У пакоі было ціха, толькі скрыпела пяро* (Э. Самуйлёнак. Сустрэча). *Навокал было цёмна, толькі паасобныя агеньчыкі хат міргалі на ўзгорку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сумна ў гаі і маркотна, толькі лісечка гаротна штось журботнае гудзе* (Я. Колас. Восень у гаі).

§ 1089. Злучнік *толькі* можа ўжывацца ў спалучэнні са злучнікамі *і, а, ды*, якія ўдакладняюць і канкрэтызуюць яго значэнне. Супраціўныя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў і афармляюцца пры дапамозе спалучэнняў *і толькі, а толькі, ды толькі*, заўсёды характарызуюцца пэўнай катэгарычнасцю абмежавальна-вылучальнага адцення: *Пасечаны лясы, і толькі хмыз на торфішчы буяе* (Я. Колас. З дарогі). *Але спаць не хочацца, а толькі думкі плывуць карэлаю ніткаю* (Я. Скрыган. Спатканне). *Вялікі ён багач на свеце, ды толькі бедны яго дзеці* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 1090. Састаўныя часткі, якія аб'ядноўваюцца ў складаназлучаных сказах пры дапамозе злучнікаў *толькі, адно*, звычайна ўжываюцца ў форме простых двухсастаўных або двухсастаўнага і аднасастаўнага сказаў: *Даюць згоду тата, мама, толькі я адна не згодна* (Я. Колас. Батрак). *Працавіты наш дзень адпачыць адышоў, толькі стужка зары дагарае над садам* (М. Танк. Агні Мінска). *Усе пойдзеце, толькі Зорачка пастаіць* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Пракрычаў удод і змоўк, толькі вые недзе воўк* (С. Грахоўскі. Лясная казка). *У лесе было ціха і маркотна, толькі ўгары стаяў глухі шум старых хвой і ялін* (Я. Колас. Малады дубок). *Міцька Дзюбніглаз усё патрапіць зрабіць, адно мікалаеўскую срэбную галаву каціце сюды на рабры!* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

Некаторыя складаназлучаныя сказы могуць мець агульныя члены, якія размяшчаюцца ў пачатку гэтых сказаў і ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак: *Пад Мінскам на полі не было ніводнага чалавека нідзе, толькі адусюль сцягваліся польскія салдаты* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *У гэтым месцы дзеда слухалі моўчкі, толькі нехта з мужчын побач са мной шумна ўздыхнуў* (І. Шамякін. Падмочаны). *У гэтым позірку не было ні любві, ні пяшчотнасці, адно дзіцячая цікаўнасць і час ад часу насцярожанасць* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *затое*

§ 1091. Злучнік *затое* ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, калі супрацьстаўленне з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках, мае замяшчальны характар. Сутнасць гэтага супрацьстаўлення заключаецца ў тым, што другая састаўная частка складаназлучанага сказа ўказвае на замяшчэнне, кампенсацыю таго, што абазначана зместам першай састаўной часткі.

У складаназлучаных сказах са злучнікам *затое* часцей за ўсё супрацьстаўляюцца састаўныя часткі ў цэлым: *Іван Занька рэпутацыю школы падтрымаў, затое Алесік Грылюк папсаваў усю справу* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Снег рабіўся шэры, затое языкі полымя з вогнішча каля будоўлі ўсё болей чырванелі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Заводаў зменшыцца —затое пачнецца болей беспрацоўе* (А. Александровіч. Напор). *Няма нарыса, затое ж ёсць раманы, п'есы, паэмы* (з газет).

Аднак сустракаюцца часам выпадкі, калі ў складаназлучаным сказе супрацьстаўляюцца паасобныя члены састаўных частак. Як правіла, імі

з'яўляюцца розныя акалічнасці, пры якіх адбываецца або існуе тое, што абазначана галоўнымі і даданымі членамі сказа: *Жыта на «лужках» вымакла зусім, затое на гары і пад лесам сцяной ідзе* (М. Лынькоў. Над Бугам). *Падняцце берагоў характэрна для ўсёй паўночнай часткі Балтыкі, затое на поўдні ідзе іх павольнае апусканне* (з газет).

§ 1092. Злучнік *затое* можа ўжывацца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у спалучэнні са злучнікамі *але, ж (жа)*. Супраціўна-замяшчальныя адносіны тут заўсёды суправаджаюцца рознымі экспрэсіўнымі адценнямі: *Дрэнна пісаць у вагоне, але затое якая шырыня думак* (К. Чорны. Зямля). *Няхай сабе адзін пакой, ды кухня затое свая!* (Я. Брыль. Прывал). *Хлеба, грошы ты слугою мала будзеш мець, аплявухаў жа затое не будуць жалець* (Я. Купала. Над калыскай).

§ 1093. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *затое* ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *У некаторых толькі ледзь-ледзь высядалі вусікі, затое ж сярод іх трапіўся і адзін барадач* (Я. Колас. На ростанях). *Шолах у жыце змоўк, затое вочы адрозніваюць цёмную постаць чалавека* (П. Галавач. Спалох на загонах). *На дварэ было цёмна, затое яснымі былі думкі ў чалавека* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Больш работы па догляду, затое ніякіх клопатаў з гэтай расадай* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Цеснавата, затое—весела* (Я. Брыль. Вачыма друга).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМІ *а то, не то (а не то), не то што (а не то што)*

§ 1094. Складаныя злучнікі *а то, не то (а не то)* маюць блізкія сінтаксічныя значэнні; яны ўжываюцца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, у якіх супраціўныя адносіны ўскладнены ўмоўнавыніковым адценнем. У складаназлучаных сказах з такімі адносінамі звычайна супрацьстаўляюцца састаўныя часткі ў цэлым: *Трэба было раней думаць пра гэта, а то ты патураў усім яго капрызам* (К. Чорны. Насцечка). *Ты да мяне хадзі, а то ты да жонкі* (К. Чорны. Лета). *Трэба ісці, не то будзе позна* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Дарога была добрая, а не то хлопцам давялося б шукаць фурманку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Складаназлучаныя сказы са злучнікамі *а то, не то (а не то)* сустракаюцца толькі ў размоўным стылі.

§ 1095. У размоўным стылі сустракаюцца таксама складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'яднаны пры дапамозе злучніка *не то што (а не то што)*. Супраціўныя адносіны ў гэтым разе звычайна суправаджаюцца абмежавальна-ўступальным адценнем: *Зямлю можна гуртам перакруціць,— не то што балота ўправіць* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Сена ж ты і грэбці, мусіць, не ўмееш, а не то што табе воз таптаць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 1096. Састаўныя часткі, якія аб'ядноўваюцца ў структуры складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучнікаў *а то, не то (а не то), не то што (а не то што)*, могуць ужывацца ў форме простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Раней бы ты так заявіў, а то я павінен траціць час на ўсе гэтыя размовы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Звычайна ў нядзелю дахаты едзеш, а то дык зусім забыліся хлопцы пра гэта* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Хоць бы вадою скрапілі, а то душыцца трэба з пылу* (К. Чорны. Браты). *Уцякай, а не то страляць пачнуць* (Р. Мурашка. Сын). *Рэвалюцыя павінна ўстанавіць права, закон і парадак, а не то што як цяпер — лясы сякуць і ні ў кога не пытаюцца* (К. Чорны. Бацькаўшчына).



34. Зак. 378.

Іншы раз у складаназлучаныя сказы ўваходзяць састаўныя часткі, з якіх першая мае форму двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа, а другая складаецца з аднаго злучніка: *Трэба было даўно зрабіць, а то...* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Глядзі за сабой, не то...* (П. Галавач. Праз гады). *А ў нас дзеткі, можа, хлеба не бачаць, не то што...* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Тут з розумам усё трэба, а не то што...* (А. Кулакоўскі. Не выбралі).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМІ СЛОВАМІ *між тым, тым не менш*

§ 1097. Злучальныя словы *між тым, тым не менш* ужываюцца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, калі супраціўныя адносіны паміж гэтымі часткамі суправаджаюцца ўступальным адценнем. Такія сказы сустракаюцца галоўным чынам у навукова-кніжным стылі.

Сінтаксічныя адносіны ў складаназлучаных сказах са злучальнымі словамі *між тым, тым не менш,* як правіла, грунтуюцца на супрацьстаўленні састаўных частак у цэлым: *У вас на мястэчка многа сілы не патрабуецца, між тым вакол вялікая патрэба ў людзях* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Глеба на нашым участку апрацавана добра, тым не менш пачало паяўляцца пустазелле* (з газет).

§ 1098. Злучальнае слова *між тым* можа ўжывацца для сувязі састаўных частак у спалучэнні са злучнікам *а*, а злучальнае слова *тым не менш* — у спалучэнні са злучнікам *і*. Супрацьстаўленне пры гэтым заўсёды падкрэсліваецца той або іншай ступенню катэгарычнасці: *Радасць сустрэчы рабіла людзей нячулымі да ўсяго іншага, а між тым становішча атрада было, відаць, нялёгкае* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ва ўсякім разе справу гэтую яна развязала, і тым не менш на сэрцы ў яе чамусь не было спакою* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага).

§ 1099. У складаназлучаныя сказы са злучальнымі словамі *між тым, тым не менш* уваходзяць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў (гл. § 1097, 1098).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ПЕРАЛІЧАЛЬНА-РАЗМЕРКАВАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1100. Пералічальна-размеркавальнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх у гэтых частках паведамляецца аб пералічэнні аднолькава магчымых або немагчымых, папераменных ці ўзаемна выключаючых з'яў і падзей.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з пералічальна-размеркавальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і — і, ні — ні, то — то, ці — ці, або — або, ці то — ці то, не то — не то* і інш. Спецыфічнай асаблівасцю гэтых злучнікаў з'яўляецца тое, што яны не толькі звязваюць састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, але і выконваюць асноўную ролю ў выражэнні сінтаксічных адносін паміж імі.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і—і*

§ 1101. У складаназлучаных сказах, састаўныя часткі якіх аб'яднаны пры дапамозе злучніка *і—і*, выражаецца пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей. Аднак паколькі злучнік *і — і* змяшчае ў сабе не толькі значэнне пералічальнага злучніка, але і значэнне ўзмацняльнай

часціцы, то ўказанае пералічэнне заўсёды суправаджаецца ўзмацняльным адценнем.

У большасці выпадкаў пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей перадаецца ў плане іх адначасовага суіснавання, у выніку чаго віда-часавыя суадносіны выказнікаў састаўных частак супадаюць: *І дзеці палюбілі вас, і мы да вас прывыклі* (Я. Колас. У палескай глушы). *І чмее вясной ярына, і шалеюць мурожныя травы* (П. Глебка. Арка над акіянам). *І коні ржалі, і людзі крычалі, і вылі ваўкі ў лесе* (А. Куляшоў. Крыўда). *І манішка на ім была цвёрдая, і гальштук упоперак спрытна падвязан* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І воўк будзе сыты, і козы будуць цэлыя* (прыказка).

Часам пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей перадаецца ў плане іх паслядоўнага працякання або размяшчэння. Гэта пералічэнне можа праводзіцца ў плане аднаго і таго ж часу або ў плане розных часоў, што знаходзіць сваё афармленне ў адпаведных віда-часавых суадносінах выказнікаў састаўных частак: *І ўздыхнеш, уздыхнеш глыбока над жыццём разбітым, і пачуеш адзінокім ты сябе, забытым* (Я. Колас. У астрозе вясною). *І ўсе тужліва замаўкалі, і думкі кожнага займалі* (Я. Колас. Новая зямля). *І плач уцёк недзе, і раем—жыццё!* (Я. Купала. Людка). *І хмары ўскружыліся сопкія, і хвошчуць віхры акіянскія* (М. Лужанін. У Татрах).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей перадаецца ў плане іх супастаўлення. Гэта адбываецца галоўным чынам тады, калі выказнікі састаўных частак выражаны аднымі і тымі ж словамі: *І я збіраўся ва ўцекачы выязджаць, і ён збіраўся* (К. Чорны. Вясна). *І дзед не плача, і баба не плача* (Я. Брыль. Асколачак вясёлкі). *І ты пашкадуеш, і я пашкадую* (У. Дубоўка. Прымружыла бровы).

§ 1102. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікам *і—і* ўжываюцца ў форме простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў. Калі кожная з састаўных частак мае форму двухсастаўнага сказа, то ў складаназлучаным сказе можа знаходзіцца дзве і больш састаўных частак: *І на босыя ногі раса ападае з халоднай травы, і на плечы спадае каса ручаём залатым з галавы* (П. Глебка. Хада падзей). *І павялі травы, і пасохла жыта* (М. Машара. Засуха). *І грукаюць галлём дубы, і ветры паўднёвыя веюць, і ўзгоркі крутыя гарбы пад сонечнай спёкаю грэюць* (П. Глебка. На нівах калгасных).

Калі ж адна састаўная частка складаназлучанага сказа мае форму двухсастаўнага, а другая — аднасастаўнага сказа або кожная з састаўных частак мае форму аднасастаўнага сказа, то ў такіх складаназлучаных сказах звычайна знаходзяцца дзве састаўныя часткі: *І гаспадарам добра, і пану Зыгмусю прыбытак ёсць* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *І лес наш цалейшы застанецца, і торфу надаўжэй хопіць* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *І кудысьці цягне, і чагосьці хочацца* (К. Крапіва. Людзі-суседзі). *І там добра, і тут някепска* (А. Кулакоўскі. Не выбралі).

Своеасаблівую будову маюць складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі ўжыты ў форме простых неразвітых сказаў тыпу: *І брат не брат, і сват не сват* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *І збруя як збруя, і коні як коні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У складаназлучаных сказах са злучнікам *і—і* могуць знаходзіцца паасобныя словы, якія ў аднолькавай ступені адносяцца да кожнай з састаўных частак. Гэтыя словы, як правіла, размяшчаюцца ў пачатку складаназлучанага сказа: *Але тут і агонь не гарэў, і нікога не было* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *У дзяўчыны адразу і голас змяніўся, і вочы сталі жывыя, і душа стала адкрытая* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а—а*

§ 1103. У складаназлучаных сказах са злучнікам *а — а*, які зрэдку ўжываецца для сувязі састаўных частак у размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры, таксама выражаецца пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей. Аднак злучнік *а—а* не толькі ўзмацняе катэгарычнасць пералічэння, але і сведчыць аб тым, што гэтаму пералічэнню ў пэўнай ступені ўласціва супастаўляльнае адценне: *А рэчкі іначай ляглі, а лёг за каналам канал* (Я. Купала. Табе, правадыр). *А якія ветру шумы, а як непагадзь гудзе!* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *А лясы шалясцяць, шалясцяць, а вазёры гамоняць сярдзіта* (У. Дубоўка. А лясы шалясцяць, шалясцяць). *А ў вачах мігаецца па плямцы, а ў руках трымаецца па клямцы* (М. Лужанін. Стукну-грукну).

Заўвага. У некаторых выпадках састаўныя часткі складаназлучаных сказаў з пералічальна-размеркавальнымі адносінамі аб'ядноўваюцца пры дапамозе адзіночнага злучніка *а*. Аднак асноўная роля ў выражэнні сінтаксічных адносін належыць не гэтаму злучніку, а лексіка-граматычнаму значэнню слоў *можа, магчыма*, якія знаходзяцца ў кожнай або паасобных састаўных частках. Гэтыя словы разам са злучнікам *а* даюць магчымасць афармляць пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, якое суправаджаецца супастаўляльным адценнем: *Можа не меў ахвоты, а можа перашкаджалі краты, кашаль і сухоты* (М. Танк. Да дня). *Магчыма ён застанецца на старым месцы, а магчыма яго накіруюць на іншую работу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Расы ты баішся, а можа пилохае ветру жальба?* (М. Танк. А ў полі вярба). *Гэта перакліkаліся вартавыя, а магчыма афіцэры аддавалі якія распараджэнні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1104. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *а—а* ўключаюць дзве і больш састаўных частак, якія маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *А сонца за бор галоўку хавае, а месяц з-за хмар лоб свой выхіляе* (М. Багдановіч. Восень). *А як свецяць ноччу зоры, а які таемны гай!* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ні—ні*

§ 1105. У складаназлучаных сказах, састаўныя часткі якіх аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучніка *ні—ні*, выражаецца пералічэнне адмоўных (неіснуючых або немагчымых) з'яў і падзей. Гэта пералічэнне заўсёды суправаджаецца ўзмацняльным адценнем, бо злучніку *ні—ні* ўласціва таксама значэнне ўзмацняльнай часціцы.

У складаназлучаных сказах з адзначаным злучнікам выказнікі састаўных частак звычайна маюць пры сабе адмоўе *не*; зрэдку яны ўжываюцца без адмоўя. Як у адным, так і ў другім выпадку гэтыя выказнікі маюць у асноўным аднолькавыя віда-часавыя планы: *Ні махі табе не паламае, ні парусу не парве* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Ні адзін твар не перасмыкнуўся рысай хцівасці, ні ў каго вочы не кінулі позірку скванпасці* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ні хлеба няма, ні работы няма* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Ні нам вясна цвіце, пяе, ні лета коласам шуміць* (Я. Купала. Беззямельныя). Параўн.: *Ні бацька спраўляў, ні сын носіць* (прыказка), дзе віда-часавыя планы не супадаюць.

§ 1106. Пералічэнне аднолькава немагчымых з'яў і падзей можа падкрэсліваецца з асаблівай сілай. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, у якіх выражаецца такое пералічэнне, аб'ядноўваюцца паміж сабою пры дапамозе злучніка *і ні — і ні*. Акрамя таго, у размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца таксама злучнікі *ані—ані, ні—ані, ані — ні*: *І ні следу скваппага, ні звяроў жывых, і ні паху вабнага красак залатых* (П. Глебка. Наш лес). *Ані канца таму пракляццю, ані яснотаў тых пачатку* (Я. Купала. Крыўда). *Ані тых будынкаў, ні ўзараных гоняў* (Я. Купала. За што?). *Ні прус цябе тут не джгне, ні*

*блыха не ўкусіць, ані той задыхнечы хатняй, млоснай* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

§ 1107. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *ні—ні* могуць уключаць дзве і больш састаўных частак, якія маюць разнастайную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Ні заяц не набягаў, ні дробная птушка не пралятала паблізу* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Ні пастух сюды з авечкамі не заходзіць, ні ветру няма паміж хвойнікаў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ні зор, ні месяца* (Я. Колас. Кірмаш). *Ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць* (прыказка). *Ні дубоў медналістых, ні ліповых прысадаў, ні гаёў над ракою, ні зялёнага саду* (П. Броўка. Паланянка). *Ні пагода яму, ні нягода яму, ні мачыла яго, ні сушыла яго...* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *то—то*

§ 1108. У складаназлучаных сказах, састаўныя часткі якіх аб'яднаны пры дапамозе злучніка *то—то,* выражаецца пералічэнне папераменных або чаргуючыхся з'яў і падзей. Як правіла, усе з'явы і падзеі тут аднолькава магчымыя, аднак яны не могуць адбывацца адначасова і заўсёды чаргуюцца, папераменна змяняючы адны другіх. Такое пералічэнне або размеркаванне з'яў і падзей звычайна праводзіцца ў плане аднаго і таго ж часу.

Паасобныя элементы злучніка *то — то* знаходзяцца ў пачатку кожнай састаўной часткі, хоць могуць размяшчацца і перад тым членам першай часткі, на які падае лагічны націск: *То ён зглядзіць на дарозе цікавага жучка, то з травы ўздымецца птушка, то праляціць прыгожы матылёк* (Я. Колас. Макарка Навак). *То ён знясілены, сухотны пад градам куль імчыць, то ён за лентай кулямётнай з багунцамі ляжыць* (П. Броўка. Шчорс). *То дожджык прамочыць, то сівер прадзьме* (А. Зарыцкі. На Дзвінскіх парогах). *Ён то быў маўклівы вельмі і пануры, то раптам ім апаноўвала як бы беспрычынная весялосць* (К. Чорны. Трыццаць год). *Вочы яго то хмурыліся, то ў іх з'яўлялася неспакойнае зеленаватае святло* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 1109. Зрэдку састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, у якіх выражаецца пералічэнне папераменных або чаргуючыхся з'яў і падзей, аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучніка *то—а то.* Гэты злучнік надае характару сінтаксічных адносін пэўную катэгарычнасць і ўскладняе іх супастаўляльным адценнем: *То ў газету артыкул напішаш, а то проста вагон дроў разгрузіш* (І. Гуркі. У вялікай дарозе). *То яму тое нядобра, то яму гэта не так, а то трэцяе трэба інакш* (Р. Мурашка. Сын).

§ 1110. У некаторых складаназлучаных сказах апошняя састаўная частка далучаецца пры дапамозе злучніка *або,* тады як папярэднія састаўныя часткі аб'яднаны пры дапамозе злучніка *то—то.* Такое злучэнне састаўных частак характарызуецца не толькі адлюстраваннем паслядоўнага чаргавання з'яў і падзей, але і пэўным выбарам некаторых з іх: *То гамоняць між сабою, то майструюць што-нібудзь, або важнаю ступою у абход у парк ідуць* (Я. Колас. Сымон-музыка). *То ён наважыцца будаваць чыгунку на балотах, то яму давай абсталяванне для электрастанцыі, або задумае нейкае асаблівае шлюзаванне на сваім балоце* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1111. У большасці складаназлучаных сказаў са злучнікам *то — то* аб'ядноўваюцца састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных сказаў. Колькасць састаўных частак у такіх сказах структурна неабмежавана: *То мароз марозіць, то золіць слата* (Я. Купала. Сірочая доля). *То нямеюць нівы ў полі, то дрыжыць пшчотна гай* (У. Хадыка. Летняя раніца). *То ім перашкаджае дождж, то спякота іх морыць стомай, то людзі іх не слухаюць* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *То чэзлі ў дыме бітвы каскі, то сонцам слаўся краявід, то бег-*

*ла дзеўчынка па краскі, то маці плакала наўзрыд* (П. Броўка. Зварот музыканта).

Калі састаўныя часткі складаназлучаных сказаў ужываюцца ў форме простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, то ў гэтым выпадку аб'ядноўваюцца дзве або тры такія часткі: *То душна ў хаце, то мухі спаць не даюць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *То скалоціць град дазвання, то пажар, то недарод* (П. Броўка. Кацярына). *То марозна, то пахне пажарам, то змрочная ноч стаіць на дварэ* (М. Лынькоў. Тры злоты).

Мала пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў. У такіх сказах знаходзяцца ў асноўным дзве састаўныя часткі: *То грыміць на захад, то грыміць на ўсход* (З. Бядуля. Палескія байкі). *То ў кішэні пуста, то ў хаце не густа* (прыказка).

У складаназлучаныя сказы са злучнікам *то — то* зрэдку ўваходзяць агульныя словы, якія ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку гэтых сказаў: *Яго то трасло холадам, то ціснула ў зямлю гарачынёй* (К. Чорны. Смерць). *Марознай зорнай ноччу на шашы то прасунуцца ціхія сані, то зноў прамчыцца машына* (Я. Брыль. Ліпка і клёнік).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМІ *ці, ці—ці*

§ 1112. У складаназлучаных сказах, састаўныя часткі якіх аб'яднаны пры дапамозе злучніка *ці*, выражаецца пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей. У працэсе пералічэння гэтыя з'явы і падзеі заўсёды характарызуюцца адценнем выбару адной з іх, г. зн. з'ява ці падзея, аб якой паведамляецца ў адной састаўной частцы, поўнасцю выключае магчымасць ажыццяўлення з'явы ці падзеі, аб якой паведамляецца ў другой састаўной частцы: *Нехта пад акном шастае ці якое там ліха?* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Будуць яшчэ пытанні ці пачнем спрэчкі?* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Выпадковыя гэта здарэнні, ці яны звязаны паміж сабой?* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Ступіць бы сну на халадок пад дрэвам ці цела рынуцца б на хвалі ўплынь* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык).

§ 1113. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ці—ці* ў адрозненне ад складаназлучаных сказаў са злучнікам *ці* пералічэнне або размеркаванне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей характарызуецца большай катэгарычнасцю і адпаведным узмацняльным адценнем: *Ці віхуры цябе падламалі, ці грымоты ўразілі?* (М. Багдановіч. Аня, Анечка...). *Ці ты гаворыш, ці малатарня гудзе* (Я. Колас. Адукацыя). *Ці там ветры халодныя дзьмуць, ці зямелька спавіта цяплом* (Ц. Гартны. Песні гарбара). *Ці помніш ты сваёй зямлі прасторы, ці бачыў ты віры імклівых рэк?* (С. Грахоўскі. Ёсць у цябе Айчына). *Ці вятры прамчацца з шумам, ці снягі цярусяць* (П. Броўка. Перад вясной).

У некаторых складаназлучаных сказах адзін з элементаў злучніка *ці —ці* можа ўжывацца не ў пачатку, а ў сярэдзіне першай састаўной часткі. У такім разе падкрэсліваецца не столькі пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, колькі пералічэнне ўзаемна выключаючых дзеянняў або станаў ці звязаных з імі аб'ектаў: *А Сымонка мой таксама ці з розуму сышоў, ці штосьці нядобрае з ім робіцца* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Мы праехалі ці мала станцый, ці адну мы прыстань праплылі?!* (А. Звонак. Размова аб душы).

Калі ў складаназлучаных сказах пры дапамозе злучніка *ці—ці* аб'ядноўваюцца састаўныя часткі, у якіх паведамляецца аб адмоўных з'явах і падзеях, то пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей заўсёды суправаджаецца мадальным адценнем сумнення: *Ці не ў гэтых косах заблыталася маё сэрца, ці не ў цёмнай глыбіні сініх воч свяціліся*

*тады цёплыя агеньчыкі ветлівасці, а мо' болей, чым ветлівасці, да нас, да прышэльцаў* (М. Лынькоў. Гой). *Ці няма засады за апошнім домам пасёлка, ці не прысеў патруль перакурыць на адхоне шашы?* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

У тых выпадках, калі ў састаўных частках складаназлучаных сказаў непасрэдна за злучнікам знаходзіцца мадальнае слова *можа*, пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей суправаджаецца мадальным адценнем меркавання: *Ці можа голлі дуба ёй узняцца не далі, ці можа дзятлы дзюбамі сасёнку падзяўблі?* (П. Прыходзька. Над Прыпяццю).

§ 1114. Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў, у якіх паведамляецца аб пералічэнні ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе парных злучнікаў *ці—або, або—ці*. Ужыванне такіх злучнікаў стылістычна матывавана: *Ці табе дарожак мала, або свет тут зачыніўся?* (Я. Колас. Эй, скажы мне, небарача...). *Калі-ні-калі праляціць з піскам кажан або пракрычыць сава ці прашугаюць чарадою спалоханыя птушкі* (І. Гурскі. У агні).

У размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе парнага злучніка *хіба—ці*. Пералічальна-размеркавальныя адносіны тут звычайна маюць характар няпэўнага дапушчэння ў выбары адной з адлюстраваных з'яў ці падзей: *Хіба можа ў корч забіўся, ці загнала дзе пад плыт* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Хіба ўспамянулася яму што, ці шкада чаго зрабілася* (Р. Мурашка. Сын).

§ 1115. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ці—ці*, састаўныя часткі якіх маюць форму простых двухсастаўных сказаў, могуць аб'ядноўвацца дзве, тры і больш такіх частак. Праўда, чатыры і больш састаўных частак са злучнікам *ці* звычайна ўваходзяць у састаў складанага сказа камбінаванай будовы: *Ці ён грозіць каму, ці спужаў яго страх?* (Я. Колас. На адзіноце). *Ці ты багаты, ці ты бедны, ці ты зайздросны, ненаедны* (Я. Колас. Новая зямля). Параўн.: *Ці дзяцел застукае дзе на сасне, ці шышка пакоціцца з елкі наніз, ці пройдзе, павольна ступаючы, ліс, ці заяц праскочыць па свежым сняжку,— не спіць пасланец, пасланец начыку* (П. Глебка. Пасланец).

Калі састаўныя часткі складаназлучаных сказаў маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, то звычайна аб'ядноўваюцца дзве або тры такія часткі: *Ці ён жывы, ці ўжо на свеце яго, гаротнага, няма?* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Ці ўгразлі ў балоце, ці знесла вада, ці сцежка заела крутая?* (Я. Колас. Даняў).

У тых выпадках, калі састаўныя часткі складаназлучаных сказаў маюць форму простых аднасастаўных сказаў, аб'ядноўваюцца толькі дзве такія часткі: *Ці мець яго за панібрата, ці лепш з ім быць далекавата* (Я. Колас. Новая зямля). *Ці хопіць умельства, ці хопіць ім сілы?* (П. Броўка. Развітальнае слова). *Ці багацця бракуе табе, ці ўпартасці сціплае мала?* (У. Дубоўка. А лясы шалясцяць, шалясцяць).

У складаназлучаных сказах са злучнікам *ці* незалежна ад формы заўсёды аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі: *А рукі аж калоцяцца ад злосці, ці ён і сам не ведаў чаго* (К. Чорны. Лета). *Вам цяжка гаварыць, ці вы не хочаце?* (К. Чорны. Спатканні з аспаватым чалавекам). *Ехаць мне адразу дадому ці ёсць якія даручэнні?* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Адна з састаўных частак такіх складаназлучаных сказаў іншы раз мае своеасаблівую форму няпоўнага сказа (складаецца са злучніка *ці* і слоў *што* або *як*): *Ты мяне пільнуеш, ці што?* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Ты што, закахаўся ў каго, ці як?* (К. Чорны. Вясна).

У складаназлучаных сказах са злучнікам *ці—ці* могуць ужывацца агульныя словы, якія ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак. Гэтыя словы размяшчаюцца як у пачатку, так і ў канцы

складаназлучанага сказа: *Касу ўжо ці іржа пабіла, ці мышы вышчарбілі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ці вока вернае, ці цвёрдая рука ў чырвонага стралка?* (К. Крапіва. Махальнік Іваноў).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМІ *або (альбо), або—або (альбо—альбо)*

§ 1116. У складаназлучаных сказах са злучнікам *або (альбо)*, таксама як і ў складаназлучаных сказах са злучнікам *ці*, выражаецца пералічэнне або размеркаванне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, але гэта пералічэнне звычайна праводзіцца ў адным і тым жа часавым плане і часцей за ўсё афармлена апавядальнай інтанацыяй: *Ты тут садзіся, або я памагу табе прылегчы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Час ад часу прагудзе аўтамашына, або, выкрасаючы дугой сінія іскры, прагрукаціць амаль зусім пусты трамвай* (Я. Брыль. Лазунок). *Відаць, ёй самой спадабаліся запаветныя сычавы думкі альбо яна сама насіла нешта падобнае ў сваёй галаве* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Заўсёды забягала за цялушкай Макрыда, альбо з'яўляўся сам Цыбал* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

§ 1117. У складаназлучаных сказах са злучнікам *або—або (альбо—альбо)* пералічэнне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей вызначаецца пэўнай катэгарычнасцю, у выніку чаго характар сінтаксічных адносін праяўляецца больш выразна і акрэслена: *Або забярэ мяне з сабою, або я тут буду* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Або свет пачуе, або душа трэсне* (Цётка. Музыкант беларускі). *Або гэта зломлена супраціўленне, або нападаючыя паслабілі націск* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Альбо пан сёння ўсё скажа, альбо будзе позна* (П. Галавач. Носьбіты нянавісці).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх адзін з элементаў злучніка *або—або (альбо—альбо)* размешчан не ў пачатку, а ў сярэдзіне першай састаўной часткі. Сінтаксічныя адносіны ў такіх сказах характарызуюцца не столькі пералічэннем узаемна выключаючых з'яў і падзей, колькі пералічэннем узаемна выключаючых дзеянняў або станаў пэўных асоб, прадметаў ці з'яў: *Ён або апаноўваўся нейкімі новымі думкамі, або можа пачыналася ў яго замыканне самога ў сабе* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Яны або далі яму гэтыя грошы, або, у лепшым выпадку, ён іх знайшоў* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

§ 1118. У размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца часам складаназлучаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе парнага злучніка *хіба — або (хіба — альбо)*. Гэты злучнік надае сінтаксічным адносінам характар няпэўнага дапушчэння ў выбары адной з тых з'яў ці падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках: *Хіба ўжо справа такая заблытаная, або айцоў многа?* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Хіба толькі дзеці кучай у пяску на сухім месцы збяруцца і ажывяць яе сваім рогатам, альбо брахне дзе з-пад варот сабака* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

§ 1119. У складаназлучаныя сказы са злучнікамі *або (альбо), або — або (альбо — альбо)* звычайна ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Шуміць вецер або ідзе дождж* (П. Галавач. Праз гады). *Або ён не ведае аб арышце Панаса, або штось тоіцца ў яго на думках* (Я. Колас. Дрыгва). *Зараз жа на кухню, або спецыяльна займуся з табою* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ты, брат, відаць, здорава на яго раззлаваўся, альбо табе нагаварылі шмат непатрэбнага* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ёй, мусіць, не спалася дома, або яна ўстала досвіткам з празмернай руплівасці* (К. Чорны. Мельнікі). *Ніхто не ішоў адчыняць. Або не пачулі стуку, або не было дома* (Я. Колас. У палескай глушы).

У некаторых складаназлучаных сказах другая састаўная частка ўжываецца ў своеасаблівай форме няпоўнага сказа: яна складаецца толькі з аднаго элемента злучніка *або — або*: *Або гэта вельмі рэдкі выпадак падабенства, або...* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Або ты аддасі мне зараз жа матэрыялы, або ...* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх ёсць агульныя словы для абедзвюх састаўных частак. Як правіла, гэтыя словы размяшчаюцца ў пачатку складаназлучанага сказа: *Верабейку стужа змора, або ястраб схваціць* (Я. Купала. Думкі ў астрозе). *Пасля гэтага або ты запражэш добрага каня, або я цябе арыштую* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ці то — ці то*

§ 1120. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ці то — ці то* выражаецца пералічэнне або размеркаванне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, якое суправаджаецца мадальным адценнем меркавання ці развагі. Гэта пералічэнне звычайна праводзіцца ў плане аднаго і таго ж часу, аб чым сведчаць віда-часавыя суадносіны выказнікаў састаўных частак: *Ці то сонца свеціць, ці то месяц ясны вам смяецца з неба весела і шчасна* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Ці то галінка трэснула, ці то птушка спрасонку крыллем устрапянула* (З. Бядуля. Віхор). *Ці то шалахціць ігліца, ці то зоры варушацца і цярушацца там, ападаючы раз-пораз бліскучай znічкай-рыскай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ці то птушкі пяюць, ці то пераліваюцца, журчаць ручаі пад вузлаватымі карэннямі соснаў* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб).

§ 1121. У радзе складаназлучаных сказаў, у якіх паведамляецца аб пералічэнні ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, састаўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучніка *ці то — ці*. Аднак характар сінтаксічных адносін пры такім аб'яднанні праяўляецца менш выразна: *Ці то стогне бура, ці віхор гуляе* (Я. Купала. Дуб). *Ці то ішлі на працу сяляне, ці пастушкі дзе гналі карову на пашу, ці мо' рухаўся паблізу які вайсковы атрад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1122. У складаназлучаных сказах са злучнікамі *ці то—ці то, ці то—ці* аб'ядноўваюцца дзве або тры (вельмі рэдка) састаўныя часткі, якія маюць аднатыпную форму простых двухсастаўных ці аднасастаўных сказаў: *Ці то сонейка загасілася, ці то ўскрылася апраметная?* (Я. Купала. Чаго хмурыцца?). *Ці то гарэлі штабялі шпал і бярвення, ці то загарэліся заводскія сцены* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ці то хочацца будзённічыны гэтай шэрай, ці то хочацца ляцець куды лёгкай птушкаю за свет* (Р. Мурашка. Сын). *Ці то птушка божжа кінула зярно, ці то занялося бураю яно, ці з дзіравай торбы конік чый згубіў, на чужую скібу зерне пасадзіў* (Я. Колас. Жытні колас).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *не то — не то*

§ 1123. У складаназлучаных сказах са злучнікам *не то — не то* выражаецца пералічэнне або размеркаванне ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, якое суправаджаецца мадальным адценнем няпэўнасці і сумнення. Паасобныя элементы адзначанага злучніка ўжываюцца або ў пачатку кожнай састаўной часткі, або ў сярэдзіне першай і пачатку апошняй. Аднак і тыя і другія складаназлучаныя сказы ў сучаснай беларускай мове сустракаюцца параўнальна рэдка: *Не то сякера мерна чэша, не то хтось кашляе ці брэша* (Я. Колас. Новая зямля). *Не то самалёт у вышыні гудзіць, не то машына нейкая грукоча* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Над полем не то пыл курэў, не то трапяткая імга ўзнялася аж да самага лесу* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб).

§ 1124. У складаназлучаных сказах са злучнікам *не то — не то* звычайна аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Не то загукала сава, не то прапішчаў заяц* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Ей зрабілася не то сорамна за Васіля як знаёмага, не то гібельная злосць закіпела ў ёй на яго* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Сустракаюцца зрэдку складаназлучаныя сказы, у пачатку якіх размешчаны агульныя словы для кожнай з састаўных частак: *З таго боку ўзгорка чуваць не то пчаліны гуд, не то людскія галасы даносяцца ў працяглым урачыстым спеве* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *У карых вачах чалавека свяцілася не то хітрынка, не то прарывалася лёгкая ўсмешка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а то*

§ 1125. Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі, калі пералічальна-размеркавальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў афармляюцца пры дапамозе злучніка *а то*. У такіх сказах звычайна выражаецца пералічэнне папераменных або ўзаемна выключаючых з'яў і падзей, якое суправаджаецца дадатковым супастаўляльна-ўступальным адценнем: *У паветры прамчаўся покліч гармоніка, а то зусім блізка ўзнік мерны ўсплёск рыбацкага вясла* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У лепшым выпадку можна сарвацца і запэцкацца ў гразь, а то можна ўпасці ў яму і скалечыцца* (П. Галавач. З тых дзён). *Пад млыном можна схавацца за стаян, прытуліцца дзе-небудзь за штандарамі, а то можна крокаў на пяць ад краю прылегчы і ў жыце* (А. Кулакоўскі. Стары млын).

§ 1126. У складаназлучаных сказах са злучнікам *а то* знаходзяцца дзве састаўныя часткі, якія звычайна маюць аднатыпную форму простых двухсастаўных або аднасастаўных сказаў (гл. § 1125).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНАЙ СУВЯЗЗЮ

§ 1127. Сінтаксічная сувязь састаўных частак складаназлучанага сказа, пры якой гэтыя часткі адыгрываюць нераўнапраўную ролю ў выражэнні адзінай складанай думкі, называецца далучальнай. У складаназлучаных сказах з такой сувяззю другая (далучаемая) састаўная частка з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна таго, што перадаецца ў першай (асноўнай) састаўной частцы.

Складаназлучаныя сказы з далучальнай сувяззю маюць перарывістую будову і разнародны састаў. Перарывістасць будовы знаходзіць выражэнне перш за ўсё ў інтанацыйным афармленні састаўных частак. Пры далучальнай сувязі састаўныя часткі характарызуюцца рознай інтанацыйнай афарбоўкай, а на стыку гэтых частак вытрымліваецца адпаведная паўза значнай працягласці, якая і робіць складаназлучаны сказ перарывістым. Разнароднасць саставу складаназлучаных сказаў знаходзіць выражэнне ў структурнай разнатыпнасці састаўных частак, у адсутнасці паралелізму іх унутранай будовы.

У сучаснай беларускай мове далучальная сувязь служыць для афармлення разнастайных сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ПЕРАЛІЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1128. Д а л у ч а л ь н а-п е р а л і ч а л ь н ы м і называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка прымыкае да зместу асноўнай часткі, уносячы штосьці новае і важнае ў апісанне агульнай складанай з'явы. Пры гэтым паведамленне ў далучаемай частцы не вынікае непасрэдна з таго паведамлення, якое змешчана ў папярэдняй (асноўнай) частцы, а нанізваецца на яго, у выніку чаго ўтвараецца пераважна адкрыты рад састаўных частак.

Далучальна-пералічальныя адносіны, якія існуюць паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, вызначаюцца на аснове лексіка-граматычнага значэння і інтанацыйнага афармлення гэтых састаўных частак.

Для сувязі састаўных частак у складаназлучаных сказах з далучальна-пералічальнымі адносінамі ўжываюцца злучнікі *і, ды, ды і (дый), а,* якія заўсёды суправаджаюцца экспрэсіўнымі адценнямі.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1129. У складаназлучаных сказах, дзе далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і*, змяшчаюцца паведамленні, якія ў пэўнай меры звязаны з адной і той жа асобай або прадметам. Як правіла, гэта асоба ці прадмет у першай састаўной частцы абазначана назоўнікам, а ў другой — адпаведным яму займеннікам: *Вазьмі гэты кавалак, Міхаіл... і нешта ў кубак ты забываешся заглянуць* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Але пра вераб'іныя імёны нічога не чуваць, і ў календары яны не значацца* (Я. К о л а с. У чым іх сіла).

§ 1130. Асабліва вялікае месца займаюць складаназлучаныя сказы, у якіх далучальна-пералічальныя адносіны афармляюцца пры дапамозе злучніка *і — і*. Аднак у гэтых сказах паўтараемыя члены іншы раз могуць адсутнічаць: *Такія ж былі харошыя дні, і маці была, і дзед быў, і ўласная хата была* (М. Л ы н ь к о ў. Ядвісін дуб). *Адгэтуль мой бацька выйшаў, і я сама тут радзілася, і першае маленства маё прайшло тут* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). Параўн.: *Тады мы пасварыліся, і ты паехаў у Баку, і мы разлучыліся, і шмат часу прайшло ад той пары* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

У радзе выпадкаў злучнік *і —і* ставіцца перад кожнай з састаўных частак складаназлучанага сказа. Пры гэтым далучальнае пералічэнне набывае асабліва выразны і маналітны характар: *І холадна, і дзень нам служыць мала, і цьмяны ён у покрыве імжы* (Я. К о л а с. Мары аб вясне). *І постаць матчына была прыгорбленая, і твар абветраны, шэры, і валасы з-пад дзіравай хусткі выбіваліся над ілбом, і ўся на латах вопратка яе няспрытна і няроўна сядзела на ёй* (К. Ч о р н ы. Дарагуся). *І вецер блукаў па дарогах не дрэнны, і вецер пяскамі замятаў палкі, і вецер атручваў вочы газамі, і вецер крычаў у завадскія сірэны, і вецер у бой заклікаў штыкі і з імі хадзіў у атакі разам* (А. К у л я ш о ў. Па песню, па сонца).

§ 1131. Далучальна-пералічальныя адносіны праяўляюцца больш выразна, калі ў складзе далучаемай часткі складаназлучанага сказа ёсць часціцы *яшчэ, таксама*: *Твар у Піліпа свяціўся нястрымным энтузіязмам, і яшчэ некаторыя хлопцы не спускалі з майстра вачэй* (А. К у л а к о ў с к і. Хораша ўзыходзіць сонца). *У нас кожны глядзіць свайго, і я свайго таксама* (Я. Б р ы л ь. Дзеля сапраўднай радасці).

Адпаведная выразнасць характарызуе далучальна-пералічальныя адносіны таксама тады, калі ў склад састаўных частак (асноўнай і далу-

чаемай) уваходзяць пабочныя словы *па-першае, па-другое* і інш., размешчаныя ў пачатку гэтых частак. Як правіла, такія сказы маюць агульныя члены, у ролі якіх могуць выступаць паасобныя словазлучэнні, састаўныя часткі складаных сказаў і самастойныя сказы: *У такіх выпадках, па-першае, дасягаецца максімальнае выкарыстанне тэхнічных магчымасцей машыны і, па-другое, атрымліваецца патрэбная агратэхнічная якасць работы* (з газет). *Адчуваў ён сябе вельмі добра: па-першае, яго праект — асушыць Гнілое балота — удаўся яму як не трэба лепей; па-другое, сяляне вельмі сардэчна праводзілі яго і прасілі прыехаць да іх на другое лета, і, па-трэцяе, з ім ехала і Аленка* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *І ўсё ж дзед Талаш не паў духам. Па-першае, трэба праверыць словы маладзіцы і па-сапраўднаму разведаць становішча ў мястэчку і, па-другое, трэба параіцца з Букрэем* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1132. Складаназлучаныя сказы з далучальна-пералічальнымі адносінамі ўключаюць дзве і больш састаўных частак, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Хутка пройдзе зіма, і цяпер яна ўжо не лютая* (П. Галавач. Дасужая). *Былі жанкі, і былі мужчыны, і тут яшчэ нашы вясковыя жанчыны былі* (К. Чорны. Вясна). *Сабакі, пабрахаўшы, змаўкалі, і патрывожаная ноч яшчэ цяжэй насядала на халодную сырую зямлю, і яшчэ маркотней шумеў над рэчкай аголены лес* (Я. Колас. Малады дубок).

Некаторыя з такіх састаўных частак могуць мець няпоўную форму: *І восень на свеце, і восень на сэрцы* (Я. Купала. З асенніх напеваў). *Дзядзька смяецца над кнігай, і мы таксама* (Я. Брыль. У сям'і). *Па-першае, ён здыме з сябе адказнасць і, па-другое, напэўна дазнаецца юрыдычную падставу рамонту гэтага самага лежака і адпаведна з гэтым возьме належную лінію паводзін* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх адна з састаўных частак мае форму простага двухсастаўнага, а другая— аднасастаўнага сказа: *І гора было, і нястачы былі, і колькі ворагаў розных траплялася на нашай дарозе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У радзе выпадкаў складаназлучаныя сказы з далучальна-пералічальнымі адносінамі маюць агульныя члены, якія размяшчаюцца ў пачатку або ў канцы гэтых сказаў: *Вось і зіма прайшла, і дзень вялікі, і перазімавалі, і вясны дачакаліся* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *І чулі балоты прэсныя, і чулі ўсе птахі лясоў, і чулі азёры і долы, на вёсках бабулі старыя, і чулі ўсе травы дзікія салдацкую сумную песню* (А. Куляшоў. Крыўда).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1133. Злучнік *ды* ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-пералічальнымі адносінамі ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры. У складаназлучаных сказах з гэтым злучнікам змяшчаюцца разнастайныя паведамленні, якія звязаны з адной і той жа асобай ці прадметам або, не маючы такой сувязі, служаць для больш поўнай характарыстыкі агульнай складанай з'явы: *Яна ўжо і не старалася яго бачыць, ды яго і самога не відно было* (К. Чорны. Трыццаць год). *А цяпер хаця малачка пакаштуй, ды хлеб вось тут у мяне прызапашаны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сюды цяпер няма ні сцежак, ні дарожак, ды самога гаспадара ўжо трэці дзень няма дома* (А. Кулакоўскі. Шляхамі жыцця).

§ 1134. У тых выпадках, калі для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў ужываецца злучнік *ды — ды*, характар далучальна-пералічальных адносін праяўляецца больш выразна: *Адных толькі пакояў восем займае, ды машына, ды шафёр* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Прымай гасцей, Сымон, ды коням там сена падкінь, ды аўса рас-*

*старайся* (там жа). *Там жа ходзяць шэрыя вайкі, ды гукаюць совы ў гушчары, ды лісіцы брэшуць ля нары, ды калыша штосьці там раку* (А. Бялевіч. Згаварыліся, заручыліся).

Пры большай катэгарычнасці далучальнага пералічэння злучнік *ды— ды* ставіцца перад кожнай з састаўных частак: *Ды ёсць жа ты, праўда, на свеце, ды ёсць жа ты, вечны закон* (Я. Колас. Адплата). *Ды я цябе ў турму за такую гаворку, ды я цябе пад расстрэл, ды я цябе...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1135. Далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды* могуць суправаджацца экспрэсіўнымі адценнямі. У такім разе непасрэдна за далучальным злучнікам заўсёды размяшчаецца часціца *яшчэ*: *Мы сёння зaскварaную бульбу елі, ды яшчэ па кубку малака нам давалі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Удвух яны былі ў мяне ў хаце, ды 'шчэ на дварэ на машынах іх колькі начавала* (там жа).

§ 1136. У складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі афармлены пры дапамозе злучніка *ды*, заўсёды ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў (поўных або няпоўных): *Дык жывіце, дзеткі, згодна, ды язык ты свой трымай* (Я. Колас. Зяць). *Склад збажыны і млын ахоўвала чалавек пятнаццаць паліцаяў, ды было яшчэ на станцыі чалавек дзесяць з нямецкай дарожнай аховы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Я жыву са старымі бацькамі, ды пры мне яшчэ брат, дзесяць гадоў* (Р. Мурашка. Сын). *Яны не адмовяць нашай просьбе, ды на Зоську ласку маюць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

У радзе складаназлучаных сказаў адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Давай лепш класціся спаць, ды няхай табе прысняцца добрыя сны* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Нікога не бойся, ды яшчэ павага табе* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Складаназлучаныя сказы, у якіх кожная з састаўных частак мае форму простага аднасастаўнага сказа, сустракаюцца даволі рэдка: *Айда адсюль хутчэй, ды на вочы больш не паказвайся!* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1137. У складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі афармлены пры дапамозе злучніка *ды — ды*, могуць уваходзіць дзве, тры і больш састаўных частак, якія маюць разнастайную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў (гл. § 1134).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды і* (*дый*)

§ 1138. Злучнік *ды і* ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-пералічальнымі адносінамі ў асноўным тады, калі далучаемая частка мае важнае значэнне і на ёй акцэнтуецца асаблівая ўвага. У размоўным стылі замест злучніка *ды і* састаўныя часткі могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе злучніка *дый*, аднак пры гэтым экспрэсіўны характар пералічэння некалькі аслабляецца.

У большасці складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды і* (*дый*) паведамляецца аб пералічэнні з'яў і падзей, якія маюць аднатыпны характар і звязаны з рознымі асобамі ці прадметамі. Адметную рысу гэтых сказаў складае адсутнасць аднолькавых слоў і спалучэнняў у іх састаўных частках: *Банадыся трэба жаніць, ды і дачка на выданні* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Трэба прасіць машыны, ды і крэдыт некаторы спатрэбіцца* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Гумно ледзьве ліпіць, ды і будынкі ўсе папарахнелі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Жывёлы, зямлі прыбавіцца, ды і рабочых рук больш стане* (М. Зарэцкі. Сцеж-

кі-дарожкі). *Рабіць бы што-небудзь, араць, дый касіць ужо час* (П. Галавач. Уцякач).

У некаторых складаназлучаных сказах можа паведамляцца аб пералічэнні з'яў і падзей, якія звязаны з адной і той жа асобай ці прадметам. Такія сказы вызначаюцца наяўнасцю аднолькавых слоў або спалучэнняў, якія знаходзяцца ў кожнай састаўной частцы або ўжываюцца ў першай састаўной частцы і апускаюцца ў другой: *Шрыфт у нас ёсць, ды і ў атрадзе Кандыбы маюцца шрыфты дзвюх раённых друкарань* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Сям-там калыхалася на кустах пажоўклае лісце, ды і ў паблеклай траве валялася яго нямала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Нешта ў цябе з рытмам не ладзіцца, ды і рыфмы трапляюць слабаватыя* (І. Гурскі. Перад бурай). *У цябе ж яшчэ тэрмін водпуску не скончыўся, ды і рука яшчэ не зусім у форме* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 1139. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *ды і (дый)*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Я буду наведваць вас часта, ды і яшчэ хто-ніхто са знаёмых можа зазірнуць* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Аднак загаварыўся я з вамі, ды і хворым мы тут перашкаджаем* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пастарэлі сляды, ды і сам я даўно не юнак малады* (А. Куляшоў. Кожны мае свой бор...). *Рухі яго былі энергічныя, дакладныя, ды і ўвесь ён выглядаў сабраным* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *У грудзях дзве раны, ды і рукі пашкоджаны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Нярэдка ў такіх сказах дзейнік першай састаўной часткі ставіцца дапаўненнем у другой частцы, а дапаўненне першай часткі — дзейнікам у другой. Калі дзейнік або дапаўненне першай састаўной часткі выражаны назоўнікам, які абазначае ўласнае імя, то ў другой састаўной частцы замест назоўніка можа ўжывацца адпаведны яму займеннік: *Дужа не любіў гаспадара свайго Васька, ды і гаспадар гэты не сказаць каб залішне ўпадабаў Ваську* (М. Лынькоў. Маладосць). *Яна спадабалася яму, ды і ён не абыякавы для яе* (П. Галавач. Праз гады). *Алёнка з Сяргеем яго не заўважылі, дый ён іх не бачыў* (І. Гурскі. Расцвілі вішні).

У некаторых складаназлучаных сказах са злучнікам *ды і (дый)* адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Праз гэты гушчар цяжка было прабрацца, ды і рэдка сюды хто заглядаў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Праскочыць чыгунку днём цяжкавата, ды і рызыка лішняя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён адчуў сябе зусім яшчэ юнаком, ды і з выгляду яму нельга было даць больш трыццаці* (П. Галавач. Праз гады). *Ты лажыся, ды і мне пара адпачыць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды і (дый)* могуць мець агульныя словы, якія звычайна размяшчаюцца ў пачатку такіх сказаў: *У змаганні ёсць калецтвы, ды і смерці не бракуе* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Раней не вучыліся такія, як мы, дый школы такой не было* (П. Галавач. Дасужая).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1140. Злучнік *а*, які ўжываецца для афармлення далучальна-пералічальных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, звычайна паўтараецца перад кожнай састаўной часткай. Толькі ў тых выпадках, калі ў складаназлучаным сказе аб'яднана больш дзвюх састаўных частак, перад першай (асноўнай) часткай злучнік *а* можа адсутнічаць. У складаназлучаных сказах з гэтым злучнікам змяшчаюцца паведамленні аб пералічэнні з'яў і падзей, якія маюць аднатыпны ха-

рактар і ў сваёй большасці звязаны з рознымі асобамі ці прадметамі: *А мароз траскучы ды пякучы, а ў стадоле холад — хоць скачы* (А. Бялевіч. Карэнні дуба). *Унь алешнічак, а унь сасняк, а унь бярозкакаржачок, а унь Несцяровічава даўнейшая сяліба* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Мы сядзелі каля хаты, а воз стаяў у гумне, а бацька на рабоце ў пана, а маці памёрла* (К. Чорны. Зямля). Параўн.: *А над ёй вясна ідзе подыхам вятроў, а за ёй тайга гарыць полымем кастроў* (А. Звонак. Бурхала).

§ 1141. Сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх паведамляецца не аб пералічэнні адпаведных з'яў і падзей, а аб пералічэнні паасобных дзеянняў або станаў адной і той жа асобы ці прадмета. Як правіла, гэта асоба ці прадмет у кожнай з састаўных частак абазначана аднолькавым назоўнікам, які выконвае функцыю дзейніка і суправаджаецца экспрэсіўным адценнем: *А дзень гарыць, а дзень палае* (Я. Колас. Новая зямля). *А месяц дзівіцца, а месяц смяецца* (К. Крапіва. Людзісуседзі). *А ноч пайшла, а ноч далёка* (П. Глебка. Урачыстыя дні). *А ты ўсё вучышся, а ты ўсё ў кніжку* (Н. Гілевіч. Дома).

Акрамя экспрэсіўнага адцення, далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў могуць суправаджацца азначальным і дапаўняльным адценнямі: *А на вогнішчы попелу горсці, а ў тым попеле чорныя косці* (Я. Купала. Партызаны). *Навокал высокі панскі лес, а за лесам — балота, а за балотам— сплаўная рэчка Слізянка* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі). *Войт пайшоў за казой, а каза ў лес наўцёкі, а з лесу выскачыў воўк ды казу за горла* (Зб. «Народная творчасць»).

§ 1142. У некаторых складаназлучаных сказах далучальнае пералічэнне вызначаецца адпаведнай катэгарычнасцю, якая знаходзіць адлюстраванне ва ўвядзенні ў склад кожнай з састаўных частак пабочных слоў *па-першае, па-другое* і інш. Сінтаксічная сувязь паміж такімі састаўнымі часткамі ажыццяўляецца пры дапамозе адзіночнага злучніка *а*: *Яму хацелася, па-першае, апраўдаць сваю славу чалавека з лёгкай рукою, а па-другое, мелася на ўвазе насаліць дзеду Піліпу за яго кпіны* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ісці туды сапраўды не варта. Па-першае, гэта даволі далёка ад берага, па-другое, усіх сваіх манаткаў мы туды не зможам перанесці, а па-трэцяе, я там ужо быў* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

§ 1143. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-пералічальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *а*, уключаюць дзве, тры і больш састаўных частак, якія маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *А неба сіняе штодзённа хмарыцца, а хмары белыя, а хмары чорныя то ласкай бліскаюць, то сілай хваляцца* (П. Глебка. Рытмы). *А груш які там выбар быў, а слуцкіх бэр гара, а белы-белы той наліў бы сонца ўсё забраў* (П. Броўка. Чырвонгарадок). *А ў мяне дзяржаўная крама, а ў мяне грошы... а я ніколі чужой капейчынай не жыў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пайшоў каток на вулку, а дзіцятка ў люльку, а я буду калыхаць, а дзіцятка будзе спаць* (Зб. «Народная творчасць»).

Такую ж колькасць састаўных частак маюць складаназлучаныя сказы, у якіх самі часткі пабудаваны ў форме простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў: *А як свецяць ноччу зоры, а які таемны гай!* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *А сцягі ўзляталі вышэй галавы, а гоман і жарты, а песні няспынна!* (П. Броўка. Мінск).

У складаназлучаных сказах са злучнікам *а—а* нярэдка ёсць словы, якія паўтараюцца ў кожнай састаўной частцы: *А сонца глядзіць, а сонца дзівіцца* (К. Крапіва. Людзі-суседзі). *А навошта ж бізуны вам, а навошта ж мечы?* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *А ў горадзе — шумна, а ў горадзе — гул* (А. Александровіч. Дваццаць). *А ці хутка ўжо сонца, а ці хутка вясна?* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-АЗНАЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1144. Далучальна-азначальнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка характарызуе папярэднюю (асноўную) састаўную частку, раскрываючы яе змест з боку якасці, прызначэння і г. д. Гэта характарыстыка знаходзіць найбольш яркае выражэнне ва ўказальных займенніках *гэта, тое* і інш., якія заўсёды размешчаны ў далучаемай частцы і служаць асноўнымі паказчыкамі названых адносін. Як правіла, далучаемая частка такіх сказаў можа характарызаваць увесь змест папярэдняй састаўной часткі або паасобныя яе члены.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-азначальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, а, але, ды.*

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1145. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае ўсю папярэднюю частку, непасрэдна за злучнікам *і* размяшчаецца ўказальны займеннік *гэта*, які ў большасці выпадкаў выконвае функцыю дзейніка далучаемай часткі: *Вы скромны чалавек, і гэта робіць вам чэсць* (Я. Колас. У палескай глушы). *Лоб прарэзалі тры маршчыны, і гэта прыдавала выгляду чалавека больш сур'ёзнасці і сталасці* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Вісарыён паспрабаваў узняцца, і гэта яму ўдалося* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *У канторы нікога не было, і гэта ўзрадавала Алеся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

У радзе складаназлучаных сказаў указальны займеннік *гэта*, які ўваходзіць у склад далучаемай часткі, выконвае функцыю дапаўнення: *Улетку настаўнікі часта гулялі па беразе Нёмана, і на гэта ніхто не звярачаў увагі* (Я. Колас. На ростанях). *Па хутарскіх хлявах пераганялася збожжа ў свіное сала, і на гэтым забагацеў свіны купец Хурс* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Пані заплаціла не таргуючыся, і гэтым справа скончылася* (З. Бядуля. Бондар). *Дзеці збіралі на хлеб каласы, і гэтым жывіліся людзі* (П. Глебка. Герой і партызанка).

§ 1146. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае ўсю папярэднюю састаўную частку, далучальна-азначальныя адносіны могуць суправаджацца дадатковымі адценнямі прычыны або мэты. Гэтыя адценні знаходзяць сваё выражэнне ў спалучэннях прыназоўнікаў *ад* і *для* з формай роднага склону займенніка *гэта* або ў спалучэнні прыназоўніка *за* з формай вінавальнага склону названага займенніка: *На гэтыя пытанні ў Лабановіча адказу не было, і ад гэтага на душы яго стала неспакойна* (Я. Колас. На ростанях). *Ён быў скупы на словы, і за гэта сусед не ўзяў яго ў суд за сведку* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *Ён любіў смяяцца, і для гэтага яму не трэба было шукаць асаблівай прычыны* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Іншы раз далучальна-азначальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў суправаджаюцца рэзка выражаным адценнем неадпаведнасці: *Адзін шкадуе люлькі, і гэта — лепшы друг!* (Я. Колас. Недаступны). *Яму хацелася верыць старому, і гэта не ўдавалася нават пры самых паблажлівых адносінах да яго апавяданняў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 1147. Асобна стаяць складаназлучаныя сказы, дзе далучаемая частка характарызуе ўсю папярэднюю частку, а ўказальны займеннік з'яўляецца азначэннем да назоўніка далучаемай часткі, які выступае ў ролі дзейніка або іншых членаў сказа. У такіх сказах указанне на змест першай састаўной часткі змяшчаецца ў спалучэнні ўказальнага займенніка з азначаемым ім назоўнікам далучаемай часткі: *Вано выкрыў ягоную*

*маленькую хітрасць, і гэта акалічнасць псавала ўвесь строй апавядання* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Многа часу яны ішлі насустрач новаму жыццю, і гэту карціну ніхто не мог забыць* (Р. Мурашка. Сын). *Яна нічога не ведае, і ў гэтым сэнсе яе няма чаго баяцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мне сапраўды нездаровіцца, і ў такім стане я магу нагаварыць вам усякіх непрыемных рэчаў* (там жа).

§ 1148. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае паасобныя члены папярэдняй састаўной часткі, указальны займеннік *гэта (тое)* заўсёды ўжываецца ў функцыі азначэння. Найбольш пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка азначае дзейнік папярэдняй часткі, выражаны назоўнікам. Азначаемы член першай састаўной часткі заўсёды паўтараецца ў другой (далучаемай) частцы, дзе ён выконвае ролю дзейніка або іншых членаў сказа: *Страшэнная слабасць адчувалася ў целе, і гэтая слабасць прывяла ў сябе, прымусіла паварушыцца* (М. Лынькоў. Талісман). *З-за вокан ноч глядзіць маўклівая, і гэта ноч як бы жывая* (Я. Колас. Новая зямля). *Так была наладжана сувязь з калгасам, і гэтай сувязі ён стараўся не губляць* (Я. Колас. Адшчапенец). *Творчыя планы Эдуарда Самуйлёнка былі вельмі шырокія, і ў гэтых планах ён перш за ўсё быў рэалістам* (К. Чорны. Аб Эдуарду Самуйлёнку). *Стаяў калісь тут бор стары, і жыў лясун у тым бары* (М. Багдановіч. Возера).

У многіх складаназлучаных сказах далучаемая частка азначае дапаўненне папярэдняй састаўной часткі. Назоўнік, які ўжываецца ў функцыі такога дапаўнення, звычайна паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю дзейніка або дапаўнення: *Чалавецтва прайшло вялікі шлях, і гэты шлях нас вучыць* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію). *У гэтым позірку яна прачытала знаёмую ўпэўненасць, і гэтая ўпэўненасць перадалася ёй* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Адтуль можна было прынесці багата розных навін, і навіны тыя заўсёды нечым усцешвалі старога* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Жарстак чуе ў іх сілу грамадскую, сілу калектыву, і з гэтай сілай змаганне больш цяжкае* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Працы было па горла, і ў гэтай працы зніклі ўсе маленькія прыгоды* (М. Лынькоў. Салют). *Ніхто гэтай сілай яшчэ не валодаў, і сілы такой не было* (Я. Колас. Роднаму краю і народу).

У радзе выпадкаў далучаемая частка складаназлучанага сказа можа азначаць выказнік папярэдняй састаўной часткі. Калі выказнік з'яўляецца дзеяслоўным, то ў далучаемай частцы пры ўказальным займенніку заўсёды размяшчаецца назоўнік, які ўтвораны ад дзеяслоўнай формы гэтага выказніка і выконвае ролю дзейніка або дапаўнення: *Яго боты цяжка грукочуць па гулкім калідоры, і грукат гэты адгукваецца рэхам у суседніх пакоях* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пераможнаю радасцю гучаць жалезныя колы вагонаў, і гэтае гучанне падхоплівае зарэчны чарот,ператвараючы яго ў цэлую мяцеліцу адрывістага смеху-шуршання* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Самая верхняя шыба чамусьці адтала пасярэдзіне, і праз гэтую адталіну глядзела ў хату раз'юшаная ноч* (І. Шамякін. Завіруха). *Запахла пажаўцелым бульбоўнікам, і ў гэтым паху было штосьці далёкае і да болю знаёмае* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Калі выказнік першай састаўной часткі складаназлучанага сказа выражан іменнай формай або безасабова-прэдыкатыўным словам, то ў другой (далучаемай) частцы пры ўказальным займенніку размяшчаецца ўтвораны ад гэтай іменнай ці безасабова-прэдыкатыўнай формы назоўнік, які часцей за ўсё выступае ў ролі дзейніка: *Вада была халодная, і гэты холад скоўваў стомленае цела* (П. Галавач. Праз гады). *Ён быў у другім гарнітуры, і гарнітур гэты сядзеў на ім вельмі спрытна* (К. Чорны. Трыццаць год). *Навокал было цёмна, і гэтая цемень нічога не адказвала яму* (Я. Колас. Адукацыя).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка азначае акалічнасць папярэдняй састаўной часткі, выражаную назоўнікам. Гэты назоўнік заўсёды паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю дзейніка або дапаўнення: *Грамада падзялілася на дзве часткі, і гэтыя дзве часткі завялі паміж сабой гарачую, злосную спрэчку* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Ніколі барацьба Сцяпанавіча не была па-за калектывам, і гэты магутны калектыў атрымаў перамогу* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казэмата). *Народ ішоў у рашучы наступ на балотную глухамань, і гэты наступ вяла партыя бальшавікоў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка характарызуе азначэнне папярэдняй састаўной часткі. Гэта азначэнне звычайна выражана прыметнікам, ад якога ў далучаемай частцы ўтвараецца назоўнік, ужыты ў функцыі дзейніка або дапаўнення і размешчаны за ўказальным займеннікам: *Яна перапісвалася з зусім незнаёмым чалавекам, і гэты незнаёмы даваў ёй указанні* (М. Г а м о л к а. Тайна крынічнага возера). *Здалёк хатка здаецца досыць паважнай будынінай, і гэтую паважнасць ёй надае высока паднятая стромкая саламяная страха* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам).

З а ў в а г а. У далучаемай частцы складаназлучаных сказаў можа ўжывацца не само слова, утворанае ад азначаемага члена папярэдняй часткі, а яго сінонім: *Яго водбліскі мільгацелі на белым лапіку паперы, і гэты лісток рабіўся то ружовым, то набіраўся густой чырвані* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Яна* [трава] *заплакана расою, і ў гэтых чыстых крыштальных слязах адбіваюцца халодныя ледзяныя зоры* (Я. С к р ы г а н. Памятнае).

§ 1149. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-азначальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Няўпэўненасць ляжала на ўсім, і гэта нервавала Адэлю* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Месца было лясістае, і гэта выкарыстаў Бумажкоў* (К. Ч о р н ы. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Яны ўсміхаліся самі сабе, і гэта ўсмешка была кожнаму зразумела* (К. К р а п і в а. Міхаіл Сільніцкі). *Шчыпле траву калгасны табун, і гэтыя гукі родзяць у вушах старога Арцёма нечуваны звон* (З. Б я д у л я. Віхор). *Стракатыя сцягі палошчуцца ў ранішнім блеску сонца, і на гэтых сцягах незлічоныя зоры* (М. Л ы н ь к о ў. Талісман).

Шырока ўжываюцца і такія складаназлучаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Забастоўку зрабіў хлопец у двары пана, і за гэта да астрога прывялі Сцяпана* (Я. К о л а с. Каля парога). *Некуды зніклі доўгія хлявы і адрыны з павваламі саламяных стрэх, і ад гэтага на двары стала вясялей і святлей* (І. Н а в у м е н к а. Раман з эпілогам). *У велізарнай хаце зрабілася адразу ціха і прасторна, і гэта здалося дзіўным* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах). *Яго мала ведалі ў горадзе, і гэта было лепш* (М. Л ы н ь к о ў. Салют).

Вельмі рэдка сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Аднаго разу Вінцэсю Шастаку давялося-ткі правесці ў калгасным клубе ўвесь вечар, і ў гэты вечар нікуды не рупіла яму ісці* (Б. М і к у л і ч. Жыццёпіс Вінцэся Шастака).

Прыклады сведчаць, што ўказальны займеннік *гэта (тое)* размяшчаецца ў далучаемай частцы перад азначаемым членам непасрэдна за далучальным злучнікам *і*. Аднак не выключаны выпадкі, калі ўказальны займеннік знаходзіцца пасля азначаемага члена: *Па ўсім відаць, чалавек аддадзены сваёй справе, і справа гэтая стала яго прызваннем* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Падлога і дзверы пахлі свежай сасной, і пах гэты нельга было заглушыць ніякай фарбай* (І. Ш а м я к і н. Агранам).

*Думала ўжо дзеўкай векаваць, і з думкай гэтай крыху лягчэй было* (Я. Брыль. Марыля). *Мала хіба ў каваля сваякоў на зямлі, і сваякі тыя ды ўсе наскія* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Калі ўказальны займеннік або спалучэнне гэтага займенніка з азначаемым членам знаходзіцца ў канцы далучаемай часткі, характар далучальна-азначальных адносін праяўляецца менш выразна: *Ад іх адгароджвала родная Дзвіна, і Рыгор быў рад гэтаму* (Т. Хадкевіч. Сяброўства). *Нямала прабадзяўся ён па свеце, і не надта салодка было яму гэта бадзянне* (Я. Колас. Адшчапенец). *Шуміць і гамоніць Савецкае Палессе, і новыя акорды чуваць у гэтым шуме і ў гэтым гомане* (Я. Колас. Дрыгва). *Быў тут калісь маёнтак, і гэты лес і балоты гэтыя належалі да таго маёнтку* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1150. Далучальна-азначальныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *а*, заўсёды суправаджаюцца супастаўляльным адценнем. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае папярэднюю састаўную частку, непасрэдна за злучнікам *а* размяшчаецца ўказальны займеннік *гэта*, які выконвае ролю дзейніка далучаемай часткі: *Галодны тут жа госць ляжаў, а гэта значыла нямала* (Я. Купала. Паляўнічы і пара галубкоў). *Мы зацягваем будаўніцтва, а гэта нельга* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Млыны даюць арцелі зваротныя сродкі, а гэта мае вялікае значэнне ў гаспадарцы* (Я. Скрыган. Новая зямля). *Праўленне калгаса штомесячна пачало падводзіць вынікі сацыялістычнага спаборніцтва, а гэта спрыяла развіццю ініцыятывы калгаснікаў* (з газет).

Калі ўказальны займеннік *гэта* мае форму ўскосных склонаў, то ў далучаемай частцы ён выконвае ролю дапаўнення. Далучальна-азначальныя адносіны тут часцей за ўсё ўскладнены рознымі дадатковымі адценнямі: *Лапко, Таклюся і Пракоп, Мулейка і Ступік і шмат хто з калгаснікаў слухалі гэту прамову з апушчанымі галовамі, а на гэта ў кожнага былі асабістыя прычыны* (Я. Колас. Адшчапенец). *Яго не пакідала зацея адваяваць затокі ад пана Скірмунта, а для гэтага заставаўся адзін толькі спосаб — падаць прашэнне на імя самога цара* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Яны надакучвалі роспытамі і прымушалі хлусіць, а ад гэтага адразу рабілася балюча* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Заўвага. Далучальна-азначальныя адносіны праяўляюцца менш выразна, калі ўказальны займеннік *гэта* знаходзіцца ў сярэдзіне або ў канцы далучаемай часткі: *У нас часта пад нагамі што-небудзь прападае, а мы гэтага не бачым* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *У Вільнюс выпраўляюць, а я і рады гэтаму* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

У некаторых складаназлучаных сказах указанне на характарыстыку ўсёй папярэдняй часткі можа змяшчацца ў спалучэнні ўказальнага займенніка з азначаемым ім назоўнікам далучаемай часткі. У такім разе замест указальнага займенніка *гэта* можа ўжывацца займеннік *такі*: *Вы яшчэ напэўна знаходзіцеся ў стане наладжвання работы, а на гэтай ступені заўсёды многа клопату і непрыемнасці* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *На сходзе жыццё мільёнаў будзе важыцца, а ў такіх вялікіх справах і адзін чалавек можа сабой сюды ці туды перацягнуць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

§ 1151. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае паасобныя члены папярэдняй састаўной часткі, указальны займеннік (*гэты, той, такі*) заўсёды ўжываецца ў функцыі азначэння пры тым назоўніку, які ўтвораны ад азначаемага члена папярэдняй часткі. У большасці выпадкаў далучаемая частка азначае дзейнік папярэдняй састаўной часткі. Назоўнік, які выступае ў ролі дзейніка, звычайна паўтараецца ў далучаемай частцы, дзе ён выконвае функцыю дзейніка ці іншых

членаў сказа: *Там і машыны розныя стаяць, а гэтыя машыны ездзяць і страляюць* (Я. Колас. Дрыгва). *Запытанні адно за другім так і сыпаліся да вучняў, а за гэтымі пытаннямі выклікаліся самі вучні* (Я. Колас. У палескай глушы). *Былі твае песні, ашуг Дагестана, а ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся* (Я. Колас. Памяці Стальскага). *Між кустоў лазы кудлатай бегла сцежачка, вілася, а па сцежцы той плялася постаць нейча ў цьме зацятай* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Калі далучаемая частка складаназлучанага сказа азначае дапаўненне папярэдняй састаўной часткі, то назоўнік, які выконвае ролю гэтага дапаўнення, паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае там функцыю дзейніка або дапаўнення: *Тут патрэбен дасканалы ўлік асадкі рачных суднаў, а гэтыя судны бываюць розныя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Шаволіць вецер вырваныя пасмы саломы на хаце, а праз гэтыя пасмы выступаюць голыя косці-кроквы і латы* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Вольцы патрэбна была моцная апора, а гэтай апоры яна не мела нават у сваёй сям'і* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Наша Панямонь павінна мець школу павышанага тыпу, а такою школаю можа быць толькі гімназія* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

У радзе складаназлучаных сказаў далучаемая частка азначае выказнік папярэдняй састаўной часткі, які выражан іменнай або дзеяслоўнай формай. Ад гэтай формы выказніка ў далучаемай частцы ўтвараецца назоўнік, які выконвае ролю дзейніка або іншых членаў сказа: *Дабро народнае, а народ гэты — мы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *У пакойчыку было ціха, а гэтая цішыня давала магчымасць сабрацца з думкамі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *На гэтай адзіноце можа з'явіцца Толік і адпомсціцца, а помста гэтая інакшая не будзе, як вельмі страшная* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Поле, лес, балота і празрыстыя прасторы надзем'я звінелі птушынымі галасамі, а ў гэтым звоне чулася сумятлівая пайната жыцця* (Я. Колас. На «святой зямлі»).

Далучаемая частка складаназлучанага сказа можа азначаць акалічнасць папярэдняй састаўной часткі. Назоўнік, якім выражана гэта акалічнасць, паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю розных членаў сказа: *Я нават чую аднатонную многагалосую песню жытніх каласоў на зялёных прасторах палёў, а над гэтымі прасторамі сіняе бяздоннае неба* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Прыходзяць людзі па сваіх справах, а спраў гэтых у валасці многа* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Туманаў лёгкія паромы над рэчкай віснуць нерухома, а ў люстры водаў гэтай рэчкі, як закаханая дзяўчына, глядзіцца пышная вярбіна* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 1152. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-азначальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі афармляюцца пры дапамозе злучніка *а*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Лясніцкі збіраў у лесе суніцы, а гэта не дазвалялася* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Мы чырвонаармейцы, а гэта — грозны гук!* (Я. Колас. Чырвонаармейцам). *У людзей з'явілася вера, упэўненасць, а гэта заўсёды выклікае працоўны ўздым* (І. Шамякін. Падмочаны). *Перад ім стаяў узгорак, а па гэтым узгорку ішла дарога каля яру* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Скабакоў спрытна біў цесаком у зямлю, вываРочваў бульбяныя карчы, а бульба тая была яшчэ дробная* (К. Чорны. Сям'я Юрыя Гарэйкі).

У некаторых складаназлучаных сказах адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Яны* [скаргі] *як бы ставілі яго ў ролю суддзі і прымушалі так ці іначай умешвацца ў чужое жыццё, а гэтага яму не хацелася* (Я. Колас. У палескай глушы). *Жудасная цішыня, а ў гэтай цішыні плылі нейкія далёкія, глухія гукі і губляліся тут* (Я. Колас. Дрыгва). *На долю іх нічога не давялося з панскіх зямель, а на гэтых землях асталяваліся саўгасы* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1153. Далучальна-азначальныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *але,* звычайна суправаджаюцца рознымі відамі супраціўных адценняў. У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае ўсю папярэднюю састаўную частку, непасрэдна за злучнікам *але* размяшчаецца ўказальны займеннік *гэта,* які выступае ў ролі дзейніка або дапаўнення: *Алёшка быў на адзін курс старэйшы за Лабановіча, але гэта не замінала іхняй дружбе* (Я. Колас. На ростанях). *Расказаўшы, ён прылёг на лаву падрамаць, але гэта яму не ўдалося* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ён пачаў гразіць, але гэта нічога не памагло* (М. Лыньkoў. Векапомныя дні). *Набліжаецца час вялікіх здрыгаў, але гэта прадбачаць толькі нямногія* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Жанчына сказала няпраўду, але ад гэтага яна здалася мне яшчэ прыгажэй* (Я. Скрыган. Маці). *Тараса Іванавіча тайком лічылі іграком не зусім лаяльным, але аб гэтым яму ў вочы ніхто не гаварыў* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 1154. Сярод паасобных членаў, якія далучаемая частка складаназлучанага сказа азначае ў папярэдняй састаўной частцы, найбольш пашыраны выказнік. Ад дзеяслоўнай або іменнай формы гэтага выказніка ўтвараецца назоўнік, які размяшчаецца ў далучаемай частцы пры ўказальным займенніку і выконвае ролю розных членаў сказа: *Людзі замітусіліся, але ў гэтай мітусні ўжо быў пачатак парадку* (М. Лыньkoў. Векапомныя дні). *Сяк-так збіраліся задаволіць зямлю плугамі, але ў гэтым збіранні была незвычайнасць* (К. Чорны. Забойства). *Яму стала чагосьці смутна, але смутак гэты быў мімалётны, няясны* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Здалёк сады выглядалі яшчэ зялёнымі, але зелень гэтая была не вясенняй* (А. Кулакоўскі. Сад). *Карэнчык таксама расплыўся ва ўсмешку, але гэта ўсмешка вельмі мала дадала яму хараства* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка азначае іншыя члены папярэдняй састаўной часткі: *Ламачча іншы раз пырскала сінім піскам, але гэтая сінь аддавалася ў тонкай напятасці прыжмураных воч* (Я. Скрыган. Зарубчык). *Я задыхаўся ад намагання крыкнуць праз бінты, але такое намаганне толькі выклікала нястрымны боль ва ўсёй галаве* (І. Шамякін. У роднай сям'і).

§ 1155. Асобную групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы, у якіх указальны займеннік *гэта* размешчан у сярэдзіне або ў канцы далучаемай часткі. Аднак у гэтых сказах выражаюцца не далучальна-азначальныя адносіны з супраціўным адценнем, а супраціўныя адносіны з далучальна-азначальным адценнем: *Следам за маніфестам пачалі выбухаць узрывы казённага патрыятызму, але ўражанне ад гэтых узрываў было вельмі нязначнае* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ісці было тут небяспечна, але Чарняхоўскі не звяртаў на гэта ўвагі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Апошнія капейкі выцягваюць з іх розныя дамарослыя адвакаты, але толку з гэтага няма* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён верыў у яе стрыманасць, але штосьці падточвала гэту веру* (Ц. Гартны. Штрэйкбрэхер).

§ 1156. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-азначальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *але,* уключаюць дзве састаўныя часткі, якія ў асноўным маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Скончыў ён нейкую малавядомую сельскагаспадарчую школу, але гэта не перашкаджала яму высока несці свой настаўніцкі гонар і сваю адукацыю* (Я. Колас. На ростанях). *Агонь выхопліваў з цемры невялічкі кавалак, але за гэтым асветленым кругам цемра згушчалася яшчэ больш* (І. Шамякін. Наташа). *Пустая каморка маўчала, але гэтая маўклівасць не толькі не палохала, а нават*

*спакваля супакойвала аслабеўшую дзяўчыну* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Чоран падаецца крыху назад, але гэта толькі хітрасць з яго боку* (Я. Колас. Чоран).

Выключна рэдка сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага, а другая — двухсастаўнага сказа: *Гэта была праўда, але ў гэту праўду не хацелася верыць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Апошнія словы Марыя Андрэеўна прамовіла як бы іранізуючы над сабой, але гэтага ёй не ўдалося* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1157. Далучальна-азначальныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *ды*, суправаджаюцца рознымі відамі супраціўных адценняў. Аднак гэтыя сказы ўжываюцца галоўным чынам у размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры.

У складаназлучаных сказах, дзе далучаемая частка азначае ўсю папярэднюю састаўную частку, указальны займеннік *гэта* размяшчаецца за злучнікам *ды* і выконвае ролю дзейніка або дапаўнення: *Падступіцца да гарэўшых цыстэрн не было ніякай магчымасці, ды гэта было і небяспечна* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Іх на гэты час не было тут, ды на гэта ніхто і ўвагі не звярнуў* (Я. Колас. На ростанях). *Локцям рабілася свежа ад зямлі, ды гэтага Толя не заўважаў* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Назіраць за станцыяй немагчыма, ды ў гэтым не было ўжо асаблівай патрэбы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1158. Паасобнымі членамі, якія далучаемая частка складаназлучанага сказа азначае ў папярэдняй састаўной частцы, могуць быць выказнік, дапаўненне і г. д. Гэтыя члены ў першапачатковай ці зменена́й форме заўсёды паўтараюцца ў далучаемай частцы, а ўказальны займеннік *гэта* служыць азначэннем да іх: *Зямля і неба—адзін дом, ды ў гэтым доме людзям цесна* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Гурт людзей ішоў спакойна, як далёкая хмара, ды ў гэтым спакоі хаваліся бліскавіцы і громы нястрыманага гневу* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Ад дружбы к гульням пераходзяць, ды тыя гульні часта шкодзяць* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 1159. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-азначальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *ды*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець разнастайную форму простых аднасастаўных або двухсастаўных сказаў (гл. § 1157, 1158).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ДАПАЎНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1160. Далучальна-дапаўняльнымі называюцца сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка дапаўняе змест папярэдняй састаўной часткі або ўдакладняе паасобныя яе члены. Гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, дзе важную ролю адыгрываюць паўтарэнні ўдакладняемых слоў, наяўнасць спецыфічных спалучэнняў і некаторыя іншыя кампаненты.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-дапаўняльнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, а, але, ды* і злучальныя словы *прычым, прытым*.

§ 1161. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і* далучаемая частка часцей за ўсё пашырае і ўдакладняе змест толькі аднаго з членаў папярэдняй састаўной часткі. У якасці такога члена можа выступаць дзейнік першай састаўной часткі, выражаны назоўнікам. Пры паўтарэнні ў далучаемай частцы замест назоўніка ўжываецца адпаведны яму займеннік, які таксама выконвае ролю дзейніка: *Усе дарогі гасцінна расчынены перад ім, і ўсе яны даступны яму* (Я. Колас. Макарка Навак). *Касцёл быў блізка, і быў ён вялікі і багаты* (К. Чорны. На граніцы). *Так паміж імі ўсталявалася самая сапраўдная дружба, і мела яна пад сабою цвёрды грунт* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Былі толькі разважанні, і з'явіліся яны трохі пасля* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Праўда, гаворка была трохі іншая, і вялася яна ўжо трохі іначай* (К. Чорны. Максімка).

У радзе выпадкаў удакладняецца выказнік першай састаўной часткі, ад якога ў далучаемай частцы ўтвараецца назоўнік, што выконвае ролю дзейніка або іншых членаў сказа: *Ён многа думаў, і думкі яму спаць не давалі* (Я. Колас. Адукацыя). *Настаўнік учора чытаў газеты, і чытанне не выходзіць у Міхалкі з галавы* (З. Бядуля. Год за годам). *Грымела мора агню, і ў яго пераможных грымотах была пагроза ўсяму жываму* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Пад вагонам ціха гаманілі колы з рэйкамі, і ў гамонцы іхняй чула Надзя нешта бадзёрачае, абнадзейваючае* (П. Галавач. Дасужая). *Я крычу, і на крык мой адказваюць іншыя* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

У некаторых складаназлучаных сказах удакладняецца выказнік першай састаўной часткі ў спалучэнні з дзейнікам. Такое спалучэнне звычайна паўтараецца ў далучаемай частцы, толькі замест назоўніка, які выконвае ролю дзейніка, ужываецца адпаведны яму займеннік. Пры гэтым далучальна-дапаўняльныя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі, суправаджаюцца заключальным адценнем: *Многа думаў над гэтым Сцёпка, і надумаўся ён за навуку сур'ёзна ўзяцца* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *На Беларусь асаднікам Шарон прыехаў жыць, і жыў прывольна ён* (М. Танк. Янук Сяліба).

Сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх удакладняемым членам першай састаўной часткі з'яўляецца дапаўненне або акалічнасць. Назоўнік, які выступае ў ролі такога дапаўнення або акалічнасці, заўсёды паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю дзейніка: *Усё сваё жыццё пражыла Параска ў чужых людзей, і жыццё яе не было радасным* (Я. Колас. На ростанях). *Тут праходзіць дарога з вёскі, і сама вёска відаць адгэтуль* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1162. Нешматлікімі з'яўляюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка ўдакладняе не адзін з членаў папярэдняй састаўной часткі, а састаўную частку ў цэлым. Гэта адбываецца толькі тады, калі ў далучаемай частцы непасрэдна за злучнікам *і* размяшчаюцца спалучэнні *акрамя таго (акрамя гэтага)* і інш.: *Дзяжурны па станцыі быў спакойным чалавекам, і, акрамя таго, яму не было чаго рабіць* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ён мае сапраўдную ваенную стрэльбу, і, апроч таго, уся адабраная ад палякаў зброя паступіла ў яго распараджэнне* (Я. Колас. Дрыгва). *У вас разбіты твар, і, апрача таго, у вас нешта сур'ёзнае з плячом* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Далі Вольцы прэміроўку за лён, і, апрача гэтага, ёй належала процантная надбаўка пры аплаце працадзён натураю* (А. Кулакоўскі. Вольчына праўда).

§ 1163. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Васілька праз сілу ўсміхнуўся, і ўсмешка яго была жаласнай, вялай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Шчанюк таксама*

*трымцеў, і трымценне казытала Ігнася* (Р. Мурашка. Сын). *Багата чутак ходзіць, і чуткі ўсе розныя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У яго ўжо было шэсць чамаданаў туга напакаваных, і напакоўваліся яны з самага пачатку вайны* (К. Чорны. Аксеніны сляды). *Шмат усюды вады, і нейкая яна ржавая* (І. Гурскі. Жалейкава града).

У некаторых складаназлучаных сказах форму простага двухсастаўнага сказа мае толькі адна састаўная частка, другая ж мае форму простага аднасастаўнага сказа: *У каравайніцы вулітак запрасілі, і яны дзяжу на продзіў замясілі* (М. Багдановіч. Мушка-зялянушка і камарык — насаты тварык). *Гаваруной было многа, і гаваруны былі розныя* (К. Чорны. Максімка). *Балела ў баку, і боль быў як пры глыбокім парэзе* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Было яму 14 год, і звалі яго Паўлік* (К. Чорны. Расказы партызан Віцебшчыны).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а*

§ 1164. У складаназлучаных сказах са злучнікам *а* далучальна-дапаўняльныя адносіны выражаюцца ў катэгарычнай форме і суправаджаюцца супастаўляльным адценнем. Далучаемая частка гэтых сказаў можа дапаўняць дзейнік папярэдняй састаўной часткі, які заўсёды выражан назоўнікам. Гэты назоўнік або адпаведны яму займеннік паўтараецца ў далучаемай частцы, дзе ён выконвае ролю дапаўнення ці акалічнасці: *Будзе агонь, а з агню родзіцца новае, нябачанае* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Разведка не шкодзіць ніколі, а ў ёй ты нагледзішся дзіў* (Я. Колас. Адплата). *Мчыцца быстрая машына, а ў машыне дзве дзяўчыны* (Я. Купала. Дзве дзяўчыны). *Надыходзіць вясна, а вясною нейк мімаволі цягне цябе на прастор, на поле* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Хутка ноч, а ноччу, чуў Васька, наступленне, пераход за Буг* (М. Лынькоў. Над Бугам).

У радзе выпадкаў далучаемая частка складаназлучанага сказа дапаўняе выказнік папярэдняй састаўной часткі, выражаны дзеяслоўнай або іменнай формай. Ад такой формы ў далучаемай частцы ўтвараецца назоўнік, які можа выступаць у ролі дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці: *Смяяўся пушчар, а у смесе за ценем цень новы снаваўся* (Я. Купала. З табою). *Ты мой госць, а госць гаспадару не ўказчык* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мы — сіла, а сілай усё можна* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *К таму ж ён і бялявы, а бялявасць паказвае чалавека маладзей яго лет* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Далучаемая частка складаназлучанага сказа можа ўдакладняць дапаўненне папярэдняй састаўной часткі. Пры гэтым назоўнік, які выконвае ролю такога дапаўнення, паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю дзейніка або іншых членаў сказа. Замест назоўніка ў далучаемай частцы некаторых сказаў можа ўжывацца адпаведны яму займеннік: *Мы песню табе, Масква наша, складаем, а песня аб шчасці гаворыць* (Я. Купала. Дзень добры, Масква!). *Сказаўшы гэта, Лапаткевіч паправіў на носе пенснэ, а яно надавала яму досыць паважны выгляд* (Я. Колас. На ростанях). *Мы вядзём барацьбу, а яна без ахвяр не абыходзіцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Лена ў сад расчыніла акно, а за акном вішня расла* (П. Броўка. Добры друг).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка дапаўняе акалічнасць папярэдняй састаўной часткі, выражаную назоўнікам. Гэты назоўнік заўсёды паўтараецца ў далучаемай частцы, дзе ён выконвае пераважна ролю дзейніка: *Бандыты ў лесе ёсць, а лес жа ў нас усюды* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Па ўсёй мясцовасці панавалі ўжо немцы, а мясцовасць была незнаёмая* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

§ 1165. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны афармляюцца пры дапамозе злучніка *а*, уключаюць дзве састаўныя часткі, пераважная большасць якіх мае форму простых двухсастаўных сказаў: *Смяюцца з сонцам побач людзі, а сонца — госць штодзённы іх* (Я. Купала. Дзень Канстытуцыі). *І да тхароў быў дзядзька падак, а тхор цяпер дабёр і гладак* (Я. Колас. Новая зямля). *Вечары праходзілі ў жанчын за пражаю, а за пражаю вяліся доўгія і нудныя гаворкі* (К. Чорны. Свята працы і свету). *Цяпер на збор і ён шыбуе, чагось вясёлы, ног не чуе; а леснікі ўжо ўсе у зборы* (Я. Колас. Новая зямля). *Кожны колас выпіў майго поту, а салёны пот мой — не вада!* (А. Бялевіч. Карэнні дуба).

У некаторых складаназлучаных сказах адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Не відно гаспадыні, а без гаспадыні хатняя пустата набывае характар нейкай журботы* (Я. Колас. Дрыгва). *Трэба ўмець зарабіць, а ўмее не абы хто* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Вайна, а з вайны вяртаюцца далёка не ўсе* (А. Міронаў. Мора ў агні). *Калыша ён у вецці спеў, а ў спеве жалю многа* (У. Дубоўка. Лістапад).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1166. У складаназлучаных сказах, дзе састаўныя часткі аб'яднаны пры дапамозе злучніка *але*, далучальна-дапаўняльныя адносіны суправаджаюцца супраціўным адценнем. Найбольш пашыраны складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка дапаўняе выказнік папярэдняй састаўной часткі, выражаны дзеяслоўнай або безасабова-прэдыкатыўнай формай. У далучаемай часткі ад такога дзеяслова ці безасабова-прэдыкатыўнага слова ўтвараецца назоўнік, які звычайна выконвае ролю дзейніка: *Слухачы засмяяліся, але іх смех быў прыязны* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Чараваў і Найдус, але яго чараўніцтва было асобнага парадку* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Зрабілася весела, але весялосць была кароткай* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Зноў стала ціха, але цішыня зрабілася больш напружанай і больш трывожнай* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). Параўн.: *Хацелася спаць, але спаць нельга было* (П. Галавач. З тых дзён), дзе ўдакладняецца інфінітыў, які ў далучаемай частцы выступае ў ролі дзейніка.

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка ўдакладняе дзейнік або дапаўненне папярэдняй састаўной часткі, выражаныя назоўнікам. Гэты назоўнік або адпаведны яму займеннік паўтараецца ў далучаемай частцы і выконвае ролю дзейніка: *Вядома, усё гэта былі чуткі, але чуткі вельмі і вельмі верагодныя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Да дзядзькі страшна прыступіць, але патроху і памалу ён траціць імпаты запалу* (Я. Колас. Новая зямля).

Часам далучаемая частка складаназлучанага сказа ўдакладняе цэлае спалучэнне, у склад якога ўваходзяць дзейнік і выказнік папярэдняй састаўной часткі. Асноўная ўвага ў такім спалучэнні звяртаецца на выказнік, а таму слова, якое ўтворана ад гэтага выказніка, звычайна ставіцца ў пачатку далучаемай часткі непасрэдна за злучнікам *але*. Такім словам можа быць назоўнік або дзеепрыслоўе, якія ў далучаемай частцы выконваюць ролю дапаўнення ці акалічнасці. У ролі дзейніка далучаемай часткі звычайна выступае асабовы займеннік, які ўжываецца замест таго назоўніка, што выконвае ролю дзейніка папярэдняй часткі: *Лясніцкі для прылікі ўсміхаецца; але за ўсмешкай ён уцішку хавае дапытлівую сур'ёзнасць* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Паўлюк спаў, але і сплючы ён не мог пазбавіцца праклятага палена* (Я. Колас. Тоўстае палена).

§ 1167. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *але*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць разнастайную форму простых двухсастаўных або аднасастаўных сказаў (гл. § 1166).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1168. Далучальна-дапаўняльныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *ды*, могуць суправаджацца экспрэсіўным адценнем катэгарычнасці (*ды≈і*) або супраціўным адценнем (*ды≈але*). Далучаемая частка гэтых сказаў дапаўняе дзейнік, выказнік або іншыя члены папярэдняй састаўной часткі. Слова, якое ўжываецца ў ролі такіх членаў сказа, паўтараецца ў далучаемай частцы, дзе яно часцей за ўсё з'яўляецца дзейнікам: *Былі ў бацькі тры сыны, ды ўсе ж яны Васілі* (Я. Купала. Былі ў бацькі тры сыны). *Ей не хацелася рабіць, ды работа яе мала цікавіла* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *У Алеся думак многа, ды ўсе думкі новы* (Я. Колас. Першы заработак).

Асабліва выразна праяўляюцца далучальна-дапаўняльныя адносіны, калі ў складзе далучаемай часткі знаходзяцца спалучэнні *к таму, к гэтаму*: *Хочацца ж адпачыць хлопцу, ды к таму ж ён — інвалід* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Яго бацька — багаты гаспадар, ды к гэтаму ў мястэчку ён трымаў некалькі крам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 1169. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *ды*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *У яго былі дзве дачкі, ды яны ўжо даўно замужам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Гамыра зноў бяжыць, ды бегчы ўжо няма куды* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *А па страчаных блізкіх на крывавай дарозе можна плакаць, ды плачам у жыцці не паможаш* (П. Броўка. Паланянка).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *прычым*

§ 1170. Далучальна-дапаўняльныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучальнага слова *прычым*, звычайна суправаджаюцца вылучальным адценнем. Далучаемая частка гэтых сказаў дапаўняе не паасобныя члены папярэдняй часткі, а састаўную частку ў цэлым: *Каля хаты ўсе яны спыніліся, прычым кухар прывітаў дачнікаў «добрым вечарам»* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Швед—чалавек не стары, прычым аўтарытэт у яго высокі* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Шырокі размашыста рушыў на спатканне гасцям, прычым жывот яго закалыхаўся, як човен на вадзе* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Выстаўка карысталася вялікім поспехам у парыжан, прычым асаблівую цікавасць выклікалі савецкія экспанаты* (з газет).

У радзе выпадкаў далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі могуць суправаджацца азначальным адценнем. У складзе далучаемай часткі такіх сказаў заўсёды знаходзіцца ўказальны займеннік *гэта* ў ролі дзейніка або азначэння, які служыць яркім паказчыкам гэтага адцення: *Наступленне на правым флангу затармазілася, прычым гэта ставіла пад пагрозу фланг Сібірака* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ведаючы добра сваіх вучняў і ступень іх ведаў, настаўнік закідаў іх пытаннямі, прычым гэтыя пытанні далёка выходзілі за рамкі пачатковай школы* (Я. Колас. На ростанях).

§ 1171. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучальна-

га слова *прычым*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія звычайна маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Лабановіч следам за Вольгай Віктараўнай па чарзе павітаўся з імі, прычым ніхто сваіх прозвішчаў не называў* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Бегучы, Сцёпка толькі блісне на яе сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца грозна* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *У сельскай гаспадарцы Аляскі заняты дзве тысячы чалавек, прычым апрацаваная імі плошча складае ўсяго каля 5 тысяч гектараў* (з газет).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *прытым*

§ 1172. У складаназлучаных сказах са злучальным словам *прытым* характар далучальна-дапаўняльных адносін паміж састаўнымі часткамі праяўляецца больш катэгарычна, чым у складаназлучаных сказах са злучальным словам *прычым*. Аднак складаназлучаныя сказы са злучальным словам *прытым* у сучаснай беларускай мове ўжываюцца вельмі рэдка. Далучаемая частка гэтых сказаў звычайна дапаўняе змест усёй папярэдняй састаўной часткі: *Салдат паслухаўся неахвотна, прытым Клямт улавіў ледзяны выраз яго вачэй* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У нармальных умовах жыццядзейнасці мікраарганізмаў разам з мінералізацыяй арганічнага рэчыва торфу наглядаецца страта агульнага азоту ў малекулярнай форме, прытым яго страта знаходзіцца амаль у прамой залежнасці ад ступені мінералізацыі* («Весці АН БССР»).

§ 1173. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі афармлены пры дапамозе злучальнага слова *прытым*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць разгорнутую форму простых двухсастаўных сказаў (гл. § 1172).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ПАЯСНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1174. Далучальна-паясняльнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка паясняе або раскрывае змест папярэдняй састаўной часткі. Такія адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, у афармленні якога асабліва вялікая роля належыць злучальным словам *гэта значыць, а іменна*, што выступаюць у якасці граматычных сродкаў сувязі гэтых частак. Указаныя словы ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца адназначнымі: яны ўжываюцца для афармлення толькі далучальна-паясняльных адносін.

Складаназлучаныя сказы з далучальна-паясняльнымі адносінамі звычайна сустракаюцца ў навукова-публіцыстычным стылі, дзе характар апісання патрабуе дадатковых, але грунтоўных доказаў і тлумачэнняў.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *гэта значыць*

§ 1175. У складаназлучаных сказах з далучальна-паясняльнымі адносінамі, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі пры дапамозе злучальнага слова *гэта значыць*, далучаемая частка раскрывае і пашырае змест папярэдняй састаўной часткі, а таксама суправаджае яго адпаведным падагульняючым адценнем: *Прыватная ўласнасць на зямлю наогул павінна быць знішчана, гэта значыць права ўласнасці на ўсю зямлю павінна належаць толькі ўсяму народу* (У. Ленін. Праект рэзалюцыі па аграрнаму пытанню). *На працягу многіх гадоў імперыялістычныя колы Захаду прытрымліваюцца палітыкі «з пазіцыі сілы», гэта значыць яны адмаўляюцца ад мірнага вырашэння спрэчных міжнародных пытанняў* (з газет).

§ 1176. У складаназлучаных сказах са злучальным словам *гэта значыць* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія маюць развітую форму простых двухсастаўных сказаў (гл. § 1175).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *а іменна*

§ 1177. У складаназлучаных сказах, дзе далучальна-дапаўняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучальнага слова *а іменна*, далучаемая частка не столькі пашырае змест папярэдняй састаўной часткі, колькі канкрэтызуе яго: *Кукуруза адыгрывае надзвычай важную ролю ў сельскай гаспадарцы, а іменна: яна дае магчымасць значна павялічыць вытворчасць мяса-малочных прадуктаў* (з газет). *Высокі госць знаёміўся з жыццём працоўных нашай краіны, а іменна: ён пабываў у рэспубліках Сярэдняй Азіі і Закаўказзя* (там жа).

§ 1178. Складаназлучаныя сказы са злучальным словам *а іменна* ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія звычайна маюць форму простых двухсастаўных сказаў (гл. § 1177).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-АБМЕЖАВАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1179. Далучальна-абмежавальнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка ўдакладняе і разам з тым абмяжоўвае сферу праяўлення таго, аб чым паведамляецца ў папярэдняй састаўной частцы. Гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, у афармленні якога вялікая роля належыць злучнікам і некаторым займеннікам, размешчаным у далучаемай частцы складаназлучанага сказа. Сярод злучнікаў, якія ўжываюцца для сувязі састаўных частак з далучальна-абмежавальнымі адносінамі, сустракаюцца *і то, ды і то* і інш.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і то*

§ 1180. У большасці складаназлучаных сказаў, дзе далучальна-абмежавальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і то*, далучаемая частка абмяжоўвае змест усёй папярэдняй часткі: *Яны ўзялі з сабой толькі самае неабходнае, і то набралася рэчаў як панесці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У нас, у Ленінградзе, вунь якая дысцыпліна, і то чалавека ад сябе без патрэбы не адкідаюць* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Выплачваюць грошы адзін раз у месяц, і то спісы правяраюць секвестратары* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. Акрамя далучальна-абмежавальных адносін, злучнік *і то* можа ўжывацца для сувязі састаўных частак складаных сказаў з прычынна-выніковымі і ўмоўна-выніковымі адносінамі, якія заўсёды суправаджаюцца абмежавальным адценнем: *У мяне многа сілы, і то цяжка несці* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Я чужая яму, і то ён мяне слухаецца* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Спакойны чалавек вады нап'ецца, і то на карысць яму пойдзе* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Вы прайдзіце толькі па гэтых пракосах, і то адразу сена высахне* (там жа).

§ 1181. У радзе складаназлучаных сказаў са злучнікам *і то* далучаемая частка абмяжоўвае змест аднаго або некалькіх членаў папярэдняй састаўной часткі. Як правіла, такія члены выражаны назоўнікам і выконваюць самыя разнастайныя функцыі: *Гэта наша літаратурнае*

*заціша толькі зрэдку парушаецца нямногімі творамі, і то яны не дужа шырокага дыяпазону* (Я. Колас. Актуальная праблема). *Машын было мала — усяго тры грузавікі, і то адзін з іх больш стаяў на рамонце, як працаваў* (І. Мележ. Дом на праспекце).

§ 1182. У складаназлучаных сказах з далучальна-абмежавальнымі адносінамі злучнік *і то* аб'ядноўвае дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў: *Не дужа вялікая сходка, і то больш дзяды* (Я. Колас. Адплата). *Агонь толькі ў адной хаце, і то, відаць праз акно, пасцель сцелюць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ну, можа самы найменшы элемент трывогі ў яго быў апошнімі часамі, і то з'яўляўся ён не часта* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды і то*

§ 1183. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды і то* далучальна-абмежавальныя адносіны заўсёды суправаджаюцца адпаведнай катэгарычнасцю, у выніку чаго характар саміх адносін праяўляецца асабліва выразна. Далучаемая частка такіх сказаў можа абмяжоўваць усю папярэднюю састаўную частку або некаторыя яе члены: *Я працую ад цямна і да цямна, ды і то з работаю ніяк не ўправіцца* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Зрэдку перакідаліся яны скупымі цяжкімі словамі, ды і то ў сквярліва-лапатлівым звоне бляхі нельга было пачуць іх* (Р. Мурашка. Сын). *На турніку Грыша падцягваўся ўсяго два разы, ды і то яго туды падсаджвалі* (І. Навуменка. Вераніка).

§ 1184. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-абмежавальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *ды і то*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Горшая бяда была з канём, ды і то ён выжыў* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Забілі толькі аднаго зайца, ды і то яго нашчэнт папсавалі* (Я. Скрыган. Зарубчык). *Яе* [выдру] *толькі пасткай можна злавіць, ды і то яе трэба паставіць каля нары* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Гара невысокая, ды і то з яе цяжка з'ехаць* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды і*

§ 1185. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды і (дый)* далучаемая частка з'яўляецца абмежавальным удакладненнем да зместу аднаго з членаў папярэдняй састаўной часткі. Ролю такога члена звычайна выконвае дзейнік, выражаны адпаведным назоўнікам. Для ўказання на абмежавальнае ўдакладненне гэтага назоўніка ў далучаемай частцы заўсёды ўжываецца займеннік *той (тая, тое, тыя)*, які размяшчаецца непасрэдна за злучнікам *ды і (дый)* і таксама выконвае ролю дзейніка: *Было толькі печышча, ды і тое пакорпана парасятамі* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Рукі ў вас кароткія, ды і тыя яшчэ ўкароцім!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Зямля невыгодная, пясчаная, дый тае мала* (Я. Колас. Трыццаць савецкіх год). *Адны косці засталіся, дый тыя парассыпаліся* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун).

§ 1186. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-абмежавальныя адносіны афармляюцца пры дапамозе злучніка *ды і (дый)*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія ў асноўным маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Прыехаў прыстаў, ды і той не мог супакоіць сялян* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Засталося на тых дзялянках толькі пнёўе, дый тое загнівае* (В. Каваль. На загонах). *У хаце было некалькі чалавек, ды і тыя ўкладаліся спаць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ВЫЛУЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1187. Д а л у ч а л ь н а-в ы л у ч а л ь н ы м і называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка вылучае штосьці важнае з папярэдняй састаўной часткі. Гэта вылучэнне заўсёды суправаджаецца ўзмацняльным адценнем.

Далучальна-вылучальныя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, у выражэнні якога розныя кампаненты адыгрываюць розную ролю. У адных выпадках асноўная роля належыць спалучэнням назоўніка з адпаведнымі часціцамі ў складзе далучаемай часткі, у другіх — асобым злучнікам і г. д.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-вылучальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, але, тым больш што.*

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1188. У складаназлучаных сказах з далучальна-вылучальнымі адносінамі непасрэдна за злучнікам *і* заўсёды размяшчаюцца ўзмацняльныя часціцы *нават* і *асабліва.* Гэтыя часціцы ўжываюцца пры пэўным назоўніку або яго спалучэнні, дзе ёсць указанне на тое, што выдзелена і адпаведным чынам падкрэслена са зместу папярэдняй састаўной часткі: *У школе сабралася шмат палешукоў, і нават стараста завітаў сюды* (Я. К о л а с. На ростанях). *Лён і цукровыя буракі — працаёмкія культуры, і нават пры высокай механізацыі вырошчвання яны патрабуюць значных затрат працы* («Весці АН БССР»). *Сярод малышоў ёсць такія слаўныя хлапчышкі, і асабліва з іх грамадкі выдзяляецца Алесік Грылюк* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *На працягу ўсяго свайго жыцця М. І. Калінін удзяляў велізарную ўвагу пытанням камуністычнага выхавання працоўных, і асабліва вялікая ўвага ўдзялялася ім выхаванню савецкай моладзі* (з газет).

§ 1189. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-вылучальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і,* уключаюць дзве састаўныя часткі. Першая частка звычайна мае форму простага аднасастаўнага або двухсастаўнага сказа, а другая — форму двухсастаўнага сказа: *Яе лічылі разумнай, разважлівай маладзіцай, і нават самыя старыя пачалі звяртацца да яе як да роўнай ім* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Стары быў яшчэ дужы, і нават вочы яго захавалі ранейшы блеск* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Адзеты ў лахманы, абвешаны торбамі, з доўгаю арэхаваю палкаю, ён па абліччу нагадваў нейкага ляснога гнома, і асабліва дзіўна была ў яго сівая бародка, збітая ў касмакі* (Я. К о л а с. Дрыгва).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1190. У складаназлучаных сказах са злучнікам *але* далучальна-вылучальныя адносіны заўсёды выражаюцца ў надзвычай катэгарычнай форме. Далучаемая частка гэтых сказаў суправаджаецца пытальнай інтанацыяй і ў большасці выпадкаў адносіцца да выказніка папярэдняй часткі, выражанага дзеясловам. Яна патрабуе ад дзеяслова канкрэтнага ўказання на аб'ект або розныя акалічнасці, якія суправаджаюць ці пры якіх адбываецца тое, што абазначана гэтым дзеясловам: *Трэба зваць на дапамогу, але каго?* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ты пойдзеш, але куды?* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Яго, безумоўна, трэба знайсці, але дзе?* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Будзе свята, але калі?* (Э. С а м у й-

лёнак. Будучыня). *Жыць то трэба, але як?* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Асабліва выразна праяўляюцца далучальна-вылучальныя адносіны, калі далучаемая частка складаназлучанага сказа адносіцца да дапаўнення папярэдняй часткі, выражанага няпэўным займеннікам, або акалічнасці той жа састаўной часткі, выражанай прыслоўем з няпэўным значэннем: *Яму штосьці трэба рабіць, але што?* (Я. Колас. Адшчапенец). *Калісьці ён тут ужо быў, але калі?* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Дзесьці ён бачыў такі твар, але дзе?* (Я. Колас. На ростанях).

§ 1191. У складаназлучаных сказах з далучальна-вылучальнымі адносінамі пры дапамозе злучніка *але* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, з якіх далучаемая заўсёды мае спецыфічную форму няпоўнага сказа (злучнік плюс вылучаемы член). Першая састаўная частка такіх сказаў можа мець форму простага двухсастаўнага ці аднасастаўнага сказа (гл. § 1190).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *тым больш што*

§ 1192. У складаназлучаных сказах са злучнікам *тым больш што (тым болей што)* далучаемая частка адносіцца да ўсяго зместу папярэдняй састаўной часткі і вылучае з яго тое, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Далучальна-вылучальныя адносіны, афармленыя пры дапамозе адзначанага злучніка, заўсёды суправаджаюцца прычынным або прычынна-выніковым адценнем: *Налёт збіў немцаў з усякага панталыку, тым больш што партызаны захапілі бадай палавіну афіцэраў штаба* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Ніхто не бачыў у гэтым незвычайнага, тым больш што такія здарэнні заўважаліся часта адначасова і ў многіх месцах* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Лабановіч сабраўся паблукаць па верханьскіх ваколіцах, тым болей што не ўсе яны былі даследаваны ім* (Я. Колас. На ростанях). *Дзед не хацеў трывожыць сына дзеля эфектнасці моманту, тым болей што Мартын Рыль мог і не быць* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1193. У складаназлучаных сказах пры дапамозе злучніка *тым больш што (тым болей што)* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, з якіх далучаемая звычайна мае форму простага двухсастаўнага сказа, а папярэдняя — форму простага двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Сустракацца з імі Драгош не збіраўся, тым больш што таварышы са штаба батальёна папярэджвалі аб некаторай зацікаўленасці да яго з боку палявой жандармерыі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Высачэнныя мачты громаадводаў каля гэтага будынка, каля такіх жа прасторных канюшань і іншых грамадскіх пабудоў яшчэ больш падкрэслівалі веліч аднаўлення, тым больш што там-сям узнімаліся над хатамі яшчэ нявыкарчаваныя абгарэлыя ліпы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ёй трэба вярнуцца і пагадзіцца з Васілём, тым болей што з ім здарылася такое ліха* (Я. Колас. Дрыгва). *Было яшчэ ўсё ж такі душнавата, тым больш што і вецер сюды амаль не пранікаў* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ПРЫЧЫННЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1194. Далучальна-прычыннымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка раскрывае прычыну папярэдняй састаўной часткі.

Для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-прычыннымі адносінамі ўжываюцца злучнікі *і, а* ў спалучэнні з прыслоўем *таму* і некаторымі іншымі. Акрамя сродкаў сувязі, такія прыслоўі адыгрываюць надзвычай важную ролю ў выражэнні далучальна-прычынных адносін, бо яны з'яўляюцца адзіным граматычным сродкам, у якім змешчана і належным чынам падкрэслена абагульняючае ўказанне на прычыннае значэнне састаўной часткі.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і таму*

§ 1195. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і таму* далучаемая частка з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна зместу папярэдняй састаўной часткі: *На дварэ цёпла, і таму ў хаце ніхто не сядзіць* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Аб'езд быў далёка, і таму рашылі паспрабаваць прайсці праз мост* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У Халімы сёння быў добры настрой, і таму ён увесь час гаварыў у жартаўлівым і насмешлівым тоне* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

У некаторых складаназлучаных сказах замест прыслоўя *таму* пры злучніку *і* могуць ужывацца прыслоўі *загэтым, адтаго* і іншыя спалучэнні з выразным указаннем на прычыну: *З усяго павета з'язджаліся сюды сяляне, і загэтым заўсёды тут было людна і шумна* (К. Чорны. Максімка). *У кабінеце душна, і адтаго старшыня выканаўчага павятовага камітэта даўно расшпіліў каўнер кашулі і часта, перарываючы гутарку, п'е ваду* (П. Галавач. Праз гады). *З дзіўнай руплівасцю сцерагла яна сілы хворага, і дзякуючы таму здароўе хутчэй варочалася да Ігнася* (Р. Мурашка. Сын). *Тавару ўдалося купіць выгадна, і з гэтае прычыны Гельскі быў вясёлы, узбуджаны* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка).

§ 1196. У складаназлучаных сказах з далучальна-прычыннымі адносінамі пры дапамозе злучніка *і таму* і інш. аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў: *Гоман галасоў быў зусім незнаёмы, і таму далятаў ён нечым дзівосным, няведамым, як нейкая стракатая фантастыка* (М. Лынькоў. Талісман). *Па небе паўзлі хмары, хавалі месяц, і адтаго па зямлі плылі чорныя цені* (П. Галавач. Дасужая). *Ніне самой некалі давялося гэта перажыць, і таму цяпер яна ахвотна пачала расказваць яму* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У друкарні не хапае рабочай сілы, і таму іх выпусцілі са школы датэрмінова* (Я. Брыль. Лазунок).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *а таму*

§ 1197. У складаназлучаных сказах са злучнікам *а таму* далучаемая частка таксама з'яўляецца дадатковым паведамленнем да зместу папярэдняй састаўной часткі. Аднак характар далучальна-прычынных адносін паміж састаўнымі часткамі з гэтым злучнікам праяўляецца больш катэгарычна: *Наша справа калектыўнай гаспадаркі ёсць справа жыццёвая, правільная, а таму ёй належыць будучыня* (Я. Колас. Адшчапенец). *Гэту асаблівасць адразу адчуў Васіль Бусыга, а таму прывітанне яго пану Крулеўскаму было яшчэ болей пачцівым, як звычайна* (Я. Колас. Дрыгва). *Бярозавы гай павінен быць чыстым, а таму ўсё наноснае трэба вырваць адсюль з карэннем* (А. Кулакоўскі. Белы галубок). *Вясной ваўчаняты яшчэ не пакідаюць логава, а таму вясна з'яўляецца найбольш спрыяльным часам для знішчэння гэтых драпежнікаў* (з газет).

§ 1198. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *а таму* ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Гэтыя два будынкі былі цагляныя, а таму*

*пажар не знішчыў іх цалкам* (І. Шамякін. У добры час). *Пасля сканчэння школы я застаюся працаваць у калгасе, а таму мае школьныя сябры папрасілі мяне ўзначаліць іх брыгаду* (з газет). *Да дзядзькі асталася прайсці пехатой яшчэ вёрст з восем, а таму яны рашылі заначаваць* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *На Станавіску рос лясок, а таму дроў хапала* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *У хаце было душна, а таму мне вельмі не хацелася сядзець дома* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ВЫЯСНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1199. Далучальна-выясняльнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка раскрывае сутнасць або ўнутраную прыроду таго, што змешчана ў папярэдняй састаўной частцы. Далучаемая частка з'яўляецца як бы вынікам, які не ўзнікае непасрэдна са зместу папярэдняй часткі, а з'яўляецца дадатковым паведамленнем да гэтага зместу.

Далучальна-выясняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі вызначаюцца на аснове зместу гэтых частак, у афармленні якога важная роля належыць дзеясловам-выказнікам, некаторым часціцам і іншым кампанентам, размешчаным у іх структуры.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-выясняльнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, а, але, ды, аж (ажно).*

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1200. У складаназлучаных сказах з далучальна-выясняльнымі адносінамі, аформленымі пры дапамозе злучніка *і,* далучаемая частка прадстаўляе сабой пытанне, якое ўзнікла к зместу папярэдняй састаўной часткі: *Бяда хоць плач, і дзе дзявацца?* (Я. Колас. Новая зямля). *Марылька вырастае, і што чакае яе?* (К. Чорны. Зямля). *Мястэчка пусцее, і што будзе далей?* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ён адзін тут з гэтым панам, і куды ён завядзе?* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Часам далучаемая частка такіх сказаў адносіцца не да зместу ўсёй папярэдняй часткі, а да аднаго з яе членаў. У якасці гэтага члена звычайна выступае выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова: *Азірнуў — і што за дзіва?* (Я. Колас. Доктар памог). *Дзед задумаўся — і што за навіна?* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 1201. У некаторых складаназлучаных сказах са злучнікам *і* далучальна-выясняльныя адносіны могуць суправаджацца адценнем нечаканасці або раптоўнасці. Яркім паказчыкам гэтых адценняў з'яўляюцца часціцы *раптам, вось,* якія знаходзяцца ў далучаемай частцы і размяшчаюцца непасрэдна за злучнікам *і.* Далучаемая частка ў такіх сказах афармляецца апавядальнай інтанацыяй, а змешчанае ў ёй паведамленне нечакана або раптоўна далучаецца да паведамляемага ў папярэдняй састаўной частцы, перарываючы або суправаджаючы яго: *Вёска поўнілася звычайным вячэрнім гоманам, і раптам у другім канцы вуліцы, як звонкі дождж, паліліся гукі баяна* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Іду гэта я праз самы рынак, і раптам такі тут гармідар узняўся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Грабель мільганнем, звонам кос трымцяць лілёвыя прасторы, і вось нібы ў зялёным моры плыве бухматы воз* (К. Крапіва. Жаба ў каляіне). *Устае сяло на трубны гук, спя-*



36. Зак. 378

*шыць к жывёліне сваёй, і вот раздаўся рык і грук кароў, авечак і свіней* (Я. Купала. Пры скаціне).

§ 1202. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-выясняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *і*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей маюць форму простых двухсастаўных сказаў і радзей форму простых аднасастаўных сказаў: *Вось упёрся бацька, не хоча хаўруснай малатарні, і што ты яму зробіш?* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не скончыў расказваць стары Купрыян, і раптам — трывога* (Я. Колас. Адплата). *Усё больш цямнела, і раптам Іліко ўбачыў вялікую хмару* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Няма хлеба, і дзе яго дастаць?* (К. Чорны. Зямля).

Зрэдку ўжываюцца складаназлучаныя сказы, у якіх далучаемая частка мае своеасаблівую няпоўную форму (злучнік плюс пытальнае слова). Першая ж састаўная частка ў такіх сказах можа мець форму простага двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Я вярнуўся, і што ж?* (Я. Купала. За бяседаю). *Увайшлі мы ў гэты палац, азіраемся навокал, і што ж?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Мне балюча, і што ж?* (Р. Мурашка. Сын).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *А*

§ 1203. Далучальна-выясняльныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *а*, заўсёды суправаджаюцца супастаўляльным адценнем і праяўляюцца ў катэгарычнай форме. У большасці такіх сказаў далучаемая частка прадстаўлена ў выглядзе пытання, якое ўзнікае на аснове зместу папярэдняй састаўной часткі: *Ты нарэшце здагадаўся, а дзе ж раней твой розум быў?* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка). *На яго баку закон, а хто пойдзе супроць закону?* (М. Лынькоў. Тонкая сітуацыя). *Цэлы дзень ты ладзіла машыны, а чаму ж ты ўноч не адпачыла?* (У. Дубоўка. Чакае ля берага човен мяне). *Павел хварэе, а дома за хворым каму дагледзець?* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

У радзе выпадкаў далучаемая частка складаназлучанага сказа адносіцца да выказніка папярэдняй састаўной часткі, выражанага дзеясловам абвеснага ладу са значэннем успрыняцця або руху. Яна звычайна суправаджаецца апавядальнай інтанацыяй і раскрывае змест таго, што існуе або адбываецца пры такім успрыняцці ці руху: *Глядзіць — а там каракуль-пража* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Зірнуў я ў топку, а там міна ляжыць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Іду гэта я к Рыгору Абцасаваму папрасіць цвічкоў, а тут чую гвалт на вуліцы* (К. Чорны. Вясковая ветэрынарыя). *Выйшла гэта раз загадчыца ў калідор, а там певень ляжыць* (К. Крапіва. Певень).

§ 1204. У складаназлучаных сказах з далучальна-выясняльнымі адносінамі пры дапамозе злучніка *а* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Алесь зірнуў на Восілене, а тая стаіць і ўсміхаецца* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Усё па закону зроблена, а вы з законам не пагаджаецеся?* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Паплылі па хвалях адны пустыя бочкі, а які інтарэс у тых бочках?* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Грай Сымон ужо нямала, а чаго ж яго рука так парыўна задрыжала пад узлётамі смыка?* (Я. Колас. Сымон-музыка).

У некаторых складаназлучаных сказах аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, з якіх адна мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — простага двухсастаўнага сказа: *Там жа поўзаць трэба, а ты хіба папаўзеш?* (К. Крапіва. Проба агнём). *Абяцалі каменне збіраць, а дзе яно?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *І зоры свецяць, а хіба ж іх паляць?* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Сёння зніішчым рыбу, а калі яе развядзеш?* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *але*

§ 1205. Далучальна-высняльныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *але*, суправаджаюцца супрацiўным адценнем і праяўляюцца ў надзвычай катэгарычнай форме. Далучаемая частка гэтых сказаў заўсёды падаецца ў форме пытання і адносіцца да зместу папярэдняй састаўной часткі: *Тол ляжыць у ёмкай скрыні, але як пад мост падвесці?* (Я. Колас. Адплата). *Печ то там ёсць, але хто яе паліць?* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Надакучыў ён Грэчку, але што ты з ім зробіш?* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ён разумнейшы і сімпатычнейшы за Піліпоўскага, але што яму трэба?* (К. Чорны. Трыццаць год).

§ 1206. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-высняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *але*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *У кухні адбываецца вялікая пакута чалавека, але хто ведае аб ёй?* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Слышэня транспартнымі справамі кіраваў, але які тут у нас асаблівы транспарт?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ляжаць бы ёй, ляжаць ціха ды патроху правіцца дома, — але хіба магла Клава ў такія дні сядзець спакойна дома?* (І. Мележ. Мінскі напрамак) *Гэта — пустыя мары, але чаму ж часам і не памарыць?* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Ад працы ніхто не адмаўляецца, але чым працаваць?* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Без солі есці нясмачна, але дзе тае солі ўзяць?* (К. Чорны. Дарагуся). *Рад быў бы і павучыцца і раманы пачытаць, але ж дзе ўзяць на ўсё часу?* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1207. У складаназлучаных сказах з далучальна-высняльнымі адносінамі, дзе злучнік *ды* ўжываецца ў значэнні злучніка *але*, далучаемая частка звычайна з'яўляецца пытаннем да зместу папярэдняй састаўной часткі: *Міхал сам гэта чуў і ведаў, ды што ты зробіш?* (Я. Колас. Новая зямля). *Засталіся толькі песні, ды што з імі будзе?* (Я. Купала. Дзе?). *Стаміўся ў дарозе, ды дзе спачываць?* (П. Броўка. Шпак).

У радзе выпадкаў далучальна-высняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі маюць азначальны характар. У далучаемай частцы такіх сказаў заўсёды знаходзіцца ўказальны займеннік *гэта*, які мае абагульненае значэнне і выконвае ролю дапаўнення: *Сэрца яе зашчымела, ды каму было сказаць пра гэта?* (Я. Колас. Дрыгва). *Праўда, ён дастаў сабе аплявуху, ды ці варта на гэта звярачаць увагу?* (Я. Колас. Знайшлі).

§ 1208. У складаназлучаных сказах, дзе злучнік *ды* ўжываецца ў значэнні злучніка *і*, далучаемая частка звычайна адносіцца да дзеяслова-выказніка папярэдняй састаўной часткі і суправаджаецца не толькі пытальнай, але і клічнай інтанацыяй: *Глядзіць, ды што за навіна?* (П. Броўка. Родныя берагі). *Ідзе далей ён цераз сад, ды колькі ж дрэваў там дзівосных!* (У. Дубоўка. Кругі).

§ 1209. У складаназлучаных сказах з далучальна-высняльнымі адносінамі пры дапамозе злучніка *ды* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў (гл. § 1207, 1208).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *аж (ажно)*

§ 1210. У складаназлучаных сказах, дзе далучальна-выясняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі афармляюцца пры дапамозе злучніка *аж (ажно)*, далучаемая частка ўяўляецца як штосьці нечаканае або раптоўнае адносна зместу папярэдняй састаўной часткі. У большасці выпадкаў паведамленне, змешчанае ў далучаемай частцы, перарывае тое, аб чым паведамляецца ў папярэдняй частцы. Яркімі паказчыкамі такога нечаканага або раптоўнага перарыву з'яўляюцца прыслоўе *раптам* і паасобныя дзеяслоўныя выклічнікі, якія знаходзяцца ў складзе далучаемай часткі: *Лабановіч ужо хацеў ісці назад, аж раптам грукнула засаўка* (Я. Колас. На ростанях). *На душы рабілася як быццам спакайней, ажно раптам невыносная крыўда напоўніла яе грудзі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Заглядзелася гэтак, аж нехта хапель мяне ў пояс!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Я так крэпка сплю на печы; ажно тут — штурхель у плечы!* (Я. Купала. Сон на кургане).

У некаторых складаназлучаных сказах паведамленне ў далучаемай частцы не столькі перарывае, колькі суправаджае паведамленне з папярэдняй састаўной часткі: *Вось едзе ён, масток мінае, аж хтось з-за паляў вылятае, як жар чырвоны ды вяртлявы* (Я. Колас. Новая зямля). *Раз еду я ў Вільню адведаць сынка, ажно пры дарозе пасецца кабыла* (Ф. Багушэвіч. Як праўду шукаюць). *Пільнавала іх я; ажно раз, нада днём, к ім кабета ідзе* (Я. Купала. Сон на кургане).

§ 1211. У радзе выпадкаў паведамленне ў далучаемай частцы складаназлучанага сказа са злучнікам *аж (ажно)* не непасрэдна выводзіцца з паведамлення папярэдняй састаўной часткі як яго натуральны вынік, а далучаецца да апошняга як нечаканы вынік, узнікшы адносна яго зместу: *Прыляцела мушка дахаты, — аж у яе камарык насаты* (М. Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *А раніцай прачнуліся — аж яго ўжо няма* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Уляцеў я ў двор — аж спатыкае мяне вачыма жонка* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

Іншы раз далучаемая частка складаназлучанага сказа адносіцца да аднаго з членаў папярэдняй састаўной часткі. У якасці такога члена звычайна выступае выказнік, выражаны дзеясловамі са значэннем успрымання (*глядзець, бачыць* і інш.): *Глядзіць, аж Богут у бравэрцы выходзіць з дому ў свой абход* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Бачыць — ажно гэта Маставы з сябрамі* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Тут Ігналя схваціўся, як бы ад цяжкага сну, азірнуўся, — ажно вакол яго стаіць грамада людзей* (З. Бядуля. Сорам). *Паглядзелі, ажно Сёмка на касілцы ўжо сядзіць* (П. Броўка. Добры друг).

§ 1212. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-выясняльныя адносіны афармлены пры дапамозе злучніка *аж (ажно)*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Паглядзеў Сымон, аж чалавек стаіць пад акном, жабрак* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Даніла кончыў сваю рату, да купы ставіць капылы, аж раптам стук пачуўся ў хату з двара, з марознае імглы* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Пайшоў я рана з сваёй дубальтоўкай, ажно ў лесе цецерукоў!* (З. Бядуля. Салавей). *Глядзіць — аж Драка сам шыбуе, ідзе, ківае галавою і газы пах нясе з сабою* (Я. Колас. Новая зямля). *Глядзяць — аж няма нікога* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ЗАКЛЮЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1213. Далучальна-заключальнымі называюцца такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных

сказаў, пры якіх далучаемая частка падагульняе змест папярэдняй састаўной часткі. Гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак, у афармленні якога асабліва вялікая роля належыць паасобным спалучэнням, некаторым злучнікам і іншым кампанентам у складзе саміх частак.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак у складаназлучаных сказах з далучальна-заключальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, ды, ды і (дый)* і злучальныя словы *значыць, словам (адным словам).*

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *і*

§ 1214. У складаназлучаных сказах са злучнікам *і* далучаемая частка з'яўляецца заканамерным падагульненнем таго, аб чым гаворыцца ў папярэдняй састаўной частцы. У складзе далучаемай часткі гэтых сказаў ёсць падагульняючыя словы або спалучэнні слоў, якія ў большасці выпадкаў размяшчаюцца непасрэдна за злучнікам *і* і ўдакладняюць яго значэнне: *Пакой знаходзіцца побач са спальняй, і, такім чынам, яна будзе заўсёды пад кантролем гаспадыні* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Саюз зямельных уласнікаў здолеў перацягнуць на свой бок кулацтва, і тым самым памешчыкі атрымалі значнае падмацаванне* («Весці АН БССР»). *Труслівы чалавек заўсёды чаго-небудзь баіцца, і, значыць, у цяжкую хвіліну ён можа пайсці на здраду* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Параўн.: *Месца вельмі добрае, і мне наогул падабаецца Палессе* (Я. Колас. У палескай глушы), дзе падагульняючае слова *наогул* размешчана не непасрэдна за злучнікам *і*, а ў сярэдзіне далучаемай часткі.

Падобныя словы ў далучаемай частцы складаназлучанага сказа могуць надаваць агульнаму падагульненню мадальны характар развагі, меркавання і г. д.: *Канстанцін Сяргеевіч даваў яму самыя далікатныя даручэнні, і, трэба сказаць, хлопец акуратна спраўляўся з імі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1215. У некаторых складаназлучаных сказах дадатковае паведамленне абагульняючага характару, змешчанае ў далучаемай частцы, суправаджаецца адценнямі катэгарычнасці і вылучэння. У такім разе сама далучаемая частка мае адпаведную форму ўстойлівага спалучэння: *Трэба свайго дабіцца — і больш нічога* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Не пайду — і ўсё тут* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Усё было зроблена гладка — і канцы ў ваду* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

§ 1216. У складаназлучаных сказах з далучальна-заключальнымі адносінамі пры дапамозе злучніка *і* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных або аднасастаўных сказаў: *Кожны быў яму ўдзячны, слухаўся яго — і такім чынам ён зрабіўся важаком* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Прадукцыя на старану адпускаецца без праверкі запазычанасці, і, такім чынам, без патрэбы растуць дэбіторы* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза). *Я тут ні пры чым, і канцы ў ваду* (К. Чорны. Звяга). *Батальён быў на адпачынку, і трэба ж крыху адпачыць* (Я. Колас. Дрыгва). *Буду чакаць — і ўсё тут* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды*

§ 1217. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды* далучальна-заключальныя адносіны заўсёды афармляюцца ў катэгарычнай форме. Далучаемая частка гэтых сказаў з'яўляецца мімаходнай заўвагай абагульняючага характару адносна таго, што змешчана ў папярэдняй састаўной частцы: *Моладасць яе згубіла, ды каго яна не згубіла!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Людзі казалі, ды ці мала чаго людзі гаво-*

*рацы!* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Сымонку любілі бацька і маці дужа шчыра і крэпка; ды было завошта яго любіць* (Ц. Гартны. Сымонка-інжынер). *Даўно ўжо не кавалі ў нашай кузні, ды яна нам так што і не патрэбна была зусім* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Мімаходная заўвага абагульняючага характару можа суправаджацца мадальнымі адценнямі меркавання, развагі і г. д. Гэтыя адценні выражаюцца паасобнымі словамі, якія ёсць у далучаемай частцы: *Вядома, яна не адкрые яму ніякіх сакрэтаў, ды, прызнацца, яна і сама не вельмі ведае іх* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Называлі так Юрку Пятровіча, вядома, толькі за вочы, ды ён, відаць, і ў вочы не пакрыўдзіўся б* (Я. Брыль. У сям'і).

§ 1218. У складаназлучаных сказах са злучнікам *ды* далучаемая частка можа быць пабудавана не ў выглядзе мімаходнай заўвагі абагульняючага характару, а ў выглядзе асобага заключэння адносна таго, што змешчана ў папярэдняй састаўной частцы. Далучаемая частка такіх сказаў ужываецца ў форме ўстойлівых спалучэнняў або выразаў: *Прыстаў конь, ды ўсё тут* (Я. Купала. Паўлінка). *Не разбяруся — ды годзе!* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа).

§ 1219. У складаназлучаных сказах, дзе далучальна-заключальныя адносіны афармлены пры дапамозе злучніка *ды,* знаходзяцца дзве састаўныя часткі, якія маюць розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў (гл. § 1217, 1218).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧНІКАМ *ды і* (*дый*)

§ 1220. Далучальна-заключальныя адносіны, якія афармляюцца паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў пры дапамозе злучніка *ды і (дый),* вызначаюцца асабліва высокай ступенню катэгарычнасці. У большасці выпадкаў далучаемая частка гэтых сказаў з'яўляецца заканамерным падагульненнем таго, аб чым гаворыцца ў папярэдняй састаўной частцы. Прытым у складзе далучаемай часткі заўсёды ёсць падагульняючыя словы, у ролі якіх выступае пераважна прыслоўе *наогул: Мо' і не думаў ты спаткаць мяне тут, ды і наогул напэўна даўно забыўся ты на мяне* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Твая работа патрабуе дэталёвай праверкі на практыцы, ды і наогул яна яшчэ толькі пачынаецца* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Наяўнасць лішніх людзей ля пакгауза паказалася яму падазронай, ды і хто наогул мае права блізка хадзіць ля такога месца* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Часам падобнае падагульненне можа суправаджацца вылучальным адценнем, пры якім характар далучальна-заключальных адносін праяўляецца надзвычай выразна. У такім разе далучаемая частка звычайна мае адпаведную форму ўстойлівага спалучэння або выразу: *Не ідзе, ды і ўсё тут* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»). *Патрэбен, дый усё тут!* (К. Чорны. Не пі густога чаю). *Ігрышча, дый годзе* (Я. Колас. Злавіў). *Не вылезу, дый годзе* (Я. Колас. Недаступны).

§ 1221. У некаторых выпадках далучаемая частка складаназлучаных сказаў са злучнікам *ды і (дый)* будуецца ў выглядзе мімаходнай заўвагі абагульняючага характару адносна таго, што змешчана ў папярэдняй састаўной частцы. Пры гэтым у далучаемай частцы звычайна адсутнічаюць абагульняючыя словы: *Тры зімы толькі хадзіла ў школу, дый калі ўжо тое было!* (Я. Колас. Адукацыя). *Людзі бусла пусцілі чысціць свет з брыды ўсякай, дый ці ж птушынай сіле ўсіх знішчыць вужакаў* (Я. Купала. На Палессі). *Яе* [справу] *паціхеньку, потайкам не зробіш, дый няма чаго потайкам рабіць* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Вейс не вельмі разбіраўся ў розных тэхнічных дэталях, ды і цяжка было разабрацца ва ўсіх гэтых выбоінах, у патрушчаных шпалах, у пагнутых рэйках* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1222. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-заключальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі аформлены пры дапамозе злучніка *ды і (дый)*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць розную форму простых аднасастаўных і двухсастаўных сказаў (гл. § 1220, 1221).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *значыць* (*значыцца*)

§ 1223. У складаназлучаных сказах са злучальным словам *значыць (значыцца)* далучаемая частка з'яўляецца натуральным і непасрэдным падагульненнем адносна зместу папярэдняй састаўной часткі. Характар далучальна-заключальных адносін тут праяўляецца асабліва выразна, таму што злучальнае слова ўжываецца не толькі ў якасці граматычнага сродку сувязі састаўных частак, а змяшчае ў сабе асноўны элемент такога падагульнення: *Птушка цягне здабытак птушаняці малому, — значыць, дбаць пра жывое трэба заўжды жывому* (П. Броўка. Паланянка). *Рунь кусцістая на гонях,— значыць, будзе ураджай* (П. Глебка. Сэрца, думкі, — гэй, наперад!). *Бачыш зарава на паўнеба, значыць, хаты гарэць* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Паліцца печ, значыць, маці дома* (А. Васілевіч. Радасці жыцця).

Састаўныя часткі такіх складаназлучаных сказаў часам вызначаюцца адпаведным паралелізмам сваёй будовы і наяўнасцю аднолькавых слоў у іх складзе: *Многа тут нізін і балот, значыць, многа тут грунтавой вады* (А. Кулакоўскі. Дома). *Невялікіх прадметаў на беразе мы разгледзець не можам, значыцца, і наш невялікі човен адтуль разгледзець цяжка* (Я. Маўр. Сям'я).

Заўвага. Складаназлучаныя сказы са злучальным словам *значыць* (*значыцца*), у якіх выражаюцца далучальна-заключальныя адносіны, трэба адрозніваць ад складаназалежных сказаў з даданымі ўмовы, дзе слова *значыць (значыцца)* можа ўжывацца ў якасці аднаго з элементаў парнага злучніка: *Калі гітлераўцы не стралялі — значыць, яны яго не заўважылі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Раз ён камуніст, значыцца, ён на дабро дбае* (К. Чорны. Зямля).

Характэрна, што першы элемент падобных злучнікаў мае іншы раз нулявую форму: *Удасца стрымаць слова — значыць, яна апраўдае пашану* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Апусціць той руку за штабелем дроў — значыць, можна паўзці чалавеку* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1224. У складаназлучаных сказах з далучальна-заключальнымі адносінамі пры дапамозе злучальнага слова *значыць (значыцца)* аб'ядноўваюцца дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Галава была цёплая, значыць, Ліда жывая* (Я. Колас. На ростанях). *Мікуць адно курыў усё бесперастанку — значыцца, і ён не быў спакойны* (К. Чорны. Вясна). *З кожным днём ты ўзнімаешся ўвысь ад зямлі, значыць, дом ты будуеш прасторны, высокі* (П. Броўка. Будаўнік). *Прова яшчэ не было — значыць, ён дзесьці затрымаўся ў горадзе* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа). *Няўжо каля яго куфляў няма; значыць, гатова быць непрыемнасць па службе* (К. Чорны. Не пі густога чаю). *Цяпер ён можа выходзіць са схову і сустракацца з імі толькі ўночы, — значыцца, трэба прыдумаць новы спосаб сувязі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Зямлі мала, значыць, мала і хлеба* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Цёмна — значыць, нявыгадна* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА ЗЛУЧАЛЬНЫМ СЛОВАМ *словам* (*адным словам*)

§ 1225. Злучальнае слова *словам* (*адным словам*), якое ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-заключальнымі адносінамі, таксама змяшчае ў сабе пэўны элемент

падагульнення. У складаназлучаных сказах з гэтым словам далучаемая частка падагульняе змест папярэдняй састаўной часткі, але гэта падагульненне з'яўляецца не непасрэдным, а быццам мімаходным: *Кацярына — гаспадыня, словам — баба зух!* (Я. Купала. Кацярына). *Ёсць тут і ашэстак і лучнік пры печы, — словам, свая хата селяніна-брата* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Яна сапраўды прыгожая... адным словам, пабачыце яе самі* (М. Чарот. Галя). *Размова павялася між паненкамі і Саханюком аб справах другога зместу, аб іх знаёмых, адным словам, пачалося пераліванне з пустога ў парожняе* (Я. Колас. У палескай глушы).

§ 1226. Складаназлучаныя сказы, дзе далучальна-заключальныя адносіны афармляюцца пры дапамозе злучальнага слова *словам (адным словам)*, уключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець розную форму простых двухсастаўных і аднасастаўных сказаў: *Дубок таксама падтрымлівае наш праект... адным словам, надумаліся мы ажаніць вас!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Годзіць, раіць у полі, у хаце,— адным словам, як наш Сцёпка, рэдка знойдзеш гэткіх, браце* (Я. Купала. Сцёпка Жук). *Усё неяк не ладзіцца, не шанцуе, адным словам, няма чалавеку сапраўднага разгарнення* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Трэба даглядаць і бараніць сваю сямейку, словам, гультаяваць некалі* (Цётка. Гутаркі аб птушках).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ УСКЛАДНЕНАЙ БУДОВЫ

§ 1227. У складаназлучаных сказах ускладненай будовы аб'ядноўваюцца тры і больш састаўных частак, паміж якімі існуюць розныя віды сінтаксічных адносін. Гэтыя састаўныя часткі могуць мець не толькі форму простых сказаў, але і форму складаназалежных або бяззлучнікавых складаных сказаў.

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З ПРОСТЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1228. Складаназлучаныя сказы з простымі састаўнымі часткамі падзяляюцца на дзве вялікія групы, якія даволі выразна адрозніваюцца характарам сінтаксічных адносін. Адну групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы з аднатыпнымі адносінамі, другую — складаназлучаныя сказы з разнатыпнымі адносінамі.

### СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З АДНАТЫПНЫМІ СІНТАКСІЧНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1229. У сучаснай беларускай мове аднатыпнымі лічацца разнавіднасці спалучальных і супастаўляльных адносін. Разнавіднасці ж пералічальна-размеркавальных адносін і адпаведных тыпаў далучальных адносін сучаснай беларускай мове не ўласцівы, бо гэтыя адносіны могуць суправаджацца толькі рознымі экспрэсіўнымі адценнямі, сутнасць і спецыфіка якіх залежаць ад характару сінтаксічных сродкаў сувязі.

У складаназлучаных сказах з разнавіднасцямі спалучальных адносін паміж першай і другой састаўнымі часткамі часцей за ўсё выражаны адносіны адначасовасці, а паміж другой і трэцяй — адносіны паслядоўнасці. Размяшчэнне састаўных частак з такімі адносінамі зрэдку можа мець адваротны парадак. Злучнікі, якія ўжываюцца для сувязі

састаўных частак, ставяцца паміж усімі часткамі або толькі перад апошнімі з іх: *Крычалі перапалоханыя гусі, кудахталі куры, потым забрахаў сабака ў суседнім двары* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Тамаш пасядзеў яшчэ колькі мінуцін; гаворка начлежнікаў, крык і шум неяк адляталі ад яго і не трывожылі; пасля ён прылёг, падпёршы рукою галаву* (Я. Колас. На начлезе). *Няслісся зыкі песень здольных, у лясах раз-пораз адбіваліся, і ім узгоркі адклікаліся, і радасць біла ў песнях вольных* (Я. Колас. Новая зямля).

У некаторых выпадках састаўныя часткі такіх складаназлучаных сказаў звязваюцца ў пэўныя сінтаксічныя групы. У рамках такіх груп паміж састаўнымі часткамі выражаецца адна разнавіднасць спалучальных адносін, а паміж групамі — другая разнавіднасць гэтых адносін. Наяўнасць сінтаксічных груп у складаназлучаных сказах даволі выразна падкрэсліваецца характарам інтанацыйных паўз: на стыку гэтых груп вытрымліваецца паўза значна большай працягласці, чым паўза на стыку састаўных частак у складзе кожнай групы: *Лісці зашасталі, птушкі зачыркалі, свішча салоўка і дзяцел клюе* (Я. Купала. Вясна). *Вецер сціх, крупа пакінула сыпаць з неба, свяціў месяц і было светла* (К. Чорны. Максімка). *Дзесьці ля балот забляяў баранчык, яму адгукнулася над Дняпром кнігаўка, і адразу пачалі цямнець і прыбярэжныя кусты і вілаватыя дубы над крутой гарой, і ў кудзеркі туману пачалі спавівацца вадзяныя струмені* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Вецер гнаў туманы над балотам, паветра дрыжэла, насычаючыся святлом, ружовыя смугі зары расцякаліся ў неабдымнай прасторы неба, і праз нейкі час святло разарвала заслону ночы, і сонечныя праменні дасяглі вышыні, асвятліўшы чараду рэдкіх дымных хмар* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 1230. З разнавіднасцямі супастаўляльных адносін ужываюцца складаназлучаныя сказы, у якіх:

паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — супраціўныя адносіны, і наадварот: *Дзень праміную, а другі на вытоцы, ды перад замкам не журацца хлопцы* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *Днямі павінна была прыйсці складаная малатарня, але Швед рашыў паставіць яе на полі, а ў гумне будуць малаціць сваімі сіламі* (Т. Хадкевіч. Вяснянка);

паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — адносіны неадпаведнасці (іншы раз з уступальным адценнем), і наадварот: *Сярпы мае сталёвыя дабро цэламу свету жнуць, а палотны мае шаўковыя цэлы свет адзяваюць, а яны ў торбы мяне хочуць прыбраць!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Дзверы былі замкнёны, а на стук ніхто не адазваўся, але вокны ў кватэры настаўніка былі раскрыты насцеж* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Іліко вельмі хацелася яшчэ раз, хоць бы здалёк, пабачыць гэтае дзіва, але аўтамабіль недзе знік, а яму трэба было спяшацца* (Э. Самуйлёнак. Будучыня);

паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны неадпаведнасці, а паміж другой і трэцяй — супраціўныя або супраціўна-абмежавальныя адносіны, і наадварот: *Міхалка плюшчыў вочы, але сон, як сумыслу, не ішоў да яго, і толькі пад поўнач заснуў Міхалка* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Ён даваў кругу, ідучы па сцежцы каля ветракоў, але часу ў яго было многа, а спяшацца яму некуды было* (Я. Колас. У палескай глушы);

паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны супраціўныя адносіны, а паміж другой і трэцяй або другой сумесна з трэцяй і чацвёртай — супраціўна-абмежавальныя адносіны: *Адпачынак быў, але не было кашы, не было сала, і толькі чай булькаў у кацялках* (М. Лынькоў. Над Бугам).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ З РАЗНАТЫПНЫМІ СІНТАКСІЧНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1231. У сучаснай беларускай мове паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў ускладненай будовы выражаюцца шматлікія віды разнатыпных сінтаксічных адносін. Гэтыя адносіны могуць існаваць у розных варыянтах і камбінацыях. Найбольш пашыранымі з'яўляюцца:

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны адначасовасці, а паміж другой і трэцяй— уласна супастаўляльныя адносіны, і наадварот, паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — адносіны адначасовасці: *На лес наплывала зняменне, і вільгаццю тхнула з нізін, а зоркі ў бяздонным скляпенні глядзелі праз навісь галін* (Я. Колас. Адплата). *Струменіць Нёман срэбраводны ў тваіх прыўдалых берагах, а ў лозах ветрык вее згодны і ходзіць шум па чаратах* (Я. Колас. Высокі Бераг);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны адначасовасці, а паміж другой і трэцяй — супраціўныя адносіны, і наадварот: *Барады ў старшыні няма і вусы выйшлі слаба, але твар яго энергічны і досыць прыгожы* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Тут няма яго, адно шуміць лес малады кругом ды плешчуць хвалі возера прывольна* (М. Танк. Разліў);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны адначасовасці, а паміж другой і трэцяй— далучальна-азначальныя або далучальна-вылучальныя адносіны: *Ён запрашаў у госці, з ім можна было пажартаваць і пасмяяцца, але на гэтым і канчаліся яго дачыненні з пацыйскімі гандлярамі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Цвітуць палі ў адзенні новым, гадуюць новыя сады, і нават вецер з-пад дубровы шуміць на новыя лады* (Я. Колас. На новай зямлі);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны паслядоўнасці, а паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя адносіны, і наадварот: *Назар Трацюк шпарка агледзеў пакой, спаткаўся позіркам з Генькам, і шырокая ўсмешка расплылася па загарэлым твары трактарыста, а ў цёмных вачах блiснула іскрынка* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Яна садзіцца каля лёхі, а пані Даміцэля каля другога канца яе ў кухні, і паміж імі пачынаецца лаянка* (Я. Колас. Хатка над балотцам);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны паслядоўнасці, а паміж другой і трэцяй— супраціўныя адносіны, і наадварот: *Словы перамешваліся ўсхліпамі, потым слоў не стала чуваць, а даляталі ў хату толькі кароткія, адрывістыя ўсхліпы* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Гіго ўзялі ў прытулак, але непрыяцель разбурыў горад, і дзеці разбегліся* (Э. Самуйлёнак. Будучыня);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны неадпаведнасці або ўласна супастаўляльныя ці супраціўныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — прычынна-выніковыя адносіны: *Гэта будзе твая палата, а я— галоўны доктар, і ты павінен мяне слухаць* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Ён бачыў іх і мацаваўся нешта праказаць, але слабасць перасільвала, і слоў не чуваць было* (Р. Мурашка. Сын). *Бацькі не сказалі хлапчуку гэтага, аднак дзіцячая душа, відаць, нешта адчувала, і ён вельмі цікавіўся госцем* (І. Гурскі. Перад бурай);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны прычынна-выніковыя адносіны, а паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя, неадпаведнасці або супраціўныя

адносіны: *Самусевіч абыходзіў кукурузнае поле, і на душы яго спакайнела, а вакол стаяла цішыня* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Гэта было зусім недарэчы, і Лясніцкі хацеў спыніць яго, але было неяк нязручна* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Мікіта трохі саромеўся, і прамова яго была не зусім гладкая, але ён гаварыў шчыра, з перакананнем* (Я. Колас. Адшчапенец);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — далучальна-заключальныя адносіны: *Міхал ідзе ў свае абходы, а холад зімняе пагоды яго рухавіць і малодзіць, і колькі тут разоў ён ходзіць!* (Я. Колас. Новая зямля);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны далучальна-дапаўняльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя адносіны: *Гэта слова Лабановіч прамовіў з націскам, прычым выраз яго твару змяніўся, а ў вачах загарэўся агеньчык нейкай злосці* (Я. Колас. У палескай глушы);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны супраціўныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — далучальна-азначальныя адносіны, і наадварот: *Кац паспрабаваў усміхнуцца, але замест усмешкі набегла грымаса пакуты, і ён гэта адчуў* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *На зямлі быў насыпан прывезены жвір, і гэтую акалічнасць Наўмыснік не заўважыў, аднак жа людзі здорава пабіліся* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны пералічальна-размеркавальныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя або супраціўныя адносіны: *І хістаецца асока, і шуміць высокі бор, а ў душы не замаўкае струн вясёлых перабор* (М. Багдановіч. Возера). *Ці той пачуў іржанне былых сваіх сяброў, ці якое ліха ўзбрыло яму ў галаву, але конь выразіў яўныя намеры кінуцца наперад, насустрач немцам* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны пералічальна-размеркавальныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — адносіны неадпаведнасці: *І ноч прайшла, і дзень мінае, а іх вязуць* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Ці я адзін, ці я на людзях, а з імі ў думках я жыву* (там жа);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны пералічальна-размеркавальныя адносіны (іншы раз з супастаўляльным адценнем), а паміж другой і трэцяй — далучальна-абмежавальныя адносіны: *І вецер моцны, і дождж ідзе, ды і то яны не перашкаджаюць працаваць* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *Запісалася ўсяго некалькі жанчын, а то ўсё мужчыны, ды і тых нямнога* (К. Чорны. Свята працы і свету);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны прычынна-выніковыя адносіны, а паміж другой і трэцяй — далучальна-азначальныя адносіны, і наадварот: *Праўда, парашут зачапіўся за голле, і яго разы два стукнула аб сасну, але ў той жа час гэта змякчыла ўдар аб зямлю* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Ён імкнуўся ў скрыпцы выявіць свой настрой, але з гэтага нічога не выйшла, і скрыпка раўла, як галодная жывёла, згледзеўшы свайго гаспадара* (Я. Колас. У палескай глушы);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны далучальна-дапаўняльныя адносіны, а паміж другой і трэцяй — прычынна-выніковыя адносіны: *Гаварыў Сымонка з імі, дый самога страх шугаў, і трывожна ён вачыма поле, хвойнік азіраў* (Я. Колас. Сымон-музыка);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны адначасовасці, паміж другой і трэцяй —

уласна супастаўляльныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — далучальна-дапаўняльныя адносіны: *Страшна тут, і навокал страшна, а гэты хмыз на балоце пазірае так жудасна, і само балота як бы замёрзла ў сваёй адвечнай зацятасці* (Я. Колас. На «святой зямлі»);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны паслядоўнасці, паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — адносіны адначасовасці: *Кандуктар дзверы адчыняе, і хітра пломбу ён знімае, засадзіць гвозд, ключом пакруціць, а страх аж вочы дзядзьку муціць, і губа ходзіць, бы ў жаробкі* (Я. Колас. Новая зямля);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны паслядоўнасці, паміж другой і трэцяй — супраціўныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — адносіны неадпаведнасці: *Знік фурман у сутуненні, і заціхлі яго крокі, а Сымонка, адзінокі, ловіць зыкі ў натужэнні, ды ўсё ціха* (Я. Колас. Сымон-музыка);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, паміж другой і трэцяй — супраціўныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — прычынна-выніковыя адносіны: *Сонца схавалася за вапельную гару, а цень ад яе закрыў усё мястэчка, але дзень ніяк не хацеў саступаць месца вечару, і неба доўга заставалася ясным і светлым* (Я. Колас. У глыбі Палесся);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны ўласна супастаўляльныя адносіны, паміж другой і трэцяй — далучальна-вылучальныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — уласна супастаўляльныя адносіны: *Лепш пасядзець трохі, а там памаленьку дабяруся да станцыі, тым болей што пачынала ўжо вечарэць, а да станцыі аставалася вёрст пяць, не болей* (Я. Колас. На прасторах жыцця);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны пералічальна-размеркавальныя адносіны, паміж другой і трэцяй—адносіны аднačасовасці, а паміж трэцяй і чацвёртай—уласна супастаўляльныя адносіны: *Перад сябрамі то распасціралася шырокае поле з парыжэлым іржэўнікам, то раптам зелянеў луг і маленькая рэчка пятляла на ім, як быццам выбіраючы лепшае месца, а мясцінамі, як пад вялізны бухматы шацёр, поезд улятаў у лес* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны далучальна-азначальныя адносіны, паміж другой і трэцяй — супраціўныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай — адносіны аднačасовасці: *Вось так пачнуць казаць, бывала, ды з тых размоваў толку мала, і толькі горш удражніш раны, і свет глушэй заткнуць туманы* (Я. Колас. Новая зямля);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны далучальна-прычынныя адносіны, паміж другой і трэцяй — далучальна-азначальныя адносіны, а паміж трэцяй і чацвёртай—прычынна-выніковыя адносіны: *Сябра свайго Смачны добра ведаў, і таму на міг у яго з'яўлялася жаданне заступіцца за сябра, але на змену гэтаму пачуццю ішлі халодныя разумовыя разважанні, і Смачны прыходзіў да зусім адваротнага вываду* (П. Галавач. Вінаваты);

складаназлучаныя сказы, у якіх паміж першай і другой састаўнымі часткамі выражаны адносіны аднačасовасці, паміж другой і трэцяй — уласна супастаўляльныя адносіны, паміж трэцяй і чацвёртай — адносіны неадпаведнасці, а паміж чацвёртай і пятай — прычынна-выніковыя адносіны: *Стрыжань глыбокі, лёд пакаты, а бедны воўк, вадой падцяты, скрабе па лёдзе капцюрамі і носам рые, рве зубамі, і ўвесь пружыніцца і рвецца, але нічога не ўдаецца, і ўсё слабее ў воўка сіла* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 1232. У радзе выпадкаў складаназлучаныя сказы ўскладненай будовы даволі выразна членяцца на асобныя групы састаўных частак з разнатыпнымі адносінамі паміж імі. Гэтыя групы вызначаюцца адпаведным паралелізмам сваёй будовы: *Йшчэ трэці пеўні не спявалі, не гаманіў ніхто, не пеў, адно сычы ў гаю гукалі ды ясень раз-параз скрыпеў* (Я. Купала. «Прычынна»). *Свежы яшчэ раны, яшчэ востры болі, жаль яшчэ глыбок, ды сплылі туманы чорных дзён няволі, і развеян мрок* (Я. Колас. У майскія дні). *То дажджоў мала, і збажына блекне на прасохлай глебе, то іх залішне, і яны не даюць адкрасаваць жыту, а то наплыве хмара і разам з дажджом сыпне камякамі граду, і цэлыя масівы лягуць мёртвай зелянінай* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ СА СКЛАДАНЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1233. У большасці выпадкаў складаныя састаўныя часткі складаназлучаных сказаў маюць форму складаназалежных сказаў. З такой формай можа ўжывацца:

адна састаўная частка: *Наўкола зрабілася ціха, толькі недзе далёка чулася песня жнеяў, якія грамадою ішлі пасля працы ў вёску* (М. Чарот. Апошняя ноч). *Жывёла была затонская, і людзі, што ішлі за ёю, былі затонскія* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ей расказвалі, як Зялёнка рыхтуе сходы, ды і сама яна на іх бывала не раз* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ужо ўзышоўшы на двор, Драздовіч заўважыў, што пераманіўся напрамак ветру, значыць, не мінуць навальніцы* (І. Гурскі. Свежы вецер);

некалькі састаўных частак: *Цёмна-зялёны масіў поля паволі святлеў, нібы шэры пыл з дарог асядаў на калівах, потым па ім пайшлі жаўтлявыя хвалі, і, нарэшце, залаты разліў запаланіў усё жыццёвае бязмежжа, быццам само сонца падарыла яму сваю афарбоўку* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Невядома, што было б далей, але неўзабаве прыехала з Тбілісі начальства і вялікі атрад рушыў у паход, а Гунава прыслаў запіску, што Сімон можа выехаць у Сагвасаліо хоць заўтра* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *І людзі незнаёмыя, і ты не ведаеш, як з імі трымаць сябе, і працуюць яны быццам не так, як ты хацеў бы, і парадкі не такія, да якіх ты прывык* (Я. Скрыган. Няпрошаная сляза);

кожная з састаўных частак: *Бабініч належаў да тых людзей, якія не так-та лёгка адступаюцца ад сваіх планаў, і ён да таго часу не пакінуў Лабановіча, пакуль не ўзяў з яго слова пабыць у яго ў гасцях* (Я. Колас. У палескай глушы). *Угрэтая цяплом, слаба патрэсквала фанера, якой былі абабіты сцены зямлянкі, і ў гэтым патрэскванні была асаблівая ўтульнасць ляснога жылля, куды так прыемна было вярнуцца з марозу, з завеі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Параўн.: *Леснiку вядома, хто выкідаў капцы, вядома, хто што гаварыў і нават думаў,— адным словам, ён ведаў усё, што рабілася ўчора ў луцэ* (Я. Колас. Нёманаў дар).

Іншы раз складаная састаўная частка, якая звычайна знаходзіцца ў канцы складаназлучанага сказа, мае форму складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі часткамі. Пры гэтым даданыя часткі могуць быць аб'яднаны з галоўнай часткай:

паралельнай залежнасцю (злучнікавай ці бяззлучнікавай): *Яна з Алёнкай і сваімі сяброўкамі па звяну працавала на ўборцы сена, але думкі яе былі заняты збажынай, якую яна вырошчвала і якая цяпер даспявала* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Грыся ўсё не было, і старая ўжо не ведала, што пра яго думаць, калі яго чакаць* (А. Кулакоўскі. Шляхамі жыцця);

паслядоўнай залежнасцю: *Часам крыллі яго* [ветрака] *круціліся, і мне здавалася, што ён махае рукамі, нібы некага кліча* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Захрыпелі цыбукі, застукалі люлькі аб тоўстыя кіпці, і ў хаце падняўся такі дым, што нельга было пазнаць чалавека, хоць яго нос і можна было абмацаць рукою* (Я. Колас. Кантракт). *Любіла яна і пажартаваць, ды жартавала так, што кожнаму здавалася, нібы ён і ёсць той, на якім запыніла яна сваю дзявочую ласку* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1234. Нязначнае месца займаюць складаназлучаныя сказы, у якіх складаныя састаўныя часткі выступаюць у форме бяззлучнікавых сказаў. Праўда, такую форму звычайна мае толькі адна састаўная частка, у той час як другая мае форму простага сказа: *Скрозь каля вулляў зацвітала палявая канюшына, рамонак сям-там паднімаўся над роўнай зеленню травы, аднак рэдка якая пчала спынялася тут* (А. Кулакоўскі. Рой). *У вёсцы пахла гарай — палаў нейкі дом у цэнтры, і полымя афарбоўвала лахманы парадзеўшага туману ў барвовы колер* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *У хвойніку было ціха, толькі час ад часу крыкне варона, шарахнецца заяц* (З. Бядуля. Салавей). *Лавіў наш дзядзька нераткамі і венцярамі і сачкамі, ды аднаго ўсё ж бракавала: у дзядзькі чоўна неставала* (Я. Колас. Новая зямля).

Зрэдку сустракаюцца складаназлучаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму бяззлучнікавага складанага сказа, а другая — форму складаназалежнага сказа: *Цяпер густая трава зелянела на ім, насып вабіў позірк сваёй маляўнічай прыгажосцю, аднак кожнаму не цяжка было здагадацца, што і гэта помнік вайны* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *Бічы кладуцца так рытмічна, само гудзенне іх музычна; снапы не ўлежаць, скачуць самі і сыплюць жыта пад бічамі, а дзядзька рэй вядзе, гукае, бы адным крыкам памагае* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 1235. Адна са складаных састаўных частак складаназлучанага сказа можа мець надзвычай ускладненую форму. Другая ж састаўная частка такога сказа мае як простую, так і складаную форму. У складанай састаўной частцы ўскладненай формы звычайна знаходзіцца некалькі састаўных частак, якія аб'ядноўваюцца пры дапамозе:

бяззлучнікавай сувязі і падпарадкавальных злучнікаў: *Нам стала холадна, трэба было раскладаць касцёр, каб крыху пагрэцца, дый каля агню неяк весялей чалавеку* (І. Гурскі. Жалейкава града). *Іллюк углядаўся ў прадаўгаваты бялёсы твар Шведа, і ў сэрцы ўзнікала глыбокая прыязнасць да яго: чалавек гаварыў пра агульныя справы так, быццам у іх заключалася ўсё яго жыццё* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). Параўн.: *Ужо з тым кутком зжылася маці, даўно прывыкшы к адзіноце; а цэлы рад збаноў на плоце казаў аб тым, што гаспадыня была ўжо ў моцнай каляіне і што яе, таксама, справа вялася добра і рухава, бо тут збаны не так стаялі: яны за тое ўжо казалі, што малака было даволі* (Я. Колас. Новая зямля), дзе паасобныя даданыя часткі звязаны спалучальным злучнікам *і*;

бяззлучнікавай сувязі і злучальных злучнікаў: *Пад канец пажару назбіралася крыху людзей з блізкіх вёсак, але ўсё адно нельга было нічога ўтушыць — была суш, і вецер гнаў агонь* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *У яго не хапала людзей, каб зрабіць напад на склад, ды гэта было рызыкоўна і рабіць: ахова там была ўзброена да зубоў, а ўсе падступы туды знаходзіліся пад прыцэльным агнём* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Было так светла, што можна было нават лёгка чытаць, але ў гэтым святле гублялася адчуванне адлегласці: асобныя прадметы аддаляліся, а другія, наадварот, набліжаліся і набывалі дзіўныя фантастычныя формы* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).



# СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 1236. Складаназалежным называецца такі складаны сказ, у якім адна састаўная частка сінтаксічна падпарадкавана другой і звязана з ёю пры дапамозе падпарадкавальнага злучніка або адноснага (злучальнага) слова.

Сінтаксічнае падпарадкаванне адной часткі ў адносінах да другой праяўляецца ў тым, што адна састаўная частка паясняе які-небудзь член ці групу членаў другой састаўной часткі (або ўсю гэту частку ў цэлым). Тая частка складаназалежнага сказа, якая з'яўляецца адносна незалежнай, называецца галоўнай, а залежная ад яе — даданай часткай[1].

§ 1237. Сінтаксічныя адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі ў складаназалежным сказе (г. зн. падпарадкаванне даданай часткі галоўнай частцы) ажыццяўляюцца пры дапамозе розных граматычных, а часам нават і лексічных сродкаў. Да іх у першую чаргу адносяцца злучнікі і адносныя (злучальныя) словы, а таксама суадносныя (указальныя) словы; вялікую ролю адыгрывае інтанацыйнае афармленне даданай і галоўнай частак; нярэдка мае значэнне і сам парадак размяшчэння частак складаназалежнага сказа (постпазіцыя, прэпазіцыя ці інтэрпазіцыя даданай часткі адносна галоўнай). У якасці граматычнага сродку сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа могуць выступаць і віда-часавыя суадносіны дзеясловаў-выказнікаў адной і другой частак. У пэўных умовах ролю граматычных сродкаў сувязі выконваюць таксама тыя ці іншыя словы, якія абавязкова ўжываюцца ў некаторых тыпах складаназалежных сказаў.

Падпарадкавальныя злучнікі, якія з'яўляюцца самым важным сродкам сувязі паміж галоўнай і даданай часткамі ў складаназалежным сказе, склаліся як граматычная катэгорыя значна пазней, чым злучальныя злучнікі. Працэс іх фарміравання далёкі да завяршэння. А таму і ў сучаснай мове нярэдка сустракаюцца выпадкі выкарыстання слоў з іншых часцін мовы ў ролі падпарадкавальных злучнікаў. Так, функцыянальна бяруць на сябе ролю злучнікаў часціцы *толькі, ледзь, чуць, абы, хіба* і інш.: *Надвячоркам, ледзь наступіла вольная часіна, па ўзлессю рассыпаліся частыя пералівістыя гукі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Страляе ж ён — абы напалохаць мяне* (І. Шамякін. У снежнай пустыні).

Надзвычай часта ў ролі злучнікаў выступаюць адносныя займеннікі *які, каторы, чый, хто, што* і прыслоўі *дзе, куды, адкуль, дакуль, як, калі, пакуль* і інш.: *Блізка пры заводзе варушыліся рабочыя, якія працавалі на падкатцы дрэва* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Згуртаваны народ, каторому зямля і неба падуладны* (У. Хадыка. Радзіме). *І грозная хваля праклящцця ўзнялася на здраднікаў подлых, чыя рука страляла ў сэрца рабочага класа, у сэрца любімага бальшавіка* (М. Хведаровіч. Песня смутку і гневу). *Слава палкім байцам, хто за волю Радзімы загінуў* (М. Хведаровіч. Сосны шумяць...). *Ад сцен Крамля старых і вечна новых, дзе пульсам часу б'ецца думак строй, я чую голас ленінскага слова, прызыўны голас Партыі сваёй* (А. Звонак. Табе адной). *Складаная літаратурная барацьба дваццатых гадоў, калі пачынаў сваю літаратурную дзейнасць М. Хведаровіч, часам адхіляла паэта ад магістральнага напрамку* (Д. Палітыка. Паэзія Міколы Хведаровіча).

---

[1] Тэрміны «галоўная частка» і «даданая частка» ў адносінах да структуры складаназалежнага сказа ўжываюцца адпаведна тэрмінам «галоўны сказ» і «даданы сказ».

Такія словы, што захоўваюць лексічнае значэнне займенніка або прыслоўя, выступаюць у якасці дзейніка, выказніка, азначэння, дапаўнення або акалічнасці ў дададай частцы і служаць сродкам сувязі паміж галоўнай і дададай часткамі складаназалежнага сказа, называюцца а д н о с н ы м і (з л у ч а л ь н ы м і) словамі [1].

Месца злучнікаў і злучальных слоў — звычайна ў пачатку дададай часткі. Адхіленні ад гэтага правіла рэдкія і датычацца злучальных слоў *хто, што, які, каторы*. Гэтыя словы, калі яны выконваюць ролю ўскоснага дапаўнення дададай часткі, могуць стаяць пасля прыназоўніка: *Уночы, у час сну, ён хадзіў ціханька па іхніх спальнях і прыслухоўваўся, аб ч ы м праз сон яны гавораць* (З. Б я д у л я. Салавей). *Вакол вёскі раскідана поле, сенажаці, вузенькімі-вузенькімі палоскамі, сярод я к і х часамі кідаюцца ў вочы адзінокія шырокія палосы* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё).

Словы *які, каторы,* акрамя таго, могуць размяшчацца і ў сярэдзіне дададай часткі, калі яны ў дададай выступаюць у ролі недапасаванага азначэння: *Па трэцім кіламетры ад пачатку лесу дарога вялікім кругам абыходзіць лясное азярцо, берагі я к о г а спрэс з дрыгвы* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). У такіх сказах злучальныя словы *які, каторы* стаяць непасрэдна пасля таго слова, азначэннем да якога яны з'яўляюцца.

Размяшчэнне астатніх злучальных слоў і злучнікаў не ў пачатку дададай часткі лічыцца інверсіяй. Магчымасці такой інверсіі вельмі абмежаваны, і выпадкі падобнага ўжывання сустракаюцца надзвычай рэдка: *Глухою паўночнай парою, яны ўсе заснулі к а л і, вяскоўцы забралі ў іх зброю, а коні на хутар вялі* (А. К у л я ш о ў. Антон Шандабыла). *Не мкнуў я ў неба на раду і не шукаў пасад... Вось толькі песню я к складу — жыццю і людзям рад* (У. Х а д ы к а. Інакшым ладам быў закон...). *Прыстаў я к выйшаў, Сурвільчык захацеў выслужыцца адным махам* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Выйшлі з ёй, дзе сенажатная краса зіхцела, як вясёлкі мнагацветны ўзор, вострая яшчэ д з е не забразгала каса, дзе ў кветках луг ірдзеў, як неба ўноч ад зор* (Я. К у п а л а. Яна і я).

З а ў в а г а. Падпарадкавальныя злучнікі могуць стаяць пасля злучальных або падпарадкавальных злучнікаў. Гэта назіраецца тады, калі такая канструкцыя пачынаецца дададай часткай, а ўся складаназалежная канструкцыя ўваходзіць у больш буйное сінтаксічнае адзінства: *Гэта я такі цярплівы чалавек, што нікому не скарджуся. Але ж каму я паскарджуся, каб прыйшлося? А к а л і я абсунуся, то хто ж мне вады падасць?* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Я табе, сынку, гэта футэрка на каўнер у фрэнч так даставаў, што к а б не мая цярплівасць, то без каўняра хадзіў бы* (там жа).

Важную ролю ў афармленні сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа адыгрываюць і с у а д н о с н ы я (у к а з а л ь н ы я) словы, якія звычайна змяшчаюцца ў галоўнай частцы. Іменна гэтыя словы галоўнай часткі пасняюцца дададай часткай, прычым паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа ўстанаўліваецца паясняльная сувязь. Такая паясняльная сувязь рэалізуецца ў складаназалежным сказе або як адносіны тоеснасці, або як адносіны агульнага і прыватнага: *Змораныя двухсутачным беспярапынным пераходам і цяжкім боем на пераправе, людзі не хацелі ні есці, ні піць, адразу ж засыналі т а м, дзе каго застала каманда аб адпачынку* (І. Ш а м я к і н. Браты). *Упершыню размова на гэту тэму адбылася яшчэ т а д ы, калі Паўлік Шчаўлёнак вучыўся ў другім класе* (І. Ш а м я к і н. У Маскву). У абодвух гэтых сказах паміж суадноснымі словамі (*там, тады*) і дадатнымі часткамі наглядаюцца адносіны тоеснасці: і суадноснае слова, і

---

[1] Сувязь, якая ажыццяўляецца пры дапамозе адносных слоў, у моваэнаўчай літаратуры іншы раз называецца а д н о с н а й (у такім разе падпарадкаваннем лічыцца сувязь пры дапамозе злучнікаў). З такім жа значэннем зрэдку ўжываецца і тэрмін «адноснае падпарадкаванне», якому тады супрацьстаўляецца тэрмін «злучнікавае падпарадкаванне».

даданая частка абазначаюць адно і тое ж, толькі з большай або меншай канкрэтнасцю. А ў сказе *Табе, напэўна, стала сніцца ў с ё, што мне здавалася* (У. Х а д ы к а. Песні з поўдня) адносіны паміж суадносным словам *усё* і даданай часткай трэба разглядаць як адносіны агульнага і прыватнага.

І н т а н а ц ы й н а складаназалежны сказ афармляецца як адзінае цэлае, і паніжэнне тону, якое характэрна для простага апавядальнага сказа ў канцы яго, уласціва і апавядальнаму складаназалежнаму сказу. Паасобныя ж састаўныя часткі складаназалежнага сказа, якія не знаходзяцца ў канцы яго, не вызначаюцца інтанацыйнай закончанасцю; яны, як правіла, характарызуюцца павышэннем тону: *У нарысе расказваецца пра тое, як маладыя рабочы ў мэтах рацыяналізацыі вытворчасці ўдасканаліў машыну* (К. Ч о р н ы. Маладыя празаікі). *Як толькі выходны дзянёк настае, ён вуды і снасці збірае свае і досвіткам раннім на бераг ідзе і ціха спускаецца к соннай вадзе* (П. Г л е б к а. Рыбак).

Характар інтанацыйнага малюнка галоўнай і даданай частак залежыць ад разнавіднасці сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі і ад парадку размяшчэння частак. Так, напрыклад, мэтавыя адносіны патрабуюць рэзкага павышэння тону ў канцы галоўнай часткі, а супастаўляльныя адносіны вызначаюцца большай раўнамернасцю, аднастайнасцю інтанацыі як галоўнай, так і даданай часткі. Параўн.: *Вясна ідзе. Сып снегу больш, зіма, каб поле небывала ўскаласіла* (П. П а н ч а н к а. На прадвесні). *Як ворану вышай арла не лятаць, так ворагу нашай зямлі не таптаць* (К. К р а п і в а. Ворану вышай арла не лятаць).

П а р а д а к р а з м я ш ч э н н я састаўных частак у складаназалежным сказе звычайна несвабодны і залежыць, як правіла, ад тыпу сінтаксічнай сувязі частак. Так, прамым парадкам размяшчэння частак пры атрыбутыўнай сувязі, г. зн. калі даданая частка выступае ў функцыі азначальнай, будзе постпазіцыя гэтай часткі ў адносінах да галоўнай: *І я шукаў паклад такіх металаў, з якіх нязломнай волі інжынер здабудзе сплаў несакрушальнай сілы* (А. З в о н а к. Геолаг). Інверсія ў сказах такога тыпу звычайна немагчыма.

І наадварот, пры ўмоўнай сувязі, г. зн. калі даданая частка выконвае функцыю ўмоўнай, галоўная частка размяшчаецца часцей за ўсё пасля даданай: *Калі мы толькі ўзнімем рукі — мільёны белых, жоўтых, чорных, — падняць мы зможам нават сонца вышэй усіх вяршыняў горных* (М. Т а н к. Тост за дружбу).

Не з'яўляецца свабодным у складаназалежным сказе і ўжыванне форм дзеясловаў-выказнікаў. Т р ы в а н н е і ч а с д з е я с л о в а-в ы к а з н і к а галоўнай і даданай частак узаемна звязаны. Так, пры супастаўляльнай сувязі дзеяслоўныя выказнікі галоўнай і даданай частак маюць звычайна форму аднаго і таго ж граматычнага часу (найчасцей прошлага): *Чым больш у с т а в а л а гэтых перашкод, тым больш р а с л о ў Сцёпкі жаданне дабіцца свайго* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). Ад тыпу віда-часавых суадносін дзеясловаў-выказнікаў нярэдка залежыць граматычнае значэнне ўсёй складанай канструкцыі. Калі, напрыклад, выказнік часавай даданай часткі (са злучнікам *пакуль*) выражан дзеясловам незакончанага трывання і гэта ж трыванне мае дзеяслоў-выказнік галоўнай часткі, то гэта значыць, што дзеянні, станы або прызнакі, аб якіх гаворыцца ў абедзвюх частках, поўнасцю, на ўсім іх працягу супадаюць у часе. Калі ж выказнік галоўнай часткі выражан дзеясловам закончанага трывання (пры выказніку даданай часткі—дзеяслове незакончанага трывання), то дзеянне галоўнай часткі супадае толькі з адным момантам таго часавага перыяду, у які адбываецца дзеянне даданай часткі. Параўн.: *Пакуль міліцыя распачынала сваю справу, сёй-той памагаў пацярпеўшым, сёй-той разглядаў, распытваўся* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына). *Пакуль яны крычалі, конь пачуў волю і стаў памаленьку заварочвацца назад, шчыплючы траву* (Я. К о л а с. Чорт). Такім чынам,

і віда-часавыя суадносіны дзеясловаў-выказнікаў служаць сродкам сувязі даданай і галоўнай частак у складаназалежным сказе.

Нарэшце, у радзе складаназалежных сказаў сродкам сувязі састаўных частак з'яўляюцца пэўныя л е к с і ч н ы я элементы: абавязковае ўжыванне ў адной з частак (або нават у абедзвюх частках) тых або іншых слоў: *Д а в о л і перачытаць самыя раннія вершы, прысвечаныя каханню, каб пераканацца ў гэтым* (В. Б я р о з к і н. Творчасць У. Хадыкі). У такіх сказах у першай частцы абавязковым з'яўляецца ўжыванне слова *даволі (дастаткова, досыць);* пропуск яго ці замена іншым словам у такіх сказах немагчымы.

Усе пералічаныя сродкі сувязі маюць неаднолькавую ўдзельную вагу ў граматычным афармленні складаназалежнага сказа і, вядома, не заўсёды выступаюць усе разам.

Віда-часавыя суадносіны дзеясловаў-выказнікаў і абавязковае ўжыванне пэўных лексічных элементаў у складзе састаўных частак выступаюць як граматычныя сродкі сувязі толькі ў пэўных тыпах складаназалежных сказаў. Галоўная ж роля належыць падпарадкавальным злучнікам і адносным (злучальным) словам.

§ 1238. Даданая частка ў саставе складаназалежнага сказа можа адносіцца да аднаго якога-небудзь члена галоўнай часткі, да групы членаў галоўнай часткі або да ўсёй галоўнай часткі ў цэлым. Часцей за ўсё сустракаюцца такія складаназалежныя сказы, дзе даданая частка адносіцца да пэўнага члена галоўнай часткі — дзейніка, выказніка ці якога-небудзь даданага члена (а часам і да групы аднародных членаў). Зразумела, што дзейнік, выказнік, дапаўненне ці любы іншы член галоўнай часткі можа быць выражан як адным словам, так і ўстойлівым або сінтаксічна непадзельным словазлучэннем: *Улеце тут засень ад глухіх зарасляў лазняку, чаромхі, крушыны, вольхі і х м е л ю, што нагдуха сшывае гушчар сваімі цопкімі ніцямі* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *Ён сядзеў у кутку, стараючыся не паказваць сваіх парадкам такі зношаных бацінак, і р а б і ў в ы г л я д, што цалкам захоплены музыкай пышнай дачкі суседняга памешчыка* (Э. С а м у й л ё н а к. Апавяданне пра гуманізм). *Напярэдзе стаяла н е к а л ь к і ч а л а в е к, якія борзда ўмелі звясці Сымона з Міколам* (Я. К о л а с. Дзяліцьба).

Некалькі радзей у сучаснай беларускай мове наглядаюцца выпадкі, калі даданая частка адносіцца да групы членаў галоўнай або да ўсёй галоўнай часткі ў цэлым: *Н е х м у р ы м м ы б р ы в е й, хоць нас крылом кранула і непагадзь завей і страт пякучы боль* (А. З в о н а к. У дарозе).

Сувязь даданай часткі з адным якім-небудзь членам галоўнай часткі, групай членаў ці ўсёй галоўнай часткай з'яўляецца п а д п а р а д к а в а н н е м. Адначасова з падпарадкаваннем у тых складаназалежных сказах, у галоўнай частцы якіх ёсць суадносныя словы, існуе і другі від сінтаксічнай сувязі — п а я с н е н н е. Паясняльная сувязь устанаўліваецца паміж суадносным словам і даданай часткай. Такім чынам, у гэтых сказах даданая частка мае двайную сувязь з галоўнай: яна падпарадкавана пэўнаму члену (ці групе членаў) галоўнай часткі і паясняе суадноснае слова ў той жа частцы.

§ 1239. Сувязь састаўных частак у складаназалежным сказе, як і ў складаназлучаным, можа быць двух відаў: уласна падпарадкавальнай і далучальна-падпарадкавальнай. Аднак далучэнне пры падпарадкавальнай сувязі займае нязначнае месца. Складаназалежныя сказы з далучальным падпарадкаваннем набліжаюцца да простых сказаў з пабочнымі ці ўстаўнымі сказамі: *Ты б прыйшла, чаго безвач хачу, — неадчутай, крышталькай, прыгожай* (У. Х а д ы к а. Напаткаліся вочы твае...). *На польскай тэрыторыі ён мог астацца ненаўмысля, хоць усё гэта наводзіць на пэўныя думкі* (К. Ч о р н ы. Спатканні з аспаватым чалавекам). *Але Юзікаў конь хадзіў на выгане, ніяк не хацеў лавіцца і нават два разы*

*ўбрыкнуў Юзіка (нягледзячы на тое, што ён быў гліняны і што абедзве задні нагі яго былі адбіты)* (К. Крапіва. Пальчык).

§ 1240. З пункту гледжання структуры складаназалежныя сказы могуць быць неўскладненымі (і складацца толькі з адной галоўнай і адной даданай частак) ці ўскладненымі (і складацца з адной даданай і некалькіх галоўных, або адной галоўнай і некалькіх даданых, або, нарэшце, некалькіх даданых частак, якія адначасова падпарадкаваны некалькім галоўным): *Калі развіднела, лейтэнант Карпаў выстраіў дывізіён* (І. Шамякін. Браты). *Чым бліжэй Антось падыходзіў да Ермалая, тым нерашучай былі яго крокі і тым брыдчэй рабілася яму перад самім сабою* (Ц. Гартны. Велікодная каробка). *Млечным шляхам завецца здаўна гэты пояс, што лёг цераз бор, што саткала мая старана з маладых і не гаснучых зор* (А. Астрэйка. Слуцкі пояс). *А тут, дзе ўчора багна прэла, гнілі век-векам балаты, збажынка сёння зарунела, і спее колас залаты* (Я. Колас. На новай зямлі).

Акрамя таго, у складаных сказах з трыма і больш састаўнымі часткамі апошнія могуць аб'ядноўвацца не толькі па тыпу складаназалежнага, але і па тыпу складаназлучанага сказа: *Ён ляжаў тварам на зямлі ў сваёй яме і чуў, як папацёмку цераз яго прапаўзла наперад другая расійская лінія, а пасля трэцяя, і пасля гэтага вайна чулася ўжо толькі дзесьці далёка, а тут вельмі стала ціха* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Праходзілі месяцы, прыходзілі ад Кастуся пісьмы, і Магдалене было добра адчуваць, што тое, чаго яна чакае і што няйначай прыйдзе, усё бліжэй падыходзіць* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

§ 1241. Даданая частка складаназалежнага сказа можа выконваць функцыю, падобную да функцыі таго ці іншага члена простага сказа. Інакш кажучы, даданая частка можа служыць разгорнутым членам сказа — азначэннем, дапаўненнем, дзейнікам і г. д.: *З ціхіх вуснаў гатовы сарвацца і загучаць мары, зноў маладыя, прызнанні у вечным каханні, пацалункі, якія ніякім агнём не злізаць* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Пакрысе высветлілася, што́ кожны нёс у сабе* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Якое дрэва, такі клін,— які бацька, такі сын* (народн.). *За сялом, на прыгорку, дзе лесу пачатак, перамытая сонцам, дажджамі і часам, дажывала старэчая хата дзеда Тараса* (П. Броўка. Дзед Тарас). Увесь такі складаназалежны сказ будзе адпавядаць аднаму лагічнаму суджэнню. Сказы такога тыпу называюцца адначленнымі (аднасастаўнымі) [1].

Двухчленнымі (двухсастаўнымі) лічацца такія складаназалежныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі не могуць існаваць адна без другой. Даданая частка тут не выконвае функцыі разгорнутага члена сказа, а адносіцца да ўсёй галоўнай часткі, паказваючы на ўмову, пры якой адбываецца дзеянне галоўнай часткі, на вынік таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы, і г. д. Такія складаназалежныя сказы адпавядаюць двум лагічным суджэнням: *На вясну Аня выйшла замуж за футбаліста і ўжо страціла ранейшую прыхільнасць да Веры, хоць канспекты яе ўсё ж перапісвала* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *І чым глыбей мы будзем пранікаць у вобразную сістэму лірыкі П. Труса, тым з большай відавочнасцю паўстане перад намі карэнная сувязь паміж яго паэзіяй і вуснанароднай творчасцю* (У. Агіевіч. Лірыка П. Труса).

§ 1242. Агульнапрынятай класіфікацыі складаназалежных сказаў у мовазнаўчай літаратуры не існуе. Традыцыйная класіфікацыя, згодна якой усе складаназалежныя сказы падзяляюцца на сказы з даданымі

---

[1] Другое, традыцыйна прынятае значэнне тэрмінаў «аднасастаўны і двухсастаўны сказ» адносіцца да сістэмы простага сказа. Аднасастаўным называецца сказ, дзе ёсць толькі адзін састаў (дзейніка або выказніка), а двухсастаўным — сказ, дзе ёсць два саставы — і дзейніка і выказніка.

дзейнікавымі, выказнікавымі, азначальнымі, дапаўняльнымі і акалічнаснымі, заснавана на супярэчлівых прынцыпах. Тут не ўлічваецца характар сінтаксічнай сувязі частак, а толькі значэнне даданай часткі (дакладней — функцыя даданай часткі). Не прымаецца пад увагу і той бясспрэчны факт, што даданыя часткі як самастойныя сінтаксічныя адзінкі могуць існаваць і асобна ад складанага сказа і — тым больш — што адна і тая ж даданая частка можа ўступаць у сувязь з рознымі па значэнню і будове галоўнымі часткамі (вядома, і віды сувязі гэтай даданай з галоўнымі будуць неаднолькавыя), утвараючы такім чынам розныя тыпы складаназалежных сказаў: *Мне расказвалі, дзе правялі магістраль. Мне расказвалі пра тую мясціну, дзе правялі магістраль. Там, дзе правялі магістраль, былі балоты* і г. д. Таму ў аснову класіфікацыі складаназалежных сказаў тут будуць пакладзены наступныя прынцыпы: 1) структура і значэнне галоўнай і даданай частак; 2) характар сінтаксічнай узаемасувязі галоўнай і даданай частак, віды і сродкі сувязі; 3) месца даданай часткі ў адносінах да галоўнай.

## УЛАСНА ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ

§ 1243. Складаназалежныя сказы, якія маюць уласна падпарадкавальны характар сінтаксічнай сувязі састаўных частак, вызначаюцца цеснай і моцнай звязанасцю даданай часткі з галоўнай. Даданая частка нярэдка не толькі падпарадкоўваецца апорнаму элементу галоўнай часткі (або дапасуецца да яго), але і бывае звязана з паасобнымі словамі галоўнай часткі паясняльнай сувяззю.

Усё гэта, безумоўна, не адносіцца да складаназалежных сказаў з далучальным характарам падпарадкавальнай сувязі, дзе даданая частка з'яўляецца пабочнай заўвагай, што ўзнікла па ходу думкі. Такія даданыя значна слабей звязаны з галоўнай часткай. Складаназалежныя сказы з далучальным падпарадкаваннем маюць і свае структурныя асаблівасці, якія адрозніваюць іх ад складаназалежных сказаў з уласна падпарадкавальнай сувяззю.

## ТЫПЫ САСТАЎНЫХ ЧАСТАК СКЛАДАНАЗАЛЕЖНАГА СКАЗА

§ 1244. Галоўная і даданая часткі з'яўляюцца тымі састаўнымі кампанентамі, з якіх фарміруецца складаназалежны сказ. У пэўнай меры гэтыя часткі падобны да простага сказа. Але атаясамліваць іх з простым сказам ні ў якім разе нельга, як нельга атаясамліваць з простымі сказамі састаўныя часткі складаназлучанага сказа. Састаўныя часткі складаназалежнага сказа не маюць інтанацыі закончанасці, а апошняе з'яўляецца абавязковым прызнакам простага сказа. Даданыя часткі ў складаназалежным сказе часта могуць ужывацца без дзейніка, нагадваючы гэтым няпоўныя простыя сказы. Аднак калі адсутнасць дзейніка ў няпоўных простых сказах кампенсуецца больш або менш шырокім кантэкстам, то ў складаназалежным сказе той назоўнік, які б павінен быў быць суб'ектам даданай часткі, звычайна знаходзіцца ў складзе галоўнай часткі, г. зн. у межах гэтага ж сказа.

Несамастойнасць састаўных частак складаназалежнага сказа выражаецца і ў тым, што дзеясловы-выказнікі гэтых частак нярэдка знаходзяцца ў пэўных узаемаадносінах: формы трывання і часу дзеяслова-выказніка даданай часткі залежаць ад форм трывання і часу дзеяслова-выказніка галоўнай часткі. У простых жа сказах такой залежнасці паміж суседнімі сказамі не існуе.

У якасці галоўнай і даданай частак складаназалежнага сказа ў сучаснай беларускай мове ўжываюцца самыя разнастайныя віды сінтаксічных канструкцый, якія можна згрупаваць у некалькі асноўных тыпаў.

## ТЫПЫ ГАЛОЎНЫХ ЧАСТАК

§ 1245. Галоўная частка ў саставе складаназалежнага сказа ў пераважнай большасці выпадкаў мае форму поўнага двухсастаўнага простага сказа, які можа ўключаць аднародныя члены, зваротак, адасобленыя прыдаткі, азначэнні, дапаўненні і акалічнасці, а таксама адасобленыя дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя словазлучэнні.

Разам з тым у якасці галоўнай часткі могуць выступаць і сінтаксічныя канструкцыі, якія маюць форму аднасастаўнага простага або няпоўнага сказа: *Шкода хаткі мне старэнькай з латанай страхою, што схілілася над Нёмнам горкай сіратою* (Я. Колас. Сохну марна я ў астрозе...). *Прывітанне вам, госці, баяны неасяжна вялікай зямлі, што разводдзем вясеннім з'яднаным на савецкія гоні ўсплылі* (Я. Колас. Песнярам Савецкай зямлі). *З братамі дзяліліся хлебам, што вырас у стэпах данецкіх пад зорным, апаленым небам, святым нашым хлебам савецкім* (М. Танк. У гэтыя дні...).

Галоўная частка, як вядома, існуе не сама па сабе, а толькі ў складзе больш буйнога цэлага — складаназалежнага сказа. Другі абавязковы кампанент складаназалежнага сказа — даданая частка — залежыць не заўсёды ад усёй галоўнай часткі ў цэлым. У сувязі з гэтым у галоўнай частцы вылучаюцца тыя апорныя элементы, ад якіх непасрэдна залежыць даданая. Так, у радзе сказаў апорным элементам будзе адно слова: *Лаўрэн падкідае ў цяпельца ламачча, трэскі, жмак сухое травы, якія ахінаецца густым жаўтавата-белым дымам* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Квантунскі чыноўнік ласкава даводзіў яму і сцвярджаў, што іх дарагая дзяржава — мацнейшая ў свеце з дзяржаў* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль).

У іншых сказах ролю апорнага элемента будзе выконваць словазлучэнне: *І ўсё, што ў ім* [сэрцы] *спала глыбока, тады прабудзілася разам, зрабілася цэльным, магутным* (М. Багдановіч. Над морам).

Характар апорнага элемента галоўнай часткі і можа быць пакладзены ў аснову вылучэння тыпаў галоўнай часткі.

Да першага тыпу адносяцца такія галоўныя часткі, апорным элементам якіх з'яўляецца слова. Гэта слова выступае як неабходная моўная адзінка, без якой не можа існаваць галоўная частка. У той жа час яно з'яўляецца і зусім дастатковай моўнай адзінкай для існавання галоўнай часткі ў дадзеным складаназалежным сказе; усе астатнія словы могуць нават адсутнічаць. Атрымліваецца, што даданая частка звязваецца толькі з гэтым апорным словам, не маючы фактычна ніякага дачынення да ўсіх астатніх слоў у галоўнай частцы.

Такімі апорнымі словамі галоўнай часткі можа быць назоўнік (ці любая іншая часціна мовы ў ролі назоўніка, якая можа мець пры сабе азначэнне) або дзеяслоў (ці любая іншая часціна мовы ў ролі дзеяслова, і нават аддзеяслоўныя назоўнікі, якія захавалі ўласцівае дзеяслову кіраванне).

а) У назоўнікавым падтыпе апорнае слова можа выступаць у галоўнай частцы ў функцыі дзейніка, дапаўнення, недапасаванага азначэння, прыдатка, зваротка, акалічнасці ці іменнай часткі састаўнога выказніка: *І пакаціўся гром, якому век рэхам грымець* (М. Танк. Рэйкавая вайна). *Аляксей адчуваў у сабе незвычайны прыліў сілы, якая нецярпліва білася вонкі, напаўняла яго жаданнем дзейнічаць* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Праляцім міма сонца і яго пакінем, і не абпаліць імклівых крыл яно, што ўкрыла глыбокім інеем родныя гнёзды — Дняпро і Ніл* (А. Куляшоў. Хлопцы апошняй вайны). *Між дзвярыма і другою сця-*

*ною прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі сталі кнігі роўненькімі радочкамі* (Я. Колас. Школа). *Пытаў ручаёчак сірату-вярбіну, што над ім стаяла, знізіўшы галіны, да вады галоўку звесіўшы самотна ды з паўднёвым ветрам зюкала журботна* (Я. Колас. Вярба). *У вянку калоссяў спелых з жыта і пшаніцы яна пабач з вамі села, родныя сястрыцы, што адзінаццаццю зорак свеціце на свеце!..* (Я. Колас. Савецкай Беларусі). *Максім глядзіць неяк зусім незвычайна, з усмешкай, якая з'яўляецца рэдка* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Высокі, шыракаплечы, ён рухаўся бадзёра, выпрастана, як салдат, які ўжо гатовы да далёкага паходу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Мы — магутны волат, што стрымаць прыйшоў назаўсёды кола нам чужых вякоў* (А. Куляшоў. Песня перамог). *Выйшлі людзі на працу, а між імі са спрытам два сярпы зіхацяцца, тых, што сеялі жыта* (П. Броўка. Хлеб). *Пад гэтым простым і шчырым «чаму», якое было не толькі ў словах, але і ў вачах інваліда, студэнт разгубіўся* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Апорнае слова — назоўнік можа быць у складзе адасобленых даданых членаў сказа ці адасобленых словазлучэнняў: *Усе складалі свае парашуты ў адно месца, пад нізенькую каржакаватую ігрушу, якая дзіка расла, растапырыўшыся і пакрывіўшыся над шырокім жытнім полем* (К. Чорны. Вялікі дзень). *«На, еш, я не хачу, дальбог», — гаварыў ён, працягнуўшы Сашку далонь, на якой быў пакутліва прывабны ласунак, ужо нават вылузаны з каляровай паперкі* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Сустракаецца нямала сказаў, дзе апорнае слова субстантыўнага тыпу фактычна і з'яўляецца галоўнай часткай, параўн.: *Хмары, хмары, што па небе ходзіце гарамі! Чаму я не маю крылляў? Чаму я не з вамі?* (Я. Колас. Хмары). *О вы, што век цэлы адзеты і сыты, і з думкай аднэй, каб пражыць весялей!* (Я. Купала. Град).

б) У дзеяслоўным падтыпе такую ж важную ролю адыгрывае дзеяслоў ці яго неспрагальная форма — дзеепрыметнік або дзеепрыслоўе: *Толькі нехта нясмела ў цішы адказаў, што яны не знайшлі анідзе машыніста* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *Яны забралі яго* [акраец хлеба], *пасля выпаралі яшчэ некалькі яек, забралі з седала ў сенцах курыцу і, як бачыш, зніклі, замахнуўшыся на старую прыкла́дам, упэўненыя, што яна не захацела ім даць сама больш чаго і пахавала ўсё* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *«Пісьмо, кажу, Сідар учора прыслаў», — уголас гукае дзед, і сапраўды забыўшыся, што ён сядзіць яшчэ на возе* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці).

У ролі дзеяслова можа выступаць і безасабова-прэдыкатыўнае слова: *А дзеду на'т і не шкада, што хутка будзе ён зямлёю* (М. Багдановіч. Дзед). У пэўных выпадках нават аддзеяслоўны назоўнік (ці назоўнік, які мае яркую дзеяслоўную семантыку) можа выступаць у ролі апорнага элемента-дзеяслова. Звычайна такі назоўнік захоўвае дзеяслоўнае кіраванне: *Як і ты — і я жыву той думай, што мінуюць грозныя паходы* (М. Чарот. Мілы сэрцу...). Параўн.: *думаць аб чым-небудзь — дума аб чым-небудзь.*

Галоўная частка дзеяслоўнага падтыпу таксама можа складацца з аднаго слова, якое з'яўляецца неабходным і дастатковым для існавання галоўнай часткі: *Думаю, што Аленка не адмовіцца прайсціся са мною* (В. Вітка, У. Краўчанка. Зоры над соснамі). *Андрэй пачаў тлумачыць. Ведаў, што гэтае пытанне не так лёгка данесці да кожнага* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Глядзі, што мы павінны зрабіць* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Да другога тыпу адносяцца галоўныя часткі, у якіх апорным элементам з'яўляецца словазлучэнне — непрэдыкатыўнае або прэдыкатыўнае.

а) Падтып галоўных частак, у якіх апорным элементам выступае непрэдыкатыўнае словазлучэнне, небагаты і не вылучаецца асаблівай разнастайнасцю. Сюды адносяцца галоўныя часткі з апорным элементам — словазлучэннем назоўніка (або іншага субстантыўнага слова) ці дзеяслова (або безасабова-прэдыкатыўнага слова) з іншымі часцінамі мовы: *Д о б р ы х л о п е ц Быстрой, хоць і востры лішне на язык* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Ён так ж а л а с л і в а і х о р а ш а і г р а ў, што я наслухацца не магла* (З. Б я д у л я. Навагодняя ёлка). *У той дзень ён п а с т а в і ў мяне л я брыгаднага с ц я г у, каб ахоўваў той сцяг на вайне я, не знаючы страху* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

Гэта непрэдыкатыўнае словазлучэнне — нават адно, без іншых слоў— таксама можа выступаць у якасці галоўнай часткі: *«А вот п і л ь н у ю к а п ц ы, каб часам які прахвост зноў не выкапаў іх», — дзёрзка адказаў ляснік* (Я. К о л а с. Нёманаў дар).

б) Падтып, у якім апорным элементам галоўнай часткі выступае прэдыкатыўнае словазлучэнне, г. зн. словазлучэнне, што аб'ядноўвае дзейнік і выказнік, таксама не вельмі багаты. Сюды адносяцца, напрыклад, такія сказы: *І калі перад намі пісьменнік з іскрай мастацкага таленту, то ці м о ж а ё н а б ы с ц і моўчкі хоць некаторыя тыповыя з'явы сучаснага яму грамадскага жыцця?* (С. М а й х р о в і ч. В. І. Дунін-Марцінкевіч). *Канцылярскі п і с а р Спірыдон Зручны доўга не ў с т а в а ў з пасцелі, хоць ужо даўно прачнуўся і выспаўся ўсмак* (Я. К о л а с. Так і трэба ашуканцу). *Д ы м а м п о й д з е ў с ё ліхое, ў с ё, што душыць нас і гне* (Я. К о л а с. Не бядуй!).

Прымаючы пад увагу тое, што дзейнік і выказнік складаюць аснову сінтаксічнай канструкцыі, якую мы лічым сказам і да якой прыроўніваецца па форме галоўная частка, можна было б гаварыць не аб аднясенні даданай часткі да прэдыкатыўнага словазлучэння галоўнай, а аб аднясенні гэтай даданай да ў с ё й галоўнай часткі ў цэлым.

## ТЫПЫ ДАДАНЫХ ЧАСТАК

§ 1246. Даданая частка складаназалежнага сказа, як і галоўная, з'яўляецца неад'емным кампанентам структуры адзінага сінтаксічнага цэлага. Гэта, аднак, не пазбаўляе магчымасці разглядаць даданую частку як асобную самастойную сінтаксічную адзінку. Такі падыход з'яўляецца тым больш правамерным, калі ўлічыць шматлікія факты ўжывання даданай часткі асобна ад галоўнай, у якасці самастойнай моўнай канструкцыі. Параўн.: *Калі зліваюцца рэкі* (назва рамана П. Б р о ў к і). *Каб ведалі* (назва верша і зборніка вершаў М. Т а н к а). *Дзе пройдзе маладосць* (назва верша А. З в о н а к а) і інш.

Усё гэта сведчыць аб тым, што даданая частка як пэўная сінтаксічная адзінка не ўтвараецца пры размове кожны раз нанава (прынамсі, не ўтвараецца нанава як структурны тып), а ўзнаўляецца як гатовая формула, толькі напаўняючыся кожны раз новым канкрэтным зместам. Каркасам гэтай гатовай формулы з'яўляецца яе семантыка-граматычная характарыстыка, інакш кажучы, носьбіт граматычнага значэння даданай часткі.

Граматычнае значэнне даданай часткі знаходзіць сваё выражэнне перш за ўсё ў граматычных сродках, якія адначасова выступаюць і як сродкі сувязі гэтай даданай часткі з галоўнай часткай, г. зн. у злучніках і злучальных словах, у часціцах у ролі злучнікаў, у віда-часавым афармленні дзеясловаў-выказнікаў і г. д. Усе ж астатнія словы ў даданай частцы з'яўляюцца носьбітам канкрэтнай інфармацыі і да граматычнага афармлення даданай часткі адносін не маюць.

У залежнасці ад граматычнага значэння вылучаюцца наступныя тыпы даданых частак:

1. Даданая частка з граматычным значэннем п р а д м е т н а с ц і. Граматычнымі сродкамі выражэння прадметнасці ў даданай частцы з'яўляюцца займеннікі *хто, што* (у формах назоўнага, а таксама ўскосных склонаў без прыназоўнікаў ці з прыназоўнікамі) і злучнік *што*. Апошні ўтварыўся з займенніка *што* і ў выніку страты свайго лексічнага значэння з'яўляецца найбольш абстрактным выразнікам граматычнага значэння прадметнасці ў даданай частцы. *А збірае гэта жніва, — зазначае пан пышліва, — той, хто ведае навукі* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Верыла маладая душа Ніны, не адгадвала бяды, што хаваецца за прыемнай усмешкай на твары Лявона* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Раман чула прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася вакол* (Я. К о л а с. Дачакаўся). *Перш за ўсё скажы мне нешта, пра што я ў цябе запытаюся* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Лячыў, лячыў дактарамі і прыждаў таго, што ўсе дактары ў адзін голас зусім яго абезнадзеілі* (М. Г а р э ц к і. Стары прафесар).

З а ў в а г а. Граматычнае значэнне прадметнасці, у выніку своеасаблівага сінтаксічнага полісемантызму, можа ў вельмі значнай меры аслабляцца; сам злучнік *што* ў такіх складаназалежных канструкцыях выступае як чыста фармальны сродак сувязі, пазбаўлены граматычнага значэння.

2. Даданая частка з граматычным значэннем а з н а ч а л ь н а с ц і. Граматычнымі сродкамі выражэння азначальнасці ў даданай частцы з'яўляюцца займеннікі *які, каторы, чый* і злучнік *што за*, які паходзіць з аднайменнай узмацняльнай часціцы (параўн. у Я. К о л а с а: *Ш т о з а цемень кругом!*, дзе *што за* мае значэнне «якая»). Займеннікі *які, каторы, чый*, з'яўляючыся сродкамі сувязі даданай часткі з галоўнай, выступаюць як злучальныя словы і могуць ужывацца ў любым склоне без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі: *Гэта чалавек, які можа нам дапамагчы* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Каля ям быў высокі пагорак, з якога было далёка відаць* (Я. К о л а с. На чыгунцы). *Якая заслуга, такая і пашана* (народн.).

3. Даданая частка з граматычным значэннем м е с ц а. Граматычныя сродкі — адпрыслоўныя словы з лакальным значэннем *дзе, куды* (і дыялектн. *кудою*), *адкуль* (і дыялектн. *скуль*), *дакуль*, якія выступаюць або як злучальныя словы, або як злучнікі: *І там, дзе кружочка на карце вучоны яшчэ не ўпісаў, мы мужна стаялі на варце вялікіх і цяжкіх спраў* (М. Х в е д а р о в і ч. Дарога на Маскву). *Лабановіч зрушыў з месца і пайшоў у той бок, куды паляцеў і зараз жа знік магутны поезд* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Свежасцю ночы патыхае з шырокіх адчыненых варот, адкуль з мяккім грукатам коцяцца бярвенні і кладуцца на ваганетку* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

4. Даданая частка з граматычным значэннем ч а с у. У якасці граматычных сродкаў для выражэння гэтага значэння ўжываюцца перш за ўсё адпрыслоўныя словы з часавым значэннем *калі, як* (з функцыяй «калі»), *пакуль*, якія таксама могуць выступаць і як злучальныя словы, і як злучнікі: *Чыясьці матуля па сыне тужыла, калі апаўночы яна мяне шыла, слязой апаіла, цябе благаславіла на вернасць* (П. П а н ч а н к а. Гімнасцёрка). *Як я лесам іду, зважна думкі сную* (Я. К у п а л а. Як я полем іду...). *З ціхім одумам прыпыніўся ён пачакаць, пакуль унук падбяжыць да яго* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Яшчэ ўчора ластаўкі былі, а ўжо сёння пуста каля дома. Як яны адлётваюць, калі, для людзей заўсёды невядома* (А. А с т р э й к а. Едзе восень).

Роль граматычных сродкаў — выразнікаў часавага значэння, а адначасова і сродкаў сувязі даданай часткі з галоўнай — нярэдка бяруць на сябе часціцы *ледзь (ледзьве), толькі, чуць* або спалучэнні часціц *ледзь толькі (ледзьве толькі), чуць толькі*, а таксама спалучэнні часціц са злучнікамі *як толькі, калі толькі, толькі што, чуць што* і нават больш складаныя адзінствы — спалучэнні суадносных слоў са злучнікамі *перад тым як, перад тым калі, пасля таго як, пасля таго калі, у той*

*час як, з таго часу як, з той пары (з тых пор) як, у той час калі, па меры таго як, тады як, тады калі, паміж (між) тым як, да таго часу пакуль, разам з тым як* і інш.: *А на прагалінках на голых гулянне конікаў вясёлых, і толькі ступіш там нагою, так і заскачуць прад табою* (Я. Колас. Новая зямля). *Ён назаўтра ўстаў ранютка, аж да ўсходу сонца, чуць што глянуў дзень ціхутка ў хату праз аконца* (Я. Колас. Першы заработак). *Як толькі падымалася сонца, яна* [Наташа] *зноў была на нагах і зноў ішла найпрасцяк, мінаючы дарогі і сцежкі* (І. Шамякін. Наташа). *Перад тым як завіраваць, выбіўшыся напаверх з цяснін зямлі, вада толькі сочыцца* (Ц. Гартны. Шырэй крокі).

5. Даданая частка з граматычным значэннем умовы фармальна мае граматычныя сродкі, якія ўжываюцца і ў часавых даданых частках, а іменна *калі, як.* Аднак ва ўмоўных частках гэтыя злучнікі маюць не тэмпаральнае, а кандыцыянальнае значэнне (яно адпавядае рускаму *если,* тады як у часавых даданых значэнне гэтых слоў адпавядае рускаму *когда*). Значэнне ўмовы мае і злучнік *раз. Хто, скажыце, сёння нас стрымае, калі мы — і сіла, і закон?!* (А. Куляшоў. Манеўры). *Як будзе работа, я ўдвое за ласку табе адраблю* (Я. Купала. Град). *Што ёй* [Аўгіні] *да таго, што ён* [Васіль Бусыга] *закляты вораг старога Талаша? Але ўсё ж нейкі голас з нутра ёй пярэчыў — раз ён твой муж, то з мужам ты павінна быць заадно* (Я. Колас. Дрыгва).

6. Даданая частка з граматычным значэннем прычыны і падставы. Гэта значэнне выражаецца пры дапамозе злучніка *бо,* злучальных слоў-прыслоўяў *чаму* і *чаго* і спалучэнняў злучніка *што* з суадноснымі словамі і словазлучэннямі *таму, ад таго, затым, дзеля таго, па той прычыне* і інш.: *Кінь ты жарты, чалавеча, бо тут жарты не дарэчы* (Я. Колас. Як Янка забагацеў). *Лукашу зусім няўцямкі, чаго бабка снуе тут* (Я. Колас. Доктар памог). *Часта прыходзілася спыняцца, таму што дарога была несамавітая: то грузлі ў балоце, то прабіваліся праз гушчары, то ўброд цягнуліся праз нейкія лужыны, зарослыя аерам ды асакою* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

7. Даданая частка з граматычным значэннем пажадання і мэты мае ў якасці граматычных сродкаў для выражэння ўказанага значэння злучнікі *каб* (які можа ўступаць і ў спалучэнне з указальнымі словамі *для таго, на тое, з тым* і інш., утвараючы састаўныя злучнікі) і *абы: Мы пяклі праснакі напалам з лебядою і чакалі вясны, каб адтала карá* (П. Броўка. Зямля). *Прадам бульбу, прадам жыта, абы было шыта-крыта* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Сцяг мы вынесем, думаў Смірноў, і даб'ёмся загаду, каб загінуўшую наноў аднавілі брыгаду* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

8. Даданая частка з граматычным значэннем меры і ступені. Указанае значэнне выражаецца злучальнымі словамі *як* (у значэнні «ў якой меры», «наколькі»), *колькі, наколькі, што* (у значэнні «колькі»). Усе гэтыя словы абазначаюць меру і ступень прызнака: якасці, акалічнасці або дзеяння: *А сёння вораг — нікчэмны, подлы забойца дзяцей — прыйшоў у светлы наш дом ваўчынай, начною хадой, і тут жа — побач са мной, побач з намі, салдатамі, — ударыў Валю маю так жахліва, як могуць прыдумаць толькі яны...* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Каб вы зналі, людзі, як мне цяжка стала!* (Я. Колас. Пахаванне). *Паглядзім жа, наколькі глыбока і моцна ўвайшлі іх карэнні ў свой грунт* (М. Багдановіч. Санет).

Ролю злучнікаў меры і ступені бяруць на сябе і часціцы *аж (ажно), хоць: За вокнамі Мінск зіхаціцца, аж зоры ў асфальце гараць* (П. Броўка. Да сяброў). *Так галопам прэ дахаты, аж у храп пайшла скаціна* (Цётка. Бунтаўнік). *Гэтак чыста, гэтак ціха, чынна, сонна, старажытна, хоць ты рухайся на цыпках, грукнуць ботам сцеражыся* (П. Панчанка. Сустрэча з Вільняй).

9. Даданая частка з граматычным значэннем характару і спо-

с а б у  д з е я н н я. Граматычныя сродкі выражэння гэтага значэння — злучнікі і часціцы ў ролі злучнікаў *як* (у значэнні «якім чынам»), *як быццам, нібы, нібыта, бы, быццам,* а таксама гутарк. *што* (у значэнні «як»). Агульнае значэнне характару і спосабу дзеяння ўключае ў сябе і больш прыватнае значэнне параўнання, якое выражаецца тымі ж самымі граматычнымі сродкамі. Акрамя таго, значэнне параўнання выражаецца яшчэ злучнікамі *чым* і *ніж* (устар.). *Пачалося з таго, што калгаснікі сеялі, а я першы раз вёў машыну. Так вось, напрыклад, як сёння ты. А побач са мной у кабіне сядзеў мой настаўнік, дзядзька Максім. Так вось, скажам, як сёння я пры табе* (Я. Б р ы л ь. Дзеля сапраўднай радасці). *І след бясследна прападае, як быццам сцежкі не было* (А. А с т р э й к а. Без следу). *І ўсе неспакойны, і ўсе засмучоны, бы нечага боязна ўсім* (Я. К о л а с. Увосень). *Нам усё яшчэ пахне не смерцю, а цёплым снапоўем, быццам мы ў хвалях жыта ўсе дні калясім, калясім* (А. К у л я ш о ў. Хлопцы апошняй вайны). *Чым больш уставала гэтых перашкод, тым больш расло ў Сцёпкі ўпартае жаданне дабіцца свайго* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

10. Дададзеная частка з граматычным значэннем д а п у ш ч э н н я. Яно выражаецца злучнікамі *хай, хоць,* спалучэннямі займеннікавых слоў *хто, што, колькі, які, як, дзе, куды, адкуль* і інш. з узмацняльнай часціцай *ні,* а таксама спалучэннямі слоў *дарма* і *нягледзячы на тое* са злучнікам *што: Здалёк Старая Чыгла выглядала горш за проста Чыглу, хоць гэтая вёска была значна большай* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *Пахаджае* [Кузьма] *ганарыста пасярод свайго двара; па-ранейшаму міністры, хай без белага цара...* (П. Б р о ў к а. Кацярына). *Як ні мый, а ганьбы не адмыеш* (народн.). *Рыгор правёў яго ў багата ўбраную кватэру, пасадзіў, здаецца, за стол і пачаў частаваць адмысловаю ядою, якое ён і ў вочы не бачыў, дарма што слыў багацеем* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Нягледзячы на тое што прыказкі і прымаўкі самастойна не бытуюць, яны не трацяць ад гэтага свайго велізарнага значэння* (К. К р а п і в а. Беларускія прыказкі).

11. Дададзеная частка з граматычным значэннем в ы н і к у. Гэта значэнне яшчэ канчаткова не сфарміравалася ў якасці самастойнага тыпу.

Для выражэння гэтага значэння ўжываюцца злучнікі *а то, то, дык, тады, так што,* мадальнае слова *значыць (значыцца),* словазлучэнне *ў выніку чаго. Нам парабчанка трэба, дык вось заставайся* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Падумаеш, не хапае нейкіх там тры месяцы, дык, значыцца, і заяву разглядаць нельга* (І. Ш а м я к і н. Наташа). *Над лугам, над Дняпром ужо зусім светла, так што калі вудзіць, дык відаць паплавок* (М. Л у п с я к о ў. Торба з салам).

Названыя сродкі выражэння пералічаных граматычных значэнняў з'яўляюцца толькі асноўнымі. Нярэдка гэтыя сродкі дапаўняюцца часціцамі, якія могуць браць на сябе ролю злучнікаў і нават пераходзіць у злучнікі (параўн. *як — як бы — бы*). У ролі граматычных сродкаў выступаюць і суадносныя словы; у пэўных выпадках і яны могуць пераходзіць у злучнікі (параўн. *дык, тады* і інш.).

## ВІДЫ АДНОСІН ПАМІЖ ГАЛОЎНАЙ І ДАДАДЗЕНАЙ ЧАСТКАМІ У САСТАВЕ СКЛАДАНАЗАЛЕЖНАГА СКАЗА

§ 1247. Паміж галоўнай і дададзенай часткамі ў складаназалежным сказе ўстанаўліваюцца наступныя адносіны: прэдыкатыўныя, аб'ектныя, атрыбутыўныя, прасторавыя, часавыя, умоўна-выніковыя, прычынныя, мэтавыя, меры і ступені, характару і спосабу дзеяння (сюды ж у якасці прыватнай разнавіднасці ўваходзяць і адносіны параўнання), супастаўляльныя.

Від сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад абедзвюх частак, аднак у асноўным ён дыктуецца сэнсам галоўнай часткі: ад таго, што́ і якім чынам неабходна паясніць шляхам увядзення даданай часткі, залежыць і характар (від) сінтаксічных адносін.

### ПРЭДЫКАТЫЎНЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1248. Прэдыкатыўнымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі даданая частка паясняе і канкрэтызуе дзейнік або выказнік галоўнай часткі, а ў выпадку адсутнасці аднаго з іх выконвае яго ролю.

Апорным элементам галоўнай часткі ў такіх сказах звычайна выступае прэдыкатыўнае словазлучэнне. І толькі калі галоўная частка мае форму аднасастаўнага або няпоўнага сказа, ролю прэдыкатыўнага словазлучэння бярэ на сябе выказнік.

Граматычнае значэнне даданых частак, якія ўступаюць у прэдыкатыўную сувязь з галоўнай, можа быць самае разнастайнае, аднак пераважна тут ужываюцца даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці або азначальнасці.

У залежнасці ад функцыі даданыя часткі падзяляюцца на дзейнікавыя і выказнікавыя.

### СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ДЗЕЙНІКАВЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1249. Даданыя дзейнікавыя часткі паясняюць або канкрэтызуюць дзейнік галоўнай часткі, выражаны займеннікам. Дзейнікам галоўнай часткі выступаюць займеннікі *той (тая, тое), кожны, усякі, усе, усё, гэта,* а таксама пранаміналізаваныя прыметнікі *любы* (у значэнні «ўсякі»), *адно* (у значэнні «тое», «толькі тое») і інш. Зразумела, што лексічнае значэнне дзейніка, выражанага такімі займеннікамі, патрабуе канкрэтызацыі, што і з'яўляецца асноўнай функцыяй даданай часткі: *Было балюча і тое, што не мог разабрацца ў дзяўчыне* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Хто сэрцам маладым вясну не стрэне, не ўмеў дагэтуль той вясною даражыць* (У. Хадыка. Вясновы пульс зямлі). *Кожны, хто стаяў на пуцях, нібы адчуваў біццё сэрца другога* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Не ўсё аднолькавага крою, што намі створана ў жыцці* (А. Звонак. На аўтастрадзе Мінск—Масква). *Мне, тата, трэба толькі адно, каб наш народ перамог паноў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У радзе выпадкаў пералічаныя вышэй займеннікі адсутнічаюць у галоўнай частцы. Гэта бывае тады, калі галоўная частка мае форму аднасастаўнага сказа (без дзейніка) і выказнік яе выражан безасабовым дзеясловам, безасабова-прэдыкатыўным словам, дзеясловам загаднага ладу: *Іздалося сумнаму паэту, што зарана адцвіла вясна* (П. Глебка. Хада падзей). *І мне шкада, шкада й балюча, што там, на растанях пуцін, было так многа слёз гаручых, так мала радасных хвілін* (П. Трус. З паэмы «Сірата Алеся»). *Хто з нядоляю рос — устань гартаваць сляды непакорных* (У. Хадыка. Надышлі крылатыя дні). *Невядома, ці коні глыталі даль, ці наадварот. У снежную месячную ноч панская тройка гналася за гэтай далечынёй, і немаведама хто каго пераганяў* (З. Бядуля. Салавей).

Заўвага. У такіх сказах, дзе даданая частка (са значэннем ускоснага пытання) звязваецца з галоўнай пры дапамозе часціцы *ці*, якая бярэ на сябе ролю злучніка, адсутнасць дзейніка ў галоўнай частцы з'яўляецца нормай.

У якасці апорнага элемента галоўнай часткі ў такіх складаназалежных сказах выступае ўжо не прэдыкатыўнае словазлучэнне, а слова-выказнік галоўнай часткі.

Аднак зрэдку сустракаюцца і выпадкі, калі выказнік галоўнай часткі выражаецца асабовым дзеясловам або іменнай часцінай мовы (назоўнікам, прыметнікам і г. д.) са звязкай. Адсутнасць дзейніка ў такіх канструкцыях не з'яўляецца нормай, і таму выказнік тут не можа выконваць такую ж ролю, што і ўсё прэдыкатыўнае словазлучэнне ў звычайных двухсастаўных простых сказах. Адсутнасць дзейніка ў падобных галоўных частках тлумачыцца як эліпсіс, тым больш што такія галоўныя часткі якраз знаходзяцца ў постпазіцыі, г. зн. размяшчаюцца пасля даданых, якія фактычна і выконваюць функцыю дзейніка: *Хто не спытаў хоць раз трывогі, жыццю н е  в е д а е цаны!* (А. З в о н а к. На аўтастрадзе Мінск—Масква). *Хто мкнецца вярнуць нам забытае гора — наш класавы  в о р а г* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Пра ворага).

§ 1250. Функцыю даданай дзейнікавай могуць выконваць даданыя часткі з розным граматычным значэннем: прадметнасці, азначальнасці, месца, часу, умовы, характару і спосабу дзеяння, прычыны і падставы.

Выкарыстанне таго або іншага тыпу даданай часткі ў функцыі дзейнікавай залежыць ад мэтавай устаноўкі гаворачага. Калі ж аналізаваць гатовыя, ужо ўтвораныя складаныя сінтаксічныя канструкцыі, то відавочна, што функцыя даданай часткі не заўсёды супадае з яе граматычным значэннем. Пры такой неадпаведнасці тое або іншае граматычнае значэнне заўсёды прыўносіць сваё адценне ў агульнае сінтаксічнае значэнне даданай, якое вынікае з яе функцыі. Так, выкарыстанне даданых з граматычным значэннем азначальнасці ў функцыі дзейнікавых звязана з тым, што канкрэтызацыя дзейніка галоўнай часткі (або, пры яго адсутнасці, утварэнне эквіваленту дзейніка) ідзе ў напрамку падкрэслівання якаснай характарыстыкі яго. Выкарыстанне даданых з граматычным значэннем часу (месца, умовы і г. д.) у гэтай жа функцыі адпаведна падкрэслівае часавую (лакальную, умоўную і г. д.) характарыстыку працэсу, стану і г. д., праз якія канкрэтызуецца дзейнік галоўнай часткі. Тое ж можна было б сказаць і адносна астатніх тыпаў даданых частак: кожны тып, ужываючыся ў не ўласцівай яму функцыі, прыўносіць адценне свайго значэння.

Найбольш адпаведнымі для выражэння дзейнікавай функцыі з'яўляюцца даданыя з граматычным значэннем прадметнасці. Гэтым і тлумачыцца надзвычай шырокае выкарыстанне адзначаных даданых частак у функцыі дзейнікавых.

Характэрным структурным прызнакам усіх даданых, якія выконваюць функцыю дзейнікавых, будзе тое, што выказнік для ўсіх іх з'яўляецца абавязковым канструктыўным элементам. Дзейнік жа ў радзе выпадкаў можа апускацца (з прычыны эліптычнасці канструкцый), а ў радзе выпадкаў можа і зусім адсутнічаць—калі даданая частка мае форму аднасастаўнага (часта безасабовага) сказа.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем п р а д м е т н а с ц і ў функцыі дзейнікавых: *Гэта няпраўда, што ён аслабеў у змаганні* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *І цікава тое, што ён — малады чалавек і астрыжаны!* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў). *Усе, хто пазіраў на гэтую фігуру, проста качаліся со смеху* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Ясна, што трэба злазіць з воза* (Я. К о л а с. У балоце).

Граматычныя сродкі сувязі галоўнай і даданай частак — словы *што, хто*—звычайна адначасова выступаюць і членамі сінтаксічнай канструкцыі: дзейнікам, дапаўненнем і г. д.: *І тады вось сталася тое, ш т о  надоўга, а можа і назаўсёды засталося ў памяці ўсіх* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Тут усе, х т о  хацеў узяць сабе за жонку царскую дачку, кінуліся ў сталіцу* (А. Я к і м о в і ч. Бацькаў дар). *Там зліткі золата былі, і перлы, і каралы — усё, ш т о  наскуплялі мы, што*

*прагна назбіралі* (М. Танк. Сон над Нёмнам). *Той яснасць вока й думкі зберажэ, каму ў жыцці заэнаць прыпала многа* (А. Звонак. Мудрасць). *Усё ўпала, рушылася; у фальшывай дарозе ішлі першыя маладыя гады; навакол чаго трымаліся калісьці цэлыя гады мары — ёсць непатрэбнасць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Усё, аб чым нам марыцца, збываецца ў жыцці* (М. Хведаровіч. Усё, аб чым нам марыцца...).

Як відаць з прыкладаў, словы *хто* і *што* выступаюць у сказах у функцыі дзейніка, прамога або ўскоснага дапаўнення. Склонавая форма гэтых злучальных слоў цалкам залежыць ад іх сінтаксічнай ролі ў даданай частцы.

Разам з гэтым *што* выступае не толькі як злучальнае слова, а і як злучнік: *Гэта падазрона, што ён так заўзята змагаецца супраць палепшання канструкцыі* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Крыху, праўда, дзіўнавата было, што Мікалай і Тэкля не лішне і хаваюцца ад людзей* (К. Чорны. Вясна).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем азначальнасці ў функцыі дзейнікавых.

Словы *які, каторы, чый*, якія служаць сродкамі сувязі ўказаных даданых частак з галоўнай, заўсёды выступаюць і ў ролі членаў сінтаксічнай канструкцыі: дзейніка, выказніка, азначэння або дапаўнення: *Той мае, які ў руках трымае* (народн.). *Няхай той з вас, чыя кабыла, выпража яе з калёс ды вядзе ў руках, а той, чые калёсы, няхай цягне іх на сабе ў другі бок* (А. Якімовіч. Разумная дачка). *Да вокнаў амаль кожнае хаты прыпалі зацікаўленыя твары. А як жа, гэта ж вельмі цікава, якую там старшыня сабе жонку прывёз* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *На лобе ні ў кога не напісана, які ён* (народн.).

Склонавая форма злучальнага слова ў даданых частках з граматычным значэннем азначальнасці залежыць ад сінтаксічнай ролі яго ў гэтай частцы.

Форма роду злучальнага слова залежыць ад рада прычын. Калі злучальнае слова выступае ў ролі дзейніка або дапаўнення даданай часткі,—а ў такой ролі могуць быць толькі словы *які, каторы*, прычым у сказах, дзе галоўная частка з'яўляецца двухсастаўнай сінтаксічнай канструкцыяй, — тады форма роду гэтых слоў залежыць ад формы роду дзейніка галоўнай часткі. Калі ж злучальнае слова (*які, каторы, чый*) выступае ў ролі выказніка або азначэння ў даданай частцы, тады яно прымае форму роду таго слова даданай часткі, да якога яно дапасуецца.

3. Канкрэтызацыя (або замяшчэнне) дзейніка галоўнай часткі з указаннем на месца дзеяння ажыццяўляецца ўжываннем у функцыі дзейнікавых такіх даданых частак, якія маюць граматычнае значэнне месца.

Словы *дзе, куды, адкуль, кудою* (дыялектн.) і інш., якія выступаюць як сродкі сувязі даданай часткі з галоўнай, з'яўляюцца акалічнасцю месца ў даданай частцы: *Дзядзьку было вядома, дзе прападае Юрка* (Я. Маўр. Падарожжа ў пекла). *Цікава, кудою думае канал праве-сці?* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Заўвага. У выніку згортвання складаназалежнага сказа з даданымі, якія маюць граматычнае значэнне месца і выступаюць у функцыі дзейнікавых, і ператварэння такога складанага сказа ў просты злучальныя словы *дзе, куды* і г. д. аб'ядноўваюцца з выказнікам былой галоўнай часткі (безасабова-прэдыкатыўным словам), утвараючы несвабодныя словазлучэнні з прыслоўным значэннем *часта дзе, рэдка дзе, невядома (немавedама) куды* і пад.: *Паўз нас паплавамі ляжала сенажаць. Часта дзе яна была скошана, і пракосы ляжалі — забытыя, пачарнелыя, паўплесканыя дажджамі ў траву* (Я. Скрыган. Зноў па дарозе). *Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш* (Я. Колас. У старых дубах).

4. У функцыі дзейнікавых ужываюцца і даданыя часткі з часавым граматычным значэннем. Сродкам сувязі такіх даданых з галоўнай часткай звычайна выступае злучальнае слова *калі*, якое з'яўляецца акалічнасцю часу пры абавязковым выказніку даданай часткі: *Калі летась*

*у замаразкі мой хлопец паадмарожваў ногі, бегаючы босы, дык цябе гэта мала абыходзіць* (К. Чорны. Зямля). *Дужа гэта для душы добра, калі цела зміраецца* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Заўвага. Складаназалежныя сказы з даданымі часу ў функцыі дзейнікавых таксама могуць згортвацца ў просты сказ, і ў выніку гэтага выказнік былой галоўнай часткі (безасабова-прэдыкатыўнае слова) аб'ядноўваецца са злучальным словам, утвараючы несвабоднае словазлучэнне з прыслоўным значэннем *рэдка калі, мала калі* і пад.: *Лес рэдка калі маўчыць* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

5. Функцыю даданых дзейнікавых могуць выконваць і даданыя часткі з граматычным значэннем умовы. Сродкам сувязі даданай часткі з галоўнай з'яўляецца злучнік *калі*: *Добра, калі хопіць бульбы ў нашай хаце да вясны, да першых з выраю гусей* (М. Танк. Песня кулікоў). *Кепска, калі кепскі гаспадар хто з вас* (Я. Купала. Гутарка аб кепскім гаспадару).

Выказнік у даданай частцы з'яўляецца і тут абавязковым канструктыўным элементам. Заўважаецца, што галоўнай звычайна выступае ў такіх складаназалежных сказах аднасастаўная сінтаксічная канструкцыя з выказнікам — безасабова-прэдыкатыўным словам.

6. Даданыя часткі з граматычным значэннем прычыны і падставы ў функцыі дзейнікавых сустракаюцца рэдка. Звязвацца з галоўнай часткай яны могуць толькі злучальнымі словамі прыслоўнага паходжання *чаму* і *чаго*: *«Як неразумна і як горка!..» А чаму неразумна і горка — было няясна* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Яго дзівіла, чаго так сягоння спявае Езуп Юрканс* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Літаратура там* [на Захадзе] *стаіць у заняпадзе. І гэта ясна чаму. Ад буржуазнай культуры адыходзяць усе лепшыя сілы і становяцца ў шэрагі рэвалюцыі* (К. Чорны. Сіла нашай культуры — у інтэрнацыяналізме). Злучальныя словы ў даданай частцы выконваюць ролю акалічнасці прычыны. Галоўная частка ў такіх складаназалежных сказах звычайна мае форму аднасастаўнага сказа без дзейніка.

7. Даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі дзейнікавых ужываюцца таксама нячаста. Сувязь іх з галоўнай ажыццяўляецца выключна злучнікам *каб*: *Трэба, каб творы пісаліся моваю жывою* (К. Чорны. Замест паштовае скрынкі). *Не было і не будзе ніколі, каб хадзіў ясны месяц назад* (Я. Колас. Народу-барацьбіту).

Указальныя займеннікі ў галоўнай частцы таксама ўжываюцца рэдка.

8. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў функцыі дзейнікавых звязваюцца злучнікамі *як, як бы, як быццам* і г. д.: *Чуваць было, як ён дробна пачаў паплёўваць* (К. Чорны. Вясна). *Спярша ў канцы галоўнай вуліцы звінела нешта такое, як быццам хто каціў па бруку жалезны лом або трубу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У якасці сродку сувязі выступае і злучальнае слова *як*; у даданай яно з'яўляецца акалічнасцю спосабу дзеяння: *Як яно прыйдзецца, невядома* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Цікава, як ён будзе выглядаць пры гутарцы з дэлегацыяй?* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. Згортванне складаназалежных сказаў з даданымі, якія маюць значэнне характару і спосабу дзеяння і ўжываюцца ў функцыі дзейнікавых, прыводзіць да таго, што выказнік былой галоўнай часткі (безасабова-прэдыкатыўнае слова) аб'ядноўваецца са злучнікам (ці злучальным словам) *як*, утвараючы несвабоднае словазлучэнне *страх як, даўно як* і пад., хоць гэтыя словазлучэнні і не з'яўляюцца настолькі цеснымі, як словазлучэнні *рэдка дзе, часта калі* і пад.: *Страх як хацелася яму мець такую кніжку!* (Я. Колас. Школа). *Унь адзін Кукавіцкі даўно ўжо як дома* (К. Чорны. Украдзенае маленства).

§ 1251. Аналіз ужывання розных даданых частак у функцыі дзейні-

кавых паказвае, што характар даданай часткі і структура галоўнай часткі ўзаемаабумоўлены. Ужыванне займеннікаў *той (тая, тое), кожны, усякі, усе, усё, гэта* і іншых пранаміналізаваных часцін мовы ў якасці дзейніка галоўнай часткі звычайна магчыма (хоць і неабавязкова) тады, калі функцыю дзейнікавай выконвае даданая частка са значэннем прадметнасці або азначальнасці. Калі ж гэту функцыю выконваюць даданыя з іншым граматычным значэннем, тады ўказаныя займеннікі ў галоўнай частцы або зусім немагчымы (і галоўная частка мае, як правіла, форму безасабовага сказа), або магчымы толькі займеннікі ніякага роду *тое, гэта, нешта,* пранаміналізаванае слова *адно.* Аднак і пералічаныя словы толькі фармальна выступаюць як дзейнік галоўнай часткі, ператвараючыся на самай справе ў часціцы безасабовасці. Параўн. слова *гэта* ў галоўнай частцы складаназалежнага сказа: *На чорта гэта мне, каб была ў хаце гэтая работа* (К. Чорны. Зямля).

§ 1252. Сінанімічнасць рада даданых частак з рознымі граматычнымі значэннямі ў функцыі дзейнікавых стварае магчымасць замены іх даданымі з найбольш уласцівым гэтай функцыі значэннем — значэннем прадметнасці. Практычна гэта выражаецца ў тым, што розныя злучнікі і злучальныя словы часам могуць быць заменены злучнікам (або злучальным словам) *што,* параўн.: *Самому пакута не страшна. Страшна, калі хто блізкі пакутуе* (К. Чорны. Зямля). — *Страшна, што хто блізкі пакутуе.* Або: *Мне вядома, чаму ты не спіш па начах, а за думкамі следам вандруеш далёка* (П. Броўка. Таварышу).— *Мне вядома, з-за чаго ты не спіш па начах...*

Аднак такія замены носяць абмежаваны характар.

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ВЫКАЗНІКАВЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1253. Даданыя **выказнікавыя** часткі паясняюць або канкрэтызуюць выказнік галоўнай часткі, выражаны займеннікам.

Галоўная частка складаназалежных сказаў з даданымі ў выказнікавай функцыі заўсёды мае форму двухсастаўнага (або аднасастаўнага пэўна-асабовага) сказа з іменным выказнікам. Указальныя або азначальныя займеннікі *той (тая, тое), такі (такая, такое), гэтакі (гэтакая, гэтакае), усё,* будучы іменнай часткай выказніка, выступаюць у форме назоўнага або творнага склону адзіночнага ці множнага ліку; займеннік *той (тая, тое)* можа выступаць і ў форме роднага склону, прычым у гэтым выпадку ён мае ўказальна-прыналежнае значэнне (параўн. падобнае ж значэнне ў форме роднага склону ўказальна-асабовага займенніка *ён: яго*). *Гэта было тое, што не давала Сашку ніколі спакою* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Які куст, такі і адростак. Якая работа, такая і плата. Якое карэнне, такое насенне. Якія мы самі, такія і нашы сані* (народн.). *Думка яго гэткая, што гэта Мікалай прычыніўся да развалу яго сям'і* (К. Чорны. Вясна). *І гэта ўсё, што ты мог мне паведаміць?* (М. Зарэцкі. Вязьмо). *З якім спазнаешся, такім станешся* (народн.).

З прыкладаў відаць, што выказнік галоўнай часткі ў агульным плане ўказвае на прадмет (асобу) або прызнак, а змест даданай часткі — у канкрэтызацыі гэтага прадмета (асобы) або прызнака.

Заўвага. У галоўнай частцы, выказнік якой выражан указальным займеннікам *тое (то),* у якасці дзейніка можа выступаць займеннік ніякага роду *гэта* (гл. прыклады). Калі ж пры выказніку галоўнай часткі ёсць адмоўе *не,* тады дзейнік *гэта* ў выніку эліпсіса можа апускацца, і такая галоўная частка надзвычай цесна звязваецца з даданай, а ўвесь складаназалежны сказ набліжаецца да простага. Параўн.: *Здавалася, што чалавек гэты нечым ганарыцца. Не то, што ён быў горды перад людзьмі. Не. Наадварот. З выгляду ён быў ветлівы да ўсіх* (К. Чорны. Насцечка). *І не тое, што работа голад прыпыняе, ва мне родзіць ўсе клапоты й нэндза забірае,— не, не тое* (Ц. Гартны. Без работы).

§ 1254. У функцыі выказнікавых могуць ужывацца дададзеныя часткі з граматычным значэннем прадметнасці, азначальнасці, характару і спосабу дзеяння, пажадання і мэты.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі выказнікавых звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *хто, што* і злучнікам *што*. Злучальныя словы *хто, што* выкарыстоўваюцца пры такіх галоўных частках, выказнікам у якіх выступаюць займеннікі *той (тая, тое), усё*. Склонавая форма злучальнага слова залежыць ад ролі яго ў даданай частцы — ад таго, якім членам гэтай сінтаксічнай канструкцыі яно з'яўляецца: *Працоўная слава — гэта не тое, што даецца чалавеку адзін раз і назаўсёды* (У. Краўчанка. Жыта красуе). *Тады ён думаў зусім расквітацца з усімі гэтымі справамі і зноў стаць тым, кім быў змалку* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Злучнік *што* выкарыстоўваецца пры любых галоўных частках: *Але адна якасць у яго ёсць такая, якой гэтыя не маюць. Гэта тое, што ён вельмі добра сам ведае ўсю мясцовасць і душу тамашніх людзей* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ды пытанні і заўвагі часам такія, што на іх не канечна і адказы даваць* (Я. Колас. Дрыгва). *Выгляд яго быў такі, што быццам ён заўсёды працаваў тут* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем азначальнасці ў функцыі выказнікавых звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *які, каторы, чый*. Склон злучальнага слова залежыць ад яго ролі ў даданай канструкцыі, а род — ад роду таго слова, да якога злучальнае дапасуецца: *Які госць, такое і частаванне. Якая птушка, такое і гняздзечка* (народн.). *Будзь жа і ты яму* [бацьку] *схожы. Тады спраўдзіцца прымаўка: якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын* (Я. Купала. Пераклад з В. Дуніна-Марцінкевіча. Сялянка). *Сягоння я ізноў такі, які м адсюль пайшоў* (М. Хведаровіч. Дома). *Чыя сіла, таго і праўда* (народн.). *Ён не той, якім умее прыкідвацца* (К. Чорны. Трыццаць год).

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі выказнікавых звязваюцца з галоўнай часткай злучнікам *каб: Але не такі дзед, каб адстаць* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Не той Жагула, каб ён абы каму раскідаўся сваім дабром* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Які б гэта крук, каб выпусціў з рук!* (народн.). *Нашы людзі не такія, каб падаць у роспач* («Маладосць», № 11, 1956).

4. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў функцыі выказнікавых звязваюцца з галоўнай часткай злучальным словам *як* і злучнікамі *як, як быццам*, а таксама часціцамі *быццам, быццам бы, бы* і інш. у ролі злучнікаў: *Песня была такая, як некалі жнеі пелі вечарам* (М. Зарэцкі. Кветка пажоўклая). *Крык такі, быццам нехта там гінуў у нетрах глухіх* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

§ 1255. Сінтаксічная сінаніміка даданых у выказнікавай функцыі абмежаваная. Можна толькі адзначыць, што найбольш характэрным для гэтай функцыі з'яўляецца граматычнае значэнне азначальнасці, а таму ў радзе выпадкаў такімі даданымі можна замяняць даданыя з іншым граматычным значэннем, але з гэтай жа функцыяй. Параўн.: *Мароз такі, што скоўвае дыханне, дымок віецца над маім жытлом* (А. Звонак. Паўночнае ззянне).— *Мароз такі, які скоўвае дыханне...*

### АБ'ЕКТНЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1256. Аб'ектнымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі даданая частка паясняе і канкрэтызуе аб'ект галоўнай часткі, а ў выпадку адсутнасці яго выконвае

яго ролю. Такая дададая частка выступае ў функцыі дапаўняльнай дададай.

Блізкімі да дапаўняльных з'яўляюцца і дададаныя часткі, якія выконваюць функцыю ўскоснага пытання. Гэтыя дзве функцыі — дапаўняльнай і ўскоснага пытання — і аб'ядноўваюцца ў адну групу на той аснове, што адносіны паміж галоўнай часткай і дададай, якая выконвае адну або другую функцыю, аднолькавыя: у абодвух выпадках адносіны застаюцца аб'ектнымі.

Функцыя дададай пры аб'ектных адносінах залежыць ад таго, ці можа дададая частка (без галоўнай) выступаць у якасці прамога пытання. Калі такая магчымасць ёсць, то дададая ўжыта ў функцыі ўскоснага пытання: *Гушка спярша падумаў, што гэта пытае прыстаў* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Няўстойлівасць фронту, усё большы і шырэйшы маштаб партызанскіх аперацый, іх стыхійны рост — усё гэта змушала войта і яго аднадумцаў турботна чухаць патыліцы ды падумаць, што нясе ім хаўрусаванне з панамі* (Я. Колас. Дрыгва). *Глядзі, якая перад намі гарыць і свеціць зорка!..* (У. Хадыка. Пяць вершаў). *Іду вось, не ведаючы, дзе спынюся* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Заўвага. Блізкасць дададаных з функцыяй ускоснага пытання і дададаных з функцыяй дапаўняльных дазваляе аб'яднаць іх пры разглядзе структурных асаблівасцей галоўнай і дададай частак. У далейшым дададаныя адной і другой функцыі будуць аб'яднаны ў адну групу і ўмоўна называцца дададанымі ў функцыі дапаўняльных.

Апорным элементам галоўнай часткі ў сказах з такімі адносінамі звычайна з'яўляецца дзеяслоў або іншае слова з дзеяслоўнай семантыкай, якое захавала асаблівасці дзеяслоўнага кіравання. Акрамя дзеясловаў пераходных (як прама-пераходных, так і ўскосна-пераходных), апорным словам галоўнай часткі могуць быць дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі ад такіх дзеясловаў, а таксама аддзеяслоўныя назоўнікі ці нават несвабодныя словазлучэнні, якія эквівалентны дзеясловам па значэнню і кіраванню.

§ 1257. Значэнне апорнага слова (дзеяслова ці аддзеяслоўнага назоўніка) можа быць самае разнастайнае. Вельмі часта ўжываюцца словы, якія абазначаюць паведамленне, пытанне, сцвярджэнне, адказ і г. д.: *гаварыць, казаць, выказаць, сказаць, расказаць, адказаць, пісаць, адзначаць, шаптаць, даводзіць, тлумачыць, растлумачыць, прасіць, пытаць, пытацца, запытаць, распытаць* і інш.; *казка, весць, вестка, песня, пагроза, абяцанне* і інш. *Ты ж сам казаў не раз тады, што адрас мой не на паперы, а ў сэрцы носіш заўсягды* (К. Буйла. А я ўсё чакаю...). *А праз тыдзень раскажуць з пазіцый лісты, як бярэ за вярстою вярсту* (М. Лужанін. Франтавік). *Дзямян Гарагляд устаў, сказаўшы, што трэба ісці дахаты* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Тут адна думка ўзбегла мне на яў: калгаснікам адвагі не хапіла прасіць, каб песню аб калгасе склаў* (Я. Купала. Госці). *Я спытацца сягоння хачу, дзе сляды Абавяна?* (П. Броўка. Занга). *Уздзівяцца маўклівыя буслы, зашастаюць моцнымі вахлярамі-крыллямі, падымуцца над балотам і, купаючыся ў растопленым золаце сонца, панясуць у празрыстыя далі нямую казку аб тым, як балота глынула людзей і жывёлін* (З. Бядуля. На балоце). *Усё новыя і новыя прыходзяць весткі аб тым, што расце і шырыцца партызанскі рух народа* (К. Чорны. Народная нянавісць).

Гэтак жа часта ўжываюцца і словы або несвабодныя словазлучэнні, якія абазначаюць успрыняцце, думку, пачуццё, унутраны стан і г. д.: *бачыць, убачыць, пабачыць, знаць, пазнаць, ведаць, чуць, пачуць, адчуць, уявіць, прыкмеціць, сніць, лічыць, забыць; успамін, думка, вывад, упэўненасць; рабіць выгляд, дабраць да ладу* і інш. *Несцяровіч бачыў, што гэты чалавек гаворыць вельмі смела і адкрыта, не аглядаючыся на-*

*зад* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Іван Дзмітрыч, урэшце, бачачы, што гэта бескарысна, зусім кінуў разважаць і ўвесь аддаўся роспачы і страху* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Палата № 6). *Будаўнікі ведаюць, што за іх працай пільна сочыць уся краіна* (Н. Пятніцкі. У імя будучыні). *Я знаю, што цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло* (А. Астрэйка. Нёман). *Выказвалася думка і аб тым, што і кампазіцыйна п'еса не зусім стройная* (з газет). *Ён сумыслу зрабіў выгляд, што толькі цяпер заўважыў яго* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Насустрач махаў ужо з адчаем вінтоўкай нямецкі патруль і разгублена ціснуўся ўбок, не дабраўшы да ладу, што яму рабіць у гэтым непрадбачаным ніводнай інструкцыяй выпадку* (М. Лынькоў. Вяселле).

Указаны круг значэнняў характэрны ў асноўным для дзеясловаў і аддзеяслоўных слоў. Але зрэдку падобныя значэнні могуць выражацца і назоўнікамі, непасрэдна не звязанымі па свайму ўтварэнню з дзеясловамі, напрыклад: *слова, страх, надзея* і інш., а таксама прыметнікамі *рад, вінаваты, шчаслівы, згодзен* і інш. і безасабова-прэдыкатыўнымі словамі *радасна, страшна, шкада* і інш. *А на задушкі пад цёмнаю івай жывое пачуецца слова, што песня устала з стотысячнай сілай, жыве мая ліра нанова!* (Цётка. Грайка). *Унь калісьці Банадысь наганяў на ўсіх страху, што апошнія нагавіцы пазабіраюць* (К. Чорны. Вясна). *Ён рад быў, што памог чалавеку ў бядзе* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *Чым яны* [дзеці] *вінаваты, што яны не яе?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Воля, воля! Толькі шкода, што цябе нідзе няма* (Я. Колас. З песень адзінокага).

У рэдкіх выпадках у ролі апорнага элемента могуць выступаць і назоўнікі з іншым значэннем. Характэрнай рысай такіх апорных слоў-назоўнікаў з'яўляецца несвабоднасць іх лексічнага значэння.

§ 1258. Апорнае слова ў галоўнай частцы складаназалежнага сказа з даданымі ў функцыі дапаўняльных выконвае розную сінтаксічную ролю. Калі яно выражана асабовай формай дзеяслова, то ў галоўнай частцы гэта слова з'яўляецца выказнікам; калі інфінітывам, то звычайна ўваходзіць у састаў складанага дзеяслоўнага выказніка або з'яўляецца выказнікам у сінтаксічнай канструкцыі, якая мае форму інфінітыўнага сказа. Апорнае слова, выражанае дзеепрыметнікам ці дзеепрыслоўем, таксама можа ўваходзіць у склад выказніка, можа быць адасобленай акалічнасцю ці адасобленым азначэннем (а ў словазлучэннях—галоўным словам дзеепрыслоўнага ці дзеепрыметнікавага словазлучэння): *Праз даль шляхоў мы бачылі, як блізка ля нашай мэты здзейсненай стаім* (П. Броўка. Думы аб правадыру). *Яны прыйшлі ўсім сялом паслухаць, што напісаў настаўнік, і падпісаць петыцыю* (Я. Колас. Бунт). *Мне радасна бачыць, як Мінск жыве, дыша, залечвае раны свае, з пажарышч, з руін паўстае і галаву ўзносіць угору ўсё вышай* (Я. Колас. Мінск). *І Якаў быў вельмі задаволены, што ўсё так сумленна, добрапрыстойна і танна і нікому не крыўдна* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Скрыпка Ротшыльда). *«Ты, брат, не вельмі ўжо старайся там: злажы трохі з большага, абы да вясны дастаяла»,— сказаў Цімох, ведаючы, што Лапко ўсё роўна зробіць акуратна* (Я. Колас. Адшчапенец). *У забыцці я разгарнуў... і закрываю, здзіўлёны ў край, што гэта не Парні* (М. Багдановіч. У старым садзе).

Апорнае слова, выражанае назоўнікам, можа быць дзейнікам, іменнай часткай выказніка або дапаўненнем: *Да свядомасці стыхійна дайшла тая думка, што амаль пагалоўна вынішчаецца, калечыцца народ* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І нябёсы нам сведкай, што, нават у лепшыя дні, маці іх не гадала аб гэткай для іх вышыні* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Старыя дзяды сваім розумам даходзяць да думкі, што трэба ўзброенае змаганне супроць акупантаў* (Я. Колас. Дрыгва).

Калі ж у галоўнай частцы апорнае слова выражана безасабова-прэдыкатыўным словам, то яно таксама ўваходзіць у склад выказніка. Тое ж можна сказаць і аб апорным слове-прыметніку, якое толькі ў вельмі рэдкіх выпадках можа з'яўляцца адасобленым азначэннем, а звычайна ўваходзіць у склад выказніка: *Але, шаноўны, г о р к а будзе тым, хто ў хаце мой пераступіў парог, хто гаспадарыў у гумне маім ці ў нашых скібах выбеліў нарог* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Ты р а д, што каля цябе стараюцца ўсялякія гады і падхлебнікі* (К. Ч о р н ы. Брыгадзірава памылка).

З а ў в а г а. Пропуск апорнага слова можа прыводзіць да таго, што галоўная частка страчвае сваю спецыфіку і разам з былым злучнікам пачынае выконваць ролю члена простага сказа, ператвараючыся ў несвабоднае словазлучэнне, параўн.: *«Ці доўга я буду чакаць гарнітура?» Абрам крыху замітусіўся, але авалодаў сабою і сказаў: «Пан жа толькі т р ы т ы д н і т а м у я к прынёс»* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 1259. Дада.ная частка, якая выконвае функцыю дапаўняльнай, можа быць звязана толькі з апорным словам галоўнай часткі, будучы падпарадкаванай яму. Але такі від сувязі дадана й часткі з галоўнай не з'яўляецца адзіным. Даданая частка ў радзе выпадкаў яшчэ можа быць звязана паясняльнай сувяззю з дапаўненнем галоўнай часткі, якое выражаецца ўказальным або азначальным займеннікам (а зрэдку і займеннікам іншай групы ці нават іншай часцінай мовы ў ролі ўказальнага займенніка). Названая паясняльная сувязь з дапаўненнем не адмаўляе, вядома, падпарадкавальнай сувязі і такіх даданых частак з апорным словам галоўнай. Проста ў гэтых выпадках атрымліваецца паралельная падпарадкавальная сувязь: апорнае слова кіруе і займеннікам і даданай часткай: *Хто в е д а е, куды бягуць гэтыя хмаркі, дзе спыняцца яны?* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Думы, мары мае!.. Г а н а р у с я я т ы м, што навек заўладалі вы сэрцам маім* (А. К у л я ш о ў. Кожны мае свой бор...). *Ён зларадна д у м а ў п р а т о е, што Вэня зранку адсюль паедзе* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская). *Двое сутак падрад бушавалі вогненныя віхры, у дым і прах р а з в я в а ю ч ы ў с ё, што так любоўна і старанна будаваў чалавек* (М. Л ы н ь к о ў. Салют). *С х а п і ў ш ы а д н о, чаго ёй нідзе і ніяк немагчыма забыцца, — сваю сонную, цёплую Верачку, — паляцела і Ліда* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень).

Ужыванне суадноснага (указальнага) слова ў галоўнай частцы ў адных выпадках бывае неабавязковым і залежыць ад парадку слоў у гэтай частцы, ад парадку частак у саставе складаназлучанага сказа, а таксама ад розных стылістычных прычын. У другіх жа выпадках ужыванне суадноснага слова з'яўляецца абавязковым.

1. Абавязкова ўжываецца суадноснае слова тады, калі апорнае слова выражана дзеясловам, які па свайму лексічнаму значэнню не ўжываецца без дапаўнення: *накіраваць* (на тое), *абысціся* (без таго), *падысці* (да таго), *узняцца* (над тым), *гарнуцца* (да таго), *пачацца* (з таго) і інш. *Усё з а л е ж а л а а д т а г о, наколькі сілы паліцыі пераважалі яго сілы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Душа яго г а р н у л а с я д а т а г о, каб неўзаметку, ціха, панура часаць дзе-небудзь у цёмным і зацішным кутку бервяно або капаць зямлю* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Сабраныя сродкі р а з м я р к о ў в а л і с я с я р о д т ы х, хто меў патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе* («Весці АН БССР»). *Яно* [дрэва] *у з н я л о с я горда н а д у с і м, што ўпершыню навек мы палюбілі* (У. Х а д ы к а. За строем дат і рубрык).

Немагчымы пропуск суадноснага слова і тады, калі пры апорным слове ёсць адмоўе з далейшым супрацьстаўленнем, а таксама калі даданая дапаўняльная частка ўступае ў адносіны аднароднасці (або ўдакладнення) з дапаўненнем галоўнай часткі: *Паэт л ю б і ў не само падарожжа, а т о е, што яму давала гэта падарожжа* (У. А г і е в і ч. Паэт і сучаснасць). *П р а с л а в і л і мы навуку і т ы х, хто ў цяжкія гады,*

*як талісманы, на руку збіралі крупінкі руды* (М. Хведаровіч. Запалярныя сябры). *Ён падтрымлівае, прапагандуе, развівае ўсё новае, прагрэсіўнае, усё тое, што служыць справе будаўніцтва камунізма* («Весці АН БССР»). *Ну, як тут вытрываць малому, таму, хто з дзядзькам пасварыўся?* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага. Як адхіленне ад нормы ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца канструкцыі, дзе дадзеная частка ўступае ў адносіны аднароднасці (або ўдакладнення) з дапаўненнем галоўнай часткі, але ў самой галоўнай частцы адсутнічае суадноснае слова: *За ласку папікае, што яе прыгледзеў я* (П. Броўка. Кацярына). *Неспакоен пан Патоцкі у сваёй правіне, што ўчыніў такую крыўду ні пра што дзяўчыне* (Я. Купала. Бандароўна).

2. Ужыванне суадноснага слова не з'яўляецца абавязковым пры ўсіх тых апорных словах, якія могуць функцыяніраваць без дапаўнення. Гэта датычыць вялікай колькасці дзеясловаў, а таксама назоўнікаў, прыметнікаў і безасабова-прэдыкатыўных слоў: *думаць, глядзець, патрапіць, сведчыць, казаць, пытаць, пытацца, чуць* і інш.; *страх, довад, вынік, абяцанне, папярэджанне* і інш.; *рад, вінават; шкада, дзіўна* і інш. *Андрэй разумеў, што гэта б'е наша супрацьтанкавая артылерыя* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Пасля была падазронасць, што гэта навёў на след пазнанскіх кенаркаў зялёнакаменскі вусаты хутаранец* (К. Чорны. Вясна). *Я вельмі рад, што ты ў нас у доме* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Пры такіх апорных словах указальны займеннік (ці яго эквівалент) можа быць ужыты, калі неабходна асабліва чотка падкрэсліць аб'ектны характар дадзенай часткі: *Ірваныя бацінкі на босую ногу больш за ўсё іншае гаварылі, што ён з далёкай дарогі* (Я. Брыль. У сям'і). *У нас на заводзе, — чытае дзед Сымон ледзь не на памяць ужо завучаныя словы, — выступіў надоечы прафесар і доўга гаварыў аб тым, што цяпер нам, амерыканцам, значыцца, трэба берагчы свае нервы* (Я. Брыль. Пісьмо з Амерыкі). *Расказалі малыя, што маці ў дуброве даўно* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Аўтар паставіў перад сабой складаную задачу — расказаць аб тым, чаго асабіста не бачыў, непасрэдна не перажыў* (А. Маўзон. Тэма і яе ўвасабленне).

3. Нарэшце, указальнага займенніка не можа быць пры тых апорных словах, якія не спалучаюцца з дапаўненнем: *Не мог уцерпець Міхалючок, каб хутчэй прачыталі пра Рыгора* (К. Чорны. Вясна). *Ды і сам зрабі выгляд, што збіраешся выехаць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1260. Функцыю дадзенай дапаўняльнай могуць выконваць дадзеныя часткі з граматычным значэннем прадметнасці, азначальнасці, месца, часу, умовы, прычыны і падставы, пажадання і мэты, меры і ступені, характару і спосабу дзеяння. Аб'ектная функцыя для свайго выражэння патрабуе ўжывання дадзенай часткі перш за ўсё з граматычным значэннем прадметнасці. Такое значэнне найбольш адпавядае названай функцыі, а таму ў гэтай функцыі дадзеныя з граматычным значэннем прадметнасці выкарыстоўваюцца надзвычай шырока.

Ужыванне ў аб'ектнай функцыі дадзеных частак з іншым граматычным значэннем носіць абмежаваны характар і па сутнасці з'яўляецца пераносным. Такое ўжыванне мае месца, калі гаворачай асобе патрэбна назваць не проста аб'ект і не толькі аб'ект, а звярнуць увагу і на іншыя акалічнасці (пажаданне, характар і спосаб дзеяння, месца ці час дзеяння і г. д.).

Усе дадзеныя часткі, ужытыя ў функцыі дапаўняльных, маюць выказнік у якасці абавязковага структурнага элемента; апушчэнне выказніка, якое наглядаецца ў рэдкіх выпадках, тлумачыцца толькі як эліпсіс.

1. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі

словамі *хто, што* (у формах розных склонаў, з прыназоўнікамі і без іх) і злучнікам *што*.

Злучальныя словы *хто, што* ў дадзенай частцы выконваюць ролю дзейніка, іменнай часткі састаўнога выказніка, дапаўнення: *Але Сабастыян Рамашка так адразу за стол не сеў. Раней ён распытаўся, хто яшчэ ёсць у сям'і* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Хлопчык цьмяна памятае, што тварылася кругом* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Нас не пыталіся, хто мы, у гэтыя дні загранiцай* (М. Танк. У гэтыя дні...). *Ідучы ўспомніла, што казаў бацька* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Пачуюць магутную сілу заводаў, убачаць няведаны росквіт зямлі і разам на карце жывых пяцігодак пазнаюць, чым нашыя сэрцы жылі* (А. Куляшоў. Пяцігодка). *Сынава ўяўленне дарысавала да канца тое, пра што толькі з большага сказаў бацька* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Калі злучальнае слова ў дадзенай частцы выступае як прамое дапаўненне, другога прамога дапаўнення ў гэтай частцы быць не можа. Не бывае звычайна і другога ўскоснага дапаўнення, калі злучальнае слова выступае ў такой жа ролі, аднак правілам гэта не з'яўляецца: у дадзенай частцы могуць быць і два ўскосных дапаўненні. Параўн.: *Аб чым з сабой тады ўдваёчку снавалі думкі, сеўшы ў рад,— пытаць аб гэтым трэба ночку і за акном вішнёвы сад* (Я. Купала. Магіла льва).

Калі ж дадзеная частка звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучніка *што*, тады ў складзе дадзенай могуць быць усе члены сказа: сам сродак сувязі членам сказа ўжо не з'яўляецца. Аднак абавязковым элементам такіх дадзеных частак, як гэта ўжо адзначалася, з'яўляецца выказнік. Таму побач з дадзенымі, якія маюць форму простага двухсастаўнага сказа, ужываюцца і дадзеныя, што маюць форму аднасастаўнага, пэўна-асабовага, няпэўна-асабовага, абагульнена-асабовага, безасабовага і інфінітыўнага простых сказаў: *Галоўнае ў тым, што мы з прыватнай уласнасцю спляліся загрудкі, прыпёршы яе ў апошніх яе сховах* (К. Крапіва. Што мне рупіць). *Люблю закутацца кажухам, згайсаць ад меж да меж краіну і крыкнуць гучна завірухам, што ў хвалях белых не загіну* (М. Чарот. Балотам снежным праз сасоннік). *Пятрусь Грыб, адзін з багацеяў мястэчка Дварок, дачуўся надоечы, што лес ягоны сякуць напавал, больш як заўсёды* (Я. Брыль. Зладзеі). *Дзецям было зябка і яшчэ больш крыўдна за тое, што іх так рана разбудзілі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Наогул я лічу, што камедыёграфа трэба вызваліць ад дробязнай апекі і не навязваць яму наспех прыгатаваных рэцэптаў* (К. Крапіва. Аб сатырычнай камедыі). *«Казала ліха, што не быць дабру», — адгукнулася Аксіння* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Нярэдка дзейнік дадзенай часткі апускаецца таму, што дзеючая асоба вядома з больш шырокага моўнага кантэксту: *Не журыся горненька і не плач, што са мною, любая, не была* (П. Глебка. Дваццаты год). А калі аб дзеючай асобе (суб'екце дадзенай часткі) так ці інакш гаварылася ў галоўнай частцы, тады ў дадзенай пропуск дзейніка нават з'яўляецца нормай: *Кастусь толькі займаўся тым, што зранку малаціў, а адвячоркам укошваў травы коням напач* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Кожны рад быў на вёсцы, што іх разам угледзеў* (П. Броўка. Паланянка). *За тое, што добра дагледзеў вясны, у прэмію дзеду падносяць штаны* (К. Крапіва. Калгасны дзед).

Такім чынам, ствараецца своеасаблівая пэўна-асабовая сінтаксічная канструкцыя, у якой выказнік можа выражацца любой асабовай формай дзеяслова цяперашняга, прошлага і будучага часу, а эліптычны пропуск дзейніка з'яўляецца такой жа нормай, як і ў пэўна-асабовых простых сказах апушчэнне дзейніка пры дзеясловах 1-й і 2-й асобы цяперашняга і будучага часу.

2. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем азначальнасці ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай злучальнымі словамі *які,*

*каторы, чый* (у форме розных склонаў, з прыназоўнікамі і без іх), а таксама злучнікам *што за*. Злучальныя словы тут выступаюць толькі ў функцыі азначэння, а таму дапасуюцца да таго назоўніка дадана́й часткі, да якога яны адносяцца: *А ну, давай, брат, запрабуем, хоць на цікавасць пакаштуем,* я к і *тут сок на новым месце?* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Я не імкнуся тых дагнаць,* ч ы й *недалёкі шлях у моры* (М. Т а н к. Заўсёды поўначчу). *Ён толькі з большага ведаў,* у я к о й *мясцовасці ён цяпер апынуўся* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

Злучнік *што за*, які ўзыходзіць да эмацыянальна-экспрэсіўнай клічнай або пытальнай часціцы і сінтаксічна звязан з назоўнікам, у такіх даданых таксама мае значэнне «які» («якая», «якое», «якія»). У гэтым тыпе даданых выказнік са значэннем быційнасці звычайна апускаецца, затое назоўнік (у функцыі дзейніка або дапаўнення) з'яўляецца абавязковым структурным элементам даданай часткі: *Падзівіся, браток,* ш т о з а *цемень наўкруг!* (Я. К о л а с. У цемры). *Паслухай,* ш т о з а *пагалоскі плывуць сяголета па вёсцы* (П. Т р у с. Каб знаць навіны ўсяго свету — чытай газету).

Заўважаецца, што даданыя часткі з азначальным значэннем выступаюць у функцыі дапаўняльных толькі пры той умове, калі апорным словам галоўнай часткі з'яўляецца дзеяслоў.

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем м е с ц а ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *дзе, куды, адкуль (скуль)*. Названыя словы ў даданай частцы выступаюць як акалічнасці месца пры дзеяслове-выказніку: *Міхалка і не старайся дазнацца,* д з е *бывае яго гаспадар* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Хто ведае,* к у д ы *вядзе вось гэта шэрая вузкая дарога?* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Хто-хто, а яны то ведалі,* а д к у л ь *бярэцца нечаканы дождж* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ой, скажы ты, беззямельнік, вашэці,* с к у л ь *ты ўзяўся, бедачына, на свеце?* (Я. К у п а л а. З песень беззямельнага).

З а ў в а г а. У рэдкіх выпадках дзеяслоў-выказнік даданай часткі можа апускацца, але гэта бывае толькі тады, калі ўказаны дзеяслоў павінен быў бы мець самае агульнае дзеяслоўнае значэнне (быційнасці, паяўлення і г. д.): *Сёмка-матрос запытаў іх,* а д к у л ь *яны* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

4. Даданыя часткі з граматычным значэннем ч а с у ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучальным словам *калі* і злучнікам *пакуль*. Злучальнае слова *калі* ў складзе даданай часткі з'яўляецца акалічнасцю часу і адносіцца да дзеяслова-выказніка: *Ідучы дамоў, Андрэй вылічаў,* к а л і *схадней яго* [дубок] *ссячы* (Я. К о л а с. Малады дубок). *Костусь прыпыніўся насупроць баранавалокаў і чакаў,* п а к у л ь *яны вернуцца назад* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Уранні Леначка не захацела пачакаць,* п а к у л ь *згатуецца снеданне* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

Пры ўмове, калі выказнік даданай часткі абазначае дзеянне асобы, аб якой гаварылася ў галоўнай частцы (маецца на ўвазе звычайна прэпазіцыя галоўнай) ці нават у больш шырокім моўным кантэксце, дзейнік даданай можа апускацца. Падобныя ж прычыны могуць выклікаць эліптычнае апушчэнне выказніка даданай часткі: *Я ўсё гэта разбяру, але не ведаю* к а л і (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі).

5. Даданыя часткі з граматычным значэннем у м о в ы ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай пры дапамозе кандыцыянальнага злучніка *калі* (і рэдка — *як* у значэнні «калі»): *Ён не лішне любіць,* к а л і *хто яму пачынае даваць парады* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Люблю,* я к *дыхае зямля і хлебам і віном* (М. Х в е д а р о в і ч. Дома).

6. Даданыя часткі з граматычным значэннем п р ы ч ы н ы і п а д с т а в ы ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *чаму, чаго (адчаго)*. Гэтыя словы, якія з'яўляюцца прыслоўямі прычыны, і выконваюць у даданай частцы функцыю акаліч-

насці прычыны, адносячыся да дзеяслова-выказніка: *Я не знаю сам, браточкі, чаму мне так мілы буры, плач асенняй ночкі, спеў яе пастылы* (Я. Колас. Я не знаю...). *Васілёк замайчаў, нерухліва ляжыць, мусіць, думаць пачаў, чаго вецер шуміць* (Я. Колас. На адзіноце). *Людзі бываюць усякія. Адчаго яны робяцца ўсякімі, гэта тут мы гаварыць не будзем* (К. Чорны. Зямля).

Нярэдка ў дадзеных частках з такім значэннем адсутнічае дзейнік (калі дзеяслоў-выказнік называе дзеянне той асобы, аб якой гаварылася ў прэпазіцыйнай галоўнай частцы або нават у адным з папярэдніх сказаў). Адначасова можа мець месца і эліптычны пропуск выказніка, і тады ўся дадзеная частка будзе складацца толькі з адной акалічнасці прычыны: *Адкажы мне, вербачка, адкажы мне, мілая, чаго зажурылася, смутная, знясілая?* (Я. Колас. Вярба). *Мне цяжка жылося з ім, і я вам зараз скажу чаму* (К. Чорны. Зямля).

7. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучнікам *каб.*

У дадзеных частках з такім злучнікам выказнік заўсёды выражаецца дзеясловам прошлага часу (калі ж выказнік іменны, то форму прошлага часу мае звязка) або інфінітывам: *Не было і не будзе ніколі, каб хадзіў ясны месяц назад* (Я. Колас. Народу-барацьбіту). *Звадыяшная думка праз сон неадчэпна звінела упарта: «Я не веру, каб быў закон катаваць чалавечы характар»* (П. Глебка. Карменсіта). *Расла яна* [Ніна] *ціхая, не смеючы слова адказаць сварлівай мачысе, баючыся паскардзіцца бацьку на крыўды з боку мачыхі, думала толькі, каб пасобіць падняцца меншым братам і сястры* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Дадзеная частка можа мець форму простага двухсастаўнага або аднасастаўнага (звычайна інфінітыўнага) сказа. Двухсастаўная канструкцыя нярэдка спрашчаецца з-за эліптычнага апушчэння дзейніка, і па гэтай прычыне дадзеная частка можа складацца толькі з аднаго выказніка з паясняльнымі словамі (а ў інфінітыўнай канструкцыі нават без іх): *Трэба сказаць каму-нікаму з камуністаў, каб не спяшаліся выязджаць адгэтуль* (К. Крапіва. Партызаны). *Хацеў, каб не пакрыўдзіць* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Зрэдку наглядаецца нават эліптычны пропуск выказніка (асабліва калі падразумяваецца выказнік з агульным дзеяслоўным значэннем быційнасці): *Ён прагнуў, каб хутчэй восень* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Заўважаецца, што дадзеныя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі дапаўняльных злучаюцца толькі з такімі галоўнымі часткамі, апорнымі словамі ў якіх з'яўляюцца словы са значэннем пажадання ці заахвочвання, а таксама боязі, сумнення, недапушчэння магчымасці чаго-небудзь (*хацець, прасіць, чакаць, сачыць, баяцца, хваляваццa, сумнявацца, не памятаць, не верыць, не чакаць* і інш.; *просьба, прапанова, страх, боязь* і інш.).

Заўвага. Блізкую да аб'ектнай функцыю маюць і такія дадзеныя часткі са злучнікам *каб*, якія ўступаюць у сувязь з галоўнай часткай, што змяшчае словы *мала, многа, дастаткова, недастаткова, даволі, гэтулькі* і г. д.; указаныя словы выступаюць як прыслоўі меры ці ступені або як няпэўна-колькасныя словы: *А недахопаў у нас досыць, каб іх высмейваць* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Гэтага было даволі, каб Магда прасвятлела* (Я. Колас. Выстагнаўся). У такіх сказах адносіны паміж састаўнымі часткамі можна было б назваць адносінамі канкрэтызацыі.

8. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем меры і ступені ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *наколькі* і *як* (у значэнні «ў якой меры»), а таксама злучальнымі словамі *колькі* і *што* (у значэнні «колькі»).

Злучальныя словы *наколькі* і *як* у дадзенай частцы выступаюць у ролі акалічнасці меры і ступені, якая адносіцца да выказніка або іншага

члена сказа, звязанага з выказнікам. Вядома, што гэты член сказа або выказнік можа быць выражан такім словам, у аснове значэння якога ляжыць дынамічны прызнак, бо толькі ўказаныя словы і ўступаюць у словазлучэнне з акалічнасцю меры і ступені. Сюды, у прыватнасці, адносяцца дзеясловы, прыметнікі, прыслоўі, безасабова-прэдыкатыўныя словы, няпэўна-колькасныя словы (*многа, мала* і г. д.). Усё гэта прадвызначае і структуру дадатнай часткі: яна можа мець форму як двухсастаўнага, так і аднасастаўнага (безасабовага) сказа з абавязковым выказнікам. *Рускі чытач, такім чынам, мог навочна ўявіць сабе, наколькі сапраўды багатая паэтычная душа беларускага народа* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч). *Зямлёй лягу ў зямлю, але перш прапяю, як я волю люблю, гэту волю сваю!* (Я. Купала. Воля). *Чую сэрцам і душою, як цяжкі іх* [салдат] *шлях* (Я. Колас. Слава Арміі Чырвонай). *От што, каханы, — кажа князь: — цяпер ты палезь на дуб ды паглядзі адтуль, як многа ў цябе лесу* (Я. Колас. Чорт). *Ці ж трэба казаць, як натужна яе* [беларускую культуру] *станавілі?* (Ц. Гартны. Шырэй крокі). *Палюбуйся, паглядзі ты, як прыгожанька ўгары* (Я. Колас. Неба).

Злучальныя словы *колькі* і *што* (у значэнні «колькі») указваюць звычайна не на меру якасці, а на колькасць прадметаў (паняццяў), а таму яны спалучаюцца ў складзе дадатнай часткі з назоўнікамі. Пропуск назоўніка наглядаецца рэдка. *Косячы тут раз на гэтых сенажацях, Нявада падлічыў, колькі ён адным махам касы зрэзвае маладых дрэўцаў* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Хто злічыць, па колькі друг дружку цалуе, галубіць і туліць, пяшчотна мілуе?* (Я. Купала. Адплата кахання). *Акіяны не ўмесцяць, што ў грудзях маіх болю* (П. Броўка. Паланянка).

9. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў функцыі дапаўняльных звязваюцца з галоўнай часткай пры дапамозе злучальнага слова *як* і злучнікаў *як, як быццам, як бы,* а таксама часціц у ролі злучнікаў *быццам, быццам бы, бы, нібы, нібыта* і г. д.

Злучальнае слова *як* у дадатнай частцы выконвае ролю акалічнасці спосабу дзеяння і адносіцца да выказніка. Сама дадатная частка можа мець форму як двухсастаўнага, так і аднасастаўнага простага сказа. Зразумела, што ў дадатнай частцы не павінна быць другой акалічнасці з гэтым жа значэннем (спосабу ўтварэння дзеяння), хоць акалічнасць спосабу дзеяння з іншым адценнем значэння — якасці дзеяння — у гэтай дадатнай можа ўжывацца. (Вядома, што могуць ужывацца і адасобленыя ўдакладняючыя акалічнасці.) Напрыклад: *Ён пайшоў паволі назад, думаючы, як выйдуць людзі тымі днямі ў поле* (К. Чорны. Вясна). *Стань, глянь на захад, паслухай: чуеш ты шум патайны? Чуеш, як ваража, глуха сунецца ценем разруха — постаць пажараў, вайны?* (Я. Колас. Вораг не дрэмле). *Цэлы рад прыкладаў прывёў прамоўца, як пільна і свята ахоўвае свае рубяжы савецкі народ і дапамагае пагранічнікам вынішчаць фашысцкую нечысць* (Я. Колас. Макарка Навак). *Хай суцешаць* [бацькі] *у сумоце, цёплай ласкай прывітаюць, супакояць і параюць, як мне жыць на адзіноце* (П. Броўка. Кацярына). *А хто думаў, як гэта практычна зрабіць?* (К. Чорны. Вясна). Батура. *Чулі, дзяўчаты, як з вашага брата здзекуюцца?* (К. Крапіва. Партызаны).

Як і ў іншых дадатных частках, тут таксама наглядаюцца выпадкі эліптычнага апушчэння дзейніка (асабліва калі ў галоўнай частцы гаворыцца аб гэтым прадмеце ці гэтай асобе, якія павінны былі быць дзейнікам дадатнай часткі): *Матку ўспомніш ты сваю, як цябе люляла, як табе ўначы не раз песенькі спявала* (Я. Колас. Песня над калыскай).

Злучнік *як* (у адрозненне ад злучальнага слова ён заўсёды ненаціскны і выступае як праклітыка) не мае такога яркага значэння акалічна-

сці спосабу дзеяння, а таму ў даданых частках з гэтым злучнікам могуць быць і акалічнасці з названым значэннем: *Ён, праязджаючы на сваё поле, кожны дзень бачыў,* *я к* *наўздзіў расла ў градусах калгасная бульба* (К. Чорны. Вясна). *Яны і не заўважылі,* *я к* *амаль усутыч сышліся з незнаёмым чалавекам* (Я. Колас. Макарка Навак). *Не забудзе Кацярына, так узрушана была,* *я к* *малая у хаціну з плачам подвечар прыйшла* (П. Броўка. Кацярына). *Паглядзі,* *я к* *ходзяць афіцэры зверам* (П. Броўка. 1914).

Заўвага. Сцёртасць, нячоткасць значэння характару і спосабу дзеяння ў злучніка *як* дазваляе замену яго злучнікам *што.* Такая замена па сутнасці — не што іншае, як праяўленне магчымасці сінанімічнай замены даданых з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння даданымі з граматычным значэннем прадметнасці на аснове агульнасці сінтаксічнай функцыі. Параўн.: *У нарысе расказваецца пра тое,* *я к* *малады рабочы ў мэтах рацыяналізацыі вытворчасці ўдасканаліў машыну* (К. Чорны. Маладыя празаікі). — *У нарысе расказваецца пра тое,* *што* *малады рабочы ў мэтах рацыяналізацыі вытворчасці ўдасканаліў машыну.*

Злучнікі *як быццам, як бы, нібы, нібыта* і г. д. звязваюць з галоўнай даданую частку, якая мае значэнне параўнання —адно з прыватных значэнняў, якія ўваходзяць у групу характару і спосабу дзеяння. Паказальна, што ў аб'ектнай функцыі могуць ужывацца толькі такія даданыя, у якіх параўнанне праводзіцца ў плане не рэальнага, а толькі магчымага (іншы раз нават толькі ўяўнага): *І сніў ён сяброў па заставе,* *нібыта, як некалі, зноў ён з імі ляжыць на атаве, прыехаўшы ў госці дамоў* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль). *Трызніш ты трывожна ў цяжкім, палкім сне,* *быццам* *ты на фронце,* *быццам* *на вайне* (К. Буйла. У шпіталі).

§ 1261. Даданыя часткі выконваюць функцыю дапаўняльных, як ужо было адзначана, пры такіх галоўных частках, апорным словам у якіх з'яўляецца дзеяслоў (ці слова з дзеяслоўнай семантыкай). Калі даданыя з граматычным значэннем прадметнасці могуць адносіцца практычна да любой галоўнай часткі, якая здольна мець даданую з дапаўняльнай функцыяй, то гэтага нельга сказаць аб даданых частках з іншымі граматычнымі значэннямі. Такія даданыя могуць звязвацца далёка не з усякай галоўнай. Указанае абмежаванне наглядаецца ў канструкцыях з даданымі, якія маюць граматычнае значэнне азначальнасці. У дапаўняльнай функцыі яны ўжываюцца толькі пры такіх галоўных частках, апорным словам у якіх з'яўляецца дзеяслоў (ці безасабова-прэдыкатыўнае слова). Калі ж у ролі апорнага слова выступае назоўнік, то такія даданыя звычайна выступаюць у атрыбутыўнай функцыі. Абмежаваны і круг слоў (дзеясловаў і назоўнікаў), якія выступаюць апорнымі ў галоўных частках, з каторымі спалучаюцца даданыя з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі дапаўняльных. Гэтыя апорныя словы павінны абавязкова мець значэнне пажадання, заахвочвання, боязі, сумнення, недапушчэння магчымасці чаго-небудзь (гл. § 1260). Пры апорным слове іншай семантычнай групы даданая частка набывае мэтавую функцыю, параўн.: *Хацеў, каб сказаць.* — *Прыйшоў, каб сказаць.*

§ 1262. Аб'ектныя адносіны, як ужо адзначалася раней, устанаўліваюцца паміж галоўнай і даданай часткамі не толькі ў тым выпадку, калі даданая выконвае функцыю дапаўняльнай, а і тады, калі яна выконвае функцыю ўскоснага пытання. Блізкасць гэтых дзвюх функцый дазволіла ўмоўна аб'яднаць іх пры аналізе структуры даданых, якія ўжываюцца ў гэтых функцыях. Пры гэтым не звярталася ўвага на розніцу паміж тымі і другімі даданымі. Між тым даданыя, якія выконваюць функцыю ўскоснага пытання, заўсёды могуць быць трансфармаваны ў прамое, непасрэднае пытанне, а таму граматычныя сродкі сувязі такіх даданых з галоўнай — выключна адносныя (злучальныя) словы. Разам з гэтым даданыя, якія выступаюць у функцыі ўскоснага пытання, могуць злучацца з галоўнымі і пры дапамозе злучніка *ці.* Апошні ўзыхо-

дзіць да пытальнай часціцы *ці*, якая ўзяла на сябе роль злучніка[1]: *Заварожым мы на росы і на шолах ціхіх траў, ці сапраўды, мой прыгожы, ці надоўга пакахаў?* (М. Машара. Любы мой, прыйдзі). *Прымяраю, ці ўзлезе на плечы ватоўка, кашуля* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Скоса ён паглядаў на коннікаў, сочачы, ці не дастаюць і яны зброі* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Граматычнае значэнне дадзенай часткі ў такіх сказах трэба кваліфікаваць як значэнне прадметнасці.

§ 1263. Даданыя часткі, якія маюць аб'ектную функцыю, могуць быць сінанімічнымі паміж сабою, хоць граматычнае значэнне іх і неаднолькавае. Асновай для сінанімікі такіх даданых з'яўляецца агульнасць сінтаксічнай функцыі.

Граматычнае значэнне прадметнасці выступае для аб'ектнай функцыі як асноўнае, прамое значэнне, а таму ў радзе выпадкаў магчыма замена даданых з іншым, непрамым граматычным значэннем даданымі з граматычным значэннем прадметнасці, г. зн. са злучальнымі словамі *хто, што* і злучнікам *што*: *Араты сказаў, дзе ў лесе павесіў торбачку* (народн.). — *Араты сказаў, на чым у лесе павесіў торбачку.* Або: *А ў мяне, чорт пабяры, не было такога, каб я хадзіў попусту* (І. Мележ. Мінскі напрамак). — *А ў мяне, чорт пабяры, не было такога, што я хадзіў бы попусту.*

Выбар сродку сувязі дыктуецца ў асноўным лексічным значэннем і граматычнай формай дзеяслова-выказніка дадзенай часткі. Калі ў дададзенай частцы гаворыцца аб месцы, часе, умове і г. д. дзеяння (стану, паведамлення), якое складае змест гэтай часткі, і калі дзеяслоў-выказнік патрабуе ўжывання пры ім акалічнасці, тады найбольш прыдатным граматычным сродкам сувязі такой дадзенай часткі з галоўнай будуць адносныя прыслоўі *дзе, куды, адкуль, калі* або злучнік *пакуль*. Падобныя ж прычыны абумоўліваюць і ўжыванне злучніка *каб*: яму аддаецца перавага тады, калі дзеяслоў-выказнік дадзенай часткі мае форму ўмоўнага ладу.

## АТРЫБУТЫЎНЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1264. Атрыбутыўнымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі дадзеная частка раскрывае прызнак прадмета ці дае характарыстыку прадмета, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы. Такая дадзеная частка выступае ў функцыі азначальнай.

Апорным элементам галоўнай часткі ў складаназалежных сказах з такімі адносінамі заўсёды выступае слова—назоўнік або яго эквівалент (любая субстантываваная часціна мовы ці асабовы займеннік у ролі назоўніка): *І зноў адсюль, з берагоў вялікіх рускіх рэк, на ўвесь свет разносіцца водгулле вялікага наступлення, якое савецкія людзі вядуць на прыроду, пакараючы яе сваёй непахіснай волі* (Н. Пятніцкі. У імя будучыні). *Блізка пры заводзе варушыліся рабочыя, якія працавалі на падкатцы дрэва* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Аддаўшы належнае ўсяму добраму, што было ў сельсавеце, старшыня пачаў аглядаць мястэчка крытычна* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *І мы, што змагаліся мужна, рупліва, засеем загоны таксама з'яднана і дружна, па тым жа адвечным закону* (П. Броўка. Давайце размоўкі наладзім). *Эх, скручу я дудку, такое зайграю, што ўсім будзе чутка ад краю да краю!* (Ф. Багушэвіч. Мая дудка).

---

[1] У рускай мове сустракаюцца канструкцыі, дзе з часціцай *ли* ўжываецца і злучнік *что*: *И страшно нам стало, что не услышал ли он, как шагает по тайным ходам наша неминучая погибель?..* (А. Гайдар. Военная тайна).

Апорнае слова — назоўнік ці яго эквівалент — у галоўнай частцы можа выступаць у ролі дзейніка, выказніка, дапаўнення, акалічнасці, недапасаванага азначэння, а таксама прыдатка, зваротка, члена адасобленых словазлучэнняў: *«Дар за дар!» — сказаў Грышка* *А с т а п ч у к, які кідаў у Нёман слупок* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *Так, у нашы дні Урал — адзіны ў свеце* *а р с е н а л, які дае ўсё — літаральна ўсё неабходнае для ўзбраення краіны* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця). *Лагер размяшчаўся ў сасновым гушчары. Яшчэ зводдаль, падыходзячы, Туравец пачуў тужлівае дамавітае* *р ы к а н н е, якое здалося дзіўна мірным і спакойным* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *І ў тым* *м е с ц ы, праз якое мімахоць праходзіць гонарнае вока, сапраўды ёсць штосьці жывое* (Ц. Г а р т н ы. Шырэй крокі). *Нацешыўшыся ўмеру такім фокусам, ён, — гэты* *ч а р а ў н і к, які забраў у жменю ўсе гукі зямлі, — раптам расчыняе кулак, і галасы, песні, скрыпы, шумы, шолахі, звоны пачынаюць сыпацца ў свае ранейшыя месцы, як невідочны дождж* (З. Б я д у л я. Салавей). *З я м л я, што сэрцамі сагрэта, ты зварухнулася ў цішы* (П. Б р о ў к а. У Каніве). *Ён* [спеў] *даносіўся, як плаўная* *м е л о д ы я, якая то заціхала, то ўзвышалася і рабілася ўсё чутней і чутней* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *На вялікай прасторы не было відаць нікога, апрача* *ц я л я ц і, якое, заблытаўшы адну нагу ў вяроўку, шалёна скакала* (К. К р а п і в а. Пераклад з А. Чэхава. Трыфан). *Вайсковец даў добры вечар, пацёр рукі, падыходзячы да* *ж а н ч ы н ы, якая здзіўлена глядзела на яго, устаўшы з свайго месца* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Калі апорнае слова ўваходзіць у рад аднародных членаў, то даданая частка звычайна адносіцца не да ўсяго рада аднародных членаў, а толькі да аднаго з іх. Аднак сустракаюцца выпадкі, калі ў якасці апорнага элемента выступае не адно слова, а ўвесь рад аднародных членаў. Вядома, гэты рад аднародных членаў у сказе выконвае адну функцыю, а таму яго можна лічыць э к в і в а л е н т а м апорнага с л о в а (а не словазлучэння): *За нашу* *х а ц і н у, за сэрца-д з я ў ч ы н у, з якімі мы стрэліся зноў* (П. Б р о ў к а. Сябры франтавыя).

З а ў в а г а. Калі ў ролі члена сказа, функцыю якога звычайна выконвае назоўнік, выступае сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне, тады апошняе таксама можа быць эквівалентна апорнаму слову: *Наперадзе стаяла* *н е к а л ь к і ч а л а в е к, якія борзда ўмелі звясці Сымона з Міколам* (Я. К о л а с. Дзяліцьба). *Халімон выратаваў ад смерці* *ж а н ч ы н у з д з і ц ё м, якіх ледзь было не задушылі на каранацыі* (С. М а й х р о в і ч. В. І. Дунін-Марцінкевіч).

Паколькі апорным элементам галоўнай часткі ў складаназалежным сказе з даданымі ў функцыі азначальных выступае слова — назоўнік ці яго эквівалент, то зразумела, што ў якасці галоўнай часткі могуць ужывацца любыя сінтаксічныя канструкцыі, у якія ўваходзіць гэта апорнае слова. Разам з гэтым у якасці галоўнай часткі можа выступаць і адно апорнае слова (назыўная канструкцыя): *Ч а л а в е к, які смяецца* (назва твора В. Г ю г о).

Даданая частка, што мае граматычнае значэнне азначальнасці, можа быць ужыта з атрыбутыўнай функцыяй пры галоўнай, у якой апорнае слова — назоўнік мае любое значэнне: канкрэтны ён ці абстрактны, з'яўляецца ён імем уласным або агульным. Затое семантыка апорнага слова адыгрывае важную ролю тады, калі ў атрыбутыўнай функцыі ўжываюцца даданыя з іншым граматычным значэннем: месца, часу, пажадання і мэты і г. д. (гл. § 1267).

§ 1265. Даданая частка, якая выконвае функцыю азначальнай, звязваецца з апорным словам галоўнай часткі па спосабу дапасавання. Разам з тым даданая частка можа быць звязана з галоўнай яшчэ і паясняльнай сувяззю. Гэта адбываецца тады, калі ў галоўнай частцы ёсць суадносныя (указальныя) словы *той, такі, гэты, гэтакі (гэткі)*, якія самі дапасуюцца да апорнага слова ў родзе, ліку і склоне. Такая двайная

сувязь даданай часткі з галоўнай, вядома, з'яўляецца больш цеснай у параўнанні, напрыклад, са сказамі, дзе ў галоўнай частцы суадноснага слова няма (і яно не можа нават быць ужыта). Параўн.: *Значныя сродкі на ўтрыманне дзіцячых садоў і ясляў выдаткоўвалі непасрэдна т ы я п р а д п р ы е м с т в ы, пры якіх гэтыя ўстановы адкрываліся* («Весці АН БССР»). *Ад лесу цягнецца ц е н ь, які даўжэе, расце з кожнай хвілінай* (З. Б я д у л я. Салавей).

Ужыванне суадносных слоў у адных выпадках носіць абавязковы характар, у другіх — не строга абавязковы, у трэціх — гэтыя словы не ўжываюцца і не могуць быць ужыты.

1. Суадноснае слова абавязкова ўжываецца тады, калі ў галоўнай частцы адмаўляецца прымета, названая даданай часткай[1]: *Гэта былі зусім н е т ы я вынікі, на якія яны спадзяваліся* (з газет).

Нельга абысціся без суадноснага слова і ў тых выпадках, калі ў галоўнай частцы наглядаецца эліпсіс азначаемага назоўніка: *Мерацъ дашчэнту знішчыць краіну, т у ю, што наша спакон* (Ц. Г а р т н ы. Чырвоная радзіма). *Мікалай Камароўскі, т о й самы, на якога Рыгор за жонку вока не мае, усё ідзе ды ідзе пападвоканню: на сход!* (К. Ч о р н ы. Вясна).

Такое ж становішча наглядаецца і пры той умове, калі даданая частка выступае ў якасці аднароднага члена да азначэння апорнага слова: *А перад вачыма ляжалі пройдзеныя шляхі і т ы я, якія яшчэ трэба прайсці* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

2. Суадноснае слова можа ўжывацца, калі патрабуецца ўказаць, які з назоўнікаў выступае ў якасці апорнага слова, а таксама калі трэба падкрэсліць, што змест даданай часткі адносіцца іменна да гэтага ці падобнага прадмета з ліку многіх аднолькавых: *Цяпер я хачу коратка пракаменціраваць т ы я змены і ўдакладненні, якія прапануюцца нашым праектам* (К. К р а п і в а. Пытанні беларускага правапісу). *А Сегень гэты быў т о й самы рыжавусы, яснавокі, што падаваў кагадзе рэплікі* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Нашы людзі не лішне маглі дагэтуль хіліць сваю работу ў т о й бок, у які самі захочуць* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Сябры, успомнім пра сяброў, пра т ы х, што не прыйшлі* (П. Б р о ў к а. Мы не забудзем). *Вось і ім солтыс прывёў нейкага з т ы х, што пасля турмы за камуну не маюць права жыць у сваім павеце, а ідуць у свет вочы на высылку* (Я. Б р ы л ь. Зладзеі).

Суадноснае слова звычайна ўжываецца ў такіх галоўных частках, да якіх далучаюцца даданыя з граматычным значэннем месца, часу, пажадання і мэты, параўнання і спосабу дзеяння. Імкненне захаваць суадноснае слова ў такіх сказах можа быць растлумачана імкненнем не парушаць атрыбутыўных адносін нягледзячы на тое, што ў якасці даданай часткі выступае даданая не з граматычным значэннем азначальнасці. Пропуск суадноснага слова ў значнай меры аслабляе характар атрыбутыўнасці ў сінтаксічных адносінах паміж галоўнай і даданай часткамі такіх складаназалежных сказаў. Параўн.: *Насця загадзя заняла ў кватэры т а к у ю пазіцыю, каб адразу кінуцца Кузьме ў вочы і ўразіць яго сваім выглядам* (Я. К о л а с. Адукацыя). — *Насця загадзя заняла ў кватэры пазіцыю, каб адразу кінуцца Кузьме ў вочы і ўразіць яго сваім выглядам.*

3. Суадноснае слова не ўжываецца і не можа ўжывацца ў наступных выпадках:

а) калі апорнае слова выражана канкрэтным назоўнікам або назоўнікам, які абазначае адзіны ў сваім родзе прадмет: *Даўно вярнулася*

---

[1] «Адмоўныя часціцы *не* і *ні* не могуць непасрэдна стаяць перад даданым сказам. Яны да яго прымацоўваюцца пры дапамозе суадноснага слова»,— піcаў В. Н. М і г і р ы н у артыкуле «Соотносительные слова» («Известия Крымского педагогического института», т. 14, 1958, стар. 92).

*дамоў* м а ц *і, якая праводзіла мяне за капліцу* (А. Кулакоўскі. Хараша ўзыходзіць сонца). *Ускрайкам* п а с ё л к а *Навінак, што стаўся прытулкам руін, дарогай між клёнаў, хваінак праходзіць калона машын* (Я. Колас. Адплата). *«Даўно чакаюць?» — спытаў ён у* В а н *і, які ўжо стаяў ля вушака варот і паглядваў адтуль на вуліцу* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Выходзячы ў пошукі, ён моцна штурхануў* ж о н к у, *якая сказала яму слова напоперак ці проста адважылася нешта параіць* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Заўвага. Выключэнне складаюць толькі такія сказы, дзе неабходна падкрэсліць, што гутарка ідзе іменна аб гэтым прадмеце або асобе. У падобных сказах нават да апорнага слова — уласнага імені можа далучацца суадноснае слова: *Гэта быў* т о й *Пархвен, што з п'яным пеўнем біўся* (К. Чорны. Вялікае сэрца).

б) Калі апорнае слова выражана асабовым займеннікам: *І* т ы, *перад якім усе шапкі здымалі, цяпер сам баішся прайсці па вясковай вуліцы!* (Я. Брыль. Маладосць, што не скорыцца).

в) Калі апорнае слова выражана назоўнікам з самым агульным, неакрэсленым значэннем: Л ю д з е й, *якія даюць ажыўленне пейзажу, было мала на полі* (З. Бядуля. Салавей).

г) Калі пры апорным слове ёсць канкрэтызуючыя азначэнні (*свой, наш, меншы* і г. д.; *кожны, усякі; адзін* — у значэнні «нейкі»), якія фактычна бяруць на сябе ролю суадносных слоў: *Так, як ніхто, ён пільнаваўся* с в а й г о г н я з д а, *якое стала, хоць і марудна, складаў, саломіна за саломінай* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ад часу да часу любіў малы Івась рабіць абходы* с в а і х у л ю б ё н ы х к у т о ч к а ў, *якіх было тут нямала* (Я. Колас. На чыгунцы). *І яшчэ можна было б адмеціць у і*м а д н у р ы с а ч к у, *якая таксама як бы трошачкі супярэчыць гэтай сур'ёзнасці* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 1266. Суадносныя словы, якія ўжываюцца ў галоўнай частцы складаназалежных сказаў з даданымі ў функцыі азначальных, па свайму граматычнаму значэнню падзяляюцца на дзве групы. Да першай групы адносяцца займеннікі *той, гэты*. Яны маюць указальна-вылучальнае значэнне: *На машыну скочу* т у ю, *на якой прывезлі ліст, разам з ім тады пачую колаў стук і ветру свіст* (А. Куляшоў. Адказ). *І* г э т ы *карабін, што лёг на тваю нежывую руку, здабыў ты, баронячы сваю волю* (Я. Колас. Дрыгва). Да другой групы адносяцца займеннікі *такі, гэтакі*. Ужыванне іх назіраецца тады, калі ўзнікае неабходнасць чыста якаснай характарыстыкі паняцця, выражанага апорным словам галоўнай часткі. Такая якасная характарыстыка ажыццяўляецца «без вылучэння пэўнага асобнага экземпляра»[1]: *Скласці эпапею павінны* т а к у ю, *якую чэлюскінцы далі для свету, і одамі ўславіць наяўнасць жывую — бяссмертных герояў Саюза Саветаў* (Я. Купала. Трэба нам песень). *Валодзя ўбачыў у яе вачах* т а к і я *слёзы, якіх не бачыў яшчэ ніколі* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Наш сказ аб* т а к і м *салоўку, які спявае не толькі ўвесну, а нават узімку* (З. Бядуля. Салавей).

§ 1267. Функцыю даданай азначальнай часткі могуць выконваць даданыя часткі з граматычным значэннем азначальнасці, прадметнасці, месца, часу, пажадання і мэты, характару і спосабу дзеяння.

Выкарыстанне ў атрыбутыўнай функцыі даданых з граматычным значэннем азначальнасці з'яўляецца нормай. Такія складаныя канструкцыі ў сучаснай беларускай мове сустракаюцца вельмі часта.

Выпадкі ўжывання ў атрыбутыўнай функцыі даданых з іншым граматычным значэннем больш рэдкія, і толькі даданыя са значэннем прадметнасці з'яўляюцца даволі частымі ў названай функцыі.

Наогул усякае пераноснае ўжыванне (г. зн. ужыванне ў атрыбутыўнай функцыі даданых не з граматычным значэннем азначальнасці, а з іншым значэннем) абумоўліваецца задачамі выказвання, патрэбай

---

[1] А. Н. Гвоздев. Очерки по стилистике русского языка. М., 1965, стар. 338.

падкрэсліць не толькі якасную характарыстыку апорнага слова, а і ўказаць на іншыя абставіны (месца, час, характар дзеяння і г. д.).

У пераважнай большасці даданых частак, якія выконваюць атрыбутыўную функцыю, абавязковым структурным элементам з'яўляецца выказнік. Адсутнасць выказніка можа тлумачыцца апушчэннем дзеяслова быційнасці ці іншага слова з агульным значэннем *(ёсць, стаць, размешчаны* і г. д.): *Дом і хлевушок, што на ўскраіне поля, у прыцемку зліваліся з цёмнай градой лесу* (К. Чорны. Базылевічава сям'я).

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем азначальнасці ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай часткай злучальнымі словамі *які, каторы, чый.*

У даданай частцы гэтыя злучальныя словы выступаюць як субстантываваныя займеннікі, а таму яны могуць выконваць усе тыя функцыі ў сказе, якія выконвае назоўнік, г. зн. могуць быць дзейнікам, дапаўненнем, недапасаваным азначэннем.

Заўвага. Толькі дзве функцыі не ўласцівы злучальным словам — гэта функцыя выказніка і функцыя акалічнасці. Ужыванне злучальнага слова ў ролі выказніка змяняе і функцыянальную прыналежнасць даданай часткі: такая даданая ўжо будзе выступаць у функцыі выказнікавай. Ужыванне ж злучальнага слова ў функцыі акалічнасці немагчыма па той прычыне, што яркае азначальнае значэнне гэтых займеннікаў не дазваляе развівацца акалічнасным адценням у іх нават пры спалучэнні іх з прыназоўнікамі. Ды і няма патрэбы ў гэтым, бо акалічнасць у даданай частцы можа быць выражана пры неабходнасці іншым злучальным словам *(дзе, калі* і г. д.). Інакш кажучы, у атрыбутыўнай функцыі тады будзе ўжыта не даданая частка са значэннем азначальнасці, а даданая з граматычным значэннем месца, часу і г. д.

Склон злучальных слоў *які, каторы* абумоўліваецца функцыяй гэтых слоў у даданай частцы. Так, калі злучальныя словы з'яўляюцца дзейнікам, яны выступаюць у форме назоўнага склону. Калі ж яны з'яўляюцца прамым дапаўненнем, то маюць форму вінавальнага склону. Будучы недапасаванымі азначэннямі, гэтыя словы выступаюць толькі ў форме роднага склону. У функцыі ўскоснага дапаўнення злучальныя словы могуць ужывацца ў форме любога ўскоснага склону з прыназоўнікам ці без яго, што залежыць ад асаблівасцей кіравання той часціны мовы, дапаўненнямі да якой гэтыя злучальныя словы з'яўляюцца: *Напрасткі, полем і кустамі ён кіламетраў чатыры ішоў да дарогі, якая ледзь шарэла ў цемені ночы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вернуцца насмелую дахаты і пачнуць гаспадарыць на былой панскай зямлі, якую яны ўжо атрымалі ці яшчэ спадзяваліся атрымаць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Вось і хата, каторую часта ён сніў* (П. Броўка. 1914). *Ты лірыкі маёй не любіш за рэбус і за фарбаў тло... Ты мой наступны дзень галубіш, якому роўных не было* (У. Хадыка. Каму, як не табе, паслухаць...). *І Андрэй закінуў на плечы палку, на якой была торба з хлебам і салам, і пехатой пайшоў на вакзал* (Я. Колас. Андрэй-выбаршчык). *Ціхенька адзеўшыся, Міхалка павольненька выцягнуў торбачку, у якую яшчэ з вечара зладжыў усе свае рэчы* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Вось тая хвоя з вехаю, ад якой трэба ступіць колькі крокаў направа* (Я. Колас. Малады дубок). *Дзень наш сённяшні — прасторы, зорны шлях прыгожай былі, тая казка, аб каторай людзі толькі цьмяна снілі* (Я. Колас. Янку Купалу). *Ён накіроўваўся некуды ўздоўж рэчышча і трымаў пад пахай абцёсанае бярозавае палена, на адным канцы якога было накручана рыззё* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Род і лік злучальных слоў *які, каторы* залежаць ад формы роду і ліку апорнага слова галоўнай часткі: *Балотам снежным праз сасоннік, які смаловым пахам вабіць, прастор балот зімою сонна́й люблю санямі разухабіць* (М. Чарот. Балотам снежным праз сасоннік...). *Гудзіць і вые шторм абапал... Так з гор узнятая зіма збягае ўніз пакласці лапу у снег, каторага няма* (У. Хадыка. Над горадам вясенні ранак...). *Ідуць рыбакі, пахаваўшы Прахора, настрэчу буры, буры, якая ўжо*

*абняла паўкраіны* (М. Т а н к. Нарач). *Мне хацелася зáвідна прыехаць у сяло Святое, я к о е знаходзіцца ў самай сярэдзіне лесу* (У. Л я ў д а н с к і. Пераклад з І. Тургенева. Паездка ў Палессе). *Чаму ж у нас часам яшчэ выдаюцца першыя кніжкі, я к і я вельмі далёкія ад патрабаванняў часу?* (А. В о л ь с к і. Крылатыя мары, вялікія справы).

Аднак сустракаюцца выпадкі, калі злучальнае слова мае форму множнага ліку, хоць апорнае слова галоўнай часткі — у адзіночным ліку. Гэта назіраецца, калі дадзеная частка не мае на мэце непасрэдна называць прыметы або якасці азначаемага прадмета (апорнага слова галоўнай часткі), а прыпадабняе яго адпаведным прадметам — і не аднаму, а многім, якія маюць аднолькавыя з ім якасці. Таму ў дадзенай часта могуць ужывацца словы *многа, мала, нямала, шмат, досыць, даволі* і г. д. *І тут ўсё не з кніг набрана, не з слоў вучонага паўпана, я к і х цяпер усюды досыць* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Гэта быў стары пан, я к і х цяпер мала дзе сустрэнеш* (Я. К о л а с. Нёманаў дар).

З а ў в а г а. Злучальныя словы *які, каторы* маюць форму множнага ліку і ў тым выпадку, калі апорны элемент галоўнай часткі выражан групай (радам) аднародных членаў (прыклады гл. у § 1264).

Некалькі інакш абстаіць справа са злучальным словам — прыналежным займеннікам *чый*. Гэта слова заўсёды выступае ў якасці дапасаванага азначэння да назоўніка, што абазначае прадмет, які належыць асобе, названай апорным словам галоўнай часткі. Вось чаму лік, род і склон займенніка *чый* поўнасцю залежыць ад склонавай формы ўказанага назоўніка: *І грозная хваля праклянцця ўзнялася на здраднікаў подлых, ч ы я рука страляла ў сэрца рабочага класа, у сэрца любімага бальшавіка* (М. Х в е д а р о в і ч. Песня смутку і гневу). *Здаецца, прыйшоў ляснік Максім Заруба, у ч ы і м абходзе ён* [Андрэй] *высек дубок* (Я. К о л а с. Малады дубок).

Па ступені ўжывальнасці ў сучаснай беларускай мове найбольш распаўсюджана слова *які*. Значна радзей ужываецца слова *каторы*, якое сустракаецца без усякай стылістычнай нагрузкі хіба што ў мове паэзіі: *Тады мы й пазналі сваю маладосць, к а т о р а я, вотлю адкінуўшы жарты, у гэтую ноч і праз гэтакі дождж ішла у паходзе нястомна і ўпарта* (П. Г л е б к а. Ноч у вайсковых лагерах). Ужыванне гэтага злучальнага слова ў іншых жанрах мае адценне архаізма: *Дык што гаварыць аб тых птушках, к а т о р ы м і напраўду трэба ляцець за колькі міляў!* (Ц ё т к а. Пералётныя птушкі).

Рэдка ўжываецца і слова *чый*, аднак гэта абумоўлена не якімі-небудзь стылістычнымі прычынамі, а тым, што значэнне прыналежнасці, адценне якога характэрна для дадзеных частак з гэтым злучальным словам, у сучаснай беларускай мове знаходзіць іншыя шляхі і сродкі выражэння.

Дадзеная частка, якая мае граматычнае значэнне азначальнасці і выступае ў атрыбутыўнай функцыі, звычайна афармляецца як поўны двухсастаўны просты сказ. Адсутнасць выказніка наглядаецца тады, калі ён лёгка падразумяваецца (г. зн. калі ён павінен быць выражан словам з самым агульным дзеяслоўным значэннем): *Ён напіхае люльку, тады, не без важнасці, падстаўляе Паўлюку аганёк адменнай самапалкі, якая таксама з Вялікай зямлі, потым прыкурвае сам, смачна зацягваецца поўнай зацяжкай і, амаль што зусім захоплена, кажа: «Язві яго душу — хар-рош!..»* (Я. Б р ы л ь. Мой зямляк). Наогул жа выказнік з'яўляецца, як правіла, абавязковым структурным элементам усіх дадзеных частак, што выступаюць у атрыбутыўнай функцыі.

Адсутнасць дзейніка можа тлумачыцца або эліпсісам (параўн. у вершы М. В а с і л ь к а «Памяці Максіма Багдановіча»: *Рана, заўчасна памёр ты, наш родны, ўдалі ад старонкі, якую любіў, з горкай усмешкай на твары лагодным пад незакончанай песні матыў*), або тым, што дадзеная частка мае форму няпэўна-асабовага, абагульнена-асабовага або

безасабовага сказа: *Рэжысёр самаўпэўнена ўсміхаўся, глядзеў на ксяндза такім вокам, якім глядзіць на блазна, і тлумачыў яму на ломанай польскай мове...* (З. Бядуля. Салавей). *Гэта ўсё роўна як той паляшук, якога сілаю валаклі да царквы* (Я. Колас. Андрэй-выбаршчык). *Закручвае на пальцы вузел і пачынае арудаваць іголкай, з якой, відаць, не так яму зручна абыходзіцца, як са штыхом* (М. Лынькоў. Над Бугам).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай злучальнымі словамі *хто, што* і злучнікам *што.*

Злучальныя словы *хто, што* ў дадзенай частцы могуць быць толькі дзейнікам або прамым дапаўненнем, а таму яны выступаюць толькі ў форме назоўнага ці вінавальнага склону: *Слава палкім байцам, хто за волю Радзімы загінуў* (М. Хведаровіч. Сосны шумяць...). *Поруч з «Кацюшамі», што асталяваліся каля танкістаў, дамавіта дымелі дзве кухні* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Заходні вецер з нетраў баравых нясе з сабой пажоўклыя лісты, нясе сцяблінкі спаленай травы на ўзгорак безымянны і круты, што павуціннем аплялі драты* (М. Танк. На рубяжы).

Тое, што форм роду і ліку гэтыя словы не маюць, у пэўнай меры перашкаджае шырокаму ўжыванню даданых частак з граматычным значэннем прадметнасці ў атрыбутыўнай функцыі. І ўсё ж даданыя са злучальным словам *што* (калі яно з'яўляецца дзейнікам даданай часткі) распаўсюджаны ў сучаснай беларускай мове даволі шырока. Відаць, гэта можна растлумачыць некаторымі стылістычнымі меркаваннямі (патрэбай пазбегнуць частага паўтарэння слова *які*), а таксама і тым, што злучальнае слова *што,* як і аднайменны злучнік, наогул у сучаснай мове з'яўляецца пануючым сродкам сувязі з галоўнай часткай цэлага рада даданых, якія выступаюць у самых разнастайных функцыях.

Злучальныя словы *хто, што* ў дадзенай частцы таксама выступаюць у субстантывіраваным выглядзе. Яны фактычна з'яўляюцца эквівалентамі апорных слоў галоўнай часткі. Параўн., напрыклад: *Ёсць сонца, і свеціць яно нам святлей, ёсць край, і ад краю таго ўсім цяплей* (М. Хведаровіч. Рэспубліканскі марш). — *Ёсць сонца, што свеціць нам святлей...*

Апорным словам галоўнай часткі (у сказах з даданымі прадметнага значэння ў атрыбутыўнай функцыі) звычайна выступаюць неадушаўлёныя назоўнікі, а таксама іншыя субстантывіраваныя часціны мовы, напрыклад словы *новае, далёкае, вялікае, галоўнае* і г. д., у ролі назоўнікаў: *Не забудзем прытым асноўнае, што ўплывала на нараджэнне і развіццё новай беларускай літаратуры з самага пачатку XIX стагоддзя* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч).

Ужыванне адушаўлёных назоўнікаў у ролі апорных слоў пры даданых частках са злучальным словам *што* абмежавана і носіць адбітак размоўнасці. Асабліва гэта датычыць выпадкаў, калі злучальнае слова *што* выступае ў функцыі прамога дапаўнення даданай часткі; такія канструкцыі з'яўляюцца або яўна гутарковымі, або выкарыстоўваюцца як сродак стылізацыі пад гутарковую мову, напрыклад: *У нас ходзіць за гумном конь, што салдаты кінулі некалькі дзён таму назад* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Любі, матка, таго зяця, што я палюбіла* (народн.).

Злучнік *што* ўжываецца ў такіх даданых частках з атрыбутыўнай функцыяй, калі пры апорным слове галоўнай часткі ёсць суадносныя словы *такі, гэтакі,* якія набліжаюцца па значэнню да ўзмацняльна-вылучальнай часціцы. Яркасць указанага значэння ў суадносным слове можа аслабяваць ці ўзмацняцца. У апошнім выпадку на яго падае лагічны націск, а характар сінтаксічнай сувязі паміж часткамі складаназа-

лежнага сказа страчвае атрыбутыўнасць і набліжаецца да адносін меры і ступені.

Параўн. узрастанне ўказальна-вылучальнага значэння суадноснага слова ў сказах: *Мусіць, доля, лёс мой т а к і ўжо, што суджана прапасці ні за што* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Тут ёсць т а к а я сцежачка, што можна латвей прайсці* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Бывалі т а к і я выпадкі, што гэта прымалася як дадатны факт* (К. Ч о р н ы. Працу з кадрамі—у творчы план). *Яшчэ праз некалькі кіламетраў Андрэй убачыў т а к і цянёк, што мінуць яго было амаль немагчыма* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *А навакол т а к і спакой, што посвіст салаўіны здаецца громам над зямлёй, чырвоным, белым, сінім* (М. Т а н к. На начлезе). *Любіць сказаць г э т а к і жарт, што нікому не смешна* (К. Ч о р н ы. Вясна).

З а ў в а г а. Пропуск суадноснага слова ў галоўнай частцы такіх складаназалежных сказаў, дзе б дадаsuccessive з прадметным значэннем у атрыбутыўнай функцыі звязвалася з галоўнай часткай злучнікам *што*, наглядаецца рэдка, і такія канструкцыі выходзяць за межы строгай літаратурнай нормы: *Быў час, што найбольш маладых аўтараў пачыналі сваю літаратурную працу з нарыса* (К. Ч о р н ы. Маладыя празаікі).

Ёсць яшчэ адзін від канструкцый, дзе дадаsuccessive часткі з прадметным значэннем у атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай злучнікам *што*. Гэта размоўныя канструкцыі. Яны сустракаюцца і ў фальклорных творах: *Эге ж, той самы выжал, ш т о пан любіў яго браць на паляванне* (С. В а с і л ё н а к. Народная творчасць). *Знаці чашніка маладзенькага, ш т о ён жонкі не мае* (народн.). *Вядома, заўжды знойдзецца многа дурных людзей, ш т о яны гатовы самі ў вяроўку лезці* (С. В а с і л ё н а к. Народная творчасць). *А дзе тая крынічанька, ш т о голуб купаўся?* (Р. Ш ы р м а. Беларускія народныя песні). Параўн. нават у Э. С а м у й л ё н к а ў дыялагічнай мове: *Чым я адбаранюся ад іх? Кіем, ш т о буйвала адганяюць?* (Будучыня).

Злучнік *што* ў такіх сказах поўнасцю страчвае нават граматычнае значэнне прадметнасці і з'яўляецца толькі чыстым паказчыкам падпарадкавальных сінтаксічных адносін.

Структура дадаsuccessive часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў атрыбутыўнай функцыі нічым істотным не адрозніваецца ад структуры дадаsuccessive з граматычным значэннем азначальнасці ў той жа функцыі: дадаsuccessive частка звычайна мае форму двухсастаўнага простага сказа; выказнік з'яўляецца абавязковым структурным элементам дадаsuccessive. Разам з гэтым ужываюцца і дадаsuccessive часткі, якія маюць форму аднасастаўнага сказа; зрэдку выказнік апускаецца. *Веру я і цяпер, веру так, як яны, у святло Ільіча, што з вясны да вясны азарае ўжо сонечна край мой лясны* (А. К у л я ш о ў. Толькі ўперад). *І будзе, таварыш, тут жыта расці, што ў песнях яго не апішаш* (А. К у л я ш о ў. На зямлі). *Трапечуцца белыя хвалі і коцяць жарству і пясок, што з берага, з гор адарвалі выпадкам ці можа знарок* (А. А с т р э й к а. Нёману). *Ці ўловіць што настроенае пільна вуха ў прамовах тых, што мусяць скора пачынаць?* (Ц. Г а р т н ы. Сельскі мітынг). *Ён з першых дзён адцураўся дзіцячых гульняў вясёлых: на конях тых не катаўся, што на драўляных колах* (А. К у л я ш о ў. Быліна пра волата).

3. Дадаsuccessive часткі з граматычным значэннем м е с ц а ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай злучальнымі словамі *дзе, куды, адкуль* (апошнія два ўжываюцца рэдка). Названыя словы ў дадаsuccessive частцы выконваюць ролю акалічнасці месца.

У галоўнай частцы складаназалежных сказаў з такімі дадаsuccessive апорным словам могуць быць не любыя назоўнікі, а пераважна са значэннем месца — прамым або пераносным, а таксама назоўнікі, якія ўскосна звязаны з указаннем на месца (*лес, дарога, горад, Віцебск; сход, мітынг, нарада, бой; рота, грамада, сям'я; сфера, сітуацыя, выпадак, перамога, цемрадзь* і інш.): *Некалькі разоў прайшоўся ён па тых с ц е ж-*



39. Зак. 378

*к а х, дзе можна было знячэўку спаткацца з ёю* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»). *Стараста нізка апусціў галаву і слухаў і ў тых м е с ц а х, дзе пацвярджалася яго начальства, здаволена ківаў галавой* (Я. К о л а с. Стараста). *Дзесьці блізка, але недасяжна ёсць іншае ж ы ц ц ё, дзе і гукі гарманічныя, і колеры бліскучыя* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Праз цёплы мрок у в е ч а р вераснёвы, дзе свецяцца прыветныя агні, паказваюць свой твар мне заўтрашнія дні і родны край, збудаваны нанова* (Я. К о л а с. У вераснёўскі вечар). *І ў д о м н е вялікай, і ў д о м н е высокай, куды высыпалі, нарэшце, цвікі, ён жыў невялічкаю кропляю соку у целе цякучай жалезнай крыві* (А. К у л я ш о ў. Цвік). *Каб я волю меў, я сказаў бы: «Стой, дні вясны маёй, светлай, маладой! Не ўцякайце вы ў тую д а л ь вякоў, дзе пахована многа вас, дзянькоў, і адкуль назад вам няма дарог!»* (Я. К о л а с. Маёй вясне).

У гутарковай мове круг апорных слоў, з якімі могуць звязвацца атрыбутыўныя даданыя часткі з граматычным значэннем месца, яшчэ больш пашыраецца: сюды здольны ўключацца нават назоўнікі — назвы асоб. Параўн. у дыялагічнай мове ў К. Ч о р н а г а: *Я — тая Люба, што была ў м л ы н а р а, дзе вы млын правілі* (Люба Лук'янская). Такія канструкцыі не лічацца літаратурнымі.

Структура даданай часткі — такая ж, як і ў даданых з граматычнымі значэннямі азначальнасці і прадметнасці: *Гаварыў Іван і пра той край, дзе народу прасторна і хлебна* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Быў такі час ліхі у забытай, галоднай краіне, у краіне сахі, саламянай страхі, дзе век-векам жылі на мякіне* (Я. К о л а с. Да тыдня беларускай культуры). *Зарасла адна магіла, дзе гасцінец Мінскі* (М. Х в е д а р о в і ч. Алесь Камінскі).

4. Даданыя часткі з граматычным значэннем ч а с у ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай злучальным словам *калі* і злучнікам *як*. Злучальнае слова выконвае ў даданай частцы ролю акалічнасці часу.

Апорным словам галоўнай часткі ў такіх сказах звычайна выступае назоўнік, што прама ці ўскосна ўказвае на адрэзак часу, на працягу якога адбываецца дзеянне ці працэс, выражаныя выказнікам даданай часткі: *Мне вечна помняцца х в і л і н ы, калі вялікая Масква і ўся магутная краіна стаялі ціха ў галавах свайго любімага наркома* (П. Г л е б к а. Памяці Сярго Арджанікідзе). *Маёвай н о ч ч у — такой, калі хмарна і месяц не свеціць, — разведка трапіла на засаду* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

Калі апорнае слова галоўнай часткі не мае ярка выражанага часавага значэння, тады і ў слове *калі* аслабляецца граматычнае значэнне часу, яно набліжаецца да ўмоўнага злучніка, а адсюль і граматычнае значэнне даданай часткі набліжаецца да ўмоўнага: *Ніне не зусім падабаліся д а к л а д ы ці л е к ц ы і, калі іх чыталі па загадзя напісанаму* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы). *А як жа мне агідна было слухаць тваю х л у с н ю, калі ў цябе запыталіся пра бацьку!* (К. К р а п і в а. Канец дружбы).

Злучнік *як* ужываецца рэдка, і часавыя даданыя часткі ў атрыбутыўнай функцыі з такім злучнікам з'яўляюцца прыметай размоўнага стылю: *У той вечар, як Міхалючок першы раз сеў на пасцелі, яна смела і спакойна выйшла на вуліцу* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Павек не забудзецца тая навала, як, дымам ахутаны чорным, стаяў ты, мой горад, пад вогненным шквалам...* (М. Х в е д а р о в і ч. Родны горад).

Вядома, часавае значэнне апорнага слова і граматычнае часавае значэнне даданай часткі набліжаюць такія сінтаксічныя канструкцыі і па характару адносін паміж састаўнымі часткамі да часавых. Атрыбутыўнасць адносін падтрымліваецца тым, што апорнае слова — не прыслоўе, а назоўнік, акрамя таго, пры апорным слове часта ўжываецца дапасаванае да яго суадноснае слова.

З а ў в а г а. Калі ў галоўнай частцы складаназалежнага сказа ёсць словазлучэнні *ў той час, у той момант,* з якімі звязана дадзеная частка з граматычным значэннем часу, тады паміж галоўнай і дадзенай часткамі ўстанаўліваюцца не атрыбутыўныя, а часавыя адносіны, паколькі гэтыя словазлучэнні ўжо ўспрымаюцца як несвабодныя і адпавядаюць прыслоўям (прыклады гл. у § 1273).

Структура дадзеных частак з часавым значэннем у атрыбутыўнай функцыі не мае своеасаблівых рыс, якія б адрознівалі гэтыя дадзеныя ад іншых у азначальнай функцыі.

5. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем п а ж а д а н н я і м э т ы ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай часткай злучнікам *каб.* Такія дадзеныя ўжываюцца, калі ўзнікае неабходнасць раскрыць прымету прадмета шляхам указання на вынік або мэту праяўлення гэтай прыметы: *Трэба нам песень, каб сэрцы і думы магнітагорскай палалі б веліччу...* (Я. К у п а л а. Трэба нам песень). *Я хацеў бы нанесці ім такі ўдар, каб у іх валасы сталі дубка* (К. К р а п і в а. Проба агнём). *Яшчэ не было такога здарэння, каб нос яго свярбеў так, на ўзвей-вецер* (Я. К о л а с. Так і трэба ашуканцу).

Нярэдка такія дадзеныя часткі ўжываюцца для выражэння мяркуемых прымет: *Няма тае хусты, каб завязаць людзям вусны* (народн.). *Думаеш, Карп такі дурань, каб звязвацца з якім-небудзь Лубяном?* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

З а ў в а г а. Значэнне мяркуемай прыметы маюць і дадзеныя часткі з граматычным значэннем азначальнасці, калі пры выказніку дадзенай ёсць часціца *б (бы): Хто пабудуе мур, які б дзяліў наш кут?!* (М. Ч а р о т. Адарваным).

Структура дадзеных частак з граматычным значэннем пажадання і мэты характарызуецца тым, што яны вельмі часта маюць форму аднасастаўнага (звычайна безасабовага або інфінітыўнага) сказа, хоць могуць мець і форму двухсастаўнага сказа. У апошнім выпадку дзейнік дадзенай часткі, калі ён супадае з дзейнікам галоўнай, звычайна апускаецца. *Няма той часіны ў яго хаце, каб спакойна было* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Што-што, а ўжо спосаб які-небудзь знайду, каб вас адсюль дастаць* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Не было яшчэ гэтакага здарэння, каб ён калі засмяяўся ці падвесяліўся шчыра* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Сцяг мы вынесем, думаў Смірноў, і даб'ёмся загаду, каб загінуўшую наноў аднавілі брыгаду* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

6. Дадзеныя часткі з граматычным значэннем х а р а к т а р у і с п о с а б у д з е я н н я ў атрыбутыўнай функцыі звязваюцца з галоўнай часткай злучнікамі *як, як бы, як быццам, нібы, нібыта,* а таксама часціцамі ў ролі злучнікаў *быццам, быццам бы, бы.* Такія дадзеныя маюць адценне параўнання — рэальнага або верагоднага ці проста нерэальнага: *Можа хто з іх* [панскай] *фантазіяй і скажа: «Шлях... Ну, дакладнютка, як апісаны ў трылогіі Генрыха Сянкевіча...»* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Пачуўся раптам такі гук, быццам упала ў лужыну вялікая кропля* (там жа). *Мора прыгадалася харошым, быццам тут і чайкі, тут і пляж* (П. Б р о ў к а. Над Лепельскім возерам). *Словы нейкія, быццам першы раз чую* (А. А т р о ш ч а н к а. Канфлікт і яго вырашэнне).

Дадзеныя часткі з такім граматычным значэннем у атрыбутыўнай функцыі ўжываюцца вельмі рэдка.

§ 1268. Агульнасць функцыі дадзеных частак, якія з галоўнымі ўступаюць у атрыбутыўныя адносіны, з'яўляецца асновай для ўзнікнення сінтаксічнай сінанімікі гэтых дадзеных нягледзячы на тое, што яны маюць рознае граматычнае значэнне.

Найбольш агульнае, асноўнае (прамое) граматычнае значэнне дадзеных частак з'яўляецца базай для сінанімікі, дамінантай сінанімічнага рада. Інакш кажучы, дадзеная частка з граматычным значэннем азначальнасці можа быць ужыта на месцы дадзенай з любым іншым граматычным значэннем, якая выступае ў той жа атрыбутыўнай функцыі.

Практычна гэта выражаецца ў магчымасці замены розных злучнікаў і злучальных слоў адным злучальным словам, якое найбольш ярка выражае адносіны атрыбутыўнасці, — займеннікам *які*.

Асноўныя правілы, якімі кіруюцца пры выбары таго ці іншага сродку сувязі пры магчымай замене, наступныя:

1. Калі апорнае слова — назоўнік адушаўлёны, то перавага аддаецца злучальнаму слову *які;* у астатніх выпадках дапускаецца і злучальнае слова *што*.

2. Калі апорнае слова — назоўнік са значэннем месца, то перавага аддаецца прыслоўям *дзе, куды, адкуль;* пры назоўніках з абстрактным значэннем перавага аддаецца адносным займеннікам.

3. Калі эквівалентам апорнага слова выступае лексікалізаванае словазлучэнне *(канец сяла, вобласць прымянення, галіна прамысловасці* і пад.), то перавага аддаецца адносным прыслоўям, паколькі яны звязваюць дадзеную частку з усім словазлучэннем, у той час як адносныя займеннікі дзякуючы формам дапасавання фармальна падпарадкоўвалі б дадзеную толькі пэўнаму слову — састаўной часткі словазлучэння.

4. Калі ў ролі апорнага элемента выступае незамкнуты рад аднародных членаў, з якіх адны маюць форму адзіночнага ліку, а другія множнага, то перавага таксама аддаецца адносным прыслоўям: *Шкада было старога котлішча і цесных закуткаў уласнага дворыка, дзе Ракоп так многа пакінуў свае працы, свайго жыцця* (Я. Колас. Адшчапенец).

5. Калі пры апорным слове — назоўніку ёсць прыназоўнікі з прасторавым значэннем, то перавага зноў-такі аддаецца адносным прыслоўям (з мэтай пазбегнуць паўтарэння гэтых жа прыназоўнікаў пры адносным займенніку дадзенай часткі). Аднак пры гэтым варта мець на ўвазе, што месца, дзе адбываецца дзеянне, названае ў дадзенай частцы, вызначаецца з большай дакладнасцю, калі сродкам сувязі выступае займеннік з прыназоўнікам.

## ПРАСТОРАВЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1269. **Прасторавымі** лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі дадзеная частка ўказвае на месца або прастору, дзе знаходзіцца або адбываецца тое, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы. Такая дадзеная частка выступае ў функцыі дадзенай **месца**.

Апорным элементам галоўнай часткі выступае **дзеяслоў** ці яго эквівалент (іншая часціна мовы ў ролі дзеяслова або ў функцыі, звычайна ўласцівай дзеяслову): *Дзе нядаўна драмалі густыя лясы і пазваньвалі голлем зялёным хваіны,* — ***падымаюцца*** *ў рост і ўшыркі карпусы твайго гонару, славы і песні, краіна* (А. Астрэйка. Раніца на аўтазаводзе). *На сады лімонаў і чарэшань маладых, ружовых, пайнакроўных захад дыяментаў панавешваў. Іх усюды, дзе ні глянеш,* ***поўна*** (М. Хведаровіч. У Поці). *Якая шырокая спіна! Там, дзе канчаецца загар,*— ***белая, белая*** *шыя, як у дзіцяці* (Я. Скрыган. Па слядах).

Апорны элемент галоўнай часткі, выражаны незамкнутым радам аднародных слоў, практычна раўняецца аднаму апорнаму слову: *Дзе санцапёк тваю красу цалуе ясным днём,* ***цвіці*** *і нівай* ***каласуй,*** *мой пульхны чарназём* (М. Хведаровіч. Гукні мяне...).

Адсутнасць апорнага слова ў галоўнай частцы — з'ява надзвычай рэдкая. Яна наглядаецца толькі ў частках, якія маюць форму няпоўнага сказа з эліптычным апушчэннем выказніка (які, дарэчы, вельмі лёгка падразумяваецца або ўзнаўляецца з папярэдняга кантэксту): *Пазнікалі межы—нудныя адзнакі цёмнага бязволля, жуткага бязвыйсця, — шыр і безбярэжжа, дзе вятры-гулякі ходзяць станавіта, як сваты калісьці*

(Я. Колас. Восеньскае). *Гэй, туды, дзе неба з долам абняліся, як браты!..* (Я. Колас. На прастор!).

Пры апорным слове галоўнай часткі можа быць акалічнасць месца, выражаная прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі, прыслоўямі месца, а таксама адзайменнікавымі прыслоўямі *там, тут, усюды, туды, тудою* (дыялектн.), *адтуль, адсюль, адусюль, зусюль* (дыялектн.). Апошнія выконваюць у галоўнай частцы ролю суадносных слоў. *І цяпер за гаем на майдане, дзе ў налівах серабрыцца сад, сустракае сонечнае ранне на траве халодная раса* (А. Куляшоў. Малацьба). *Некалькі хвілін хлопцы стаялі моўчкі і прагна ўзіраліся на тое месца, дзе паказаліся людзі* (Я. Колас. Макарка Навак). *Мне хочацца прыйсці назад, дзе сон палёў і шыр* (М. Хведаровіч. Гукні мяне...). *Там, дзе вока не магло адрозніць упацёмку поля ад неба, ярка мільгаў агеньчык* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Агаф'я). *І крочылі ў строях паходных байцы туды, дзе зямля чырванела крывёю* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *Не раз яшчэ сустрэцца нам з вамі давядзецца з гісторыяй такой усюды, дзе вядзе народ за волю бой, за шчасце бой, за мір ідзе ў паход* (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе).

Ужыванне акалічнасці месца ў галоўнай частцы звычайна назіраецца тады, калі даданая частка мае на мэце паясніць апорнае слова галоўнай указаннем на месца, куды або адкуль накіроўваецца асоба ці прадмет. Патрэбнасць у канкрэтызуючай акалічнасці выклікаецца тым, што паняцце накіраванасці дзеяння не заўсёды ярка выражаецца самім дзеясловам. Параўн.: *Раптам там наперадзе, куды пайшоў эшалон, грукнулі гарматы, пасля яшчэ, яшчэ з перапынкамі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). Без слоў *там наперадзе* дзеяслоў *грукнулі* не выражае значэння накіраванасці; сказ можа быць успрыняты двdriaка (напрыклад, *грукнулі* — у значэнні «выстралілі»— туды, куды пайшоў эшалон, і г. д.). Калі ж самім лексічным значэннем дзеяслова выражаецца накіраванасць дзеяння, тады канкрэтызуючая акалічнасць можа апускацца: *Я іду, куды мне кажуць* (Я. Колас. Як і калісь...). *Унь там Мікуцічы, а вось дарога на станцыю. Ідзіце, адкуль прыйшлі* (Я. Колас. На ростанях). Такія канструкцыі, аднак, лічацца размоўнымі.

Заўвага 1. Пропуск канкрэтызуючай акалічнасці стварае ўмовы для фразеалагізацыі даданай часткі: *Непрыгожы, дайганогі,— лепш ідзі, адкуль прыйшоў* (М. Танк. Журавель і чапля). *Отта пабег куды вочы глядзяць* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). Даданая частка ў такіх сказах ператвараецца ў акалічнасць месца, а сам складаназалежны сказ — у просты.

Заўвага 2. Пры ўказанні на месца, адкуль накіроўваецца асоба ці прадмет, нават пры дзеясловах з ясным указаннем накіраванасці дзеяння пропуск канкрэтызуючага прыслоўя лічыцца рэзкім адхіленнем ад літаратурнай нормы. Параўн.: *Я прыйшоў, адкуль вецер падуў* (Ю. Лявонны. Я прыйшоў...).

Суадноснае слова можа быць ужыта і тады, калі неабходна падкрэсліць прасторавы характар адносін паміж галоўнай і даданай часткамі. Асабліва часта ўзнікае патрэба ў суадносным слове, калі акалічнасць месца ў галоўнай частцы выражана прыназоўнікава-іменнай канструкцыяй. *Беручы на загатоўку ружжо, Сідар рушыцца ўправа, да берага, туды, дзе цемравее нешта ля вілаватага дуба* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Адвячорак спаткаў яе ў полі, з другога боку сялібнай брамы, там, дзе за агарожаю пачыналася іржышча на лясным выцерабе* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Ён стаў перад усімі на бярвенне, там, дзе кагадзе сядзеў Яўхім, і адразу сціснуў рогат і гаворкі моцным сваім словам* (К. Чорны. Вясна). Адсутнасць суадноснага слова прывяла б да таго, што адносіны паміж састаўнымі часткамі гэтых складаназалежных сказаў былі б успрыняты як атрыбутыўныя. А гэта, безумоўна, змяніла б і сэнс усяго выказвання.

§ 1270. У функцыі даданых месца могуць выступаць толькі даданыя часткі з граматычным значэннем месца. З галоўнай часткай яны

звязваюцца злучальнымі словамі *дзе, куды* (і дыялектн. *кудою*), *адкуль*, якія ў даданай выконваюць ролю акалічнасці месца: *Там, дзе змаганне вядзе партызан, ноч наша ворагу вылезе бокам* (А. Астрэйка. Не праедзе, не пройдзе!). *На абывательскай тройцы прасёлачнымі дарогамі, старанна захоўваючы інкогніта, спяшаўся Пётр Паўлавіч Пасудзін у павятовы гарадок N., куды выклікала яго атрыманае ім ананімнае пісьмо* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Шыла ў мяшку). *«Ой, галубачкі! Забілі некага!» — загаласілі дзяўчаты і кінуліся кулём туды, адкуль чуўся крык* (Я. Колас. Нёманаў дар).

Звычайна наглядаецца адпаведнасць злучальнага слова ў даданай часткы і суадноснага слова ў галоўнай (*там, усюды, тут — дзе; туды — куды; тудою* (дыялектн.) — *кудою* (дыялектн.); *адтуль, адсюль, адусюль, зусюль* (дыялектн.) — *адкуль*). Аднак гэта адпаведнасць не заўсёды вытрымліваецца з той прычыны, што характар акалічнасці месца ў галоўнай і даданай частках можа быць розным: ён залежыць ад зместу самой часткі, ад лексічнага значэння дзеяслова (ці слова, з якім звязана прыслоўе) і г. д. *А там, дзе захад лілаваты гасіў расплаўленую медзь, плыў човен кропляю агаты з абрыўкам хмаркі на карме* (А. Звонак. Падкраўся вечар чорнай скнарай). *Нічога там цікавага для сябе не ўбачыўшы, ён пайшоў наўскасы лесам, туды, дзе пакінуў на сваім полі ўбіты ў зямлю плуг* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ён варушыўся, клапаціўся і памагаў усюды, дзе толькі цяжэй было* (К. Чорны. Вясна). *Як ацалелі дрэвы тут кругом, дзе фронт узрыў снарадамі грунт шэры?* (М. Танк. У Жэлязовай Волі). *Самалёты ляцелі па аднаму, па тры, несучы свой смертаносны груз, і неўзабаве там, куды яны кіравалі, было чуваць нутраное, важкае: гух, гух, гу-гух...* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Даданыя месца звычайна маюць форму простага двухсастаўнага сказа, хоць сустракаюцца і такія, што маюць форму аднасастаўных простых сказаў: *А там, дзе даль пазёмкаю дыміцца, губляючы уласныя сляды, блукае маладая аляніца, адбіўшыся ад роднай чарады* (А. Звонак. Дзе пройдзе маладосць). *І йдзіце, йдзіце вы туды, дзе ўжо даўно льюць кроў за вас, нясіце веліч слёз, бяды, нясіце крыўды на паказ!* (Я. Купала. Там...). *Там, дзе вячэрняй гадзінай гальку абмыла зарой, дрэмлюць нямецкія міны, як чарапахі, гурбой* (М. Танк. Міны). *Салдаты і афіцэры пачалі бязладна разбягацца, куды прыйдзецца* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *А бярозы, клёны, дзе ні глянеш, — апранулі жоўтае убранне* (П. Броўка. Восень... восень...).

Адсутнасць дзейніка можа быць і вынікам эліптычнасці канструкцыі, прычым іншы раз апушчаны дзейнік даданай з'яўляецца дзейнікам галоўнай часткі. У такім выпадку апушчэнне дзейніка ў даданай — норма сучаснай літаратурнай мовы: *Ён толькі год таму назад вярнуўся з заграніцы, дзе праходзіў адвакацкую навуку* (З. Бядуля. Салавей).

Характэрнай рысай структуры даданых месца з'яўляецца часты пропуск выказніка, асабліва ў тых, дзе акалічнасць месца мае чыста лакальнае адценне. Справа тут у тым, што такая акалічнасць звязваецца з дзеясловам месцазнаходжання, быційнасці. А дзеясловы з такім надзвычай агульным значэннем лёгка апускаюцца: *Поле роўнае такое, бы стол габляваны, толькі дзе самая ферма, высіцца паляна* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Дзе ніцыя лозы, высока ляцяць нашы госці-шпакі* (М. Хведаровіч. Вясна ў тундры).

### ЧАСАВЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1271. Часавымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі даданая частка ўказвае на час, у які адбываецца дзеянне галоўнай часткі. Такая даданая частка выступае ў функцыі часавай даданай.

Апорным элементам галоўнай часткі ў такіх складаназалежных сказах з'яўляецца звычайна дзеяслоў.

Сама галоўная частка мае, як правіла, форму двухсастаўнага простага сказа, іншы раз з апушчэннем дзейніка (асабліва калі дзеючая асоба ці прадмет галоўнай і даданай частак супадаюць і ў даданай ёсць дзейнік): *Калі ж у мараку начным прачнуўся позна ён, труба валялася пры ім — прыяцелька здавён* (П. Броўка. Пастух). *Як прыйшла я на ток малаціць — у задуменні застаялася ды знянацку рассмяялася* (М. Багдановіч. Як прыйшла я на ток малаціць...). *Цяжка было вылавіць іх, гэтыя думкі. І толькі тады абудзіў іх, калі машынальна палез па гадзіннік і выняў яго з кішэні* (М. Лынькоў. Талісман).

Разам з гэтым сустракаюцца і такія галоўныя часткі, якія маюць форму аднасастаўнага простага сказа (безасабовага, абагульнена-асабовага, пэўна-асабовага, няпэўна-асабовага): *А калі раптам прахапіўся і спалохана агледзеўся навокал — развідняла* (М. Лынькоў. Сустрэчы). *Чакаць тады спакойна можна, калі няма чаго чакаць!* (А. Звонак. Пад небам поўначы далёкай). *Калі рана зусім загаілася, Марыну выпісалі* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *І цяпер, калі спалены мох на прастрэленым свету аблічы, — стану сціпла і строга ў вякох, выйду ў сівер эпох палітычных* (У. Хадыка. Дзве песні). *Да пайночы сядзелі, покуль сны агарнулі* (П. Броўка. Паланянка).

Найбольш распаўсюджаным відам складаназалежных сказаў з данымі часу з'яўляюцца такія канструкцыі, калі ў галоўнай частцы адсутнічае акалічнасць часу і сама даданая частка ўказвае на час, калі адбываецца дзеянне галоўнай часткі: *Як на бераг выходзіў, мне ногі абпёк успамінам гарачым халодны пясок* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *Пакуль умеркла, яны праехалі ўсе гэтыя Зосіны дарогі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Заўвага. Часавыя адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі могуць прымаць і такі выгляд, які не адпавядае рэальным адносінам з'яў, а ўспрымаецца як адваротная часавая залежнасць: *Добра занялося на дзень, як Зыдор Пніцкі пачаў варушыцца ў хаце* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Было дзесяць гадзін вечара, калі Дроб спыніўся на рагу адной з вуліц* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). Аб дзеянні тут паведамляецца ў даданай частцы, а на час гэтага дзеяння ўказвае галоўная.

Галоўная частка ў такіх канструкцыях часта можа мець форму няпоўнага сказа, іншы раз нават ператвараючыся ў адно слова: *Месяц, як прабіваемся мы з варожага акружэння, выконваючы святую клятву прысягі — не здавацца ў палон, не аддаваць ворагу зброі* (І. Шамякін. Браты).

Такая з'ява становіцца магчымай таму, што галоўная частка фактычна выконвае дапаможную ролю — указанне на час дзеяння, аб якім гаворыцца ў даданай (лагічна — галоўнай) частцы.

Працэс згортвання галоўнай часткі можа ісці яшчэ далей: адсутнасць апорнага слова і лагічная несамастойнасць галоўнай часткі прыводзяць да таго, што яна ўрэшце ператвараецца ў член сказа — акалічнасць часу (а разам з гэтым і сам складаназалежны сказ — у просты), напрыклад: *І вось ужо трэці дзень, як цягнуся пакрысе* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *«Ссеклі, služка, тую хвойку, тыдзень як ссеклі!» — гаротна прамовіла цётка* (Я. Колас. Сірата-Юрка). У апошнім сказе былая галоўная частка (*тыдзень*) і былы злучнік (*як*) зліліся ў адно несвабоднае словазлучэнне, якое выступае ў ролі акалічнасці часу.

Аднак пры апорным слове галоўнай часткі можа быць і акалічнасць часу, выражаная прыназоўнікава-іменнай канструкцыяй або прыслоўем; адзайменнікавыя прыслоўі часу і з'яўляюцца суадноснымі словамі (*тады, датуль*, устар. размоўн. *патуль*). У такім разе даданая частка звязваецца яшчэ і паясняльнай сувяззю з гэтай акалічнасцю часу галоўнай часткі; даданая частка фактычна ўжо толькі канкрэтызуе часавае паняцце, выражанае названай акалічнасцю: *Ціш такая бывае перад боем гарачым, калі батарэя маўчыць і строга і чуйна баявога загаду чакае* (Р. Рэйзін. Думы вартавога). *І вясной, як забуяюць росы, зашуміць, загойдае калоссе* (П. Броўка. Восень... восень...). *Калі ўзыходзіць сонца, тады пяе усход* (А. Александровіч. Сонца і песня). *Так языком датуль ён чэша, пакуль не пойдзе пеша* (К. Кра-

піва. Пра цыгана і кабылу). *Пакуль на гумне цэп, патуль на стале хлеб* (народн.).

Самастойнасць лексічнага значэння слоў, якія выступаюць у ролі акалічнасці часу галоўнай часткі, ставіць дадзеную частку ў такія ўмовы, што яна не столькі канкрэтызуе, колькі проста ўдакладняе гэту акалічнасць: *Аднойчы летнім вечарам, калі ад цёплай ракі паднімаецца пара, мы цягалі з ім сетку, удвох* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Увосень, пад поўдзень, як збярэ свае сілы сонца,— разгорнецца дзе над каляінай позні, сіратлівы малачайнік — дробная кветка на высокім сцябле* (К. Чорны. Вясна).

Наадварот, чым слабей выражана гэта самастойнасць лексічнага значэння акалічнасці, тым ярчэй выступае функцыя дададнай — канкрэтызаваць акалічнасць галоўнай часткі. Ступень «выветрывання» лексічнага значэння акалічнасці, вядома, можа быць рознай, і ў сучаснай мове ёсць канструкцыі, якія непоўнасцю страцілі сваё значэнне, але ўжо блізкія да суадносных слоў. Сюды адносяцца словазлучэнні *да часу, з часу, у час; да таго часу, з таго часу, у той час; да той пары́ (да тых пор), з той пары́ (з тых пор), у тую пару́; да таго моманту, з таго моманту, у той момант,* а таксама эліптычныя канструкцыі (з пропускам слова, якое мае агульнае значэнне часу) *перад тым, да таго, пасля таго, разам з тым: І ў час, калі гарэннем зор вію я нервы на вяроўкі,— ты топчаш жытні перабор, ты ходзіш нават без сяброўкі* (У. Хадыка. Спадалі кроплі на пясок). *Не хочацца паміраць да таго часу, пакуль хоць адзін гітлеравец застанецца на маёй зямлі* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Ты не чуеш кроку лёгкіх маіх ног, слоў не чуеш цёплых з той пары, як лёг на пасцелі гэтай ў цяжкім забыцці і не змог ні разу упрытом прыйсці...* (К. Буйла. У шпіталі). *І ў грудзі ўпёршыся напасці, стары салдат насмерць стаяў: ён перад тым, як доле ўпасці, яшчэ раз кулю пасылаў* (М. Лужанін. Пачатак).

У некаторых выпадках адсутнасць суадноснага слова (ці наогул акалічнасці часу) у пэўнай меры кампенсуецца часціцамі (*яшчэ, ужо, як, аж,* а таксама *то, дык*) ці нават пабочнымі словамі (*бывала*): *Затое ж толькі ён прыехаў, вярнуўся, як ім нудна была хвіліна ў разлуцы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Калі малацілі, то першы пасад збілі абыяк* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Пасля Рыгор калі кашляне дзе на панадворку, варочаючыся адкуль, дык Мікалай падасць бабам руку і пойдзе* (К. Чорны. Вясна). *Бывала, маё сэрца крывёю аблівалася, калі я яго, малога, будзіў да работы з цёмнага* (К. Чорны. Лета).

Наяўнасць або адсутнасць суадносных слоў у галоўнай частцы (калі дададная не знаходзіцца ў інтэрпазіцыі) не абумоўлена граматычнымі прычынамі, а звязана ў асноўным са стылявой накіраванасцю выказвання: ужыванне суадноснага слова надае фразе кніжны характар.

Заўвага. Асобныя выпадкі ўжывання суадносных слоў у сказах, дзе ў дададнай частцы апушчан часавы злучнік, яшчэ не ствараюць умоў для пераходу гэтых суадносных слоў у злучнікі, хоць фактычна суадносныя словы ў такіх сказах і выконваюць ролю асноўнага сродку сувязі: *Начальнік аэрадрома назваў пароль, тады камандзір паклаў пісталет у кабуру, прыветна ўсміхнуўся і працягнуў начальніку руку* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Два вялікія паэты ўпершыню спаткаліся яшчэ ў маладыя свае гады, тады яны ўжо былі вядомы як паэты* (К. Чорны. Янка Купала). Галоўная частка такіх сказаў набывае значэнне выніку, а дададная — умовы. Такім чынам, адносіны паміж састаўнымі часткамі ў такіх сказах набліжаюцца да ўмоўна-выніковых (гл. § 1274).

§ 1272. Часавыя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, як вядома, маюць дзве разнавіднасці: адносіны адначасовасці і неадначасовасці дзеянняў (з'яў, станаў), аб якіх гаворыцца ў галоўнай і дададнай частках. Гэтыя разнавіднасці часавых адносін знаходзяць сваё выражэнне ў спецыфіцы віда-часавых суадносін дзеясловаў-выказнікаў галоўнай і дададнай частак, і ў парадку размяшчэння частак, і ва ўжыванні розных часавых злучнікаў.

У складаназалежных сказах з adносінамі адначасовасці дзеянні, аб якіх гаворыцца ў галоўнай і даданай частках, могуць быць працяглымі і поўнасцю супадаць у часе; могуць перыядычна паўтарацца, супадаючы ў часе пры кожным іх паўтарэнні; могуць супадаць толькі часткова — у тым выпадку, калі дзеянне, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы, з'яўляецца аднакратным і супадае ў часе з пэўным момантам працяглага дзеяння (стану ці прызнака), аб якім гаворыцца ў даданай частцы. У сказах з адносінамі адначасовасці даданая частка звязваецца з галоўнай злучнікамі *калі, як, пакуль*.

Поўнае супадзенне працяглых або ітэратыўных дзеянняў (станаў), аб якіх гаворыцца ў галоўнай і даданай частках, звычайна выражаецца тым, што ў якасці выказнікаў абедзвюх частак ужываюцца дзеясловы незакончанага трывання: *Калі над радзімай пажары шугалі і неба гуло ад грымот, — пад шумнымі соснамі мы прысягалі табе, беларускі народ!* (П. Броўка. Партызанскі марш). *Пакуль дзяўчаты пяюць, Настуля садзіцца ля Батуры і шэпча нешта яму* (К. Крапіва. Партызаны).

Частковае супадзенне ў часе дзеянняў ці станаў, аб якіх гаворыцца ў галоўнай і даданай частках, выражаецца ў тым, што ў якасці выказніка галоўнай часткі ўжываюцца дзеясловы закончанага трывання, а даданай — незакончанага: *Што сказалі мне рэчы, калі я выходзіў з кватэры?* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Ногі ў баях натамілі, як драўлянымі стрэльбамі вызвалялі ад белых сяло* (А. Куляшоў. Хлопцы апошняй вайны). *Пакуль ураднік збіраўся, падышоў дзяк* (Я. Колас. Пісаравы імяніны).

Частковае супадзенне ў часе дзеянняў ці станаў можа выражацца не толькі ўказанымі суадносінамі віда-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў. Сустракаюцца выпадкі, калі ў ролі выказніка галоўнай часткі выступае дзеяслоў прошлага часу незакончанага трывання, а даданай — прошлага часу закончанага трывання: *Яны ў гумне хаваліся, калі фашысцкія разведчыкі прыйшлі і з аўтаматаў вуліцу, сады і ўвесь Чырвоны прачасалі Лог* (М. Танк. Янук Сяліба). *Вечарам, як добра сцямнела, па закавулку ішлі ўдваіх да хаты Гарпіны* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

У складаназалежных сказах з адносінамі неадначасовасці дзеянне, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы, адбываецца або ўслед за тым, аб чым гаворыцца ў даданай, або, наадварот, раней таго, аб чым гаворыцца ў даданай. Адносіны неадначасовасці выражаюцца самымі разнастайнымі часавымі злучнікамі, як простымі, так і састаўнымі: *калі, як, пакуль, ледзь толькі, як толькі, перад тым як, з таго часу як* і інш.

У большасці выпадкаў дзеянне, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы, адбываецца ўслед за тым, аб чым гаворыцца ў даданай. Выказнікі даданай і галоўнай частак выражаюцца дзеясловамі закончанага трывання: *А калі сцёг апошнюю капу, распрог каня і пусціў яго папасвацца крыху* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Калі апошні коннік знік з ягонае дубровы, вярнуўся да куста ляснік ды не знайшоў падковы* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове). *Ледзь толькі пехацінцы мінулі алешнік, як поруч, востра скрыгочучы, важка загрукаталі выбухі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Радзей сустракаюцца выпадкі, калі дзеянне, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы, папярэднічае таму, аб чым гаворыцца ў даданай: *Вячэрняе сонца мы неслі здалі на крыллях свайго самалёта, пакуль не апала яно ў заліў за мачты Балтыйскага флоту* (М. Танк. Свята ў Таліне). *Перад тым як завіраваць, выбіўшыся з цяснін зямлі, вада толькі сочыцца* (Ц. Гартны. Шырэй крокі). Суадносіны віда-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў даданай і галоўнай частак у такіх сказах даволі разнастайныя.

§ 1273. У функцыі даданых часу выступаюць даданыя з граматыч-

ным значэннем часу, а таксама — вельмі рэдка — з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння (з адценнем параўнання).

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем часу, якія выступаюць у часавай функцыі, звязваюцца з галоўнай злучнікамі *калі, як, пакуль;* часціцамі, якія выступаюць у ролі злучнікаў: *ледзь, толькі, чуць,* а таксама састаўнымі злучнікамі, што ўзніклі на базе простых: *як толькі, ледзь толькі, чуць толькі, толькі што, чуць што, абы толькі, з таго часу як, з той пары (з тых пор) як, у той час як, у той час калі, (па)між тым як, да таго часу пакуль, пасля таго як, разам з тым як* і інш.

Злучнік *калі* нейтральны ў стылістычных адносінах і найбольш ужывальны ў сучаснай мове. З яго дапамогай выражаюцца як адносіны аднагачасовасці, так і адносіны неаднагачасовасці: *Калі пралятае наш мінскі цягнік па светлых гаях Падмаскоўя і ззяць пачынаюць здалёку агні сталіцы, — хвалююся зноў я* (П. Панчанка. Масква). *Толькі калі бразнула пад Астапавай рукой клямка каліткі, спрытна намацаная ім у цемрані ночы, адышлі ад яго трывожныя думкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Калі ўжо на захадзе стала змяркаць, ён выйшаў на ганак падружку чакаць* (П. Броўка. Шпак).

На базе злучніка *калі* намячаецца фарміраванне новых састаўных часавых злучнікаў *пасля таго калі* і *ў той час калі;* гэтыя злучнікі маглі б скласціся ў выніку аб'яднання словазлучэнняў *(пасля таго, у той час),* якія выконваюць ролю суадносных слоў галоўнай часткі, са злучнікам *калі: Карны атрад адразу з'явіўся на месцы. Ён арудаваў шмат дзён і выехаў пасля ўжо таго, калі спустошыў і ажабрачыў людзей* (К. Чорны. Семнаццаць год). *У той час, калі хлапчук даганяў Рыгора, грымнуў стрэл* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Аднак з прыкладаў відаць, што канчатковага аб'яднання суадноснага элемента галоўнай часткі са злучнікам *калі* не адбылося. Гэтаму перашкаджае яркасць часавага значэння злучніка *калі,* а для канструкцыі *ў той час калі* і закон аманімічнага адштурхоўвання (гэта канструкцыя з'яўляецца цэласным састаўным злучнікам з супастаўляльным, а не часавым значэннем, гл. § 1288).

Заўвага. З прычыны яркасці часавага значэння злучніка *калі* не адбываецца і фарміраванне часавага злучніка *тады калі,* хоць адзінкавыя прыклады яго ўжывання і сустракаюцца, параўн.: *Ты адно добра папытай у Хвёдара, ён ведае гэты дышаль. Пазалетась ён яго бачыў, тады калі я кідаў яго пад салому* (К. Чорны. Трухлявае кола).

Злучнік *як* у складаназалежных сказах з даданымі часу ўжываецца для выражэння тых жа адносін, што і злучнік *калі.* Адрозніваецца гэты злучнік ад злучніка *калі* галоўным чынам тым, што ён надае сінтаксічнай канструкцыі адценне размоўнасці, у той час як злучнік *калі* — стылістычна нейтральны: *Разышліся, як світаннем слаўся ў зараслях туман* (А. Александровіч. Завязка). *А знак мой будзе вось які: «Стой— лапаць скінуўся!» Як вы гэта пачуеце, тады маланкаю кідайцеся за мною на канвой, абяззбройвайце яго* (Я. Колас. Дрыгва). *Як пажну пшаніцу ў полі — буйныя калоссі, на пабыўку, мой саколік, прыязджай у госці* (А. Александровіч. Песня).

Злучнік *як* з прычыны сваёй полісемічнасці і няяркасці часавага значэння нярэдка патрабуе падтрымкі — ужывання іншых сінтаксічных сродкаў сувязі даданай часткі з галоўнай. Адным з такіх дапаможных сродкаў сувязі з'яўляюцца пэўныя лексічныя элементы — устойлівыя канструкцыі ці паасобныя словы. Сказы з лексіка-сінтаксічнай сувяззю састаўных частак складаюць групу з даволі разнастайнымі адценнямі агульнага часавага значэння. Сюды адносяцца складаназалежныя сказы, у якіх адлюстроўваецца хуткая, непасрэдная замена аднаго дзеяння другім, прычым дзеянне першай часткі або завяршаецца, або не паспявае завяршыцца поўнасцю.

У першым выпадку пры злучніку *як* ужываецца часціца *толькі: Як толькі ноч і зор агні сплылі Беразіной, на безымяннай вышыні зноў*

*разгарэўся бой* (М. Танк. Бой над Беразіной). *Як толькі гэты гул пачую, паходны ранец развяжу і моўчкі кніжку запісную паміж патронаў палажу* (П. Броўка. Палеская дарога).

У другім выпадку (у сказах з так званым «узаемным падпарадкаваннем») у складзе выказніка першай састаўной часткі ўжываецца дзеяслоў *не паспеў (не паспелі, не паспееш* і г. д.): *Яшчэ не паспелі перавязаць параненых, як з боку немцаў ушчаўся беглы агонь* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І не паспелі хлопцы апамятацца, як насохшае сена палыхнула агнём* (Я. Колас. Чоран).

У гэту групу ўключаюцца і сказы, выказнікам першай састаўной часткі ў якіх з'яўляюцца дзеясловы *не прайшло, не мінула* ў спалучэнні з родным склонам назоўніка (ці колькасна-іменнага словазлучэння), што абазначае пэўны адрэзак часу: *Не прайшло і паўгадзіны, як хмары закрылі ўсё неба* (І. Мележ. Мінскі напрамак). Падобнае ж значэнне маюць сказы, дзе другая частка звязваецца з першай злучнікам *як* у спалучэнні з прыслоўямі *раптам, раптоўна*, а таксама сказы, у першай частцы якіх выказнік у спалучэнні з часціцай *ужо* (а выказнік з адмоўем *не* ў спалучэнні з часціцай *яшчэ*) абазначае дзеянне, якое павінна было закончыцца, але было затрымана або перарвана дзеяннем, аб якім гаворыцца ў другой частцы: *Яшчэ трапяталіся смехам вейкі, як яна ўздыхнула і раптам парыўчата абняла яго, страсным пацалункам апаліла анямеўшыя губы яго, выхапіла з рук самавар і хутка знікла за форткай* (М. Лынькоў. Салют). *Выйшаўшы з лесу, Дудок ужо наважыўся падацца на адхон шашы ды запытацца ў каго пра сваіх браткоў-сапёраў, як нібы нешта скаланула яго і спыніла адразу, да таго ж цяжкімі-цяжкімі здаліся ногі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яны не скончылі яшчэ снедаць, як сам брыгадзір падагнаў да іх хаты параконную фурманку* (І. Шамякін. У Маскву).

У якасці другога важнага дапаможнага сродку сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа, які ўжываецца для падтрымкі часавага значэння злучніка *як*, выступаюць суадносныя словы (дакладней — словазлучэнні, што выконваюць ролю суадносных слоў). Гэтыя словазлучэнні, асабліва калі яны знаходзяцца ў пачатку сказа, непасрэдна перад даданай часткай, маюць тэндэнцыю аб'ядноўвацца са злучнікам *як*, утвараючы састаўныя злучнікі *з таго часу як, з той пары як, з тых пор як, у той час як, паміж тым як, пасля таго як, перад тым як, разам з тым як* і інш.: *З тых пор як пайшлі на аблаву, цягнецца іх паляванне да сённяшніх дзён* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Пасля таго як адзін урок быў сарваны, у класе правялі нечарговы камсамольскі сход* (з газет). *Перад тым як скалыхнуцца цалкам, паварушыць доўга не рухомую цаліну, беларускі народ пусціў іскры распаляючага агню свайго ўваскрашэння, свайго аднаўлення* (Ц. Гартны. Шырэй крокі).

Састаўныя злучнікі *з таго часу як, з той пары як* і г. д. не маюць у фразе лагічнага націску і поўнасцю ўключаюцца ў склад даданай часткі. Калі ж лагічны націск падае на словы *з таго часу, з той пары, разам з тым* і г. д., то гэтыя словы застаюцца ў межах галоўнай часткі і выконваюць ролю суадносных слоў: *Я збіраў басаножкрапіву каля плоту перад тым, як зямля наліецца цяплом* (П. Глебка. Пра вясну і рэвалюцыю). *Разам з тым, як навокал яснела і шырылася, у многіх людзей святлелі і ажыўляліся твары* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Злучнік *пакуль* [1] служыць сродкам сувязі з галоўнай часткай такіх даданых, якія паказваюць:

---

[1] Акцэнтны варыянт гэтага злучніка — злучнік *покуль* — ужываецца ў мове вершаваных твораў, а *покі* ў сучаснай мове лічыцца ўжо ўстарэлым і абласным, хоць таксама ўжываецца ў мове літаратурных твораў з пэўнымі стылістычнымі мэтамі. Напрыклад: *І покуль ты яшчэ малы і малады задужа, сядай за парты і сталы і навучайся, дружа* (П. Глебка. Вялікі закон). *Пан затрымаў Васіля на некалькі часу, покі пісаў адказ леснічаму* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

а) Перыяд, у час якога адбываецца дзеянне галоўнай часткі: *Пакуль мяса на лузе капціў над тым голлем сусед, на высокай сталюзе на дошкі піліў яе* [елку] *дзед* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Пакуль міскі адмыла дзяўчынка ад пылу ўсяго, спрытна печ растапілі хлапечыя рукі яго* (там жа).

б) Момант, калі заканчваецца дзеянне галоўнай часткі: *Жыццё калыша далі, пакуль пад хмарамі не ўзнімецца віхор* (М. Чарот. Адарваным). *Ад камарынага нашэсця палілі дымныя кастры. Мы так жылі, пакуль, нарэшце, нам фарт знаходкі не дарыў* (А. Звонак. Пад небам поўначы далёкай).

в) Дзеянне, якое адбываецца пасля дзеяння галоўнай часткі: *Што ж, памагала б летам я табе хоць на зіму на квас мо' зарабіць, пакуль бы ў свет не выгнала бяда* (М. Танк. Журавінавы цвет). *Яны абвандравалі ўвесь гарадок, пакуль дапыталіся кватэры Назарэўскага* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Пры выказніку даданай часткі, якая паказвае момант, калі заканчваецца дзеянне галоўнай часткі, і абазначае або вынік дзеяння галоўнай, або прыпыненне дзеяння галоўнай дзеяннем даданай часткі, звычайна ёсць часціца *не*. Гэта часціца не мае тут адмоўнага значэння, што відаць з прыкладаў: *Доўга матка так глядзела, дочку праважала, покі хустка яе бела з вочак не прапала* (Я. Колас. Доля батрачкі). *Дзень улетку вялікі. Доўга цягнуўся ён, пакуль цень ад ціхай ночы не лёг на зямлю* (К. Чорны. Вясна). *Мы глядзелі яму ўслед, аж пакуль ён не схаваўся за прыдарожнымі хмызнякамі* (там жа).

Улічваючы страту адмоўнага значэння часціцы *не* ў такіх канструкцыях і абавязковасць гэтай часціцы для выражэння ўказаных значэнняў, можна лічыць, што фарміруецца састаўны злучнік *пакуль не*, у якім часціца *не* становіцца адным з кампанентаў.

Заўвага. Даданыя часткі са злучнікам *пакуль*, у якіх дзейнік выражан займеннікам *што* (у значэнні няпэўнага «што-небудзь»), у гутарковай мове могуць ужывацца без выказніка. Так, замест *Пакуль што будзе, я пачытаю* часта гаворыцца: *Пакуль што я пачытаю*. Складаназалежны сказ, такім чынам, ператвараецца ў просты, а даданая частка, стаўшы несвабодным словазлучэннем, прымае ролю даданага члена — акалічнасці часу. Згортванне даданай часткі можа ісці яшчэ далей — да аднаго злучніка *пакуль*. Параўн. у вершы «На возеры Джэка Лондана» А. Звонака: *Кіраўнічы нашага атрада, тых мясцін заядлы воўк стары, кажа нам, як белыя каскады гэтых водаў рынуцца з гары, як пашлюць магутныя турбіны у тайгу яскравыя агні... Выцірае рукавом слязіну юкагір стары, наш праваднік. А пакуль — сюды кладуць дарогу.*

Адным са сродкаў сувязі часавай даданай з галоўнай часткай выступаюць часціцы *ледзь (ледзьве), толькі, чуць*, якія бяруць на сябе ролю злучнікаў. З пункту гледжання сучаснай мовы ўжо можна гаварыць аб склаўшыхся часавых злучніках *ледзь, толькі, чуць*, а таксама аб іншых састаўных злучніках, якія сфарміраваліся на базе названых, у прыватнасці *ледзь толькі, чуць толькі, толькі што, чуць што* (і нават *сама што), абы толькі*. Усе гэтыя злучнікі ўжываюцца для сувязі з галоўнай часткай такой даданай, якая абазначае дзеянне, што непасрэдна папярэднічае дзеянню галоўнай часткі: *Рана, рана маці ўстала, ледзь успыхнулі зарніцы* (П. Броўка. Праводзіны). *Над жытамі песні льюцца, толькі сонца ўстане* (Я. Колас. На полі). *Чуць толькі сцямнела, — пачалі збірацца палешукі* (Я. Колас. Кантракт). *Ён назаўтра ўстаў ранютка, аж да ўсходу сонца, чуць што глянуў дзень ціхутка ў хату праз аконца* (Я. Колас. Першы заработак). *Ён набыў ужо і карову, і каня, і сама што станавіўся на ногі, як у сяле ўзяліся арганізоўваць калгас* (Я. Скрыган. На выселках).

Пры часавых злучніках *толькі, ледзь толькі* і г. д. у галоўнай частцы могуць быць часціцы *як, аж*, якія ўзмацняюць адценне непасрэднай змены аднаго дзеяння другім: *Толькі ён скончыў запытанні, як Палута адвярнулася ад запечку, дзе насуплена стаяў Янка* (Ц. Гартны. «Лайдак»). *Толькі гэта я мінаю масток, аж там, у кустах на балоце, як*

*зашуміць, ну, здаецца, і лісце з кустоў пасыпалася! і раптам ціха стала* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Заўвага. Даданыя часткі са злучнікамі *чуць, ледзь* і г. д. пры адсутнасці выказніка могуць згортвацца і ператварацца ў несвабоднае словазлучэнне, якое становіцца членам простага сказа — акалічнасцю часу. Параўн. сказы, дзе ў першым словазлучэнне *чуць золак* яшчэ захавала некаторыя прызнакі дадзенай часткі, а ў другім словазлучэнне *чуць дзень* ужо канчаткова перайшло ў член простага сказа: *Дубы-дзяды імшэлыя, чуць золак, і яны на дудах перагукваюцца з гуслямі вясны* (А. Александровіч. Вясна-красуня). *Чуць дзень буду зноў* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

Структура часавых даданых частак не мае сваіх спецыфічных адрозненняў. У якасці даданых звычайна ўжываюцца сінтаксічныя канструкцыі, якія маюць форму простага двухсастаўнага сказа. Разам з тым могуць ужывацца і канструкцыі, якія маюць форму аднасастаўных сказаў. Аднак ужыванне безасабовых, абагульнена-асабовых і няпэўна-асабовых канструкцый у ролі даданай часткі абмежавана, бо такія часткі абазначаюць не канкрэтны час дзеяння, а хутчэй за ўсё самую магчымасць утварэння дзеяння, не суаднесеную з пэўным момантам часу. Таму такія даданыя ўступаюць з галоўнай часткай у сінтаксічныя адносіны, якія набліжаюцца да ўмоўна-выніковых: *Начамі, калі было ціха, чуваць быў грукат млыноў* (К. Чорны. Трыццаць год). *Калі прыехалі на месца, было ўжо блізка вечара* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Цябе знойдуць, як трэба будзе* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *Справядліва паштрафаваў земскі, як судзіліся за пашу?* (Я. Колас. Нёманаў дар). *А покуль вас зусім не зморыць сон, раскажаце мне болей падрабязна* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Спачатку ён пацёрся ў куце, пакуль яго заўважылі* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Абавязковым структурным элементам даданай часткі з'яўляецца выказнік. Адсутнасць яго дапускаецца толькі тады, калі ён лёгка падразумяваецца (калі на месца апушчанага выказніка лёгка можа быць устаўлена слова з агульным дзеяслоўным значэннем быційнасці ці пад.), напрыклад: *Пакуль тое снеданне, то жывот можа да спіны прырасці* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Наогул жа пропуск выказніка пазбаўляе даданую частку яе спецыфікі і вядзе да ператварэння яе ў член сказа (гл. заўвагі ў § 1259—1261).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў часавай функцыі звязваюцца з галоўнай часткай злучнікамі *чым* і *як*: *Раней, чым гэта ўсё пачалося, ён ужо выйшаў з вёскі* (С. Баранавых. Бацькава світка). *Перш, як ён паспеў аб гэтым падумаць, рука яго ўжо націснула на гашэтку* (Л. Маёраў. Геройства).

Заўвага. Злучнікі *чым* і *як* з такім значэннем цяпер ужо амаль не ўжываюцца. Затое новыя часавыя злучнікі, якія ўзніклі ў выніку аб'яднання злучнікаў *чым* і *як* са словамі *раней, перш* (гэтыя словы былі акалічнасцю часу галоўнай часткі і выступалі ў ролі суадносных слоў), атрымалі ў сучаснай мове некаторае пашырэнне, гл., напрыклад, у П. Панчанкі: *Перш чым выправіцца дадому, у апошні паход салдацкі, нам з вайною па-франтавому трэба горача развітацца* (Дружа повар, кансерваў годзе!). *Раней як сказаць, варта падумаць* (народн.). *Раней чым пачынаць уборку каласавых, трэба яшчэ раз грунтоўна праверыць камбайнавы парк* (з газет).

Злучнікі *раней чым, раней як, перш чым, перш як* (размоўн.) з'яўляюцца сродкамі сувязі ў такіх складаназалежных сказах, дзе даданая частка абазначае дзеянне, якое адбываецца пасля дзеяння галоўнай часткі.

## УМОЎНА-ВЫНІКОВЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1274. Умоўна-выніковымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі адна з частак указвае на ўмовы, пры якіх адбываецца ці можа адбыцца тое, аб чым гаворыцца ў другой частцы. Зразумела, што другая частка будзе мець больш

яскравае значэнне выніку. Таму пры ўмоўна-выніковых адносінах функцыя дадзенай часткі можа быць дваякай: у адных выпадках яна будзе ўмоўнай, а ў другіх — выніковай.

Умоўна-выніковыя адносіны абазначаюць такую ўзаемасувязь з'яў, пры якой наяўнасць таго, што гаворыцца ў дадзенай частцы, заканамерна выклікае тое, аб чым гаворыцца ў галоўнай: *Калі абедзве часткі няроўнасці маюць дадатны агульны множнік, то на яго можна падзяліць абедзве часткі няроўнасці* (А. Кісялёў. Алгебра). Такія адносіны называюцца адносінамі прамой абумоўленасці. Акрамя таго, існуюць адносіны адваротнай абумоўленасці: калі ў дадзенай частцы гаворыцца аб умове, а ў галоўнай аб тым, што адбываецца наперакор гэтай умове. Такая сувязь у традыцыйнай граматыцы носіць назву ўступальнай.

Характэрнай рысай чыстых умоўна-выніковых адносін з'яўляецца магчымасць лагічнай антанімізацыі такой канструкцыі. Так, калі правільным лічыцца прыведзенае вышэй сцвярджэнне аб дзялімасці няроўнасцей, то правільным павінна быць і процілеглае яму: *Калі абедзве часткі няроўнасці не маюць дадатнага агульнага множніка, то нельга знайсці множнік, на які б можна было падзяліць абедзве часткі няроўнасці.*

Яркімі прыкладамі выкарыстання чыстых умоўна-выніковых канструкцый з'яўляюцца фармуліроўкі законаў у логіцы, матэматыцы, фізіцы і іншых навуках. У літаратурна-мастацкім стылі і ў размоўных стылях такія чыстыя ўмоўна-выніковыя канструкцыі сустракаюцца радзей. Тут яны часта ўскладняюцца іншымі адценнямі — часавым, прычынным і г. д.

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ЎМОЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1275. Дадзеныя часткі, якія ў складаназалежным сказе ўжываюцца ў функцыі ўмоўных, указваюць на ўмовы, пры якіх адбываецца (адбывалася ці будзе адбывацца) дзеянне галоўнай часткі. Умовы гэтыя могуць быць рэальна магчымымі, могуць быць толькі пажаданымі, мяркуемымі або нават і нерэальнымі: *Калі чытач захоча больш акрэслена вызначыць тэматыку творчасці М. Хведаровіча, яму патрэбна будзе перш за ўсё ўдумацца ў назвы яго кніг* (Д. Палітыка. Паэзія Міколы Хведаровіча). *Каб гэта я стаў намест галоўнага камісара, дык зразу ў першую чаргу распарадзіўся б паправіць шляхі* (Ц. Гартны. На новым месцы). *Расцеш ты, як маладая бярэзінка, аж душа радуецца... Вось каб жыва была маці, не нацешылася б* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У залежнасці ад значэння апорнай часткі канструкцыі з дадзенымі часткамі ва ўмоўнай функцыі можна падзяліць на дзве групы. Да першай будуць аднесены сказы, у галоўнай частцы якіх паведамляецца аб самастойным дзеянні, якое можа адбыцца пры пэўнай умове: *Што ж мне з вамі рабіць, таварыш брыгадны камісар? Не маю я права пакінуць вас. Але як я вазьму вас, калі і ў самога ніякай зручнасці, можна сказаць, няма ў руках?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Я ўсё роўна там не застануся, калі мяне туды сілаю завязуць* (Ц. Гартны. «Лайдак»). Да другой групы будуць аднесены сказы, у галоўнай частцы якіх выказваецца якое-небудзь меркаванне, ацэнка і г. д., прычым гэта меркаванне (ацэнка і г. д.) можа выказвацца толькі пры пэўнай умове, аб якой і гаворыцца ў дадзенай частцы: *А калі ўзяць нам саміх сябе, хіба мы ўжо такія крышталёва чыстыя?* (К. Крапіва. Што мне рупіць). *Вось бяда будзе, калі дзяўчына не захоча ісці да нас* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Калі з іх трое ўцякло, дык я ўжо і вінаваты*

(М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён баязлівец, калі не здраднік* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Апорным элементам галоўнай часткі з'яўляецца прэдыкатыўнае словазлучэнне. Характэрна, што цэнтр цяжару ў гэтым словазлучэнні прыпадае на адзін з элементаў яго — на выказнік. І ў тых сказах, у якіх па самому характару галоўнай часткі дзейнік адсутнічае (у безасабовых, пэўна- або няпэўна-асабовых і г. д.), ролю апорнага элемента поўнасцю бярэ на сябе выказнік. У якасці выказніка ў пераважнай большасці выпадкаў выступае асабовая форма дзеяслова, інфінітыў, дзеепрыметнік, а зрэдку і дзеепрыслоўе, калі яно выконвае функцыю другараднага выказніка[1]: *На бок адыходзяць даты, калі мы ўспамінаем творчасць гэтага незабыўнага паэта* (У. Агіевіч. Лірыка Паўлюка Труса). *Каб ты ўсё гэта ведаць магла, ты б да веку, як я, пакахала* (У. Хадыка. Напаткаліся вочы твае). *Як разнімуць* [ветры] *крылле-раме ды як задурэюць, следам гурбы курганамі стануць на сувеях* (Я. Колас. Мяцеліца). *Эх, нашто ўздыхаць па волі, калі я не маю долі* (Я. Колас. З песень адзінокага). *Калі глянуць у даль вуліцы, то недалёка ад вёскі, на адселі, відзён з-за каменнай агарады, у бярозах і клёнах, касцёл* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Злосна хадзілі хлапечыя рыдлёўкі, узахапкі ўразаючыся ў пясок, глейкую гліну, калі кпілі дзяўчаты...* (М. Лынькоў. Салавей-разбойнік).

У радзе канструкцый выказнік можа быць выражан іменнай формай у спалучэнні з незнамянальнай або паўзнамянальнай звязкай, безасабовым дзеясловам, безасабова-прэдыкатыўным словам і г. д., а таксама несвабодным словазлучэннем: *Калі ў свабодзе такой пажывецца, то і за сонца плаціць давядзецца* (Я. Купала. Водклік з 29 кастрычніка 1905 года ў Мінску). *Пятрусь, мне цяжка робіцца, калі я цяпер вельмі падоўгу не бачу цябе* (Я. Скрыган. Таіса). *І мне заўсёды горка стане, калі я ўбачу на кургане пад шэрым прыкладам драўляным прыпынак вечны селяніна* (Я. Колас. Новая зямля). *Колькі там, праўда, тае сяўбы ў мяне! Яно, каб добры конь, дык гэтая мая сяўба—плёвая справа* (К. Чорны. Зямля). *Але па ўсім было відаць, што гэта не сон. Вельмі рэальнымі былі людзі, іх паводзіны, калі ўважлівей прыгледзецца да іх, прыслухацца да людскога гоману* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Што ім сівер суровы, калі ў іх наперадзе дом?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Янка засмяяўся: «Навошта мне, рыбка, твая дапамога, калі ў мяне ў кішэні не такі памочнік!»* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *Самабыль толькі тады зварачвае ўвагу на сварку, калі яна вядзецца энергічна, з належнай доляй запалу* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага).

Галоўная частка складаназалежных сказаў з даданымі ў функцыі ўмоўных, як правіла, мае форму простага двухсастаўнага сказа: *Як жа ён* [месяц] *над загонам да поўнага хлеба дарос, то цымбалы са звонам і паляцелі з нябёс* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

Вядома, дзейнік можа апускацца з прычыны эліпсіса, параўн.: *Малюнкі родныя і з'явы! Як вы мне любы, як цікавы! Як часта мілай чарадою вы ўстаяце перада мною! І так панадна смеяцеся жывою баграю на лесе і златаблескімі снапамі праменняў-стрэлаў над палямі, і брыльянцістаю расою, калі гарачаю касою скрозь лісцяў сетачкі-ваконцы на ёй заззяе ціха сонца, яе так песціць, так кахае, па ёй вясёлкі рассыпае!* (Я. Колас. Новая зямля).

Пропуск дзейніка наглядаецца і тады, калі дзейнік даданай часткі з'яўляецца агульным для абедзвюх частак. Калі ж пры гэтым даданая частка знаходзіцца ў прэпазіцыі — перад галоўнай, то пропуск дзейніка становіцца нормай сучаснай мовы: *Я яшчэ зацемна як выйду, дык у*

---

[1] У такім выпадку апорным элементам галоўнай часткі з'яўляецца не столькі само дзеепрыслоўе, колькі дзеепрыслоўе ў спалучэнні з дзеясловам — асноўным выказнікам.

*вас буду — ледзь развідняе* (К. Чорны. Броня Казакевіч). Такі «агульны» дзейнік можа нават адсутнічаць і ў прэпазіцыйнай дададнай, з прычыны таго што аб гэтым прадмеце (ці асобе) гаворыцца ў папярэднім сказе: *Забыўся, здаецца, Андрэй на ўсё, стоячы пад паважным, раўнамерным шумам сосен. І калі глянуў з вышыні як бы няўзнак на сваю вёску, урослую ў даліну, здаецца, бачыў душу кожнай хаты, яе даўнюю і нядаўнюю гісторыю і той адзіны здабытак усяго жыцця-быцця — беднасць, беднасць і беднасць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. Калі лагічны суб'ект у прэпазіцыйнай дададнай часткі з'яўляецца граматычным аб'ектам і гэты ж прадмет (ці асоба) выступае як «агульны» дзейнік, то апушчэнне дзейніка ў галоўнай часткі кваліфікуецца як адхіленне ад нормы: *Калі дзецюку станавілася зле, ішоў утапіць сваё гора* (П. Глебка. З паэмы «Арка над акіянам»).

Даволі часта галоўная частка складаназалежных сказаў з дададнымі ў функцыі ўмоўных мае форму аднасастаўнага сказа, у першую чаргу безасабовага, а таксама абагульнена-асабовага, пэўна- і няпэўна-асабовага сказаў: *«Корму павінна хваціць, калі яго расходаваць эканомна»,—сам сабе падумаў Мікіта* (Я. Колас. Адшчапенец). *І засмуткуеш паняволі ад гэтых думак цёмнай долі, калі набытак і скарб хатні ідуць на звод на той астатні* (Я. Колас. Новая зямля). *Калі корму досыць маеш, падкармі больш свінку, мо' якую захаваеш на вялікдзень шынку* (Я. Колас. Пісьмо з астрога). *Можа пройдземся з вамі ў калгас, калі часу не шкода?* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Каб ведаў, то наўрад бы падаў яму руку, не толькі не звярнуўся б да яго з такой просьбай* (Я. Колас. Малады дубок).

У галоўную частку такіх складаназалежных сказаў (у прыватнасці, сказаў з дададнымі часткамі, якія звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучнікаў *як, каб,* а таксама *і*) могуць уваходзіць у якасці абавязковых элементаў словы *варта (варт), досыць, даволі, дастаткова* ў спалучэнні з інфінітывам закончанага трывання: *Але варта было Сцяпану Сцяпанавічу незнарок убачыць у доме якую-небудзь забытую Нінай рэч, як усё зноў успывала нанаверх* (У. Шахавец. Будзьце здаровы). *Даволі было кінуць гаспадарскім вокам на двор, на калгасныя будынкі, каб адчуць, што справа тут пастаўлена на добры грунт* (Я. Колас. Адшчапенец). *Варта было яму застацца аднаму, каб трывога абуджалася ў ім ізноў* (Я. Колас. Дрыгва). Параўн.: *Варта было яму застацца аднаму, і трывога абуджалася ў ім ізноў.*

У прыведзеных складаназалежных сказах сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі з'яўляюцца «інверсійнымі» і нагадваюць падобныя ж адносіны ў сказах з часавымі дададнымі (гл. § 1271, заўв.): аб галоўным факце паведамляецца ў часткі, якая сінтаксічна з'яўляецца дададнай, а аб умове — у сінтаксічна галоўнай часткі. У такіх сказах разам з асноўнымі граматычнымі адносінамі ўмовы заўважаецца адценне часавых адносін (адценне непазбежнага і хуткага ажыццяўлення выніку таго, што з'яўляецца зместам галоўнай часткі).

Адсутнасць выказніка ў галоўнай часткі аналізуемых складаназалежных сказаў звычайна не наглядаецца; магчыма толькі апушчэнне выказніка ў тым выпадку, калі выказнікам павінен быць дзеяслоў са значэннем быційнасці: *Нас і сягоння не спыніць, што дзень — то новы бой, што дзень — на іншай вышыні, над іншаю ракой* (М. Танк. Бой над Беразіной). Тут выкрышталізавалася спецыфічная разнавіднасць галоўнай часткі пытальных складаназалежных сказаў: *Што, калі не прызнае ні хата дзяцей, ні замок?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Ну што ж, калі прыйдуць?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Эліптычнае апушчэнне «агульнага» выказніка пры ўмове прэпазіцыі дададнай часткі сустракаецца, але нормай не лічыцца, параўн.: *Але гэты*

*не Грамабой, гразіць не будзе. Гэты ціханька. Калі ўкусіць, дык спатай-коў* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У галоўнай частцы могуць ужывацца суадносныя словы і словазлучэнні *тады, у тым выпадку (у тых выпадках)*, а таксама часціцы *то, так, дык*. Названыя часціцы служаць для большай акцэнціроўкі выніку, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы, і ўжываюцца толькі тады, калі галоўная частка стаіць пасля даданай (падрабязней аб гэтым гл. у § 1303): *Калі пяецца песня, тады мілей паход* (А. Александровіч. Песня). *Асабліва выразна праяўляецца паслядоўнасць у тых выпадках, калі выказнікі састаўных частак маюць розныя часавыя значэнні* («Весці АН БССР»). *«Калі пашанцуе, то і з адной калодкі можна развесці пчолкі», — гаварыў Сёмка, абціраючы цыбук проста аб халат* (Я. Колас. Калодка пчол). *«Дык, кажаце, дрэнна ў вашым калгасе?»—«Адразу было нязгорш. А потым, як стаў Цівунок старшынёю, — так яно і паехала на ніз»* (Я. Брыль. На Быстранцы). *А калі надакучыла на печы ляжаць, дык дамо табе работу* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

Названыя суадносныя словы і часціцы іншы раз могуць браць на сябе ролю галоўнага сродку сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа: *Падзялі вось сёння ўсё пораўні,* дык *на той год зноў перадзельваць давядзецца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). Аднак такія канструкцыі ўжо набліжаюцца да складаназалежных сказаў з даданымі ў функцыі выніковых (гл. § 1277).

§ 1276. Функцыю ўмоўнай даданай могуць выконваць даданыя часткі з граматычным значэннем умовы, пажадання і мэты, прадметнасці.

Зразумела, найбольш ужывальнымі ў гэтай функцыі і будуць даданыя з граматычным значэннем умовы. Значна радзей сустракаюцца ва ўмоўнай функцыі даданыя з граматычным значэннем пажадання і мэты. Што ж датычыцца даданых з граматычным значэннем прадметнасці, то іх ужыванне ва ўмоўнай функцыі надзвычай абмежавана.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем умовы (у функцыі ўмоўных) звязваюцца з галоўнай часткай злучнікамі *калі, як, раз.*

Умоўнае значэнне канструкцый са злучнікамі *калі* і *як* ускладняецца часавым адценнем. Такім чынам, гэтыя злучнікі раўназначныя, і адрозніваюцца яны адзін ад аднаго толькі стылістычна.

Злучнік *калі* ў стылістычных адносінах з'яўляецца нейтральным, а таму і самым распаўсюджаным у сказах з умоўна-выніковымі адносінамі наогул. Злучнік *як* пераважна ўжываецца ў гутарковай мове. Параўн.: *Калі хоць пад зіму не прыйдзе дадому Андрэй, муж, то вось ужо другі раз давядзецца перажываць асеннія дні ў адзіноце, на новым, усё яшчэ мала знаёмым месцы, удалёку ад свае радні, ад сваіх блізкіх сяброў* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *А калі і гэта* [калькаванне] *не ўдасца, тады можам узяць рускае слова цалкам* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускага мовазнаўства).

*Эх, Мікола, што тут цешыць? І стары, а як дзіця: не, не будзе нам жыцця, як паноў не паравешаць* (Я. Колас. Што, брат Грышка...). *Пятроў забіяцка на хутар глядзіць: «Як воўка баяцца, то ў лес не хадзіць»* (К. Крапіва. Шкірута).

Часавае значэнне злучнікаў *калі* і *як* узмацняецца ў тых выпадках, калі ў галоўнай частцы ім адпавядае суадноснае слова *тады*: *Калі вы тую кабыліцу з коньмі зловіце і прыведзяце да мяне, тады адпішу вам царства* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *Яно скварку добрую як убярэш, тады і сякерай у ахвоту намахаешся і любы краж зваліш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Умоўныя даданыя часткі са злучнікамі *калі* і *як* маюць форму двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Пануе дзень, калі змаглася ноч* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *А як песня пранясецца — колькі ў песні той нуды!* (Я. Колас. Наш родны край). *Ста-*



40. Зак. 378

*ры ўжо, рукі трасуцца часам, калі захвалюецца, недабачыць ужо крыху* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Дзень перамогі! — На поўныя грудзі дыхнулі людзі і далі, як гэтых два словы пачулі* (А. Куляшоў. Простыя людзі). *А як спаць улёгся, думкі мімаволі гаманілі ў сненні хлопчыку аб школе* (Я. Колас. У школку). *Дзяры лыкі, калі дзяруцца* (З. Бядуля. Летапісцы).

Сама спецыфіка ўмоўна-выніковых адносін звязана з тым, што дзеянні, аб якіх гаворыцца ў састаўных частках такіх складаназалежных сказаў, у большасці выпадкаў можна аднесці да любога часу. А таму ў якасці даданых часта ўжываюцца безасабовыя ці інфінітыўныя канструкцыі. У прыватнасці, такія канструкцыі ўжываюцца ў якасці ўмоўных даданых значна часцей, чым у сказах з іншымі сінтаксічнымі адносінамі. *Хіба елка прасторы зазнае якія ў жыцці, калі елцы ад бору да вёскі ніяк не дайсці?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *І жарт мой, порахам пракуран, не можа смехам не згадаць натуру караля Батуры, калі смяяцца не шкада* (У. Хадыка. Я доўга і ўпарта марыў).

Заўвага. Даданыя часткі маюць форму інфінітыўнага сказа звычайна ў навуковым і дзелавым стылях. Форму ж абагульнена-асабовага сказа маюць даданыя ў размоўна-бытавых стылях; асабліва часта такія сказы з'яўляюцца прыказкамі і прымаўкамі, параўн.: *Калі робіш укупе, не баліць у пупе* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

Адсутнасць выказніка ва ўмоўных даданых — з'ява рэдкая. Тлумачыцца такая адсутнасць або эліпсісам — пропускам таго дзеяслова, які ўжо быў ужыты ў папярэдняй частцы, або апушчэннем дзеяслова з агульным значэннем дзеяння ці быційнасці. Напрыклад: *Ісці засталося небагата, кіламетраў з восем, калі прасцяком* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Да каго ж мне звярнуцца, як не да вас, таварышы чырвонае войска?* (Я. Колас. Дрыгва). *«Я буду табе табаку церці, — пісаў ён далей, — богу маліцца, а калі што, то лупцуй мяне, як сідараву казу»* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Ванька).

Апошні сказ з'яўляецца прыкладам устойлівай сінтаксічнай канструкцыі, якая часта ўжываецца ў размоўным стылі. Параўн. і ў народных казках, апрацаваных А. Якімовічам: *«Дык гэта ж,—кажуць слугі,— наш дурань дыміць там. Ён ужо і свінку тую вядзе».—«Не можа быць!— дзівяцца шваргы. — Пойдзем самі паглядзім. І калі што, дык выпрасім у яго свінку або адбярэм»* (Бацькаў дар).

Наогул умоўныя даданыя часткі нярэдка могуць набліжацца па сваму значэнню да ўстойлівых моўных штампаў: *калі дазволіце, калі не супярэчыце, калі не памыляюся, калі спатрэбіцца, калі патрэбна, калі прызнацца, калі вам хочацца* і інш. Трацячы сваё граматычнае значэнне ўмовы, яны могуць пераходзіць у пабочныя словазлучэнні і сказы. Параўн. паступовае аслабленне ўмоўнага значэння ў сказах: *Вядома, прыказкі ў пераважнай сваёй большасці, калі не ўсе, утварыліся інтуітыўна* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Не стрывай я, разгарнуўся — я ж вам, ягамосці! Пачакайце ж, калі гэтак!* (Я. Колас. Як і калісь). *А ўжо ж, калі па праўдзе казаць, то і я заглядваў на яе* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Чортава дзейка зачаруе, калі хочаш, мяне* (там жа). *Калі сонца прыпякае, недалёка бор. Калі ласка, пад зялёны пад яго шацёр* (А. Астрэйка. Галодны стэп).

Заўвага. У гутарковай мове (а таксама ў мове мастацкай літаратуры) часта сустракаюцца складаназалежныя сказы з даданымі часткамі ў функцыі ўмоўных, якія звязваюцца з галоўнай не злучнікамі, а пры дапамозе іншых граматычных сродкаў — суадносных слоў, часціц, форм дзеясловаў-выказнікаў і г. д. У такіх сказах першая частка заўсёды мае значэнне ўмовы. Структурна яна можа быць аформлена або як аднасастаўны сказ (поўна-асабовы, няпоўна-асабовы, абагульнена-асабовы, няпоўны ці інфінітыўны), або як двухсастаўны сказ з дзеясловам-выказнікам у форме адзіночнага ліку загаднага ладу са значэннем умоўнага ладу. Галоўная частка размяшчаецца заўсёды пасля даданай. У складзе галоўнай могуць быць часціцы *то, дык*, суадноснае слова *тады*. *Зможаш ворага, дык хутка вяртайся дахаты* (М. Чарот. Развітанне). *Выменці гэты кацялок бульбы, то яно не дзе дзенецца* (К. Крапіва. Партызаны). *Знаеце вы*

*налібоцкія сосны? Не бачылі — дык і свае нам зашмат не хваліце* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Дай матэрыял ім толькі, зробіць бы цуды змаглі* (М. Танк. Пра сябе). *Траім сесці, дык нечага есці* (народн.). *Астанься бацька ўдому, дык тады пальцамі затыкаюць* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»).

Дзеяслоў-выказнік даданай часткі можа выражацца формай умоўнага ладу, — у такіх выпадках умова з'яўляецца толькі пажаданай, мяркуемай або нават немагчымай, ірэальнай: *Напэўна, калі б Ліда была такая шчарбатая, як і яе маці, то наўрад ці з'явіліся б у яго такія... парыванні* (Я. Колас. На ростанях). *«Ладна!» — кажа земскі. Я думаю, што «ладна»! Калі б я быў на яго месцы, то і я сказаў бы «ладна»* (Я. Колас. Выбар старшыні).

Заўвага. Умоўная часціца *б* у такіх сказах звычайна размяшчаецца непасрэдна за злучнікам. Гэта дазваляе сцвярджаць, што ёсць тэндэнцыя, якая можа прывесці да сфарміравання новага ўмоўнага злучніка *калі б*.

Умоўныя даданыя часткі са злучнікам *раз* маюць прычыннае адценне. У такіх сказах рэальны факт, аб якім гаворыцца ў даданай часцы, з'яўляецца ўмовай і абгрунтаваннем другога факта: *«Пражылі мы сваё жыццё. Дзеці заступяць наша месца, — разважала Тацяна, — а раз яны хочуць жыць у калгасе, дык навошта станавіцца ім упоперак дарогі?»* (Я. Колас. Адшчапенец). *А раз ён чалавек падазроны, то ён, напэўна, сацыяліст або, па меншай меры, забастоўшчык* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *І раз гэта не дазволена цыркулярна, дык і не можна* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Чалавек у футляры).

Характар і будова даданай часткі са злучнікам *раз* такія ж, як і ўмоўных даданых са злучнікамі *калі* і *як*.

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі ўмоўных звязваюцца з галоўнай злучнікамі *каб* і *абы*.

Гэтыя злучнікі ў даданых частках з умоўнай функцыяй надзвычай блізкія да злучніка *калі* з умоўнай часціцай *б*. Яны звязваюць з галоўнай часткай такія даданыя, у якіх умоўнае значэнне сумяшчаецца з адценнем пажаданасці, дапушчальнасці (ірэальнасці, гіпатэтычнасці): *Я ж кажу, каб ды гэта на мяне, я б пехам пайшоў* (Ц. Гартны. На новым месцы). *Наўзахапы бяруць, абы адно з'явіцца на складзе, так зараз і няма...* (К. Чорны. Вясна).

Структура даданай часткі са злучнікамі *каб* і *абы* ва ўмоўнай функцыі нічым не адрозніваецца ад структуры ўмоўных даданых са злучнікамі *калі* і *як*, параўн.: *Вёрст прабеглі* [дзеці] *нямала і беглі б, не чуючы ног, каб рагатая служка не ўпала ўміраць на мурог* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Каб апісаць усё па парадку, то трэба было б вельмі многа пісаць* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Ён любую казку расказа, абы яго добра папрасілі* (народн.). *Каб траха, дык пападрываліся б жанкі* (К. Чорны. Вясна). *Каб па дзесяцера на сані, дык і то ўсіх не забраў бы* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

З прыкладаў відаць, што дзеяслоў-выказнік галоўнай часткі заўсёды мае форму ўмоўнага ладу (ці іншага ладу ў значэнні ўмоўнага).

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі ўмоўных звязваюцца з галоўнай злучальным словам *што*. Аднак злучальнае слова ў такіх канструкцыях не бярэ поўнасцю на сябе ўвесь цяжар сувязі. Сувязь частак ажыццяўляецца тут і з дапамогай лексічных сродкаў: у складзе даданай часткі абавязкова павінна быць слова *датычыцца (датычыць)*, якое кіруе родным склонам назоўніка (у гутарковай мове замест слоў *датычыць, датычыцца* можа быць прыназоўнік *да* ці *наконт*, якія таксама патрабуюць формы роднага склону назоўніка): *Што датычыцца сатырычнай камедыі, то для яе з'яўляюцца абавязковымі ўсе тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца сатыры наогул* (К. Крапіва. Канфлікт — аснова п'есы). *Што да рускай мовы, дык яна для развіцця беларускай мовы і для беларускай культуры мае асаб-*

*ліваe, выключнае значэнне* (К. К р а п і в а. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы). *А што наконт вайкоў, дык у той час людзі больш баяліся фашыстаў, чым вайкоў* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы).

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ВЫНІКОВЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1277. Даданыя часткі, якія ў складаназалежным сказе ўжываюцца ў функцыі выніковых, указваюць на вынік таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай. Галоўная частка змяшчае ўмову, нярэдка з адценнем прычыны або падставы. Апорным элементам галоўнай часткі ў такіх складаназалежных сказах з'яўляецца п р э д ы к а т ы ў н а е с л о в а з л у ч э н н е з цэнтрам цяжару на выказніку (на асноўным, які звычайна выражаецца асабовай формай дзеяслова, або нават на другарадным, які выражаецца дзеепрыслоўем).

Сродкамі сувязі даданай выніковай часткі з галоўнай з'яўляюцца тыя суадносныя словы (або часціцы, што ў некаторай меры бяруць на сябе роль суадносных слоў), якія ўжываюцца ў пачатку галоўнай часткі сказаў з даданымі ўмоўнымі: *тады, то, так, дык. Ты павінен пайсці... Натрапіш на дарозе на якую машыну ці фурманку, тады і мяне падбярэш* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ось як тузану, то ты і ногі задзярэш* (Я. К о л а с. Знайшлі!). *Мы ўсе адзін аднаго павінны трымацца, дык гуртам і выйдзе нешта* (К. Ч о р н ы. Вясна).

На базе гэтых сродкаў сувязі, якія, вядома, яшчэ нельга назваць у поўным сэнсе гэтага слова злучнікамі, складваюцца і спецыфічна выніковыя злучнікі *дык, так што, а то: «Ты тычкі пусціў наўкасы, — гаворыць Яўхім, — дык з таго канца не то што паўсажня, а на цэлую ляйчыну ты ў маё залез»* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Я ўсё ўправіла, дык я так пайду* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Гурба стаяў недалёка ад зменшчыка, але за яго спіною, так што той яго не бачыў* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне). *Ну, годзе валаводзіць! Адчыняй па-добраму, а то кепска будзе* (К. К р а п і в а. Канец дружбы).

Прыведзеныя сказы сведчаць аб тым, што ў сучаснай мове пачынае складвацца новы тып даданых частак — даданыя з граматычным значэннем в ы н і к у.

З а ў в а г а. У ролі сродкаў сувязі даданых частак, што ўжываюцца ў функцыі выніковых, з галоўнай часткай выступаюць і лексічныя сродкі: словазлучэнні *ў выніку чаго, ад чаго,* пабочнае слова *значыць,* прыслоўе *таму* (апошняе ўказвае на прычынна-выніковыя адносіны, падрабязней аб ім гл. у § 1208): *Словы і ўчынкі Сганарэля матываваны негрунтоўна, у выніку чаго змест вобраза цяжка ўявіць* (А. Б я с т у ж а ў. «Каменны ўладар»). *«Жураўлі ляцяць нізка — значыць, вясна блізка»,— сказаў дзядзька Яўхім* (С. А л е к с а н д р о в і ч. Ад роднае зямлі). *Відаць, утаміўся за ўчарашні дзень і вечар, таму і заснуў так моцна* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ З ДАДАНЫМІ ЎСТУПАЛЬНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1278. Даданыя часткі, якія ў складаназалежным сказе ўказваюць на ўмову, а ў галоўнай гаворыцца аб тым, што адбываецца наперакор гэтай умове, носяць назву ў с т у п а л ь н ы х. Па сутнасці тут тыя ж умоўна-выніковыя адносіны, толькі перад намі не прамая, а адваротная абумоўленасць.

Апорным элементам галоўнай часткі ў сказах з такімі адносінамі з'яўляецца п р э д ы к а т ы ў н а е с л о в а з л у ч э н н е. Прычым нярэдка ў склад апорнага элемента ўключаюцца і даданыя члены, якія адносяцца да дзейніка або выказніка, а таму атрымліваецца, што даданая частка ў такіх складаназалежных сказах фактычна адносіцца да ўсёй

галоўнай часткі ў цэлым: *Усе запісы арыентаваліся на традыцыйныя гаворкі, хаця адзначаліся і новыя з'явы, асабліва ў лексіцы* (Д. Цялянцюк. Лунінецкія гаворкі). *Сееш многа ты і дбалы, хоць скупое тваё жніва...* (Я. Колас. Эй, скажы мне, небарача...).

Сама галоўная частка можа мець форму як двухсастаўнага, так і аднасастаўнага сказа (з абавязковым членам сказа — выказнікам). У апошнім выпадку апорным элементам будзе толькі выказнік — адзін або разам з даданымі членамі, якія да яго адносяцца: *І хоць твор гэты друкавацца не можа, аднак праз яго можна зацікавіцца аўтарам* (К. Чорны. Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў). *Хоць білі гарматы па сыну Урала, ды бронь баявую снарадам не брала!* (А. Вялюгін. Балада аб уральскім танку).

Заўвага. Выпадкі апушчэння выказніка ў галоўнай частцы наглядаюцца рэдка, ды і то толькі тады, калі выказнікам павінен быць дзеяслоў з самым агульным значэннем быційнасці, знаходжання і г. д.: *Хоць пасівеў стары зашмат, але на працы, як салдат* (П. Броўка. Лясы наддзвінскія).

Граматычныя адносіны адваротнай абумоўленасці збліжаюцца з супраціўнымі адносінамі, а таму галоўная частка такіх сказаў (калі яна ў постпазіцыі) нярэдка можа пачынацца супраціўнымі злучнікамі *а, але, аднак, ды,* часціцай *дык,* словазлучэннем *тым не менш: «Хоць бы ты мне аддала гэтага лесніка, — жартліва шчабятала Кацярына: — ён хоць і не надта харошы, але ж сурдут чаго варты!»* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Разявіў пасць Гітлер шырока — ён хоча ўвесь свет праглынуць. Хоць бачыць бандыцкае вока, ды воўчыя зубы не ймуць* (Я. Колас. На восі Рым — Берлін). *Хаця ў асобе аўтара «Гапона» і «Шчароўскіх дажынкаў» мы маем, бясспрэчна, прадстаўніка ліберальна-дваранскай літаратуры, тым не менш яму нельга адмовіць у праўдзівым, аб'ектыўным адлюстраванні многіх тыповых з'яў і рысаў жыцця і побыту сялянства, яго катаржнай долі ў ярме прыгонніцтва* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч).

Такія сказы, вядома, нельга безагаворачна адносіць да складаназалежных, паколькі тут ёсць і элементы залежнасці, і элементы злучэння. Яшчэ бліжэй да складаназлучаных стаяць сказы, дзе асноўную ролю сродку сувязі даданай часткі з галоўнай пры ўступальных адносінах бяруць на сябе супраціўныя злучнікі або часціца *дык: Пара б і вучыцца, дык школы няма, і панскія школы не вучаць дарма* (Я. Колас. Радасная сустрэча).

§ 1279. У функцыі ўступальных у сучаснай мове выступаюць даданыя часткі з граматычным значэннем дапушчэння. Звязваюцца яны з галоўнай часткай злучнікамі *хай (няхай), хоць (хаця);* спалучэннямі займеннікаў *хто, што, колькі, які, каторы* або займеннікавых прыслоўяў *як, дзе, куды, адкуль* і г. д. з узмацняльнай часціцай *ні;* спалучэннямі *дарма што* і *нягледзячы на тое што.*

Даданая частка ў сказах з такімі сінтаксічнымі адносінамі не вызначаецца спецыфічнымі рысамі: яна можа мець форму як аднасастаўнага, так і двухсастаўнага сказа. Наяўнасць выказніка ў даданай — норма сучаснай мовы. Апускацца можа толькі такі выказнік, які мае самае агульнае значэнне (быційнасці, знаходжання і г. д.): *Наша воля неўмíруча, хоць і пад замкамі* (М. Хведаровіч. Алесь Камінскі).

Найбольш ужывальным і стылістычна нейтральным з'яўляецца злучнік *хоць (хаця).* Звычайна ён размяшчаецца ў пачатку даданай часткі, аднак магчымы і выпадкі інверсіі: *Глядач не можа зрабіць чоткага і канкрэтнага вываду з усяго бачанага на сцэне і, натуральна, застаецца некалькі нездаволеным, хоць увесь спектакль пастаўлены мастацкі ярка і выразна* (А. Бястужаў. «Каменны ўладар»). *Яно не ганьба хоць — сабе дабра жадаць, але ў Каня ўжо, як відаць, жаданне ў манію вялічча перайшло* (К. Крапіва. Саманадзейны Конь).

Значна радзей ужываецца злучнік *хай (няхай)*. Сказы з гэтым злучнікам характарызуюцца адценнем размоўнасці: *Напішу я такую аповесць, хай сівой абрасту барадою* (У. Хадыка. Пры дарозе, дзе жоўтыя травы...). *Ветры не спужаюць — хай мароз і снег* (М. Хведаровіч. Маці). *Няхай імя яго было нам невядома, — мы неслі ўсе яму свой лепшы шчыры дар* (П. Глебка. Песня).

Пры злучніку *хай (няхай)* можа быць часціца *сабе: Хай сабе здрадніцкі погляд у ворага, мы не адступім ні на пайшэлега* (М. Хведаровіч. Торф).

Не вызначаюцца асаблівай частатой ужывання і спалучэнні займеннікаў ці прыслоўяў з часціцай *ні*, якія выступаюць у функцыі ўступальных злучнікаў. Гэтыя спалучэнні *(хто ні, які ні, як ні, дзе ні* і пад.) указваюць, што, нягледзячы на ўзмоцненае праяўленне дзеяння або прыметы, аб якіх гаворыцца ў дададай частцы, атрымліваецца вынік, супрацьлеглы таму, якога трэба было б чакаць: *Але які б ні быў актуальны, свежы, сучасны матэрыял, ён яшчэ не вырашае справы напісання паўнацэннага мастацкага твора* (Я. Колас. Уступная прамова на III з'ездзе савецкіх пісьменнікаў БССР). *І як ні спрабуюць, але адарвацца не могуць* [ветракі] *ніяк ад калгасных алей* (А. Астрэйка. Ветракі).

Састаўны злучнік *нягледзячы на тое што* сустракаецца пераважна ў публіцыстыцы, а іншы раз — і ў мове мастацкай літаратуры: *Нягледзячы на тое, што давялося несці на плячах тол і боепрыпасы, адстаючых не было* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Злучнік *дарма што*, наадварот, наглядаецца ў размоўным стылі: *Так і карцела кожнаму пахваліцца: «А мой бацька таксама партызан!» Але Паўлік мужна хаваў даручаную тайну, дарма што быў маленькі* (І. Шамякін. У Маскву). Дарэчы, сам злучнік *дарма што* разам з уступальнай дададай часткай, куды ён уваходзіць, нават у сучаснай мове яшчэ можа ўспрымацца як складаназалежная канструкцыя, дзе безасабова-прэдыкатыўнае слова *дарма* — выказнік галоўнай часткі, усё ж астатняе — гэта дададзеная дзейнікавая частка са злучальным словам *што: Зрэшты, сядзібу нашу — дарма, што не быў столькі год—я пазнаў бы, здаецца, і вобмацкам* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага. У сучаснай мове сустракаюцца выпадкі кантамінацыі злучніка *хай сабе (няхай сабе)* са злучнікамі *дарма што, нягледзячы на тое што*. У выніку атрымліваюцца новыя злучнікі *хай сабе што, няхай сабе што: Мы яшчэ з лясамі пагаворым, араход насыплем у прыпол, хай сабе што восеньскія зоры, як апорты, падаюць на дол* (П. Броўка. Канец лета). *Няхай сабе што работа была нялёгкая, бадзёрасць не пакідала моладзь* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

## ПРЫЧЫННЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1280. Прычыннымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі дададая частка ўказвае на прычыну або абгрунтаванне таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай.

Самі паняцці прычыны і абгрунтавання (падставы) надзвычай блізкія, і не заўсёды можна дакладна адрозніць, дзе прычына, а дзе абгрунтаванне (падстава) таго або іншага дзеяння, факта, з'явы. І толькі ў пасобных выпадках гэтыя адносіны праяўляюцца даволі выразна. Напрыклад: *Ці таму гарую, што шукаў на свеце я святла і сонца і ўздыхаў па леце* (Я. Колас. Пытанне). *Гэтая размова скора перайшла ў сварку, бо пан Зыгмусь наадрэз адмовіўся падзяліцца бульбай* (Я. Колас. Хатка над балотцам). У гэтых сказах заўважаюцца прычынныя адносіны. У наступных жа сказах ярчэй выступаюць адносіны абгрунтавання (падставы): *Зямля вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхняя зямля з дзядоў, прадзядоў* (К. Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» № 7). *А няйначай — ў задуменні аступіўся ён, упаў ды пабіўся аб бярвенне, бо дзе ж дзеўся ён, прапаў?* (Я. Колас. Прапаў чалавек). У апошніх

сказах дадзеныя часткі не ўказваюць на прычыну. І сапраўды, прычына не ў тым, што невядома, дзе ж мог падзецца чалавек. Дадзеная частка толькі дае абгрунтаванне здагадкам, дае права меркаваць, што чалавек аступіўся, упаў і пабіўся аб бярвенне.

Галоўная частка ў складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі звычайна мае форму поўнага двухсастаўнага сказа. Радзей сустракаюцца выпадкі, калі галоўная частка з'яўляецца аднасастаўнай канструкцыяй (пэўна-асабовай, няпэўна-асабовай, абагульнена-асабовай ці безасабовай). *Загіне вораг беззваротна, бо шлях вядзе іх к знебыццю* (Ц. Г а р т н ы. За свабоду). *Можа будзеш інжынерам, можа аграномам, бо ж нам вольны ўсюды дзверы, дома і за домам* (Я. К о л а с. Шчаслівая хвіліна). *Не падыходзь блізка да аконца, маці мая родная, бо пан убачыць ды злымі сабакамі зацкуе!* (З. Б я д у л я. За тканінай). *Але шкада маткі, бо яна нездараўчаная вельмі* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Скажам, аб вадзе гамонкі не было спрадвек, бо хапала нам заўсёды і азёр і рэк* (А. А с т р э й к а. Галодны стэп).

Пропуск дзейніка ў галоўнай частцы ў пэўных выпадках можа тлумачыцца і тым, што дзеючая асоба (прадмет) упаміналася ў папярэднім кантэксце або назва гэтай жа асобы (прадмета) з'яўляецца дзейнікам і ў дадзенай частцы: *Вось чаму д з я д з ь к а пільна сачыў, каб ніводнага палена не знайшлося такога, што б не падышло пад меру або перабрала гэтую меру. Злажыў сажань акуратненькі, бо не любіў рабіць абы-як* (Я. К о л а с. Дзядзькаў сведка). *З далёкіх прывалаў пасля перамогі вярнуўся, бо ў гэта я верыў* (М. Х в е д а р о в і ч. Родны горад).

Апорным элементам галоўнай часткі ў сказах з прычыннымі адносінамі выступае н е п р э д ы к а т ы ў н а е с л о в а з л у ч э н н е: выказнік з акалічнасцю або выказнік з дапаўненнем. У такіх непрэдыкатыўных словазлучэннях пры акалічнасці або дапаўненні могуць быць свае дададзеныя члены (іншыя акалічнасці, дапаўненні ці азначэнні), якія, аднак, толькі канкрэтызуюць асноўны член непрэдыкатыўнага словазлучэння, што знаходзіцца пры выказніку. Параўн.: *Ён рваў яблыкі. — Ён рваў яблыкі зялёныя (таму што спелых ужо не было).* У апошнім сказе прычынная дадзеная частка фармальна адносіцца да слова *зялёныя*, аднак фактычна гэта азначэнне толькі канкрэтызуе дапаўненне *(яблыкі—яблыкі зялёныя)*, якое ўтварае непрэдыкатыўнае словазлучэнне з дзеясловам-выказнікам *рваў*.

Непрэдыкатыўнае словазлучэнне, з'яўляючыся апорным элементам галоўнай часткі, можа згортвацца да аднаго выказніка: *Пастушкі выбягалі на дарогу паглядзець на пана, бо пан выдаваўся ім не толькі казачна багатым, але наогул чымсьці не з гэтага свету* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). Апорным элементам галоўнай часткі ў гэтым сказе будзе словазлучэнне *выбягалі паглядзець на пана.* У наступных жа сказах апорным элементам будзе толькі выказнік: *Сядзь бліжэй, а я п р ы л я г у, бо штосьці ные трохі бок* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Ён дробна кашлянуў і пахваліў кагосьці: «От м а л а д з е ц, што дагадаўся прыпыніцца»* (К. Ч о р н ы. Вясна).

З а ў в а г а. У складаназалежных сказах, дзе выказнікам галоўнай часткі з'яўляецца назоўнік — назва асобы (са значэннем ацэнкі: *маладзец, дурань, шляпа, варона, галава* і інш.), паміж састаўнымі часткамі ўстанаўліваюцца яскравыя адносіны абгрунтавання (падставы).

У галоўнай частцы складаназалежных сказаў з прычыннымі адносінамі могуць ужывацца суадносныя словы *таму, таго* (размоўн.), *затым, загэтым, затое, адтаго, дзеля таго*, словазлучэнні *па той прычыне, з той прычыны* і г. д., а таксама часціцы *то* і *дык*. Суадносныя словы (так як і словазлучэнні і часціцы ў функцыі суадносных слоў) у сказах з прычыннымі адносінамі адыгрываюць важную ролю як дапаможны сінтаксічны сродак сувязі састаўных частак, і ўжыванне іх залежыць ад гра-

матычнага значэння даданай часткі, якая выступае ў прычыннай функцыі. Калі даданая, якая ўжываецца ў гэтай функцыі, мае і граматычнае значэнне прычыны, то суадносныя словы ў галоўнай частцы становяцца непатрэбнымі. Наадварот, калі даданая мае іншае граматычнае значэнне, то суадносныя словы, як правіла, з'яўляюцца неабходным граматычным сродкам для больш яскравага выражэння прычынных адносін. Параўн.: *Вось і сонца не відаць, бо за хмары легла спаць* (М. Хведаровіч. Першы дожджык). *Перад імі стаіць небяспека — бязглузда загінуць. Бязглузда, паўтараю, таму што становішча іх — і ўсіх вашых войск — безнадзейнае* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

*Таму Янка і галее, што папраўдзе жыць умее* (Я. Колас. Як Янка забагацеў). *Ў белым паркалю палянкі — бацьку ж весела таго, што сягодня яго Янку адзвінела дзевяць год!..* (Ю. Лявонны. Па дарозе...). *Галаву ён заўсёды трымаў панура і з цяжкасцю яе паварочваў, магчыма адтаго, што шыя ў яго была вельмі кароткая; хадзіў подбегам і не размахваў, а разводзіў на хаду сціснутымі рукамі* (У. Ляўданскі. Пераклад з І. Тургенева. Пастаялы двор). *«Ну, вось бачыш,— павярнуўся Павал тварам к начлежніку, — людзям добра, дык яшчэ шукаюць ліха ведае чаго. Цёмная вёска ім патрэбна». — «Загэтым і едзем, што цёмная. Каб была светлая — мала б мы сюды ездзілі»* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *Агулам кажучы, гаварылі яны проста затым, што мелі языкі і ўмелі сяк-так гаварыць* (К. Чорны. Максімка).

У рэдкіх выпадках суадносныя словы (або часціцы *то, дык*) могуць выконваць ролю галоўнага сродку сувязі састаўных частак. Гэта звычайна бывае тады, калі галоўная частка знаходзіцца пасля даданай: *Прасіла яна шчыра так, прасіла ўсю зіму, і мо' вясна аж з выраю вярнулася таму* (М. Танк. Ірынка). *Дзея яе пабудавана кінематаграфічна, таму сама аповесць становіцца падобнай на кінасцэнарый* (У. Рудман. Пад сонцам свабоднай Манголіі). *Мы з табой абодва сённі Святаслававыя дзеці, дык сядлай свае, брат, коні, коні быстрыя, бы ўсьпеці* (Я. Купала. Слова аб палку Ігаравым). *Зерне ў зямлі, то яно ўзыдзе* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

Сінтаксічныя адносіны ў такіх складаназалежных сказах маюць не чыста прычынны, а прычынна-выніковы характар.

§ 1281. Функцыю прычынных даданых могуць выконваць даданыя часткі з граматычным значэннем прычыны і падставы, прадметнасці, умовы, меры і ступені, выніку.

Часта ў прычыннай функцыі ўжываюцца толькі даданыя часткі з граматычным значэннем прычыны і падставы, а таксама прадметнасці. Даданыя ж з іншымі граматычнымі значэннямі ва ўказанай функцыі сустракаюцца надзвычай рэдка.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем прычыны і падставы ў функцыі прычынных звязваюцца з галоўнай злучнікамі *бо, таму што, затым што, адтаго што, загэтым што, дзеля таго што, па той прычыне што* і г. д. Састаўныя злучнікі з другім кампанентам *што* ўтварыліся ад зліцця былога суадноснага слова (словазлучэння) галоўнай часткі, у якім рэалізавалася ўказанне на прычыну, са злучнікам *што.*

Злучнік *бо* з'яўляецца стылістычна нейтральным граматычным сродкам і ўжываецца як у прозе, так і ў паэзіі, у гутарковай мове і ў ровных стылях літаратурнай мовы (ён мала сустракаецца хіба толькі ў адным стылі літаратурнай мовы — у дзелавой мове, у мове афіцыйных дакументаў і актаў): *Прыемна глядзець на такую ўсмешку, бо ўсе мы чакаем і хочам радасці* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Чалавек за сваё жыццё мусіць пабачыць і добрага, і дрэннага, бо «шчасце пераходзячы жыве»* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Невыпадко-*

*ва ўжо ў першай палове мінулага стагоддзя на Беларусі з'яўляецца шмат мастацкіх твораў, — на вялікі жаль, ананімных, бо іх аўтары не ставілі свае прозвішчы пад уласнымі вершамі і апавяданнямі* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч). *І слава добрая наўкруг ідзе аб нас па праву, бо наша слава, шчыры друг, — радзімы нашай слава* (П. Глебка. Радзімы нашай слава). *Чаму ж мне так нявесела? — сябе пытаю я. Нявесела, бо скончана, прайшла вясна мая!* (Я. Колас. Думкі). *Ой, лужа, мой лужа, не шумі так дужа, не задавай жалю, бо я ў чужым краю!* (Зб. «Беларускія песні»).

Астатнія злучнікі (найбольш часта з іх ужываецца *таму што*) характэрны для дзелавога, публіцыстычнага і навуковага стыляў: *Колькасць надзельнай зямлі не ўказвае прама на заможнасць двара, таму што размер надзела вызначаецца лікам рэвізскіх або наяўных душ мужчынскага полу ў сям'і і знаходзіцца толькі ва ўскоснай залежнасці ад заможнасці гаспадара* (У. Ленін. Новыя гаспадарчыя рухі ў сялянскім жыцці). *Усе запісы студэнтаў праверан ы асабіста мною, таму што я пабываў сам ва ўсіх гэтых населеных пунктах* (Д. Цялянцюк. Лунінецкія гаворкі).

Структура прычынных даданых частак нічым асаблівым не вызначаецца. Яны могуць мець форму як двухсастаўнага, так і аднасастаўнага сказа; абавязковым элементам даданай часткі з'яўляецца выказнік: *Цяпер землякі-навасёлы не кінуць нам цяжкі папрок, бо вокны асветленай школы склікаюць дзяцей на урок* (М. Хведаровіч. Дарога на Маскву). *Патушыўшы свечку, пісар да грудзей толькі нацягнуў лёгкую коўдру, бо на дварэ і ў хаце было душна, як у лазні* (Я. Колас. Злавіў!). *Прапаў заработак, прапаў ён навекі, бо верыць не будуць ні ў шэпты, ні ў лекі!* (Я. Колас. Калгаснае).

Пропуск дзейніка наглядаецца і тады, калі даданая частка знаходзіцца ў постпазіцыі (у адносінах да галоўнай), і дзейнікам у ёй павінен быць той прадмет або асоба, аб якіх гаварылася ў галоўнай частцы. Такое эліптычнае апушчэнне дзейніка ў даданай можна лічыць нормай у сучаснай мове: *А парасяткі, яе дзеці, ўсяму дзівілісь нескан-чона, бо надта рохкалі здзіўлёна* (Я. Колас. Новая зямля). *Я ж гадзіннік з сабой захапіў, час па ім назіраю, бо шчаслівцам ніколі не быў, быць такім не жадаю* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі прычынных звязваюцца з галоўнай злучнікам *што*. Гэты злучнік не з'яўляецца спецыфічна прычынным (хоць у паасобных выпадках і наглядаецца прычыннае значэнне формы вінавальнага склону займенніка *што*, якая знаходзіцца ў стадыі адвербіялізацыі; адсюль жа, як вядома, адзін крок да ўжывання такой формы ў ролі злучніка). А таму звычайна для больш чоткага выражэння прычынных адносін у склад галоўнай часткі ўводзіцца дапаможны сродак сувязі — суадноснае слова (*таму, затым, загэтым* і г. д., гл. § 1280): *Жыла ў ім цяга да роднай сялібы. Можа таму яна і паглыблялася, што жыццё сваё бацька правёў на калёсах, заўсёды ў руху, вечна далёка ад сваёй сялібы і сям'і* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Жыць яму з маладою цяжка таму, што і ёй з ім цяжка* (К. Чорны. Вясна). *Аднак дзеля таго, што людзі яе не разумеюць і, наогул, людзі — стварэнні грэшныя, недастойныя яе ўвагі і дабраты, яна ўсю сваю дабрату і клопаты аддае не ім* (З. Бядуля. Салавей).

Адзін злучнік *што* (без дапамогі суадноснага слова) ужываецца для выражэння прычынных адносін толькі тады, калі выказнік галоўнай часткі мае дапаўненне або калі ён наогул не патрабуе пры сабе дапаўнення (а патрабуе акалічнасці прычыны): *Смяецца троп мой, з кветак тканы, што ў чыстым прадзеве яго шукае, дзеўкай ашуканы, хлапец няведама чаго* (У. Хадыка. Песні з поўдня). *Злосна вам, сыны заморскі, завідна,*

*панята, што славянская зямелька у розум багата* (В. Дунін-Марцінкевіч. Верш Навума Прыгаворкі на прыезд да Менска Косткі, Сыракомлі і Манюшкі). *Агідна робіцца на сэрцы і душы, што там — за пагранічнымі слупамі — за войнаў будучых п'юць подла барышы* (Я. Купала. Старыя акопы). *Хлебароб, аддаўшы сілы свайму полюніве, усміхнецца табе міла, што ты урадліва* (Ц. Гартны. Красуй, збожжа!).

Структура даданай часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў прычыннай функцыі, як відаць з прыкладаў, не мае ніякіх спецыфічных асаблівасцей.

Заўвага. Асобную групу ўтвараюць складаназалежныя сказы з даданымі, што маюць граматычнае значэнне прадметнасці, у якіх прычынныя адносіны выражаюцца на першы погляд не зусім звычайна: у іх на прычыну (падставу) хутчэй указвае галоўная частка ў форме пытальнага сказа: *Дзе ж вы, дзе, браты-сяляне, што нідзе вас не чуваць?* (Я. Колас. Поле). *Ці то кепска сонца свеціць над табою, што зрасла ты густа дзікаю травою?* (Я. Колас. Мужычая ніва). *Дзе ты, хмелю, ўлетку цвёў, што засох без следу?* (Я. Купала. Дзе ты, хмелю, зімаваў?..).

Па паходжанню такія сказы з'яўляюцца эліптычнымі канструкцыямі, дзе другая частка — гэта абгрунтаванне запытання. Само ж слоўнае выражэнне пытання апускаецца. Параўн.: *Ці то сэрца ў вас цвярдзей каменя, што ад вас браты адракаюцца?* (Я. Колас. Сябрам-выгнаннікам). *Ці то сэрца ў вас цвярдзей каменя? — пытаюся я таму, што ад вас браты адракаюцца.*

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем умовы ў функцыі прычынных звязваюцца з галоўнай злучнікам *як*. Ужыванне злучніка *як* мае яркі адбітак гутарковасці: *Бадай пану ў двары страшна, як нам ў полі сонца зайшло* (Зб. «Беларускія песні»). *А як цяпер быў кут пастаў, то там Алесь прымайстраваўся* (Я. Колас. Новая зямля).

Пры размяшчэнні даданай часткі перад галоўнай у апошняй ужываецца часціца *то (дык)*.

4. Даданыя часткі з граматычным значэннем меры і ступені ў функцыі прычынных звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучніка *паколькі*. Гэты злучнік характэрны для навуковага і публіцыстычнага стылю: *У жывой народнай мове была пэўная сельскагаспадарчая, тэхнічная і вытворчая тэрміналогія, паколькі людзі займаліся сельскай гаспадаркай, рамёствамі, працавалі на заводах і фабрыках* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы).

5. Даданыя часткі з граматычным значэннем выніку ў функцыі прычынных звязваюцца з галоўнай злучнікам *а то*: *Вады дастаць бы, а то ў роце горка* (М. Танк. Нарач). *Сціхні, годзі, а то брыдка: хто не бачыў тваіх слёз?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Я там хоць хлеба ўволю наемся, а то дома вашы жонкі мне есці не даюць* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

Сказы з гэтым злучнікам носяць яркі размоўны характар. Граматычныя адносіны паміж састаўнымі часткамі тут не чыста прычынныя, а хутчэй за ўсё павінны разглядацца як адносіны абгрунтавання (падставы).

Заўвага. Прычынныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складанага сказа могуць выражацца і іншымі сродкамі, у прыватнасці злучнікам *каб* (пры умове, калі ў галоўнай частцы ёсць суадноснае слова *таму*), параўн. у вершы П. Труса: *Таму ў грудзях маіх цячэ крыніца сокаў жыватворчых, каб сэрца білася ярчэй і растапіла ў сабе горкасць.* Прычынныя адносіны могуць выражацца нават злучальным злучнікам *і*: *Звычайна ж працы на пароме амаль што не было, і Сілівон быў заняты тады больш вартаваннем калгаснага лугу, чымся самой пераправай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Сказы, падобныя да апошняга, маюць пераходны характар: па форме яны складаназлучаныя, ■ з боку сінтаксічных адносін — складаназалежныя (падрабязней аб іх гл. у § 1030).

## МЭТАВЫЯ АДНОСІНЫ

§ 1282. Мэтавымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі даданая частка ўказвае на мэту або прызначэнне таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай.

Апорным элементам галоўнай часткі ў складаназалежных сказах з мэтавымі адносінамі з'яўляецца непрэдыкатыўнае словазлучэнне — група выказніка, г. зн. выказнік з дадзенымі членамі, якія да яго адносяцца: *Каб вечна аб дзяцях жылі успаміны, сходзіў ён да лесу па клён і рабіну* (П. Броўка. Брат і сястра). *Ён ідзе ваенную дарогай праз агонь варожы і франты, каб ізноў на вольныя разлогі, на радзіму мог вярнуцца ты* (М. Танк. Н. А.).

Галоўным членам апорнага словазлучэння выступае выказнік; нярэдка апорны элемент можа зводзіцца да аднаго толькі выказніка, параўн.: *«Як з Мопрам?» — «Патроху... ідзе...» — «Што значыць патроху? налягай, брат, каб Мопр працаваў добра»* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Ролю апорнага элемента можа выконваць і дзеепрыслоўнае словазлучэнне або адно дзеепрыслоўе, якое ў сказе выступае ў функцыі другараднага выказніка: *Асцерагаючыся ступаць, каб не ўразіць абадранай нагі, ён прайшоў некалькі крокаў, мінуў сваю хату і прыпыніўся каля адчыненых варот суседняга двара* (К. Чорны. Зямля).

У якасці апорнага элемента галоўнай часткі можа выступаць і назоўнік (іменная частка выказніка): *А ты не Хрыстос, каб паднімаць мёртвых* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Я толькі заездам сюды, падарожнік, каб горы твае асвяціць на хвіліну агнём маёй зоркі пякучатрывожным, а потым вярнуцца да роднай краіны* (П. Панчанка. Я ўсё пераблытаў — дзе мора, дзе неба...). У такіх сказах даданая частка ўказвае не столькі на мэту, колькі на прызначэнне таго, аб чым ідзе гутарка ў галоўнай частцы. Падобнае ж значэнне маюць і сказы, дзе выказнікам галоўнай часткі выступае прыметнік (з нулявой або лексічна выражанай звязкай): *Хіба ён маленькі ці што, каб сядзець на мяшках?* (І. Шамякін. У Маскву). *Не такі ўжо вы маленькі, каб нічога не ведаць* (Я. Скрыган. Сустрэчы).

Заўвага. У выніку апушчэння злучніка падобныя канструкцыі ператвараюцца ў простыя сказы: *А Іван, лежачы на печы, адказвае: «Што я — дурань хадзіць за другіх?»* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *«На калектыў купляў?» — «Уга! Што я — дурны на калікцыў купляць?»* (Я. Скрыган. Непатрэбны чалавек).

У галоўнай частцы складаназалежных сказаў з мэтавымі адносінамі могуць быць суадносныя словы *для (дзеля) таго, на тое, затым, з тым, замест таго,* словазлучэнні ў ролі суадносных слоў *з той мэтай, у імя таго,* а таксама часціцы *то, дык* (калі галоўная частка размяшчаецца пасля даданай). Аднак ужыванне суадносных слоў і часціц нагдядаецца не часта, і носіць яно абавязковы характар толькі тады, калі ў галоўнай частцы ёсць абмежавальныя ці ўзмацняльна-вылучальныя часціцы, мадальныя словы або адмоўе. *Толькі для таго, каб убачыць яго* [сына], *трэба жыць* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Дасіфей Андрэіч выцягнуў шыю, падняў угару падбародак, мусіць для таго, каб сесці, як належыць, і палахліва з-пад ілба паглядзеў на жонку* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Апошняя магіканша). *Не для таго мы гэту гаворку пачыналі, каб вось так нічым не скончыць* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). На суадносныя словы ў такім выпадку падае лагічны націск.

§ 1283. У функцыі мэтавых выступаюць даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты. Звязваюцца яны з галоўнай часткай простымі злучнікамі *каб, абы* і састаўнымі злучнікамі, якія ўтварыліся ад спалучэння простага злучніка *каб* з суадноснымі словамі: *для (дзеля) таго каб, на тое каб, затым каб, з тым каб, замест таго каб.* Састаўныя злучнікі ўжываюцца рэдка; найбольш ужывальны ў сучаснай мове злучнік *каб.* У стылістычных адносінах гэты злучнік нейтральны.

Сфера ўжывання састаўных злучнікаў — дзелавы і навуковы стыль. Аднак іншы раз яны могуць сустракацца і ў літаратурна-мастацкім

стылі: *Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з маладых гадоў* (Я. Колас. На ростанях). *Замест таго каб прышываць людзям ярлыкі, вы б лепш вывучылі гэта пытанне* (К. Крапіва. Канец дружбы).

Заўвага. Злучнік *замест таго каб* мае не чыстае мэтавае значэнне, а ўказвае на замену магчымага дзеяння чым-небудзь іншым.

Структура мэтавай даданай часткі таксама вызначаецца абавязковасцю ўжывання выказніка. Даданыя могуць мець форму двухсастаўнага і аднасастаўнага сказаў: *І трэба выйсці дружным строем, — раней ад ранняе зары, — вясны навальныя настроі магутнай сіле пакарыць, каб адплаціла злая глеба за наш калішні горкі пот арудамі цяжкога хлеба, стократ узняўшы умалот* (П. Глебка. Пачатак вясны). *Ніхто не асмельваўся сказаць яму што насуперак, каб не зрабіў чаго ліхога* (А. Якімовіч. Страшны залом). *Сурвіла горадам паехаў паволі, каб не трэсла па бруку* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Структурным цэнтрам у мэтавых даданых часта бывае інфінітыў, які ўказвае на мэту таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы. Пры інфінітыве могуць быць даданыя члены, якія да яго адносяцца, аднак нярэдка сустракаюцца выпадкі, калі даданая частка выражаецца адным інфінітывам: *Так збіраліся мы у шалёных варунках, каб без жалю разбіць вас, князі і паны!* (П. Броўка. Праз горы і стэп). *Трэба ж, аднак, шукаць нейкага спосабу, каб вас адсюль выбавіць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вецер, бы знарок, суняўся, каб паслухаць... Цішыня...* (П. Броўка. Кацярына).

Такія сказы, у якіх даданая частка выражана адным інфінітывам, набліжаюцца да простых. Асабліва ярка гэта праяўляецца ў тых выпадках, калі даданая частка знаходзіцца ў інтэрпазіцыі: *Ног не чуюць ад шчасця, хапаюцца за ствалы, каб не ўпасці, малая, малы* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Ён падняў Міхалючка на рукі і паволі, стрымліваючы сябе, каб не пабегчы, панёс яго ў вёску* (К. Чорны. Вясна).

У межах складанага сказа такія канструкцыі ўтрымліваюцца толькі таму, што даданая частка захоўвае некаторыя важныя прыметы іменна часткі складанага сказа. Гэта, па-першае, наяўнасць інфінітыва-выказніка (а выказнік з'яўляецца асноўным членам сінтаксічнай канструкцыі — даданай часткі). Па-другое, у разглядаемых канструкцыях абавязкова захоўваецца наступная ўмова: дзеянне, якое паказвае на мэту, адносіцца да таго ж суб'екта, што і дзеянне галоўнай часткі: *Ля ручая умываўся салдат раніцою, каб не палохаць сустрэчных акопнай зямлёю* (А. Куляшоў. Простыя людзі). *Салдат умываўся, бо ён меў на мэце не палохаць сустрэчных.* Тое ж і пры бессуб'ектнай галоўнай частцы: *Дзе ўзяць сілы, каб сёння адужаць гора і смутак маёй душы?* (М. Хведаровіч. Песня смутку і гневу). Фактычна: *дзе ўзяць мне сілы, каб мне адужаць гора і смутак.* Такая агульнасць суб'екта аб'ядноўвае гэтыя даданыя часткі з канструкцыямі, у якіх дзейнік даданай часткі заканамерна не ўжываўся з-за таго, што ён быў бы адналькавым з дзейнікам галоўнай часткі. Усё гэта не дазваляе даданую мэтавую частку, выражаную інфінітывам (з даданымі членамі або без іх), безагаворачна лічыць членам простага сказа.

Пры злучніку *каб* з мэтай надаць абмежавальнае адценне могуць у даданай частцы ўжывацца часціцы *толькі, адно* (дыялектн.): *От узяў бы ды сеў на іх* [хмаркі] *і паплыў бы разам з імі, каб толькі далей быць адгэтуль* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *І ў мяне хата не горшая за яго. Дык не, наўзахапы пабег, каб адно чалавека да рук прыбраць* (К. Чорны. Зямля). У сказах такога тыпу злучнік *каб* можа наогул адсутнічаць: ад яго застаецца адна былая часціца *б*, і тады ролю злучніка бяруць на сябе часціцы *толькі б, адно б.* Такія сказы ўжываюцца

ў гутарковай мове (*пільна сваціў ліхтарыкам, толькі б не збіцца з дарогі*).

Злучнік *абы* ў мэтавым значэнні сустракаецца таксама рэдка. Дадатныя часткі, звязаныя з галоўнай пры дапамозе злучніка *абы*, маюць мэтава-абмежавальнае значэнне: *Страляе ж ён—абы напалохаць мяне* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Ты зрабійся вельмі добры, Мікалай Лявонавіч, ты хочаш прымірыць усіх, абы ціха было* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Усміхнешся такваеле чуць, і дасі абяцанне любое, абы крыку таго не чуць* (П. Глебка. Кармэнсіта).

## АДНОСІНЫ МЕРЫ І СТУПЕНІ

§ 1284. Адносінамі меры і ступені лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі дададная частка ўказвае на меру праяўлення таго ці іншага дзеяння, выражанага дзеясловам галоўнай часткі, або на ступень прызнака ці стану, выражанага прыметнікам, прыслоўем або назоўнікам галоўнай часткі.

Апорным элементам галоўнай часткі з'яўляецца непрэдыкатыўнае словазлучэнне з граматычным цэнтрам — выказнікам, да якога адносіцца дапаўненне з азначэннем або акалічнасць. Гэта група выказніка і выступае ў якасці апорнага элемента: *У сем год я іграў так віртуозна, што людзі заслухваліся* (З. Бядуля. Жалейка). *Такі ветлівы, далікатны, і пазірае на Ніну неяк вельмі ўжо ўважліва, што ёй аж сорамна робіцца* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Аднак у радзе выпадкаў ролю апорнага элемента можа браць на сябе толькі выказнік. Звычайна гэта бывае тады, калі ў галоўнай частцы адсутнічаюць дададныя члены з групы выказніка, якія б маглі характарызавацца акалічнасцю меры і ступені: *Вось сабраліся мы троху ды турнулі так паноў, што яны з перапалоху адракліся й жупаноў* (К. Крапіва. Чырвоная мятла добра мяла). *А надоечы гаспадар капылом па галаве стукнуў, аж я ўпаў і насілу ачухаўся* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Ванька).

Калі ж такія дададныя члены (якія могуць характарызавацца з боку меры і ступені іх праяўлення) ёсць у галоўнай частцы, то на аднясенне дададнай толькі да выказніка ўказвае суадноснае слова: *Яна* [кабыла] *гэтак тузанулася ўбок, што аконам, нашто ўжо добра ездзіў конна, а і то не адзяржаўся, вышмаргнуў адну нагу з стрэмя і бразнуўся вобземлю* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Галоўная частка складаназалежных сказаў з дададнымі ў функцыі меры і ступені мае форму двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа з абавязковым выказнікам (выказнік можа адсутнічаць толькі ў такіх галоўных частках, якія маюць форму няпоўных сказаў). Выказнік галоўнай часткі выражаецца словамі любой часціны мовы (ці любым словазлучэннем), якія або самі абазначаюць працэс, здольны мяняць сваю інтэнсіўнасць, або маюць пры сабе іншыя словы — прыслоўі, назоўнікі, прыметнікі, што абазначаюць дынамічны прызнак або стан. У галоўнай частцы звычайна ёсць суадносныя словы *так, гэтак, такі, гэтакі, столькі, настолькі, нагэтулькі, да таго* і г. д.: *Я працаваў так старанна, што не заўважаў, як ляцеў час* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Ён цяпер ішоў гэтак няроўна і нязграбна нейк, што чапляўся, небарак, нагамі за кожную няроўнасць* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Школьная святліца здалася Міхасю такою веліччу, такім хараством, што ён стаў пасярэдзіне і не смеў ступіць далей* (Я. Колас. Школа). *Здзіўленне ў голасе маці было настолькі шчырае, што я міжвольна ўсміхнуўся* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *І столькі сумоты і болю у сэрцах захоўваў народ, што іх не забудзе ніколі баец, адступаўшы на ўсход* (Я. Колас. На новы рубеж). *Анэта да таго здружы-*

*лася з Мар'яю, што і сама пачала хадзіць да яе* (Я. Скрыган. Законы). *Ён да таго па-мастацку мог брахаць, што перадаваў самыя замысlаватыя тоны і пераліўы голасу кожнай паасобку сабакі з вялікай псарні пана Вашамірскага* (З. Бядуля. Салавей).

Роля суадноснага слова ў афармленні адносін меры і ступені вялікая. У паасобных выпадках могуць адсутнічаць нават злучнікі, і функцыю асноўнага сродку сувязі састаўных частак бяруць на сябе суадносныя словы: *І так у брук бядак загасіў, траха манеркі не расквасіў* (Я. Колас. Новая зямля). *Там яго спачатку не пазналі, пасля жанчына прыбянтэжылася, пазнаўшы яго, — гэтак усё ёй было нечакана* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Адсутнасць суадноснага слова ў галоўнай частцы наглядаецца рэдка, ды і то ў такіх выпадках яно лёгка падразумяваецца: *Балюча бывае, што засцяцца вочы* (П. Броўка. Сэрца). *Адзін лахматы сівы вапельнік жудасныя казкі баіць перад сном, ажно палохаецца грамада ўся і туліцца бліжэй адзін к аднаму* (З. Бядуля. Ля вапеннай гары). У гэтых сказах зусім не лішнімі былі б словы *так* (балюча), *такія* (жудасныя казкі). Адсутнасць суадноснага слова толькі ў нейкай меры змяншае, аслабляе высокую ступень інтэнсіўнасці дзеяння або праяўлення прызнака.

§ 1285. У функцыі даданых меры і ступені ўжываюцца даданыя часткі з граматычным значэннем меры і ступені, прадметнасці, пажадання і мэты, а таксама характару і спосабу дзеяння.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем меры і ступені ў аднайменнай функцыі звязваюцца з галоўнай злучальнымі словамі *як* (у значэнні «наколькі»), *што* (у значэнні «колькі»), *колькі, наколькі*: *Ён бег так моцна, як толькі дазвалялі яго сілы* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Столькі знойдзецца жаданняў, што й здаволіць не бяруся* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос). *Тайдо наламаў так многа вецця, колькі змог панесці* (Я. Маўр. Сын вады).

Злучальнае слова *што* (у значэнні «колькі») — паказчык размоўнага стылю: *Ён плыў так, што́ ў яго было духу.*

Заўвага. Дэфармацыя даданай часткі са злучнікам *што* (у значэнні «колькі») прыводзіць даператварэння яе ў акалічнасць меры і ступені, а складанага сказа — у просты: *Гілёрык бачыў, што ад яго залежыць лёс вулля, і што сілы налёг на лёсткі* (Я. Колас. Калодка пчол).

Структура даданых частак з такім граматычным значэннем ніякіх спецыфічных асаблівасцей не мае.

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі даданых меры і ступені звязваюцца з галоўнай часткай злучнікам *што*. Сам злучнік *што* не мае прамога граматычнага значэння меры і ступені, а таму для выражэння адносін меры і ступені ў саставе складаназалежнага сказа ўжываюцца дадатковыя сродкі — у галоўнай частцы суадносныя словы *так, гэтак, такі, да таго* і г. д. і ў даданай—часціцы *аж, нават, хоць* і інш: [Певень] *кукарэкае так важна, так гучна, што аж гірчыць суседаў сабака Жоўцік* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *А бліжэй да хат пахла печаным і смажаным, ды так моцна, што аж слінкі цяклі* (І. Шамякін. У Маскву). *Усе такія ласкавыя, вясёлыя, блізкія, што аж міла глядзець — радня радней* (Цётка. Зялёнка). *Коні былі пазаганялі да таго, што на іх страшна было паглядзець* (Я. Скрыган. Сустрэчы). *Жыццё нашай краіны настолькі багатае падзеямі і подзвігамі, што яно перад пісьменнікамі сапраўды раскрывае бязмежныя далягляды* (У. Агіевіч. Творы, падказаныя жыццём).

Часціцы ў такіх даданых адыгрываюць важную ролю; пры адсутнасці злучніка яны бяруць на сябе яго функцыю. Так паступова складваюцца нават своеасаблівыя віды канструкцый, дзе злучнікамі меры і ступені выступаюць былыя часціцы *аж (ажно), хоць*: *Услед Гарыдаўцу*

*Янук вядром пусціў, аж зазвінелі абручы* (М. Танк. Янук Сяліба). *Людзі жыліліся, аж пот цурчэў з спацелых твараў* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *«Трэба! Трэба!» — стогалосна загучэла гулка маса, ажно рэха пайшло ў соснах ад тэнараў і ад басаў* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Загрымеў моцна гром, ажно здрыгнуўся свет* (М. Чарот. Гром). *Ціха. Цёпла. А відно-віднюсенька, хоць ты іголкі збірай* (К. Крапіва. Людзі-суседзі). *Ціха, глуха ў лесе, хоць бы гук адзін* (Я. Колас. Лес).

Структура даданай часткі з граматычным значэннем прадметнасці не мае якіх-небудзь спецыфічных асаблівасцей.

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі даданых меры і ступені звязваюцца з галоўнай злучнікамі *каб* і *абы*: *Можа звонам і гудам людзей яна* [елка] *будзе здзіўляць, каб аж рупіла людзям на тых правадах паіграць?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу* (К. Чорны. Вялікая і малая тэма). *Ляцяць, бачу, гітлераўцы назад, абы толькі душу голую дамоў данесці* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

4. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў функцыі даданых меры і ступені звязваюцца з галоўнай злучнікамі *як, як бы, нібы (нібыта)*: *На гэтых гонях, нівах мой народ жыве шчасліва, як не жыў ніколі* (Я. Колас. Я — баец чырвоны). *Адзін сівабароды гандляр так заядла таргаваўся, так выкрыкваў і біў сябе кулаком у грудзі, як бы яму зрабілі кроўную крыўду* (Я. Колас. Тоўстае палена). *Ён палажыў свой чамадан на паліцу, расшпіліў паліто, зняў вушанку і сеў. І стала адразу чамусьці так горача, весела, добра, нібы ён фарсіраваў нейкі нялёгкі, запаветны рубеж* (Я. Брыль. На Быстранцы).

З прыкладаў відаць, што ў функцыі даданых меры і ступені ўжываецца толькі адна разнавіднасць з вялікай групы даданых характару і спосабу дзеяння, а іменна даданыя, якія маюць адценне параўнання.

## АДНОСІНЫ ХАРАКТАРУ І СПОСАБУ ДЗЕЯННЯ

§ 1286. Адносінамі характару і спосабу дзеяння лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі даданая частка паказвае, якім чынам або якім спосабам адбываецца дзеянне, аб каторым паведамляецца ў галоўнай частцы. Нярэдка ўказанне на характар або спосаб дзеяння даецца шляхам параўнання з іншым дзеяннем, фактам або з'явай. Такім чынам, адносіны параўнання з'яўляюцца прыватным адценнем больш агульных сінтаксічных адносін характару і спосабу дзеяння.

Апорным элементам галоўнай часткі з'яўляецца непрэдыкатыўнае словазлучэнне з граматычным цэнтрам — выказнікам. У склад апорнага элемента ўваходзяць даданыя члены — акалічнасць, зрэдку дапаўненне. Дадатковым граматычным сродкам сувязі састаўных частак служыць суадноснае слова *так (гэтак)*: *Расказаў я далёка не так складна, як гэта было ўжо склалася ў маёй галаве* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Мы не хочам жыць так далей, як жылі нашы дзяды* (Я. Колас. Калгаснае). *«А скажыце, як у вас размяркована работа?» — «А размяркована яна так, што на кожную работу ставяцца найболей адпаведныя калгаснікі»* (Я. Колас. Адшчапенец). *Няма на свеце нідзе гэтак, каб усё ішло гладка і добра* (К. Чорны. Вясна).

Ужыванне суадноснага слова залежыць ад граматычнага значэння той даданай часткі, якая выступае ў функцыі даданай характару і спосабу дзеяння. Пры супадзенні функцыі і граматычнага значэння (г. зн.

калі даданая — у прамым сваім значэнні) наяўнасць суадноснага слова неабавязковая: ужыванне яго абумоўліваецца толькі стылістычнымі меркаваннямі. Калі ж функцыю даданых характару і спосабу дзеяння выконваюць даданыя з іншым граматычным значэннем, тады суадноснае слова адыгрывае больш значную ролю ў афармленні названых сінтаксічных адносін.

Структура галоўнай часткі не мае якіх-небудзь спецыфічных асаблівасцей: галоўная частка можа мець форму як двухсастаўнага, так і аднасастаўнага (з абавязковым выказнікам) простага сказа.

§ 1287. У функцыі даданых характару і спосабу дзеяння ўжываюцца даданыя з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння, прадметнасці, а таксама пажадання і мэты.

1. Даданыя часткі з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння ў аднайменнай функцыі звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучнікаў (і часціц у ролі злучнікаў) *як, як бы, нібы, бы, быццам, як быццам, чым, ніж* (устар.), размоўн. *што* (у значэнні «як») і інш.

Калі ў даданай частцы гаворыцца аб рэальным дзеянні (факце, з'яве), тады яна звязваецца з галоўнай злучнікам *як*, калі ж у даданай гутарка ідзе аб гіпатэтычным, нерэальным або толькі жаданым дзеянні (факце, з'яве), тады ўжываюцца злучнікі (і часціцы ў ролі злучнікаў) *як бы, нібы, бы, быццам, нібыта, як быццам, як быццам бы.* Гэтыя сінтаксічныя сродкі сувязі сінанімічны і лёгка могуць замяняць адзін аднаго: *Ва ўсім тут адбітак знаходзяць пражытыя мною гады. Яны не прайшлі, як праходзяць пад сонцам вясны халады* (М. Хведаровіч. Цяпер мне зусім не здаецца...). *Свая ж хата пазірала на Пракопа нязетліва і негасцінна, як бы ён тут быў чужы і лішні* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ціха ў замку і нялюдна, бы ён вымер, бы пусты* (Я. Колас. Сымон-музыка). *За шклянымі дзвярамі клінікі ў калідоры ён пайшоў дробна, памаленьку, быццам не хацеў адпускаць ад сябе сястру* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *Мне крышку сумна, крыху балесне, як быццам чую я шум лясны* (К. Буйла. Спявай, дзяўчына!).

Да злучніка *як* можа далучацца часціца *ўсё роўна*, якая ўзмацняе адценне параўнання: *Маладыя хвойкі рэзка выдзяляліся сваімі зялёнымі вярхамі на снежным полі і гультаежліва падымалі і апускалі свае непаваротлівыя лапы, усё роўна як за каўняром іх нешта кусала* (Я. Колас. Тоўстае палена).

Даданыя часткі могуць мець форму двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Няхай думкі мае пабягуць чарадой, як чародкамі хмары плывуць* (Я. Колас. Маёй каханцы). *Чуліся галасы начных птушак, лесавыя шолахі, нечыя дзіўныя ўздыхі, нібы ўздыхала зямля і ціхаціха перашэптвалася з маўклівымі дубамі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гракі зляцеліся, абселі густа і скібу пульхную і цаліну, і жаўранак падняўся ў неба шустра, як бы званкі вясеннія крануў* (А. Астрэйка. Першая баразна). *Запахлі сцены свежай цэглай мне, як некалі ў жніво снапамі пахла* (У. Хадыка. Радкі лірычнай песні). *Паглядалі жніцы долу, бы нічога не было* (П. Броўка. Кацярына).

Структура даданых частак, якія маюць форму аднасастаўнага сказа, вызначаецца тым, што выказнік не з'яўляецца абавязковым членам даданай. Асабліва гэта датычыць тых даданых, якія ўжываюцца з адценнем параўнання. Дзеянне ў такіх даданых частках супадае з дзеяннем галоўнай, толькі суб'екты дзеяння розныя: *І над маёю галавой прамчаў гадоў крылаты рой і скроні выбеліў мае, як снег вяршаліны твае* (П. Броўка. Лясы наддзвінскія). *Дзесь у далечы, нібы жар каваль, хмара дзьмухае іскры-зарніцы* (Я. Колас. Дуб). *Абшчыпалі мяне, як той гарох пры дарозе* (З. Бядуля. За тканінай). *Як паляўнічы, наманю, вярнуўшыся дамоў* (П. Броўка. Паляванне).

Калі ж супадае і суб'ект дзеяння галоўнай і даданай частак, то ў даданай дзейнік таксама можа апускацца і застаюцца толькі даданыя члены ці нават адзін з іх (дапаўненне або акалічнасць): *Згадаў я сягоння Дунай і Мараву, як быццам нядаўна ад сцен Браціславы* (П. Броўка. Згадаў я сягоння Дунай і Мараву...). *Жанчына ў белым зноў закрыла твар газетаю, пасля ціхом устала, нібы паправіць хвораму падушку* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Хораша стала ісці, нібы ўранні па полі, калі навокал сонца і калоссе* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Шлю я сонцу прывітанне, як заўсёды, як калісьці* (М. Хведаровіч. У срэбрамёце клёнаў лісце).

Даданыя часткі без выказніка, а тым больш без выказніка і дзейніка, трацяць спецыфіку частак складаназалежнага сказа і ператвараюцца ў кампаненты простага сказа, так званыя параўнальныя звароты (гл. § 790—844). Гэта асабліва яскрава заўважаецца тады, калі такая «даданая» частка з'яўляецца дзеепрыметнікавым або дзеепрыслоўным словазлучэннем: *Аднатонна і размерна гойдаўся маятнік у сваёй шкляной каморцы, як бы вельмі задаволены сваёй працай, што і пацвярджаў кароткім «так-так! так-так!* (Я. Колас. У палескай глушы). *Іхні казачны вэлюм цягнуўся аднамерна зверху і сцяліўся па зямлі без канца, нібы разгортваючыся недзе высока-высока з воблачных кроснаў* (З. Бядуля. Салавей). *Ізноў пачынаю я жыць, нібы нарадзіўшыся нанаў* (У. Хадыка. Апошняя крайка мяжы).

Злучнік *чым* ужываецца для сувязі даданых частак з такімі галоўнымі, у апорным элеменце якіх ёсць прыслоўе ці прыметнік вышэйшай або найвышэйшай ступені параўнання: *Лепей загінуць у змаганні за сваю волю, за права будаваць сваё жыццё па-свойму, чым прызнаць панскую ўладу і панскую волю* (Я. Колас. Дрыгва). *Яна ўжо разумела яго навылёт. І гэта пачалося куды раней, чым ён пачаў угадваць яе думкі і патрэбы* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *У часы полудню там* [на будаўніцтве] *было гаманліва больш, чым дзе* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Іншы раз форма ступені параўнання (вышэйшая або найвышэйшая) у апорным элеменце галоўнай часткі можа нават адсутнічаць, і іншыя словы або словазлучэнні ў пэўнай меры выражаюць элятыўныя або суперлятыўныя значэнні: *Клуня блізка, і на сене можна добра адпачыць, чым вы мелі па калені гразь папоцемку мясіць* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Бадай жа вас, чорны бровы, нікому не мецi, чым за вас бяду такую самахоць цярпеці!* (Я. Купала. Пераклад з Т. Шаўчэнкі. Кацярына).

Заўвага. Зрэдку замест злучніка *чым* ужываецца злучнік *як*, але такія канструкцыі трэба лічыць размоўнымі або ўстарэлымі: *Чы можна было зрабіць справядлівей, як зрабіў калісьці наш Кароль...* (К. Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» № 2). *Д'яблы большае кары прыдумаць бы ім* [цымбалам] *не маглі, як закінуць за хмары, навек адарваць ад зямлі* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

Злучнік *ніж* (устар.) раўназначны злучніку *чым*, параўн.: *Ну, але ж гэта трохі цяжэй, ніж раскідаць «святы калодзеж»* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Злучнік *што*, які носіць яркі размоўны характар, ужываецца як сінонім злучніка *як*: *Што корні дуба, нашы лёсы пераплялiся між сабой* (А. Александровіч. Што корні дуба).

Структура даданых частак са злучнікамі *чым*, *ніж* і *што* нічым не адрозніваецца ад структуры даданых са злучнікамі *як*, *як бы*, *нібы* і г. д. Такія даданыя, як гэта відаць з пададзеных прыкладаў, таксама могуць набліжацца да частак простага сказа, ператвараючыся ў так званыя параўнальныя звароты.

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем прадметнасці ў функцыі даданых характару і спосабу дзеяння звязваюцца з галоўнай злучнікам *што*: *У самым нядоўгім часе непрыметна нейк сталася так,*

*што пані Даміцэля не толькі даіла карову, але стала распараджацца і малаком* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Справа павярнулася гэтак, што трэба было ісці наадкрытую* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка).

У такіх сказах ролю асноўнага выразніка адносін характару і спосабу дзеяння звычайна бярэ на сябе не злучнік *што*, а суадноснае слова *так (гэтак)*.

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем пажадання і мэты ў функцыі даданых характару і спосабу дзеяння звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучніка *каб*. Вядома, што такое граматычнае значэнне даданай таксама перашкаджае ёй выступаць у іншай функцыі, а таму і ў гэтым выпадку адносіны характару і спосабу дзеяння выражаюцца не столькі злучнікам, колькі суадносным словам *так (гэтак)*: *Да ўсіх гэтых надзённых тэм нашы паэты павінны скіроўваць сваю ўвагу з яшчэ большай сілай, скіроўваць так, каб кожны іх твор народ прымаў на сваё ўзбраенне* (У. Агіевіч. Пачуцці і вобразы, народжаныя часам). *Я ўзяў тваю галаву ў свае рукі так, каб глядзець проста ў вочы, і сказаў: «Ён не павінен нават дакрануцца да цябе, Таіса»* (Я. Скрыган. Таіса). *І ўсё гаварыў гэтак, каб льга было разумець надвае* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

## АДНОСІНЫ СУПАСТАЎЛЕННЯ

§ 1288. Супастаўляльнымі лічацца такія адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназалежнага сказа, калі змест галоўнай часткі характарызуецца з пункту гледжання супастаўлення яго з тым, аб чым гаворыцца ў даданай.

Спецыфіка супастаўляльных адносін заключаецца ў тым, што тып даданай часткі з граматычным значэннем супастаўлення ў беларускай мове яшчэ не склаўся, і для выражэння гэтых адносін выкарыстоўваюцца даданыя з іншымі граматычнымі значэннямі (характару і спосабу дзеяння — з адценнем параўнання; меры і ступені; часу; зрэдку — умовы). Разам з тым ідзе працэс фарміравання даданых частак з новым граматычным значэннем, і носьбітамі гэтага значэння выступаюць звычайна новыя злучнікі, якія складваюцца на аснове аб'яднання суадноснага слова з іншымі злучнікамі (часавымі, параўнальнымі і г. д.): *тады як, тады калі, між тым як, у той час як, паводле таго як, па меры таго як* і інш. *Я пажыў ужо крыху на свеце, тады як ты, можна сказаць, яшчэ не спрабаваў жыцця* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Немцы неўзабаве таксама адкрылі стральбу. Але яны стралялі ўсляпую, тады калі партызаны, з свае больш выгаднай пазіцыі, бачылі цэль* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Халявы ботаў былі шэрымі ад пылу, у той час як знізу боты намоклі ад расы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Настаўнік доўга хадзіў па пакоіку, і цень яго, подлуг таго як зближаўся ён з лямпаю або адыходзіўся ад яе, то падаўжаўся, то карчавеў, а ў стыках сцяны і столі борздзенька пераломліваўся і забягаў на столь* (Я. Колас. У палескай глушы). Аднак і ў гэтых сказах даданыя часткі яшчэ захоўваюць сваё першапачатковае граматычнае значэнне (параўнання, часу і г. д.). Такія канструкцыі сустракаюцца даволі рэдка, у прыватнасці гутарковай мове і нават мове мастацкай літаратуры яны мала ўласцівы. У нязначнай меры яны характэрны толькі для публіцыстычнага і дзелавога стыляў.

У большасці ж выпадкаў супастаўляльныя адносіны выражаюцца зместам самога складаназалежнага сказа, хоць заўважаюцца і некаторыя асаблівасці ў структуры галоўнай і даданай частак.

Апорным элементам галоўнай часткі ў складаназалежных сказах з супастаўляльнымі адносінамі выступае звычайна прэдыкатыўнае словазлучэнне.

§ 1289. 1. Даданыя з граматычным значэннем характару і спосабу дзеяння (з адценнем параўнання) у функцыі супастаўляльных звязваюцца з галоўнай часткай злучнікамі *як, чым*, размоўн. *што* (у ролі «як» або «чым»). У галоўнай частцы звычайна ўжываюцца адпаведныя суадносныя словы: *так (гэтак), тым*, часціца *то*. Акрамя таго, наглядаецца пэўны паралелізм у будове галоўнай і даданай частак, супадзенне або сінанімія адных членаў і несупадзенне або антанімія другіх членаў састаўных частак складаназалежнага сказа. *Як цяжка там было нам плакаць, так лёгка зараз тут смяяцца* (У. Хадыка. Пяць вершаў). *Як шпарка, у некалькі гадзін, сохла зямля ў веснавы дзень пасля дажджу, гэтак шпарка і неўзаметку ўядаліся ў жыццё сляды гэтага новага ветру* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *А як змаглі раней мы белых генералаў, так зможам мы цяпер балячкі нашых дзён* (М. Хведаровіч. Настроі). *Як мёд пчала збірае рупна ў соты, збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі* (Я. Купала. А мы сабе сеем і сеем...). *Мне ад страты маёй дарагога ліста дачакацца на'т цяжэй, чым табе, дарагая, ад Янкі свайго* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Чым большая ў пісьменніка жыццёвая практыка, тым больш у яго магчымасцей у сэнсе тэм, матэрыялу і вобразаў* (К. Крапіва. Слова да маладых). *Што мелі гэтыя сцены гніць марна, то няхай лепш народу будзе* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

2. Даданыя часткі з граматычным значэннем меры і ступені ў функцыі супастаўляльных звязваюцца з галоўнай злучальнымі словамі *паколькі, наколькі*, а таксама злучнікам *паколькі*. Злучальным словам *паколькі, наколькі* ў галоўнай частцы звычайна адпавядаюць суадносныя словы *пастолькі, настолькі, тым не менш* і г. д.: *Выдатныя асобы адыгрываюць сур'ёзную ролю ўсяго пастолькі, паколькі яны правільна выражаюць наспеўшыя патрэбнасці развіцця грамадства* (Гісторыя КПСС). *Але наколькі ні была б пакутлівай і складанай гісторыя вандраванняў упамянутых рукапісаў Дуніна-Марцінкевіча, — перад намі, тым не менш, цікавыя, арыгінальныя па ідэйнай задуме і паэтычна свежыя творы* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч).

3. Даданыя часткі з граматычным значэннем часу і ўмовы ў функцыі супастаўляльных звязваюцца з галоўнай злучнікамі *калі, як*: *Страх ледзяніў іх звярыную кроў: «Калі дзеці савецкія гэтак бязлітасна помсцяць, колькі ж гневу тады і адвагі у іхніх бацькоў!»* (П. Панчанка. Саша). *Як не ўмееш частавацца, то шчасліва аставацца, — я з Мальгрэтай палячу* (К. Крапіва. Хвядос — Чырвоны нос).

Заўвага. Даданыя часткі са злучнікамі *чым* і размоўн. *што* могуць згортвацца, ператвараючыся ў члены простага сказа. У наступных сказах, напрыклад, такія даданыя часткі не дэфармаваны: *Але чым далей адыходзіў ён ад свайго котлішча, тым з большаю сілаю ахаплялі і наступалі на яго гэтыя халодныя прасторы* (Я. Колас. Адшчапенец). *Што год пройдзе, дык і лепш робіцца жыць* (К. Чорны. Базылевічава сям'я).

А ў гэтых сказах даданыя часткі ўжо не маюць такой самастойнасці і нават ператвараюцца ў член простага сказа: *А чым далей, тым работа вымагае больш кемлівасці, больш адказнасці, становіцца цяжэй і мудрэй і разам з гэтым усё прыямней* (З. Бядуля. Бондар). *Чым больш, тым жонка і дачка горш ненавідзяць яго* (К. Чорны. Вясна). *З усмешкаю шчаслівою, як сонейка, зычліваю, задзівіцца юнак: такая шыр бязмежная, бурлівая, мяцежная,— што крок, то волі знак!* (Я. Колас. Пераможны май). *І хоць што крок малюнкі разбурэння, пабоішчаў сляды,— зямля ж цвіце, і покрыўаднаўлення тчэ засеў маладзы* (Я. Колас. Наш шлях).

## ПАРАДАК РАЗМЯШЧЭННЯ САСТАЎНЫХ ЧАСТАК У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ

§ 1290. Парадак размяшчэння састаўных частак у складаназалежным сказе, як вядома, не свабодны і залежыць ад рада прычын: ад тыпу галоўнай часткі, ад характару граматычнага значэння даданай, ад віду сінтаксічных адносін паміж часткамі і г. д.

Складаназалежныя сказы могуць мець не толькі дзве састаўныя часткі — адну простую галоўную і адну простую даданую, а і больш дзвюх простых састаўных частак. Апошнія сказы маюць самую разнастайную структуру: ёсць сказы з некалькімі простымі галоўнымі і адной простай даданай часткай, з некалькімі простымі даданымі і адной простай галоўнай часткай, а таксама з некалькімі простымі даданымі, якія аднача-сова адносяцца да некалькіх простых галоўных частак. Парадак размяшчэння і віды сувязі простых састаўных частак у такіх складаназалежных сказах маюць сваю спецыфіку; простыя састаўныя часткі могуць аб'ядноўвацца ў складаныя састаўныя часткі.

## МЕСЦА ДАДАНАЙ ЧАСТКІ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ З ДЗВЮМА САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1291. Складаназалежны сказ з дзвюма простымі састаўнымі часткамі — гэта толькі адна з магчымых разнавіднасцей складаназалежных сінтаксічных канструкцый. Як ужо адзначалася, у саставе складаназалежнага сказа можа быць тры, чатыры і больш простых частак. Аднак сказы з дзвюма простымі састаўнымі часткамі па сваёй ужывальнасці займаюць першае месца: гэтыя сказы з'яўляюцца самым распаўсюджаным, звычайным відам складаназалежных сказаў.

Даданая частка ў адносінах да галоўнай у складаназалежным сказе можа стаяць у прэпазіцыі (перад галоўнай), у інтэрпазіцыі (усярэдзіне галоўнай) і ў постпазіцыі (пасля галоўнай). Такое размяшчэнне даданай у значнай меры залежыць ад характару апорнага элемента і ад яго месца ў галоўнай частцы, ад характару сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі, а таксама ад граматычнага значэння даданай часткі. Тут важна высветліць некалькі пытанняў: размяшчаецца даданая частка перад апорным элементам ці пасля яго (а калі апорны элемент — словазлучэнне, то ці можа даданая частка разрываць яго); ці можа даданая частка аддзяляцца ад апорнага элемента галоўнай якімі-небудзь членамі сказа або сінтаксічнымі канструкцыямі (і калі можа, то якімі); у якой меры свабодным з'яўляецца размяшчэнне апорнага элемента ў галоўнай частцы (г. зн. ці не ўплывае наяўнасць даданай часткі на парадак слоў у галоўнай частцы).

## МЕСЦА ДАДАНАЙ ЧАСТКІ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ З АПОРНЫМ ЭЛЕМЕНТАМ ГАЛОЎНАЙ — НАЗОЎНІКАМ

§ 1292. У складаназалежных сказах, апорным элементам галоўнай часткі якіх з'яўляецца назоўнік (або іншае субстантываванае слова ці словазлучэнне ў ролі назоўніка), даданая частка ўжываецца ў а т р ы б у т ы ў н а й ф у н к ц ы і. Даданыя з такой функцыяй звычайна размяшчаюцца непасрэдна пасля апорнага элемента галоўнай часткі. У большасці выпадкаў апорным элементам заканчваецца галоўная частка ў такіх складаных сінтаксічных канструкцыях. А таму атрымліваецца, што даданая з атрыбутыўнай функцыяй размяшчаецца звычайна ў постпазіцыі. Гэта асноўнае правіла датычыцца як даданых частак з граматычным значэннем азначальнасці, так і даданых з іншымі граматычнымі значэннямі ў атрыбутыўнай функцыі: *Я на паперы, бледнай і пакорнай, раз'юшана складаю спісак чорны сваіх сяброў, якія тыдняў пяць лянуюцца лісты мне напісаць* (П. П а н ч а н к а. Гарлае ноч хрыпатай глоткай пеўня...). *Родны Ленін, мы ідзём шляхамі, па якіх ісці ты наказаў!* (П. Б р о ў к а. Ля Маўзалея). *Яны* [ворагі] *не пяройдуць мяжы, на каторай сурова паўстане Мадрыд* (Я. К о л а с. Гераічнай Іспаніі).

*Можа згода — вунь тая сасна, што на ўзгорку маячыць?* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Вось елачка тая над ціхай мясцінай, дзе Першага мая ён стрэўся з Хрысцінай* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Ці з таго вы краю, скуль мілога маю?* (Зб. «Беларускія песні»). *Не забыцца ніколі цяжкой гэтай ночы, калі ў хаце пачуўся балесны твой крык* (П. Броўка. Сустрэча). *Ці помніш ты, Ганна, шчаслівы мамэнт, як граў раз на дудцы нябожчык Вінцэнт?* (Я. Колас. Каханне). *Раніцой жа перадалі загад, каб як мага перагналі калгасную жывёлу на той бераг ракі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Размяшчэнне даданай часткі пасля апорнага элемента (назоўніка) тлумачыцца самім характарам даданай: злучальнае слова — займеннік з'яўляецца агульным указаннем на гэты ж прадмет, які названы апорным словам, а таму зразумець, аб якім прадмеце ў даданай частцы ідзе гутарка, можна толькі тады, калі адносны займеннік (злучальнае слова) знаходзіцца пасля назоўніка.

Аднак наглядаюцца выпадкі, калі наяўнасць даданай часткі з атрыбутыўнай функцыяй у саставе складаназалежнага сказа з'яўляецца прычынай такога парадку слоў у галоўнай частцы, пры якім назоўнік (апорны элемент) наўмысна размяшчаецца ў канцы яе: *А яна* [зямля] *дымілася абапал першым парам, першай цеплынёй ад дажджу, што толькі што пракапаў па-над красавіцкаю зямлёй* (А. Астрэйка. Выезд у поле). *Яшчэ гараць, як бліскавіцы, сляды, дзе ён кружыў учора* (Я. Колас. Памяці В. П. Чкалава). *Між дзвярыма і другою сцяною прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі стаялі кнігі роўненькімі радочкамі* (Я. Колас. Школа).

Калі б галоўныя часткі гэтых сказаў успрымаць як простыя сказы, тады адразу стаў бы відаць не ўласцівы простаму сказу парадак слоў у іх.

Заўвага 1. Размяшчэнне даданай часткі з атрыбутыўнай функцыяй перад апорным элементам галоўнай — з'ява надзвычай рэдкая і ў сучаснай мове лічыцца рэзкім парушэннем нормы: *Ад той, што ад зімы засталась, часткі, штось кінуўшы на час нязбыты, адмерылі мы з ёй са дзве шаснасткі у мех, рукой яе пашыты* (Я. Купала. Яна і я). *Каб дзіця замарнавалі,— не такія мы суседзі!* (П. Броўка. Сымонка).

Такія канструкцыі часта сустракаліся ў XIV—XVII стст., і гэта не ўспрымалася як адхіленне ад нормы. Параўн. падобную ж канструкцыю нават у В. Дуніна-Марцінкевіча: *Каторай з вас рукі памараны ў сажу, та пачціва дзеўка...* (Купалле).

Заўвага 2. Калі апорны элемент (назоўнік) галоўнай часткі пераходзіць у прэпазіцыйна размешчаную даданую частку (або паўтараецца і ў даданай і ў галоўнай частках), то адносіны паміж састаўнымі часткамі складанага сказа страчваюць яркі атрыбутыўны характар і набліжаюцца да ўмоўна-выніковых (з адваротнай абумоўленасцю): *Каторы конь цягне, таго і паганяюць. Якога каня маю, такога запрагаю* (народн.). *У які бок людзі кіруюць работу, у той бок хіліцца і чалавек* (К. Чорны. Вясна).

Вядома, размяшчэнне апорнага элемента галоўнай часткі не строга фіксіраванае, не абавязкова толькі постпазіцыйнае. Апорны назоўнік можа выконваць ролю дзейніка, дапаўнення ці акалічнасці і стаяць у пачатку галоўнай часткі; можа ўваходзіць у рад аднародных членаў і быць у сярэдзіне галоўнай часткі; можа ўваходзіць у склад дзеепрыметнікавых, дзеепрыслоўных і іншых адасобленых словазлучэнняў; можа быць звароткам і г. д. Ва ўсіх гэтых выпадках даданая частка, якая размяшчаецца непасрэдна за апорным словам, сама будзе знаходзіцца ў інтэрпазіцыі. *Распушчаныя конскія грывы, доўгія калматыя хвасты, дзіка бліскучыя вочы, сагнутыя позы дзікіх коней, якія нібы ў паветры носяцца ўсімі чатырма нагамі над кавылём, захапілі пана сваім фантастычным першабытным хараством* (З. Бядуля. Салавей). *Бадай найбольш удалым і жыццёвым вобразам, у якім увасоблены мужнасць і нязломная воля выхаванага савецкай уладай маладога чалавека, з'яўляецца сёння вобраз Канстанціна Багуцкага з рамана Міхася Лынькова «Векапомныя дні»* (І. Кудраўцаў. Арляняты). *Я ўспамінаю Леначку і Ніну, Міколу над кнігай, замурзаны сажай твар Чыгун-*

*ка, кузня якога звініць цяпер ад цямна да цямна; успамінаю сасновае бярвенне на снезе і смех хоць стомленых, але вясёлых лесарубаў* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *З самага ранку загадаў ён пастушку, якому была чарга цяпер тыдняваць у яго, падмесці двор* (К. Чорны. Зямля). *Дык адвядзі ім пачэснае месца ў кнігах, што пішуцца пра вайну, ў кнігах пра нашую перамогу песню складзі пра іх не адну, так адзначаючы іх дарогу* (А. Куляшоў. Па песню, па сонца). *Доўгі след палявых каляін вывеў нас да родных мясцін, да мясцін, дзе з маленства я рос, да сяброў дубоў, да сяброўак бяроз* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Прычал будуючы дабротны дню, што віднеецца здаля, ты не цуралася ні поту, ні на далоні мазаля* (А. Александровіч. Роднаму краю). *Галя ідзе ў той куток, дзе ложак, наўздагад, на хаду ўжо расшпільваючы сукенку* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Як з гнязда, што вецер зрынуў, разляцеліся усе* (П. Броўка. Кацярына). *Зямля, што сэрцамі сагрэта, ты зварухнулася ў цішы* (П. Броўка. У Каніве).

Адносная частата ўжывальнасці такіх сказаў у сучаснай мове, аднак, значна меншая, чым сказаў з постпазіцыяй дадаланай часткі, размешчанай непасрэдна за апорным элементам.

Разам з гэтым у сучаснай мове зрэдку сустракаюцца і такія складаназалежныя сказы, дадаланая частка якіх аддзелена ад апорнага элемента галоўнай часткі пэўным членам сказа, групай членаў сказа або нават адасобленым словазлучэннем. Зразумела, што любы член ці група членаў сказа паміж апорным назоўнікам і дадаланай часткай — гэта іншароднае цела. Аднак тут трэба адрозніваць два моманты: адны з такіх членаў сказа характарызуюцца фіксіраваным становішчам у адносінах да назоўніка (апорнага элемента), другіх жа свабодна магло б і не быць паміж апорным назоўнікам і дадаланай часткай.

Да першых адносяцца недапасаваныя азначэнні, выражаныя адзіночным назоўнікам (ці займеннікам) або назоўнікам (ці займеннікам) з паясняючымі яго словамі; адзіночныя або разгорнутыя прыдаткі; элементы колькасна-іменнага словазлучэння: *«Ага! Я ж казаў вам...»— задзірыста гаворыць Міколка і пераможна шмыгае кірпаўкай носа, якая аж залаціцца пад ранішнім зыркім сонцам* (М. Лынькоў. Васількі). *Максім наўпрасцяк, хутка і шумна, перайшоў раўчак і пайшоў першы, больш не спыняючыся і не адказваючы на жарты Клаўдзі, якія яна кідала ўздагон* (І. Шамякін. У добры час). *Ніна адчувала сябе вельмі добра, вырваўшыся з пакояў, забылася на нейкі час пра злыднюгаспадыню з яе лаянкай, якой цяпер усё гатова была дараваць з-за яго* [Лявона] (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Разгортваю старонкі шляхоў пад небам сінім, па якіх ішлі, ішлі і след кідалі ногі* (А. Куляшоў. Дарогі). *Самалёт рабіў другі заход над вузкім фіёрдам Альта, дзе нямецкія ваенныя караблі хаваліся ад англійскай эскадры* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Праўдзіва адказвала ёй Арына, не ўтаіўшы нават і тых дзесяці рублёў Гармізавай нагароды і тых двух рублёў надбаўкі, што абяцаў ёй Гарміза* (Я. Колас. Арыніна перамога).

Амаль ва ўсіх прыведзеных сказах аднясенне дадаланай часткі да апорнага элемента галоўнай яскрава выражана фармальна-граматычнымі сродкамі (дапасаваннем злучальнага слова да апорнага назоўніка). Аднак не заўсёды граматычныя сродкі могуць указваць на сувязь дадаланай з тым назоўнікам, які меўся на ўвазе гаворачай асобай. Гэта бывае ў наступных выпадках:

а) калі дадаланая частка з граматычным значэннем азначальнасці звязваецца з галоўнай, пры апорным назоўніку якой ёсць залежны назоўнік таго ж роду і ліку;

б) калі дадаланая частка з іншым граматычным значэннем (прадметнасці, месца, часу і г. д.) у атрыбутыўнай функцыі звязваецца з галоўнай, пры апорным назоўніку якой ёсць залежны назоўнік таго ж ліку.

У абодвух выпадках двухсэнсавасць лёгка ліквідуецца, калі да апорнага назоўніка дадаецца ўказальнае слова *той (тая, тое, тыя)*. Калі ж указальнага слова няма, то правільнае ўспрыняцце даданай адбываецца толькі «па сэнсу»: *Да таго ж у гэтай зале ўдзень і ўначы дзяжурыць захоўвальнік парадку, які дазваляе правесці ноч толькі седзячы* (В. Марозаў, П. Каваленка. Перад адыходам поезда...). *Вецер з дзікім свістам нагінаў долу верхавіны вольхаў, пад якімі, здаецца, нават клякаталі змрочныя, страшныя, раскалыханыя хвалі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І гэтай ласкай прыгарнуў да сябе сэрца дзяўчыны, што не ведала ласкі раней* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Ці ты знаеш старонку, край магілаў, курганаў, дзе па небе ўдагонку ходзяць хмары, туманы?..* (Я. Купала. Ці ты знаеш старонку?). *Ён мінуў тры пасты аховы, дзе тройчы абмацалі пранізліва вачыма яго зацягнутую ў ваеннае сукно прамую постаць* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Што ж датычыць іншых членаў сказа, якія хоць і не характарызуюцца фіксіраванасцю свайго размяшчэння ў галоўнай частцы адносна апорнага назоўніка, але тым не менш знаходзяцца паміж гэтым назоўнікам і даданай часткай, то ў ролі такіх членаў сказа могуць выступаць часцей за ўсё дапасаваныя постпазіцыйныя азначэнні (выражаныя прыметнікамі ці займеннікамі), акалічнасці, дапаўненні, выказнікі, групы членаў сказа і нават адасобленыя словазлучэнні. Вядома, некаторыя з такіх сказаў не з'яўляюцца беззаганнымі з пункту гледжання стылістычных норм сучаснай мовы; нярэдка пастаноўка гэтых членаў сказа пасля апорнага назоўніка ўспрымаецца як яўная інверсія: *Надышоў і час той асаблівы, калі шумна стала на двары* (А. Астрэйка. Выезд у поле). *І прыемна ляжаць вот так, прыслухацца да гукаў лясных, да шэпта лістовага, што хіліць да сна* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Кармен знайшла прытул у Лілас-Пасця, сярод бадзяг, бяздомных і галодных.., што стромаю маглі навальна рынуць на гандляроў крывавага чырвонца* (П. Глебка. Карменсіта). *І часта, нібы ў сне, мінулае мільгнецца прад вачамі, як песня аб вясне, аб той, што калісь мне няснымі звінела галасамі* (Я. Колас. З дарогі). *Не паўтарыць такога пачуцця нам, што раз да нас прыходзіць на зямлі!* (А. Звонак. Усё міне, а праўда застанецца...). *І бачу лес я каля хаты, дзе калісь весела дзяўчаты спявалі песні дружным хорам, з работ ідучы позна борам* (Я. Колас. Новая зямля). *А потым колькі яшчэ было работы дома, каб прывесці ўсё гэтае незлічонае багацце да ладу!* (І. Шамякін. У Маскву). *Ці раз я, падлетак, гамонку лясную падслухваў, што вецер па ўрочышчу нёс?* (А. Звонак. Чырвонае Урочышча). *Уздыхнула цяжка маці, аб сынку гадае, што ў астрозе, ў паняверцы кару адбывае* (Я. Колас. Маці). *У хаце драўлянай радзіўся паэт, дзе чадна дыміла лучына* (К. Буйла. Народны пясняр). *Я сам сяброў сваіх па ўзросту вітаю ўсіх, сабраўшы ў круг, што прынялі Кармен папросту: як дзяўчыну і як сястру* (П. Глебка. Карменсіта). *Гэта трэльніцы на змроку йдуць спазніўшыся дамоў, што бурлівяць ненарокам песняй вёскі між палёў* (П. Трус. Асенняя праца).

Вышэй былі разгледжаны выпадкі, калі аддзеленая ад апорнага назоўніка даданая частка ўсё ж размяшчалася ў канцы складаназалежнага сказа. Безумоўна, могуць сустракацца і такія сказы, дзе аддзеленая ад апорнага назоўніка даданая частка размяшчаецца ў інтэрпазіцыі. Гэта можа быць тады, калі апорны назоўнік галоўнай часткі з'яўляецца вынесеным у пачатак сказа дапаўненнем ці акалічнасцю або ўваходзіць у групу гэтага дапаўнення ці акалічнасці; калі апорны назоўнік, будучы ў пачатку сказа, з'яўляецца дзейнікам або ўваходзіць у групу дзейніка; калі ў галоўнай частцы ёсць аднародныя выказнікі, размешчаныя пасля дзейніка — апорнага слова; калі ў галоўнай частцы

ёсць іншыя аднародныя члены сказа, прычым апорны назоўнік не з'яўляецца апошнім у радзе аднародных членаў (або не ўваходзіць у склад гэтага апошняга з аднародных членаў): *Калісь любові хмель вясняны, што на калоссі ззяў расой, пілі мы сэрцамі дап'яна і вочы цешылі красой* (А. Д у б р о в і ч. Калісь любові хмель вясняны...). *Краіну вольную, што панства разбурала, павінны мы сумесна, разам аднаўляць* (Ц. Г а р т н ы. Сельскі мітынг). *Па дарогах тых, па сцежках тых, па якіх ішла сяброў сям'я ўся, нёс цябе між даляў дарагіх і натхнёна плакаў і смяяўся* (А. К у л я ш о ў. Маладосць). *На пясчаным узгорку ўскрай лесу, дзе раскінуліся, як авечкі на пашы, маладыя разложыстыя хвойкі, ціха, утульна і добра* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Па-хлапечаму свежы і мілы голас Колі Вялёнкі, што пачынае запеў, напамінае настаўніку адзін — такі самы, як сёння, — цудоўны вясновы вечар* (Я. Б р ы л ь. У чыстым полі пад ракітай). *О, як бы я хацеў спачатку дарогу жыцця папарадку прайсці яшчэ раз, азірнуцца, сабраць з дарог камені тыя, што губяць сілы маладыя, — к вясне б маёй хацеў вярнуцца* (Я. К о л а с. Новая зямля). [Мне помніцца] *вышыняў снежнае адзенне, якія зведаў чалавек, садоў і траў перасяленне і новыя кірункі рэк* (П. Б р о ў к а. Палеская дарога).

### МЕСЦА ДАДАНАЙ ЧАСТКІ У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ З АПОРНЫМ ЭЛЕМЕНТАМ ГАЛОЎНАЙ — ДЗЕЯСЛОВАМ

§ 1293. У складаназалежных сказах, апорным элементам галоўнай часткі якіх з'яўляецца дзеяслоў (або аддзеяслоўны назоўнік ці слова з дзеяслоўнай семантыкай), паміж састаўнымі часткамі могуць устанаўлівацца аб'ектныя, прасторавыя або часавыя сінтаксічныя адносіны. Агульная тэндэнцыя, якая наглядаецца ў такіх складаназалежных сказах, — размяшчэнне даданай часткі пасля апорнага элемента галоўнай пры ўмове, што паміж апорным элементам галоўнай і даданай частак могуць знаходзіцца іншыя члены сказа з фіксіраваным або нават нефіксіраваным размяшчэннем.

Разам з тым структура складаназалежнага сказа мае свае асаблівасці ў залежнасці ад таго, у якой функцыі выступае даданая частка.

§ 1294. Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі ў функцыі д а п а ў н я л ь н ы х характарызуюцца тым, што ў іх вельмі яскрава вызначаецца літаратурная норма: размяшчэнне даданай непасрэдна пасля апорнага элемента галоўнай часткі. Сам апорны элемент часцей за ўсё знаходзіцца ў канцы галоўнай часткі, і даданая размяшчаецца таксама ў постпазіцыі: *З-пад пільні ўсе пайшлі дарогай паміж поля і лесу і раптам п а ч у л і, што дзесьці далёка часта страляюць* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Дык от гэты Яўхім Стрыгун падышоў да Ладымеравай хаты і стаў наводшыбе ад усіх п а с л у х а ц ь, што будуць гаварыць людзі пра насценную газету* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Адразу к і д а л а с я ў вочы, што гэта пастушкі* (К. Ч о р н ы. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Сышлі на няма-нішто д у м к і, што Галене яшчэ рана ісці замуж* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *«Гледзячы які гуманізм...— адказваў Яфім Сцяпанавіч. — І г л е д з я ч ы, хто яго выказвае і да каго выказвае»* (Э. С а м у й л ё н а к. Апавяданне пра гуманізм). *А госця ты і не с п ы т а ў, чаго ў адведзіны з гарэлкаю прыйшоў* (М. Т а н к. Журавінавы цвет). *Камісія не павінна ч а к а ц ь, пакуль той ці іншы крытык узніме актуальную праблему* (з газет). *І я д з і ў л ю с я, як у вечным шлюбе пясчаных берагоў сухія губы цалуе хваляў ранішні прыбой* (А. З в о н а к. Хараство). *Іду вось, н е в е д а ю ч ы, дзе спынюся* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Вы б а ч ы ц е, якія тут горы?* (Х. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця). *Я х а ч у, каб балоты і багны, быц-*

*цам радасць у квецені ліп, снегавою раўнінаю прагна без загонаў і межаў ляглі* (П. Глебка. Жаданне).

Не з'яўляюцца адхіленнем ад гэтай нормы і выпадкі, калі пасля апорнага элемента галоўнай часткі стаіць указальнае (суадноснае) слова, а непасрэдна за ім — даданая частка: *Раман чула прыслухоўваўся да ўсяго, што рабілася вакол* (Я. Колас. Дачакаўся). *Адлегласць між слядамі гаварыла за тое, што чалавек, пакінуўшы гэтыя сляды на снезе, бег шпаркім бегам* (Я. Колас. Дрыгва). *Назаўтра досвіткам Петручок і Ахрыменка прынеслі ў штаб чырвоных вестку аб тым, што сталася з Сяргеем Карагаю* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Іншыя меры прыму проці тых, хто зрывае работу сходу* (Я. Колас. Адшчапенец). *Адгэтуль можна ўпотайкі назіраць усё, дзе што робіцца* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Верабей напрамілы бог крычаў перад ганкам і дабіваўся таго, каб пацук ачысціў яму дарогу ў свіран* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

Недалёка ад нормы таксама выпадкі, калі паміж апорным элементам і постпазіцыйнай даданай часткай знаходзяцца: а) часціцы; б) члены сказа, якія маюць фіксіраванае месца (у прыватнасці, постпазіцыйныя дапаўненні да дзеясловаў, якія выступаюць у ролі апорных слоў); в) словы і словазлучэнні, якія граматычна не звязаны са сказам (пабочныя словы і словазлучэнні, зваротак, устаўныя словы, словазлучэнні і сказы, а пры простай мове — словы аўтара). *Заслухалася* [Раіна] *шолахам асін... Не чула на'т, як падышоў Васіль і на плячо лягла яго рука* (М. Танк. Журавінавы цвет). *Тымі самымі часамі Галена сказала бацьку, што ідзе замуж за Костуся* (К. Чорны. Вясна). *Дапякаў цябе, што пішаш дрэнна і не распрацоўваеш сюжэт* (А. Куляшоў. Надзвычайнае сяброўства). *І пачуўшы вуліцу такую, ён ласкава гладзіць вус сівы і ўяўляе, мусіць, што жыву я недзе недалёка ад Масквы* (А. Куляшоў. Вуліца Маскоўская). *Загадваю, Ослік, каб ты глядзеў мне вока ў вока!* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Ты паслухай, дзед сярдзіты, што там чуецца ўгары?* (Я. Колас. Песня аб вясне). *«Па кірмашах гаварылі, — адазваўся нехта, — што яго паны збілі, хочучы ўзновака прыгон вярнуць»* (ананімная гутарка «Дзядзька Антон...»).

Калі зрэдку апорнае слова знаходзіцца не ў канцы галоўнай часткі, то даданая, нягледзячы на гэта, усё ж часцей захоўвае постпазіцыйнае становішча. У такім разе паміж апорным элементам і даданай часткай могуць знаходзіцца розныя члены сказа: *А думалі вы, што народ пераселіцца ў пушчы глухія, бары і сасоннікі?* (П. Панчанка. Мая геаграфія). *Пакляўся наш воін тады прад заранкай, што прыйдзе дахаты ён разам з каханкай* (П. Броўка. Дарога салдата). *Толькі з песні гукнецца калі, як таптала нячыстая сіла аксаміт рабаванай зямлі* (У. Хадыка. Зацішак). *І пaглядаеш ты з жальбой, як хмары коцяцца паволі* (М. Хведаровіч. Ты снішся мне часцей...). *Часамі слухала, працуючы, як чытаў у суседнім пакоі голасна Лявон кніжку якую* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Я чую, радасцю авіты, як з слуцкай бэрай, дружбе ў лад, пераклікаецца наліты цукровым сокам вінаград* (А. Александровіч. Роднаму краю). *Сочыць ён ціхім вокам, як танкі імчацца міма* (А. Куляшоў. Хлопцы апошняй вайны). *Вось глядзіць ён каля ставу, як вада прад ім бушуе, пеніць, падае з разгону, колы круціць спрытна, гонка...* (П. Броўка. Калгасны мельнік). *Просіць першы сусед мой, каб я дапытаўся дзяўчыны і аднёс гэты ліст* (А. Куляшоў. Дом № 24).

З прыкладаў відаць, што пастаноўка членаў сказа паміж апорным словам і даданай часткай успрымаецца як інверсія. Інверсія менш адчуваецца толькі тады, калі галоўная частка заканчваецца ўказальным

словам (хоць непасрэдна перад гэтым словам і не размяшчаецца апорны элемент галоўнай часткі): *Я гутару з табой паціху аб тым, што б нам хацелася* (У. Хадыка. Песні з поўдня). *Людская хваля панесла на сабе адсюль і тых, хто яшчэ ў гэты ж самы момант мерыўся не пакідаць гэтай залі і ўпарта канчаць кангрэс* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Інтэрпазіцыя даданай наглядаецца вельмі рэдка. Адзначаецца яна тады, калі даданая звязана з адасобленым словазлучэннем, размешчаным у пачатку сказа; з адным з аднародных членаў (не з апошнім) і, нарэшце, калі складаназалежны сказ пачынаецца ўказальным словам, непасрэдна пасля якога ідзе даданая частка: *І каралі, і дзяўчаты, нат і хустачка ўначы заміналі б толькі слухаць, як гамоняць туркачы, і глядзець на раскаваны ў сіняй тоні маладзік...* (М. Танк. Як задрэмлюць). *Ён сквапна сачыў за тым, як, не спяшаючыся, скручваюць цыгарку таўстыя пальцы Хвашча, і, паціскаючы плячыма ад холаду, апавядаў...* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Ксёндз Марцэвіч у часы рэпетыцыі галоўным чынам зварочваў увагу на чыстату акцэнтацыі польскай мовы, на тое, каб «хамская» мова ў некаторых герояў яго п'есы выгаварвалася смехатліва, праз меру груба, і на акуратнасць перадачы яго п'есы наогул* (З. Бядуля. Салавей). *Таго, што зрабілася, назад не адробіш* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

У іншых умовах інтэрпазіцыя даданай сустракаецца як выключэнне, параўн.: *Вестку аб тым, што цара скінулі, Лунгін сустрэў апатычна* (І. Шапавалаў. Бальшавікі граніцы). *Сказаць акуратна, у які дзень ён можа быць тут, не магу* (Я. Колас. Адзін).

Размяшчэнне даданай дапаўняльнай часткі перад апорным элементам галоўнай бывае вельмі рэдка. Гэта ў асноўным сказы размоўнага стылю. У такіх сказах даданая частка знаходзіцца ў прэпазіцыі. Непасрэднае суседства з апорным элементам не абавязковае, хоць у сказах, дзе такое суседства захавана (а таксама ў сказах, дзе галоўная частка пачынаецца ўказальным словам), інверсія адчуваецца ў меншай ступені, што відаць з прыкладаў: *Калі я незнарок чым-небудзь пакрыўдзіў цябе, прабач* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Што змалку жыццё надало, ўзрашчу, загартую у дзеях* (У. Хадыка. Апошняя крайка мяжы). *«Чаму быць, таго не мінаваць...»— задзёрыста адказаў Дзямян* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Недарма гавораць людзі: «Хто ўкраў парасё, таму і ў вушах пішчыць»* (Я. Колас. Малады дубок). *Што ваўкі душылі авечкі — пра гэта ўсе ведалі яшчэ ўночы* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *А што на камень ноч зляцела — ты гэта не заўважыла* (У. Хадыка. Песні з поўдня). *Што мяне ад раз'юшаных куль засланяе бяроза старая, — я не веру* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Што міргнулі з карагоду вочы, я пакуль нікому не скажу* (П. Броўка. Вечар). *А як цёпла, каб ты знала* (Я. Колас. «Пастушка»).

Заўвага 1. Размяшчэнне даданай дапаўняльнай часткі (якая знаходзіцца ў інтэрпазіцыі) перад апорным словам галоўнай — яўная інверсія: *Я дзівіўся з зоркі ранняй, час ад часу к ёй вяртаўся і ці надаўга міргання яе хопіць — ўсё пытаўся* (Ц. Гартны. Бачыў раз я, як з-пад хмары...). *Таксама хлопцы разважалі і, як трымацца з ім, не знал*і (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага 2. Калі інтэрпазіцыйная даданая частка, якая да таго ж размяшчаецца перад апорным элементам, згортваецца да аднаго слова, тады яна ператвараецца ў член простага сказа: *Мы табе што хочаш дамо* (А. Якімовіч. Бацькаў дар). *«Мы ім яшчэ ведаеце што пакажам?» — успомніла раптам Надзя* (І. Грамовіч. Калі паспелі антонаўкі).

§ 1295. Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі, якія ўжываюцца ў функцыі даданых месца, будуюцца ў большасці выпадкаў па такой жа схеме, як і сказы з даданымі ў функцыі дапаўняльных. Даданая частка звычайна размяшчаецца ў постпазіцыі, пасля апорнага элемента галоўнай часткі. Праўда, тут наглядаецца значна большая

свабода ў аддзяленні даданай часткі ад апорнага слова: паміж даданай і апорным словам могуць быць розныя члены сказа, і гэта ўжо не ўспрымаецца як інверсія. Такія ж сказы, дзе галоўная частка заканчваецца ўказальным словам або акалічнасцю месца (нягледзячы нават на тое, што паміж апорным словам і акалічнасцю месца ці ўказальным словам змешчаны іншыя члены сказа), лічацца нормай літаратурнай мовы: *Вочы, поўныя дум, ў дол маўкліва глядзяць, дзе надзеі даўно іх спрадвеку ляжаць* (Я. Колас. Сябру). *Адно ветрам асіны хістаюцца, дзе сном слава заснула нязваным* (Я. Купала. Сон на кургане). *І мы спяшаемся туды, дзе маладая весялосць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Трапіў Франц яе туды, дзе зімуюць ракі* (К. Крапіва. Гітлер Марце пагражае...). *Пасядуць пад тымі лістамі ў лясочку, дзе колісь малымі сядзелі ў цянёчку* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Я зноў жыву ад горада ўдалі, дзе я знайшоў куток у сваім гусце* (Я. Колас. Вусце).

Калі ж перад даданай часткай, аддзеленай ад апорнага слова іншымі членамі сказа, непасрэдна не размешчана ўказальнае слова або акалічнасць месца, тады структура сказа ўспрымаецца як адхіленне ад нормы: *Ты снішся мне часцей. І вось у цёплай хустцы і ў бурносе на крыжавых стаіш чагосьь, дзе лісце кружыць злая восень* (М. Хведаровіч. Ты снішся мне...). *З ласкавай рукі рыбака Панцялея віць будуць вянкі, дзе лясок зелянее* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве).

Яскрава заўважаецца, што даданая частка звычайна размяшчаецца іменна пасля ўказальнага слова (або акалічнасці месца); апорнае ж слова галоўнай часткі можа быць і пасля даданай, прычым і ў такім разе не абавязкова, каб яно непасрэдна ішло за даданай: яно можа быць і аддзелена ад даданай іншымі членамі сказа. *Там, дзе рэчка лягла за гарою, набракаюць даўно паплавы бесклапотнай шумлівай вадою* (А. Куляшоў. Вясна). *На адхонах стромых кручаў непраходных, дзе з арбою буйвалы сонныя пляліся, выраслі пасёлкі новага завода і дарогай-стужкай роўнай абвіліся* (М. Хведаровіч. Чыятуры). *Там, дзе стаіць панурая у зацішку альха, чаромха белакурая чакае жаніха* (М. Хведаровіч. Вясна). *Там, дзе вайна зялёны сад агнём смяротным апаліла, зноў маладых каштанаў шмат мы працавіта насадзілі* (М. Танк. У гарадскім садзе). *Між глыбокіх снягоў, дзе лес глуха шуміць, ціхі дом леснікоў адзінока стаіць* (Я. Колас. На адзіноце). *У Дуброве за Градкамі, дзе быў мост насупроць лагера брыгады «Сокал», бой разгарэўся надоўга* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Дзесьці на ўсход ад таго месца, дзе сядзеў цяпер салдат, неяк ліпела на свеце яго сям'я* (К. Чорны. Семнаццаць год). *Кожны вечар ля крыніцы, дзе вада дзюрчыць, плюскоча, малады стаяў нявольнік і марнеў штодня ўсё болей* (М. Багдановіч. Азра).

Ва ўсіх прыведзеных прыкладах даданая знаходзіцца ў інтэрпазіцыі: пасля ўказальнага слова (або акалічнасці месца) і перад астатнімі членамі сказа апорнай часткі. Інтэрпазіцыя даданай у іншых умовах — з'ява рэдкая. Такія сказы — адхіленне ад нормы: *Часамі, дзе ўжо зусім нізка было, ішоў спрэс каржакаваты хвойнік, крывы бярэзнік, купчасты алешнік* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І потым вясной, дзе раней былі межы, у новай красе зацвіталі палі* (А. Куляшоў. Пяцігодка).

Заўвага. Інтэрпазіцыя даданай часткі, якая згортваецца да аднаго слова, можа прыводзіць да таго, што яна ператвараецца ў член сказа: *На людзях ён гарою стаіць за савецкую ўладу і часамі можа, дзе выгадна, падпусціць на яе карысць агітацыі* (Я. Колас. Адшчапенец). *І ўцякалі, дзе папала, са страхам вялікім, Скарападскі і Пятлюра, Калчак і Дзянікін* (Я. Купала. Чырвонай Арміі паходы).

Прэпазіцыя даданай часткі месца таксама наглядаецца нячаста, аднак даданыя месца перад галоўнай часткай ужываюцца ўсё ж часцей, чым даданыя дапаўняльныя ў адпаведных умовах. Галоўная частка можа пачынацца апорным словам, указальным словам (акалічнасцю мес-

ца), але не ўспрымаюцца як рэзкае адхіленне ад нормы і такія сказы, дзе непасрэдна пасля дададай размяшчаюцца іншыя члены сказа. *Дзе вінаград да глебы звіс і шэпча таямніча, нясла мне, хвораму, кумыс чарнявая калмычка* (М. Сурначоў. Штодзень вялі мяне шляхі...). *Дзе пустка поруч з вечным ліхалеццем са зверам дзікім самапас жыла, паўсталі гарады і свету свецяць снапамі яркімі жыцця й святла* (Я. Купала. А мы сабе сеем і сеем...). *Дзе таежныя высяцца горы — там сірэны гудуць і маторы* (М. Хведаровіч. Залаты лістапад). *Дзе ляжалі радком снарады — дзіцянё бясклапотна спіць* (П. Панчанка. Падбіты танк). *Дзе Вуса цалуецца з хвалямі Лошы, — Нёман вячысты выходзіць у свет* (А. Александровіч. Першы раз у вёсцы). *Дзе былі адны балоты, — у інакшы дзень зашасцелі пазалотай жыта і ячмень* (А. Куляшоў. Радасць).

§ 1296. Складаназалежныя сказы з дададзенымі часткамі ў функцыі часавых таксама падпарадкоўваюцца агульнаму правілу: даданыя размяшчаюцца пасля апорнага слова, у постпазіцыі. Пры гэтым даданая можа ісці непасрэдна за апорным словам галоўнай часткі, можа быць аддзелена ад апорнага слова ўказальным словам (або акалічнасцю часу). Больш таго, галоўная частка можа толькі заканчвацца ўказальным словам (або акалічнасцю часу), хоць гэта ўказальнае слова і не размяшчаецца непасрэдна за апорным словам. *Можа вам не карціць па гаях, сцежках роднага краю, па расе светаянскай прайсці, калі рунь новых слоў прарастае* (М. Танк. Вясной). *А ён нават не заплача, толькі голаву прыгне, як яго рука лядача неспадзеўна штурхане* (Я. Колас. Сымон-музыка). *«Эх ты, пава!»—захоплена крыкнуў, як толькі вясёлая, дагледжаная Ластаўка ганарыста затанцавала па снезе* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Ля завадзі, сярод чароту, сяджу я схілены ў тры пагібелі і не ўстану, не пайду, пакуль не зразумею самы лад жыцця людскога як мае быць* (З. Бядуля. На гай высокі...). *Ён сумуе тады, калі па шырокім гасцінцы едуць падарожнікі* (З. Бядуля. Дзе канец свету?). *Ён прыйшоў позна, апоўначы, калі ўсе ўжо халастыя парабкі ў агульнай скарбовай афіцыне паснулі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Прыход дня начальнік прыкмячае толькі тады, як белая муць досвіткаў уваходзіць у пакой і залівае кволы агеньчык лямпачкі, зводзячы на нішто яго падслепаваты бляск* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Больш глыбока і шматгранна разгарнуўся талент Янкі Купалы пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі паэт атрымаў поўную магчымасць гаварыць свабодна на сваёй роднай мове* (У. Агіевіч. Янка Купала).

Даданая, якая знаходзіцца ў такіх адносінах да апорнага слова, можа аказацца і ў інтэрпазіцыі — пры наяўнасці аднародных членаў у галоўнай частцы або нават і без іх: *І яна* [Наташа] *нават слова не сказала, калі сакратар змоўк, а толькі, пачырванеўшы, утаропіла панікілівы позірк на Косцю* (І. Шамякін. Наташа). *Тым болей прагна кліча кроў: упэўненым шырокім крокам прайсціся каля тых муроў, прыпасці вуснамі і піць бы, пакуль дазволяць берагі, блакітныя струмені Віцьбы з адценнем чорным ад тугі* (П. Глебка. Гораду на Дзвіне).

Разам з тым у сказах з даданымі часавымі наглядаецца і вялікая свабода ў аддзяленні дададай часткі ад апорнага слова, у пастаноўцы яе перад апорным словам (як у інтэрпазіцыі, так і ў прэпазіцыі). Аддзяленне даданай ад апорнага слова іншымі членамі сказа пры пастаноўцы яе ў постпазіцыі не з'яўляецца адхіленнем ад нормы. Гэта сцвярджэнне тым больш справядліва для выпадкаў, калі раздзяляючыя члены сказа маюць фіксіраванае (адносна апорнага дзеяслова) месца ў галоўнай частцы, г. зн. калі яны без парушэння звычайнага парадку слоў не могуць быць пастаўлены перад апорным словам. Параўн.: *Што сказалі мне рэчы, калі я выходзіў з кватэры?* (А. Куля-

ш о ў. Сцяг брыгады). *Чым сустрэла мяне вуліца, як я выходзіў* (там жа). *Не змоўкнуць песні-парыванні у веснамайскай сіняве, пакуль пракоціцца паўстанне, затопіць бураю сусвет* (П. Т р у с. Май). *Яны патрацілі мо' паўгадзіны, пакуль узмакрэлы сапёр, прылаўчыўшыся і падхапіўшы адной рукой камісара, перацягнуў яго ў арэшнік* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Чуў Міхась за сабою гэтыя грахі і доўга сачыў вачыма з канапель, пакуль не схаваецца настаўнік з відавоку* (Я. К о л а с. Школа).

У межах нормы і такое размяшчэнне даданай часткі, калі яна, будучы перад апорным словам галоўнай, знаходзіцца непасрэдна пасля ўказальнага слова (або акалічнасці часу), г. зн. фактычна ў інтэрпазіцыі: *Тады, калі хутарскі гаспадар даўно ўжо дома, у захутарскай вёсцы збіраецца моладзь* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Пазалетась у ліпені, калі ў інстытутах пачаўся новы прыём студэнтаў, у кватэру маю, на пяты паверх аднаго з пасляваенных дамоў, прыйшла незвычайная госця* (Я. Б р ы л ь. Ты — мой найлепшы друг). *Улетку сорак чацвёртага года, як толькі гітлераўцаў прагналі, Змітра пайшоў у армію* (Я. Б р ы л ь. Дзеля сапраўднай радасці).

Характэрна, што пастаноўка перад даданай часткай іншых членаў сказа, у прыватнасці дзейніка, успрымаецца як адхіленне ад нормы: *Коні, узмакрэлыя ад далёкай дарогі і хуткай язды, як толькі ім дазволілі перайсці на ступу, пачалі задаволена фыркаць, рупліва тупаючы па глыбокім пяску* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень). *Я, бывала, як быў гэтакі, як ты, дык... эх, папаабвучваў гэтых маладых коней* (К. Ч о р н ы. Лета). *Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе* (К. К а л і н о ў с к і «Мужыцкая праўда» № 1). *І ў грудзі ўпёршыся напасці, стары салдат насмерць стаяў: ён перад тым, як доле ўпасці, яшчэ раз кулю пасылаў* (М. Л у ж а н і н. Пачатак). *Шапілёву даўно, яшчэ ў вайну, калі ён вярнуўся дахаты параненым з нямецкага фронту, пакінула жонка чацвёра дзяцей* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё).

Такім чынам, інтэрпазіцыя часавай даданай часткі лічыцца нармальнай з'явай толькі тады, калі з галоўнай часткі, якая размяшчаецца пасля даданай, у пачатак сказа выносіцца ўказальнае слова (або акалічнасць часу).

Прэпазіцыя даданай часткі таксама не з'яўляецца парушэннем нормы. Тут наглядаецца як непасрэднае суседства даданай з апорным словам, так і раздзяленне іх іншымі членамі сказа, прычым апошняе нават часцей: *Калі прачнуўся я — была ўжо ціша ночы* (М. Ч а р о т. Русалка). *Покуль срэбнаю расою заблішчыць трава, будзе з намі наша радасць шчыра сябраваць* (М. Х в е д а р о в і ч. Я не госць тут адзінокі...). *Як жа сышлася на свята сям'я баявая, не далічыліся ў роце Мірона Гукая* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *І як толькі святло загарыцца, размайляе з пасёлкам сталіца* (М. Х в е д а р о в і ч. Горад будучыні). *Калі бусел ляцеў паляваць, да імшары купчастай выганялі суседкі рупліва жывёлу на пасту* (П. П а н ч а н к а. Суседзі). *Пакуль усё пройдзе, яму забаранілі паднімацца з пасцелі* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Як увосень знікае маркотнае сонца за свет, то зямля сваё сонца рэўнуе да іншых планет* (А. К у л я ш о ў. Зямля і сонца). *Як толькі ноч суровая за небасхіл збяжыць, зарніца каляровая над краем задрыжыць* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Гудкі).

§ 1297. Падагульняючы ўсё сказанае, можна адзначыць, што чым больш абстрактны характар маюць адносіны паміж часткамі складаназалежнага сказа (аб'ектныя адносіны — прасторавыя адносіны — часавыя адносіны), тым большай свабодай (у адносінах да апорнага элемента галоўнай) валодае даданая частка. Найменш свабоднымі з'яўляюцца даданыя ў функцыі дапаўняльных, а найбольш свабоднымі — даданыя ў функцыі часавых.

## МЕСЦА ДАДАНАЙ ЧАСТКІ У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ З АПОРНЫМ ЭЛЕМЕНТАМ ГАЛОЎНАЙ — ПРЭДЫКАТЫЎНЫМ СЛОВАЗЛУЧЭННЕМ

§ 1298. У складаназалежных сказах, апорным элементам галоўнай часткі якіх з'яўляецца прэдыкатыўнае словазлучэнне, дададзеныя часткі ўжываюцца ў функцыях дзейнікавай, выказнікавай, умоўнай, уступальнай, выніковай і супастаўляльнай.

Агульным (у адносінах да месца даданай) для ўсіх складаназалежных сказаў гэтай групы з'яўляецца тое, што даданая частка звычайна не разрывае апорны элемент, яна можа размяшчацца перад апорным словазлучэннем або пасля яго. А так як апорнае словазлучэнне ў такіх сказах — гэта дзейнік і выказнік, то практычна атрымліваецца, што даданая частка знаходзіцца або ў прэпазіцыі, або ў постпазіцыі. Пераважнае размяшчэнне даданай часткі пасля галоўнай або перад ёй залежыць ад функцыі даданай у складаназалежным сказе.

§ 1299. Складаназалежныя сказы з даданымі ў функцыі в ы н і к о в ы х вызначаюцца цвёрдай нормай: даданая частка ў такіх сказах можа размяшчацца толькі пасля галоўнай: *Даражэй за ўсё свабода, дык што плакацца дарма?* (Я. К о л а с. З песень адзінокага). *Самому трэба сумленна рабіць, дык і станок лепшы будзе* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). *Бацькі прыносілі яму яду, так што галадаць не прыходзілася* (Я. К о л а с. У чым іх сіла).

З а ў в а г а. Інтэрпазіцыя даданай выніковай часткі магчыма толькі ў тым выпадку, калі яна адносіцца да дзеепрыметніка (дзеепрыслоўя) ці дзеепрыметнікавага (дзеепрыслоўнага) словазлучэння, размешчаных у пачатку сказа.

§ 1300. У складаназалежных сказах з даданымі ў функцыі д з е й н і к а в ы х даданая частка таксама звычайна размяшчаецца ў постпазіцыі. Гэта ў першую чаргу датычыцца даданых са злучальнымі словамі і злучнікамі *што, як, каб, калі*: *Цяпер не толькі нам здаецца, што плошчы з назваю такою страчаць далёка давядзецца за нашай сённяшняй мяжою!* (А. В я л ю г і н. Чырвоная плошча ў Баранавічах). *І перад імі паплыло, чым кожны міг жылі: і твар каханай, і сяло, і вежы на Крамлі* (П. Б р о ў к а. Танкісты). *Мне радасна бачыць, як буйна расце штодня беларуская наша сталіца* (П. Б р о ў к а. Мінск). *А для савецкай улады зусім не канечне, каб былі пасёлкі* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Даданыя дзейнікавыя з названымі злучальнымі словамі і злучнікамі ў прэпазіцыі бываюць рэдка; выпадкі пастаноўкі галоўнай часткі пасля даданай заўсёды матываваны стылістычна: *А што далей будзе, дык невядома* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Як яно будзе далей, сказаць цяжка* (Я. К о л а с. «Дзеравеншчына»). *Наколькі гэты наступ паспяховы — цяжка сказаць* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Дык вось як, саколю, бывала даўней. Ці блага, ці добра — вам збоку відней* (Я. К о л а с. Батрак).

Некалькі інакш абстаіць справа з даданымі, якія звязваюцца з галоўнай часткай злучальным словам *хто*. Такія даданыя, наадварот, часцей ужываюцца ў прэпазіцыі, а постпазіцыйнае іх становішча ўспрымаецца як стылістычна матываванае. Напрыклад: *Хто жыць не хоча — таго злосна, таго бяссэрдна праклінаць* (Ц. Г а р т н ы. Я жыць хачу). *Хто пытае, той не блудзіць* (народн.). *Каму дудка паслушна ды іграе спеўна, той душа дабрадушна і шчырая, пэўне* (Ф. Б а г у ш э в і ч. Каму дудка паслушна...). Параўн.: *От гэтыя якраз, хто цяпер тут стараецца ўгаварыць нас!..* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *«Закурвайце, хто хоча», — сказаў па-свойму спакойна* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

Разам з тым даданыя дзейнікавыя часткі могуць быць і ў інтэрпазіцыі. Праўда, інтэрпазіцыйнае іх становішча блізкае да прэпазіцыйнага: даданая размяшчаецца непасрэдна пасля ўказальнага слова, якім пачынаецца сказ. *І той, хто нізка хіліць стан, каго, як флюгер, вецер кру-*

*жыць, — пакорнасць кінь, суровым стань, бяры сабе ў сяброўкі мужнасць* (М. Хведаровіч. У час вячэрні). *Той, хто разлагае армію знутры, той самы подлы, самы страшны вораг* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Усё, што побач рэвалюцыі, то безумоўна ніжэй яе па значнасці* (Ц. Гартны. «Больш за ўсіх»).

Заўвага. Размяшчэнне даданай дзейнікавай у інтэрпазіцыі — не пасля ўказальнага слова, а пасля іншага члена сказа (акалічнасці, дапаўнення і г. д.) — сустракаецца як выключэнне і нормай літаратурнай мовы не з'яўляецца: *Тады ён* [чалавек] *табе інакшым зробіцца. На новы капыл яго нацягнуць трэба. Бо ззамаладу, што б ён ні пачынаў рабіць, дык ўсё яму рукі абцінала* (К. Чорны. Зямля). *Заўсёды, хто жыве ўспамінам аб мінулым, той апускае вочы ў дол* (А. Звонак. У дарозе).

Складаназалежныя сказы з даданымі ў функцыі уступальных вызначаюцца тым, што даданая частка можа знаходзіцца або перад галоўнай, або пасля яе. Колькасна як прэпазіцыя, так і постпазіцыя амаль раўнацэнны. Так, даданыя са злучнікамі *хоць (хаця), хай (няхай), хай сабе што (няхай сабе што), дарма што* з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі і ў постпазіцыі і ў прэпазіцыі. Параўн.: *А шчасця, гарачага, хмельнага шчасця ім ніяк нельга было ўдосталь напіцца, хоць прастаялі на снезе амаль да світання* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Гаварылі аб даўно пражытым, аб далёкім дзяцінстве... Слаўным дзяцінстве, хаця было яно мурзатым і не дужа радасным* (М. Лынькоў. Маладосць). *Хоць след пуцін маіх засыпан там ужо даўно вятрамі, я бачу, як жывых, мне блізкіх, дарагіх, замучаных царамі і панамі* (Я. Колас. З дарогі). *І хоць усё ў кабінеце здавалася святочна ўрачыстым, на спакойным твары старшыні Алесь заўважыў нейкую асаблівую заклапочанасць* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Перавага аддаецца прэпазіцыйнаму становішчу даданай часткі толькі тады, калі яна звязваецца з галоўнай спалучэннем займеннікаў *як, калі, дзе, куды* і г. д. з часціцай *ні (як ні, калі ні, куды ні, адкуль ні, што ні* і г. д.).

Заўвага. Інтэрпазіцыйнае размяшчэнне даданай уступальнай магчыма ў сказах з аднароднымі выказнікамі галоўнай часткі. Але і там даданая ўспрымаецца як сказ, блізкі да ўстаўнога: *Паспаў гадзін пяць, устаў і пачаў збірацца, і хоць на дварэ было халаднавата, шыняля не надзеў* (Я. Колас. Адукацыя). *Раз-поразу ён азіраўся назад і ў бакі, хоць нельга было нічагуткі ўгледзець перад сабою, і ўсё прыгінаўся як найніжэй* (К. Чорны. Люба Лук'янская). Параўн. і сказ: *Радасць, хоць слязою твар і арасіла, але радасць, радасць цепліцца ў вачах* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

§ 1301. У складаназалежных сказах з даданымі ў функцыі выказнікавых наглядаецца прыкладна такая ж карціна: даданая частка можа быць як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі. Найбольш частым сродкам сувязі, як ужо адзначалася, у такіх сказах з'яўляецца злучальнае слова *які*. Даданыя з гэтым злучальным словам размяшчаюцца пераважна ў прэпазіцыі. Даданыя з астатнімі злучнікамі ці злучальнымі словамі размяшчаюцца як перад, так і пасля галоўнай часткі: *Які Хомка, такая і яго жонка. Якая папрадуха пры кудзелі, такое палатно ў белі* (народн.). *Васіль быў адным з тых, каму не сваячна, не гасцінна расчыняліся дзверы Ліневай хаты* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Заўвага. Інтэрпазіцыя даданай выказнікавай часткі магчыма толькі ў сказе з аднароднымі ўказальнымі словамі-выказнікамі або з іншым выказнікам, які знаходзіцца ў адносінах аднароднасці з указальным словам-выказнікам галоўнай часткі.

§ 1302. Складаназалежныя сказы з даданымі ў функцыі супастаўляльных вызначаюцца тым, што ў іх будове прэпазіцыя даданай часткі з'яўляецца рысай пераважаючай. Асабліва гэта датычыць сказаў, дзе даданыя звязваюцца з галоўнай часткай злучнікамі *чым* і *як*: *Чым яскравей будуць вызначацца гэтыя індывідуальныя асаблівасці пісьменніка, тым цікавей будзе яго творчасць* (К. Чорны. Маладыя празаікі). *Чым весці спрэчку гэту дурна, было б, па-мойму, лепей крыху за працу ўзяцца — хто паціху, а хто няхай бы сабе й бурна* (К. Крапіва. Аб «буры і націску»). *Як было людна ў хаце, так стала ціха* (Я. Брыль. На

Быстранцы). *Як горды Эльбрус не апусціцца долу, — ніколі не ўкленчаць народы Каўказа* (П. Броўка. Каўказ). *Абы лавілася рыба, дык будзе і хлеб* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Постпазіцыя даданых сустракаецца радзей, але і яна не нясе ніякай дадатковай стылістычнай нагрузкі: *«Лепш ведаць адразу, чым намарна спадзявацца», — сказаў ён* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Найлепш было крылле зламаць, як біцца ў тузе навальнічнай* (П. Глебка. На варце). *Я не знаю большай чэсці, як святы доўг чэсна несці — стаць на абарону* (Я. Колас. Я — баец чырвоны).

У сярэдзіне галоўнай часткі даданыя супастаўляльныя не размяшчаюцца.

§ 1303. Яркай перавагай прэпазіцыі над постпазіцыяй характарызуюцца сказы з даданымі ў функцыі ўмоўных. Пераважнае прэпазіцыйнае становішча даданай часткі тлумачыцца імкненнем захаваць паслядоўнасць у разважанні: спачатку выкладаецца ўмова, а потым — вынік. Перад галоўнай часткай размяшчаюцца даданыя ўмоўныя з любым злучнікам: *Пад аднастайнае пакалыхванне машын камісар сіліўся як мага адагнаць сон. А калі ўспомніў усё перажытае за гэтыя чатыры дні, сон адразу знік, растаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А калі што і цяжкавата прыйдзецца на рабоце, то няўжо ж не робячы жыць?* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Як не счуюць мяне, я мацней загуду, дам гучнейшы акорд песні новай...* (М. Чарот. Бунтар). *Як жа ён* [месяц] *над загонам да поўнага хлеба дарос, то цымбалы са звонам і паляцелі з нябёс* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Гэта быў непрактычны абібок. І каб на яго рукі ўсё асталося, ён рашыў бы маёнтак за адзін дзень* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Каб памераць нашу зямлю, то ў нас яе будзе пэўне меней, як у дварэ* (Я. Колас. Бунт). *Раз патрэбна, дык патрэбна* (К. Чорны. Зямля). *А што да чырвоных, то Васіль Бусыга спакойны на гэты конт: паляк не адзін — за яго спіною Францыя і Ангелька стаяць* (Я. Колас. Дрыгва).

Калі акцэнтуацыя ўмовы аслабляецца, калі галоўная ўвага ў сказе звяртаецца на вынік, а тое, аб чым гаворыцца ў даданай частцы, падаецца як пабочная заўвага, тады даданая частка размяшчаецца пасля галоўнай: *Вада круціла яе, шалёна кідала ў бок, уладна цягнула на дно, калі Надзя трапляла ў кіпучую варонку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сон зняло як рукою, што́ ім самыя лепшыя сны, калі з кожнай вярстою да хлеба ўсё бліжай яны?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Камандзір, а што, калі Барысаў паў сапраўды?* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Так, на свеце ўсяго многа, як размысліш унікліва і падумаеш над гэтым* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Яно чаму б? Служыць бы можна, каб не валяўся так нязбожна у вочы гэты Рак-вар'ят* (Я. Колас. Новая зямля). *Ну, але яна гатова паступіцца для Кузьмы і цырымоніяй, і белым адзеннем, раз ён не згодзен і не можа, як ён кажа, «арганічна пераварыць папа і Ісайю лікуй»* (Я. Колас. Адукацыя).

Заўвага. Значэнне пабочнай заўвагі яшчэ больш моцна адчуваецца ў даданай умоўнай частцы, калі яна знаходзіцца ў інтэрпазіцыі: *Бо ў цяжкай хадзе, калі коле жарства, часамі ўсплывала і слоў перагаса...* (П. Броўка. Янку Купалу). *Сам гаспадар, калі ён не зусім стары, пачынаў неўпрыцям павarушваць пад лавай наскамі ботаў ці лапцей* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Размяшчэнне ўмоўнай даданай часткі ў сярэдзіне галоўнай наглядаецца выключна рэдка.

### МЕСЦА ДАДАНАЙ ЧАСТКІ У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ З АПОРНЫМ ЭЛЕМЕНТАМ ГАЛОЎНАЙ — НЕПРЭДЫКАТЫЎНЫМ СЛОВАЗЛУЧЭННЕМ

§ 1304. У складаназалежных сказах, апорным элементам галоўнай часткі якіх з'яўляецца непрэдыкатыўнае словазлучэнне, даданыя часткі могуць ужывацца ў функцыі мэтавых, прычынных, характару і спосабу

дзеяння (уключаючы і даданыя з адценнем параўнання), меры і ступені. Цэнтрам апорнага элемента заўсёды выступае выказнік, з якім звязваюцца іншыя члены апорнага словазлучэння (як правіла, акалічнасці). З гэтай прычыны даданая частка, размяшчаючыся пасля апорнага словазлучэння, найчасцей аказваецца ў постпазіцыі. Гэта і з'яўляецца галоўнай характэрнай рысай усіх складаназалежных сказаў такога тыпу.

Складаназалежныя сказы з даданымі ў функцыі мэтавых зрэдку дапускаюць і такую структуру, калі даданая можа знаходзіцца перад галоўнай. Праўда, у такіх выпадках даданая нясе большую сэнсавую нагрузку, што відаць з параўнання дзвюх груп складаных сказаў (з постпазіцыяй і з прэпазіцыяй даданых частак): *Ён молатам біў на заводзе, з сярпом завіхаўся у полі, каб вораг у новым паходзе не здужаў яго ніколі* (А. Куляшоў. Быліна пра волата). *І шумяць і пеняцца рачулкі па шырокіх руслах сваіх даўніх, каб сабраць патокі водаў гулкіх залатое рэчкі Алазані* (М. Хведаровіч. Сігнахі). *Часу зусім выстарчала для таго, каб не спяшаючыся прыйсці ў тэрмін на ўмоўленае месца* (Я. Колас. Дрыгва). *Я вярнуўся затым, каб засведчыць усім вернасць марам сваім, як жыццё, маладым* (А. Куляшоў. Кожны мае свой бор...). *Каб не трапілі бадзягі у такі багаты дом, галасістыя дварнягі заліваліся вакол* (П. Броўка. Кацярына). *Каб пазбыўся ён смагі, піць даю яму з флягі* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Каб смела ў даль дарог глядзець, змагаць вякоў варожых раць, як можна больш нам трэба ўмець і будаваць і ваяваць* (У. Хадыка. Краям выростаць і цвісці...). *Каб разагнаць сваю журбу, да вуснаў дзед прыклаў трубу* (А. Александровіч. Дзед і ўнук).

Не з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы і такая будова складаназалежных сказаў, калі даданая частка знаходзіцца ў інтэрпазіцыі. Важна толькі, каб сама даданая не разрывала апорнага элемента (каб яна была перад ім або пасля яго). Гэта ўмова захоўваецца звычайна тады, калі ў сказе ёсць адасобленае словазлучэнне або аднародныя выказнікі з паясняльнымі словамі: *О сонца, ззяй ярчэй! Звязаўшы ў вузел хмары, каб не цямнілі нам, — ушчэнт іх спапялі!* (А. Александровіч. Цені на сонцы). *Яна папраавіла яму шынель, сям-там наставіла зялёных галінак, каб чалавек не кідаўся залішне на вока чужому, і, развітаўшыся з параненым, хутка пайшла з Васількам знаёмай ёй сцяжынкай* (М. Лыньков. Векапомныя дні). *Спытаўся я наўздагад, каб толькі не слухаць няшчырасці, але трапіў якраз* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Загубілі яе, затапталі яе трактарамі, а каб нават слядоў не пакінуць, спалілі агнём* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Твар прыкрылі хусцінкай і, каб вецер не здзімаў яе, палажылі па двух беражках дробных каменьчыкаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ты набрала маіх кніжак два партфелі і прыпол, а каб быць знаёмай бліжай, напісала пратакол* (Я. Колас. Першае знаёмства).

Заўвага. Выпадкі, калі б даданая частка знаходзілася ўнутры апорнага элемента, надзвычай рэдкія; даданая ў такім разе набывае адценне ўстаўнога сказа: *Пасля пачаў паволеньку, каб не пакалоць ног, праходжвацца ўзад і ўперад па сцежцы* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Даданая частка фактычна аказваецца ў сярэдзіне галоўнай і тады, калі складаназалежны сказ пачынаецца ўказальным словам (ці словазлучэннем у ролі ўказальнага слова), а сама даданая размяшчаецца непасрэдна пасля яго: *Ніякай кашы не зварыш з гэтай бабай. Замест таго, каб біць у адно, яна табе ўсё наўпоперакі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Аднак такая інтэрпазіцыя даданай надзвычай блізкая да прэпазіцыі: не выпадкова, што ўказальнае слова (словазлучэнне) можа пераходзіць у склад даданай часткі, утвараючы састаўныя злучнікі.

§ 1305. Аналагічная карціна наглядаецца і ў структуры складаназалежных сказаў з дадзенымі ў функцыі п р ы ч ы н н ы х. Даданая частка не можа разрываць апорны элемент; надзвычай рэдкія выпадкі, калі яна можа быць у прэпазіцыі (даданая з найбольш пашыраным злучнікам *бо* наогул не бывае перад галоўнай часткай), і такія сказы звычайна нясуць пэўную стылістычную нагрузку (у параўнанні са сказамі, дзе даданая стаіць пасля галоўнай). Параўн.: *Але думкі ішлі лёгка, бо за імі ўзнімаліся напорна адчуванні* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Арагва берагі калоціць, бо паміж гор ёй бегчы цесна* (М. Х в е д а р о в і ч. Раніцою). *І зямля, як дзіцё, да мяне прытулілася целам магутным: «Дзе ж ты быў, дзе ж хаваўся ты гэтулькі дзён, што дамоў не ішоў?» — запытала ледзь чутна* (П. П а н ч а н к а. Кожны з нас прыпасае радзімы куток...). *Колькі слабых партрэтаў трапляе на выстаўку таму, што мастак працаваў паспешліва, неабдумана выбраў натуру і г. д.* (П. Г е р а с і м о в і ч. Адстаючы жанр жывапісу). *Савецкая прадстаўнічая сістэма з'яўляецца народнай, таму што яна жыве жыццём народа, улоўлівае і адлюстроўвае настрой працоўных* («Весці АН БССР»).

*Яму самому ніколі не прыходзіла такая думка — ускочыць у студню... А як тут было прахладна ды спакойна, то Арцём ад задавальнення нават усміхнуўся сам сабе* (Я. К о л а с. Недаступны). *Каб ты, ведала, колькі людзей ездзіць! Гэта што мы дома сядзім, дык нічога не бачым* (М. П а с л я д о в і ч. Цёплае дыханне).

Інтэрпазіцыя даданай прычыннай абумоўліваецца тымі ж фактарамі, што і аналагічная пазіцыя даданай мэтавай, а іменна наяўнасцю ў сказе адасобленых словазлучэнняў (калі апорны элемент — у такім словазлучэнні, а само словазлучэнне пачынае сказ) ці аднародных выказнікаў (калі даданая звязана не з апошнім выказнікам). Даданая частка займае інтэрпазіцыйнае становішча і тады, калі ў пачатак складанага сказа выносіцца ўказальнае слова (словазлучэнне): *Якраз таму, што наша партыя нясе адказнасць за лёс усяго чалавецтва, кожны крок яе строга абдуманы, тэарэтычна ўгрунтаваны, цвёрды і ўпэўнены* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). *Адсяваліся ў полі. З цямна да цямна. І можа таму, што ў кожнага свой хатні рупесак, — кожны спяшаўся хутчэй вярнуцца дадому* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). У сказах з падобнай структурай таксама наглядаецца імкненне да аб'яднання ўказальнага слова са злучнікам даданай часткі.

§ 1306. Складаназалежныя сказы, у якіх падпарадкаваная частка ўжываецца ў функцыі даданай х а р а к т а р у і с п о с а б у д з е я н н я, таксама звычайна пачынаюцца галоўнай часткай. *Часта не так ставіцца пытанне пра тэматыку, як яго трэба ставіць* (К. Ч о р н ы. Заўвагі пра драматургію). *Ступае звер нагою босай, каб гор маўчанне не парушыць* (М. Х в е д а р о в і ч. Раніцою). *Сяло так адбудавалася, што яго нельга было пазнаць* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына). Такі ж парадак частак наглядаецца і ў сказах, дзе даданая ўжываецца з параўнальным адценнем: *На нас паглядала Радзіма, як маці на верных сыноў* (М. Х в е д а р о в і ч. Дарога на Маскву). *Вось яны, вясёлыя, вольныя сёння, мусіць, сабраліся з хлопцамі за гумном на бярвенні, сядзяць і спяваюць, як і раней* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *А навокал было ціха і бязлюдна, як бы тут ніхто не бываў* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Лес стаяў спакойны, толькі ўгары шумелі паціхеньку хваёвыя галінкі, як бы віталі першы сняжок* (Я. К о л а с. Малады дубок). *У лесе стаяў суцэльны шум, нібы наляцеў страшэнны буралом* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Наляцеў калючы ураган, біў у твар, хвастаў з налёту ў вочы, — быццам апалчылася пурга у саюзе з чарнатою ночы* (А. З в о н а к. Доктар Назарэнка). *Роўна ложацца каналы, быццам стужкі люстраныя* (П. Б р о ў к а. На Палессі гоман, гоман...). *Мароз рыпіць пад палазамі, як быццам плача дзесьці хто* (М. Х в е д а р о в і ч.

Зімою). *Іншая рада ім не служыла, як ісці напрапалую, біцца адкрыта* (К. Чорны. Скіп'ёускі лес).

І толькі ў рэдкіх выпадках, калі параўнанню надаецца важная роля, калі іменна на гэтым параўнанні акцэнтуецца ўвага, тады даданая частка ставіцца ў прэпазіцыі: *Як дзіўны конь залатагрывы, ўстае з-за лесу сонца ясь* (К. Буйла. Мірны дзень). *Быццам да берагу ён, да святла ён прабіўся, прагна да шчыліны вокам прыпаў і забыўся* (А. Куляшоў. Простыя людзі).

У рэдкіх выпадках даданая частка размяшчаецца ўнутры галоўнай. Інтэрпазіцыйнае становішча дадаткай не з'яўляецца парушэннем нормы толькі тады, калі не разрываецца апорнае словазлучэнне. А гэта перш за ўсё магчыма пры наяўнасці ў галоўнай частцы аднародных членаў (выказнікаў, акалічнасцей і г. д.), адзін з якіх уваходзіць у склад апорнага словазлучэння: *Найцяжэй было Лідзе. Скакаць па куп'і з цяжарам, утрымліваць раўнавагу з занятымі рукамі, валяцца так, каб не ўдарыць дачушку, і ўставаць разам з ёю, — было аж вельмі зашмат на жаночую сілу* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Выплыве тады ён, серабрыста кружачы, ціха так, каб хвалі соннай не збудзіць, і з-пад сетак сініх вуснамі сцюдзёнымі пачынае зоры дзедавы лавіць* (М. Танк. Дзед і шчупак). *Праз дажджы ляцяць, праз буры, быццам тыя галубкі, не залежацца на пошце нецярплівыя радкі* (А. Куляшоў. Галубкі). *На куце нас саджалі, як родных зусім, частаваць частавалі найлепшым усім* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *То нясмела ў дзверы стукне ён* [вецер], *як бы ў хату, бедны, просіцца, то пад вокаинем закруціцца ды так горка разгалосіцца!* (Я. Колас. Пад спеў ветру). *І кацёл* [пляц для прагулак] *шуміць ужо не так бязладна, як гэта бывае звычайна, а неяк прыцішана, раўнамерна, сабрана* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Далей ад нормы з'яўляюцца сказы, у якіх інтэрпазіцыйная дадаиая частка размяшчаецца пасля дзейніка ці пасля акалічнасці, што не ўваходзіць у склад апорнага словазлучэння (прычым ні адзін з членаў апорнага словазлучэння не звязан адносінамі аднароднасці з іншымі членамі сказа): *А па рускай зямлі, як гняздо тое рысяў, чарадою скрозь полаўцы параспаўзліся* (Я. Купала. Слова аб палку Ігаравым). *Дзесь у далечы, нібы жар каваль, хмара дзьмухае іскры-зарніцы* (Я. Колас. Дуб). *Той ў мяцеліцу, ў марозе, што аж вон яму прэ дух, паўзе з клункам па дарозе, у снягу увесь па брух!* (Ф. Багушэвіч. Бог не роўна дзеле). *Маша, падрыхтаваўшы сябе да горшага, адказала афіцыйна, суха: «Я, як працавала ў брыгадзе, таварыш Лескавец, так і маю намер працаваць»* (І. Шамякін. У добры час).

§ 1307. У складаназалежных сказах, у якіх дадаиыя ўжываюцца з функцыяй меры і ступені, парадак размяшчэння частак яшчэ больш пастаянны. Тут дадаиая можа быць толькі ў постпазіцыі: *А снег пад ботамі рыпіць так голасна, што нават зоркі павінны пачуць гэта рыпенне з вышыні* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Мы ж цябе даглядаем на новы лад, што цябе не спазнаць аж нават...* (П. Броўка. Зямля). *Тут зноў усе нібы сталі гэтакія дзеці, што анічога не ведалі* (К. Чорны. Вясна). *Цень забітых матак, дзетак, дзедаў вашых і бацькоў, акрываўлены палетак клічуць мсціць крывава гэтак, як не мсцілі ад вякоў* (Я. Купала. Беларускім партызанам). *Бязлітаснай рукой трахнём іх, каб аж пер'е ляцела над зямлёй* (А. Александровіч. Цені на сонцы). *Алені ідуць берагамі па следу сваіх аляніц і б'юцца адважна рагамі, аж дол балацяны дрыжыць* (М. Хведаровіч. Вясна ў тундры). *Ледзяныя зглухлі хвалі, надарвіся хоць ад крыку!* (У. Хадыка. Пароша).

З а ў в а г а. Выпадкі пастаноўкі дадзенай меры і ступені перад галоўнай складаюць выключэнне. Нормай сучаснай беларускай мовы такія сказы лічыць нельга: *Аж юкнула Кацярынка, так задаў ёй кулаком: «Хадзі, мая ты малінка!» — дый затупаў хадаром* (В. Дунін-Марцінкевіч. Гапон).

## СТРУКТУРА СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАЎ, ЯКІЯ МАЮЦЬ БОЛЬШ ДЗВЮХ САСТАЎНЫХ ЧАСТАК

§ 1308. У складаназалежным сказе састаўныя часткі, калі іх больш дзвюх, могуць камбінавацца па-рознаму. Па-першае, у складаназалежным сказе з некалькімі састаўнымі часткамі можа быць дзве і больш даданых, якія адносяцца да розных апорных элементаў адной і той жа галоўнай часткі. Па-другое, самі простыя састаўныя часткі, камбінуючыся паміж сабою, могуць утвараць складаныя састаўныя часткі. Элементарным відам складанай састаўной часткі з'яўляецца аб'яднанне дзвюх ці больш [1] простых састаўных частак. Такое аб'яднанне рэалізуецца пры дапамозе аднаго з двух магчымых відаў сувязі: злучнікавай (злучальнай або падпарадкавальнай) ці бяззлучнікавай. Падобная складаная састаўная частка можа ўступаць у падпарадкавальную сувязь або з простай, або з такой жа складанай састаўной часткай. Прычым у якасці галоўнай часткі такога ўскладненага складаназалежнага сказа можа выступаць як простая састаўная частка, так і складаная састаўная частка; тое ж трэба сказаць і аб дадзенай частцы.

Вядома, у якасці складанай састаўной часткі можа выступаць і аб'яднанне больш высокага парадку, а іменна аб'яднанне элементарнай складанай састаўной часткі з простай або нават з іншай складанай састаўной часткай. Узнікшая такім чынам новая складаная састаўная частка сама будзе па форме адпавядаць ускладненаму сказу (такую складаную састаўную частку можна было б адпаведна называць у с к л а д н е н а й). Ускладненая ж састаўная частка можа ўступаць у сувязь як з простай, так і са складанай або ўскладненай састаўной часткай. У выніку атрымліваецца рад структурных разнавіднасцей ускладненых складаназалежных сказаў, якія зводзяцца да шасці асноўных тыпаў:

1) падпарадкавальная сувязь некалькіх простых даданых частак з адной простай галоўнай часткай (пры аднясенні кожнай даданай да адпаведнага апорнага элемента галоўнай часткі);

2) падпарадкавальная сувязь простай і складанай састаўных частак;

3) падпарадкавальная сувязь дзвюх складаных састаўных частак;

4) падпарадкавальная сувязь ускладненай і простай састаўных частак;

5) падпарадкавальная сувязь ускладненай і складанай састаўных частак;

6) падпарадкавальная сувязь дзвюх ускладненых састаўных частак.

Астатнія структурныя разнавіднасці ўскладненых складаназалежных сказаў з'яўляюцца разнастайнымі камбінацыямі названых тыпаў.

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ НЕКАЛЬКІХ ПРОСТЫХ ДАДАНЫХ З АДНОЙ ПРОСТАЙ ГАЛОЎНАЙ ЧАСТКАЙ

§ 1309. Падпарадкаванне некалькіх паасобных, не звязаных паміж сабою простых даданых частак адной галоўнай частцы [2] звычайна цяг-

[1] Складаную састаўную частку, у якую ўваходзіць больш дзвюх простых, можна лічыць э л е м е н т а р н а й у тым выпадку, калі простыя часткі ў ёй звязаны паміж сабою аднатыпным відам сувязі: злучнікавай або бяззлучнікавай. Трэба дадаць, што злучнікавай злучальнай сувязь застаецца і тады, калі толькі апошняя ў радзе аднародных частак звязана злучальным злучнікам з перадапошняй, астатнія ж звязаны бяззлучнікавай сувяззю (параўн. такую ж з'яву пры аднародных членах сказа: *белыя, зялёныя, сінія і блакітныя...*).

[2] У традыцыйнай граматыцы такая сувязь частак называецца неаднароднай аднаочленнай (ці разначленнай) сузалежнасцю.

не за сабою наяўнасць і некалькіх апорных элементаў у галоўнай часткі. Зразумела, што ў такім сказе рэдка можа быць адначасова больш чым адна з даданых частак, якія маюць функцыю дзейнікавай, выказнікавай, умоўнай, уступальнай, выніковай ці супастаўляльнай.

Затое даданыя ў іншай функцыі могуць быць ужыты ў адным радзе з названымі вышэй даданымі часткамі. Так, калі ў саставе пэўнага складаназалежнага сказа да адной і той жа галоўнай часткі будуць адносіцца, к прыкладу, адна з даданых, якія звязваюцца з апорным прэдыкатыўным словазлучэннем, і адна з даданых, якія звязваюцца з непрэдыкатыўным словазлучэннем, тады ў галоўнай частцы будзе адно слова (звычайна выказнік), якое акажацца агульным для абодвух словазлучэнняў: *І калі пачнеш усё гэта браць пад увагу, то трэба такі парадкам патупаць па лесе, каб на добрае месца натрапіць* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *«А чаго было ехаць?» — «Здурнеў, бацькі паслухаў. Згорнійся, крыўдаваць пачаў на мяне, што я не памагаю яму, дык мне неяк шкада стала»* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І тым не менш калі б мне давялося пачынаць жыццё зноў, я пачынаў бы яго гэтак жа, як пачаў* (Ф. Дзяржынскі. Выбраныя артыкулы і прамовы).

Значна прасцей адбываецца аб'яднанне ў саставе аднаго складаназалежнага сказа даданых, якія адносяцца да апорнага элемента — словазлучэння, і даданых, якія адносяцца да апорнага элемента — паасобнага слова: *Выглядалі, чакалі цярпліва, як чакае з вайны маці сына, той хвіліны чароўнай, шчаслівай, калі прыйдуць з вялікай навінай* (Я. Купала. Накарміліся панскаю ласкай...). *А можа несвядома хацелася заглушыць гэтым голас пратэсту, што прабіваўся з глыбінь яго душы супраць самога сябе, бо ў яго сэрцы ўзнімалася жаласць да Насці* (Я. Колас. Адукацыя). *А вось калі я ўстану, тады пачнецца ўсё так, як трэба і важна вам* (К. Чорны. Вялікі дзень). *А каб змыць з зямлі бруд, скалыхнуў я ваду, што дажджом налілася свінцовым* (М. Чарот. Бунтар). *Тыя, хто хаця скраю ўзыходзіў на балота, апавядаюць яшчэ, што па ім скрозь чарнеюць сцежкі* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Я не глядзеў ні па баках, ні наперад і думаў ужо толькі аб тым, каб хутчэй скончыць гэты паход, упасці і ляжаць, хаця ў глыбіні душы яшчэ ўспыхвалі іскры надзеі на выратаванне* (І. Шамякін. У снежнай пустыні).

З такой жа лёгкасцю аб'ядноўваюцца даданыя азначальныя з даданымі дапаўняльнымі, даданымі месца ці даданымі часавымі: *Чалавек, што жыве акрай таго лесу, гаварыў пасля, што ён якраз у той час хадзіў кудысьці, паставіўшы ў яго каня* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Насупраць, куды свяціла сонца, бераг быў высокі, абрывісты, напярэшчаны мноствам пячорак, каля якіх з гуллівым і заклапочаным шчэбетам увіхаліся стрыжы* (Я. Брыль. На Быстранцы). *І калі была скончана шырокая нарада ў справе ліквідацыі банды, Сушко вельмі крытычна аднёсся да розных хітра сплеценых праектаў, што высоўваліся тымі ці іншымі таварышамі* (Я. Колас. Адзін).

У такіх выпадках можа нават атрымацца, што дзве даданыя часткі могуць быць звязаны з адным і тым жа апорным словам, калі гэта аддзеяслоўны назоўнік (або назоўнік са значэннем працэсу). Да такога апорнага слова можа быць аднесена як азначальная даданая, так і адна з трох іншых даданых частак (дапаўняльная, месца, часавая).

Апорнае слова можа нават паўтарацца або можа быць пры паўтарэнні заменена — калі гэта назоўнік — тым ці іншым займеннікам: *Падышоў, як заранка поле скрозь ахінула, падышоў, калі ранкам срэбрам рунь закранула* (П. Броўка. Хлеб). *Чацвёрты год, як родны кут іх галасоў не чуе, чацвёрты год, як вораг тут на іх зямлі лютуе* (А. Куляшоў. Балада аб знойдзенай падкове).

Могуць сустракацца выпадкі, калі ў адным і тым жа складаназалежным сказе будуць суіснаваць дзве аднатыпныя даданыя, напрыклад дзве

азначальныя часткі: *З сарамлівай дзяўчынкі, не школьніцы, на жаль, а праллі, невясёлае маленства якой ахоўвалі партызанскія заставы, пасля перамогі зусім неяк нейпрыцям вырасла Люда, спачатку пяці, шасці і... дзесяцікласніца, пасля студэнтка настаўніцкага інстытута, а цяпер ужо і настаўніца, якая з хваляваннем чакае свайго — ужо не школьнага і не студэнцкага — першага верасня* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Не запальваючы святла, Астап схадзіў у істопку, дзе стаялі гладышы з малаком, не спяшаючыся павячэраў і ўлёгся спаць у сенцах, дзе было не так душна, як у хаце* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Розныя (або нават і аднатыпныя) даданыя часткі могуць быць звязаны і з аднароднымі членамі галоўнай, калі самі гэтыя аднародныя члены з'яўляюцца апорнымі словамі або ўваходзяць у склад апорных словазлучэнняў: *Я якраз сустрэўся на дарозе з работнікамі ЦК, яны пераязджалі далей. Яны перадалі мне, што ўсе ранейшыя ўказанні застаюцца ў сіле, спецыяльна вось і паслалі мяне да вас, каб сказаць аб гэтым* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Нарэшце, усё ж ужываюцца і такія сказы, дзе да аднаго і таго ж апорнага элемента адносяцца разнатыпныя (або нават і аднатыпныя) даданыя: *За тое, што там расцвілі* [пралескі] *прадвеснікамі перамогі на шматпакутнае зямлі, на астравінах баравых, ля нашых спаленых парогаў, — ад сэрца благаславіце іх, хто памятае ў край дарогу* (М. Танк. Пралескі). *«Як дазволіць пан лавіць рыбу, дык тады панічу будзе рыбы, колькі паніч захоча!» — казалі мужыкі настаўніку* (Я. Колас. Бунт). *А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі да праўды...* (К. Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» № 7).

Тэарэтычна магчымы, такім чынам, у адным і тым жа сказе, калі ў галоўнай частцы няма аднародных членаў, самыя разнастайныя спалучэнні (рады) даданых частак. Практычна ж у мове рэалізуецца, вядома, значна меншая колькасць разнавіднасцей. Так, найбольш ужывальнымі з'яўляюцца рады: часавая — дапаўняльная, часавая — мэтавая, часавая — месца, часавая — прычынная; умоўная — дапаўняльная, умоўная — мэтавая, умоўная — месца і ўмоўная — прычынная, а таксама часавая — азначальная, азначальная — дапаўняльная, азначальная — прычынная, азначальная — мэтавая і ўмоўная — мэтавая. Усе ж астатнія рады ўжываюцца рэдка, а сказы з трыма ці чатырма даданымі амаль зусім не ўжываюцца. (Параўн., напрыклад, даволі рэдкі выпадак — ужыванне складаназалежнага сказа з трыма асобнымі даданымі часткамі ў байцы К. Крапівы «Рак»: *Калі трапляецца ў жыцці вам рак, то, каб не каяцца нарэшце, уведайце наперад, дзе ў ім смак, тады ўжо толькі ешце.*)

Такое рэзкае абмежаванне ўжывальнасці дыктуецца галоўным чынам структурнымі магчымасцямі складаназалежнага сказа.

Складаназалежныя сказы з дзвюма асобнымі даданымі могуць будавацца па некалькіх схемах, а іменна: даданая — галоўная — даданая; галоўная — дзве даданыя; адна даданая ў інтэрпазіцыі, а другая — у постпазіцыі; дзве даданыя — галоўная; адна даданая ў інтэрпазіцыі, а другая — у прэпазіцыі; абедзве даданыя ў інтэрпазіцыі. Першыя дзве схемы рэалізуюцца часта: *І калі ад песні ў думцы вее халадком, раскажы аб той старонцы, дзе твой родны дом* (М. Хведаровіч. Пытанне і адказ). *Нявада аж пошапкам гаварыць стаў, так ён чакаў, што скажа Волька* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Калі шчыра прызнацца, мне крышачку шкода, што з табою сустрэўся я ў сталыя годы* (П. Панчанка. Пасля вечарынкі). *А калі Міколу даводзілася ў такі час ісці пехатою, то ён так шпарка ішоў, што прыходзіў дадому ўвесь мокры* (Я. Колас. Трыгога). *Насцеж вокны і дзверы адчынілі кватэры, запрашаюць бацькоў і дзяцей, што жылі тут раней, каб забраць іх з сабою*

*і рухацца разам з зямлёю ад руінаў і ад успамінаў далей і далей* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Яшчэ ідучы ў лес, нагледзеў сабе мясціну дзядзька Марцін, дзе дроў было многа, хоць трохі і далекавата* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Гула ў здарожаных касцях дня рупнасць, дзе ні заначую, — што больш, заціснуты ў мурах, я гучных вёсен не пачую* (У. Хадыка. Я разабраў свой дом стары...).

Некалькі радзей рэалізуюцца схемы трэцяя і чацвёртая. Улічваючы, што не ўсе даданыя часткі аднолькава лёгка могуць размяшчацца ў прэпазіцыі і ў інтэрпазіцыі, ёсць усе падставы сцвярджаць: дзве апошнія схемы — пятая і шостая — рэалізуюцца рэдка. *Дзеці, якія ішлі адны, не ведалі, дзе дзелася маці* (К. Чорны. Народная нянавісць). *Учора, як разыходзіліся ад пакгауза, не заўважыў Міколка сярод людзей, куды дзеўся яго стары таварыш* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Недарэчныя забабоны, якія вякамі насаджаліся эксплуататарамі, нібы кіраваць дзяржавай могуць толькі багатыя, былі разбіты* (Гісторыя КПСС). *А як слала я лянок на зялёным на лугу, дзе папаўся Міхасёк, цалавала на бягу* (Я. Купала. Лён). *Покі світкі не стыдайся, світкі бацькаўскай, сівой, хоць на ўзгляд няўдал здавайся, — чыст быў сэрцам і душой* (Я. Купала. Чары). *К тым, каго жыццё заціснула глыбока ўніз, у норы падзямельныя пад вамі, вы, панове, хоць і бачыце далёка, зазглянеце ў душы — студні са слязамі* (М. Багдановіч. Вы, панове, пазіраеце...). *Часта, седзячы ля аўчарні на сонцы зранку і чакаючы, пакуль сыдзе раса, калі льга будзе выгнаць на пашу авечкі, ён усё ўздыхаў па далёкай бацькаўшчыне* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Прыклады сведчаць, што не ўсе сказы, пабудаваныя па апошніх дзвюх-трох схемах, з'яўляюцца стылістычна беззаганнымі.

Складаназалежныя сказы з трыма і больш даданымі часткамі яшчэ больш абмяжоўваюцца структурна, таму што тут з неабходнасцю ўзнікае такое становішча, калі больш адной даданай будзе або ў прэпазіцыі, або ў інтэрпазіцыі; некаторыя даданыя будуць аддзелены ад свайго апорнага элемента іншымі даданымі. Многія ж з гэтых умоў супярэчаць нормам размяшчэння даданай часткі адносна галоўнай.

І толькі тады, калі ў галоўнай частцы ёсць аднародныя члены, якія могуць з'яўляцца апорнымі элементамі (або ўваходзіць у склад апорных элементаў), колькасць даданых нічым не абмяжоўваецца: *Мы гаварылі, бо ўжо нам можна было гаварыць аб усім, і маўчалі, бо добра было і маўчаць, і спыняліся часта, бо нас тут, на ціхім аснежаным лузе, не бачыў ніхто* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *І прыкра нам было, што год замала, каб у тайгу пайсці шукаць руду; і боязна было, што ўсе рэкорды адгрукаюць без нас, што стратасферу вучоныя падзеляць між сабой; і крыўдна нам было, што на планеце — два полюсы, і тыя ўжо адкрыты* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе).

Аднак і пры аднародных апорных элементах найбольш пашырана трохэлементная структура (з дзвюма даданымі), тым больш што сказы з трыма, чатырма і больш даданымі часткамі, як гэта відаць з прыкладаў, звычайна будуюцца з аднатыпнымі даданымі. Калі ж даданыя разнатыпныя, то іх рэдка бывае больш дзвюх і ў сказах з аднароднымі элементамі: *Мікуць стаў у свінарніку над балясамі, якімі быў абгароджан катух, успёрся на іх і доўга глядзеў, як завадская свіння цярэбіць зялёную канюшыну* (К. Чорны. Вясна). *І буду я думаць у тую хвіліну смяротную не пра вузкія сцежкі, якімі ільга ўцячы, а пра тое, што недзе пад Брэстам сястру маю родную клююць крумкачы* (П. Панчанка. Апошняя куля). *Той, хто ў вочы гармат пазіраў, не збаіцца нічога і ад праўды, што я напішу, не заплюшчыць вачэй* (А. Куляшоў. Дом № 24). *«Для чалавека, які нарадзіўся ў Амерыцы, для янкі, — цынічна заяўляе ён, — зусім не важна, хто яго маці і бацька!..»* (У. Рудман. Пад сонцам свабоднай Манголіі).

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ ПРОСТАЙ І СКЛАДАНАЙ САСТАЎНЫХ ЧАСТАК

§ 1310. У складаназалежным сказе, дзе аб'ядноўваюцца простая і складаная састаўныя часткі, галоўнай можа быць як простая, так і складаная частка. Складаная састаўная частка, згодна з тыпам сувязі, можа адпавядаць па форме складаназлучанаму, складаназалежнаму або бяззлучнікаваму складанаму сказу. Такім чынам, атрымліваецца шэсць разнавіднасцей складаназалежных сказаў гэтага тыпу — сказы з простай галоўнай і складаназлучанай даданай, з простай галоўнай і складанай бяззлучнікавай даданай, з простай галоўнай і складаназалежнай даданай, са складаназалежнай галоўнай і простай даданай, з бяззлучнікавай складанай галоўнай і простай даданай, са складаназлучанай галоўнай і простай даданай часткамі.

§ 1311. 1. У сказах з простай галоўнай і складаназлучанай даданай часткамі даданая частка нагадвае складаназлучаны сказ з дзвюх, трох і больш простых састаўных частак. Гэтыя простыя часткі звязваюцца спалучальнымі, супастаўляльнымі ці пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі: *Не бядуй, што восень блізка і на дол кладзецца цень* (Я. Колас. Не бядуй!). *Дзе нага не ступала і дзёран буяў — вось на гэтых забытых і дзікіх абшарах зашумела калоссем краіна мая, сотняй тысяч паднятых гектараў* (М. Хведаровіч. Першамайскі парад). *Як толькі змаўкаюць за брамай гудкі і ночка маўчыць за акном, я зноўку выходжу глядзець на блакіт, на зоры далёкія зноў* (А. Куляшоў. Астраном). *Яна апранула малую і паставіла за стол на лаву, бо там Толік і за вокнамі беленька, снег* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Толькі чуваць было, як шалпаціць пад лёгкім ветрам трапяткая ліства асіны ды ціха-ціха гудуць высачэзныя хвоі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Аб чым жа думаў хлопчык? Відаць, аб чымсьці важным і сур'ёзным, бо губы яго былі шчыльна самкнуты, а вочы пазіралі кудысьці ўглыб* (Я. Колас. У старых дубах). *Коні ідуць паволі, часам старожка натапырваюць вушы, калі ў змрочным гушчары трэсне замарожаная галінка ці мякка ўпадзе снежны камяк з абцяжаранае галіны* (М. Лынькоў. Воўчы лог). *І мільганула яна* [дзяўчына] *у вачах маіх такім, братка ты мой, чынам, што і вочы мае за ёй, і рукі мае за вачыма, і машына ўслед за рукамі* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Ідуць шляхам тым героі, каб здабыць працоўным славу, і свет цалкам перакроіць, і зрабіць камуны справу* (Я. Колас. Янку Купалу).

Паўтарэнне злучніка пры кожнай простай частцы (акрамя апошняй) не абавязковае: *І Серж думае, што ён лепшы за ўсіх, за ўсіх разумней, ды і мае права мець над усімі перавагу* (К. Чорны. Насцечка). *Каля нейкага дома яна прысела на камень і яшчэ чагосьці чакала, непакоячыся, што сонца нізка да захаду, ёй далёка ісці дадому, а іх чамусьці ўсё яшчэ не вядуць назад у астрог* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Калі ў адну складаную ўваходзяць тры і болей частак, то не абавязковымі з'яўляюцца і аднолькавыя адносіны паміж простымі часткамі: першая і другая могуць быць звязаны спалучальнымі злучнікамі, другая і трэцяя — супастаўляльнымі і г. д.: *І чую ў крыку тым* [журавліным] *я праўду і дакоры, што год прайшоў, і блізка час зімы, а працы шмат* (Я. Колас. У вераснёўскі вечар). *Калі ж іх* [гусей] *закончыцца вырай і дзеці пачнуць падрастаць, а крылле разгорнецца шырай — узнімуцца, зноў паляцяць* (М. Хведаровіч. Вясна ў тундры).

Кожная з простых частак, якія ўваходзяць у склад даданай, аднолькавым чынам падпарадкавана галоўнай частцы [1], таму зусім правамерна ўжыванне пры кожнай простай частцы таго ж самага падпарадка-

[1] У традыцыйнай граматыцы такая сувязь састаўных частак называецца аднароднай сузалежнасцю.

вальнага злучніка: *Любы край, табе спяваю і складаю верш я аб тым, што ты ўзрастаеш і што ты ўзрасцеш* (А. Куляшоў. Радасць). *І ад роўнага гулу каменняў, і ад пылу, і ад цёмнага святла хацелася тут легчы ды заснуць усмак, пакуль не сціхнуць гусці камені і пакуль дзень не патушыць скупога агню* (К. Чорны. Мельнікі). *Трэба паставіць дровы так, каб і вывозіць іх з лесу было лёгка, каб і пад'ехаць да іх латва было дый каб і знасіць было няцяжка* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка).

Некалькі радзей сустракаюцца выпадкі, калі асобныя простыя часткі (якія ўваходзяць у састаў складанай дадатнай часткі) маюць рознае граматычнае значэнне, хоць функцыянальна яны аднародныя. У такім разе пропуск падпарадкавальных злучнікаў немагчымы: *І не будзе знаць, стралой куды тройка скача і званочак пад дугой чаго ціха плача* (Я. Колас. Тройка). *Назаўтра ён хадзіў у мястэчка пацерціся паміж людзей, распытаць і памеркаваць — ці не адступаюць ужо ад Варшавы і на калі можна чакаць гэтага адступлення* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Як гасціла тут і як даўно і куды паехала — патроху маці ўсё раскажа* (А. Куляшоў. Бюро даведак). *І ён расказвае, як жылося раней здорава, весела і цікава, якая была ў Расіі разумная інтэлігенцыя і як высока яна ставіла разуменне гонару і дружбы* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. Палата № 6).

2. У сказах з простай галоўнай і складанай бяззлучнікавай даданай часткамі даданая частка нагадвае бяззлучнікавы складаны сказ (як правіла, з аднатыпнымі часткамі): *Ды не згасала ніколі надзея, што і асенняя ноч развіднее, зоймецца ўдосвітку дзень залаты* (П. Глебка. Слава Кастрычніку). *Дзе раслі ў пустэлях травы, слаўся дзікі мох, — там расце ў вялікіх справах радасць перамог!* (А. Куляшоў. Радасць). *І калі пакінем мы спрачацца, схлыне спрэчак ўзбунтаваны жар, кожны з нас сабе шукае працы, выбірае адпаведны жанр* (А. Куляшоў. Надзвычайнае сяброўства). *Глядзі, як праз вокны праменні спляталюць карункі святла, фіранак даўжэзныя цені кладуцца на дол ля стала* (М. Хведаровіч. Не будзем дзівіцца, не трэба...). *Ой, чуе маё сэрца, што з'ядуць яны мяне, не ўгаджу я ім* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Кожны знае, што з працы смачна хлеба скарынка, хмельны сок у бярозы, песціць вока травінка* (П. Броўка. Паланянка). *Адменнай цеплыні прыходзіць новы дзень, каб твань балот сушыць, развеяць сон начы, уласніцкай душы знішчаць гнілле-карчы* (М. Хведаровіч. Нарадзіўся чалавек).

У такіх сказах таксама пры кожнай простай частцы могуць паўтарацца падпарадкавальныя злучнікі (дарэчы, падобныя сказы сустракаюцца нават часцей, чым сказы з адзіночным падпарадкавальным злучнікам): *Той, хто не чуў народнай гаворкі з усім багаццем яе лексікі і фразеалогіі, хто абыякава ставіцца да гэтай найбагацейшай крыніцы, той не зможа стварыць яркіх, паўнакроўных твораў* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы). *Ён ведаў, што цемрадзь адыдзе і згіне, што звон кайданоў разаб'ецца аб скалы* (П. Броўка. Янку Купалу). *Млечным шляхам завецца здаўна гэты пояс, што лёг цераз бор, што саткала мая старана з маладых і не гаснучых зор* (А. Астрэйка. Слуцкі пояс). *Таму і сумна мне часамі, што з дому вестак не чуваць, што на лісты мае лістамі не хочаце вы адказаць* (М. Танк. Таму і сумна мне часамі...). *У гэтых творах мы бачым людзей, якія жывуць і твораць, якія радуюцца сапраўднымі радасцямі, мараць сапраўднымі марамі* (У. Агіевіч. Пачуцці і вобразы, народжаныя часам). *Дзе праеду я, дзе прайду — там прыхільнікаў незлічона* (П. Панчанка. Пячорын у Персіі). *Не, няма другой такой краіны, дзе б шырэй працяглі пуцявіны, дзе б так ветла далі вабілі, ласкалі!* (Я. Колас. Майскае свята). *Да нябёс уздымае зямля каласы сваіх ніў, каб сагрэла іх*

*сонца, каб вецер іх там апыліў* (А. Куляшоў. Зямля і сонца). *Калі надышлі адна́йлення хвіліны, калі аднавілі магутны завод, ён бачыў у новым уздыме машыны і стужкі і іскры жалезных парод* (А. Куляшоў. Цвік). *Хоць яна пастарэла, хоць і цяжка пазнаць, але хто б гэтак смела іх пайшоў ратаваць?* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Як Прыпяці нельга пасеч напалову, як вольных вятроў не суцішыць размовы, так нельга народ у палоне трымаць* (П. Броўка. Беларусь).

У склад даданай нярэдка ўваходзіць і больш дзвюх простых частак. І хоць колькасць іх не абмежавана, але больш трох-чатырох такіх частак бывае рэдка: *Краіна — гэта пакуты дачок, рукі якіх прапахлі укропам, рукі якіх прапахлі травой, рукі якіх малаком прапацелі, гэта слёзы тваіх дачок* (А. Куляшоў. Па песню, па сонца). *Гэта было тое пісьмо, якое Стафанковіч ад млынара пісаў сваёй сям'і, якое Вэня Шпулькевіч згубіў, якое аддаў Любе хлапчук, якое яна кінула ў скрынку са сваімі лахманамі, якое яна з імі і прынесла сюды* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *У роспачы сціснуўшы зубы, мы чулі, як стогнуць гудкі, як горна рыдаюць трубы, як ціха стаяць палкі, як страшна равуць сірэны, як віхрам імчыцца зямля, як стынуць нямыя сцены, высокія сцены Крамля, як гулка цяжкія гарматы апошні салют аддаюць, як плача над страшнай утратай Савецкіх рэспублік Саюз* (П. Глебка. Мужнасць).

Простыя часткі, якія ўваходзяць у склад даданай, могуць мець пры сабе і розныя падпарадкавальныя злучнікі (мець розныя граматычныя значэнні), аднак яны застаюцца аднатыпнымі пры ўмове аднолькавасці функцыі гэтых частак у сказе: *Я прыйшоў аддаць Радзіме гімны — радасці і гора тых пазнаць, што заўжды заву я дарагімі, басанож якіх мне не дагнаць* (М. Хведаровіч. Я прыйшоў рабінаваю ноччу...). *Вёска Мікалаеўшчына, адкуль паходзілі бацькі Канстанціна Міхайлавіча і большасць яго сваякоў, з якой звязаны дзіцячыя гады будучага паэта, была тыповым кутком тагачаснай Беларусі* (У. Агіевіч. Шлях народнага паэта). *Сказаць пра ўсё, чаму быў сведкай, куды вяла нас часаў ніць, чаму стаў не такім, а гэткім, памылак горкіх не рабіць павінен я* (М. Лужанін. Як нарадзіўся новы свет).

І ўжо безумоўна аднатыпнымі застаюцца простыя часткі ў складзе даданай, калі яны маюць адно і тое ж граматычнае значэнне, хоць і звязваюцца з галоўнай рознымі падпарадкавальнымі злучнікамі: *Хто ведае, куды бягуць гэтыя хмаркі, дзе спыняцца яны?* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Разам з гэтым у сучаснай мове ёсць сказы і з разнатыпнымі простымі часткамі, якія аб'ядноўваюцца ў адной складанай бяззлучнікавай даданай: *Зрабіў ён гэта гэтак шпарка, што таварышы яго адразу ўбачылі: чалавек з усіх нерваў сваіх сам сябе абнадзейвае, сам сябе весяліць* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Я цябе ўпору якраз прывяла, каб ты добра разгледзеў — апошні прамень сонца ляжыць яшчэ тут і праз дзве хвіліны схаваецца* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *А пасля часамі выяўлялася, што гэта было якраз наадварот: грошы пазычылі яму* (К. Чорны. Вясна). *Не шумі ж ты, цёмны гаю, бо мне й так не лёгка — маё шчасце, мая доля ад мяне далёка* (Зб. «Беларускія песні»).

Заўвага. Злучэнне ў адну складаную некалькіх аднатыпных простых частак (калі іх больш дзвюх) можа адбывацца камбінаваным спосабам — з дапамогай злучнікаў і без іх: *Ты ж казаў, што вельмі не сумленны і, відаць, не шчыры я паэт, што паэтаў развялося многа, ўсе яны спяваюць аб адным, ува ўсіх у іх адна дарога і адзіны ў іх лірычны грым* (А. Куляшоў. Надзвычайнае сяброўства). *І нішто не казала аб тым, — у той дзень і спакойны і ясны, — што засцеліць зямлю гэту дым, што ў крыві хутка сонца пагасне, і што прыйдзецца нам, капітан, скрыжаваць з лютым ворагам зброю, што краіна бацькоў можа стаць хутка помнікам славы герою* (М. Танк. Гастэла). *Запомнілі ўсе мы зямлі той кавалак, дзе нам на расстанні зязюля кувала, дзе прагна і доўга чарпалі пад дубам з крыніцы пілоткай злінялай ваду мы, а нам ужо стэпы вялікай Расіі суровыя слёзы вятрамі гасілі* (П. Панчанка. Думы салдата). Параўн. і наступную фразу: *Чую і не веру, што гудок гудзе, што начная змена працаваць ідзе. Што ў спяцоўках сініх конармейцаў — нас ветліва, гасцінна стрэў рабочы клас. Што не эскадроны,*

*а рабочы штат, не ліхія коні, а стаць варштат...* (М. Хведаровіч. Балада аб маім камісару).

Парадак размяшчэння састаўных частак у складаназалежным сказе, дзе даданая частка з'яўляецца складанай (і ў гэту даданую ўваходзяць аднатыпныя — аднолькавыя па функцыі — простыя часткі), не мае істотных адрозненняў ад парадку частак у звычайным складаназалежным сказе з дзвюма простымі састаўнымі часткамі. Тут таксама даданая частка можа быць у прэпазіцыі: *Дзе спынюся, калі, за якою бяседаю, ды ніколі аб тым мне ніхто не паведае* (П. Броўка. Дзень мой). *Дзе нядаўна драмалі густыя лясы і пазваньвалі голлем зялёным хваіны, — падымаюцца ў рост і ўшыркі карпусы твайго гонару, славы і песні, краіна* (А. Астрэйка. Раніца на аўтазаводзе). *Пакуль не ступілася джала разца і рукі ад працы не зморацца, я мушу пакінуць адбітак жыцця на камні, жалезе і золаце* (М. Танк. На камні, жалезе і золаце). *Шкадаваў іх Якаў. Але каб карміць і дзяцей, і сябе, каб мець час зарабіць, ажаніўся другі раз, узяў дзецям мачыху* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Край лясоў, край балот і туманаў гнілых! Хоць і бедна ў табе, хоць у лозах тваіх вецер жудасна ўвосень шуміць, а ўсё міл ты мне* (Я. Колас. Палессе).

Адзначаюцца выпадкі інтэрпазіцыі даданай: *І там, дзе сёння на прадвесні маланкі зіхацяць у хмарах, дзе сёння звоняць нашы песні, — успыхне полымя пажараў* (М. Танк. Мы не памрэм). *І Рыгор Чуйка, падумаўшы крыху, як узяцца за бацькаўскае кодлішча, як паставіць яго на ногі з попелішча, махнуў неўзабаве рукою, ні да чаго не дадумаўшыся, і пайшоў на лесапільню* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Тады сваіх здабыткаў кайстру, што не дабраў, што стойваў сам, — я перадам другому майстру, другому сэрцу перадам* (У. Хадыка. Абрысы старадаўняй пушчы...). *А пазней, на прадвесні, калі уначы варушыліся дрэвы, збіраліся ў сад, калі бразгалі звонка вяснянак ключы, — сын да маткі таемна пісаў: «Маці... Матанька... Надзялі мяне сілай!»* (П. Глебка. Пра вясну і рэвалюцыю). *Чаму збожжа не мачылі, калі ветры так сушылі і гарэлі нашы нівы, — тады, хмары, дзе былі вы?* (Я. Колас. Хмары).

З прыкладаў відаць, што як у прэпазіцыі, так і ў інтэрпазіцыі стаяць функцыянальна тыя ж даданыя, для якіх такое становішча было магчымым і ў неўскладненым складаназалежным сказе.

Заўважаецца, што постпазіцыйнае становішча даданай ва ўскладненым сказе сустракаецца яшчэ часцей, чым у звычайным складаназалежным сказе.

3. У сказах з простай галоўнай і складаназалежнай даданай часткамі даданая частка мае форму складаназалежнага сказа, у якім у сваю чаргу вылучаюцца простая галоўная і простая даданая часткі. Практычна атрымліваецца, што галоўная частка са складу даданай сама з'яўляецца даданай у адносінах да галоўнай часткі ўсяго складаназалежнага сказа; інакш кажучы, атрымліваецца шматступеннае (паслядоўнае) падпарадкаванне, дзе можна вылучаць даданую першай ступені і даданую другой ступені. У такіх складаназалежных сказах даданыя часткі першай і другой ступені могуць быць як функцыянальна аднатыпнымі, так і разнатыпнымі.

Складаназалежныя сказы з аднатыпнымі даданымі менш характэрны для сучаснай мовы. Сярод аднатыпных у першую чаргу адзначаюцца дапаўняльныя, азначальныя і дзейнікавыя. Нормай пры такім ужыванні даданых будзе сувязь іх рознымі злучнікамі: *Убачыўшы непадалёк маладога чалавека ў міліцэйскай форме, старая запыталася, ці не ведае ён, дзе тут жыве Трахім Кульбіцкі* (І. Мележ. На скрыжаванні). *Хачу, каб у сне ты спазнала, што я цябе шчыра кахаю* (М. Чарот. Светлая ноч). *Ён адчуваў сябе незвычайна, нявідана вялізным і моцным*

*чалавекам, для якога няма нічога такога, чаго б ён не змог* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Недалёка ляжаў выцягнуты на бераг Сілівонаў човен, у якім ён звычайна перапраўляў людзей, што ішлі часам пехатой у адзіночку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Выходзіць па-ягонаму, што ледзь не самі мы вінаваты, а не той, хто наша дабро крадзе* (Я. Брыль. Зладзеі). *Нам проста і ясна, што той не заблудзіць, сляды хто паклаў на дарожны пясок* (М. Хведаровіч. Ні кроку з дарогі).

Ужыванне аднолькавых злучнікаў або аманімічных злучнікаў і злучальных слоў лічыцца стылістычна заганным, хоць прыклады такіх сказаў можна знайсці нават у прызнаных майстроў слова: *Толькі цяпер яна зразумела, што нінавошта не можа змяняць таго, што ёсць у яе з Валодзем* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *Там прызапасены былі ў яго з мяшэчак бульбы ды чыгунок, у які часта траплялі акуні і плоткі, лавіць якіх Сілівон быў вялікі майстар* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Карабельныя сосны ў рад сустракаюць машын атрад, што нясуць на сваіх плячах біты камень і гонту на дах, труб жалезныя гарлачы, экскаватараў рагачы і пажытак дарожны наш, што ўзялі мы ў далёкі марш* (М. Хведаровіч. Ангара).

Непараўнана часцей ужываюцца сказы з разнатыпнымі даданымі часткамі. Колькасць магчымых камбінацый частак надзвычай вялікая (у межах сотні). Найбольш ужывальнымі з'яўляюцца камбінацыі азначальнай і дапаўняльнай, дапаўняльнай і часавай, прычыннай і дапаўняльнай, умоўнай і дапаўняльнай, прычыннай і азначальнай, азначальнай і часавай, характару і спосабу дзеяння і дапаўняльнай частак (маюцца на ўвазе як прамыя, так і адваротныя пары, г. зн., напрыклад, азначальная і дапаўняльная, а таксама дапаўняльная і азначальная). Злучнікі, якія ўжываюцца для сувязі гэтых частак, не павінны супадаць. *Я ведаю, што хутка першы снег убеліць той палац, дзе распрануліся прыгожыя бярозы* (М. Чарот. Зіма). *Нёман быў нервам сяла, які будзіў яго жыццё і прымушаў чутка прыслухоўвацца да таго, што робіцца вакол* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Мала каму верылася, што толькі год таму, як ён яшчэ на поўную сваю сілу цяслярыў* (К. Чорны. Аксеніны сляды). *Ён упарта маўчаў, калі ў яго пыталі, дзе ў гарадку шукаць ягонай арганізацыі* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Марцін думаў, што вулей таўсты, затым нічога і не чуваць* (Я. Колас. Калодка пчол). *І мы вясну вітаем дбала, бо толькі нам вядома двум, што надышла і наша сталасць з трывогамі суровых дум* (П. Глебка. На прадвесні). *І тады Лаўрэн сам думае аб тым, што б гэта было, каб яму, Лаўрэну, маладому Лаўрэну, старых, мінулых гадоў, давялося сядзець тут аднаму ўночы* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Услед пазіраю спакойна, бо не знаю такое дарогі, такога каня, на якім бы няхай сабе конна, альбо параконна, уцякла сярод белага дня ад свайго ды свая* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Я пазнаю яго, гэтага нястомнага энтузіяста, якога бачыў два гады назад, калі яны яшчэ кагадзе пачыналі жыць* (Я. Скрыган. Зноў па дарозе). *Гудуць пакрыўджаныя пчолкі, бы плачуць, бедныя саколкі, што праца іх неспадзявана людскою хцівасцю забрана* (Я. Колас. Новая зямля).

Супадзенне сродкаў сувязі пры функцыянальна разнатыпных даданых частках лічыцца стылістычнай хібай (нягледзячы на тое, ці тут выступаюць як аманімічныя злучальнае слова і злучнік, ці мае месца супадзенне злучнікаў у функцыянальна неаднатыпных частках — пры супадзенні граматычнага значэння даданых): *А сёння раніцой людзі казалі, што нашы часці ідуць ужо назад па гэтай дарозе, трымаючы кірунак на масты, што ніжэй па рацэ* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Здавалася, што гэты чалавек добра ведае, штó ён сам варт на свеце* (К. Чорны. Насцечка). *Ён ведае, як зорка сочаць жандары, паліцыя і польская контрразведка за такімі небяспечнымі людзьмі, як ён* (Я. Ко-

л а с. Дрыгва). *Вядома, тут, напэўна, было так, што афіцэр польскага пагранічнага войска граф Паліводскі сумысля не гаварыў нікому, што ён у нейкага Ракуцькі ўкраў худую кабылу* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Суседзі назаўтра казалі, што ён сядзеў упоперак воза, так, што адна нага была ў драбінах, а другая выстаўлена на манер пісталета* (Я. Колас. Знайшлі).

Парадак размяшчэння частак у большасці выпадкаў прамы: спачатку галоўная частка, за ёю — даданая першай ступені, у канцы — даданая другой ступені: *Трэба, каб усе камандзіры, палітрукі як след зразумелі, як небяспечна ў цяперашні час, у іх становішчы, бязвер'е* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Я не ведаю, чаму мне так уцешна, як зазвоніць восень меддзю па лістах* (М. Васілёк. У чорны змрок).

Разам з гэтым магчымы і іншы парадак. Вядома, што для некаторых даданых, у залежнасці ад іх функцыі, прэпазіцыя больш характэрна, чым постпазіцыя. Таму і ў аналізуемых ускладненых складаназалежных сказах сустракаюцца такія схемы іх будовы: галоўная — даданая II—даданая I; даданая I—даданая II—галоўная; даданая II — галоўная — даданая I і г. д.: *Няхай ляжыць цывільным чалавекам. А вайсковую абмундзіроўку яго я запратору так, што аж каб самы старэйшы на ўсю дзяржаву нос нюхаў тут і вывіжоўваў шаснаццаць год, то каб нічога не знайшоў бы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Я прасіла знаёмых у горадзе, калі праведаюць дзе смірную дзеўку, дык хай пакажуць нам* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Ён рашыў сядзець ціха, бо меў усё ж такі надзею, што дазорцы яго не бачаць. А калі прыйдзецца так, што дзявацца будзе некуды, тады...* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Што б табе гэтакае прыдумаць апрануць паверх, каб цяплей табе было ехаць, і сама не ведаю* (К. Чорны. Зямля). *І хоць людзей там грэбла шмат старанна і сумленна, Пятровіч згледзеў, што не ў лад у стог складаюць сена* (П. Броўка. Родныя берагі).

Размяшчэнне апошняй даданай часткі ў сярэдзіне даданай І таксама сустракаецца даволі часта. Пры гэтым даданая II можа ісці непасрэдна за злучнікам (злучальным словам) даданай І, і тады звычайна сродкі сувязі размяшчаюцца падрад (тут фактычна даданая II папярэднічае даданай І): *І Сымонка ў захапленні ловіць звону галасы, бо як толькі звон зазвоніць, як завойкае ўвышы, — адгукнуцца, загамоняць струны ўсе яго душы* (Я. Колас. Сымон-музыка). *І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што каб меў крыллі, то ўзняўся б і паляцеў бы* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *І само сабой сталася, што калі дзяўчаты павырасталі, то ў кожнай з іх была гара падушак і поўная шафа адзення* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *І ведалі даволі ўсе наўкола, што хоць паганы меў ён голас, ну дык затое ж кіпцюры!* (К. Крапіва. Каршун і цецярук).

Параўн. сказы, дзе такога суседства сродкаў сувязі не наглядаецца (даданая II сапраўды ў інтэрпазіцыі ў адносінах даданай І): *Яго супакоілі, што медсястра, якую ён прывёз, скора паправіцца* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *Дык Мікалай на гэтым сходзе і падаў думку, што з авечкамі, калі і трэба іх абагульваць, дык льга яшчэ і пачакаць крыху* (К. Чорны. Вясна). *Дзед думае цяпер, як ухітрыцца найцішэй выйсці з пуні, каб нявестка не пачула, ды напісаць ліст сыну ў Амерыку* (З. Бядуля. Летапісцы). *Увогуле трэба прызнаць, што аўтарызацыя перакладаў, асабліва там, дзе аўтар патрабавальна паставіўся да работы, значна палепшыла іх якасць* (М. Клімковіч. Упэўненым крокам).

Размяшчэнне абедзвюх даданых у сярэдзіне галоўнай часткі стварае некалькі абцяжараную канструкцыю, таму і сустракаецца радзей. Параўн.: *«Дык вось як яно, дзеткі мае, было тады», — падкладаючы сушняк у агонь, які ледзь ліпеў, бо на яго ўсе забыліся, казаў Арцём Швайка* (Р. Сабаленка. Пад чырвоным сцягам).

Інтэрпазіцыя абедзвюх даданых стылістычна апраўдваецца толькі тады, калі ў пачатку галоўнай часткі стаіць указальнае слова (або слова ці словазлучэнне з функцыяй, блізкай да функцыі ўказальнага слова), а таксама калі ў галоўнай частцы ёсць аднародныя члены, адзін з якіх выступае ў ролі апорнага элемента або ўваходзіць у склад яго: *І іменна тады, калі ўжо здаецца, што ўсе нашы вёдры нічога больш не дапамогуць, я пазнаю ў агульным крыку словы: «Панямонцы! Пажарнікі!»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Дзед пагладзіў яго па галоўцы, калі ён збіраў сшыткі, каб ісці ў школу, і сказаў: «Ты, брат Павел, не злуйся»* (І. Шамякін. У Маскву).

Інтэрпазіцыя ў такіх сказах блізкая да прэпазіцыі (гл. першы прыклад) або да постпазіцыі (гл. другі прыклад), а таму і не ўспрымаецца як значнае адхіленне ад нормы.

§ 1312. 4. У сказах са складаназалежнай галоўнай і простай даданай часткамі складаназалежная галоўная частка вылучаецца толькі па сэнсу: дзве састаўныя часткі, звязаныя падпарадкавальнай сувяззю, утвараюць цеснае сэнсавае адзінства, якому ў сваю чаргу падпарадкоўваецца даданая частка: *Гэта горка, сябры, ноччу ў пыле ляжаць прыдарожным, прытварацца, што ты ў гэту хвілю распяты і мёртвы, бо ўзнялі недзе побач тупыя насы насцярожна і вынюхваюць прагна цябе кулямёты* (П. Панчанка. Я не ведаю, колькі ішоў...). *Не кляніце мяне, што так смутна пяю, бо і так там на дне душу змучыў сваю* (Я. Купала. Не кляніце мяне...). *Ён насыпаў зерне ў мяшкі, глядзеў на вагі, каб кладаўшчык часам не памыліўся, дапамагаў дзеду ўскідваць пузатыя мяшкі на воз, хоць і без яго памочнікаў было больш, як трэба* (І. Шамякін. У Маскву). *Яна* [раслінка] *была такая маленькая, такая нязначная, што ніхто нават не пазіраў на яе і не цешыўся ёю, нягледзячы на тое што гэтае маленькае стварэнне выяўляла сабою асобны кут жыцця, разумна і замыславата зроблены* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Чаго жалець табе, гаротнай? Загонаў, дзе цвіце свірэпа, смыка, сахі, сярпа і цэпа, каб так чапляцца за іх слепа?* (Я. Колас. Калгаснае).

З фармальнага ж боку такія сказы нічым не адрозніваюцца ад сказаў, дзе дзве асобныя простыя даданыя часткі падпарадкаваны адной галоўнай (§ 1311, п. 3). Гэта і зразумела, таму што простая даданая частка не можа адносіцца ні да чаго іншага, як да апорнага элемента галоўнай часткі. Апорным жа элементам можа быць або слова, або словазлучэнне (але ні ў якім разе не сінтаксічнае адзінства, роўнае складаназалежнаму сказу). Але ж і даданая, якая ўваходзіць у састаў складаназалежнай галоўнай часткі, таксама адносіцца да апорнага элемента гэтай жа галоўнай.

У тых жа выпадках, калі простая даданая адносіцца да апорнага элемента, які змяшчаецца ў падпарадкаванай частцы складаназалежнай галоўнай часткі, — у гэтых выпадках аналізуемыя сказы фармальна нічым не адрозніваюцца ад сказаў са шматступенным (паслядоўным) падпарадкаваннем. Параўн.: *Можна сказаць, што і ўсе нашы людзі не маюць ахвоты да таго, каб хто над душою крукам стаяў* (К. Чорны. Вясна).

5. У сказах з бяззлучнікавай складанай галоўнай і простай даданай часткамі простыя часткі, што аб'ядноўваюцца ў складаную бяззлучнікавую галоўную, могуць быць як аднатыпнымі, так і разнатыпнымі. У сказах з аднатыпнымі часткамі, якія звязаны бяззлучнікавай сувяззю ў адну складаную галоўную частку, практычна налічваецца дзве ці больш галоўных частак пры адной даданай, таму што гэта даданая падпарадкоўваецца ў аднолькавай меры кожнай з наяўных простых частак, якія ўваходзяць у склад бяззлучнікавай галоўнай. У выніку даданая звязваецца з некалькімі аднароднымі апорнымі элементамі: *Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны, дзе такі там хорам важна збудаваны, — што*

*мне замянілі б хату і бярозкі, хату і бярозкі беларускай вёскі?* (Я. Купала. Я ад вас далёка). *Яшчэ не растаяў пах сігар, у попелцы гас агарак, калі падышоў да стала качагар і вытрас пах качагарак* (А. Куляшоў. Сацыял-дэмакрат). *У палях лажыліся ўжо цені, сачыўся золак між прысад, як ты ў глыбокім задуменні спакойна глянула назад* (П. Трус. Развітанне). *Хоць ворагі блізка прыйшлі да парогу, не сесці за стол ім у ката адзенні, не піць цынандалі з турынага рогу,— чарнець ім касцямі на голым камені* (П. Броўка. Каўказ).

Структура складаназалежных сказаў з такой складанай галоўнай часткай не мае сваёй спецыфікі. Дадаая частка можа размяшчацца пасля галоўнай, перад ёю і ў сярэдзіне яе: *Смутна сэрцу, нудна воку, як зірнеш на хатку* (Я. Колас. Удовіна хатка). *Як табун разграмілі варожы партызаны ў сваім падарожжы, — задымелі агні на начлезе, зашумеў кучаравы бярэзнік* (Я. Купала. Партызаны). *Каб расплюшчыла вочы свае, луг за вокнамі б вырас, кветкі ўсе для цябе аднае зацвілі б сярод лета другі раз* (А. Куляшоў. Алёнка). *Дык чаму ж, калі для вока цудам тут усё здаецца, думак рой ляціць далёка, несуцішна сэрца б'ецца?* (К. Цітоў. Пераклад з Я. Лучыны. Велічны малюнак). *І адтаго, што ўбачыў Ігнась Макара, зноў яшчэ горш стала рабіцца яму неяк нудна, з'явілася аднакасць да ўсяго* (К. Чорны. Новыя людзі).

Выпадкі, калі ў адну галоўную аб'ядноўваюцца бяззлучнікавай сувяззю разнатыпныя часткі, у сучаснай мове надзвычай рэдкія. Так як апорны элемент будзе тут толькі ў адной з частак, што ўваходзяць у складаную галоўную, то другая частка галоўнай непазбежна будзе менш цесна звязанай з дадаай. Гэта яскрава відаць з прыкладаў: *Хоць яна і ціха гаворыць, гэтая Тэкля, вельмі ціха, але ж Мікуцю было б чуваць, гэта ж гэтак блізка!* (К. Чорны. Вясна). *І пайшло ад сукі сучцы — хто каго ні стрэў, што той Лыска у навуцы сам сабаку з'еў* (К. Крапіва. У папа ды быў сабака).

6. У сказах са складаназлучанай галоўнай і простай дадаай часткамі дзве ці больш простых аднатыпных частак аб'ядноўваюцца злучальнымі злучнікамі ў адну складаназлучаную галоўную частку. Дадаая частка падпарадкоўваецца ўсім простым часткам у складзе галоўнай,— такім чынам, дадаая звязваецца з некалькімі аднароднымі апорнымі элементамі: *І лёгка было мне, і плакаў я, таму што ўсё смяялася навокал* (А. Куляшоў. Дарогі). *Зямля там намарна ўзарана і жыта ўрадзіла, бо немцамі ў ёй закапана нячыстая сіла* (А. Куляшоў. Балада аб замініраваным полі). *Калі падчас не хапала рыбы — пад спод торбы ішла трава, а дробнарыбіца зайздросна прыкрывалася зеленаватымі, лычастымі шчупакамі, рабымі акунямі, язямі* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Ці травы прынадна сінелі ў балоце, ці вострыя кулі пасеклі аброці, што коні пабеглі?* (П. Панчанка. Коні). *Але ўночы кухарава дачка крычала так галосна-празліва, а яе матка, вельмі шляхетная дама ў маркізетах, так ушчувала сваю Тамару, і такі тут узняўся гармідар, што заснуць у гэтую ноч дачнікам не давялося* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

Структура такіх сказаў характарызуецца тым, што дадаая частка можа размяшчацца або ў постпазіцыі, або ў прэпазіцыі; інтэрпазіцыя амаль немагчыма: *Браты! Мінецца ліха-гора і панскі шал затхнецца скора, бо стукне молат па панах* (Я. Колас. Братам Заходняй Беларусі). *Дзе за пасёлкам лёг пасёлак, гіганты ўзнімуць сцяг бунтарны, і ў бліскax квецістых вясёлак, дым гасячы лучын і смолак, зайскрыць электрыка ўладарна* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы). *І калі крануўся з месца, калючы боль працяў плячо, зялёныя і агнявыя кругі паплылі перад вачыма, і — знясілены, зняможаны — уткнуўся шчакой у цёплы сівец купіны, нязграбна абняўшы яе адной рукой* (М. Лынькоў. Талісман).

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ ДЗВЮХ СКЛАДАНЫХ САСТАЎНЫХ ЧАСТАК

§ 1313. Складаназалежныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі з'яўляюцца складанымі, тэарэтычна могуць мець дзевяць разнавіднасцей: сказы са складаназлучанай галоўнай і адпаведна складаназлучанай, складанай бяззлучнікавай ці складаназалежнай даданай; са складанай бяззлучнікавай галоўнай і адпаведна тымі ж трыма відамі даданых; са складаназалежнай галоўнай і тымі ж самымі відамі даданых. Аднак у сучаснай мове не ўсе гэтыя разнавіднасці рэалізуюцца. Так, няма сказаў са складанай бяззлучнікавай галоўнай (з разнатыпнымі простымі часткамі) і складаназалежнай даданай часткамі: практычна такія сказы ўжо можна разглядаць як бяззлучнікавыя ўскладненыя: *Ты не плач, мая дзяўчынка, дужа цяжка, горна мне, што не ведаю, не знаю, што парадзіць і зрабіць* (П. Броўка. Кацярына). *Увечары ён стараўся вельмі спакойна гаварыць з жонкай: сказаў, што пойдзе прынясе плашку, якую прыгнала аднекуль рэчкай вада* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Тое ж трэба сказаць і аб складаназалежных сказах са складаназалежнай галоўнай і складанай бяззлучнікавай даданай часткамі (калі ў саставе даданай аб'ядноўваюцца разнатыпныя простыя часткі).

1. Сказы са складаназлучанай і складанай бяззлучнікавай галоўнай часткай прадстаўлены прыкладамі аб'яднання аднатыпных простых частак у саставе галоўнай. Даданая частка ў такіх сказах таксама звычайна з'яўляецца складаназлучанай або складанай бяззлучнікавай (з аднатыпнымі простымі часткамі). У выніку атрымліваюцца сказы з некалькімі аднароднымі галоўнымі часткамі, да якіх адначасова адносяцца некалькі аднародных даданых частак: *А як раніца настане, бляскі сонца загуляюць — рос прыходзіць адцвітанне, туманы у рэчцы таюць* (Я. Купала. Летняя раса). *Дзе прысады зялёных тапаляў кучаравяць сваю галаву і дарогі знікаюць у глыбокай туманнай лагчыне, празвінела махноўская куля, і Гусараў упаў на траву* (М. Хведаровіч. Гібель камэска Гусарава). *Дзе сухазем'я кожны крок паліт крывёй тваіх ратаяў, дзе басмачоў ліхі наскок, дзе бай атрутай горкай баяў, дзе гразь займала ціхі кут ў тваіх разваленых кібітках, — больш палыны ўжо не растуць і зніклі бруд навекі гідкі* (М. Хведаровіч. Узбекістану). *І хоць цяжкі змагання шлях, хоць след у заўтра праз сумёты, хоць недаморaная тля збіраецца напасці ўпотай, — шалёны часу крутабег, усё мяняецца бясконца* (М. Хведаровіч. Нарадзіўся чалавек).

Выпадкі, дзе б унутры даданай часткі наглядалася падпарадкавальная сувязь або бяззлучнікавае аб'яднанне разнатыпных простых частак, для сучаснай мовы не тыповыя, параўн.: *Мне было нялёгка дабіцца праз Перабродскую Злыбяду. Там густа нямецкія гарнізоны стаяць і на дарогах варты многа, дык я такога даваў кругу, што ўтройчы дарога мая пабольшылася* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Хутка яблынькі падрастуць, пабудуюцца гарады, зацвітуць маладыя сады, бо ідуць, бо ідуць да ракі дзень і ноч, дзень і ноч цягнікі: Украіна свой шле метал, экскаватары — волат Урал, беларускія коцяць «зубры», аж дрыжаць навакол бары* (М. Хведаровіч. Ангара).

Структура такіх сказаў (парадак размяшчэння састаўных частак) не мае ўласных спецыфічных рыс.

2. Сказы са складаназалежнай галоўнай прадстаўлены ў мове трыма разнавіднасцямі ў адпаведнасці з тым, мае даданая форму складаназлучанага, складанага бяззлучнікавага (з аднатыпнымі часткамі) ці складаназалежнага сказа. У першых дзвюх разнавіднасцях даданая частка фактычна складаецца з дзвюх ці болей аднатыпных простых частак, звязаных злучнікавай злучальнай або бяззлучнікавай сувяззю. Такім чынам, гэта сказы з аднароднымі даданымі часткамі, падпарадкаваныя

складаназалежнай галоўнай частцы. А так як такія аднародныя даданыя могуць звязвацца з апорным элементам простай часткі (або простай галоўнай, г. зн. той часткі, ад якой залежыць другая простая частка ў саставе складаназалежнай галоўнай часткі; або простай падпарадкаванай, г. зн. той часткі, якая сама залежыць ад падпарадкоўваючай простай часткі ў саставе складаназалежнай галоўнай часткі), то практычна атрымліваецца, што:

а) да асноўнай галоўнай часткі адносяцца як простая даданая частка, так і дзве ці больш аднародных даданых частак (у традыцыйнай граматыцы гэта называецца камбінацыяй аднароднай і неаднароднай сузалежнасці);

б) да асноўнай галоўнай часткі адносіцца простая даданая, якой падпарадкаваны дзве ці больш аднародных даданых частак (у традыцыйнай граматыцы гэта называецца камбінацыяй шматступеннага падпарадкавання і аднароднай сузалежнасці).

*Калі зімой мятлюга грае і злосна шчэрыцца мароз, ён як далонню прыкрывае галінку тую, дзе прарос* (П. Броўка. Як ліст дубовы...). *І толькі тады, калі сонца ўгрэла як мае быць, а конь і араты парадкам натаміліся, ён выпраг каня, каб пахадзіў па траве, і сам прылёг пад дубам* (Я. Колас. Дачакаўся). *Супроць таго, каб пагадзіцца з жонкаю, ён не мае нічога, асабліва цяпер, калі набралася столькі ўсякіх сумненняў і калі Мар'янка яўна не зважае на яго* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *І тут толькі зразумелі людзі, якія сядзелі ў склепе, што яны вольныя цяпер, што наканаваная смерць прайшла міма іх, стараной* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *І калі пахучыя зярняты у засекі хлынулі ракой, з радасцю ажыўшы элеватар ўбачыў на акраіне лясной, як па рэйках да яго ізнова груз патрэбны везлі цягнікі, як пад светлым ветрам вераснёвым распраўлялі крыллі ветракі* (М. Танк. Элеватар). *І тое, што кагадзе яна гаварыла з людзьмі, што ідзе па дарозе, што возьмецца дома за работу, што Андрэй недзе там у горадзе на з'ездзе, — давала ёй нейкую радасць, якую яна нават не разумела, а толькі адчувала ў сабе* (Я. Колас. Андрэй Клыга).

*Дваццаць тры мільёны ідзе на гімназіі і універсітэты — гэта такія вялікія школы, дзе толькі купцы і паны сваіх дзяцей вучаць, бо там сумыслу так дорага плаціць кажуць, каб бедныя мужыкі туды дзяцей не маглі аддаваць і каб па век вякоў асталіся ў цемнаце* (ананімная гутарка «Дзядзька Антон...»).

Сказы са складаназалежнай галоўнай і складаназалежнай даданай часткамі па форме нагадваюць сказы з так званым паслядоўным падпарадкаваннем (гл. § 1311, п. 3), дзе можна было б вылучаць асноўную галоўную частку, даданую першай, другой і трэцяй ступені. Вылучэнне ў такіх сказах дзвюх канструкцый з падпарадкавальнай сувяззю праводзіцца толькі па сэнсу: *Як у калысачцы дзіцятка, калі ўжо трошкі акрыяе, сваю галоўку падымае і навакол глядзіць здзіўлёна, — так гэта збожжайка зялёна да сонца цягнецца лісткамі, бы к матцы дзіцятка рукамі* (Я. Колас. Новая зямля). *Ты сама кажаш, што ў цябе гэта ненаўмысля выйшла, дык трэба ж думаць, што гаварыць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І калі на будоўлі самой станцыі было не так ужо людна, бо ўся праца ішла ўсярэдзіне — канчалася ўстаноўка абсталявання і апошнія даробкі, затое на пляцоўцы, якая абкружала станцыю, гуло, як на кірмашы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Шкада стала Янку мышкі. Быў ён такі чалавек, што ўсіх шкадаваў, бо заўсёды помніў, як яму самому раней цяжка жылося* (А. Якімовіч. Ох і залатая табакерка). *Пакуль пі ды еж, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш* (народн.).

Парадак частак не мае якой-небудзь уласнай спецыфікі: даданая можа быць або ў постпазіцыі, або ў прэпазіцыі.

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ УСКЛАДНЕНАЙ ЧАСТКІ З ПРОСТАЙ, СКЛАДАНАЙ ЦІ УСКЛАДНЕНАЙ ЧАСТКАМІ

§ 1314. 1. У сказах з ускладненай і простай састаўнымі часткамі галоўная частка звычайна бывае простай. Дадаиая ж частка можа мець самую разнастайную форму: ускладненага бяззлучнікавага, ускладненага складаназлучанага ці ўскладненага складаназалежнага сказа.

*Станоўчае, урэшце, бярэ верх. Але іменна ўрэшце, бо калі з самага пачатку станоўчае будзе пераважаць і падаўляць адмоўнае, то зло не зможа сябе праявіць з дастатковай паўнатой, яно будзе ліквідавана, але не выкрыта мастацкімі сродкамі, і добрай сатырычнай камедыі з гэтага не атрымаецца* (К. Крапіва. Канфлікт — аснова п'есы). *Мы паставілі кветкі на вокнах радамі, каб гарэлі яны аганькамі, каб жа кожны, дамоў ідучы, бачыў днём іх і позна ўначы, каб ён ведаў, свой лёс несучы, дзе ад нашага шчасця ключы* (П. Броўка. Ясны кут). *Змаршчакаваты твар быў халодны і нерухавы, як бы ўсё, што жыло ў чалавеку, варушылася дзесьці глыбока пад ружоваю насупленасцю бязброўных вачэй, пад рудым зараснікам вусоў, пад усімі рысамі аблічча, што ляжалі дзіўна, упоперак* (К. Чорны. Нянавісць). *Палюбуйся, паглядзі ты, як прыгожанька ўгары, як усюды бляск разліты, быццам неба ў пажары* (Я. Колас. Неба). *У траве твой хоць бы след шукаю, чыню над яснай праўдай здзек, бо днём з агнём, я добра знаю, чаго няма — не знойдзеш век* (У. Хадыка. Песні з поўдня).

*Далей мужыкі гаварылі аб тым, як цяпер трудна ім стала жыць, што дваровае поле, як падкова, акружыла іх благія палеткі і што няма як і кроку ступіць, каб не папасці ў панскія лапы* (Я. Колас. Бунт). *Яму* [пісьменніку] *прыемна, напрыклад, бачыць такую пісаную ідылію, «калі прыгожая... дзяўчына ці клапатлівая гаспадыня маёнтка, сабраўшы ў святую нядзельку дваровую чалядку і вясковых дзяўчат, што прыйшлі на параду ці з якой-небудзь просьбай да пані, чытаюць перад задаволенымі фрагменты з «Гапона», «Вечарніц» ці з «Купалы»; а ўдзячныя сялянкі ўважліва слухаюць паасобныя сцэны, з якімі ў сваім штодзённым жыцці не адзін раз сустракаюцца»* (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч). *А маўчыш ты таму, што згубіўся твой суджаны дзесьці у далёкай імгле і даўно ўжо, як вестак не шле* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Як слаўна, як хораша ў летняе ранне, калі атрасаюць сон ціхія гоні, дзе жыта пачціва калосікі клоніць, а дымка туману кладзецца на тоні, і луг ажывае у поўным убранні!* (Я. Колас. Над Свіслаччу).

*Адбудуем горад свой вячысты, каб сказалі нашчадкі ўрачыста, як мы мужна ворага пабілі і красу-сталіцу аднавілі!* (П. Броўка. Родны горад). *Дзяўчынка мая! Мне заўсёды было шкада, што не маю малодшай сястры, якой купіў бы блакітныя стужкі, якую ўзяў бы на рукі* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Ніна нават баялася моцна дыхаць, каб не спужаць гэтага, што вось у грудзях, што хоча вырвацца адтуль, хоча словамі Ніны гаварыць аб сабе яму, губамі яе цалаваць яго* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Я за тых падам свой голас, хто працуе чэсна, дбала, хто кладзе трудоў нямала, каб жыццё закрасавала, як дзянніца мая* (Я. Колас. Да выбараў...).

Асобна варта адзначыць сказы, дзе даданая частка мае форму такога ўскладненага складаназалежнага сказа, у якім наглядаецца так званае паслядоўнае падпарадкаванне. Колькасць даданых тэарэтычна тут не абмежавана. *Плыла, цалавалася хмара з зямлёй, аж жнеі сярпы пакідалі, бо ўгледзелі ўжо, як збягаюць па ёй маланкі на жытнія далі* (А. Куляшоў. Плыла, цалавалася хмара з зямлёй...). *У шэрагу іншых твораў паслякастрычніцкай беларускай літаратуры гэты твор вылучаецца перш за ўсё тым, што ў ім паэт раскрыў шлях жанчыны, на якім — і яе пакутная батрацкая доля, і яе светлы, радасны дзень, калі яна ўздымаецца на трыбуну ў Крамлі, каб расказаць усяму свету аб шчаснай долі*

*разняволенага чалавека, аб радасным, светлым лёсе беларускага народа* (У. Агіевіч. Пятрусь Броўка). *Прыходзьце, стральцы, каб непаслухмяных ваўкоў правучыць, якія не хочуць казуляў караць, якія ляняцца галінку ламаць, якая не хоча дзяцей калыхаць* (М. Танк. Галінка і верабей).

Парадак даданых рэдка калі парушаецца, хоць іншы раз і наглядаецца інверсія: *Калі Сомік казаў, што ўсё сяло трэба абыйсці, каб сведку дастаць, дык ён быў недалёка ад праўды* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У якасці састаўной часткі такой ускладненай даданай можа ў сваю чаргу выкарыстоўвацца ўскладненая частка. Такія сказы сустракаюцца як у мове мастацкай літаратуры, так і ў публіцыстыцы: *Чытач хоча, каб у артыкуле не толькі што-небудзь сцвярджалася, але і пераканаўча даводзілася, каб крытык паказваў, дзякуючы якім мастацкім сродкам, з дапамогаю якіх прыёмаў дасягнуў паэт сваёй мэты і чаму яму «моцна верыш»* (Б. Бур'ян. Шчыра кажучы...). *Поўны дзіцячай наіўнасці і важнасці даручанай яму справы, ён дакладна даводзіў Васілю Іванавічу, што ўся лесавая старана амаль што свабодна ад фашыстаў, што з суседнім раёнам яшчэ можна гаварыць па тэлефону, што лепш за ўсё прабірацца дарогай паўз лес, праз старыя пацяробы, куды не падавалася яшчэ ніводная нямецкая машына, паколькі нямецкія калоны ўсё рушылі па бальшаку ў напрамку шашы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мяне ўжо радуе і тое, што ночка стала убываць і што ад мёртвага спакою пачне прырода ажываць; што з кожным днём бліжэй к вясне мы, калі абудзяцца гаі, і сон палёў, спакой іх немы пабудзяць з шумам ручаі* (Я. Колас. На павароце). *Я крануся мякка смуглых рук тваіх, каб твой сон спыніўся і каб боль уціх, каб пачуў, што дома ты, — ты не на вайне, каб заснуў спакойна, ціха ля мяне* (К. Буйла. Ты сягоння ноччу...). *Навекі няхай пакрыюцца славаю баявой клінкі, што ворагаў крышаць, агонь, што іх сляпіць, бураны, што замятаюць варожыя чарапы, і песні пра мужных сэрцам, і песні, ў якіх чуваць, як звіняць бураны, і полымя, і клінкі* (М. Танк. Вастрыце зброю). *Каб вы ведалі, як мы жылі раней і як сталі жыць цяпер, што мелі мы тады і што маем зараз, то вам смешна было б пытацца аб гэтым* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ішла яна побач дарогі так, каб не кідацца людзям у вочы і асабліва польскім салдатам, якіх нядаўна прыгналі ў Вепры і якіх яна баялася: ад іх можна ўсяго спадзявацца* (Я. Колас. Дрыгва). *Так, так, для таго і вучылася, і паехала ў калгас Людміла Федаровіч, каб у такі клапатлівы час са світаннем ужо быць на нагах, падказваць калгаснікам, як пратраўліваць насенне, потым спяшацца на веласіпедзе ў поле, дзе трэба паставіць трактарную сеялку на высеў, проста сказаць брыгадзіру Яфіму Шарапаву, што ён глядзіць не туды, куды трэба, таму што адзін з трактарыстаў культывіруе недабраякасна* (С. Мельнікаў. Вясна міру і працы). *Вада скрозь стаяла гэтак высока, што а-я-яй! і гэтак напіналася сіберна, што, каб не схлусіць вам, кожны год застаўкі ламала і гнула, пакуль князь не здагадаўся прыслаць добрага майстра* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Але Макарка, як і ўсе піянеры, ведае, што не век будуць панаваць там паны, бо народ церпіць крыўды і сваё бяспраўе да пары, да часу, бо ён употайку збірае сілу, каб абрушыць яе на сваіх заклятых ворагаў-прыблудаў* (Я. Колас. Макарка Навак).

Парадак частак у такіх сказах звычайна прамы: даданая размяшчаецца пасля галоўнай.

Не выключана, аднак, магчымасць, што і галоўная частка будзе мець форму ўскладненага сказа, а даданая будзе простай: *У той час, калі маці пазірала на сваю вучоную дачку і цешылася з яе, бо яна так выдзялялася з гэтай шумлівай чарады дзяўчатак, Сцёпка думаў, як тут лагчэй і натуральней пабачыцца з Аленкаю* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Як на бяду, пайшлі мужчыны і Уладзік з імі ўрассыпную: адзін*

*у лес, той да адбору, з сахою трэці ў гэту пору арай дзесь пасеку старую; дык што магла з дзяцьмі малымі зрабіць жанчына адзінютка?* (Я. Колас. Новая зямля). *Калі ж над гарамі ў жалобнай адзежы ноч госцяю ляжа нязванай і знізіць і горы, і выступы-вежы, прыкрыўшы іх чорнай сутанай, — тады запалае нябёсаў скляпенне, гірляндамі зор загарыцца, разгорнецца неба ў жалобным адзенні, бы хочацца небу маліцца* (Я. Колас. Чымган).

2. У сказах з ускладненай і складанай састаўнымі часткамі і галоўная і даданая часткі могуць быць як складанымі, так і ўскладненымі: *Не жыў я б на свеце ніводнай гадзіны, прыкончыла б куля мяне на вайне, калі б я не думаў штодня, што радзіма не спіць, з перамогай чакае мяне; што будуць званіць урачыста званы, што будзем мы некалі ехаць з вайны* (П. Панчанка. Думы салдата). *У той прыблізна час, калі Васіль Бусыга варочаўся ад павятовага «камісаржа», дзе ён убачыў арыштаванага Мартына Рыля, і разважаў над пытаннем, сказаць аб гэтым Аўгіні ці не сказаць, Аўгіня разважала над пытаннем—схадзіць ёй у Вепры ці не* (Я. Колас. Дрыгва). *А хто б яшчэ мог болей цяміць, таму б адразу прыйшло ў памяць, што дзядзька бульбу драў на клёцкі, каб згатаваць не па-жаноцку, бо што жанкі?* (Я. Колас. Новая зямля).

*Калі хто пытаўся, куды яна едзе, адказвала, што дзяўчына нешта моцна захварэла, да доктара вязе* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Я гэты горад знаю з даўніх дзён. І каб не хвойны пах бацькоўскай хаты, і каб не нарачанскай хвалі звон ля курганоў, ля сосен расахатых,— хацеў бы я, каб мой апошні спеў, тут, сярод гэтых незабыўных вулак, дзе ўпершыню ён гулка празвінеў, знайшоў спакой і вечны свой прытулак* (М. Танк. Вільнюс). *Хто ў сэрцы носіць цень надзеі на цяжкі гнёт маіх умоў, хто хоча зыркім санцавеем асветліць лік старых багоў, — той зломіць наглае увер'е, той спрытны сподзеў разаб'е аб сталь напружнага намеру, што я ўзахоп узяў сабе* (Ц. Гартны. Рабфакавец-вясковец).

3. Нарэшце, магчымы складаназалежныя сказы, дзе і галоўная і даданая часткі з'яўляюцца ўскладненымі: *Як памру я, пахавайце на Украіне мілай, сярод стэпу на кургане, дзе продкаў магіла: каб нязмеранае поле, Днярпо і абрывы было відна, было чутна, як раве бурлівы!* (Я. Купала. Пераклад з Т. Шаўчэнкі. Запаведзь).

Прыклады сведчаць, што большасць складаназалежных сказаў, у якіх адна ці абедзве састаўныя часткі з'яўляюцца ўскладненымі, мае пэўны паралелізм у сваёй структуры, адна састаўная частка рэзка адрозніваецца ад другой па характару інтанацыі. У стылістыцы такія сказы адносяцца да шырокай групы, якая мае назву перыяду.

## ДАЛУЧАЛЬНА-ПАДПАРАДКАВАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ У СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ

§ 1315. У складаназалежных сказах з далучальным характарам падпарадкавальнай сувязі даданая частка змяшчае дадатковае паведамленне, якое паясняе або дапаўняе тое, што сказана ў галоўнай частцы.

Сувязь састаўных частак пры далучальным падпарадкаванні аказваецца значна слабейшай, чым пры ўласна падпарадкаванні. Фармальна гэта праяўляецца ў тым, што пры такой сувязі састаўных частак у галоўнай частцы ніколі не бывае суадноснага (указальнага) слова. Даданая частка пры далучэнні размяшчаецца толькі пасля галоўнай, што апраўдваецца і самім зместам такой даданай, якая фактычна з'яўляецца дадатковай заўвагай, узнікшай па ходу думкі. (Калі ж далучальныя даданыя знаходзяцца ў інтэрпазіцыі, яны ператвараюцца ва ўстаўныя сказы.)

Пры далучальным падпарадкаванні дадзеная частка звязваецца з галоўнай злучальнымі словамі *што* (у розных склонавых формах з прыназоўнікамі ці без іх), *дзе, куды, калі* і інш., злучнікамі *хоць, да таго ж, тым больш што* і інш.: *Ён гатоў падтрымаць прыход усялякіх цёмных сіл, гатоў прадаць усялякую вялікую народную справу, што мы і ўгледзелі выразна* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Лепш бы залез у агарод да Сымоніхі і нашчыпаў там цыбулі, а не шворыўся б дома ў варывеньцы, дзе ён няўмысля абярнуў збан малака, шукаючы сабе пажытку* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Перад ім на стале запісная кніжка, куды ён не-не ды нешта запіша* (Я. Колас. Адшчапенец). *Багата чаго бачыла гэтая лесавая шапка, ёмістая, касматая, сям-там падсмаленая ля лясных вогнішчаў, прастрэленая ў некалькіх мясцінах, гэта калі Канапелька апрабоўваў сваю новую пістаноўку, высока ўгору падкінуўшы шапку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Я пішу куды-небудзь мой ліст, як у песні пяецца* (А. Куляшоў. Ліст з палону). *Ён стаў жыць механічна, кроку не ступячы, каб не падумаць: «ці ад гэтага мне што-небудзь прыбудзе, ці я проста патрачу час на бескарысную асалоду сонцам і пахам травы», хоць гэта і ёсць сапраўдная асалода* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Мы гадаваліся жорстка, з маленства не прызвычаены да ласкавых слоўцаў, да таго ж мы мужчыны, салдаты* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Раман дастаў тытун у надзеі, што гасцінна развязаны кісет зверне на сябе ўвагу падарожных і паслужыць яшчэ адною зачэпкаю для таго, каб Захар з Пятром прыселі тут, тым болей што тытун быў не ў кожнага* (Я. Колас. Дачакаўся). *Паўліна Цітаўна настойліва званіла ў сельсаветы, якія ляжалі на іх дарозе. Але большасць з гэтых сельсаветаў была за межамі раёна, і ніхто там пэўне не ведаў, праязджалі яе людзі ці не, тым больш што сотні людзей ехалі з лесу* (І. Шамякін. Сялянка).

Дадатковая заўвага, якая складае змест дадзенай часткі ў апошніх трох сказах са злучнікамі *да таго ж, тым больш (тым болей) што*, настолькі далёкая ад зместу галоўнай часткі, што гэтыя дадзеныя па свайму зместу ўжо набліжаюцца да ўстаўных сказаў.

§ 1316. Сярод сказаў з далучальным падпарадкаваннем у асобную групу вылучаюцца складаназалежныя сказы з так званай адноснай сувяззю. Дадзеныя часткі ў такіх сказах звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучальнага слова *што* (у розных склонавых формах з прыназоўнікамі або без іх) і адносяцца да ўсёй галоўнай часткі: *П. Панчанка добра ведае, што дарога ў будучыню праходзіць праз сучаснасць. Вось чаму паэт так упарта працуе над тэмамі нашых дзён, што не можа не з'явіцца прадумовай для яго далейшага творчага росквіту* (У. Агіевіч. Пімен Панчанка). *Аднаго разу прыязджаў сам граф верхам на кані, чаго ніколі не бывала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ішлі мядзведзіцкія па адным, па два, хапаючыся за шулы і шчыкеты, намацваючы нагамі камені, углядаючыся ў пратоптаныя сляды, выбіраючы дзе святлейшая, сушэйшая лапінка, і траплялі знячэўку ў самую сярэдзіну лужыны, ад чаго пырскі імпэтна разляталіся ва ўсе бакі, як аскепкі ад разрыву снарада* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Чыкілевіч — абаротлівы, кемлівы чалавек, спрытны гаспадар, жыве на водшыбе, індывідуальна аблажаны, з чым ён ніяк не можа пагадзіцца, і лічыць, што з ім паступілі несправядліва* (Я. Колас. Адшчапенец).

Дадзеныя часткі ў выпадку адноснай сувязі, як відаць з прыкладаў, не толькі паясняюць ці дапаўняюць у якіх-небудзь адносінах галоўную частку, а і сама галоўная частка ў сваю чаргу раскрывае канкрэтнае значэнне злучальнага слова дадзенай часткі. Такім чынам, складаназалежныя сказы з адноснай сувяззю з'яўляюцца адным з відаў так званага «ўзаемнага падпарадкавання».

# БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 1317. Складаныя сказы, састаўныя часткі якіх аб'ядноўваюцца пры дапамозе інтанацыі, парадку слоў, віда-часавых суадносін выказнікаў і іншых структурна-граматычных сродкаў (за выключэннем злучнікаў і злучальных слоў), называюцца бяззлучнікавымі. Незалежна ад такога спосабу злучэння састаўныя часткі бяззлучнікавых складаных сказаў заўсёды знаходзяцца ў цеснай узаемнай сувязі і ўзаемнай абумоўленасці. Самі ж па сабе састаўныя часткі не маюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасці, а таму не могуць быць самастойнымі і незалежнымі.

Састаўныя часткі, якія аб'ядноўваюцца ў структуры бяззлучнікавага складанага сказа, уступаюць у пэўныя сінтаксічныя адносіны паміж сабою. Многія з відаў гэтых адносін з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным відам сінтаксічных адносін, якія існуюць паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных або складаназалежных сказаў. Разам з тым сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, напрыклад: *Прыслухайся — цішыня ночы* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Яна адкрыла вочы: сонца ў іх* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна), у якіх сінтаксічныя адносіны не маюць сінанімічных эквівалентаў сярод складаназлучаных і складаназалежных сказаў.

Аб'яднанне састаўных частак у структуры бяззлучнікавых складаных сказаў адбываецца пры дапамозе злучальнай і далучальнай сувязі. Але паколькі ў гэтых сказах адсутнічаюць злучнікі і злучальныя словы, то ў якасці граматычных сродкаў сувязі ўжываюцца розныя структурныя элементы састаўных частак. Акрамя таго, асабліва вялікая роля ў аб'яднанні састаўных частак бяззлучнікавага сказа належыць інтанацыі.

## СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З БЯЗЗЛУЧНІКАВА-ЗЛУЧАЛЬНАЙ СУВЯЗЗЮ

§ 1318. Бяззлучнікава-злучальнай называецца такая сінтаксічная сувязь састаўных частак у структуры складаных сказаў, пры якой гэтыя часткі характарызуюцца цеснай узаемнай абумоўленасцю і адыгрываюць раўнапраўную або нераўнапраўную ролю ў выражэнні адзінай складанай думкі. Адсюль вынікае, што састаўныя часткі бяззлучнікавых сказаў з указанай сувяззю з'яўляюцца аднатыпнымі або разнатыпнымі па характару іх узаемаадносін паміж сабою.

### БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З АДНАТЫПНЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1319. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з аднатыпнымі састаўнымі часткамі прадстаўляюць сабою двухчленныя або мнагачленныя злучэнні аднародных па сінтаксічнаму значэнню састаўных частак, якія вызначаюцца адпаведным паралелізмам сваёй будовы і адносна раўнамернай па вышыні тону інтанацыяй. У сучаснай беларускай мове паміж аднатыпнымі састаўнымі часткамі звычайна выражаюцца часавыя або супастаўляльныя адносіны.

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ЧАСАВЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1320. Часавыя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі частка́мі бяззлучнікавых складаных сказаў, уключаюць у сябе адносіны а д н а ч а с о в а с ц і або с у м е с н а с ц і і адносіны п а с л я д о ў н а с ц і.

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі адначасовасці

§ 1321. Адносіны а д н а ч а с о в а с ц і ці с у м е с н а с ц і характарызуюцца тым, што дзеянні, станы і прызнакі пэўных прадметаў і з'яў (зрэдку толькі прадметы і з'явы), аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага складанага сказа, адбываюцца або існуюць сумесна ў адзін і той жа момант. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць віда-часавым суадносінам выказнікаў састаўных частак: яны вызначаюць час і спосаб або характар працякання ці існавання абазначаных імі дзеянняў (станаў, прызнакаў) прадметаў і з'яў.

Часцей за ўсё выказнікі састаўных частак бяззлучнікавых сказаў з адносінамі адначасовасці выражаюцца асабовымі дзеясловамі незакончанага трывання, якія абазначаюць працэс працякання працяглых дзеянняў у плане цяперашняга, прошлага і будучага часу. Часам сустракаюцца выпадкі, калі падобныя дзеясловы абазначаюць працэс суіснавання станаў або стану і дзеяння ў плане тых жа часаў. *Плывуць у небе самалёты, у даль імчацца цягнікі* (П. Г л е б к а. У шчаслівай сям'і). *Серабрыцца снег, мігацяць незлічоныя мільёны брыльянцістых іголак, вецер-кусака шчыпле за шчокі, нос* (М. Л ы н ь к о ў. Воўчы лог). *Ляцелі пад адкос нямецкія паязды, узрываліся на дарогах грузавыя машыны* (К. Ч о р н ы. Подзвіг ціхага чалавека). *Маўчала ноч па-над палянай, зялёны гай не гаманіў* (П. Т р у с. З паэмы «Цыганка»). *Будзе гай на гары гаманіць, будзе плакаць у лузе каліна* (П. Т р у с. Ой, пайду). *Тая восень вечна будзе зоркай яснаю плысці, тую восень будуць людзі вечна славіць у жыцці* (П. Б р о ў к а. Кацярына).

Акрамя таго, адначасовасць станаў або стану і дзеяння ў плане прошлага і цяперашняга часу можа афармляцца ў бяззлучнікавых сказах, дзе выказнікі састаўных частак выражаны безасабовымі дзеясловамі ці інфінітывамі або выказнік адной састаўной часткі выражан безасабовым дзеясловам, а выказнік другой — асабовым дзеясловам: *Пахла цвіллю, веяла халадком* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *У даліне цямнее, патыхае сырасцю* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Прасторна дыхаць грудзям акіяна, прывольна рэкам бегчы адусюль* (У. Х а д ы к а. Пяць вершаў). *Нічога не ўчуць, нічога не ўбачыць* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *Закалола ў плячах, задрыжэлі ногі ад непрывычкі* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Зліпаліся вочы, хіліла да сну* (М. Л ы н ь к о ў. Ірына). *Сінеўся бор, цякла вада, скрозь пахла мёдам і травою* (М. Б а г д а н о в і ч. Дзед). *Шалясцяць-шапочуць шыны, не чуваць зусім матораў, не бразджыць нідзе жалеззе, дым бензіну ў нос не лезе* (К. К р а п і в а. Хвядос — Чырвоны нос).

У бяззлучнікавых сказах, выказнікі састаўных частак якіх выражаны асабовымі дзеясловамі закончанага трывання, перадаецца адначасовасць непрацяглых або рэзультатыўных дзеянняў у плане прошлага і будучага часу: *Рака загудзела, запеніў раўчак* (П. Б р о ў к а. Шпак). *Спорны дождж закапаў, грымнуў гром за вёскаю* (У. Х а д ы к а. З дарогі). *Свісне коса ў тваёй сенажаці, бразне серп па загоне паспелым* (Я. К у п а л а. У свет). *Бор стары завые нудна, зашуміць галлём лаза* (Я. К о л а с. Пад шум ветру). *Хай зазвоняць смела косы, грукне ў лесе хай тапор* (Я. К у п а л а. Грайце, песні).

У радзе выпадкаў выказнікі састаўных частак бяззлучнікавых сказаў з адносінамі адначасовасці выражаюцца асабовымі дзеясловамі розных трыванняў. У такім разе супадзенне абазначаных імі дзеянняў або станаў у плане прошлага і будучага часу з'яўляецца частковым, г. зн. характэрным толькі для адпаведнага адрэзка часу: *Туманы сляпілі вочы, цемра хмар на нас лягла* (Я. Колас. Мы маўчалі). *Па ўсім калгасе ўжо брахалі сабакі; недзе непадалёку пачуліся людскія галасы* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *Плылі грузавікі, паважна цягнуліся цягачы з гарматамі, рушылі рады кавалерыстаў на неспакойных конях* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Будзе жыта красавацца, пройдуць песні па сялу* (П. Броўка. Кацярына).

Частковае супадзенне дзеянняў або станаў перадаецца таксама ў бяззлучнікавых сказах, дзе выказнікі састаўных частак, якія выражаны асабовымі дзеясловамі, ужыты ў адным і тым жа часавым плане, але маюць розную часавую форму. Пры гэтым неабходна дадаць, што ўжыванне выказнікаў у такой форме стылістычна матывавана: *Калышуцца, як хвалі, па ўсёй зямлі штыкі, маланкамі заззялі пад хмарамі клінкі* (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе). *Замерлі дрэў макушкі, не зварухнецца ліст; пявучай самай птушкі замоўк апошні свіст* (П. Глебка. На рэчцы). *Сцелюцца цэлы дзень росы, вечны цень спіць на зямлі, бледныя сонцавы косы выглянуць рэдка калі* (Я. Купала. З асенніх напеваў).

У бяззлучнікавых сказах, выказнікі састаўных частак якіх выражаны прыметнікамі або дзеепрыметнікамі, перадаецца адначасовасць прызнакаў або станаў ці адначасовасць прызнака і стану пераважна ў плане цяперашняга і прошлага часу: *Мур высокі, камень цвёрды* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла). *Навекі адданыя нашыя сэрцы, удзячнасці поўныя нашыя вочы* (П. Панчанка. Шчаслівы верасень). *Колькі вытаптана сцежак, колькі выбіта дарог!* (П. Глебка. Прызнанне). *Туманамі апавіта даль разложная палёў, туга нейкая разліта ў дробных кропельках дажджоў* (Я. Колас. Позна). *Босыя іх ногі, твар іх загарэлы, вопратка ўбога, чуць прыкрыты целы* (Я. Колас. Плытнікі).

Адначасовасць прызнака або стану і дзеяння ў плане цяперашняга і прошлага часу перадаецца ў бяззлучнікавых сказах, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан прыметнікам або дзеепрыметнікам, а выказнік другой састаўной часткі — асабовым ці безасабовым дзеясловам або прэдыкатыўным прыслоўем: *Ясна зоры тваё прамянеюць, поўна дум пра цябе галава* (П. Броўка. Думы пра Маскву). *Губы яго былі сухія, у твар быццам калолі тысячы голак* (К. Чорны. Бацька). *Твар яго выцягнуўся, вочы былі апушчаны ўніз* (Я. Колас. Чоран). *У Кірылы хата нова, у Кірылы грошай шмат* (Я. Колас. Кірыла). *Жыццё чуваць з усіх старон, жыццём напоўнены ўвесь мрок* (М. Багдановіч. Блішчыць у небе зор пасеў). *Пахне маладою травіцай, духмяны цёплы водар паляны напоўнены сонечным дыханнем* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

У бяззлучнікавых сказах, выказнікі састаўных частак якіх выражаны прэдыкатыўнымі прыслоўямі або безасабова-прэдыкатыўным словам *няма*, звычайна перадаецца адначасовасць станаў у плане цяперашняга часу. Іншы раз сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх прэдыкатыўным прыслоўем выражан толькі выказнік адной састаўной часткі, тады як выказнік другой састаўной часткі выражаецца асабовым або безасабовым дзеясловам. У кожным выпадку паведамляецца аб адначасовым суіснаванні станаў або стану і дзеяння ў плане цяперашняга і прошлага часу: *Нявесела ў хаце, трывожна ў сяле* (Я. Колас. Радасная сустрэча). *Няма мяжы яго рабоце, няма цаны яго рукам* (У. Хадыка. Песні з поўдня). *Шуму-гоману багата, нейкі рух усіх бярэ* (Я. Колас. Сымон-музыка). *У вёсцы цёмна, усюды спяць* (З. Бядуля. Бондар). *Пахілілася хаціна, у хлявочку пуста* (Я. Купала. Дрэмле Юрка).

*Наперадзе было ціха, прывабліва чарнеў вольны прастор* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаюцца назоўнікамі або словазлучэннямі з назоўнікам. Як правіла, у такім выпадку перадаецца адначасовасць прыпакаў у плане цяперашняга часу: *Ты — сцяг нашай сілы, ты — волі прастор* (Я. Колас. Прывітанне Маскве). *Голас — срэбраны званочак, шчочкі — макавы лісткі* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Калі назоўнікам або словазлучэннем з назоўнікам выражан выказнік адной састаўной часткі, а выказнік другой — дзеясловам або дзеепрыметнікам, тады ў бяззлучнікавым складаным сказе перадаецца адначасовасць прызнака і дзеяння ці стану ў плане цяперашняга і прошлага часу: *У грудзях усё кіпіць, нервы ў неспакоі* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Балахон яго на латах, бледны твар аплёван, акрываўлена ўсё цела, ланцугамі скован* (Я. Колас. Вобраз пакуты). *Залессем звайся двор Лапаты, навокал лес сцяной стаяў* (М. Машара. Мамчына горка). *Поле моўчкі пазірала, лес — у задуменні* (Я. Колас. На развітанні). *Ён неяк дзіўна хістаўся, твар яго быў у чырвоных плямах* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

§ 1322. У бяззлучнікавых складаных сказах, састаўныя часткі якіх маюць форму намінатыўных сказаў, паведамляецца аб адначасовым суіснаванні адпаведных фактаў і з'яў у плане цяперашняга часу: *Брудная дарога, туман* (В. Каваль. Сіняя восень). *Партызанскія кастры, баявыя патаемныя сцежкі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Непаглядная асенняя ноч, глухі шум дажджу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Бязмежнае неба, зялёнае поле, чырыканне птушак* (Я. Купала. Па дарозе).

Сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму намінатыўнага сказа, а другая — форму асабовага сказа часцей за ўсё з дзеяслоўным выказнікам. У гэтых сказах звычайна перадаецца адначасовасць факта або з'явы і дзеяння або стану адпаведнага прадмета ці з'явы ў плане цяперашняга і прошлага часу: *Вузенькі двор, акуратныя, зачыненыя веснічкі, каля вокан весела зеляннеюць маладая ліпа і два кусты бэзу* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Сіняя валошка, травы разрасліся, палыны на межах густа узняліся* (Я. Колас. Мужычая ніва). *Снег скрыпучы пад санямі, быстры конь, мяцелі дым; вецер пеніцца за намі, замятаючы сляды* (М. Машара. Па белым полі). *Машыны гудуць, калёсы верцяцца, шум, стук, грукат, свіст* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 1323. Структура бяззлучнікавых складаных сказаў з адносінамі адначасовасці або сумеснасці з'яўляецца самай разнастайнай. Найбольш пашыраны бяззлучнікавыя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння. Такая форма састаўных частак не абмяжоўвае іх колькасці ў складзе адзначаных сказаў: *Свяціў месяц, блішчалі зоры* (І. Гурскі. Вясна пачыналася). *Кавалкамі чыстага неба сінеюць азёры, грознымі вартавымі стаяць вячыстыя дубы на лугах* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Хістаюцца дрэвы, скрыпяць вароты, грымяць дахі* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Раўлі самалёты, ірваліся бомбы, грукаталі танкі, беглі па збожжы салдаты* (Я. Брыль. Маці). *Іржуць дзесь коні пры дарозе, з жытоў дыміцца свежы пах, шумяць зялёныя бярозы, начной імглой сінее шлях* (П. Глебка. За гаем сонца патухае). *Загойкалі пілы па лесе вясёла, плугі захадзілі па чорнай раллі, як звон, зазвінелі сасновыя сёлы, сцяной загудзелі жытнёвыя долы, крыніцамі песні твае пацяклі* (П. Броўка. Беларусь).

У некаторых бяззлучнікавых сказах знаходзяцца аднолькавыя

словы, якія могуць ужывацца ў кожнай састаўной частцы або толькі ў паасобных з іх. У склад гэтых сказаў звычайна ўваходзяць дзве, у рэдкіх выпадках тры састаўныя часткі: *Багатымі мы скрыўджаны, няволяю мы звязаны* (Я. Колас. Наша возьме). *Маўчаць высокія бярозы, маўчаць туманныя палі* (П. Глебка. За гаем сонца патухае). *Радасна і сумна шалясцяць асіны, радасна і сумна шалясцяць дубы* (А. Куляшоў. Гоман жаўталісця). *Кветкі трымалі ў руках байцы, кветкі чырванелі на кішэнях гімнасцёрак, кветкі віднеліся ўсюды* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Сушыць яго сонца, хіліць вецярок* (Я. Колас. Жытні колас). *Зашуміць дуброва там, заквітнее луг* (А. Русак. Пад голас баяна). *Крыўда іх топча, гора марозіць, ведзьма-насмешка п'е іх лапчыва* (Я. Купала. Гэй ты, дзяўчына...). *Засадзілі ў клетку, волю адабралі, вобраз чалавечы ў гразь яны ўтапталі* (Я. Колас. Горкая доля).

Сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх кожная састаўная частка або некаторыя з іх маюць форму простых няпоўных сказаў (з апушчаным выказнікам). У такім разе могуць аб'ядноўвацца і ўступаць у адносіны адначасовасці або сумеснасці дзве і больш састаўных частак: *Высокі дом на ўзгорку каля балота, паўкружжам навокал яго стадолы, свіраны, пуні* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Між прысадамі дарога, я іду туды ў траву* (П. Трус. Вясковыя частушкі). *Ношка за плячыма, кіёк у руках, сінцы пад вачыма, млявасць у нагах* (Я. Купала. Падарожны). *Барабан забіў трывогу, бубен дробна забрашчаў, ім басэтля на падмогу, смык заядла запішчаў* (Я. Колас. Ігрышча). *Высока зоры ружавеюць, лятуць буслы пад Шляхам Млечным, з лагчыны цёплы вецер вее, над пожняй ціхі летні вечар* (П. Глебка. Песні прыгону).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх аб'яднаны дзве або тры састаўныя часткі ў форме простых аднасастаўных сказаў: *Не было звычайных воблакаў дыму, не чуваць было гулу машын* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Нельга выцягваць на бераг невад, няспрытна ўпраўляцца з вудамі* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Усе вымаклыя і пасохлыя дрэвы адсадзім занава, уздоўж эмтэзсаўскай дарогі пасадзім алею перамогі, вёску азелянім, упрыгожым* (А. Кулакоўскі. Сад).

Больш часта ўжываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх аднасастаўныя часткі спалучаюцца з двухсастаўнымі: *Вельмі ломіць косці, ныюць жалем грудзі* (Я. Купала. З нуды). *Так да поўначы глыбокай не заснулі ні на міг, думкі лёталі далёка паміж сосен векавых* (П. Броўка. Кацярына). *Ледзь прыкметна пакачваўся паравоз, аднастайна пастуквалі рэйкі, гудзела ў топцы* (М. Лынькоў. Ірына). *Золка, вея над палямі, скачанеўшы птах крычыць* (П. Броўка. Кацярына). *Пачынае мігацець у ваччу, дурніць у галаве; ад цвёрдых каменняў з непрывычкі шчымяць ногі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

У бяззлучнікавых сказах з адносінамі адначасовасці ці сумеснасці могуць быць такія словы, якія ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак. Гэтыя словы размяшчаюцца:

у пачатку бяззлучнікавага сказа (часцей): *У хлявах іржалі коні, жаласна мычалі каровы* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Сярод верасоў чырванелі зоркі дзікай гваздзікі, сінелі лясныя званочкі, жаўцелі суквецці бяссмертнікаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Для бітвы за Беларусь адлівалі танкавую браню на Урале, рабілі самалёты ў далёкіх тылавых гарадах, вучылі нястомна тысячы салдат* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У гэты дзень зямля спявала, калоссе морам зашумела, ясней і сонца нам заззяла, грамчэй і песня зазвінела* (А. Русак. У дзень вызвалення);

у канцы бяззлучнікавага сказа (радзей): *Сонца грэе, вецер вее на стэпу казачым* (Я. Купала. Да Аснавяненкі). *Масты ўзлятаюць,*

*машыны знікаюць пад смелым агнём партызан* (П. Броўка. Партызанскі марш). *Поле дагледжана, жывёла дагледжана — услужлівымі рукамі* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі паслядоўнасці

§ 1324. Адносіны паслядоўнасці характарызуюцца тым, што дзеянні, станы і прызнакі прадметаў ці з'яў, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага сказа, адбываюцца або размяшчаюцца адны за другімі. Паслядоўнасць дзеянняў (станаў, прызнакаў) перадаецца ў плане аднаго і таго ж часу або ў плане розных часаў і афармляецца віда-часавымі суадносінамі выказнікаў састаўных частак.

§ 1325. У бяззлучнікавых сказах, выказнікі састаўных частак якіх ужываюцца ў адным і тым жа часавым плане, адносіны паслядоўнасці вызначаюцца парадкам размяшчэння састаўных частак і лексічным значэннем слоў, што выступаюць у якасці гэтых выказнікаў.

Сярод такіх сказаў найбольш пашыраны бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі закончанага трывання. У гэтых сказах звычайна перадаецца паслядоўнасць закончаных або рэзультатыўных дзеянняў у плане прошлага ці будучага часу: *Мінулася поле, пачаўся рэдкі лясок* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Пазнікалі ночы суму, зноў жаданні расцвілі* (П. Броўка. Кацярына). *Прачнуўся народ на параходзе, пачалася несусветная сумятня* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Вясна мінецца, прыдзе лета* (Я. Колас. Новая зямля). *Пакосім мы густыя асокі, мурагі, усе валкі сухія мы зложым у стагі* (А. Русак. На сенажаці).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі незакончанага трывання. Звычайна ў гэтых сказах перадаецца паслядоўнасць непрацяглых дзеянняў у плане цяперашняга часу: *Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Харкевіч з сякерай* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Праходзіць ноч, пачынае цадзіцца золкае світанне* (К. Чорны. Янка Купала). *Адлятаюць сум і гора, пачынае кроў бруіць* (М. Машара. Па белым полі).

Асабліва выразна праяўляецца паслядоўнасць дзеянняў або дзеяння і стану (пераважна ў плане прошлага часу) тады, калі выказнік першай састаўной часткі бяззлучнікавага сказа выражан дзеясловам закончанага трывання, а выказнік другой часткі—дзеясловам незакончанага трывання. Гэта тлумачыцца тым, што ў дадзеным выпадку асноўная роля ў выражэнні адносін паслядоўнасці належыць відавым суадносінам выказнікаў састаўных частак: *Кончылася восень, усталёўвалася зіма* (К. Чорны. Мураваны скляпок). *Сакратар падняў галаву, у вачах прамянілася ўсмешка* (І. Шамякін. У добры час). *Дождж прашумеў на пачатак, узыходзіла сонца ў сотні вясёлак* (А. Куляшоў. На ўборцы сена). *Заднія танкі цесна згрудзіліся ў адну кучу, ззаду пад'язджалі грузавікі з аўтаматчыкамі, паволі пасоўвалася артылерыйская батарэя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік адной (звычайна першай) або некалькіх першапачатковых састаўных частак выражан дзеясловамі закончанага трывання, а выказнік другой ці апошняй састаўной часткі — прыметнікам або дзеепрыметнікам. У гэтых сказах звычайна перадаецца паслядоўнасць дзеяння і прызнака або стану ў плане прошлага часу: *Цягнік дайно адышоў, вакзал стаў шэрым, будзённым* (М. Лынькоў. Маладосць). *Узляцелі жылаватыя рукі, хруснуў нейчы кіёк, ціхі енк прыглушаны быў шалёным тупатам і рыкам людзей* (М. Лынькоў. Тры злоты).

§ 1326. У бяззлучнікавых сказах, выказнікі састаўных частак якіх ужываюцца ў плане розных часаў, адносіны паслядоўнасці вызначаюцца пры дапамозе віда-часавых суадносін гэтых выказнікаў. Суадносіны выказнікаў праяўляюцца ў форме прошлага і цяперашняга, прошлага і будучага або цяперашняга і будучага часу.

Са значэннем паслядоўнасці ў плане прошлага і цяперашняга часу ўжываюцца часцей за ўсё бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны асабовымі дзеясловамі. У гэтых сказах перадаецца паслядоўнасць непрацяглых дзеянняў, якія адбыліся (абазначаючыя іх дзеясловы заўсёды маюць закончанае трыванне) у мінулым, і працяглых дзеянняў, якія адбываюцца ў сучасны момант: *Бляскі рассыпала вуліца, людзі спяшаюць кудысь* (А. Звонак. Вечар). *Суровыя сціхлі мяцелі, далёкая плача зямля* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль). *Зацвілі ў травах кветкі лугавыя, салаўі спяваюць звонка над ракой* (А. Русак. Падрастаюць руні). *З палёў ужо даўно сышоў снег, у сасновым барку ля завода пачынае зелянець трава* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

Сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан прыметнікам з дзеяслоўнай звязкай прошлага часу або дзеепрыметнікам прошлага часу, а выказнік другой часткі — дзеясловам цяперашняга часу. У дадзеным выпадку перадаецца паслядоўнасць прызнака або стану і дзеяння ў плане прошлага і цяперашняга часу: *Вочы сталі нязоркія, вушы нячуткія, слабая рука трасецца на рэгулятары* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Грудзі наліты запалам, зрок абнімае бязмежжа* (П. Трус. Пасля буры). *Залатое жыта зжата, дажынаецца авёс* (К. Буйла. Каваль).

Са значэннем паслядоўнасці ў плане прошлага і будучага часу ўжываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі. Гэтыя выказнікі даюць магчымасць афармляць паслядоўнасць дзеянняў або дзеяння і стану: *Лісце на дрэвах пажоўкла, хутка пачнуцца халады* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Збудавалі мы дом — будзе станцыя ў ім* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Пабілі сваіх буржуяў, прыдзе чарга і да іншых* (М. Лынькоў. Маладосць). *Мой смутак навекі сатлеў, не вернецца нэндза ніколі* (У. Хадыка. Апошняя крайка мяжы).

Са значэннем паслядоўнасці ў плане цяперашняга і будучага часу ўжываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі і абазначаюць розныя дзеянні: *Звонка свішчуць шпакі, неўзабаве з'явяцца шчабятлівыя ластаўкі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Сапёры канчаюць мост, праз некалькі хвілін пачнецца пераправа на другі бераг* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Кацеры набліжаюцца да берага, хутка матросы ступяць на сушу* (А. Кулакоўскі. Марскія хвалі).

§ 1327. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі паслядоўнасці ўключаюць дзве і больш састаўных частак, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў. Неабходна дадаць, што больш дзвюх састаўных частак аб'ядноўваецца толькі тады, калі выказнікі гэтых частак аформлены ў адным і тым жа часавым плане: *Знікла снежная імгла, праясніўся далягляд* (П. Пестрак. Як для скрыпкі струны...). *Змрок паслала ліпнёвая ноч, вечарынка звініць за сцяною* (Р. Няхай. Змрок паслала ліпнёвая ноч). *Пацішэла шалёная спрэчка гармат, я заходжу крыху адпачыць у бліндаж* (П. Панчанка. Пісьмо другу). *Поезд прайшоў, шлагбаум падняўся, стары чалавек перайшоў праз рэйкі і ўвайшоў у глухі завулак* (К. Чорны. Насцечка). *Мар'яна адчыніла вароты, каровы ўвайшлі ў двор, Зміцер босымі нагамі пашлёпаў за імі* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў. У структуры такіх сказаў

звычайна знаходзяцца дзве састаўныя часткі: *Выгналі кулакоў, трэба выгнаць і падпявал іхніх* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Досыць табе, нійка, у полі красавацца, пара табе, нійка, у гумно схавацца* (А. Гурыновіч. Да жніва). *Прыдзе вечар. Скончаць працу, сабіраюцца удвох* (П. Броўка. Кацярына).

Іншы раз ужываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — форму простага двухсастаўнага сказа: *Надрывае бурай грудзі, водгук коціцца ў прасцяг* (П. Трус. На сцэне і ў залі). *Недзе бахнулі дзверы, загрукала ў кухні* (П. Пестрак. А гудок гудзеў). *Я назбіраю дроў... печ запалім* (М. Лынькоў. Пацалунак). *Гітлераўцы акружаны, — цяпер толькі пастарацца іх не выпусціць адсюль* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы з адносінамі паслядоўнасці, у якіх першая састаўная частка мае форму намінатыўнага сказа, а другая — форму простага аднасастаўнага або двухсастаўнага сказа: *Мгненне — становіцца светла, як днём* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мінута — батальён на нагах* (Я. Колас. Дрыгва). *Хвіліна затрымкі — машына мчыцца далей* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

У некаторых бяззлучнікавых сказах могуць знаходзіцца словы, якія ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку гэтага сказа: *У гэты момант загаслі ўсе да аднаго ліхтары турмы, ноч затапіла пляц* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Паабапал грушы разрасліся ў полі, нізенькі ядловец чэзне, бы ў няволі* (Я. Колас Дарога). *На дне ракі тлустыя самы замёрлі, сняць пра лета шчупакі* (П. Панчанка. Выязджалі лесарубы).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1328. У склад супастаўляльных адносін, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, уваходзяць уласна супастаўляльныя адносіны, супрацьўныя адносіны, адносіны неадпаведнасці і параўнальна-супастаўляльныя адносіны.

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з уласна супастаўляльнымі адносінамі

§ 1329. Уласна супастаўляльныя адносіны характарызуюцца ўстанаўленнем звычайнага адрознення паміж тымі з'явамі і падзеямі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага складанага сказа. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць лексіка-граматычнаму значэнню супастаўляемых членаў, інтанацыі і парадку слоў у састаўных частках. На супастаўляемых членах звычайна ставіцца лагічны націск, а самі члены заўсёды выражаны словамі, якія маюць рознае лексічнае значэнне.

У большасці бяззлучнікавых складаных сказаў у аснове супастаўлення знаходзяцца дзеянні (станы, прызнакі), якія абазначаюцца выказнікамі састаўных частак. Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) часцей за ўсё суправаджаецца адначасовым супастаўленнем іх суб'ектаў, якія абазначаюцца дзейнікамі састаўных частак: *Маці плакала, бацька нудзеў* (Ц. Гартны. На руінах). *Хлопцы чыталі, я сядзеў, слухаў* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Перавясла рукі шчэміць, сноп ісці скакаць гатоў* (Цётка. Лета). *Коні адпачылі, людзі сагрэліся, завіруха сціхла* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

*Вочы — сінія крыніцы, вусны — спелыя суніцы, косы — кужаль залаты* (П. Панчанка. Іспанская ноч).

Нешматлікімі з'яўляюцца выпадкі, калі супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) суправаджаецца адначасовым супастаўленнем іх аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі састаўных частак, або розных акалічнасцей, пры якіх адбываюцца ці існуюць гэтыя дзеянні (станы, прызнакі) і якія абазначаны адпаведнымі сінтаксічнымі адзінкамі: *Генерала цанілі, дывізію хвалілі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *У Базыля ў люльцы быў цыбук просты, у Каруся — крывы* (Я. Колас. Дзяліцьба). *Зімою не холадна, вясною не душна* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца). *У сенцах пахла мукою і сырою бульбаю; у хаце было трохі душна і цемнавата* (К. Чорны. Спатканне).

Супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх аб'ектаў або акалічнасцей можа суправаджацца адначасовым супастаўленнем звязаных з імі суб'ектаў, якія абазначаны дзейнікамі састаўных частак: *Лес туманам заснаваўся, луг расой абмыўся* (Я. Колас. Усход сонца). *На хлеб павёў атаку я, Пятроў на бульбу напірае* (К. Крапіва. Шкірута). *Пот гарачы росіць вочы, шчок пламеніцца пажар* (К. Буйла. Пыл падняўся на дарозе). *Вочы хацелі б глянуць на поле, рукі хацелі б узяцца за плуг* (П. Пестрак. Вярнуўся). *У лясах, гаях дразды спявалі, у балотах кнігаўкі крычалі* (Я. Колас. Новая зямля). *У сёлах людзі нас віталі, у лесе дрэвы зналі нас* (П. Глебка. Галасы дарог). *На ўзлесках і палях важка, пагрозна рычэлі танкі, у гушчарах прагна лескаталі аўтаматы* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Пры супастаўляемых дзейніках у аналагічных канструкцыях іншы раз могуць знаходзіцца суадносныя паміж сабою азначэнні састаўных частак: *Нівы пладавітыя шэпчуць грузным коласам, людзі працавітыя кажуць дружным голасам* (П. Глебка. На пачатку лета). *У кавылях гуляе вецер звонкі, у полі ходзяць рупныя ратаі* (А. Звонак. Чапаеў). *Твая брыгада зойдзе ад поля, ад ракіт, мая касілка пойдзе да самае ракі* (А. Русак. На сенажаці).

У радзе выпадкаў супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і звязаных з імі суб'ектаў або аб'ектаў ці акалічнасцей суправаджаецца супастаўленнем слоў, якія выконваюць ролю розных членаў сказа: *Зараз жа прыбег Юрка; Алеся не было дома, у полі быў* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *У дрыгве і пад карчамі пракапана магістраль, карнявішчамі, імхамі зарасла яна амаль* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла). *Ляжаць упокат зваленыя сосны, галлё і друз паскіданы ў лаўжы* (П. Панчанка. Партызанская дзялянка). *Фрэзероўшчыкі атрымаюць многазубцовыя фрэзы, токары пачнуць працаваць па метаду Піліпа Пракапенкі* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 1330. Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх выказнікі састаўных частак абазначаюць адно і тое ж дзеянне (стан, прызнак). У такім разе ў аснове супастаўлення звычайна знаходзяцца суб'екты гэтых дзеянняў (станаў, прызнакаў), якія абазначаюцца дзейнікамі састаўных частак. Іх супастаўленне можа суправаджацца:

супастаўленнем аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі састаўных частак: *Ты мяне больш не стрэла, я цябе больш не стрэў* (Я. Купала. У зялёным садочку). *Марыць Дарота пабольшыць удой, Каця — аб новай пшаніцы сваёй* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *У Мікіты свой характар, у Макара свой звычай* (А. Русак. Мікіта і Макар). *Адны мазгамі, іншыя рукамі* (А. Александровіч. Напор);

супастаўленнем акалічнасцей: *На вакзале стаяць цягнікі, на прыстанку стаяць параходы* (П. Глебка. Трывожны сігнал). *Аляксей нарадзіўся ў вёсцы, Мікола — у горадзе* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Агуркі ляжаць як дырыжаблі, як аэрастаты — качаны* (П. Панчанка. На рынку). *Вы туды, я сюды* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *У куце — незгараемая шафа, уздоўж сцен — крэслы* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

§ 1331. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з уласна супастаўляльнымі адносінамі часцей за ўсё ўваходзяць састаўныя часткі, якія маюць форму простых двухсастаўных сказаў. Такая форма састаўных частак не абмяжоўвае іх колькасці ў складзе гэтых сказаў: *Бацька лапці папраўляе, маці ніткі села віць* (Я. Колас. Асенні вечар). *Поле вымакла пад асеннім дажджом, вуліца патанула ў гразі* (К. Чорны. Вёска на новым шляху). *Наш зрок — узлёт зарніцы, удар наш — бліскавіцы, наш голас — перуны* (Я. Колас. Наперад). *На магілах герояў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны не гаслі кветкі; не змаўкала рэвалюцыйная песня на панскіх палях і ў саламяных вёсках; на верхавінах бяроз і на тэлеграфных слупах няспынна і незлічона ўспыхвала полымя сцягоў* (Я. Брыль. Сэрца камуніста). *Лес махае галавою, дуб, нахмурыўшыся, спіць, вольха шэпча з лешчынsocю, беразняк густы смяшыць* (Цётка. Лета).

У тых выпадках, калі выказнікі састаўных частак выражаны адным і тым жа словам, яны ў залежнасці ад стылістычнага афармлення могуць:

ужывацца ў абедзвюх састаўных частках: *З аднаго боку быў малады лес, з другога боку было поле* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *За вокнамі бялее зіма, у дзеда бялее барада* (М. Зарэцкі. Вязьмо);

ужывацца ў першай састаўной частцы і апускацца ў другой: *Ты марыш быць паэтам, быць трактарыстам — я* (А. Куляшоў. Воблака). *У белым адзенні праходзіць зіма, вясна — у зялёным адзенні* (П. Глебка. Хада падзей);

апускацца ў абедзвюх састаўных частках: *На сэрцы гора і журба, перад вачамі жах* (П. Броўка. Пастух). *Я са школы будаўнічай, ён з фабрычна-завадской* (А. Русак. Я са школы будаўнічай). Параўн.: *Дрэва — у лесе, колас — на полі, камень — у сцяне* (М. Пасляловіч. Святло над Ліпскам), дзе аб'яднаны тры састаўныя часткі.

Сустракаюцца выпадкі, калі дзейнік першай састаўной часткі становіцца дапаўненнем у другой частцы, а дапаўненне першай састаўной часткі — дзейнікам у другой. У такім разе заўсёды аб'ядноўваюцца толькі дзве састаўныя часткі, выказнікі якіх выражаны адным і тым жа словам: *Жыццё шліфуе людзей, людзі шліфуюць жыццё* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Мова павінна быць варта дзеі, дзея павінна быць варта мовы* (К. Чорны. Заўвагі пра драматургію). *Драчык не любіць яго, ён — Драчыка* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў. Як правіла, у структуру гэтых сказаў уваходзяць толькі дзве састаўныя часткі: *Згрызот нямала, многа звадак* (Я. Колас. Новая зямля). *Тады было тут хат пятнаццаць, цяпер тут стаяла каля паўсотні новых дамоў* (К. Чорны. Родныя мясціны). *Хлопчыку было сем год, дзяўчынцы — каля пяці* (П. Галавач. Праз гады).

Больш шырока ўжываюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — форму простага двухсастаўнага сказа. У дадзеным выпадку бяззлучнікавы сказ можа складацца не толькі з дзвюх, а і з трох састаўных частак. Але незалежна ад гэтага форму аднасастаўнага сказа звычайна мае толькі адна састаўная частка. *Многа яблынь у садзе, каля плоту прыніклі кусты* (П. Броўка. Садоўнік). *Адным мінула па сямі, другім паўшоў дзесяты* (П. Глебка. Радзімы нашае закон). *Бацьку расстралялі немцы, сястру пагналі ў Германію* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Цябе выгнала з хаты ведзьма-мачыха вон; мяне ўзялі ў салдаты, у чужацкі палон* (Я. Купала. У зялёным садочку). *У той год свіран хлеба зграбэў, летась лугі заліло, цяпер ячмень з зямлі не вылез* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Некаторыя бяззлучнікавыя сказы могуць уключаць дзве і больш састаўных частак, якія маюць форму няпоўных сказаў і вызначаюцца чоткім паралелізмам сваёй будовы. Сярод гэтых сказаў адрозніваюцца два тыпы:

*Бацьку — бацькаў, Зосі—Зосін* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Былому—былое, новаму—новае* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Мне— маё, табе — тваё, яму—яго* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

*Крой за крой, смерць за смерць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Платформа за платформай, штабель за штабелем, песня за песняй* (Б. Мікуліч. Дужасць). *За бытам быт, за стогнам стогн, за смехам смех, за сконам скон, за векам век, за звонам звон, за мглою мгла з усіх старон* (Я. Купала. За годам год).

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з супраціўнымі адносінамі

§ 1332. Супраціўныя адносіны характарызуюцца рэзкім супрацьстаўленнем тых з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага складанага сказа. У аснове выражэння гэтых адносін ляжаць лексіка-граматычныя значэнні слоў, якія суадносяцца паміж сабою і маюць антанімічны характар. Ролю такіх слоў звычайна выконваюць выказнікі састаўных частак.

Супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, часцей за ўсё суправаджаецца аднрачасовым супрацьстаўленнем іх суб'ектаў, якія абазначаны дзейнікамі гэтых састаўных частак: *Ён багаты, я бедны* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *За сялом пяюць дзяўчаты, Кацярына не пяе* (П. Броўка. Кацярына). *Ты — свабодны, вецер, я жыву ў няволі* (Я. Купала. Коціцца крыніца). *Пакутавала цяжка цела, душа магутнасць набыла* (У. Дубоўка. Браніслава). *Тут нішто не здаецца мёртвым, усё жыве* (І. Шамякін. Наташа).

Калі дзейнікі састаўных частак выражаны адным і тым жа словам, супрацьстаўленне абазначаных выказнікамі дзеянняў (станаў, прызнакаў) падкрэсліваецца з асаблівай сілай. У гэтых сказах выказнік першай састаўной часткі заўсёды мае пры сабе адмоўе *не*: *Каса не косіць — каса брые* (Я. Колас. Новая зямля). *Чалавек не гнецца, чалавек дамагаецца свайго* (К. Чорны. Беларуская проза і драматургія часу Айчыннай вайны). *Бацька быў не то што сын, бацька быў дубам* (Б. Мікуліч. Развітанне). *Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!* (П. Панчанка. Беларусі).

Супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) можа суправаджацца аднрачасовым супрацьстаўленнем іх аб'ектаў, абазначаных дапаўненнямі састаўных частак, або акалічнасцей. У большасці такіх сказаў суб'екты дзеянняў (станаў, прызнакаў) абазначаюць адну і тую ж асобу, прадмет ці з'яву і выражаны назоўнікамі, займеннікамі або назоўнікам і займеннікам: *Хараства рэчаў ён не бачыў, ён бачыў толькі туманныя плямы* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Сціхла гамонка жалеза — пачалася гамонка людзей* (Я. Скрыган. Каця Лапянкова). *Не глядзеў на работу збоку я — сам з вялікім рабіў здавальненнем* (У. Дубоўка. Выйду, выйду, дзе горада грукат). *Яшчэ нядаўна тут панавала песня, цяпер яна забываецца* (К. Чорны. Новыя людзі). *Цяперашняе жыццё не павінна спыняцца на адным месцы; яно мусіць вярцецца, віраваць, бегчы наперад* (Ц. Гартны. На новым месцы). Параўн.: *Зямлі мала, многа балота* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Калі дзейнікі састаўных частак выражаны рознымі словамі, супрацьстаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў) і звязаных з імі аб'ектаў або

акалічнасцей заўсёды суправаджаецца адначасовым супрацьстаўленнем іх суб'ектаў: *Ты сама нічога не сказала, усё сказала сэрца мне тваё* (А. Звонак. На блакітнай бухце). *Багач ззяе ў пазалоце, мужык бедны мрэ ў бядоце* (Я. Колас. З песень адзінокага). *Адны паміралі ў агні-барацьбе, — другія ішлі на падмогу* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *У Янкі на багне пшаніца расла, у Карлы ад прагнасці слінка цякла* (К. Крапіва. Янка і Карла).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх супрацьстаўляемыя словы пазбаўлены адпаведнага паралелізму і выконваюць ролю розных членаў сказа: *Ты не адна — іх дужа шмат* (У. Хадыка. Спадалі кроплі на пясок). *Паны з салодкіх локчуць чарак, нам трэба гора піць да дна* (У. Дубоўка. Браніслава). *Неслі ворагі нам здзек, леглі ворагі навек* (П. Броўка. Партызан Бумажкоў). *Яшчэ яна ўчора была Безыменнай, сягоння ўвесь свет яе знае* (Я. Колас. Вышыня Безыменная).

Характар супрацьстаўлення праяўляецца асабліва выразна тады, калі ў склад першай састаўной часткі бяззлучнікавага сказа ўваходзіць спалучэнне *не толькі*, якое мае ўзмацняльнае значэнне. Гэта спалучэнне заўсёды размяшчаецца перад тым з супрацьстаўляемых членаў, на які патрэбна звярнуць асаблівую ўвагу: *Не толькі такое адно маё сэрца, такіх нямала ў нашым народзе* (У. Дубоўка. Маленькая гераіня). *З табой не толькі ўпарадкуем дно — лятункі і казкі мы здзейснім* (У. Дубоўка. Чакае ля берага човен мяне...). *Змянілася не толькі поле — змены адбыліся і ў іх вёсцы* (Я. Колас. Макарка Навак). *Дзядзька Тамаш быў не толькі нізкі ростам, ён быў даволі-такі таўставаты чалавек і вельмі рухавы* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў).

§ 1333. У радзе выпадкаў супраціўныя адносіны, якія выражаюцца паміж састаўнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, ускладнены рознымі дадатковымі адценнямі. Сутнасць і спецыфіка гэтых адценняў вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак: *Трэск сціх, застаўся толькі шум соснаў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У шалашы пуста, засталося толькі жорсткае сена і пара старых дзяружак* (Я. Колас. Дрыгва). *Лесапільня яшчэ не працавала, — вяліся толькі падрыхтоўчыя работы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Страху не было, замест яго ажываў адчай* (П. Галавач. Праз гады). *Сонца звярнулася з поўдня, было досыць горача* (Я. Колас. На ростанях). *Песня іх* [салаўёў] *не даходзіць сюды, — яна пакрыта песняй нашай моладзі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Адны шалясцець перастануць, — другія ўзрастуць над узгоркам* (У. Дубоўка. Шуміць шыгаллем і лістамі).

§ 1334. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з супраціўнымі адносінамі ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў з дзейнікамі і выказнікамі, выражанымі словамі рознага лексічнага значэння: *Кабінеты цяпер не стаяць на замку — адчыняюцца ветла дубовыя дзверы* (П. Глебка. Хада падзей). *Мы не самі сваім адумам прыйшлі да вас, сход нас выбраў* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не мог я сэнсу сам дабраць, схадзіць парадзілі суседзі* (У. Дубоўка. Кругі). *Мы пабраліся за рукі — яны разарвалі наша кальцо* (Я. Брыль. Партрэт старэйшага таварыша). *Тут быў мой дом,— яго разбурыў вораг* (М. Машара. Цяпер тут ноч).

У некаторых бяззлучнікавых сказах дзейнікі састаўных частак абазначаюць адно і тое ж паняцце і выражаны аднолькавымі назоўнікамі, займеннікамі або назоўнікам і адпаведным яму займеннікам. Як правіла, такія дзейнікі звычайна не апускаюцца, а ўжываюцца ў абедзвюх састаўных частках: *Пан не даруе — пан возьме сваё* (П. Галавач. Праз гады). *Ён не жывы, не забіты і не адшуканы, — ён у варожай зямлянцы жывым пахаваны* (А. Куляшоў. Простыя людзі). *Алесь не*



44. Зак. 378

*спіць, — ён у трывозе* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Пісьмо не было яшчэ адаслана, яно ляжала ў лагернай палатцы, укладзенае ў кніжку* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Нельга ж так мучыць каня, трэба адпачыць жывёле* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Далей так працягвацца не можа — трэба нешта ўжыць* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).

Шырэй ужываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — форму простага двухсастаўнага сказа: *Няма нічога дрэннага ў жыцці — усё добрае* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Яшчэ некалькі хвілін пазіралі яны на дарогу, — чалавека не было* (Я. К о л а с. Макарка Навак). *Ён не толькі настаўнікам не можа быць, яго ў добрай вёсцы за свінога пастуха не згадзілі б* (К. К р а п і в а. Певень). *На спуску бялеецца галава дзяўчынкі; ні чырвонай сукенкі, ні загарэлых да чарнаты ног ужо не відаць* (А. К у л а к о ў с к і. Марскія хвалі).

У бяззлучнікавых складаных сказах з супраціўнымі адносінамі могуць быць словы, якія ў аднолькавай меры адносяцца да кожнай з састаўных частак і размяшчаюцца ў пачатку гэтага сказа: *У гэтай мясцовасці нават гор ніякіх няма, шмат толькі лесу* (К. Ч о р н ы. Мураваны скляпок). *У яго прамове мала было агітацыі — больш сталых цвярозых развважанняў* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Цяпер Аляксей не ўзлаваўся, ён засмяяўся і моцна пацалаваў жонку* (І. Ш а м я к і н. Аграном).

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі неадпаведнасці

§ 1335. Адносіны н е а д п а в е д н а с ц і характарызуюцца тым, што з'явы і падзеі, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага складанага сказа, узаемна не адпавядаюць адны другім. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць лексіка-граматычнаму значэнню слоў, якія выступаюць у якасці выказнікаў састаўных частак.

Супастаўленне неадпаведнасных дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, звычайна суправаджаецца адначасовым супастаўленнем іх суб'ектаў, якія абазначаны дзейнікамі састаўных частак: *Ён спрабаваў гукаць — ніхто не адказвае* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Гагай уважліва склейваў цыгарку з газетнай паперы, яна не склейвалася* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *Усе ваююць — ты сядзіш дома* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Я таксама хацеў прыйсці — не пусціла маці* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі).

У некаторых бяззлучнікавых сказах гэтага тыпу дзейнік адной састаўной часткі (радзей абедзвюх) можа апускацца: *Стукаю — ніхто не адказвае* (І. Ш а м я к і н. Галоўны інжынер). *Спаць малога палажыла, неспакойны сын не спіць* (П. Г л е б к а. Калыханка). *Сенакос не паспее ўправіць, — у полі сыплецца спелы авёс* (П. Т р у с. Яна). *Да яе гаворыш — маўчыць, як сцяна!* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка).

У радзе выпадкаў суб'екты неадпаведнасных дзеянняў (станаў, прызнакаў) абазначаюцца дзейнікам адной састаўной часткі і дапаўненнем другой часткі: *Зямля глядзіць гаротна на бясплодныя палотны — не, дажджу няма!* (Я. К о л а с. У сухмень). *Яны агледзелі ўсе куткі — чалавека не было* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Галава баліць, работы многа* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *Міколка агледзеў вагон — няма дзеда* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

Супастаўленне неадпаведнасных дзеянняў (станаў, прызнакаў) і іх суб'ектаў, абазначаных дзейнікам і дапаўненнем састаўных частак, можа суправаджацца адначасовым супастаўленнем звязаных з імі акалічнасцей: *Якуб пастукаў кулаком у дзверы — з сярэдзіны не чуваць было ні гуку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён пашукаў у кішэнях — нідзе не было ніводнай хлебнай крошкі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 1336. Часам сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адносіны неадпаведнасці грунтуюцца на супастаўленні састаўных частак у цэлым. У такіх сказах другая састаўная частка заўсёды мае форму безасабовага або няпоўнага сказа, у складзе якіх звычайна знаходзіцца адно слова (іншы раз у спалучэнні з адмоўем *не*): *Я быў у хаце — зачынена* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Васілька замахнуўся раз — няўдача* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тры разы спрабавалі звязацца з Масквой — не выйшла* (там жа). *Кланяўся нізка да зямлі — не памагло* (З. Бядуля. Шчасце не ў золаце).

§ 1337. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі неадпаведнасці ўваходзяць дзве састаўныя часткі, з якіх часцей за ўсё адна мае форму простага аднасастаўнага, а другая — двухсастаўнага сказа: *Ніяк не зловіш зірк вачэй, — хацеў бы я пераміргнуцца* (К. Крапіва. Шкірута). *Пастукалі — ніхто не адказвае* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Выганяеш гора ў дзверы, — гора сунецца ў акно* (П. Броўка. Кацярына). *Яны пастукалі яшчэ раз — ніякіх адзнакаў жыцця* (Я. Колас. На ростанях). *Мы ўдваіх папробавалі ламаць дзверы — нічога не выходзіла* (М. Чарот. Эх, каляды, каляды!). *Спрабаваў Каетан скардзіцца ў раён — таксама не выйшла толку* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных або простых аднасастаўных сказаў: *Ён пастукаў у акно — з хаты ніхто не абазваўся* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Пятро скрабаў пазногцямі галоўкі балтоў, пальцы коўзаліся па гладка абточаным метале* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *Ой, пара вячэраць, няма бацькі дома* (Я. Колас. Новая зямля). *Доктара сюды запрасіць — няма такога надзейнага* (К. Крапіва. Канец дружбы).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з супастаўляльна-параўнальнымі адносінамі

§ 1338. Супастаўляльна-параўнальныя адносіны характарызуюцца тым, што супастаўленне з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў састаўных частках бяззлучнікавага складанага сказа, перадаецца ў форме параўнання адных з другімі. Як правіла, гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове лексіка-граматычнага значэння ўсіх слоў, якія ўваходзяць у склад кожнай з састаўных частак бяззлучнікавага сказа.

Параўнальнае супастаўленне дзеянняў (станаў, прызнакаў), абазначаных выказнікамі састаўных частак, заўсёды суправаджаецца супастаўленнем звязаных з імі суб'ектаў, аб'ектаў і акалічнасцей, якія абазначаны адпаведнымі сінтаксічнымі адзінкамі: *Шумела ў прысадах рабіны дарога, праводзіла Насця хлапца дарагога* (П. Броўка. Два клёны). *Над ракою ў спакоі зацвітала каліна; у сяле за ракою вырастала дзяўчына* (Я. Купала. Над ракою ў спакоі...). *Гудзелі на Сожы трывожныя хвалі, салдаты магілу сябра засыпалі* (П. Броўка. Магіла байца). *Святло касмічным пылам рассыпалася ў зале, — ты рукі апусціла на клавішы раяля* (М. Танк. Рэквіем).

Калі адна з састаўных частак (звычайна першая) мае адмоўнае значэнне, характар параўнальнага супастаўлення праяўляецца больш выразна: *Не вятрыска з поўначы павявае — ціха сон у камору ўступае*

(М. Багдановіч. Максім і Магдалена). *Не каліна над вадою пахіліла голле, — плача маці сярод поля, праклінае долю* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Ой, не яснага сокала крылле, — праімчаліся дні-сонцавеі* (П. Трус. Ой, не яснага сокала крылле...). *А зямля у млосці не дажджом напоена — кроў бязмежнай злосці тут была затоена* (У. Хадыка. З дарогі).

Асабліва выразна праяўляюцца супастаўляльна-параўнальныя адносіны, калі ў састаўных частках бяззлучнікавага сказа знаходзяцца суадносныя паміж сабою словы *то не — гэта, то не — то* і інш.: *То не першая пароша запарошыла загон, — гэта поле прыхарошыў кучаравы сіні лён* (А. Бялевіч. Выдаў мяне замуж лён). *То не Нарач высока коціць хвалі на травы, — то шырока, далёка наша коціцца слава!* (А. Бялевіч. Песня дружбы). *То не струны звіняць галасістыя, — зашумела жытцо каласістае* (М. Машара. Мамчына горка). *Гэта не вецер калыша лясы, гэта трывогі звіняць галасы* (М. Танк. Нарач).

§ 1339. Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх супастаўляльна-параўнальныя адносіны паміж састаўнымі часткамі ўскладнены ўмоўна-выніковым адценнем. У склад састаўных частак гэтых сказаў заўсёды ўваходзяць дзейнік і выказнік без залежных ад іх слоў: *Мы жывём — жывуць яны!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ён у смех — зямля у смех* (З. Бядуля. Дзе канец свету). *Ён у плач — зямля у плач* (там жа). *Маўчыць бацька — маўчу і я* (М. Чарот. З чаго пачалося).

§ 1340. У бяззлучнікавыя складаныя сказы ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія звычайна маюць форму простых развітых двухсастаўных сказаў. Дзейнікі і выказнікі гэтых састаўных частак заўсёды выражаны словамі рознага лексічнага значэння, а самі састаўныя часткі вызначаюцца адпаведным паралелізмам сваёй будовы: *Перастала каліна ў цвяточкі ўбірацца; перастала дзяўчына з ненаглядным страчацца* (Я. Купала. Над ракою ў спакоі...). *Да зялёнай каліны прылятала зязюля; да дзяўчыны-маліны ўдаваўся Януля* (там жа). *Над полем мятлюгаю вецер загойкаў, тры родных браты ўзняліся на бойку* (П. Броўка. Тры браты). *То не траўка-павіліха расплятаецца, — наша вернае каханніца канчаецца* (М. Багдановіч. Максім і Магдалена).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна (пераважна першая) або дзве састаўныя часткі маюць форму няпоўных сказаў; *То не гул завірухі мяцежнай і не рокаты ўпартага мора, — гэта Нёман разліўся бязмежна на грудзях Беларусі прасторнай* (П. Трус. То не гул...). *Не крылаты ўзмах птушыны, гэта парус ў небе сінім!* (М. Танк. Казка пра музыку).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З РАЗНАТЫПНЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1341. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з разнатыпнымі састаўнымі часткамі прадстаўляюць сабою двухчленныя злучэнні разнародных па сінтаксічнаму значэнню састаўных частак, якім у большасці выпадкаў не ўласцівы адпаведны паралелізм іх будовы і якія вызначаюцца нераўнамернай па вышыні тону інтанацыяй. Састаўная частка, якая патрабуе ўдакладнення або паяснення з боку другой састаўной часткі, называецца галоўнай. Тая ж састаўная частка, якая ўдакладняе і паясняе галоўную частку, носіць назву даданай.

У сучаснай беларускай мове паміж разнатыпнымі (г. зн. галоўнай і даданай) часткамі складаных сказаў з бяззлучнікава-злучальнай сувяззю выражаюцца суб'ектныя, аб'ектныя, атрыбутыўныя і акалічнасныя адносіны.

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З СУБ'ЕКТНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1342. Суб'ектныя адносіны характарызуюцца тым, што даданая частка бяззлучнікавага складанага сказа ўжываецца ў функцыі дзейніка пры выказніку галоўнай часткі. Адсюль відаць, што асноўная роля ў выражэнні такіх адносін належыць выказніку галоўнай часткі. Гэты выказнік звычайна абазначае стан, у якім знаходзіцца той суб'ект, што названы ў паведамленні дададнай часткі.

Часцей за ўсё выказнік галоўнай часткі адзначаных сказаў выражаецца зваротнымі дзеясловамі адзіночнага ліку цяперашняга ці прошлага часу і абазначае розныя працэсы, якія звязаны з мысленнем і ўнутраным станам чалавека: *Мне здаецца — прастор набухае агнём навальніц* (П. Панчанка. На зары). *Сніцца Вялю: пахне шышкамі і мятай* (М. Танк. Сказ пра Вяля). *Думалася: вясна зараз прыйдзе* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Мне снілася: шэры рассеяўся змрок* (А. Александровіч. Сон маці). *Заўважалася — на вуліцы сям і там стаялі паліцэйскія* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік галоўнай часткі выражан незваротным дзеясловам адзіночнага ліку цяперашняга або прошлага часу і абазначае ўнутраны стан чалавека: *І дзівіць мяне — нізка над самай зямлёй мільгаюць зоркі* (З. Бядуля. Жалейка). *Чуваць толькі было — на камінку мурлыкаў шэры кот* (Я. Брыль. Зялёная школа).

У радзе выпадкаў выказнік галоўнай часткі бяззлучнікавага сказа можа выражацца безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, якія абазначаюць розныя працэсы стану: *Чутно: здалёк рыпіць асвер за смольнаю градой* (А. Вялюгін. У дарозе). *Вось цікава: аб тым звоне я й хацеў апавядаць* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Для мяне ўжо ясна: заўтра ў вёску наляцяць карнікі* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Стала вядома: Ігната сапраўды прывезлі ў штаб* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1343. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з суб'ектнымі адносінамі ўваходзяць дзве састаўныя часткі, з якіх першая (або галоўная) заўсёды мае форму простага безасабовага сказа. Другая ж (або дададная) частка гэтых сказаў у большасці выпадкаў мае форму простага двухсастаўнага сказа: *Хрысціне здаецца: знаёмае вока глядзіць ёй у сэрца глыбока, глыбока* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *І відаць было: падыходзіць руру канец* (М. Лынькоў. Баян). *Чутна тады: шэры дождж шыбы аконныя ліжа* (М. Танк. Нарач). *Недзе далей чутно — сігнальная труба кліча паспешна і ўзбуджана-трывожна* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У некаторых бяззлучнікавых сказах дададная састаўная частка можа мець няпоўную форму: *Думалася — канец ім ужо* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Удалося Смалячкову — палажыў за суткі трох* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *Здаецца мне — выходжу росным следам у паплавы суседняга сяла* (С. Грахоўскі. Вось і зіма).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Здавалася: мяне аблілі варам* (Я. Скрыган. Таіса). *Помніцца — мне было холадна* (П. Галавач. Праз гады).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З АБ'ЕКТНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1344. Аб'ектныя адносіны характарызуюцца тым, што дададная частка бяззлучнікавага складанага сказа ўжываецца ў функцыі дапаўнення да паасобных членаў яго галоўнай часткі. У аснове выра-

жэння гэтых адносін ляжаць лексіка-граматычныя значэнні слоў, якія знаходзяцца ў складзе галоўнай часткі і выконваюць ролю ўдакладняемых членаў.

У большасці выпадкаў даданая частка бяззлучнікавага сказа аднзначанага тыпу ўдакладняе выказнік галоўнай часткі. Гэты выказнік можа выражацца:

дзеясловам абвеснага ладу пераважна цяперашняга і прошлага часу з агульным значэннем маўлення, думкі, успрыняцця і г. д.: *Мы гаворым: зямля — сялянству* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Я знаю: крутымі шляхамі да нас ты ў госці прышоў* (М. Танк. Новаму году). *Алесь пачуў — мінула ліха* (Я. Колас. Новая зямля). *Ён бачыў — верныя сябры імкнуць дапамагчы* (П. Броўка. Балада пра чырвоны сцяг). *Я верыў: шляхам маіх перамог са мною ідзе дарагі чалавек* (П. Глебка. Апошняя стрэча). *Мне сказала маці: выжні ты цялятам асакі* (У. Хадыка. Снапок аўса);

дзеясловам загаднага ладу цяперашняга і будучага часу з агульным значэннем просьбы, пажадання, загаду і г. д.: *Ты скажы мне, цьма глухая: доўга будзеш ты ляжаць?* (Я. Колас. На ростанях). *Паглядзі — усюды патушылі агні* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Вер, брат, — жыцце залатое будзе ў нашай старане* (Я. Колас. Не бядуй!). *Ты паслухай, Кацярына, ўсе добрыя нясуцца* (П. Броўка. Кацярына). *Перадайце: будуць прыняты ўсе меры* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Прыгледзьцеся: новыя дні на вас пазіраюць у іскрах світання* (Я. Колас. Покліч). *Выбачайце: я зараз вярнуся* (Я. Колас. На ростанях). *Вось і няхай скажуць... вернуцца нашы ці не?* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы з аб'ектнымі адносінамі, у якіх даданая частка раскрывае змест дапаўнення галоўнай часткі. Такое дапаўненне звычайна выражаецца неазначальным займеннікам *адно* (часам у спалучэнні з часціцай *толькі*) або спалучэннем займенніка *што* з узмацняльнай часціцай *вось* ці некаторымі іншымі займеннікамі: *Данік ведаў адно — тата быў вельмі вясёлы і добры* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Штанге зразумеў толькі адно: ён зноў становіцца героем нацыі* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Але самае важнае тут было вось што: пачала Арынка ліквідаваць сваю непісьменнасць* (Я. Колас. Арыніна перамога). *Цяпер Сялібе ясна ўсё было: вярнуліся ваўкі ў Чырвоны Лог* (М. Танк. Янук Сяліба). *Восілене дамаглася свайго — сталовая ўжо красавалася жоўтаю страхою* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 1345. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з аб'ектнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, з якіх першая з'яўляецца галоўнай, а другая — даданай. Асноўнае месца займаюць бяззлучнікавыя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў. Праўда, сустракаюцца выпадкі, калі адна з састаўных частак (галоўным чынам даданая) мае няпоўную форму: *Ён здалёк бачыць: замок вісіць на дзвярах* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Я помню добра — быў садок* (П. Глебка. Зварот). *Чула наша сіраціна — надышоў канец бядзе* (П. Броўка. Кацярына). *Ты мне казала — цвітуць лугі* (У. Хадыка. Штандар чырвоны...). *Ён ведаў: дарога будзе не лёгкай* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мы кажам: фабрыкі — рабочым* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Начальнік бачыць: у Бірга абмарожаны і азызлы твар* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

Шырока ўжываюцца таксама бяззлучнікавыя сказы, у якіх адна з састаўных частак (галоўная або даданая) мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая састаўная частка — форму простага аднасастаўнага сказа: *Помніць добра Кацярына — раз паклікалі на сход* (П. Броўка. Кацярына). *Кацярына сэрцам знае: быць сягоння у бядзе* (там жа). *Помню: ты была ў пана* (Я. Скрыган. Таіса).

*Паглядзі — ужо сонца на ўсходзе ўстае* (П. Панчанка. Я пралесак блакітных сягоння нарву...). *Не дарма ж гавораць, ціхая вада грэблі рве* (І. Шамякін. У добры час). *З дайніх пор кажуць: праца спорыцца пры песні* (К. Буйла. Заспявайце песню!).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў. Пры гэтым тыпы аднасастаўных сказаў ніколі не супадаюць, параўн.: *Кажуць: на чужое не квапся* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Праўду кажуць, — з грамадою весялей жывецца* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *Колькі разоў гаварыў: не пакідаць лішніх рэчаў у спальні!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У радзе выпадкаў дадаая частка бяззлучнікавага сказа можа мець намінатыўную форму. Галоўная ж частка такіх сказаў звычайна мае форму простага двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Вецер пацвердзіць: яны!* (Я. Колас. Партыя і народ). *Людзі думалі — пажар* (П. Галавач. Яўленая). *Помню я: спякота* (А. Бялевіч. Ясныя водбліскі). *Бачым — дзень* (П. Глебка. Пасля ночы). *Чуеш: завіруха* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора). *Нахмурыйшыся, думай: саматужнікі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Акрамя намінатыўнай формы, дадаая частка такіх сказаў можа мець форму слова-сказа: *Стыхій здзічэламу ігрышчу ўладар зямлі гаворыць: годзе!* (А. Звонак. На перавале). *Ведала: нельга!* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора).

Адзінкавымі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы з аб'ектнымі адносінамі, у якіх дадаая частка размешчана перад галоўнай або знаходзіцца ў сярэдзіне яе: *Вы хочаце большага — я разумею* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Захавай, мой сын, прашу я, човен у адрыне* (Я. Колас. Пісьмо з астрога).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З АТРЫБУТЫЎНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1346. Атрыбутыўныя адносіны характарызуюцца тым, што дадаая частка бяззлучнікавага складанага сказа ўжываецца ў функцыі азначэння да адпаведных членаў галоўнай часткі. У аснове выражэння гэтых адносін ляжаць лексіка-граматычныя значэнні слоў, якія знаходзяцца ў галоўнай частцы і выступаюць у ролі ўдакладняемых членаў.

У большасці бяззлучнікавых складаных сказаў з атрыбутыўнымі адносінамі дадаая частка ўдакладняе дзейнік галоўнай часткі, які заўсёды выражан назоўнікам: *Чутка ёсць — зямлі дадуць* (Я. Колас. Што, брат Грышка...). *Збылася мара паэта: беларусы сталі людзьмі звацца* (К. Чорны. Янка Купала). *На Беларусі па вёсках ідуць пагалоскі — з'явіўся Кастусь Каліноўскі* (П. Броўка. Кастусь Каліноўскі). *Была калісь пара: гучэла завіруха і замяла маёй мінуўшчыны сляды* (М. Багдановіч. Была калісь пара...). *Загад: маўчаць* (М. Танк. Нарач).

Іншы раз дадаая частка можа ўдакладняць дзейнік у спалучэнні з дапасаваным азначэннем галоўнай часткі: *Ёсць такі загад: ні на крок назад* (П. Трус. Чырвоныя ружы). *Шэрай гадзінай паляцела па вёсцы новая вестка: па дарозе на воласць у лесе нехта забіў польскага камендаата* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Яшчэ адна вялікая перамена сталася з Лукавіцыным — ён стаў шчырым беларусам* (К. Крапіва. Мой сусед). Параўн.: *Здзейсніцца хутка жаданая мара салдата — на тых мурах распісацца чаргой з аўтамата* (П. Броўка. Простыя людзі).

Калі ж падобнае азначэнне раз'яднана з дзейнікам іншымі членамі сказа і знаходзіцца ў канцы галоўнай часткі, то дадаая частка характарызуе не столькі спалучэнне дзейніка з азначэннем, колькі само азна-

чэнне. Як правіла, гэта азначэнне звычайна выражаецца ўказальным займеннікам *такі*, на які заўсёды падае лагічны націск: *Вывад я раблю такі: мне Загібелька лепш Парыжа* (Я. Колас. Загібелька). *Пытанне паўстала такое: нашто яна ўбралася?* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

У радзе выпадкаў даданая частка бяззлучнікавага складанага сказа ўдакладняе дапаўненне галоўнай часткі: *Аўгіня пускаецца на хітрасць: яна крута верне свой човен наперарэз Мартынаваму чоўну* (Я. Колас. Дрыгва). *Па сакрэту чуў я чутку: пасадзілі Лыску ў будку* (К. Крапіва. У папа ды быў сабака). *Сёння тут цуда стварае народ: будуецца сонечны горад-завод* (А. Александровіч. Між кветак і дрэў). *Я застаў яе за работаю: яна выкройвала торбу з кужэльнага палатна* (І. Гурскі. На скрыжаванні дарог).

Удакладненне дапаўнення можа суправаджацца адначасовым удакладненнем звязанага з ім азначэння: *Гэтая блакітнасць мела сваё асаблівасці, яна была занадта ўжо нейкая бялявая* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Андрэй спраўдзіў сваё абяцанне: ён пазнаёміў Лясніцкага з Матруніным* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Пры панскай Польшчы я меў крышку незвычайную прафесію: мне прыходзілася амаль увесь час хавацца ад паліцыі* (І. Шамякін. Бацькаў гонар). Параўн.: *Я павінен перадаць дадатковае распараджэнне камандзіра злучэння: за невыкананне загаду вы будзеце сурова пакараны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Дадаая частка бяззлучнікавага складанага сказа можа характарызаваць іменны выказнік галоўнай часткі, які выражаецца:

прыметнікам або дзеепрыметнікам у форме цяперашняга і прошлага часу: *Рэч вядомая: яму трэба пабачыць панну Ядвісю* (Я. Колас. На ростанях). *Справа ў яго складаная: кожны няўдалы рух ці недахоп увагі могуць сапсаваць дэталь* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца). *Задума Дубка была вельмі простая: ён наважыўся паставіць донныя міны на рацэ* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Загад быў атрыманы: трэба дастаць «языка»* (І. Мележ. Мінскі напрамак);

указальным займеннікам *такі* пераважна ў форме цяперашняга часу ці з дзеяслоўнай звязкай прошлага часу: *Гульня такая: дзеці складаюць план* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Натура ўжо ў Сёмкі такая: на месцы не ўседзіць хвіліны* (Я. Колас. Адплата). *Справа была такая: ён сапраўды пісаў на Янаўшчыну* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У летні ціхі дзень выпадак быў такі: сышоў з дарогі ў цень, прылёг я ля ракі* (А. Куляшоў. Добры чалавек);

іншымі часцінамі мовы: *Довад быў адзін: Марта самая бедная ў мястэчку і не мае чаго есці* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Карысць, бадай-што, тут адна: не будзем мець мы талакна* (К. Крапіва. Аб «буры і націску»). *Гэта геройскі ўчынак: вынесці на плячах свайго афіцэра* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Нішто сабе старшыня: інтэлігент...* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Стары Круцель раптам зрабіўся начальнікам,— немцы прызначылі яго старастам на сяле* (М. Лынькоў. Насустрач жыццю).

§ 1347. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з атрыбутыўнымі адносінамі звычайна ўваходзяць дзве састаўныя часткі, з якіх адна (галоўная або дадаая) часцей за ўсё мае форму простага двухсастаўнага, а другая — простага аднасастаўнага сказа: *Здарылася яшчэ адна бяда: тройку лепшых коней укралі ў адну ноч* (З. Бядуля. Салавей). *Заўтра раніцаю намячалася вялікая справа — трэба было брацца за катлаван* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Адзіная ў іх гаворка — сумна без працы стаяць* (П. Броўка. Аб тым, што ў думах...). *Было адно жаданне: апраўдвацца* (П. Галавач. Кара). *Ёсць хлопцы — любата* (Я. Скрыган. На грані). *Трэба сказаць праўду: харошае тут месцейка* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Нечаканая бяда — падзяўбе авёс*

*брыда* (Я. Колас. Як поп зрабіўся авіятарам). *Самая важная прычына — няшчасны яна чалавек* (Я. Колас. Хатка над балотцам).

У некаторых бяззлучнікавых сказах адна з састаўных частак (пераважна галоўная) можа мець форму няпоўнага сказа: *Вось за добрае падзяка: усю ноч хвастом круціць?* (П. Броўка. Кацярына). *У мяне такая думка, ачуньвайце!* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Ну і ручка ў вас: жалеза!* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Менш пашыраны бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных (часам няпоўных) або простых аднасастаўных сказаў: *Адна непрыемнасць была ў Тамаша,— скрыпка мала прыбытку давала* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Будзе адзіны наказ вам на ростань: смела хай кожны ідзе* (П. Глебка. Дванаццаты з'езд КПБ). *Дума неспакойная жыла ў майстра: ён хацеў пакінуць пакаленням след жыцця свайго* (М. Танк. Люцыян Таполя). *Перадайце загад: калоне рушыць!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Суровы наказ — карміць вас у пару* (І. Гурскі. Перад бурай). *Падстава: рэзалюцыя генерала* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Агульныя вывады: вас без сумнення зноў загоняць у акопы* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Загад: выступаць зараз жа* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Адзінкавымі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы, у структуры якіх знаходзяцца тры састаўныя часткі, аб'яднаныя атрыбутыўнымі адносінамі паслядоўнага характару. Неабходна падкрэсліць, што другая састаўная частка гэтых сказаў выконвае двайную функцыю: яна з'яўляецца дададзенай у адносінах да першай састаўной часткі і галоўнай у адносінах да трэцяй часткі, напрыклад: *Адна думка прыйшла да яго на падмогу: ён жа выконвае і яшчэ адну місію: неабходнасць вышэйшай расы ўладаць рэштаю свету* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З АКАЛІЧНАСНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1348. Сярод акалічнасных адносін, якія выражаюцца паміж разнатыпнымі часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў, адзначаюцца прычынна-выніковыя адносіны, умоўна-выніковыя адносіны, адносіны меры і ступені, спосабу дзеяння, адносіны мэты і часавыя адносіны.

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з прычынна-выніковымі адносінамі

§ 1349. Прычынна-выніковыя адносіны характарызуюцца тым, што адна састаўная частка бяззлучнікавага складанага сказа з'яўляецца вынікам той прычыны, аб якой паведамляецца ў другой састаўной частцы гэтага сказа.

У залежнасці ад парадку размяшчэння састаўных частак і іх сінтаксічнага значэння бяззлучнікавыя складаныя сказы з адзначанымі адносінамі падзяляюцца на дзве групы. У склад гэтых груп уваходзяць бяззлучнікавыя сказы з прычынным значэннем другой састаўной часткі і бяззлучнікавыя сказы з выніковым значэннем другой састаўной часткі.

§ 1350. У бяззлучнікавых складаных сказах, дзе другая састаўная частка з'яўляецца прычынай таго, аб чым паведамляецца ў першай састаўной частцы, сінтаксічныя адносіны грунтуюцца на лексіка-граматычным значэнні слоў, якія выступаюць у якасці выказнікаў састаўных частак. Прычынная частка гэтых сказаў з'яўляецца дададзенай у поўным сэнсе слова; яна заўсёды адносіцца да выказніка (часам у спалучэнні з іншымі членамі) выніковай, або галоўнай часткі.

Сярод бяззлучнікавых сказаў гэтага тыпу часцей за ўсё сустракаюцца такія, у якіх выказнік галоўнай часткі выражан дзеясловам абвес-

нага ладу ці інфінітывам. У такім разе дадаеная частка змяшчае абгрунтаванне таго, што сцвярджаецца ці адмаўляецца ў галоўнай частцы: *Сяляне не смяяліся — жыццё навучыла іх быць сур'ёзнымі перад тварам грознай і магутнай стыхіі* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Справа з блакадай не атрымалася: яе апярэдзіла вызваленне* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Напэўна дзень надыдзе новы,— не вечна сонца будзе ў хмары* (У. Д у б о ў к а. Над ставам ходзіць). *Панскія прыказчыкі хадзілі злыя — не было ходу лесу* (М. Л ы н ь к о ў. Ядвісін дуб). *Ішла Аксіння павольна, спяшацца не было куды* (А. К у л а к о ў с к і. У брыгадзе Варывончыка). *Не спіцца старому ўначы, балюча на сэрцы і чорна* (П. Б р о ў к а. Па дарозе Мінск — Масква). *Варону нашу не пазнаць — у крэпдышынавым убранні* (У. Д у б о ў к а. Кругі).

З такім жа значэннем ужываюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік галоўнай часткі выражан прэдыкатыўным прыслоўем, прыметнікам і іншымі часцінамі мовы: *У засеках пуста, жыта пабіў град* (Я. К о л а с. «Асадзі назад!»). *Стэпе было крыху іначай ад другіх: восень спыняла яе заработкі* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Мельнік быў рад: дармовая чыстка возера* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах). *Ён быў незадаволены: прыходзіцца стаяць на месцы* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Хада насцярожанай стала — страцілі ногі былую гнуткую цвёрдасць* (М. Л ы н ь к о ў. Баян). *Імя тваё не забыта — зрабіў ты справу сваю* (А. К у л я ш о ў. Хаўтуры).

Значнае месца займаюць бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік галоўнай часткі выражан дзеяслоўнай формай загаднага ладу або іншай формай з імператыўным значэннем. У дадзеным выпадку дадаеная частка змяшчае абгрунтаванне таго патрабавання, аб якім паведамляецца ў галоўнай частцы: *Спі — уставаць зарана!* (Я. К о л а с. Люлі, люлі, мужычок!). *Садзіцеся чытаць кнігі — іх у вас так многа* (Я. К о л а с. Адукацыя). *Не едзь утоптанай дарогай — на долю будзеш наракаць* (П. Г л е б к а. Трывожны сігнал). *Ратуйцеся людзі, гітлераўцы паляць вёску* (М. Л ы н ь к о ў. Насустрач жыццю). *Яна не паедзе, ёй хораша тут!* (П. Б р о ў к а. Добры друг). *І гутаркі не павінна быць — двух таварышаў я мушу ўзяць з сабою абавязкова* (Ц. Г а р т н ы. «Больш за ўсіх»). *Не трэба дактароў мне,— ён боль увесь прагнаў* (А. Р у с а к. Скажы, мая дачушка).

Асобна стаяць бяззлучнікавыя сказы, у якіх дадаеная частка змяшчае ў сабе не столькі абгрунтаванне, колькі дадатковае тлумачэнне таго, аб чым паведамляецца ў галоўнай частцы. Выказнікі састаўных частак гэтых сказаў могуць выражацца дзеяслоўнымі і іншымі формамі: *Штолета вулляў прыбывала — на пчолкі вельмі шанцавала* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Луг заліўся галасамі: да яго ва ўсе канцы выйшлі стройнымі радамі загарэлыя касцы* (П. Г л е б к а. Летні дзень). *Здзівіла яго ў той вечар нечаканае сяброўства Машы і Насці: яны сядзелі побач і мірна гутарылі* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Дзень сягоння ў хаце шчаслівы — дарагія прыехалі госці* (К. Б у й л а. Наламала галін). *Мамы ў Міхаські няма — памерла ў самым пачатку зімы* (А. К у л а к о ў с к і. Міхаськаў экзамен). *Вайсковая кар'ера Клямта была не надта паспяховая: давялося доўга хадзіць у яфрэйтарах* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 1351. У бяззлучнікавых складаных сказах, дзе другая састаўная частка з'яўляецца вынікам таго, аб чым паведамляецца ў першай (прычыннай) састаўной частцы, сінтаксічныя адносіны таксама грунтуюцца на лексіка-граматычным значэнні слоў, якія выступаюць у якасці выказнікаў састаўных частак. Аднак састаўныя часткі гэтых сказаў заўсёды знаходзяцца ў роўнавялікай двухбаковай залежнасці і ні адна з іх не можа лічыцца галоўнай або дадаенай у поўным сэнсе слова.

У большасці бяззлучнікавых сказаў гэтага тыпу выказнікі састаўных частак выражаны асабовымі формамі дзеясловаў абвеснага ладу,

якія паказваюць, што дзеянне або стан, абазначаныя ў другой састаўной частцы, з'яўляюцца вынікам таго дзеяння або стану, якія абазначаны ў першай састаўной частцы: *Дачуўся аб гэтым Сцёпка, зайздрасць абудзілася ў ім* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Печ нагрэлася, па хаце пайшла парнасць* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *На дзяўчыну пала змора, спіць яна у полі чыстым* (П. Броўка. Кацярына). *Сонца праняў пот, ён ссунуў кучомку з ілба на патыліцу і расшпіліў кажух* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Разбольвалася галава, ён бездапаможна адкідваўся на спінку крэсла* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ветрык крануў верхавінне дрэў — шустры шэлест паплыў па лесе* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Менш пашыраны бяззлучнікавыя сказы, у якіх выказнік адной састаўной часткі выражан асабовай формай дзеяслова, а выказнік другой — безасабовай формай дзеяслова або прэдыкатыўным прыслоўем ці іншымі словамі з безасабовым значэннем. У гэтым разе стан прадмета ці з'явы, абазначаны ў другой састаўной частцы, з'яўляецца вынікам таго дзеяння або стану, аб якіх сказана ў першай састаўной частцы, і наадварот: *Была страшэнная завіруха, дарогі замяло* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Наблізілася старасць — захацелася адпачынку* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Раптам бліснула маланка — стала відна як удзень* (С. Грахоўскі. Лясная казка). *Апошнімі начамі яму мала даводзілася спаць,— ён цяпер пакутуе ад моцнага галаўнога болю* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Дзяўчынцы зноў рабілася страшна; яна забылася на суровы загад і галасна плакала* (Я. Брыль. Зялёная школа). *Святла ў хаце няма; прадзе яна пад месяц* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У радзе выпадкаў выказнік адной састаўной часткі бяззлучнікавага сказа можа выражацца дзеяслоўнай формай, а выказнік другой — прыметнікам, дзеепрыметнікам ці назоўнікам. У гэтых сказах паведамляецца, што прымета прадмета ці з'явы, абазначаная ў другой састаўной частцы, з'яўляецца вынікам дзеяння або стану, якія змешчаны ў першай састаўной частцы. І наадварот, дзеянне або стан, змешчаныя ў другой састаўной частцы, з'яўляюцца вынікам той прыметы, аб якой сказана ў першай састаўной частцы: *Гаспадарка яго не вялікая — Даша адна спраўляецца з ёю* (Я. Колас. На ростанях). *Дзе-нідзе асобныя загоны былі ўжо ўзараны, яны вылучаліся сярод іншых цёмным колерам* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ён яшчэ малады чалавек, яму не варта слухаць гэтыя сямейныя спрэчкі* (М. Лынькоў. Капля малака). *Кацярына ў трывозе, па начах яна не спіць* (П. Броўка. Кацярына). *Узышоў месяц, усё стала белым* (К. Чорны. Бацька). *Ты старога чалавека ў ваду ўкінуў — ён цяпер хворы* (К. Чорны. Насцечка). *Але потым усё перамянілася, у модзе сталі ваенныя* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Часам сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх вынік, указаны ў паведамленні другой састаўной часткі, суправаджаецца адценнем катэгарычнасці і набывае заключальнае значэнне. У дадзеным выпадку выказнік першай састаўной часткі звычайна выражаецца асабовай формай дзеяслоў, тады як выказнік другой састаўной часткі можа выражацца рознымі часцінамі мовы: *Сотні са тры рэек яны ўзарвалі за ноч — вынік быў нядрэнны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ранак луг расой купае — дзень гарачы будзе* (А. Бялевіч. Ясныя водбліскі). *Рве без жалю вецер стрэху,— цяжка без мужчыны!* (Я. Колас. Удовіна хата). *Гарачае сонца пачынае парад: вясну пачынаць пара* (П. Панчанка. Веснавое). *Шумяць бары — пара лістам апасці* (П. Глебка. Размова аб шчасці). *На пляцоўках вагона-турмы стаяць часавыя, не лезці ж на іх* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1352. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з прычынна-выніковымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Дагарэлі дровы,— полудзень гатовы* (Я. Колас. Сымон-музыка). *У дружбакоў маіх згарэла хата, ім новую будуе талака* (А. Куляшоў. Хатка). *Вы слухайце мяне, я чалавек бывалы* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *Спахмурнелі ясны вочы ў хлопца маладога: ён адказу ад дзяўчыны не чакаў такога* (Я. Купала. Братка і сястрыца). *Дарэмна мы шукаем гора — яно да сэрца не даходзіць* (У. Хадыка. Пяць вершаў). *Бандыты перад намі адкрыта ўсё гаварылі,— яны былі ўпэўнены ў сваёй сіле* (К. Чорны. Насцечка).

Іншы раз адна з састаўных частак бяззлучнікавых сказаў гэтага тыпу можа мець форму няпоўнага сказа: *У паветры густая парнасць, адчуваецца набліжэнне навальніцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тры жанчыны сышліся — адразу сям'я* (У. Дубоўка. Перад іменем любові). *У Яна дарослыя дзеці, яны самі працуюць на заводзе* (М. Лынькоў. Капля малака).

У радзе бяззлучнікавых сказаў першая састаўная частка мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая — простага аднасастаўнага сказа: *Дарогі раскіслі, па іх цяжка было праехаць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Быстроў кінуў нейкае дасціпнае слова, вакол зарагаталі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Прабіла гадзіна помсты, адважна ідзіце ў бой* (М. Танк. Вастрыце зброю). *Сэрца яго моцна білася: не прамахнуцца б!* (Я. Колас. Санітарка Таня). *Успалашылася ўсё сяло — не было чарады* (Р. Мурашка. Сын). *Максім гармонь нясе — яго прэміравалі* (А. Куляшоў. Музыка).

Адваротныя выпадкі, калі першая састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — простага двухсастаўнага сказа, сустракаюцца толькі тады, калі двухсастаўная частка з'яўляецца дададзеннай і мае прычыннае значэнне: *Тут ісці стала цяжэй, часта запынялі патрулі* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломý: кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому* (Я. Колас. На рэчцы зімою). *Рэдка сустрэнеш якую фурманку ці чалавека — дарога не вельмі язджалая* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

У некаторых сказах гэтага тыпу двухсастаўная частка можа мець няпоўную форму (апушчан дзейнік або выказнік): *Старасты пры рабочых не было — сядзеў дзесь у будцы* (Я. Колас. На ростанях). *Ад гэтай усмешкі няма мне жыцця — у ёй чараўнічая сіла* (П. Глебка. Не думаў ніколі). *Нядоўга быць бядзе: абое ў віравай вадзе* (У. Дубоўка. Браніслава).

Часам сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх адна састаўная частка мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая — форму простага назыўнога сказа: *У горадзе вуліцы кішаць людзьмі — кірмашовы дзень* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Вочы настаўніка засвяціліся радасцю: новая перамога!* (З. Бядуля. Тры крыжыкі). *Гэта б'юць кулямёты — вайна!* (Р. Няхай. Успамін). *Людзі стараніліся яе: старастава нявестка!* (М. Лынькоў. Насустрач жыццю).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя сказы з прычынна-выніковымі адносінамі, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Пачынала днець, далей заставацца на чыгунцы было рызыкоўна* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Было цёмна, нічога нельга было разгледзець* (М. Лынькоў. Капля малака). *Скочваць кавалак з ног нельга было, можна было яшчэ больш патрушчыць ногі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Трэба паважаць: брыгадзір* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з умоўна-выніковымі адносінамі

§ 1353. Умоўна-выніковыя адносіны характарызуюцца тым, што другая састаўная частка бяззлучнікавага складанага сказа з'яўляецца вынікам той умовы, аб якой паведамляецца ў першай састаўной частцы. У бяззлучнікавых сказах з такімі адносінамі састаўныя часткі заўсёды знаходзяцца ў роўнавялікай двухбаковай залежнасці, у выніку чаго ні адна з гэтых частак не можа лічыцца галоўнай або даданай у поўным сэнсе слова.

Умоўна-выніковыя адносіны паміж састаўнымі часткамі бяззлучнікавых сказаў грунтуюцца на лексіка-граматычным значэнні слоў, якія ўжываюцца ў якасці выказнікаў гэтых састаўных частак. А паколькі выказнікі састаўных частак амаль заўсёды дзеяслоўныя, то асабліва вялікая роля ў выражэнні ўмоўна-выніковых адносін належыць граматычнаму ладу дзеясловаў-выказнікаў.

Часцей за ўсё сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх умоўнае значэнне аформлена выказнікам першай састаўной часткі ў выглядзе дзеясловаў абвеснага ладу: *Павее ветрык — шурхнуць травы* (Я. Колас. Новая зямля). *Загудзе гудок фабрычны — пакідаю свой варштат* (А. Александровіч. Завязка). *Яблыкаў пад'ядзім — вячэраць не трэба будзе* (М. Чарот. Пастушкі). *Спружынім мускулы — расце напорнасць* (У. Дубоўка. Агні гарацъ). *Прыкладу вуха к верасу — адгукнецца даль стогнамі* (П. Панчанка. За Валдайскімі сопкамі).

Са значэннем абвеснага ладу іншы раз ужываюцца дзеясловы ў форме інфінітыва: *Паглядзець — падзівіцца* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Не пачакаць — брыдка будзе* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Збоку глянуць — дуб нікчэмны і не варты нікуды* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Сокалу крыллі абрэзаць — сокал не будзе лятаць* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

Шырока ўжываюцца таксама бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх умоўнае значэнне аформлена выказнікам першай састаўной часткі ў выглядзе дзеясловаў загаднага ладу: *Даставайце з вышак сані — гайда сцежкі праціраць* (Я. Колас. Зіма). *Прыязджай да мяне, — будзеш госць* (П. Трус. Брату). *Не возьмеце — сам прыду!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Не скажаш — песня твая прапета* (М. Танк. Песня пра партызана Адынца). *Праедзь альбо прайдзі ад Кушкі да Ямала, геаграфічных дзіў убачыш ты нямала* (П. Панчанка. Праедзь альбо прайдзі...). *Пападзіся такому ў рукі — у рог сагне* (І. Шамякін. У добры час).

Некалькі радзей сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх умоўнае значэнне аформлена выказнікам першай састаўной часткі ў выглядзе дзеясловаў умоўнага ладу: *Вышаў бы ў поле — стала б весялей* (Я. Купала. Летам). *Не было б яго — усё магло б наладзіцца* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Меў бы ён больш вытрымкі — усё скончылася б добра* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Я б ім паказаў лазню, больш не засвярбела б* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

У радзе выпадкаў са значэннем умоўнага ладу можа ўжывацца дзеяслоў у форме загаднага ладу: *Скраніся яна з месца — пайшла б на марнасць уся справа* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Прастой ён яшчэ момант, Акіліна ўпіхнула б Даміцэлю ў сажалку* (Ц. Гартны. На новым месцы).

Акрамя таго, са значэннем умоўнага ладу часам ужываюцца дзеясловы ў форме інфінітыва: *Дачакацца б вясны ды вярнуцца б з вайны, — быў бы я шчаслівы* (Я. Колас. Я стаю на мяжы). *Нашто*

*і шукаць бы што недзе другое,— было б для Мядзведзя жыццё залатое* (М. Танк. Казка пра Мядзведзя).

§ 1354. Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх умоўна-выніковыя адносіны суправаджаюцца параўнальна-супастаўляльным адценнем. Пры гэтым састаўныя часткі заўсёды вызначаюцца адпаведным паралелізмам сваёй будовы, а выказнікі гэтых частак могуць выражацца як дзеясловнымі, так і іншымі формамі: *Свая справа, свая і рада* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не твая барада — не твой і клопат* (М. Лынькоў. Астап). *Будзе работа, будзе і хлеб* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Лёгка знойдзецца — лёгка згубіцца* (А. Александровіч. Напор). *Шмат будзе снегу — шмат улетку нарасце збожжа і фруктаў* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 1355. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з умоўна-выніковымі адносінамі ўваходзяць дзве састаўныя часткі, з якіх часцей за ўсё адна мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — форму простага двухсастаўнага сказа: *Зацвіце вясною сад — паглядзець было люба* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *Наста падрасце — пасаг трэба рыхтаваць* (З. Бядуля. Дзве ночы). *Прыйдзе пара — скажуць* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Засмяецца вясенняе сонца, выходзь адразу ў поле* (А. Кулакоўскі. У брыгадзе Варывончыка). *Кранеш адно, усплыве другое* (Я. Колас. Новая зямля). *А вуха да гонкае сосны прытуліш — яна адгукнецца затоеным стогнам* (П. Панчанка. Конь). *Азалаці Ядвісю, не пойдзе яна туды поначы* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб). *Сказаць матцы аб выбары прафесіі — яна ўсхвалюецца* (Б. Мікуліч. Зорка).

Значнае месца належыць таксама бяззлучнікавым складаным сказам, састаўныя часткі якіх маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Падрасцеш вялікі — раскажу тады* (П. Глебка. Матчыны казкі). *Патрэбен будзеш — адшукаю* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Прыду — не пазнаеш* (М. Танк. Нарач). *Звяжыся з імі — дабра не будзе* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Сказана — павінен спаўняць* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»). *Над кожнай кніжкай плакаць — слёз не хопіць* (І. Шамякін. У добры час).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Вецер загуляе — хвойнік, лозы гнуцца* (Я. Колас. Плытнікі). *Зірне на яго грозна маці, дзед адразу як шоўкавы робіцца* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Вецер пракоціцца, будзячы нівы,— нівы калоссем шумяць* (П. Глебка. Выйду я раніцай).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі меры і ступені

§ 1356. Адносіны меры і ступені характарызуюцца тым, што даданая частка бяззлучнікавага складанага сказа вызначае меру або ступень праяўлення таго, аб чым паведамляецца ў галоўнай частцы. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць выказніку або іншым членам галоўнай часткі бяззлучнікавага сказа, якія патрабуюць адпаведнага ўдакладнення ў даданай частцы.

У большасці выпадкаў даданая частка бяззлучнікавых складаных сказаў з адносінамі меры і ступені паясняе выказнік галоўнай часткі, які можа выражацца дзеясловнымі ці іншымі формамі: *Есці хочацца — падцягнула духі* (Я. Брыль. Мой зямляк). *Што ж, вестак нямала, іх цэлы ахапак* (М. Танк. Нарач). *Масква ад нас не блізка — паўстанкаў не злічыць* (М. Лужанін. Хадок). *Чалавек яшчэ не старога веку, было яму за год пяцьдзесят* (М. Лынькоў. Маладосць).

Асабліва выразна праяўляюцца адносіны меры і ступені, калі пры выказніку галоўнай часткі бяззлучнікавага сказа знаходзіцца ўзмацняльная часціца *так*: *Алена так любіць сваіх кароў — яна іх адчувае нават на аддаленні* (П. Пестрак. Неспадзяванак). *А на небе так хмарна — за год не праб'ешся да зор* (П. Панчанка. Яна не прыйшла).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх даданая частка паясняе не выказнік, а іншыя члены галоўнай часткі: *Вялікі сад — захапілі гектараў некалькі* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»). *Ідуць крывавыя баі — па сем атак на дню* (П. Глебка. Упартасць). *Гэтыя словы спадабаліся Тарасу Пінчуку, ужо немаладога веку мужчыне,— яму падбіралася пад шосты дзесятак* (І. Гурскі. Сустрэча).

Асобна стаяць бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх даданая частка паясняе не паасобныя члены, а ўвесь змест галоўнай часткі. Такія сказы звычайна ўжываюцца з агульным значэннем колькасці: *Народу — не зачыніць дзверы* (В. Пятрэнка. Радасць крочыць у Сваротву). *А боль жа — стрываць нельга* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Арэхаў тут цяпер было — не абярэшся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А войска ішло — не злічыць* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 1357. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі меры і ступені ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых аднасастаўных (звычайна разнатыпных) сказаў: *Самы малы — не бярыся рукою!* (М. Лужанін. Дубы). *Самы магутны — не вырвеш з зямлі* (там жа). *Працы мне тут — не абярыся!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сабралі людзей — не прадыхаць* (там жа).

У радзе бяззлучнікавых складаных сказаў форму простага аднасастаўнага сказа мае толькі адна састаўная частка, тады як другая састаўная частка мае форму простага двухсастаўнага сказа (поўнага або няпоўнага): *Вёска невялікая — сяліб у ёй каля дваццаці* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі). *За гора краіны адпомшчу — зямля задрыжыць!* (П. Панчанка. Песня).

Вельмі рэдка сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *І так нясецца ён, васпане,— тычына шапкі не дастане!* (Я. Колас. Новая зямля).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі спосабу дзеяння

§ 1358. Адносіны спосабу дзеяння адрозніваюцца тым, што даданая частка бяззлучнікавага складанага сказа вызначае характар або спосаб працякання ці існавання таго, аб чым паведамляецца ў галоўнай частцы. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць лексіка-граматычнаму значэнню слоў, якія ўтвараюцца спалучэннем выказніка з адпаведнай акалічнасцю спосабу дзеяння ў складзе галоўнай часткі. Гэта акалічнасць заўсёды мае абагульненае значэнне, канкрэтны змест якога раскрываецца ў паведамленні даданай часткі.

У якасці акалічнасці спосабу дзеяння, якая паясняецца даданай часткай бяззлучнікавага сказа, часцей за ўсё ўжываецца слова *так* (*гэтак*): *Драпежнае звяр'ё так ідзе на здабычу: спачатку бягуць львы і тыгры* (К. Чорны. Ваўкі ратуюць скуру). *Было калісьці так: англійскі фунт на біржах свету ўздымаў тайфун* (П. Панчанка. Залаты рубель). *Паэты, напэўна, так бы сказалі: яна найчароўнейшая жанчына* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Другі раз было гэтак: хтосьці прынёс на сенажаць біклагу вельмі добрага хлебнага квасу* (К. Чорны. Вялікая і малая тэма).

У радзе выпадкаў ролю акалічнасці спосабу дзеяння, якая паясняецца дададзенай часткай бяззлучнікавага сказа, выконваюць розныя прыслоўі. Неабходна дадаць, што характар сінтаксічных адносін пры гэтым праяўляецца менш выразна і яны набываюць адценне далучальнасці: *Скажу проста і катэгарычна: я іх не выдам і не назаву* (Я. Колас. Дрыгва). *Якраз па-твойму і выйшла: на разведку пойдзем* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа). *Я перадала словы дакладна: загад змяняць забараняю* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Некалі ўмелі проста: білі лазой і стэкамі* (У. Хадыка. Нам не захраснуць у проймах).

§ 1359. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі спосабу дзеяння ўваходзяць дзве састаўныя часткі, з якіх адна часцей за ўсё мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — форму простага двухсастаўнага сказа: *Так выйшла: з царом і царскія законы скінуліся* (П. Галавач. Яны не пройдуць!). *Гавораць жа і так: адзін у полі не воін* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Так і цяпер будзе,— прыйдзе мужык яшчэ прасіцца* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Іншы раз так бывае: набяжыць шалёны вецер* (Я. Скрыган. Спатканне). *Ён так і сказаў пра мікраарганізмы: вораг* (Б. Мікуліч. Зорка). *Пытанне пастаўлена так: жыць нам або быць знішчанымі* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Я вось так гляджу: павінен чалавек да ўсяго мець паняцце* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Строй таполяў разложных выглядаў так панадна: кожны лісцік на кожнай быў апісан дакладна* (М. Лужанін. Таполя). *За шклянкаю чаю Марыля і Павал крыляцца ў лятунках чаруючых так: яны напісалі сягоння заяву, просьбу прыняць на рабфак* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

Адзінкавымі з'яўляюцца выпадкі, калі састаўныя часткі бяззлучнікавага складанага сказа маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Зрабіць так: брыгаду Шырокага скараціць напалавіну* (Я. Скрыган. Як на 401-й вярсце).

### Бяззлучнікавыя складаныя сказы з уступальнымі адносінамі

§ 1360. Уступальныя адносіны характарызуюцца тым, што дадзеная частка бяззлучнікавага складанага сказа супярэчыць паведамленню, якое павінна чакацца на аснове зместу галоўнай часткі. Большая залежнасць адной састаўной часткі ад другой і разнатыпнасць іх інтанацыйнага афармлення адрозніваюць гэтыя сказы ад бяззлучнікавых сказаў з адносінамі неадпаведнасці.

Уступальныя адносіны вызначаюцца на аснове лексіка-граматычнага значэння ўсіх слоў, якія ўваходзяць у склад кожнай з састаўных частак: *Прайшло ў Парэччы лет нямала, яно ж не цешыла Міхала* (Я. Колас. Новая зямля). *Можаце рыці, віцца, кусацца,— мне ўжо не страшны рык ваш звярыны* (Я. Купала. Блізкім і далёкім). *Даехаў дзед да Мінска, дамоў яму карціць* (М. Лужанін. Хадок). *Ніхто не падаваў каманды, песня ўзнікла неяк адразу* (М. Лынькоў. Сустрэчы).

У радзе выпадкаў вялікую ролю ў выражэнні ўступальных адносін адыгрывае будова дадзенай часткі. Яна ўтвараецца:

спалучэннем двух аднолькавых дзеясловаў з адмоўем *не* паміж імі: *Прасі не прасі — ратунку не будзе* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Хочаш не хочаш — сказаць пару слоў трэба* (Я. Колас. На ростанях). *Пацей не пацей — дураком памрэш* (М. Лынькоў. Баян). *Хвалі не хвалі — на чай не запросіць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі);

спалучэннем дзеяслова са словамі *як ні, што ні* і інш.: *Як ні круціся — прыдзецца адказваць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Колькі ні старайся — усяго не пераробіш* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Куды ні глянь — усё ў настроі* (Я. Колас. Новая зямля). *Што ні рабілі — нічога не памагала* (М. Танк. Казка пра Мядзведзя). *Які ён там ні быў,— усё ж такі свая кроў* (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). *Хто б і адкуль з ламавых рамізнікаў ні начаваў у Даўгінаўскай карчме на Мінскай дарозе,— усе ведалі Астаповіча* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 1361. У бяззлучнікавыя складаныя сказы з уступальнымі адносінамі ўваходзяць дзве састаўныя часткі, якія маюць форму простых аднасастаўных або двухсастаўных сказаў (гл. § 1360). Спецыфічнай асаблівасцю гэтых сказаў з'яўляецца тое, што іх дадзеная частка заўсёды знаходзіцца ў прэпазіцыйным становішчы да галоўнай часткі.

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі мэты

§ 1362. Адносіны мэты характарызуюцца тым, што дадзеная частка бяззлучнікавага складанага сказа вызначае мэту або ўказвае на прызначэнне таго, аб чым паведамляецца ў галоўнай частцы.

Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць выказніку галоўнай часткі, які разам з залежнымі ад яго словамі паясняецца зместам дадзенай часткі бяззлучнікавага сказа. Пры гэтым варта адзначыць, што выказнік галоўнай часткі заўсёды выражан дзеяслоўнымі формамі: *Разгарнуць хачу я крылле — я ў свет вольны палячу* (Я. Колас. Сымон-музыка). *У сераду раніцай ён зайшоў у хлеў з вязкай канюшыны — трэба было пакарміць коней перад дарогай* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). *Халімон прыжмурыў вочы,— хацелася адразу і адным поглядам абняць цэлую валоку* (П. Галавач. Суседзі). *Мікіта пайшоў у клуню — трэба накарміць жывёлу* (Я. Колас. Адшчапенец).

§ 1363. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі мэты ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія маюць форму:

простых двухсастаўных (іншы раз няпоўных) сказаў: *Адусюль паляцелі на здабычу груганы,— вольнай волі захацелі вочы выклеваць яны* (К. Крапіва. Чырвоная мятла добра мяла). *У прастор і хлопчык прагне: там другі напэўна лёс* (Я. Колас. Сымон-музыка);

простых аднасастаўнага і двухсастаўнага сказаў: *Кінуўся ў кватэру: можа яна адкажа на яго пытанне* (Я. Колас. Адукацыя). *На свет і куры нашы хочуць — чарвей і крошак пашукаць* (Я. Колас. Баба і куры). *Яна кінулася ў хату — трэба ратаваць дзяцей* (М. Лынькоў. Векапомныя дні);

простых аднасастаўных сказаў (рэдка): *Ноччу прывялі нас у акопы,— трэба было спешна змяніць разбітую часць* (П. Галавач. Праз гады).

## Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі часу

§ 1364. Адносіны часу характарызуюцца тым, што адна састаўная частка бяззлучнікавага складанага сказа нечакана або раптоўна перарывае тое, аб чым паведамляецца ў другой састаўной частцы. Гэтыя адносіны заўсёды суправаджаюцца прычынна-выніковым або ўмоўна-выніковым адценнем.

Асноўная роля ў выражэнні адносін часу належыць парадку састаўных частак у структуры бяззлучнікавага сказа і лексіка-граматычнаму значэнню слоў, якія ўжываюцца ў якасці выказнікаў гэтых частак. Неабходна адзначыць, што выказнік першай састаўной часткі заўсёды вы-



45. Зак. 378.

ражан фразеалагізаванымі сродкамі, сярод якіх часцей за ўсё ўжываюцца спалучэнні *не паспеў, толькі паспеў* плюс інфінітыў: *Не паспеў стары выбрацца з снегу — ранішнюю сціхоту прарваў стрэл* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Не паспеюць афіцэры* [фашысцкія] *пахавацца ў куткі,— ад галоў іх і талерак застаюцца чарапкі* (П. Броўка. Нязлоўны). *Жонка толькі паспела ахнуць — Максім перавярнуў кошык уверх дном* (П. Пестрак. А гудок гудзеў...).

Сустракаюцца выпадкі, калі выказнік першай састаўной часткі выражан асабовай ці безасабовай формай дзеяслова з адмоўем *не: Не прайшлі мы і сотню метраў — ззаду пачуліся раскацістыя выбухі* (П. Галавач. Праз гады). *Не прайшло і хвіліны — абдымалі суседзі паланянку-дзяўчыну* (П. Броўка. Паланянка).

§ 1365. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з адносінамі часу ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія вызначаюцца надзвычай цеснай сэнсавай і структурнай абумоўленасцю. Гэтыя часткі могуць мець форму простых аднасастаўных або двухсастаўных сказаў (гл. § 1364).

## Складаныя сказы з бяззлучнікава-далучальнай сувяззю

§ 1366. Бяззлучнікава-далучальнай называецца сінтаксічная сувязь састаўных частак у структуры складаных сказаў, пры якой гэтыя састаўныя часткі маюць разнатыпны характар і адрозніваюцца тым, што далучаемая частка з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна зместу папярэдняй часткі.

Разнатыпны характар састаўных частак у складаных сказах з бяззлучнікава-далучальнай сувяззю знаходзіць сваё выражэнне ў будове гэтых састаўных частак і іх інтанацыйным афармленні. Такія бяззлучнікавыя сказы прадстаўляюць сабою двухчленныя злучэнні разнародных па сінтаксічнаму значэнню састаўных частак, будова якіх вызначаецца не толькі адсутнасцю пэўнага паралелізму, але і адсутнасцю суадносных паміж сабою членаў. У сваю чаргу будова састаўных частак і іх прызначэнне ў раскрыцці агульнай складанай думкі аказваюць значны ўплыў на інтанацыйнае афармленне гэтых частак, якое характарызуецца розным па вышыні тонам і адпаведнай паўзай на стыку састаўных частак. Усё гэта сведчыць аб тым, што адзначаныя разнатыпныя часткі знаходзяцца ў значна слабейшай структурна-сінтаксічнай і сэнсавай узаемаабумоўленасці і з'яўляюцца больш сінтаксічна самастойнымі, чым разнатыпныя часткі ў складаных сказах з бяззлучнікава-злучальнай сувяззю.

Паміж разнатыпнымі часткамі складаных сказаў з бяззлучнікава-далучальнай сувяззю звычайна выражаюцца далучальна-пералічальныя, далучальна-азначальныя, далучальна-дапаўняльныя, далучальна-вылучальныя, далучальна-паясняльныя, далучальна-выясняльныя і далучальна-заключальныя адносіны.

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ПЕРАЛІЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1367. Далучальна-пералічальныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа прымыкае да папярэдняй састаўной часткі, уносячы штосьці новае ў апісанне агульнай складанай з'явы. Гэтыя адносіны грунтуюцца на лексіка-граматычным значэнні тых слоў, якія паўтараюцца ў кожнай з састаўных частак і маюць аднолькавую форму. У ролі такіх слоў могуць

ужываецца як члены сказа, так і розныя часціцы, якія служаць для надзялення членаў сказа адпаведнымі экспрэсіўна-эмацыянальнымі адценнямі.

§ 1368. Сярод членаў сказа, якія паўтараюцца ў састаўных частках бяззлучнікавых складаных сказаў з далучальна-пералічальнымі адносінамі, часцей за ўсё сустракаюцца дзейнікі: *Ты — крылатая зарніца, ты — прызыўная струна, ты — дзяўчына-чараўніца, ты прыветна, ты ясна, гучнай радасці паўна; ты — надзей і мар злучэнне, ты — гром песень, цішыня, ты — надзорнае імкненне, ты — прастора-шырыня, ты — прыгожасць-летуценне, ты — развага-глыбіня, усмех радаснага дня* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Восень ткала ўжо красёнцы мяккай чырвані ў лістах, восень спеў вяла бясконцы, з ветрам ходзячы ў кустах; восень прала кужаль тонкі — павуціння белы лён; восень шэрыя заслонкі моўчкі клала на адхон; восень шла ў сырым тумане, восень клыгала ўгары, восень песні пела зрана, восень ныла ўвечары; восень слала дзень свой хмурны па падатак у лясы...* (там жа).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх ролю паўтараемых членаў у састаўных частках выконваюць акалічнасці: *Над Волгаю заняўся золак сіні, над Волгай непагадзь, над Волгай ветра свіст* (С. Грахоўскі. На Волзе).

§ 1369. Сярод часціц, якія паўтараюцца ў кожнай з састаўных частак бяззлучнікавага складанага сказа з далучальна-пералічальнымі адносінамі, асноўнае месца належыць *вось* (*вось і*): *Вось пан з паняю padышоў да фаэтона, вось лёкаі падсадзілі іх у фаэтон* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Вось і Забярэзнішча, вось і Карчоўе, вось і шэрань расы на стоптанай каровамі мураве* (К. Крапіва. Людзі-суседзі).

Зрэдку ў ролі часціц выступае слова *таксама: Таксама стаяла гарачыня; таксама спявалі жаўранкі; таксама не заціхалі песні жнеек* (Ц. Гартны. Дойдзем, сынок).

Сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх часціцы знаходзяцца толькі ў апошняй састаўной частцы. Ролю такіх часціц звычайна выконвае ўзмацняльная часціца *і*, якая ў большасці выпадкаў знаходзіцца пры паўтараемым выказніку: *Тут зменьваліся паравозы, зменьваліся і машыністы* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Затрашчалі тут бакі, затрашчалі й каркі* (К. Крапіва. Ад пачосткі ныюць косткі). Параўн.: *Мацеры рады былі даць кароткі адпачынак стомленым дзецям, трэба было і накарміць іх* (М. Лынькоў. Векапомныя дні), дзе выказнікі састаўных частак выражаны рознымі словамі і не паўтараюцца.

§ 1370. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-пералічальнымі адносінамі ўключаюць дзве і больш састаўных частак, якія маюць звычайна аднатыпную форму простых двухсастаўных сказаў (гл. § 1367—1369).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-АЗНАЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1371. Далучальна-азначальныя адносіны адрозніваюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа характарызуе папярэднюю састаўную частку, вызначаючы яе ролю, якасць, прызначэнне і г. д. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць указальным займеннікам *гэты, той, такі* і ўказальным прыслоўям *так, гэтак*, якія заўсёды знаходзяцца ў другой (далучаемай) састаўной частцы і служаць важнейшымі паказчыкамі дадатковай характарыстыкі першай (асноўнай) састаўной часткі. Пры гэтым далучаемая частка бяззлучнікавага сказа можа азначаць не толькі змест усёй папярэдняй састаўной часткі, але і паасобныя з яе членаў.

§ 1372. У бяззлучнікавых складаных сказах, дзе далучаемая частка азначае змест папярэдняй састаўной часткі, характар сінтаксічных ад-

носін вызначаюць займеннік *гэта* і прыслоўі *так, гэтак*. Займеннік *гэта*, які ў такіх выпадках заўсёды мае абагульненае прадметнае значэнне, ужываецца ў функцыі:

дзейніка: *Яны сочаць за намі, гэта бясспрэчна* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Я чалавек не вельмі практычны, гэта праўда* (К. Крапіва. З народам). *Андрэй быў у добрым гуморы — гэта адразу кідалася ў вочы* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Цяпер ты ўжо мяне не любіш — гэта мне ясна* (М. Чарот. Галя). *Нечакана з'явіўся сам Галында,— гэта было маланкаю на чыстым небе* (В. Каваль. Дзень палымнее);

дапаўнення: *Заснуць яму не ўдасца, ён гэта ведаў* (К. Чорны. Гора). *Я быў тады малады і вельмі гарачы, гэтым і тлумачыцца зробленае мной учынак* (Б. Мікуліч. Гадзюка ў кароне). *Не будзе ладу ў рабоце, гэтага людзі баяцца* (П. Галавач. Спалох на загонах). *За сталом на верашчаку падгатаўлялі ўжо атаку,—на гэта хлопцы былі хваты* (Я. Колас. Новая зямля). *А ў хаце вяселле — спей вястуе аб гэтым* (К. Буйла. Чуеш?). *Апоўдні ці пад вечар лес будзе акружаны і прачасаны — у гэтым ніхто не сумнявайся* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Прыслоўі *так* і *гэтак* ужываюцца, як правіла, у функцыі акалічнасці спосабу дзеяння: *Пахаваліся ўсе госці у куточкі: так спынілася вяселле сярод ночкі* (М. Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *Крывасмок павінен загінуць, так было заўсёды* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Добра ў яго выходзіла, гладка, я гэтак ніколі не расказаў бы* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 1373. Сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх далучаемая частка азначае змест папярэдняй састаўной часткі, а характар сінтаксічных адносін вызначаецца спалучэннем займеннікаў *гэты, такі* з адпаведным назоўнікам. У дадзеным выпадку займеннікі *гэты, такі* звычайна выконваюць ролю азначэння пры размешчаным за імі назоўніку, які можа ўжывацца ў функцыі дзейніка (часцей) або дапаўнення (радзей): *Артылерыйскі склад трэба ўзарваць — гэтая думка ўзнікла ў часе папярэдняй разведкі на дрызіне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Якавенка любіў павучаць,— аб гэтай яго схільнасці ведалі ўсе ў батальёне* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Завесіла розум якаясь імгла,— бываюць такія дэфекты* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Гэта, відаць, шчырая і трохі экзальтаваная натура — такія індывідуумы часам сустракаюцца сярод нашага сялянства* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 1374. У бяззлучнікавых складаных сказах, дзе далучаемая частка азначае паасобныя члены папярэдняй састаўной часткі, характар сінтаксічных адносін вызначаецца займеннікамі *гэты, той, такі* ў спалучэнні з азначаемым членам асноўнай часткі, які звычайна паўтараецца ў далучаемай частцы і выступае ў форме назоўніка. Займеннікі *гэты, той, такі* заўсёды ўжываюцца ў функцыі азначэння да гэтага назоўніка. У ролі азначаемага члена асноўнай часткі можа выступаць:

дзейнік: *Тут прайшоў конны атрад на чале з палкоўнікам, гэты атрад вёз цела Гунава* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Пачалася нябачаная ў свеце вайна — у той вайне звярыная лютасць дзіўна спляталася з прыгожай рашучай адвагай* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *У вас валасы дужа мяккія — такія валасы больш у жанчын бываюць* (там жа);

выказнік (іншы раз звязанае з выказнікам прыслоўе): *Твар яго быў хударлявы — гэтую хударлявасць узмацнялі вуглаватыя абрысы сківіц* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Дралі і бралі з народа ўсюды, тая драніна паноў і трымала* (У. Дубоўка. Крычаўская спакуса). *Апошнія словы Волька сказала гнеўна, гнеў гэты явіўся ў яе нечакана* (К. Чорны. Макаркавых Волька);

дапаўненне і іншыя члены сказа: *Яна была тады са старэйшым братам — брат той вучыўся ў кадэцкім корпусе* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Зямля нібы раставала, растаплялася ў душна-салодкай млосці; гэтая млосць пераходзіла на людзей, на жывёлу, спавівала ўсіх мяккай пялёнкай бяссілля* (там жа). *Тады яна ўсміхнулася гарэзнай і чароўнай усмешкай, — гэткай усмешкай можна заваяваць самага жорсткага дзікуна* (Б. Мікуліч. Дужасць).

§ 1375. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-азначальнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія ў большасці выпадкаў маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Людзі абяцалі памагчы ў гаспадарцы — гэта яе не цешыла* (З. Бядуля. Велікодныя яйкі). *Прасіцца ён не будзе — гэта я цвёрда ведаю* (І. Шамякін. Спі, мой сыночак...). *Крушэнне цягніка не было выпадковым здарэннем — у гэтым ён быў упэўнены* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Дзед Талаш адчуваў цяпер за сабою сілу і ўпэўненасць; гэту сілу і смеласць прыдавала яму ў значнай меры і «настаяшчая» стрэльба* (Я. Колас. Дрыгва). *Часам нехта пусціць хлуслівыя чуткі — варожае змяінае шыпенне адчувалася ў гэтых чутках, у гэтых словах* (М. Лынькоў. Маладосць). *Апошнімі гадамі ён усё больш і больш уваходзіў у сферу сваіх літаратурных замыслаў,— так прыйшла яго творчая спеласць і сталасць* (К. Чорны. Аб Эдуарду Самуйлёнку).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна састаўная частка (асноўная або далучаемая) мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая — форму простага аднасастаўнага сказа: *Яму стала спакайней на душы, гэта я ведаў* (К. Чорны. Навагодняя ноч). *У жмуркі нам гуляць не да твару, вы гэта добра разумееце* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вялікую ўнутраную рухавасць мае яна* [паэзія],— *аб гэтым не можа быць і спрэчкі* (М. Багдановіч. Забыты шлях). *Будачнікі ўзброены — мяне ў вёсках папярэджвалі аб гэтым* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ДАПАЎНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1376. Далучальна-дапаўняльныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа дапаўняе змест аднаго з членаў папярэдняй састаўной часткі. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць парадку слоў і лексіка-граматычнаму значэнню дапаўняемага члена, які заўсёды паўтараецца ў далучаемай частцы і выдзяляецца інтанацыйна сярод іншых членаў гэтай часткі.

У сучаснай беларускай мове ролю дапаўняемага члена асноўнай састаўной часткі бяззлучнікавага складанага сказа часцей за ўсё выконвае дзейнік, які заўсёды выражаецца назоўнікам. Пры сваім паўтарэнні ў далучаемай частцы гэты член можа ўжывацца:

у функцыі дзейніка, які звычайна выражан асабовым займеннікам: *Каля калодзежа зачарнелася нейкая фігура, яна важна сунулася пасярод вуліцы* (Я. Колас. Нёманаў дар). *За спіной Мілкіна нячутна ходзяць рабочыя сцэны, яны прыносяць дэкарацыі* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Нейпрыкметку надышло жнівеньскае світанне — яно нечакана пранізала ноч і пагнала рэшткі цемры ў лагчыны і раўчакі* (Т. Хадкевіч. Плытагоны). *Гэтак дзядзька рабіў мой, ён служыць даўно лесніком* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *След кулі быў відаць, ён на кары альховай чырванеў* (М. Танк. Янук Сяліба);

у функцыі дапаўнення, выражанага назоўнікам або займеннікам: *Над далінай палёт сакаліны, у палёце — мужычая песня* (П. Трус. Прысвячаецца Я. Купалу). *Быў хлеба кавалак,— яго ты на ўсіх нас ламала...* (М. Лужанін. Партыі). *Бярозавым лісцем магіла заслана,*

*ляжыць у магіле баец пахаваны* (П. Броўка. Магіла байца). *Збоку значыцца сцежка — па ёй прайшло не больш двух пешаходаў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах);

у функцыі акалічнасці, выражанай назоўнікам з прыназоўнікам або прыслоўем: *Там быў млын; у млыне працавала наймічка Люба Лук'янская* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ой, у полі паляначка, там гуляла дзяўчыначка ды сеяла руту-мяту* (П. Трус. Не на ўзмор'і чаўны...). *Загадуем сад навокал, там зязюля закукуе* (П. Броўка. Кацярына).

Значнае пашырэнне маюць бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх ролю дапаўняемага члена асноўнай састаўной часткі выконвае дапаўненне, выражанае назоўнікам. Пры паўтарэнні ў далучаемай частцы такі член можа ўжывацца:

у функцыі дзейніка, выражанага асабовым займеннікам: *На вуліцы Лясніцкі сустрэў Макрыну — яна ішла ад калодзежа з поўнымі вёдрамі вады* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Мы гаварылі з тваёй маткай, яна праклінала цябе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Даярка кладзе смаляныя карчы ў печку — гарэць будуць ярка яны пад плітою ўначы* (А. Куляшоў. З дзённіка брыгадзіра). *Я збудаваў дом новы, ля саду ён стаіць...* (А. Русак. Мой дом);

у функцыі дапаўнення, выражанага назоўнікам або займеннікам: *Кахаў ён дзяўчыну адну — сірату; дзяўчыну Алесяю звалі* (П. Глебка. Герой і партызанка). *Бузу я раней цёр вялікую, аб ёй камендант парахода табе расказваў* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Мікола нагнуўся і падняў кінуты ля ўваходу ў будан мяшок,— у ім звычайна быў харчовы запас* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Хіба ты хочаш памножыць сірат, іх жа і без таго багата на нашай зямлі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У радзе выпадкаў ролю дапаўняемага члена асноўнай састаўной часткі бяззлучнікавага складанага сказа выконвае акалічнасць, якая выражана формай ускоснага склону назоўніка з прыназоўнікам. Пры паўтарэнні ў далучаемай частцы гэты член можа ўжывацца:

у функцыі дзейніка, выражанага назоўнікам: *Выйду я раніцай з плугам у поле, поле — шырокі разлог...* (П. Глебка. Выйду я раніцай). *Мы жывём у зямлянках, зямлянка — не дом* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Мы сядзім у хаце, хата — старая, спарахнелая* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі);

у функцыі акалічнасці, выражанай прыслоўем: *Рыльскі падаўся ў куст, там сядзеў яго таварыш* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *А ў свірнах пад замкамі быў яго таемны склад, — там стаяў напагатове самагонны апарат* (П. Броўка. Кацярына).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх ролю дапаўняемага члена асноўнай састаўной часткі выконвае дзеяслоўны выказнік. У такім разе ў далучаемай частцы ад гэтага выказніка-дзеяслова ўтвараецца назоўнік, які звычайна выступае ў функцыі дзейніка: *Навокал шумяць векавыя сосны, шум нудны і таемны* (П. Галавач. Праз гады). *Гадзіннік цікаў у суседнім пакоі — яго ціканне аддавалася звонам у цішыні* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Звоняць шыбы; звон — ясны, халодны* (М. Танк. Каліноўскі).

§ 1377. Асабліва выразна праяўляюцца далучальна-дапаўняльныя адносіны ў тых выпадках, калі ў склад далучаемай часткі бяззлучнікавага складанага сказа ўваходзяць спалучэнні *апрача таго, акрамя таго, к таму, да таго* і інш. Гэтыя спалучэнні звычайна знаходзяцца ў пачатку далучаемай часткі і служаць яркімі паказчыкамі ўказаных адносін: *Ты зусім хворы, апрача таго, у цябе вялікая сям'я* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Салдаты добра ўзброены, акрамя таго, у іх ёсць два браневікі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Берагі да вады былі*

*крутыя, к таму ж асталося тут скрозь бітае каменне* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Пасевы кукурузы рэзка павялічваюць валавы збор збожжа, да таго ж са сцяблоў і лісця кукурузы можна атрымаць вялікую колькасць выдатнай зялёнай масы на сілас* (з газет).

§ 1378. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-дапаўняльнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія ў большасці выпадкаў маюць форму простых двухсастаўных (іншы раз няпоўных) сказаў: *Перад панам стаялі тры разгарачаныя гайдукі, яны трымалі Сымона за плечы* (З. Бядуля. Салавей). *Увечары прыйшлі новыя весткі — яны гаварылі аб новых перамогах паўстаўшага Петраграда* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Для сталоўкі была пастаўлена спецыяльная хата; накрытая чарапіцаю, з двума прыгожымі ганкамі і прасторнымі верандамі, яна наогул мела выгляд даволі фарсістага дачнага будынка* (Я. Колас. Адшчапенец). *У прасвеце між дальніх хат прамільгнуў конскі табун — конюхі гналі яго з вадапоя* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Зялёныя водсветы выцягваліся на халоднай вадзе — яна была сталёвага колеру* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора). *Я аднойчы бачыў мадзьярскіх салдат у Брэжаве — таксама кватаравалі там* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Побліз Віслы хаціна, пры хаціне садок* (П. Броўка. Стася).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна з састаўных частак мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая—форму простага аднасастаўнага сказа. У гэтым разе двухсастаўная частка бяззлучнікавага сказа таксама можа ўжывацца ў поўнай або няпоўнай форме: *Ваўкоў было штук сем, яны ішлі адзін за адным* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *Садоў было шмат, яны закрывалі зямлянкі і часовыя хацінкі* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Удзень парсючку піць занясеш — пад лаваю ў чыгуне стаіць* (К. Крапіва. Пальчык). *Па-за гародамі поўна ўжо коннікаў — не пускаюць нікога бегчы ў поле, у балота зялёнае* (М. Лынькоў. Гой).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ВЫЛУЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1379. Далучальна-вылучальныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа мае сваёй мэтай вылучыць і падкрэсліць штосьці важнае са зместу або звязанае са зместам асноўнай састаўной часткі. Гэтыя адносіны вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак або паасобных членаў, якія знаходзяцца ў далучаемай частцы і выдзяляюцца інтанацыйна. Пры такіх членах заўсёды знаходзяцца адпаведныя часціцы, якія суправаджаюць іх выдзяленне той або іншай ступенню катэгарычнасці. Пэўная роля ў выражэнні далучальна-вылучальных адносін належыць таксама парадку слоў у састаўных частках.

Сярод часціц, якія знаходзяцца ў далучаемай частцы бяззлучнікавага складанага сказа з далучальна-вылучальнымі адносінамі, найбольш пашыраны *асабліва, нават*. Гэтыя часціцы звычайна размяшчаюцца перад вылучаемым членам, у ролі якога могуць ужывацца розныя члены сказа: *Ад наручнікаў зацяклі рукі, асабліва знямела правая рука ля самай кісці* (Э. Самуйлёнак. Сон). *Ігралі польку, асабліва вылучаўся бубен* (І. Гурскі. Расцвілі вішні). *Успомнілася тут мама і цётка і хвойка, нават праз збан штось сказаў хлопчык* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Ён непрыязна зірнуў на Крушынскага, нават нянавісць мільганула ў яго вачах* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Андрэй жа адразу стаў сур'ёзны, нават на твары яго мільгануў лёгкі цень замяшання* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

У радзе выпадкаў перад вылучаемым членам у далучаемай частцы бяззлучнікавага складанага сказа можа знаходзіцца ўзмацняльная ча-

сціца *і*. Характэрнай асаблівасцю гэтых сказаў з'яўляецца тое, што выказнікі састаўных частак звычайна выражаны аднолькавымі або сінанімічнымі словамі, а вылучаемыя члены выступаюць у ролі дзейніка або дапаўнення: *Усе зарагаталі; смяяўся і Рыгор* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *На Палессі былі розныя праявы, быў і з гэтым папом выпадак цікавы* (Я. Колас. Як поп зрабіўся авіятарам).

Для большага ўзмацнення вылучаемага члена часціца *і* ўжываецца ў спалучэнні з часціцай *нават*: *Шапка пакінута тут зусім нядаўна, нават і верас як след не прымяты* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усе будынкі ў Такароўшчыне дашчэнту згарэлі; згарэлі нават і сады* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі).

Асабліва выразна праяўляецца характар далучальна-вылучальных адносін тады, калі ў далучаемай частцы бяззлучнікавага складанага сказа перад часціцай *і* знаходзяцца спалучэнні *сярод іх, у ліку іх* і інш.: *Выступіла яшчэ некалькі партызан, сярод іх быў і Мірон Іванавіч* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сейбіты ў брыгадах былі вызначаны на ўвесь час сяўбы, у іх ліку быў і дзед Яўхім* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

§ 1380. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-вылучальнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія могуць мець форму:

простых двухсастаўных сказаў: *Птушкі сціхлі — нават дрозд перастаў пацвельвацца з Юркі* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Занурыўся гармонік, нават плакалі птушкі* (П. Броўка. Паланянка). *Жанчыны заспявалі, нават маці злезла з пасцелі і далучыла да іх свой голас* (В. Каваль. Маладосць). *Там губляе сябе чалавек, нават конскія слёзы зрываюць супоні* (П. Броўка. Праз горы і стэп);

простага аднасастаўнага (пераважна першая састаўная частка) і двухсастаўнага сказаў: *Стала надзвычай лёгка, нават ногі перасталі балець* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Навокал было пуста і ціха, нават птушкі пахаваліся некуды ад спякоты* (П. Галавач. Праз гады). *Ні страху, ні болю ў вачах навакольных, нават смутак гарыць баявым пачуццём* (П. Глебка. Вестка). *Спакой і ціш — былінка нават не схіснецца* (Я. Колас. Загібелька);

простых аднасастаўных сказаў: *На першы вечар народу наваліла поўная школа, нават месц не хапала* (Я. Колас. У палескай глушы). *Нікому не было весела, нават капельмайстру і флейтысту было сумна* (К. Чорны. Па дарозе).

### БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ПАЯСНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1381. Далучальна-паясняльныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа паясняе і раскрывае змест папярэдняй састаўной часткі. Як правіла, такія адносіны паміж састаўнымі часткамі вызначаюцца на аснове зместу гэтых састаўных частак.

Асабліва выразна праяўляецца характар далучальна-паясняльных адносін тады, калі ў складзе далучаемай часткі бяззлучнікавага складанага сказа знаходзіцца займеннік *гэта* з абагульненым значэннем адносна зместу папярэдняй часткі. Гэты займеннік заўсёды размяшчаецца ў пачатку далучаемай часткі, мае нязменную форму і выконвае аднолькавую функцыю: *Агнявыя валаконцы ткуцца ў шоўк чырвоны — гэта хмаркі ладзяць сонцу і дзяньку кароны* (Я. Колас. Усход сонца). *К партызанам пацягнуліся жанчыны і падросткі: гэта насельніцтва папярэджвала атрад аб небяспецы* (К. Чорны. Подзвіг ціхага чалавека). *Найкола віднеюцца бліскучыя плямы, — гэта дагаралі падпаленыя легіянерамі вёскі* (М. Чарот. Свінапас). *Загараюцца зоры-агні новых фабрык, заводаў, палацаў, — гэта крочыць па нашай зямлі пяцігодкаю*

*новаю праца* (М. Машара. Памяці Заслонава). *Чуўся вясёлы гоман — гэта разыходзіліся з клуба студэнты* (І. Гурскі. Вясна пачыналася).

У размоўным стылі замест займенніка *гэта* ў склад далучаемай часткі бяззлучнікавага складанага сказа можа ўваходзіць займеннік *то: Зрэдку ў небе дзесь далёка над лесам тым у момант вока мігнецца стужка агнявая — то знічка згасне залатая* (Я. Колас. Новая зямля). *Я чую возера ўсплёскі: то сом прачнуўся на зары і спудзіў шчупака* (П. Броўка. Палессе). *Чутна рэха ў бары — то іграе баян* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *Пранізвае цішу сярэбраны свіст — то далі калыша гудком машыніст* (К. Буйла. У дарозе).

У тых выпадках, калі ў далучаемай частцы бяззлучнікавага складанага сказа адсутнічае займеннік *гэта (то)*, характар далучальна-паясняльных адносін праяўляецца менш выразна: *Пабудзіў яго жаночы голас; нейкая жанчына нараспеў гаварыла просьбу* (К. Чорны. Вялікае сэрца). *Пакрыліся пожні зялёнай травою, вясна нас вітае сваёю красою* (П. Броўка. Веснавое). *Касілкі стракочуць — ідзе сенакос* (К. Буйла. У дарозе). *За акном замукалі каровы — вяртаўся з пашы статак* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Чуцен спеў — русавалосы грае трактарыст* (М. Танк. У садочку май). *Размеранае тахканне матора раптам змяніў глухі рокат — машына адольвала ўздым* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора).

§ 1382. Іншы раз далучальна-паясняльныя адносіны паміж састаўнымі часткамі бяззлучнікавага складанага сказа могуць ускладняцца ўзмацняльна-вылучальным адценнем, у выніку чаго далучаемая частка не столькі паясняе змест папярэдняй састаўной часткі, колькі ўдакладняе і канкрэтызуе яго: *Яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную: яна падбірала пер'е* (Я. Колас. У чым іх сіла). *Вораг знайшоў самае балючае месца ў маім сэрцы — ён хоча з дачкою мяне разлучыць* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Вясна прыходзіла звычайна: на берагі глухіх нізін сачыліся з узгоркаў тайна крывыя вены ручаін* (П. Глебка. Пачатак вясны). *Раптам сталася нечаканае, — плотка, даволі ўжо высока над вадой, сарвалася з кручка* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Здарылася непапраўнае і грознае — шлях на захад адрэзаны* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 1383. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-паясняльнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія часцей за ўсё маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Чуць-чуць дрогне і прыльецца чырвань на ўсходзе — гэта неба ўсміхнецца людзям і прыродзе* (Я. Колас. Усход сонца). *Далей, на самым небасхіле, стаялі нізкія зубчатыя аблачынкі — гэта пачынаўся горны ланцуг* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Конскія капыты паблісквалі срэбрам — то ляцела насустрач бязмежная і бясконцая дарога* (М. Лынькоў. Сінія галіфе). *Па зямлі найсцяж каціўся роўна голас гучны — гулі заводы* (П. Глебка. Будаўнікі). *Белы конь стукнуў звонкай падковай, — гарцаваць выязджае Мароз* (В. Таўлай. Жаўрук). *Часта за дзвярамі вагона мільгалі цагляныя будынкі ў рыштаваннях: будаваліся станцыі* (І. Шамякін. Пільнасць).

У радзе выпадкаў адна састаўная частка бяззлучнікавага складанага сказа можа мець форму простага двухсастаўнага сказа, а другая — форму простага аднасастаўнага сказа, і наадварот: *Люблю я слухаць шум ад таркі — дзяруць картофлю на бліны* (Я. Колас. На ростанях). *Па закопчаных сценах руін зацокалі кулі, стралялі з аўтаматаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ад ракі далятаў гул: ламала лёд на парогах* (А. Савіцкі. Кедры глядзяць на мора). *Шмат было крыку ўночы: вакольныя сяляне ехалі на рынак* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *На вуліцы было многа людзей: сумлічане варочаліся дахаты*

(К. Чорны. Пошукі будучыні). *Закапала з дрэў, таяў іней пад сонцам* (М. Лынькоў. Сустрэчы).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя сказы, у якіх другая (далучаемая) састаўная частка мае форму намінатыўнага сказа, а папярэдняя састаўная частка — форму простага двухсастаўнага або аднасастаўнага сказа: *Трашчаць тэлефонныя званкі — гарком партыі* (Я. Скрыган. Пыл, вінтарэзка і дзікунскае права скіфаў). *У паветры забурчала: аэраплан!* (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

Адваротныя выпадкі, у якіх першая састаўная частка мае форму намінатыўнага сказа, сустракаюцца толькі тады, калі другая (далучаемая) састаўная частка бяззлучнікавага складанага сказа мае форму простага двухсастаўнага сказа і ў яе склад уваходзіць займеннік *гэта*: *Вясна — гэта грукае ў сцены зямля* (П. Броўка. Вясна).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ВЫЯСНЯЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1384. Далучальна-выясняльныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа раскрывае сутнасць або ўнутраны сэнс пэўнай з'явы ці падзеі, аб якой паведамляецца ў папярэдняй састаўной частцы. У дадзеным выпадку далучаемая частка з'яўляецца як бы вынікам, які не выводзіцца непасрэдна са зместу асноўнай састаўной часткі, а з'яўляецца дадатковым паведамленнем адносна гэтага зместу. Указаная асаблівасць неразрыўна звязана з адсутнасцю ў асноўнай частцы адпаведных членаў, якія служылі б прамой асновай для ўзнікнення таго, аб чым паведамляецца ў далучаемай частцы.

Асноўная роля ў выражэнні далучальна-выяснялыных адносін паміж састаўнымі часткамі бяззлучнікавага складанага сказа належыць лексіка-граматычнаму значэнню слоў, якія ўжываюцца ў якасці выказніка асноўнай састаўной часткі.

Значнае месца займаюць бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх выказнік асноўнай састаўной часткі выражан непераходным дзеясловам абвеснага ладу са значэннем успрыняцця або дзеяння, што адбываецца з мэтай атрымаць пэўнае ўспрыняцце. У далучаемай частцы такіх сказаў паведамляецца аб тым, што атрымліваецца ў выніку ўказанага ўспрыняцця: *Закрэўскі моўчкі пачаў азірацца навокал: ніякай надзеі выбрацца адгэтуль не было* (К. Чорны. Насцечка). *Сідор з Марыляю на момант спыніліся пры дзвярах і агледзелі вакол памяшканне: нідзе не відаць было вольнага месца* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Дзяўчына глянула ў акно — відаць былі вялізныя хлеў і гумно, свіран і сілосная вежа* (І. Гурскі. Расцвілі вішні). *Павал Юткевіч паглядзеў на гадзіннік: ён паказваў восем* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Міхаська прыслухаўся, — нічога не чуваць* (А. Кулакоўскі. Міхаськаў экзамен). *Ачнуўся Гамыра — каля яго злыя твары сялян* (Я. Колас. На «святой зямлі»).

Іншы раз выказнік асноўнай састаўной часткі можа быць выражан усечанай формай дзеяслова з імгненным значэннем: *Зірк — стаіць Карусь Дзівак* (Я. Колас. За дождж). *Зірк — сусед яго, Вінцэнт!* (Я. Колас. «Святы Ян»).

Менш пашыраны бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх выказнік асноўнай састаўной часткі выражан дзеясловам са значэннем руху. У такім разе далучаемая частка змяшчае ў сабе паведамленне, якое раскрывае змест таго ўспрыняцця, што суправаджае гэты рух або адбываецца ўслед за ім: *Выйду ў вечар, вечар сіні, — вее багавіннем!* (П. Трус. Веюць ветры). *Васіліна нагнулася і расхінула рукой каліўцы, — яны ласкава крануліся пальцаў* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Я расплюшчваю вочы — угары галлё дуба* (І. Шамякін. «Крытыкун»). *Гурба ступіў*

*крок і паклаў руку на станіну, — станок адчувальна вібрываваў* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 1385. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-выяснялънымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, з якіх першая часцей за ўсё мае форму простага двухсастаўнага сказа, а другая — простага аднасастаўнага сказа: *Выйду я на прыгуменне, там рыхтуюцца к вясне* (П. Трус. Вясковыя частушкі). *Ён паглядзеў на двор — было шэра* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Дзед зірнуў на бераг, на ім было пуста* (М. Лынькоў. Дзед Аўсей і Палашка). *Грышка азірнуўся — наўкола нікога не было* (М. Чарот. Свінапас). *Чалавек расплюшчыў вочы: стары знаёмы* (З. Бядуля. Віхор). *Падышоў Сымон — карчомка са стадолай і дварам* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Адваротныя выпадкі, калі першая састаўная частка мае форму простага аднасастаўнага сказа, а другая — простага двухсастаўнага сказа, сустракаюцца параўнальна рэдка. Яны ўжываюцца галоўным чынам тады, калі выказнік першай (асноўнай) састаўной часткі выражан дзеясловам у форме загаднага ладу: *А зглянї на нашу вёску — ўвесь палетак аж гарыць!* (Цётка. Лета). *Выйдзі, паслухай, — не плача сягоння ў вёсцы сярмяжнай нуда* (П. Трус. Выйдзі, паслухай). *Паглядзіце на нашы сады — наліўныя плады сабіраюць садоўніка рукі* (П. Панчанка. На роднай зямлі).

Значнае месца займаюць бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Бабка Наста зірнула — парог перзступіла постаць маладзіцы* (Я. Колас. Дрыгва). *Цярэшка глядзіць у акно: дахі абтрушаны снегам* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Станіслаў расплюшчыў вочы: быў дзень* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Аляксей праворна зазірнуў у вежу — зараджаючы быў забіты* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мы глядзелі на ўсход — сонца яркае ззяла на піках* (П. Панчанка. На зары).

Нешматлікімі з'яўляюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў. Пры гэтым трэба дадаць, што аднасастаўныя сказы заўсёды маюць разнатыпную будову: *Яшчэ раз прыслухаліся — ціха ў вагоне* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Яшчэ пачакалі — нікога* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Агляніуўся — купіна* (Я. Колас. На начлезе).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ДАЛУЧАЛЬНА-ЗАКЛЮЧАЛЬНЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 1386. Далучальна-заключальныя адносіны характарызуюцца тым, што далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа змяшчае ў сабе дадатковыя звесткі абагульняючага характару адносна зместу папярэдняй састаўной часткі. Такія адносіны паміж састаўнымі часткамі вызначаюцца на аснове зместу гэтых частак.

У бяззлучнікавых складаных сказах з далучальна-заключальнымі адносінамі далучаемая частка часцей за ўсё з'яўляецца заканамерным вывадам або заключэннем адносна зместу асноўнай часткі: *Светлая галоўка мыслямі занята, многа ўсякіх думак у вачах Ігната!* (Я. Колас. У школку). *Нямала пнёў блішчэла жаўтаватымі лысінамі — дрэвы былі спілаваны зусім нядаўна* (І. Шамякін. У добры час). *Дзверы ў хаце зарыпелі, — сустракайце бабыля!* (П. Броўка. Кацярына). *Ёсць у нас густыя сеткі, — долю вылавім сваю!* (М. Танк. Нарач). *Наша армія ідзе — шлях ёй да Берліна!* (А. Бялевіч. Ясныя водбліскі).

Асабліва выразна праяўляецца характар падобнага заключэння, калі далучаемая частка бяззлучнікавага складанага сказа мае форму ўстойлівых зваротаў ці адпаведную форму назыўных або няпоўных ска-

заў: *Позна ўжо — нічога не зробіш* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Культурна пасеяна, слова не скажаш* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Кулдыкнецца паравоз пад адшыб, тут яму і канцы* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Сонца ўжо ўзышло — пара!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Брычка двойчы павярнула, тры ўжо мосцікі мінула і спынілася — канец!* (там жа). *Каля асабняка раздаўся свіст гудка: стоп!* (А. Александровіч. Цені на сонцы).

Такім жа выразным з'яўляецца характар заключэння таксама тады, калі ў склад далучаемай часткі бяззлучнікавага сказа ўваходзяць часціцы *вось, ну і* і інш., якія звычайна размешчаны ў пачатку гэтай часткі: *Вы будзеце старастам, вось да чаго мае словы!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Даверлівымі мы зрабіліся ў апошні час — вось у чым наша памылка* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *А пра галоўнае я і забыўся, во памяць курыная!* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Вам патрэбны яшчэ ўсякія рабочыя, ну і прымайце іх* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1387. У некаторых бяззлучнікавых складаных сказах з далучальна-заключальнымі адносінамі далучаемая частка з'яўляецца не заканамерным, а магчымым ці верагодным вывадам або заключэннем адносна зместу асноўнай часткі. Як правіла, у далучаемай частцы такіх сказаў заўсёды знаходзяцца пабочныя або мадальныя словы *відаць, няйначай, знаць* і інш.: *Ён быў вельмі запылены, — відаць, чалавек прыйшоў сюды проста з дарогі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Цюцік аж заходзіўся за дзвярамі, няйначай поблізу быў нехта чужы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Дыхае спёкай зямля — будзе, напэўна, дождж* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Яе звычайна ласкавыя шэрыя вочы наліліся раптам слязьмі і заблішчалі дзікім агнём — яна гатова была, здаецца, кінуцца кошкай на беднага Славіна* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Скача цэлы свет вакол, мусіць, ён упіўся...* (Я. Колас. Песня п'янага). *Сланяюцца сланы ў джунглях на Цэйлоне, цэйлонскі чай яны, знаць, возяць і па сёння* (П. Панчанка. Праедзь альбо прайдзі). *Вунь шэрае штосьці на чорнай раллі, — няўжо бо нядбайнікі зноў падвялі?* (К. Крапіва. Калгасны дзед).

§ 1388. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з далучальна-заключальнымі адносінамі ўключаюць дзве састаўныя часткі, якія ў большасці выпадкаў маюць форму простых двухсастаўных сказаў: *Трактары мінскае маркі ідуць у палі чарадой, людзі са ўсёй Беларусі сілы не зналі такой* (П. Броўка. Аб тым, што ў думах...). *Віхор круціцца ў полі — ліха надыходзіць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Вось і муж усплыў на думу, — рана смерць скасіла!* (Я. Колас. Маці). *Твар лейтэнанта быў збялелы, відаць, паранены страціў багата крыві* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Захар Рудак і Мешкяліс усё яшчэ спрачаліся; яны, відаць, ніколі не маглі вырашыць сваіх спрэчак* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Сям-там заняліся чырвоныя заравы, няйначай бушавалі недзе пажары* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Значнае пашырэнне маюць бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх асноўная частка мае форму простага двухсастаўнага сказа, а далучаемая частка — форму простага аднасастаўнага сказа: *У збожжа ўсякае ніва прыбралася — хараства там якога няма!* (Я. Купала. Лета). *А зіма аж пачарнела — годзе ёй тут кросны ткаць!* (Я. Колас. Песня аб вясне). *Першы раз я папаўся — тут не было нічога дзіўнага* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Яблыня гэтая была седлаватай і аднабокай — відаць, нямала давялося ёй перанесці ўсякіх нягод* (А. Кулакоўскі. Процькаў сад). *Заяц дарогу перабег — няўдача* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Іншы раз далучаемая частка можа мець своеасаблівую форму няпоўнага сказа: *Ты залішне падумаў пра сябе, Тарыел, вось што* (Э. Са-

муйлёнак. Будучыня). *Я люблю праўду, от што!* (К. Чорны. Зямля). *А ты сабе шкрабі бульбу, от і ўсё* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *У вёску прыехалі казакі, вось яно як!* (П. Галавач. Праз гады).

Вельмі рэдка ўжываюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх абедзве састаўныя часткі маюць форму простых аднасастаўных сказаў: *Лаві, шукай ветру ў полі — умеюць замесці сляды!* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Цяжка стала тут, іншага не скажаш* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ ЎСКЛАДНЕНАЙ БУДОВЫ

§ 1389. Бяззлучнікавыя складаныя сказы ўскладненай будовы характарызуюцца тым, што ў іх структуру ўваходзяць тры і больш састаўных частак, паміж якімі выражаюцца розныя віды сінтаксічных адносін. Як правіла, састаўныя часткі гэтых сказаў могуць мець форму простых або складаназлучаных ці складаназалежных сказаў.

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З ПРОСТЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1390. Спецыфічнай асаблівасцю бяззлучнікавых складаных сказаў з рознымі спалучэннямі простых састаўных частак з'яўляецца тое, што гэтыя састаўныя часткі не толькі аб'ядноўваюцца непасрэдна адна з другой, але і звязваюцца ў пэўныя структурна-сінтаксічныя групы ўнутры складанага сказа.

§ 1391. У бяззлучнікавых складаных сказах, дзе простыя састаўныя часткі аб'ядноўваюцца непасрэдна адна з другой, звычайна знаходзяцца састаўныя часткі, якія могуць быць аднатыпнымі або разнатыпнымі: *Зімка прыйшла; белы вываліў снег; колас у гурбе знайшоў свой начлег* (Я. Купала. З песень жыцця). *Начамі павяваў здаровы і прыемны халадок, яго баяліся надакучлівыя камары, яны не лёталі і не кусаліся, а сядзелі абмяртвелыя ў шчылінах і пад лісцямі* (К. Чорны. Як дзядзька Тамаш напалохаў ваўкоў). *Прайшоў гадок, мінуў другі, у касьбу запахлі мурагі* (Я. Колас. Новая зямля). *Цёпла і ціха цяпер — будзе багаты ўлоў —начамі туманы бялеюць* (М. Танк. Нарач). *Дзверы ў суседні пакой былі прычынены, у шчыліну пад імі біла святло — сонца якраз свяціла ў вокны таго пакоя* (Б. Мікуліч. Зорка).

У многіх выпадках такія сказы даволі выразна чле́няцца на дзве разнатыпныя часткі, з якіх адна ў сваю чаргу складаецца з дзвюх аднатыпных або разнатыпных састаўных частак: *Відаць, у добрую часіну збіраўся дзядзька ў пуцявіну: у Баранавічах налучыўся кандуктар добры: ён згадзіўся давесці ў Вільню дзядзьку сходна* (Я. Колас. Новая зямля). *На блізкім двары асвер заскрыпеў — напэўна суседка толькі што скінула каромыслы з плеч: ёй трэба дайніцу вымыць і карову даіць* (З. Бядуля. У досвітку). *У людзей языкі доўгія: скажуць — Яначка зямлі адрокся* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Аглянешся назад — убачыш — пляцецца адна-дзве падводы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Мне бачна — Полацк не старэе — ён маладзее з кожным днём* (П. Прыходзька. Полацк). *Бачыш, ліха мінула, непакоіцца годзе!* (П. Броўка. Паланянка). *Машына не чалавек, яна сама не пасее, дагледзець трэба* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

§ 1392. Бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх састаўныя часткі аб'ядноўваюцца ў пэўныя сінтаксічныя групы, падзяляюцца на два тыпы.

Да першага (найбольш шматлікага) тыпу адносяцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх адна сінтаксічная група складаецца з некалькіх састаўных частак, а ў склад другой сінтаксічнай групы ўваходзіць толькі адна састаўная частка. Як правіла, гэта састаўная частка часцей за ўсё знаходзіцца ў пачатку бяззлучнікавага сказа. Спалучэнне аднатыпных састаўных частак, якія ўтвараюць наступную сінтаксічную групу, звычайна паясняе:

усю папярэднюю частку: *Ад светлага ранку да цёмнае ночы не ціхне вялікай работы размах: стаіць за станком працавіты рабочы, за плугам калгаснік ідзе на палях* (П. Глебка. У шчаслівай сям'і). *Звыклыя гукі напоўнілі лясныя гушчары: у галлі заварушылася сонная птаха, пісканyў заяц, бязгучна мільгануў кажан* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Утома ад бяссоннай ночы давала аб сабе чуць: балела галава, вісеў нейкі цяжар на спіне, рабілася млосна* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Лес быў лісцёвы: горда стаялі грабы, раскідваў густую сетку ясень, маячылі светла-шэрыя ствалы ліп, там-сям высіліся бярозы з пачарнелай унізе і зусім белай пад кронамі карой* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах);

дзеяслоў-выказнік папярэдняй часткі: *Глядзіш — насядаюць маршчыны, у вусах бліщчыць сівізна* (Я. Колас. Сабе і сваім равеснікам). *Здасца ёй — Асвянціма там драты загайдалі, наглядальнікаў твары выглядаюць праз хвалі* (П. Броўка. Паланянка).

Іншы раз такое спалучэнне з аднатыпных і разнатыпных частак утварае толькі адну састаўную частку, якая звычайна замыкае сабою структуру бяззлучнікавага сказа: *Вось улетку дык раздольна: выйдзе з хаты ў поле, луг: цёпла ўсюды і прывольна, сонца многа, чысты дух* (Я. Колас. Сымон-музыка). *У гушчары пахла здаровай вільгаццю, месцамі пралезці было цяжка: арэшнік пераплятаўся з бярэзнікам, галлё лезла ў вочы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яна ўзняла галаву — усё па-ранейшаму: гарыць, ледзь патрэскваючы, лямпа, за акном шалее завіруха* (І. Шамякін. Завіруха). Параўн.: *Паглядзі: святлее ўсход, месяц кончыў свой абход, ноч праходзіць, нікне цьма — ты трывожышся дарма* (Я. Колас. Сымон-музыка), дзе падобная складаная частка пачынае сабою бяззлучнікавы сказ.

Значнае месца займаюць таксама бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх сінтаксічная група, што складаецца з адной састаўной часткі, замыкае сабой структуру гэтага сказа. Такая частка, як правіла, з'яўляецца заключэннем адносна агульнага зместу папярэдніх састаўных частак або проціпастаўлена гэтаму зместу: *Хутка на стол з'явіўся самавар, зашыпела на трыножцы скаварада — частавалі нечаканага госця* (М. Лынькоў. Гой). *Грукочуць малаткі, шоргаюць напільнікі — сточваецца парваны паток* (Я. Скрыган. Зноў абарвалася). *Звоняць пілы, гудуць тапарышчы, стогне дрэва — будуецца дом* (П. Глебка. Новы дом). *Шабля секла, куля біла — не загінуў ён* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла). *Павязалі рукі, павязалі ногі, павязалі цела,— дух звязаць няможна* (У. Дубоўка. Трое іх).

Асабліва выразна праяўляецца проціпастаўленне тады, калі сінтаксічныя групы аформлены словамі *то не — гэта, то не — то* і інш.: *То не ў лесе стогнуць сосны, не шуміць зялёны бор,— гэта нашы рэжуць вёслы хваль успенены прастор* (М. Танк. Нарач). *То не вецер у пушчы гудзе, то не хвалі на моры бушуюць — то грамады працоўных людзей сабе лепшую долю будуюць* (Ц. Гартны. Будаванне). *То не бура шумела на моры, не буяніў уздым акіяну,— запявалі паўстанцы з задорам, пакідаючы вольнай паляну* (П. Трус. Юны змаганец). *Ой, не плакалі ў полі бярозы, не цвіла над ракою каліна,— то раняла гарачыя слёзы маладая ўдава Кацярына* (там жа).

У радзе выпадкаў заключэнне, што змешчана ў сінтаксічнай групе, якая складаецца з адной састаўной часткі, можа ўзмацняцца займеннікамі *ўсё, усё гэта.* Некаторыя з такіх бяззлучнікавых сказаў носяць назву перыяду: *Неба яснае, пагода добрая, усё гэта хіліла думкі ў найлепшы бок* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Рыпнуць дзе дзверы, зарыпяць боты шпікоў, паліцыянтаў, перасунулася дзе крэсла — усё скрыгатам аддаецца ў сэрцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Да другога тыпу адносяцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх кожная з сінтаксічных груп складаецца з некалькіх састаўных частак. Такія групы заўсёды характарызуюцца пэўным паралелізмам сваёй будовы. Гэты паралелізм праяўляецца ў тым, што кожная з груп звычайна мае аднолькавую колькасць аднатыпных або разнатыпных састаўных частак, паміж якімі заўсёды выражаюцца аднайменныя сінтаксічныя адносіны: *Яны — багатыя, мы — бедныя; яны — кулакі, мы — беднякі* (З. Бядуля. Год за годам). *Хацеў сказаць слова — язык не варушыўся, хацеў бегчы за Максімам — ногі не слухалі* (Я. Колас. Малады дубок). *Трэба дождж — ідзе дождж, трэба сонца — пячэ сонца* (М. Чарот. Аднаго разу ў хвойніку). *Кране рукой рабіны куст — звон чуецца рабінавы, кране яна каліны куст — звон чуецца калінавы* (М. Танк. Сярод лясоў наднёманскіх). *Некаму сабраць іх: зараслі крыніцы; некаму іх выпіць: людзям досыць слёз; некаму і высушыць: на галінах ніцых сонца не развесіла прамяністых кос* (П. Глебка. Хмара). *Рушыўся снег, зашумела вада, раскаваліся рэкі ад лёду, хлынула вон зімавая нуда, сонца ўносіць цяпло і пагоду; шумныя песні іграюць лясы, павявае вятрок цеплаваты, белая ніва ад снежнай расы ўбіраецца ў чорныя латы* (Я. Купала. Перад вясною).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКАЗЫ СА СКЛАДАНЫМІ САСТАЎНЫМІ ЧАСТКАМІ

§ 1393. У большасці выпадкаў складаныя састаўныя часткі бяззлучнікавых сказаў маюць форму складаназалежнага сказа. З такой формай можа ўжывацца:

кожная састаўная частка: *Над ракой, дзе каліна, сенажаць церабілі; у сяле, дзе хлапчына, у паход затрубілі* (Я. Купала. Над ракою ў спакоі...). *Зачыняйце шчыльна хату, каб не дзьмулі халады, на акно пляціце мату, каб не клаў мароз сляды* (Я. Колас. Зіма). *Калі сонца не ўзыходзіць — над сусветам цьма, калі мілы не прыходзіць — радасці няма* (А. Русак. Сокал). Параўн.: *Не сячы сасны, бо пахіліцца, не муці ракі — вір уздымецца, не тапчы вясны — цвет асыплецца, не журы дачкі, бо пакрыўдзіцца* (М. Танк. Не сячы сасны), дзе існуе спалучэнне састаўных частак у форме складаназалежных і бяззлучнікавых сказаў;

адна з састаўных частак: *У яго мазгах засела думка, якая ператварылася ў прагнасць: адцурацца назаўсёды правінцыі* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Шум стаіць над лясістай дуброваю, быццам рада аб нечым ідзе; рэчка, у прысадзь схаваўшысь альховую, бурліць; рыбка плюскоча ў вадзе* (Я. Купала. Лета). *Паглядзець на цябе — нельга падумаць, што ты пакрыўджаны* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Мікола прыслухаўся — на калгасным гумне, якое цудам уцалела ад пажару, чуваць быў гул малатарні* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *Да прыходу твайго нашы дзеці многа падрыхтавалі сваіх самых звонкіх напеваў на свеце; працавітыя рукі ткачых многа выткалі яркіх тканінаў для сцягоў і для ўбораў краіны; муляры паўздымалі пад неба гмахі, школы, палацы паўсюды; хлебаробы запоўнілі хлебам элеватараў, свір-*

*най аруды; рыбаловы свае караблі прывялі з багацейшым уловам; сталяварны звыш плана далі сталі сонечнай і адмысловай для магутных турбін і станкоў, трактароў і гартоўных плугоў; пагранічнікі сталі ў дазоры, каб ні днём, ні паўночнай парой не падкраўся, як гадзіна, вораг, не парушыў краіны спакой, нашай стрэчы святочнай з табой* (М. Танк. Новаму году). *Валі стала ўсё ясна адразу, яна цяпер зразумела, чаму яе муж заўсёды выходзіў або не даваў ён скончыць, калі яна загаварвала пра сваю сяброўку Любу Лук'янскую* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

Іншы раз дадаеная частка адносіцца да слоў, якія з'яўляюцца агульнымі для кожнай з састаўных частак бяззлучнікавага сказа: *Уздоўж усяго квартала, дзе стаялі карпусы завода, хрупасцела пад нагамі бітае шкло, валяліся абломкі аконных рам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Там, дзе праходзіць дарога, скрыпяць калёсы, чуваць людскія галасы* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ад пылу, які ўздымаўся пад сотнямі ног, пяршыла ў горле, хрупасцела на зубах* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1394. Нязначнае месца займаюць бяззлучнікавыя сказы, у якіх складаныя часткі маюць форму складаназлучанага сказа. Такая частка звычайна заканчвае бяззлучнікавы сказ, тады як папярэдняя састаўная частка мае форму простага сказа: *Далей паўзці было небяспечна — месца было адкрытае і на шашы хадзіў вартавы* (К. Крапіва. Я быў у Трасцянцы). *Ён ведаў — прыдзі ён ноччу — і гэтыя позіркі могуць ператварыцца ў гарачую свінцовую кулю* (М. Лынькоў. Салют). *У хаце ўсё ажыло ад яе прысутнасці: кожная драбніца стала на месца, вокны пасвятлелі і нават адчувалася больш прастору ў хаце* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Ужо пара мне дадому збірацца,— вечар позні, а час не стаіць* (М. Багдановіч. Ужо пара мне дадому...). *Зранку ж ён пазычыў у Сёмкі Фартушніка грошай на дарогу: у яго недзе дзеўся з кішэні партманет, але яму брыдка было прызнацца і ён маўчаў* (К. Чорны. Трыццаць год).

Зрэдку сустракаюцца бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх заключная частка ўжываецца з такой формай складаназлучанага сказа, дзе адна з яго частак (галоўным чынам апошняя) мае форму складаназалежнага сказа: *Ну, жычу вам усяго найлепшага: шчасліва заехаць, весела гуляць і лёгка перанесці разлуку з тым, аб кім так непакоіцца ваша сэрца* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ён зірнуў на бацьку глыбокімі вачыма,— яны былі цёмныя, амаль чорныя, і гэта сведчыла аб тым, што ён хвалюецца* (Б. Мікуліч. Развітанне). *Я так бы раіў: выбраць час і агледзець усё зараз, а там сама пакажа справа, ці варта шуму ўся аблава, бо мо' ваўкі ўсе пасхадзілі* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага. Бяззлучнікавымі лічацца складаныя сказы, у якіх паасобныя часткі ў структуры састаўной часткі, што мае форму складаназлучанага або складаназалежнага сказа, ужываюцца з паўторнымі злучальнымі або складанымі падпарадкавальнымі злучнікамі. Такія састаўныя часткі могуць знаходзіцца:

у канцы бяззлучнікавага сказа: *Трэскі адляталі няроўныя: то пераскакваў нечаканы сучок, то сякера ўпівалася занадта глыбока* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Выбірай адно з трох: або ты мяне заб'еш, або я цябе заб'ю, або ты паможаш мне ўзяць Дубіну* (Я. Колас. Адзін). *Некалі ў нас быў добры звычай: калі прыязджаюць госці, дык частаваць іх* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі);

у пачатку бяззлучнікавага сказа: *Ці гэта была насмешка, ці гэта быў жарт — цяжка было разабрацца Алёшку* (М. Лынькоў. Салют). *Ці то кожная частка адзежыны мела свой колер, ці то матэрыя была такая стракатая — Валя Іваноўская адразу не магла разгледзець* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

# ПРАМАЯ, УСКОСНАЯ, НЯЎЛАСНА-ПРАМАЯ МОВА

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ

§ 1395. Аўтар ці апавядальнік, расказваючы пра якія-небудзь падзеі, з'явы, людзей, можа перадаваць выказванне пэўнай асобы. Выказванне той ці іншай асобы, якое перадаецца аўтарам, называецца чужым выказваннем, або чужой мовай. Як чужая мова падаецца часам і выказванне самога аўтара ці апавядальніка.

Чужая мова можа падавацца з пункту погляду і ад імя той асобы, якой яна належыць, з захаваннем прымет непасрэдна сказанага. Гэты від перадачы чужога выказвання называецца прамой мовай. Словы, пры дапамозе якіх у канструкцыях з прамой мовай уводзіцца чужая мова, называюцца словамі аўтара ці сказам, што ўводзіць прамую мову: *«Я, таварышы, буду служыць з вамі, буду дапамагаць і вам, бо мне ж там няма цяпер месца,— з жарам гаварыў дзед Талаш.— Я ведаю лес, балоты, рэчкі, азёры. Прайду з вамі так, што ніякі панскі чорт не будзе ведаць»* (Я. Колас. Дрыгва). *Інжынер звоніць у майстэрню, загадвае падрыхтаваць яму патрэбныя дэталі. Потым некуды знікае і вяртаецца хвілін праз пяць у рабочым камбінезоне, вядучы матацыкл. «Дазвольце і мне з вамі», — прашуся я* (І. Шамякін. Галоўны інжынер).

Перадача чужога выказвання з пункту погляду і ад імя аўтара ці апавядальніка са змяненнем граматычных прымет непасрэдна сказанага называецца ўскоснай мовай: *Дзядзька Нічыпар сказаў, што сёння яго бачыць няможна* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *Я папрасіў Волкава, каб ён праверыў сваё радыё, але адказу не атрымаў* (І. Шамякін. У снежнай пустыні).

Чужое выказванне, якое перадаецца ад імя аўтара ці апавядальніка, але з пункту погляду персанажа, якому належаць гэтыя думкі, выказванне, разважанні, называецца няўласна-прамой мовай: [Напрэй Казёл:] *«А людзей крыўдзіць не смей. Ты не глядзі, што на табе бляха. Бляха — гэта дзярмо...» Стараста дужа пакрыўджаны, не столькі за сябе, колькі за бляху, за гасуда-а-рсцвенную бляху. За тую самую бляху, што дае яму столькі павагі, пашаны колькі на ўсім сяле, перад усім вобчаствам. Уга, бляху абразіць... Толькі, што ты з ім зробіш, з Напрэем, які не толькі яго не паважае, але ж гэткія словы адпускае і аб ураднiку. Дзіва што аб ураднiку, ён і пра папа можа нагаварыць... І што ты яму зробіш, ахвота з такім чалавекам чапацца, з непрыемным такім чалавекам. Толькі клопату табе наробіць, не болей. «Напрэйка! Ты пра бляху кінь. Ды кінь плявузгаць...»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

§ 1396. Прамая мова падаецца ў аўтарскім апавяданні ад імя таго, каму яна належыць. Выказванне або разважанне пэўнай асобы часам можа ўключацца ў аўтарскі кантэкст у змененым выглядзе, але абавязкова з захаваннем граматычных прымет непасрэдна сказанага. Зрэдку ў аўтарскіх словах нават ёсць указанне на прыблізнасць перадачы чужога выказвання. *«Нямоглы ён у вас, малы яшчэ, якая з яго дапамога»,— уздыхала Бабручыха; «Нямоглы ён у вас, якая з яго дапамога...» Разумець гэтыя словы трэба так: ...Хлопчык малы — не многа выціснеш з такога батрака; «...Нямоглы ён у вас, малая з яго дапамога»,— усплылі мне на думку салодкія словы старой Бабручыхі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Канец іх спрэчкі быў прыблізна такі: «Многа ты разумееш... Твой Карнілаў — такі самы дурань, як ты...» — «Хай сабе дурань... А ты вось слухай толькі гэтую мяліцу Керанскага, дык яшчэ больш вушы вырастуць. І так ужо, як у асла...» — «Вушы — глупства, абы нос не скрывіўся... А то ж во... так і верне на Оршу...»* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

У мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі, пры адухаўленні з'яў прыроды, прадметаў і г. д. прамая мова можа падавацца як выказванне, якое належыць гэтым з'явам прыроды, прадметам і г. д.: *Ляціць стругавінне, злятае далоў і шастае, шэпча ціхутка: «А гэта усё, што для новых дамоў, ці хутка ты зробіш, ці хутка?»* (У. Дубоўка. Чаму ж гэта ў сэрцы вясновы ўздым?). *У гэты час пачуў я сосен плач: «Мы захлынаемся густой смалой, ратуйце! Прарэжце скуру нам, няхай сцякае тук наш на чорствую зямлю, каб папараць расла»* (П. Панчанка. Падсочка). *Учуў стары дуб гутаркі мошак, скалыхнуўся магутнымі сукамі, усміхнуўся і сказаў: «Чым так жыць, то лепш памерці вам!» — «А што рабіць?» — «Што рабіць? А навошта вам вашы джалы?» — «Так, так, так!—загаманілі мошкі:—скарыстаем нашы джалы!»* (Я. Колас. Асінае гняздо).

Пры дапамозе прамой мовы ў мастацкай літаратуры можа характарызавацца знешнасць персанажа, яго выраз твару, міміка, жэсты, паводзіны, а таксама выгляд прадметаў, уражанне ад з'яў прыроды і г. д. Прамая мова ў такіх выпадках часта адносіцца да слоў аўтара, якія маюць у сваім складзе словы *быццам, як быццам, нібы, як бы, здаецца,* а таксама часціцы *маўляў, моў: На ўскраіне нашага горада разлёгся сваімі новымі карпусамі першынец індустрыялізацыі нашага краю — завод сельскагаспадарчых машын. Ён як бы просіць: «Дайце мне, дайце мне інжынераў»* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё). *Тая самая хваіна вечарам была зусім не такая, як раніцай. Яна станавілася сур'ёзная і зацятая, яна нібы гаварыла: «Ідзіце дадому, не перашкаджайце мне думаць. Прыйдзеце заўтра, усё будзе па-другому»* (І. Навуменка. Верасы на выжарынах...). *Яна глядзела на брата спакойным, немігаючым позіркам, які, здаецца, гаварыў без слоў: «Ну, чаго пытаешся? Ды яшчэ пры чужым чалавеку...»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Цікавалі дзяўчаты, ды каторыя хлопцы свае хітравата падміргвалі: «Крый, моў, чаго там, слова таго не шкадуй, ды не збійся каб, не пайшоў бы на вымушаную пасадку...»* (М. Лынькоў. Талісман).

§ 1397. Прамая мова ўжываецца як у размоўным, так і ў кніжным стылі. У ёй нярэдка даволі поўна адлюстроўваюцца асаблівасці гутарковай мовы.

Для прамой мовы характэрна частае ўжыванне пытальных і клічных сказаў, выклічнікаў, зваротка, няпоўных і незакончаных сказаў. Тут могуць мець месца дыялектныя формы слоў, прафесіяналізмы, арнатызмы, дыялектызмы, адлюстроўвацца асаблівасці вымаўлення і г. д. *Кожны дзень Клопікаў і начальнік турмы з'яўляліся на даклад да Вей-*

*са. Як заўсёды, яны раней заходзілі да перакладчыцы, каб даведацца аб здароўі, а значыцца, і аб настроі начальніка. «З нашым начальнікам, выбачайце, з імі-с... вельмі цяжка размаўляць, калі яны не ў настроі. Вельмі нават проста могуць, выбачайце, і ў пысу сунуць. А любой пысе, выбачайце, не да смаку, калі з яе пачнуць гогаль-могаль рабіць. Проста скажу, усякая лагоднасць з твару знікае і ў галаве розныя дурныя думкі ў трывожны стан прыходзяць... З чалавекам вельмі добра пагаварыць, калі ён бадзёры, вясёлы, у поўным здароўі. Тым больш — з высокім начальствам! — і тхарыныя вочкі яго па-драпежніцку і ў той жа час упрошвальна шныпарылі па постаці маленькай перакладчыцы.— Вы шчасліўца, ён слухаецца вас! Для ва-а-с ён на ўсё можа пайсці. Вялікую сілу над чалавекам мае, выбачайце, любоў-с. Магніт! Вельмі нават проста-с»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У мастацкай літаратуры прамая мова адыгрывае важную ролю пры характарыстыцы персанажа. Яна дапамагае глыбей раскрыць вобраз, зрабіць яго больш жыццёвым.

§ 1398. Асноўная функцыя слоў аўтара — увядзенне ў кантэкст прамой мовы. Але разам з тым рэмарка (так яшчэ называюць словы аўтара) можа звяртаць увагу чытача або слухача на абставіны, пры якіх адбываецца гаворка, на дзеянні, знешні выгляд, жэсты субяседнікаў, на інтанацыю, тэмп маўлення і г. д.: *Сабраўшыся належным чынам, Лукаш падыходзіў да крайняга сялянскага дворыка, адкуль і пачынаў збіраць статак. Ён раскручваў пугу, займаў такую пазіцыю, з якой зручней было ляснуць, станавіўся ў позу, каб ямчэй крыкнуць, набіраў паветра ў грудзі і громка, працягла гукаў: «Выганя-я-я-яй!»* (Я. Колас. На ростанях). *«Ты дзе была?» —націскаючы на «дзе», запытаў Васіль, а зеленаватыя, поўныя падазронасці вочы яго пазіралі на Аўгіню* (Я. Колас. Дрыгва). *«А я што, не маладзец? — нібы жартуючы, кінуў Рудаку Шавойка.— Дайце закурыць!» — і ён працягнуў руку па папяросу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Аднаго разу ён павольна ішоў па вуліцы, усміхаўся ў сваю рэдзенькую, сівую бародку і, па прывычцы, сам з сабою гаманіў: «Эйш ты! Гэта вам не шуні-муні. Такую прэмію атрымаў...»* (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі).

§ 1399. Прамая мова можа ўжывацца ў выглядзе рэплікі, маналога, дыялога, полілога.

Рэпліка — гэта больш-менш кароткае выказванне пэўнай асобы: *Жандар затрымаўся на якую хвіліну на лесвіцы, высунуўшы галаву на пляцоўку балкона,—яго вусы развейваў вецер. Аднекуль з задніх радоў даляцела стрыманая рэпліка: «Вусы трымай!»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён крочыць у горад. Мінае з мядзянымі соснамі бор, а шофер калгасны гукае: «Сядай на машыну, Рыгор»* (П. Панчанка. Апошні хутаранін).

Маналог — разгорнутае выказванне па адным ці (радзей) па некалькіх пытаннях. Яно можа быць выклікана дзеяннямі, паводзінамі, разважаннямі якой-небудзь асобы, тымі ці іншымі падзеямі, з'явамі і г. д. Часцей за ўсё маналог з'яўляецца адказам на прапанову субяседніка выказаць свой пункт погляду на пэўную з'яву, падзею, асобу і г. д. У гэтым відзе прамой мовы сустракаюцца складаныя сінтаксічныя канструкцыі, рытарычныя пытанні. Маналог бытуе як у гутарковай, так і ў кніжнай мове.

*— Дык што ж цяпер?*

*— А цяпер тое, што мы, уся, значыцца, вёска, да рэвалюцыі не выплацілі ўсяго ім за зямлю. А як прыйшла рэвалюцыя, дык мы і плаціць пакінулі. На чорта тады плаціць, калі да таго ісці павінна было, што зямля і так пад народ павінна была пайсці. Гэтак і было, мы такі заселі былі з маёнтка кавалак зямлі, і нам ніхто слова не сказаў. Памаглі нават яшчэ. А чаму? А таму, што гэта ўжо была другая рэвалюцыя.*

*Ой, які быў час! Тады ў нашым горадзе за старшыню рэўкома быў наш чалавек — Адась Гушка. От ён усё гэтак і накіроўваў, каб усе правы рэвалюцыя нам давала. Сурвілу і Мазавецкаму мы, значыцца, пакінулі адробліваць. І так папарабілі! Панскі маёнтак, што яшчэ астаўся ў яго як радавітае котлішча, зачапілі. Усе мы там гуртам былі. Сам пан ледзьве паспеў пяты падмазаць* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

§ 1400. Дыялог — гэта абмен выказваннямі паміж некалькімі асобамі (размову больш чым дзвюх асоб часам называюць полілогам). Гэтыя выказванні могуць ці выклікацца адно другім у працэсе маўлення ці проста ісці адно за другім. Рэплікі першага тыпу ўтвараюць так званыя дыялагічныя адзінствы. Рэплікі, якія не звязаны паміж сабою, але ідуць адна за адной або вымаўляюцца адначасова, складаюць паралельны дыялог. Апошні ўжываецца даволі рэдка.

*«Не было яшчэ нашых?»—«Не».—«А лодка?»—«Стаіць у кустах».—«Колькі вас?» — «Чацвёра»* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *«Дык вось, Асенька, вакол нашага лесу стаяць партызаны. Не такія, як твой Анатоль, а сапраўдныя — нашы бацькі, браты і сёстры, з сапраўднымі аўтаматамі і вінтоўкамі. Яны абараняюць нас, яны знішчаюць фашыстаў, а мы тут — вучымся».— «Самалёт!» — зноў не вытрымаў Анатоль* (Я. Брыль. Зялёная школа). *У пакой убегла група дзяўчат-работніц. Расчырванелыя твары былі ўсхваляваны, устрывожаны. «Таварыш Быстрова!» — «Таварыш Быстрова!» — «Ты толькі падумай...» — «Гэта ж чорт ведае што...» Усе гаварылі разам, спяшаліся, кожнай хацелася як мага хутчэй давесці ўсю справу* (М. Лынькоў. Маладосць). *Часам сустрэўшыся, яны так ці іначай завядуць гутарку пра Сайку. «Нешта ж не чуваць нашага Сайкі»,— гаворыць войт і ўважліва пазірае ў вочы Брую. Бруй бачыць, што войту не церпіцца. «Не чуваць»,— пацвярджае разважлівы Бруй. «Не чуваць падлы»,— паўтарае Бірка. «Што б гэта значыла?» — войту хочацца ўсё ж дайсці прычыны. «Справа, бачыш ты, далікатная,— становіцца на шлях разважання разважлівы Бруй.— Вы пастаўце сябе на яго месцы — хутка і не зробіш тут. Гэта не тое, што ўзяў цэп і пайшоў малаціць».— «Ды і цэп узяўшы, адразу малаціць не будзеш», — устаўляе слова і Бірка* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1401. У дыялогу, асабліва ў другой рэпліцы, шырока ўжываюцца няпоўныя, незакончаныя, неразвітыя сказы. Гэта абумоўлена асаблівасцямі непасрэднага абмену выказваннямі і ўзаемазвязанасцю рэплік. Сэнс рэплікі нярэдка зразумелы дзякуючы веданню абставін, пры якіх адбываецца гутарка, жэстаў субяседніка, інтанацыі і г. д. Першая рэпліка можа як бы дадаваць члены сказа або часткі сказа, якіх няма ў наступнай рэпліцы: *«Чыя гэта пасада? Хто жыве тут?» — запытаў настаўнік. — «Гэта? А тут пан каморнік жыве»* (Я. Колас. На ростанях). *«Куды ты, Каця, ідзеш?» — «Гуляць».— «А дзе сёння гуляюць?» — «Ды ў Дзям'янавых»* (В. Каваль. Сіняя восень). *«А ці далёка вам ехаць?» — «Вёрст сорак»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Чаго ты прыйшоў?» — «Чаго і раней прыходзіў»* (К. Чорны. Звяга).

У дыялагічным адзінстве з трох рэплік трэцяя рэпліка нярэдка з'яўляецца адказам на пытанне (другая рэпліка), якое патрабуе ўдакладнення, тлумачэння і г. д. Гэта трэцяя рэпліка часта выступае як бы дададзенай часткай да першай рэплікі: *«Я вырву яе* [грушку] *і выкіну».— «Чаму?» — «Бо яна такая ж калючая і дзікая, як я»* (Я. Колас. На ростанях). *«Ну я чуў...» — «Што ты чуў?!» — «Як чыталі Толікаў ліст...»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Сустракаліся».— «Дзе?» — «Як са станцыі ішла»* (П. Кавалёў. Аповесць пра добрае сэрца).

У рэпліцы можа быць і дададзеная частка складанага сказа з надзвычай скарочанай галоўнай: *«А табе, браце, нядоўга тут спяваць»,— звярнуўся да Алеся Лапо. «Чаму так?» — здзівіўся Алесь і раптам збялеў.—*

*«А т а м у, што парашылі цябе перавесці начальнікам новай будоўлі...»* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Другая рэпліка можа перарываць першую ці быць яе працягам. *«Кожная снасць павінна быць на месцы, як на караблі. Аднойчы, яшчэ ў японскую кампанію, калі быў я матросам на ваенным...» — «Ты, матрос, вазьмі-тка лепш цэбар, ды вынесі памыі...»* (М. Л ы н ь к о ў. Дзед Аўсей і Палашка). *Яна засмялася ўголас, і твар яе ад гэтага зрабіўся прыгажэйшы. «Я ніколі не думала, што ты такі...» Яна яўна не скончыла думкі, і я пажартаваў: «...Нізкі і тоўсты»* (І. Ш а м я к і н. Непрыгожая?). *«Мне не так лёгка далася новая спецыяльнасць...» — ён змоўк. «Каб так лёгка яе кінуць»,— дадаў Кавалеўскі* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Лясная быль).

У другой рэпліцы часта паўтараюцца словы ці выразы з першай рэплікі. Гэтыя словы нярэдка служаць адказам на пытанне першага субяседніка: *«Воліч уцёк?» Халіма коратка адказаў: «Уцёк».— «Гэта — Карл Іванавіч Шэмпель?» — «Карл Іванавіч Шэмпель». — «Ты яго памочнік?» — «Памочнік»* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *«Гэта ён зняты на фатаграфіі над камодай у Скуратовіча?» — «Ён»,— адказала дзяўчына* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Адкуль, брат, здалёку?» — «Здалёку, таварыш... Здаецца, ці не сустракаліся мы»* (М. Т а н к. Нарач).

Словы ці выразы з першай рэплікі, якія паўтараюцца ў другой рэпліцы, нярэдка выступаюць тут у зменена́й форме, з іншым значэннем ці не ва ўласцівай ім функцыі, пры гэтым яны часта субстантывіруюцца. Гэтыя словы і выразы нярэдка выступаюць як своеасаблівы сродак сувязі рэплік: *«Мама, гэта хмара?» — «Хмара».— «А хто гэта робіць хмары?» — «Самі робяцца»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Дык ты помніш, Тацяна, той вечар?» — «Чаму ж не помню... Добра помню...»* (М. З а р э ц к і. Вязьмо). *«Эх, разышоўся стары, як прафесар»,— усміхнуўся Шарэйка. «Як прафесар,— паўтарыў нездаволены Ячны.— Каб сербануў і ты за век таго, што я ці, скажам, бацька твой, таксама прафесарам стаў бы»* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *«Ты калісьці кахала мяне».— «Што калісьці было — за вадою сплыло»* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *«А дзе ж больш людзі, вас жа тады больш забралі».— «А от стары са мною прыйшоў. От табе і больш людзі»* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *«Дзе ты быў, сынку? Няхай бы ты хоць сказаў, што табе трэба пайсці, то я сам кароў бы паглядзеў. А то...» — «А то?» Што «а то»? Давай сала і хлеба, а то пайду і ўсё выкажу»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Сродкам сувязі рэплік можа быць і аднолькавая ці падобная сінтаксічная будова іх, паралелізм канструкцый. Часцей за ўсё гэта назіраецца тады, калі на пытанне адказваюць пытаннем. Адказ пытаннем на пытанне сустракаецца і пры адсутнасці паралелізму канструкцый. *«Здаецца, як бы я цябе дзесь бачыў»,— Цімох зноў паглядзеў на Сайку. «Можа і я цябе дзесь бачыў»,— і Сайка таксама паўглядаўся ў Цімохаў твар, падкрэсліўшы слова «дзесь». «А дзе было гэта «дзесь»?» — запытаўся Цімох* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«Пытаюцца, дзе леташняе збожжа схавана. От цікава, ці знойдуць, ці не?» — «А хіба яно дзе схавана?» — «А хіба ты не ведаеш?»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Ну што, баіцёся мяне?» — з усмешкай спытаўся Мікола. Косцік глядзеў на яго адкрыта, не прадбачачы ніякай бяды. «Чаго ж мы вас будзем баяцца?» — адказаў ён пытаннем. «А ён вось баіцца».— паказаў Мікола на меншага. Шурка глядзеў з-пад ілба, аднак і ён сказаў: «Не-а. Чаго ж мы вас будзем баяцца?»* (Я. Б р ы л ь. Праведнікі і зладзеі). *«Кажуць, у вас электрастанцыю сёння ўзарвалі?» — «Хіба мы горшыя за іншых людзей?» — пытаннем на пытанне адказаў стары* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

§ 1402. Ёсць некалькі спосабаў спрашчэння дыялога. Адзін з іх за-

ключаецца ў тым, што аўтар ці той, хто гаворыць, не перадае рэплікі другой асобы, а проста адзначае, што гэта рэпліка была. Робіцца гэта ў тых выпадках, калі загадзя вядома, што магла сказаць другая асоба, або калі гэта рэпліка не мае цікавасці для чытача ці слухача: *Сустрэчныя хутаране з цікавасцю глядзелі на вянкі грыбоў, часамі хто-небудзь не мог змоўчаць, выказваў уголас сваё здзіўленне: «А! Ото ж грыбкі! І так рана з'явіліся! І дзе вы назбіралі іх?» Настаўнік адказваў, нічога не ўтойваючы* (Я. Колас. На ростанях). *Ніна раптам спыніла сваю работу (яна нешта шыла) і сур'ёзна яго запытала: «Колькі ў вас зямлі?» Ён адказаў. «Колькі вы збіраеце хлеба?» Ён адказаў таксама* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *«А які нумар дома вам патрэбен?» Мы зразумелі, што пад'язджаем. Адказалі* (М. Лынькоў. «Не палітык»).

Рэплікі другой асобы могуць падавацца не самі па сабе, а паўтарацца першай асобай. Такім чынам у выказванні аднаго субяседніка перадаюцца і рэплікі другога субяседніка. Стражнік (да рыбака): *Ты з некім гаварыў? З суседам?.Гаварыў пра пашу? Чаго ён поўзае ў будні дзень?* (М. Танк. Нарач). *«Што, мужык на працы? Кажаш, у астрозе? Дзесяць год далі?!» — «Спі, засні, саколік!» — быццам дождж гарачы, так з вачэй у маткі слёзы паплылі* (М. Танк. Песня кулікоў). *Я чую яго радыёразмову з брыгадзірам трактарнай брыгады. «Які трактар? Што здарылася? Шасцярня каробкі перадач? Колькі стаіце? Тры гадзіны ўжо? Вы што гэта? Шукалі прычыну? Колькі яе можна шукаць? Недаравальна! Хто прыедзе? Я прыеду! Так, так, сам прыеду, разбяруся! Трактар павінен быў працаваць, я яго тры дні назад аглядаў! Што значыцца — усё можа быць! Такія выпадковасці бываюць толькі ў людзей нядбалых ці няўмелых»* (І. Шамякін. Галоўны інжынер).

Радзей апускаецца першая рэпліка. Той, хто гаворыць, у гэтым выпадку коратка перадае яе змест: *Неўзабаве мне прыйшлося быць у адным з аддаленых раёнаў вобласці, і я ўспомніў, што іменна ў гэты раён і паехаў той Смак, пра якога гаварылі на партактыве. Я спытаў пра яго ў сакратара райкома. «Смак? — ён горка ўсміхнуўся.— Знаёмы ваш? Ёсць, ёсць такі... Пакуль што ёсць... Сёння робім перавыбары»* (І. Шамякін. «Падмочаны»).

§ 1403. Аб тым, каму належыць тая або іншая рэпліка дыялога, вядома ці з рэмарак аўтара, ці з папярэдняга кантэксту, ці са зваротаў, якія ўжываюцца ў рэпліках. Важную ролю ў вызначэнні прыналежнасці рэплікі пэўнай асобе адыгрывае парадак рэплік у дыялогу. *«Каб не мы, ён* [арлан] *бы схапіў каго-небудзь з баброў,— з глыбокім перакананнем кажа Віця.— Адзін з іх напэўна б загінуў! Праўда?..» — «Праўда, Віця, праўда,— пацвердзіў я.— Бабрам гэтым сёння пашанцавала»* (В. Вольскі. Родны край). *«Добры дзень, мая суседка, чарнабровая Анэтка, папрасіў мяне Сымон перадаць табе паклон».—«Шчыра дзякую, Іване, што прынёс мне прывітанне. Ты змарыўся ў полі, знаць, адпачыць са мной прысядзь»* (М. Танк. Анэтка). *Хутка Алесь і Анежка засталіся ўдваіх. «Была дома?» — запытаўся Алесь. — «Была». — «Сказала?» — «Ага...»* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Шпік раптам страціў сваю ліслівасць і зірнуў на хлопцаў з едкай падазронасцю. «Вы хто такія?» — «Як бачыце, людзі».— «Якія людзі?» — «Звычайныя»* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 1404. Сказы, што ўводзяць прамую мову, амаль заўсёды з'яўляюцца двухсастаўнымі. У іх склад уваходзяць дзеясловы маўлення і думкі або назоўнікі, блізкія па значэнню да гэтых дзеясловаў. У функцыі дзеясловаў маўлення і думкі выступаюць і некаторыя іншыя словы (гл. § 1406). Гэтыя двухсастаўныя сказы могуць быць часткай складаназалежнага ці складаназлучанага сказа. У такім выпадку частка, у якой ёсць дзеяслоў маўлення і думкі або назоўнік, блізкі да яго па

значэнню, знаходзіцца перад прамой мовай: *Ян пазірае на мужчын, слухае, як крычыць высокі: «Ідзі з поля! Не пойдзеш — касцей не збярэш!»* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Вочы — дык быццам іскры красалі, калі ён гаварыў: «Я з поўным правам, з поўнай бальшавіцкай адказнасцю павінен тут, у прысутнасці сакратара гаркома партыі, заявіць, што ў нашай партыйнай арганізацыі акапаліся гнілыя лібералы, калі не сказаць большага»* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё). *Калі Сузан запрасіў яе прайсціся які круг у танцы, яна спачатку запярэчыла, але тут жа згадзілася: «Ну добра... Раз ты хочаш, я згодна»* (М. Лынькоў. Падарунак маткі).

Прамая мова можа быць уведзена безасабовым сказам, галоўны член якога выражан дзеясловам у форме 3-й асобы адзіночнага ліку (цяперашняга ці будучага часу) або ў форме прошлага часу (ніякага роду), а таксама кароткай формай дзеепрыметніка залежнага стану. У якасці галоўнага члена гэтых сказаў часта ўжываюцца дзеясловы пачуцця ці іншыя дзеясловы, што выступаюць у ролі падобных дзеясловаў *(вырвацца, пранесціся, праплысці)*. Прамая мова тут з'яўляецца як бы дзейнікавым сказам, што адносіцца да галоўнага члена слоў аўтара: *«Гэй, расступіся!..» — чуецца* (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе). *Перад ранкам пачулася: «Вось і кусты. Недзе ён і ляжыць пад кустамі»* (У. Дубоўка. Перад іменем любові). *«Дык як жа рабіць?» — вырвалася ў кагосьці* (П. Галавач. Праз гады). *«Я вас пытаю?» — калюча, звонка пранеслася ў яе над вухам* (М. Лынькоў. Маладосць). *«Красуня якая!» — праплыло ў галаве Марціна* (І. Мележ. Гарачы жнівень). *«Так!.. Так!..» — загуло вакол* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У запісцы было напісана: «Я буду чакаць цябе да другой гадзіны на рынку»* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

Сказ, што ўводзіць прамую мову, можа быць няпэўна-асабовым: *Падышаху сказалі: «На свеце — адна! Хараство незраўнанае мае яна...»* (У. Дубоўка. Дзяўчына і кілім). *«Правільна!» — крыкнулі з залы* (І. Шамякін. «Падмочаны»).

Словы аўтара могуць афармляцца і як рознага віду няпоўныя сказы. Гэтыя няпоўныя сказы, у якіх няма выказніка, суадносяцца з поўнымі сказамі, дзе выказнікам з'яўляецца дзеяслоў маўлення і думкі. Часцей за ўсё ў папярэднім кантэксце ўжываецца дзеяслоў маўлення і думкі. Такі няпоўны сказ можа складацца або толькі з дзейніка, або з дзейніка і дапаўнення ці акалічнасці. Зрэдку няпоўны сказ, які ўводзіць прамую мову, не мае і дзейніка. *Вацік гаварыў: «Трэба адкласці спектакль». А Кастусь Гарбуноўчык: «Адкладаць спектакля не трэба. Я ведаю чалавека, які можа без рэпетыцыі...»* (С. Баранавых. Новая дарога). *«Хто ж такі?» — «Ін-жы-нер...» «Дык жа добры, — суседка ёй, — будзе ў вас зяць, яна шчасце знайшла...»* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *«Чаго ты плачаш, мама?» — «А я не плачу... — і да людзей: — добра, я астаюся тут, з імі... Я не пайду...»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Падабаешся ты мне, Мартын, — раз казала так да яго Аўгіня, а ў вачах яе іскрачкі дураслівай жартаўлівасці паблікваюць. Мартын спакойна ёй на гэта, нібы нічога не зважаючы: «І ты падабаешся мне, Аўгіня»* (Я. Колас. Дрыгва). *І раптам схамянулася, усхвалявалася. Палітыка... Звычайнае слова. Так, звычайнае. Аднак... І ўжо рэзка, неяк страпянуўшыся ўсёй постаццю, да касіра: «Слухайце, вы...»* (М. Лынькоў. Маладосць).

У сказах, якія ўводзяць прамую мову, часам ужываюцца назоўнікі, блізкія па значэнню да дзеясловаў маўлення і думкі *(голас, пытанне, крык)*. Гэтыя няпоўныя сказы суадносяцца з поўнымі сказамі, якія маюць выказнік, выражаны дзеясловамі *чуць, раздаецца* і інш. *(чуць голас, раздаецца голас, падаць голас): «А чаму ім канешне так думаць?» — падаў голас нейкі баязлівец. «Дурань ты! Чаму ім не паду-*

*жаць, што мы ім можам галовы паскручваць!» Пасля маўчання* я ш ч э г о л а с: *«Чыя чарга сёння па хлеб ісці?» Гэта ўсё іхні баязлівец старайся трымацца мірнага тону»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Мужчыны, а што ж пасля будзе, га-а?» —* н е ч ы с п у д ж а н ы г о л а с (В. К а в а л ь. На загонах). *«Куды ранены?» — пытаецца капітан. «Так і так, у галаву».* А д р а з у п ы т а н н е: *«Колькі гадоў на фронце?»* (М. Л у п с я к о ў. Валя).

Своеасаблівую групу складаюць сказы з дзеясловамі-выказнікамі, у якіх ёсць даданыя члены, што павінны былі б адносіцца да дзеяслова маўлення і думкі, але апошняга няма: *Сцёпа слухаў такую гаворку* і р а п т а м: *«Дзядзька! Тут, на Вераб'ёўцы, ніякай дарогі на Ветракі няма»* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца). *Калі Чмаруцька праяўляў такую непахіснасць перад ёй, яна змайкала. Чаго, урэшце, сварыцца залішне са сваім чалавекам? Аднаго разу прыходзіць* і п р о с т а з п а р о г а: *«Сягоння, брат ты мой, на маіх вачах нямецкі эшалон пырх — і няма яго»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Надзвычай рэдка сказы, што ўводзяць прамую мову, з'яўляюцца намінатыўнымі (ці блізкімі да іх па значэнню): *Гэта ў годы няволі было ў Беларусі Заходняй. На прадмесці глухім пачало вечарэць.* К р ы к г а з е т ч ы к а ў: *«Звесткі купіце! Сягоння камуніст і паўстанец асуджан на смерць!..» Што ты вычытаеш пра героя з газеты?* (М. Т а н к. Сустрэча). *Пара падбітых лісткоў паволі падае з клёна, доўга кружыцца над зямлёй. Крыкі, перапужаныя дзіцячыя галасы, чыйсьці стрыманы плач,* ч ы е с ь ц і т р ы в о ж н ы я п ы т а н н і, ш э п т а м: *«Што такое? Як гэта здарылася?»* (М. Л ы н ь к о ў. Недапетыя песні).

§ 1405. У большасці выпадкаў у двухсастаўных сказах, што ўводзяць прамую мову, выказнікам з'яўляюцца дзеясловы, якія маюць значэнне маўлення і думкі, ці дзеясловы, якія характарызуюць агульны змест маўлення або мэту яго.

Дзеясловы маўлення і думкі падзяляюцца на некалькі груп:

1. Дзеясловы, якія абазначаюць маўленне ці думку ў самым агульным выглядзе, указваюць на самы факт маўлення ці думкі (*казаць, сказаць, расказаць, праказаць, гаварыць, прагаварыць, апавядаць, заўважыць, заявіць, думаць, падумаць, разважаць* і інш.): *«Добра, я дагледжу вашу маці,— горача* с к а з а л а *яна і працягнула Валодзю Кастрыцкаму руку.— А цяпер ідзіце, а то я заплачу»* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *«Ну, вы ведаеце аб гэтым, пан камісар...» — збянтэжана* п р а м о в і ў *Штрыпке, усім позіркам сваім нібы ўпрошваючы Коха не вельмі спыняцца на гэтым пытанні* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Вось у нядзельку паедзем да Язэпа Гавакі і купім калодку «на кумы».—«Кажуць, у яго рука цяжкая»,—* з а ў в а ж ы ў *нясмела Кажан* (Я. К о л а с. Калодка пчол). *«Што ж гэта? —* п а д у м а ў *ён.— Спалохаўся, ці што?..»* (Я. Б р ы л ь. Марыля.).

2. Дзеясловы, якія, абазначаючы маўленне, характарызуюць разам з тым манеру маўлення, спосаб выказвання (*крычаць, шаптаць, мармытаць, мямліць, бурчаць, хрыпець, гудзець* і інш.): *Ён выедзе досвіткам сінім араць свой загон на зары. «Давай узару за хвіліну!» —* к р ы ч ы ц ь *малады трактарыст* (П. П а н ч а н к а. Апошні хутаранец). *«А чаго такога?» —* п р а л а п а т а ў *шапялява Шавойка* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *«Прайду кажа стары, —* с к р ы п е л а *яна з пасятлелым ад радасці тварам, — ён бацька, яго трэба слухаць»* (Я. Б р ы л ь. Праведнікі і зладзеі). *«Маглі б ужо і не турбаваць такога чалавека»,—* б у р к н у ў *Лазарэвіч, вешаючы ў пярэдняй капялюш* (М. П а с л я д о в і ч. З табою побач).

3. Дзеясловы, якія ўказваюць на сувязь прамой мовы з кантэкстам, на характар працякання маўлення (*адказаць, загаварыць, дадаць, пачаць, перарваць, працягваць, падхапіць, паўтарыць, закончыць, уставіць* і інш.): *Сіняўская вінавата паглядзела на яе і засмяялася: «Гэта*

*я па звычцы,— п р а ц я г в а л а яна,— аэрадром і аэрадром... А да вайны, я ж кажу, тут паляначка з пятак была»* (А. К у л а к о ў с к і. Хараша ўзыходзіць сонца). *«Э-не...— п е р а б і ў яго раптам Мікіта Мігай.— Гэта што ты бег. У майго бацькі некалі былі валы,— да чаго ж былі спрытныя!»* (В. К а в а л ь. Шчасце Сілівея Зязюлі). *«Будзем знаёмы,— сказала Прося,— трактарыстка Налівайчык».— «Вельмі прыемна,— а д к а з а ў Пятрок,— трактарыст Ларывончык. Дык вунь вы якая! А я думаў...»* (Р. С а б а л е н к а. Дзяўчына з Грушава). *«Яны ж* [пчолы] *кусаюцца»,— пачулася з-за грубкі. «На салодкае пацягнула»,— у с т а в і ў дзядзька Карп* (Р. С а б а л е н к а. Гасцінец).

Вялікую групу складаюць дзеясловы, якія ўказваюць на агульны змест маўлення, характарызуюць мэтанакіраванасць выказвання (*апраўдвацца, вучыць, вырашыць, дазволіць, загадаць, запратэставаць, зваць, згадзіцца, іранізаваць, камандаваць, меркаваць, навучаць, напомніць, падбадзёрыць, падтакнуць, папракнуць, папярэдзіць, параіць, патрабаваць, пацвердзіць, пераконваць, прасіць, растлумачыць, упрошваць, хвастаць* і інш.): *«Так, так, Янка!» — п а д т р ы м л і в а л і яго суседзі* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў). *«Малайчына ты,— п а х в а л і ў ён Агея,— зрабіў такое для вобчаства, што другі б не змог. Кааперацыя — важная штука для нас...»* (В. К а в а л ь. Ліпы). *«Ёсць і корм для каровы і міскі для малака»,— н а в у ч а ў, выпраўляючы іх да прысад, да бяроз* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *«А што ж,— з г а д з і ў с я Лапінка,— я таксама ўжо «брат прыбліжоны...» Чакаюць яны, чакаюць, пакуль я паверу ды хрысціцца пайду, а я ўжо чацвёрты гадок хаджу перадойкай»* (Я. Б р ы л ь. Праведнікі і зладзеі). *«Гэта мы, сынку, гасцей паклікалі,— р а с т л у м а ч ы л а маці.— Нельга ж без гасцей»,— і зноў пабегла ў сенцы* (М. Л у п с я к о ў. Людзі прагнуць). *«Вы вось сюды, да печы, тут цёпла»,— з а п р а ш а ю ц ь мяне* (Р. С а б а л е н к а. Іду ў жыццё). *«Не, так не можа быць,— з а п я р э ч ы ў Язэп, робячы націск на слове «так».— Так і ў нас ніколі не было»* (А. Ш а ш к о ў. Абуджэнне).

Да гэтай жа групы па сутнасці адносяцца і дзеясловы тыпу *пытаць, спытаць, запытаць: Потым Лясніцкі з а п ы т а ў у яго: «Дзе ваш атаман?» Хлопец зразу, не задумаўшыся адказаў: «Ён, мусіць, забіт ці паранен — з намі яго няма»* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *«Ты — адзін?» — з а п ы т а ў с я асцярожна незнаёмы чалавек. «Адзін і не адзін: са мной стрэльба»* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«А што такое?» — як бы нічога не ведаючы, зноў жа абыякава п а ц і к а в і ў с я Самусевіч* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

§ 1406. У функцыі дзеясловаў маўлення і думкі могуць выступаць і іншыя дзеясловы. Сказы з дзеясловамі, якія не маюць значэння маўлення і думкі, не патрабуюць самі па сабе абавязковага ўвядзення прамой мовы, але асаблівасцю іх з'яўляецца тое, што ў такіх сказах можна заўсёды дадаць дзеяслоў маўлення і думкі, які б уводзіў прамую мову (параўн.: *Хлопчык падняўся: «Ну, я пайду» — Хлопчык падняўся і сказаў: «Ну, я пайду»*).

Дзеясловы, якія ўжываюцца ў функцыі дзеясловаў маўлення і думкі, падзяляюцца на дзве групы:

1. Дзеясловы, якія абазначаюць эмоцыі, пачуцці, указваюць на ўнутраны стан таго, хто гаворыць (*абрадавацца, засаромецца, здзівіцца, мучыцца, пакрыўдзіцца, раззлавацца, спалохацца, трывожыцца, узрадавацца, устрывожыцца, хвалявацца, ажывіцца, заспяшацца, ускіпець, разгубіцца* і інш.).

2. Дзеясловы, якія абазначаюць міміку, жэсты, рухі, указваюць на дзеянні таго, хто гаворыць (*усміхнуцца, засмяяцца, уздыхнуць, пазяхнуць, смяяцца, плакаць, прыжмурыцца, скрывіцца, нагнуцца* і інш.).

*«Як добра ў полі на прыволлі, калі з зямлі сходзіць снег!» — з а х а п л я ў с я Лабановіч веснавым прасторам зямлі* (Я. К о л а с. На

ростанях). *Кацярына н е с т р ы в а л а: «Паглядзіце на яго, гэты гад забраў нямала і Міколы і майго»* (П. Б р о ў к а. Кацярына). *«Трыццаць пяць кілават гэта, праўда, няшмат»,— ш к а д а в а ў сакратар асцярожна* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Жыта ў полі пажата, і тыдзень другі настае, і н е ц е р п і ц ц а брату: «Аддайце цымбалы мае!»* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *А падружкі р а з з л а в а л і с я: «Ты, Марылька, здрадніца...»* (П. П а н ч а н к а. Ад'езд маладой). *«Ай-ёй,— с п а л о х а л а с я яна,—разбудзіла. Ты паспаў бы з дарогі, а я...»* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Бацька ўстаў і абуваўся, зірк — Алесь у хаце! Бацька толькі з а с м я я ў с я: «Ты ўжо дома, браце?»* (Я. К о л а с. Першы заработак). *Клямт н а х м у р ы ў с я: «Келер, ім трэба чысціць адзін аднаго шваброю...»* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Скуратовіч а д ч ы н і ў кубел: «Бяры сала, от гэты кавалак»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Самалёт ён вокам з м е р а ў: «Чорт яму тут вельмі й верыў, спакайней было б на концы»* (К. К р а п і в а. Хвядос — Чырвоны нос). *«Глядзі, глядзі, а во ён* [бабёр]*!» — п р ы ў с т а ў над лодкай Толя* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

§ 1407. Прамая мова можа адносіцца да спалучэння дзеяслова з назоўнікам. Назоўнікі, што ўваходзяць у такое спалучэнне, блізкія па значэнню ці па ўтварэнню да дзеясловаў маўлення і думкі. Іх можна падзяліць на тыя ж групы, што і дзеясловы маўлення і думкі. Часам спалучэнне складаецца з дзеяслова маўлення і думкі і назоўніка, блізкага па значэнню да такіх дзеясловаў (*адказ, бас, вокліч, гаворка, голас, гутарка, думка, енк, запытанне, заўвага, каманда, крык, наказ, пытанне, слова, тон, чутка, шэпт* і інш.). Гэтыя назоўнікі без дзеяслова для ўвядзення прамой мовы ўжываюцца вельмі рэдка. *Але якразураднік азірнуўся і п а д а ў г о л а с: «А вы што ж, Андрэй Пятровіч? Хадзем у хату!»* (Я. К о л а с. На ростанях). *«Чуў, Кузьма Іванавіч?»— т о н к і м г о л а с а м з а к р ы ч а ў ён без ніякай прадмовы* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Затор на дваццатым). *Ён аж адышоўся, небарака, у кут, падбіраючы патрэбнае слова. Нарэшце-такі ён п а д а б р а ў гэтае с л о в а: «Туман быў. Туманок, значыцца»* (К. Ч о р н ы. Звяга). *Яна аж уздрыгнула, калі п а ч у л а в о к л і ч: «Анэля!»* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Анэля). *Чалавек а з в а ў с я афіцыйным т о н а м: «Чым магу быць карысным?»* (М. Л ы н ь к о ў. Прыгоды з чамаданам). *«Кыш!— раптам п а ч у ў с я ў сенцах грозны б а с дзядзькі Антося.— Кыш, арлаты на вас няма, каб вы...»* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Салдат п у с ц і ў с я з хлапчуком у г а в о р к у: «Што ты тут робіш?» — «Каня пасу»* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Абапіраючыся на аўтамат, Цімошкін ускарабкаўся па адхону, і з самае яго душы як стогн в ы р в а л і с я д а к о р і п ы т а н н е: «Нашто ты ішоў, Ваня?»* (В. Б ы к а ў. Здрада). *Абвіслыя вусы варухнуліся, з-пад іх в ы л е ц е ў прыглушаны а д к а з: «Я не ведаю ніякіх Апчакоў...»* (М. Л ы н ь к о ў. Выпадак на чыстцы). *На вуліцы п а ч у л а с я асіплая к а м а н д а: «Па конях!»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Па натоўпу хваляй п р а й ш л і г а л а с ы: «Б'юць!» — «Зноў б'юць іх!» І бездапаможны жаночы к р ы к: «Эх, людзі вы мае, што ж гэта такое?!»* (П. Г а л а в а ч. Носьбіты нянавісці).

§ 1408. Прамая мова можа ўводзіцца не дзеясловам, а дзеепрыслоўем, якое адносіцца да дзеяслова-выказніка. Пры дзеепрыслоўі часам знаходзіцца назоўнік, блізкі па значэнню ці па ўтварэнню да дзеясловаў маўлення і думкі. Гэтыя дзеепрыслоўі ўтвараюцца ад розных дзеясловаў, якія ўказваюць на маўленне і думку: *Смяяўся і сам Садовіч, пры гэтым ён штурхануў у карак Янку Тукалу, с к а з а ў ш ы: «А няхай ты згары!»* (Я. К о л а с. На ростанях). *Ён ішоў, р а з м а ў л я ю ч ы сам з сабой: «Хто б гэта мог падлу выцягнуць? Здаецца ж ні ў кога... А можа воўк здох?»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Дзед маланкай сігануў*

*з бочкі,* п р а ш а п т а ў ш ы *Палашцы: «Ратуйся ў кусты, пакуль не позна, іначай прапалі мы, прапала і кабыла...»* (М. Л ы н ь к о ў. Дзед Аўсей і Палашка). *Ён неахвотна падаў руку,* б у р к н у ў ш ы: *«Зачэпа... Сідар»* (А. А с т а п е н к а. Сыну майго сына). *Той незадаволена адступіў,* м а р м ы ч у ч ы: *«Я таксама адзін»* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Яна прыхінулася да яго грудзей і зноў пачала ўсхліпваць, ледзь* в ы г а в о р в а ю ч ы *словы: «З Казлоўшчыны я. Пагарэлі мы сёлета...»* (А. А с т а п е н к а. Сыну майго сына).

Зрэдку прамая мова ўводзіцца кароткай формай дзеепрыметніка: *Друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі)* н а п і с а н а: *«Рубановіч, усё будзе добра, выедзь з нашага калгаса куды далей і жыві сабе на здароўе. Калі не — дык табе ж дрэнна будзе»* (К. Ч о р н ы. Звяга). *«Даўно* с к а з а н а *ў свяшчэнным пісанні: «Калі цябе вытнуць у левую шчаку, падстаў і правую...»—«Гэта, бацюшка, пастарэла і да цяперашняга часу не стасуе»,— усміхнуўся іранічна Няслаўскі* (Р. М у р а ш к а. Сын).

§ 1409. Прамая мова можа ўключацца ў кантэкст без рэмаркі. Аб тым, каму яна належыць, сведчыць папярэдні або наступны аўтарскі выклад ці змест самой прамой мовы. У гэтым выпадку няма канструкцыі з прамой мовай, але чужое выказванне, уведзенае без слоў аўтара, усё роўна ўспрымаецца як прамая мова: *Вось нечакана спыніўшыся, маці азірнулася на свайго хлопца, які, таксама з сярпом на плячы, пачціва ішоў ззаду, запавальняючы хаду, па-пастушынаму «клюючы» салодкі жытні каласок. «Глядзі, Васіль, як ён упяўся... Эх! Трымайся, нябога, стой!» Сын перастаў на момант «кляваць», зірнуў у той бок, куды яна паказвала* (Я. Б р ы л ь. Маці). *Вось замаячыў нечы цень. «Стой, хто ідзе?..» Няма нікога. Чарнее слуп каля дарогі, ды снег мяцеліца мяце* (М. Т а н к. У завею). *Даіграў гарманіст, коні сена даелі... «Прабачай, мой сынок, частавалі, чым мелі». Пыл страсае з шынелі, засмучона глядзіць і не ведае, родная, чым дагадзіць* (П. П а н ч а н к а. Маці).

Такім чынам аформленая прамая мова можа быць уведзена ў тэкст і ў якасці пабочнага сказа, але сустракаецца гэта вельмі рэдка: *З райкома, не заязджаючы да Бабейкі («Ах, тып гэты ненавісны, як падвёў мяне!»), Вайчок паехаў да аднаго старшыні калгаса, сябра яшчэ па партызанах* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая). *І мне па знаёмству суюць гадзіннік («Такі гадзіннік на свеце адзіны!»), а мне што? Да вуха — ды слухай* (П. П а н ч а н к а. Беластоцкія вітрыны).

§ 1410. Прамая мова можа ўваходзіць у тэкст, які сам з'яўляецца прамой мовай, гэта — у к л ю ч а н а я п р а м а я м о в а. Такім чынам афармляюцца не толькі паасобныя рэплікі чужога выказвання, але нават дыялогі. Уключанай прамой мовай могуць быць і рэплікі той асобы, якая перадае сваю гутарку з другім субяседнікам. Асаблівасцю канструкцый з уключанай прамой мовай з'яўляецца тое, што тут больш часта, чым у іншых выпадках, ужываюцца неразвітыя рэмаркі таго, хто перадае сваё ці чужое выказванне (тыпу *кажа, кажу, сказаў, пытаю, адказвае,* радзей з займеннікам — *я кажу, ён кажа* і інш.). Калі перад прамой мовай знаходзіцца дзеяслоў, які прама не ўказвае на ўвядзенне чужога выказвання, то ў прамую мову ўкліньваецца неразвітая рэмарка. Часта па сутнасці атрымліваецца падвойнае ўказанне на акт мовы. *«Дык, значыцца, — гаварыў сваё Алесь, — закончылі мы план, а дырэктар выклікае Валодзю ў кантору і кажа: «Калгас імя Будзённага зноў з сяўбою адстаў, выручай». «Што ж, — думае Валодзя, — брыгады гэта не нашай, ды справа, вядома, адна». Увечары яшчэ пабег да старшыні. «Насенне, — кажа,— каб было гатова». Точна ўсё, як заўсёды. А ўранні мы — ні свет яшчэ, ні світанне — прыязджаем у тыя адсталыя Стрэльнікі...»* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). [Чмаруцька:] *Ну і ўзлаваўся пасля Савеліч. Носіцца, як ачмурэлы, па пуцях, ды дзе ў цэхім кутку як лясне, брат ты мой, па вагоне, дык з таго аж буксы ляцяць, ды ў вагоне ўсё*

*ходарам. Я то, канешне, з свайго вугальнага бачу ўсё, пасміхаюся сабе ў вус. Ды і ён пасля смяяўся: паравоз, кажа, мой патрабуе цяпер капітальнага пасля такой працы. Я, канешне, яму кажу, бачыў тваю выдатную працу. Ён аж узлаваўся быў на мяне: у цябе, кажа, язык задоўгі, глядзі, калі што, прышчамлю буфярамі, не пагляджу, што ты Чмаруцька. Я яму, зразумела, у адказ, ты, кажу, Чмаруцькі дарма не абражай, а справу сваю рабі як лепей. І Чмаруцьку, кажу, будзе весялей, калі ты старацца будзеш. Як гэта — узгарэўся аж — старацца? Ды старайся, кажу, па-нашаму, як і ўсе дэпоўцы стараюцца... Гаворым, вядома, смяемся. З фашыста, значыцца, смяемся, што няма яму ніякага ходу, каб нашага брата да зямлі прыціснуць...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Дзеясловы маўлення і думкі пры такім ужыванні па сваёй функцыі блізкія да пабочных слоў. Аб гэтым яскрава сведчыць і спрашчэнне, якое адбываецца з дзеясловам *кажа* ў гутарковай мове *(каа)*. Такое вымаўленне знаходзіць часам адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры: *«Гэта хаханькі, — гаворыць першы, — к а' а, бога няма, папа не трэба, жывем мы, к а' а, не гэтак, як трэба»* (К. Ч о р н ы. «Дзякуй богу, як шклянка»). [Гаспадар] *«Як спыталі бабы пра смятанку ды маселка, каб варыва хоць забяліць, канешне, каб аладку ў святы дзень памазаць, дык ён і сказаў: забудзьцеся, к а' а, бабкі на смятанку ды маселка...» — «Ды што ён, здурнеў? Гэта глупства, бязглуздзіца! Не можа быць, каб ён такое казаў!»* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах).

Чужое выказванне, аформленае як прамая мова і ўключанае ў іншую прамую мову, часта перадаецца не дакладна, а прыблізна, аб гэтым нярэдка сведчыць спалучэнне *так і так. «Раз'езд звоніць сюды — т а к і т а к, сабачка, значыць, у грапа* [графа.—*Б. Л.*] *прапала... дайце жазла... назад, значыць, ехаць...»—«Ну і як жа выйшла?» — «Ды так... знайшлі тую шчэнь ды на паравіку адправілі — гаспадара даганяць»* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *«Няхай сабе і так, — згадзіўся Карней. — Адпачывай на здароўе. А скажу сваім: прыехаў, т а к і т а к, Агей Ніканаў... Усяго добрага!»* (В. К а в а л ь. Ліпы).

З а ў в а г а. Падобнае ўказанне на прыблізную перадачу чужога выказвання сустракаецца і не ва ўключанай прамой мове: *«Т а к і т а к, містэр Лаяна, пенсію вы атрымоўваеце не такую ўжо вялікую (ну, магчымы сякія-такія прыбыткі...), але ж ваш уклад у банку далёка, далёка перавышае ўсе вашы фінансавыя магчымасці. Ці не сказалі б вы, паважаны містэр, адкуль узяліся гэтыя грошы?»* (М. Л ы н ь к о ў. Містэр Лаяна).

§ 1411. Словы аўтара займаюць рознае месца ў канструкцыі з прамой мовай. Яны могуць знаходзіцца перад чужым выказваннем, пасля яго ці ў сярэдзіне яго. Прамая мова можа разрываць сказ, што ўводзіць яе, быць у сярэдзіне гэтага сказа.

Парадак слоў у сказе, што ўводзіць прамую мову, залежыць ад месца яго ў канструкцыі. Калі гэты сказ папярэднічае прамой мове, то ў ім назіраецца, як правіла, прамы словапарадак. Паміж прамой мовай і словамі аўтара пры такой будове канструкцыі існуе найменшая (у параўнанні з іншымі выпадкамі) інтанацыйная сувязь: *С т а р ш ы н я з в я р н у ў с я да публікі: «Можа, хто хоча выказацца?» І раптам Х а л і м а р а ў н у ў з парога: «Я хачу!..» Усе з цікавасцю азірнуліся. С т а р ш ы н я трохі пагардліва п е р а п ы т а ў: «Там нехта, здаецца, хацеў...»— «Я хацеў!..»* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Нарэшце Ірын б а ц ь к а з а п ы т а ў: «А вы адкуль самі родам будзеце?»* (Р. С а б а л е н к а. Іду ў жыццё).

Адваротнае словаразмяшчэнне ў сказах, што ўводзяць прамую мову і папярэднічаюць ёй, сустракаецца тады, калі канструкцыя з прамой мовай уваходзіць у апавядальны выклад. Прэпазіцыя выказніка тут бывае абумоўлена стылістычнымі прычынамі, а таксама ўплывам кантэксту (гл. § 981): *Арыштавалі мужыка і стрэльбу забралі. Потым ужо, як выпусцілі, с м я я ў с я К а н д р а т: «Да чаго мы, браткі, дажыліся! На*

*дзеці білет трэба браць...»* (Я. К о л а с. «Слабода»). *Адышоў ад студні дзед. Ён успомніў пра тое, што здарылася, і закрычаў ціхім надарваным голасам: «Старасту! Старасту сюды!..» За дзедам адразу, усе гуртам, з а к р ы ч а л і да кагосьці ж а н ч ы н ы: «Старасту!» — «Хутчэй старасту!»* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах). *А ў цянёк пад сасною прысеў з хлапчуком гаспадар. Пад сасною цымбалы. Вісіць аўтамат на суку. Быццам сталаму сталы т л у м а ч ы ў К у з ь м а Васільку: «Аўтамат нагатове — у рукі бяры, пацаляй...»* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал).

У сказе, што ўводзіць прамую мову і знаходзіцца пасля яе ці ў сярэдзіне яе, часцей за ўсё выказнік папярэднічае дзейніку. Словы аўтара, якія разрываюць прамую мову, вымаўляюцца з інтанацыяй, падобнай да інтанацыі пабочнага сказа (асабліва калі сказ, што ўводзіць прамую мову, неразвіты). Пры размяшчэнні слоў аўтара пасля прамой мовы канструкцыя мае структуру і інтанацыю, блізкую да структуры і інтанацыі бяззлучнікавага складанага сказа. *«У Азяркі, — ш э п ч а Д р а г у н. — Знойдзеш Валюжыча, сакратара сельсавета»* (І. Н а в у м е н к а. Сасна пры дарозе). *«Паехалі, — с к а з а ў М і х а с ь, спрытна ўскочыўшы на сядзенне трактара. — І так доўга прастаялі»* (У. Ш а х а в е ц. Месца ў жыцці). *«Таварыш Наўмыснік,— с к а з а ў Н е с ц я р о в і ч,— гэтымі днямі мы пачынаем бесперапынную кладку сцен. Не будзе ў нас прастояў з-за нястачы цэглы?» — «Не будзе», — а б а з в а ў с я дзесьці з сярэдзіны залы г о л а с* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Гм! так, так! Помню», — р э з ю м а в а ў успаміны пра былое Ц і м о х* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«А хто госцю не радуецца!»— с к а з а л а г а с п а д ы н я, спрытна выціраючы крэсла і ветліва запрашаючы сесці* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

Прамы парадак слоў у гэтых сказах ужываецца пры неабходнасці лагічна падкрэсліць дзейнік, пры супрацьстаўленні дзейнікаў. Калі словы аўтара ўказваюць на дзеянні (міміку, пачуцці) таго, хто гаворыць, або на ўражанне слухача ад сказанага, то ў іх таксама даволі часта выказнік знаходзіцца на месцы пасля дзейніка: *«Ну, дачушка, — б а ц ь к а к а ж а, — у шчаслівы пуць! Не сором сямейку нашу, добрай жонкай будзь». Маці ж той не да гаворкі, — на растанні плача горка* (П. П а н ч а н к а. Ад'езд маладой). *«Як жа бацька? Як маецца?» — я з а п ы т а ў. «Бацька,— т ы а д к а з а л а,— такі ж, як і быў. Сам ты знаеш — нямала Шайпак перажыў...»* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *«Горад будзе тут,— П а в е л А н д р э е в і ч п а к а з в а е рукой за рэчку. — Здаровае, высокае месца. Значную частку лесу можна будзе не кранаць». — Ё н п а в я р т а е твар да лесу...* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *«Як знаёма ўсё», — М а к с і м а д ч у ў нейкую прыемную цеплыню ў грудзях* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Дзеці кулём памчаліся ў сенцы. «Хадзем, Візмачка! Відаць, дождж будзе...» — В о с і л е н е а б н я л а дзяўчынку за плечы, павяла ў хату* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *«Ці не зможаце вы ўладзіць на начлег гэтых людзей?» — нечаканае Цыліна п ы т а н н е вельмі з д з і в і л а мяне* (А. А с т а п е н к а. Сыну майго сына).

Калі прамая мова знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, што ўводзіць яе, то перад гэтым чужым выказваннем звычайна ўжываюцца дзеясловы маўлення, назоўнікі, блізкія да іх па значэнню або ўтварэнню, ці дзеепрыслоўі, утвораныя ад дзеясловаў маўлення і думкі: *Назаўтра Лукаш ізноў стаў на сярэдзіне вуліцы, на гэты раз бліжэй да кватэры настаўніка, і на ўсю моц з а г у к а ў: «Выганя-я-яй!.. Паніч, выганя-я-я-яй!»—і некалькі разоў ляснуў, як з пісталета, пугаю* (Я. К о л а с. На ростанях). *Калі застанецца апошняя куля ў маім парабелуме і ворагі к р ы к н у ц ь: «Здавайся, адрэзалі ўсе мы шляхі!» — я сцісну мацней рукаятку рукой агрубелаю і ўспомню, як клёны дрыжаць ад рыданняў глухіх* (П. П а н ч а н к а. Апошняя куля). *Урэшце ён кінуў некалькі грэблівых с л о ў:*

*«Я не збіраюся рабіць перад вамі справаздачы!»* — *і яўна наважыўся пайсці далей* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У канцы адзін дзесяцкі вырваўся з гэтай кучы, паплявау на рукі і,* скамандаваўшы *сам сабе: «Ну, Сымон! вазьмі папраўдзе!», згроб і стражніка і «сіцыліста», падняў іх «на жывот», потым спрытна падставіў ножку і абдажыў абодвух* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *А Пашкевічус, прывёўшы Парэчкуса і* загадаўшы: *«Стой, гад!..», звярнуўся да людзей* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Дзеяслоў маўлення і думкі ці іншыя словы, якія выконваюць яго функцыю, рэдка калі ўжываюцца ў той частцы сказа, што знаходзіцца пасля прамой мовы: *Сапраўды ён* [месяц] *узышоў тут, па-над Нараччу шырокай, сапраўды пасерабрыў ён і трысцё ўсё, і затоку, і такія перлы, чары сыпнуў на жывыя хвалі, што: «І я з табой плыву ўдаль...»* — *мне рыбачка* прашаптала (М. Танк. Месяц над возерам). *Яна яму: «Соль табе ў вочы, перац у нос»— амаль не дваццаць ці трыццаць разоў* перасказала... (З. Бядуля. Гора ўдавы Сымоніхі).

## УСКОСНАЯ МОВА

§ 1412. Канструкцыя з ускоснай мовай перадае чужое выказванне з пункту погляду і ад імя аўтара ці апавядальніка са змяненнем граматычных прымет непасрэдна сказанага. У такую канструкцыю ўваходзіць галоўная частка, звязаная сваім паходжаннем са сказам, які ўводзіць прамую мову, і адна або некалькі даданых частак, апошнія з'яўляюцца граматычнай трансфармацыяй прамой мовы, такой зменай яе, якая дае магчымасць падаваць чужое выказванне з пункту погляду аўтара. *Калі ж Лясніцкі змоўк был на часіну, яна раптам сказала, гледзячы ў змрочную далеч: «Мая маці з вёскі была... Яна любіла расказваць... і песні пела вясковыя» ... Ён успомніў быў нешта, як калісьці хадзілі яны на Дняпро, як апавядаў ён пра вёску, як яна потым успомніла маці сваю,* сказала, *што маці таксама з вёскі была, што пела яна вясковыя песні* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Выстукаўшы і паслухаўшы, ён параіў патроху гуляць на паветры, есці здаровую страву,* — *і праз два-тры тыдні хлопец будзе здаровым як належыць. «Лякарства не патрэбна ўжо»,—дадаў ён. ...На двор выйшлі Ігнась з Агапаю. «Доктар* сказаў, *Любка, што не патрэбны ўжо лякарствы! Колькі выстрадаў, сынок мой...»* (Р. Мурашка. Сын).

Структура канструкцыі з ускоснай мовай залежыць ад структуры канструкцыі з прамой мовай. Зразумела, што будова канструкцыі з ускоснай мовай, заснаванай на асобнай рэпліцы, больш простая, чым будова канструкцыі, заснаванай на разгорнутым выказванні. Больш часта ў беларускай мове ўжываюцца канструкцыі, дзе да галоўнай часткі складанага сказа адносіцца адна-дзве даданыя часткі. *І мама* сказала, *што лепш ужо яна сама не пойдзе ў кіно, але ж і дзіцяці марнаваць не будзе* (Я. Брыль. Туга). *Сакратар гаркома Тарасаў неяк у гаворцы* сказаў, *што да вайны ён і Шыковіч працавалі ў адным раёне* (І. Шамякін. Сэрца на далоні). *Цесця толькі што бачыў, той* сказаў, *што вы да нас пайшлі. Адкуль жа вы ідзяце?* (М. Лупсякоў. Людзі прагнуць).

Але сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры і ўскладненыя канструкцыі, у якіх да адной галоўнай часткі складанага сказа адносіцца некалькі даданых, прычым некаторыя з іх яшчэ маюць пры сабе іншыя даданыя часткі. *Ён пачаў яшчэ больш цярпліва* растлумачваць *Рудаку, але і не без некаторай унутранай пакрыўджанасці,* што *будаўніцтва маста пад цяжкія машыны зойме нямала часу, асабліва пры той тэхніцы і тых нявопытных кадрах, якія мае калгас, што ў сувязі з гэтым машыны, якія з дня на дзень павінны прыбыць, будуць прастой-*

*ваць,* ш т о *работу ў катлаване давядзецца пачынаць, магчыма, ужо на замёрзлай зямлі — значыць, можа, трэба будзе размякчаць яе вогнішчамі* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Пры дапамозе ўскоснай мовы можа перадавацца абмен рэплікамі паміж некалькімі асобамі. Здараецца, што ў межах адной канструкцыі з ускоснай мовай падаецца рад рэплік. *Яна напісала пісьмо Пятру і папрасіла яго прыехаць. Ён сур'ёзна* а д к а з а ў, *што баіцца гаспадыні. Саша* з а п э ў н і л а, *што гаспадыня будзе ласкавай, як добрая цешча, і жартаўліва* п а г р а з і л а, *што, калі ён не прыедзе, яна выйдзе замуж, бо да яе сватаюцца* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Неўзабаве хтосьці вясковы вярнуўся з-пад Цецераўцаў і* р а с к а з а ў, *што на ўзлеску, непадалёку ад выхаду на Цецераўскую дарогу, заўважылі чалавек дзесяць бандытаў — яны выкіроўваліся на дарогу, але пусцілі наперад аднаго: ці няма каго на дарозе. Іх абстралялі і забралі ўсіх жывых, але самага іхняга начальніка, якога даўно ўжо шукаюць, паміж імі не было. Бандытаў* з а п ы т а л і, *дзе іх начальнік, а яны* с к а з а л і, *што ён адзін уцёк з гэтага боку. А калі бальшавіцкі начальнік* з а к р ы ч а ў, *што яны або памогуць яго злавіць, або ўсіх іх зараз жа пастраляюць (а так-то могуць і даравацъ тое-сёе), то з пара бандытаў* а б а з в а л а- с я, *што найбольш блізкі к начальніку быў Ярмаліншчык, яны ўдвух і адышліся ад усіх* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Як відаць з прыкладаў, канструкцыя з ускоснай мовай можа быць шматступеннай: аўтар ці апавядальнік са свайго пункту погляду перадае выказванне персанажа, але ў гэтым выказванні ў сваю чаргу прыводзіцца ў змененым па законах ускоснай мовы выглядзе рэпліка другога персанажа. *Іра* р а с к а з а л а *мне па тэлефоне, што ўдзень да яе заходзіў Аркадзь Сякерын і запрашаў у тэатр, але яна* с к а з а л а, *што не можа, бо ўвечары павінен прыйсці я. На гэта Аркадзь* а д к а з а ў, *што я не прыйду, быццам ён ведае, што я заняты* (Р. С а б а л е н к а. Іду ў жыццё).

Каб не абцяжарваць канструкцыі з ускоснай мовай ці ў сувязі з тым, што асобныя месцы выказвання пры пераводзе ва ўскосную мову страцяць у пэўнай ступені эмацыянальнасць і экспрэсіўнасць, частка сказанага персанажам можа перадавацца як прамая мова, а частка — як ускосная мова. Гэта прамая мова знаходзіцца перад ускоснай, у сярэдзіне ўскоснай мовы ці пасля яе. *Собаль* з а п ы т а ў с я, *ці сама яна вышывае, і, пачуўшы, што сама,* п а х в а л і ў: *«Малайчына...»* (І. М е л е ж. Зямля, якую любіш). *Мікодым так улёг у сваю работу, што і не заўважыў, як яго акружылі гітлераўцы. Яго тарганулі за плечы, падхапілі за рукі і, паставіўшы пад ганкам, усё* д а п ы т в а л і с я, *дзе старшыня сельсавета... Напалоханы Мікодым* б у б н і ў *адно, што сельсавет не працуе. «Нікога няма. Няма, няма! Я адзін тутака, хату вось сцерагу. А пра справы я нічога не ведаю»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Не думай, што мы можам жыць толькі адны́мі тваімі лекцыямі ды дакладамі, —* с к а з а л а *яна пад апладысменты дзяўчат.— І андарак мы не нам дзенем!— і* п р а п а н а в а л а, *каб камітэт камсамола паслаў на добрыя кравецкія курсы Аксану — няхай навучыцца шыць модна.— Каб мы не ездзілі ў Мінск і не стаялі там у чарзе. Колькі часу дзяўчаты трацяць!»* (І. Ш а м я к і н. Модніца).

§ 1413. Галоўнай часткай канструкцыі з ускоснай мовай звычайна з'яўляецца сказ ці словы аўтара, што ў адпаведнай канструкцыі з прамой мовай уводзяць чужое выказванне. Часцей за ўсё гэта галоўная частка выражана поўным двухсастаўным ці пэўна-асабовым сказам. Ускосная мова можа адносіцца і да безасабовага, няпэўна-асабовага сказа, да адной з частак складаназлучанага сказа ці да якой-небудзь дададанай часткі складаназалежнага сказа: *Аднойчы, пад нядзелю,* ё н с к а з а ў, *што ёсць білет і што мае ён надзею... Не пайшла я на балет* (П. П а н ч а н к а. На будоўлі). *«Які чалавек?» — запытаўся Вацік.*

*«Хто яго ведае... К а ж а, што ён быў недзе на дарожнай рабоце. Атрымаў грошы, а ў яго тыя грошы ўкралі»* (С. Б а р а н а в ы х. Новая дарога). К а р н е й ч ы к. *К а з а л і ў горадзе, што панам пара пяткі падмазваць, нашы наступаць пачалі* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). *У лістоўцы п і с а л а с я, што, калі не з'явіцца ён, бацька Мірон, у гестапа, яго дзеці будуць расстраляны як заложнікі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Паскакалі трохі на адной назе, а потым Міхась с к а з а ў, што больш не хоча. «Я пайду хутка ў школу»,— паведаміў ён навіну, якую і Ганначка чула не раз* (Я. Б р ы л ь. Надпіс на зрубе). *Карова закульгавела, дык ён к р ы ч ы ц ь, што гэта я не дагледзеў* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар).

§ 1414. У якасці слова, да якога непасрэдна адносіцца ўскосная мова, часцей за ўсё выступаюць пераходныя дзеясловы маўлення і думкі. Колькасць дзеясловаў, якія ўводзяць ускосную мову, даволі абмежаваная ў параўнанні з колькасцю дзеясловаў, якія ўводзяць прамую мову. Дзеясловы, што абазначаюць жэсты, міміку, рухі, эмоцыі, пачуцці, унутраны стан, свабодна выкарыстоўваюцца ў канструкцыях з прамой мовай, але, як правіла, не ўжываюцца для ўвядзення ўскоснай мовы. Нават не ўсе дзеясловы маўлення і думкі маюць аднолькавае пашырэнне ў складаных сказах з ускоснай мовай. Да дзеясловаў, якія ўказваюць на характар працякання маўлення, яго сувязь з папярэднім выказваннем (напрыклад, *пачаць, перапыніць, працягваць*), ускосная мова звычайна не адносіцца. Дзеясловы, што абазначаюць маўленне ці думку ў найбольш агульным выглядзе *(сказаць, гаварыць, думаць)*, ужываюцца ў такіх сказах вельмі часта. *Надзя с к а з а л а, што трэба прасіць дазволу, а не лазіць самавольна ў гародчык* (І. Г р а м о в і ч. Калі паспелі антонаўкі). *Солтыс пачаў г а в а р ы ц ь, што Рэч Паспалітая хоча ўсім рыбакам памагчы рыбу лавіць невадамі... Плёў небыліцы, як п'яны, заплюшчыўшы вочы* (М. Т а н к. Нарач). *Нехта к р ы ч ы ц ь мне, што лодкі прывязываць трэба, хутчэй уцякаць з узбярэжжа, пакуль не разгневаўся шторм* (П. П а н ч а н к а. У шторм).

Але ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца канструкцыі, у якіх ускосная мова адносіцца да дзеясловаў, што выступаюць у ролі дзеясловаў маўлення і думкі. *Ляснік б о ж ы ц ц а і м о л і ц ц а, што ён нікога не хавае, што нават да яго ні адна душа чалавечая не заглядае ў гэтым гушчары. Жаўнеры лаюцца апошнімі словамі, п а г р а ж а ю ц ь бізуном і стрэльбаю, каб ён выказаў, дзе знаходзіцца гняздо паўстанцаў* (М. Ч а р о т. Свінапас). *Вечарам Зыбіну, які збіраўся ісці дамоў, п а з в а н і л і, што заўтра мае быць дэлегацыя* (І. М е л е ж. Зямля, якую любіш).

Галоўная частка зрэдку мае ў сваім складзе дзеепрыслоўную форму дзеяслова маўлення і думкі, да дзеепрыслоўя ў гэтым выпадку і адносіцца ўскосная мова. *Ён катэгарычна адмаўляў свой удзел ва Усерасійскім саюзе настаўнікаў, г а в о р а ч ы, што толькі меў намер уступіць* (Я. К о л а с. На ростанях). *Цімошкін спалохаўся, а ён толькі смяяўся, к а ж у ч ы, што ўсё будзе як найлепш, адно трэба маўчаць пра грошы* (В. Б ы к а ў. Здрада).

Ускосная мова часам адносіцца да назоўніка, які значэннем і ўтварэннем блізкі да дзеяслова маўлення і думкі. *І раптам, як гром, т э л е г р а м а, што думаеш ты затрымацца, заехаць да цёткі, да мамы на дзён можа дзесяць, пятнаццаць* (М. Т а н к. Чакаючы). *А праз некалькі дзён па вёсцы пранеслася ч у т к а, што лесніка клікалі ў горад і звольнілі з пасады* (В. К а в а л ь. Жніво).

§ 1415. Даданыя сказы, у якіх ускосным чынам перадаецца чужое выказванне, па характару сінтаксічных адносін з галоўнай часткай могуць быць даданымі дапаўняльнымі, азначальнымі, дзейнікавымі. Часцей за ўсё ўскосная мова афармляецца як даданая дапаўняльная частка, якая адносіцца да дзеяслова маўлення і думкі галоўнай часткі.

Ускосная мова, што адносіцца да назоўніка галоўнай часткі, пераважна з'яўляецца дададнай азначальнай часткай. Калі ў галоўнай частцы безасабовы сказ, то дададная частка з ускоснай перадачай чужога выказвання звычайна выражаецца дзейнікавым сказам. *Нарэшце «кухар» а б'я в і ў, што рыба гатова, можна есці* (А. Ш а ш к о ў. Лань — рака лясная). *Давалася яшчэ п а р а д а, каб бацька не прадаваў цяляці ад чорнай каровы, а каб гадаваў* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *С к а з а н а б ы л о толькі тое, што яе пазваў яшчэ нехта ранены* (А. К у л а к о ў с к і. Сустрэчы на ростанях).

§ 1416. Сродкі далучэння дададнай часткі з ускоснай мовай да галоўнай часткі залежаць ад характару адпаведнага сказа з прамой мовай. Ускосная мова, якая ўзыходзіць да прамой мовы — апавядальнага сказа, далучаецца пры дапамозе злучніка *што*. (Параўн.: *Ён сказаў: «Заўтра я прынясу кнігу». Ён сказаў, ш т о заўтра прынясе кнігу*). *Завінуўшыся ля печы, маці сказала: «Казалі, ш т о ты папа лаяў на сваім сходзе. За што ты так?»* (В. К а в а л ь. Жніво). *Разлічыўшы, ш т о адзін казак «за пяць мінут можа забіць дваццаць пяць мужыкоў», ён сказаў, ш т о для «ўсмірэння» мужыкоў досыць будзе дваццаці казакаў* (Я. К о л а с. Бунт).

У тым выпадку, калі аўтар сумняваецца ў правільнасці чужога выказвання або наогул не згодзен з ім, ускосная мова далучаецца да галоўнай часткі злучнікамі *быццам, нібы*, а часам — спалучэннямі *што быццам, што нібы*. (Параўн.: *Ён сказаў: «Заўтра я прынясу кнігу». Ён сказаў, б ы ц ц а м заўтра прынясе кнігу*). *Казалі, н і б ы закахалася была яна ў Халіму* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Кажуць хлопцы, ш т о б ы ц ц а м і ты устрывожана нечым цяпер, нават польку ліхую скакаць аніяк не прымусяць цябе* (П. П а н ч а н к а. Лірычнае).

Пабуджальныя сказы прамой мовы ва ўскоснай мове перадаюцца дададнай часткай са злучнікам *каб*, пры гэтым замест формы загаднага ладу прамой мовы ўжываецца форма ўмоўнага ладу. Зразумела, што, акрамя гэтага, адбываюцца і адпаведныя замены асабовых форм дзеяслова і займеннікаў. (Параўн.: *Ён сказаў мне: «Заўтра прынясі кнігу». Ён сказаў мне, к а б я заўтра прынёс кнігу*). *А ты мяне клічаш, к а б я ўсё кідаў, прыязджаў, што звоняць з рэдакцый, артыкулаў, вершаў чакаюць* (М. Т а н к. Вясной). *Просіць першы сусед мой, к а б я дапытаўся дзяўчыны і аднёс гэты ліст* (А. К у л я ш о ў. Дом № 24). *Бросіль наказваў табе, к а б зайшоў да яго, як прыйдзеш* (Р. М у р а ш к а. Сын).

Ускоснае пытанне, г. зн. адпаведнік пытальнага сказа прамой мовы ў канструкцыі з ускоснай мовай, далучаецца да галоўнай часткі пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі, якія былі ў адпаведнай прамой мове. (Параўн.: *Я спытаў: «К а л і ты прынясеш кнігу?» Я спытаў, к а л і ён прынясе кнігу*). *Сустрэў па дарозе дзядзьку, што ішоў з касою. Спытаў, к о л ь к і вёрст засталося да горада* (В. К а в а л ь. Жніво). *Збянтэжаны і напалоханы маімі паводзінамі, лектар гаворыць бессістэмна і блытана, просіць студэнтаў з а п ы т а ц ь, што патрэбна тут гэтаму грамадзяніну* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне). *На чацвёртым* [паверсе] *з а п ы т а ў с я ён, крыху гледзячы ўбок, як жыву я, што чытаю, скуль я — зблізку ці здалёк* (П. П а н ч а н к а. На будоўлі).

Калі пытанне ў прамой мове выражалася толькі пры дапамозе інтанацыі або пытальнай часціцы *ці*, то ўскоснае пытанне далучаецца злучнікам *ці*. (Параўн.: *Я спытаў: «Заўтра ты прынясеш кнігу?» Я спытаў: «Ці прынясеш ты заўтра кнігу?» Я спытаў, ці прынясе ён заўтра кнігу*). *Аднекуль падбег дробны на вока чалавек, у лапцях, у каравых анучах, у вышмаргаваным кажушку, і з а п ы т а ў с я, ц і не ў Чарніцу гэта трэба, а калі ў Чарніцу, дык ці не на запалкавую фабрыку* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *П ы т а л і с я ў Наташы, ц і не здарылася што дома* (І. Ш а м я к і н. Першае спатканне).

І пры адным і пры другім спосабе далучэння ўскоснага пытання робяць неабходныя замены асабовых форм дзеясловаў і займеннікаў, пытальная інтанацыя страчваецца.

§ 1417. Пры пераводзе прамой мовы ва ўскосную ўзнікаюць цяжкасці ў тых выпадках, калі ў непасрэдна сказаным ёсць словы і выразы, якія маюць экспрэсіўны характар, выражаюць адносіны таго, хто гаворыць, да зместу выказвання, надзелены выразнай эмацыянальнай афарбоўкай; гэта датычыць некаторых пабочных слоў і спалучэнняў, выклічнікаў, зваротках. Зваротак, напрыклад, у канструкцыі з ускоснай мовай апускаецца ці замяняецца ў галоўнай частцы назоўнікам са значэннем ускоснага аб'екта. Як правіла, выклічнікі і некаторыя пабочныя словы не ўключаюцца ва ўскосную мову, іх значэнне ў пэўнай ступені можа перадавацца апісальна. Ёсць пэўныя абмежаванні ва ўвядзенні ў канструкцыю з ускоснай мовай гутарковых і прастамоўных слоў, выразаў, не могуць непасрэдна перадавацца рытарычныя пытанні, клічныя сказы.

| Прамая мова | Ускосная мова |
|---|---|
| *Тады, калі яшчэ гучыць у калідоры тупат людзей, Краўчанка кажа да Станіслава: «Бывай, Стась. Грай паехаў ужо»* (Б. Мікуліч. Дужасць). | *Тады, калі яшчэ гучыць у калідоры тупат людзей, Краўчанка развітваецца са Станіславам і кажа, што Грай паехаў ужо.* |
| *Аднойчы хлопцы прызналіся яму: «Ведаеш, Жан, што мы надумалі? У лес падацца. Да партызан. Толькі не ведаем, як гэта зрабіць»* (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). | *Аднойчы хлопцы прызналіся Жану, што яны надумаліся ў лес падацца, да партызан, толькі не ведаюць, як гэта зрабіць.* |
| *«Жыццё, як тая муха, бзз! і праляцела»,— пстрыкае пальцамі Сымон у паветры. «Так, так, яно-то так, праляцела»,— годзіцца Сцяпан* (Цётка. Асеннія лісты). | *Сымон кажа, што жыццё, як тая муха, не агледзеўся — і праляцела, і пры гэтым пстрыкае пальцамі ў паветры. Сымон годзіцца з ім, што сапраўды праляцела.* |

Нярэдка пры пераўтварэнні прамой мовы ва ўскосную ў сувязі з тым, што слова, якое ўводзіць прамую мову, не можа выконваць падобную функцыю ў канструкцыі з ускоснай мовай, у галоўную частку складаназалежнага сказа неабходна ўвесці дзеяслоў маўлення і думкі. Каб найбольш дакладна перадаць змест прамой мовы, часам даводзіцца ўключаць і некаторыя іншыя словы, якія характарызуюць чужое выказванне або пэўным чынам удакладняюць яго змест.

| Прамая мова | Ускосная мова |
|---|---|
| *За рулём сядзеў генерал. Ён высунуўся з машыны і спытаў: «Скажыце, калі ласка, дзе тут жыве...» І не скончыў. Глянуў убок, убачыў Шыянка і адразу выскачыў з машыны* (І. Шамякін. «Дзівак-чалавек»). | *За рулём сядзеў генерал. Ён высунуўся з машыны і ветліва пачаў пытаць, дзе тут жыве Шыянок. І не скончыў. Глянуў убок, убачыў яго самога і адразу выскачыў з машыны.* |

| | |
|---|---|
| *Ніяк не хацеў пакідаць Андрэй станцыю «Плошча рэвалюцыі». «Хадзем, — цягнула Надзя, — а то позна ўжо»* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). | *Ніяк не хацеў пакідаць Андрэй станцыю «Плошча рэвалюцыі». Надзя цягнула яго ісці, гаварыла, што позна ўжо.* |
| *«Ідзі, сынок, ідзі,— здагадалася маці.— Волька там і не ведае яшчэ нічога, ідзі»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). | *Маці здагадалася, сказала сыну, каб ішоў, бо Волька там і не ведае яшчэ нічога.* |
| *«Хто ён? — мучыла мяне. — І чаму не адыходзіць ад яе ні на крок?..»* (Б. Сачанка. Мальвіна). | *Мяне мучыла пытанне, хто ён, чаму не адыходзіць ад яе ні на крок.* |

У некаторых выпадках змест прамой мовы можа перадавацца спалучэннем, якое далучаецца не як ускосная мова, а як звычайная частка сказа. Падобная перадача зместу прамой мовы не з'яўляецца ўскоснай мовай.

| | |
|---|---|
| *На ўскраіне Мінска паліцэйскія спынілі машыну, але, убачыўшы рабочыя інструменты, махнулі: «Едзьце!»* (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). | *На ўскраіне Мінска паліцэйскія спынілі машыну, але, убачыўшы рабочыя інструменты, дазволілі ехаць.* |
| *Таму, калі папрасіла Ніна сардэчна і ціха: «Раскажыце што-небудзь!», Лясніцкі пачаў успамінаць і апавядаць ёй пра розныя з'явы з свайго жыцця* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). | *Таму, калі папрасіла Ніна сардэчна і ціха расказаць што-небудзь, Лясніцкі пачаў успамінаць і апавядаць ёй пра розныя з'явы з свайго жыцця.* |

*«Як буду даваць здачы, — адказаў Пятрок, — то там будзе маленькая паперка. Дзядзька Мікалай сказаў аддрукаваць яе як найбольш, забяру ў тую нядзелю. Яшчэ дзядзька Мікалай сказаў, што карабіны і патроны трэба даставаць скарэй»* (Я. Скрыган. У Кірылы на хутары). *І наказаў яшчэ дзед Панасу быць асцярожным ды прачуваць сёе-тое аб паляках* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1418. Пры ўскоснай перадачы чужога выказвання, у якім ёсць асабовыя формы дзеяслова, асабовыя і прыналежныя займеннікі, робяцца адпаведныя замены форм дзеяслова і займеннікаў, пры гэтым суаднесенасць форм часу ў галоўнай і даданай частках захоўваецца нязменнай.

Калі ў сказе, што ўводзіць прамую мову, ужыты формы другой і трэцяй асобы (адзіночнага ці множнага ліку), а ў прамой мове — формы першай асобы, то ў адпаведнай ускоснай мове павінны быць формы той жа асобы, што і ў галоўнай частцы. (*Ты сказаў: «Я пішу прыгожа». Ты сказаў: «Мой сшытак у шафе».— Ты сказаў, што пішаш прыгожа. Ты сказаў, што твой сшытак у шафе. Ён сказаў: «Я пішу прыгожа». Ён сказаў: «Мой сшытак у шафе».— Ён сказаў, што піша прыгожа. Ён сказаў, што яго сшытак у шафе. Вы сказалі: «Мы пішам прыгожа». Вы сказалі: «Нашы сшыткі ў шафе».— Вы сказалі, што пішаце прыгожа. Вы сказалі, што вашы сшыткі ў шафе*). *Міша пісаў, што вучыцца на курсах*

*малодшых лейтэнантаў і хутка* б у д з е *мець афіцэрскае званне* (А. Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях). *Тады яна яшчэ сказала, што ў яе ёсць жаніх — сын багатага шляхціча, Бронік* (М. Лупсякоў. Людзі прагнуць). Параўн.: *Міша пісаў: «Я* в у ч у с я *на курсах малодшых лейтэнантаў і хутка* б у д у *мець афіцэрскае званне»*.

У тым выпадку, калі апавядальнік сам уваходзіць у групу асоб, якую абазначае займеннік першай асобы множнага ліку ў прамой мове, ва ўскоснай мове формы першай асобы множнага ліку займеннікаў і дзеясловаў захоўваюцца. Калі апавядальнік не ўваходзіць у групу асоб, абазначаную займеннікам *мы*, але ў гэту групу ўваходзіць той, да каго звяртаюцца, займеннік *мы* ва ўскоснай мове замяняецца займеннікам *вы*. (*Вучань сказаў: «*М ы п і ш а м *прыгожа»* (г. зн. і той, хто гаворыць, і апавядальнік). *Вучань сказаў: «*Н а ш ы *сшыткі ў шафе». — Вучань сказаў, што* м ы п і ш а м *прыгожа. Вучань сказаў, што* н а ш ы *сшыткі ў шафе. Вучань сказаў: «*М ы п і ш а м *прыгожа»* (г. зн. вучань і тая асоба, якой перадаецца гэта выказванне, але сюды не ўваходзіць апавядальнік). *Вучань сказаў: «*Н а ш ы *сшыткі ў шафе». — Вучань сказаў, што* в ы п і ш а ц е *прыгожа. Вучань сказаў, што* в а ш ы *сшыткі ў шафе). І сталі «дзейкаць» людзі, што новы:* н а ш *настаўнік і добры і нядобры* (М. Гарэцкі. «Дурны настаўнік»). *У першы дзень пасля песень у хаце я гаварыў аб тым, што ў Забалоцці ёсць яшчэ зямлянкі і трэба іх пазбыцца як хутчэй, зямлянак засталося толькі тры, а гаспадарак у* н а с *каля сотні: сорамна чакаць, пакуль старая Зязюліха сама збудуе хату* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Калі ў словах аўтара формы другой ці трэцяй асобы, а само прамое выказванне звернута да таго, хто пазней перадае гэту чужую мову ў зменены выглядзе, то ва ўскоснай мове ўжываюцца формы першай асобы. (*Ты сказаў мне: «*П і ш а ш *прыгожа». Ты сказаў мне: «*Т в а е *сшыткі ў шафе». — Ты сказаў мне, што* я п і ш у *прыгожа. Ты сказаў мне, што* м а е *сшыткі ў шафе. Вы сказалі нам: «*П і ш а ц е *прыгожа». Вы сказалі нам: «*В а ш ы *сшыткі ў шафе». — Вы сказалі нам, што* м ы п і ш а м *прыгожа. Вы сказалі нам, што* н а ш ы *сшыткі ў шафе). Адным словам, да майго ведама ён давёў, што* я *павінен здаць касу і шукаць другую работу* (А. Чарнышэвіч. Засценак Стычыны). *Распытаўся, колькі год, вёсен маладых, ці хто ходзіць ля варот, ля акон* м а і х (М. Танк. Нашто?). Параўн.: *Адным словам, да майго ведама ён давёў: «*В ы *павінны здаць касу і шукаць другую работу»*.

Калі першая асоба перадае выказванне другой ці трэцяй асобы пра гэту першую асобу як пра трэцюю, ва ўскоснай мове асабовыя формы дзеясловаў і займеннікаў замяняюцца на формы першай асобы. (*Ты сказаў пра мяне: «*Ё н п і ш а *прыгожа». Ён сказаў пра мяне: «*Ё н п і ш а *прыгожа». — Ты сказаў (пра мяне), што* я п і ш у *прыгожа. Ён сказаў (пра мяне), што* я п і ш у *прыгожа. Вы сказалі пра нас: «*Я н ы п і ш у ц ь *прыгожа». Яны сказалі пра нас: «*П і ш у ц ь *прыгожа».—Вы сказалі, што* м ы п і ш а м *прыгожа. Яны сказалі, што* м ы п і ш а м *прыгожа). З гневам, з запалам гаварыў ён, што быццам* я *і раўні сабе* н е в е д а ю, *што* я *нікога* н е п а в а ж а ю, *быццам* я *заўзяты кар'ерыст, які толькі і дбае, каб працерабіць сабе дарогу* (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё).

Калі ў словах аўтара формы першай ці трэцяй асобы, а чужое выказванне пра другую асобу пададзена ў прамой мове як выказванне пра трэцюю асобу, то ва ўскоснай мове ўжываюцца формы другой асобы. (*Я сказаў пра цябе: «*Ё н п і ш а *прыгожа». Ён сказаў пра цябе: «*Ё н п і ш а *прыгожа». — Я сказаў, што* т ы п і ш а ш *прыгожа. Ён сказаў, што* т ы п і ш а ш *прыгожа. Мы сказалі: «*В ы п і ш а ц е *прыгожа».— Мы сказалі, што* в ы п і ш а ц е *прыгожа). Гавораць жа, што цяпер* в ы *там дзень і ноч нейкія планы* с к л а д а е ц е (І. Грамовіч. Вясновыя праталіны).

У выказванні першай, другой ці трэцяй асобы, звернутым да другой асобы, пры пераўтварэнні ва ўскосную мову паяўляюцца формы трэцяй асобы. *(Я сказаў яму: «Т ы п і ш а ш прыгожа». Ты сказаў (яму): «Т ы п і ш а ш прыгожа». Ён сказаў (іншаму): «П і ш а ш прыгожа». — Я сказаў, што ё н п і ш а прыгожа. Ты сказаў, што ё н п і ш а прыгожа. Ён сказаў, што т о й п і ш а прыгожа). Яна гаварыла толькі з Пекам, успамінала рачулку, пытаючыся, калі ё н зноў п о й д з е катацца на коньках* (І. Н а в у м е н к а. Пераломны ўзрост). *Калі Пайла Дубовіка пыталі, дзе ё н п р а ц у е, ён адказваў: «А я, братка, на тых... на падсобных»* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Затор на дваццатым).

§ 1419. Захоўваюцца нязменнымі асабовыя формы дзеясловаў і займеннікаў, калі ва ўскосную мову пераўтвараецца выказванне самога апавядальніка (аўтара). *(Я сказаў: «П і ш у прыгожа». Я сказаў: «М а е сшыткі ў шафе». — Я сказаў, што п і ш у прыгожа. Я сказаў, што м а е сшыткі ў шафе. Мы сказалі: «П і ш а м прыгожа». Мы сказалі: «Н а ш ы сшыткі ў шафе». — Мы сказалі, што п і ш а м прыгожа. Мы сказалі, што н а ш ы сшыткі ў шафе). Я сказала яму, што в е д а ю двух маладых хлопцаў, якія маглі б пайсці* (І. Н о в і к а ў. Руіны страляюць ва ўпор).

Не адбываецца змен асабовых форм дзеясловаў і займеннікаў і тады, калі адрасаванае другой асобе прамое выказванне і ў канструкцыі з ускоснай мовай перадаецца гэтай жа асобе. *(Я сказаў табе: «Т ы п і ш а ш прыгожа». Я сказаў табе: «Т в а е сшыткі ў шафе». — Я сказаў табе, што т ы п і ш а ш прыгожа. Я сказаў табе, што т в а е сшыткі ў шафе). А вам Мешкаліс сказаў, што в а с кухарам на будоўлю прызначаюць* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Пры пераўтварэнні прамога выказвання пра трэцюю асобу ва ўскоснай мове захоўваюцца без змен формы трэцяй асобы дзеясловаў і займеннікаў. *(Я сказаў пра яго: «Ё н п і ш а прыгожа». Ты сказаў пра яго: «Ё н п і ш а прыгожа». Ён сказаў (пра іншага): «П і ш а прыгожа». — Ты сказаў, што ё н п і ш а прыгожа. Ён сказаў, што т о й п і ш а прыгожа). Казалі, нібыта ё н разам з усімі на млыне бунтаваў у тыя дні, калі ў Петраградзе расстралялі людзей, што ішлі да цара* (І. Г р а м о в і ч. Прыязджай, сынок). *Мая знаёмая казала, што ё н сапраўды да вайны служыў у Чырвонай Арміі, быў падпалкоўнікам* (І. Н о в і к а ў. Руіны страляюць ва ўпор).

З а ў в а г а 1. Пры супадзенні ў галоўнай і даданай частках дзейніка — асабовага займенніка нормай з'яўляецца яго адсутнасць ва ўскоснай мове: *Я сказаў: «Я пішу прыгожа». — Я сказаў, што пішу прыгожа.* Толькі ў тым выпадку, калі выказнік даданай часткі выражаны простым іменным выказнікам (без звязкі), асабовы займеннік тут захоўваецца: *Я сказаў: «Я лінгвіст». — Я сказаў, што я лінгвіст.*

З а ў в а г а 2. У складаназалежным сказе з ускоснай мовай можа аказацца некалькі аднолькавых форм займеннікаў, якія, аднак, замяняюць розныя назоўнікі. Каб пазбегнуць двухсэнсоўнасці, да аднаго з займеннікаў часам далучаюць прыдатак. Замест формы трэцяй асобы займенніка ва ўскоснай мове можа быць ужыты ўказальны займеннік *той* (*тая, тое, тыя*). *І зусім змоўк, калі старшыня камісіі, гэты суровы таварыш Савасцееў, паставіў перад ім пытанне, а ці памятае ё н, г р а м а д з я н і н Г р а б я н ь ч у к, апчакаўскія хамуты* (М. Л ы н ь к о ў. Выпадак на чыстцы). *Старшыня выдраў з настольнага блакнота лісток паперы і напісаў кладаўшчыку, каб т о й выдаў Шчэбету пяць пудоў ячнай саломы* (Р. С а б а л е н к а. Гасцінец).

§ 1420. Калі ў прамой мове няма асабовых форм дзеясловаў і займеннікаў, а слова, якое ўводзіць прамую мову, можа выконваць падобную функцыю і ў канструкцыі з ускоснай мовай, то для ўтварэння апошняй патрэбен толькі злучнік (калі прамая мова не з'яўляецца пытальным сказам). Зразумела, што ў прамой мове, якая такім чынам трансфармуецца ва ўскосную, не павінна быць зваротка, выклічнікаў, а таксама некаторых спалучэнняў гутарковай мовы. Гэта канструкцыя з ускоснай мовай адрозніваецца ад адпаведнай канструкцыі з прамой мовай інтанацыяй, а нярэдка і парадкам слоў.

| Прамая мова | Ускосная мова |
| --- | --- |
| *«Добра напісана!» — хвалілі мужыкі* (Я. Колас. Бунт). | *Мужыкі хвалілі, што добра напісана.* |
| *«Грошы за бензін перавялі?» — запытаўся ў бухгалтара Дзямід Сыч* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). | *Дзямід Сыч запытаўся ў бухгалтара, ці перавялі грошы за бензін.* |
| *Стражнік яму толькі што данёс: «У вёсцы Галадранцы нядаўна з'явіўся падазроны чалавек».* | *Яму толькі што данёс стражнік, што ў вёсцы Галадранцы нядаўна з'явіўся падазроны чалавек* (Я. Колас. Соцкі падвёў). |
| *Яшчэ раз перапытаўшы: «Усе ўзялі білеты?», шафёр загарнуў сваю зашмальцаваную папку, нацягнуў на яе гумку і павярнуўся на сядзенні, каб узяцца за руль.* | *Яшчэ раз перапытаўшы, ці ўсе ўзялі білеты, шафёр загарнуў сваю зашмальцаваную папку, нацягнуў на яе гумку і павярнуўся на сядзенні, каб узяцца за руль* (Я. Скрыган. Пусты кошык). |

§ 1421. Эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка чужога выказвання змяншаецца, а часам знікае зусім у выніку пераўтварэнняў, якія даюць магчымасць непасрэдна сказанае падаць ад імя і з пункту погляду аўтара ці апавядальніка (замена форм асабовых дзеясловаў і займеннікаў, апушчэнне зваротка і некаторых пабочных слоў, апісальная перадача ці поўнае вывядзенне з кантэксту асобных прастамоўных выразаў, змена інтанацыі). Але гэта не азначае, што канструкцыя з ускоснай мовай наогул не мае магчымасцей для выражэння эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці. Ад аўтара ці апавядальніка, ад стылістычных мэт залежыць, ці ўскосная мова перадасць толькі змест чужога выказвання, ці адначасова яна захавае і многія лексічныя, сінтаксічныя, марфалагічныя асаблівасці непасрэдна сказанага, хоць і ў прыглушаным выглядзе, — яго эмацыянальнасць і экспрэсіўнасць. Спалучэнні і формы, якія ва ўскоснай мове з'яўляюцца своеасаблівымі цытатамі з прамой мовы, нярэдка бяруцца ў двукоссе.

*Адзін раз вясковы чалавек сказаў на рынку пра Седаса, што «наўрад ці можна дзе яшчэ знайсці такога панскага падбрэхіча»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *У нас ён паківаў галавой і сказаў прымаўкай, што тут у Ніны «тры лісе ў адно звіліся»: застуджаны грып, на ім падхапілася запаленне лёгкіх, а на дадатак — яшчэ і коклюш* (Я. Брыль. У сям'і). *Неяк пасля аднаго вечара, на якім Максім не прысутнічаў, хлопцы перадалі яму, што «студэнцік гэты... Вася Лазавенка» ўвесь вечар круціўся каля Машы, ды такім красамоўным быў, што проста ўсе дзівіліся* (І. Шамякін. У добры час). *У дадатак да ўсяго Лявонава Міхаліна стаяла на вуліцы, і праз паўгадзіны ўся Малінаўка ведала, што самураднік ды, далібог, са стражнікам прыехалі да Яўхіма Халусты* (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка).

§ 1422. У размоўным стылі сустракаюцца канструкцыі, у якіх чужое выказванне хоць і далучаецца да слоў аўтара пры дапамозе злучніка, але ў самой чужой мове неабходная замена форм асабовых дзеясловаў і займеннікаў не робіцца. Гэта канструкцыя, пераходная ад прамой мовы да ўскоснай, ужываецца і ў мове мастацкай літаратуры як стылістычны сродак. Аформленае такім чынам выказванне захоўвае каларыт непасрэднасці. *Толькі маці казала, што выракуся дачкі, хоць і роднае дзіцяя* (М. Чарот. Чалавек, які не радзіўся). *Дык вось, ён казаў, бацюшка, калі будзе жаніцца Пракопаў сын, дык ні за якія грошы вянчаць не буду* (В. Каваль. Жніво).

Чужое выказванне ў такіх пераходных канструкцыях нярэдка бярэцца ў двукоссе. Гэтым як бы паказваецца яго неадпаведнасць ужытай канструкцыі. *Зыдор Пніцкі стаяў усё ў ваччу. Учора ён спрытна ўзбягаў на высокі бальнічны ганак, заўзята званіў і горача тлумачыў тоўстай павольнай жанчыне, што «прывёз новую дактарыцу. П а д' я з д ж а ю пад станцыю — б а ч у, стаяць яны (вясёлы зірк у бок Галены). Я, што робячы, куды в а м, к а ж у, ехаць?.. В ы ж тут д а й ц е з дарог, добра адпачыць ім»* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Аспрэчвалі Падаляку Захар Зубец і Сава Супрун, даводзячы, што «м ы панам нагналі страху, чаго не адчувае Падаляка, што, калі да гэтых паноў калі-небудзь прыйдзе другая дэлегацыя, яны ўжо так ставіцца не будуць, як ставіліся да н а с...»* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 1423. Сустракаюцца складаназалежныя сказы, у якіх не перадаецца ў пераўтвораным выглядзе чужое выказванне, а паведамляецца пра яго тэму. Такія сказы не адносяцца да канструкцый з ускоснай мовай, хоць у іх часта ёсць словы і спалучэнні, якія ўзыходзяць да прамой мовы і нясуць на сабе яе выразны адбітак. У радзе выпадкаў асобныя адрэзкі такога тэксту вельмі выразна нагадваюць ускосную ці нават няўласнапрамую мову. Дададныя часткі названых складаных сказаў нярэдка залежаць ад суадноснага слова ў галоўнай частцы. Даволі шырока для аб'яднання частак такога складанага сказа выкарыстоўваецца злучнік *як*. *Там апісваецца пра аднаго рыцара Айвенга, я к яго любіла адна дзяўчына, а ён яе не, бо любіў другую* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. Світанне). *І дзе на прызбе, пад акном, старыя пра жыццё гавораць, я к жыць нялёгка мазалём і я к ім хлеб батрацкі горак* (М. Т а н к. Ізноў я тут). *А тады з захапленнем раскажа, я к каценілася кошка, я к аднаго пакінулі, а рэшту ўкінулі ў рэчку, я к гэты добра гадуецца, якім стаў дуронікам і г. д.* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Дырэктар паправіў перад сабою кніжкі на стале і загаварыў аб іншым, загаварыў а б т ы м, што бывае настаўнік зніжае патрабаванні да вучняў і потым у іх складваюцца панібрацкія ўзаемаадносіны. Ён так і вымавіў гэта слова: «панібрацтва»* (І. Г р а м о в і ч. Блакітная брошка).

§ 1424. У мове мастацкай літаратуры адзначаюцца канструкцыі, у якіх зроблены ўсе неабходныя замены форм асабовых дзеясловаў і займеннікаў, але не ўжыты сродкі сувязі, характэрныя для ўскоснай мовы; разам з тым гэта яшчэ не няўласна-прамая мова, бо ўзаемаадносіны частак канструкцыі тут такія ж, як і ў канструкцыях з прамой мовай. Да таго ж пры такой перадачы чужога выказвання не выяўляецца аўтарская ацэнка сказанага персанажам. *І напала на дзядуню неадчэпная дума: «Кінуў хлопец я г о, кінуў! Эх, не ўмеў з ім ладзіць ё н!»* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Але думкі інакшае быў сакратар, — у машыну садзіўся, пытаўся ў мяне: дзе радзіўся, вучыўся, партыйны ці не? Падтрымаць м я н е — стала паабяцаў* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Як жа быць ё й? — разважала* (А. Я к і м о в і ч. Каваль-вярнідуб).

§ 1425. Аўтар ці апавядальнік, перадаючы ва ўскоснай мове чужое выказванне, робіць часам асобныя змены ў яго змесце, захоўваючы агульны сэнс выказвання.

| Прамая мова | Ускосная мова |
| --- | --- |
| *Калі вобыск быў скончаны, ротмістр строга сказаў Лабановічу: «Калі вы ў трохдзённы тэрмін не выедзеце самі, дык я вас арыштую і адашлю этапам да месца вашага пражывання»* (Я. К о л а с. На ростанях). | *Але пазаўчора мне жандарскі ротмістр катэгарычна заявіў, каб я пакінуў горад, калі не хачу быць высланым па этапу* (там жа). |

*«Табе яшчэ рана жаніцца. Няхай яшчэ раней пух на губе ацвярдзее»* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

[Янук:] *«Чалавека яны зусім не баяцца. Ну, як каты. Працягнеш ім кавалак хлеба, яны і плывуць да цябе»* (А. Шашкоў. На рачных плёсах).

*Ён здзекваўся з мяне, што ў мяне яшчэ вусы не выраслі* (там жа).

*Адразу ўспомніў словы Янука, што рыба гэта не баіцца чалавека і бярэ з рук хлеб* (там жа).

Пры падобных зменах чужога выказвання ў яго ўводзяцца словы і выразы таго, хто ўскосным чынам падае гэта выказванне. Нярэдка пры гэтым яскрава выяўляецца аўтарская ацэнка падзеі, з'явы, паведамлення і г. д.

*«Сёння, 29 снежня 1947 г., у Мадрыдзе пакараны смерцю іспанскія камуністы Аўгусціна Сароа і Лукас Нуньес»* (з газет). *Жалобная вестка, нібы бліскавіца, зноў свет абляцела увесь, што ка́тамі Франка забіты ў Мадрыдзе адважны Сароа і Лукас Нуньес* (М. Танк. Салют).

## НЯЎЛАСНА-ПРАМАЯ МОВА

§ 1426. Няўласна-прамая мова — гэта такі спосаб перадачы чужога выказвання, калі формы асабовых дзеясловаў і займеннікаў замяняюцца так, як і ва ўскоснай мове, але асноўныя лексічныя, сінтаксічныя і іншыя асаблівасці чужой мовы захоўваюцца. Пры такім спосабе перадачы чужога выказвання аўтар як бы гаворыць за персанажа, але адначасова нярэдка выяўляюцца і адносіны аўтара да таго, што думае, гаворыць, робіць персанаж. Дзякуючы таму што суадносіны часавых планаў у няўласна-прамой мове такія ж, як у прамой і ўскоснай мове, яна часцей за ўсё выразна выдзяляецца ў асяроддзі ўласна аўтарскай мовы. У аўтарскай мове яўна пераважаюць дзеяслоўныя формы прошлага часу, у няўласна-прамой мове большае пашырэнне маюць формы цяперашняга ці будучага простага часу. У адрозненне ад прамой і ўскоснай мовы няўласна-прамая мова можа свабодна ўваходзіць у кантэкст без слоў і сказаў, якія ўводзілі б яе. *Данік устаў. Але вачэй ён ні за што не ўздыме! «Ідзі ты, пані, к чорту!—падумаў ён.— Сама ты дзікунка...» І раптам вочы Сівага пацяплелі ад слёз. Ды не, ён не заплача цяпер. Нягледзячы нават на тое, што ён — другі раз пасля арышту Міколы Кружалевіча — зноў адчуў, зноў зразумеў, як гэта цяжка, калі ты застаешся... ну, не адзін... не сірата... А ўсё ж, як гэта цяжка і горка!..* (Я. Брыль. Сірочы хлеб). *Арцём Ісакавіч быў радасна ўзрушаны. Не забывае ён добрых людзей, і на яго не забыліся. І ён, стары чалавек, здатны яшчэ на тое, каб карысць людзям прыносіць, каб з ім лічыліся, каб уводзілі яго ў гэтыя справы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ад злосці хацелася ўцупіцца сабе ў валасы або моцна-моцна з усяе сілы ўкусіць за палец. Нашто ён разыграў гэтую камедыю? Нашто так бязвольна паддаўся пачуццю, так раскіс, расслюмачыўся? Яна, смеючыся, апавядае гэтаму тлустаму ідыёту, як палахліва і нерашуча прызнаваўся ёй у каханні наіўны сялянскі хлопец — яе выпадкова знаёмы, як з камічным трагізмам сказаў ён — бывайце... назаўсёды... Той з парасячым самадавольствам смяецца — рох-рох-рох — і адчувае сваю непараўнальную перавагу, і — ідыёт, яшчэ шкадуе яго* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 1427. Непасрэдна з аўтарскага выкладу няўласна-прамая мова часцей за ўсё ўзнікае ў тых выпадках, калі гэтым спосабам перадаецца

не сапраўды выказанае, а думкі персанажа,— гэта так званае ўнутранае маўленне. Але і ў такіх канструкцыях шырока ўжываюцца сродкі, характэрныя для прамой мовы (лексічныя, фразеалагічныя, сінтаксічныя). *Патупаўшы колькі ў пакоі, пасунуў ураднік за дзверы, падаўся на сваім буланым дахаты, увесь час крыўдуючы на свой лёс. То ж жыццё, можна сказаць... Ты душой і целам, і на́ табе: заместа падзякі той, гаварыць з табой і то не хочуць. Старайся вот тут, здароўе псуй з мужыччом гэтым, надрывайся дарэмна. А галоўнае — хоць бы табе які шэлег медны, дарма цэлага дня пратупаў* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Але не давялося спажыць Салаўю свайго дабра, а Мысліцкаму аддаць за яго сына дачку. Толькі вексаль і астаўся напамінкам пра іх дайнейшае прыяцельства. Праўда, Мысліцкі не дурны які, як разгрэбалі Салаўёў, дык ухапіў ён з Антосем, нябожам Сямёнавым, нямала чаго з Сямёнавае гаспадаркі, не мала. І бадай нават сходна за вексаль. Але вексаль хай паляжыць, вексаль есці ніколі не просіць. І як разгрэблі Салаўя Сямёна, аддаў Мысліцкі тады Яніну за нябожа Сямёнавага Салаўя Антося — не з бедных, не з бедных таксама, пане-браце, дый вучаны* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *І ён адцягнуў іх на ўласнай хрыбціне, скоса пазіраючы на бакі, каб хто з знаёмых, крый божа, не ўбачыў такой нечуванай знявагі над яго паважанай персонай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Але больш часта ў кантэксце ёсць пэўныя сродкі, якія ўказваюць на тое, што перад імі ці пасля іх перадаюцца думкі нейкай асобы ці яе выказванне. У якасці такіх сродкаў ужываюцца дзеясловы маўлення і думкі, дзеепрыслоўі, утвораныя ад гэтых дзеясловаў, радзей — назоўнікі, блізкія значэннем ці ўтварэннем да дзеясловаў маўлення і думкі. Такое ўвядзенне ўнутранага маўлення мае значнае пашырэнне ў мове мастацкай літаратуры. *Яна і тут не думала пра сябе. Дзе ён, яе Васілёк, чаму не вярнуўся?.. Як добра, божа ласкавы, што ён не прыйшоў, не прыбег нават і на пажар роднай хаты!.. Відаць, далёка ўжо недзе сынок, відаць, адкапалі-такі яны з Азаронкам свае кулямёты... Дзе яны, Уладзік і Сцяпан?.. Хавай іх, божа, усіх трох ад куль, дай ім усім убачыць матчыну магілу!.. І тут душа вярталася да гэтых, да чужых сыноў, з якімі яе так моцна зрадніла доля* (Я. Брыль. Маці). *Людзі адварочваліся ад яго, моўчкі разыходзіліся. Клопікаў няўцямна пацёпваў вострымі плечыкамі і, ссутуліўшыся, ішоў далей, раздумваючы аб тым, як багата яшчэ на свеце гэтага самага насення... Глядзіш, здаецца, і нішто сабе чалавек, і з выгляду, і з адзення, і па веку свайму, можна сказаць, у самы раз. А ён ад цябе нос свой верне. Асцярожнасць патрэбна, асцярожнасць, Арэст Адамавіч, а то, чаго добрага, і на непрыемнасць наскочыш, як у чыгуначным пасёлку, куды сунуўся быў ён са сваімі размовамі ды роспытамі. Узялі яго там за каршэнь ды, паставіўшы тварам у бок гарадка, не вельмі каб ветліва стукнулі па далікатным месцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Дайно вярэдзіць думка адна Іванаву галаву. Не шэньціць нешта з сям'ёй. Жонка хваравітая. Як радзіла сына Міколу, дык от і пачалося, усё на жывот тыя крыўды, няйначай немач якая. Сын жа яшчэ малы. Дачка і нішто сабе, але ж мечаная, як тыя людзі кажуць. Касавокая — бяльмо гэтае самае. А сама ўжо на выданні. Яно, канешне, жаніха заўсёды можна знайсці, бо сусекі поўныя, ёсць што і на пасаг даць. Ды каму ж ахвота гэткую ж гаспадарку ды ў разор пускаць. Ты, можна сказаць, петаваўся-круціўся, дзе мазалём, дзе галавой выкручваў, а тут і аддай якому чорту лысаму* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Сказы са словамі, якія ўказваюць на перадачу сродкамі няўласна-прамой мовы ўнутранага маўлення, могуць быць і ў сярэдзіне гэтай канструкцыі. Апошняя тады збліжаецца з такім увядзеннем прамой мовы, калі словы аўтара разрываюць чужое выказванне. *Таварышу Васілю стала не па сабе. Ён прыехаў з ЦК. А тут — невядомы цыркуляр.*

*Адкуль ён мог быць? Тое самае амаль* д у м а ў *і Андрэй, хоць па-свойму. Прыход Захара Зубца ўначы... яго расказ... Магчыма, што гэта і будзе яно* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Пака-зайшы на карце месца, дзе іменна Клямту трэба быць, сувязны паехаў назад... Значыцца, штаб жыве! Усё, выходзіць, наладжваецца, як лейтэнант і спадзяваўся. Усё будзе добра. Клямт з пагардай* д у м а ў *пра Штаме: уцёк, у цяжкую хвіліну здрадзіў. Хто б мог чакаць гэтага ад яго? Свіння. Баязлівец. Ён, Клямт, будзе да канца помніць пра свой салдацкі абавязак* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 1428. Перадача сродкамі няўласна-прамой мовы сказанага назіраецца радзей, чым перадача гэтым спосабам унутранага маўлення. Такая няўласна-прамая мова можа ісці пасля канструкцыі з ускоснай мовай як яе працяг. Гэта становіцца магчымым дзякуючы блізкасці няўласна-прамой мовы да ўскоснай. Абодва спосабы перадачы чужога выказвання маюць аднолькавае паходжанне і падобныя прыметы — замены форм асабовых дзеясловаў і займеннікаў. Асабліва многа агульнага з няўласна-прамой мовай у такіх канструкцыях з ускоснай мовай, у якіх больш-менш поўна захоўваюцца лексічныя, сінтаксічныя і некаторыя іншыя асаблівасці прамой мовы. Пераход ад ускоснай мовы да няўласна-прамой нярэдка звязаны з неабходнасцю перадаць у трансфармаваным выглядзе значнае памерам чужое выказванне. У гэтым выпадку ў кантэксце можа быць некалькі сродкаў увядзення чужога выказвання. *З дня на дзень збіралася Надзя завесці малога да яго дзеда, да дзядзькі, і ўсё не адважвалася: каму з людзей прыемна вестка аб страшэнным няшчасці з іх роднымі, блізкімі. Ды бацька* п а р а і ў: *няхай усё крыху суцішыцца, праяснее. Ён нават дапускаў* д у м к у, *што дачка старога Сілівона Сяргеевіча і не загінула, не варта дарэмна трывожыць старых. Ізноў жа, у Андрэя Сілівонавіча Лагуцькі і без таго багата цяпер клопатаў, каб у лішняе гора лезці. Вось чаму Васілька да пары, да часу жыў у старой леснічоўцы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Цераз дзень ён прыслаў ёй канверт з грашыма і ліст, у якім* п і с а ў, *што купіў ёй тут жа ў гарадку двухпавярховы дамок. Першы паверх арандуецца пад аптэку, а ў другім паверсе ёсць кватэра, дзе кватаруе сям'я. З домам яна можа рабіць, што сама захоча. Як бы там ні было, прыбыткаў з дома павінна хапіць ёй на пражыццё. У канцы ліста ён* у п і к а ў *яе, што ў яе чэрствае сэрца і яна не разумее яго, што яго ўчынкі не залежалі ад яго добрай волі, а ад спраў, камандаваць якімі яго паставіла само жыццё. І калі яна такая, дык можа сабе ісці замуж, за каго хоча. (Тут быў намёк, што цяпер яна ўжо мае пасаг — двухпавярховы дом). Ліст канчаўся лірыкай: хоць яна і пойдзе замуж, ён усё адно не забудзе яе і заўсёды рад будзе сустракацца з ёю. Нават ён хацеў бы, каб усё гэтак добра, шчыра, весела і гладка было* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год).

У якасці сродкаў увядзення ў кантэкст спосабам няўласна-прамой мовы чужога выказвання выкарыстоўваюцца дзеясловы маўлення, значна радзей — дзеясловы, якія выступаюць у функцыі іх, назоўнікі, блізкія ўтварэннем да дзеясловаў маўлення. У адных выпадках пры далучэнні пераўтворанага чужога выказвання патрэбны і злучнікі, у другіх — лёгка абыходзяцца без іх (і тут асаблівасці няўласна-прамой мовы выяўляюцца больш поўна). Няўласна-прамая мова можа перабівацца аўтарскімі заўвагамі пра паводзіны героя, яго дзеянні, стан і г. д. *Леанід не спрачаўся, не даводзіў нічога. Толькі* с к а з а ў, ш т о *ён няшчасны, што, відаць, такі лёс яго, быць нямілым, непрыемным усім і што калі ён сапсаваў Алі дзень, то няхай яна даруе. Леанід* г а в а р ы ў *гэта з болем, — ён адчуваў сябе ў той час — ці так здалося — амаль няшчасным чалавекам. Ён толькі праўдзе дахаты і, можа, больш ніколі не будзе замінаць ёй* (І. М е л е ж. Сустрэча за горадам). *Калі паспрабаваў* [Савасцееў] *сунуцца туды, за вароты, да купкі хутарскіх людзей,*

*ніяк не мог дабіцца ніякага толку.* А д н е к в а л і с я: *па-першае, навошта ім хамуты і, па-другое, хто стане красці ў іх, людзі яны ўсе, слава богу, не якія там-небудзь, каб гэта на крадзёж пускацца. Гэта можа там, скуль таварыш з'явіўся, парадкі такія* (М. Л ы н ь к о ў. Выпадак на чыстцы). *Шпакоўскі* р а с к а з в а ў, *што Сцяпук з Тоняй жывуць у кватэры Важніка, а Важнік перабраўся туды, дзе жыў дырэктар. Сцяпук падлізваецца да Важніка, каб стаць з гэтага года загадчыкам навучальнай часткі. Спачатку ён разламаў сцяну, што адгароджвала яго пакой ад Дабрынеўскай. Багата абсталяваўся. А потым пачаліся нелады. Дзяўчаты гэтыя, Папкоўская, Баразёнак і Бортнік, зубастыя, выжылі іх з інтэрната. І там цяпер месца чакае новага настаўніка. Шпакоўскі* р а с к а з а ў, *што выпускныя экзамены ў гэтым годзе прайшлі някепска. Былы Рокашаў дзевяты клас па паспяховасці на першым месцы. Нешта — выдатнік. Ён дзесьці тут, разам з Шпакоўскім прыехаў у горад* (І. Г р а м о в і ч. Блакітная брошка).

У кантэксце няўласна-прамая мова можа мець перад сабою ці пасля сябе рэпліку, якая падаецца ў канструкцыі з прамой мовай. Часцей за ўсё такія рэплікі належаць субяседніку той асобы, выказванне якой перадаецца няўласна-прамой мовай. *«Сядайце, Сузон Іванавіч, — прапануе яшчэ раз прафесар, — а я пайду закажу чай». Чай? Як жадае прафесар, ён таксама з ахвотай вып'е шклянку чаю, а сядзець ён не можа, як не можа, агулам, у апошнія дні знайсці сабе месца. У чым справа? Што такое здарылася? А хіба прафесара не хвалюе тое, што робіцца хоць бы толькі тут у апошнія часы? І хіба прафесар не думае яшчэ і пра ўсю краіну?* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *Элінора скрозь слёзы пачала* в ы г а в о р в а ц ь *яму: «І дзе ты ходзіш? І дзе ты ходзіш? Вось заўсёды так!» І яна* г а в а р ы л а, г а в а р ы л а... *Ён і жорсткі чалавек, і няўдзячны сын, колькі турбот мела праз яго маці, праз яго, валацугу. І калі толькі возьмецца чалавек за розум* (М. Л ы н ь к о ў. Падарунак матцы). *Удаву Лізавету шукалі малыя. Знайшлі. Стрэла іх яна міла, паснедалі дзеці ў яе, толькі выгляд зрабіла, што іх яна не пазнае. А цымбалы? Ей-богу, яна іх знайшла ля сяла, нават тую дарогу яна б паказаць ім магла. «Хіба бачыце, — кажа, — у гэтым вы злосны намер, вашы, — кажа, — дык вашы, аддам іх, але не цяпер»* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал).

§ 1429. Няўласна-прамая мова, якая перадае чужое выказванне і якая перадае ўнутранае маўленне, мае ў сваім складзе нямала слоў і выразаў з эмацыянальнай афарбоўкай непасрэдна сказанага. Нярэдка яны бяруцца ў двукоссе. *Фіма гаварыў Косціку, што трэба асцерагацца «павукоў». Казаў, ён будзе ісці за табою, і ты яго не заўважыш. Ідзе чалавек, мала куды ідзе. А трэба ведаць: такі чалавек заўсёды ідзе з табою ў «адну дарогу». Ты па адным баку тратуара — ён, можа, па другім. Ты звярнуў, скажам, на Базарную вуліцу, і яму «па дарозе». Або «яму няма куды спяшацца», або «вельмі спяшаецца». Бывае і абгоніць цябе і зверне на другую вуліцу, — ты пройдзеш, забудзешся на яго — потым глядзіш: «той самы чалавек» на тым баку тратуара. Як з-пад зямлі вырас! «Яны вельмі «далікатныя», — казаў Фіма. — Не пакіне цябе, калі ты яму «да спадобы»* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца). *Яніна зноў успамінае Антося, яго касавокі твар. Які ён шчуплы, мізэрны... Ён нават не варты быў на вайну, як людзі, яго нават і не прызывалі. Але калі пачалі браць яго год бальшавікі, дык ён нават не адважыўся пайсці з людзьмі, а ўцёк і туляўся па знаёмых і сваяках. У дэзерціры пайшоў. Ад чаго ён уцякаў? Першы ж раз, як бралі яшчэ на нямецкую перад рэвалюцыяй, дык не ўзялі ж яго, на чорта ён здаўся каму, зараза касавокая. Чалавек, здольны адно кепства людзям рабіць. Бальшавікам ён патрэбен быў? Усё адно не ўзялі б, каб і з'явіўся. Чаго ж ён уцякаў, паскуда нягодная! Злосная думае Яніна... Нібыта вучаны, пісар... Пісар, каб яму на шкуры напісала*

*за тую крыўду, якую сваім пісаннем наўчыняў ён нявінным людзям. Ці мала людзей пакутуе за яго цяпер, за яго пісанне. Каб прымела, яна яго разадрала б як жабу!* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Здараецца, што ў асобных адрэзках такой эмацыянальнай няўласна-прамой мовы нават сустракаюцца асабовыя дзеясловы ці займеннікі ў формах, характэрных для прамога выказвання. Гэта як бы прамежкавыя канструкцыі паміж прамой і няўласна-прамой мовай. *Дзед ужо не адказвае на гэта мілае, як жаўрукова ў небе, шчабятанне. Ён ціха, бязгучна рагоча, падняўшы вёслы, адкінуўшыся галавою назад. Вось тут і раскажы ёй!.. Людзі жылі, колькі страху, колькі бяды, колькі пакуты ўсякай было, а яно цяпер і слухаць не хоча. Як тую казку на печы: цікава — вочак не зводзіць, а не — не хачу. І няхай сабе! То ж дваццаць год прайшло з таго часу, як мы тут, беднякі, бунтаваліся... Дзед і ўнучка маўчаць. І ўсё навокал маўчыць — і вада, і неба* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Але крыўда за вымову, якую ён атрымаў з-за Лазавенкі, усё яшчэ варушылася ў глыбіні душы. Чорт ведае з-за чаго чалавек падняў такую бучу! З-за перадплужнікаў. А ці не вельмі тлуста будзе, паважаны таварыш старшыня? Чым ты лепшы за другіх? А галоўнае — ён пачынае яшчэ вучыць Крыловіча. Ды ты яшчэ без штаноў бегаў, калі Крыловіч ведаў карысць перадплужнікаў... Ну, добра, хай нават Крыловіч не дагледзеў. Мог жа ты прыйсці да мяне і пагутарыць, як чалавек з чалавекам? А то адразу — у райком, у абласную газету, у абком. Не, яўны кар'ерыст, выскачка! Бачылі такіх: любой цаной у героі вылезці хочуць!* (І. Шамякін. У добры час).

§ 1430. У адных відах няўласна-прамой мовы больш, у другіх менш выяўляюцца адносіны аўтара да таго, штó гаворыць ці думае персанаж — тут можа быць іронія, насмешка, сарказм ці спачуванне, замілаванне. *Чалавек пайшоў, і Ялавіцкі вунь як пашкадаваў! Нават раззлаваўся на сябе. Няхай бы адчыніў калітку і ўзяў сваімі рукамі ў палон. Якая была б урачыстасць! Шляхціч Ялавіцкі сваімі ўласнымі рукамі абараняў шляхецкі род! А што сказаў бы генерал войска польскага? — «Віват»! — Абняў бы, цалаваў! Ялавіцкі быў бы вядомым чалавекам. Ды яшчэ, можа, і не чырвонаармеец, а камісар! Напэўна ж камісар. Радавы не застанецца. Ялавіцкі захапіўся марамі. Не прыкмеціў, калі спыніўся за брамаю* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Яшчэ доўга выхваляўся пан інспектар, як перамагаў ён з невялічкай групай парашутыстаў савецкія батальёны, палкі. Ды што палкі. Яму даводзілася наганяць жах на цэлыя дывізіі, трымаць у страху цэлыя арміі! Ужо вочы расказчыка зліпаліся ад п'янай дрымоты, а ён усё перамагаў і перамагаў савецкія арміі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Дачка дзеда Вячэры, яшчэ не старая, рухавая ўдава Надзя, толькі што прыбегла са жніва зварыць абед майстрам, што робяць хату. Паставіўшы юшку, Надзя чысціць шчупака: «Рыба з рыбай... Ну што ж! Гэта ж не тое, што свая печ...» З двара зусім добра чуваць, як там цюкаюць сякеры. Бацька недзе камандуе, дай яму бог здароўя. Гэта ж такое бервяно прывалок! І не спыталася нават, дзе ўзяў: у лесе ці дома? Нешта яно ляжалае... Відаць, сваё. Пад вокны, кажа, вельмі добра. Бо хату ж не новую рубяць, а перасыпаюць старую... Юрка вунь з сякерай на вугле сядзіць, як сапраўдны работнік. А Міхась... Яна ўзняла вочы ад шчупака і паглядзела на возера. Ад берага да глыбіні — ідзеш, ідзеш, ідзеш ды і агоркне. Вось дзе хіба раскоша малым! Як качаняты, плешчуцца на мелізне. Вунь як крычаць. І Міхась там, і Ганначка...* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе).

§ 1431. Няўласна-прамая мова можа ўводзіцца нават як устаўная канструкцыя. У гэтым выпадку вельмі эканомна паказваюцца пэўныя дзеянні, стан і тое ўражанне, якое яны робяць на персанажа. *А Цыбал усё Напрэя ўпрошваў: «І зачым табе, Напрэйка, з сундучком тым*

*важдацца... Ты ж бы от лепей кайстру ўзяў, у мяне от пяньковая ёсць — шчэ колісьці я на ратніцкі збор з ёй хадзіў...»—«Нязручна з кайстрай, дзядзька...» І калі ўжо Напрэй выбраўся ў сенцы з сундучком сваім — ах жа замочак там, да чаго добры замок, у самы раз да істопкі б — войкнула нешта Макрына, ды як сядзела на ўслончыку, так узнялася ды хуценька за дзверы* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Магчымасці няўласна-прамой мовы як спосабу перадачы чужога выказвання і ўнутранага маўлення надзвычай вялікія, але ў радзе выпадкаў іх разгляд выходзіць за межы граматыкі і ўступае ў сферу стылістыкі.

## Даданыя члены сказа



## Аднародныя члены сказа (§ 738)



## Адасобленыя даданыя члены сказа

**Сказы з параўнальнымі зваротамі**



**Зваротак (§ 845—850)**

**Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы (§ 851—856)**



**Устаўныя словы, словазлучэнні і сказы (§ 862)**



**ВІДЫ ПРОСТЫХ СКАЗАЎ**

**Аднасастаўныя сказы (§ 879)**



**Словы-сказы (§ 945—952)**

**Няпоўныя сказы (§ 953)**



**ПАРАДАК СЛОЎ У ПРОСТЫХ ДВУХСАСТАЎНЫХ СКАЗАХ**

**Агульныя звесткі (§ 972—975)**



**СКЛАДАНЫ СКАЗ**

**Агульныя звесткі (§ 1016)**

**СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ**

**Агульныя звесткі (§ 1017)**

**Складаназлучаныя сказы са злучальнай сувяззю (§ 1018)**

**Складаназлучаныя сказы з далучальнай сувяззю (§ 1127)**

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ

### Агульныя звесткі (§ 1236—1242)

### Уласна падпарадкавальная сувязь у складаназалежным сказе (§ 1243)

**БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ**

**Агульныя звесткі (§ 1317)**



**Бяззлучнікавыя складаныя сказы ўскладненай будовы (§ 1389)**



**ПРАМАЯ, УСКОСНАЯ, НЯЎЛАСНА-ПРАМАЯ МОВА**

**Агульныя звесткі (§ 1395)**



На белорусском языке

**ГРАММАТИКА БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА. ТОМ II. СИНТАКСИС**

Издательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар выдавецтва Н. Царова. Тэхн. рэдактар Г. Максімава. Карэктар С. Шахматава.

АТ 04550. Здана ў набор 2/IV-66 г. Падпісана да друку 28/XII-66 г. Папера маш. мел. Фармат 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 47,25. Ум. друк. арк. 66,15. Уч.-выд. арк. 69,0. Выд. зак. 13. Друк. зак. 378. Тыраж 1600 экз. Цана 4 р. 55 к.

Друкарня выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. Мінск, Ленінскі праспект, 68